
Беларускі інстытут навукі і мастацтва



**Бібліятэка Бацькаўшчыны**

Міжнароднае грамадскае аб’яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 40

Вітаўт Кіпель

# Беларусы ў ЗША

Выданне трэцяе,
дапрацаванае і дапоўненае

Уступны нарыс Наталлі Гардзіенкі

Мінск
«Кнігазбор»
2020

УДК [325.2+94](=161.3)(73)
ББК 66.3(4Беи)
К42

*Серыя «Бібліятэка Бацькаўшчыны»*
*заснавана МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» ў 2004 годзе*

Навуковы рэдактар
*Наталля Гардзіенка*



**ISBN 978-985-7227-64-8**



***Наталля ГАРДЗІЕНКА***

# ВІТАЎТ КІПЕЛЬ
# НАРЫС ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ

Жыццё віруе — горкі кіпень.
Блукае думка ў грамадзе.
А на скрыжалі Вітаўт Кіпель
заносіць: што...
калі...
і дзе...

*Сяргей Панізнік*

*З Вітаўтам Кіпелем я ўпершыню пазнаёмілася ў 2003 годзе на прэзентацыі ў Менску першага выдання іх з Зорай бібліяграфіі «Беларускі і беларусаведны друк на Захадзе». Памятаю, як уразіла мяне перапоўненая (немалая) зала бібліятэкі і чарга з ахвотнікаў нешта сказаць, а потым і ўзяць аўтограф у аўтара. Для такой вузкаспецыяльнай працы гэта выглядала неверагодным. Але насамрэч надзвычайным быў сам спадар Вітаўт. Адкрыты да людзей незалежна ад узросту, са шчырай цікавасцю да ўсяго беларускага, жывы і актыўны ў свае тады 76... Ён гатовы быў размаўляць з кожным, прэзентацыя зацягнулася на гадзіны. Пазней мы сустракаліся і ў кватэры Зорыных сваякоў на вуліцы Якуба Коласа, і на З'ездзе беларусаў свету, а праз нейкі час ужо і ў Амерыцы — на прэзентацыях і ў хаце ягонага сына Юркі, дзе я магла пакорпацца ў кніжных і архіўных развалах Кіпеляў. З часам у нас наладзілася апасродкаваная лістоўная, а пазней і скайпава-тэлефонная сувязь. І заўсёды ды паўсюль мяне ўражвала і працягвае ўражваць жывая энергія і простасць гэтага ганаровага доктара некалькіх універсітэтаў, ягоная цікавасць да ўсяго беларускага.*

*Гэтае знаёмства мае асаблівую каштоўнасць для мяне як даследчыцы эміграцыі. Тая бібліяграфія Кіпеляў і ў першым, і ў другім выданнях стала настольнай кнігай з вялікай колькасцю закладак і пазнак, зноў і зноў я звяртаюся да яе. Узорам для працы сталі і «Беларусы ў ЗША»: і па разнастайнасці крыніц, і па структураванні матэрыялу шмат аналізавала гэтую кнігу, калі пісала свае пра аўстралійскіх і брытанскіх беларусаў. Супрацоўніцтва з Вітаўтам Кіпелем у выданні «Запісаў» і кніг БІНіМа дае каласальную магчымасць непасрэднага пераймання яго ведаў і досведу. Ён гатовы зноў і зноў дзяліцца ўсім, што ведае, спакойна выпраўляць памылкі, радавацца ўдалым знаходкам. Заўсёды прыемна чуць у тэлефоне яго голас, яго няспынны маналог, калі магчыма толькі слухаць, бо складана ўставіць хоць слова. І асабліва натхняе яго ўхвала і падтрымка. Я бясконца ўдзячная лёсу, што змагла так блізка пазнаёміцца і плённа супрацоўнічаць з гэтым надзвычайным беларусам.*

*Трэцяе выданне «Беларусаў у ЗША» — добрая нагода расказаць пра жыццёвы і творчы шлях Вітаўта Кіпеля хоць у асноўных рысах, на падставе найперш ягоных уласных успамінаў. Зрабіць гэта тым больш цікава, што ён перадаў тысячы дакументаў з сямейнага архіва ў наш Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і*

*мастацтва. Вялікае задавальненне разглядаць тыя пасведчанні, даведкі, дыпломы, сертыфікаты, фотаздымкі і ўсё іншае, звязанае з рознымі гарадамі і абставінамі жыцця ўнікальнай сям'і Кіпеляў, вядомай у Амерыцы, Беларусі ды хіба і ва ўсіх іншых краінах, дзе жывуць нашы суродзічы. Няхай прапанаваны тут нарыс будзе спробай сказаць дзякуй майму настаўніку і старэйшаму сябру.*

## Марыя і Яўхім Кіпелі

У пасведчанні, выдадзеным грамадзянскім аддзелам Менскага акруговага суда ў 1915 годзе, пазначана, што маці Вітаўта Кіпеля Марыя нарадзілася 1 студзеня 1904 года ў сям'і праваслаўных сялянаў Васіля Паўлавіча і Марфы Кандратаўны Зубкоўскіх. Дакумент складзены на падставе метрычнае кнігі Менскага Кацярынінскага сабора. Бацька Марыі Зубкоўскай паходзіў з вёскі Вугляны, але пераехаў у Менск і ўладкаваўся на працу апальшчыкам, а потым быў «пры шатні» ў гарадскім тэатры. Дачка нарадзілася ў доме насупраць таго ж тэатра. Там сям'я Зубкоўскіх жыла, пакуль Васіль не пабудаваў уласную хату ў Горным завулку (непадалёку ад Вайсковых могілак).

Марыя Зубкоўская закончыла адну з менскіх жаночых гімназій. У чатырнаццацігадовым узросце, у 1918 годзе, яна стала ўдзельніцай хору Уладзіміра Тэраўскага, наведвала «Беларускую хатку». На адной з вечарынаў у 1921 годзе дзяўчына пазнаёмілася з маладым былым вайскоўцам Яўхімам Кіпелем.


Свидѣтельство.

Пасведчанне аб нараджэнні Марыі Зубкоўскай. Менск, 1915 г.



Марыя Зубкоўская як удзельніца хору У. Тэраўскага. 15 ліпеня 1919 г.



Яўхім Яўсеевіч, 1898 года нараджэння, паходзіў з вёскі Байлюкі, што за 14 кіламетраў ад Глуска, дзе ён вучыўся ў народнай чатырохкласнай школе. Потым, ужо падчас Першае сусветнае вайны, Кіпель навучаўся ў юнкерскім вучылішчы ў Кіеве, у афіцэрскай школе ў Маскве. Паміж гэтым быў фронт у Румыніі, Фінляндыі, пасля рэвалюцыі — служба добраахвотнікам у Чырвонай арміі. У 1919 годзе ў Смаленску Яўхім Кіпель пазнаёміўся з Змітром Жылуновічам, Усеваладам Фальскім, а ў 1920 — апынуўся ў Менску і актыўна далучыўся да нацыянальнае беларускае працы. У даведцы, выдадзенай у 1930 годзе, пазначана, што ўжо ў 1918 годзе будучы бацька Вітаўта Кіпеля з'яўляўся сябрам Беларускага прафсаюза працаўнікоў асветы і ў Менску ён таксама працаваў настаўнікам. У 1921 годзе Яўхім Яўсеевіч далучыўся да дзейнасці Тэрміналагічнае камісіі пры Наркамаце асветы, а ў наступным — паступіў на прыродазнаўчае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.



Яўхім Кіпель. 1920 г.


ДЫПЛЁМ

ДИПЛОМ

Дыплом Яўхіма Кіпеля. Менск, 1929 г.

Знаёмства Марыі і Яўхіма прыпала на пачатак беларусізацыі. У 1923 годзе маладыя зарэгістравалі свой шлюб, пасяліліся ў хаце Васіля Зубкоўскага ў Горным завулку і актыўна працягвалі нацыянальную дзейнасць. Яўхім Кіпель у 1926 годзе закончыў універсітэт, напісаўшы дыпломную працу на тэму «Вопыт утварэння рэфлексу раздражняльнікамі рознай інтэнсіўнасці», працаваў у Інбелкульце. Марыя Зубкоўская (спачатку не змяняла сваё прозвішча) настаўнічала. У 1927 годзе яна паступіла на літаратурна-лінгвістычны факультэт Беларускага дзяржаўнага вышэйшага педагагічнага інстытута. У тым жа годзе нарадзіла сына Вітаўта.

1920-я гады Марыя згадвала як самыя шчаслівыя:

*«...тыя гады ўстаюць і аднаўляюцца як светлы і радасны момант, які гэтулькі нам даў духовага задавальнення, радасці, прыемных успамінаў. Мы, маладыя, жылі з Беларусяй. Усё вакол нас ставала беларускім: і менскае апалячанае і абруселае мяшчанства (хоць яно і супрацівілася, і мне было крыўдна за іх, бо я сама чысцюсенькая мянчанка), і школьніцтва, з якім я была звязаная перш як вучаніца, а потым як настаўніца, і адміністрацыя, і культура, і наогул усё-ўсё. Усё ставала беларускім, усе гаварылі па-беларуску — ды інакш яно не магло і быць! — і Беларусь ставала на дзяржаўны шлях.*

*На гэты ж перыяд прыпалі і бадай мае найлепшыя, універсітэцкія гады, і развой беларушчыны ва ўніверсітэце, бурныя дыскусіі аб будучыні Беларусі, выхад Беларусі з маладняком на ўзвышшы сусветнае літаратуры (а я была студэнткай літаратурна-лінгвістычнага аддзялення) — усё навакол нас жыло Беларусяй»*[1].



Яўхім і Марыя. 1920-я гг.

Тым цяжэйшым стаў пачатак 1930-х. У ноч з 28 на 29 чэрвеня 1930 года Яўхім Кіпель быў арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і праз нейкі час прысуджаны да пяці гадоў высылкі ў горад Налінск Вяцкай вобласці Расіі. Марыя з малым сынам засталася сам-насам з усімі праблемамі статусу жонкі «ворага народа». Ёй удалося ў 1931 годзе закончыць універсітэт, аднак на сталую працу ўладкавацца ў Менску было немагчыма, а без яе не давалі пашпарт у часе агульнай пашпартызацыі 1933 года. У выніку Марыя Зубкоўская вырашыла разам з малым сынам ехаць да мужа ў высылку.

Побач з Яўхімам Кіпелем у той самы горад трапілі географ Мікола Азбукін і гісторык Мікола Улашчык, а ў недалёкім Уржуме апынуўся і праз два гады памёр Уладзімір Жылка. Апошні твор

[1] Кіпель, Марыя. Пасля арышту мужа... // Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Мінск: Лімарыус, 2013. С. 148.





ДЫПЛЁМ

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ВЫШЭЙШЫ ПЭДАГАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ

МЕНСК 1932



Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ДЫПЛЁМ

Дадзены гэты дыплём тав. Зубкоўскай Марыі Васільеўне радзіўшайся ў 1904 г. у тым, што яна паступіла ў 1927 г. на Літ.-лінгвістычнае Аддзяленьне Літ.-лінгвістычнага Факультэту Беларускага Дзяржаўнага Вышэйшага Педагагічнага Інстытуту і скончыла курс гэтага аддзяленьня ў 1931 г., выканаўшы ... вучэбны плян.

Тав. Зубкоўскай ... выкладчыка Тэхнікумаў, Рабфакаў ...

№ 7/519

31 ... г. Менск

... Беларускага Дзяржаўнага ... Педагагічнага Інстытуту

Дэкан Факультэту

Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

ДИПЛОМ

Выдан настоящий диплом тов. Зубковской Марии Васильевне родившейся в 1904 г. в том, что она поступила в 1927 г. на Литерат.-лингвистич. Отделение Литерат.-лингвистического Факультета Белорусского Государственного Высшего Педагогического Института и окончила курс этого отделения в 1931 г., выполнив весь учебный план.

Тов. Зубковской присваивается звание преподавателя Техникумов, Рабфаков и школ ФЗУ.

Дыплом Марыі Зубкоўскай. Менск, 1935 г.



Служит видом на жительство сроком по „I“ августа 193_ г.

ОБЪЕДИНЕННОЕ Государственное Политическое УПРАВЛЕНИЕ ПРИ СОВНАРКОМЕ

Полномочное Представительство по Нижегород. краю.

Вятский Оперативный Сектор.

„_“ июля 193_ г.

№ 4326

г. Вятка.

Дело №

УДОСТОВЕРЕНИЕ

Дано настоящее гражд. КИППЕЛЬ Ефиму Васоевичу в том, что он на основании постановления Особ. Совещ. при Коллегии ОГПУ от „10“ апреля 1931 г. административно выслан в пределы Нижегородского Края сроком на ПЯТЬ лет.

Означенный гражданин КИППЕЛЬ отбывает ссылку в гор. Нолинске, откуда не имеет права никуда, ни на какой срок отлучаться и обязан „4“ раз в месяц лично являться в Р/Отделение ГПУ на регистрацию, что подписями с приложением печати удостоверяется.

Нач. Ват. Оперсектора ОГПУ

Секретаря ... РСО:

Пасведчанне аб высылцы Яўхіма Кіпеля ў Налінск на пяць гадоў. 1931 г.

паэта «Тастамент, або Духоўніца» Яўхім Кіпель і яго сям'я перахоўвалі праз усе нягоды высылкі і пазнейшай эміграцыі[2].

Марыя Зубкоўская ў Налінску ўладкавалася на працу карэктаркай у мясцовай газеце. Калі скончаліся пяць гадоў выгнання, Яўхім быў пераведзены ў Вятку. Там тэрмін высылкі быў працягнуты яшчэ на два гады, але можна было выбіраць месца жыхарства (зразумела, не ў Беларусі) самастойна. Кіпелі пастанавілі пасяліцца бліжэй да радзімы — у Арле. Тут Марыя змагла знайсці працу настаўніцы рускай мовы і літаратуры ў новаадчыненай школе, а Яўхім стаў выкладаць хімію ў медыцынскім тэхнікуме. Аднак спакойнае працоўнае жыццё трывала менш за паўгода.

У ноч з 30 на 31 снежня 1935 года Кіпель зноў быў арыштаваны, а неўзабаве асуджаны за нібыта антысавецкую дзейнасць на пяць гадоў працоўных папраўчых лагераў. Зняволенне адбываў у сталіцы БАМЛага — горадзе Свабодны Амурскай вобласці. Пра цяжкія ўмовы ўтрымання ў месцах аддаленых, як і пра папярэднія і наступныя падзеі свайго жыцця, Яўхім Кіпель распавёў ва ўспамінах, якія пад назвай «Эпізоды» былі двойчы выдадзеныя пасля яго смерці (Нью-Ёрк, 1998; Менск, 2013).



Яўхім Кіпель, 1941 г.

Марыя Зубкоўская зноў засталася з сынам адна ў чужым горадзе. Давялося шукаць іншае жытло, уладкавацца на яшчэ адну працу (у механічным тэхнікуме), быць вельмі асцярожнай у словах, учынках. Асаблівае напружанне з'явілася ў 1937 годзе, калі ў школе, дзе працавала Марыя і вучыўся сын Вітаўт, пачалі знікаць настаўнікі. Узімку 1938–1939 гадоў здарылася новая бяда: бацьку Марыі як «цесця ворага народа» выселілі са збудаванай ім хаты ў Горным завулку ў Менску. Часткова паралізаваны дзед Васіль не мог ужо сам сябе дагледзець, яго давялося забраць у Арол.

На жаль, Марыя Зубкоўская амаль не пакінула па сабе запісаных успамінаў, колы пакутаў яе — «жонкі ворага народа» — засталіся нябачнымі для нашчадкаў. Затое пра жыццё і ў Налінску, і ў Арле можна прачытаць у мемуарах самога Вітаўта Кіпеля:

*«Гэты пэрыяд, калі хворы дзед жыў з намі, быў досыць напружаны — усё ж хворы чалавек, за ім трэба было даглядаць. Але і гаспадыня дапамагала, кожны месяц прыяжджаў доктар, часам даводзілася выклікаць доктара дадаткова — паглядзець вочы ці іншыя праблемы. Вядома, у Менску гэта было б крыху лягчэй — там была цэлая хата, а ў Арле мы ўсё ж былі ў чужых людзей і жылі ў адным маленькім пакойчыку»*[3].

Напрыканцы 1940 года скончыўся пяцігадовы тэрмін зняволення Яўхіма Кіпеля, і ён, атрымаўшы ў тым самым горадзе Свабодным свой першы пашпарт, здолеў прыехаць да сям'і ў Арол. Праўда, застацца ў горадзе ён не мог — жыць у абласных цэнтрах былому зняволенаму было забаронена. Таму праз пару дзён Яўхім Кіпель паводле накіравання абласнога аддзела народнай асветы паехаў у Бранскую вобласць, Жырацінскі раён, Кульнеўскі сельсавет, дзе атрымаў працу настаўніка ў мясцовай школе. Да пачатку нямецка-савецкай вайны ён больш і не прыязджаў у Арол. Злучылася сям'я толькі ў часе нямецкай акупацыі. Тады

[2] Цяпер гэты аўтограф захоўваецца ў фондзе Кіпеляў у БДАМЛМ.

[3] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. Менск: Выдавец Зміцер Колас, 2015. С. 49.




ПАСПОРТ

УН № 748893


УН № 748893

Пашпарт Яўхіма Кіпеля. Свабодны, 1940 г.



ПАСПОРТ

29 мая 1941 года

Зубковская Мария Васильевна

14/V 1904 г

г. Минск БССР

Белоруска

I-ХЧ № 607270

служащая

Невоеннообязанная

г. Орла Орлов обл

29 мая 1941 г

29 мая 1941 г

М. Зубковская

I-ХЧ № 607270

Пашпарт Марыі Зубкоўскай. Арол, 1941 г.

Кіпелі-Зубкоўскія змаглі запісацца ў паліцыі як бежанцы з Беларусі і з часам атрымалі ад немцаў дазвол вярнуцца на радзіму.

Амаль праз 12 гадоў пасля першага арышту Яўхіма, 26 чэрвеня 1942 года, сям’я Кіпеляў зноў апынулася разам у Менску.

*«Было адразу відаць, што мы на Беларусі: меней траплялася жаўнераў, былі расчышчаныя вуліцы, працавалі газетныя кіёскі, а на менскім вакзале функцыявала і беларуская паліцыя. Купіўшы на станцыі “Менскую газэту” і знайшоўшы ў ёй адрас рэдакцыі, мы пастанавілі, што я пайду адразу ў рэдакцыю даведацца, як і што ў горадзе, а жонка з сынам пойдуць у раён, дзе быў наш дом, хоць, праўда, выйшаўшы з будынку вакзала ды ўбачыўшы, што засталося з раёна, які некалі быў вельмі жывы ды ўпарадкаваны, мы адразу ж спахмурнелі, мяркуючы, што і нашае хаты на Горным завулку можа не быць.*

*Ідучы па адрасе рэдакцыі, мне было нават цяжка зарыентавацца ў вуліцах: была гэта суцэльная прастора пагарэлішчаў, горад быў нагэтулькі знішчаны, што станавілася жудасна»*[4].

У рэдакцыі адбылося спатканне са старым знаёмым Антонам Адамовічам, з якім дамовіліся ў тым ліку і адносна публікацыі Жылкавага «Тастамента». А праз некалькі дзён Яўхім Кіпель ужо меў працу ў навуковым аддзеле пры Генеральным камісарыяце, дзе найперш займаўся распрацоўкай праграмы выдання падручнікаў для школ. У гэтай справе ішло добрае супрацоўніцтва са школьным інспектарам ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім. Паводле ўспамінаў Яўхіма Кіпеля, *«быў арганізаваны метадалагічны камітэт, у які ўвайшлі дзясяткі дзейных настаўнікаў,*

[4] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. С. 202.





AUSWEIS Nr. 15

Der/die Inhaber (in) dieses Ausweises

Herr/Frau/Fräulein Kippel Jochim

ist in der Presseverlag Minsk GmbH. als

Schriftleiter der „Dorfstimme“

der Presseverlag Minsk

tätig. Alle Behörden und Dienststellen werden gebeten, ihm/ihr erforderlichenfalls Schutz und Hilfe zu gewähren.

, am 5-5 1944

Presseverlag Minsk GmbH

Verlagsleiter

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ № 15

Собсьнік (ца) гэтага пасьведчаньня

Спадар/спадарыня/спадарычна Кіпель Яўхім

працуе ў Прэсавым Выдавецтве Менск Т. з абм. адк. як рэдактар „Голасу Вёскі“

Просім усе ўстановы даць яму/ёй у выпадку патрэбы апеку і помач.

5 Мая 1944

Presseverlag Minsk GmbH

Кіраўнік выдавецтва



Gültig bis 31 Dezember 1944

Важнае да 31 Сьнежня 1944

Presseverlag Minsk GmbH

Verlagsleiter, Кіраўнік выдавецтва

Gültig bis 194__

Важнае да 194__

Verlagsleiter, Кіраўнік выдавецтва

Gültig bis 194__

Важнае да 194__

Verlagsleiter, Кіраўнік выдавецтва

Gültig bis 194__

Важнае да 194__

Verlagsleiter, Кіраўнік выдавецтва

Presseverlag Minsk GmbH

Weissruthenische Zeitung — Dorfstimme —
Baranowitscher Zeitung — Sluzker Zeitung —
Minsk, Kirchenstr. 2, Telef.: 21300, 21876

ПРЭСАВАЕ ВЫДАВЕЦТВА МЕНСК
Т. з абм. адк.
Беларуская газэта — Голас вёскі
Баранавіцкая газэта — Слуцкая газэта —
Менск, вул. Рагнеды 2, Тэл.: 21300, 21786

Eigenhändige Unterschrift
Уласнаручны подпіс

Пасведчанне Яўхіма Кіпеля як рэдактара газеты «Голас вёскі». Менск, 1944 г.

*некалькі навукоўцаў, ды былі падабраныя аўтары падручнікаў. За першы год мы запусцілі ў апрацаванне каля 15 падручнікаў і 4 слоўнікі»*[5]. У дадатак была праца рэдактарам газеты «Голас вёскі». А на пачатку 1944 года Яўхім Кіпель увайшоў у Беларускую Цэнтральную Раду як загадчык пададдзела навукі ў аддзеле асветы, навукі і культуры:

*«У аддзеле навукі мы склалі рэестр кадраў, распрацавалі планы бліжэйшае працы. Устанавілі працоўныя кантакты з Медычным інстытутам у Магілёве, іншымі школамі ды сплanавалі працу на 1944 год, каб адчыніць яшчэ пяць інстытутаў, а таксама вышэйшы інстытут па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы настаўнікаў і выкладчыкаў для вышэйшых навучальных установаў»*[6].

Нацыянальная праца Яўхіма аднавілася з ранейшым імпэтам. Што праўда, побытавыя неўладкаванасці пераадольваліся даўжэй і складаней. Хата ў Горным завулку згарэла, таму Кіпелям давялося туліцца ў суседзяў Шабанавых. Марыя, каб забяспечваць хоць крыху матэрыяльныя патрэбы сям'і, з іншымі жанчынамі стала «хадзіць у Западную» — пешкі выбіралася ў вёскі былой Заходняй Беларусі, каб абменьваць розныя прамысловыя тавары на сельскагаспадарчыя, каб было чым харчавацца. Гэтак хадзілі за 30–40 кіламетраў, часам даводзілася сустракацца і з партызанамі. Гэткія «паходы» былі не толькі складаныя фізічна, але і небяспечныя. Марыя колькі разоў выбіралася «ў Западную», пакуль ўладкавалася на працу спачатку ў школьным інспектараце, потым у выдавецтве падручнікаў карэктаркай, а пазней у той самы «Голас вёскі», дзе працаваў муж, ды «Беларускую газету».




Другі Усебеларускі кангрэс. Менск, чэрвень 1944 г.

[5] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. С. 204.
[6] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. С. 213–214.



Два гады жыцця ў акупаваным Менску не былі лёгкія і тым больш спакойныя, хоць і далі магчымасць зноў займацца нацыянальнай працай. Аднак прыйшоў чэрвень 1944 года, Другі Усебеларускі кангрэс, на якім Яўхім Кіпель быў абраны на старшыню, і неўзабаве выезд з Менска назаўсёды. 1 ліпеня — эшалон Беларускай Цэнтральнай Рады, дзе ехала багата сем'яў і паасобных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі: Кушалі, Куліковічы, Савёнкі, Калубовіч, Шукелойць і г. д., і г. д., і сярод іх сям'я Кіпеляў. Зноў у выгнанне, гэтым разам — на Захад.

Пасля розных дарожных страхаў і нягодаў Кіпелі затрымаліся ў Берліне, дзе ўрэшце сабралася большасць працаўнікоў БЦР, разам з імі выехалі ў Познань. Што праўда, Яўхім праз нейкі час, моцна пасварыўшыся з Аўгенам Калубовічам (Каханоўскім), адышоў ад БЦР і вярнуўся ў Берлін, дзе падтрымаў ідэю далучэння беларусаў да ўласаўскага Камітэта вызвалення народаў Расіі. Менавіта таму на пачатку сакавіка 1945 года сям'я Кіпеляў выязджала з нямецкай сталіцы не з БЦРаўскімі сем'ямі, а з уласаўцамі ў бок Судэтаў. Пасля нядоўгага прабывання ў Карлсбадзе, яны былі вывезеныя праз усю Аўстрыю на Бодэнскае возера, адкуль урэшце змаглі перабрацца ў баварскі Гарміш-Партэнкірхен якраз напярэдадні яго заняцця амерыканцамі.

Вайна скончылася, аднак жыццё не стала спакайнейшым. Пагроза рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз, а там і новага зняволення стала рэальнасцю для Кіпеляў у вызваленай Нямеччыне. Рэпатрыяцыйных камісій у той час баяліся ўсе. Яўхім Кіпель згадваў, як аднойчы давялося ўцякаць з Гарміш-Партэнкірхена проста ў горы:

*«І гэтак пару тыдняў колькі сот "бездзяржаўнікаў" (пачынаў стасавацца новы тэрмін) жылі ў горах пад адкрытым небам — хто пад ялінкай, хто змайстраваў нейкі буданчык. Нарэшце праз дзясятак дзён нехта адважыўся пайсці з Альпаў у Гарміш. Аказалася, савецкіх камандаў у горадзе ўжо не было»*[7].

З часам Яўхім і Марыя абжыліся ў тым нямецкім горадзе. Навокал у Нямеччыне пачалі арганізоўвацца беларускія лагеры Ды-Пі, школы і гімназіі, ствараццa новыя беларускія структуры. І Яўхім Кіпель зноў актыўна далучыўся да нацыянальнага жыцця. Разам са сваімі аднадумцамі ён заснаваў Беларускую народную партыю, з Сымонам Жамойдам выдаваў яе перыёдык «Беларуская Воля» ў 1947–1949 гадах, быў актыўным прыхільнікам БЦР у палітычным канфлікце з аднооўленай Радай БНР. Праз дзесяцігоддзі дзеяч пісаў:

*«Слоў няма, гэты палітычны падзел нам шкодзіў, але былі ў гэткім становішчы і дадатныя моманты, ды, бадай, яно так і мусіла развівацца ва ўмовах дэмакратыі. Думаю таксама, што ў падзеле нараджалася і нейкая энергія да працы: было болей друкаў, палітычных ініцыятываў. Найгоршыя ж вынікі падзелаў выявіліся, калі пачалася эміграцыя за акіян. Часта з прычыны таго, што было нешта негатыўна-падазронае ў друку, а бывалі і даносы, людзей затрымвалі ў эміграцыйных структурах. Прыкрая з'ява. Мне асабіста не даводзілася нідзе затрымвацца з-за нейкай пісаніны, хоць у эмігранцкім друку на мяне было напісана ладна і не заўсёды прыемна»*[8].

Актыўная грамадская дзейнасць ішла паралельна з вырашэннем побытавых праблемаў. Марыя і Яўхім Кіпелі доўга жылі не ў лагерах, без статусу Ды-Пі і адпаведнай дапамогі. Але з Гарміш-Партэнкірхена была магчымасць прыязджаць,

[7] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. С. 230–231.
[8] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. С. 233–234.



Von der zuständigen Behörde einzutragen!

Meldebogen ........................ Nr. ..................

Druck W. Kohlhammer, Stuttgart / Werkstoff: Kalika, Göppingen

**Deutsche Kennkarte**

German identity-card
Carte d'identité allemande
Германское Удостоверение Личности

Zur Beachtung

| | |
|---|---|
| Kennort | Garmisch-Partenkirchen |
| Kenn-Nummer | B 17573 |
| Gültig bis | 18.September 19 51 |



| | |
|---|---|
| Name | Kippel geb. Subkowski |
| Vornamen | Maria |
| Geburtstag | 1.Januar 1904 |
| Geburtsort | Minsk-Mazowiecki |
| Staatsangehörigkeit | staatenlos |
| Beruf | Hausfrau |
| Gegenwärt. Wohn- u. Aufenthaltsort | Garmisch-Partenkirchen |
| Wohnsitz am 1.9.1939 | Wieliejka (Polen) |
| Größe und Gestalt | 157 cm, schlank |
| Farbe der Augen | blau |
| Unveränderl. Kennzeichen | fehlen |
| Veränderliche Kennzeichen | fehlen |
| Bemerkungen | keine |

Kippels Marie

Garmisch-Partenkirchen, den 18.September 194 6

Ortspolizeibehörde
Garmisch-Partenkirchen

Gebühr 1,— RM.

Нямецкае пасведчанне асобы Марыі Кіпель. Гарміш-Партэнкірхен, 1946 г.



Рэдакцыя газеты «Беларускае слова». Сядзяць: Іван Касяк, Юры Сабалеўскі, Юрка Віцьбіч, Яўхім Кіпель, Масей Сяднёў. Стаіць Антон Даніловіч. Міхельсдорф, 11 жніўня 1948 г.



Выпускнікі і выкладчыкі Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Нямеччына, 1949 г. Яўхім Кіпель сядзіць другі справа

прыкладам, у Міхельсдорф на працу ў беларускую гімназію. Захаваліся канспекты заняткаў па беларускай мове Марыі Кіпель, падрыхтаваныя для вучняў у лагерах. Абое Кіпелі ў Нямеччыне змаглі пацвердзіць сваю педагагічную кваліфікацыю, каб афіцыйна працаваць.

Каб было больш магчымасці для эміграцыі, у 1949 годзе Марыя і Яўхім усё ж перасяліліся ў беларускі лагер у Бакнангу і неўзабаве прайшлі ўсе неабходныя працэдуры для афармлення выезду ў ЗША. Запрашэнне даслаў сябра Яўхіма Кіпеля Мікола Сцяпанаў, які на той час ўжо перабраўся ў Нью-Ёрк, арганізацыйна-фінансавую дапамогу забяспечыла грамадская дабрачынная арганізацыя — Сусветная царкоўная служба, якая ў той час дапамагала шмат каму з эмігрантаў перабрацца ў ЗША.


Identification Card

CHURCH WORLD SERVICE, INC.
DISPLACED PERSONS DIVISION
214 East 21st St. New York City 10, New York

CWS Code No. 321 ESL 1811 European Code No. 117609

Name(s) KIPEL, Alfimij
Maria

Sponsor DR. Nicholas Stepanoff
Address Staten Island, N.Y.

This card must be carried by displaced person until arrival at Bremen where it will be checked by the CWS Worker and returned for presentation to the final destination in the USA

Пасведчанне Яўхіма і Марыі Кіпеляў на пераезд у ЗША, выдадзенае Сусветнай царкоўнай службай. 1949 г.

Ужо перад Калядамі 1949 года Марыя і Яўхім Кіпелі параплавам прыбылі ў Нью-Ёрк, дзе іх спаткалі і дапамаглі ім першапачаткова ўладкавацца сябры Эмануіл Ясюк, Мікола Сцяпанаў і Аляксандр Русак. На наступны дзень Марыя знайшла працу ў парніках на праполцы кветак, а праз колькі тыдняў і Яўхім уладкаваўся на кандытарскую фабрыку. Заробкі былі невялікія, але з'явіліся нарэшце ўласныя грошы,



Прэзідыум БЦР. Сядзяць: Нікандр Мядзейка, Аляксандр Русак (старшыня), Яўхім Кіпель; стаяць: Аркадзь Арэхва, Ксенафонт Вайцяхоўскі, Віталь Цярпіцкі. Саўт-Рывер, 1955 г.



можна было самастойна ўладкоўваць свой побыт зноў на новым месцы, у новай краіне. Неўзабаве Кіпелі перасяліліся настала ў недалёкі нью-джэрсійскі Пасейк, дзе склаўся добры БЦРаўскі беларускі асяродак.



Яўхім і Марыя Кіпелі з унукамі. Пасейк, пачатак 1960-х гг.

Ад самага прыезду ў ЗША Яўхім Кіпель вярнуўся ў беларускую працу. Аднаўленне структур БЦР, стварэнне ўжо амерыканскай арганізацыі «Прыхільнікі БЦР», выданне газеты «Беларускае Слова», стварэнне Асацыяцыі былых палітвязняў савецкіх лагераў. На працягу 1950 — пачатку 1960-х грамадская праца Яўхіма была даволі актыўная.

Што праўда, больш дабрабытнае і спакойнае жыццё ў ЗША значна змяншала і вастрыню палітычнага супрацьстаяння ў беларускіх асяродках, і грамадскую актыўнасць наагул. Беларусы станавіліся амерыканскімі грамадзянамі, з часам выходзілі на пенсію, выхоўвалі ўнукаў, з'яўляліся праблемы са здароўем. Гады, праведзеныя ў лагерах, адгукнуліся і Яўхіму Кіпелю. У 1960-я здароўе стала пагаршацца, і 27 ліпеня 1969 года ён адышоў у іншы свет.

Незадоўга да сваёй смерці, заканчваючы працу над успамінамі, Яўхім Кіпель так рэзюмаваў свой жыццёвы шлях:

*«...цяпер хочацца азірнуцца на жыццёвы шлях. Ясна, што на сваю дзейнасць гляджу дадатна: улучыўшыся ў часе рэвалюцыі ў нацыянальны рух, увесь час думаў катэгорыямі нацыянальнага поступу. Нацыянальнымі патрэбамі я кіраваўся ў 20-х гадах (хоць улада часта нас і ламала), выключна беларускай думкай кіраваўся ў гадах 40-х — беларусы павінны былі задэманстраваць сваё палітычныя імкненні, сваю прысутнасць — і з вялікай прыемнасцю*



Апалонія Савёнак і Марыя Кіпель. 1960-я гг.

*дэмаскаваў савецкі рэжым у гадох 50–60-х. Ці мы будзем прыкладам маладзейшым — не ведаю, але шчыра хачу ім сказаць — мы па жыццёвым шляху ішлі з Беларуссю»*[9].

Марыя Кіпель нашмат перажыла мужа, цешылася ўнукамі ды яшчэ і праўнука паспела пабачыць. Памерла яна 14 снежня 1992 года.

## Дзяцінства: Менск — Налінск — Арол — Менск

Жыццё бацькоў, іх ідэі і праца, безумоўна паўплывалі на працэс сталення Вітаўта Кіпеля. Ужо нават выбар імя сына быў перамогаю Яўхіма ў змаганні са сваякамі. Са словаў дзеда Вітаўта, гэтая гісторыя гучала так:

*«Калі Марыя ўжо чакала дзіця, на адной зь сямейных вячэраў паўстала пытаньне, як тое дзіця назваць. Бацька сказаў, калі хлопец, то назавем Вітаўт. Дзед заартачыўся — ніхто на Камароўцы такога імя ня чуў! Бацька адказаў: ці чуў хто, ці ня чуў — будзе так. Дзед таксама быў упарты і кажа: мы назавем інакш. Тады бацька заявіў: то мы зьедзем! Ну дзед зьмякчэў: заставайцеся. І бацькі засталіся. Нарадзіўся я, і пакінулі мяне Вітаўтам»*[10].

У пасведчанні аб нараджэнні акрамя даты 30 траўня 1927 года пазначана і падвойнае прозвішча *«Кіппель-Зубкоўскі»*. Да часоў нямецкай акупацыі Вітаўт афіцыйна пісаўся на прозвішчы маці, і толькі пазней бацька перапісаў іх абаіх канчаткова на ўласнае прозвішча.

Пасведчанне аб нараджэнні Вітаўта Кіпеля-Зубкоўскага. Менск, 1927 г.

[9] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. С. 237.
[10] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 7.





Вітаўт. Менск, 29 чэрвеня 1929 г.



Яўхім, Вітаўт і Марыя. Налінск, 8 ліпеня 1932 г.

Першыя гады жыцця Вітаўта прайшлі ў дзедавай хаце ў Горным завулку. Вайсковыя могілкі, што знаходзіліся побач, былі *«і паркам, і галерэяй, і музеем помнікаў, крыжоў, агароджаў, вельмі разнастайных кветак, якіх ні ў кога ў навакольлі не было»*[11]. У 1930 годзе, калі арыштавалі бацьку, сыну было тры гады, тыя падзеі не асабліва ўсведамляліся малым Вітаўтам. Марыя, якой трэба было больш працаваць, аддала яго ў дзіцячы садок працаўнікоў Наркампроса — адзіны, куды пагадзіліся ўзяць сына арыштаванага. Толькі ў 1933 годзе, у часе выезду з маці ў Налінск, шасцігадовы Вітаўт зразумеў, што таты няма і да яго трэба ехаць.

Некалькі гадоў жыцця ў Налінску зноў з бацькам ды ў кантакце з іншымі высланымі беларусамі (найперш з Міколамі Азбукіным і Улашчыкам) заклалі трывалыя пачаткі нацыянальнай самасвядомасці ў Вітаўта. Ён згадваў:

*«Дзядзі Міколы прыходзілі, і мы разам выходзілі гуляць за горад. Асабліва мне прыпамінаюцца паходы на рэчку. Праз Налінск цячэ рэчка Воя зь вельмі высокімі пясчанымі берагамі, і там мяне вучылі іншаму — вучылі гімну, ня памятаю каторы зь дзядзяў Міколаў, “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Другі дзядзя вучыў мяне вершам [...]. Я б сказаў, што з налінскага пэрыяду я выйшаў з добра падрыхтаваным беларускім “эстрадным рэпэртуарам”, мяне навучылі дзясятку песьняў — “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”, бацька навучыў мяне — “У нядзелю раненька”, “Гэй, сябры ўдалыя”. І каля рэчкі яны сьпявалі так моцна, і маці зь імі сьпявала, далучаліся і яшчэ нейкія людзі, я ўжо іх прозьвішчаў ня памятаю»*[12].

І яшчэ:

[11] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 10.
[12] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 12–13.



Мікола Азбукін, Яўхім Кіпель і Мікола Улашчык. Налінск, 15 снежня 1931 г.



Яўхім і Вітаўт. Налінск, 25 ліпеня 1933 г.

*«Калі я бываў з бацькамі ў сямейным коле — гэта бывала, але рэдка, — бацькі расказвалі мне, як у Менску на пачатку 20-х гадоў праходзілі беларускія спэктаклі, як яны разам сьпявалі песьні [...]. Пачуў тады я ўпершыню пра выдадзены ў Менску вялікі зборнік “Чатырохсотлецьце беларускага друку”, пачуў упершыню і прозьвішча Скарыны.*

*Адным словам, бясспрэчна, беларускую адукацыю празь сям’ю я атрымоўваў, хоць і эпізадычна, але вельмі стала і трывала. Беларускасьць салідна замацоўвалася ў маім існаваньні»*[13].

Аднак навокал была расійская правінцыя. Трэба было вучыць рускую мову, прыстасоўвацца да іншых умоваў. Ужо ў Арле 1 верасня 1935 года Вітаўт пайшоў у першы клас. І тут ён зрабіўся «вулічным» хлопцам:

*«У Арле я пабачыў ужо іншую Расею і расейскасьць. Калі ў Налінску яна была блізкая да прыроды, народная, то ў Арле расейскасьць была гарадзкая, работніцкая, пралетарская. Але і ў Налінску, і ў Арле дзеці былі падобныя — кемлівыя, крыху галаднаватыя, знаёмыя з сыстэмай, заўсёды знаходзіўся нехта, хто ведаў, што такое Мядзьвежая Гара, Беламорска-Балтыйскі канал. Я з арлоўскімі дзецьмі хутка ўвайшоў у блізкі кантакт, мы сталі хадзіць па горадзе, на чыгунку, лазіць па закінутых развалінах, на рыбу...»*[14].

Спачатку бацькі былі занятыя працай для заробку на кавалак хлеба, потым бацька быў зноў арыштаваны. Вітаўт вымушана рабіўся ўсё больш самастойным: сам хадзіў у школу, сам бавіў час пасля яе.

Пасля новага арышту бацькі пад канец 1935 года зноў надышлі цяжкія часы выжывання разам з маці, а потым і з хворым дзедам. У жыцці Вітаўта асноўнае месца займала школа і вуліца з усімі яе праблемамі. Што праўда, статус сына настаўніцы і ўласнае ўсведамленне пэўнай мяжы, што можна рабіць, а што нельга, утрымоўвалі ад вулічных непрыемнасцяў і шкоднага досведу.

[13] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 16.
[14] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 22.






Ухвальная грамата Вітаўта з сярэдняй школы ў Арле. 1938 г.

Добрай аддушынай у даволі напружаным жыцці ў Арле былі летнія канікулы, калі разам з маці можна было паехаць у Менск. Кожны год, да 1938-га, улетку Вітаўт бавіў час у дзедавай хаце ў Горным завулку:

*«...з пэрспэктывы часу я ўпэўнена магу сьцьвердзіць, што сувязь зь Менскам — летнія канікулы, мае блізкія сябры ў Менску, “свая атмасфэра” гораду — усё гэта было асноўным беларускім “эліксірам”, духоўнай стравай, якая ўлівала энэргію ў маю беларускую адданасьць»*[15].

Напружанасць 1937-га і перадваенных гадоў з часам змянілася цяжкасцямі нямецкай акупацыі. У 1941 годзе настала вярнуўся бацька, і Кіпелям давялося зноў шукаць жытло, новую кватэру давялося дзяліць з немцамі. У сакавіку 1942 года памёр дзед Васіль, пасля чаго сям’я пастанавіла як мага хутчэй вяртацца ў Менск. Пры акупацыі гэта нарэшце стала магчымым.

З вяртаннем улетку 1942 года ў Менск Вітаўта чакала новая, цяпер ужо беларуская школа. І з навучаннем першапачаткова ўзніклі праблемы. Хлопец добра ведаў беларускую і нямецкую мовы, а беларускую літаратуру, геаграфію і гісторыю Беларусі ў Расіі, вядома ж, не праходзілі. Хлопец блага пачуваўся ў менскай школе і нават хацеў яе кінуць, але маці адназначна сказала: *«Выкінь гэтыя думкі з галавы — беларускую школу ты закончыш!»* А на дапамогу сыну Яўхім наняў рэпетытарам Антона Лёсіка, і той здолеў не толькі падцягнуць Вітаўта па беларусазнаўчых прадметах, але і захапіць імі.

*«Зь Лёсікам было вельмі цікава, я правучыўся зь ім ад верасьня 1942 да травеня 1943 году — мы сустракаліся два разы на тыдзень і гаварылі, гаварылі... [...] Цікава, што Лёсік як настаўнік рыхтаваўся да гэтых лекцыяў, кожны раз, як прыходзіш, ляжыць стос кніжачак, які ён табе ў часе гэтых гутарак пакажа. І я хутка зразумеў, што даганяю іншых у маёй клясе, а па гісторыі ці геаграфіі ведаў нават і больш за іх. Адным словам, я за той год нашмат перагнаў сваіх аднакашнікаў у школе ў беларусаведзе»*[16].

Пасля заканчэння сямігодкі на нейкі час Вітаўт паступіў у настаўніцкую семінарыю, але, не плануючы сабе педагагічнай будучыні, перайшоў у прагімназію. Сярод настаўнікаў там быў Антон Адамовіч, з якім хлопец быў знаёмы яшчэ з часоў бацькавай высылкі ў Вятку.

Побач з навучаннем з’явілася і іншая сфера зацікаўленняў — Саюз беларускай моладзі. Ён быў створаны яшчэ ў народнай школе, і Вітаўт да яго далучыўся: *«Мяне гэта цікавіла, я больш хацеў ведаць пра арганізацыю, таму я шмат з кім у*

[15] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 35.
[16] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 92.



ZEUGNIS

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Пасведчанне аб заканчэнні Вітаўтам Кіпелем сямігодкі. Менск, 1943 г.

*СБМ неразнаёміўся. Я не высоўваўся наперад, але стараўся быць, дзе праходзіла нешта беларускае»*[17].

Дыплом аб заканчэнні прагімназіі Вітаўт Кіпель атрымаў у сярэдзіне чэрвеня 1944 года. На гэтым скончылася школьнае навучанне. Хлопцу было 17 гадоў і неўзабаве пачаўся новы жыццёвы этап з чарговым выездам з Менска на чужыну:

*«Канец чэрвеня — пачатак ліпеня 1944 году ў маёй памяці замацаваўся як бурлівы пэрыяд: нэрвова, мітусьліва я разьвітаўся зь дзяцінствам і юнацтвам і пераходзіў у невядомае — новыя краіны, новыя людзі. На душы было цяжка — выяжджаць з свайго гораду, з Бацькаўшчыны ахвоты не было»*[18].

## Нямеччына

Выезд разам з бацькамі ў Нямеччыну распачаў эміграцыйны этап у жыцці Вітаўта Кіпеля. Цягнік праз Кёнігсберг прыбыў у Берлін, дзе беларускія выгнанцы затрымаліся на некалькі тыдняў. Потым была Познань і адказнае заданне для Вітаўта ад Аўгена Калубовіча (Каханоўскага) па суправаджэнні вагонаў з БЦРаўскім майном, вяртанне ў Берлін, праца памочнікам муляра дзеля навучання ў Нямецкім інстытуце для замежнікаў, дзе маладзён удасканальваў свае веды нямецкай мовы, вялікае бамбаванне Берліна саюзнікамі 3 лютага 1945 года. Праз месяц выезд з бацькамі ў Карлсбад і спатканне заканчэння вайны ў баварскім Гарміш-Партэнкірхене. Тут, каб пазбегнуць рэпатрыяцыі, Кіпелі змаглі атрымаць

[17] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 97.
[18] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 135.





Вітаўт Кіпель з маці. Берлін, канец 1944 г.



ORIGINAL № 853336
UNITED NATIONS DISPLACED PERSON/REFUGEE
IDENTITY CARD
For resident of International Refugee Organization (IRO) Assembly Center

KIPIEL WITAUT
Name (Familie) Vorname
Date of Birth Geburtsdatum 6 Jul. 1927
Height Grösse Cm. 169 Weight Gewicht Kg. 75 Hair Haar BROWN Eyes Augen BLUE
Nationality Nationalität WHITERUTHENIAN Sex Geschlecht M
Identifying Marks Besondere Merkmale
W Kipiel
Holder's Signature / Inhabers Unterschrift
Validating Officer / Ausstellungsbehörde
ALLEN P. SHAFFER
1st Lt FA
Fingerprints Fingerabdrücke
Right Index R. Zeigefinger
Left Index L. Zeigefinger
PC IRO AREA Headquarters AMBERG
Official Stamp
Date Datum 17 FEB 1948

Нямецкае пасведчанне асобы Вітаўта Кіпеля. 1948 г.

дакументы, у якіх месцам нараджэння была пазначана не Усходняя, а Заходняя Беларусь. Так Вітаўт Кіпель, як і ягоныя бацькі, стаў запісным віленчуком. Наагул, у пасведчаннях маладога беларуса з таго перыяду можна знайсці і розныя даты нараджэння, а месцам нараджэння часам пазначана не Вільня, а Вялейка. Пра дакладнасць гэтых звестак у той час ніхто не дбаў, больш прынцыпова пільнавалася, каб была зафіксаваная беларуская нацыянальнасць. Для свядомых беларусаў гэта было асабліва важна.

На Гарміш-Партэнкірхен прыпалі апошнія часы супольнага жыцця (і пераездаў) Вітаўта Кіпеля з бацькамі. Пасля лета 1945 года маладзён перасяліўся ў Рэгенсбург з ідэяй працягнуць навучанне, каб атрымаць атэстат аб сярэдняй адукацыі.

Яшчэ ў чэрвені 1945 года ў Рэгенсбургу на чале з Аляксандрам Русаком паўстаў Беларускі нацыянальны камітэт, які пачаў выдаваць суродзічам беларускія пасведчанні, а таксама заняўся арганізацыяй свайго нацыянальнага лагера, а ў ім школы і гімназіі[19]. Менавіта пры камітэце ад верасня 1945 года і застаўся жыць малады Кіпель. Як і іншую мясцовую беларускую моладзь, яго спачатку скіравалі ва ўкраінскую гімназію, а ў снежні адчынілася і свая беларуская, якая пазней атрымала імя Янкі Купалы.

Вітаўт Кіпель трапіў у шосты клас гімназіі. Разам з ім вучыліся Ірэна Вініцкая, Іван Гукоўскі, Кацярына Дашкевіч, Наталля Кулікові, Ніна Палянская, Алег Петухоў, Іван і Лявон Рыбнікавы, Зора Савёнак, Мікола Хібінскі і Язэп Чорны[20].

Вітаўт Кіпель згадваў:

*«Я спачатку аддаўся толькі навуцы — бо і прапусьціў шмат, і ў украінскай гімназіі адчуў, што хоць гэта і паўтор, але трэба вучыцца, прыпомніць, што забыў.*

*Атмасфера ў беларускай гімназіі была інакшая, чым у папярэдніх школах: па-першае, было менш вучняў, па-другое, мы ведалі шмат каго з настаўнікаў, па-трэцяе, вучні былі зь дзясятка розных школаў, быў разнабой у ведах»*[21].



Вітаўт Кіпель. 1946 г.

Настаўнікамі ў гімназіі сапраўды былі выбітныя інтэлектуалы. Антон Адамовіч і Гіпаліт Паланевіч выкладалі гісторыю, Аўген Кахаоўскі — беларускую мову і літаратуру, Іна Рытар — нямецкую мову, Марыя Станкевіч (жонка Янкі) — англійскую, Наталля Арсеннева — французскую. Сур'ёзна падыходзілі да сваіх прадметаў і былі добрымі спецыялістамі настаўнік з дваццацігадовым стажам Мечыслаў Рагажэцкі (матэматыка), выпускнік універсітэта ў Празе і дырэктар гімназіі Аляксандр Орса (геаграфія), інжынер Парфіры Трысмакоў (фізіка), доктар медыцыны Аляксандр

19 Гл.: Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Менск, 1994. С. 99–105.

20 Гл.: Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945–1950). Нью-Ёрк — Беласток, 1994. С. 54.

21 Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 164.





Шосты клас Беларускай гімназіі ў Рэгенсбургу. Стаяць (справа налева): Вітаўт Кіпель, Туся Кулікові, Лёня Говар, Ніна Палянская, Боб Петухоў; сядзіць Тамара Карповіч. 1946 г.

Багдановіч (анатомія), апантаны спортам Іван Муха (фізкультура), афарміцель выданняў беларускіх Ды-Пі Мікола Кругловіч (маляванне). А праваслаўны святар айцец Мікалай Лапіцкі выкладаў рэлігію.

Сярод найбольш строгіх настаўнікаў Вітаўт Кіпель згадваў найперш Аўгена Кахаоўскага, таго самага, які даверыў хлопцу справу з БЦРаўскімі вагонамі ў Познані:

*«Гэта быў, бясспрэчна, вельмі патрабавальны настаўнік. Праграму ён выконваў цалкам — было шмат працы ў клясе, і хатнія заданьні ён задаваў рэгулярна. Пры гэтым ён дапаўняў клясныя лекцыі кнігамі, якіх у яго было шмат і якія ён патрабаваў ад нас чытаць. Ведаю напэўна, што для лекцыяў літаратуры Каханоўскі пазычаў кнігі ў каго мог у лягеры (у Віцьбіча, Панькова, Золака і іншых). Да мяне ён быў асабліва "пільны". За ўсю маю сярэднюю асьвету Каханоўскі для мяне застаўся найбольш патрабавальным настаўнікам. Каб пашырыць нашыя веды ў беларускай літаратуры, ён арганізаваў у гімназіі літаратурны гурток, дзе таксама "праходзілася" беларуская літаратура. Я дзіўлюся — калі выдаваўся часапіс літаратурнага гуртка "У Выраі", Каханоўскі папрасіў мяне напісаць для яго перадавы артыкул»*[22].

22 Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 164.



Беларуская моладзь. На пярэднім плане Анатоль Занковіч, Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік. Міхельсдорф, 26 верасня 1946 г.

У той перадавіцы вельмі яскрава адлюстравалася тое, чым жылі тагачасныя беларускія юнакі і дзяўчаты ў Нямеччыне:

*«Наш часапіс застанецца сьведкаю таго, як беларуская моладзь, ня годзячыся з чорнай няволяю на забранай і разагнанай Беларусі, шукала праўды й асьветы на чужыне, а сваімі найшчырэйшымі думкамі-марамі засталася із сваім родным краем і народам. [...] І мы верым, такі ўжо закон гісторыі, што ня вечна будзем таптаць чужыя дарогі й палеткі, ня вечна будзем выгнанцамі ў выраі. Прыйдзе дзень, калі мы, як тыя птушкі з выраю, вернемся на свае Беларускія гоні. Нас будзе грэць сонца 25 Сакавіка — сонца запраўднае свабоды, справядлівасьці й шчасьця»*[23].

[23] Цыт. паводле: Запруднік, Янка. Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946–1954 гг.). Нью-Ёрк: БІНіМ, 2002. С. 44.





Святкаванне Новага, 1947 года гімназістамі ў Міхельсдорфе. Левы шэраг: Сцяпан Кісель, Янка Запруднік, Галіна Ганчарэнка, Леанід Карась, Павел Урбан, Уладзімір Цвірка, Тамара Карповіч, Вітаўт Кіпель; правы шэраг: Міхась Вострыкаў, Кастусь Вайцяхоўскі, Туся Куліковіч, Вольга Харытончык, Алесь Бута, Уладзімір Бакуновіч, Васіль Шчэцька, Янка Жучка

У ліпені 1946 года беларускі лагер з Рэгенсбурга быў перанесены ў вёску Міхельсдорф каля мястэчка Кам. Тут у драўляных бараках на месцы былога лётнішча і было заснаванае новае беларускае паселішча, дзе ад верасня працягнула працу гімназія. У сёмым класе побач з Вітаўтам Кіпелем засталося менш вучняў: Галіна Ганчарэнка, Леанід Карась, Віктар Лябёдкін і Зора Савёнак. У красавіку 1948 года амаль усе яны (а таксама Васіль Панаў і Вольга Харытончык) здалі выпускныя іспыты і атрымалі атэстаты аб сярэдняй адукацыі. На ўрачыстай цырымоніі з падзякай настаўнікам ад імя матурыстаў выступаў менавіта Вітаўт Кіпель[24]. Пра заканчэнне гімназіі ён згадваў:

*«Вясною 1948 году ў мяне ў кішэні быў дыплём аб заканчэньні сярэдняй школы. У асабістым пляне гэта была вельмі дадатная падзея, асабліва таму, што асьвета была здабытая ў беларускай установе — гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне. Словаў няма, я адчуваў сябе моцна ў беларусаведзе і ў вялікай меры заўдзячваю гэта гімназіі»*[25].

Менавіта на час навучання Вітаўта Кіпеля ў гімназіі прыпала афармленне палітычнага расколу ў асяроддзі беларускіх уцекачоў на Захадзе на прыхільнікаў Рады БНР і БЦР («крывічоў» і «зарубежнікаў»). Сам юнак намагаўся трымацца па-над расколам, хоць і ставіўся да ідэі Крывіі скептычна. Ягоны ж бацька, Яўхім Кіпель, быў актыўна заангажаваны ў палітычнае супрацьстаянне на баку БЦР, і шмат хто

[24] Гл.: Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне... С. 96.
[25] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 176.



WHITERUTHENIAN·KRIVIAN·GYMNASIUM IN REGENSBURG

CERTIFICATE

BIELARUSKAJA·KRYVICKAJA·HIMNAZIJA U REGENSBURGU

PASVIETCANNIE

Пасведчанне аб заканчэнні Вітаўтам Кіпелем Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Міхельсдорф, 1948 г.

ягоную пазіцыю аўтаматычна пераносіў на сына. Гэтак было, прыкладам, калі ў гімназіі ў Міхельсдорфе шыльду з надпісам «Крывіцкая гімназія» нехта перавесіў на прыбіральню. Пад падазрэннем апынуліся Вітаўт Кіпель і ягоны сябра Уладзімір Цвірка, адбылося непрыемнае высвятленне ў кабінеце дырэктара, аднак хлопцы здолелі давесці, што да інцыдэнту не маюць дачынення. Ужо пасля выпуску 1948 года Беларуская гімназія імя Янкі Купалы, як і шмат якія іншыя беларускія тагачасныя структуры, падзялілася на БНРаўскую і БЦРаўскую часткі, якія працягнулі функцыянаванне паралельна ў розных лагерах.

Вітаўту пашчасціла не рабіць выбар, у якой частцы гімназіі давучвацца, аднак раскол рабіў уплыў і на дачыненні з сябрамі. Захаваўся цікавы ліст ад пачатку 1949 года да Янкі Запрудніка, дзе Вітаўт Кіпель даволі яскрава фармуляваў свае пазіцыі ў дачыненні да крывіцка-зарубежніцкага падзелу. Сярод іншага аўтар пісаў:

*«Ты гаворыш, для цябе БНР — гэта ўсё, а мне кажаш, што мне БЦР! Ну, ведаеш, ня зусім гэтак. Дакладна й ясна выкрышталізаваць свой пагляд я яшчэ ня змог, каб цалкам значыць прылучыцца да аднае ці другое групы (я пішу групы, г. зн. тых людзей, якія знах[одзяцца] пры БНР і БЦР), бо ведаеш, нам маладым, здаецца, што ўсё-ж і там, і там ёсьць элемэнт ня наш. Трымацца самім незалежна мы, як відаць, не зможам (калі мо ўжо й не змаглі!?).*

*У думках мо мы й трымаемся незалежна, бачучы непажаданыя нам мінусы ў старэйшых, але вонкава ўсё-ж ці туды, ці туды належым. Дык мо табе стане ясна, што для мяне БНР ня твор 70 чалавек? І тым ня менш я вонкава нібы падтрымоўваю БЦР, не Астроўскага самаго, але тых людзей, якія працавалі пры немцах аддана й шчыра (не за грошы, як шмат хто зь лягеру БНР), бо ім прыходзілася працаваць у*



*больш цяжкіх умовах, чым сучаснай “радзе БНР”, і дзякуючы каторым і ты й я і мільёны юнакоў даведаліся, хто яны й да чаго йдуць. І якраз людзі БНР гэта ўсё адкідаюць. Дык вось, пыса, мы можам сказаць, што ў адных ні к чорту гэта твор бальшавікамі недабітых людзей, а ў другіх адкіданьне й мяшаньне з гразёй усяго зробленага за гады 41–45, Франц!*[26]*. З боку “крывіцкага” яны-б маглі вярнуць на Астроўскага як на асобу і на ўсіх побач стаячых, што хацелі, але яны вернуць не так на яго (а людзям трэба-б было паказаць, хто ён сапраўды), а яна на рух за нямецкіх часоў. Гэта мне здаецца ні к чорту!*

*Ну ды ладна, хопіць ужо выказвацца. Гэта ўсё, Франц, “ерунда”. Галоўнае нам ня імкнуцца стаць “палітыкамі” ці “дзеячамі” зараз, а “скромна” працаваць і працаваць. Няхай сварацца, хто нешта зрабіў. Нам пакуль яшчэ нічога не зрабіўшы дый сварыцца — не вытрымоўвае ніякае крытыкі»*[27].

Вітаўт Кіпель намагаўся не мяшацца ў палітычныя спрэчкі. Гэткая пазіцыя была шмат у каго з моладзі, у тым ліку і ў тых, хто займаўся скаўтынгам. Яшчэ ўвосень 1945 года сяброўка Вітаўта Юзэфа Брэчка расказала яму пра гэты моладзевы рух, а пазней былы СБМаўскі кіраўнік Сцяпан Кірылік загітаваў схадзіць на зборку.

*«На арганізацыйную зборку я пайшоў. Вёў яе латыскі скаўтмайстар Зэмгаліс — чалавек вельмі адукаваны, шматмоўны, з шырокай эрудыцыяй. Зэмгаліс выклаў асновы скаўцкага руху: галоўная задача — падрыхтоўка лідэраў для грамадзтва, якім адначасна можна было даць шмат чаго нацыянальнага праз праграму скаўцкіх спраўнасьцяў. Мне гэты пункт асабліва спадабаўся: разам з агульналюдзкімі міжнароднымі вартасьцямі — выхаваньне ў нацыянальным*



Вітаўт Кіпель і Уладзімір Цвірка. Міхельсдорф, 13 красавіка 1947 г.




Скаўцкая кніжка Вітаўта Кіпеля. 1948 г.

[26] Зварот «Франц» часта выкарыстоўвалі ў дачыненні адзін да аднаго некаторыя былыя выпускнікі Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы.

[27] Ліст В. Кіпеля да Я. Запрудніка ад 25.01.1949. Захоўваецца ў БДАМЛМ.


Štandar „Frankonia"
District Comm.
Ściah № 7 Michelsdorf
Źviaz
Troop
Družyna
Patrol
Signature of Holder
Podpis
Signed
Scoutmaster
2

1. Persanalnyja dadzienyja
Personal Record
Imia Vitaŭt
Christian name
Prozvišča Kipiel
Surname
Data nar 4. 7. 1927
Date of Birth
Štupień Star Skaut Rover Scout
Rank
Funkcyja Zastup. Standarnaha
Function Second district commissioner
Adrys Michelsdorf
Data vyst. kn.
Date of Issue -8. OKT. 1948
3



Скаўцкая кніжка Вітаўта Кіпеля. 1948 г.

*духу. Я вырашыў запісацца на курсы скаўцкіх кіраўнікоў, якія неўзабаве арганізоўваліся там у лягеры. Пачалі хадзіць на курсы таксама Кірылік і Саша Сасукевіч, але поўнасьцю ўсю праграму прайшоў толькі я»*[28].

Неўзабаве да скаўтынгу далучыліся іншыя былыя СБМаўцы: Палікарп Манькоў, Кастусь Вайцяхоўскі, Зора Савёнак, Алесь Марговіч, Лявон Карась, Тамара Карповіч, а таксама новыя маладыя людзі: Алесь Бута, Юрка Станкевіч, Дзмітры Сямёнаў, Янка Жучка, Васіль Шчэцька, Сцяпан Кісель і іншыя. Паступова беларусы добра пазнаёміліся з асновамі скаўцкай тэорыі, сталі актыўна ладзіць зборкі, выдаваць літаратуру, удзельнічаць у шматнацыянальных скаўцкіх «джэмбары». Ужо ўлетку 1946 года на першым такім мерапрыемстве беларуская дружына пад кіраўніцтвам Вітаўта Кіпеля заняла першае месца ў спаборніцтвах.

Вітаўт Кіпель актыўна заангажаваўся ў скаўцкую дзейнасць, нават хадзіў па хатах у беларускім лагеры, пераконваў бацькоў, каб пускалі дзяцей у скаўты. Лагерная адміністрацыя ў Рэгенсбургу выдзяліла для іх адмысловую святліцу, дзе можна было праводзіць зборкі.

Пры пераездзе ў Міхельсдорф сітуацыя са скаўтынгам крыху змянілася. Калі раней беларусы былі часткаю вялікай міжнацыянальнай скаўцкай арганізацыі, то на новым месцы развівалася ўжо самастойная беларуская. Яе кіраўніком на Міхельсдорф стаў Вітаўт Кіпель.

*«Скаўцкая праца ў Міхельсдорфе пайшла вельмі інтэнсіўна. Адбываліся штодзённыя зборкі — ішло беларусаведнае навучаньне. Ладзіліся конкурсы ў беларускай геаграфіі і гісторыі, амаль штомесяц мы езьдзілі на скаўцкія “джэмбары” ў Рэгенсбург,*

[28] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 169.





Беларускія скаўты. Вітаўт Кіпель — першы злева ў апошнім шэрагу. Рэгенсбург, 1946 г.



Другі злёт беларускіх скаўтаў у Остэргофене. Вітаўт Кіпель стаіць першы справа. 1947 г.



Удзельнікі курсаў скаўтмайстраў. Стаяць: Міхась Тулейка, Язэп Арцюх, Вітаўт Кіпель; сядзіць Хведар Пагуда. Касэль, 1948 г.

*Мюнхен, Аўгсбург і добра там выступалі. Былі арганізаваныя курсы малодшых кіраўнікоў, на якіх было каля 20 слухачоў. Усяго ў Міхельсдорфе было каля 170–190 скаўтаў. Пачаўся там таксама і асобны дзявочы скаўтынг, хоць яны падпарадкоўваліся агульнаму кіраўніцтву»*[29].

Уласную скаўцкую адукацыю Вітаўт Кіпель падвышаў на курсах найвышэйшых кіраўнікоў, якія ладзілі латышы і эстонцы. Скаўцкі досвед і знаёмствы добра дапамаглі ў далейшым жыцці, у тым ліку і для атрымання вышэйшай адукацыі.

Першая спроба паступлення ва ўніверсітэт была зробленая ўжо ўвесну 1948 года, неўзабаве пасля заканчэння гімназіі. Чацвёра яе выпускнікоў — Вітаўт Кіпель, Галіна Ганчарэнка, Зора Савёнак і Вольга Харытончык — наважыліся нелегальна ехаць у французскую зону Нямеччыны, каб паступіць у Цюбінгенскі ўніверсітэт. Авантура пры ўсёй яе складанасці аказалася паспяховаю. Часткова дапамаглі і інтэрнацыянальныя скаўцкія легітымацыі, але галоўнае — лідарскія якасці Вітаўта. Дзякуючы ягонаму напору французскі палкоўнік, ад якога залежала вырашэнне пытання, пагадзіўся дазволіць беларусам не толькі паступіць ва ўніверсітэт, але і заснаваць там уласную студэнцкую арганізацыю — Беларускае студэнцкае згуртаванне.

Вітаўт Кіпель хацеў вывучаць геалогію. Яшчэ ў дзяцінстве ў Налінску ён упершыню ўбачыў геолагаў у эспедыцыі, і гэтая прафесія яго асабліва вабіла. Аднак у Цюбінгене геалагічны факультэт у 1948 годзе не дзейнічаў, як і хімічны. Давялося паступіць на медыцынскі, але асаблівы ўхіл навапечаны студэнт намагаўся рабіць на прадметы, патрэбныя геолагу.

[29] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 174.



Навучанне пачыналася ў складаных умовах:

*«На пачатку ва ўнівэрсытэце было досыць цяжка, бо не было памешканьня, не было дзе начаваць, начавалі на вакзале. Наш юрыдычны статус жыхароў амэрыканскай зоны ўнівэрсытэцкае кіраўніцтва не хваляваў, праблема была толькі з францускімі вайсковымі ўладамі. Але тут якраз гэтыя ўлады далі загад унівэрсытэту нас прыняць, дык неяк выкручваліся.*

*Жылі мы — прынамсі былі прапісаныя — у горадзе Гэрэнбэргу, у амэрыканскай зоне, за 22 кілямэтры ад Цюбінгену. Часам хадзілі ў Гэрэнбэрг, а часьцей начавалі сям-там у францускай зоне»*[30].

Імкненне да атрымання вышэйшай адукацыі, а таксама імпэт да грамадскай дзейнасці перамагалі ўсе складанасці. На восень 1948 года ва ўніверсітэце з'явілася яшчэ некаторая колькасць беларусаў, і ўдалося атрымаць памяшканне для беларускіх праваслаўных багаслужбаў. Дый навука не расчароўвала: лекцыі фізікі чытаў дырэктар Фізічнага інстытута ў Цюбінгене прафесар Вальтэр Косель, а хімію выкладаў знакаміты нямецкі навуковец, будучы лаўрэат Нобелеўскай прэміі па хіміі (1979) Георг Віціг.

Моцны ўдар па магчымасцях навучання для беларусаў у Цюбінгене зрабіла грашовая рэформа, якая адбылася ў Нямеччыне напрыканцы чэрвеня 1948 года, калі рэйхсмаркі былі замененыя на нямецкія маркі. Пасля лета Галіна Ганчарэнка, Вольга Харытончык і Зора Савёнак вырашылі не вяртацца ва ўніверсітэт, бо на ўтрыманне проста не было грошай. Вітаўт застаўся ў Цюбінгене да красавіка 1949 года, калі спадзяваўся здаць пасля двух семестраў навучання важныя




Студэнцкае пасведчанне Вітаўта Кіпеля з Цюбінгенскага ўніверсітэта. 1948 г.

[30] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 179.

іспыты па фізіцы і хіміі і перавесціся на хімічны або геалагічны факультэт. Аднак высветлілася, што гэтыя кірункі пакуль універсітэт аднаўляць не плануе, а заставацца на медыцыне з перспектывай стаць лекарам Вітаўт Кіпель не хацеў. У гэты ж час ён атрымаў пацвярджэнне, што ёсць месцы для беларусаў у Лювенскім універсітэце ў Бельгіі і вырашыў тэрмінова скіравацца туды, тым больш што там можна было вывучаць так жаданую геалогію.



Вітаўт Кіпель — скаўт. 1948 г.

Так падышоў да канца нямецкі перыяд жыцця Вітаўта Кіпеля. Перад выездам у Бельгію ён заехаў у беларускі лагер у Бакнангу, да якога быў прыпісаны, каб развітацца з бацькамі і сябрамі. Скаўты ж зладзілі яму сапраўдныя «праводзіны»:

*«Разьвітаньне было ў скаўцкім стылі: вогнішча, мастацкая частка, успаміны — вясёлыя гісторыйкі. Мне падаравалі вышыты скаўцкі гальштук, Пеляса недзе купіў скаўцкі капялюш, падаравалі мне таксама ўсе скаўцкія часапісы, якія да таго часу былі надрукаваныя. Было вельмі цёплае, шчырае разьвітаньне — сапраўды, з гэтай грамадой я правёў разам апошнія чатыры гады — 1945–1949. Зь некаторымі зь іх я сустрэўся пазьней у ЗША, а зь некаторымі мы рассталіся назаўсёды»*[31].

## Лювен

Напрыканцы чэрвеня 1949 года Вітаўт Кіпель прыбыў у Лювен, знайшоў дом, дзе жылі беларускія студэнты і амаль адразу атрымаў магчымасць далучыцца да грамадскага жыцця бельгійскіх суродзічаў. Ужо праз пару дзён ён разам з былым старшынёй Саюза беларусаў Бельгіі (СББ) Уладзіславам Рыжым-Рыскім пачаў ездзіць па розных шахцёрскіх пасёлках краіны, дзе існавалі беларускія суполкі. Перамяшчаліся пераважна аўтаспынам, што дазваляла Вітаўт Кіпелю і падцягнуць французскую мову, і добра пазнаёміцца з новай краінай. Брусель, Шарлеруа, Монс, Льеж, Лімбург — паўсюль можна было знайсці беларусаў. Паездкі занялі некалькі тыдняў, і будучы студэнт, а таксама будучы заступнік старшыні СББ скарыстаў з магчымасці атрымаць веды пра асяродкі бельгійскіх беларусаў ды завесці неабходныя кантакты.

Рэшту летняга часу да пачатку навучання Вітаўт Кіпель працаваў, каб забяспечыць сваё матэрыяльнае становішча, на адной бельгійскай ферме ў ваколіцах Льежа. Трэба было і кароў даіць, і з трактарам навучыцца даваць рады. Шмат чаго новага даводзілася асвойваць студэнту дзеля грашовага заробку. Гэтая практыка працягнулася і потым падчас навучальнага года: як толькі з'яўляўся нейкі вольны час, яго карысталі найперш для падпрацоўкі — грошай ніколі не было багата.

Ад верасня 1949 года Вітаўт Кіпель пачаў вучыцца ў Лювенскім каталіцкім універсітэце. Гэткая магчымасць у некалькіх дзясяткаў маладых беларусаў з'явілася ў 1949 годзе дзякуючы намаганням моладзевага лідара Барыса Рагулі, прэзідэнта

[31] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 183.



Рады БНР Міколы Абрамчыка, а таксама бельгійскага святара айца Роберта ван Кавэлярта, які ўзяў на сябе апеку над справамі беларускіх студэнтаў[32].

Атрыманне вышэйшай асветы было галоўнай задачай, таму асноўны час у Лювене ў маладых беларусаў забірала навучанне.

*«Лекцыі пачыналіся а 8-й гадзіне раніцы. Ад 12-й да 2-й — перапынак, а па абедзе ад 2-й да 6-й — практыка. Заняткі адбываліся ў розных інстытутах — часам трэба было літаральна бегаць зь лекцыі на лекцыю. Лювэн горад стары — панад паўтары тысячы гадоў, вулачкі вузенькія, брукаваныя, крывыя. Праўда, у горадзе былі дзьве трамвайныя лініі, але для студэнтаў гэта была малая дапамога — большыня ўнівэрсытэцкіх будынкаў была па-за абсягам трамвайных маршрутаў.*

*Відавочна, першыя пару месяцаў мы былі поўнасьцю адданыя навучаньню. Трэба было азнаёміцца і з падручнікамі, і з кабінэтамі для практычных заняткаў, і зь*


Le titulaire de ce certificat N° 7933
Signature du titulaire
relevé du mandat
de l'Organisation Internationale
pour les Réfugiés
(Institution spécialisée des Nations Unies)
Son dossier à la délégation générale de l'I.R.O. en Belgique
porte le n°
Le Fonctionnaire Délégué,
25 JUIL 1951
Bruxelles, le
31, avenue des Arts. Tél. 12 01 43

Пасведчанне асобы Вітаўта Кіпеля, выдадзенае ў Бруселі. 1951 г.



Беларускія студэнты Вітаўт Кіпель, Фёдар Мазура, Алесь Марговіч. Лювен, красавік 1951 г.

[32] Гл.: Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. 2 выд. Мінск: 2006. С. 43–54.

*бібліятэкай, а ў дадатак трэба было падзубрываць мову. Мы стараліся як мага болей гутарыць па-француску, чыталі газэты, кнігі — у мяне чытаньне займала 4–5 гадзін штодня!*»[33] — згадваў Вітаўт Кіпель.

Для патрэбаў беларускіх студэнтаў намаганнямі айца Роберта быў знойдзены адмысловы дом па адрасе пляц Гувера, 8. Першапачаткова там жылі арабскія студэнты і беларусы займалі толькі адзін паверх. Але з часам і выездам арабаў ва ўласны будынак, гэты стаў цалкам беларускім. Колішні студэнт Васіль Шчэцька згадваў:

*«Першы дом беларускіх студэнтаў быў невялікі: партэр і два паверхі. Але ён быў аснаўным прыпынішчам Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня, тут жыло каля 20 студэнтаў. На партэры (уваходны паверх) была вялікая сьвятліца, дзе студэнты зьбіраліся, дзе праходзілі пробы хору ды іншыя прынагодныя зборкі. Тут студэнты сьнедалі, абедалі й вячэралі. Кухня была збоку, у двары. У падвале быў прыладжаны душ, дзе можна было памыцца»*[34].

Праз два гады беларусы атрымалі для сваіх патрэбаў іншы, значна большы будынак па адрасе пляц Гувера, 19. Паводле Барыса Рагулі:

*«Гэта быў вялікі трохпавярховы будынак з багатым уваходам, заляй і кухняй у падвале, дзе разьмяшчалася сталоўка. У гэты будынак мы перабраліся 2 кастрычніка 1951 году. Даволі вялікі новы дом даў магчымасьць амаль усім студэнтам памясьціцца разам. Усе студэнты-адзіночкі пераехалі сюды. Тут жа пасяліліся прафэсар Мікола Равенскі і айцец Робэрт»*[35].



Беларускі студэнцкі дом у Лювене. 1954 г.

Згаданы Мікола Равенскі арганізаваў у Лювене студэнцкі хор, што выступаў і як царкоўны ў часе праваслаўных богаслужэнняў, і як свецкі на розных нацыянальных і інтэрнацыянальных мерапрыемствах, рэпрэзентуючы беларусаў і Беларусь. І ўсе беларускія студэнты, хто меў голас, абавязаны былі спяваць у хоры, інакш можна было застацца без стыпендыі. Часам калектыў выбіраўся на выступы ў іншыя бельгійскія (і не толькі) гарады, дык удзельнікам даводзілася рыхтавацца да лекцый і іспытаў непасрэдна падчас паездак. Аднак ад удзелу ў хоры не адмаўляліся.

Іншым важным для Вітаўта Кіпеля грамадскім абавязкам стала ўжо згаданая дзейнасць у Саюзе беларусаў Бельгіі.

[33] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 192.
[34] Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. С. 56.
[35] Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. С. 58.





Удзельнікі Беларускага студэнцкага хору выехалі на канцэрт у Льеж. 1951 г.

Гэтая арганізацыя налічвала да 500 сябраў, мела 5 аддзелаў, дзе рэгулярна адбываліся сходы, святкаванні, сустрэчы. Цягам чатырох гадоў Вітаўт Кіпель займаў у арганізацыі пасаду намесніка старшыні і займаўся штодзённай працай на карысць сябраў СББ: забеспячэннем дапамогі работнікам у той ці іншай справе, сувяззю з аддзеламі, ладжаннем вечарынаў, сустрэчаў і г. д. Пераважна гэта была праца паза Лювенам, даводзілася багата ездзіць, на што сыходзіў не толькі вольны час, але, бывала, і лекцыйны. Аднак у Вітаўта Кіпеля быў хіба што перададзены ад бацькі імпэт да грамадскай працы, апрабаваны ўжо на скаўтынгу. Таму, аб'язджаючы беларускія асяродкі ў шахцёрскіх мястэчках Бельгіі, студэнт чуўся добра, ён быў у звыклай яму стыхіі нацыянальна карыснай працы. Янка Запруднік згадваў:

*«Вітаўт Кіпель шмат энэргіі ўлажыў у арганізацыю Саюз Беларусаў Бэльгіі. На зьезьдзе СББ у лютым 1952 г. разам з адпушчэньнем і падзякай галоўнай управе (старшыня — Янка Жытка) была выказана асабістая падзяка Кіпелю за арганізацыйную дзейнасьць»*[36].

Аднак на першым месцы ўсё роўна было навучанне:

*«На геалагічным факультэце навука працягвалася чатыры гады. Першыя два гады геалягічных прадметаў было няшмат, было больш агульных прадметаў — хімія, фізыка, батаніка, астраномія, матэматыка. Праўда, палеанталёгія, крысталаграфія і мінэралёгія пачыналіся ад другога году. Ад другога году пачыналіся для геолягаў і “палявыя выезды” — агляды клясычных шахтаў, кар'ераў. Трэба было пісаць шмат справаздачаў — на кожны палявы выезд патрабавалася справаздача — дэтальнае апісаньне геалягічнай структуры, стратыграфіі. Трэці і чацьверты гады былі прысьвечаныя выключна геалягічным дысцыплінам, іх было шмат, але найбольш было*

[36] Запруднік, Янка. Дванаццатка... С. 179.




Пасведчанне Вітаўта Кіпеля як удзельніка Саюза беларусаў Бельгіі. 1950 г.

*геахіміі. Трэба было праводзіць больш часу ў палявых выездах, трэба было шмат чытаць, асабліва па мінэралёгіі»*[37].

Умовы для навучання беларускіх студэнтаў у Лювене былі вельмі добрыя. Мелі, дзе жыць, хапала сродкаў на харчаванне і паездкі, бібліятэка была забяспечаная неабходнай навуковай літаратурай. Тыя, у каго былі, прыкладам, праблемы са здачай сесіі, маглі ўлетку правесці час у якім-небудзь манастыры, каб лепей падрыхтавацца да іспытаў.

Нягледзячы на статус каталіцкага ўніверсітэта, навучальная ўстанова ніяк не ціснула на студэнтаў, не патрабавала наведвання адпаведных богаслужэнняў. Веравызнанне было асабістай справай кожнага, на што адміністрацыя не асабліва зважала. Беларусы нават атрымалі дапамогу пры патрэбе арганізацыі праваслаўных богаслужэнняў, службы для студэнтаў адбываліся даволі рэгулярна.




Вітаўт Кіпель. Лювен, 10 траўня 1951 г.

Лювенская беларуская моладзь ад самага пачатку была пад апекай Рады БНР, Мікола Абрамчык з Барысам Рагулем адмыслова ездзілі ў Ватыкан для атрымання стыпендый, час ад часу прэзідэнт БНР адведваў беларускіх лювенцаў, ладзіліся спатканні, лекцыі. Агулам студэнты стараліся трымацца па-за палітыкай, хоць яна перыядычна нагадвала пра сябе. На пачатку 1950-х пачаліся актыўныя кантакты беларусаў з амерыканскімі спецслужбамі, некаторыя хлопцы пагадзіліся прайсці адмысловую падрыхтоўку, каб быць скіраванымі для ажыццяўлення нелегальнай працы ў Савецкай Беларусі. Сярод знаёмых Вітаўта Кіпеля такіх было двое: Цімох Вострыкаў і Міхась Кальніцкі. Асабліва блізкім сябрам быў першы:

[37] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 193.



*«Пра Вострыкава я ведаў дакладна, бо блізка з ім сябраваў. Вострыкаў, калі вырашыў ехаць, ён сказаў мне, Юрку Сенькоўскаму. Мы былі ў манастыры тады, гэта было лета 1951 года, здаецца. Ён сказаў, што кідае навуку, што ён у кантакце з некаторымі коламі і што, можа, паедзе на Беларусь. Тая гутарка была намёкамі, не наўпрост, бо безумоўна, у яго была нейкая прысяга складзеная. Потым ён на нейкі час знік, тады вярнуўся, зноў прапаў і вярнуўся. Перад адсылкай, за пару тыдняў, ён правёў з намі разам з Зорай Навагоднюю ноч 1952 года. І тады нам сказаў, што хутка адлятае. […] настрой быў такі, што чалавек прымаў рашэнні сам. Кожны ведаў, што савецкая ўлада, гэта не проста так. […] І ніхто нікога не адгаворваў. З Вострыкавым гэта абсалютна ідэйнае было. Але ні прымусу, ні адгаворак не было»*[38].

Па-за навучаннем, грамадскай працай і заробкавымі падпрацоўкамі ў лювенскіх студэнтаў небагата часу заставалася вольным. Аднак, каб яго бавіць, меліся розныя магчымасці. Асабліва папулярным стала кіно. У некалькіх лювенскіх кінатэатрах фільмы змяняліся штотыдзень. Квіткі былі недарагія, таму студэнты добра ведалі амерыканскія і французскія кінапрэм'еры. Акрамя кіно, можна было з'ездзіць у недалёкі Брусель у тэатр, схадзіць на танцы. Па-за гэтым студэнты таксама часта наведвалі бары, і не толькі каб пакаштаваць мясцовага піва, але і каб пагуляць у більярд ці гульні на аўтаматах або паглядзець па тэлевізары футбол.

У насычаным студэнцкім жыцці Вітаўта Кіпеля ў Лювене было шмат цікавостак і новага жыццёвага досведу, у тым ліку з нелегальным пераходам бельгійска-нямецкай мяжы (калі трэба было развітацца з бацькамі перад іх выездам у Амерыку), з затрыманнем як шпіёна ў часе геалагічнай працы ў адной з мясцовасцяў і інш. Аднак галоўны сэнс і змест лювенскага перыяду жыцця ўсё ж складала ідэя атрымаць прафесію геолага, стаць добрым спецыялістам.

*«На трэцім годзе зімою трэба вызначыцца з спэцыялізацыяй — ці то будзе вугаль, ці цьвёрдыя горныя пароды, ці структурная геалёгія. Я вырашыў спэцыялізавацца па здымцы вугальных басэйнаў. Мне прафэсар прынёс геалагічную карту 1897 году і кажа: вось гэты квадрат, тут столькі і столькі кілямэтраў, трэба гэта ўсё праверыць, бо цяпер робіцца вялікая здымка, пры якой удакладняюцца дэталі. І я меў на гэта паўтара года. Гэта была дыплёмная праца (licence), і яе ня трэба абараняць, а толькі прадставіць — абгрунтаваць свае дадаткі да геалягічнай карты»*[39].

Цягам шасці месяцаў Вітаўт Кіпель ездзіў у мясцовасць Буф'ю на поўдні Бельгіі, каб зрабіць неабходныя для дыпломнай працы даследаванні. За паўгода да сканчэння тэрміну зробленая карта была здадзеная навуковаму кіраўніку Эцьену Аксельбергу, праверaная і залічаная.

Навучанне на геалагічным факультэце вымагала шматлікіх паездак, геалагічных экскурсій і даследаванняў на месцах. Даволі часта, асабліва на велікодных канікулах, студэнты выбіраліся ў французскі Эльзас, часам у Альпы ці на Рэйн. Вітаўта Кіпеля захапляла рамантыка геалагічных экспедыцый. І пасля заканчэння ўніверсітэта меліся добрыя перспектывы працаўладкавання: геолагаў запрашалі ў Бельгійскае Конга, запатрабаваныя былі таксама выкладчыкі.

Недзе з другога курса Вітаўт Кіпель перыядычна атрымоўваў прапановы ад розных кампаній, каб пасля атрымання дыплома працаваць на іх, аднак ён пераважна адмаўляўся, бо большасць мелі на ўвазе наступную працу ў Афрыцы, куды

[38] «Той доўг шмат хто не сплаціў» // Новы час. № 20 (534). 26.05.2017. С. 22–23.

[39] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 193.



Вітаўт Кіпель з асістэнтам у лабараторыі мінералогіі і аналітычнай хіміі Лювенскага ўніверсітэта. 13 лютага 1954 г.



UNIVERSITÉ CATHOLIQUE DE LOUVAIN

Пасведчанне Вітаўта Кіпеля як ліцэнцыята Лювенскага ўніверсітэта. 1953 г.





Геалагічная экспедыцыя ў Вагезы. 1954 г.

ехаць вялікага жадання не было. Адзінае хіба, на што пагадзіўся Вітаўт, — падпрацоўкі для кампаніі *Shell*. Далейшая спецыялізацыя геолага-нафтавіка выглядала даволі прывабнаю, таму пасля заканчэння навучання выпускнік вырашыў паехаць у Парыж, каб паступіць у Найвышэйшы інстытут нафты. Паспяхова здаўшы экзамен, ён нават быў залічаны на навучанне, аднак у той жа час атрымаў прапанову рабіць дактарат у Лювене — мелася стыпендыя для праекта па даследаванні слюдаў. І Вітаўт Кіпель працягнуў навуковую дзейнасць у Бельгіі.

Доктарская дысертацыя патрабавала багата працы: трэба было прааналізаваць больш за 120 слюдаў, прывезеных з Афрыкі. Па 12–15 гадзінаў на дзень малады навуковец праводзіў у лабараторыі. Для некаторых аналізаў у Вітаўта Кіпеля не хапала навыкаў, і, каб навучыцца рабіць неабходнае, ён паехаў на колькітыднёвую стажыроўку ў Швецыю. Паездка выйшла вельмі ўдалай, былі не толькі набыты адпаведныя практычныя веды, але і атрыманы падарункі ад шведскіх калегаў у выглядзе шматлікай карыснай літаратуры. З усім гэтым багажом Кіпель вярнуўся ў Бельгію, каб праз некаторы час скончыць доктарскую працу.

29 кастрычніка 1955 года ў Геалагічным інстытуце Лювена адбылася абарона дысертацыі Вітаўта Кіпеля:

*«Тэза мая называлася “Les lépidolites de la pegmatite de Manono (Katanga)”. У аўдыторыі было чалавек 20: некалькі прыежджых з унівэрсытэтаў Льежу і Брусэлю, астатнія свае, лювэнскія. Я прадставіў праблему, даў аналіз працы, сказаў, што зроблена новымі дасьледчыкамі ў Канадзе і Швэцыі, і пазнаёміў са сваімі вынікамі. Мне было пастаўлена пару пытаньняў, але на ўсе пытаньні я аўтарытэтна*



Вітаўт Кіпель з асістэнтам у лабараторыі. Лювен, 13 чэрвеня 1954 г.

*адказаў. Апрача “публікі” ў залі на першай лаве (за сталом) засядаў кансыліюм — шэсьць прафэсараў зь Лювэну, якія атрымалі копію дысэртацыі месяц перад тым і якія меліся даць свой прысуд перад унівэрсытэцкімі ўладамі адносна мяне і мае працы — ці вартая гэтая праца ўзроўню доктарскае распрацоўкі. Пасьля мае прэзэнтацыі кансыліюм выйшаў у сумежны пакой на нараду, і я здорава хваляваўся, бо бывалі выпадкі, што дактарантам раілі яшчэ сёе-тое дапрацаваць!*

*Хвілін праз 15–20 кансыліюм вярнуўся ў аўдыторыю і яго старшыня прафэсар Фэлікс Кейзэн прачытаў прыблізна гэткае: “Пасьля азнаямленьня з прадстаўленай нам раней працай і пасьля праслуханьня абароны пастаўленае тэзы мы лічым, што дактаранту Вітаўту Кіпелю наш унівэрсытэт можа надаць тытул доктара навук, а праца, прароблена дактарантам, заслугоўвае адзнакі “grande distinction”. Пачуўшы гэта, я ледзь не самлеў — кансыліюм мяне віншуе, а я проста мычу. Я ведаў, што працаваў шмат і нямала зрабіў, але на адзнаку “grande distinction” я не спадзяваўся»*[40].

Вітаўт Кіпель стаў першым беларусам у Лювене, які атрымаў такую высокую ацэнку сваёй працы. Рэферат быў прыняты да друку Бельгійскай акадэміяй навук і ў 1956 годзе апублікаваны ўжо пад трыма прозвішчамі: прафесара ван Мэрша (які дапамагаў з рэнтгенаграфічным аналізам), Жака Таро (навуковага кіраўніка) і ўласна Вітаўта Кіпеля.

Навуковы кіраўнік прапаноўваў новаму доктару навук застацца на кафедры ягоным асістэнтам. Іншы прафесар, Гюлентопс, прапаноўваў працу ў Марока, бельгійская нафтавая кампанія *Petrofina* давала стыпендыю ў тым самым Найвышэйшым інстытуце нафты ў Парыжы, аднак Вітаўт Кіпель не абраў для сябе нічога з гэтага. У яго былі іншыя планы і жаданні, у яго з’явілася Зора.

[40] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 222.



## Зора і пераезд у Амерыку

Бацькі, іх ідэалы, памкненні, абставіны жыцця — усё гэта, відавочна, зрабіла моцны ўплыў на лёс і характар Вітаўта Кіпеля. Але хіба што вызначальным стала з’яўленне ў ягоным жыцці Зоры Савёнак. Народжаная 1 ліпеня 1927 года ў Менску ў сям’і журналіста і педагога Лявона Савёнка і настаўніцы Апалоніі Савёнак, гэтая жанчына цягам доўгіх гадоў была не проста жонкаю, маці дзяцей Вітаўта Кіпеля, але і ягоным сапраўдным сябрам, калегам, аднадумцам, памочніцай і падтрымкаю ва ўсім, што рабілася.



Зора Савёнак. 1946 г.

Пазнаёміліся Вітаўт і Зора яшчэ ў Менску падчас нямецкай акупацыі. Іх бацькі працавалі ў «Беларускай газеце» і «Голасе вёскі», і дзеці часам бачылі адно аднаго. Дзяўчына, што заўсёды хадзіла ў форме СБМ, звяртала на сябе ўвагу. Потым яны сутыкнуліся ў той непрацяглы час, калі Вітаўт паступіў у настаўніцкую семінарыю. Аднак далей хлопец перайшоў у прагімназію, а дзяўчына засталася ў семінарыі. Тым не менш кантакты па лініі СБМ засталіся:

*«Калі я вучыўся ў прагімназіі, Зора пачала мне “трапляць на вочы”. Найперш дзеля таго, што яна хадзіла ў форме СБМ, бывала ў штабе і хадзіла дахаты на Камароўку. Раз ці два мы з штабу ішлі дахаты разам. Аб нечым гаварылі, паступова збліжаліся, але ніякай “рамантыкі” паміж намі яшчэ не было. Хутчэй за ўсё мы пачыналі адно аднаму падабацца, бо заўсёды “траплялі” ў групы ахвотнікаў нешта рабіць у штабе»*[41].

Гэта не было каханне з першага погляду. Пачуццё выспявала цягам некалькіх гадоў, але стала трывалым, на ўсё жыццё. Улетку 1944 года Вітаўт і Зора ў адным вагоне выязджалі ў Нямеччыну, а потым на нейкі час іх шляхі разышліся. Затое ў верасні 1945 года Вітаўт і Зора незалежна адно ад аднаго ў адзін дзень прыехалі ў Беларускі камітэт у Рэгенсбургу. Неўзабаве пачалося навучанне ў адным класе ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, агульнае зацікаўленне скаўтынгам. Разам яны атрымалі атэстаты і паехалі паступаць у Цюбінгенскі ўніверсітэт. Ужо ў Нямеччыне яны сталі выяўляць сімпатыі адно да аднаго, бавіць час разам, рабіць першыя супольныя здымкі. Але найбольш зблізіліся, сталі параю ўжо ў Бельгіі.

Студэнты хімічнага факультэта, дзе вучылася Зора, і геалагічнага Вітаўтавага мелі частку супольных лекцый, што спрыяла збліжэнню. Таксама былі супольныя паходы ў кіно, паездкі ў Брусель у тэатр. І хоць навучанне стаяла на першым месцы, недзе на трэцім курсе ўніверсітэта Зора і Вітаўт вырашылі ажаніцца. На перашкодзе сталі бацькі нявесты, якія ўмовай благаслаўлення шлюбу вызначылі заканчэнне ўніверсітэта і прыезд у ЗША. Але пакуль яшчэ не скончанае было навучанне, маладыя зладзілі заручыны:

*«Зора дамовілася з Васілём Шчэцькам — яе партнэрам у народных танцах — каб ён быў сватам. Васіль добра ведаў народныя звычаі і да справы падышоў сур’ёзна.*

[41] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 128.



Вітаўт і Зора ў Гарміш-Партэнкірхене. 15 чэрвеня 1947 г.



Зора і Вітаўт. Гент, 1951 г.

*Ён недзе “адкапаў” у беларускіх работнікаў рушнікі, падабраў адпаведныя крэслы, пасадзіў нас на тыя крэслы, зьвязаў нам рушнікам рукі ды пачаў сьпяваць заручальныя песьні, у якіх яму падпяваў маленькі хорык. Сьпяваліся песьні і гаварыліся мудрасьці. Быў каравай і фармальная заручальная гулянка. Былі свае і госьці студэнты, асабліва Зора хацела, каб былі сяброўкі латышкі з Латгаліі, якія гаварылі па-беларуску. Заручыны нашыя адбыліся ў 1952 годзе, і мы былі вельмі радыя гэтай падзеі. Зора бачыла ў гэтым беларускую традыцыйнасьць, а яна традыцыі абагаўляла»*[42].

Калі ж увосень 1955 года і Зора, і Вітаўт атрымалі свае дыпломы, пытанне далейшага сумеснага жыцця стала першачарговым. Нягледзячы на тое што абое мелі добрыя перспектывы працы ў Бельгіі, вырашылі ўсё ж перабірацца бліжэй да бацькоў. Зора з’ехала ў ЗША на некалькі тыдняў раней, а Вітаўту да-

[42] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 231.



вялося вырашаць праблемы з выязднымі дакументамі. Ён атрымаў дапамогу ад Талстоўскага фонду і сеў у самалёт у Нью-Ёрк 21 снежня 1955 года.

Найперш Вітаўт прыехаў да бацькоў у Пасейк. На той час у гэтым горадзе быў даволі актыўны беларускі (БЦРаўскі) асяродак: дзейнічала беларуская праваслаўная царква з настаяцелем айцом Міколам Сцяпанавым, былі некалькі грамадскіх арганізацый, беларуская школка, ладзіліся вечарыны і сходы. Старэйшыя Кіпелі мелі ў Пасейку невялікую кватэрку, дзе першапачаткова пасяліўся і Вітаўт.

Вырашыўшы першыя побытавыя справы, малады чалавек паехаў на пошукі Зоры. Ён меў адрас Савёнкаў у невялікім нью-джэрсійскім мястэчку Памона і скіраваўся туды:

*«На даезд пайшло шмат часу, але ўрэшце я дабраўся! Зора, убачыўшы, як я іду пад іхнюю хату, расплакалася.*

*Сустрэча з Савёнкамі была вельмі цёплая, свойская — найбольш хіба гутарылася пра грамадзкія справы, але тады я заявіў, што хачу ажаніцца з Зорай. Запярэчана не было — яны згадзіліся»*[43].

Старэйшыя Кіпелі і Савёнкі належалі да розных палітычных плыняў беларускай эміграцыі і розных цэркваў. Аднак гэта не стала на перашкодзе шлюбу дзяцей. 25 лютага 1956 года ў праваслаўнай царкве ў Пасейку Вітаўта і Зору Кіпеляў абвянчаў айцец Мікалай Лапіцкі. Вяселле ладзілася паводле амерыканскага звычаю: прыгожа, з аркестрам і вялікай колькасцю гасцей (каля 150 чалавек). Праўда, запрашалі бацькі, бо маладыя ў ЗША яшчэ мала каго ведалі. На вяселлі беларускія песні спявала былая акторка Менскага гарадскога тэатра Лідзія Янушкевіч, прачулую прамову сказаў былы дырэктар Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне Аляксандр Орса. Прыгожы падарунак — настольны гадзіннік — даслала Кіпелям іншая іх выкладчыца ў гімназіі, паэтка Наталля Арсеннева. Былі на імпрэзе і былыя аднакласнікі-аднакурснікі маладых Галіна Ганчарэнка, Ніна Палянская, Кастусь Вайцяхоўскі, якія прыехалі ў ЗША значна раней[44].



Вясельны здымак Зоры і Вітаўта Кіпеляў. 1956 г.

Гэтак паўстала новая беларуская сям’я. Зора і Вітаўт былі розныя паводле характараў і тэмпераментаў, своеасаблівыя «барышня і хуліган». Стрыманая спакойная Зора ўраўнаважвала эмацыйнага, кіпучага Вітаўта. Але было ў іх хіба найважнейшае — агульнае ўсведамленне неабходнасці працаваць на ніве беларушчыны. Безумоўна, у кожнага з іх былі свае інтарэсы, зацікаўленасці, але

[43] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 228.

[44] Гл.: Зора Кіпель. Мінск, 2019. С. 35–36.

ў разуменні важнасці грамадскай беларускай працы яны мелі адзінства ад самага пачатку.

Пачатак амерыканскага жыцця Кіпеляў выдаўся складаны: трэба было як мага хутчэй знайсці працу. Справа аказалася няпростай. Запрашэнне для Вітаўта ад прафесара Калумбійскага ўніверсітэта Мэйсана, на якое ён вельмі спадзяваўся, не дапамагло, бо на той час прафесар перайшоў у іншую ўстанову і паспрыяць з працаўладкаваннем не мог.

Вітаўт Кіпель згадваў:

*«Я рассылаў дзесяткі рэзюмэ, абыходзіў сотні кампаніяў у Нью-Ёрку — браў тэлефонную кнігу, шукаў, што падыходзіць, і йшоў туды. Мы мамэнтальна зразумелі, што аснова для таго, каб стаць на ногі ў Амэрыцы, — гэта праца. Былі прапановы працы, але таксама адразу ставілася пытаньне, ці маем мы амэрыканскае грамадзянства. Гэта было першай перашкодай, каб атрымаць працу геоляга — трэба было быць амэрыканскім грамадзянінам, і я з гэтым доўга меў цяжкасьць»*[45].

Паводле бельгійскіх законаў, Вітаўт Кіпель меў статус «апатрыда», а ў амерыканскім заканадаўстве такога паняцця не было, а мела значэнне апошняе наяўнае ў чалавека грамадзянства. У Вітаўта яно было савецкае, з такім статусам ён належаў да катэгорыі *«unfriendly aliens»* — «непрыязныя чужынцы» — і не мог займаць ніякія дзяржаўныя пасады. Трэба было шукаць працу выключна ў недзяржаўным сектары, дый гэта было складана, насцярожанасць панавала паўсюль. Пошукі першага сталага месца занялі больш за паўгода.

З рэкамендацыяй ад свайго бельгійскага навуковага кіраўніка Вітаўт Кіпель звярнуўся да прафесара Універсітэта імя Джона Хопкінса ў Балтымары Джозэфа Данэя, які загадваў кафедрай крышталяграфіі і неарганічнай хіміі. Той прапанаваў месца асістэнта на кафедры геахіміі. Грошы былі невялікія, аднак лепшай працы ў галіне геалогіі да верасня 1956 года знайсці не ўдалося. Таму пад восень маладая сям'я Кіпеляў перабралася з Пасейка, дзе жылі пасля вяселля пры бацьках Вітаўта, у Балтымар, штат Мэрыленд.



Вітаўт Кіпель з дзецьмі. Пачатак 1960-х гг.

Увосень 1956 года Вітаўт Кіпель распачаў сваю першую сталую працу ў ЗША — асістэнтам прафесара Арона Уотэрса ва Універсітэце імя Джона Хопкінса. Праца палягала ў тым, каб рыхтаваць розныя пароды для лекцый, правяраць мікраскопы, дапамагаць студэнтам. Займала гэта багата часу, а з плюсаў давала магчымасць бясплатна наведваць лекцыі па тых прадметах, якія Вітаўт раней не меў у Лювене. Аднак доктарскую ступень Кіпель ужо меў, таму выгоды бясплатных лекцый пры нізкім заробку для яго, чалавека цяпер сямейнага, не былі асабліва актуальныя. Трымала хіба што надзея на рэалізацыю планаў кіраўніцтва па стварэнні эксперыментальнай геахімічнай лабараторыі.

[45] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 233.



Працу ў тым жа ўніверсітэце знайшла і Зора, якая дапамагала прафесару Данэю ў крышталеграфічнай лабараторыі ў яго працы над даведнікам па ідэнтыфікацыі крышталяў паводле аптычных і рэнтгенаметрычных параметраў. Даведнік *«Crystal Data: determinative tables»* выйшаў значна пазней, у 1963 годзе, але дапамога Зоры, як і Вітаўта Кіпеля, там была адзначана.

Дэкларацыя аб намеры Вітаўта Кіпеля атрымаць грамадзянства ЗША. 1958 г.

Кіпелі жылі ў Балтымары цягам амаль трох гадоў. Тут у студзені 1957 года нарадзілася дачка Алеся. Але асістэнцкая праца, разлічаная пераважна на падпрацоўку студэнтаў, не давала магчымасці належна забяспечваць сям'ю і не адпавядала амбіцыям дыпламаваных спецыялістаў. Таму ў 1958 годзе Кіпелі вырашылі развітацца з універсітэтам і горадам. У чэрвені Зора перабралася да бацькоў на ферму ў Памону, тут было лягчэй даваць рады і з нованароджаным 28 верасня 1958 года сынам Юркам. Дапамога бацькоў у гэты час вельмі прыдалася. Вітаўт жа працягваў пошукі больш перспектыўнай працы.

Нягледзячы на тое што не ўсе мары і планы, звязаныя з пераездам у ЗША, рэалізаваліся, першыя гады сумеснага жыцця Кіпелі ацэньвалі даволі станоўча:

*«Гэта быў наш з Зорай пачатковы пэрыяд амэрыканскага этапу жыцьця. Быў ён аптымістычны, поўны спадзяваньняў і цьвёрдай перакананасьці — мы самыя, сваімі сіламі, верай, дасьведчаньнем павінны будаваць сваю будучыню»*[46].

## Бібліятэка

Цягам колькіх гадоў Вітаўт Кіпель упарта шукаў працу ў галіне геалогіі ў Нью-Ёрку, Нью-Джэрсі, Канектыкуце ці Пенсільваніі. Аднак на перашкодзе стаяла ўся тая ж адсутнасць амерыканскага грамадзянства і падазронае стаўленне да эмігрантаў з-пад Саветаў. З'яўляліся розныя часовыя падпрацоўкі: то пераклады ў Амерыканскім інстытуце нафты, то аналіз буравых шурфоў у *NJ Zink*, то вывучэнне ўтрымання мінералу рутылу ў пясках Нью-Джэрсі, то пераклады для

[46] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 238.

ААН і інш. Маючы найбольшыя надзеі на горад Нью-Ёрк, Кіпелі знялі кватэрку ў недалёкім Уолінгтане.

Акрамя геалогіі Вітаўта Кіпеля цікавіла беларусіка: беларускія кнігі, газеты, часопісы:

*«Як бы там ні было, але пры пошуках працы прыходзілі ўсякія думкі. Калі настрой быў зусім прыбіты і жыцьцё здавалася беспрасьветным, сапраўднай аддушнай было пабыць пару гадзін у бібліятэцы на рагу 42-й вуліцы і 5-га авэню, куды я заходзіў пасьля дзённых працашукальных паходаў і сустрэчаў пачытаць часапісы, газэты, папытацца ў працаўнікоў пра новыя кнігі. На той час гэтая бібліятэка была бадай ці не адзінай, дзе выпісвалася з тузін газэтаў і часапісаў з БССР, атрымоўваліся амаль усе эміграцкія беларускія выданьні, а ў навуковым аддзеле я мог азнаёміцца літаральна з усёй геалягічнай літаратурай сьвету. Па ўсіх маіх (і ня толькі!) стандартах гэта было выдатнае месца. Прычым, каб атрымаць літаратуру, не было ніякіх бюракратычных фармальнасьцяў. Запоўні цэтлік — і за 10–15 хвілін часапіс у цябе ў руках»*[47].

Менавіта ў гэтым месцы — Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы — і знайшла Вітаўта Кіпеля праца на бліжэйшую чвэрць стагоддзя. Аднойчы ў 1959 годзе тут ён пазнаёміўся з супрацоўнікам славянскага аддзела кіргізам Кудайбергенам Куджамбердыевым, які падчас вайны быў у Беларусі. Новы знаёмы папрасіў Вітаўта цягам некалькі месяцаў замяніць яго на працы. Вынікам стала знаёмства з намеснікам загадчыка славянскага аддзела доктарам Рычардам Ляванскім, часовая праца і наступнае знаёмства з загадчыкам навуковага аддзела Джорджам Бонамды прапанова месца пад кіраўніцтвам апошняга. Што праўда, умовай працы ў навуковым аддзеле было адначасовае навучанне на бібліятэчным факультэце — атрыманне яшчэ адной вышэйшай адукацыі.


RUTGERS - THE STATE UNIVERSITY
NEW BRUNSWICK, NEW JERSEY

This is to certify that

Vitaut Kipel

has completed the requirements for the degree of

Master of Library Service

in Rutgers - The State University and is entitled to use this designation.

At the next annual Commencement, the appropriate diploma, bearing the date of this certificate, will be issued.

GIVEN AT NEW BRUNSWICK, NEW JERSEY,
UNDER THE SEAL OF RUTGERS - THE STATE
UNIVERSITY THIS FIRST DAY
OF OCTOBER ONE THOUSAND
NINE HUNDRED AND SIXTY TWO

University Registrar

Дыплом Вітаўта Кіпеля як магістра бібліятэчных навук, выдадзены ў Ратгерскім універсітэце. 1962 г.

Так у 1960 годзе Вітаўт Кіпель распачаў працаваць у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы на пасадзе *technical assistant 3*, адначасова паступіў у Ратгерскі ўніверсітэт па новай спецыяльнасці, але і надалей працягваў пошукі ўладкавання ў галіне геалогіі. Спачатку новы супрацоўнік пазнаёміўся з геалагічнай літаратурай, вызначыў тое, што яшчэ не было закаталагізаванае, стаў асвойвацца з інфармацыйнай працай — дачыненнямі з чытацкай публікай. Па суботах ён найчасцей працаваў з беларускай калекцыяй у славянскім аддзеле, зразумеў, што яе трэба сур'ёзна папаўняць, і напісаў адмысловую справаздачу-інфармацыю пра неабходнасць наладжвання кнігаабмену з БССР.

[47] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 241.



У 1962 годзе Вітаўт Кіпель нарэшце стаў амерыканскім грамадзянінам і зрабіў новую спробу пашукаць працу праз геалагічную службу. Аднак адказ быў, што трэба яшчэ пачакаць, і спецыяліст прыняў рашэнне застацца ў новай прафесіі.

1 кастрычніка 1962 года Вітаўт Кіпель атрымаў дыплом як *«Master of Library Service»* Ратгерскага ўніверсітэта, і ў яго з'явіліся ўсе падставы быць прынятым на працу бібліятэкарам у навуковым аддзеле Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі. Прычым ён атрымаў адразу трэці разрад бібліятэкара ў бібліятэчнай кваліфікацыі, да чаго ў звычайных выпадках трэба было працаваць цягам гадоў шасці. Але Кіпель меў доктарскую навуковую ступень і друкаваныя працы, атрымаў неабходную бібліятэчную адукацыю, валодаў некалькімі мовамі, зрабіў некалькі справаздачаў пра стан навуковай калекцыі — гэта давала права на больш высокі разрад і, адпаведна, заробак.

Цягам наступных дзесяцігоддзяў Нью-Ёркская публічная бібліятэка, адна з найбуйнейшых у свеце, стала для Вітаўта Кіпеля другім домам. У разбудову і каталагізацыю навуковай і беларускай калекцый было ўкладзена багата часу і працы. У навуковым аддзеле (адным з найбольшых у бібліятэцы) працавалі з дзясятак бібліятэкараў, а таксама асістэнты і так званыя пажы (найніжэйшая пасада). У кнігасховішчы тут было блізу 800 000–850 000 кніг і 2 000 000 тамоў перыёдыкі. Тут разбудоўваліся кніжныя калекцыі дакладных і тэхнічных навук, інжынерных дысцыплін, гісторыі навукі і тэхнікі. Штодня аддзел абслугоўваў па 200–300 наведнікаў, большасць з якіх звярталіся наўпрост да дзяжурных бібліятэкараў. Акрамя таго, тут выдаваўся штомесячны бюлетэнь *«New Technical Books»*, за напаўненне якога анатацыямі новых выданняў адказвалі супрацоўнікі.

Вітаўт Кіпель згадвае:



Вітаўт Кіпель (другі справа) з украінскімі сябрамі ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. 1969 г.

*«Мая праца ў Навуковым аддзеле пачалася з упарадкаваньня каля 100 000 тамоў геалягічных кнігазбораў (паводле колькасьці тэмаў — найбольшыя ў аддзеле) і з таго, што на прафэсійным жаргоне называецца “бібліяграфічны кантроль” усяе навуковае літаратуры СССР і Польшчы на прадмет замаўленьня новае літаратуры, а таксама з упарадкаваньня “прагалаў” у літаратуры савецкага блёку. Адначасна я мусіў прайсьці трэнінг даведачна-інфармацыйнай працы, каб умець карыстацца (ведаць, што пакрываецца) каля 80-цю рэфэратыўнымі часапісамі, такімі, як Chemical Abstracts, Engineering Index, а таксама 700–1000 стандартнымі інжынэрна-навуковымі даведнікамі. Відавочна, напачатку вучыцца было чаму, але найбольш мяне “ўсхвалявала” адказнасьць за літаратуру з Савецкага Саюзу, бо попыт на яе быў і адгаворак не магло быць ніякіх.*

*Мушу прызнацца, што першых пару гадоў я працаваў, як вол. Не парываў я кантактаў і з геалёгіяй. Працуючы практычна з геалягічнай літаратурай усяго сьвету, я пачаў рэкамэндаваць для агляду літаратуру ў Chemical Abstracts, Engineering Index, зрабіў пару перакладаў у International Geology Review ды пачаў стала супрацоўнічаць з часапісам Economic Geology, Chicago. Таксама я пачаў неўзабаве сябраваць з прафэсарамі нью-ёркскіх коледжаў і ўнівэрсытэтаў, ведаў зацікаўленьні геалягічных факультэтаў, што дапамагала ў працы. Праз гады два-тры я цьвёрда стаў на ногі, што давала магчымасьць бываць і на бібліятэкарскіх канфэрэнцыях — к таму часу я быў сябрам Амэрыканскага геалягічнага таварыства, Таварыства геолягаў Бэльгіі, Таварыстваў спэцыялістаў бібліятэкараў, Асацыяцыі дасьледнікаў славяназнаўства»*[48].

Дзякуючы нарэшце сталаму прыбытку (тым больш што і Зора неўзабаве закончыла бібліятэчны факультэт і пачала працаваць у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы) Кіпелі змаглі праз некаторы час набыць уласны дом. Двухкватэрны трохпавярховік у недалёкім ад Нью-Ёрку Радэрфордзе стаў на доўгія гады гасцінным прытулкам не толькі для сем’яў старэйшых (на першым паверсе жылі Яўхім і Марыя) і малодшых Кіпеляў, але і для шматлікіх гасцей з розных краінаў. А ў падвале цягам амаль дзесяцігоддзя трымаў друкарню «Пагоня» Юрка Станкевіч.

Праца ў бібліятэцы патрабавала нямала сілаў і часу. І гэта прынесла своеасаблівы плён у выглядзе службовага павышэння. Ад пачатку 1965 года, калі загадчык навуковага аддзела Джордж Бон перайшоў на іншую працу, Вітаўт Кіпель, які яшчэ не быў гатовы браць на сябе цалкам кіраўніцтва, атрымаў пасаду намесніка. Абавязкі яго істотна пашырыліся: трэба было размяркоўваць працу паміж бібліятэкарамі, складаць расклад даведачнага стала, планаваць загружанасць аддзела перыёдыкі. Акрамя таго, даводзілася рэгулярна наведваць прамысловыя кампаніі, знаёміцца з іх бібліятэкамі, калекцыямі патэнтаў. Але ці не галоўны новы абавязак — найманне на працу бібліятэкараў і тэхнічных супрацоўнікаў для аддзела. Вітаўту Кіпелю давялося вучыцца адміністрацыйна-бюракратычнай і менеджарскай кухні. Ва ўсім гэтым было багата цікавых момантаў, асабліва ў працы з чытачамі, сярод якіх былі вельмі неардынарныя, як, прыкладам, складальнік даведніка для тых, хто хоча красці ў крамах. Запамінальныя былі і прэтэндэнты на пасаду бібліятэкара. Адзін з іх, Брус Слуцкі, нашчадак яўрэяў са Слуцка, у часе інтэрв’ю ледзь не лекцыю прачытаў Вітаўту Кіпелю пра Беларусь.

Але найцікавейшыя спатканні бібліятэка давала з беларусамі — як эмігрантамі, гэтак і з БССР. Суродзічы з Нью-Ёрка і ваколіцаў бывалі ў славянскім аддзеле рэгулярна, асабліва Вітаўт Тумаш. Прыходзілі Янка Запруднік, Антон Адамовіч,

[48] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 250.





Вітаўт Тумаш, Вітаўт Кіпель і Антон Шукелойць у славянскім аддзеле Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі

Антон Шукелойць і шмат іншых сяброў і добрых знаёмых. Завязаліся кантакты і з іншанацыянальнымі даследчыкамі беларусікі: Патрыцыяй Грымстэд-Кенэды, Юрыем Шавялёвым, Саламонам Шварцам, Полам Векслерам, Барысам Унбегаўнам, Шчэпанам Зымерам, Майклам Урбанам і іншымі. Найбольш запамінальнымі былі сустрэчы з землякамі з БССР. Адным з першых было знаёмства з намеснікам (а пазней міністрам) культуры Міхаілам Мінковічам, які прыязджаў у Нью-Ёрк у складзе беларускай дэлегацыі ў ААН. Дзякуючы гэтаму знаёмству бібліятэка атрымала вялікую скрыню неабходных беларускіх матэрыялаў, у тым ліку гадавікі «Летапісу друку БССР».

Цёпла згадваў Вітаўт Кіпель спатканні з Пятром Глебкам у 1962–1963 гадах. Глебка шукаў кантактаў са сваім ранейшым сябрам Антонам Адамовічам, і праз Кіпеля гэта ўдалося арганізаваць. Таксама пісьменнік цікавіўся эміграцыйнымі выданнямі і вельмі хацеў іх вывезці ў Беларусь. Кнігі для яго былі сабраныя, аднак прадстаўнікі «кампетэнтных органаў» канфіскавалі іх на ўваходзе ў беларускую місію і не вярнулі. Толькі з другой спробы пісьменніку ўдалося звезці жаданыя выданні. Сярод іншага для Глебкі на ягоную просьбу купілі таксама 1000 метраў лёскі, 1000 шарыкавых ручак, а Антон Адамовіч набыў велізарны альбом Пікаса за 420 даляраў.

Цікавыя былі спатканні і з іншымі пісьменнікамі: Іванам Чыгрынавым, Вячаславам Адамчыкам, Алесем Адамовічам, Рыгорам Барадуліным. Асабліва цесныя сяброўскія сувязі пазней завязаліся з Генадзем Бураўкіным:

*«Знаёмства пачалося не так, як усе іншыя. Я працаваў у бібліятэцы і звычайна ў перыяд, калі адбывалася Генеральная Асамблея Аб’еднаных Нацыяў, ведаў, што могуць прыйсці да мяне дэлегацыі БССРаўскія: ці пісьменнікі, ці літаратары. А тут прыйшоў чалавек сам адзін, я быў на інфармацыйным стале ў бібліятэцы. Кінуў вокам: чалавек у бэрэце, досыць высакаваты. І я адразу пазнаў, што гэта Бураўкін.*

*Ніколі яго не бачыў, але з літаратуры ведаў, з кніжак. Безумоўна, часам мы пасмейваліся над “Хто думае пра Беларусь” гэтым ягоным, жартавалі вельмі часта. Але во бачу — Генадзь Бураўкін. Ён падышоў і таксама кажа: “Я вас пазнаю. А я Бураўкін”. Я кажу: “Я таксама Вас ведаю”. Вось так і пачалося знаёмства. Дамовіліся мы праз дзень ці праз два сустрэцца, калі ён прыйдзе. Бураўкін прынёс падарунак — “Сымона-музыку” такога, з ільна зробленага, і яшчэ пару кніжачак. І мы пайшлі на абед, і Зора з намі пайшла. І з першага разу неяк у нас тон даверлівы склаўся. Ён распытваўся, што мы новага друкуем. Яго цікавіла, ці што будзе новае літаратурнае Адамовічава. Вельмі ён Антона Адамовіча хацеў. Я сказаў, што апрача “Супрацiву саветызацыі...” у нас нічога няма. Але Адамовіч ужо стары, то магчыма нешта яшчэ будзе. Вось так і гутарым. Пытаюсь: “А якія ў вас планы?” Вот тады ён мне і кажа, што ён рэдактар “Маладосці” і наклад дайшоў да 10 тысячаў асобнікаў. “А я давяду да 25 тысячаў!” — на такой узнёслай ноце сказаў. Ну і так знаёмства пачалося. [...]*

*Пару разоў, як ён пабыў на Асамблеі, а тады паехаў у Менск, дык прыслаў нам у бібліятэку недастаючыя нумары “Маладосці”, бо ў нас прагалы былі. А потым ён ужо прыехаў як прадстаўнік Беларусі ў Аб’еднаных Нацыях. Гэта было вялікае спатканне: я, Запруднік, Зора, мы на абед пайшлі, расцалаваліся. Гэта быў, здаецца 1992 год, ужо пачыналася забыццё СССР і адраджэнне новае. У нас былі такія вельмі сяброўскія гутаркі»*[49].


THE UNIVERSITY OF THE STATE OF NEW YORK

EDUCATION DEPARTMENT

Public Librarian's Professional Certificate

Vitaut Kipel

having fulfilled the requirements prescribed by the Regulations of the Commissioner of Education, is hereby granted a Public Librarian's Professional Certificate.

In Witness Whereof, the State Education Department grants this certificate under its seal at Albany this 7th day of December 1971

№ 6616

President of the University and Commissioner of Education

Director, Division of Library Development

Пасведчанне Вітаўта Кіпеля як прафесійнага бібліятэкара, атрыманае ў Нью-Ёркскім гарадскім універсітэце. 1971 г.

[49] Вітаўт Кіпель: «Арнамент на сцягу вельмі падабаўся эміграцыі» // Будзьма беларусамі!: https://budzma.by/news/vitaut-kipyel-part2.html?sphrase_id=97203.



Зразумела, што акрамя пісьменнікаў і іншых творчых асобаў, прыходзілі ў бібліятэку і савецкія агенты, якіх багата было пры беларускай місіі ў ААН. Часта яны ўдавалі, што «працуюць над дактаратам», прапаноўвалі «нешта перадаць сям’і ў Беларусі». Гэткія людзі з органаў лёгка распазнаваліся і асаблівай шкоды не прыносілі, зрэшты, як і прыемнасці.

Добрымі падставамі для спатканняў з цікавымі асобамі з’яўляліся выставы. Як заступнік кіраўніка навуковага аддзела Вітаўт Кіпель займаўся каардынацыяй выставачнай дзейнасці. За час яго працы было арганізавана каля сотні выставаў, на якіх рэпрэзентаваліся кнігі, дакументы. З гэтых нагодаў даводзілася даваць інтэрв’ю для радыё і тэлебачання.

*«Асабліва вялікімі былі выстаўкі “Пачаткі і заняпад Нью-Ёркскага мэтро”, “Масты Нью Ёрку”, выстаўкі прысьвечаныя Мендзялееву і Каперніку (я даваў інтэрвію і “Голасу Амэрыкі”, і “Радыё Свабода”). Варта таксама згадаць выстаўку, прысьвечаную аэранаўтыцы, дзе адным з экспанатаў была кніга Казіміра Семяновіча (дарэчы, усе пераклады Семяновіча ёсьць у Нью-Ёркскай бібліятэцы), дзе я зазначаў, што Семяновіч — беларус.*

*Адбываліся выстаўкі і ў Славянскім аддзеле, дзе працавала Зора, а я там быў дараднікам. Найбольшая выстаўка ў Славянскім аддзеле — прысьвечаная 450-годзьдзю беларускага друку — трывала блізу году, і асаблівым посьпехам карыстаўся рэклямны плякат з партрэтам Скарыны на 5-м авэню. Былі таксама выстаўкі, прысьвечаныя беларускай лацінцы, Купалу, Коласу, Літоўскаму Статуту, выстаўляліся таксама паасобныя кнігі Ніны Ватацы, Ларысы Геніюш, Уладзімера Жылкі, маладнякоўцаў і інш.»*[50].

Праца ў бібліятэцы прыносіла задавальненне, хоць з часам яе рабілася ўсё болей. У навуковы аддзел прыходзіла больш кніг, трэба было шмат ездзіць на канферэнцыі. У 1982 годзе загадчык аддзела Боб Круп трапіў пад цягнік і застаўся без ног. Вітаўту Кіпелю давялося выконваць яго абавязкі. А ў гэты час у бібліятэцы пачынаўся працэс камп’ютарызацыі, аддзел меўся пераходзіць на электроннае абслугоўванне чытачоў. І найперш працаваць на камп’ютарах мусілі навучыцца бібліятэкары. Працы дадалося яшчэ больш. Ужо ў другой палове 1982 года ў навуковым аддзеле была ўсталявана тэхніка, з дапамогай якой можна было шукаць літаратуру.

У гэты час Вітаўт Кіпель пачаў думаць, каб сысці на пенсію. Калі заставацца, трэба было цалкам аддацца засваенню і прасоўванню новых тэхналогій, а ў яго быў ужо дастатковы стаж і багата іншых зацікаўленняў, каб пакінуць працу. Гэта адбылося ў 1985 годзе.

Вітаўт не цалкам спыніў сувязі з бібліятэкай. Па-першае, там па-ранейшаму працавала Зора. Па-другое, у яго засталіся моцныя зацікаўленні ў беларусіцы, для якіх фонды бібліятэкі былі і надалей актуальныя. Акрамя таго, разам Кіпелі збіралі калекцыю беларускага і беларусаведнага друку, якую яны ўрэшце ў 1999 годзе, пасля заканчэння працы над адпаведнай бібліяграфіяй, падаравалі Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы[51]. Таксама яны заклалі ў гэтай установе Фонд беларускае кнігі — пэўную суму грошай (яна з часам павялічваецца за кошт працэнтаў), што можа быць пры патрэбе скарыстана для разбудовы беларускае калекцыі. На 2013 год фонд складаў каля 60 тысяч даляраў.

[50] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 266.

[51] Гл.: Юрэвіч, Лявон. «Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе» // Беларус. 2003. № 488.




Афіша выставы, прысвечанай 450-годдзю беларускага друку, у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. 1967–1968 гг.



Каляды ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы: Вітаўт Кіпель, Боб Спэрлінг, Лу Мінц. 1982 г.

Праз гады Вітаўт Кіпель так ацэньвае сваю працу ў бібліятэцы:

*«Бібліятэчны эпізод майго амэрыканскага пэрыяду жыцьця — бадай ці не найгалаўнейшы на маім жыцьцёвым шляху. Бясспрэчна, праца ў тым часе была і "для хлеба", і для душы, хоць пэрыяд гэты быў вельмі напружаны. Па-першае, была штодзённая адказнасьць у абслугоўваньні некалькіх сотняў падрыхтаваных чытачоў-спэцыялістаў. Я ўжо зазначаў, што абслугоўваньне чытача ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы было справай агульнаамэрыканскага маштабу: у амэрыканскім грамадзтве пануе думка, што бібліятэка на 5-м авэню мусіць для любога чытача-карыстальніка мець адказ "на ўсё". [...]*

*Ясна, што такі падыход грамадзтва да справы ствараў стрэс у працы. Зь першага вынікала другое: пасьпяховасьць інфармацыі магла быць дасягнутая толькі праз падрыхтаванасьць бібліятэкара, што сядзеў за даведачным сталом: ён мусіў ведаць рэсурсы аддзелу бібліятэкі, а гэта дасягалася падрыхтоўкай, трэнінгам, адукацыяй. І гэтая акалічнасьць "ціснула" штодзённа — месяцамі, гадамі. З стрэсам трэба было спраўляцца, што і рабілася.*

*У гэтым "бібліятэчным" пэрыядзе жыцьця расла і сталела наша сям'я. Вялікая ўвага надавалася выхаваньню дзяцей у школе і па-за школай, найбольшы цяжар тут ляжаў на Зорыных плячах, хоць даводзілася пацець і мне, "памагатаму".*

*Гэтаксама ў бібліятэчныя гады аддавалася вельмі шмат часу дасьледаваньню беларусікі: зьбіраліся матэрыялы пра беларусаў ЗША, рыхтаваліся бібліяграфіі.*

*Але ўсё гэта — праца, стрэс, выхаваньне, іншыя сямейныя клопаты — рабіла жыцьцё поўным і цікавым, і мы поўнасьцю сваім жыцьцём цешыліся»*[52].



## Радыё «Вызваленне / Свабода»

Паралельна з бібліятэчнай працай, нягледзячы на яе немалыя аб'ёмы, у Вітаўта Кіпеля цягам дзесяцігоддзяў была таксама падпрацоўка на радыё. Пачалося ўсё з некалькіх інтэрв'ю яшчэ ў 1954 годзе. Тады, неўзабаве пасля пачатку працы беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне» ў Мюнхене, трагічна загінуў адзін з яе супрацоўнікаў Леанід Карась. Ён быў сябрам Вітаўта Кіпеля, і той паехаў у Мюнхен на пахаванне, дзе даў для радыё некалькі інтэрв'ю-аповедаў пра загінулага. У наступным годзе для радыё былі зроблены колькі аповедаў пра ўдзел у канферэнцыях мюнхенскага Інстытута вывучэння СССР, пра выданні гэтай установы. Потым з'явіліся скрыпты пра падзеі беларускага жыцця ў Бельгіі, пра паездкі ў Швецыю і Данію падчас падрыхтоўкі дактарату і г. д. Што праўда, амаль да канца 1950-х супрацоўніцтва было даволі эпізадычным. Больш пастаяннай гэтая праца стала з прыездам у ЗША Янкі Запрудніка.

Са стварэннем у Нью-Ёрку адмысловага офіса беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне / Свабода» з'явілася патрэба ў сталых і пазаштатных супрацоўніках. Сярод апошніх апынуўся і Вітаўт Кіпель. Адзін вольны ад працы ў бібліятэцы дзень на тыдзень ён звычайна выкарыстоўваў для напісання скрыптаў. Праўда, калі Янка Запруднік сыходзіў у адпачынак, сябра замяняў яго і ў іншыя дні — складаючы зранку тэксты перадач на палітычныя тэмы. Офіс радыё знаходзіўся за некалькі кварталаў ад бібліятэкі, што было даволі зручна, хоць Вітаўт Кіпель і не сядзеў там цэлымі днямі, пераважна прыносіў скрыпты і начытваў іх.

Механізм працы на радыё выглядаў прыкладна так:

*«...чалавек прыносіў скрыпт. Калі надрукаваны — гэта яшчэ паўбяды. А так яго мусіла друкаваць машыністка — некалі гэта была Натальля Арсеньнева, а потым Яніна Каханоўская. Гэты скрыпт друкаваўся ў некалькіх копіях — адну табе чытаць, другую рэдактару, трэцюю глядзеў той, хто слухаў, калі гэта выходзіць у эфір. Рэдактар беларускіх скрыптаў спадар Запруднік, калі трэба, наводзіў глянец. Калі гэта хроніка — дык там асабліва нічога не было, мы мелі свае стандарты, як пісаць, па іншых скрыптах ён часам рабіў моўна-стылістычныя заўвагі. Тады вам*

---

[52] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 270.

*вызначалася пэўная гадзіна, вы йшлі ў студыю, там з вамі нехта сядзеў, хто слухаў гэты скрыпт, ну і быў інжынер, які гэта запісваў. Пасьля таго, як запіша — стужка была на такім вялікім дыску — ён хутка рабіў копію. Адну копію пакідалі сабе, а другую аддавалі — і зьбіраліся стужкі з усіх службаў — нейкі матацыкліст чакаў, каб хутка завезьці гэта ўсё на самалёт, які адлятаў у пэўную гадзіну. Прылятаў той самалёт у Мюнхэн, там, відаць, таксама на матацыкле — а можа й на веласіпедзе, ня ведаю — чакаў нехта іншы. Адным словам, спосаб перасылкі быў досыць прымітыўны, але ў выніку нашы скрыпты гучалі, як зь мюнхэнскай студыі. А друкаваліся скрыпты на такіх сініх матрыцах — за два-тры дні яны выцьвіталі, і ўжо было немагчыма нічога прачытаць. Копіі скрыптоў пакідаліся, яны зьбіраліся, бо пазьней іх часам трэба было пераглядзець, і спадар Запруднік месяцаў пару трымаў іх у сябе»*[53].

Пад псеўданімам, дакладней, колішнім матчыным прозвішчам Зубкоўскі Вітаўт напісаў для радыё тысячы скрыптаў. Найбольш пісалася пра беларускае жыццё ў ЗША: арганізацыі, святы, сходы, адзначэнне юбілеяў і г. д. Потым з'явілася серыя «Беларусы ў амерыканскім друку», у якой рабіўся агляд амерыканскіх штодзённых перыёдыкаў, «Кангрэсавых запісаў», падаваліся прамовы сенатараў, кангрэсменаў і г. д. З часам сталі рабіцца скрыпты, прысвечаныя беларусіцы ў даследчых публікацыях на Захадзе. У напісанні гэтых тэкстаў вельмі дапамагала праца ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, дзе збіраліся адпаведныя матэрыялы. Былі скрыпты, прысвечаныя розным канферэнцыям з беларускім удзелам, выставам, агляды эміграцыйных беларускіх выданняў. Таксама ішлося пра ўзаемадзеянне беларусаў з арганізацыямі іншых нацыянальнасцяў, з амерыканскімі палітыкамі.




Апошні тыдзень працы Вітаўта Кіпеля ў радыё. 1988 г.

[53] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 393–394.



Вітаўт Кіпель згадвае:

*«Значную ролю ў маіх скрыптах адыгрывалі й амэрыканскія падзеі, прыкладам, у канцы 1970-х гадоў адзначаўся юбілей (стагодзьдзе) нью-ёркскага мэтро. У часе працы з гарадзкімі архівамі я ўбачыў, што ў стварэньні сыстэмы гэтае падземнае магістралі ўдзельнічалі некалькі інжынэраў беларусаў, а калі ў 1920-х гадох мэтрапалітэн дабудоўваўся, на тых будоўлях было таксама шмат беларускіх эмігрантаў. Гэта, на мой погляд, была цікавая інфармацыя для нашага суродзіча на Бацькаўшчыне»*[54].

Агульная ідэя перадач палягала ў тым, каб даць інфармацыю, цікавую беларускаму слухачу і недаступную на Бацькаўшчыне. Да таго ж усе падзеі амерыканскія, савецкія, сусветныя аналізаваліся з беларускага гледжання, што было таксама важна.

Актыўная праца на радыё цягнулася да 1988 года. За гэты час за подпісам Вітаўта Зубкоўскага было створана больш за тры тысячы скрыптоў, якія адлюстроўвалі найперш кола ягоных уласных зацікаўленняў у беларусіцы і грамадскую дзейнасць у беларускім амерыканскім жыцці.

## Грамадска-палітычная дзейнасць

Нягледзячы на сур'ёзную занятасць ў бібліятэцы ды падпрацоўку на радыё, Вітаўт Кіпель яшчэ і актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю. Ён удзельнічаў у арганізацыях і ініцыятывах вельмі розных кірункаў, але паўсюль ці не галоўнай мэтай было расказваць пра беларусаў і Беларусь.

Адзін з важных кірункаў актыўнасці Вітаўта Кіпеля ў амерыканска-беларускай грамадзе быў звязаны з дзецьмі і моладдзю. У сям'і Зоры і Вітаўта Кіпеляў вельмі шмат увагі аддавалася рознабаковаму і найперш беларускаму выхаванню дзяцей. У гэтым дапамагалі бабулі-дзядулі, але было тое ў прыярытэтах і саміх бацькоў. Менавіта таму яны ад 1962 года штотыдня па суботах-нядзелях вазілі Алесю і Юрку ў беларускую школку пры саборы Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Больш за тое, Кіпелі ўдзельнічалі ў бацькоўскім камітэце, фінансава і арганізацыйна падтрымоўвалі дзейнасць школы[55].



Алеся і Юрка Кіпелі. Пачатак 1960-х гг.

Акрамя таго, як толькі дзеці пайшлі ў амерыканскую школу, Зора і Вітаўт Кіпелі далучыліся да Асацыяцыі бацькоў і настаўнікаў (*Parents and Teachers Association*):

*«Мэта арганізацыі — дапамагаць школьным і пазашкольным праграмам ды ствараць “лобі” — ціск на мясцовыя (і ня толькі!) улады, каб тыя дапамагалі школам. Арганізацыя вельмі шматлікая, сяброўства палягае ў тым, што плаціш складкі і... можаш выступаць на сходах. Дарэчы, што добра пастаўлена ў гэтай арганізацыі —*

[54] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 392–393.

[55] Гл.: Зора Кіпель. С. 52–53.

*месячныя сходы бацькоў і настаўнікаў. Гэты момант — сходы — нас з Зорай і прыцягнуў.*

*Ужо на першым сходзе, калі прадстаўлялі новых сяброў, нам была дадзеная магчымасьць "абвясьціць", што мы — беларусы. Гэткая заўвага надзвычай важная, важна было, каб яе пачула кіраўніцтва школы, якое заўсёды на першых сходах РТА прысутнічае. Я ўважаю, што такая заява на такім, хоць і нязначным, але важным адукацыйным форуме вельмі важная»*[56].

Калі ўдзел у Асацыяцыі бацькоў і настаўнікаў быў больш «механічны» і скончыўся з пераходам дзяцей у сярэднюю школу, то вяртанне Вітаўта Кіпеля ў скаўтынг стала больш актыўным і працяглым. Ягоны досвед удзелу ў моладзевых арганізацыях ад піянераў праз СБМ да скаўтынгу адыграў добрую ролю ў выхаванні не толькі ўласных дзяцей, але і іншай беларускай моладзі. У 1966–1976 гадах Вітаўт Кіпель быў актыўным удзельнікам арганізацыі *Boy Scouts of America*. Ён далучыўся да амерыканскай скаўцкай адзінкі *Troop 161, Tamarack Council* у Радэрфордзе, дзе Кіпелі жылі. Гэтую групу складалі 25–35 хлапцоў і Вітаўт быў на кіраўнічых пасадах, у тым ліку скаўт-майстрам і дырэктарам падрыхтоўкі скаўтмайстраў у акрузе. Ён хадзіў з імі ў паходы і карыстаў любую магчымасць, каб распавядаць амерыканскай моладзі пра Беларусь.


VITAUT KIPEL

is hereby appointed to serve as a

WOOD BADGE ASSISTANT COURSE DIRECTOR

FROM JUNE 1975 TO JUNE 1977

BOY SCOUTS OF AMERICA

Дыплом Вітаўта Кіпеля як дырэктара падрыхтоўкі скаўт-майстраў. 1975–1977 гг.

Скаўтынгам зацікавіліся і дзеці, а потым і ўнукі Вітаўта Кіпеля. А ён зрабіў спробу арганізаваць і ўласна беларускую скаўцкую адзінку ў ЗША. *Troop 225, Edison Council* была заснаваная пры царкве Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы[57]. У ёй было 25 скаўтаў — дзяцей беларускіх эмігрантаў, з якімі Вітаўт Кіпель рэгулярна рабіў сходы і хадзіў у паходы. Што праўда, ініцыятыва пратрымалася толькі паўтара года, але беларускія скаўты паспелі падарыць у музей амерыканскага скаўтынгу прыгожа зробленую ўласную эмблему-лілейку.

Акрамя ідэі беларускага скаўтынгу, з'явілася і іншая — арганізацыі летнікаў для беларускіх дзяцей на базе адпачынкавага цэнтра «Белэр-Менск». Вітаўт Кіпель уваходзіў у дырэкцыю

[56] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 343.
[57] Гл.: Кіпель, В. Сьцяг 225 // Беларус. 1973. № 195.



гэтага цэнтра і цягам трох гадоў арганізоўваў у ім (пры падтрымцы іншых беларускіх бацькоў) летнія лагеры на ўзор скаўцкіх. Дзеці па магчымасці жылі ў намётах і штодня мелі адмысловую беларускую праграму, якая ўключала спевы, танцы, маляванне, беларусаведу[58]. Праз тыя летнікі прайшлі больш як сотня дзяцей, шмат для каго гэта была адзіная магчымасць беларускага навучання.




Скаўт-майстар Вітаўт Кіпель з дружынай беларускіх скаўтаў каля Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі. 1970-я гг.

Акрамя згаданых ініцыятываў, Вітаўт Кіпель таксама часам выступаў перад моладдзю з беларусазнаўчымі лекцыямі з ініцыятывы Згуртавання беларускай моладзі ў Амерыцы ці ў Гарадскім універсітэце ў Нью-Ёрку або ў Кліўлендзе. Беларускае выхаванне не толькі ўласных дзяцей, але і іншай беларускай моладзі ў ЗША было адным з найважнейшых кірункаў грамадскай актыўнасці Кіпеля.

Іншым кірункам цікавасці і дзейнасці Вітаўта Кіпеля стаў амерыканскі рэспубліканскі рух. Дзеяч прыйшоў у яго на запрашэнне тагачаснага кіраўніка беларускіх рэспубліканскіх клубаў у ЗША Станіслава Станкевіча ў часе прэзідэнцкай кампаніі 1972 года. Адмыслова створаны на сходзе ў Кліўлендзе беларускі камітэт за пераабранне Ніксана ўзначаліў менавіта Кіпель.

[58] Гл.: Кіпель, В. Дзіцячыя лягеры ў Бэлер-Менску // Беларус. 1972. № 185.

На той час беларускія рэспубліканскія клубы дзейнічалі толькі ў Дэтройце, Чыкага і Нью-Ёрку, а задача была стварыць іх ці не ў кожным штаце. Вітаўт Кіпель узяў на працы адпачынак і каля шасці тыдняў ездзіў па розных штатах (найперш сумежных з Нью-Джэрсі). У выніку новыя беларускія рэспубліканскія клубы паўсталі больш як у дзесяці новых мясцовасцях. Сябры, якія згаджаліся ўступіць у клуб, запаўнялі невялікія анкеты, дзе пацвярджалі гатоўнасць працаваць у выбарчай кампаніі і плацілі за сяброўства сімвалічны адзін даляр. Згаданыя анкеты і грошы потым здаваліся ў Вашынгтон і залічваліся ў актыў адпаведнае нацыянальнасці. У выніку актыўнасці Вітаўта Кіпеля цягам выбарчай кампаніі ў лік беларускіх добраахвотнікаў было запісана некалькі тысяч чалавек.

Важным рэпрэзентацыйным момантам для беларусаў у выбарчай кампаніі 1972 года стала з'яўленне тысяч адмысловых жэтонаў «Беларусы за Рычарда Ніксана», якія распаўсюджваліся ў розных штатах. Аналагічныя жэтоны вырабілі і для некалькіх дзясяткаў іншых нацыянальнасцей, чые прадстаўнікі агітавалі за Ніксана. Беларусы тут засведчылі сябе як роўныя сярод роўных. Для Вітаўта Кіпеля гэта было асабліва важна, бо спрыяла пашырэнню інфармацыі пра Беларусь у ЗША.




Шматнацыянальныя значкі прэзідэнцкай кампаніі Рычарда Ніксана. 1972 г.

Выбарчая кампанія 1972 года была ўдалая не толькі для Рычарда Ніксана. Шмат ад яе выйграў і сам Вітаўт Кіпель. Не, ён не прэтэндаваў на нейкія палітычныя пасады па выніках кампаніі, але займеў багата новых важных знаёмстваў у найвышэйшых палітычных колах ЗША, яго сталі рэгулярна запрашаць у Белы Дом, Дзярждэпартамент, і паўсюль ён мог выступаць ад імя беларусаў. Вітаўт Кіпель змог нават паспрыяць наведванню Рычардам Ніксанам Менска ў часе ягонага візіту ў СССР[59].





GEORGE BUSH

September 1, 1988

Mr. Vitaut Kipiel
230 Springfield Avenue
Rutherford, New Jersey 07070

Dear Vitaut,

I am honored and delighted that you have accepted my invitation to serve as a Byelorussian American leader of the Bush-Quayle '88 Coalition of American Nationalities. It means a great deal to Barbara and me to have your active support in my bid for the Presidency.

The pride we all have in our heritage is indeed the strength of the American character. It makes us rejoice in the diversity of our country's roots and celebrate the great things that America and her people stand for. Our dedication to the values of freedom, faith and family is the great contribution to our national fabric that comes from those roots and traditions.

With the support and commitment of leaders of your caliber, I am confident I will reach America's voters this fall with my message. Together, we will reaffirm for the future the values we all hold so precious.

Sincerely,

George Bush

Ліст прэзідэнта Джорджа Буша — старэйшага да Вітаўта Кіпеля. 1988 г.

Падчас аднаго з прэзідэнцкіх прыёмаў Вітаўт Кіпель пазнаёміўся з Джорджам Бушам — старэйшым, які на той час працаваў у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і папрасіў пракансультаваць яго наконт Беларусі і прадстаўніцтва БССР у ААН. За атрыманую інфармацыю амерыканскі палітык быў вельмі ўдзячны. Кантакты Вітаўта Кіпеля з Бушам працягваліся і пазней, у тым ліку і тады, калі апошні стаў прэзідэнтам ЗША. Агулам, дзякуючы сваёй актыўнасці ў рэспубліканскай партыі Вітаўт Кіпель меў асабістыя знаёмствы з рознымі амерыканскімі прэзідэнтамі. У яго архіве захаваліся лісты, запрашэнні на мерапрыемствы, адмысловыя фотаздымкі, падпісаныя Рычардам Ніксанам, Джымі Картэрам, Джэралдам Фордам, Рональдам Рэйганам, Джорджам Бушам — старэйшым, Білам Клінтанам.

Яшчэ адным карысным кантактам са згаданае выбарчае кампаніі стала знаёмства з сенатарам Робертам Доўлам, які быў у 1970-я ці не самым уплывовым рэспубліканцам. Вынікам добрых дачыненняў Вітаўта Кіпеля з гэтым палітыкам стала адзначэнне ў 1978 годзе на самым высокім узроўні ў Вашынгтоне ў клубе *Capitol Hill* побач з будынкам Кангрэса 60-годдзя БНР (сенатар быў галоўным прамоўцам), падтрымка Доўлам справы Міхася Кукабакі і шмат іншых прыкладаў увагі і спрыяння ў дачыненні да беларусаў. А яшчэ менавіта беларусы вялі рэй на вечарыне з нагоды сыходу Роберта Доўла з пасады кіраўніка партыі ў 1979 годзе (тут іграў беларускі аркестр, беларус чытаў апошнюю малітву, а арганізоўваў усё ўласна Вітаўт Кіпель).

Пасля выбарчае кампаніі 1972 года Кіпель заставаўся актыўным у рэспубліканскім руху цягам наступнага дзесяцігоддзя. Ён уваходзіў ва ўправу Нацыянальных рэспубліканскіх клубаў у Вашынгтоне (*National Republican Heritage Groups Federation*), а таксама некалькі гадоў узначальваў Федэрацыю рэспубліканскіх клубаў штата Нью-Джэрсі. У склад апошняй уваходзілі ад 14 да 20 рэспубліканскіх

[59] Гл.: Гардзіенка, Наталля; Марціновіч, Дзяніс. Ад Ніксана да Буша. Як беларус сустракаўся з чатырма прэзідэнтамі ЗША і прывёз аднаго з іх у Мінск // TUT.BY: https://news.tut.by/culture/545111.html.



Беларуская рэспубліканская дэлегацыя на Агульнаамерыканскай рэспубліканскай канферэнцыі ў Пітсбургу: Галіна Русак, Ірына Рагалевіч, Раіса Станкевіч, Вітаўт Кіпель (стаіць), сенатар Роберт Доўл, Мінт Тцу, Васіль Мельяновіч, Далорэс Мельяновіч. 1978 г.

клубаў розных нацыянальнасцяў, трэба было бываць на розных мерапрыемствах ад імя рэспубліканцаў, каб рэпрэзентаваць партыю, а разам з тым і беларусаў.

Акрамя таго, у 1970-я гады Вітаўт Кіпель быў рэдактарам рэспубліканскай газеты нацыянальнасцяў Нью-Джэрсі «*The Heritage Review*», на старонках якой рэгулярна стала з'яўляцца інфармацыя пра беларусаў.

*«Мушу зазначыць, што газэту The Heritage Review (1971–1977) мы зрабілі нагэтульки дынамічным рэспубліканскім выданьнем, што аддзел нацыянальнасьцяў Рэспубліканскай партыі ў Вашынгтоне ("ЦК Партыі") хацеў зрабіць яе агульнаамэрыканскай рэспубліканскай газэтай нацыянальнасьцяў. Аднак, пазандаваўшы апінію ў штаце, я адмовіўся ад гэтае задумы, бо было б цяжка зьбіраць рэкляму ды паўсталі б і бюракратычна-адміністрацыйныя цяжкасьці»*[60].

Аналізуючы плён сваёй дзейнасці ў рэспубліканскай партыі, Вітаўт Кіпель напісаў:

*«Уважаю, што маё супрацоўніцтва з рэспубліканцамі было вельмі памыснае. Мы зрабілі шмат для прапаганды імя Беларусі і дзейнасьці беларусаў-амэрыканцаў. У газэце The Heritage Review падавалася шмат інфармацыі пра беларускія грамады ЗША. У Вашынгтоне Рэспубліканская партыя таксама выдавала прапагандысцкую літаратуру — календары, ілюстраваныя брашуркі, дзе адзначаліся беларускія сьвяты (25 Сакавіка, дзень Слуцкіх паўстанцаў, Дзень Каліноўскага). Вельмі важна было таксама, што рэгулярна інфармацыя пра Беларусь — асабліва дамаганьне беларускамоўных праграмаў у "Голасе Амэрыкі" — трапляла ў праграмныя дакумэнты партыі*

[60] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 365–366.



*[...]. На мой пагляд, рэспубліканцы былі больш падрыхтаваныя да падзеяў пасьля распаду СССР. Прэзыдэнт Джордж Буш прызнаў Беларусь імгненна»*[61].



Вітаўт Кіпель і губернатар Брэндан Бэрн. 1970-я гг.

Выбарчая кампанія Рычарда Ніксана справакавала і яшчэ адзін кірунак грамадскай дзейнасці Вітаўта Кіпеля — працу пры губернатары штата Нью-Джэрсі ў галіне падтрымкі нацыянальнасцяў. Спачатку дзякуючы знаёмству з губернатарам Білам Кэхілам Вітаўт Кіпель увайшоў Інтэрнацыянальны камітэт нью-джэрсійскай камісіі па адзначэнні 200-годдзя ЗША. У межах дзейнасці гэтай структуры беларус, сярод іншага, удзельнічаў у прыняцці рашэння па стварэнні Музея эміграцыі на Эліс Айланд.

Пазней, ужо пры наступніку Кэхіла, дэмакраце Брэндане Бэрне ў 1978 годзе ў Трэнтане была створана Этнічная дарадчая рада пры губернатары штата Нью-Джэрсі (*Governor's Ethnic Advisory Council*), і яе першым старшынёй быў прызначаны менавіта Вітаўт Кіпель. Гэта было вялікай нечаканасцю для прадстаўнікоў іншых, больш колькасных нацыянальнасцяў штата, прыкладам палякаў ці кубінцаў, аднак дзеяч змог паразумецца з усімі. Новая грамадская арганізацыя мелася радзіць губернатару ў пытаннях нацыянальнасцяў штата, падтрымоўваць іх культурна-грамадскія праекты.

Раз на тыдзень, вызваліўшыся ад бібліятэчнай працы, Вітаўт Кіпель ехаў у офіс рады ў Трэнтане, дзе разбіралася карэспандэнцыя, узгадняліся планы з губернатарам і аддзелам асветы.

*«У пару дзейнасці Рады, хоць мне даводзілася шмат езьдзіць і выступаць, я перажываў вельмі прыемныя часы, бо заўсёды меў магчымасьць "закінуць слова" за Беларусь. Пачынаў я свае выступы перад рознымі аўдыторыямі зь дзясяткамі, а часам і сотнямі слухачоў словамі "Я — Вітаўт Кіпель... буду гаварыць з акцэнтам, якога вы, думаю, ніколі ня чулі — з акцэнтам беларускім..." і тады казаў пару фразаў пра Беларусь. Такі ўступ заўсёды падкупляў слухачоў, і таму на сустрэчах я заўсёды чуўся вельмі добра і ўпэўнена. [...]*

*Шмат даводзілася выступаць у школах. У штаце Нью Джэрзі панад 600 школьных акругаў. Загадчыкі акругаў — школьныя супэр-дырэктары — атрымоўваюць багата інфармацыйнае літаратуры пра тое, што робіцца ў штаце. Дзейнасьць Рады прыцягвала іхную ўвагу, і таму мне даводзілася выступаць у школах з дакладамі аб этнічных справах штату. Пры гэтым заўсёды я даваў інфармацыю пра Беларусь.*

*Даводзілася выступаць і на афіцыйных штатных мерапрыемствах.*

*Мушу сказаць, што ў адрозьненьне ад іншых арганізацыяў, дзе мне давялося супрацоўнічаць, найбольш частым і часаёмкім абавязкам у Этнічнай радзе было выступаць ад імя губэрнатара на розных урачыстасьцях. За чатыры гады ў Радзе я выступаў на армянскіх, славацкіх, польскіх, ірляндзкіх урачыстасьцях, быў прадстаўніком Рады на нарадзе пуэртарыканцаў»*[62].

Плён працы Этнічнае рады быў даволі разнастайны. Сярод іншага быў запушчаны праект вуснай гісторыі — па запісе ўспамінаў эмігрантаў розных

[61] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 366.
[62] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 372–373.




Вокладка кнігі «The New Jersey Ethnic Experience» з карцінай П. Мірановіча «Беларускія эмігранты». 1979 г.

нацыянальнасцяў штата. Шмат было запісана аповедаў і беларусаў, а інтэрв’ю з мастачкай Тамарай Стагановіч-Кольбай было выдадзена кнігаю ў серыі «*New Jersey Ethnic Life Series*» (№ 10. 1986).

Дзякуючы дзейнасці рады ў школьныя праграмы ўвайшла для дадатковага чытання кніга «Этнічны досвед штата Нью-Джэрсі» («*NJ Ethnic Experience*», 1979), дзе сярод іншых нацыянальнасцяў падавалася інфармацыя і пра беларусаў, а на супервокладцы была змешчана рэпрадукцыя карціны беларускага мастака Пётры Мірановіча «Беларускія эмігранты». Таксама па лініі дзейнасці Этнічнай рады ў штаце ладзіліся канферэнцыі, распачаліся этнічныя фестывалі. Ва ўсё гэта была ўкладзена праца Вітаўта Кіпеля.

Сустрэчы з амерыканскімі палітычнымі і іншымі дзеячамі ад імя беларусаў адлюстравалі вельмі цікавую асаблівасць грамадскай пазіцыі Кіпеля. Ён заставаўся нібыта па-над палітычным расколам беларускай эміграцыі. Як сын актыўнага дзеяча БЦР Вітаўт Кіпель меў добрыя сувязі з прадстаўнікамі гэтага палітычнага кола ў беларускім асяроддзі, аднак не ўваходзіў у іх арганізацыі. І нават калі Радаслаў Астроўскі ў 1970-я гады даслаў яму паведамленне пра прысваенне па лініі БЦР звання палкоўніка, напісаў даволі рэзкі ліст з адмовай ад гэтага «гонару» і асуджэннем адпаведнай ініцыятывы[63].

Разам з тым Вітаўт Кіпель вучыўся ў «прабэнээраўскім» Лювене, меў сяброў — радных БНР, падтрымліваў БАПЦ, быў сябрам БАЗА, і прадстаўнікі адпаведнага «крывіцкага» палітычнага крыла беларускай эміграцыі актыўна супрацоўнічалі з ім. Больш за тое, яго лічылі настолькі «сваім» палітычныя апаненты, што часта адначасова прасілі яго рэпрэзентаваць беларусаў на сустрэчах з высокімі амерыканцамі і прабэнээраўскае Беларуска-амерыканскае задзіночанне, і прабэцээраўскі Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі. Гэта была ў пэўным сэнсе ўнікальная для беларускай эміграцыі сітуацыя, калі канкрэтны чалавек у сваёй асобе быў здольны аб’ядноўваць інтарэсы расколатых групаў. І гэта спрыяла рэальнаму супрацоўніцтву палітычна падзеленых арганізацый ці то ў падрыхтоўцы Тыдня паняволеных народаў у 1959 годзе, ці то ў выданні і рэпрэзентацыі ў 1977 годзе значнага тома дакументаў «Дэкаланізацыя Савецкага Саюза», ці то ў адзначэнні Дня правоў чалавека, ці то ў супрацьстаянні «Справе Лофтуса» ў 1980-я і г. д. Прыкладаў багата. Зразумела, што сам па сабе раскол у беларускай грамадзе захоўваўся. Але Вітаўта Кіпеля запрашалі выступаць з дакладамі на 25 Сакавіка

[63] Ліст захоўваецца ў БДАМЛМ.



ці ўгодкі Слуцкага паўстання і БАЗА, і БККА.

Значнай грамадскай ініцыятывай Вітаўта Кіпеля, якая аб’яднала амерыканскіх беларусаў незалежна ад іх палітычных прыхільнасцяў, стала арганізацыя Беларускіх фестываляў.

Да святкавання 200-годдзя ЗША ў цэнтры штата Нью-Джэрсі адчыніўся новы Цэнтр мастацтваў (*Garden State Arts Center*).

*«Будовіна ў выглядзе “лятучай талеркі” разьлічаная прыблізна на 5 з паловай тысячаў гледачоў і акружаная каштанавымі пасадкамі з сотнямі дрэваў, спартовымі пляцоўкамі, месцамі для паркаваньня, пікнікоў. Будову ўрачыста “ахоўваюць” алюмініевыя мачты, на якіх палошчуцца сьцягі — калярытнае ўражаньне»*[64].



Вітаўт Кіпель у Фундацыі П. Крэчэўскага

У гэтым цэнтры мастацтваў сталі ладзіцца розныя нацыянальныя фестывалі: італьянскі, ірландскі, польскі, яўрэйскі і г. д. Паколькі Нью-Джэрсі — штат вельмі шматнацыянальны, то практыка фестываляў выклікала вялікую цікавасць. Прыцягваў гэты цэнтр і беларусаў, аднак, каб выявіць ініцыятыву правядзення такога вялікага мерапрыемства, не хапала смеласці. Штуршок прыйшоў звонку. Па лініі сваёй дзейнасці ў рэспубліканскіх клубах Вітаўт Кіпель пазнаёміўся з дырэктарам згаданага Цэнтра мастацтваў Фрэдам Вэкам, і ён прапанаваў беларусу ўзяцца за арганізацыю фестывалю з умовай прадаць мінімум тры тысячы квіткоў на яго. Гэта было вельмі сур’ёзнае заданне і вялікая адказнасць. Кіпель папрасіў дзесяць дзён на прыняцце рашэння, цягам якіх ён абмяркоўваў магчымасць правядзення фестывалю найперш з Зорай ды Янкам Запруднікам як найбліжэйшымі сябрамі і памочнікамі, а потым і з прадстаўнікамі розных беларускіх арганізацый, з якімі дзеяч быў добра знаёмы. На адмысловым сходзе




Вокладка праграмы Першага Беларускага фестываля ў Нью-Джэрсі. 1976 г.

[64] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 380.

ў Саўт-Рыверы, нягледзячы на разуменне складанасці задачы, большасць беларусаў выказаліся за тое, каб узяцца за падрыхтоўку фестывалю.

Мерапрыемства было прызначана на 12 чэрвеня 1976 года. Гэта быў вялікі выклік для беларускай грамады: трэба было не толькі прадаць тры тысячы квіткоў, але і падрыхтаваць паўнавартасную 3–4-гадзінную мастацка-эстрадную праграму, вызначыць мерапрыемствы на пляцы (спаборніцтвы, паказ касцюмаў, продаж сувеніраў, кухня і г. д.), арганізаваць добрую рэкламную кампанію. Пра ход падрыхтоўкі Вітаўт Кіпель рэгулярна (раз на два тыдні) мусіў паведамляць кіраўніцтву цэнтра. Удалося скласці сапраўды дзейную працоўную групу:

*«Бясспрэчна, некаторым даводзілася працаваць больш інтэнсіўна. Прыкладам, сэкцыя падрыхтоўкі праграмы — там была надзвычай цяжкая праца. Вялі яе І. Рагалевіч і Г. Русак і бліжэйшая група — Н. Кудасава, Л. Літаровіч, І. Цупрык, А. Орса-Рамана, В. Леўчук, Р. Касьцюк. Продаж білетаў: адказныя В. Русак, М. Бахар, В. Цярпіцкі, група — М. Сенька, У. Пеляса, Ж. Наумчык; выстаўкі і атракцыёны — Т. Кольба, А. Шукелойць, З. Кіпель, В. Бартуль; рэкляма — В. Станкевіч, Ф. Рамана; дзейнасьць моладзі — Ю. Азарка, Н. Махнюк, А. Кіпель, Ю. Кіпель, Н. Русак, Л. Русак, Г. Бартуль, В. Запруднік, Н. Запруднік; спорт — Ж. Наумчык, Ж. Арцішэнка, Б. Цупрык...»*[65].

Вітаўт Кіпель забяспечваў агульную каардынацыю дзеянняў паміж усімі ўдзельнікамі, а таксама кантактаваў з кіраўніцтвам цэнтра, вырашаў усе арганізацыйныя пытанні. Ужо ў сярэдзіне траўня (амаль за месяц да фестывалю) удалося прадаць запаветныя тры тысячы квіткоў, і напружанне на гэты конт крыху зменшылася. Пад самы пачатак мерапрымства было прададзена больш за чатыры тысячы, на што не спадзяваўся ніхто.



На Беларускім фестывалі ў Нью-Джэрсі: Леў Стагановіч, Вітаўт Кіпель, Лявон Літаровіч. 1978 г.

[65] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 384–385.



Фестываль меў вялікі поспех, атрымалася бадай усё запланаванае: і канцэрт, і паказ беларускіх строяў, і продаж сувеніраў, і інш. Вакол правядзення аб'induналася вялікая беларуская грамада некалькіх штатаў, і вынікамі былі задаволеныя ўсе. Прычым эйфарыя арганізатараў была такая вялікая, што ўсе адзінадушна вырашылі зладзіць у наступным годзе яшчэ адзін беларускі фестываль. І сапраўды, у 1977 годзе беларусам удалося зрабіць другі, а ў 1979 — трэці фестываль. Другі адкрываў асабіста губернатар штата Брэндан Бэрн, што таксама было вынікам актыўнай працы Вітаўта Кіпеля.

У падсумаванне фестывальнай ініцыятывы Кіпель напісаў:

*«Тры Беларускія фэстывалі зрабілі беларусам Амэрыкі вялікую рэкляму. Рэпартажы аб беларускай прысутнасьці друкаваліся ў дзесяткох газэтаў і часапісаў. Картатэка адрасоў Цэнтру мастацтваў налічвала панад 25 тысячаў, па гэтых адрасах высылаліся рэклямы фэстывалю. Відавочна, дапамагала і газэта “Беларус”. У газэце і я выдрукаваў колькі разважаньняў аб фэстывалі. Нас як беларусаў віталі кангрэсмэны, сэнатары, прэзыдэнты Форд, Картэр, шмат палітычных дзеячоў і выдатных амэрыканцаў. Дзень фэстывалю абвяшчаўся Днём беларускае культуры штату — значная падзея. Рэкляма фэстывалю выйшла за межы ЗША, нас віталі Ларыса Геніюш, беларусы з Польшчы, Аўстраліі, Нямеччыны. Бясспрэчна, фэстывалі ў Нью Джэрзі вельмі спрыялі прапагандзе беларускасьці, беларусаў у ЗША і беларускай незалежніцкай ідэі.*

*Фэстывалі таксама дапамагалі зблізіць, згуртаваць беларускую грамаду ў ЗША. Мы здолелі давесьці, што мы — група дынамічная, працоўная, якая адраджае сваю “затуманеную” прысутнасьць у Амэрыцы. Праца ў фэстывалі надала энэргіі беларускай дыяспары. І хоць мы хваляваліся — ці здолеем сабраць тысячы — мы глыбака ў сабе верылі, былі ўпэўненыя, што выканаем пастаўленае заданьне. І мы яго выканалі ды пераканаліся, што калі самі згуртуемся — вернем “загубленых” суродзічаў»*[66].

Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што без ініцыятывы і актыўнай працы самога Вітаўта Кіпеля і ўсёй яго сям'і тых знакавых беларускіх фестываляў не адбылося б. Пазней ладзіліся і іншыя беларускія фестывальныя мерапрыемствы, прыкладам, у Парку Свабоды, аднак яны былі ўжо меншыя паводле маштабаў, хоць адбываліся цягам першай паловы 1980-х гадоў даволі рэгулярна[67]. Тыя першыя фестывалі ўсё ж былі ці не найважнейшыя.




Вітаўт Кіпель на выставе

[66] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 388.

[67] Гл.: Zaprudnik, Jan. Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey: Political Information Through the Language of Art (1948–2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948–2011). New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013.

Грамадская дзейнасць была натуральнай часткай жыцця Вітаўта Кіпеля. Атрыманы ад бацькоў імпульс актыўнага змагання за беларушчыну рэалізоўваўся ім у вельмі розных кірунках і формах: ці то бацькоўскія камітэты або скаўтынг, ці то дзейнасць у рэспубліканскай партыі, ці то праца ў Этнічнай радзе. Рэальна тых кірункаў і формаў было болей. Кіпель далучаўся да ўсяго, дзе мог нейкім чынам прасунуць беларусаў, папулярызаваць Беларусь. І рабілася гэта выключна «за ідэю», на грамадскіх пачатках. Сам ён сваю актыўнасць ахарактарызаваў так:

*«Мая грамадзкая дзейнасьць у ЗША ішла паралельна з працоўным жыцьцём, у гэтую дзейнасьць я ўкладаў энэргію, грошы, дасьведчаньне, а галоўнае — праз гэтую дзейнасьць я выказваў свой сьветагляд, сутнасьць якога палягае ў тым, каб дамагацца інфармаваць небеларускі сьвет аб Беларускіх Ідэалах — гістарычнасьці нацыі, дэмакратычнай дзяржаўнасьці і інш.*

*Удзельнічаў і працаваў я ў дзесяткох, часам вельмі кароткатрывалых амэрыканска-беларускіх арганізацыях, прафэсійных таварыствах, палітычных партыях, бываў на сходах царкоўных арганізацыяў, плаціў членскія складкі дзесяткам асацыяцыяў навучальнага профілю, а найбольш і найглыбей дзеіў у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў ЗША»*[68].

## Беларускі інстытут навукі і мастацтва

Пра заснаваны ў Нью-Ёрку Беларускі інстытут навукі і мастацтва Вітаўт і Зора даведаліся яшчэ ў Лювене. Нядзіўна, што, перабраўшыся ў ЗША, яны неўзабаве сталі наведваць ладжаныя БІНіМам зборкі. На першай жа лекцыі, прысвечанай Інбелкульту, пра які расказваў Гіпаліт Паланевіч, Кіпелі запоўнілі анкеты-заявы на сяброўства ў інстытуце. Заява Вітаўта Кіпеля ад 1 траўня 1956 года захавалася ў архіве БІНіМа ў БДАМЛМ.

Напачатку, пакуль новыя сябры інстытута жылі ў Балтымары, яны толькі перыядычна прысутнічалі на лекцыях-зборках. Больш актыўная праца ў БІНіМе пачалася пасля пераезду бліжэй да Нью-Ёрка, прыкладна з 1958 года. На той момант Вітаўт Кіпель ужо быў сябрам управы і стаў выяўляць больш ініцыятывы. Прыкладам, ён прапанаваў сябрам БІНіМа наладзіць супрацоўніцтва з Амерыканскай арганізацыяй славянскіх даследаванняў (*American Association for the Advancement of Slavic Studies — AAASS*), да якой самі Кіпелі далучыліся яшчэ ў часе працы ва Універсітэце імя Джона Хопкінса.

Потым паўстала ідэя тэматычна пашырыць лекцыі БІНіМа, запрашаць новых людзей, замаўляць канкрэтныя тэмы дакладаў. У выніку былі арганізаваны выступы перад беларускай публікай амерыканскага мовазнаўца Г. Сянкевіча, яўрэйскага даследчыка з Вільні С. Бэрнштэйна, польскага навукоўца Р. Ляванскага і іншых «знешніх» выступоўцаў. Інтэрнацыянальныя кантакты Вітаўта Кіпеля прыносілі канкрэтны плён інстытута.

У 1966 годзе Кіпель быў абраны на пасаду скарбніка БІНіМа, і галоўным ягоным абавязкам стаў пошук сродкаў для дзейнасці арганізацыі. Найперш ён узяўся за ўпарадкаванне сяброўства і складак:

*«Я перагледзеў крытычна картатэку сяброў БІНіМу. Тых, хто запоўніў анкеты, было чалавек 85. Разаслалі для запаўненьня 150 анкет. Некаторыя даслалі лісты,*

[68] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 342.



*што ня хочуць запаўняць анкеты — бо баяліся анкет, — але будуць належаць і дасылаць складкі.*

*Паколькі ў БІНіМе ў той час было каля сотні членаў, а складкі (здаецца, $30 гадавых) не зьбіраліся — я правёў інтэнсіўную кампанію збору недаплачаных складак, а прынагодна ў сотнях лістоў прасіў, каб людзі рабілі фінансавыя ахвяраваньні на інстытут. Галоўная матывацыя была: БІНіМ павінен больш друкаваць, а на друк патрэбныя грошы. І трэба сказаць, што людзі адгукнуліся — праз год-два ў касе БІНіМу налічвалася некалькі тысячаў даляраў. Можна было думаць пра сталую выдавецкую праграму»*[69].



Вітаўт Кіпель на канферэнцыі ў Атаўскім універсітэце (Канада). 1975 г.

У той час актыў інстытута складалі Вітаў Тумаш, Антон Адамовіч, Вітаўт і Зора Кіпелі, Янка Запруднік, Антон Шукелойць. Большасць з іх штомесяц сустракаліся ў беларускім офісе Радыё «Свабода» і вырашалі бягучыя пытанні. Адным з найбольш балючых была выдавецкая дзейнасць. Ад пачатку 1950-х гадоў БІНіМ выдаваў альманах «Запісы», нейкі час «Конадні», эпізадычна — кнігі: 1953 — «Беларуская музыка» Міколы Куліковіча, 1955 — «Спадчына» Янкі Купалы, 1957 — «Міцкевіч і беларуская плынь польскай літаратуры» Сымона Брагі і г. д. У сярэдзіне 1970-х дайшло да ўсведамлення неабходнасці распачаць адмысловую літаратурную кніжную серыю. Агучаная Зорай Кіпель ідэя была падтрымана сябрамі ўправы і першым выданнем стала кніга «Між берагамі» Наталлі Арсенневай. Зора, Тумаш, Адамовіч і сама Арсеннева займаліся зместам будучага зборніка, а Вітаўт Кіпель — збіраннем грошай. Было разаслана каля пяці тысячаў інфармацыйных лістоў пра падрыхтоўку выдання з просьбай фінансавай падтрымкі. І яны спрацавалі. Назбіралі нават больш грошай, чым было патрэбна на гэтае канкрэтнае выданне. Можна было назапашваць адмысловы выдавецкі фонд.

*«На кнізе Натальлі Арсеньневай мы здабылі дасьведчаньне: каб мець грошы на выданьне, трэба кнігу вельмі добра рэклямаваць і абавязкова зьвяртацца да беларускага грамадзтва — малаважна, што чытацкая грамада не такая й вялікая, калі грамада адчувае працу — будзе дапамога. Фактычна праз выданьне твораў Арсеньневай усталяваўся сталы лістоўны, тэлефонны і пэрсанальны ("у царкве" падчас нядзельных сустрэчаў) кантакт з грамадзтвам, што забясьпечыла БІНіМу фінансавую падтрымку ў далейшым»*[70].

Потым былі наступныя кнігі, але іх давялося выдаваць ужо без доўгагадовага старшыні БІНіМа Вітаўта Тумаша. 8 сакавіка 1982 года ён меў інсульт, які назаўсёды пакінуў дзеяча інвалідам, і яго навуковая і грамадская праца скончылася. Вітаўт Кіпель быў ці не найбліжэйшы да Тумаша. Менавіта ён дапамагаў яму на адмысловых федэральных слуханнях па персанальнай справе ў сувязі з абвінавачаннямі, што сталі вынікам дзейнасці Джона Лофтуса. І менавіта Вітаўт Кіпель

[69] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 307.
[70] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 310.



Вокладка кнігі Наталлі Арсенневай «Між берагамі». 1979 г.



AVAILABLE FALL 1985

a new bibliography

IANKA KUPALA I IAKUB KOLAS NA ZACHADZE

(Janka **Kupala** and Jakub **Kolas** in the West)

Compiled by Vitaut Kipel and Zora Kipel
of the New York Public Library

Over 2,000 annotations

For the first time an exhaustive listing of works about Kupala and Kolas published in the West and translations of their works in Western languages. Also includes: calendar of events and indexes.

Available from:

Byelorussian Institute of Arts and Sciences, Inc.
230 Springfield Avenue
Rutherford, New Jersey 07070

PRICE:

Абвестка пра выхад бібліяграфіі «Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе», укладзенай Зорай і Вітаўтам Кіпелямі. 1985 г.

першы прыехаў на званок Тумаша, калі таму стала блага. Зразумела, што Кіпель і заняў месца дырэктара БІНіМа ў красавіку 1982 года.

Ужо пад кіраўніцтвам Вітаўта Кіпеля завяршалася праца над «Нятускнай красой» Алеся Салаўя (1982), выходзілі «У пошуках праўды» Аляксандры Саковіч, «Міжагнёўе» Міхася Кавыля. У сярэдзіне 1980-х з'явілася новая «Бібліяграфічная серыя», распачатая ў 1985 годзе бібліяграфіяй «Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе». Далей у ёй выйшлі таксама ўкладзеныя Вітаўтам і Зорай Кіпелямі «*Byelorussian Statehood*» (1989), «Пяць стагоддзяў Скарыніяны» (1989) — даведзены да выдання плён шматгадовай працы Вітаўта Тумаша[71].

Як для прафесійных бібліятэкараў стварэнне бібліяграфій стала для Кіпеляў асабліва важнай справай. Цягам дзесяцігоддзяў яны збіралі матэрыялы для ўнікальнага выдання «Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе», што ўбачыла свет ужо ў XXI стагоддзі.

Выдавецкая дзейнасць БІНіМа пад кіраўніцтвам Вітаўта Кіпеля складалася не толькі з серыйных выданняў і «Запісаў», але і з паасобных іншых, а таксама ў супрацы з метрапольнымі беларусамі, калі тое стала магчымым. «Праз рок-прызму» Вітаўта Мартыненкі і Анатоля Мяльгуя (1989), «Курапаты» (1993) і шмат іншых мелі асаблівую важнасць ужо і для метрапольнай Беларусі.

[71] Падрабязней пра дзейнасць БІНіМа гл.: Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Хронікі БІНіМу: Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў дакументах, лістах і ўспамінах. Мінск: Кнігазбор, 2017. — 352 с.



Інстытут і раней займаўся не толькі ўласным выдавецтвам. Было супрацоўніцтва ў выданні кніг амерыканскай серыі «Еўрапейская спадчына» («*European Heritage*»): Вітаўт Кіпель удзельнічаў у рэдкалегіі, чытаў сотні дысертацый, адбіраў прыдатныя для друку ў серыі, пісаў рэкамендацыі, прадмовы. У выніку выйшлі 49 тамоў, прысвечаных этнічнай спадчыне еўрапейцаў у ЗША. Плённае было супрацоўніцтва з энцыклапедычнымі выданнямі, для якіх падавалася інфармацыя, звязаная з Беларуссю.

Ладзіў БІНіМ і выставы твораў беларускіх мастакоў: Віктара Жаўняровіча, Тамары Стагановіч-Кольбы, Галіны Русак, Ірэны Рагалевіч-Дутко, Надзеі Кудасавай (Запруднік) і іншых. Вітаўт Кіпель традыцыйна займаўся забеспячэннем фінансавай падтрымкі выдання каталогаў, рэкламай і каардынацыяй арганізацыйнай працы.



25th Anniversary

Program of the Symposium

BYELORUSSIAN and BYELORUSSIA-related STUDIES outside of the Soviet Block

Прагрaма канферэнцыі, прысвечанай 25-годдзю Беларускага інстытута навукі і мастацтва. 1977 г.

Асобным кірункам дзейнасці БІНіМа былі канферэнцыі. Гэтая практыка пачалася яшчэ ў 1977 годзе, калі адбылася канферэнцыя з нагоды 25-годдзя інстытута. На прапанову Вітаўта Кіпеля яна адбывалася ва ўніверсітэце *Seton Hall* у горадзе Саўт-Орандж (Нью-Джэрсі). Спрацавала знаёмства з загадчыкам кафедры гісторыі гэтай навучальнай установы, што паспрыяла добрай арганізацыі мерапрыемства. Рэгулярна БІНіМ ладзіў канферэнцыі падчас Сустрэч беларусаў Паўночнай Амерыкі. Прыкладам, у 1980 годзе на базе Кліўлендскага ўніверсітэта — на тэму Статутаў ВКЛ, у 1984 годзе — на тэму пасялення беларусаў у ЗША. Акрамя таго, прадстаўнікі БІНіМа часта выступалі з дакладамі на канферэнцыях, зладжаных іншымі інстытуцыямі, як уласна амерыканскімі, гэтак і польскімі, украінскімі і іншымі. Важны быў удзел у міжнародных кангрэсах па вывучэнні СССР[72].

Беларускі інстытут навукі і мастацтва стаў яшчэ адной справай жыцця Вітаўта Кіпеля. Ён даў магчымасць задавальняць ягоную цікавасць да беларусікі, выкарыстоўваць свае кантакты, арганізатарскія здольнасці дзеля пашырэння навуковых ведаў пра Беларусь у амерыканскім грамадстве. Неад'емнай часткай і працы

[72] Гл.: Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Хронікі БІНіМу... С. 132–133, 161–168.



Вітаўт Кіпель на прэзентацыі кніг БІНіМа ў Фундацыі П. Крэчэўскага. 1999 г.

ў БІНіМе, і ўласных даследаванняў Вітаўта Кіпеля стала вывучэнне гісторыі беларускай прысутнасці ў ЗША.

## Даследаванне гісторыі беларусаў у ЗША

Ідэя збіраць матэрыялы па гісторыі беларусаў у Амерыцы нарадзілася ў Вітаўта Кіпеля праз колькі дзён пасля яго прыезду ў Новы Свет. Недзе на Каляды 1955 года ён залагоджваў розныя фармальнасці ў Агенцтве сацыяльнай апекі ў Пасейку, а пасля зайшоў у бібліятэку і здзівіўся, не знайшоўшы там нічога пра беларусаў.

*«І я вырашыў, што трэба зрабіць адмысловую кнігу. Вось так думка нарадзілася, але было невядома, як яна рэалізуецца.*

*Хутка мне давялося выехаць у Балтымар і іншыя гарады працаваць, было вяселле, з'явіліся дзеці, але думку пра кнігу тым часам я не пакідаў, бо нідзе не мог знайсці публікацый пра беларусаў Амерыкі і мяне гэта, прызнацца, злавала. Справа ў тым, што калі я прыехаў у ЗША і жыў некаторы час у Пасейку (Нью-Джэрсі), дзе мае бацькі былі ад 1949 году, дык там беларуская мова была і каля царквы, і ў крамах, і асабліва каля гэтак званых "польскага народнага дома" і "рускага народнага дома". Я бачыў, што беларусаў шмат, але пра іх нідзе не напісана. І гэта ўмацавала мяне ў думцы, што беларусы мусяць напісаць пра сябе самі, распавесці пра сябе амерыканцам»*[73].

Добрыя магчымасці ў збіранні матэрыялаў з'явіліся, калі Вітаўт Кіпель стаў працаваць у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Пры праглядзе кніг і перыёдыкаў рабіліся выпіскі, копіі, ствараліся асобныя тэматычныя тэчкі. Для збірання матэрыялаў выкарыстоўваліся таксама сямейныя паездкі па штатах. На працягу

[73] «Беларусы ў ЗША» Вітаўта Кіпеля // Будзьма беларусамі!: https://budzma.by/news/byelarusy-w-zsha-vitawta-kipyelya.html.





Алеся, Вітаўт, Юрка і Зора Кіпелі ў Індыянапалісе. Ліпень 1970 г.

1960-х Кіпелі з дзецьмі рэгулярна вандравалі па розных рэгіёнах ЗША, і, адведваючы розныя турыстычныя славутасці, Вітаўт не прамінаў бібліятэкі і архівы, каб пашукаць у іх звесткі пра беларусаў. Таксама рабілася і наступнае:

*«На месцах мы праглядалі тэлефонныя кнігі, шукаючы, ці ёсьць там установы, у якіх можна было б знайсьці беларускую прысутнасьць. [...] І шмат дзе сапраўды нейкая беларусіка сустракалася. Прыкладам, у штаце Мантана ў горадзе Гэлэн у сэрбскай праваслаўнай царкве знайшлася ікона Эўфрасіньні Полацкай. У Алясцы ў праваслаўным манастыры нават атрымлівалі часапіс "Голас Царквы"»*[74].

Для пошукаў інфармацыі пра беларусаў у ЗША выкарыстоўваліся любыя магчымасці. Актыўная грамадская дзейнасць Вітаўта Кіпеля, шырокія кантакты ў розных рэгіёнах, шматлікія спатканні прыносілі знаёмствы з выхадцамі з Беларусі розных часоў і іх нашчадкамі. Занатоўваліся вынікі гутарак, тэчкі папаўняліся і пашыраліся тэматычна.

*«У часе збірання звестак пра людзей, якія прыехалі ў ЗША на пачатку XX стагоддзя, я ўбачыў, што яны былі далёка не першыя, а значна раней таксама сюды прыязджалі нашыя людзі. І тады кніга пашырыла першапачатковую задуму апісаць толькі эміграцыю ад пачатку XX ст. Я пайшоў у ранейшае, паўстала пытанне, а калі ж вестка пра Амерыку трапіла да нас у Беларусь, калі мы даведаліся пра Амерыку. Гэтак ішло пашырэнне ўжо самой тэмы»*[75].

Недзе ад пачатку 1970-х Вітаўт Кіпель стаў перыядычна публікаваць у газеце «Беларус» нататкі на падставе сваіх пошукаў. Адным з першых, дзе хоць і крыху, але згадваліся пачаткі беларускай эміграцыі, быў артыкул, напісаны ў 1973 годзе пра святкаванне 100-годдзя Пасейка. Аўтар паведамляў, што ў гэтым горадзе суродзічы ўпершыню з'явіліся ў 1887 годзе[76]. Потым з'явілася адмысловая серыя публікацый пад назвай «Беларуская спадчына ў Амэрыцы». Гэта былі тэксты пра Гаваі[77], Мэрыленд[78], айца Францішка Дзеружынскага[79], першыя згадкі пра

[74] Гл.: Кіпель, Вітаўт. Жыцьцё і дзеіць. С. 298.

[75] Гл.: «Беларусы ў ЗША» Вітаўта Кіпеля // Будзьма беларусамі!: https://budzma.by/news/byelarusy-w-zsha-vitawta-kipyelya.html.

[76] Гл.: Кіпель, В. Стагодзьдзе Пасэйку // Беларус. 1973. № 193.

[77] Гл.: Кіпель, Вітаўт. Беларуская спадчына ў Амэрыцы: Гаваі // Беларус. 1974. № 210, 211.

[78] Гл.: Кіпель, В. Беларуская спадчына ў ЗША: Мэрыленд // Беларус. 1975. № 215.

[79] Гл.: Кіпель, В. Беларуская спадчына ў Амэрыцы. Айцец Францішак Дзеружынскі // Беларус. 1975. № 216.

Беларусь у ЗША і пра штаты на беларускіх землях[80]. Згаданыя тэксты з'явіліся на старонках «Беларуса» ў 1974–1975 гадах і засведчылі, што Вітаўт Кіпель сур'ёзна займаецца даследаваннем абранай тэмы. Пазней, у 1980–1990-я, ужо ў іншай серыі, «Да гісторыі беларусаў у ЗША», публікаваліся артыкулы, прысвечаныя Аляксандру Сянкевічу, Ісаку Гурвічу[81], беларусам у міжваенным Чыкага[82]. Скрыпты пра гісторыю беларускай прысутнасці ў ЗША рабіліся і для Радыё «Свабода».

Па-за гэтымі адмысловымі «гістарычнымі» тэкстамі Вітаўт Кіпель публікаваў шмат нататак пра бягучыя падзеі беларускага жыцця ў Амерыцы, удзельнікам якіх, дзякуючы сваёй грамадскай актыўнасці, ён быў. Кіпель у некаторай ступені стаў не толькі даследчыкам мінулага беларусаў у ЗША, але і летапісцам сучаснасці, бо і гэта таксама было неабходна для будучай кнігі.

І праца ў бібліятэцы, і актыўная грамадская дзейнасць давалі магчымасць не толькі збіраць матэрыялы. Так, неўзабаве пасля прызначэння на пасаду кіраўніка Этнічнай рады штата Нью-Джэрсі Вітаўт Кіпель атрымаў запрашэнне ад Кліўлендскага ўніверсітэта напісаць кнігу пра беларусаў гэтага горада. Для мясцовых школ планавалася выданне серыі з 25 дапаможнікаў, прысвечаных розным этнічным групам, і беларусы былі ў іх ліку. Зразумела, што Вітаўт Кіпель прапанову прыняў, і ў 1982 годзе ўбачыла свет кніга *«Byelorussian Americans and Their Communities of Cleveland»*. У ёй змяшчалася і агульная інфармацыя пра Беларусь, і гісторыя беларускай эміграцыі ў ЗША, і добра структураванае ды багата ілюстраванае апісанне розных кірункаў дзейнасці паваеннай эміграцыі ў Кліўлендзе. У рэцэнзіі на выданне, напісанай Віктарам Сянкевічам, згадвалася, што ў Вітаўта Кіпеля ёсць ідэя *«напісаць манаграфіі і пра іншыя беларуска-амэрыканскія грамады, а іх каля дзясятка, заканчваючы сэрыю большай працай "Беларусы Амэрыкі"»*[83].

Што праўда, іншых падобных кніг, прысвечаных паасобным асяродкам, не з'явілася. Але за кліўлендскае выданне ў 1982 годзе аўтар атрымаў тытул «Ганаровы грамадзянін горада». Потым ён яшчэ пісаў артыкул пра мясцовых беларусаў для «Энцыклапедыі Кліўленда» (1985) і пра беларусаў Амерыкі для выдання *«Ethnic Forum»* (*Kent State University, 1989*).

З сярэдзіны 1980-х Вітаўт Кіпель вырашыў засяродзіцца на падрыхтоўцы кнігі. У тым ліку і дзеля гэтага ён сышоў на пенсію з бібліятэчнай працы, абмежаваў сваю актыўнасць у рэспубліканскай партыі. Адпачатку кніга пісалася па-англійску, бо аўтар арыентаваў яе найперш на амерыканскага чытача, якому трэба было паказаць і расказаць, хто такія беларусы, што жывуць побач з ім. Аднак у 1990-я сітуацыя крыху змянілася дзякуючы кантактам з Беларуссю:

*«Кніга сунулася наперад. І гэтак сунуцца яна магла б яшчэ доўга, каб не... перабудова, развал СССР, паездка "дахаты"! Зьбег гэтых акалічнасьцяў спрыяў рэалізацыі задумы, і гэтаму дапамагалі некалькі канкрэтных людзей. Гэта Алесь Лукашук — першы, хто пабачыў англамоўны манускрыпт і сказаў: "Трэба выдаваць"; Сяргей Шупа, рэдактар, які пераклаў манускрыпт з ангельскай мовы ў беларускую і падрыхтаваў макет; Адам Мальдзіс і Пётра Краўчанка — адміністратары, якія дапама-*

[80] Гл.: Кіпель, В. Беларуская спадчына ў Амэрыцы: 1. Пачаткі // Беларус. 1975. № 219.

[81] Гл.: Кіпель, Вітаўт. Да гісторыі беларусаў Амэрыкі: 1. Аляксандар Сяньževіч, 2. Ісак Гурвіч // Беларус. 1986. № 330.

[82] Гл.: Кіпель, В. Да гісторыі беларусаў у Амэрыцы: 50-гадзьдзе Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага // Беларус. 1991. № 381.

[83] Сянкевіч, Віктар. «Беларуская спадчына ў Кліўленьдзе» (Рэцэньзія) // Беларус. 1982. № 303–304.



*галі ў Менску, залагоджвалі бюракратычныя пытаньні»*[84].

У 1993 годзе ў Менску ўбачыла свет беларускае выданне кнігі «Беларусы ў ЗША». Яно сталася заўважнай з'явай у тагачаснай беларусіцы, своеасаблівым адкрыццём навуковага вывучэння беларускай эміграцыі, узорам для іншых даследчыкаў-эміграцыязнаўцаў, падставай для стварэння шмат якіх энцыклапедычных і іншых артыкулаў пра беларускую Амерыку. Кніга і аўтар атрымалі добрую вядомасць:

*«Я быў вельмі задаволены з гэтага выдання. Я шмат ездзіў тады па Беларусі і, прыкладам, прыходзіш у раённую бібліятэку і бачыш, што там кніжка ёсць. Асабліва мне спадабалася падарожжа. Мы затрымаліся ў Дукоры, бо ехалі на нейкую імпрэзу, арганізаваную Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва, Ганнай Запартыкай. І ў Дукоры мяне паклікалі ў бібліятэку выступіць, бо яны ведалі і мелі маю кнігу. Гэтак было і ў Слуцку, і ў Магілёве... гэта было прыемна»*[85].

Вельмі важны быў комплексны падыход Вітаўта Кіпеля да вывучэння гісторыі эміграцыі. У адной з рэцэнзій было зазначана, што *«аўтар сабраў у адно цэлае ўсю дасюлешнюю беларускую эміграцыю — масавую, перад Першай сусьветнай вайной, ды палітычную эміграцыю па Другой сусьтветнай вайне, адзначыўшы ды падкрэсьліўшы, што якраз эміграцыя па Другой сусьветнай вайне пачала адраджаць беларускую спадчыну ў Амэрыцы, раўналегла праводзячы палітычна прапагандовую справу адраджэньня Беларускае Дзяржаўнасьці ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі»*[86].

Пазней, у 1999 годзе, нарэшце з'явілася і англамоўнае выданне. Яно крыху адрознівалася зместам ад беларускамоўнага, бо ўключала ў сябе частку, дзе падаваліся асноўныя звесткі пра Беларусь і беларусаў наогул.




Вокладка кнігі Вітаўта Кіпеля «Byelorussian-Americans and Their Community in Cleveland». 1982 г.




Вокладка першага выдання «Беларусаў у ЗША» Вітаўта Кіпеля. 1993 г.

[84] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 324.

[85] «Беларусы ў ЗША» Вітаўта Кіпеля // Будзьма беларусамі!: https://budzma.by/news/byelarusy-w-zsha-vitawta-kipyelya.html.

[86] Сянкевіч, Віктар. Цікавае, важнае й патрэбнае дасьледаваньне // Беларус. 1994. № 412.




Вокладка англамоўнага выдання кнігі Вітаўта Кіпеля. 1999 г.

Назбіраныя за дзесяцігоддзі працы над кнігай матэрыялы Вітаўт Кіпель у 2004 годзе аддаў у Цэнтр даследаванняў гісторыі іміграцыі ў Мінесоце (*Immigration History Research Center*). Цяпер яны даступныя зацікаўленым навукоўцам для працягу вывучэння беларускай прысутнасці ў ЗША, вывучэння метадалогіі і г. д.

З часам гісторыя беларусаў у Амерыцы запатрабавала абнаўлення, і ў 2017 годзе, да 90-годдзя аўтара, у Менску ўбачыла свет другое выданне кнігі, цяпер чытач трымае ў руках трэцяе.

Важнасць зробленага Вітаўтам Кіпелем для вывучэння гісторыі беларусаў у ЗША складана перабольшыць. Варта заўважыць, што дзеяч з яго імпэтам да даследаванняў, шырокай грамадскай актыўнасцю і непасрэднай уключанасцю ў беларускае жыццё, стаўся, як выглядае, найлепшым з магчымых аўтараў для кнігі пра беларусаў у Амерыцы. Шырокі водгук на яе выдатна пацвярджае гэта.

## Беларусь

Цягам дзесяцігоддзяў Вітаўт і Зора Кіпелі працавалі на папулярызацыю беларусаў і Беларусі ў ЗША. Як толькі з'ўлялася магчымасць, яны наладжвалі кантакты з суродзічамі з БССР, асабліва па бібліятэчнай і навуковай лініі. Магчымасці для гэтага павялічыліся напрыканцы 1980-х, у час перабудовы. Асабліва важным стаў удзел БІНіМа ў арганізацыі міжнароднай канферэнцыі ў Рыме, прысвечанай спадчыне Вялікага Княства Літоўскага. Навукоўцы з Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы, а таксама з дыяспары сабраліся ў Рыме 30 красавіка 1990 года і цягам пяці дзён абмяркоўвалі пытанні супольнай гісторыі Княства. З беларускага боку ўпершыню на адным мерапрыемстве спаткаліся суродзічы з Захаду (Вітаўт, Зора і Алеся Кіпелі, Янка Запруднік, айцец Аляксандр Надсан), Польшчы (Юры Туронак, Альжбета Смулкова) і Беларусі (Вячаслаў Вярэніч, Анатоль Грыцкевіч, Адам Мальдзіс). Акрамя ўласна навуковай часткі — выступаў з дакладамі —




Вокладка другога выдання «Беларусаў у ЗША» Вітаўта Кіпеля. 2017 г.





Вітаўт Кіпель з Папам Рымскім Янам Паўлам ІІ. 1990 г.

было багата нефармальных стасункаў, экскурсіі па беларускіх месцах у Рыме і па Ватыканскім радыё, а таксама адмысловы прыём у Папы Рымскага Яна Паўла ІІ.

Канферэнцыя, што атрымала назву «Рым-І», прынесла некалькі важных вынікаў. Найперш яна мела працяг у выглядзе аналагічных мерапрыемстваў у розных краінах: «Рым-ІІ» — ва ўкраінскім Камянцы-Падольскім, «Рым-ІІІ» — у польскім Любліне, «Рым-IV» — у беларускім Гродне, «Рым-V» — у літоўскіх Троках. Амаль ва ўсіх гэтых канферэнцыях (за выняткам другой) Кіпелі бралі ўдзел.

З Рымам было звязанае і наладжванне супрацоўніцтва з прафесарам Адамам Мальдзісам, які займаўся стварэннем Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Праз некаторы час Вітаўт і Зора атрымалі запрашэнне прыехаць у траўні 1991 года на першы кангрэс гэтай арганізацыі ў Менск. Гэта было хвалюючае падарожжа — упершыню за амаль паўстагоддзя зноў прыехаць на радзіму. Супярэчлівыя ўражанні ад «мадэрнага» горада і саветызаваных рускамоўных жыхароў, ад таго, што змянілася і што захавалася. Найбольшыя эмоцыі, напэўна, выклікаў сам кангрэс:

*«Пачаўся кангрэс мастацкім выступам капэлы, яны вельмі прыгожа выканалі “О, Беларусь, мая шыпшына” — гэта рабіла ўражаньне, камок пад горла падыходзіў, бо гэтага мы не спадзяваліся. На зьезьдзе, дзе выступленьняў было шмат, шмат знаёмстваў на перапынках — паўсюль беларуская мова. Здавалася — уся Беларусь такая, як тут на зьезьдзе. Так што першыя дні мы былі калі не захопленыя, то вельмі задаволеныя, Беларусь сапраўды выглядала такой, якой бы нам яе хацелася бачыць —*



Зора і Вітаўт Кіпелі ў Менску. 1991 г.

*беларуская, людзі думаюць пра Беларусь, працуюць над беларускімі тэмамі. Мы яшчэ нікуды "далей" не выходзілі, сустрэліся з грамадой, якая была амаль такіх самых паглядаў, што і мы. З пэрспэктывы часу цяпер аналізуеш і разумееш, што трэба быць вельмі асьцярожным у сваіх высновах»*[87].

Па-за кангрэсам былі праходкі па горадзе, паездка ў Вільню і Кушляны. З'явілася шмат новых кантактаў. Але галоўнае — была пратаптаная сцежка ў Беларусь, краіну, пра якую марылі і дзеля якой працавалі. Абвяшчэнне ў жніўні 1991 года незалежнасці Беларусі ўспрымалася Кіпелямі як уласная перамога і найвялікшае свята.

Далей былі Першы з'езд беларусаў свету (і колькі наступных), дзясяткі канферэнцый, прэзентацыі БІНіМаўскіх кніг, супраца з Навукова-асветным цэнтрам імя Францыска Скарыны, Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына», Таварыствам беларус-




Пасведчанне Вітаўта Кіпеля як сябры Беларускага ПЭН-цэнтра

кай мовы, дзясяткамі бібліятэк, паездкі па рэгіёнах... Вітаўт Кіпель стаў ганаровым доктарам Гродзенскага ўніверсітэта, ганаровым сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-Цэнтра.

Праца БІНіМа паступова пераарыентоўвалася на ўзаемадзеянне з калегамі з Беларусі. Выданне «Беларусаў у ЗША» ў Менску было толькі пачаткам гэтай супрацы. Потым з'явіліся дзясяткі кніг і новых выпускаў «Запісаў» з удзелам маладых аўтараў і памочнікаў з Бацькаўшчыны.

Паездкі Кіпеляў у Беларусь сталі рэгулярнымі, амаль штогадовымі. Завязаліся знаёмствы з блізкімі па духу людзьмі: пісьменнікамі, навукоўцамі, палітыкамі. Сярод іншых сябрам Вітаўта Кіпеля стаў Радзім Гарэцкі. Яны пазнаёміліся ў 1993 годзе на канферэнцыі «Рым-IV» у Гродне. Вітаўт Кіпель згадваў:

[87] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 405.





Вітаўт Кіпель, Васіль Быкаў, Ганна Сурмач, Зора Кіпель, Радзім Гарэцкі. Прага, 1997 г.

*«І мяне запрасілі ў Прэзідыум, і Радзіма Гарэцкага. І я яму кажу, што вось як бывае ў жыцьці, нашыя бацькі сядзелі ў іншых месцах, а мы з Вамі сядзім цяпер у Прэзыдыюме. Ён расьсьмяяўся. І было адкрыцьцё, і мы пачалі гаварыць. Бацькі Гарэцкага былі ў тым нацдэмаўскім руху, як і мой бацька, і іх вывезьлі. Яны, здаецца, былі недзе каля Архангельску, а мы — каля Вяткі. На гэтую тэму пачалі гаварыць, сталі зьбліжацца. Пасьля Гародні ў Менску ён запрашаў нас да сябе на вячэру, і мы пару разоў да яго хадзілі. Гутаркі былі ўспамінлага характару. Як ён вучыўся ў школе, у якіх школах ён бываў, і якія школы трэба было мяняць, і як ён прыйшоў у геалёгію, і як я прыйшоў. Падабенства было многа. Падобныя бацькі, падобныя лёсы, падобнае дзяцінства, розныя школы ў Расеі. А тады ён стаў геолягам і я стаў геолягам. Мы перайшлі на гэтую тэму: "Як у вас было, як у нас было". Гарэцкі спэцыялізаваўся па іншых галінах і працаваў на тэрыторыі Савецкага Саюзу ў шмат якіх мясцох. Ня толькі картаграфія, але і эксплюатацыя знойдзеных выкапняў. Пра геалёгію мы шмат гаварылі, таксама перайшлі потым на адукацыю ў геалёгіі і так далей»*[88].

Вітаўт Кіпель сустракаўся з Радзімам Гарэцкім кожны раз, як прыязджаў у Менск, а той, у сваю чаргу, падчас паездкі ў ЗША ў 1994 годзе выступаў з лекцыяй у БІНіМе.

Нягледзячы на тое што яшчэ ў 1965 годзе БІНіМ займаўся друкам кнігі Васіля Быкава «Мёртвым не баліць», асабіста пазнаёміліся Кіпелі з пісьменнікам толькі ў Менску на яго 70-годдзі ў 1994 годзе:

*«Быў вельмі пахмурны дажджлівы дзень, але гэта было пры помніку Янку Купалу ў скверы каля Свіслачы. А потым мы некалькі разоў сустракаліся прыватна. Ён распытваўся, як дайшло да выдання "Мёртвым не баліць" на эміграцыі. [...]*

[88] Інтэрв'ю з Вітаўтам Кіпелем, запісанае ў снежні 2016 г.

*З Быкавым мы нават пару разоў у парку сядзелі разам, успаміналі нашыя маладыя гады. Ён 1924 году, крышку старэйшы за мяне, трапіў у армію, а я не трапіў. Але згадвалі, як жылося... А тады быў абмен літаратурай. Асабліва калі ён выехаў у Фінляндыю, у нас быў жывы абмен кнігамі. Потым мы сустрэліся ў Празе, там была нейкая канферэнцыя, прысвечаная беларускай культуры ці ўгодкам беларускага друку. І якраз мы жылі ў гатэлі кватэрнага тыпу: два пакойчыкі і кухня. І мы жылі: я і Зора, а ў другім пакоі — Радзім Гарэцкі і Васіль Быкаў. І заўсёды сняданне разам, абед разам. Мы дзён дзесяць там жылі разам»*[89].

Потым было ліставанне з пісьменнікам і яго ўдзячнасць за ўспаміны Яўхіма Кіпеля «Эпізоды», што вельмі яго ўразілі[90]. І менавіта подпіс Васіля Быкава стаіць на пасведчанні Вітаўта Кіпеля як сябры ПЭН-Цэнтра.



Ніл Гілевіч і Вітаўт Кіпель. Менск, 1997 г.



Вітаўт і Зора Кіпелі. 1995 г.

У архіве Кіпеляў захоўваюцца і лісты ад іншага беларускага творцы — Ніла Гілевіча. Асабістае знаёмства адбылося таксама ў 1994 годзе.

*«Была нейкая невялічкая вечарына, ці як назваць яе, у рэдакцыі “Нашага Слова”. І Ніл Гілевіч прыйшоў. І я яму кажу: “Вельмі прыемна пабачыцца, бо з Вашаю паэзіяй знаёмыя і досыць блізка”. [...] Калі мы пазнаёміліся, пачалі гаварыць пра Купалу. І Гілевіч кажа, што ён быў вельмі рады, калі атрымаў том “Спадчыны” — выбраныя творы, якія былі выдадзеныя ў 1955 годзе выдавецтвам “Бацькаўшчына” разам з БІНіМам нецэнзураваныя творы Янкі Купалы»*[91].

А далей быў абмен кнігамі і ўражаннямі ад іх, і ліставанне, асабліва блізкае, шчырае на пачатку 2000-х, калі ў абодвух карэспандэнтаў хварэлі жонкі...

Кіпелі часта сыходзіліся з людзьмі, якія стваралі, выдавалі, распаўсюджвалі, цанілі кнігі. Яны перасылалі ў Беларусь тысячы выданняў у бібліятэкі і прыватным асобам. Пазней сталі перасылаць архівы ўласныя і назбіраныя ў БІНіМе: беларускае мае быць у Беларусі.

---

[89] Вітаўт Кіпель: «Арнамент на сцягу вельмі падабаўся эміграцыі»...

[90] Быкаў, Васіль. Лісты да Вітаўта й Зоры Кіпеляў // Запісы БІНіМ. № 35. Нью-Ёрк — Менск, 2012. С. 255–257.

[91] Вітаўт Кіпель: «Арнамент на сцягу вельмі падабаўся эміграцыі»...



Не ўсё, што адбывалася на Бацькаўшчыне, радавала і задавальняла. Расчараванні былі і ад палітычных падзей, і ад стаўлення да беларускай мовы і культуры. У 1990-я Кіпелі мелі надзеі набыць у Менску кватэру, каб часцей прыязджаць і надаўжэй заставацца. А тады марылі і на працу ўладкавацца ў Беларусі. Але ні з кватэраю, ні з працаю нічога не атрымалася: беларуская дзяржава не была гатовая прымаць да сябе суродзічаў-эмігрантаў. Тым не менш любові да Беларусі і імкненню дапамагаць ёй гэта не перашкодзіла.

## Эпілог

Кіпелі сталі своеасаблівым узорам беларускай сям’і на эміграцыі. Нягледзячы на розніцу ў характарах, тэмпераменце, зацікаўленнях, у Зоры і Вітаўта было агульнае памкненне пашыраць беларускасць і беларусіку паўсюль, дзе гэта было магчыма. Яны аднолькава глядзелі на неабходнасць беларускай адукацыі дзяцей, і як вынік — і Алеся, і Юрка не толькі добра размаўляюць па-беларуску, але і з дзяцінства былі ўключаныя ў нацыянальнае жыццё. Паспяховы юрыст, цяпер супрацоўніца ўрадавых структур Алеся Кіпель доўгія гады кіравала гуртком / аддзелам БАЗА ў Вашынгтоне і працягвае ўдзельнічаць у яго працы да сёння. Знаны лекар Юрка Кіпель, актыўны скаўт, сябра БАЗА, цікавіцца ўсім беларускім. У 1990-я ў Кіпеляў з’явіліся трое ўнукаў — Алесь, Андрэй і Антон, якія добра ведаюць пра паходжанне сваіх дзядулі і бабулі.

Падтрымоўваючы беларускасць у сям’і, Зора і Вітаўт віталі і падтрымоўвалі яе і звонку — у беларускай грамадзе Амерыкі і ў іншанацыянальным грамадстве, а таксама ў зрусіфікаваным грамадстве Беларусі. І ў гэтым памкненні Кіпелі былі заўсёды разам. Магчыма, менавіта яно найбольш трымала іх — сям’ю, у якой беларускасць была натуральным ладам жыцця.



Алеся, Ларэйн і Юрка Кіпелі. 1990 г.

Калі Зора Кіпель нечакана адышла ў 2003 годзе, сям'я Юркі і Ларэйн узяла на сябе апеку над Вітаўтам, дапамагаючы яму ва ўсім, падтрымоўваючы ягоныя ідэі ў выданні ці перавыданні кніг, ягоную дзейнасць на пасадзе кіраўніка БІНіМа.

Вітаўт Кіпель кіруе інстытутам цягам амаль 40 гадоў. За гэты час багата зроблена, багата змянілася. Але ён і ў свае 93 захоўвае шчырую цікавасць да ўсяго беларускага і імкненне працаваць дзеля беларушчыны. Гэта тое, чаму сучаснікам можна зайздросціць і вучыцца.



Наталля Гардзіенка і Вітаўт Кіпель. 2017 г.

«Беларусы ў ЗША» сталі не толькі справай жыцця Вітаўта Кіпеля. Гэта яшчэ і адлюстраванне дзейнасці і памкненняў усёй сям'і Кіпеляў, кожнае пакаленне якой уносіла і ўносіць уласную лепту ў гісторыю беларускай Амерыкі.

# БЕЛАРУСЫ Ў ЗША

## ПАРУ СЛОЎ ДА ТРЭЦЯГА ВЫДАННЯ

*Трэцяе выданне кнігі «Беларусы ў ЗША» значна пашыранае новымі дадзенымі-фактамі як з друкаваных працаў, гэтак і з архіўных дакументаў. Улучана дзейнасць новай эміграцыі ды перагледжаны-ўдакладнены шмат якія мясціны з гісторыі пасялення ранейшых землякоў. Пашыраны агляд адпаведнай літаратуры і ўзбагачаныя ілюстрацыі. Вядомая справа, як у гэтым выданні, гэтак і ў папярэдніх мне дапамагалі дзясяткі-дзясяткі асобаў (ствараць кнігу пра беларускую прысутнасць у Амерыцы без дапамогі шырокага грамадства немагчыма). Я ўсім памагатым глыбока ўдзячны. Аднак на тэму дапамогі ў працы над цяперашнім выданнем чуюся абавязаным выказацца больш падрабязна, пагатоў што зямны жыццёвы шлях перакрочыў за 93-і год. Гэтае выданне я доўга яшчэ дапрацоўваў бы (энергія не тая, што ў маладосці), каб не дапамога штодзённая, супрацоўніцтва, дыскусіі, спрэчкі, праверкі-перагляды і падобнае — працоўны працэс-мітусня з маёй працоўнай сям'ёй-камандай: Лявонам Юрэвічам, Наталляй Гардзіенкай і сынам Юркам Кіпелем. Шчыра кажу: з гэтымі трыма асобамі рабілася-заканчвалася кніга.*

*Лявон, Наталля і Юрка! Вам, маім маладым супрацоўнікам, сябрам-памагатым, рэдактарам і г. д., і г. д., — самыя глыбокія мае пачуцці ўдзячнасці і пашаны і за гэтае выданне, і за ўсё беларускае, што я рабіў разам з вамі.*

*Вітаўт Кіпель*
*Лета 2020*

Благаслаўлёна тая зямля —
і быць Ёй свабоднаю вечна! —
што брацьцям маім прытулак дала
ў сям'і сваёй чалавечнай.

*Ларыса Геніюш*

# УСТУП

«Беларусы ў ЗША» — не проста назва новае кнігі. Гэта новае паняцце. Нягледзячы на этнічную разнастайнасць краіны, шмат для каго беларусы — новая рэалія на этнічнай мапе Злучаных Штатаў. Тым не менш этнічная прысутнасць беларусаў у Злучаных Штатах Амерыкі мае больш за стогадовую гісторыю.

З прычыны неспрыяльнага збегу гістарычных акалічнасцяў, тэрміналагічнае невыразнасці ды імперскіх памкненняў суседзяў раннія беларускія іміграняты — беларусы-ліцвіны — праз нязначную сваю колькасць заставаліся незаўважнымі. Бальшыня ж масавае беларускае іміграцыі была залучаная ў бюракратычную катэгорыю «рускіх» у шырокім сэнсе гэтага паняцця. Гэтая бірка мацавалася да іх, як толькі яны ўпершыню пераступалі парогі адміністрацыйных установаў Расійскае імперыі. Ніхто не пытаўся ў іх думкі што да іхнага самавызначэння, а самі яны былі не ў стане запярэчыць. Нават калі ў іх пыталіся, яны не маглі выразна адказаць з прычыны палітычнага і гістарычнага няведання або і проста абыякавасці да свае мінуўшчыны, да свае этнічнае тоеснасці. Толькі адно мелі яны на думцы — патрапіць у зямлю абяцаную. Для рэгістратараў і статыстыкаў сяляне-іміграняты з Беларусі сталіся «рускімі».

Па прыбыцці на амерыканскую зямлю іх сустракалі ды зноў жа рэгістравалі як «рускіх». Дзясяткі тысячаў прыязджалі, каб стацца яшчэ адной часткаю «іміграцкіх масаў». Дзякуючы бюракратычнай інерцыі і непадрыхтаванасці службоўцаў урада ЗША беларусы не былі прызнаваныя ў якасці апрычонае нацыянальнае групы на працягу цэлых дзесяцігоддзяў пасля іхнага прыбыцця на берагі Новага Свету. Іміграняты, што паходзілі з беларускіх паветаў Віленскае і Смаленскае губерняў, а таксама з Гарадзеншчыны, Віцебшчыны, Меншчыны, Магілёўшчыны, Піншчыны, Берасцейшчыны і Гомельшчыны, заганяліся ў адну з «афіцыйных» этнічных катэгорый амерыканскімі іміграцыйнымі ўладамі, дэмографамі, сацыёлагамі, палітыкамі і таксама, на жаль, шматлікімі навукоўцамі. Гэткімі катэгорыямі былі: «літоўцы» («*Lithuanians*», недакладны пераклад з «ліцвінаў», даўняга назову беларусаў, ужыванага да пачатку XX стагоддзя), «палякі» для беларусаў-каталікоў, «рускія» для праваслаўных беларусаў. Да таго ж шмат хто з беларусаў патрапляў у «іншыя славяне» або проста ў «іншыя» .

І тут трэба добра ўсвядоміць, што гэтая «руская маса» была творам службоўцаў-бюракратаў Расійскае імперыі ды іхных калегаў у Злучаных Штатах. Дзеля зручнасці бюракратыі і адміністрацыйнае летаргіі людзі, што паходзілі з Беларускае зямлі, гаварылі па-беларуску і прывезлі разам з сваім небагатым нажыткам беларускія звычаі і традыцыі, рабіліся «рускімі». Гэткі паварот падзей быў не проста несправядлівасцю — сапраўднаю трагедыяй XX стагоддзя сталася тое, што бюракратыя займела ўладу маніпуляваць нацыянальнаю тоеснасцю людзей і замяняць яе вялікаю маною.



Бірка «рускі» прыліпла да многіх. Яны прымалі яе, бо што яны ведалі? Што яны маглі зрабіць? На кожным рагу прадстаўнікі ўлады запэўнівалі іх, што яны і напраўду «рускія».

Аднак сёння сацыёлагі і этнолагі маглі б нешта зрабіць, каб выправіць гэтую гістарычную памылку. Хімерычны тэрмін «рускі», сустраканы ў амерыканскай статыстычна-даведачнай літаратуры, мусіць быць старанна даследаваны навукоўцамі, каб выявіць шматлікія нацыянальнасці, што хаваюцца пад маскаю гэтае катэгорыі. Можна сказаць, абнавіўшы вядомае, стасаванае ў іншых абставінах выслоўе: «Паскрабі амерыканскага рускага, дык знойдзеш беларуса (або ўкраінца, грузіна і г. д.)».

Мэта гэтае працы — падаць удакументаваную інфармацыю пра гэтых памылкова азначаных амерыканскіх беларусаў ад XIX стагоддзя, праз першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя аж да пасляваеннае іміграцыі.

Шмат увагі ў кнізе аддаецца раскрыццю непаразуменняў, спрычыненых памылковым этнічным вызначэннем, і аналізу памылак, зробленых у мінулым рознымі даследчыкамі і арганізацыямі.

Жаданнем аўтара было таксама стымуляваць далейшыя даследаванні пра беларусаў у Злучаных Штатах, бо гэтая праца ўяўляе з сябе толькі ўводзіны ў новую вялікую тэму. Больш глыбокае вывучэнне такое этнічнае з'явы-праблемы застаецца задачаю будучых навукоўцаў.

Трэба спадзявацца, што гэтая кніга і будучыя даследаванні дазволяць знайсці для амерыканскіх беларусаў адпаведнае месца ў гістарычнай прасторы, вызначыць іхную этнічную тоеснасць і належна ацаніць іхны ўклад у разбудову і поступ Злучаных Штатаў Амерыкі.

Падаючы працу на суд беларускаму чытачу, хацелася б таксама, каб даследаванне беларускае эміграцыі наогул і ў ЗША ў прыватнасці на Бацькаўшчыне ішло больш сістэматычна і інтэнсіўна. На думку аўтара і шмат каго з даследчыкаў эміграцыі, настала пара не толькі вярнуць Беларусі двухмільённую масу яе сыноў і дачок, але і адзначыць беларускі ўклад у скарбонку сусветных дасягненняў у навуках — геаграфіі, хіміі, геалогіі і іншых — ды запісаць у дасягненні беларускае культуры здабыткі беларускіх эмігрантаў.

# АБ АМЕРЫЦЫ Ў ПАРЫ СЛОВАЎ

Калі пачынаеш чытаць «Беларусы ў ЗША», літаральна з першых сказаў паўстаюць пытанні: калі на беларускіх землях даведаліся пра Амерыку і ад якога часу з'явіліся ў Амерыцы беларусы? Адказаў на гэтыя пытанні ў айчынным друку адразу і не знойдзеш: у энцыклапедыях пра гэта няма, у іншых кнігах — не прыпамінаецца, каб гэтая тэма закраналася. Тым часам, па-за Беларуссю, на Захадзе, пра гэта згадвалі, даследавалі. На першае пытанне даследчык Абрам Ярмалінскі даў гэткі адказ:

*Каля 1572 года літоўскі шляхціц Амброзі Бразоўскі, пра якога больш нічога не вядома, пераклаў з польскае мовы на беларускую «Кроніку Бельскага». Колькі гадоў пазней, у 1584 годзе, у Маскве гэты тэкст быў невядомаю рукою перакладзены на рускую мову*[1].

Менавіта ў гэтай «Кроніцы» ўпершыню згадвалася назва «Амерыка».

Інфармацыя пра Беларусь (пад назовам «Літва») з'явілася ў Амерыцы ў друкаваных крыніцах у XVII стагоддзі, а ў больш падрабязным асвятленні — у XVIII стагоддзі[2].

Калі ж гаворка ідзе пра прыбыццё-пасяленне беларусаў у Амерыку, дык даследаванне Зоры Кіпель уяўляе з сябе добрую крыніцу інфармацыі. Паводле яе, капітан Джон Сміт стаўся першым губернатарам калоніі Вірджынія ў 1608 годзе. За пяць гадоў перад тым, у 1603 годзе, ён наведаў Беларусь. У сваіх «Праўдзівых падарожжах»[3] капітан Сміт згадваў, як ён прыехаў у *«Рэчыцу на рацэ Ніпэр, у літоўскіх межах»* (капітан Сміт паўсюль у кнізе ўжывае тэрмін «Літва» для азначэння сённяшняе Беларусі). Пасля ён апавядае пра сваё падарожжа праз паўднёвую Беларусь і Падолле ў Польшчу[4]. Такім чынам, не было б нічога незвычайнага, калі б капітан Сміт прывёз з сабою ў Вірджынію беларусаў (або таксама і ўкраінцаў), майстроў-дзегцяроў і цесляроў, разам з палякамі-гутнікамі. Гэтае меркаванне падтрымоўваецца і наступным цвярджэннем: *«Што да канопляў і лёну, паташу і залы, смалы і дзёгцю, цяпер рыхтуецца дамова аб запрашэнні людзей, умелых у гэтых рамёствах, з Усходніх краёў (Eastern parts): побач з палякамі, што дагэтуль застаюцца ў Вірджыніі»*[5]. Такім чынам, калі існуюць дакументы, што людзі, вядомыя як палякі, жылі ў калоніі Вірджынія, ёсць падставы меркаваць, маючы на ўвазе Смітавы падарожжы, што побач з імі маглі быць і беларусы. Знаёмства капітана Сміта з Усходняю Еўропаю наводзіць на думку, што ён ужываў тэрмін «усходні»,

[1] NYPL Bulletin. Vol. 43. 1939. P. 895,897; Vol. 47. 1943. P. 52, 53.

[2] Запісы БІНіМ. № 16. Нью-Ёрк, 1978. С. 119–128; № 17. 1983. С. 117–119.

[3] Smith, J. The true travels, adventures, and observations. Richmond (VA), 1819. (first edition: London, 1629).

[4] Кіпель, З. Капітан Джон Сміт на Беларусі // Запісы БІНіМ. № 16. Нью-Ёрк, 1978. С. 119–128.

[5] Smith, J. The true travels, adventures... P. 42. Гл. таксама: Haiman, M. Polish pioneers of Virginia and Kentucky. Chicago (IL), 1937. P. 36.



каб ахапіць вялікі геаграфічны абшар, а менавіта землі Беларусі і Украіны. Таму, мабыць, не будзе малаверагоднаю гіпотэза, што славянскія прозвішчы ў калоніі Вірджынія гэткія ж беларускія і ўкраінскія, як і польскія.

Ёсць таксама цверджанне ў старых хроніках і больш позніх запісах, што *«6 чэрвеня 1610 года іміграннт з горада Беластока, доктар Лаўрын Багун прыбыў у Калоніі»*[6].

Іншы грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага, які рана прыбыў у Амерыку і таксама мог быць беларус паходжаннем, — доктар Аляксандр Куртыус (Курчэўскі), вучоны і настаўнік у Нью-Амстэрдаме. Да свайго прыезду ў Калоніі ў 1659 годзе ён настаўнічаў у Полацку і Вільні. У Нью-Амстэрдаме Куртыус выкладаў «рускую мову» (*«Russian»*), а таксама быў першым выкладчыкам лаціны ў першай лацінскай школе, найвышэйшай навучальнай установе ў Нью-Амстэрдаме. З вялікаю доляю верагоднасці можна зрабіць прыпушчэнне, што Куртыусава «руская» мова, як і «руская» мова шмат каго з гандляроў у Нью-Амстэрдаме, была моваю Вялікага Княства Літоўскага, г. зн. беларускаю, хоць і не зазначаная як гэткая[7].

Нягледзячы на тое, што беларусы як нацыянальнасць не згадваліся ў ранейшых англамоўных крыніцах, у розных даследаваннях беларуская прысутнасць заўважаецца — яе трэба расшыфроўваць: раннія эмігранты — нашыя землякі — усё ж сваім жыццём ды асабліва месцам нараджэння (хоць зазначаліся толькі губерні Расійскай імперыі) станоўча прывязвалі сябе да Беларусі.

Пачнём разгортваць старонкі беларускай прысутнасці ў Амерыцы.

[6] Waldo, A. First Poles in America, 1608–1958: in commemoration of the 350th anniversary of their landing at Jamestown, Virginia, October 1, 1608. Pittsburgh, 1957. P. 14, 22.

[7] Cosmopolitain New Amsterdam // The New Netherland Register. New York. Vol. 1 (8). Special issue. 1911. P. 130–132; Kessler, H., Rachils, E. Peter Stuyvesant and His New York. New York, 1959. P. 208–209; Wytrwal, J. Poles in American history and tradition. Detroit (MI), 1969. P. 19–20; Curtius, A. Inaugural Medical Dissertation. Chicago: Lithuanian Medical Association, 1967. P. 9–10.

# БЕЛАРУСКАЯ ІМІГРАЦЫЯ Ў ДАСЛЕДАВАННЯХ, ПУБЛІКАЦЫЯХ І СТАТЫСТЫЧНЫХ КРЫНІЦАХ

Прыступаючы да разгляду беларускае эміграцыі / іміграцыі, трэба ўдакладніць наступнае: 1) ці збіраліся ў гэтай галіне адпаведныя матэрыялы? 2) ці былі сістэматычныя спробы вывучэння працэсу эміграцыі беларусаў у Злучаныя Штаты і жыцця амерыканскіх беларусаў? На жаль, адказ на гэтыя пытанні будзе адмоўны, і даследчык эміграцыі з Беларусі непазбежна сутыкнецца з шматлікімі праблемамі.

Асноўная цяжкасць палягае ў тым, што беларусы не атрымоўвалі дакладнага этнічнага акрэслення ні пры выездзе з бацькаўшчыны, ні па сваім прыбыцці ў Злучаныя Штаты. Іх не запісвалі беларусамі. Галоўнаю прычынаю гэтага была пазіцыя расійскіх уладаў у нацыянальным пытанні. Трэба мець на ўвазе, што царскія ўлады пазбавілі беларусаў афіцыйнага назову і не дазволілі стварыць адміністрацыйную адзінку, якая ўлучала б усю беларускую этнаграфічную тэрыторыю. Расійская адміністрацыя называла беларусаў рускімі, нягледзячы на тое што ў перапісе 1897 года ўжо была рубрыка «беларусы», «беларуская мова» і гэтыя тэрміны ўжываліся ў навуковых колах. Што да пагляду на эміграцыю з Расійскае дзяржавы, дык, з аднаго боку, расійская адміністрацыя ўважала, што *«истинно русские»* людзі не выязджаюць, а з другога боку, беларусы пад сваім сапраўдным імем у статыстыцы не фігуруюць ні ў рубрыцы «іншародцы», ні ў рубрыцы «племянны склад». Другая цяжкасць заключалася ў тым, што канфесія атаясамлівалася з нацыянальнасцю: беларусаў рыма-каталіцкага веравызнання залічалі ў палякі, праваслаўных — у рускія.

Магчымасць дакладнага этнічнага акрэслення беларусаў пры іміграцыі ў ЗША і рэгістрацыі іх як беларусаў была амаль выключаная. Па-першае, нацыянальная прыналежнасць у тых умовах атаясамлівалася з грамадзянствам паводле пашпарта, дзе этнічная прыналежнасць не вызначалася. Па-другое, бюракраты амерыканскіх іміграцыйных уладаў дзеілі ў поўнай згодзе з сваімі расійскімі братамі: у аператыўным даведніку «Слоўнік расаў або народаў» (Вашынгтон, 1911)[1], які браўся за падставовы дакумент пры рэгістрацыі імігрантаў, беларусы не прызнаваліся асобнаю этнічнаю групаю. Нягледзячы на тое што аснову гэтых дзвюх урадавых бюракратый складалі дзве розныя і нават супрацьлеглыя філасофскія канцэпцыі — нацыянальны прыгнёт і дыктатура ў Расіі ды павага да правоў чалавека ў Злучаных Штатах, — яны згаджаліся ў канчатковым выніку: шмат якім этнічным групам не знаходзілася месца ў статыстыцы па абодва бакі акіяна. Гэткім парадкам, даследаванні, што грунтаваліся б на статыстычных дадзеных, сталіся амаль немагчымыя. Стварылася парадаксальная сітуацыя: з аднаго боку, вядомы факт, што беларусы прыязджалі ў Амерыку ў вялікай колькасці, а з другога боку,

[1] Dictionary of Races or Peoples (Reports of the Immigration Commission. Senate, Doc. № 662). Washington, 1911.



пра іх няма ніякае афіцыйнае статыстыкі. Гэта і было адной з галоўных прычынаў таго, што сотні працаў пра амерыканскіх славянаў зусім не згадваюць пра беларусаў. У сапраўднасці ж становішча яшчэ горшае: на тысячах і тысячах старонак даследаванняў і аналізаў беларусы Злучаных Штатаў атрымоўваюць памылковае этнічнае акрэсленне і выступаюць пад чужым імем. Такім чынам, вывучэнне беларусаў у Злучаных Штатах — справа няпростая.

Звернем увагу таксама, што праблема з азначэннем нацыянальнасці беларускім імігрантам была рэальнасцю не толькі ў ЗША. Як сведчаць даследаванні, падобная сітуацыя была і ў Аўстраліі[2], і ў Канадзе[3], прыпушчаю, што і ў іншых краінах, аднак праблема патрабуе адмысловага вывучэння.

Ніжэй разглядаецца даследчая літаратура пра славянскую іміграцыю, робіцца спроба высветліць і запоўніць прабелы ў дачыненні да беларусаў у гісторыі амерыканскае іміграцыі ды паказаць, што прысутнасць беларусаў, тым не менш, была заўважаная, хоць гэта і не заўсёды было ясна выказана ў друку.

Пра некаторыя праблемы вывучэння беларусаў у Амерыцы было сказана ў нашай ранейшай публікацыі[4]. Цяперашні аналіз значна пашырае рамкі даследавання ды ўлучае як англамоўныя, іншамоўныя, гэтак і беларускамоўныя крыніцы і матэрыялы.

## Англамоўныя публікацыі

За выключэннем невялікіх заўваг у агульных працах пра славянаў у Амерыцы і ў кароткіх газетных артыкулах ды нязначных згадак у даведачнай літаратуры, пра беларусаў Амерыкі напісана няшмат. Нягледзячы на шырокі і разнастайны спектр славянаведных даследаванняў у Амерыцы, беларуская тэматыка ўсё яшчэ застаецца па-за ўвагаю навукоўцаў.

Дэзынфармацыя і няўвага да Беларусі пачынаецца ўжо ў амерыканскай школе і працягваецца праз далейшыя стадыі навучання, у якіх на Усходнюю Еўропу наогул, а на Беларусь у прыватнасці зварочваецца вельмі малая ўвага. У выніку недастатковасці інфармацыі не ўзнікае зацікаўленасці вучняў і студэнтаў у далейшых студыях. І хоць апошнім часам назіраецца пэўны прагрэс, усё XX стагоддзе як Беларусь, гэтак і іншыя краіны Усходняе Еўропы былі занядбаныя ў адукацыйным працэсе. Тым не менш славянаведныя студыі ў Амерыцы не застаюцца без увагі.

Паважныя працы пра славянскую іміграцыю пачалі з'яўляцца ў ЗША на пачатку XX стагоддзя. Інфармацыя пра Беларусь, калі яна была, звычайна абмяжоўвалася да кароценькае нататкі пра мову ды геаграфічнае становішча.

Адзін з першых амэрыканскіх даследчыкаў, хто згадаў пра Беларусь у гістарычным кантэксце, быў Ален МакЛохлін. Ён пісаў: *«У XIV стагоддзі літоўскія князі гаспадарылі на землях, дзе сёння жывуць палякі, літоўцы і беларусы»*. На жаль, гэты даследчык не адзначаў прысутнасці беларусаў у Амерыцы[5].

[2] Говор, Е. Белорусскіе анзакі // Беларускі гістарычны зборнік. № 40. Беласток, 2013. С. 53–108; Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 518.

[3] Sadouski, J. A History of Byelorussians in Canada. Belleville, 1981. P. 39–57; Садоўскі, Я. Беларуская іміграцыя ў Канаду // Запісы БІНіМ. № 41. Нью-Ёрк — Менск, 2019. С. 266–281.

[4] Kipel, V. The early Byelorussian presence in America // Запісы БІНіМ. № 17. Нью-Ёрк, 1983. С. 113–131.

[5] McLaughlin, A. The Slavic immigrant // Popular Science Monthly. May to October 1903. P. 69.

Не згаданыя беларусы і ў серыі працаў пра ўсходнееўрапейцаў і славянаў, якія друкаваліся на пачатку стагоддзя ў часопісе *«Charities»*[6]. Тым не менш паасобныя аўтары засяродзілі сваю ўвагу на праблеме значэння тэрміна «рускі», які яны часта бралі ў двукоссе. Гэтак, Мэры Б'юэл Сэйлз пісала:

*Найперш трэба коратка перагледзець этнічную і рэлігійную характарыстыку двух народаў, якіх мы згадваем як «палякаў» і «рускіх». Што да палякаў, дык справа досыць ясная. Некаторыя з іх акрэсліваюць сябе як «нямецкія», а некаторыя — як «расійскія» палякі, аднак бальшыня з іх звычайна гэткага адрознення не бачыць. З гэтак званымі «рускімі» справа больш складаная.*

Далей аўтар адзначала, што «рускія» — гэта найчасцей «маларосы», улучаючы ўсе іншыя тыпы «рускіх» ва ўсёабдымную рубрыку «розныя»[7].

Іншы аўтар, Кэйт Холідэй Клэгхорн, слушна вызначала на мапе паходжанне рускіх імігрантаў — «з заходніх ускраінаў» (імперыі) — і пісала:

*Большасць гэтых «новых» імігрантаў, як з Аўстра-Вугоршчыны, гэтак і з Расіі, можа быць разгляданая пад агульным назовам славянаў. Гэта значыць, што ўсе гэтак азначаныя народы гавораць мовамі, агульна вядомымі як славянскія. Гэткае азначэнне паказвае збольшага і на этнічную прыналежнасць, і, беручы пад увагу важнасць, якая аддаецца сёння ў грамадскім жыцці «этнічнаму» фактару, было б добра разгледзець этнічныя дачыненні, якія часткова выяўляюцца, а часткова прыхоўваюцца ў дачыненнях моўных. […]*

*Народы, азначаныя ў нашым пераліку як славяне паводле мовы і збольшага паводле этнічнае прыналежнасці, можна падзяліць на паўночных славянаў, якія ўлучаюць г. зв. «рускіх», палякаў, чэхаў, мараваў, славакаў і русінаў, паўдзённых славянаў. […]*

*Славяне Расіі складаюць каля паловы насельніцтва краіны... З іх каля сарака мільёнаў — велікаросы. […] Гэта тыповыя расейцы ці то сапраўдныя маскоўцы. Як відаць з мапы дый з статыстычных дадзеных, яны амаль не эмігруюць.*

У гэтым месцы Клэгхорн заўважыла, што *«рускія, згаданыя ў нашай статыстыцы, напэўна, не належаць да названае катэгорыі, але, магчыма, складаюць групу асобаў нявызначанае этнічнае прыналежнасці»*[8].

На праблему тэрміна «рускі» зварачалі ўвагу таксама Джон Команз і Эміл Балч[9]. Яны падкрэслілі, што этнічная група, называная рускімі, у сапраўднасці не аднастайная, а ўяўляе з сябе мяшанку розных народаў. Гэтак, Дж. Команз пісаў пра рускіх наступнае: *«Што да гэтых імігрантаў, дык важна зазначыць факт, што рускіх з іх 2 %, а 98 % — нярускія»*.

Гэтыя раннія працы пра славянаў у Амерыцы былі досыць грунтоўныя і аўтарытэтныя ды падавалі значны інфармацыйны матэрыял, і тым больш прыкра, што ў іх беларусы не былі вылучаныя як асобная этнічная група. Наступныя пакаленні даследчыкаў славянскае іміграцыі прынялі тэрмін «рускія» без ніякіх засцярогаў, гэтым самым укараняючы пачатковую памылку.

Непакоілі даследчыкаў і статыстычныя дадзеныя пра імігрантаў увогуле і ў прыватнасці пра тых, хто паходзіў з Расійскае імперыі. Так, прафесар Карл Бак,

[6] Charities. New York. 1904. № 10. P. 189–266.

[7] Charities. New York. 1904. № 10. P. 257, 259.

[8] Charities. New York. 1904. № 10. P. 205, 202.

[9] Commons, J. Races and Immigrants in America. New York (NY), 1907. P. 87; Balch, E. Our Slavic Fellow Citizens. New York (NY), 1910. P. 66, 277–278.



аналізуючы дадзеныя амерыканскага перапісу пачатку XX стагоддзя ў горадзе Чыкага, зазначаў:

*Літоўцы, якія паводле мовы і псіхікі складаюць асобны народ і прадстаўленыя тысячамі імігрантаў, нідзе не згадваюцца (у перапісе. — В. К.). У Чыкага падчас перапісу перапісчыкі казалі ім, што для літоўцаў няма графы ў перапіснай анкеце, і таму яны мусяць запісацца або палякамі, або рускімі*[10].

У сваім артыкуле пра насельніцтва Дэтройта Філіс Мэцлер пісала:

*Адна ўсходняя група была прадстаўленая вялікаю колькасцю, але гэтая колькасць зманлівая. Перапіс 1890 года зарэгістраваў 669 рускіх, але бальшыня з іх, напэўна, не думала пра сябе як пра рускіх. Некаторыя з іх бясспрэчна гаварылі па-польску і мусілі быць разгляданыя як частка польскае грамады. Шмат сярод іх было і яўрэяў, пагромамі выгнаных з Расіі... Але факт, што ў горадзе да 1910 года не было адчынена ніводнае праваслаўнае царквы, сведчыць пра тое, што да 1889 года тут не было значнае групы свядомых рускіх*[11].

Урад Злучаных Штатаў за першае дзесяцігоддзе XX стагоддзя прысвяціў шмат увагі даследаванню іміграцыі, выдаўшы ў якасці афіцыйных урадавых дакументаў серыю працаў пад загалоўкам «Даклады аб іміграцыі». Гэта грунтоўны аналіз іміграцыйных працэсаў, іх прычынаў і магчымых наступстваў для амерыканскае эканомікі. Асобным томам быў выдадзены вялікі даведнік «Слоўнік расаў або народаў» (1911). У ім падавалася аўтарытэтная інфармацыя пра беларусаў, азначаных ужываным тады тэрмінам *«White Russians»*. Колькі цытатаў дадуць уяўленне пра гэтую працу:

*Беларусы — адна з трох асобных галінаў расійскае моўнае і этнічнае еднасці, прытым менш значная колькасна і палітычна за дзве астатнія. Гэта такі самы народ, як і велікаросы («рускія») або маларосы («русіны»), хоць у Амерыцы іх успрымаюць звычайна проста як рускіх. У адрозненне ад Чорнае Русі Белую Русь усё яшчэ можна знайсці на этнаграфічнай мапе. Гэта малы, але кампактны рэгіён, які геаграфічна прыблізна супадае з тым, што цяпер завецца «Заходняю Расіяю», аднак сягае бліжэй да Масквы на ўсходзе... Беларусы складаюць больш за тры чвэрці насельніцтва Магілёўскае і Менскае губерняў і амаль палову Віцебскае, Віленскае і Гарадзенскае. У Ковенскай губерні і ў Курляндыі яны набліжаюцца да балтаў.*

*Беларусы доўгі час былі ў палітычным паняволенні, спачатку пад уладаю Літвы, пасля Польшчы і нарэшце Велікаросіі, хоць іхны лёс здаецца цяпер лепшым за лёс усіх іншых заняволеных народаў Заходняе Расіі. З гэтае прычыны, між іншым, мы мала чуем пра іх як пра асобную нацыю... Іх звычайна лічаць чысцейшаю галіною рускага племя ў параўнанні з велікаросамі і маларосамі. Абодва апошнія народы ўвабралі ў сябе значна болей мангольскага, фінскага і татарскага элементу...*

*Яны належаць... да найчысцейшага тыпу гэтак званае ўсходняе, або кельта-славянскае, расы.*

*Беларусы налічваюць менш за 6 мільёнаў чалавек або крыху больш за адну дзясятую ад колькасці велікаросаў. Беларусы-імігранты не вылучаюцца ў асобную групу*[12].

[10] Buck, C. A sketch of the linguistic conditions of Chicago (The University of Chicago Press. The Decennial Publications. First Series. Vol. VI). Chicago (IL), 1904. P. 6–7.

[11] Metzler, Ph. The People of Detroit, 1889 // Detroit Historical Society. January 1964. P. 12.

[12] Dictionary of Races or Peoples. P. 113–114.

У тым самым дакуменце гаварылася, што велікаросы эмігруюць галоўным чынам у Сібір, а аб'ём іхнае эміграцыі ў Амерыку меншы ў параўнанні з іншымі славянскімі народамі.

З гэтага дакумента выразна відаць, што амерыканскія іміграцыйныя ўлады мелі дакладнае ўяўленне пра этнічнае паходжанне імігрантаў з Расійскае імперыі. Застаецца загадкаю, чаму тыя самыя ўлады не карысталіся гэтымі дадзенымі і разуменнем гэтых этнічных адрозненняў пры складанні статыстычных матэрыялаў. Стэфані Бернардо, адна з сучасных даследчыкаў этнічных групаў у Злучаных Штатах, дала вельмі шчырае і дакладна выказанае тлумачэнне такога стаўлення ўладаў: зручнасць. Бернардо пісала:

*Больш за 200 000 рускіх прыехалі ў нашу краіну паміж 1881 і 1890 гадамі і яшчэ больш за 1,5 мільёна перабраліся ў Амерыку паміж 1901 і 1910 гадамі. Не ўсе яны, аднак, былі «рускімі» ў дакладным сэнсе слова — былі сярод іх яўрэі, палякі, украінцы, беларусы і карпатаросы, — але дзеля зручнасці іміграцыйныя службы рэгістравалі іх з увагі на краіну нараджэння або на іхны пашпарт, не зважаючы на іх індывідуальную этнічную спадчыну*[13].

У сучаснай тэрміналогіі такое стаўленне ўладаў магло б быць разгляданае як парушэнне правоў чалавека. Гэтая пазіцыя іміграцыйных уладаў мела дзве галоўныя відавочныя прычыны. Першая з іх была палітычная: большыня імігрантаў-славянаў прыбывала з імперскіх дзяржаваў — Расіі і Аўстра-Венгрыі. Паняцце нацыянальнасці, якое набыло больш выразнае акрэсленне ўжо ў XX стагоддзі, тады толькі пачынала фармавацца ў гэтых шматнацыянальных імперыях, і цэнтральныя ўлады глядзелі на гэтую з'яву без вялікае прыхільнасці — невядома, што яна магла з сабою прынесці. І таму няма нічога дзіўнага ў тым, што Злучаныя Штаты, заняўшы пазіцыю, глыбока абумоўленую іх брытанскаю гісторыяю і каранямі, маўкліва пагадзіліся з паноўнымі поглядамі дзяржаваў — «пастаўнікоў» імігрантаў. Другою прычынаю неўжывання нацыянальна-этнічных крытэрыяў было тое, што Злучаныя Штаты пад згубным уплывам тэорыі «плавільнага катла» былі неадчувальныя да праблемаў нацыянальнасці, нацыянальнае тоеснасці ці нацыяналізму ды не імкнуліся падкрэсліць або захаваць этнічныя адрозненні. На жаль, гэты пункт погляду пануе ў вялікай меры сярод вашынгтонскае бюракратыі і да сёння.

Падсумоўваючы сказанае, трэба зазначыць, што ў ранняй літаратуры пра іміграцыю ў ЗША нельга знайсці афіцыйных звестак пра беларусаў, за выключэннем «Слоўніка расаў або народаў» з ягоным няўдалым цвярджэннем, што беларусы не складаюць асобнае групы імігрантаў.

Прафесар Рычард Бок грунтоўна даследаваў і прааналізаваў пазіцыю амерыканскіх іміграцыйных уладаў і дадзеныя Бюро перапісаў Злучаных Штатаў. Ён спасылаўся на відавочныя тэрміналагічныя змены ў статыстычных звестках пра эміграцыю, якія нібыта ўвялі іміграцыйныя ўлады ў 1890-я гады. Тым не менш, зазначыў прафесар Бок, *«тры часткі Расійскае імперыі не выступаюць пад асобнымі загалоўкамі»*. Каб атрымаць больш рэалістычныя дадзеныя аб «племянным складзе» імігрантаў, ён прапанаваў параўнаць амерыканскую статыстыку са звесткамі мясцовых перапісаў, асабліва перапісу Расійскае імперыі 1897 года, у якім важную ролю ў вызначэнні этнічнага паходжання адыгрывала родная мова[14].

[13] Bernardo, S. The Ethnic Almanac. Garden City (NY), 1981. P. 53.

[14] Boeckh, R. The determination of racial stock among American immigrants // American Statistical Association. New Series. Vol. 76. Dec. 1906. P. 201–221.



На няшчасце беларусаў, іміграцыйныя ўлады Злучаных Штатаў не звярнулі ніякае ўвагі на імперскі перапіс 1897 года, паводле якога беларусаў налічвалася 6 380 000 чалавек (у сучасных межах рэспублікі)[15], і беларусы так і не былі ўлучаныя ў асобную рубрыку.

Фрэнк Уорн у сваім даследаванні славянскае іміграцыі ў антрацытавым вугальным басейне ў штаце Пенсільванія не вылучыў асобна беларусаў, ён зноў ужыў тэрмін «рускія» з удакладненнем *«дзіўны тып рускіх»*[16]. Аднак з гутарак з трэцім і чацвёртым пакаленнем амерыканцаў — нашчадкаў першых вуглякопаў канца 1890-х гадоў — вынікае, што ўсе яны паходзілі з Гарадзенскае, Віленскае або Валынскае губерняў. Шмат праваслаўных цэркваў у гэтым вугальным басейне былі пабудаваныя імігрантамі-беларусамі[17].

Эдвард Рос у артыкуле «Славяне ў Амерыцы» пісаў, што «рускія» імігранты ў Злучаных Штатах, якіх ён налічваў 56 000, не «сапраўдныя рускія». Прадбачачы магчымыя праблемы, звязаныя з «рускаю» групаю, Э. Рос сцвярджаў:

*Аднак гэтыя меншыя плыні могуць згубіцца ў магутным патоку, які можа хлынуць на нас, як толькі адчыніцца клапан, які стрымлівае вялікую цэнтральную славянскую масу 80 мільёнаў «сапраўдных рускіх»*[18].

Пішучы пра славянаў, што працавалі на фермах амерыканскага Поўдня, ЛеРой Ходжыз адзначаў:

*Між іншым, у паняцце «рускія», звычай ужыванае ў Злучаных Штатах, улучаецца некалькі славянскіх народаў. Гэта літоўцы (Lithuanians), што належаць да большае народнасці летаў (Letts), уласна рускія, якія ўлучаюць велікаросаў, беларусаў і русінаў, або маларосаў*[19].

Джэром Дэйвіс у даследаваннях ужываў паняцце «рускія» гэтак: *«Пад рускімі ў гэтай працы разумеюцца велікаросы, што насяляюць Цэнтральную Расію, беларусы, што жывуць паміж Польшчаю і Расіяю, і маларосы з колішняе Паўдзённае Расіі»*. Дж. Дэйвіс між іншым адзначаў:

*Мы дакладна не ведаем, колькі рускіх і русінаў ёсць у Амерыцы. Разыходжанні ў меркаваннях складаюць сотні тысячаў. Прычына гэтага відавочная, калі мець на ўвазе складанасць прысутнае тут этнічнае праблемы. Да 1898 года Бюро перапісаў Злучаных Штатаў залічала ўсіх, хто прыбываў з тэрыторыі, кантраляванае царскім урадам, да рускіх. Пачынаючы ад 1898 года яўрэі, гэтаксама як і русіны, адзначаліся асобна. У 1910 годзе ўсе тыя, хто называў сваёю роднаю моваю рускую, разглядаліся як рускія. Калі мы звернемся да апошняга расійскага перапісу, дык убачым, што 2 % усяго насельніцтва Еўрапейскае Расіі былі яўрэямі, якія назвалі сваёю роднаю моваю рускую. З увагі на тое, што пераважная большыня эмігрантаў з Расіі ў Амерыку былі яўрэі, не выклікае сумневу, што больш за 2 % з іх былі зарэгістраваныя перапісам як рускія*[20].

У сваёй іншай працы Джэром Дэйвіс пісаў:

[15] БелСЭ. Т. 12. Мінск, 1975. С. 55.

[16] Warne, F. The Slav Invasion and the Mine Workers. Philadelphia (PA), 1904. P. 102.

[17] Гутаркі аўтара з Мэры Краўс, Скрэнтан (штат Пенсільванія), кастрычнік 1987; з Галінай Кучура, Кінгстан-Далас (штат Пенсільванія), кастрычнік 1987, кастрычнік 1989.

[18] Ross, E. The Slavs in America // The Century Magazine. 1914. № 4. P. 597–598.

[19] Hodges, L. Slavs on Southern Farms: An account. (U. S. Senate. Doc. № 595). Washington (DC), 1914. P. 21.

[20] Davis, J. The Russians and Ruthenians in America. New York (NY), 1922. P. IX, 20.

*Перапісам 1920 года ў Злучаных Штатах зафіксавана 392 049 рускіх, народжаных за межамі краіны, і разам з народжанымі ў Амерыцы людзьмі рускага паходжання яны складаюць агульную колькасць 731 949 чалавек. Тыя, хто знаёмы з метадамі падліку пры перапісе, ведаюць, што гэтая лічба можа заключаць у сабе вялікую недакладнасць. Падлікі розных уладаў могуць вельмі істотна розніцца між сабою. [...] Хоць гэтыя меркаванні маюць няпэўную вартасць, афіцыйныя вынікі перапісу, як здаецца, апраўдваюць вызначаную колькасць каля 700 000, хоць гэта і азначае рост на 700 % у параўнанні з 1910 годам*[21].

У працы, прысвечанай даследаванню славянскае іміграцыі да Першае сусветнае вайны, Ф'ерыл Хэс пісала:

*Гэтых рускіх імігрантаў, не ўлучаючы сюды карпатаросаў і расійскіх яўрэяў, ёсць каля 200 000. Мяркуецца, што 25 % з іх складаюць велікаросы (што паходзяць з Цэнтральнае Расіі), 40 % — беларусы (з Усходняе [sic!] Расіі) і 35 % — маларосы (украінцы з Расіі)*[22].

Кенэт Мілер каротка згадваў беларусаў у сваёй кнізе, што выйшла ў 1925 годзе, і зрабіў пры гэтым важную заўвагу пра тое, што зусім выпала з поля зроку іншых даследчыкаў. *«Сярод беларусаў ёсць шмат рыма-каталікоў»*, — пісаў ён і зазначыў, што беларуская нацыянальнасць не прызнавалася расійскімі ўладамі і што цяпер беларусы маюць сваю рэспубліку[23].

Цікавую заўвагу пра беларусаў і іншых славянаў, што паходзяць з Расійскае імперыі, зрабіў вядомы амерыканскі вучоны Морыс Дэйві. Гэты аўтар, знаёмы з нацыянальнымі праблемамі, цвердзіў:

*Важны факт што да рускае іміграцыі палягае ў тым, што яна была пераважна няруская... Амерыканскія статыстыкі не бачаць адрозненняў паміж велікаросамі, беларусамі і маларосамі, але ёсць падставы меркаваць, што велікаросы пераважалі ў рускай эміграцыі да 1905 года, тым часам як пасля гэтага пачалі ў большай колькасці эміграваць украінцы і беларусы.*

Прычынаю гэткага становішча, паводле Дэйві, было тое, што да 1905 года пераважала руская рэлігійная іміграцыя, як, прыкладам, духаборы і іншыя рэлігійныя групы, пасля 1905 года пачала пераважаць няруская іміграцыя[24].

Амерыканскія аўтары Фрэнсіс Браўн і Джозэф Роўчэк падзялялі думку Дэйві[25]. Расійскія даследчыкі В. Бонч-Бруевіч і Валерыян Абаленскі таксама выказвалі меркаванне, што рускія сектанты складалі найбольшую групу эмігрантаў з Расійскае імперыі перад 1905 годам[26]. Абаленскі, аднак, ацэньваў колькасць беларускіх эмігрантаў, нават да 1905 года, на тым самым узроўні, што і рускіх сектантаў. З Абаленскім можна, бадай, пагадзіцца, бо некаторыя крыніцы, як, прыкладам, «Памятная кніжка Гарадзенскае губерні за 1905 год», паказваюць на значную колькасць беларусаў, якія эмігравалі ў Злучаныя Штаты[27]. Больш таго,

[21] Davis, J. The Russian Immigrant. New York (NY), 1922. P. 9–10.
[22] Hess, F. High Adventure. New York (NY), 1925. P. 119.
[23] Miller, K. Peasant Pioneers. New York (NY), 1925. P. 13. (Рэпрынт: 1969)
[24] Davie, M. World Immigration. New York (NY), 1936. P. 135, 136.
[25] Brown, F., Roucek, J. Our Racial and National Minorities. New York (NY), 1937. P. 203.
[26] Obolenskii, V. Emigration from and immigration into Russia // International Migrations. Vol. 2. New York (NY), 1931. P. 521–580.
[27] Памятная книжка Гродненской губернии на 1905 год. Гродна: Губернская типография, 1905. С. 83.



у допісе з Віленскае губерні за 1903 год паведамлялася, што эканамічнае становішча ў губерні вымушала сялянаў эміграваць галоўным чынам у Амерыку[28]. Гэтыя высновы сугучныя звесткам, якія падаваў упаўнаважаны ўрада ЗША да справаў іміграцыі ў 1902 годзе, як зазначыў Абаленскі[29].

Разам з тым Вячаслаў Панюціч у сваім аналізе міграцыйных працэсаў на Беларусі паказваў, што службоўцы ў розных мясцінах паведамлялі пра павелічэнне эміграцыі ў Амерыку пасля 1906 года[30].

У пазнейшых працах амерыканскіх аўтараў пра славянаў надалей ставілася пад сумненне вартасць статыстычнага матэрыялу пра «рускіх», і шмат хто з даследчыкаў адкрыта зазначаў, што гэтыя звесткі ненадзейныя і не могуць брацца пад увагу. Так, Карл Вітке цвердзіў, што статыстыка, якая датычыць імігрантаў з былое Расійскае імперыі, не мае значэння, бо ў ёй не робіцца розніцы паміж тымі, каго ён называў «сапраўднымі рускімі», ды іншымі нацыянальнасцямі. З недаверам ставіўся гэты аўтар і да звестак пра палякаў:

*У 1920 г. у Злучаных Штатах налічвалася 3 000 000 асобаў польскага паходжання, аднак і тут не трэба забывацца, што ў статыстыцы палякаў не заўсёды выразна адрознівалі ад русінаў і падобных групаў*[31].

Луіс Адамік ужываў няясны і зламысны тэрмін «славяна-росы» (*«Slavic-Russian»*) з відавочным намерам ахапіць усе славянскія нацыянальнасці імігрантаў з Расійскае імперыі, хоць і адзначаў, што ў Амерыку прыязджалі і беларусы. Адамік пісаў, што *«колькасць славянарoскіх імігрантаў складае каля чатырохсот тысячаў»*[32].

Праблемы, звязаныя з шырокім і непераборлівым ужываннем тэрміна «рускія», разглядаліся ў розных працах. У сваёй публікацыі пра імігранцкія паселішчы ў штаце Канектыкут Сэмюэл Коніг пісаў:

*З прычыны таго, што перапісы ў Злучаных Штатах залучалі без разбору пад шыльду «рускіх» розныя этнічныя групы, нарадзілася папулярнае ўяўленне, што ў Амерыцы вельмі шмат рускіх. Насамрэч жа сапраўдныя рускія, а пад імі мы разумеем велікаросаў, ніколі не прыбывалі сюды ў вялікай колькасці і, як з гэтага вынікае, складаюць значна меншую групу імігрантаў, чым гэта звычайна ўважаецца. Калі родная мова можа быць паказчыкам колькаснае вагі пэўнае этнічнае групы, тады, згодна з Бюро перапісаў Злучаных Штатаў, у Канектыкуце ёсць 9810 рускіх. Гэтая лічба непазбежна выключае народжаных у Амерыцы, затое бясспрэчна ўлучае шмат украінцаў і ўсіх беларусаў*[33].

Тым часам як некаторыя даследчыкі ясна і дакладна выказвалі свае сумненні што да слушнасці называння кожнага іміграцыі з Расійскае імперыі «рускім», іншыя аўтары фармулявалі свае засцярогі не гэтак выразна, але, тым не менш, аспрэчвалі ўжыванне тэрміна «рускія» ў дачыненні да шырокага спектру народаў. Шэраг амерыканскіх даследчыкаў, што вывучалі мову славянскіх імігрантаў

[28] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. Мінск, 1940. С. 613.
[29] Оболенский (Осинский), В. Международные и межконтинентальные миграции в довоенной России и СССР. Москва, 1928. С. 59.
[30] Панютич, В. К вопросу о росте отходничества из Белоруссии в эпоху капитализма. 1861–1914 // Материалы конференции молодых ученых. Вып. «История». Минск, 1963. С. 47–54.
[31] Wittke, C. We who built America: the saga of the immigrant. New York (NY), 1939. P. 420, 427.
[32] Adamic, L. A Nation of Nations. New York (NY), 1945. P. 152, 154.
[33] Koenig, S. Immigrant Settlements in Connecticut, their Growth and Characteristics. Hartford (CT), 1938. P. 43–44.

у Амерыцы, падкрэслівалі той факт, што большыня гэтых імігрантаў гавораць не па-руску — у працах часта ўжываўся выраз *«правільная руская мова»* (*«proper Russians»*), — а некалькімі рознымі славянскімі мовамі. Пры тым згаданыя імігранты, калі ў іх пыталіся, цвердзілі, што гавораць «па-руску». Гэтую з'яву можна было назіраць, прыкладам, на судовых пасяджэннях.

*Хадайнікі-рускія, якія жадаюць уехаць у Злучаныя Штаты... гэта, як выглядае, непісьменныя рабочыя, толькі адзін з якіх, здаецца, Гегіеў, гаворыць нармальнаю рускаю моваю... Іх цёмнасць спрыяла таму, што яны ўтварылі сваю асобную кліку на шкоду грамадзе*[34].

Х. Уэлз, вядомы амерыканскі пісьменнік, даследаваў пашырэнне рускае мовы ў Злучаных Штатах і пісаў наступнае:

*Звычайна ўважаецца, што ў нашай краіне жыве вялікая колькасць рускіх, і сапраўды, паміж 1890 і 1910 гадамі ў Злучаныя Штаты з Расійскае імперыі прыбыло некалькі мільёнаў імігрантаў. Большасць з іх, аднак, былі яўрэі, якія гаварылі на ідыш, хоць родная мова некаторых з іх была руская; рэшта была пераважна палякамі, якія, вядома ж, не дазволяць паблытаць сябе з ніякімі рускімі. Толькі невялікая частка была сапраўднымі рускімі, украінцамі або русінамі. І нават сярод іх украінцы і русіны да вайны складалі большасць*[35].

Нехта Пятро Сцепаноўскі, пішучы з Каліфорніі, адказаў на гэты артыкул Х. Уэлза ў лісце да вядомага журналіста і культуролага Генры Льюіса Мэнкена такімі заўвагамі:

*Мне прыйшло на думку, што вы можаце выкарыстаць артыкул Х. Уэлза пра рускую мову (Mercury, красавік 1932) у будучым выданні «Амерыканскае мовы». Як ваш заўсёдны чытач — і, калі дазволіце, гарачы прыхільнік — я лічу сваім святым абавязкам папярэдзіць вас ад такога ўвекавечання Уэлзавае энтузіястычнае лухты. Дастаткова будзе падаць колькі прыкладаў, каб пераканаць вас, што я гавару не з пустое галавы... Ну дык вось. С. 448, слупок 1, адступ 1. «Толькі невялікая частка была сапраўднымі рускімі, украінцамі або русінамі...» Найбольшаю групаю даваенных імігрантаў былі беларусы (з занядбанага балотнага краю Заходняе Расіі)*[36].

Яскравы прыклад тэрміналагічнае блытаніны і неразумення нацыянальнага пытання ў былой Расійскай імперыі ўяўляе з сябе праца Генры Фэрчайлда «Паходжанне імігрантаў» (1927), дзе ён апісаў «сапраўдных» рускіх сялянаў, маючы на ўвазе велікаросаў, і тлумачыў, чаму яны не схільныя да эміграцыі, а пасля, гаворачы пра беларусаў, зазначыў, што гэта *«палякі або, прынамсі, тая частка іх, якая ў выніку вайны і рэвалюцыі засталася ў Расіі»*[37].

Прафесар Альберт Пэры ў сваім артыкуле «Майстры разбірання дамоў» вылучыў беларусаў, апісаў іхныя працоўныя звычаі і ўпершыню ў амерыканскай перыёдыцы ўжыў тэрмін «Беларусь» (*Belorussia)*[38]. Пэры пісаў:

[34] Abbott, E. Immigration select documents and case records. Chicago (IL), 1924. P. 254.

[35] Wells, H. The Russian language in the United States // Mercury. April 1932. P. 448–450.

[36] Stepanovsky, P. Correspondence, May 7, 1932. Baltimore, Pratt Library, H. L. Mencken Room. File Box № AL-29.

[37] Fairchild, H. Immigrant backgrounds. New York (NY), 1927. P. 213–214.

[38] Да артыкула прафесара А. Пэры трэба зрабіць дадатак-заўвагу. Аўтар назваў свой артыкул «Майстры разбірання дамоў» — прыгожая, ветлая і справядлівая характарыстыка. Беларусы — работнікі ў галіне разбірання будынкаў працуюць аддана і «артыстычна», у сэнсе практычнасці, асцярожнасці, спраўнасці і хуткасці. Наколькі вядома аўтару кнігі, з вялікай (пару сотняў асобаў) групы беларусаў-разборнікаў з эміграцыі пасля Другой сусветнай вайны трагічна загінуў толькі адзін — Іван Падгайскі (1908–1957), зваліўшыся з будынка на Уол Стрыт у Нью-Ёрку ў часе працы па яго разбіранні (Бацькаўшчына. Мюнхэн. № 13 (347). 1957).
Праз 20–25 гадоў пасля артыкула прафесара А. Пэры аўтару гэтай кнігі дзясяткі разоў даводзілася гутарыць з сп. Васілём Юрцэвічам — беларусам, эмігрантам хвалі пасля Другой сусветнай вайны, доўгагадовым работнікам, кіраўніком працоўных пляцовак разборнікаў хмарачосаў у Нью-Ёрку (ён разбіраў будынак *«The New York Times», стары Пенсільванскі вакзал, былы «Madison Square Garden»* і дзясяткі іншых будынкаў-гігантаў на Манхэтэне). Сп. Юрцэвіч казаў, што беларусы як працаўнікі *«на добрым рахунку»* ў прафсаюзе разборнікаў: *«Я прывяду свайго чалавека, — казаў Васіль Юрцэвіч. — І ён атрымае працу. Вось тут на разборцы The New York Times Building працуе каля дзясятка нашых беларусаў, якіх я ўладзіў на працу»*. Дарэчы, сп. Васіль Юрцэвіч быў вельмі дзейным арганізатарам шмат якіх беларускіх угрупаванняў, улучна з саборам Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (гл.: Гардзіенка, А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА). Смаленск, 2009. С. 410; Беларус. № 199. 1973; Запісы БІНіМ. № 37. Нью-Ёрк—Менск, 2014. С. 231).



*Як і бальшыню рускіх у гэтай краіне, іх (беларусаў. — В. К.) называюць тут палякамі (Pollacks). (Рускімі тут называюць расійскіх яўрэяў.) Яны прыехалі ў Злучаныя Штаты ў дзесяцігоддзе перад сусветнаю вайною з балотных вёсак Беларусі, заходняе і найбольш адсталае часткі былое імперыі*[39].

Некаторыя аўтары падавалі правільную інфармацыю побач з недарэчнаю бязглуздзіцаю. Прыкладам, Яраслаў Чыж і Джозэф Роўчэк у сваім артыкуле «Рускія ў Злучаных Штатах» слушна ідэнтыфікавалі беларусаў і зазначалі, што ў Злучаных Штатах ёсць арганізаванае беларускае жыццё. Далей яны пісалі: *«Разгляд пытання ў артыкуле абмяжоўваецца да імігрантаў велікаросаў і беларусаў ды іх нашчадкаў»*, — дадаючы дакладную заўвагу: *«Беларусы ў трох заходніх губернях былое Расійскае імперыі складаюць асобную групу ўсходнеславянскае сям'і»*. На жаль, пасля гэтак добрага пачатку яны падалі адмысловы каментар, што:

*...звычайна не робіцца ніякае розніцы паміж велікаросамі (уласна рускімі) і беларусамі. Беларусы ў Амерыцы, як выглядае, цалкам здамінаваныя рускімі. Беларускія арганізацыі ў Злучаных Штатах вельмі нешматлікія і раскіданыя. Адзіная газета ў беларускай мове, «Беларуская трыбуна», якую выдаваў раз на тыдзень у Чыкага Я. Варонка, перастала выходзіць колькі гадоў таму*[40].

Вось і ўвесь «навуковы» аналіз беларускае іміграцыі!

* * *

Другая сусветная вайна адкрыла новы раздзел у гісторыі рассялення беларусаў у Злучаных Штатах. Слова «Беларусь» пачало з'яўляцца на першых старонках амерыканскіх газет. Беларуская зямля сталася важным плацдармам у змаганні з нацысцкаю Нямеччынаю. Беларуская ССР трапіла ў цэнтр увагі друку пасля вайны, калі яна сталася адною з краінаў-заснавальніцаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Хоць у асвятленні Другое сусветнае вайны і пасляваенных падзей БССР займала важнае месца і назоў гэты стаўся знаёмы амерыканцам, усё ж у сваёй бальшыні яны ніяк не звязвалі гэтую далёкую краіну з сваімі славянскімі суседзямі, якія да таго ж часта былі пазначаныя біркаю «рускіх».

Больш таго, з'яўляліся працы зманныя і шкодныя. Прыкладам іх можа служыць «Славянская энцыклапедыя», рэдагаваная Джозэфам Роўчэкам. Гэтая

[39] Parry, A. Artists of Wrecking // The Esquire. April 1936.

[40] Chyz, Y.; Roucek, J. The Russians in the United States // The Slavonic and East European Review. № 51. 1939. P. 638, 645.

зламысная кніга цвердзіла наступнае: *«Белых рускіх (White Russians), або беларусаў (Byelorussians), як іх цяпер называюць у Савецкім Саюзе, трэба разглядаць як рускіх...»*. Роўчэк пісаў далей: *«Беларусы не маюць нічога агульнага (нават у мове) з белымі рускімі, якія некалі былі таксістамі ў Парыжы, гавораць нейкаю абласною рускаю моваю і пішуць на ёй гэтак, як вымаўляюць»*[41]. Такім даведнікам, як «Славянская энцыклапедыя», месца ў музеях на паліцы «Дзівосы», а не ў бібліятэцы, дзе яны былі б крыніцамі дэзынфармацыі.

Беларускія матэрыялы пачалі з'яўляцца часцей, калі ў Злучаныя Штаты прыбыла хваля паваеннае беларускае іміграцыі. Грунтоўны аналіз быў зроблены Грамадскаю радаю за Амерыканскую еднасць. У гэтай публікацыі падавалася даволі дакладная справаздача аб беларусах у Злучаных Штатах і структуры беларускіх грамадаў у краіне:

*З увагі на тое, што большасць (паміж 60 % і 70 %) імігрантаў з даваеннае Расіі прыбыла, як лічыцца, з яе паўночна-заходняе, беларускае часткі, можна меркаваць, што з гэтых 400 000 асобаў ад 225 000 да 275 000 імігрантаў — беларускага паходжання. Тым часам няма нават самых агульных ацэнак колькасці беларусаў сярод 2 905 859 асобаў палякаў з нараджэння або паходжання. Магчыма, аднак, што не менш, чым 75 000–125 000 з іх — з паходжання беларусы. Гэта дазваляе ацаніць агульную колькасць асобаў беларускага нараджэння і паходжання ў Злучаных Штатах у 300 000–400 000 чалавек. Калі дастасаваць падобныя разлікі да статыстыкі нацыянальнасці паводле роднае мовы, дык можна прыпушчаць, што ў 1940 годзе асобаў, што мелі, паводле афіцыйнае дэфініцыі, «галоўнаю моваю, што ўжывалася дома і ў раннім дзяцінстве», беларускую, было ад 150 000 да 200 000.*

*Грамада амерыканскіх беларусаў, абуджаная прыбыццём з Еўропы беларусаў-інтэлектуалаў з ліку «перамешчаных асобаў», перабывае цяпер у стадыі арганізавання. Дзве суперныя між сабою беларускія арганізацыі, кожная з якіх прэтэндуе на лідарства, сфармаваліся толькі ў лютым сёлета (1951. —* В. К.*) і пакуль не мелі часу выявіць сваю сілу. Тэарэтычна абедзве яны падтрымоўваюць ідэю незалежнае дэмакратычнае Беларускае Рэспублікі. Розніца паміж імі, як і паміж адпаведнымі цэнтрамі ў Еўропе, як выглядае, заключаецца, па-першае, у колішняй арыентацыі (група Абрамчыка прыхільная да палякаў; Астроўскі супрацоўнічаў з немцамі), а па-другое, у агульным сваім складзе, прыхільнікі групы Астроўскага паходзяць збольшага з Усходняе Беларусі, ёсць сярод іх і ўцекачы з Савецкага Саюза. Да таго ж амаль усе яны праваслаўныя. З другога боку, значная колькасьць прыхільнікаў групы Абрамчыка — каталікі, і шмат хто з іх — калі не бальшыня — паходзяць з заходняе часткі Беларусі, якая ў міжваенным часе належала Польшчы. У абедзвюх групах, аднак, даволі выразна выяўляецца жаданне стварыць агульны фронт*[42].

Даклад гэты, хоць і кароткі, — першы паважнейшы аналіз беларускае іміграцыі ў Злучаных Штатах як палітычнае групы.

Пачынаючы ад 1950-х гадоў ужо «Кангрэсавыя запісы» змяшчалі значную колькасць матэрыялаў пра беларусаў, іх асяродкі, святы, арганізацыйную дзейнасць і змаганне за незалежную Беларускую дзяржаву[43].

[41] Slavonic Encyclopedia / J. Roucek, editor. New York (NY), 1949. P. 1096–1097, 1169–1170.

[42] Report on Byelorussian-Americans. Common Council for American Unity. New York, March 1951. P. 3–4, 7.

[43] Communist Takeover and Occupation of Byelorussia: Special Report № 9, H. Res. 346 and H. Res. 438. December 31, 1954. Washington, 1955.



У працах 1960–1980-х гадоў пра славянскую іміграцыю ў Амерыцы таксама неаднаразова закраналіся пытанні недасканаласці звычайна ўжыванае тэрміналогіі.

На жаль, улучэнне беларусаў і іншых народаў у групу «рускіх» шырока практыкуецца і да сёння. Майкл Трып, які даследаваў «рускіх» у Сан-Францыска, разважаў у сваёй працы пра «рускасць» «рускіх», але тут жа зазначыў, што сярод іх былі імігранты *«беларусы з Гарадзенскае, Менскае і Магілёўскае губерняў»*, і далей ужыў паняцце *«рускасці»* ў гэткім сэнсе:

*«Рускасць» выяўляецца ў тым, да якое краіны асобны чалавек або група людзей адчуваюць вернасць і адданасць, і адлюстроўвае палітычную геаграфію свайго часу*[44].

Адзін з пазнейшых амерыканскіх даследчыкаў «рускае» іміграцыі і яе адаптацыі ў амерыканскім грамадстве згадваў і беларусаў — праўда, у даволі няясным кантэксце — як асобную этнічную групу, але як частку «рускіх» масаў. Аўтар нават падаў некаторыя статыстычныя звесткі, ідучы за прыпушчэннямі Дэйвіса, што паміж 1888 і 1910 гадамі з Расійскае імперыі прыбылі больш за 1,9 мільёна імігрантаў. Сярод іх 4,4 % былі беларусы (аўтар ужыў тэрмін *White Russians*), што ў колькасным вылічэнні складае каля 84 000 асобаў. Але гэтае даследаванне малапрыдатнае і не дае выразнага ўяўлення ні пра амерыканскіх беларусаў наогул, ні пра колькасць беларускіх імігрантаў, бо пік інтэнсіўнасці перадваеннага іміграцыйнага патоку з Беларусі прыпаў на час пасля 1910 года[45].

Нью-Джэрсійскі аддзел Беларуска-амерыканскага задзіночання выдаў брашуру «Беларусы ў Нью-Джэрсі», дзе дадзены шырокі агляд беларускае дзейнасці ў штаце[46].

Аўтар Джуні Дрэнінг Голмкуіст, вывучаючы нацыянальнасці штата Мінесота, у кнізе «Яны выбралі Мінесоту» пра беларусаў у асобным раздзеле піша:

*Яны былі ў ліку першых паміж славянскімі народамі, хто пачаў засяляць штат, але цяжкая справа іх выявіць цяпер асабліва з грамады ўсходніх славянаў праваслаўнага веравызнання*[47].

Добрая рыса ў кнізе тая, што пададзеная мапа рассялення ў Еўропе ўсіх народаў, якія эмігравалі ў штат, улучна з беларусамі.

Даследаванні на гэтую тэму праводзілі таксама і студэнты розных каледжаў і ўніверсітэтаў. Адно з іх — праца Эдыт Калтовіч (штатны ўніверсітэт Ратгерс, штат Нью-Джэрсі) «Этналогія горада Роўблінга на прыкладзе дзвюх меншасцяў: беларусаў і русінаў». Апісваючы гэтыя дзве этнічныя групы, якія маюць шэраг агульных рысаў, Калтовіч зазначыла:

*Беларусы і русіны — дзве малыя групы імігрантаў, якія сяліліся ў прамысловых раёнах усходніх штатаў, асабліва ў Пенсільваніі і Нью-Джэрсі. Тыя з іх, што пасяліліся ў мястэчку Роўблінг, штат Нью-Джэрсі, мелі побач з тыповымі для імігрантаў праблемамі яшчэ і іншыя, што вынікалі з іх адносна малое колькасці, невядомасці краіны іхнага*

[44] Tripp, M. Russians in San Francisco // California Historical Quarterly. Spring 1941. P. 50, 68; Idem. Russian routs: Origins and development of an ethnic community in San Francisco. San Francisco (CA), 1980. P. 77.

[45] Johnston, B. Russian-American Social Mobility. Saratoga (CA), 1981. P. 4.

[46] Byelorussians in New Jersey. New Brunswick (NJ). 1964–1965.

[47] Holmquist, J. D. They chose Minnesota: a survey of the state`s ethnic groups. St. Paul: Minnesota Historical Society press, 1981.

*паходжання, няясна вызначанае нацыянальнасці і прыналежнасці да «гібрыднае» царквы. Калі ў 1905 годзе засноўваўся Роўблінг, беларусы і карпатаросы дапамагалі будаваць млын... Будучы руска-праваслаўнымі, беларусы наведвалі царкву Святога Уладзіміра (1916)... Некаторыя беларусы наведвалі каталіцкі касцёл Святога Успення ў Роўблінгу... Праз сваю малую колькасць беларусы заставаліся ізаляванымі і не збудавалі свае царквы, не набылі могілак... Пасяленцы з Беларусі звычайна будавалі свае дамы вакол гарадское зоны Роўблінга... Новая зямля была гасцінная, а новыя гаспадары працавітыя і ўпартыя. Тым часам як першае пакаленне імігрантаў засталося галоўна рабочымі і рамеснікамі, іх нашчадкі далі грамадству выдатных спецыялістаў і прафесіяналаў ва ўсіх галінах дзейнасці. Усе яны ўліліся ў галоўнае рэчышча амерыканскага жыцця і багата спрычыніліся да развіцця краіны. Першымі беларускімі пасяленцамі былі: Сцяпан Жытнік, Ядзвіга Спірыда, Юльян Аўдзік, Гары Варвара, бацька Аляксандры Казак Ян Захаркоў ды іншыя*[48].

«Беларусы ў Амерыцы» — гэтак называлася семінарская праца, прадстаўленая Віктарам Чартарыскім і Раманам Мардарэвічам у Сіці-каледжы Нью-Ёркскага гарадскога ўніверсітэта пад кіраўніцтвам прафесара Пітэра Гоя ў 1975 годзе[49].

Марыя-Паўла Сурвілла напісала пры Універсітэце Эн-Арбар, штат Мічыган, грунтоўнае даследаванне пра беларускія музычныя традыцыі ў Паўночнай Амерыцы — «Музыка і самавызначэнне: Музычная творчасць беларусаў у Паўночнай Амерыцы»[50].

З нагоды двухсотае гадавіны Злучаных Штатаў ды ў наступнае дзесяцігоддзе з’явілася значная колькасць публікацый пра амерыканскіх беларусаў; гэтая тэма разглядалася ў колькіх адмысловых даследаваннях ды з прыездам новае хвалі беларусаў, г. зн. беларускіх імігрантаў з Рэспублікі Беларусь, колькасць кніжак апісальных, даведачных павялічаецца[51].

«Гарвардская энцыклапедыя амерыканскіх этнічных груп» значна пашырыла аб’ём інфармацыі пра беларусаў у Злучаных Штатах, падаўшы і іхную прыблізную колькасць — ад 175 000 да 200 000 чалавек[52].

Важна адзначыць, што ў 1980 годзе беларусы ўпершыню як асобная група пад сваім сапраўдным імем з’явіліся ў афіцыйных дакументах перапісу насельніцтва

[48] Kaltovich, E. Roebling`s Ethnology of Two Minority Groups. New Brunswick (NJ), Rutgers University. Thesis. July 1977. P. 4, 10–11. Гл. таксама: Ethnic Heritage and Cultural Studies. July 20, 1977. P. 251–256.

[49] Czartorysky, V.; Mardarevich, R. Byelorussians in America. New York: City College, CUNY, 1975.

[50] Survilla, M.-P. Music and Identity: Byelorussians Making Music in North America. Ann Arbor: University of Michigan, Fall, 1990.

[51] Pap, M. Ethnic Communities of Cleveland. Cleveland, 1973. P. 67–73; Historic City: The Settlement of Chicago. Chicago, 1976. P. 77; Lopez, R. 25 Ethnic groups unite for a book // The New York Times. Nov. 28, 1976. P. 28–29; Kipel, V. Byelorussians in New Jersey // New Jersey Ethnic Experience. Union City (NJ), 1977. P. 88–107; Idem. Byelorussian Americans and their Communities of Cleveland. Cleveland (OH), 1982; Idem. Byelorussian Past and Present in America // Byelorussian Time (New York). 1978. № 16–17; Kipel, V., Kipel, Z. Byelorussian Theatre in U.S. // Ethnic Theatre in the United States. Westport (CT), 1983. P. 67–100; Guide to the study of Soviet Nationalities. Littleton (CO), 1982. P. 49–64; Guide to Ethnic Museums. Kent (OH), 1978. P. 113–116; New Jersey Ethnic Life Series. № 10. Trenton (NJ), 1985. P. 34–40, 68; Zaprudnik, J. Byelorussian Independence Day in America’s Bicentennial Year. New York (NY), 1977; Directory of Maryland Ethnic Organizations and Resources. Crownsville (MD), 1992. P. 62; Belarusian American Assn. DC Chapter of the Belarusan-American Assn. Washington (DC): BAZA. June 2010.

[52] Harvard Encyclopedia of American Ethnic Groups. Cambridge (MA), 1980. P. 181–184.



Злучаных Штатаў, дзе іх было налічана 7 381 чалавек[53]. І хоць колькасць зарэгістраваных перапісам 1980 года беларусаў неверагодна малая, істотны сам прынцып дакладнасці этнічнага вызначэння. Нарэшце амерыканская бюракратыя зрабіла крок да выпраўлення сваіх памылак, і можна спадзявацца, што ў дачыненні да беларусаў будзе аднаўленая гістарычная справядлівасць, зняважаная доўгімі гадамі[54].

Цікавае назіранне зрабіў Томас Арчдыкан у сваёй кнізе «Робячыся амерыканцам». Ён згадаў беларусаў у некалькіх месцах і, разглядаючы славянскую іміграцыю ў ЗША, пісаў:

*Усходнія славяне, сканцэнтраваныя ў сённяшнім Савецкім Саюзе, складалі асноўную масу славянаў часоў вялікае міграцыі. У іхных шэрагах былі рускія, беларусы, русіны і ўкраінцы — народы, што ўжываюць кірыліцу і належаць да Усходняе Праваслаўнае царквы або Каталіцкае царквы ўсходняга абраду.*

У іншым месцы гэты аўтар зазначыў:

*Большасць славянаў, якія пакінулі Еўропу, перабраліся ў Злучаныя Штаты. Амерыканская рэспубліка паглынула каля 83 % усяе эміграцыі паміж 1876 і 1910 гадамі; Канада, другая краіна, куды часцей кіраваліся эмігранты, прыняла толькі 8 %. Дакладна вызначыць этнічную прыналежнасць прыбылых немагчыма праз дэмаграфічную і этнічную складанасць рэгіёна*[55].

На жаль, хоць беларусы і згадваліся ў тэксце, але як толькі падавалася статыстыка, катэгорыя «беларусы» знікала.

Найноўшы аналіз звестак ранейшых перапісаў ды новы падыход у праблеме вызначэння малых нацый у іміграцыйнай мазаіцы, як гэта зрабіў, прыкладам, прафесар Пол Магочы ў 1987 годзе, дазволілі спадзявацца, што амерыканскія афіцыйныя колы будуць надалей больш акуратныя і адчувальныя пры збіранні дадзеных аб малых нацыях[56].

Пры такім стане рэчаў варта адзначыць адзін відавочны станоўчы факт: пра беларусаў пачалі згадваць у публікацыях, разлічаных на шырокія колы чытачоў[57]. Аднак у той самы час трэба прызнаць, што разам з ростам колькасці і якасці інфармацыі пра амерыканскіх беларусаў дэзынфармацыя яшчэ не спынілася дарэшты. Прыкладам такое нізкапробнае інфармацыі можа служыць кніга Стэнфарда Гербера *«Russkoya Celo»*, якая выйшла ў выдавецтве AMC Press у 1985 годзе[58]. Гэты «трактат» — красамоўны прыклад таго, як сацыялагічны жаргон у руках чалавека з мінімумам ведаў можа стацца шкодным і смеху вартым.

[53] U.S. Bureau of the Census, 1980. Гл. таксама: U.S. Dept. of Commerce, Washington (DC). Release. June 1,1983.

[54] Allen, J., Pand, J., Turner, E. We the People: An atlas of Ethnic diversity. New York (NY), 1988. P. 105–106; Kerner, R. Slavonic Studies in America // The Slavonic Review (London). № 8. Dec. 1924. P. 244–258; Ornstein, J. Slavic and East European Studies. Washington (DC). Dept. of State. External research paper. 1957. P. 36–37.

[55] Archdeacon, T. Becoming American: An Ethnic History. New York (NY), 1983. P. 125, 127.

[56] Magocsi, P. Are the Armenians really Russians? // Government Publication Review. Vol. 14. 1987. P, 133–168.

[57] Allen, L. Liberty, the Statue and the American Dream. New York (NY), 1985. P. 210, 217, 258; Dictionary of American Immigration History. Metuchen (NJ), 1990. P. 96–99; The Ethnic Almanac. New York (NY), 1981.

[58] Gerber, S. Russkoya Celo: The Ethnography of a Russian-American Community. New York (NY). 1985; Гл. таксама: Юрэвіч, Л. Жанры. Мінск, 2013. С. 62–67.

Аўтар тлумачыў ва ўступе, што *«як антраполагі, гэтак і сацыёлагі былі зусім няўважныя, разглядаючы руска-амерыканскія асяродкі»*. Ён цвердзіў, што збіраў матэрыялы для свайго даследавання каля года — *«ад 15 верасня 1965 да 1 жніўня 1966 года»* і *«з матэрыяльнаю дапамогаю "непасрэднага кантакту" — жыхара асяродка»* набыў досвед «удзельніка-назіральніка».

Гербер нідзе не падаў назову асяродка. Ён тлумачыў, што асяродак *«размешчаны на самай ускраіне вялікае гарадское зоны з насельніцтвам каля 1 200 000 жыхароў»*, недзе на Сярэднім Захадзе, дзе побач ёсць *«вялікая чыгунка, збожжавы элеватар і новазбудаваныя жылыя кварталы, субсідыяваныя ўрадам, для людзей з нізкімі прыбыткамі»*.

Ад пятае старонкі і да канца кнігі Гербер упарта ігнараваў этнічную прыналежнасць народу, з якім меў справу. Ці, дакладней, адмаўляў яе. Ягонаю задачаю, як выглядае, было даследаваць *«рускае этнічнае жыццё ў Амерыцы»*, і, натрапіўшы на славянамоўны асяродак, ён вырашыў, што яны сыдуць за рускіх. Ён дапушчаў, што *«выхадцы з Быларусі (Bylorussia) складаюць ядро насельніцтва Russkoya Celo»*. Паводле яго, толькі *«невялікая частка... выехала з іншых губерняў»*, сярод іх адзін чалавек з Украіны ды адна жанчына з Сібіры. Жыхары асяродка, *«якія пацвярджаюць сваё быларускае (Bylorussian) паходжанне, звычайна называюць сваёю радзімаю Гродна»*. Можна падумаць, што гэтых звестак было б дастаткова, каб аўтар гэтае дысертацыі звярнуўся да даведнікаў, якія б далі яму дадатковую інфармацыю пра Беларусь, беларусаў і беларускую мову. Замест гэтага ён паведаміў нам, што ягоных *«ведаў рускае мовы... было недастаткова, каб весці... даўжэйшыя размовы»*, і што ён валодаў *«хутчэй "класічнаю" рускаю моваю, чым размоўнаю»*. Можна заключыць, што, якога б майстэрства ў рускай мове ні дасягнуў сп. Гербер, ягоныя інфарманты, паводле іх самавызначэння, паходжання і роднае мовы, былі не рускімі, а беларусамі.

Гэтыя іміґранты з Гарадзенскае губерні апісвалі, як яны прыехалі ў Амерыку, тлумачылі прычыны свае эміграцыі, і, што важна падкрэсліць, даволі паслядоўна ўжывалі беларускую лексіку.

Ідучы за ўмела выпрацаванаю практыкаю амерыканскага друку ў справе разгляду этнічных або рэлігійных меншасцяў, Гербер пастанавіў знайсці і выкрыць нешта дзівоснае, фантастычнае і смешнае. І ён знайшоў. Нам прапанавана «інфармацыя» ад «інфармантаў» пра чорную магію, знахарства, народную медыцыну, соннікі, варажбу і шаптунства. Ягонаю мэтаю было знайсці дзікую, прымітыўную культуру — да таго ж з азнакамі вымірання, — калі гэта яшчэ не найгоршае, што ён зрабіў.

Чытачу пададзеная пустая бязглуздзіца, памылковая інфармацыя, свядомая дэзынфармацыя і стэрэатыпы. Гэтая кніга — непатрэбная, зманная мешаніна, небяспечна скляпаныя ў адно «дадзеныя», якія нікому не будуць карысныя. Гэтая публікацыя — сорам для навуковага грамадства і скандал для сацыёлагаў. Адзіная яе карысць — сведчанне таго, што і да сёння захаваліся анклавы, асяродкі і цэлыя царкоўныя прыходы, раскіданыя па ўсіх Злучаных Штатах, якія складаюцца з этнічных беларусаў.

Згаданыя нешматлікія англамоўныя публікацыі выразна паказваюць, як мала было напісана пра беларусаў у Злучаных Штатах і як мала сярод напісанага было паважных, грунтоўных даследаванняў. Больш глыбокае вывучэнне перыядычнае літаратуры трэба працягваць, і сям-там можна будзе знайсці новыя звесткі пра



беларусаў. Гэта, аднак, не мяняе высновы: беларусы як амерыканская этнічная група яшчэ не сталіся прадметам даследавання.

Аднак вельмі станоўчая з'ява ў вывучэнні нацыянальных групаў ЗША, працэсаў іміграцыі, адаптацыі ў Амерыцы і падобнага тое, што інфармацыя стала ідзе ў энцыклапедычныя даведнікі — туды трапляюць новыя звесткі. Гэтак інфармацыя пра беларусаў за апошнія колькі дзясяткаў гадоў з'явілася ў энцыклапедыях пра Кліўленд, Нью-Ёрк, Чыкага, пра беларускі тэатр — аўтарства В. Кіпеля, Л. Юрэвіча, В. Нікіфаровіча. Звычайна з энцыклапедый пачынаецца працэс далейшага даследавання, і выдатна, што ў вялікіх даведніках беларусы, бібліяграфія пра беларусаў у ЗША, пададзеныя. Бясспрэчна, з'ява гэтая новая і вельмі карысная.

## Амерыканскія ды іншыя неангламоўныя публікацыі

Няма нічога дзіўнага ў тым, што афіцыйныя рускамоўныя публікацыі да Першае сусветнае вайны не прызнавалі беларускае нацыянальнасці пры разглядзе эміграцыйнага працэсу. Беларускіх эмігрантаў запісвалі як рускіх. Часцей, чым у англамоўных публікацыях, падавалася геаграфічнае ўдакладненне паходжання, прыкладам *«рускія з заходніх або паўночна-заходніх губерняў»*.

Адзін з першых расійскіх службоўцаў, які ўзяўся прааналізаваць эміграцыю з Расіі, Канстанцін Воблы, зрабіў колькі важных заўваг пра эмігрантаў, іх паходжанне і падаў адпаведную статыстыку. Ён пісаў у 1904 годзе:

> *Кожны даследчык рускае эміграцыі сутыкаецца з цяжкою праблемаю. Каб аналізаваць эміграцыю з Расіі, трэба звяртацца да замежных крыніцаў. Адсутнасць дакладнае і паслядоўнае рэгістрацыі эмігрантаў робіць немагчымым паважны навуковы аналіз гэтага працэсу*[59].

У сваім уступе Канстанцін Воблы падкрэсліваў, што ён шырока карыстаўся замежнымі статыстычнымі крыніцамі. Ён пісаў таксама, што раёнамі імперыі, якія зазналі масавую эміграцыю паміж 1900 і 1904 гадамі, былі Каралеўства Польскае, Курляндская, Віцебская, Менская і Бесарабская губерні.

Падобнае карыстанне амерыканскімі статыстычнымі дадзенымі пра эміграцыю можна заўважыць у справаздачы расійскага консульскага дарадніка ў Вашынгтоне. У гэтай справаздачы аналізавалася амерыканская статыстыка па эмігрантах з Расійскае імперыі, у тым ліку і «племянны склад». У зробленым аглядзе беларусы не згадваюцца, будучы ўлучаныя ў катэгорыю «рускіх»[60].

Тым часам як урадавыя публікацыі — і амерыканскія, і расійскія — не вылучалі беларусаў у эміграцыйным перыядзе, іншыя неангламоўныя крыніцы — рускія, украінскія і польскія — рэгулярна адзначалі беларускую прысутнасць у Амерыцы.

Украінскі друк прызнаў існаванне беларускае іміграцыі ў Злучаных Штатах ужо ў 1897 годзе. Першы ўкраінскі каляндар у ЗША, датаваны 1897 годам, паведамляў:

> *Беларусы пачалі прыбываць у Злучаныя Штаты з заходніх губерняў Расіі пазней за славакаў і русінаў... Беларусы ў сваёй большыні былі праваслаўнае веры*[61].

[59] Воблый, К. Заатлантическая эмиграция, ее причины и следствия. Варшава, 1904. С. 46–51.

[60] Консульские донесения // Известия Министерства иностранных дел. Кн. VI. 1914. С. 117–135.

[61] Перші Русско-Американскій Календар. Mt. Carmel (PA), 1897. С. 49.

Шырока распаўсюджанае рускамоўнае выданне *«Русско-Американский Вестник»* ставіла пад сумненне нават дэфініцыю тэрміна «рускі»[62].

У рэдакцыйным артыкуле выдаванага ў Нью-Ёрку рускамоўнага бюлетэня *«Русский Вестник»* пісалася ў 1914 годзе:

*Руская эміграцыя ў Амерыку — з'ява позняя, але яна рухаецца шырокаю хваляю. За апошнія дванаццаць-трынаццаць гадоў амерыканскія берагі прынялі больш за 200 000 этнічных рускіх, г. зн. велікаросаў, маларосаў і беларусаў...*[63].

У «Руска-амерыканскім даведніку» ў 1913 годзе выказвалася меркаванне, што «руская» іміграцыя ў ЗША, г. зн. «веліка-бела-маларосы», складала каля 200 000 чалавек[64].

Удзельнік Надзвычайнае рускае місіі Я. Амельчанка ў сваім аналізе «рускае» іміграцыі ў Злучаныя Штаты разглядаў велікаросаў і беларусаў разам і прыйшоў да агульнае колькасці 139 000 чалавек на 1 ліпеня 1917 года, што *«значна ніжэй за часта паўтараную лічбу 300 000, паходжанне якой невядомае»*[65].

Д-р Марк Вільчур, аўтарытэтны і дасведчаны гісторык і даследчык «рускае» іміграцыі ў Злучаных Штатах, будучы сам сучаснікам гэтага працэсу, пісаў у сваёй кнізе: *«У бальшыні яны паходзілі з заходніх губерняў імперыі... гарадзенцы, мянчане, валынцы»*[66]. Вільчур таксама адзначаў праблему статыстыкі па эмігрантах з Расійскае імперыі:

*Дарма шукаць адказу на пытанне «Колькі рускіх у Амерыцы?» у афіцыйных статыстычных даведніках. Дадзеныя апошняга перапісу ў ЗША не адлюстроўваюць рэальнага становішча.*

Далей Вільчур перайшоў да аналізу прычынаў такога стану рэчаў, а пасля, чаргуючы розныя метады і карыстаючыся перапіскаю з рознымі штатамі, ён паспрабаваў вызначыць больш-менш праўдзівую лічбу. Паводле Вільчура, у 1918 годзе ў Злучаных Штатах было ад 600 000 да 700 000 «рускіх». Ён адразу пракаментаваў гэтую лічбу, кажучы, што яна ўключае таксама яўрэяў, каўказцаў, палякаў ды іншыя нацыянальнасці, якія паходзяць з Расійскае імперыі, гавораць па-руску і, будучы асіміляванымі, з зразумелых прычынаў лічаць сябе рускімі. Вільчур пісаў таксама пра ўрадавую статыстыку:

*Установы, што маюць справу з рускімі эмігрантамі ў Амерыцы, патройваюць гэтую лічбу (100 000) — 300 000, а шмат хто лічыць, што цяпер у Амерыцы жыве больш за 400 000 рускіх, карыстаючыся пры гэтым старою афіцыйнаю тэрміналогіяй і называючы рускімі выключна асобаў велікарускага, беларускага і маларускага плямёнаў*[67].

Марк Вільчур узначальваў Таварыства даследавання рускае іміграцыі, першаю задачаю якога было *«навязаць кантакты з этнічнымі арганізацыямі ўкраінцаў, беларусаў і карпатаросаў ды іншымі, а таксама атрымаць доступ да іхных архіваў,*

[62] Русско-Американский вестник. Нью-Йорк. 1911. № 3. С. 20.
[63] Русский вестник. Нью-Йорк. 1914. № 6. С. 1.
[64] Русско-американский справочник. Нью-Йорк, 1913. С. 127.
[65] Омельченко, Е. Финансово-экономическое положение Соединенных Штатов в 1917 году. Нью-Йорк, 1918. С. 87, 98.
[66] Вильчур, М. В Американском горниле (из записок эмигранта). Нью-Йорк, 1914. С. 11; Он же. Русские в Америке. Нью-Йорк, 1918. С. 121.
[67] Вильчур, М. Сколько русских в Америке // Вестник Америки. 1918. № 2 (6). С. 14.



*дакументацыі і г. д.»*[68]. Такія намеры таварыства можна было б толькі вітаць. На жаль, лёс гэтага праекта невядомы.

Цікавая серыя артыкулаў пра гісторыю рускіх пасяленняў у Амерыцы, падпісаная И. В. (крыптонім не расшыфраваны), была надрукаваная ў газеце *«Новый мир»* (Нью-Ёрк) і змяшчала нямала важных падрабязнасцяў з жыцця ранняе беларускае іміграцыі ў горадзе Нью-Ёрку. Вось адзін прыклад:

*Самы першы селянін з Менскае губерні Паўночна-Заходняга краю прыбыў у Амерыку, у Нью-Ёрк, на пачатку 1890-х гадоў. Ён высадзіўся на амерыканскіх берагах, спадзеючыся ўбачыць «золата, якое валяецца на вуліцах», як ён чуў у апавяданнях пра Амерыку ад землякоў-яўрэяў на сваёй радзіме. Праз яўрэйскіх сяброў ён знайшоў сабе першую працу ў швацкай прамысловасці Гэты селянін з Менскае губерні адчыніў сваё прадпрыемства і наймаў на працу сваіх землякоў да канца дзесяцігоддзя*[69].

Э. Гарын апублікаваў артыкул пра гісторыю рускае іміграцыі, прысвечаны галоўным чынам аналізу перапісу насельніцтва ЗША 1920 года. Паводле гэтага перапісу, у Злучаных Штатах налічвалася 781 949 рускіх і 2 718 842 народжаных у Амерыцы ад бацькоў-рускіх. Паводле Гарына, руская іміграцыя дасягнула піку паміж 1910 і 1914 гадамі[70].

Іншы аўтар, В. Казакевіч, зрабіўшы аналіз розных статыстычных крыніцаў, выказаў меркаванне, што руска-беларуская калонія ў Злучаных Штатах складае ад 200 000 да 300 000 чалавек ці, як ён казаў, *«гэтулькі амерыканцаў маюць свае карані ў Беларусі і Велікарасіі»*[71].

Істотная заўвага пра «рускую» калонію ў Дэтройце зроблена ў рэдакцыйным артыкуле рускамоўнага часопіса *«Русское обозрение»:*

*Нашы землякі маюць свае рэстараны, дзе яны ядуць. Называюцца гэтыя рэстараны «Кіеў», «Адэса» і «Менск». З назоваў гэтых рэстаранаў няцяжка здагадацца, адкуль паходзяць гэтыя людзі — з Украіны і Беларусі. У Дэтройце амаль няма велікаросаў. І нават тыя колькі тузінаў велікаросаў, што жывуць у Дэтройце, прыехалі нядаўна і завуцца «белаэмігрантамі»*[72].

У тым самым артыкуле зазначаецца, што ў Дэтройце налічваецца ад 40 000 да 50 000 імігрантаў з былое Расійскае імперыі.

Даніла Казушчык, беларус з паходжання і шматгадовы ўплывовы лідар арганізацыі *АРОВ* (Амерыканска-расійскае таварыства ўзаемадапамогі), пісаў з нагоды 30-годдзя арганізацыі:

*Асноўная маса рускіх імігрантаў, каля 300 000, прыехала ў Злучаныя Штаты паміж 1905 і 1914 гадамі. Гэта была эканамічная эміграцыя, якая складалася ў асноўным з збяднелых беззямельных беларускіх і ўкраінскіх сялянаў з заходніх і паўдзённа-заходніх губерняў царскае Расіі*[73].

[68] Вильчур, М. Изучение русской иммиграции // Наука и жизнь. Нью-Йорк. 1924. № 15. С. 31.
[69] И. В. История русской колонии в Америке // Новый мир. Нью-Йорк. 11 дек. 1926.
[70] Garin, E. America's Russians // Русский голос. Нью-Йорк. English Section. 1927. 6 нояб.
[71] Казакевич, В. Численность русской колонии в Америке // Новый мир. Нью-Йорк. 1936. 6 апр.
[72] Русское обозрение. Чикаго. 1928. Авг. С. 1–2.
[73] Казущик, Д. Тридцать лет АРОВ. 1920–1950 // Юбилейный сборник. Нью-Йорк, 1950. С. 10.

Спіс такіх цытатаў пра беларусаў з амерыканскіх неангламоўных публікацый можна было б доўжыць, але трэба сцвердзіць: больш глыбокіх даследаванняў беларускае іміграцыі ў Амерыцы не праводзілася.

## Савецкія, польскія і сучасныя расійскія публікацыі

У Савецкім Саюзе пытанні эміграцыі ў Злучаныя Штаты Амерыкі даследаваліся мала. Час ад часу з'яўляліся працы, прысвечаныя літоўскім, рускім, украінскім эмігрантам, але фактычна нічога істотнага не было напісана пра беларускую эміграцыю. Праўда, на пачатку 1930-х гадоў у друку БССР з'явілася статыстыка беларускае эміграцыі, але без ніякіх даследчых каментараў. Беларускі савецкі акадэмік Васіль Шчарбакоў падаў дзве лічбы што да беларускае эміграцыі: 1) беларуская эміграцыя ў Сібір паміж 1896 і 1916 гадамі склала 642 000 чалавек і 2) Беларусь перад Першаю сусветнаю вайною дала каля 800 000 эмігрантаў у ЗША[74].

Савецкія даследчыкі не толькі не публікавалі працаў пра беларускую эміграцыю, але і надалей ужывалі неадпаведную імперскую тэрміналогію, г. зн. карысталіся тэрмінам «руская эміграцыя», навязваючы тым самым уяўленне, што гэта эміграцыя велікаруская, а не беларуская ці ўкраінская.

Тыповым прыкладам можна лічыць працу Леона Баграмава, у якой аўтар апісваў калонію ў Су-Сіці, штат Аёва, эмігрантаў з Капыльшчыны. Ён называў іх рускімі, хоць яны стопрацэнтавыя беларусы[75].

Пазнейшы савецкі аўтар, Шыфра Богіна, згадвала беларусаў у кантэксце рускае групы; яна адзначала, што беларускага эмігранта апісаў у сваім рамане Караленка, але не заўважае, што беларусам быў і Мікалай Судзілоўскі-Русель[76].

Іншыя савецкія працы пра эміграцыю ў Злучаныя Штаты не надавалі Беларусі ніякае ўвагі, працягвалі блытаніну з тэрмінам «рускія» і засяроджваліся пераважна на сацыяльна-эканамічных аспектах жыцця імігрантаў ды іхным укладзе ў класавае змаганне ў Амерыцы. Гэта, прыкладам, кнігі В. Чыркіна, А. Шлепакова, Л. Зубка ды іншых[77].

Сярод пазнейшых працаў пра эканамічную і палітычную эміграцыю з Расійскае імперыі, дзе згадваюцца і беларусы, можна назваць кнігі Анатоля Чарненкі і Альфонсаса Эйдзінтаса.

У манаграфіі Анатоля Чарненкі разглядалася роля і ўплыў рускіх рэвалюцыянераў у амерыканскім рабочым руху. Ён згадваў колькіх актывістаў, народжаных у Беларусі, — Ісаака Гурвіча, Мікалая Судзілоўскага-Руселя, — але не даследваў беларускага ракурсу праблемы[78].

[74] Шчарбакоў, В. Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі і белапольская окупацыя. Мінск, 1930. С. 9.

[75] Баграмов, Л. Иммигранты в США. Москва, 1957. С. 101.

[76] Богина, Ш. Иммигрантское население США. 1865–1900. Москва, 1976.

[77] Чиркин, В. Дискриминация национальных меньшинств в США. Москва,1958; Шлепаков, А. Українська трудова еміграція. Київ, 1960; Шлепаков, А. Иммиграция и американский рабочий класс в эпоху империализма. Москва, 1966; Зубок, Л. Очерки истории рабочего движения в США. 1865–1918. Москва, 1962; Национальные процессы в США / под ред. С. Гонионского, А. Ефимова, Ш. Богиной. Москва, 1973. С. 278–291. У апошняй кнізе ў раздзеле «Славянскія групы ў ЗША» беларусы не згадваюцца зусім!

[78] Черненко, А. Российская революционная эмиграция в Америке (конец XIX в. — 1917 г.). Киев, 1989. С. 16, 42–45, 171–199.



Альфонсас Эйдзінтас вывучаў літоўскую эміграцыю ў Злучаных Штатах у часе паміж 1868 і 1940 гадамі; на жаль, ён не задумваўся над тэрмінам «рускі» і ўжываў яго без удакладнення ў самым шырокім сэнсе. Між іншым у працы зазначалася, што *«перад Першаю сусветнаю вайною 41 % рускіх эмігрантаў пакінуў краіну нелегальна без замежных пашпартоў»*[79].

«Вялікая савецкая энцыклапедыя» разглядала беларускую эміграцыю ў самых агульных словах:

*Некалькі сотняў тысячаў беларусаў жыве ў Аргенціне, Уругваі ды іншых паўднёваамерыканскіх краінах. Пра беларусаў у Злучаных Штатах статыстычных звестак няма*[80].

Пэўную інфармацыю пра эміграцыю з Беларусі ў Злучаныя Штаты можна знайсці ў даследаванні Алы Пешкавай, хоць гэтая тэма займала ў яе працы другараднае месца. Аўтарка лічыла, што бальшыня беларускіх эмігрантаў, якія выехалі ў Амерыку, паходзіла з Гарадзенскае губерні. Яна зрабіла выснову, што за пяцьдзясят гадоў перад расійскай рэвалюцыяй 1917 года каля 1 500 000 беларусаў паехалі на ўсход і што за 19 гадоў перад Першаю сусветнаю вайною з усходніх губерняў Беларусі каля 20 000 эмігрантаў выехалі за акіян. Такім чынам, страта часткі насельніцтва Беларусі на карысць эміграцыі спрычынілася да зніжэння дэмаграфічнага росту[81].

Аднак дзве працы савецкіх аўтараў пра эміграцыю мусяць быць адзначаныя асобна як важныя даследаванні, у якіх разглядаецца праблема беларускае эміграцыі ў ЗША. Адна з іх, мімаходзь згаданая раней, — грунтоўны аналіз эміграцыі з Расійскае імперыі Валерыяна Абаленскага, выдадзеная ў 1928 годзе[82]; другая — манаграфія пра эміграцыю Мікалая Тударану[83].

Праца Абаленскага хоць і была надрукаваная каля 90 гадоў таму, змяшчала актуальную яшчэ і сёння інфармацыю пра рускую (улучна з беларускаю) эміграцыю ў ЗША. Перадусім аўтар выказваў думку, што з розных прычынаў, мабыць, было б немагчыма вызначыць дакладную колькасць беларускіх (ды іншых) эмігрантаў з Расійскае імперыі перад Першаю сусветнаю вайною. Паколькі замежныя пашпарты выдаваліся губернскімі службамі паасобных губерняў, яны могуць служыць галоўнаю крыніцаю статыстыкі па эміграцыі[84]. На жаль, статыстычныя звесткі пра эміграцыю за мяжу збіраліся нерэгулярна; век, сямейны стан, занятак і краіна выезду зусім не рэгістраваліся. Адсутнічалі, зразумела, звесткі пра нелегальную эміграцыю, якая была даволі шматлікая. Абаленскі пісаў таксама, што расійскія даследчыкі часта бралі звесткі пра рускую эміграцыю з замежных крыніцаў, аднак, на жаль, замежныя іміграцыйныя службы не дбалі пра дакладнае вызначэнне нацыянальнасці эмігрантаў з Расійскае імперыі. Тым не менш праца

[79] Эйдинтас, А. Литовская эмиграция в страны Северной и Южной Америки в 1868–1940 гг. Вильнюс, 1989. С. 47.

[80] БСЭ. 1-е изд. Т. 5. Москва, 1925. С. 353; БСЭ. 2-е изд.. Т. 51. Москва, 1945. С. 353.

[81] Вестник Московского университета. Сер. V. География. 1968. № 3. С. 149–151.

[82] Оболенский (Осинский), В. Международные и межконтинентальные миграции... С. 5–6, 8, 21–27, 52, 59, 62–63, 132–133.

[83] Тудоряну, Н. Очерки российской трудовой эмиграции периода империализма. Кишинев, 1986.

[84] Даследаванні В. Панюціча паказваюць, што хоць пашпартная статыстыка была недакладная і няпоўная, яна складае важную крыніцу і змяшчае значную колькасць карысных звестак. Гл.: Панютич, В. Материалы отчетов податных инспекторов губернских обзоров // Материалы конференции молодых ученых. Вып. История. Минск, 1963. С. 88–93.

Абаленскага змяшчала некаторую статыстыку і шмат дакументаў, што датычылі нацыянальнага пытання. Так, прыкладам, Абаленскі цытаваў справаздачу віленскага губернатара, дзе сцвярджалася, што ў 1910 годзе эміграцыя з ягонае губерні дасягнула значных памераў і што эмігравалі пераважна літоўцы і беларусы рымска-каталіцкае веры. У той самай справаздачы гаварылася, што каля 18 000 асобаў пакінулі Віленскую губерню паміж 1908 і 1910 гадамі і што губернатар лічыў *«гэтую эміграцыю адным з нарожных камянёў жыцця губерні»*. Апроч гэтага, у дакуменце паведамлялася, што:

*...эпідэмія эміграцыі, якая, відаць, яшчэ да 1905 года пашырылася і на Менскую губерню, набыла шырокі размах і да 1913 года спрычынілася да нястачы працоўнае сілы ў губерні.*

У выніку гэтага за зіму 1914 года было арыштавана шмат агентаў, якія спецыялізаваліся на нелегальнай эміграцыі. Аднак працэс эміграцыі шырыўся надалей і да 1914 года дасягнуў Магілёўскае губерні. Абаленскі зрабіў выснову, што «руская» эміграцыя паміж 1907 і 1913 гадамі складалася пераважна з беларусаў і ўкраінцаў, і налічыў агульную колькасць «рускіх» эмігрантаў ад 1860-х гадоў да 1915 года каля 3 000 000 асобаў. Найбольш сярод эмігрантаў было яўрэяў, далей ішлі палякі, украінцы, беларусы, рускія, літоўцы, фіны і немцы. Абаленскі падаў працэнт кожнае нацыянальнасці ў гэтай агульнай лічбе, адкуль вынікала, што беларуская эміграцыя ў ЗША за гэты перыяд часу ў колькасным вылічэнні складала ад 180 000 да 270 000 чалавек.

Кніга Мікалая Тударану ўяўляла з сябе шырокі аналіз эканамічнае эміграцыі з Расійскае імперыі і змяшчала новыя дадзеныя з архіўных крыніцаў. Тударану карыстаўся як расійскімі, гэтак і замежнымі крыніцамі ды абагульніў новыя знаходкі. Важна адзначыць, што ў некаторых з гэтых дакументаў эмігранты з імперыі названыя беларусамі, а не рускімі або палякамі. Так, прыкладам, сувалскі губернатар паведамляў у 1910 годзе:

*Эміграцыя ў Амерыку пачыналася паступова і ўзрасла перад і падчас руска-японскае вайны 1904–1905 гадоў. Штогод выязджала ад 4000 да 6000 асобаў, хоць дакладнае статыстыкі не вялося. Найбольш эмігравала літоўцаў і палякаў, за імі ішлі беларусы, стараверы і, нарэшце, яўрэі ды немцы*[85].

У справаздачы гарадзенскага губернатара сцвярджалася:

*У пошуках працы выязджаюць пераважна беларускія сяляне, амаль выключна мужчыны ў веку паміж 18 і 40 гадамі*[86].

Цікавую заўвагу пра эмігрантаў з Расійскае імперыі зрабіў расійскі консул у Сіэтле і Номе (штаты Вашынгтон і Аляска). Консул падаў у 1914 годзе расійскаму паслу ў Вашынгтоне справаздачу, дзе адзначалася:

*За пяць месяцаў побыту тут мне давялося бачыць прадстаўнікоў большасці губерняў Еўрапейскае і Азіяцкае Расіі. Апошнім часам асабліва шмат беларусаў, маларосаў і велікаросаў — ураджэнцаў Курскае, Разанскае... ды іншых губерняў... Калі паглядзіш і пагаворыш з гэтымі эмігрантамі, дык дзіву даешся, як гэткая «глухая, шэрая вёска» магла трапіць у Амерыку. Калі яўрэі і немцы, якія далі пачатак эміграцыйнаму руху ў Расіі, у асноўным пакідалі яе назаўсёды, дык ахопленыя пасля гэтым рухам беларусы, рускія, украінцы, палякі, літоўцы, латышы, эстонцы, фіны, армяне, грузіны, асеціны разглядалі эміграцыю як часовую*[87].

[85] Тудоряну, Н. Очерки российской трудовой эмиграции... С. 174–175.

[86] Тудоряну, Н. Очерки российской трудовой эмиграции... С.175.



Тударану засяродзіў увагу на эканамічных аспектах эміграцыі з Расійскае імперыі і, на жаль, не спыніўся на пытанні нацыянальнасці эмігрантаў. Ён, як выглядае, прыняў тэрмін «рускія» для вызначэння геаграфічнага паходжання і не зрабіў ніякіх спробаў удакладніць этнічную прыналежнасць эмігрантаў. Шмат у чым ягоны аналіз нацыянальнага складу эмігрантаў паўтараў высновы Абаленскага, асабліва калі ён сцвярджаў, што беларусы і ўкраінцы ўлучаліся ў групу «рускіх» і што дакладна вызначыць колькасць гэтых эмігрантаў надзвычай цяжка, а можа, і немагчыма...

Тударану не падаў ніякае больш падрабязнае статыстыкі па нацыянальным складзе эмігрантаў з Расійскае імперыі, але меркаваў, што ад 1820 да 1916 года з Расіі выехалі каля 3 300 000 асобаў і што з гэтае лічбы 2 651 000 чалавек выехалі ў Амерыку паміж 1899 і 1916 гадамі. Ён вызначыў гэты адцінак часу як *«перыяд імперыялізму, калі значна ўзраслі патрэбы Злучаных Штатаў у таннай працоўнай сіле»*. Аднак адразу па гэтым цверджанні аўтар пісаў:

*Нацыянальны, сацыяльны і полава-ўзроставы склад рускіх эмігрантаў сведчыць пра тое, што ў пошуках лепшае долі ў ЗША эмігравалі прыгнечаныя нядоляю простыя працаўнікі — рамеснікі, сельскагаспадарскія работнікі, сяляне*[88].

Рэверансы ў бок пераваг савецкае сацыялістычнае палітыка-эканамічнае сістэмы, на жаль, зніжаюць навуковы ўзровень працы.

Некаторыя сведчанні пра беларускую эміграцыю ў Злучаныя Штаты Амерыкі можна сустрэць і ў польскамоўных публікацыях 1980-х гадоў. Фларыян Стасік зазначыў, што сярод *«польскіх імігрантаў у ЗША былі таксама яўрэі, немцы, украінцы, беларусы і літоўцы»*[89].

Шырокі агляд літаратуры пра сацыяльна-дэмаграфічныя ўмовы на Беларусі ад другое паловы XIX стагоддзя да 1939 года быў надрукаваны беластоцкім беларусам Алегам Латышонкам у зборніку *«Studia Historyczne»*[90].

Можна спадзявацца, што далейшыя даследаванні польскае эміграцыі, асабліва з рэгёнаў Беластока, Сувалак, Бельска і Гайнаўкі, закрануць і беларускі элемент.

Працы, прысвечаныя эміграцыі ў ЗША працягваюць з'яўляцца і ў постсавецкай Расіі. У іх выкарыстоўваюцца і новыя архіўныя звесткі. Прыкладам, даследчык Аляксандр Сакалоў падае такія лікі іміграцыі з Расійскае імперыі:

*З 1881 да 1890 гг. толькі ў ЗША з межаў Імперыі эмігравалі каля 213 тыс. чалавек... У наступнае дзесяцігоддзе ўжо больш за 500 тыс. расійскіх перасяленцаў высадзіліся ў порце Нью-Ёрка*[91].

А вось, як даследчык «аналізуе» нацыянальную прыналежнасць эмігрантаў:

[87] Тудоряну, Н. Очерки российской трудовой эмиграции... С. 177–178.

[88] Тудоряну, Н. Очерки российской трудовой эмиграции... С. 185.

[89] Stasik, F. Polska emigracja zarobkowa w Stanach Zjednoczonych Ameryki. 1865–1914. Warszawa, 1985. S. 47.

[90] Latyszonek, O. Problematyka Spoleczno-Demograficzna Ziem Białoruskich // Studia Historyczne. R. XXXI. Z. 4 (123). Warszawa, 1988. S. 613–624.

[91] Соколов, А. Российская экономическая и религиозная эмиграция в Америку в конце XIX в. // Россика и русистика новейшего времени: Труды международной конференции памяти А.А. Фурсенко (1927–2008). Санкт-Петербург: Изд-во Санкт-Петербургского государственного университета, 2010. С. 237.

*Амерыканская іміграцыйная служба да пачатку 1900-х гадоў не ўлічвала этнічнага паходжання імігрантаў, фіксуючы пры рэгістрацыі толькі краіну іх папярэдняга пражывання. Таму, пры адсутнасці ў даследаваны перыяд расійскае статыстыкі эміграцыі, магчыма суаднесці колькасць імігрантаў па нацыянальнай прыкмеце толькі за адзін 1900 год*[92].

Далей аўтар падае статыстыку імігрантаў паводле нацыянальнасці: немцаў, фінаў і г. д., а пра «рускіх» піша так: *«уласна рускія, а гэты этнонім, як правіла, ахопліваў таксама ўкраінцаў і беларусаў, нават на мяжы стагоддзяў былі найменшай часткай іміграцыі»*[93]. І больш беларусы нідзе не згадваюцца, хоць вядома, што найбольшую частку імігрантаў з Расіі ў ЗША складалі менавіта беларусы.

Акрамя таго, Аляксандр Сакалоў недакладна абыходзіцца з адміністрацыйна-гаспадарчай тэрміналогіяй. Прыкладам, ён падае: *«У мінулым (1889) годзе, аднак, выявілася схільнасць да эміграцыі і ў карэнным сялянскім насельніцтве... з прывіслянскага і балтыйскага краю»*[94]. Але «балтыйскага» краю ў даведніках няма, а ёсць паўсюль край «прыбалтыйскі»[95].

Цікава таксама адзначыць і тое, што даследчык свядома і з гонарам залічвае ў здабытак расійскай культуры дзеянні амерыканскіх рускіх грамадскіх і царкоўных арганізацый, зазначае, што *«Амерыка мае быць удзячная выхадцам з Расіі»*, і пералічвае тых «выхадцаў», улучаючы ў «рускі кацёл» усіх амерыканскіх яўрэяў, якія паходзілі з Беларусі.

Відавочна, што ўдакладненне нацыянальнасці «рускай» эміграцыі не было і не ёсць у мэтах ні ранейшых, ні цяперашніх даследчыкаў.

## Беларускія крыніцы

Працэс і праблемы беларускае іміграцыі ў Злучаных Штатах разглядаліся ў беларускіх публікацыях і таго часу, і на працягу наступных дзесяцігоддзяў. І хоць гэтыя матэрыялы мелі ў асноўным апісальны характар, у іх рабіліся спробы вызначыць колькасць эмігрантаў, прааналізаваць сацыяльна-эканамічнае становішча ў краіне, а таксама выказваліся агульныя погляды на эміграцыю.

Піянерам у распрацоўцы гэтае тэмы сталася газета «Наша Ніва», сучасніца эміграцыйнага працэсу[96]. Рэдактар-выдавец «Нашае Нівы», эканаміст паводле адукацыі і прафесіі Аляксандр Уласаў напісаў шмат артыкулаў, дзе закранаўся тэма эміграцыі з Беларусі, і распрацаваў сваю метадалогію, з дапамогаю якое спрабаваў вылічыць прыблізную колькасць эмігрантаў з Беларусі. Аднак найбольшы ягоны клопат палягаў у тым, каб вызначыць памеры фінансавае дапамогі — у форме паступленняў на банкаўскія ўклады, — якую маглі б даць беларускія эмігранты ў ЗША. Ягоны падыход быў чыста тэарэтычны, але, карыстаючыся ягоным метадам, можна прыйсці да лічбы 700 000–750 000 — колькасць беларусаў, што выехалі ў Злучаныя Штаты[97].

---

92 Соколов, А. Российская экономическая и религиозная эмиграция в Америку... С. 237.

93 Соколов, А. Российская экономическая и религиозная эмиграция в Америку... С. 238.

94 Соколов, А. Российская экономическая и религиозная эмиграция в Америку... С. 238.

95 Прибалтийский край // Энциклопедический словарь Брокгауза и Ефрона: в 86 т. Т. XXV (49). Санкт-Петербург, 1898. С. 110–117.

96 Кіпель, В. Эміграцыя зь Беларусі й газэта «Наша Ніва» // Запісы БІНіМ. № 19. Нью-Ёрк, 1989. С. 66–95; Бэрд, Томас. Злучаныя Штаты Амэрыкі й эміграцыйная тэматыка ў публіцыстыцы й паэзіі «Нашай Нівы» // Запісы БІНіМ. № 23. Нью-Ёрк, 1999. С. 5–37.

97 Уласаў, А. Эміграцыя ў Амэрыку // Наша Ніва. Вільня. 1911. № 3; 1913. № 42.



Друкаваліся вельмі крытычныя агляды жыцця беларускіх працоўных у ЗША ў газеце *«Biełarus»*[98].

Значную ўвагу эміграцыі з Беларусі і беларускім эмігрантам у дыяспары аддавала і газета «Гоман», аднак яна падкрэслівала галоўным чынам палітычнае значэнне эміграцыі[99].

Праблемы беларускае іміграцыі ў Злучаных Штатах закраналіся таксама ў беларуска-амерыканскіх публікацыях. Першая беларуская газета ў Амерыцы *«Белорусская Трибуна»* была піянерам у пастаноўцы пытання аб тэрміналогіі. У 1929 годзе ў ёй пісалася:

*Як нас называюць па-англійску? Англамоўны свет згадвае нас як «White Ruthenia» або «White Russia». Першае падыходзіць болей, бо другі назоў можа быць зразуметы не толькі ў дачыненні да нашае краіны, але можа ўспрымацца як «Расія» з дадаткам эпітэту «Белая» (Белая Расія ў супрацьстаўленні Чырвонай Савецкай Расіі). Назоў «White Ruthenia» значыць «Белая Русь», ці «Беларусь», аднак дакладней і слушней было б называць нашу краіну «Belorus», а народ — «Belorussian»*[100].

Гэтая газета прысвяціла шмат артыкулаў беларусам у Злучаных Штатах і імкнулася абмеркаваць і растлумачыць прысутнасць беларусаў у гэтай краіне. Так, *«Белорусская Трибуна»* пісала ў 1928 годзе:

*Руская калонія складаецца на 99 % з беларусаў. Фактычна ўсе «рускія» арганізацыі ў Чыкага дый у іншых амерыканскіх гарадах складаюцца з беларусаў. Ці гэтыя людзі, г. зн. сябры гэтых арганізацый, свядомыя беларусы — гэта ўжо іншае пытанне. Але, безумоўна, людзі гэтыя беларускага паходжання. Гэта неаспрэчны факт*[101].

Важны артыкул, праўдападобна аўтарства Язэпа Варонкі, з'явіўся ў часопісе-праграме Беларускага дня «Амерыканскі беларус» у Чыкага ў 1930 годзе. Варта падаць колькі ўрыўкаў з яго:

*Заўзятыя статысты мяркуюць, што ў Амерыцы (у ЗША, Канадзе, Мексіцы) жыве да 1 000 000 беларусаў. Думаем, што гэтая лічба перабольшаная. У кожным разе цалкам верагодна, што колькасць беларусаў у Новым Свеце перавышае паўмільёна.*

*Трэба браць пад увагу, што апрача гэтак званых «рускіх» беларусаў, г. зн. праваслаўных, тут ёсць нямала і «польскіх» беларусаў, г. зн. беларусаў-каталікоў, што выехалі пераважна з былых Віленскае і Гарадзенскае губерняў.*

*Што ж з сябе уяўляе гэтая больш як паўмільённая масса?*

*Праваслаўныя — зрусіфікаваныя і ў пераважнай большасці прызнаюць сябе рускімі. «Рускасць» іхная, зрэшты, гэтым прызнаннем і абмяжоўваецца, бо з рускаю культураю яны маюць мала агульнага. Усё гэта збольшага беларускія сяляне, што пакінулі радзіму «за царскім часам». У сваім хатнім побыце яны гавораць па-беларуску, спяваюць беларускія песні, а калі і рускія — дык на беларускі лад. На людзях, «у вобшчастве» беларусы стараюцца гаварыць, як могуць, па-руску. У гэтым асяроддзі нярэдкія выпадкі нават варожага стаўлення да беларускага адраджэння, хоць бы чыста культурнага, не кажучы ўжо пра палітычнае. Аднак апошнім часам ідэі беларускага адраджэння пачалі знаходзіць глебу ў асяроддзі гэтае зрусіфікаванае беларускае массы.*

---

98 Bielarus. Wilnia, 15.05.1914.

99 Homan. Wilnia, 1916–1918.

100 How are we called in English? // Белорусская Трибуна. Чикаго. 1931. № 8, 9; 1932. № 10, 12.

101 Белорусская Трибуна. Чикаго. 1928. № 2.

*Каталікі-беларусы — поўнасцю ў абдымках пальшчызны. Толькі дзе-нідзе ў іхным асяроддзі заўважаецца свайго роду сепаратызм, але вялікага развіцця ён не мае. Прынамсі, у сучасным польскім друку ў Амерыцы «беларускага пытання» не існуе (на вялікае незадавальненне рускіх рэдактараў, «беларускае пытанне» час ад часу ўсплывае на старонках рускіх газет у Амерыцы).*

*Беларускі рух у Амерыцы яшчэ надта малады, але ён існуе. Быў малады — яшчэ нядаўна — і ўкраінскі, літоўскі, фламандскі, ірландскі... Малады — узнімецца, не памрэ, бо ўзнімаецца і расце ён на радзіме... скрозь краты турэмных адзіночак, нягледзячы на прыгнёт і тэрор. А тут усё ж краіна крыху свабаднейшая...*[102].

Варонкаў артыкул канчаецца на ўзнёслай ноце, ён глыбокі ў разуменні праблемы і справядлівы ў галоўным: рух быў малады і пачынаў узнімацца.

У 1920–1930-я гады артыкулы пра беларусаў у Злучаных Штатах пачалі з'яўляцца і на бацькаўшчыне, асабліва ў Заходняй Беларусі[103], а таксама ў Латвіі[104], Літве[105] і нават у Нямеччыне[106]. Яны не прэтэндуюць на даследаванні, а маюць, хутчэй, дакументальнае значэнне. Прыкладам, у выдадзеным у Вільні школьным падручніку пададзена з першых рук інфармацыя пра амерыканскіх беларусаў[107]. Шматлікія публікацыі змяшчалі адмысловыя і важныя дэталі з жыцця амерыканскіх беларусаў, і часта ў іх падкрэслівалася пільная неабходнасць больш блізкага супрацоўніцтва паміж бацькаўшчынаю і дыяспарай. Шмат якія з гэтых зацемак — цікавыя і арыгінальныя крыніцы для даследаванняў.

Адным з аўтараў, чые допісы і ліставанне ўтрымліваюць важныя звесткі да гісторыі беларусаў у Амерыцы, быў грамадска-палітычны дзеяч, філосаф, які жыў у Празе, Тамаш Грыб. Як сведчаць дакументы, выдрукаваныя ў кнізе «Тамаш Грыб. Выбранае» (Мінск, 2017)[108], ён трымаў лучнасць з беларускім актывам у ЗША, быў задаволены тым, што ў гэтай краіне ў 1920-я пачаўся беларускі рух і на чале яго стаялі беларусы-незалежнікі. У артыкуле «Беларусы ў Амэрыцы», упершыню апублікаваным у «Сялянскай долі» ў 1921 годзе, Тамаш Грыб паведамляў пра тое, што ў траўні таго года ў Бронзвілі (раён Нью-Ёрка) адбыўся вялікі сход беларусаў[109]. У згаданым зборніку «Выбранае» змешчаныя таксама адозва «Да ўсіх беларускіх выхадцаў, што жывуць у Злучаных Штатах і Канадзе», ліставанне з Мікітам Шапавалам, дзе закранаюцца праблемы беларусаў у ЗША і іншыя дакументы.

Цікава развіваліся падзеі ў Савецкай Беларусі. У 1920-я гады ў БССР пачалі з'яўляцца новыя звесткі і інфармацыя пра амерыканскіх беларусаў[110], і можна было спадзявацца, што дачыненні паміж абодвума бакамі наладзяцца ў нармальным рэчышчы, г. зн. што Савецкая Беларусь будзе сачыць за жыццём тысячаў суродзічаў за акіянам і трымаць з імі сталыя кантакты. Але, на жаль, пачынаючы ад 1930-х гадоў савецкія матэрыялы пра беларусаў у Амерыцы зрабіліся прапагандысцкімі агіткамі і айчынны друк стаўся антыамерыканскім рупарам без ніякіх прэтэнзій на сур'ёзныя даследаванні беларусаў у Амерыцы і дыяспары наогул[111].

102 Белорусы в Америке // Американский Белорус. Чикаго. 1930. 16 февр.

103 Tarasewič, J. Na Baćkaŭščynu. Wilnia, 1936. S. 119; Найдзюк, Я. Беларусь учора і сяньня. Менск, 1943. С. 246–247; Ks. Ad. St. Biełarusy ŭ Amerycy // Chryścijanskaja Dumka. Vilnia. 1930. 25 stud. S. 3–4; Змагар, А. Беларусы ў Амэрыцы // Новае Жыцьцё. Вільня. 1923. 1 тр.

104 Беларуская Школа ў Латвіі. Рыга. 1933. № 3 (20).

105 Беларусы ў Амэрыцы // Крывіч. Коўна. 1923. № 1. С. 60–61; № 2. С. 62; № 4. С. 56–57.

106 Зінук, М. Беларусы ў Амэрыцы // Раніца. Бэрлін. 1940. № 12/13–23.

107 Родны Край. Вільня, 1921. С. 197–198.

108 Грыб, Т. Выбранае. Мінск, 2017. 476 с.

109 Грыб, Т. Выбранае. С. 25–29.

110 Гл., напр.: Хроніка // Полымя. Мінск. 1927. № 1. С. 214; № 3. С. 246.



Пасля Другое сусветнае вайны стаўленне да эміграцыі на бацькаўшчыне змянілася: яна стала разглядацца як двухбаковае з'явішча — «прагрэсіўная» старая эміграцыя і «фашыстоўская», «нацыяналістычная», «белбурнацкая» паваенная.

«Прагрэсіўная» эміграцыя талеравалася, ёй спяваліся дыфірамбы, яе галубілі, запрашалі, усяляк «цацкаліся», ды — што найбольш ненармальнае — гэтай хвалі эміграцыі Саветы дапамагалі трымаць бірку «рускасці».

На эміграцыю ж 1940–1950-х гадоў сыпаліся праклёны, яна вінавацілася ў розных грахах, усяляк застрашвалася.

І хоць на бацькаўшчыне не адбывалася навуковага вывучэння і даследавання эміграцыі, тым не менш пачынаючы ад 1950-х гадоў было выдрукавана колькі дзясяткаў кніжачак-успамінаў з жыцця працоўнае эміграцыі, якія маюць нямала важных звестак пра жыццё нашых землякоў у Амерыцы. На жаль, да гэтых публікацый заўсёды дадавалася вялікая лыжка дзёгцю, адрасаваная новай эміграцыі, што непамерна зніжае іх вартасць.

З навуковых публікацый, дзе згадваецца беларуская эміграцыя ў ЗША варта згадаць хіба што працу Вячаслава Селяменева, дзе ён аналізаваў прычыны лішку сельскага насельніцтва ў Беларусі і цвердзіў, што *«перад Першаю сусветнаю вайною каля 800 000 беларусаў эмігравала ў Амерыку, з якіх 600 000 чалавек маглі быць сезоннымі работнікамі»*[112].

Нечаканую згадку пра беларускае жыццё ў Амерыцы ўтрымлівае таксама зусім далёкая ад гэтае тэмы праца Льва Барага «Беларуская казка». У аповедзе пра аднаго свайго рэспандэнта-баяра аўтар паведамляе:

*Макар Іванавіч Спірыд, ад якога я запісваў казкі ў 1948 г. у в. Сямернікі Ашмянскага раёну, нарадзіўся там у 1867 г. Працаваў з 1893 да 1910 г. на тэкстыльнай фабрыцы ў прадмесьці Нью Ёрку. У Амерыцы ажаніўся на беларусцы і вярнуўся з ёю ў родныя Сямернікі. Ён чытаў шмат папулярных кніжак па тэхніцы і аграноміі на рускай, англійскай і польскай мовах, якімі валодаў свабодна. Аднак амаль усе казкі свайго рэпертуару засвоіў вусным шляхам у Сямерніках і ў Амерыцы — ад землякоў-беларусаў. Па словах самога М. І. Спірыда, «байяром» ён стаў у Амерыцы, дзе расказваў землякам казкі роднага краю. Па нядзелях беларусы, ураджэнцы Віленскай і Горадзенскай губерняў, што працавалі на нью-ёркаўскіх прадпрыемствах, збіраліся ў яго, каб пасьпяваць народныя песні і паслухаць казкі*[113].

Становішча ў навуцы пачало мяняцца на лепшае пачынаючы ад канца 1980-х гадоў, калі сталі з'яўляцца ў друку і паважнейшыя даследаванні эміграцыі[114].

111 Гутарка аўтара з Сымонам Кандыбовічам-Кабышам і Юркам Віцьбічам-Стукалічам; Летапіс друку БССР. 1932–1939; Крыга, А. Страх перад эміграцыяй // Беларус. Нью-Ёрк. 1970. № 155; Дзівасіл. Страх перад эміграцыяй // Беларус. Нью-Ёрк. 1971. № 169.

112 Селяменеў, В. Да пытання аб гісторыі і прычынах існавання аграрнага перанасялення ў Беларусі // Веснік БДУ. Сер. грам. навук. 1978. № 2. С. 13–15, 17.

113 Бараг, Л. Беларуская казка. Мінск, 1969. С. 241.

114 Дубінка, В. Паплач ля роднае крынічкі. Мінск, 1981; Грыцкевіч, В. Нашы славутыя землякі. Мінск, 1984; Сардэчныя сустрэчы. Незабыўныя ўражанні. Мінск, 1961; Пад мірным небам. Мінск, 1962; На зямлі бацькоў. Мінск, 1983; Казущик, Д. Первые шаги. Минск, 1970; Письма издалека. Минск, 1971; Мацюнін, С. Сёмая хваля // 7 дней. Мінск. 1990. № 13; Крапивин, С. Белорусы: расселение, демография, этнография // Советская Белоруссия. Минск. 1990. 25 марта; Мацюнін, С. 10 000 000 беларусаў // Беларуская мова і літаратура ў школе. Мінск. 1990. № 1. С. 17; Галубовіч, В. Беларусы ў Амерыцы // ЛіМ. Мінск. 20 вер. 1991;

Заўважны ўклад у даследаванне беларускае дыяспары зрабіла сама эміграцыя па Другой сусветнай вайне. Перадусім новая хваля пачала дакументаваць дзейнасць беларусаў у Амерыцы, а таксама даследаваць беларускую спадчыну ў гэтай краіне. Было надрукавана нямала артыкулаў пра беларускую прысутнасць у Злучаных Штатах, дзе адзначаліся гістарычныя памылкі ў дачыненні да нашае іміграцыі і рабіліся заклікі да беларускіх асяродкаў у Амерыцы прыкласці ўсе намаганні, каб выправіць тыя памылкі і зацвердзіць правы на беларуска-амерыканскую спадчыну. Большасць гэтых артыкулаў не выходзіла за межы журналізму, тым не менш яны важныя для вывучэння беларускае іміграцыі ў ЗША. Бясспрэчна, гэтыя багатыя залежы адносна новае інфармацыі чакаюць сваіх даследчыкаў. Сярод тых, хто закранаў тэму мінуўшчыны беларусаў у Злучаных Штатах, — Міхась Міцкевіч, Пётра Манькоўскі, Аўген Калубовіч ды іншыя[115].

Цікавая інфармацыя пра эміграцыю ў Амерыку — лісты, ураджанні — знаходзяцца часам у працах, якія не выяўляюць «амерыканскасці». Так, у вялікай, цікавай і патрэбнай манаграфіі «Бежанства» (Беласток, 2000) — працы, што дакументуе бежанства ў часе Першае сусветнае вайны з Беласточчыны на Усход, — у архіўнай, дакументальнай частцы ёсць лісты з сямейных архіваў пра эміграцыю ў ЗША, пры гэтым цікава напісаныя: падарожжа, амаль трагічнае жыццё, кантакты з радзімай[116].

Неабходна адзначыць і падкрэсліць, што тэмы беларускай эміграцыі, дыяспары ад пачатку 1990-х гадоў увайшлі грунтоўнымі аглядамі з дзясяткамі больш дробных інфармацыйных гнёздаў, персаналій на старонкі шматлікіх энцыклапедычных выданняў, як, прыкладам, «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», «Беларуская энцыклапедыя» ды іншыя. Аўтарамі артыкулаў былі Галіна Сяргеева, Аляксандр Ціхаміраў, Эмануіл Іофэ і інш.

Відавочна, што і ў штодзённым-тыднёвым-месячным друку тэма эміграцыі ўжо не рэдкасць. Грунтоўныя публікацыі належаць Іосіфу Сярэдзічу, Васілю Якавенку, Пётры Краўчанку.

Як і прадбачвалася, у беларускіх навуковых даследаваннях з'яўляюцца і будуць з'яўляцца буйнейшыя нарысы, эсэ аб беларусах Амерыкі па меры таго, як будуць «знаходзіцца» новыя дакументы, артыкулы, архівы пра выезды і жыццё суродзічаў на эміграцыі. Выдатным прыкладам такога новага «адкрыцця» Амерыкі — новага аб беларусах у ЗША — сталіся матэрыялы, надрукаваныя ў адным з апошніх альманахаў «Запісы БІНіМ» (№ 40. 2018). Пад рубрыкай «Амэрыканская гісторыя» тут пададзеныя дзясяткі новых дакументаў, аглядаў, успамінаў аб беларускай эміграцыі ў ЗША. Асабліва важная падборка рэпартажаў, лістоў, выказванняў з старых беларускіх газетаў, якія сачылі за жыццём амерыканскіх суродзічаў-

Сачанка, Б. Беларуская эміграцыя. Мінск, 1991; Ціхаміраў, А. Цярністы шлях да лепшай долі // Навіны Беларускай акадэміі. 1991. № 40, 41; Шалястовіч, К. Зыход, альбо Чацвёртая хваля эміграцыі з Беларусі // Голас Радзімы. Мінск. 1991. 11 ліпеня.

[115] М. М-ч. Ранейшая й цяперашняя беларуская эміграцыя // Беларус. Нью-Ёрк. 1955. № 53; М. М-ч. Сьветчаньні камянёў // Беларус. Нью-Ёрк. 1956. № 55; Скарыніч. Беларуская эміграцыя ў ЗГА // Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1952. № 25–26, 27, 28; Скарыніч, Б. Скончма дыскусію пра «распакоўваньне»! // Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1955. № 19; Крыга, А. Нашая эміграцыя // Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1957. № 67; Негнявіцкі, А. Аб старой беларускай эміграцыі // Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1957. № 44. Калубовіч, А. Нашы папярэднікі // Беларуская Думка. Саўт-Рывэр. 1974–1975. № 18–19. С. 7–16.

[116] Бежанства. Беласток, 2000. С. 389, 390, 397, 402, 404.



эмігрантаў. «Запісы» адкрываюць багата матэрыялаў пра дачыненні беларускай эміграцыі ў ЗША 1920-х з Радай БНР, падаюць новыя звесткі пра арганізацыю рэлігійна-грамадскага жыцця за акіянам. Гэтыя публікацыі адлюстроўваюць выразны прагрэс у вывучэнні гісторыі беларускай прысутнасці ў Амерыцы.

Вельмі спрыяе даследаванню эміграцыі з Беларусі ў цэлым Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», якое ў супрацы з БІНІМам выдала дзясяткі кніг па гэтай тэме (Лявон Юрэвіч, Наталля і Алег Гардзіенкі).

Сярод апошніх важных даследаванняў праблемаў эміграцыі з заходніх беларускіх рэгіёнаў (Палескага, Навагрудскага, Беластоцкага і Віленскага ваяводстваў) у міжваенны час варта адзначыць грунтоўны аналіз, зроблены ў дысертацыі Вольгі Мярчук «Эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.)», абароненай у 2016 годзе[117].

Бясспрэчна, як надзвычай важную і прагрэсіўную з'яву ў кірунку стварэння ўстановы-інстытута для комплексна-шырокага вывучэння беларускай эміграцыі трэба назваць заснаванне Цэнтра камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа (Наталля Гардзіенка) пры Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ).

На заканчэнне агляду друкаў пра беларускую эміграцыю ў ЗША варта сказаць пра заўвагі ў рэцэнзіях на выдадзеныя раней беларускамоўнае (1993) і англамоўнае (1999) выданні «Беларусаў у ЗША». Наконт беларускае кнігі закідалася, што пералічваецца шмат прозвішчаў. Здаецца, слушная заўвага. Аднак гэтая акалічнасць абгрунтоўваецца гэтак. У кнізе пералічаныя-ўспомненыя прозвішчы асобаў, якія працавалі, перахоўвалі і адраджалі сваёй працай беларускую спадчыну ў Амерыцы. На наш погляд, калі ў паўмільённай масе «ціхіх» землякоў знаходзяцца актывісты, якія тлумачаць амерыканскім бюракратам сваё этнічнае паходжанне ды адраджаюць-замацоўваюць БЕЛАРУСКАСЦЬ, наш абавязак іх успомніць, адзначыць. Тыя людзі — будзь гэта бацькі, якія ў школе на бацькоўска-настаўніцкім сходзе тлумачаць беларускае паходжанне іхнага дзіцяці, ці то дапісчыкі «лістоў у рэдакцыю» мясцовае газеты з выказваннем пра Беларусь, ці актывісты, якія спяваюць у хорах, арганізуюць пікнікі і г. д., — усе гэтыя людзі — дзеячы беларускасці, сцвярджальнікі прысутнасці беларусаў у ЗША, і ім, бясспрэчна, належыцца месца ў кнізе пра беларусаў Амерыкі.

У адной англамоўнай рэцэнзіі аўтар — прафесар Джэймс Дойч з Універсітэта імя Джорджа Вашынгтана — піша:

*Прыблізна 95 гадоў таму назад мае бацькі былі «свежыя эмігранты» ў ЗША, прыплыўшыя з порта Саўтгемптан у Ангельшчыне. Ніяк не! Брытанцамі яны не былі, а іхнае «эміграцкае падарожжа» пачыналася далёка на ўсходзе Еўропы, праўдападобна, недзе «паміж Менскам і Пінскам». Прынамсі так думаюць мае ўсе сучасныя родзічы. Аднак калі на сямейных зборышчах я прабую выказаць меркаванне, што нашыя дзяды, як выглядае, паходзілі з Беларусі, маё цверджанне, выказванні выклікаюць рэакцыю замяшання і збянтэжанасці. Вось гэты аспект Кіпель якраз імкнецца вытлумачыць у кнізе: заблытанасць тэрміналогіі*[118].

[117] Мярчук, В. Эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.): аўтарэферат дысертацыі на саісканне вучонай ступені кандыдата гістарычных навук: спецыяльнасць 07.00.02 Айчынная гісторыя. Брэст, 2016.

[118] American Studies International. [Washington]. June 2001. Vol. XXXIX. № 2.

Далей Джэймс Дойч удумліва аналізуе кнігу і заяўляе: *«Ясная справа: шмат бацькоўскіх каранёў будзе выяўлена паходжаннем з тэрыторы “паміж Менскам і Пінскам”»*. Пазітыўная, дапаўняльная даследаванне рэцэнзія.

Іншая дэталь. У выданні кнігі *«Belarusans in the United States»* (1999), ведаючы, што англамоўны чытач не надта хутка «прыпомніць» геаграфічнае паняцце «Беларусь», аўтар зрабіў раздзел *«Conceptualizing Belarus»* («Ствараючы Беларусь»), дзе нагадвае чытачу аб падзеях, фактах, мясцінах, якія ён прыпушчальна ведае, але не звязвае з Беларуссю. Адна з такіх дэталяў — асоба забойцы прэзідэнта Джона Кенэдзі Лі Харві Освальда, які некаторы час жыў і працаваў у Менску[119]. Як даводзілася чуць, згадка Освальда спрацоўвала — прыпамінала чытачу, дзе знаходзіцца і што ёсць Беларусь. Дарэчы, аб трагедыі забойства прэзідэнта Кенэдзі багата пісалася, былі цэлыя кнігі і ў беларускім друку[120]. Нядаўна выявілася і іншая акалічнасць з тае трагедыі. Вядомы і аўтарытэтны аўтар Лявон Юрэвіч напісаў: адзін з найбліжэйшых сяброў Лі Харві Освальда быў багаты амерыканец Джордж дэ Морэншыльд з беларускімі каранямі, нарадзіўся ў Мазыры ў 1911 годзе[121]. Даследчык прасачыў мазырскіх Морэншыльдаў, іх сувязі з Амерыкай, дачыненні з Освальдам. Цікавая і трагічная гісторыя: загадкавае жыццё Джорджа дэ Морэншыльда скончылася самагубствам у 1977 годзе[122]. Так пачаў раскручвацца яшчэ адзін беларускі аспект знакамітага забойства. Магчыма, ён будзе распрацоўвацца і надалей.

## Колькі заўваг пра статыстыку

Афіцыйнымі звесткамі іміграцыйных службаў Злучаных Штатаў Амерыкі і Бюро перапісаў для вывучэння беларусаў ЗША карыстацца немагчыма, таму што яны не вылучаюць беларусаў з агульных рубрык «рускіх», «палякаў», «славянаў» і г. д. Але агульныя дадзеныя аб колькасці эмігрантаў, якія прыбывалі ў ЗША, улучна з беларускай тэрыторыяй, падаваліся ў штогодніку *«Annual Report of General Commissioner of Immigration, Washington D.C.»*. У беларускім друку гэта заўважыў і выпісаў статыстыку Віктар Сяньковіч[123].

Толькі ў 1980 годзе амерыканскі перапіс пачаў рэгістраваць беларусаў асобна (7381 чалавек), і перапісныя службы паведамілі аўтару, што яны маюць інфармацыю пра беларусаў з папярэдніх перапісаў, дзе тыя фігуравалі пад рознымі імёнамі — *White Russians, Belorussians, Byelorussians*[124]. На жаль, праз бюракратычныя правілы гэтыя звесткі пра беларусаў ніколі не з’явіліся ў друку. Відавочна, вынікі перапісу не асвятляюць рэальнага становішча колькасці беларусаў у Злучаных Штатах, і імі нельга карыстацца ў даследаваннях беларускае іміграцыі.

Адсутнасць афіцыйных дадзеных не перашкодзіла некаторым даследчыкам ацэньваць памеры беларускае эміграцыі / іміграцыі і з дапамогаю розных разважанняў і метадаў прыйсці да прымальных, на іхны погляд, вынікаў. Статыстычныя ацэнкі беларускае іміграцыі, якія дагэтуль з’явіліся ў друку, недакладныя і найчасцей featured розна маштабныя, аднак яны дазваляюць уявіць памеры міграцыйных працэсаў.

[119] Kramer, A. The New York Times. Nov. 3, 2012.

[120] Лукашук, А. След матылька, Освальд у Менску. Прага, 2011. 390 с.

[121] Mohrenschildt, G. Lee Harvey Oswald as I knew him. Lawrence (KS): University Press of Kansas, 2014. 408 p.

[122] Юрэвіч, Л.; Гардзіенка, Н. Беларуская нота ў амэрыканскай трагедыі: граф з Мазыра, сябра Лі Харві Освальда // Будзьма беларусамі!: https://budzma.by/news/byelaruskaya-nota-w-amyerykanskay-trahyedyi-hraf-z-mazyra-syabra-li-kharvi-osvalda.html.

[123] Беларус. Нью-Ёрк. 1994. № 415.

[124] Перапіска аўтара з Бюро перапісаў ЗША, 1984.



Найперш розніца ў лічбах выкліканая розніцаю ў вызначэнні тэрыторыі Беларусі, калі нацыянальнасць абгрунтоўваецца паходжаннем імігранта.

Ідучы за методыкаю Аляксандра Уласава, які спрабаваў вылічыць аб’ём магчымае фінансавае дапамогі з боку эмігрантаў, можна прыйсці да лічбы 700 000—750 000 — агульная колькасць беларусаў, што выехалі ў Амерыку паміж 1900 і 1912—1913 гадамі[125].

Беручы разважанні Валерыяна Абаленскага і пераводзячы іх у рэальныя лічбы, атрымоўваем колькасць беларускіх імігрантаў у ЗША — ад 180 000 да 270 000 чалавек[126]. Малая колькасць можа быць тут вытлумачана тым, што Абаленскі за аснову не браў беларускую этнаграфічную тэрыторыю.

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі мяркуе, што каля 500 000 беларускіх імігрантаў пасяліліся ў Злучаных Штатах да Другое сусветнае вайны і ад 50 000 да 100 000 беларусаў прыехалі ў краіну пасля вайны[127].

Грамадская рада за амерыканскую еднасць ацаніла колькасць беларускіх імігрантаў у ЗША ў 300 000—400 000 чалавек[128].

«Гарвардская энцыклапедыя амерыканскіх этнічных групаў» сцвердзіла, што беларусаў у Злучаных Штатах налічваецца ад 175 000 да 200 000 чалавек[129].

Пазнейшыя беларускія савецкія даследчыкі Вячаслаў Селяменеў і іншыя пагадзіліся з акадэмікам Васілём Шчарбаковым, які вызначыў агульную колькасць беларускіх імігрантаў у ЗША да Другое сусветнае вайны ў 800 000 чалавек[130].

Беларускі савецкі дэмограф Андрэй Ракаў меркаваў, што ў 1920-я гады беларуская іміграцыя ў Злучаных Штатах налічвала *«колькі сотняў тысячаў»* чалавек[131].

Колькасць беларускіх імігрантаў у Амерыцы можна вывесці з савецкіх крыніцаў іншым спосабам, які палягае ў наступным. Даведнік пра эканамічнае развіццё Савецкае Беларусі цвердзіў, што *«Беларусь страціла з эміграцыяй 1,8 млн насельніцтва за пяць дзесяцігоддзяў перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй»*[132].

У падручніку па геаграфіі Беларускае ССР напісана, што *«да рэвалюцыі 1,4 млн беларусаў выехала ў Сібір, іншыя часткі Расіі і за мяжу»*[133].

Агляд эканомікі Беларусі, апублікаваны ў 1957 годзе, падаў гэткія дадзеныя: *«Агульная колькасць эмігрантаў з Беларусі за 50 гадоў перад рэвалюцыяй —*

[125] Уласаў, А. Аб эміграцыі // Наша Ніва. Вільня. 1911. № 3.

[126] Оболенский (Осинский), В. Международные и межконтинентальные миграции... С. 59—63, 132—133.

[127] Архіў Беларускай фундацыі Крачэўскага. Нью-Ёрк.

[128] Report on Byelorussian-Americans. Common Council for American Unity. New York, March 1951. P. 3—4, 7.

[129] Harvard Encyclopedia of American Ethnic Groups. Cambridge (MA), 1980. P. 181—184.

[130] Шчарбакоў, В. Кастрычніцкая рэволюцыя на Беларусі і белапольская окупацыя. Мінск, 1930. С. 9; Селяменеў, В. Да пытання аб гісторыі і прычынах існаваньня аграрнага перанасяленьня ў Беларусі... С. 13—15, 17.

[131] Раков, А. Население БССР. Минск, 1969. С. 83.

[132] Экономика Советской Белоруссии: 1917—1967. Минск, 1967. С. 21.

[133] Белорусская ССР. Москва, 1957. С. 73.

*1 387 000»*[134]. Гэтая лічба — 1 387 000 — паўтарылася і ў іншых публікацыях, улучна з афіцыйнымі партыйнымі тэкстамі[135].

Як выглядае, хоць лічбы і вагаюцца, яны больш-менш аднаго парадку. Такім чынам, акругліўшы, можна прыняць за сярэднюю прыблізную колькасць 1 500 000 — гэтулькі беларусаў пакінула бацькаўшчыну паміж 1860 годам і пачаткам Першае сусветнае вайны.

Іншая важная і даволі дакладная лічба, якая фігуруе ў розных публікацыях, — колькасць беларусаў, што выехалі ў Сібір ад 1880-х да 1914 года. БелСЭ цвердзіла, што ад 1896 да 1912 года ў тым кірунку эмігравала з Беларусі 716 600 чалавек[136].

Павел Верашчагін у сваіх аўтарытэтных працах пра беларускую сялянскую эміграцыю ў Сібір адзначаў, што, паводле *«няпоўных дадзеных з пяці заходніх губерняў, каля 550 000 беларусаў выехала ў Сібір паміж 1885 і 1915 гадамі»*[137].

Вывеўшы сярэднюю лічбу, атрымаем прыблізную колькасць эмігрантаў у Сібір — каля 633 000 чалавек.

Аперуючы гэтымі лічбамі — пры адсутнасці арыгінальнае статыстыкі такі падыход здаецца аўтару апраўданым, — з дапамогаю простае арыфметыкі можна атрымаць колькасць беларусаў, што выехалі ў Амерыку, — ад 850 000 да 900 000 чалавек. Колькасць рээмігрантаў — тых, хто вярнуўся ў Беларусь у 1910–1920-я гады, — складала прыблізна ад аднае чвэрці да аднае трэці эмігрантаў, або ад 215 000 да 300 000 чалавек, што пацвярджаецца статыстыкаю Расійскага іміграцкага дому ў Нью-Ёрку. Паводле тае статыстыкі, якая ахоплівае перыяд ад 1908 да 1913 года ўлучна, з 127 345 «рускіх» імігрантаў вярнулася на бацькаўшчыну 34 304 асобы. Каля траціны эмігрантаў у перыяд 1908–1910 гадоў варачаліся на бацькаўшчыну і паводле расійскага статыстычнага гадавіка[138]. Такім чынам, колькасць беларусаў, якія да Першае сусветнае вайны настала пасяліліся ў Злучаных Штатах, складае ад 550 000 да 650 000 чалавек.

Беларусаў, што эмігравалі паміж войнамі, было мала — усяго колькі тысячаў, а колькасць паваенных беларускіх эмігрантаў была ацэненая Беларускім нацыянальным камітэтам у 50 000–55 000 чалавек[139].

Падсумоўваючы, можна ацаніць агульную колькасць беларусаў, якія засталіся жыць у Злучаных Штатах, у рамках паміж 600 000 і 650 000 чалавек («Беларуская энцыклапедыя» падае магчымы кансерватыўны лік каля 500 000 чалавек[140]). Неабходна падкрэсліць, і тое мусіць быць зразумела, што гэта толькі прыблізныя лічбы, якія грунтуюцца на няпоўнай і не заўсёды дакладнай друкаванай статы-

[134] Народное хозяйство Белорусской ССР за 40 лет. Минск, 1957. С. 20.

[135] Ерыгин, С.; Рыженко, Ф. Ленинская программа по национальному вопросу. Москва, 1959. С. 105.

[136] БелСЭ. Т. 7. Мінск, 1973. С. 170.

[137] Верещагин, П. Крестьянские переселения из Белоруссии: Вторая половина XIX в. Минск, 1978. С. 4; Верещагин, П. Из истории аграрных миграций // Из истории крестьянства Белоруссии. Минск, 1978. С. 71–82.

[138] The Orthodox Church in America. Dept. of History and Archives. Syosset (NY). Immigrant Home. Essays on Immigration, 1915. Code XI, 1–4; Статистический ежегодник России. Санкт-Петербург, 1914. С. 46.

[139] Архіў Беларускага нацыянальнага камітэта. Архіў раней знаходзіўся ў Рэгенсбургу, пазней у Остэргофене, а частка яго была перавезеная ў ЗША і захоўваецца пад царквой Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі); гутаркі з Аляксандрам Русаком і Міколам Кунцэвічам, 1956.

[140] Беларуская энцыклапедыя. Т. 7. Мінск, 1998. С. 92.



стыцы. Прапануючы згаданыя лічбы, аўтар мае за мэту даць будучым даследчыкам беларускае іміграцыі ў ЗША ўяўленне пра маштабы з'явы. Больш дакладныя і навукова абгрунтаваныя вынікі могуць быць атрыманыя ў будучыні, калі можна будзе ўжываць новую методыку і тэхналогію і калі стануцца даступныя іншыя архіўныя дакументы.

Шмат каго з чытачоў і даследчыкаў лічба 600 000–650 000 можа здзівіць. Аднак яе парадак адпавядае парадку вылічэнняў Уласава, Шчарбакова і Рады БНР. Тым не менш яна відавочна разыходзіцца з вынікамі амерыканскіх перапісаў 1980 і 1990 гадоў. Не трэба, аднак, забывацца, што бюракраты амерыканскіх іміграцыйных і статыстычных службаў доўгія гады кіраваліся тым, што *«беларусы не ўважаюцца за асобную іміграцыйную групу»*.

Бясспрэчна, будучыя даследчыкі беларускай іміграцыі ў ЗША стануць перад той самай праблемаю: адсутнасць статыстыкі для беларусаў у эміграцыйных крыніцах. Але маючы доступ да архіваў на Бацькаўшчыне, асабліва архіваў губернскіх, справа вызначыць-акрэсліць колькасць выехаўшых у Амерыку будзе прыблізна вырашаная. Ды патрэбна тут падкрэсліць і тое, што пачынаючы ад 1991 года, калі паўстала Рэспубліка Беларусь, з'явіліся беларускія пашпарты — невыразнасць акрэслення беларускай іміграцыі ў ЗША (і не толькі) паступова пераадольваецца.

Прыкладам, у папулярным амерыканскім часопісе «*Smithsonian*» (april 2017) пададзена статыстыка ўцекачоў у ЗША за апошнія 15 гадоў. Названы 16 краінаў, з якіх яны прыбывалі. А ў катэгорыі «іншыя» ў ліку 9 краінаў пададзена і Беларусь[141]. Колькасці «іншых»




Дыяграма колькасці насельніцтва з Украіны, Беларусі і Узбекістана, якое жыве ў розных раёнах Нью-Ёрка, змешчаная ў даведніку «The Newest New Yorker» (2013)

[141] Запруднік, Я. Беларусь цяпер у ліку краін, зь якіх паходзяць уцекачы ў ЗША // Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»: https://zbsb.org/news/abroad/11537.

іміграцтаў часопіс не назваў, але і з гэтага відаць, што амерыканская статыстыка, якая да 1990-х гадоў беларусаў не ўлічвала, цяпер гэта робіць у сувязі з існаваннем незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Аўтарытэтны даведнік аб жыхарстве горада Нью-Ёрк таксама падае колькасць асобаў, якія нарадзіліся ў Беларусі і жывуць у розных раёнах мегаполіса. Ёсць таксама статыстыка адносна занятасці беларускіх імігрантаў[142].

Можна сцвярджаць, што статыстыка новых беларускіх імігрантаў у ЗША будзе рабіцца больш разнастайнай і колькасна, і геаграфічна. І будучым даследчыкам іміграцыі варта новымі лікамі карыстацца, па магчымасці параўноўваць са звесткамі пра ранейшыя часы і рабіць адпаведныя высновы.

Да гэтае праблемы трэба падыходзіць па-філасофску. Лічбы, звесткі, афіцыйная статыстыка — рэчы, бясспрэчна, важныя. Аднак яшчэ больш важна тое, што на працягу дзесяцігоддзяў з волі бяздумных бюракратаў цэлую еўрапейскую нацыю ігнаравалі, навешвалі ёй чужую бірку і адсоўвалі ў нябыт, а цяпер гэтая нацыя, жыццяздольная і неадлучная частка амерыканскае этнічнае мазаікі, робіць спробу вярнуць сабе найважнейшы фрагмент свае спадчыны — сваю сапраўдную этнічную тоеснасць, і новыя іміграцты з Рэспублікі Беларусь гэтаму дапамагаюць.

[142] The Newest New Yorker. Characteristics of the City`s Foreign-born Population. 2013 edition.

# ХВАЛІ І ПРЫЧЫНЫ ЭМІГРАЦЫІ З БЕЛАРУСІ

Тым часам як паасобныя падарожнікі з Беларусі маглі дабірацца і, відаць, сапраўды дабіраліся да Амерыкі яшчэ ў часы Вялікага Княства Літоўскага, галоўным штуршком для эміграцыі з беларускіх земляў сталася развіццё гістарычных падзей XVIII стагоддзя.

Заняпад Вялікага Княства Літоўскага і наступная акупацыя Беларусі рускімі склалі галоўныя чыннікі, якія стварылі сацыяльныя, эканамічныя і палітычныя ўмовы, што спрыялі эміграцыі. У выніку расійскае палітыкі Беларусь была гвалтоўна ператвораная з палітычна развітае дзяржавы з багатаю культурай і поўным спектрам нацыянальнага жыцця ў каланіяльную тэрыторыю, населеную этнічнай масай, сістэматычна і свядома пазбаўлянай *афіцыйнае* гісторыі і без канкрэтнага нацыянальнага назова, а толькі адміністрацыйная частка — *край* імперыі, перад якім стаяла змрочная перспектыва стацца адсталым асіміляваным і зрусіфікаваным натоўпам[1]. Такім чынам, Беларусь на доўгія гады сталася асноўным рэзервуарам эміграцыі з імперыі. Больш за паўтара мільёна беларусаў пакінулі сваю бацькаўшчыну і пасяліліся ў вялікіх гарадах Расійскае імперыі (Пецярбург, Адэса і г. д.), у Сібіры, у Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы і ў Заходняй Еўропе. Працэс эміграцыі з Беларусі ў апошнія два стагоддзі быў няспыннаю з'яваю, але ж, вядома, былі ў ім свае прылівы і адлівы, абумоўленыя падзеямі ўнутры і звонку краіны. Якія ж можна вызначыць храналагічныя перыяды беларускае іміграцыі ў ЗША[2]?

## Паасобныя малыя групы іміграцтаў: XVII–XIX стагоддзі

### *Раннія іміграцты*

Гэты перыяд улучае час ад заснавання брытанскіх калоній у Амерыцы да апошняе чвэрці XIX стагоддзя. Тым часам як XIX стагоддзе пакінула па сабе значны дакументальны матэрыял пра іміграцыю ў Амерыку, дачыненні паміж каланіяльнаю Амерыкаю і Вялікім Княствам Літоўскім (г. зн. у XVI–XVIII стагоддзях) дагэтуль застаюцца недаследаванымі разам з пытаннем пра іміграцыю ў Амерыку. Пэўныя звесткі дазваляюць меркаваць, што падарожжы і перасяленні беларусаў у Амерыку былі цалкам магчымыя ажно ад XVII ст.[3].

Найбольш славутым і выдатным іміграцтам з Беларусі напрыканцы XVIII стагоддзя быў, бясспрэчна, Тадэвуш Касцюшка[4]. Народжаны ў Беларусі, ён не

[1] Staliunas, Darius. Making Russians. Mieaning and practice of Russification in Lithuania and Belarus after 1863. Amsterdam — New York; Editions Rodopi B.V., 2007. 465 p.

[2] Запруднік, Я. Пісьменнасьць дарэвалюцыйнае Беларусі й нацыянальная сьведамасьць // Беларус. Нью-Ёрк. 1970. № 159.

[3] Кіпель, З. Капітан Джон Сміт на Беларусі // Запісы БІНіМ. № 16. Нью-Ёрк, 1978. С. 119–128.

[4] БелСЭ. Т. 5. Мінск, 1972 С. 505–506; Клейн, Б. Найдено в архиве. Минск, 1968. С. 13–19.



Тадэвуш Касцюшка (1746–1817)



Капэрта да 225-годдзя паўстання Тадэвуша Касцюшкі, выдадзеная Белпоштай. 2019 г.



Беларусы Філадэльфіі каля помніка Тадэвушу Касцюшку. Люты 2019 г. *Фота Вадзіма Васільева*

страцію лучнасці з радзімаю і разам з тым зрабіў значны ўклад у справу незалежнасці і ў ваенную гісторыю Злучаных Штатаў. Звестак і працаў пра гэтага вялікага чалавека ў розных мовах назбіраецца вельмі багата, але навукоўцы, як правіла, лічаць Касцюшку палякам, адданым справе амерыканскае свабоды. Аднак можна з пэўнасцю сцвярджаць, што беларускасць Касцюшкавых біялагічных каранёў не выклікае ніякага сумневу, і ўжо адзін гэты факт дае дастаткова падставаў залічыць дзеянні гэтага выдатнага чалавека да заслуг таксама і беларускага народа ды беларускае спадчыны ў Амерыцы. Новыя даследаванні выяўляюць ягоную веліч і сувязь з Беларуссю[5]. Асабліва варта адзначыць манаграфію Анатоля Трафімчыка[6]. Шмат з айчыннай літаратуры аб Касцюшку мае значэнне і для беларускае спадчыны ў ЗША, як прыкладам пасажы:

*Волі з Амерыкі, волі французскай*
*Так ён хацеў, каб свае узялі...*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Амерыка, бывай! Вяртаюся дахаты!*
*Твой голас, нібы чайка белая ляціць...*[7].

---

[5] Гл., напрыклад: Бензярук, А. Касцюшкі-Сяхновіцкія: гісторыя старадаўняга роду. Брэст, 2006; Емяльянчык, У.; Юхо, Я. «Нарадзіўся я ліцьвінам...»: Тадэвуш Касцюшка. Мінск, 1994; Ліхадзедаў, У. Тадэвуш Касцюшка на старых паштоўках і ў графіцы. Мінск, 2011; Несцярчук, Л. Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка. Вяртанне героя на радзіму. Брэст, 2006; Юхо, Я. За вольнасць нашу і вашу: Тадэвуш Касцюшка. Мінск, 1990; Беларус. Нью-Ёрк. 2016. № 619; Помнік Касцюшку ў Косаве // Наша слова. Менск. 16.05.2018; і інш.

[6] Трафімчык, А. «Наш Касцюшка слаўны...»: Гістарычная постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры. Мінск, 2017. 190 с.

[7] Трафімчык, А. «Наш Касцюшка слаўны...»...



Дарэчы, адзначэнне юбілеяў Тадэвуша Касцюшкі сталася рэгулярнай з'явай у жыцці беларусаў-амерыканцаў. Мерапрыемствы праводзяцца ў Вашынгтоне, Нью-Ёрку і іншых мясцінах — амаль усюды, дзе гэты беларускі эмігрант-герой пакінуў сляды. Прыкладам, 4 лютага 2008 года, у дзень нараджэння Касцюшкі, прадстаўнікі беларускай дыяспары ўсклалі кветкі да ягонага помніка ў цэнтры Вашынгтона[8]. А помнік Тадэвушу Касцюшку ў Беларусі адкрывала амбасадар ЗША Карэн Сцюарт[9].

### *Беларуская правінцыя*
### *Таварыства Ісуса ў Амерыцы*

Падзеі 1772, 1793 і 1795 гадоў, агульнавядомыя як падзелы Польшчы, на самай справе былі падзеламі Рэчы Паспалітае: Літвы і Польшчы. У выніку беларускія землі падпалі пад поўны расійскі кантроль. Ад таго часу пачаўся доўгі працэс русіфікацыі і вынішчэння Беларусі, які працягваецца і да сёння. Натуральна, пад уплывам гэтых гістарычных зрухаў памеры эміграцыі з Беларусі ўзраслі. Цяпер вялікая частка імігрантаў складалася з інтэлектуалаў, якія не маглі змірыцца з чужацкаю акупацыяю. На працягу першае чвэрці XIX стагоддзя значная колькасць рымска-каталіцкіх святароў выехала з Беларусі ў Злучаныя Штаты. Шмат хто з іх меў беларускае паходжанне і быў звязаны з Полацкай езуіцкай акадэміяй. Гэтыя святары прыбылі ў ЗША на запрашэнне Джона Кэрала, першага рымска-каталіцкага біскупа ў Злучаных Штатах[10]. Гэта былі важныя інтэлектуальныя кадры, якія царкоўныя ўлады ў Амерыцы добра выкарысталі. Група святароў з беларускіх земляў, асабліва выкладчыкі Полацкае акадэміі, у значнай ступені спрычынілася да развіцця рымска-каталіцкае адукацыі ў Амерыцы. Найбольш выдатныя сярод іх былі айцы Баніфацы Крукоўскі, Норберт Корсак і Кольман. Але Беларусь не толькі адыграла ролю ў пастачанні краіне святароў-эмігрантаў, яна таксама дала імя рэлігійнай супольнасці езуітаў у Амерыцы.

Часта застаецца незаўважаным гістарычны факт, што Таварыства Ісуса захавалася ў ЗША толькі дзякуючы таму, што пасля забароны Папам Рымскім ордэна езуітаў у 1773 годзе ён працягваў існаваць на тэрыторыі Расійскае імперыі, у Беларусі. Амерыканскія езуіты вырашылі далучыцца адміністрацыйна да езуітаў беларускіх, абышоўшы тым самым папскую забарону, і іхная юрысдыкцыя ў Злучаных Штатах стала вядомая як Беларуская правінцыя (*White Russian Province*). Гэтая лучнасць амерыканскіх езуітаў з Беларуссю трывала ад 1805 да 1814 года, калі была знятая папская забарона на дзейнасць езуітаў і ім зноў было дазволена фармаваць свае ўласныя адміністрацыйныя адзінкі[11].

У гісторыі рымска-каталіцкае царквы ў Амерыцы важнае месца займае дзеяч беларускага паходжання, святар-імігрант айцец Францішак Дзеружынскі. Радня яго і цяпер дзейная і жыве ў Беларусі. Некалькі разоў даводзілася гутарыць з Авяр'янам Дзеружынскім, каб заняцца генеалагічным даследаваннем — вывесці радавод Дзеружынскіх, але, на жаль, безвынікова.

Сам айцец Дзеружынскі нарадзіўся ў Оршы 3 студзеня 1779 года. Там ён вучыўся ў езуіцкім калегіуме, а ў 1794 годзе, маючы пятнаццаць гадоў, ён уступіў

---

[8] Беларус. Нью-Ёрк. 2008. № 541.

[9] Беларус. Нью-Ёрк. 2009. № 562.

[10] Haiman, M. Polish past in America: 1608–1865. Chicago, 1939. P. 65–67.

[11] Кіпель, В. Беларуская спадчына ў ЗША: Мэрыленд // Беларус. Нью-Ёрк. 1975. № 215.

у Таварыства Ісуса, *«прынёсшы з сабою рэдкае сілы інтэлект»*[12]. Ён быў высвячаны ў 1808/09 акадэмічным годзе і прызначаны выкладчыкам тэалогіі ў Полацкай акадэміі. Ён выкладаў таксама ў некалькіх іншых школах на Беларусі, трымаючы лучнасць з сябрамі і калегамі на правінцыі. Трэба адзначыць, што хоць польскі культурны ўціск пашыраўся на значную частку Беларусі, мясціны, дзе нарадзіўся і вырас Францішак Дзеружынскі, не зазналі істотных польскіх уплываў. Выкладаючы ў Полацкай акадэміі, Дзеружынскі, можна прыпушчаць, быў знаёмы з творамі маладога студэнта акадэміі Яна Баршчэўскага (179(?)—1851), аднаго з піянераў новае беларускае літаратуры[13]. Лёс роднае краіны, якая перажывала тады найцямнейшы перыяд свае гісторыі, вельмі непакоіў Францішка Дзеружынскага. Разам з тым, будучы адукаваным чалавекам, ён усведамляў, што ў тую пару, бадай, нельга было спыніць Расійскую імперыю ў яе наступе на захад. Ф. Дзеружынскі — тыповы прыклад адукаваных беларусаў першае паловы XIX стагоддзя, якія не прынялі акупацыі, не змірыліся з ёю. Даволі змрочна ацэньваючы палітычную і культурную перспектыву свае роднае краіны і не падтрымоўваючы палітыкі польскасці і паланізацыі, шырокі пласт інтэлігенцыі — пераважна каталікі — вырашыў эміграваць. Шмат хто з гэтых людзей выправіўся ў Заходнюю Еўропу, Паўднёвую Амерыку і Злучаныя Штаты. Айцец Дзеружынскі выбраў Паўночную Амерыку. Ён прыбыў у Філадэльфію 7 лістапада 1821 года і памёр у Мэрылендзе 22 верасня 1850 года[14].

Ад часу свайго прыбыцця і да самае смерці ён прысвячаў свой магутны інтэлект і энергію новай краіне: займаў шэраг царкоўна-адміністрацыйных пасадаў, у тым ліку і галавы Амерыканскае езуіцкае супольнасці. Аднак галоўным зацікаўленнем і клопатам айца Дзеружынскага была арганізацыя рымска-каталіцкае адукацыі. Ягоны ўклад у развіццё амерыканскае рымска-каталіцкае школьнае сістэмы надзвычай вялікі, а літаратура на гэтую тэму складае не адзін том[15]. Асаблівае ўвагі, аднак, заслугоўвае тое, што ўклад гэты быў зроблены беларусам, хоць польскія навукоўцы лічаць яго палякам. Такое меркаванне нічым не абгрунтаванае. Бясспрэчна, Францішак Дзеружынскі быў шчырым каталіком і адданым сябрам Таварыства Ісуса, але што да ягонае польскасці, дык яна ні ў чым не выяўлялася. Наадварот, некаторыя факты дазваляюць меркаваць, што ягоныя погляды былі як найменей нетыповыя для паляка і сведчылі пра моцную прывязанасць да роднае беларускае зямлі. Дакументальна пацверджаным ёсць факт, што патрыятычная польская інтэлігенцыя, улучна з польскім рымска-каталіцкім духавенствам, нецярпліва чакала прыходу Напалеона падчас ягонае ваеннае кампаніі супраць Расіі ў 1812 годзе. Былі спадзяванні, што Напалеон адродзіць колішнюю Рэч Паспалітую. Польская інтэлігенцыя марыла аднавіць свае ўплывы і пашырыць паланізацыю на беларускія землі. Цяпер цяжка сказаць, што было на думцы ў айца Дзеружынскага, але гэткі факт гаворыць сам за сябе. Замест таго

[12] Rutkowska, M. A Polish pioneer Jesuit in America // Polish American Studies. Vol. 3 (3—4). July — December 1946. P. 98—103.

[13] I. G. Materyaly dziejów Akademii Polockiej i szkol od niej zależnych. Kraków, 1905. S. 115—120, 192, 243—244; ЭЛІМБел. Т. 1. Мінск, 1984. С. 301—302. Дата нараджэння Яна Баршчэўскага дакладна невядомая. Падаюцца 1790, 1794, 1796 гады або 16.12.1799. Гл.: БЭ. Т. 2. 1996. С. 325.

[14] Gadon, L. Emigracya polska. Kraków, 1901—1902. S. 323; Osuch, J. Patriarch of the American Jesuits // Polish American Studies. Chicago. Vol. 17 (3—4). July — December 1960. P. 92—100; Wolanin, A. Polonica Americana: Annotated Catalogue. Chicago, 1950.

[15] Domański, F. Patriarcha amerykańskich jezuitŏw // Sacrum Poloniae Millenium. Vol. 7. Rzym, 1960. S. 462, 471.



каб чакаць, пакуль Напалеон прыйдзе ў родныя Дзеружынскаму мясціны, г. зн. на Полаччыну, Віцебшчыну і Аршаншчыну, як таго можна было б спадзявацца ад польскага патрыёта, ён здабыў коней і падводы і ўцёк на поўнач, у Вялікія Лукі. У Полацк ён вярнуўся толькі пасля Напалеонавага адыходу. Польскі навуковец айцец Ф. Даманьскі, які вывучаў дзённік а. Дзеружынскага, піша ў сваёй працы, прысвечанай жыццяпісу святара: *«Відавочна, а. Дзеружынскі не цікавіўся палітыкаю. Нягледзячы на важнасць і трывожнасць гэтых часоў, у сваім дзённіку Ф. Дзеружынскі ні словам не закранае польскае тэмы»*[16]. Вельмі цяжка гэтаму польскаму даследчыку зразумець і той факт, што сястра а. Дзеружынскага, вярнуўшыся на радзіму, выйшла замуж за праваслаўнага, «схізматыка». Нацыянальна свядомым палякам такія погляды і ўчынкі расцэньваліся б як непрымальныя. Аднак, калі мець на ўвазе, што Францішак Дзеружынскі быў беларусам, гэтыя рэчы выглядаюць больш зразумелымі, а ў тым нацыянальна-рэлігійным кантэксце цалкам нармальнымі. Святар, як відаць, не быў прыхільнікам аднаўлення польскіх уплываў на беларускіх землях, бо добра разумеў, што беларускім народным масам польскасць была чужая. Можна прыпушчаць, што а. Дзеружынскі ўсведамляў, што пашырэнне каталіцызму на ўсход не будзе ісці рука ў руку з польскасцю, а, хутчэй, выкліча прарасійскія сентыменты. Ягонае ж стаўленне да праваслаўя цалкам зразумелае. Ён быў народжаны і выхаваны ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі, дзе гэтая галіна хрысціянства пераважала. Мяшаныя сужэнствы былі штодзённаю з'яваю, і Францішак Дзеружынскі, нягледзячы на тое што быў пераканаым каталік, выяўляў характэрную беларускую талерантнасць і да праваслаўя. Ягоная любоў да свае краіны і ягонае зацікаўленне яе штодзённым жыццём, дзе быў відавочны ціск расійскае адміністрацыі, асабліва выразна выступаюць у багатай карэспандэнцыі *«з нашымі жывымі беларускімі езуітамі»*[17].

Эміграцыя і рассяленне ў Амерыцы каталіцкіх ксяндзоў з Полацкае акадэміі — гэта каларытны і важны эпізод у гісторыі Каталіцкае царквы, Таварыства Ісуса і іміграцыі з Беларусі ў ЗША.

### Былыя паўстанцы — шляхта — іміграанты

Следам за каталіцкімі ксяндзамі, якія прыехалі ў Амерыку ў першай чвэрці XIX стагоддзя, прыбыла новая хваля іміграантаў — былых удзельнікаў паўстання 1831 года. Як вядома, найбольш ахопленыя паўстаннем былі заходнія часткі, аднак і цэнтральная Беларусь брала ўдзел у ім[18].

У XIX стагоддзі выязджалі на эміграцыю, фактычна ўцякалі ад наступаючай расійскай акупацыі, шматлікія прадстаўнікі і беларускіх шляхецкіх родаў. Ёсць, прыкладам, дакумент, які сведчыць пра беларускія карані амерыканскай часткі роду Сапегаў. Народжаны ў Амерыцы ў ваколіцах Чыкага 11 сакавіка 1887 года Станіслаў Павел Леў Сапега быў хрышчаны ў грэка-каталіцкім абрадзе, як і ўся гэтая галіна роду. Сапегі падтрымоўвалі лучнасць з шматлікімі тады эміграантамі-беларусамі-літвінамі, як і з бацькаўшчынай — наведвалі Меншчыну, Наваградчыну.

[16] Domański, F. Patriarcha amerykańskich jezuitŏw... S. 462.

[17] Ліст а. Рамуальда Сушынскага, датаваны 23 ліпеня 1835 года, пра становішча ў Беларусі, нядаўна акупаванае маскоўскімі войскамі. Гл. таксама перапіску Ф. Дзеружынскага з іншымі святарамі і свецкімі людзьмі ў архіве: Jesuite Archives, Baltimore (MD).

[18] Смирнов, А. Революционные связи народов России и Польши: 30—60-е гг. XIX в. Москва, 1962.

Амерыканскі Леў Сапега чуўся і беларусам, а ў час дзейнасці Рады БНР, у 1918—1920-я гады, наладзіў кантакт з ёй, а ў Берліне адчыніў бізнесовую кантору пад назвай «Сіндыкат Сапегі для Еўропы і Азіі ў Беларусі». Даследчык дзейнасці і архіваў БНР у Нямеччыне Уладзімір Сакалоўскі пра Сапегу пісаў так:

*Пэўны час ён аказвае прадстаўніцтвам беларускага ўрада ў Берліне пасільную фінансавую дапамогу. У складзе Берлінскае Канторы «Сіндыкат Сапегі» працавала шмат беларусаў, у тым ліку паўнамоцным дырэктарам яе быў да лета 1920 г. ужо згаданы А. Борык. (Восенню 1919 г. сп. Антон Борык быў начальнікам ваеннага аддзела Місіі БНР у Нямеччыне.) С. Л. Сапега-Ваявода заснаваў першую за межамі былой Расійскай імперы беларускую службу друку і тэлеграфнай інфармацыі, якая двойчы на тыдзень выдавала інфармацыйныя бюлетэні, у якіх галоўная ўвага надавалася беларускай тэматыцы*[19].


Юліян Урсын Нямцэвіч

Добра вядомы ў ЗША паплечнік Тадэвуша Касцюшкі, народжаны на Берасцейшчыне, палітык, пісьменнік, грамадскі дзеяч Юліян Урсын Нямцэвіч (1758—1841). Колішні ўдзельнік паўстання, вязень Петрапаўлаўскай крэпасці ў Санкт-Пецярбургу, ён быў у эміграцыі ў Заходняй Еўропе і ў 1797 г. (паводле іншых звестак, у 1796 г.) прыехаў у ЗША (порт Філадэльфія). Тут Нямцэвіч браў удзел у грамадска-палітычным жыцці, быў знаёмы з амерыканскай палітычнай элітай, уключна з Джорджам Вашынгтанам. Шмат ён пісаў на сацыяльна-палітычныя тэмы, пра падзеі на землях былой Рэчы Паспалітай пры канцы XVIII ст., ужываючы назвы «ліцвіны» і «Літва» ў дачыненні да беларускіх тэрыторый. У кнігах «Літоўскія пісьмы», «Гістарычныя песні» і падарожных нататках Юліян Урсын Нямцэвіч апісваў Гародню, Берасце, Наваградак, жыццё беларускіх сялянаў. Дарэчы, у роднай вёсцы Скокі на Берасцейшчыне і вандроўках па беларускіх краях ён настолькі добра пазнаў сялянскі побыт, што, будучы госцем у маёнтку Джорджа Вашынгтана і назіраючы жыццё чарнаскурай чэлядзі, пісаў: *«...жывуць яны ў будках, бо хатамі [такія] названыя быць не могуць», «яны [будкі] значна больш мізэрныя, чым найбяднейшыя хаткі нашых сялянаў...»*[20]. Варта згадаць, што ў часе прыезду на Берасцейшчыну на паховіны бацькі Юліян Урсын Нямцэвіч выконваў просьбу бібліятэкі Амерыканскага філасофскага таварыства ў Філадэльфіі і дапамагаў ёй атрымаць некаторыя кнігі з Еўропы. Наогул, і Нямцэвіч, і Касцюшка, і Дзеружынскі, і іншыя, што пакідалі край пад наступам Расіі і русіфікацыі, па прыбыцці ў ЗША актыўна ўлучаліся ў амерыканскае жыццё. Фактычна ў 1776—1850 гадах дзяржаўнасць Злучаных Штатаў яшчэ знаходзілася ў працэсе фармавання, і беларускія іміgranты, як выглядае, бралі ў гэтым чынны ўдзел.

У другой палове XIX стагоддзя прыехала ў Амерыку і нямала ўдзельнікаў паўстання 1863—1864 гадоў. Дзясяткі іх напачатку затрымоўваліся ў Нью-Ёрку, а

[19] Сакалоўскі, Ул. Надзвычайная місія БНР у Нямеччыне (1919—1925) // Arche. Мінск. 2009. № 3 (78). С. 23.

[20] Niemcewicz, J.U. Under Their Vine and Fig Tree: Travels Through America in 1797, 1799, 1805 with some Futher Account of Life in New Jersey. Elizabeth (NJ), 1965. P. 26, 66.



пасля рассяляліся па ўсёй краіне[21]. Большасць гэтых змагароў за свабоду былі, бясспрэчна, палякі, як неаднаразова зазначаецца ў літаратуры, але шмат хто з іх называў сябе «ліцвінамі» або «літоўскага паходжання», а часта і «літоўскаю шляхтаю». Некаторыя называлі сябе «выгнанцамі з расійскае Польшчы». Часта яны, каб удакладніць сваё няпольскае паходжанне, падавалі назовы мясцінаў нараджэння: Віцебск, Менск, Магілёў і г. д., дадаючы нярэдка азначэнне «Літва». Жаданне падкрэсліць сваю няпольскасць і было галоўным матывам стварэння ў Парыжы Літоўскага таварыства, а ў Нью-Ёрку — Польска-славянскага літаратурнага аб'яднання, мэтаю якога было «спрыяць пашырэнню ведаў з гісторыі, навукі і літаратуры народаў славянскае расы»[22]. Былыя паўстанцы пераважна былі каталікі, іхныя прозвішчы на «-скі» шырокая публіка ўспрымала як польскія. Неадназначна пра тое выказаўся вядомы польска-амерыканскі гісторык Мечыслаў Хайман: *«Паводле таго, як яно выглядае... можна з пэўнасцю прыпушчаць, што яны былі палякі»*[23]. Відавочна, што гэта непераканаўчыя аргументы і недастатковыя крытэрыі, каб некага назваць палякам. Тым не менш амерыканская грамадская думка была, зразумела, на польскім баку, і, на няшчасце, ні вялікая прэса, ні польская грамада не зрабілі ніякіх высілкаў, каб вытлумачыць, што не толькі палякі змагаліся з рускімі і не толькі палякі прыбывалі ў Амерыку, а разам з польскімі паўстанцамі-імігрантамі прыязджалі і іншыя. Праўда, былі выказванні аб гэтым, а сярод іх і голас Адама Міцкевіча. Аднак галасы тыя былі марным ляманам у пустэльні.


Генрык Дмахоўскі-Сандэрс (1810–1863)

Сярод беларусаў, якія сталі вядомыя ў Амерыцы ў XIX стагоддзі, можна назваць Фелікса Міклашэвіча, які паходзіў са старое віцебска-полацкае шляхты і вызначыўся ў гісторыі амерыканскага ваеннага флоту[24], Аляксандра Бяляскага з Меншчыны[25] ды Генрыка Дмахоўскага, амерыканскага скульптара і мастака, знанага пад прозвішчам Генры Сандэрс[26]. Цікава адзначыць, што Генрык Дмахоўскі-Сандэрс пасля задушэння паўстання 1830—1831 гадоў, у якім ён браў удзел, уцёк у Заходнюю Еўропу, а ў 1851 годзе прыехаў у ЗША. Тут Дмахоўскі шмат стварыў у галіне скульптуры і вярнуўся ў Беларусь у 1861 годзе, а ў 1863 годзе стаўся адным з арганізатараў і лідараў паўстання

[21] Rawlings, I. Polish exiles in Illinois // Illinois State Historical Society. Transactions for the year 1927. Danville (IL), 1927. P. 83—104; Kowalczyk, E. A Polish family in the South // Polish American Studies. Vol. 3 (3—4). July — December 1946. P. 104—107; Polacy w USA w 1833 r. // Kultura. Paryż. 1949. № 1/18. S. 70—81; Lerski, J. A Polish chapter in Jacksonian America. Madison (WI), 1958.

[22] Gadon, L. Wielka emigracya. Paryż, 1960. P. 456—466.

[23] Haiman, M. Polish past in America: 1608—1865... P. 65—67.

[24] Haiman, M. Poland and the American Revolutionary War. Chicago (IL), 1932. P. 69, 70.

[25] Polski Slownik Biograficzny. T. 2. Krakow, 1936. S. 35; Wytrwal, J. Lincoln`s friend — Captain A. Bielaski // Polish American Studies. Cichago. Vol. 14 (3—4). July — December 1957. P. 65—67; Problemy Polonii Zagranicznej: Rocznik. Warszawa, 1960. S. 235—238.

[26] Rutledge, A. The Pennsylvania Academy of the Fine Arts 1807—1870. Philadelphia (PA), 1955. P. 194, 195; БелСЭ. Т. 4. Мінск, 1971. С. 243—244; Кісялёў, Г. Героі і музы. Мінск, 1982. С. 62—70.

Каліноўскага. Быў забіты каля Дзісны[27]. Вярнуўся ў Еўропу і Аляксандар Галінскі, былы паўстанец, народжаны ў Віцебску, які ў 1850-я гады жыў у Каліфорніі[28].

Прыпушчальна, адным з імігрантаў-паўстанцаў (г. зв. палякаў) быў нехта Каржанкоўскі, які памёр у Філадэльфіі каля 1865—1870 гадоў. Ён прызначыў выканаўцам свайго тастамента Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, аднак апошні не змог поўнасцю выканаць тастаментавых жаданняў праз канфлікт з царскаю адміністрацыяй[29].

Безумоўна, хваля беларускае эміграцыі XIX стагоддзя ў Амерыку ў выніку задушэння паўстанняў 1830—1831 і 1863—1864 гадоў патрабуе далейшых даследаванняў і пошукаў. Дарэчы, і трэба гэта адзначыць, аўтар меў магчымасць гутарыць з нашчадкамі тых былых паўстанцаў-імігрантаў. Шмат хто з іх ведаў, што іхныя прадзеды не былі палякамі, прыкладам Арнольд Зямкевіч з горада Перт-Эмбой (штат Нью-Джэрсі), сям'я Гапановічаў з горада Бафало (штат Нью-Ёрк), сям'я Кавальчукоў з горада Геры (штат Індыяна) ды іншыя. Аўтар спатыкаўся з гэтымі людзьмі ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, калі яны займаліся пошукамі свайго радаводу. Яны часта ведалі назовы вёсак, адкуль паходзілі іхныя прадзеды. Усе яны былі каталікі і належалі да польскіх касцёлаў, і тым больш уражвае тое, што яны захавалі свядомасць свае няпольскасці і беларускага паходжання.

Да своеасаблівых «адраджэнцаў» амэрыкана-беларусаў бясспрэчна належыць і Крысціян Наркевіч-Лэйн, які жыве ў Чыкага і вядомы як навуковец, архітэктар, стваральнік культурнага цэнтра *«The Chicago Atheneum»*. У ягоным родзе былі Радзівілы, Ёдкі, а маці ягоная Шарлота Наркевіч-Лэйн была пляменніцай знакамітага беларускага даследчыка Якуба Наркевіча-Ёдкі. Ужо ў XXI стагоддзі Крысціян Наркевіч-Лэйн бярэ ўдзел у беларуска-амерыканскай дзейнасці, дапамагае ахвярам Чарнобыля ды прасвячае Беларусі свой твор[30].

Гэткім чынам, шмат імігрантаў, што паходзілі з беларускіх земляў і прыехалі ў Злучаныя Штаты ў XIX стагоддзі пасля антырасійскіх паўстанняў, могуць і павінны з усёй аб'ектыўнасцю быць разгляданыя як беларускія імігранты.

Бясспрэчна, пошукі, асабліва ў архівах Беларусі, Польшчы, Літвы, Расіі, выявяць шмат новых прозвішчаў, сувязяў з Радзімай. Адно з апошніх даследаванняў Дзмітрыя Матвейчыка — выдатная падстава да далейшых росшукаў іміграцыі з Беларусі ў сярэдзіне XIX стагоддзя[31].

### *Сельскагаспадарчыя калоніі*

Сельскагаспадарчыя калоніі, заснаваныя ў сярэдзіне XIX стагоддзя «рускімі» прагрэсістамі, выступаюць цікавым эпізодам у гісторыі славянска-яўрэйскае эміграцыі ў Амерыку з заўважным беларускім адценнем. Колькі слоў пра гэтыя калоніі. Засноўваліся яны ідэалістамі, якія ўважалі, што змогуць стварыць жыццяздольныя суполкі ды сваім прыкладам давесці грамадству пра магчымасць больш шырокіх маштабаў развіцця калоній. Асноўным прынцыпам у іх былі супольная маёмасць ды сталая сельскагаспадарчая праца. Былі сярод калоній

[27] Наша слова. Мінск. 23 кастр. 2013. № 43 (1142).

[28] Haiman, M. Polish Pioneers of California. Chicago (IL), 1940. P. 57.

[29] Дунін-Марцінкевіч, В. Творы. Мінск, 1984. С. 483—484.

[30] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 12 (95). Снежань 2001.

[31] Матвейчык, Д. Выгнаныя з роднага краю. Пасялістападаўская эміграцыя з Беларусі і Літвы (1830—1870-я гады). Мінск, 2011.



і чыста рэлігійныя ўгрупаванні, як менаніты і духаборы, аднак большасць з іх засноўвалася з палітычных меркаванняў. Паводле Уільяма Фрэя, балтыйскага яўрэя, заснавальніка і ідэалагічнага бацькі сельскагаспадарчых калоній, напрыканцы XIX стагоддзя ў Амерыцы існавала 67 гэткіх «прагрэсіўных славянарускіх» калоній[32]. Адна з такіх калоній, званая «Вільня», відавочна мела дачыненне да Беларусі, хоць арганізатары яе ніколі не выязджалі з горада Нью-Ёрка[33]. Гэтыя сельскагаспадарчыя калоніі згадваліся і ў працы Міхаіла Іоські пра Мікалая Судзілоўскага, дзе зазначалася, што ў мясцовасці Гараны каля Полацка шмат хто з тых народнікаў праходзіў свой «стаж»[34]. У архівах Уільяма Фрэя ёсць вялікая перапіска з Фрэдам Вулі, які вучыўся ў Горы-Горках ды жыў у Беларусі, а таксама і перапіска з Мікалаем Судзілоўскім[35].

### *Беларускі народнік — амерыканскі сенатар і іншыя імігранты*


Мікалай Судзілоўскі-Русель (1850–1930)

Цікавая старонка ў гісторыі беларусаў у Злучаных Штатах — дзейнасць доктара Мікалая Судзілоўскага-Руселя[36]. Народжаны ў Судзілавічах каля Магілёва, гэты беларускі народнік пасля бурлівых студэнцкіх гадоў на Бацькаўшчыне і ў Еўропе трапіў у жніўні 1887 года ў Амерыку. Затрымаўшыся на даўжэйшы час у Каліфорніі, дзе ён зрабіў выдатную кар'еру як лекар і актыўны грамадска-палітычны дзеяч, Судзілоўскі пасля канфлікту з рускай праваслаўнай іерархіяй пераехаў у 1897 годзе на Гаваі. Там ён хутка заваяваў папулярнасць як лекар, навуковец і палітык, які дасягнуў становішча прэзідэнта гавайскага сената. Пакінуў па сабе Судзілоўскі і багатую друкаваную спадчыну: каля дзясятка навукова-даследчых, пераважна прыродазнаўчых, прац, сотні артыкулаў і некалькі кніжак палітычна-філасофскага зместу. Неабходна падкрэсліць, што палітычна-філасофская думка Судзілоўскага была накіраваная на знішчэнне расійска-царскае імперыі[37], і парадаксальна, што пасля Кастрычніцкае рэвалюцыі Судзілоўскі не ўспрыняў бальшавіцкага погляду на класава-дыктатурнае кіраванне дзяржаваю. Нягле-

[32] Yarmolinsky, A. A Russian's American dream; a memoir on William Frey. Lawrence (KS), 1965. P. 102.

[33] Lorwin, L. The women's garment workers: a history of the International Ladies` Garment Workers` Union. New York (NY), 1924. P. 27—28.

[34] Иосько, М. Николай Судзиловский-Руссель: Жизнь, революционная деятельность и мировоззрение. Минск, 1976. С. 50—54.

[35] The New York Public Library Archives. Frey Archives, Box 2/ Folders 4, 10.

[36] БелСЭ. Т. 10. Мінск, 1974. С. 108—109.

[37] М. Судзілоўскі выказваўся пра нацыянальнае пытанне. *«Змучаныя векавым дэспатызмам нашае бюракратыі народы ўскраінаў Расіі натуральна спяшаюцца забяспечыць сябе ад усякага гвалту шляхам поўнае нацыянальнае аўтаноміі з асобнымі нацыянальнымі сеймамі і парламентамі. [...] Кожная з гэтых нацыянальнасцяў імкнецца перадусім заручыцца гарантыяй поўнае свабоды нацыянальнага развіцця»* — гэтак пісаў М. Судзілоўскі ў кнізе «На политические темы» (Нагасакі, 1907. С. 44). Дзеяч прадбачыў праблему ў развязанні нацыянальнага, рэлігійнага і адміністрацыйнага пытання народаў Расіі: *«Як, прыкладам, азначыць межы Польшчы, Беларусі і Малой Русі?»*. І рытарычна адказваў: *«Хоць відавочна цяжкасці будуць і таму, каб не гуляць у федэрацыю... пачаць з поўнага палітычнага аддзялення ўсіх народаў Расіі па нацыянальным прынцыпе як аснове дзяржаўнага вызначэння народаў»* (На политические темы. С. 48). Гл.: Кіпель, В. Беларуская спадчына на Гаваях // Беларус. Нью-Ёрк. 1974. № 210, 211.

дзячы на неаднаразовыя запросіны кіраўнікоў тагачаснае БССР, дзеяч вырашыў заставацца на эміграцыі. Мікалай Судзілоўскі-Русель памёр у Кітаі ў 1930 годзе. Адным з цікавых момантаў ягонага амерыканскага жыцця ёсць тое, што ён хадайнічаў перад Дзяржаўным дэпартаментам аб прызначэнні яго консулам у Японіі[38].

У англамоўнай і іншамоўнай амерыканскай і неамерыканскай літаратуры ёсць нямала згадак і пра іншых імігрантаў-беларусаў у ЗША. Прыкладам, дасціпная рэклама над крамаю ў штаце Канектыкут: *«Уласнік дае зніжку сваім землякам з Магілёўскае губерні ў Беларусі»*[39].

Рускі журналіст Я. Матросаў, адзін з першых, хто апісаў Амерыку ў рускай публіцыстыцы, пісаў пра Нью-Ёрк гэтак: *«Русь расійская ўяўляе з сябе тут літаральна кроплю ў моры, бо складае маленечкую жменьку, каля 150 чалавек, у трохмільённым горадзе. Усё гэта пераважна праваслаўныя беларусы з Менскае і сумежных губерняў: краўцы, кавалі ды шаўцы, сярод якіх краўцы, аднак, складаюць пераважную большасць»*[40]. Далей, пасля наведвання рэстарана ў дзелавой частцы Нью-Ёрка, занязначыў, што ўласнік рэстарана — *«спаланізаваны беларус з Менскае губерні»*.

Іншы аўтар, Інакенцій Сысоеў, пра эмігрантаў з Расіі сказаў гэтак: *«Рускіх велікаросаў з Ніжагародскае і Яраслаўскае губерняў вельмі мала. Рускія там пераважна з Заходняга краю Магілёўскае, Менскае губерняў...»*[41]. Пра беларускага эмігранта згадваў і Караленка ў сваім «Без языка», а таксама іншыя аўтары[42].

* * *

Апошняе дзесяцігоддзе XIX стагоддзя замыкае хвалю паасобных і невялічкіх групаў эміграцыі з Беларусі. Надыходзіць хваля масавае эміграцыі. Варта зрабіць колькі абагульненняў.

Беларускія эмігранты да гэтага часу былі пераважна каталіцкага веравызнання. Шмат хто з іх быў адукаваны і да пэўнае ступені знаходзіўся пад уплывам польскае культуры. Яны пакінулі бацькаўшчыну ў бурлівы і складаны час. Поруч з рэлігійнаю і культурнаю паланізацыяй пачыналіся інтэнсіўная русіфікацыя, а таксама заціранне гістарычнага вобраза Беларусі-Літвы і падмена яго афіцыйнай версіяй аб «трыадзінасці».

Эмігранты XIX стагоддзя былі на інтэлектуальным раздарожжы: у душы яны былі ліцвіны з багатаю гісторыяй і не маглі прыняць новае ўлады і новых гістарычных канцэпцый, што прыйшлі з усходу. Яны сталіся актыўнымі змагарамі супраць Расіі, цара і былі пераможаныя. Дзясяткі і сотні з іх эмігравалі. Рассяляліся ў Заходняй Еўропе, Паўднёвай Амерыцы і Злучаных Штатах. Бясспрэчна, яны былі палітычнымі эмігрантамі. На жаль, яны не пакінулі нам інтэлектуальнае спадчыны з ідэямі аднаўлення літоўска-беларускае мінуўшчыны. Тыя эмігранты не заснавалі трывалых палітычных арганізацый, якія былі б ідэалагічнымі лучнікамі паміж ліцвінствам і новаю беларускасцю. За выключэннем Мікалая Судзілоўскага-Руселя, яны амаль не пакінулі ніякае друкаванае палітычнае спадчыны.

[38] National Archives, Honolulu (Hawaii). Russell-Sudzilovski's File.

[39] Kruszka, W. Historya Polska w Ameryce. T. 3. Milwakee (WI), 1905. S. 91.

[40] Граф Лелива (Матросов, Е.). Заокеанская Русь // Исторический Вестник. Т. LXVII. Санкт-Петербург, 1897. С. 134, 154–157, 159.

[41] Сысоев, И. Путешествие в Америку, или В стране «Help your self»: Лекция, читаная 1 марта 1910 г. в большой новой аудитории Политехнического музея, в пользу Комиссии по постройке Учительского дома в Москве. Москва, 1910. С. 74–75.

[42] Короленко, В. Собрание сочинений. Т. 4. Москва, 1954. С. 490; Карманный Русско-Православный Календарь на 1931 год. Wilkes-Barre (PA), 1930. С. 42.



Прынамсі яна яшчэ не выяўленая, хоць з часам можа быць знойдзеная ў архівах: трэба шукаць. І тым не менш тыя эмігранты сваёй працай, сваім інтэлектам спрычыніліся да развіцця і станаўлення новае для іх нацыі — амерыканскае, і іхны ўклад у амерыканскае жыццё ёсць, безумоўна, спадчына беларуская.

## Масавая эміграцыя

Масавая эміграцыя з Беларусі пачалася памалу ў апошняе дзесяцігоддзе XIX стагоддзя, паступова ўзмацняючыся аж да Першае сусветнае вайны. Напачатку эміграцыя кіравалася не за акіян, а ў большыя гарады Польшчы, у Рыгу, Пецярбург, Адэсу, на шахты Украіны ды ў значна большых масах у Сібір[43]. Беларусь у тым часе была адным з асноўных пастаўшчыкоў працоўнае сілы ў імперыі. Як зазначыў адзін з заходніх даследчыкаў, *«Беларусь шмат з якіх меркаванняў можна назваць Ірландыяй Расійскае імперыі»*[44].

Пасля таго як хваля эміграцыі ў Сібір зменшылася, а ў некаторых мясцовасцях прыпынілася зусім, эміграцыя ў Злучаныя Штаты пачала ўзрастаць, дасягнуўшы максімуму ў 1910–1913 гадах. Эмігранты з Беларусі часта ехалі праз акіян з порта Лібава і пераважна параходамі кампаніі *Hamburg-Amerika Linie*. Да гэтай кампаніі належаў і *«Titanic»*, на борце якога таксама былі зарэгістраваныя асобы з беларускіх тэрыторыяў[45].

Тэма эміграцыі з Расіі знайшла адлюстраванне ў рускай літаратуры. Увага найбольш была засяроджаная на законнасці і памерах працэсу эміграцыі, тым часам як нацыянальныя праблемы цалкам ігнараваліся. Пра некалькі заўваг адносна законнасці працэсу эміграцыі варта згадаць.

Некаторыя аўтары выказвалі погляд, што масавая эканамічная эміграцыя з Расійскае імперыі была з'яваю нелегальнаю. Ужо ў 1892 годзе царская мытня выдала цыркуляр, які забараняў пропуск у Расію лістоў, у якіх былі заклікі да эміграцыі ў Амерыку[46]. Сутнасць справы палягала ў тым, што расійскае заканадаўства і адміністрацыйны апарат не былі падрыхтаваныя даць рады гэтаму вялікаму раптоўнаму працэсу[47].

[43] Гарэцкі, Г. Насельніцтва БССР // Полымя. Мінск. 1926. № 7. С. 97–105; Пичета, В. Крестьянское и рабочее движение в Белоруссии в 1905 г. // Працы БДУ. Мінск. 1926. № 11. С. 105–122; № 12. С. 95–117; Белорусская Советская Социалистическая Республика. Минск, 1927. С. 121; Дудкоў, Д. Сталыпінская рэформа у Віцебскай губерні. Мінск, 1931. С. 106–107; Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. Мінск, 1940. С. 67, 811–819; Саковіч, А. Беларусы ў Адэсе // Веда. Нью-Ёрк. 1952. № 5. С. 153–158; Шабуня, К. Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии. Минск, 1962. С. 139–140; Саладков, Т. Борьба трудящихся Белоруссии. Минск, 1967. С. 20–21, 72–73; Панютич, В. Из истории формирования пролетариата Белоруссии. 1861–1914 гг. Минск, 1969. С. 39, 82–84, 87, 88–91; Верещагин, П. Крестьянские переселения из Белоруссии (вторая половина XIX в.). Минск, 1978; Болбас, М. Об уровне экономического развития дореволюционной Белоруссии // Веснік БДУ. Сер. III: Эканоміка. Мінск, 1980. № 3. С. 72–74; Herlihy, P. Odessa: a history, 1794–1914. Cambridge (MA), 1986. P. 242–243.

[44] Stewart, H., Heanen, F. de. Provincial Russia. London, 1913. P. 111.

[45] Сехнович, В. «Из Ливерпульской гавани всегда по четвергам»: как начиналась массовая эмиграция из Беларуси // TUT.BY: https://news.tut.by/economics/615897.html.

[46] Сехнович, В. «Из Ливерпульской гавани всегда по четвергам»: как начиналась массовая эмиграция из Беларуси...

[47] Эфрен, И. Русское эмиграционное движение и его нужды // Северные записки. Петербург. Май 1914. С. 129–136.

Расійскі даследчык С. Яноўскі, вывучаючы эміграцыю, сцвярджаў, што пакольі Збор законаў не меў адмысловых артыкулаў аб эміграцыі, дык эміграцыя ўважаецца незаконнаю. Ён пісаў, што *«артыкулы 325 і 326 імперскага крымінальнага кодэксу адназначна сцвярджаюць, што расійскае заканадаўства прызнае законным толькі часовы побыт у замежных краінах, робячы гэткім парадкам сталае пражыццё за межамі свае краіны незаконным»*. Той самы Яноўскі заўважыў, што не было заканадаўчых нормаў, якія б рэгламентавалі выдачу замежных пашпартоў. Парадак выдачы пашпартоў у розных губернях быў розны, пры гэтым нярэдка парушаліся артыкулы 325–327 расійскага Збору законаў. Першае дакладнае заканадаўства ў дачыненні да эміграцыі прынята ў 1892 годзе, але яно тычылася толькі яўрэяў. *«Тым не менш*, — пісаў Яноўскі, — *калі бюракратычныя цяжкасці былі непамерныя і амаль неадольныя, нелегальная эміграцыя была альтэрнатываю, прычым шырока распаўсюджанай»*[48].

Іншы пазнейшы расійскі даследчык, аўтарытэт у справах эміграцыі Валерыян Абаленскі ў шматлікіх працах выказваў падобныя погляды, дадаўшы такую дэталь, што дакладна распрацаванае заканадаўства аб эміграцыі было напісанае ў 1906 годзе, але не было зацверджанае аж да пачатку 1917 года, а таксама што:

*Эміграцыя заставалася калі не нелегальнаю, дык паўлегальнаю грамадскаю з'яваю, маўкліва прызнаванаю, але афіцыйна не ўрэгуляванаю. Пры такіх абставінах цалкам зразумела, што і статыстыка эміграцыі ў дакладным значэнні слова ў Расіі амаль зусім адсутнічала*[49].

У тым самым часе ў афіцыйным друку рабілася розніца паміж легальнымі і паўлегальнымі эмігрантамі, бо ў некаторых табліцах гэтая розніца ясна вызначаная. У «Памятнай кніжцы Гарадзенскае губерні» ў раздзеле «Статыстыка насельніцтва» даюцца афіцыйна такія катэгорыі: 1. Рух насельніцтва з дазволу адміністрацыі; 2. Рух насельніцтва па індывідуальным жаданні (маецца на ўвазе, што гэты апошні адбываецца без дазволу). У другой катэгорыі ёсць і рубрыкі з назовам «Рух у Сібір і іншыя месцы ў імперыі» ды «Рух у Амерыку і іншыя краіны»[50].

Безумоўна, недакладнае заканадаўства аб эміграцыі ўплывала і на статыстыку вызначэння нацыянальнасці ды іншыя аспекты. Для беларусаў гэта асабліва неспрыяльна, бо ў статыстычных дадзеных аб эміграцыі беларусы амаль нідзе не згадваліся.

Даследчык Вадзім Сяховіч, аналізуючы выезд эмігрантаў з Расійскай імперыі (кошты, кампаніі і г. д.), аб колькасці беларусаў у эміграцыйнай масе ў 1899–1908 гадах піша, што за гэты перыяд у ЗША з Расіі эмігравала 666,5 тысячы габрэяў, 370 тысяч палякаў (*«з упэўненасцю можна казаць аб прысутнасці ў гэтай групе беларусаў каталіцкага веравызнання»*). Праваслаўныя беларусы асобна не вылучаліся, а траплялі ў амэрыканскай статыстыцы ў адну групу з літоўцамі і латышамі, якіх разам прыбыло каля 132 тысяч. Паводле Вадзіма Сяховіча, колькасць беларускіх імігрантаў у ЗША ў 1899–1908 гадах складала каля 60–90 тысяч чалавек[51].

[48] Яновский, С. Русское законодательство и эмиграция // Журнал Министерства юстиции. Т. 4. Санкт-Петербург, 1909. С. 91–114.

[49] Оболенский (Осинский), В. Международные и межконтинентальные миграции... С. 6.

[50] Памятная книжка Гродненской губернии на 1905 год. Гродно, 1905. С. 83.

[51] Сехнович, В. «Из Ливерпульской гавани всегда по четвергам»: как начиналась массовая эмиграция из Беларуси...



Як бы там ні было, беларускія землі на пачатку стагоддзя былі гатовыя даць на рынкі працы ўсяго свету вельмі шмат працоўных рук.

### Эканоміка — галоўная прычына эміграцыі

Рэакцыйная расійская палітыка ў Беларусі была галоўным фактарам эканамічна-палітычнага заняпаду краю, што спрычынілася да масавае эміграцыі ў XIX–XX стагоддзях з Беларусі ў Амерыку. Пры гэтым асноўную масу эмігрантаў складалі сяляне. Эканамічнае становішча Беларусі асабліва пагоршылася пасля 1861 года, калі значная частка сялянства не атрымала зямлі і беспрацоўная сельскагаспадарчая працоўная маса пачала ўзрастаць[52]. У некаторых крыніцах падаецца, што ў Беларусі напрыканцы XIX стагоддзя на працоўным рынку было каля 9 % беззямельных сялянаў[53]. У тым самым часе, калі ў Беларусі быў надвышак працоўнае сілы, царская палітыка наўмысна стрымлівала развіццё прамысловасці ў краі. Беларускі рэгіён (Паўночна-Заходні край) быў найбольш адсталы ў імперыі з гледзішча прамысловага развіцця[54]. Беларусь давала 0,88 % агульнага аб'ёму індустрыяльнае прадукцыі, тым часам як жыхарства краіны складала 3,6 % агульнага жыхарства імперыі[55]. Паводле шмат якіх беларускіх даследчыкаў, а сярод іх Гаўрыла Гарэцкі і Змітро Прышчэпаў, Беларусь характарызавалася вельмі малым прыбыткам на душу насельніцтва, што відаць з наступных табліцаў (паказальнікі ў рублях)[56]:

| (Гарэцкі: | 1900) |
|---|---|
| Аўстралія | 374 |
| Злучаныя Штаты | 346 |
| Еўрапейская Расія | 67 |
| Беларусь | 54 |

| (Прышчэпаў: | 1900 | 1913) |
|---|---|---|
| Англія | 273 | 463 |
| Нямеччына | 184 | 292 |
| Еўрапейская Расія | 67 | 101 |
| Беларусь | 46 | 73 |

Дадатковыя фактары, як голад, эпідэміі, палітычныя рэпрэсіі, спрыялі далейшаму збядненню краю ды павялічвалі і прыспешвалі эміграцыю. У навуковай літаратуры ёсць вельмі шмат працаў, прысвечаных аналізу эканамічнага становішча Беларусі ў той час. Апрацоўваючы эканамічны нарыс Беларусі, будучы на пасадзе намесніка наркама замежных спраў БССР у жніўні 1920 года, Аляксандр Бурбіс падаў шмат дэталяў пра эміграцыю беларусаў у Сібір, ва Украіну, а пра эміграцыю ў Амерыку каротка зазначыў:

*У апошнія даваенныя гады (перад Першай сусветнай вайной. —* В. К.*) узмацнілася эміграцыя ў Паўночную Амерыку, асабліва з Заходняй Беларусі — Гарадзенскае і Віленскае губерняў. Эмігрантаў прыцягвала туды высокая заработная плата. Пераважна*

[52] Панютич, В. Из истории формирования пролетариата Белоруссии... С. 129–30, 84–90, 114.

[53] Строительство коммунизма и социальные изменения в крестьянстве Белоруссии. Минск, 1966. С. 8.

[54] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. С. 612.

[55] Hałubničy, U. The location of industries in the Belorussian SSR // Belorussian Review. Munich. № 4. 1957. P. 124.

[56] Гарэцкі, Г. Народны прыбытак Беларусі. Віцебск, 1926. С. 95; Прищепов, Д. Сельское хозяйство БССР и мероприятия по его восстановлению. Минск, 1925. С. 7.

*яны не заставаліся ў Амерыцы, але, зарабіўшы крыху грошай, вярталіся. Часам на гэтыя грошы яны куплялі зямлю і вялі гаспадарку*[57].

Не мэта гэтае публікацыі спыняцца дэталёва на эканамічным аспекце, але неабходна падкрэсліць, што пра эканамічнае і палітычнае становішча ў Беларусі ў той час шмат пісалася ў «Нашай Ніве» — тагачасным сведку эміграцыі. Аднак гэтая крыніца амаль не выкарыстоўвалася даследнікамі. Дык колькі цытатаў з «Нашае Нівы» будуць дарэчы:



№ 36 НАША НИВА. 7

З АМЭРЫКИ.

Berkeley Cal. 27—XI

Сымон Ях—ч.

Допіс з ЗША ў газеце «Наша Ніва». 1907 г.

*Куды ж дурным было дзецца? Зямлі кідаць — страх, бо назад не вернешся; на фабрыку не пойдзеш, бо няма блізка; на казённую службу — пайшоў бы, ды не бяруць тутэйшага. Вось гэтая няможнасць працаваць на зямлі таму, хто да яе найбольш рвецца, — тутэйшым людзям з грашамі і навукаю, з года ў год гоніць найлепшыя сілы ў суседнюю Польшчу ці Вялікарасею — за Нёман, за Дняпро, за Дзвіну. Гэтакіх людзей выяжджаець многа, і праз тое яшчэ больш цямнее, яшчэ больш дзічае нашая старонка.*

*Пачынаючы ад Мураўёва, пасля паўстання 1863 года, абрусіцельная палітыка затрымала ўсякае развіццё Беларусі. У Беларусі не было свабоды пісаць і друкаваць па-свойму,*

[57] Бурбис, А. Белоруссия и ее экономическое положение // Arche. Мінск. 2011. № 11. С. 116.



*не можна было ўжываць роднай мовы ў школе, хаця бы столькі, сколькі было дазволена іншым народам — прымерам, палякам.*

*Дума приступіла ўжо да зямельнай справы. Справа гэтая вельмі важная: яна датыча найбольшай часці народу ўсяе Расіі, а таксама й нашай Беларусі і Літвы. Штогод мужык наш усё болей ды болей галее. Грамады вясковых людзей мусяць кідаць свой родны край ды ісці шукаць хлеба па свеце: за пяць гадоў, ад 1896 да 1900 г., з шасці нашых губерній выехала 101 481 перасяленцаў — найбольш людзей бойкіх, смелых, разумных. З розных старон нашага краю ідуць весці, што не толькі ў Расіі, а і ў нас народ вясковы галадае.*

*З Троцкага павету Віленскае губерні мужыкі паслалі ў Думу петыцыю... У петыцыі мужыкі прыводзяць шчот, колькі чаго набралі насланыя да іх казакі і стражнікі, і просяць вярнуць ім кошт іх дабра.*

*28 мая ў рэдакцыі беларускай газеты «Наша Ніва» зрабіла паліцыя вобыск. Паліцыі нашло чалавек 15 — цэлае войска! Але нічога «падазрыцельнага» не знайшлі, забралі толькі больш тысячы штук кніжкі беларускай «Што такое свабода», хоць яе і пусціла цэнзура, і 3 штукі «Зямельнай справы ў Новай Зеландыі»*[58].

Гэтыя цытаты — толькі невялічкая частка багатага дакументальнага матэрыялу, які быў выдрукаваны ў газеце «Наша Ніва», і абавязак цяперашніх даследчыкаў эканамічна-палітычнага становішча ў Беларусі на пачатку стагоддзя — выкарыстаць матэрыялы і гэтае газэты:

*Адгукаючыся на эміграцыю беларусаў у ЗША, «Наша Ніва» пісала пра ўмовы, у якіх жывуць эмігранты, распавядала пра гісторыю гэтай краіны і выказвала свой погляд на эміграцыю. «Наша Ніва» адзначала, што яшчэ «гадоў 50–60 таму» ЗША былі «саўсім мужыцкай дзяржавай». А ў часы «Нашай Нівы» гэтая краіна дасягнула фенаменальнага поспеху, і сярэдні заробак там большы, як у Вялікабрытаніі, Францыі і Германіі, а цэны ніжэйшыя за еўрапейскія. Цікава, што прычыны такога становішча газета бачыла ў забастовачнай актыўнасці амерыканскіх рабочых і іх салідарнасці паміж сабой, на другім месцы ідзе іх «вучонасць» і працавітасць. Таму беларусам, пісала газета, першыя часы там надзвычай цяжка, і яны могуць быць толькі чорнарабочымі. Аналізуючы прычыны эміграцыі, «Наша Ніва» перадусім называла галечу, якая паходзіць ад таго, што, з аднаго боку, мала зямлі, а з другога, вяскоўцы ня ўмеюць гаспадарыць, а гэта, ў сваю чаргу, выклікана адсутнасцю адпаведных школ. Тыднёвік пісаў, што расійскі капітал занадта слабы, каб арганізаваць індустрыялізацыю, а замежны (амерыканскі) баіцца прыходзіць у Расію, бо там пануе «бяспраўе» і ўвогуле «парадку няма». Тэма эміграцыі не сыходзіла з палос выдання да канца выхаду. У асноўным газета патрабавала ад Думы выпрацоўкі сістэмы заканадаўства ў гэтай справе*[59].

Эканамічнае становішча ў Беларусі ў пару масавае эміграцыі адлюстравана ў літаратуры і ў Злучаных Штатах. З мэтаю азнаямлення з эканомікай краю Беларусь у 1913 годзе наведала амерыканская дэлегацыя і шырока адлюстравала ў амерыканскім друку эканамічнае становішча Беларусі ў пару масавае эміграцыі[60].

[58] Гл.: Наша Ніва. Вільня. 1906. № 6, 7. 1907. № 12, 13, 20. Гл. таксама: 1907. № 10, 11, 17, 18, 19, 21, 22, 29, 31, 32; 1908. № 1, 5, 9, 10, 11, 12, 17, 19, 21, 33.

[59] Унучак, А. «Наша Ніва» і беларускі нацыянальны рух (1906–1915 гг.). Мінск, 2008. С. 86–87.

[60] Hourwich, I. Immigration and Labor: The economic aspects of European Immigration to the United States. New York (NY), 1912; Полещук. Наши в Америке. Серыя артыкулаў у «Новом русском слове», 1969–1972 гг.; Smith, R., Christian, D. Bread and salt: a social and economic

Цікавы, хоць і спрошчаны аналіз эканамічнага становішча сялянаў у Расійскай імперыі быў надрукаваны ў «Кангрэсавых запісах» за 1923 год:

*Стагоддзямі яны былі парабкамі і перад пачаткам Першае сусветнае вайны мала розніліся ад рабоў. Ад часу скасавання прыгону і правядзення зямельнае рэформы становішча сялянаў амаль не палепшылася. Хоць яны маглі і стацца ўласнікамі зямлі, аднак, не маючы грошай, не маглі яе набыць, і дзякуючы прыросту насельніцтва колькасць сялянаў-землеўласнікаў меншала. Іхныя дзённыя заробкі былі вельмі малыя. Жыццёвы ўзровень сялянаў у Расіі напярэдадні Першае сусветнае вайны быў ніжэйшы, чым у французскіх сялянаў XVII стагоддзя... Гадавое спажыванне збожжа на душу насельніцтва ў 1909–1914 гадах складала ў Амерыцы 10 цэнтнераў, у Нямеччыне — 4,5, а ў Расіі — 3,5 цэнтнера...*

*Паўгалодныя, хворыя, яны працавалі даўгія гадзіны ў безнадзейным беспрасвецці, пазбаўленыя адукацыі ды асноўных патрэбаў штодзённасці, жывучы літаральна і вобразна ў цемры, бо не было грошай на газу, каб асвятліць хату даўгімі зімовымі начамі...*[61].

Пад расійскім панаваннем Беларусь ператварылася ў тыповую калонію, даіндустрыяльнае грамадства, дзе было немагчыма знайсці працы, а здабыццё ежы сталася асноўным клопатам. Эміграцыя шмат для каго была лагічным выйсцем, і ў хуткім часе эміграцыйны паток ператварыўся ў лавіну. Як было зазначана адным даследчыкам, *«адбываліся павальныя ўцёкі на заробкі ў Амерыку»*[62]. Пра памеры эміграцыі ёсць інфармацыя ў шматлікіх крыніцах, у тым ліку і ў «Нашай Ніве»:

*За 1912 год праз Лібаву выехала 58 507 душ у Амерыку. З гэтага ліку з Беларусі выехала:*

| | |
|---|---|
| *з Менскае губ.* | *8380* |
| *з Гарадзенскае губ.* | *7018* |
| *з Віленскае губ.* | *2721* |
| *з Магілёўскае губ.* | *2350* |
| *з Віцебскае губ.* | *1322* |
| *Усяго* | *21791*[63] |

Некаторая статыстыка аб беларускіх перасяленцах ёсць і ў амерыканскіх крыніцах. Вось колькі лічбаў з архіва Амерыканскае праваслаўнае царквы. Праз Рускі імігранцкі дом у Нью-Ёрку ад 1 студзеня 1913 года да 1 студзеня 1914 года імігрантаў з Беларусі прайшло:

| | |
|---|---|
| *з Віленскае губ.* | *4412* |
| *з Віцебскае губ.* | *1166* |
| *з Гарадзенскае губ.* | *7130* |
| *з Менскае губ.* | *11251* |
| *з Магілёўскае губ.* | *2640* |
| *Усяго* | *26599*[64] |

history of food and drink in Russia. Cambridge — New York, 1984. P. 266, 337; Новый мир. Нью-Йорк. 19 сент. 1913; Causes of emigration from Russia // Reports of the Immigration Commission. Washington (DC), 1911. P. 265–296.

[61] U.S. Congressional Record, 1923. P. 261.

[62] Панютич, В. Из истории формирования пролетариата Белоруссии... С. 89.

[63] Наша Ніва. Вільня. 1913. № 43.

[64] The Orthodox Church in America. Dept. of History and Archives. New York. Immigrant Home. Essays on Immigration (File). Syosset (NY).



Аднак як дадзеныя ў газеце «Наша Ніва», гэтак і лічбы з амерыканскіх крыніцаў ды лікавыя дадзеныя аб беларускай эміграцыі пазнейшых савецкіх аўтараў — паказчыкі частковыя, выводныя і спарадычныя, пра што была гаворка ў раздзеле, прысвечаным разгляду літаратуры пра эміграцыю.

### *Палітычная эміграцыя*

Насуперак прынятаму погляду, што масавая эміграцыя з Беларусі была толькі эканамічная, трэба сказаць, што была эміграцыя і палітычная, і бясспрэчна, што палітычная эміграцыя будзе схаваная ў вялікай масе нелегальных эмігрантаў, значную колькасць якіх адзначалі даследчыкі[65].

Здаецца, гаворачы пра беларускую эміграцыю ў Амерыку, мы недаацэньваем тую яе хвалю, што пачалася пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і мела ў значнай ступені палітычны характар. Важна падкрэсліць, што перасяленцы пачатку XIX стагоддзя, пераважна каталіцкага веравызнання, акцэнтавалі ўвагу на тым, што яны *ліцвіны*, ліцвінскага роду, што яны паходзяць з тэрыторыі Літвы, а не Польшчы. У архіве намі знойдзеныя звесткі пра тое, што ў ЗША існаваў гурток «літоўскае шляхты» з Магілёва і з Віцебшчыны. Да гэтае хвалі належыць, да прыкладу, вядомы асветнік, арганізатар вышэйшай адукацыі ў Амерыцы ксёндз Францішак Дзеружынскі (род Дзеружынскіх вядомы і ў сённяшняй Беларусі) і шмат іншых духоўных асобаў з Полацкае езуіцкае акадэміі, зачыненай царскімі ўладамі. Гэтая частка дыяспары была ў нас апошняй, што яшчэ трымалася назвы «ліцвіны». Яе прадстаўнікі, як пра гэта сведчыць англамоўны друк і шмат якія архіўныя дакументы, ліставанне з роднымі, папярэджвалі Захад пра небяспеку для Еўропы ад Расійскае імперыі, а таксама пра вынішчэнне традыцыйных звычаяў мясцовага жыхарства, іх тоеснасці.

Пазнейшыя хвалі эміграцыі з Беларусі — пасля паўстанняў 1830–1831, 1863 гадоў аж да канца XIX стагоддзя — выступалі ў англамоўным друку як прыхільнікі *славянскае еднасці*. Аднак шмат хто з прадстаўнікоў тае хвалі ўважаў, што землі ліцвінаў (тэрмін «Беларусь» стаў ужывацца ў апошняй чвэрці XIX стагоддзя) павінны прайсці праз стадыю сваёй новай дзяржаўнасці. Тыповым прадстаўніком тагачаснай гэтак званай палітычнай эміграцыі быў ураджэнец Магілёва Мікалай Судзілоўскі-Русель. Дзейнасць ягоная добра вывучаная ў Беларусі (дастаткова прыгадаць манаграфію Міхаіла Іоські), аднак, здаецца, нідзе не адзначалася, што ён не прымаў не толькі царскай, але і савецкай улады. Ён не захацеў вярнуцца, хоць яго і запрашаў урад БССР, як пра гэта ўжо было зазначана вышэй.

Пераходзячы да XX стагоддзя, трэба сказаць, што пачаткам палітычнае дзейнасці тагачаснае беларускае дыяспары належыць уважаць артыкул Гэб. Палісандара «Нацыя, загнаная ў Сярэднявечча пад маскоўскім панаваннем», апублікаваны ў 1904 годзе ў Лондане[66]. Аўтарам яго, праўдападобна, з'яўляўся Іван Луцкевіч[67]. У артыкуле прааналізавана гісторыя Беларусі, звернута ўвага на дэградацыю эканомікі, звычаяў, на тое, што царскія ўлады на пачатку XX стагоддзя дазволілі беларусам *«менш школаў, чым іх было пару стагоддзяў назад»*[68].

[65] Панютич, В. Из истории формирования пролетариата Белоруссии... С. 88–89.

[66] Palisander Heb. The White-Russians. A Nation driven back into the Middle Ages under Muscovite rule // The Anglo-Russian. London, December 1904. P. 875–876.

[67] Гл.: Гардзіенка, Н. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 31.

[68] Palisander Heb. The White-Russians. A Nation driven back into the Middle Ages under Muscovite rule...

Найбольш вядомым беларускім палітычным эмігрантам XX стагоддзя быў Аляксандр Сянкевіч. Вось што пісала пра яго газета «Наша Ніва»: *«Нашага вучыцеля А. Сянкевіча паліцыя хацела арыштаваць за тое, што ён стараўся адкрыць нам вочы на ўсе парадкі. Яму ўдалося ўцячы ў Амерыку...»*[69]. Была ў «Нашай Ніве» вестка, што пасля арыштаў у справе «вучыцельскага саюза» ў Амерыку ўцяклі дзве асобы[70].

Некалькі беларускіх палітычных эмігрантаў прыехалі ў Злучаныя Штаты праз Сібір, дзе яны адбывалі катаргу. Пра гэта аўтар кнігі даведаўся ад аднаго палітычнага эмігранта, асеціна з нацыянальнасці, які адбываў пакаранне ў Сібіры разам з Алесем Гаруном і адтуль уцёк у ЗША[71].

Бясспрэчна, да палітычнай эміграцыі належаць эмігранты, праўда, нешматлікія, якія прыязджалі ў ЗША з паперамі БНР (1918–1921 гады), і тыя, што прайшлі праз лагеры Ды-Пі пасля Другой сусветнай вайны, ды ў значнай колькасці лічаць сябе палітычнымі ўцекачамі эмігранты з Рэспублікі Беларусь (перыяд пасля 1993 года).

Цікава да азначэння палітычнае эміграцыі падышоў даследчык Павел Верашчагін[72]. Ён, а падобныя думкі выказваліся і раней, аналізуючы эміграцыю з Беларусі ў Сібір, зазначаў, што гэтую эміграцыю трэба разглядаць як не толькі эканамічную, але і як антыўрадавую, а гэта значыць у нейкай ступені палітычную. Гэты погляд можна стасаваць і да беларускае эміграцыі ў Амерыку. Важна падкрэсліць, што на эміграцыю ў вялікай колькасці выязджала праваслаўная маса, а царская палітыка прадугледжвала русіфікацыю гэтае масы ў Беларусі. І факт, што беларускае сялянства падсвядома ігнаравала царскія намеры і планы, можна разглядаць як палітычную акцыю.

Да палітычнае эміграцыі, відаць, трэба залічаць і эмігрантаў, якія ўхіляліся ад вайсковае службы. Гэтае з'явішча было значна болей пашыранае, чым уважалася раней, што вынікае з дакументаў, прысланых аўтару кнігі сп. Аляксандрам Ціхаміравым і сп-няй Галінай Сяргеевай з менскіх і віленскіх архіваў[73].

Варта зазначыць і такі момант: з беларускай эмігранцкай масы ў ЗША вырабляліся-вылучаліся і «свае» амерыканска-беларускія дзеячы, як, прыкладам, а. Ян Тарасевіч, Сцяпан Бубешка, Міхал Зварыка і дзясяткі іншых. Яны далучыліся да дзейнасці БНР і пачалі рабіць першыя крокі па арганізацыі беларускіх эмігрантаў у беларускія нацыянальныя суполкі, хоць давалася гэта ім і нялёгка! Іх дзейнасць бясспрэчна павінна разглядацца як палітычная эміграцыя.

### *Міжваенныя эмігранты*

Беларусы, якія прыехалі ў Злучаныя Штаты Амерыкі пасля Першае сусветнае вайны, былі палітычныя эмігранты. Было іх няшмат, але сярод іх былі вядомыя лідары і палітычныя дзеячы беларускага нацыянальнага руху: Антон і Янка Чарапукі, Язэп Варонка ды некалькі ўдзельнікаў Слуцкага паўстання[74].

[69] Наша Ніва. Вільня. 1907. № 3.

[70] Наша Ніва. Вільня. 1908. № 12.

[71] Эссон. Мае ўспаміны аб А. Прушынскім // Конадні. Нью-Ёрк, 1963. № 7. С. 123–125.

[72] Верещагин, П. Крестьянские переселения из Белоруссии...

[73] Перапіска В. Кіпеля з Г. Сяргеевай і А. Ціхаміравым, 1992.

[74] [Інтэрв'ю з Я. Варонкам] // Chicago Public Library. WPA Project. 1930s. II B 2 d(1); Беларус. Нью-Ёрк. 1966. № 114; Беларускія навіны. Парыж. 1946. № 1.



Прыехалі ў Злучаныя Штаты ў 1920-я гады і некалькі беларускіх ксяндзоў (а. Віктар Шутовіч, а. Язэп Рэшаць, а. Андрэй Цікота) ды былых грамадоўцаў з Заходняе Беларусі[75].

Новыя даследаванні эміграцыі з Беларусі даюць лікі выезду сялянаў з яе заходняй часткі:

*На падставе аналізу афіцыйнае статыстыкі можна лічыць, што з Заходняй Беларусі ў 1926–1938 гг. выехала ў ЗША каля 14 640 чалавек: з Беластоцкага ваяводства — 8 389 чалавек, з Палескага — 3496 чалавек, з Віленскага — 1 433 чалавекі, з Навагрудскага — 1322 чалавекі. Вялікую колькасць складала яўрэйскае насельніцтва*[76].

Гэтаксама ў міжваенным пэрыядзе перабраліся ў Амерыку некалькі мяшаных беларуска-яўрэйскіх сем'яў, якія перад тым жылі ў Нямеччыне, а пасля прыходу да ўлады Гітлера эмігравалі за акіян[77].

### *Эміграцыя падчас і пасля Другое сусветнае вайны*

Невялікую групу беларусаў, якія прыехалі ў ЗША ў 1942–1945 гадах, нельга па сутнасці назваць эмігрантамі, бо гэта былі вайскоўцы савецкае і польскае армій, якія трапілі ў нямецкі палон, а пасля былі інтэрнаваныя амерыканцамі[78].


Янка Ніхаёнак

Некалькі дзясяткаў беларусаў, якія прыехалі ў Злучаныя Штаты ці то напрыканцы Другое сусветнае вайны, ці то хутка пасля яе, былі народжаныя ў Злучаных Штатах Амерыкі, але жылі ў Беларусі або ў Заходняй Еўропе[79]. Прыкладам, Янка Ніхаёнак нарадзіўся 6 сакавіка 1920 года ў штаце Вермонт. На пачатку 1920-х бацькі вярнуліся ў Беларусь і хлопец жыў у вёсцы Лебедзева пад Маладзечнам. У часе Другое сусветнае вайны настаўнічаў на Бацькаўшчыне. У чэрвені 1947 года вярнуўся ў ЗША, дзе пазней жыў у Вермонце, Чыкага, Саўт-Рыверы, Нью-Ёрку. Стаў адным з заснавальнікаў БАЗА[80]. Можна згадаць таксама Міколу (Майка) Філіповіча, народжанага ў 1918 годзе ў Кліўлендзе, ды Івана Хіхлушу, народжанага ў ЗША ў 1920 годзе, а пасля Другое сусветнае вайны яны былі ў ліку арганізатараў Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі (БККА)[81]. Былі і іншыя.

Зноў масава, але ў меншых памерах, чым перад Першаю сусветнаю вайною, пачалі прыязджаць беларусы-эмігранты ў 1948 годзе. Гэтая хваля працягвалася да сярэдзіны 1950-х гадоў. Былі гэта выключна палітычныя эмігранты — так званая

[75] Інтэрв'ю з біскупам У. Тарасэвічам. Чыкага, 1984; Chryscijanskaja dumka. Wilnia. 1938. № 10 (158).

[76] Мярчук, В. Эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі ў 1921–1939 гг. // Да гісторыі беларускай дыяспары. Сшытак 2. Мінск, 2016. С. 90–114.

[77] Гутарка аўтара з Г. Арансонам, расійскім меншавіцкім лідарам, 1959.

[78] Гутарка аўтара з д-рам В. Глазковым, казацкім лідарам, 1975; Казацкі музей у горадзе Б'юна, штат Нью-Джэрсі.

[79] Гутарка аўтара з Янкам Ніхаёнкам, кіраўніком Амерыканска-беларускае моладзі, 1964.

[80] Беларус. Нью-Ёрк. 1986. № 329.

[81] Гардзіенка, А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі... С. 406.

хваля перамешчаных асобаў (Ды-Пі — ад *DP, dispaced persons*). Хоць гэтая хваля была шырокага сацыяльнага профілю — сялянства, працоўная інтэлігенцыя, рабочыя — усіх іх характарызавала моцная беларуская нацыянальная свядомасць, незалежніцкая ідэалогія і абсалютная бескампраміснасць да камуністычнае сістэмы. Гэтая хваля эміграантаў прыязджала ў Амерыку з розных краінаў: Заходняе Нямеччыны, Аўстрыі, Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі, Даніі, Бельгіі і нават Паўночнае Афрыкі. Тыя краіны былі першымі прыпынкамі на шляху эміграцыі з Бацькаўшчыны. У гэтае катэгорыі эміграантаў былі тыя, хто ўцякаў ад савецкае ўлады, былыя ваеннапалонныя ды остарбайтары[82].

У 1960–1980-я гады ў Амерыку прыехала няшмат беларусаў, але і гэтыя былі палітычнымі ўцекачамі ад савецкае сістэмы[83].

Колькасць эміграантаў з Беларусі пачала ўзрастаць ад 1980-х гадоў. Як было паведамлена аўтару сп-няй Алай Пешкавай, да канца 1980-х гадоў з Беларусі выехала некалькі дзясяткаў тысячаў[84]. Шмат з іх перабраліся ў Ізраіль, але некалькі сотняў прыехалі і ў Амерыку ды ў краіны Заходняй Еўропы.

Як відаць з разгледжанага матэрыялу, з Беларусі было некалькі большых і меншых хваляў эміграцыі. Аднак для ўсіх хваляў беларускіх эміграантаў характэрна, што яны выязджалі з Бацькаўшчыны як бы часова, прынамсі ім так здавалася. І ўсе эміграанты-беларусы марылі, што «хутка» змогуць вярнуцца на радзіму. Але жыццё наканавала ім іншую долю.

* * *

Падсумоўваючы, трэба сказаць, што прыток беларускіх эміграантаў у ЗША мае даўгую гісторыю. Працэс гэты пачаўся ад індывідуальных іміграантаў у перыяд каланіяльнае Амерыкі, працягваўся праз XVIII–XIX стагоддзі, зазнаў вялікі ўздым у XX стагоддзі ды застаецца актуальны і цяпер, у XXI стагоддзі, хоць палітычныя ўмовы, бясспрэчна, змяняліся.

[82] Гутарка аўтара з М. Кунцэвічам і дакументацыя Беларускага нацыянальнага камітэта ў Заходняй Нямеччыне, што захоўваецца ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі); Гардзіенка, Н. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 118–119.

[83] Kipel, V. Byelorussian Americans and their communities of Cleveland. P. 93–95; Krasnov, V. Soviet defectors: the KGB wanted list. Stanford (CA), 1985. P. 48, 69, 92–93, 110–118.

[84] Паведамленне аўтару ад А. Пешкавай, 1990-я гады.

## РАССЯЛЕННЕ І ЎЛАДКАВАННЕ НА ПРАЦУ

Скласці мапу рассялення масавае хвалі беларускіх іміграантаў у Злучаных Штатах — задача невыканальная. Гэтая праца не была зробленая, калі іміграанты прыбывалі ў гэтую краіну, і цяпер вельмі цяжка было б рэканструяваць дакладную геаграфію пасяленняў беларусаў. Можна, аднак, у агульных абрысах вызначыць схему распаўсюджання беларускіх іміграантаў у першыя гады іхнага прыбыцця на берагі Новага Свету.

Беларусы сяліліся па ўсёй тэрыторыі Злучаных Штатаў ад Аляскі да Фларыды, аднак асноўная іх маса як частка ўсходнееўрапейскае і славянскае іміграцыі рассялілася на прасторы паміж штатамі Ілінойс і Нью-Ёрк[1].

Крытэрыі выбару месца пасялення былі простыя: наяўнасць працоўных месцаў, блізкасць землякоў і рашэнне агента, у які порт Злучаных Штатаў пасылаць таго ці таго эміграанта.

Балтымар, Бостан, Нью-Ёрк і Філадэльфія былі портамі прыбыцця беларускіх іміграантаў; толькі малая група беларусаў прыбыла ў ЗША праз порты Заходняга ўзбярэжжа пасля Другое сусветнае вайны. Галоўнаю брамаю краіны быў для іх Нью-Ёрк, хоць у штат Нью-Джэрсі значная колькасць беларусаў прыбыла праз Эліс-Айленд.

Першым прыпынкам для тых, каму не было куды падацца, быў Расійскі імігранцкі дом, 347 Іст 14 стрыт, установа, трыманая расійскімі царкоўнымі ўладамі. Дом вёў актыўную дзейнасць у справе рассялення новапрыбылых; статыстыка і дакументы паказваюць, што бальшыня кліентаў дома былі іміграанты з беларускіх земляў. І сапраўды, у справаздачы ягонага дырэктара а. Якава Карчынскага архіепіскапу Платону адзначаецца, што *«ад дня адкрыцця 5 снежня 1908 года да 8 студзеня 1909 года ўсе іміграанты былі з заходніх губерняў Расіі»*[2].

Статыстычныя звесткі за час ад 1 студзеня 1912 года да кастрычніка 1912 года ўлучна паказваюць, што:

*Іміграантаў, што прыбылі з Эліс-Айленда ў Расійскі імігранцкі дом, было: з Менскае губерні — 253, з Гарадзенскае — 191, з Валынскае — 189, з Віленскае — 52, з Кіеўскае — 40, з Падольскае — 33, з Бесарабіі — 12, з Ковенскае губерні — 9, з Люблінскае — 8, з Харкаўскае — 7, з Магілёўскае — 5, з Віцебскае — 3, з Саратаўскае — 1, з Тамбоўскае — 1 і г. д.*

Відавочна, эміграанты з Беларусі пераважалі сярод наведнікаў дома[3].

Джэрсі-Сіці, Элізабэт, Баён, Перт-Эмбой, Саўт-Эмбой, Пасейк і асабліва Нью-арк былі галоўнымі месцамі прыпынку беларусаў з боку Нью-Джэрсі. З прычыны

[1] Archdeacon, T. Becoming American: An Ethnic History... P. 141.

[2] The Orthodox Church of America. Dept. of History and Archives. Syosset (NY). Immigrant Home. Section X: Correspondence.

[3] The Orthodox Church in America. Dept. of History and Archives. Syosset (NY). Immigrant Home. Section XI: Correspondence etc.

таго, што яны амаль зусім не ведалі англійскае мовы, дабрацца да мясцінаў, дзе жылі іхныя землякі, было справаю нялёгкай. Цікавы эпізод расказаў аўтару адзін з тых старых беларусаў, сп. Алекс Калотка, які прыехаў у Злучаныя Штаты ў 1908 годзе. Калі пасля Эліс-Айленда ён прыбыў у Ньюарк і спытаўся ў паліцэйскага: *«Як мне дабрацца датуль, дзе жывуць мае землякі?»*, паліцэйскі, ужываючы колькі найпрасцейшых англійскіх словаў, адказаў прыблізна гэтак: *«Прайдзі па вуліцы каля дзесяці кварталаў і прыслухайся. Як пачуеш, што спяваюць, дык, значыць, там жывуць твае землякі»*. Сп. Калотка, паслухаўшы параду паліцэйскага, знайшоў патрэбны дом і быў з таго часу вельмі шчаслівы і ўдзячны Амерыцы[4].

Дапамагалі ў пошуках працы таксама шматлікія рэлігійныя, грамадскія і дзелавыя арганізацыі, але найбольш дапамагалі землякі[5].

Было цалкам натуральным, што большасць беларусаў, а таксама іншых імігрантаў з Усходняе і Паўднёвае Еўропы, пасяліліся ва ўсходняй і паўночна-цэнтральнай частцы Злучаных Штатаў ды ў большых прамысловых гарадах. Дзякуючы ўрбаністычнаму і касмапалітычнаму характару Усходняга ўзбярэжжа і вялікіх гарадоў эканамічныя і сацыяльныя ўмовы ў гэтых мясцінах былі больш спрыяльныя для ўсходнееўрапейскіх імігрантаў, улучна з беларусамі, і тут яны маглі лягчэй прыстасавацца да амерыканскага ладу жыцця.

Частка беларусаў, аднак, паехалі і на фермы. Штаты Нью-Ёрк і Нью-Джэрсі былі асабліва прывабныя дзеля добрых ураджаяў гародніны і бульбы ды таму, што там ужо працавала шмат польскіх і яўрэйскіх фермераў, з якімі ў беларусаў былі добрыя дачыненні. У Нью-Джэрсі, прыкладам, беларускіх фермераў можна было сустрэць ужо на пачатку XX стагоддзя. Еўрапейская каланізацыйная кампанія, што базавалася ў асноўным у рэгіёне Філадэльфія — Паўднёвы Джэрсі, наймала найбольш італьянскіх і яўрэйскіх фермераў, але прымаліся таксама і ўсходнія еўрапейцы, улучна з беларусамі[6]. Вось што сказана пра аднаго з першых фермераў-беларусаў:

*Першым рускім пасяленцам, які прыехаў у сельскагаспадарчыя раёны ў Вайнлендзе, Нью-Джэрсі, у 1912 годзе быў Сяргей Дземяненка з Менскае губерні. Ён заняўся гадаваннем курэй. Цяпер вакол яго жывуць каля 200 рускіх (каля 50 сем'яў)*[7].

Мы ведаем пра існаванне беларускіх фермераў таксама ў Канектыкуце, Дэлавэры, Мэйне, а некаторыя паехалі і на Поўдзень[8].

Усходнія штаты, у прыватнасці Нью-Ёрк і Нью-Джэрсі, служылі месцамі рэкрутавання працоўнае сілы для штатаў Поўначы і Захаду, і шмат беларускіх імігрантаў паехалі туды[9]. Вялікая колькасць беларусаў знайшлі працу ў шахтах штата

---

[4] Гутарка аўтара з А. Калоткам, Эг-Харбар-Сіці, Нью-Джэрсі, 1972.

[5] Russian-American Messenger. New York. 1911. № 3. P. 20–26; Гутаркі аўтара з нашчадкамі эмігрантаў: Мэры Краус, Скрэнтан, штат Пенсільванія; Джон Бурак, Нью-Ёрк; Васіль Костка, Саут-Рывер, штат Нью-Джэрсі.

[6] Гутарка аўтара з Д. Осборнам, Эг-Харбар-Сіці, штат Нью-Джэрсі, 1961.

[7] Окунцов, И. Русская эмиграция в Северной и Южной Америке. Буэнос-Айрес, 1967. С. 241; Новый Мир. Нью-Йорк. 10 сент. 1914; Schmidt, H. Rural Hunterdon; an agricultural history. New Brunswick (NJ), 1945. P. 45–46.

[8] Hodges, L. Slavs on Southern Farms... P. 21; Гутаркі аўтара з П. Куляшом і А. Шастаком, 1972–1973.

[9] 65th Anniversary, Holy Ascension of Christ Orthodox Church. Commemorative Book. Albion (MI), 1981. Introductory Part.



Пенсільванія ды ў прамысловых цэнтрах Сярэдняга Захаду — у Кліўлендзе, Чыкага, Дэтройце, Геры і іншых[10].

Добрае ўяўленне пра рассяленьне беларускіх эмігрантаў даюць славянскія ды мясцовыя газеты, у якіх пры розных нататках, некралогах і абвестках пра эмігрантаў падавалася месца іх паходжання. Вось колькі прыкладаў:

*Аляска. Ілля Сямёнавіч Каланевіч згінуў праз выпадак у шахце. Сюды ён прыехаў з вёскі Варонічы Мажэвіцкае воласці Слонімскага павета Гарадзенскае губерні*[11].

*Нью-Хэйвэн, штат Канектыкут. Руская калонія ў горадзе налічвае каля трох тысячаў асобаў. Гэта ўсё людзі з заходніх губерняў.*

*Янтык, штат Канектыкут. У нашым горадзе шмат рускіх: усе з Менскае губерні.*

*У Монтвіле, штат Канектыкут, амаль усе рускія — з Віленскае і Менскае губерняў.*

*Стэмфард, штат Канектыкут. Нашыя землякі ў горадзе паходзяць пераважна з Віленскае губерні. Калі мы ім хацелі прадаць газету «Новый мир», яны нас выставілі за дзверы*[12].

*Вайтынг, штат Індыяна. У горадзе жыве па-над дзвесце рускіх: усе яны з Гарадзенскае, Віленскае і Менскае губерняў*[13].

*Гарднер, штат Масачусэтс. У горадзе вельмі шмат эмігрантаў з Расіі. Большасць з іх паходзіць з Віленскае губерні*[14].

*Геры, штат Індыяна. Развіццё так званае рускае калоніі ў горадзе звязанае з развіццём самога горада. Эмігранты з Расіі з'явіліся тут у 1906 годзе, калі нараджаўся сам горад. Былі гэта людзі пераважна з Чарнігаўскае, Менскае, Віленскае, Гарадзенскае і Валынскае губерняў. Жылі яны ў бараках і толькі пазней пачалі будаваць дамы, даючы гэтым пачатак гораду*[15].

*Фрэнклін, штат Нью-Джэрсі. У горадзе каля трохсот эмігрантаў з Расіі. Усе яны працуюць у шахтах і амаль усе паходзяць з Менскае губерні*[16].

*Берлінгтан, штат Нью-Джэрсі. У горадзе шмат беларусаў*[17].

---

[10] Roberts, P. The Slavs in the antracite coal communities // Charities. 1904. № 10. P. 215–222; Warne, F. The Slav invasion and the mine workers: a study in immigration. Philadelphia (PA), 1904. P. 47, 102; Wytrwal, J. Poles in American history and tradition... 1969. P. 239; Гутарка аўтара з Мэры Краус, Скрэнтан, Пенсільванія, 1988; Commonwealth of Pennsylvania. Harrisburg (PA): Dept. of Mines of Pennsylvania. Reports: Part I: Anthracite, 1914. P. 55–56; 1915. P. 35, 231; 1917. P. 58; Перапіска аўтара з Чэстарам Кулесам, захавальнікам Музея антрацыту (Скрэнтан, штат Пенсільванія), 1988.

[11] Новый Мир. Нью-Йорк. 1915. 28 окт.

[12] Новый Мир. Нью-Йорк. 1912. 25 авг., 3 нояб.; 1914. 6 окт., 3 нояб.; 1915. 26 марта; 1916. 31 янв.

[13] Новый Мир. Нью-Йорк. 1916. 15 янв.; 1917. 10 апр.

[14] Новый Мир. Нью-Йорк. 1915. 13 дек.; 1916. 3 янв.; 1917. 10 апр.

[15] Russian Herald. New York. 1947. Jan. — Feb. P. 108–109.

[16] Новый Мир. Нью-Йорк. 1916. 5 февр.

[17] Русский Голос. Нью-Йорк. 1928. 20 сент.

*Уортан, штат Нью-Джэрсі. Большасць работнікаў у горадзе паходзяць з Менскае, Валынскае і Віленскае губерняў. У мінулым усе яны былі сяляне, а цяпер працуюць на амуніцыйных заводах і шахтах*[18].

*Эдысан, штат Нью-Джэрсі. У веку 88 гадоў памёр Чарльз Лойшыц. Прыехаў у Амерыку ў 1902 годзе з Гарадзенскае губерні. Меў невялічкую кампанію па разборцы дамоў*[19].

*Ліндхерст, штат Нью-Джэрсі. Памёр Якаў Шурок. Паходзіў ён з Беларусі і ўсё жыццё пражыў у горадзе Карні, Нью-Джэрсі*[20].

Цікавыя разважанні пра рассяленне беларусаў у Нью-Джэрсі і сумежных штатах выказаў аўтару М. ДэБэк, амерыканец-беларус першага пакалення, які доўгі час працаваў журналістам у штаце:

*Цяпер мне 67 гадоў, я на пенсіі, працаваў журналістам. Мае родзічы пасяліліся ў штаце Нью-Джэрсі. Мы беларусы і чыстыя славяне. Гісторыя рускіх амерыканцаў — гэта сага пра беларусаў, карпатаросаў, галічанаў, русінаў, велікаросаў (маскоўцаў), лэмкаў і нават некаторых украінцаў. [...] І тут, калі нам давядзецца пісаць пра беларусаў, гэта хутка можа стацца нязручнаю праблемаю... У кожным выпадку прыток беларусаў з сем'ямі на амерыканскія берагі пачаўся каля 1880 года ды працягваўся амаль цэлае пакаленне да 1920 года. У гэтым бурлівым саракагадовым перыядзе паток быў магутны. Тысячы і тысячы праходзілі праз «Каза Гарду» (Касл-Гардэн) у Бэтэры-парку ў Нью-Ёрку (іміграцыйны цэнтр, які дзеіў перад тым, як быў збудаваны цэнтр на Эліс-Айленд. —* В. К.*). Гэтыя людзі не патрабавалі нічога, як толькі мець шанец на працу. Мае бацькі былі сярод гэтых новапрыбылых. Іх называлі «зялёнарогія», г. зн. жаўтаротыя, навічкі-няўмекі, у сапраўднасці ж яны былі «зялёнарукія», г. зн. свежая працоўная сіла. Яны гарбелі на вугальных шахтах штата Пенсільванія, нафтаачышчальных заводах, цагельнях, ліцейнях, чыгунках, шаўковых і тэкстыльных фабрыках гарадоў Джэрсі-Сіці, Патэрсан і Пасейк штата Нью-Джэрсі. Працавалі яны таксама ў кампаніі Мак Мотарз, на асбеставых заводах, на заводах Зінгера ды ў порце горада Элізабэт, усё ў штаце Нью-Джэрсі.*

*У часе вялікага страйку на прадпрыёмствах «Стэндард Ойл» у горадзе Баён, штат Нью-Джэрсі, у 1915 годзе «рускія славяне» апынуліся ў цэнтры падзей. Каля 60 % работнікаў з 6 тысяч занятых у «Стэндард Ойл» былі славяне, а сярод іх вельмі шмат беларусаў. Але не яны былі адказныя за страйк. [...] Мой бацька быў на гэтым прадпрыемстве ад 1900 года. Працаваў ён як мантажнік, зваршчык і кацельшчык. У той ранні перыяд работнік працаваў дзесяць гадзін у дзень і восем гадзін у суботу, разам 58 гадзін. Тыднёвая плата была 14 даляраў. Шмат нашых сяброў выехала ў штат Пенсільванія. Каб распазнаць, хто сярод гэтае «руска-славянскае» масы былі беларусы, трэба разгледзець іхныя прозвішчы. Прыпамінаю за апошніх гадоў семдзесят гэткія: Каліна, Дубінскі, Павяльчук, Іванічы, Казаровіч, Кабыляш, Сяманчык, Лукаш, Александровіч — з тых, хто працаваў на нафтаачышчальных заводах у горадзе Баён. Калі падзьмулі вятры пераменаў, новае пакаленне «рускіх» (беларусаў-амерыканцаў) апынулася ў іншых мястэчках штата. Ліндэн, Крэнфард, Роззэл, Вэстфілд, Кларк, Плэйнфілд і іншых. Цяпер амаль немагчыма вылучыць беларусаў-амерыканцаў. Аднак мы мусім прызнаць вялікі ўклад нашых суродзічаў беларусаў і іншых славянаў. Мы паважаем нашых папярэднікаў*[21].

[18] Жизнь русских рабочих в г. Вартон // Русский Голос. Нью-Йорк. 1931. 28 февр.
[19] The Home News. New Brunswick (NJ). 1976. Nov. 20.
[20] The News Leader. Rutherford (NJ). 1977. June 9.
[21] Ліст М. ДэБэка да аўтара ад 22 снежня 1976 года. Гл. таксама: Ethnic American News. Pittsburg. Oct. 1976; The Russian Orthodox Journal. Latham (NY). Feb. 1982. P. 8–9; Новый Мир. Нью-Йорк. 1915. 23 июля.



Вось яшчэ дзеля больш поўнага ўяўлення пару нататак з газетаў пра рассяленне нашых землякоў:

*Нью-Ёрк. Ад 1910 да пачатку 20-х гадоў беларуская мова была моваю «рускіх» масаў ад 14-й вуліцы да Бэтэры-парку*[22].

*Нью-Ёрк. Увага, мянчане! Minsk Young Men's Commercial ладзіць 6 красавіка 1912 г. баль у Нью-Казіно. Уваход з 107-й вул. і Лексінгтан авеню*[23].

*Сырак'юз, штат Нью-Ёрк. У горадзе каля 20—30 сялянаў з Гарадзенскае губерні. Толькі два ці тры з іх могуць чытаць*[24].

*Ліндэна каля Кліўленда, штат Агаё. Рыгор Момлік, сябра нашага Брацтва, згінуў у выпадку на шахце. Ён паходзіў з мястэчка Дзівіна Кобрынскага павета Гарадзенскае губерні*[25].

*Уілкс-Бэры, штат Пенсільванія. У горадзе поўна рускіх. Галоўным чынам гэта эмігранты з Менскае, Валынскае і Гарадзенскае губерняў.*

*Батлер, штат Пенсільванія. Амаль уся калонія «рускіх» масаў у горадзе паходзіць з Менскае, Кіеўскае і Валынскае губерняў.*

*Пітсбург, штат Пенсільванія. На заводзе «Карбон Стыл» забаставалі каля 250 чалавек, з іх каля 30 палякаў, а ўсе астатнія рускія з Магілёўскае губерні*[26].

*Штат Тэхас. Шмат хто пісаў пра становішча «рускіх» работнікаў на фермах Пірса ў Тэхасе. Усе тутэйшыя «рускія» прыехалі з Гарадзенскае, Менскае і Валынскае губерняў. Іх месячная зарплата — 20 даляраў, але на рукі ім выплачваецца ўсяго дзесяць даляраў*[27].

*Камберленд, штат Ваёмінг. Адам Макавецкі з горада Пружаны Гарадзенскае губерні загінуў на шахце*[28].

*Каспер, штат Ваёмінг. Жыву я ўвесь час у прэрыі. Пасу авечак і зімой і летам. Плоцяць мне 50 даляраў на месяц і даюць утрыманне. Зімою я сплю ў палатцы, а летам пад чыстым небам. Жыву я тут ужо трэці год. Зімой я не бачу шмат людзей, найчасцей я адзін са статкам — 2500 авечкамі — і сабакам. Сабака паслухмяны і дапамагае мне з авечкамі. Раней я жыў у Дэтройце сем гадоў і ведаю горад, як сваю хату. Беспрацоўе зрабіла мяне пастухом у штаце Ваёмінг. Летам тут нядрэнна, але зімой цяжкавата. Тэмпература даходзіць да –24°. Цяпер ідзе дождж, але трава ўжо зелянее. Сёння я бачыў арла, які паклаў ужо два яйкі ў гняздзе. Так што, сябры, прывітанні ўсім вам і поспехаў у працы. Каспер, Ваёмінг, Пётра Гурыновіч*[29].

[22] Гутаркі аўтара з Аляксандрам Аляшкевічам і Фёдарам Крыўко, Нью-Ёрк, 1960.
[23] Новый Мир. Нью-Йорк. 1912. 29 марта.
[24] Новый Мир. Нью-Йорк. 1912. 23 авг.
[25] Свет. Вилкес-Барре (ПА). 1912. 27 июня.
[26] Русский Голос. Нью-Йорк. 1916. 5 апр.; 1928. 7 мая; 1929. 8 февр. Гл. таксама: Новый Мир. Нью-Йорк. 1914. 10 нояб.; Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1928. 9 мая.
[27] Hodges, L. Slavs on Southern Farms... P. 21.
[28] Новый Мир. Нью-Йорк. 1915. 27 окт.
[29] Американские Известия. Детройт. 1938. 1 апр.

Як выявілі нашыя пошукі, гэтым «рускім каўбоем» быў эмігрант з Менскае губерні, які прыехаў у Амерыку каля 1912 года.

Беларуская прысутнасць у штаце Канзас відавочна пацвярджаецца ў такім выказванні: *«Лінгвістычна Еўропа прадстаўлена ў Канзасе ў руска-беларуска-украінскім квартале ў Канзас-Сіці»*[30].

Цікавую гісторыю пра рассяленне беларусаў-эмігрантаў у ЗША на пачатку XX стагоддзя расказвае сп-ня Канстанцыя Фліпат (*Constance Phlipot*), былая чыноўніца Дзяржддэпартамента (цяпер на пенсіі) і намесніца амбасадара ЗША ў Менску (у 2004–2006 гадах), жанчына з беларускімі каранямі:

*Нядаўна я наведала бацькаўшчыну маіх дзядоў — раён горада Добруш, непадалёк Чарнобыля. Мой дзед быў, паводле расійскага пашпарта, Канстанцін Сямёнавіч Арэхаў, але ў часе іміграцыйных працэдур стаўся Constantin Oref, або часта яго звалі Франк. Ён ва ўзросце 17 гадоў як самотны эмігрант прыехаў у ЗША ў 1912 годзе. Паходзіў ён з вёскі Дземянкі. Першая ягоная праца была на лесапавале ў штаце Мічыган, дзе ён быў прызваны ў армію. Служба ў арміі, удзел у Першай сусветнай вайне далі майму дзеду амерыканскае грамадзянства. Па вайне ён уладзіўся працаваць шахцёрам ў мястэчку Трыядэльфія ў штаце Заходняя Вірджынія (хоць спадарыня Канстанцыя зазначае, што мог дзед працаваць у шахце недзе каля горада Пітсбурга ў штаце Пенсільванія.* — В. К.*). Дарэчы, мястэчка Трыядэльфія існуе і цяпер з жыхарствам у 2013 годзе — 784 асобы. Далей гісторыя дзеда з Беларусі ішла гэтак: ён ажаніўся ў 1923 годзе з «сваёй» дзяўчынай, таксама эмігранткай з Беларусі, значна маладзейшай за яго (вёскі маладзёнаў у «старым краі» знаходзіліся за 8 км адна ад другой), і выглядае, што жанімства было «па дамоўленасці». У шахтах дзед працаваў да гадоў 1950-х, калі выйшаў на пенсію, пасяліўся каля Кліўленда ды падрабляў там працай у садаводстве. Поркацца ў садзе ён вельмі любіў. Памёр дзед у 1975 годзе, а бабка — у 1999 годзе. Далучаю некалькі сямейных здымкаў: некаторыя з Беларусі, іншыя — амерыканскія: дзед з землякамі ў Заходняй Вірджыніі, на могілках у Пітсбургу*[31].

Іншы беларус-імігрант гэтак згадваў свой «працоўны стаж» у ЗША:

*...я скіраваўся ў Амерыку. Гэта было ў 1911 годзе... У Пітсбургу я атрымаў працу ў сталёўні. Гэта была найлепшая з маіх працаў! Я працаваў ля печы, награваў жалеза, з якога рабілі кастылі для чыгуначных рэльсаў... Потым я працаваў у вугальнай капальні ў Пенсільваніі... Я прапрацаваў там каля двух месяцаў, калі вялікі камень зваліўся мне на нагу і мне ампутавалі раздроблены вялікі палец. Я не адразу паздаравеў, усе мае назапашаныя сродкі скончыліся. Пасля гэтага я працаваў на будаўніцтве дарогі, на фарме і развозіў лёд. Наступная праца была на прыстані на возеры Эры і на колавым параходзе на рацэ Агаё... Урэшце я вырашыў вярнуцца ў Канаду...*[32].

А вось яшчэ адзін прыклад шляху, якім ішлі эмігранты з Беларусі. Журналіст, беларус з паходжання Гардзей Бусько шмат гадоў пражыў у горадзе Су-Сіці ў штаце Аёва. Ён гэтак апісваў горад:

*Наўрад ці ў Злучаных Штатах ёсць яшчэ такая «руская калонія», як у Су-Сіці. Найперш гэтая калонія вылучаецца тым, што пераважная бальшыня яе паходзіць з былое Менскае губерні, Слуцкага павета, Капыльскае воласці і з самога мястэчка Капыля. Першыя эмігранты з гэтае мясцовасці прыехалі ў Су-Сіці гадоў пяцьдзясят таму. Як яны*

[30] Carman, J. Foreign-language units in Kansas. Lawrence (KS), 1962. P. 66.

[31] Ліст К. Фліпарт да В. Кіпеля.

[32] Говор, Е. Белорусскіе анзакі... С. 62.



*трапілі сюды, у такую далёкую ад усіх рускіх асяродкаў мясцовасць, — ніхто не можа растлумачыць. Прыехаўшы ў гэтае занядбанае мястэчка, яны пайшлі працаваць у бойні, бо гэта была адзіная на той час галіна прамысловасці ў горадзе, за выключэннем чыгункі, дзе няцяжка было атрымаць працу рускаму іміграну без мовы. І гэтак цягнулі адзін аднаго на працу ў бойні. Тое самае было і з ростам калоніі ў гэтым горадзе. Першыя, хто прыехаў з Капыля, пачалі пісаць да сваіх сваякоў ды сяброў у родны Капыль і ў навакольныя вёскі, і ў хуткім часе ў гэтым амерыканскім мястэчку вырасла даволі вялікая наша калонія... Гэтак калонія ў Су-Сіці сталася найбольшаю на Сярэднім Захадзе. Пазней прыехала некалькі эмігрантаў з Гарадзенскае і Валынскае губерняў, але большасць калоніі, ці то каля 80 %, у Су-Сіці паходзіць з Капыльшчыны і Случчыны.*

Далей Бусько пісаў, што эмігранты пабудавалі і царкву ды заклалі некалькі прагрэсіўных (г. зн. пракамуністычных) арганізацый, у якіх дзеці навучаліся рускай мове. Ён працягваў:

*Аднак ёсць істотная розніца паміж «рускай» калоніяй у Су-Сіці і іншых гарадах. Другое і трэцяе пакаленне беларусаў з Капыльшчыны атрымалі ўніверсітэцкую адукацыю, і горад ганарыцца сёння гэткімі імёнамі, як доктар Н. Нарэйка, доктар А. Бушмар, адвакаты В. Шумінскі, Н. Амяльянік і З. Цвірка. Шмат нашчадкаў эмігрантаў з Капыля займаюць цяпер гарадскія і штатныя ўрадавыя пасады, бяруць удзел у палітычным жыцці і г. д. Грамадскасць горада вельмі ганарыцца імі. Гэткім чынам, я адчуваю, што нашыя беларускія імігранты зрабілі вельмі добрую работу, заслугоўваюць прызнання, і мы таксама вельмі імі ганарымся*[33].

Гардзей Бусько пісаў шмат артыкулаў і рэпартажаў пра беларусаў у гарадах Дэнвер і Пуэбла ў штаце Каларада ды падкрэсліваў, што *«большасць рускіх імігрантаў у Дэнверы паходзіць з Менскае, Гарадзенскае і Самарскае губерняў»*[34].

Беларусы рассяляліся таксама ў штатах Паўночная і Паўднёвая Дакота, Дэлавэр, Ілінойс, Індыяна, Мічыган, Мэрыленд, Нью-Хэмпшыр, Вермонт[35].

Між іншага, аб пасяленні беларусаў у штаце Вермонт зазначана ў кнізе Кацярыны Міглоры[36]. Тут пададзена, што гігант горназдабывальнай прамысловасці штата — *The Vermont Marble Company* (заснаваная ў 1884 годзе) — мела ў сваіх кар'ерах шмат імігрантаў. Нарвежцы сюды ехалі з Канады, шведы, італьянцы, немцы прыязджалі з Еўропы, як і імігранты з Беларусі і Польшчы. Дарэчы, гэтыя апошнія групы працавалі і ў іншых прамысловасцях штата.

Спіс штатаў можна доўжыць і ахапіць літаральна ўсе штаты Амерыкі, аднак варта падкрэсліць, што сваіх карэспандэнтаў у Злучаных Штатах мелі газета «Наша Ніва» (штаты Каліфорнія, Небраска, Пенсільванія і Нью-Ёрк) ды часопіс «Крывіч»[37].

[33] Бусько, Г. Жизнь русских выходцев в Су-Сити // Русский Голос. Нью-Йорк. 1956. 27 авг.; Он же. Жизнь русских в Су-Сити // Новый Мир. Нью-Йорк. 1926. 11 сент. Гл. таксама: Кондуктор. Sioux City (IA) // Справочный Листок. Нью-Йорк. 1893. 15 янв. С. 8.

[34] Бусько, Г. Жизнь русских в Колорадо // Русский Голос. Нью-Йорк. 1929. 23 авг.; 1930. 13 сент., 8, 13, 30 окт.

[35] Гутаркі аўтара з беларусамі ў розных штатах. Гл. таксама: Русско-Американский справочник / сост. И. Окунцов Нью-Йорк, 1913. С. 127–133; Прищепа, И. Жизнь русских в штатах Иллинойс и Индиана // Русский Голос. Нью-Йорк. 1931. 27, 28 марта.

[36] Miglorie, C. Vermont Marble Industry. Charleston (SC), 2013. P. 8–9.

[37] Крывіч. Коўна. 1923. № 1, 2, 3, 4. Пра амерыканскіх карэспандэнтаў «Нашае Нівы» гл.: Кіпель, В. Эміграцыя зь Беларусі й газэта «Наша Ніва» // Запісы БІНіМ. № 19. Нью-Ёрк, 1989. С. 66–94.

Вобразна рассяленне «рускіх» эмігрантаў, што прыехалі на пачатку стагоддзя, апісала газета *«Новый Мир»* у артыкуле «Люстэрка нашага жыцця ў Амерыцы»:

*Шмат хто з вас прыехаў у Амерыку юнаком. Вы правялі сваю маладосць у цяжкой працы і клопатах:*
*на заводах, якія з невялічкіх прадпрыемстваў ператварыліся ў магутныя і камандныя індустрыі Амерыкі;*
*у шахтах, дзе пры вас прабіваўся першы калодзеж, узводзілася першая вышка пабудоваў;*
*на чыгунках, якія на вашых, так сказаўшы, вачах і вашаю працаю ператварыліся з аднакалеек у шматкалейныя лініі, што цягнуцца ад Нью-Ёрка да Сан-Францыска, ад Чыкага да Нью-Арлеана;*
*на палях і прэрыях Паўночнага Захаду, дзе вы секлі лес, карчавалі пні, уздымалі цалік, пракладалі дарогі — стварылі жытніцу Амерыкі; у тэкстыльных цахах штатаў Новае Англіі і Нью-Джэрсі; у шаўкапраднях Пенсільваніі;*
*на тытунёвых фармах Канектыкута, Вірджыніі і Кентукі, на будоўлі мастоў, каналаў, хмарадзёраў, турмаў, музеяў, прытулкаў і прытонаў;*
*у аўтамабільных гігантах Дэтройта.*
*Вы, каланісты-старажылы, упрэжаныя разам з поўным «інтэрнацыяналам» іншых эмігрантаў у калясніцу амерыканскага капіталу, стварылі ўсё тое, што рабіла Амерыку тэхнічна перадавою краінаю*[38].

Гэтае апавяданне, вядома ж, стварае ўзнёслы вобраз, але яно ў нейкай меры адлюстроўвае штодзённую рэальнасць. Па ўсёй Амерыцы наўрад ці знойдзецца такая галіна прамысловасці, мясцовасць або грамада, дзе б не пакінулі свайго следу беларускія сяляне-іміграны.

Звесткі пра рассяленне славянскіх імігрантаў, улучна з «рускаю групаю», г. зн. беларусамі і ўкраінцамі, можна сустрэць у працах шматлікіх ранніх даследчыкаў славянскае іміграцыі. Некаторыя нават спрабавалі вызначыць прыблізную колькасць «рускіх» у розных гарадах і штатах.

Эдвард Рос пісаў пра рассяленне славянскіх імігрантаў наступнае:

*Калі каля пятнаццаці гадоў таму пачаўся вялікі наплыў славянаў, амерыканскія ўскраіны былі далёкія, занядбаныя і непрывабныя. Новапрыбылыя шукалі не так таннае зямлі і ўласнае незалежнасці, як добра аплочванае працы, з якое яны маглі б назапасіць «вялікія грошы» і заможнымі вярнуцца дадому. Таму іх прыцягвалі вугальныя, металаапрацоўчыя і пагрузачныя прамысловыя цэнтры, дзе патрабавалася неабмежаваная колькасць чорнае працы, прычым заўсёды таннае. Так гэтыя дужыя сялянскія хлопцы станавіліся Нібелунгамі, «сынамі цемры», што засялілі нашыя шахты, домны, коксавыя печы, плавільні, ліцейні, сталяварні і металаачышчальні, робячы цяжкую, грубую працу пад наглядам кваліфікаваных людзей, якія, як сказаў мне адзін майстар, «хочуць, каб тыя не думалі, а падпарадкоўваліся загадам». […] Гэтым адважным славянам ніякая праца не здавалася цяжкою або небяспечнаю. Фаталізм, з якім яны ішлі на рызыку, шмат у чым спрычыніўся да празмернага «праліцця крыві» ў некаторых галінах нашае прамысловасці. Сярод іх няма спекулянтаў, камбінатараў, тарбахватаў, скваппых да ўсялякае драбязы, якіх нямала бывае сярод нас. Яны не маюць нахілу да малых паразітычных прафесій, а з дзівуоднай адвагаю бяруцца за цяжкую і важную працу. Дужыя, мускулістыя, нязвыклыя ўхіляцца ад працы, славяне складаюць некваліфікаваную працоўную сілу ў вядучых галінах прамысловасці*[39].

[38] Новый Мир. Нью-Йорк. 1936. 17 янв. 1936.
[39] Ross, E. The Slavs in America // The Century Magazine. Vol. 88 (4). 1914. Aug. P. 591.



Ф'ерыл Хэс, аналізуючы прафесіі, у якіх былі занятыя «рускія», пісаў:

*Звычайна рускія іміграны, што прыбывалі ў Злучаныя Штаты перад Першай сусветнай вайною, былі, як славакі або югаславы, сялянамі, найчасцей з адсталых мясцовасцяў. Умовы жыцця гэтых людзей у Амерыцы былі і застаюцца ці не самымі ўбогімі ў параўнанні з усімі іншымі імігрантамі. З прычыны няспыннага ўціску на радзіме, яны безаглядна прынялі найгоршае, што толькі магла запрапанаваць ім Амерыка, і выконвалі найцяжэйшыя з найцяжэйшых працаў у нашай гіганцкай людажэрнай прамысловасці*[40].

Карл Вітке зазначаў:

*Рускія, што прыбылі на працягу апошняга пакалення, знайшлі працу ў цяжкой індустрыі, вугальнай і сталёвай прамысловасці, лесанарыхтоўцы і рыбалоўстве на Дальнім Захадзе або ў садаводчых плантацыях штатаў Каліфорніі і Флорыды*[41].

Цікавыя заўвагі пра рассяленне беларусаў у Злучаных Штатах зрабіў беларус-імігрант Сцяпан Бубешка, шырока знаны лідар сярод беларусаў ды іншых славянскіх імігрантаў у горадзе Нью-Ёрку ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Бубешка пісаў:

*Таму што жыды жывуць найчасцей у вялікіх местах, як Нью-Ёрк і Чыкага, дык і нашыя беларусы туляцца паміж жыдоў. (Нялішнім будзе зазначыць, што вельмі шмат хто навучыўся жыдоўскае мовы і зжываюцца даволі дружна.) Апрача Нью-Ёрка, у якім жыве болей як 15 тысячаў, што працуюць найчасцей у кравецкай індустрыі, шмат жыве ў Чыкага, працуючы ў вядомых чыкагскіх рэзнях, значная лічба працуе на сталялітных заводах Пітсбурга, у Дэтройце на самаходных фабрыках і іншых заводах; вельмі шмат пасялілася ў новаангельскіх штатах Канектыкут і Масачусэтс, дзе займаюцца ў паперна-ткацкай прамысловасці, на цэментных і цагельных заводах, у лясістых мясцовасцях Канады, на чыгунках, у рудніках, капаюць канавы, пракладаюць падземныя чыгункі, будуюць дамы, дастаюць руду, займаюцца сельскаю гаспадаркаю, у кожнай галіне ёсць добрыя спецыялісты, якія прынясуць шмат карысці нашай Беларусі*[42].

Рассяленне беларускіх імігрантаў рэгулявалася найперш наяўнасцю працоўных месцаў. Не маючы ніякае тэхнічнае кваліфікацыі, не ведаючы мовы, знаходзячыся ў чужым культурным асяроддзі, яны ўсё ж не баяліся ніякае працы і ніякае мясціны. Сотням тысячаў з іх быў уласцівы дух першапраходніцтва, і гэта станоўча характарызуе нашага земляка. Беларускія работнікі былі і ёсць вытрывалымі, кемлівымі, надзейнымі, а гэтыя асаблівасці высока ацэньваюцца амерыканскімі працоўнымі стандартамі. Яшчэ адною важнаю рысаю беларускіх імігрантаў было тое, што, як толькі яны авалодвалі асноўнымі навыкамі, знаходзілі сяброў, бліжэй знаёміліся з моваю і краінаю, яны ўладкоўваліся на лепшую працу з вышэйшым заробкам і пачыналі шлях угору па сацыяльнай лесвіцы амерыканскага грамадства.

Рассяленне беларускіх імігрантаў у часе паміж войнамі і пасля Другое сусветнае вайны падобнае да старое хвалі іміграцыі: сяліліся пераважна ў прамысловых штатах і гарадах, хоць інтэлектуальны ўзровень пазнейшых імігрантаў быў значна вышэйшы, чым у масавай хвалі, таму ім было значна лягчэй уладкоўвацца на

[40] Hess, F. High Adventure: a story of Slavic pioneers in America. New York, 1925. P. 118.
[41] Wittke, C. We who built America... P. 428.
[42] Бубешка, С. Жыцьцё беларусаў у Амэрыцы // Родны Край. Трэцяя і чацьвертая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. Вільня, 1921. С. 197–198.

лепшую працу. Варта таксама зазначыць, што паваенныя імігранты ўжо з першых крокаў імкнуліся згуртавацца і стварыць новыя беларускія арганізацыі.

Эміграцыя з Рэспублікі Беларусь, яе прадстаўнікі — эмігранты з іншай выразнай адзнакай: амаль усе яны маюць вышэйшую ці незакончаную вышэйшую асвету. На працу яны ўладкоўваюцца хутка — кшталту *«home attendant»* ці на будоўлі, але, падвучыўшы мову, праз год-два пераходзяць у свае спецыяльнасці альбо паступаюць ва ўніверсітэты, набываюць іншыя спецыяльнасці. Уладжваюцца, як і старыя эмігранты, пераважна ў вялікіх гарадах ды прыгарадах, дзе размяшчаюцца прамысловыя кампаніі.

# ПЕРШЫЯ КАНТАКТЫ З АРГАНІЗАЦЫЯМІ І ПАЧАТКІ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СВЯДОМАСЦІ

Цяжка выявіць, калі беларусы пачалі далучацца да такіх арганізацый, як брацтвы, клубы або таварыствы. Паасобныя імігранты, асабліва тыя, хто меў нейкую адукацыю, станавіліся сябрамі розных угрупаванняў ужо ў XIX стагоддзі.

Зусім іншая была справа з тымі, хто прыбыў у масавай хвалі эміграцыі з Беларусі на пачатку XX стагоддзя. Гэта былі неадукаваныя, часта і зусім непісьменныя сяляне, якія не мелі ніякага ўяўлення пра арганізацыйнае жыццё, грамадскую ці палітычную дзейнасць[1]. Калі такі імігрант пачынаў жыццё ў новай краіне, ужо перажыўшы тыповы непрыемны досвед — першае сутыкненне з адміністрацыйнаю бюракратыяю на радзіме і ў порце прыбыцця, — ён трапляў у зусім нязвыклае для яго асяроддзе, культура якога вельмі розьнілася ад той, што засталася на радзіме. Ён сутыкаўся з новымі, незнаёмымі яму паняццямі, як, прыкладам, арганізацыямі дый шматлікімі іншымі структурамі амерыканскага грамадства. Становішча ўскладнялася моўнымі бар'ерамі, што паглыбляла пачуццё адзіноты і няпэўнасці ды ўзмацняла жаданне быць са сваім народам. І так, пасля непазбежных першых кантактаў з афіцыйнымі ўладамі, добраахвотная лучнасць іміграта з англамоўнаю грамадою заставалася вельмі абмежаванаю. Імігранты жылі сярод сваіх землякоў. Яны зазвычай куплялі тавары і прадукты ў крамках, што належалі яўрэям з Беларусі, Украіны або Польшчы, якія прыехалі ў Амерыку за колькі гадоў перад імі; яны наведвалі салуны, дзе бармен, як правіла, ведаў пару славянскіх словаў, каб дагадзіць сваім наведнікам. Шмат якія рэстараны і салуны бралі сабе нават славянскія і беларускія назовы — таверна «Гродна» ў Чыкага, рэстаран «Мінск» у Дэтройце, рэстараны «Кобрын» і «Беларусь» у Нью-Ёрку і г. д.[2].


GRODNO TAVERN

P. Holowach, Prop.

IMPORTED and DOMESTIC WINES and LIQUORS

OUR BEVERAGES HAVE ALL THE SNAP

1942 West Division Street

Phone HUMboldt 6702

CHICAGO

Рэклама таверны «Гродна» ў Чыкага. 1943 г.

Падобнае становішча было і на працы — і там кола кантактаў ахапляла землякоў або імігрантаў блізкага паходжання. Зносіны з начальствам

---

[1] Гавард Персі Кенард у сваёй кнізе «Рускі селянін» піша: *«Мае падлікі ў Заходняй Расіі паказваюць, што два працэнты жыхарства могуць трохі чытаць і пісаць, тым часам як у Цэнтральнай Расіі гэтая лічба дасягае чатырох працэнтаў»*. Гл.: Kennard, H. The Russian Peasant. Philadelphia (PA), 1908. P. 43.

[2] Grodno Tavern, 1942 West Division Street, Chicago // Lermontov Concert and Ball. [Program]. Oct. 29, 1939; Русское Обозрение. Чикаго. 1928. Авг.; Русский Вестник. Нью-Йорк. 1938. 1 февр. С. 11; Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1928. 8 февр.; Русский Голос. Нью-Йорк. 1928. 1 февр.; Онуфрейчик, А. Воспоминания старого бронзвильца // Юбилейный Сборник. 1918–1928. Нью-Йорк, 1928. С. 54–56.

абмяжоўваліся звычайна некалькімі словамі. Гэтыя імігранты, беларусы ды іншыя ўсходнія еўрапейцы жылі ў добраахвотных фізічных і псіхалагічных гета і, як выглядае, былі задаволеныя такім станам рэчаў. Сутыкненне іміграннта са знешнім светам, якое б абмежаванае яно ні было, адбывалася праз парафію, царкоўныя арганізацыі і прафсаюзы. Іншыя арганізацыі з'явіліся на ягоным даляглядзе пазней.

## Канфесійная прыналежнасць

Рэлігійныя супольнасці складаюць найстарэйшую групу арганізацый, да якіх далучалася значная колькасць іміграннтаў. Для большасці беларускіх іміграннтаў далучэнне да царквы было амаль аўтаматычным крокам. Аднак значная частка іх рабіла не абавязкова дзеля рэлігійных пачуццяў, а з увагі на традыцыю і з патрэбы належання да грамады.

Беларусы, як правіла, народ рэлігійны, але нельга сказаць, каб яны рэгулярна наведвалі царкву, асабліва мужчыны. Звычайна яны крытычна ставяцца да духавенства. Гэтая рыса беларусаў заўважалася нават сярод іміграннтаў у Амерыцы. Прыкладам такога стаўлення можа быць паведамленне з Чыкага: *«Тут на Норт-Сайд шмат рускіх, галоўным чынам з Менскае губерні. Яны абзываюць святароў, а да сацыялістаў ставяцца з пагардаю ды насмешкаю»*[3]. Такое стаўленне да духавенства мае свае гістарычныя прычыны: стагоддзямі святары на Беларусі былі ў большасці сваёй этнічнымі палякамі і рускімі.

Выбар рэлігійнае юрысдыкцыі, да якое мог бы далучыцца беларускі імігрант, быў у Злучаных Штатах вельмі абмежаваны. З аднаго боку, перад іміграннтам стаяла шырокая і добра арганізаваная сетка польскіх рымска-каталіцкіх касцёлаў, з другога — усходне-праваслаўныя юрысдыкцыі, што былі пад уплывам і кантролем рускіх. Такім парадкам, беларускія іміграннты рымска-каталіцкае веры далучаліся да польскіх і зрэдку літоўскіх парафій; тым часам як праваслаўныя запісваліся ў рускія парафіі, а ў некаторых мясцінах далучаліся да карпатарускіх і ўкраінскіх кангрэгацый.

Польскі рымска-каталіцкі касцёл заўзята змагаўся з усялякімі праявамі няпольскасці ў касцельнай дзейнасці. Такім чынам, беларусы, што далучыліся да рымска-каталіцкіх парафій, непазбежна страчвалі свае этнічныя карані ды асіміляваліся ў грамадзе амерыканскіх палякаў. Польскі рымска-каталіцкі клір праводзіў актыўную, свядомую і дзейную палітыку паланізацыі. Польскія ксяндзы лічылі ўсіх каталікоў з беларускіх земляў палякамі, а каталіцызм на Усходзе разглядаўся як польская справа. Адзін выдатны амерыканскі паляк пісаў: *«Каталіцкая вера была галоўнаю неадменнаю рысаю палякаў у Амерыцы»*[4]. Польскі клір проста ігнараваў прысутнасць беларусаў сярод свае паствы і сістэматычна адмаўляўся ўжываць словы «Беларусь» і «беларусы». Адзін мансіньёр, святар рымска-каталіцкае парафіі, сярод заснавальнікаў якое было нямала беларусаў і ў якой цяпер налічваецца шмат свядомых беларусаў-каталікоў, заявіў беларускаму дзеячу: *«Шмат сем'яў прыехала з Малое Польшчы — з Вільні»*[5]. Юбілейныя

[3] Новый Мир. Нью-Йорк. 1912. 30 авг.

[4] Wachtl, K. Polonja w Ameryce: dzieje i dorobek. Filadelfja, 1944. S. 75; Renkiewicz, F. The Poles in America, 1608–1972; a chronology & fact book. Dobbs Ferry (NY), 1973. P. 67.

[5] Ліст а. М Ксеняка (Саўт-Рывер) да А. Шукелойця, 1986. Захоўваецца ў архіве БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).



выданні, прысвечаныя 50-годдзю і 75-годдзю парафіі, ніводным радком не згадаўшы беларусаў — яе заснавальнікаў, ганарыста выхваляюцца: *«Польскія іміграннты пад пільнаю апекаю польскамоўных святароў у хуткім часе пачалі чуцца як у сябе дома»*[6]. Аднак, як выявілася ў шматлікіх гутарках аўтара з парафіянамі, у некаторых польскіх парафіях перыядычна рабіліся спробы згуртаваць беларусаў і сабраць гурткі землякоў з Гарадзеншчыны, Віленшчыны ды іншых беларускіх гарадоў і рэгіёнаў[7]. Варта адзначыць, што нават сярод польскага рымска-каталіцкага кліру знаходзіліся святары, якія выяўлялі сваю няпольскую этнічную свядомасць. Знамянальна, што а. Вацлаў Крушка, вядомы даследчык амерыканскае паланіі, палічыў неабходным удакладніць этнічнае паходжанне некаторых *рымска-каталіцкіх* святароў у структуры польскага рымска-каталіцкага касцёла. Так, а. Крушка зазначыў: а. Фэлікс Матулеўскі, ліцвін, быў адным з заснавальнікаў парафіі сьв. Антонія, Таліда, штат Агаё; а. Ступінскі, ліцвін, заснаваў парафію св. Казіміра ў Шэнандоа, штат Пенсільванія; а. Антон Сікорскі, родам з Навагрудка, браў удзел у паўстанні 1863 года, быў высланы ў Сібір, жыў у Смаленску, шмат дапамагаў уніяцкай царкве на радзіме, у эміграцыі — пробашч у Хоўліёўку, штат Масачусэтс. Айцец Крушка ўдакладніў таксама, што шмат рымска-каталіцкіх пробашчаў, як, прыкладам, у Монт-Кармэлі, штат Пенсільванія; Эверсане, штат Пенсільванія; Мілуокі, штат Вісконсін; Вустэры, штат Масачусэтс; Вільне, штат Мінесота, ды ў некаторых іншых мясцінах, паходзілі з Сувальшчыны, Гарадзеншчыны, Віленшчыны, Меншчыны і г. д.[8]. Няма ніякага сумнення: тысячы парафіянаў і шмат святароў у гэтак званых польскіх касцёлах мелі беларускія карані. Нават некаторыя лідары «Паланіі» мелі беларускае паходжанне, як, прыкладам, Ян Рамашкевіч, старшыня *Związku Narodowego Polskiego* — найбуйнейшае ў ЗША польскае арганізацыі, каталік-беларус з Віленшчыны[9].

Трэба сцвердзіць, што каталіцкаму касцёлу і ў ЗША, і ў Рыме ў першай палове XX стагоддзя было нялёгка прыняць паняцце беларускасці. Панаваў уплыў польскасці і рускасці. Адным з прыкладаў гэтага ёсць кніга ксяндза-амерыканца польскага паходжання Уолтара Цішака «З богам у Расію» (1964). Аўтар — сын польскіх іміграннтаў канца XIX стагоддзя, народжаны ў шахцёрскім раёне Шэнандоа. Пад уплывам польскага каталіцкага касцёла і школаў ён стаў святаром з палымяным жаданнем працаваць у Расіі. Пасля студый у ЗША і рымскім Russicum ксёндз Уолтар Цішак быў накіраваны ў езуіцкую падрыхтоўчую місію «ў Польшчу» — у Альбярцін пад Слонімам. Ва ўспамінах няма ніводнага слова пра навакольных беларусаў. Аўтар пісаў, што ў Альбярціне езуіты заглыбляліся ў рускую культуру, удасканальваліся ў правядзенні багаслужбаў усходніх абрадаў. Беларускасці ксяндзы-езуіты не заўважалі. Аднак яна нечакана раптам з'явілася ў выглядзе беларускае мовы! Уцякаючы пад наступам Саветаў у 1939 годзе, каб набыць квіток у напрамку Львова адзін з ксяндзоў з касірам хутка загаварыў... па-беларуску! Іншы цікавы беларускі момант у кнізе: калі некалькі езуітаў вырашылі застацца

[6] In Commemoration of the Golden Jubilee of St. Mary's Parish. 1903–1953. South River (NJ), 1953. P. [46]; St. Mary's Church. South River (NJ), 1978. P. [59].

[7] Гутарка аўтара з Я. Гапановічам, Бафала (Нью-Ёрк), 1976; Pamętnik Klubu Grodno. Chicago, 1951; Towarzystwo Wilno. Program. Chicago, 1955.

[8] Kruszka, W. Historyja Polska w Ameryce — początek, wzrost i rozwój dziejowy osad polskich w Północnej Ameryce. Milwakee (WI), 1908. Dz. 2. Cz. 2. S. 43, 66–67, 72, 150–151; T. IX. S. 144; T. XI. S. 14; T. XIII. S. 123–126; Гутарка аўтара з д-рам М. Папам. Кліўленд (Агаё). 1985.

[9] Весткі й Паведамленьні. Нью-Ёрк. № 547–548. 2011. С. 3.

ў СССР, паехаць працаваць на Урал, дык змянілі свае прозвішчы на «Ліпінскі» і «Куральскі». Пры спатканні з мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім той упікнуў ксяндзоў: *«Прыбраныя вамі прозвішчы гучна польскія, а трэба было б узяць беларускія ці ўкраінскія!»*

Агулам кніга «З богам у Расію» — свежае сведчанне ксяндза-амерыканца аб жудасным выжыванні ў савецкіх лагерах на працягу 18 гадоў, дзе Уолтар Цішак пазнаёміўся і з «нацыянальным пытаннем», і з «райскай» камуністычнай рэчаіснасцю. Яму ўдалося выжыць і стварыць сваю кнігу як вечны помнік ахвярам камунізму, за што аўтару належыць вялікая падзяка[10].

Руская праваслаўная царква змагалася з беларускасцю не менш за польскі рымска-каталіцкі касцёл. Аднак праваслаўныя беларусы мелі ў Амерыцы пэўныя перавагі ў параўнанні з іхнымі братамі-каталікамі.

Перш за ўсё праваслаўных беларусаў было значна болей за беларусаў-каталікоў, і зрусіфікаваць такую вялікую колькасць было цяжэй. Па-другое, толькі ў некалькіх вялікіх гарадах праваслаўныя парафіі налічвалі больш-менш істотную колькасць этнічных рускіх; такім чынам, не існавала вялікіх грамадаў рускіх, куды беларусы маглі б уліцца і асімілявацца. Што да палякаў, дык іх у Амерыцы налічваліся мільёны. Па-трэцяе, праваслаўныя святары, з якіх шмат былі не рускімі, а ўкраінцамі, карпатаросамі, грузінамі (было нават колькі беларусаў — протаіерэй Рыгор Хомка з Скідаля і протаіерэй Піліп Пячынскі з Сувальшчыны), былі не такія хітрадумныя ў этнічных пытаннях, як польскія ксяндзы, не мелі яны і такога неадступнага кантролю над дзейнасцю парафіянаў па-за парафіяй. Нягледзячы на свядомую палітыку русіфікацыі, якую праводзіла духавенства Рускае грэка-праваслаўнае кафалічнае царквы ў Амерыцы (сённяшні назоў — Амерыканская праваслаўная царква), святары часта прызнавалі, што іхныя парафіяне — беларусы, карпатаросы або ўкраінцы, і гэтыя этнічныя характарыстыкі ў шматлікіх выпадках падаваліся ў парафіяльных юбілейных выданнях. Цікава адзначыць выразныя змены ў тэрміналогіі што да паходжання парафіянаў. У 1906 годзе орган Рускае праваслаўнае царквы ў Амерыцы *«Американский Православный Вестник»* паведамляў, што парафія ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, складалася *«амаль выключна з рускіх, што паходзяць з нашых паўночна-заходніх губерняў»*[11]. А ў 1980 годзе ў выданні, прысвечаным 75-годдзю парафіі, выразна сказана, што *«тая частка Расіі, на якой мы засяроджваем увагу, — Віленская губерня на Беларусі, адкуль паходзіла большасць заснавальнікаў царквы»*[12].

Так, паступова Руская праваслаўная царква, якая на працягу стагоддзяў была магутнаю прыладаю русіфікацыі беларусаў, украінцаў і карпатаросаў, пачала адыходзіць ад ідэалагічнае адданасці расейшчыне ў меру таго, як у Злучаных Штатах запанавала амерыканізацыя царквы. Царкоўнае кіраўніцтва не здолела выкараніць беларускую этнічную свядомасьць цалкам, хоць і прынесла велізарную шкоду беларусам праз непрыманне, адмаўленне, недаацэньванне і варожасць у дачыненні да іхнае нацыянальнае адметнасці. Шмат хто з гэтых праваслаўных беларусаў стаўся «этнічнаю масаю» пад сцягам Рускае праваслаўнае царквы. Тут дарэчы будзе падаць адзін вымоўны прыклад: на этнічным кірмашы ў Балтымары

[10] Ciszek, W. J. With God in Russia. New-York: America Press, 1964. 392 p.

[11] Американский Православный Вестник. Нью-Йорк. 1906. № 1. С. 10.

[12] SS. Peter and Paul Russian Orthodox Church. 75th Anniversary. September 28, 1980. South River (NJ), 1980. P. 12.



быў стэнд, названы «Руская праваслаўная царква», без ніякіх этнічных удакладненняў. Калі нехта з наведнікаў захацеў даведацца пра нацыянальную прыналежнасць гэтага стэнда, адзін адукаваны беларус растлумачыў, што гэты загаловак улучае беларускіх імігрантаў, якія не ведаюць, хто яны такія[13]. Тым самым часам, аднак, шмат для каго з беларускіх імігрантаў Руская праваслаўная царква была першым знаёмствам з арганізацыйным жыццём на амерыканскай зямлі, і шмат хто з іх, застаўшыся ў юрысдыкцыі гэтае царквы, стаўся вельмі актыўным, істотна прычыніўшыся да пашырэння праваслаўя ў Амерыцы[14]. Шмат дзе беларускія іміграннты былі заснавальнікамі парафій і будаўнікамі цэркваў. Вось колькі прыкладаў:

*Дэнвер, штат Каларада. Сярод заснавальнікаў праваслаўнае царквы і рэлігійных актывістаў было шмат беларускіх імігрантаў з Менскае і Віленскае губерняў*[15].

*Царква Святое Тройцы ў Нью-Брытэне, штат Канектыкут, запачаткаваная карпатаросамі... прыцягнула шматлікіх беларусаў спасярод вялізнае польскае грамады ў горадзе.*

*Су-Сіці, штат Аёва. Царква Уваскрасення Хрыстовага была заснаваная галоўным чынам імігрантамі з Менскае губерні ў 1916 годзе.*

*Балтымар, штат Мэрыленд. Царква Уваскрасення (былы будынак евангеліцкае царквы) была набытая за $ 7300 выключна імігрантамі з Гарадзенскае губерні ў красавіку 1907 года. Большасць рускіх у Балтымары паходзіць з Гарадзенскае, Менскае і Валынскае губерняў... Яны былі парафіянамі новазбудаванае рускае грэка-праваслаўнае кафалічнае царквы Святога Андрэя.*

*Бостан, штат Масачусэтс. Парафіяне царквы Святое Тройцы у Бостане паходзяць галоўным чынам з Віленскае, Гарадзенскае, Менскае, Кіеўскае і Валынскае губерняў.*

*На пачатку 20-х гадоў праваслаўныя імігранты пераважна з Беларусі і Украіны сабраліся разам, каб заснаваць парафію ў горадзе Чэлсі, штат Масачусэтс. Першы афіцыйны сход адбыўся 28 красавіка 1924 года ў доме 88 на Хотарн стрыт.*

*Эльбіен, штат Мічыган. Праваслаўная царква была заснаваная беларусамі, малаасамі ды іншымі.*

*Бэртан, штат Мічыган. Славянскія імігранты з Расіі, Украіны, Букавіны, Беларусі і Карпатарусі пачалі прыбываць у Флінт на пачатку 1900-х гадоў, бо там былі рабочыя месцы, асабліва на заводах. [...] У хуткім часе яны адчулі патрэбу ў месцы, дзе б маглі быць спатоленыя іхныя духовыя патрэбы ў праваслаўнай хрысціянскай веры іхных продкаў. [...] У 1916–1917 гадах, пакуль не было царквы, Божыя службы адбываліся ў прыватных дамах. Праваслаўная парафія Святога Мікалая была заснаваная ў 1917 годзе.*

[13] Mostwin, D. Trzecia wartość: Formowanie się nowej tożsamości. Lublin, 1985. S. 65–66.

[14] Паводле статыстычных звестак, прыведзеных у артыкуле А. Сакалова, на 1914 год у ЗША (без Аляскі) дзейнічалі 104 «рускія» прыходы і каля 250 праваслаўных «рускіх» брацтваў і сястрыцтваў. Гл.: Соколов, А. Российская экономическая и религиозная эмиграция в Америку...

[15] Перапіска аўтара з Хв. Шыбутам, 1972–1973; Бусько, Г. Жизнь русских в гор. Денвере // Русский Голос. Нью-Йорк. 1930. 8 окт.

*Парафіі ў Алфе і Мэнвілі, штат Нью-Джэрсі, былі заснаваныя беларускімі імігрантамі з Віленскае і Менскае губерняў.*

*На пачатку гэтага стагоддзя на Усходнім узбярэжжы Паўночнае Амерыкі пачалі з'яўляцца групы рускіх, якія эміргавалі з Беларусі — Меншчыны, Віленшчыны і Гарадзеншчыны. У Браўнсвіле ўзмоцнілася пачуццё патрэбы ўласнае царквы. [...] Быў заснаваны арганізацыйны камітэт. [...] Першая служба адбылася ў Вербную нядзелю, 3 красавіка 1908 года. [...] Руская праваслаўная царква Святое Тройцы на рагу Пенсільванія і Глэнмор авеню.*

*Сырак'юз, штат Нью-Ёрк. Пачаткі нашае царквы Святых Пятра і Паўла сягаюць 1915 года, калі ў Злучаныя Штаты прыехаў Пятро Курок з Аўстра-Вугоршчыны... і Хведар Каранчук з Беларусі.*

*Босуэл, штат Пенсільванія. Сярод першых парафіянаў праваслаўнае царквы Святых Пятра і Паўла каля 150–200 былі з Менскае, Віленскае і Гарадзенскае губерняў.*

*Царква Святое Тройцы ў Потстаўне, штат Пенсільванія, была заснаваная ў 1928 годзе пераважна беларусамі і ўкраінцамі, якія задоўга перад тым пасяліліся ў Потстаўне.*

*Тыя, хто прыехаў у Саўт-Бэтлеем, штат Пенсільванія, ад 1910 да 1914 года, паходзілі пераважна з Меншчыны, Гарадзеншчыны і Валыні.*

*Штаты Вермонт і Нью-Гэмпшыр На пераломе стагоддзя група імігрантаў з Менску пасялілася ў Спрынгфілдзе, штат Вермонт... Больш за 1000 каталікоў і праваслаўных прыехалі паміж 1896 і 1904 гадамі. Было заснаванае Праваслаўнае брацтва, якое арганізавала і ўтрымоўвала парафію. Першая літургія адбылася 5 кастрычніка 1905 года. Парафіі ў Нью-Гэмпшыры былі арганізаваныя ў 1914–1915 гадах. Рускія імігранты, пераважна маладыя сяляне з Менскае, Віленскае і Гарадзенскае губерняў даваеннае Расіі, пасяліліся ў Клермонце, штат Нью-Гэмпшыр, у 1906–1908 гадах, а пазней у Брытэне*[16].

*Парафія Св. Тройцы ў гор. Ст. Пол (St. Paul) у штаце Мінесота заснавана ў 1916 годзе галоўным чынам сербамі і беларусамі*[17].

Нават шырокавядомы рускі праваслаўны манастыр у гор. Джорданвіл, у штаце Нью-Ёрк, быў заснаваны беларусам. Даследчык Лявон Юрэвіч пра гэта піша:

*Чалавекам кнігі быў яшчэ адзін беларус, які заснаваў і ўласнымі рукамі збудаваў — не больш, не менш — Свята-Траецкі манастыр (Джорданвіл, штат Нью-Ёрк), хіба найбольшую святыню рускага праваслаўя ў Амерыцы.*

*Пётра Ніжнік нарадзіўся 16 студзеня 1895 г. у Рэчыцы Гарадзенскага пав. у вялікай сялянскай сям'і. Калі яму споўнілася 18 гадоў, бацькі вырашылі ажаніць сына. Будучы святар надта не хацеў заводзіць уласную сям'ю і, каб не быць цяжарам бацькам, адправіўся ў Амерыку: нямала ягоных знаёмых выпраўляліся за акіян, адкуль, знайшоўшы працу, дасылалі грошы дахаты. Бацькі згадзіліся, адно маці прасіла: «Сынку, не згубі Бога».*

*У 1913 г. 18-гадовы юнак ступіў на амерыканскую зямлю. Знайшоў сабе працу — на цукровым заводзе ў прыгарадзе Чыкага. 1918 год стаўся пераломным: 18 красавіка ён паступіў у Ціханаўскі манастыр, заснаваны ў 1905 г. архіепіскапам Паўночна-Амерыканскім і Алеуцкім Ціханам. У 1920 г. Пётра пастрыгся ў манахі з імем Панцеляймон і яго высвяцілі ў іерадыяканы, а 10 красавіка 1921 г. — у сан іераманаха.*

*Пра той час архімандрыт Панцеляймон пазней згадваў: «За дзесяць гадоў у Ціханаўскім манастыры я пабачыў, як няпроста жыць сапраўдным манаскім жыццём маладому манаху. І я пачаў задумляцца пра іншае месца. У гэтым мне дапамог айцец Іосіф, тады Іван Андрэевіч Колас, які быў рэгентам-псаломшчыкам у парафіі. Ён прыехаў да нас у манастыр пажыць — гэтак мы пазнаёміліся. Разам мы надумалі зарабіць троху грошай, каб набыць які кавалак зямлі. З гэтаю мэтаю я пайшоў працаваць на завод Сікорскага ў Стратфардзе. І ў 1928 годзе набылі зямлю, на якой сёння месціцца наш Свята-Троіцкі манастыр. Але мы працягвалі працаваць на заводзе, пакуль цалкам не выплацілі пазыку. У 1930 годзе вясною пасля Пасхі я пакінуў працу і прыехаў на сваю зямлю. Першым маім набыткам у гаспадарку быў імбрык»*[18].

*Сапраўды, з 1926 г. а. Панцеляймон зарабляў грошы на авіяцыйным заводзе Ігара Сікорскага*[19]*. Прадстаўляць авіяканструктара Сікорскага асаблівай патрэбы няма, а от сказаць два словы пра калонію ў Стратфардзе, дзе месцілася і Sikorski Corporation, варта...*

*Далёка не ўсе эміграныты ў Стратфардзе працавалі на фірме Сікорскага, але бадай усе наведвалі мясцовы клуб, аддавалі дзетак у рускую школу, наведвалі створаную тамсама оперу. Раёны называліся Чураевка, Рускі пляж, Дачы; месцічы маглі пражыць-прапрацаваць там усё сваё амерыканскае жыццё і не вывучыць як след англійскае мовы.*

*Заснавалі, натуральна, і прыход — св. Мікалая. Адбылося гэта 15.12.1929 г. Першым настаяцелем тады яшчэ хатняга храму стаўся наш а. Панцеляймон, а дапамагаў яму той самы айцец Іосіф (Колас), які, праўдападобна, таксама быў беларусам.*

*За зямлю, якую а. Панцеляймон прыгледзіў пад будучы манастыр, трэба было заплаціць адразу палову сумы — $ 2500. Уласных было толькі $ 700, яшчэ $ 500 даў Колас, а рэшту сабралі сярод рабочых заводу Сікорскага.*

*Вясною 1935 г. айцом Панцеляймонам і манахамі, што далучыліся да яго, была збудаваная царква ў гонар Троіцы, нарыхтаваны матэрыял на дом з шаснаццаці келій, набыта карова і коні. Але на асвячэнні царквы адбылося няшчасце: ад свечкі загарэлася царква, і ў лічаныя імгненні на вачах манахаў — згарэла. Трэба было пачынаць усё спачатку.*

*У сярэдзіне 1940-х гг. манахі цалкам разлічыліся з пазыкаю за зямлю, нават набылі дадатковую; узвялі прыбудовы для кароў, займелі найсучаснейшы лінатып, друкарскі варштат. Айцец Панцеляймон хоць і не меў адукацыі, аднак лічыў кнігадрукарскую працу вельмі важнаю; што праўда, рабіў гэта своеасабліва: з розных кніг выдзіраў упадабаныя кавалкі і злучаў іх у адну новую. Ягоныя «выданні» і цяпер захоўваюцца ў манастыры.*

*Архімандрыт Панцеляймон пражыў доўгае жыццё і адышоў у 1984 г.; заснаваны ж ім манастыр, пабагацеўшы на семінарыю, па сёння з'яўляецца цэнтрам Рускае праваслаўнае царквы за мяжой*[20].

---

[16] The Orthodox Church of America. Syosset (NY). Archives. Alphabetical listing by states; Development of the Orthodox Church in America. Syosset (NY), 1975. P. 122, 125, 133, 154, 164, 212; Dedication of newly-erected St. Andrew Russian Orthodox Greek Catholic Church. Baltimore (MD), 1943. P. 25; St. Nicholas Orthodox Church Anniversary Program. Burton (MI), Oct. 14, 1979. P. 8; Holy Resurrection Russian Orthodox Church Dedication Program. Claremont (NH), 1941. P. 10; Русские в Бостоне // Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1980. 17 авг.; Чепелев, И. 50-летие Бронзвильского прихода // Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1960. 1 апр.

[17] Holy Trinity Orthodox Church, St. Paul. Minnesota, Bull., 2013.



[18] Успаміны Панцеляймона захоўваюцца ў архіве Свята-Троіцкага манастыра ў Джорданвіле (Нью-Ёрк).

[19] Ігар Сікорскі (1889–1972), авіяканструктар. У 1919 годзе эміграваў у ЗША, у 1923 — заснаваў уласную авіябудаўнічую фірму.

[20] Юрэвіч, Л. Жанры... С. 131–134.

Гэты спіс можна доўжыць. «Рускія» праваслаўныя цэрквы ў Чыкага, Дэтройце, Бафала і Рочэстэры (штат Нью-Ёрк), Кліўлендзе і Экране (штат Агаё), Пасейку, Гарфілдзе, Ньюарку і Трэнтане (штат Нью-Джэрсі), былі збудаваныя беларускімі імігрантамі. І сапраўды, у большасці амерыканскіх індустрыяльных гарадоў, ды, напэўна, у кожным штаце, дзе дзеіць «Усходнееўрапейская» праваслаўная царква, сярод заснавальнікаў парафій і будаўнікоў цэркваў былі беларускія імігранты[21].

Вядома таксама, што беларускія іміграннты далучаліся да іншых хрысціянскіх канфесій.

Вось адзін цікавы выпадак. Айцец Аляксандр Громцаў, падаючы гадавую справаздачу епіскапу Алеуцкаму і Паўночна-Амерыканскаму Еўдакіму, датаваную 26 сакавіка 1916 года, каментаваў сітуацыю ва ўсходняй праваслаўнай царкве Святое Тройцы ў Канзас-Сіці, штат Канзас, гэтак: *«Рускія іміграннты не далучаюцца да сербскае праваслаўнае парафіі ў гэтым горадзе. Замест гэтага яны ідуць у рымска-каталіцкую парафію, а шмат якія сем'і перайшлі ў рыма-каталіцызм»*[22]. Падаваліся таксама звесткі пра пераход у рыма-каталіцызм у Нью-Брытэне, штат Канектыкут:

*У верасні 1895 года а. Люцыян Буйноўскі з Гарадзенскае губерні*[23] *(Польшча пад расійскім панаваннем) быў прызначаны рэктарам парафіі. [...] Людзі ў Нью-Брытэне паходзяць у большасці сваёй з расійскае Польшчы, толькі некаторыя з Галіцыі ды невялікая частка з паднямецкіх абшараў. [...] Ад 1896 да 1902 года ксёндз Буйноўскі навярнуў у рымска-каталіцкую веру 1 яўрэя, 1 яўрэйку, 4 пратэстантаў, 2 старавераў і 22 праваслаўных рускіх, але, нягледзячы на ўсе ягоныя казанні і намаганні, ён не здолеў навярнуць ніводнага збочанага паляка...*[24].

Відавочна, у абодвух выпадках гаворка ідзе пра беларускіх іміграннтаў: ніводзін рускі не падумаў бы перайсці ў рыма-каталіцызм. Выпадак у Нью-Брытэне паказвае, што народжаны ў Беларусі рымска-каталіцкі святар знайшоў агульную мову з землякамі і здолеў намовіць іх далучыцца да ягонае парафіі[25].

Факты далучэння да рыма-каталіцызму ўсходнееўрапейскіх праваслаўных іміграннтаў, найпраўдападобней беларусаў, адзначаюцца і ў іншых крыніцах. Часопіс *«Eastern Churches Quarterly»* пісаў у 1942 годзе:

*Праўда, шмат хто з гэтых еўрапейскіх іміграннтаў, жывучы ў Новым Свеце, страціў сваю веру, або ўжо болей не практыкаваў яе, або перайшоў у рыма-каталіцызм*[26].

Вядомыя і факты пераходу ў пратэстантызм. З'ява гэтая сустракалася і раней на Бацькаўшчыне, не была яна дзівам і ў Злучаных Штатах. Вось колькі прыкладаў:

[21] Kipel, V. Byelorussian Americans and their communities of Cleveland... P. 39–40; Historic city, the settlement of Chicago. Chicago (IL), 1976. P. 77; Sunday Press. Atlantic City (NJ). Jan. 7, 1979; Гутарка аўтара з Макарам Шабунем, Гарфілд, штат Нью-Джэрсі, 1971.

[22] The Orthodox Church of America. Syosset (NY). Archives. XV-i-A: Indiana-Maryland file.

[23] Даследаванні Лены Глагоўскай даводзяць, што Буйноўскія — беларусы-ліцвіны з Беластока.

[24] Thomas, W.; Znaniecki, F. The Polish peasants in Europe and America. Vol. V. Boston, 1920. P. 89–91.

[25] Айцец Люцыян Буйноўскі нарадзіўся ў 1867 г. у Дуброўскай парафіі Сакольскага пав. Гарадзенскае губ. Гл.: Kruszka, W. Historya Polska w Ameryce... T. VII. Milwakee (WI), 1907. S. 140; Лісты Л. Глагоўскай да аўтара.

[26] Eastern Churches Quarterly. 1942. № 1–2. P. 21.



*Скрэнтан, штат Пенсільванія. Большасць людзей тут паходзіць з Чарнігаўшчыны, ёсць, аднак, і з Валынскае, Менскае і Магілёўскае губерняў. Амаль усе яны — непісьменныя сяляне і вельмі простыя людзі. Шмат хто з рускіх іміграннтаў далучыўся да баптыстаў і стаўся пратэстантам. Іхныя паводзіны паляпшаюцца*[27].

Апісваючы жыццё палякаў у Су-Сіці, штат Аёва, ксёндз Л. Секанец зазначаў:

*Хоць гэта і не было пазначана ў прыходскіх кнігах, у горадзе было шмат рускіх, пераважна праваслаўных; фактычна рускіх было болей за палякаў. Аднак ніхто гэтымі рускімі духова не апекаваўся, і пратэстанцкія святары пачалі да іх хадзіць, хрысціць іхных дзяцей*[28].

Цікавую інфармацыю пра канфесійныя дачыненні падаў аўтару амерыканец беларускага паходжання Майкл ДэБэк, які быў праваслаўным, а пасля далучыўся да пратэстанцкае кангрэгацыі. Ён пісаў:

*І сапраўды, мы належалі да першае рускае царквы ў Баёне, штат Нью-Джэрсі, а менавіта Св. Іаана, было гэта каля 1894 года. Спачатку яна звалася Апостальская руская царква Св. Іаана. Тады мяняліся святары, быў прыняты візантыйскі абрад. Гэтак мой бацька адышоў разам з групаю іншых, і яны заснавалі ў Баёне праваслаўную царкву Св. Мікалая. [...] Рускія-беларусы, цяпер ужо збольшага амерыканцы ў трэцім і чацвёртым пакаленнях, належаць таксама да карпатарускае царквы Св. Пятра і Паўла і да грэка-каталіцкае царквы Св. Марыі*[29].

Пра іншы выпадак пераходу ў пратэстантызм, гэтым разам ужо з рыма-каталіцызму, паведаміў аўтару доктар Р. Пухоўскі, старшы геолаг-даследчык кампаніі *Shell Petroleum Co.* у Малайзіі, чые генеалагічныя росшукі прывялі яго да кантактаў з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва. Ён пісаў:

*Я звязаны з Беларуссю праз майго бацьку, Аляксандра Пухоўскага-малодшага (лекар, нарадзіўся 31 жніўня 1916 года ў Скрэнтане, штат Пенсільванія). Ягоным бацькам быў Аляксандр Пухоўскі (шахцёр, нарадзіўся 25 ліпеня 1876 або 27 ліпеня 1879 года ў вёсцы Куплін Гарадзенскае губерні ў Беларусі). А ягоным бацькам быў Андрэй Пухоўскі, селянін, народжаны каля 1847 года.*

*Надзіва мала канкрэтнае інфармацыі ўдалося выявіць пра бацькаву маці Паўліну Геўраву. Яе дачка Паўліна мяркуе, што яна можа паходзіць з Віленшчыны, але гэта няпэўна. Вядома, што яе і Алекса (старэйшага) заручыў Джон Калеснікаў у Скрэнтане ў 1906 годзе. Той самы пастар навярнуў майго дзеда з каталіцызму ў баптысцкую веру ў 1904 годзе*[30].

Колькі беларускіх іміграннтаў перайшлі з праваслаўя ў іншыя хрысціянскія канфесіі? Цяжка даць адказ на гэтае пытанне, яно патрабуе адмысловых даследаванняў. Аднак аўтар падазрае, што ўцёкі беларусаў-іміграннтаў з праваслаўнае царквы і іхная інтэграцыя ў шырэйшым амерыканскім грамадстве ды поўны адрыў ад праваслаўя і этнічных каранёў сталіся пашыранаю з'яваю, пра што сёння

[27] Великий праздник в Скрентон // Новый Мир. Нью-Йорк. 1913. 23 мая.

[28] The Polish Colony of Sioux City, Iowa // Polish American Studies. № 1–2. Jan. — June 1952. P. 24–27.

[29] Папка ДэБэка ў Калекцыі Вітаўта Кіпеля ў Цэнтры даследаванняў гісторыі іміграцыі пры Мінесоцкім універсітэце ў Мінеапалісе. (University of Minnesota: The Immigration History Research Center, далей — IHRC, Minneapolis (MN)).

[30] Папка Пухоўскага ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Kruszka, W. Historya Polska w Ameryce... T. XI. S. 101.

свєдчаць матэрыялы шматлікіх гутарак з парафіянамі малых пратэстанцкіх кангрэгацый у шмат якіх мясцовасцях штатаў Нью-Джэрсі, Нью-Ёрк і Агаё.

Дзеля паўнаты агляду трэба заўважыць, што было багата і прыкладаў пераходу беларусаў-імігрантаў з іншых хрысціянскіх канфесій у праваслаўе, асабліва ў выпадках мяшаных сужэнстваў[31].

Прыналежнасць да парафіі не толькі была пачатковым знаёмствам з арганізацыйнымі структурамі для першых усходнееўрапейскіх імігрантаў, у тым ліку беларусаў. Парафіяльная зала была, як правіла, асяродкам грамадскага жыцця імігрантаў: там адбываліся вяселлі, хрэсьбіны, юбілеі і г. д., а таксама і іншая арганізацыйная дзейнасць.

Пры цэрквах дзеялі брацтвы, сястрыцтвы, зямляцкія гурткі ды малыя таварыствы ўзаемнае дапамогі, якія ўзніклі ў шмат якіх праваслаўных і каталіцкіх парафіях[32]. Такія прыцаркоўныя арганізацыі адыгрывалі важную ролю ў жыцці беларускіх імігрантаў, як часта зазначалася ў друку:

*У Пасейку, штат Нью-Джэрсі, ёсць шмат палякаў і рускіх з заходніх губерняў. Гэтыя людзі жывуць, як бы яны былі ў сямнаццатым стагоддзі, а не ў дваццатым. Іх нічога не цікавіць... Яны жывуць уяўленнямі сваіх дзядоў і прадзедаў. Яны не прызнаюць іншых арганізацый, апрача рэлігійных брацтваў*[33].

*У Бостане знайшлі прытулак каля 15 000 рускіх... якія паходзяць пераважна з заходніх губерняў. Да рэвалюцыі ўсё жыццё ў калоніі засяроджвалася вакол царквы. Іншых арганізацый не было*[34].

*Рускае насельніцтва горада Сэнт-Пол, штат Мінесота, адносна невялікае, каля 120–200 сем'яў; у большасці гэта імігранты з Менскае і Гарадзенскае губерняў. Усе яны гуртуюцца вакол царквы, іншых рускіх арганізацый няма*[35].

Паступова гэтыя малыя прыцаркоўныя брацтвы і хаўрусы ўзаемнае дапамогі злучаліся ў межах аднае рэлігійнае юрысдыкцыі, пасля пашыралі сваю дзейнасць, каб ахапіць не толькі парафіянаў, але ўсіх сваіх землякоў. Такім чынам былі запачаткаваныя гэткія вялікія арганізацыі, як Рускае праваслаўнае кафалічнае таварыства ўзаемнае дапамогі ў Амерыцы, заснаванае ў 1890 годзе. Таварыства Святой Божай Маці, заснаванае ў 1893 годзе, Таварыства рускіх брацтваў, заснаванае ў 1900 годзе, Рускае праваслаўнае таварыства, заснаванае ў 1912 годзе, ды шмат падобных арганізацый у розных частках краіны[36].

Абсалютная большасць сяброў гэтых арганізацый былі карпатаросамі, беларусамі і ўкраінцамі. Аднак з цягам часу ўкраінцам удалося прышчапіць сваім землякам украінскую свядомасць, у выніку чаго былі заснаваныя незалежныя ўкраінскія нацыянальныя арганізацыі. У некаторых выпадках украінцы здолелі нават пазбавіцца тэрміна «рускія» ды ўвесці адпаведную тэрміналогію.

[31] Голас Царквы. Бруклін. 1974. № 41. С. 19.

[32] Гутаркі аўтара з шматлікімі парафіянамі ў розных штатах; Беларус. Нью-Ёрк. 1966. № 114; Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[33] Т. А. Темные, бедные люди // Новый Мир. Нью-Йорк. 1918. 20 марта.

[34] Загинайло, Г. Русские в Америке // Наука и Жизнь. Нью-Йорк. Сент. 1923.

[35] Беденков, А. Русские в Миннесоте // Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1941. 19 июня.

[36] Окунцов, И. Русская эмиграция в Северной и Южной Америке... С. 254–310; Русский Вестник. Нью-Йорк. 1943. Сент. — окт. С. 21— 24; Русский Вестник. Нью-Йорк. 1947. № 153–154.



Гэта было значным дасягненнем украінцаў у Амерыцы. Дзеля нястачы кадраў беларусам зрабіць гэтага не ўдалося.

Шмат з тых першапачаткова прыцаркоўных арганізацый у той або іншай форме дажылі і да сёння. Іхнае сяброўства складаецца з тысячаў амерыканцаў другога і трэцяга пакаленняў, продкі якіх паходзяць з Беларусі.

## Прафесійныя саюзы

Кантакты новых імігрантаў з прафсаюзамі адбываліся на працы. Аднак у адрозненне ад яўрэйскіх імігрантаў з Беларусі, якія сталіся актыўнымі будаўнікамі амерыканскага юніянізму і сацыялізму[37], беларусы не былі вялікімі прыхільнікамі рабочага руху. Яны не былі яшчэ гатовыя да яго далучыцца. Амерыканскі англамоўны рабочы рух не быў, аднак, для беларускіх масаў «іхным», і яны лепш чуліся ў асяроддзі рускамоўных работнікаў, якія ў большасці былі сацыялістамі і анархістамі ды найчасцей стаялі асобна. Беларускі імігрант Сцяпан Бубешка, сучаснік іміграцыйнага працэсу, выказаўся гэтак пра беларусаў і пра іхнае стаўленне да прафсаюзаў:

*Беларусы працуюць у шмат якіх індустрыях; працуюць яны вельмі цяжка і зарабляюць вельмі мала. Прычына гэтага ў тым, што нашы людзі не цікавяцца рабочым рухам, яны не ўступілі ў прафсаюзы і застаюцца неарганізаваныя; і таму іхная зарплата вельмі малая. Гэта робіць нешчаслівым іхнае жыццё ў Злучаных Штатах. Яны не гавораць па-англійску, хоць і пражылі шмат гадоў у Злучаных Штатах. Яны гэтаксама далёкія ад амерыканскае культуры, як і іхныя суродзічы, што жывуць у Менскай або Гарадзенскай губерні*[38].

Амерыканскі даследчык рабочага руху Льюіс Лорвін гэтак ахарактарызаваў усходнееўрапейскіх работнікаў-імігрантаў:

*Гэтыя імігранты нейкі час пасля свайго прыезду ў Злучаныя Штаты захоўвалі крытычныя погляды на прафесійныя саюзы. Параўнальна з рэвалюцыйным рухам у Еўропе, Амерыканская федэрацыя працы здавалася нясмелаю і пасіўнаю. [...] Шмат каму з гэтых імігрантаў, асабліва тым, хто прыехаў з Расіі, нават Амерыканская сацыялістычная партыя і анархісцкія групы здаваліся пазбаўленымі сапраўднага рэвалюцыйнага духу. Таму большасць гэтых імігрантаў трымалася наводдаль ад «амерыканскага руху». Іх галоўным чынам цікавілі рускія справы, і яны далучаліся да розных арганізацый, якія так ці інакш імкнуліся памагчы рускай рэвалюцыі*[39].

Хоць і не надта прыхільныя юніянізму беларускія імігранты, тым не менш, даволі рана пачалі ўступаць у розныя прафсаюзы. Першымі былі шахцёры ў Пенсільваніі. Гэтыя беларусы, якія працавалі побач з літоўцамі, палякамі ды іншымі ўсходнімі еўрапейцамі, з якіх шмат хто падтрымоўваў рабочы рух, уступілі ў мясцовыя аддзелы прафсаюзаў[40].

Аднак найбольш значныя масы беларускіх імігрантаў уступалі ў прафсаюзы ў вялікіх прамысловых гарадах: Экране, Балтымары, Бостане, Чыкага, Кліўлендзе, Ньюарку, Нью-Ёрку, Філадэльфіі і г. д.

[37] Гурвич, И. Первые еврейские кружки // Былое. Петербург. 1907. № 6/18. С. 65–77.

[38] Бубешка, С. Жыцьцё беларусаў у Амэрыцы... С. 197–198

[39] Lorwin, L. The women's garment workers... P. 142–143.

[40] Гутарка аўтара з Васілём Коськам, Скрэнтан, штат Пенсільванія, 1968.

У некаторых галінах прамысловацці мясцовыя аддзелы былі нават арганізаваныя беларусамі, як, прыкладам, прафсаюзы разборнікаў дамоў, мясцовыя аддзелы прафсаюза швацкае прамысловасці ў Брукліне (раён Браўнсвіл), дзе актывістамі былі М. Валадарскі, А. Стакліцкі і П. Рубацкі[41]. Руска-польскі 103-і аддзел Аб'яднаных адзежных работнікаў Амерыкі ў Нью-Ёрку быў арганізаваны беларусамі А. Адамовічам, К. Літвіновічам, К. Карнеем, І. Сушкам, І. Рапацэвічам і Ф. Букам у 1913 годзе[42]. Беларускія імігранты былі актыўныя ў Міжнародным саюзе вытворцаў жаночага адзення, у Саюзе вытворцаў ботаў і чаравікаў, у кравецкіх саюзах і ў саюзах аўтамабільнае індустрыі[43].

Адзін беларус, актыўны прафсаюзны арганізатар і функцыянер Валодзя Татарчык быў забіты за сваю рабочую дзейнасць у Нью-Ёрку. Не выключаліся і расавыя матывы забойства — артадаксальныя яўрэі супраць усходнееўрапейцаў. Паховіны Татарчыка сталіся дэманстрацыяй у падтрымку прафсаюзаў і сацыялістычнага руху. Вось як апісвала гэтую падзею рускамоўная газета:

*На паховіны прыйшлі не менш за 10 000 чалавек: яўрэі, рускія і іншыя работнікі. На чале шэсця быў чырвоны сцяг і ішла даўгая чарада прафсаюзных функцыянераў. Ва ўсіх прамовах падкрэслівалася бескампрамісная адданасць Валодзі Татарчыка рабочай справе. Прафсаюз выступіў за збор сродкаў на пабудову помніка*[44].

Валодзя Татарчык паходзіў з Капыля. Адным з прамоўцаў на паховінах быў Сцяпан Бубешка, які звярнуўся з прамоваю да сваіх землякоў-беларусаў[45].

Яшчэ больш беларусаў-імігрантаў далучаліся да прафсаюзаў у 1930—1940-я гады, хоць дух юніянізму ніколі не быў цалкам прыняты беларускімі імігрантамі. З кнігі Джоэла Зэйдмана «Вышывальныя прафсаюзы», дзе даецца агляд сяброўства саюза ў Нью-Ёркскай акрузе, відаць, што з 5720 сяброў толькі 93 былі «рускія»[46].

У адрозненне ад сваіх старэйшых суродзічаў новыя беларускія імігранты — тыя, што прыехалі па Другой сусветнай вайне, — зразумелі значэнне юніянізму і адразу ўступалі ў прафсаюзы, хоць ім і былі чужыя левыя настроі ў некаторых з іх.

## Арганізацыі страхавання і ўзаемнае дапамогі

Перш чым гаварыць пра страхавыя арганізацыі ў гістарычным аспекце, варта напачатку даць колькі агульных заўваг. Сярод усяго новага, чаму Амерыка навучыла імігрантаў, вельмі важнае месца займае страхаванне жыцця. Досвед этнічнага жыцця ў ЗША паказвае, што заснаванне сваёй страхавой арганізацыі азначае для этнічнае групы вялікі крок да ўлучэння ў амерыканскі лад жыцця. Пры ўмелым кіраванні існаванне такіх арганізацый гарантуецца сталым павелічэннем сяброўства, бо, як правіла, бацькі купляюць страхоўку на дзяцей — аўтаматычна прывязваючы іх разам з тым да этнічных каранёў. Гэтыя арганізацыі падлягаюць штатнаму і федэральнаму кантролю і падсправаздачныя перад сябрамі. Налічваецца нямала «рускіх» страхавых арганізацый з значным беларускім удзелам.

[41] Новый Мир. Нью-Йорк. 1936. 23 апр.; Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1939. 14 июля.

[42] Русский Голос. Нью-Йорк. 1930. 3, 17, 24, 31 авг., 7 сент.

[43] Гутаркі аўтара з прафсаюзнымі функцыянерамі Аронам Боганам і Аляксандрам Шантырам, Нью Ёрк, 1962; Салковский, С. История союза русских портных // Русский Голос. Нью-Йорк. 1930. 3, 17, 24, 31 авг., 7 сент.

[44] Новый Мир. Нью-Йорк. 1915. 22, 23, 26 апр.

[45] Гутаркі аўтара з некалькімі сведкамі, 1959—1960.

[46] Seidman, J. The Needle Trades. New York (NY), 1942. P. 45.






Рэклама страхавальніка для беларусаў, украінцаў і рускіх у Чыкага

Першымі арганізацыямі ўзаемадапамогі, да якіх належалі беларусы, былі Рускае кола ўзаемнае дапамогі, заснаванае ў Нью-Ёрку ў 1872 годзе, і Добраахвотнае таварыства ўзаемнае дапамогі «Ашмянскія браты», заснаванае ў 1882 годзе ў Нью-Ёрку яўрэйскімі імігрантамі з Ашмянаў. Нашчадкі «ашмэнэраў» паведамлялі аўтару, што гэтая арганізацыя дапамагала і беларускім імігрантам з Ашмянаў на пераломе стагоддзяў[47]. Менскае Таварыства ўзаемнае дапамогі, Маладзёжная камерцыйная асацыяцыя і Асветнае таварыства рускіх работнікаў (званае Таварыствам менскіх работнікаў), заснаваныя яўрэйскімі імігрантамі з Менска, таксама прымалі сябрамі беларусаў і дапамагалі ім[48]. Гэтыя арганізацыі рэкламавалі сваю дзейнасць у рускамоўных газетах з шырокім колам чытачоў, да іх належала і колькі беларускіх прадпрымальнікаў адзежнае індустрыі[49]. Грунтоўны агляд яўрэйскіх зямляцтваў з Беларусі ў Злучаных Штатах, пераважна арганізацый узаемадапамогі, быў зроблены даследчыкам Віталем Зайкам[50].

Былі і іншыя арганізацыі ўзаемнае дапамогі, названыя паводле беларускіх гарадоў і мястэчак, але сябрамі ў іх былі пераважна яўрэі, хоць часам з гэтага правіла былі і выключэнні[51].

Шматлікія мясцовыя аддзелы ўзаемнае дапамогі закладаліся праваслаўнаю царквою, некаторыя з іх хутка знікалі, іншыя жылі даўжэй. Значная колькасць беларускіх імігрантаў уступіла ва ўкраінскія страхавыя кампаніі ды карпатарускія брацтвы.

[47] Гутаркі аўтара з Мадлен Коган і Давідам Ашмянскім, Нью-Ёрк, 1972.

[48] Черненко, А. Российская революционная эмиграция в Америке... С. 16—17; Новый Мир. Нью-Йорк. 1912. 29 марта; Гутаркі аўтара з Самуілам Лагойскім, Нью-Ёрк, 1976.

[49] Названыя яўрэйскія арганізацыі, пра якія аўтар дакладна даведаўся, што страхавалі і беларусаў. Напэўна, такіх яўрэйскіх арганізацый было сотні, бо, як зазначае Л. Смілавіцкі ў кнізе «Евреи в Турове» (Иерусалим, 2008), зямляцтваў-арганізацый яўрэяў з Беларусі налічвалася каля 700. Задакументаваныя факты «грашовай гарантыі», якую давалі яўрэі пры прыездзе ў Амерыку неяўрэям (інтэрв'ю В. Кіпеля з Арнольдам Сэдовым (Садоўскім) у NYPL, 1977), а таксама што, прыкладам, Аляксандр Гаркавы, яўрэй з Навагрудка, падпісваў «гарантыі» па 2500 долараў на асобу (1905—1907 гг.) імігрантам-землякам неяўрэям (Wischnitzer, M. Visas to Freedom. Cleveland — New York, 1956. P. 45.

[50] Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 518.

[51] Витебское Вспомогательное Общество. Справочный листок. Нью-Йорк. 1893. 15 янв. С. 2.

Першая супольная беларуска-ўкраінская страхавая арганізацыя была заснаваная ў Мічыгане ў 1913 годзе, яе статут быў надрукаваны ў 1914 годзе[52]. Гэтая арганізацыя была закладзеная беларусамі і ўкраінцамі і прымала ў сябры прадстаўнікоў гэтых двух народаў.




Рэклама беларуска-ўкраінскай страхавой фірмы ў Чыкага

Руска-славянскае таварыства самадапамогі было заснаванае ў Нью-Ёрку (Браўнсвіл, Бруклін) у 1915—1916 гадах групаю беларускіх імігрантаў. Лідар гэтае групы Сцяпан Бубешка, нацыянальна свядомы беларус, адыгрываў вядучую ролю ў гэтым таварыстве і пашыраў беларускую свядомасць сярод яго сяброў[53].

У большасці выпадкаў этнічна арыентаваныя страхавыя арганізацыі — асабліва тыя, што былі заснаваныя ў першай чвэрці гэтага стагоддзя, — былі недаўгавечныя; толькі малая жменька іх захавалася да сёння. Відавочнаю прычынаю тут была нястача прафесіяналаў. Аднак гэтыя таварыствы далі немалы досвед для будучых арганізацый, якія ствараліся маладзейшымі пакаленнямі, у большыні — народжанымі ў Амерыцы.

Беларускія імігранты не стварылі сваіх асобных страхавых арганізацый, у большасці выпадкаў яны належалі да розных структураў, якія мелі ў назове слова «рускі» або «ўкраінскі».

## Культурна-палітычныя арганізацыі

Хоць на пачатку стагоддзя беларускія імігранты былі псіхалагічна і інтэлектуальна далёкія ад думкі пра прыналежнасць да палітычнае арганізацыі, амерыканскае наваколле і кантакты з іншымі этнічнымі групамі рабілі на іх вялікі адукацыйны ўплыў. Паступова ў іх развілася патрэба належаць да нейкае грамадзянскае групы, стацца часткаю шырокага грамадства. На няшчасце беларусаў, не ставала нацыянальнага кіраўніцтва, якое сфармулявала б мэты для беларускае арганізацыі. Так, найбольш даступнымі для імігрантаў былі групы, якія гаварылі блізкаю да разумення моваю ды прапагандавалі лёгка зразумелыя ідэі, напрыклад, пра эканамічныя праблемы роднае вёскі, царскі прыгнёт у параўнанні з амерыканскаю палітычнаю сістэмаю і г. д. У гэтых абставінах было цалкам натуральна, што беларусы пачалі далучацца да рускамоўных, а часам польскамоўных арганізацый. А такіх культурных і палітычных утварэнняў было нямала. Нью-Ёркскае славянскае таварыства, заснаванае ў 1830-я гады, было, відаць, першаю арганізацыяй з пэўнай палітычнаю арыентацыяй, да якое належалі паасобныя беларускія імігранты[54]. Паасобныя беларусы належалі таксама да Рускага ўсеславянскага таварыства ў Сан-Францыска, заснаванага ў 1867 годзе, а пазней — да

[52] Устав Товарищества Белоруссов и Малоруссов. Grand Rapids (MI), 1914.

[53] Свободное Слово. Нью-Йорк. Май 1916. С. 506—507; Гутаркі аўтара з некалькімі сведкамі.

[54] Вильчур, М. Русские организации в Америке // Вестник Америки. Нью-Йорк. 1918. 12 мая. С. 2—5.



Грэка-расейска-славянскага таварыства, віцэ-прэзідэнтам якога быў абраны Мікалай Судзілоўскі-Русель[55].

Колькасць руска-славянскіх палітычных арганізацый павялічылася пад канец XIX стагоддзя, а ў першых дзесяцігоддзях XX стагоддзя яны пачалі расці, як грыбы. Спачатку толькі паасобныя беларусы далучаліся да гэтых арганізацый, але паступова сябры беларускага паходжання сталі ў іх пераважаць.

Найбольш вабілі беларусаў арганізацыі сацыялістычнага ўхілу, але значную колькасцю нашых суродзічаў маглі пахваліцца і анархісцкія згуртаванні. Арганізацыямі з вялікаю колькасцю беларусаў былі Рускае сацыял-дэмакратычнае таварыства, заснаванае ў Нью-Ёрку ў 1891 годзе, з аддзеламі ў Балтымары, Філадэльфіі, Пітсбургу, Бостане ды іншых вялікіх гарадах, Саюз рускіх сацыялдэмакратычных арганізацый, заснаваны ў Нью-Ёрку ў 1907 годзе, з мясцовымі аддзеламі, якія мелі беларускія назовы Менскі, Пінскі, Барысаўскі, Дзвінскі, Сацыял-дэмакратычнае таварыства, Гурток бабруйскіх работнікаў або Менскае работніцкае таварыства[56]. За першыя два дзесяцігоддзі XX стагоддзя былі заснаваныя дзясяткі такіх згуртаванняў, улучаючы палітычныя федэрацыі, такія як Латышская, Украінская і г. д. сацыялістычныя партыі[57]. Кіраўнікі гэтых угрупаванняў прыкладалі шмат намаганняў, каб прыцягнуць у свае шэрагі масы. Асабліва гэта датычыць часу па 1905 годзе, калі імігранты з Расійскае імперыі пачалі прыбываць у вялікай колькасці. Геаграфічныя назовы, ужываныя ў тытулах гэтых арганізацый, безумоўна, прыцягвалі навапрыбылых імігрантаў. Адною з найбольш актыўных і змагарных арганізацый у гэтым часе быў Саюз рускіх работнікаў[58]. Гэтая арганізацыя была запачаткаваная ў індустрыяльным рэгіёне Нью-Ёрк — Ньюарк у 1907—1909 гадах і ўсяго за некалькі гадоў здолела сфармаваць каля 200 дзейных аддзелаў па ўсёй краіне.

Згаданыя згуртаванні і іхныя сябры сталіся базаю для заснавання Рускае сацыял-дэмакратычнае рэвалюцыйнае партыі. Тым часам як адкрытаю мэтаю гэтых групаў была дапамога новым імігрантам, неафішаваным імкненнем кіраўніцтва было стварэнне фінансавае базы для падтрымкі рускіх рэвалюцыянераў на радзіме. Аднак гэтыя імігранты, сябры розных сацыялістычна-анархісцкіх груповак, у інтэлектуальным сэнсе былі не тым матэрыялам, на які спадзяваліся рускія сацыялістычныя лідары. Гэта былі сяляне, а не здатныя да змагання пралетары, гатовыя несці сцяг «класавае барацьбы». Іх трэба было навучыць, адукаваць і індактрынаваць, каб яны маглі хоць неяк быць карыснымі ў рэвалюцыйнай дзейнасці. Аднаккіраўніцтва не пабаялася ўзяцца за складаную задачу перарабіць гэтых вясковых хлапцоў на змагароў-рэвалюцыянераў. Рускі сацыялістычны лідар Рабчанка пісаў ва ўспамінах пра зацятую барацьбу паміж рускімі афіцыйнымі

[55] Иосько, М. Николай Судзиловский-Руссель... С. 141 —142.

[56] Черненко, А. Российская революционная эмиграция в Америке... С. 16, 81.

[57] Краткий очерк истории русских социал-демократических организаций в Америке // Русско-Американский Рабочий. Ньюарк — Нью-Йорк. 1908. № 1; Новый Мир. Нью-Йорк. 1927. 8 янв.; Русский Голос. Нью-Йорк. 21 апр. 1927; Новый Мир. Нью-Йорк. 1912. 29 марта; Каторга и Ссылка. Москва. 1927. № 30. С. 169—179; Каторга и Ссылка. Москва. 1930. № 62. С. 141 —160; Вильчур, М. Русские организации в Америке...; Гутарка аўтара з Грэгары Арансонам, 1960; Зубок, Л. Очерки истории рабочего движения в США. Москва, 1962. С. 545—546.

[58] Русско-Американский Рабочий. Ньюарк — Нью-Йорк. 1908. № 4. С. 15—16; Дело Труда — Пробуждение. Нью-Йорк. 1949. № 31; 1950. № 32; 1951. № 35; 1955. № 48. С. 21—22; Волна. Нью-Йорк. 1921. № 12—13. С. 18—19.

коламі, якія былі ў Злучаных Штатах прадстаўленыя Рускаю праваслаўнаю царквою, і рускімі сацыялістамі за ўплывы і кантроль над сялянскімі масамі, што прыбывалі ў краіну. *«Гэта была няпростая справа*, — прыгадвае Рабчанка, — *бо ў сваёй большыні гэта былі сяляне з нярускіх абшараў і яўрэі з "мяжы аседласці". Яўрэі траплялі пад уплыў яўрэйскіх сацыялістаў і слухаліся іхных інструкцый. Сялянам-імігрантам было напляваць на рэвалюцыйныя ідэі, іх больш хвалявала праца, тое, як зарабіць грошай, вярнуцца на радзіму і купіць зямлі»*[59]. Іншы сацыялістычны актывіст, Лімар, зрабіў гэткі аналіз сяброўства Саюза рускіх работнікаў: *«Можна вылучыць тры плыні: 1) пралетарская; 2) галодна-пралетарская, г. зн. тыя, хто найперш зважае на працу і задавальненне фізіялагічных патрэбаў; і 3) тыя, чыя мэта — набыць зямлю і ўласнасць»*[60]. Рысы апошняе групы былі характэрныя для імігрантаў-беларусаў, хоць у некаторых месцах беларусы былі арганізатарамі аддзелаў Амерыканскае сацыялістычнае партыі. Прыкладам, у Саўт-Рыверы аддзел партыі быў арганізаваны Нерубайлам, Сямёнам Міхеем і Міхалам Міхайлоўскім (паводле чутак — брат Сымона Рак-Міхайлоўскага)[61].

Вобразнае назіранне над нядаўна прыбылымі імігрантамі, хоць і не пахвальнае для беларусаў, было надрукаванае ў газеце *«Русский Голос»* у артыкуле, загалоўленым «Гуртуймася, амерыканскія рускія»:

*Руская калонія налічвае каля 300 000 асобаў. Большасць з іх — сяляне з Паўночна-Заходняга краю. Яны прыбылі з самых цёмных, забітых і бескультурных мясцінаў. Тут, у Амерыцы, яны бадзяліся па шахтах, лясах, закінутых майстэрнях, фермах і плантацыях. З вялікаю цяжкасцю яны навучыліся пісаць, чытаць і думаць. Сацыялісты імі не цікавіліся. Усе іх кінулі. У выніку шмат хто з іх трапіў ва ўчэпістыя рукі праваслаўных папоў*[62].

Цяжка сказаць, колькі гэтых беларускіх імігрантаў заставалася ў падцаркоўных арганізацыях. Не трэба, аднак, недаацэньваць колькасці тых, хто быў уцягнуты ў палітычную дзейнасць. Сацыялісты і анархісты прываблівалі тысячы і тысячы беларусаў: яны адчынялі сотні школаў і агульнаадукацыйных курсаў, давалі матэрыялы для чытання і адукацыі ды прышчаплялі гэтым нясмелым і неадукаваным людзям пачуццё чалавечае годнасці і пашаны да сябе. Даволі тыповы прыклад працоўных звычак, інтэлектуальнага ўзроўню і прычынаў уступлення ў арганізацыю адзначае амерыканскі даследчык Роберт Парк:

*Навум Сцепанюк з Берасця: ён быў батраком у Расіі. Рэдка чытаў газеты і зусім не чытаў навукова-тэхнічных кніжак. Эміграваўшы ў Злучаныя Штаты, ён паехаў у Нью-Касл, штат Пенсільванія, на запросіны чалавека, з якім быў знаёмы. Тры гады ён працаваў на шахтах у Шэнандоа, штат Пенсільванія, адтуль паехаў у Родэрфілд, штат Заходняя Вірджынія, а адтуль — на фермы ў Канзас. Ён працаваў таксама на фабрыцы ў Агаё ды на рудніках і шахтах у Пуэбла, штат Каларада. У Экране, штат Агаё, ён меў працу ў кампаніі Goodrich Rubber. Ягоная сярэдняя зарплата была дваццаць чатыры даляры за тыдзень. Сцепанюк — сябар Федэрацыі саюзаў рускіх работнікаў. Ён казаў, што ўступіў у арганізацыю дзеля далейшае адукацыі, а таксама каб вучыць людзей рускай мове, гэтак як і англійскай, бо шмат хто з сяброў арганізацыі не ўмеў чытаць па-руску.*

[59] Рябченко. Из жизни политической эмиграции в Америке // Каторга и Ссылка. Москва. 1930. № 62. С. 141–160.

[60] Лимарь. Союз Русских Рабочих в Америке // Русско-Американский Рабочий. Нью-Йорк. 1908. № 6. С. 14–15.

[61] Новый Мир. Нью-Йорк. 1916. 2 марта.

[62] Русский Голос. Нью-Йорк. 1917. 26 мая. С. 4.



*Калі ў яго спыталіся, нашто ім ведаць рускую мову, ён адказаў, каб работнікі маглі зразумець сваё жыццё.*

*Іншы беларускі імігрант, Мікалай Валасюк, з Гарадзенскае губерні, таксама сябар Федэрацыі саюзаў рускіх работнікаў, казаў, што ў вольны ад працы час ён наведваў школку самаадукацыі, дзе ён навучыўся асновам батанікі, лесаводства, даведаўся, адкуль бярэцца вугаль, з чаго ён складаецца*[63].

Бясспрэчна, за перыяд ад 1905 да 1917–1918 гадоў сацыялісты і анархісты адукавалі тысячы і тысячы гэтых некалі забітых і неадукаваных душаў і здолелі ператварыць шмат каго з іх у агрэсіўных пралетараў-рэвалюцыянераў, якія сеялі значны неспакой сярод работнікаў-імігрантаў з Усходняе Еўропы, асабліва славянаў, у шмат якіх індустрыяльных рэгіёнах краіны. Руская праваслаўная царква не прайграла канчаткова змаганне за ўплывы сярод усходнеславянскіх праваслаўных масаў, аднак, бясспрэчна, страціла шмат тысячаў сваіх колішніх падданых.

Гэты перыяд адзначаны з'яўленнем дзясяткаў таварыстваў, праграмы і мэты якіх засяроджваліся на культурнай і адукацыйнай дзейнасці[64]. У Бостане было закладзенае таварыства *«Знание»*, у Нью-Ёрку — *«Наука»* і імя Чэхава, у Філадэльфіі — Кола землякоў, у Дэнверы, штат Каларада — Рускае адукацыйнае таварыства. Падобныя арганізацыі заснаваліся ў Чыкага, Дэтройце, Геры, Ньюарку ды іншых індустрыяльных гарадах і мястэчках[65]. Сябрамі гэтых арганізацый былі пераважна беларусы, украінцы і карпатаросы, але велікаросы і рускія яўрэі, цалкам культурна зрусіфікаваныя, адыгрывалі там важную ролю і займалі кіраўнічыя пасады. Палітыка-ідэалагічная скіраванасць гэтых арганізацый была неаднастайная, большасць падзяляла сацыялістычна-анархісцкія погляды, але было таксама шмат згуртаванняў правага, працарскага кірунку. Аднак усе гэтыя новыя арганізацыі мелі адну агульную рысу: усе яны былі прарасійскія і адною з галоўных іхных мэтаў была русіфікацыя імігранцкіх масаў. Барысаў, адзін з лідараў нью-ёркскага згуртавання *«Наука»*, падаў цікавую інфармацыю пра ўзнікненне і паходжанне сяброў гэтае арганізацыі:

*Цяжкія сацыяльна-эканамічныя абставіны нашых людзей прымусілі нас шукаць новых шляхоў паляпшэння нашага становішча. Хоць у Нью-Ёрку ўжо былі рускія арганізацыі — кафедральны сабор на Іст 97 стрыт і палітычны клуб на Іст Брадвеі, імі кіравалі адвакаты і дактары. Іхная мова была незразумелая рускім імігранцкім масам, і імігрантам былі чужыя кірунак і сацыяльнае асяроддзе гэтых арганізацый.*

І гэтак было заснаванае таварыства *«Наука»*. Барысаў пісаў:

*Мы мусім прызнаць, што абсалютную большасць нашых прыхільнікаў і супрацоўнікаў у першыя гады існавання складалі сяляне-імігранты з Гарадзенскае, Віленскае і Валынскае губерняў*[66].

Цяжка з пэўнасцю сказаць, колькі адукацыйных курсаў, школаў, бібліятэк (і нават народныя ўніверсітэты ў Чыкага, Нью-Ёрку) было заснавана, але,

[63] Park, R. The immigrant press and its control. Westport (CT), 1970. P. 77–79. (Reprint of 1922 edition.)

[64] Окунцов, И. Русская эмиграция в Северной и Южной Америке... С. 262–269.

[65] Русский Вестник. Нью-Йорк. 1944. № 135. С. 38–41; Русский Голос. Нью-Йорк. 1930. 13 сент.

[66] Борисов, М. Очерки истории о-ва «Наука» // Наука и Жизнь. Нью-Йорк. Март 1923 — Янв. 1924. С. 2; Юбилейный Сборник. Нью-Йорк, 1935. С. 2–8.

бясспрэчна, іх налічвалася вельмі шмат. Выключныя намаганні былі прыкладзеныя дзеля таго, каб залучыць у гэтыя школы маладое пакаленне. Але гэтыя адукацыйныя ўстановы і надалей выконвалі тую самую працу, што і руская царская адміністрацыя на радзіме: русіфікавалі масы. Досвед русіфікацыі, набыты на радзіме, быў скарыстаны ў Злучаных Штатах, і абодва крылы рускага грамадства — левае і правае — стараліся зрусіфікаваць беларускіх імігрантаў і іхных дзяцей[67].

Каб праілюстраваць поспехі русіфікацыі, зацытуем урывак з успамінаў аднаго рускага лідара і актывіста ў Злучаных Штатах. Аўтар — былы афіцэр царскае арміі, этнічны рускі, які прыбыў у Амерыку з Канстанцінопаля каля 1920 года. Перад Першаю сусветнаю вайною ён жыў у Пецярбургу і валодаў маёнткам каля Менска. Аўтар успамінаў згадваў, як ён улетку наведваў свой маёнтак, і прыпамінаў колькі беларускіх выразаў. Пасля прыехаў у Злучаныя Штаты і ўступіў у таварыства *«Наука»*. Ён пісаў:

*Зноў я пачуў беларускую мову і сустрэў тых самых беларускіх сялянаў. Сталася так, што даўным-даўно я вучыў беларускага хлопца Алёшку чытаць і пісаць, а цяпер гэтыя беларускія сяляне вучаць маіх дзяцей рускай мове ў школцы, якую заклалі гэтыя самыя беларускія сяляне*[68].

Прыпамінаючы і апісваючы нейкую непрыемную сітуацыю, з якое беларус выйшаў пераможцам, аўтар паблажліва зазначыў: *«Гэтыя случакі — людзі кемлівыя»*.

Па Першай сусветнай вайне згаданыя культурныя арганізацыі ахапілі больш шырокія масы новапрыбылых этнічных рускіх і ў той або іншай форме дажылі да сёння. Шмат іхных сяброў, што нарадзіліся ўжо ў Амерыцы, маюць беларускія карані.

Агульны агляд і некаторыя заўвагі пра значэнне розных «рускіх» арганізацый у Злучаных Штатах у першым і другім дзесяцігоддзях XX стагоддзя зрабіў Я. Амельчанка, службовец рускага ўрада, сябра Надзвычайнае рускае місіі ў Злучаных Штатах у 1917 годзе. Сярод іншага Амельчанка зазначаў:

*Пераважная большасць рускіх імігрантаў належыць да арганізацыі, якая завецца «Саюз рускіх работнікаў», або да яе падобных. Гэтыя арганізацыі існуюць пераважна ў індустрыяльных гарадах па ўсіх Злучаных Штатах. Арганізацыі гэтыя не надта вялікія па колькасці іхных сяброў, некаторыя з іх налічваюць не больш за шэсцьдзесят чалавек, і яны не маюць ніякага ўплыву на амерыканскую грамадскую думку… Рускія секцыі Амерыканскае сацыялістычнае партыі — другая група арганізацый, да якіх належаць рускія імігранты. Рускія сацыялістычныя секцыі, аднак, не такія папулярныя сярод рускіх імігрантаў, як Саюз рускіх работнікаў. Да Рускіх сацыялістычных секцый прылучаюцца таксама розныя групы, якія падтрымоўваюць рэвалюцыйны рух у Расіі. Рускія сацыялістычныя групы пастаўляюць у Расію палітычных лідараў*[69].

Далей Амельчанка зрабіў кароткі аналіз розных страхавых арганізацый, культурных таварystваў і прафесійных саюзаў.

[67] Новый Мир. Нью-Йорк. 1917. 8 янв.; Учительница Симион. Из школьной жизни // Наука и Жизнь. Нью-Йорк. Март 1923. С. 5–6.

[68] Ильин, В. История общества «Наука» // Юбилейный Сборник. Нью-Йорк, 1935. С. 40–42.

[69] Омельченко, Е. К вопросу об организации российской колонии. Нью-Йорк, 1917.



Другое дзесяцігоддзе XX стагоддзя, калі ў Злучаных Штатах узніклі дзясяткі «руска-славянскіх прагрэсіўных» арганізацый, цікавае з беларуска-амерыканскага гледзішча, бо ў гэтым часе беларуская тэма шырока абмяркоўвалася ў друку ды з'явіліся актыўныя лідары адмысловага беларускага кірунку. Адным з іх быў доктар Аляксандар Сянкевіч.


Аляксандр Сянкевіч

У Аляксандра Сянкевіча цікавы жыццяпіс. Нарадзіўся ён у Коласавай Мікалаеўшчыне, быў паэтавым сваяком. Закончыўшы ў 1902 годзе Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, ён, разам з Якубам Коласам, быў актыўным удзельнікам беларускага нацыянальнага руху і адным з арганізатараў Беларускага настаўніцкага саюза. Ён быў сакратаром першага нелегальнага сходу беларускіх настаўнікаў у 1906 годзе. Царская ахранка пераследавала Сянкевіча за ягоную беларускую дзейнасць, і ён уцёк у Злучаныя Штаты. У Амерыцы закончыў Мэрылендскі ўніверсітэт у Балтымары (1913) і стаўся лекарам. У тым самым часе актыўна ўлучыўся ў палітычны, сацыялістычна-анархісцкі, рух. Разам з жонкаю Ганнай Аляксандр Сянкевіч заснаваў колькі гурткоў сваіх землякоў, дзе выкладаў ім асновы палітычнае ідэалогіі, рэвалюцыйнае дзейнасці, не абмінаючы працы над іхнаю англійскаю моваю і даючы ім базавыя звесткі пра Беларусь. Калі ў 1917 годзе адбылася рэвалюцыя, д-р Сянкевіч вярнуўся ў Расію праз Далёкі Усход. Там ён уліўся ў шэрагі чырвоных ваенных аддзелаў, а на пачатку 1920-х гадоў вярнуўся на Беларусь, дзе перажыў хуткі палітычны ўзлёт, які быў абарваны чысткамі 1930-х гадоў[70].

Яшчэ адзін лідар, чыя дзейнасць прыпала на гэты перыяд, — Сцяпан Бубешка. Хоць жыццяпіс ягоны не такі маляўнічы, як у д-ра Сянкевіча, ён таксама зрабіў значны ўклад у абуджэнне беларускае нацыянальнае свядомасці ў ЗША[71].

Аналізуючы дзейнасць д-ра Сянкевіча, нельга не прыгадаць таксама палітычную кар'еру д-ра Судзілоўскага-Руселя двума дзесяцігоддзямі раней. Варта адзначыць асобна гэтых двух беларускіх актывістаў-інтэлектуалаў, звязаных з палітычным жыццём Злучаных Штатаў Амерыкі.

Абодва яны былі адукаваныя людзі, добра знаёмыя з станам беларускае нацыі. Абодва змагаліся за сацыяльную справядлівасць. І ўсё ж вельмі мала зрабілі яны для беларускае іміграцыі. Без ніякага сумнення, калі б доктар Мікалай Судзілоўскі-Русель на пераломе стагоддзяў і доктар Аляксандр Сянкевіч у другім яго дзесяцігоддзі замест таго, каб ахвяраваць свае інтэлектуальныя здольнасці на справу сусветнае рэвалюцыі, спрычыніліся б да асветніцтва свае роднае краіны — Беларусі — і беларускіх імігрантаў у Злучаных Штатах, беларуска-амерыканскае грамадства зайшло б у сваім поступе значна далей. Але, на жаль, гэтага не адбылося. Праз іронію лёсу абодва гэтыя рэвалюцыянеры памерлі далёка ад радзімы, нічым не паўплываўшы на хаду сусветных падзей.

Арганізацыйнае жыццё імігрантаў з Расійскае імперыі, тысячы і тысячы з якіх былі беларусамі, было вельмі бурлівае і разнастайнае ў першай чвэрці

[70] Наша Ніва. Вільня. 1907. № 3; БелСЭ. Т. 10. Мінск, 1974. С. 176–177; Инсаров, Н. Александр Антонович Сенкевич — врач, видный общественный и политический деятель // Здравоохранение Белоруссии. Минск. 1972. № 12. С. 47–51; Кісялёў, У. І прататып у класічных творах // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. Мінск. 1987. № 4. С. 12–13.

[71] Зінук, М. Беларусы ў Амэрыцы // Раніца. Бэрлін. 1940. 12 мая.

XX стагоддзя. Утварыліся сотні арганізацый. Прадстаўнікі шмат якіх нацыянальнасцяў засноўвалі свае таварыствы, клубы і г. д. і здолелі павярнуць сваё жыццё ў новай краіне ў свядомае нацыянальна-этнічнае рэчышча. Латышскія, літоўскія, ірландскія ды іншыя арганізацыі мелі значны ўплыў на падзеі ў іхных краінах і адыгралі важную ролю ў дасягненні імі незалежнасці[72].

На жаль, беларусы ў Злучаных Штатах не дасягнулі гэткіх поспехаў. Яны не сфармавалі сваіх трывалых арганізацый з аднае асноўнае і важнае прычыны — нястачы лідараў. Тым не менш можна спытацца: чаму беларускія іміграны далучаліся да рускіх або польскіх цэркваў, клубаў, арганізацый, калі яны адчувалі сваю апрычонасць? Адказаць на гэтае пытанне не так проста. Патрэба да нечага належаць — зразумелая частка іміграцкага пачуцця ўласнае бяспекі — можа быць частковым адказам. Што ж да пытання пра шыльду той або іншай арганізацыі, дык і тут адказ не можа быць просты. Прычыны гэтага хаваюцца ў гістарычнай мінуўшчыне. Этнічны беларус-імігрант на пераломе стагоддзяў адчуваў сябе цалкам пазбаўленым сваіх каранёў: ён не меў мінулага, не меў будучыні, не мог гаварыць на людзях сваёю мовою. Беларускі селянін-імігрант быў зрусіфікаваны, спаланізаваны і пазбаўлены — свядома і сістэматычна — усялякае нацыянальнае свядомасці. Як бы трагічна або іранічна гэта ні выглядала, беларускія імігранты часта прызвычайваліся і зжываліся з гэтымі чужымі культурамі і іхнымі арганізацыямі. Такім чынам, сама шыльда арганізацыі мала што значыла. У выніку ж удзел у небеларускіх арганізацыях у Амерыцы толькі прычыніўся да далейшага выкаранення ўсяго роднага, да русіфікацыі і паланізацыі не толькі саміх імігрантаў, але і іхных нашчадкаў — наступных пакаленняў амерыканцаў.

Нягледзячы на такое неспрыяльнае для беларусаў становішча, ідэі нацыянальнае апрычонасці і сепаратызму пачалі прарастаць у беларускіх іміграцкіх масах. Гэта прывяло ў сваім часе да ўзнікнення беларускіх арганізацый па ўсёй краіне.

## Абуджэнне беларускае свядомасці

Перыяд ад сярэдзіны XIX стагоддзя да 1918 года стаўся важнаю эпохай у гісторыі беларускае нацыі. Яна перажывала палітычнае і культурнае адраджэнне, нанова фармавалася беларуская нацыянальная тоеснасць, нараджалася новая дзяржаўнасць. Пакуль адбываліся гэтыя працэсы, тысячы і тысячы беларусаў эміґравалі з «Паўночна-Заходняга краю». Нацыянальнае абуджэнне закранула толькі невялікую частку імігрантаў, дый тое ўскосна[73]. Большасць пакідалі родную глебу некранутыя беларускім адраджэннем. Імігранты называлі сябе «тутэйшымі». Рускія і амерыканскія службоўцы называлі іх «рускімі» або «палякамі». Гэтыя чужыя ім біркі, на жаль, прысталі да многіх. Тым не менш шмат у кім з іх пачала развівацца нацыянальная свядомасць.

Усведамленне сябе беларусамі прыйшло да гэтых імігрантаў рознымі шляхамі. Шмат хто з іх захоўваў блізкія кантакты з радзімаю і заўважаў змены, якія там адбываліся. Шмат да каго беларускае нацыянальнае самаўсведамленне прыйшло праз друкаванае слова. Неацэнную ролю ў абуджэнні нацыянальнае свядомасці сярод беларусаў адыграла «Наша Ніва». Роля газеты ў палітычным адраджэнні

[72] Seller, M. To seek America: A history of ethnic life in the United States. Englewood (NJ), 1977. P. 166–169.

[73] Станкевіч, Я. Нашаніўства і старая эміграцыя // Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1957. № 11–12.



беларускае нацыі шырока прызнаная. Аднак менш вядома, што гэты перыёдык меў уплыў і на беларусаў, што жылі за межамі Бацькаўшчыны. Па-за ўвагаю застаўся факт, што ад самага пачатку «Наша Ніва» была разлічаная і на эміґрантаў. У рэдакцыйным артыкуле другога нумара газеты сцвярджалася: *«Зразумее [нас] і фабрычны работнік, што пакінуў родную вёску, каб у чужой старонцы шукаць заработкаў і хлеба»*[74]. Газета друкавала шмат матэрыялаў, якія маглі быць цікавыя эміґрантам, а таксама мела карэспандэнтаў за мяжою, у тым ліку некалькіх у Злучаных Штатах. «Наша Ніва» першая звярнулася да беларускіх імігрантаў у Злучаных Штатах з заклікам ствараць свае нацыянальныя арганізацыі. Рэдакцыя газеты спрычынілася да выдання дапаможніка — «Рады для эміґрантаў, каторыя едуць у Амерыку» (Вільня, 1912). Кніжка гэтая, выдрукаваная Таварыствам апекі над эміґрантамі, змяшчала шырокі інфармацыйны матэрыял пра Злучаныя Штаты, а таксама беларуска-англійскі размоўнік[75]. Газета мела падпісчыкаў у ЗША, і яшчэ ў 1950-я гады шмат хто з старых беларускіх імігрантаў хваліў яе[76]. Бясспрэчна, «Наша Ніва» ўплывала на пэўныя пласты беларускае іміграцыі і сеяла зярняты беларускасці ў гэтай краіне.



«Рады для эмігрантоў, каторые едуць у Амэрыку». 1912 г.

З’яўленне «Нашае Нівы» і асабліва прапагандаваная ёю ідэалогія злосна атакаваліся русафільскім друкам на радзіме. Амаль у кожным нумары газета адбівала гэтыя атакі. Такую канфрантацыю ў Расіі можна было чакаць. Цікава, што ідэі беларускага сепаратызму і беларускае нацыянальнае апрычонасці выклікалі нападкі і ў Злучаных Штатах Амерыкі. Прыкладам можа быць выдаваная ў Уілкс-Бэры, штат Пенсільванія, газета «Свет» («Свѣтъ»). Гэтае рускамоўнае ультрарусафільскае праваслаўнае выданне ў сваім нумары за 23 ліпеня 1908 года пісала наступнае (у цытаце захаваная мова арыгінала):

*Колька тыждней тому назад въ Празѣ отбувся «Съѣздъ прогрессивного славянского студенчества». Собралось не одинь десятокъ «прогрессивной» молодежи, которая и наговорила немало чепухи. Розумѣесь, въ першу голову повинень бувъ вылѣзти якій небудь украйноманъ (с. е. бѣснующійся за несуществующую самостойную Украину малороссъ). Такъ оно и было. Якійсь недопеченый студентъ Струкъ говоривъ въ имени 30 милліонного, но — розумѣесь — безъ его ведома, «вікраінского народа».*

*Потомъ студентъ Петербурского Горного інститута г. Обуховскій въ першій разъ давъ знати всему міру, що существуе еще один народъ самостоятельный — бѣлорусскій, съ особенной исторіей и литературой. Того народа есть ажъ 8 милліоновъ и той народъ имѣе наветъ самостоятельную бѣлорусскую газету, издающуюся латинскими литерами и называющуюся «Nasza Niwa». (А газета тая правда що дуже твердое доказатель[ство]*

[74] Наша Ніва. Вільня. 1906. № 2.

[75] Рады для эміґрантаў, каторые едуць у Амэрыку. Вільня, 1912.

[76] Наша Ніва. Вільня. 1908. № 21, 22; Гутаркі аўтара з Аўгенам Каханоўскім-Калубовічам і Лявонам Савёнкам, якія былі знаёмыя з некалькімі падпісчыкамі «Нашае Нівы» ў раёне Маспет (частка Нью-Ёрка).

*самостойності бѣлорусского народа?!) Онь бы — той народъ еще больше показалъ свою самостоятельность, но бѣда, що его дуже притѣсняютъ русскіи и поляки.*

*Въ отвѣтъ на тую промову прогрессивныи студіозы голосно рукоплескали, значитъ, признали status quo глупого сепаратизма, а потомъ якійсь недоукъ плелъ о всечеловѣчествѣ, о солидарности всѣхъ племенъ и проч. [...] Глупый съездъ кончився глупыми резолюціями, которыи никого ни кь чому не обовязуютъ и никому непотребны*[77].

Аднак такія адмоўныя рэакцыі не маглі спыніць руху. Набіраючы размах, беларускае адраджэнне на радзіме мела станоўчы ўплыў на беларусаў у Злучаных Штатах.

Нацыянальныя лідары на радзіме разумелі важнасць абуджэння беларускіх масаў у дыяспары. Газета «Гоман», ідэалагічная наступніца «Нашае Нівы», зрабіла агляд жыцця беларусаў у ЗША сваёю сталаю рубрыкаю. У адным з артыкулаў у «Гомане» пісалася:

*Незадоўга перад вайною сярод нашых суродзічаў у Злучаных Штатах заўважаўся пэўны рух. Яны заказвалі беларускія кнігі і падпісваліся на газеты, пісалі лісты на радзіму па-беларуску. Мы спадзяемся, што беларусы ў Амерыцы ў хуткім часе згуртуюцца*[78].

У іншым артыкуле ў «Гомане», надрукаваным пасля Еўрапейскае канферэнцыі нацыянальнасцяў у Лазане ў 1916 годзе, быў заклік да беларускіх імігрантаў у Злучаных Штатах:

*Нашыя браты за акіянам, калі ласка, арганізуйцеся і дайце нам палітычную падтрымку, якая нам тут так патрэбная. Інакш вашая бацькаўшчына не прабачыць вам таго, што вы толькі назіралі за тым, што адбываецца дома, і не дапамаглі нам*[79].

«Гоман» выдаў нават адмысловую серыю паштовак з беларускімі подпісамі, рупячыся аб іх пашырэнні ў Злучаных Штатах[80].

Аднак не толькі беларускамоўныя публікацыі пачалі аддаваць увагу беларусам у кантэксце абуджэння нацыянальна-палітычнае свядомасці. Ідэі беларускае нацыі і дзяржаўнасці пачалі асвятляцца і ў небеларускіх выданнях. Такія газеты, як *«Новый Мир»* і *«Русский Голос»*, што выдаваліся ў Нью-Ёрку і былі добра вядомыя беларускім імігрантам, амаль сістэматычна пісалі на гэтую тэму. Добрым прыкладам можа быць вялікі артыкул, надрукаваны ў *«Новом Мире»* 2 сакавіка 1918 года пад загалоўкам «Беларускае пытанне». Аўтар артыкула, як выглядае, быў знаёмы з палітычным абуджэннем беларускае нацыі. Ён станоўча ацэньваў дзейнасць беларускіх сацыялістаў, асабліва ў гарадах, як Менск і Вільня, але зазначаў, што сацыялістычная прапаганда не мае ніякага ўплыву на вёсцы. Аўтар ведаў таксама, што «Наша Доля» і «Наша Ніва» былі неафіцыйнымі органамі Беларускае сацыялістычнае грамады і істотна спрычыніліся да беларускага палітычнага адраджэння. Аднак далей аўтар выказваў спекуляцыі наконт таго, што Нямеччына спрыяе стварэнню незалежнае беларускае дзяржавы, *«як сталася раней з Украінаю и Літвою»*, і што газета «Гоман» мае пранямецкую арыентацыю.

*«Новый Мир»* надрукаваў таксама важную інфармацыйную справаздачу з працы Усебеларускага кангрэса ў Менску ў снежні 1917 года. У ёй гаварылася:

[77] Новая самостойная (?) народность // Свѣтъ. 1908. 23 июля. С.5

[78] З Амэрыкі // Гоман. Вільня. 1916. 17 крас., 16 кастр.; 1918. 9 жн.

[79] Da bratoŭ za morem // Homan. Wilnia. 1916. 27 červ.

[80] Atkrytki ŭ Ameryku // Homan. Wilnia. 1916. 9 červ.; 1917. 16 lut.; Lusia. Maje Dumki // Homan. Wilnia. 1918. 9 žn.



*8 снежня ў Менску адкрыўся Усебеларускі З'езд. У «Минской Газете» знаходзім гэткія падрабязнасці:*

*«Сабралася каля 600 чалавек. Два першыя дні былі занятыя прывітаннямі, якія перапыняліся выклікамі "Няхай жыве Вольная Беларусь!". Аркестр граў Беларускую Марсельезу "Ад веку мы спалі" і беларускія гімны "А хто там ідзе" і "Кроў нашу льюць даўно ўжо каты". Здарыўся на з'ездзе і невялікі скандал: выступіў латыш і, абвесціўшы, што ён бальшавік, крыкнуў: "Кіньце ваш сцяг". Падняліся крыкі абурэння, шум. «Госця» ледзь выправадзілі з залі».*

*Гэты інцыдэнт выклікаў вялікі выбух нацыянальнага захаплення на з'ездзе. Усе паклаліся трымацца сцяга, а генерал Аляксееўскі, стары беларускі дзеяч, пад агульную авацыю цалуе сцяг. Пасля генерала Аляксееўскага на трыбуну выйшаў селянін у сярмязе, якога пасля дэпутаты доўга падкідалі на руках. На з'езд прыйшла дэпутацыя чыгуначнікаў Лібава-Роменскае чыгункі, якая заявіла, што будзе падпарадкоўвацца толькі беларускай уладзе*[81].

Далей газета аналізавала склад удзельнікаў кангрэса і знаёміла з беларускімі лідарамі. У заключэнні было напісана: *«Кангрэс прыняў рэзалюцыю аб тым, што былы будынак Дваранскага сходу ў Менску абвяшчаецца ўласнасцю беларускага народу»*.

Паведамляючы пра аднаўленне беларускае дзяржаўнасці, *«Новый Мир»* пісаў:

*Беларусь са згоды Нямеччыны абвясціла сябе самастойнаю рэспублікаю. Утварыўся кааліцыйны ўрад. Вядуцца перамовы ў справе аб'яднання Беларусі і Літвы, якія разам складуць адну самастойную дзяржаву — пад нямецкім ваенным пратэктаратам*[82].

Інтэрпрэтацыя ў тым духу, што абвяшчэнне незалежнасці Беларусі было інспіраванае немцамі, была тыповаю для рускае прапаганды. Паводле рускіх, усё тое новае, што ўзнікала на руінах Расійскае імперыі, было вынікам нейкае антырасійскае інтрыгі, прыпісванае найперш яўрэям, а ў другую чаргу немцам.

Тым не менш палітычны працэс на Бацькаўшчыне развіваўся далей, і амерыканскі этнічны друк уважліва за ім сачыў. *«Новый Мир»* падаў вестку аб прызнанні Украінаю Беларускае Народнае Рэспублікі[83]; у газеце была змешчаная таксама гутарка з А. Мясніковым, тагачасным ваенным і палітычным кіраўніком Савецкае Беларусі, пра абвяшчэнне Літоўска-Беларускае Савецкае Рэспублікі[84].

Газета *«Русский Голос»* таксама адгукалася на падзеі ў Беларусі. Яна паведамляла пра Усебеларускую палітычную нараду і ўтварэнне Беларускага нацыянальнага камітэта ў сакавіку 1917 года[85].

Нямала інфармацыі пра жыццё імігрантаў-беларусаў друкавалася і ў газеце *«Новое Русское Слово»*[86].

Каментуючы падзеі ў Беларусі, нават русафільская газета «Свет» прызнавала, што нацыянальныя рухі ў Расійскай імперыі не падабаюцца рускім палітычным лідарам, якія абсталяваліся ў Злучаных Штатах.

Інфармацыя і аналітычныя матэрыялы пра беларускі палітычны рух падаваліся і ва ўкраінскіх газетах.

[81] Всебелорусский съезд // Новый Мир. Нью-Йорк. 1918. 5 апр.

[82] Белорусская Республика // Новый Мир. Нью-Йорк. 1918. 27 мая.

[83] Украина признала Белорусскую Республику // Новый Мир. Нью-Йорк. 1918. 6 июня.

[84] Литва и Белоруссия // Новый Мир. Нью-Йорк. 1919. 23 июня, 12 июля.

[85] Русский Голос. Нью-Йорк. 4 июня, 1917. 2 июля.

[86] Папка «Новое Русское Слово» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

Украінскі друк наогул вельмі паслядоўна і стала спрыяў пашырэнню інфармацыі пра беларускі рух, што, бясспрэчна, шмат уплывала на нацыянальнае ўсведамленне беларускіх імігрантаў. У газеце *«Свобода»* часта змяшчаліся матэрыялы з гісторыі, літаратуры, этнаграфіі Беларусі, беларускага грамадска-палітычнага жыцця ў Вільні. 15 красавіка 1909 года *«Свобода»* перадрукавала з «Нашай Нівы» па-беларуску верш Янкі Купалы, прысвечаны Тарасу Шаўчэнку.

*«Свобода»* друкавала рэкамендацыйныя спісы літаратуры пра Беларусь, рэкламавала газету «Наша Ніва», сачыла за беларускім друкам ды друкавала рэцэнзіі на беларускія кнігі. Цалкам натуральна, што газета шчыра падтрымала абвяшчэнне незалежнасці Беларускае Народнае Рэспублікі[87].

Гэтак, галоўным чынам праз друкаванае слова, ідэі беларускае нацыянальнае свядомасці, апрычонасці і дзяржаўнасці перадаваліся беларускім імігрантам у Злучаных Штатах, натхняючы іх на стварэнне нацыянальных арганізацый.

[87] Свобода. Jersey City. 1913. 23 січ.; 1914. 1 вер.; 1915. 25 бер., 24 серп.; 13 квіт., 1916. 13 тр.; 1918. 1 січ , 22 січ., 6 квіт.; 20 тр., 1919. 13 лист.; 1920. 11 лист.

# УЗНІКНЕННЕ І РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

## Пачаткі

Праўдападобна, што ўпершыню пытанне пра стварэнне беларускае арганізацыі было пастаўленае Аляксандрам Сянкевічам і ягонымі сябрамі ў Балтымары ў 1910–1912 гадах. І сапраўды, як прыгадвае адзін са сведкаў, у Балтымары сабралася невялічкае кола беларусаў, аднак яны былі згуртаваныя больш на сацыяльна-этнічных падставах, чым на палітычных. І хоць Аляксандр Сянкевіч вельмі добра ўяўляў неабходнасць беларускае арганізацыі, у ягонай дзейнасці ўзялі перавагу ідэі больш шырокіх маштабаў, ён поўнасцю ўцягнуўся ў анархісцкі рух і быў страчаны для беларускае справы ў Злучаных Штатах[1].

Захавалася публікацыя, якая сведчыць, што ў Вісконсіне ў 1912–1914 гадах існавала беларуска-ўкраінская страхавая арганізацыя[2].

Азнакі беларускае асобнасці і патрэбаў арганізавання выявіліся ў парафіі Св. Тройцы Рускае праваслаўнае царквы на Левіт стрыт у Чыкага ў 1912 годзе. Там значная група парафіянаў пасварылася са святаром, які абвінаваціў іх у прысваенні велікодных збораў. У выніку канфрантацыі святар сваёю ўладаю выгнаў іх з парафіі. Большасць з выгнаных былі з Гарадзенскае, Віленскае і Менскае губерняў. Некаторыя з іх былі пісьменнымі і свядомымі беларусамі, колькі чалавек былі падпісчыкамі «Нашае Нівы»[3]. Макар Аблажэй, які асабіста быў знаёмы з некаторымі выгнанымі, паведаміў аўтару, што нехта з іх хацеў заснаваць тады Беларускае брацтва, але не было зусім інтэлектуальных лідараў, якія б выступілі з сепаратысцкаю ініцыятываю ў этнічным рэчышчы[4].

У выніку большасць выгнаных вырашыла арганізаваць новую рускую праваслаўную парафію. Гэтая ідэя перамагла, і ў 1912–1913 гадах была заснаваная парафія св. Юр’я на Вуд стрыт[5]. Больш таго, гэтая група беларусаў, адчуваючы маральнае задавальненне з таго, што яны вярнуліся ў прызнаную праваслаўную юрысдыкцыю, узмоцнілі свае намаганні ды сфармавалі ядро арганізацыі ўзаемадапамогі, Праваслаўнае таварыства, якое пазней дало пачатак Рускаму незалежнаму таварыству ўзаемадапамогі[6]. І хоць гэтая спроба стварыць беларускую

[1] Гутарка аўтара з А. Сакадынскім і іншымі беларускімі імігрантамі. Балтымар, 1957.

[2] Устав Товарищества Белоруссов и Малороссов. Grand Rapids (MI), 1914; Белорусская Трибуна. Чикаго. 1928. № 2.

[3] Chicago Public Library. Microfilm Archives. Reels 61, 62; memoirs of Konstantin Ermolik. Sections IID 1; III c, 1 c.

[4] Гутарка аўтара з Макарам Аблажэем. Чыкага, 1961.

[5] The Orthodox Church of America. Archives. Syosset (NY). Chicago churches: file.

[6] Chicago Public Library. Microfilm Archives. Project III B 4, Krasnov Scrapbooks. Vol. l; Russian National Almanac, 1929. Reels 61,62.

арганізацыю скончылася няўдачаю, а энергія тых беларускіх імігрантаў скіравалася ў «рускае» рэчышча, беларуская этнічная свядомасць выявілася ў спрэчках аб выбары шляху.

Вядомая справа, што закалот-аддзяленне групы беларускіх вернікаў ад парафіі на Левіт стрыт і заснаванне новай царквы на Вуд стрыт шырока абмяркоўвалася сярод вернікаў-«краянаў» — гарадзенскіх, віленскіх, менскіх. Напамінаў пра гэтае здарэнне было багата ў друку, а некаторыя парафіяне памяталі пра закалот і ў 1960-х[7]. Мы не выключаем і такога павароту справы, што адным з вынікам шырокага розгаласу пра канфлікт у царкве, у аснове якога ляжалі беларускія пачуцці-інтарэсы (парафіяне — беларусы, святар — рускі-русафіл), у Чыкага ў 1916 годзе была пастаўленая п'еса «Літва», створаная на беларускім матэрыяле пачынальнікамі брытанскай беларусістыкі[8]. Дарэчы, дзясятак гадоў пазней у Чыкага запачаткаваўся амерыканска-беларускі тэатр[9]. Прыпушчальна, што і праз пастаноўку «Літвы» ў 1916 годзе і праз тэатральна-эстрадныя выступы ў 1926—1930-я гады ў горадзе кіраўнікі паказаў мелі на думцы абудзіць беларускія пачуцці ў гледача, пачаць беларускія арганізацыі.

Азнакі асобнае беларускае свядомасці выяўляліся і ў іншых парафіях Чыкага: беларускія пачуцці выказваліся ў праваслаўнай царкве св. Міхаіла, дзе святар, архімандрыт Цімон, паходзіў з Беларусі, а таксама ў некаторых евангеліцкіх кангрэгацыях[10]. Выглядае, што атмасфера ў Чыкага спрыяла ўзнікненню беларускіх арганізацый, што і сталася праз колькі гадоў, на пачатку 1920-х[11].

Планы заснавання прагрэсіўнага беларускага клуба сацыялістычнае арыентацыі абмяркоўваліся групаю беларусаў, што збіраліся ў рэстаране «Свабода» ў Брукліне, уладальнікам якога быў свядомы адукаваны беларус Сцяпан Бубешка. Гэтая задума, на жаль, не была зрэалізаваная, аднак у 1918—1919 гадах быў заснаваны прагрэсіўны «славянскі» клуб, у кіраўніцтве якога было нямала беларусаў[12].

У друку паведамлялася, што імігранты з Віленскае, Менскае і Гарадзенскае губерняў заснавалі Незалежнае брацтва ў Ліндэне, прадмесці Кліўленда, у 1918 годзе[13].

[7] Гутарка аўтара з Макарам Аблажэем і Васілём Каўтуном. Чыкага, 1961.

[8] Гардзіенка, Н. Беларуска-брытанскія сувязі ў першай палове XX ст. // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе: Зборнік да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса. Мінск, 2007. С. 419.

[9] Kipel, V.; Kipel, Z. Byelorussian-American Theatre // Seller, M. Ethnic theatre in the United States. Westport (CT), 1983. P. 93.

[10] Archimandrite Timon: Under the Shield of Faith. 25th Anniversary of St. Michael`s Russian Orthodox Church of Chicago, 1909—1934; Гутаркі аўтара з былымі парафіянамі царквы Св. Міхаіла, 1961, 1967.

[11] Chicago Public Library. Microfilms Archives. Reels 61, 62.

[12] Гутарка аўтара з Адамам Ясноўскім, беларускім імігрантам у Нью-Ёрку з 1909 года, які добра ведаў С. Бубешку; Новый Мир. Нью-Йорк. 1915. 24 мая; Юбилейный Сборник Славянского Общества 1918—1928. Нью-Йорк, 1928. С. 5—15, 54—56.

[13] Сечко, Н. Из жизни русской колонии // Русский Голос. Нью-Йорк. 1929. 11 апр.



## Стварэнне беларускіх нацыянальных арганізацый. Дзейнасць БНР

Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі, абвяшчэнне БНР у 1918 годзе, стварэнне БССР, абвяшчэнне незалежнасці Польшчаю і балтыйскімі дзяржавамі ды рост увагі да «беларускага пытання» ў амерыканскім друку — усе гэтыя падзеі мелі значны ўплыў на беларускіх імігрантаў у Злучаных Штатах: яны давалі стымул да абуджэння нацыянальнае свядомасці і актывізавалі беларусаў як самастойную групу.

Варта заўважыць, што Рада БНР, якая ў 1918 годзе распачала актыўную палітычную дзейнасць, сярод іншага звярнулася і да прэзідэнта ЗША з просьбай аб дапамозе ў забеспячэнні Беларусі яе статусу незалежнай дзяржавы. Зварот ад 22 кастрычніка 1918 года падпісалі старшыня Рады Язэп Лёсік, намеснік старшыні Аркадзь Смоліч, сакратар Пётра Крэчэўскі. На жаль, у звароце нічога не згадвалася пра сотні тысяч беларусаў, якія на той час жылі ў ЗША[14]. Магчыма, каб гэты факт быў тады зафіксаваны Радай БНР, была б і рэальная рэакцыя з боку ЗША.

Прыкладам беларускага ўдзелу ў палітычнай дзейнасці таго перыяду можа служыць рэзалюцыя, прынятая на сходзе ў Сэнт-Луісе, штат Місуры. У ёй было сказана:

*Мы, былыя грамадзяне Беларусі, Украіны і Літвы, на сходзе, які сабраўся ў New Club на рагу 13-й стрыт і Шуто авеню ў нядзелю 16 траўня 1920 года, пасля стараннага і падрабязнага абмеркавання цяперашняе сітуацыі ў вышэй названых краінах, прынялі гэткія рэзалюцыі: З увагі на тое, што пасля належнага разгляду дзеянняў Мірнае канферэнцыі аліянтаў у Версалі, Францыя, у 1919 годзе, якая аддала лёс народаў Украіны, Беларусі і Літвы ў рукі іх спрадвечнага ворага, Польшчы, мы лічым гэтыя дзеянні Мірнае канферэнцыі несправядлівымі, асабліва беручы пад увагу тое, што Польшча доўгія гады прыгнятала народы названых краінаў, эксплуатавала іхныя прыродныя багацці і спрычыняла ім надзвычайнае прыніжэнне пад сваім барбарынскім ярмом.*

*Цяпер, калі тысячы лепшых сыноў кожнае з трох краінаў ахвяравалі сваё здароўе, шчасце і нават жыццё ў Сусветнай вайне дзеля бяспекі ў свеце, справядлівасці і дэмакратыі, названая вышэй Мірная канферэнцыя аліянтаў паспрыяла паўтарэнню гістарычнае несправядлівасці, аддаўшы Польшчы мандат на кіраванне народамі згаданых краінаў на тэрмін дваццаць пяць гадоў.*

*І з увагі на тое, што кожнае падобнае дзеянне з боку Мірнае канферэнцыі выклікае абурэнне кожнага свабадалюбнага народу, мы просім Урад Злучаных Штатаў і Саюзных дзяржаваў адклікаць дадзены Польшчы мандат на падставе таго, што ён пярэчыць прызнаным прынцыпам права кожнага народу на самавызначэнне;*

*Мы патрабуем, каб Польшча спыніла ваенныя дзеянні на няпольскіх абшарах;*

*Мы патрабуем, каб Урад Злучаных Штатаў спыніў пастачанне Польшчы ўзбраення і ваеннае тэхнікі;*

*Мы патрабуем, каб наш Урад не падтрымваў Польшчу вайскоўцамі;*

*Мы патрабуем, каб у гэтым выпадку быў прыменены прынцып самавызначэння і каб гэтым народам было дадзенае неад'емнае права свабодных людзей вырашаць і выбіраць, са згодаю ўрада, сваю ўласную форму ўрада. І, нарэшце, мы злучаем нашыя галасы*

[14] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі (далей — Архівы БНР). Т. І. Кн. 1. Вільня — Нью Ёрк — Менск — Прага, 1998. С. 284. № 1095.

*ў пратэсце супраць ганебных дзеянняў імперыялістычнае Польшчы з галасамі нашых няшчасных землякоў і братоў ва Украіне, Беларусі і Літве*[15].

Тэкст рэзалюцыі быў высланы прэзідэнту Вудра Вільсану, віцэ-прэзідэнту, дзяржсакратару ды некалькім іншым амерыканскім палітыкам.

Беларусы ўдзельнічалі ў палітычных мітынгах у Балтымары, Чыкага, Пітсбургу і Дэтройце ды збіраліся браць удзел ва ўкраінска-літоўскім мітынгу ў Нью-Ёрку[16].

Такім чынам, натуральна, што ідэя заснавання сваіх арганізацый выспявала сярод беларусаў, і паступова яны сфармаваліся.

Беларускія лідары зрабілі захады з мэтаю заснаваць беларускую арганізацыю на тэрыторыі Нью-Ёрка і ваколіцаў увосень 1920 года[17]. Аднак першы сход актыву адбыўся толькі ўвесну 1921 года — 2 сакавіка, на ім быў абраны арганізацыйны камітэт. Былі складзеныя планы склікання больш шырокай сустрэчы з удзелам беларусаў з Манхэтэна, Квінса, Брукліна ды некаторых узбярэжных гарадоў Нью-Джэрсі. Была ўхваленая публікацыя бюлетэня. Першы масавы сход беларусаў з Нью-Ёрка і ваколіцаў адбыўся ў Нью-Ёрку 6 траўня 1921 года. На той час арганізацыя была ўжо фармальна заснаваная і насіла назоў Беларускі нацыянальны камітэт ды мела адрас: 63 Парк Роў, Нью-Ёрк. Той самы адрас мела і другая арганізацыя — Беларускае прэсавае бюро, якая ўзнікла, відаць, у тым самым часе[18]. Прэсавае бюро пачало выдаваць «Бюлетэнь» (*«Bulletin of the White Russian Press Bureau in USA, 63 Park Row, New York»*). У рэдакцыйным артыкуле першага нумара «Бюлетэня» падаваліся наступныя мэты беларускае арганізацыі:

*1. Інфармаваць амерыканскае, беларускае і рускае грамадства з тымі падзеямі, што адбываюцца ў Беларусі, якая вядзе змаганне за сваю незалежнасць.*
*2. Дапамагаць Беларусі маральна і матэрыяльна.*
*3. Пашыраць сярод выхадцаў з Беларусі газеты і кнігі ў беларускай мове, а таксама іншыя выданні.*
*4. Ладзіць лекцыі, даклады і рэфераты па беларускіх пытаннях.*
*5. Бараніць незалежнасць і непадзельнасць Беларусі і пераход зямлі і ўлады ў рукі народа*[19].

Прэсавае бюро сталася дзейным асяродкам беларускага слова, тут можна было пазычаць кнігі і набываць беларускамоўныя газеты. Бюро таксама кансультавала Нью-Ёркскую публічную бібліятэку ў справе падпіскі на беларускія выданні[20].

Асобная беларуская арганізацыя ўзнікла таксама ў Браўнсвіле (Бруклін), у яе кіраўніцтва ўваходзілі Гайдук, Гомза, Крывулька, Зварыка і Бубешка[21].

---

15 Свобода. Jersey City. 1920. 27 тр.

16 Свобода. Jersey City. 1919. 20 тр.; Гутаркі аўтара з Іванам Петуковічам у Балтымары, травень 1958, і Іванам Пашуком у Чыкага, чэрвень 1968.

17 Гутарка аўтара з Антонам Цярэшчанкам, беларускім імігрантам, жыхаром Нью-Ёрка ад 1920 года.

18 Зінук, М. Беларусы ў Амэрыцы // Раніца. Бэрлін. 1940. № 14/15; Гутарка з Антонам Цярэшчанкам.

19 Цытуецца паводле: Раніца. Бэрлін. 1940. № 14/15. Таксама: Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. С. 1127. № 2797.

20 Гутаркі аўтара з працаўнікамі славянскага аддзела Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі — А. Ярмалінскім, Л. Каварскай і Р. Яхніной; Русский Голос. Нью-Йорк. 1928. 29 янв.

21 Беларускі Каляндар на 1922 год. Вільня, 1921. С. 77; Сялянская Доля. Коўна. 1921. № 4. С. 16–17.



Беларускія арганізацыі ў Нью-Ёрку дзеялі некалькі гадоў, але калі Сцяпан Бубешка быў пераведзены кампаніяй на іншую працу за межамі Злучаных Штатаў, ягоны наступнік Мікола Гайдук не выявіў гэткае ж заўзятасці ў беларускай дзейнасці, і праца арганізацыі прыпынілася[22].

За прыкладам Нью-Ёрка беларускія арганізацыі пачалі стварацца ў штатах Нью-Джэрсі і Ілінойс.

Беларусы пачалі арганізоўвацца ў Саўт-Эмбоі, штат Нью-Джэрсі, у 1921 годзе. Вось паведамленне, пададзенае ў беларускім друку:

*Беларусы, якія тут ужо даўно жывуць, уперад належалі звычайна да расійскіх ці польскіх арганізацый, цяпер пераканаліся ў патрэбнасці стварэння сваёй нацыянальнай арганізацыі, якая аб'яднала бы ўсіх беларусаў і дапамагла бы беларускім установам на Бацькаўшчыне ў барацьбе за лепшую долю нашага Сялянскага Народу. Нашыя рабочыя свядома, з пункту гледжання сваей клясы, падходзяць да нацыянальнага пытання. Мы перасталі бадзяцца па задворках чужых нацый і цвёрда парашылі будаваць сваю культуру сваімі рукамі. Гурток наш пакуль што невялічкі, але ўжо маемо 30 сяброў, якія гатовы жыццё аддаць за Вызваленне Беларусі. Шлем нашае братэрскае прывітанне ўсім тым, хто ідзе нашым шляхам там на Беларусі*[23].

Арганізацыя ў Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі, налічвала каля 125 сябраў і пасылала свайго прадстаўніка на беларускі з'езд у Чыкага[24].

Падобныя арганізацыі былі створаныя ў Пасейку і Гарфілдзе, штат Нью-Джэрсі.

Група ў Пасейку нейкі час была актыўная, свае сходы яна праводзіла ў Доме рускіх народаў каля Маркет стрыт, на 3-й вуліцы[25].

Невялічкая група беларусаў стварыла арганізацыю ў Ньюарку, штат Нью-Джэрсі, сябры гэтае арганізацыі ўдзельнічалі ў палітычных сходах, прысвечаных падзеям у Заходняй Беларусі, і сустракаліся з Мікітам Шапавалам[26].

Беларускія арганізацыі былі таксама заснаваныя ў Пітсбургу, штат Пенсільванія, Грэнд-Рэпідсе і Дэтройце, штат Мічыган[27].

Такім чынам, на пачатку 1920-х гадоў у розных штатах і гарадах існавала каля тузіна малых беларускіх арганізацый. На жаль, пражылі яны нядоўга праз нястачу лідараў, малую колькасць нацыянальна свядомых сяброў, а найбольш праз шырокую дзейнасць пракамуністычных і прарасійскіх груповак беларусаў, якія шкодзілі беларускім арганізацыям у Злучаных Штатах у часе іх фармавання.

Але ў дапамогу беларускаму арганізацыйнаму жыццю ў ЗША падключылася Рада БНР. Ад Урада БНР быў высланы спецыяльны мемарандум *«да Высокай Канфэрэнцыі Вялікіх Дзяржаваў у Вашынгтоне»* (1921–1922), у якім асвятлялася палітычная гісторыя і сучаснае становішча Беларусі ў сувязі з падзеямі Першай сусветнай вайны і Рыжскай дамовай[28]. Была наладжаная таксама лістоўная сувязь

---

22 Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. С. 1211–1213. № 2954.

23 Крывіч. Коўна. 1923. № 2. С. 63; Наш Сьцяг. Вільня. 1923. № 18. С. 4.

24 Наш Шлях. Вільня. 1923. № 20. С. 4.

25 Гутаркі аўтара з Васілём Коськам у Пасейку, 1958.

26 The New York Public Library (NY). *QGA-73-3975. P. 9. 1927. № 2; Архівний Фонд Микити Шаповала; Гутаркі аўтара з Міронам Леськівым, Ньюарк, 1972–1980.

27 Новае Жыццё. Вільня. 1923. 1 тр.; Сын Беларуса. Вільня. 1924. 29 жн.; Беларускі Студэнт. Прага. 1923. № 2–3. С. 23.

28 Архівы БНР. Т. 1. Кн. 2. С. 1245–1249. № 3027.

з дзеячамі БНР. Пра гэта сведчыць і Кастусь Езавітаў, і лідары беларускай амерыканскай грамады: Сцяпан Бубешка, Мікола Гайдук, Міхал Зварыка. Дзеячы БНР дапамагалі матэрыяламі, пісалі артыкулы ў амерыканскія газеты, запланавалі прысылаць беларускіх дзеячаў у ЗША[29].

А вось пару вытрымак з лістоў:

Сцяпан Бубешка піша Міколу Вяршыніну 3 сакавіка 1921 года:

*Получив от Вас письмо с приложением воззвания «Ко всем», которое удалось после некоторых хлопот напечатать в «Новом Русском Слове», за что благодарен... Собралось нас около 10–15 человек Белорусов, которые могли-бы выступить открыто с воззванием к колонии, но думаем, что ещё не время, да и не имеется достаточно под рукой материалов. Нужны документы. Не лишним будет заметить, что Русская колония состоит целиком или почти что исключительно из выходцев Белорусских губерний... есть огромное непочатое поле деятельности*[30].

Ліст Сцяпана Бубешкі да Кастуся Езавітава ад 3 сакавіка 1921 года:

*...проще говоря, все «русские» организации, как политические, просветительные и экономические, состоят почти исключительно из выходцев Белоруссии... А теперь, пока мы организовываемся, Вы присылайте нам побольше материалов... ибо мы желаем выступить открыто с обращением к Американскому общественному мнению, а для этого нужен материал. Думаю, что у нас скоро что нибудь выйдет в смысле организованном...*[31].

Сам Сцяпан Бубешка прапагандаваў беларускую справу як мог: пісаў у газеты, выступаў на іншанацыянальных сходах. Пішучы ў Прэсавае бюро БНР у Коўне, ён зазначыў: *«Отвечайте по-белорусски»*[32].

Вядомая справа, што лідары БНР добра разумелі важнасць мець дачыненні, саюзніка ў вялізнай грамадзе амерыкана-беларускіх эмігрантаў, і таму замацоўвалі з імі кантакты.

Прэзідэнт Рады БНР Пётра Крэчэўскі звярнуўся да беларускіх эмігрантаў у ЗША з адмысловай адозваю і прысвяціў ім верш:

*Пара сынам і на чужыне*
*Злажыць хоць трохі грошы тым,*
*Хто ў бойцы за свабоду гіне*
*Па турмам польскім і другім.*
*Пара злажыць фонд «Вызваленьня»*
*Газэты трэба выдаваць*
*Ніхай да волі ў вас імкненьня*
*Паможа нам на ногі ўстаць.*
*Чаму-ж вялікай грамадою*
*Раскінуўшысь усюль па Штатам*
*Мы не клапоцімось нудой,*
*Пануе што па нашым хатам.*
*Амэрыканскі беларус.*
*Скажы, ты жыў, і волю любіш. —*
*Так я свабодаю завусь,*

[29] Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. №№ 2528, 2667, 2676, 2918, 3206, 3278.
[30] Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. С. 1039–1040. № 2652. Правапіс арыгінала захаваны.
[31] Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. С. 1040–1041. № 2653. Правапіс арыгінала захаваны.
[32] Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. С. 1055–1056. № 2685.



*Мяне напэўна ты не згубіш.*
*Зьбірай патроху, памагай,*
*Рабі ўсё так, як робяць людзі,*
*Хутчэй тады настане рай*
*І адпачынуць рукі, грудзі...*[33].

Важны — дзяржаўнага ўзроўню — і гэткі дакумент за подпісамі Пётры Крэчэўскага, Аляксандра Цвікевіча, Язэпа Варонкі, Васіля Захаркі ды іншых:

*Урад БНР павінен быць тым звяном, што яднае Беларускую эміграцыю з Бацькаўшчынай. Роля эміграцыі для нашага адраджэння вельмі пачэсная, прычым першая роля безварункава належыць беларускай эміграцыі Амерыкі і Канады. Браты нашы ў далёкай заакеанскай краіне не забылі, мы пэўны, сваёй многапакутнай Бацькаўшчыны і чакаюць спосабу прыйсці ёй у сумную гадзіну на помач. Урад БНР пасылае да амерыканскай эміграцыі свайго паўнамоцнага прадстаўніка і чакае ад яе споўнення сваіх грамадскіх абавязкаў*[34].

Прыпушчаю, што ў колах БНР добра разумелі, што каб поўнасцю накіраваць на нацыянальныя рэйкі арганізацыйны рух беларускай эміграцыі ў ЗША, фактычна маласвядомае ў беларускасці масы былых віленскіх, менскіх землякоў, патрэбныя не толькі «тэарэтычная» падтрымка (інфармацыйныя матэрыялы, лісты), але і на месцы выробленыя нацыянальныя дзеячы, лідары з руху БНР. Так, у лісце да Антона Луцкевіча Янка Чарапук пісаў:

*Не адкладывайце доўга, а зараз жа пашлеце дзве місіі ў Англію, асабліва зноў у Амерыку. Не трэба вялікай, а даволі кожнай у складзе 2-х чалавек. Пры гэтым, што датычыцца Амерыкі, то я сам падняўся, каб быць Сакратаром нашай Місіі. У мяне там ёсць вельмі многа знаёмых, адзін наш беларус Сукрановіч, з якім я і цяпер маю зносіны. Кошт Місіі ў Амерыцы, я думаю, аплаціўся бы па той прычыне, што калі там зарганізаваць Консульства і пачаць выдаваць пашпарты ўсім тым, якія захочуць ехаць на Бацькаўшчыну, — то гэта была-бы карысць для нас. Таксама можна было бы стварыць Нацыянальнае Рады і звярнуцца з прызывам ахвяраваць на Нацыянальны Скарб Беларусі, апроч таго паралельна вясці дыпламатычную працу*[35].

Рада БНР планавала пасласць у ЗША больш сваіх прадстаўнікоў, як пісаў Янка Станкевіч, «пасылаць дзеячоў, а не звычайных рабачаёў, аджыць у ЗША “Дэлегатуру БНР”[36], але з фінансавых праблемаў зрабіць такое не ўдалося.

Некалькі фактараў спрыялі беларусам у Чыкага. Па-першае, беларускія дзеячы, якія імкнуліся стварыць беларускія арганізацыі, ведалі, што для жыццёвасці такіх арганізацый было патрэбнае моцнае беларускае кіраўніцтва; па-другое, актыўная прапагандная кампанія за стварэнне беларускіх арганізацый не павінна была абмяжоўвацца толькі горадам Чыкага і ваколіцамі, трэба было шырыць намаганні ў суседніх штатах і індустрыяльных гарадах. Вялізнае станоўчае значэнне мела тое, што беларускія лідары ў Еўропе змянілі сваё стаўленне да амерыканскіх беларусаў. Узнікла разуменне таго, што супрацоўніцтва паміж беларусамі з абодвух бакоў акіяна будзе мець плён для беларускае справы. Адным з першых

[33] Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. С. 1265. № 3086. Правапіс арыгінала захаваны. Гл. таксама: Беларус. Нью-Ёрк. 1994. № 417.
[34] Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. С. 1434–1438. № 3452.
[35] Архівы БНР. Т. I. Кн. 1. С. 503–504. № 1495.
[36] Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. С. 1404–1405. № 3412.

беларускіх лідараў прыехаў у Злучаныя Штаты Антон Чарапук. Ён, а разам з ім В. Трафімовіч і П. Чопка склікалі першыя арганізацыйныя сходы беларусаў у Чыкага ў 1920 годзе[37]. Вялікі беларускі мітынг быў арганізаваны восенню 1921 года, пра што напісала і газета ў Нью-Ёрку *«Новое Русское Слово»* 30 лістапада 1921 года[38]. Была заснаваная новая беларуская арганізацыя пад назовам Беларускі нацыянальны камітэт. Быў сфармаваны арганізацыйны камітэт, які ўзяўся сфармуляваць мэты арганізацыі і выступіць перад грамадскасцю, каб ператварыць камітэт у масавую арганізацыю. Камітэт выдаў колькі прэсавых паведамленняў і мемарандумаў, скантактаваўся з патэнцыйнымі лідарамі ды правёў важную працу ў прапагандзе новае беларускае арганізацыі. З увагі на тое, што праца камітэта мела разнастайны характар і была палітычна арыентаваная, кіраўніцтва пастанавіла ператварыць аргкамітэт у новую арганізацыю пад назовам Камітэт абароны Беларусі, які выдаў таксама «Адозву», тым часам як Беларускі нацыянальны камітэт дзеіў згодна з сваёю праграмаю, маючы на мэце гуртаваць беларусаў Чыкага[39]. Беларускі нацыянальны камітэт навязаў цесную лучнасць з беларускім палітычным кіраўніцтвам у розных асяродках Заходняе Еўропы і выказаў думку пра пераезд колькіх беларускіх дзеячаў у Злучаныя Штаты. Гэта была слушная ідэя, спрыяльны быў і час. Беларускія палітычныя лідары, маючы статус эмігрантаў, шмат маглі б зрабіць для беларускае справы, пераехаўшы ў Злучаныя Штаты і прыклаўшы свае таленты там.

Найбольш радыкальна змяніў свае погляды на беларусаў у Амерыцы Вацлаў Ластоўскі, які напачатку варожа ставіўся да ідэі эміграцыі, як відаць з яго шматлікіх публікацый з перадваеннага і ваеннага часу, у 1922 годзе пісаў ужо ў больш прыязным тоне. Ён разумеў важнасць навязання дзейных кантактаў з беларускімі імігрантамі ў Амерыцы, як можна меркаваць з артыкула ў «Беларускім Сьцягу», што выходзіў у Коўне. У ім Ластоўскі прапанаваў паставіць на парадак дня пытанне аб пасланні беларускае дэлегацыі ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Ён пісаў, што справа гэтая набалелая і цягнецца без выніку ўжо даўно. Падкрэсліваючы важнасць навязання кантактаў з амерыканскімі беларусамі, як зрабілі літоўцы або ўкраінцы, ён зазначаў, што гэтыя кантакты маглі б адыграць важную ролю ў адраджэнні Беларусі, асабліва ў эканамічнай галіне. Так, Вацлаў Ластоўскі, пішучы да аднаго з беларуска-амерыканскіх лідараў у Нью-Ёрку Міхала Зварыкі, прапанаваў арганізаваць на амерыканскія грошы (грошы беларуска-амерыканскіх прадпрымальнікаў) друкарскае прадпрыемства ў Беларусі, якое давала б даход амерыканцам, а друкавала б беларускія кніжкі, *«якія на Беларусі патрэбныя, а іх няма»*[40]. Падсумоўваючы, дзеяч пісаў, што, калі б еўрапейскія беларусы здолелі ўсталяваць дзейныя кантакты з амерыканскімі беларусамі і калі б тыя прысылалі на палітычныя нарады сваіх прадстаўнікоў, гэта было б значным дасягненнем і зарукаю развіцця добрых дачыненняў на будучыню[41].

---

[37] Skaryna Byelorussian Library and Archives. London. Tarasevich's File; Chicago Public Library. Microfilm Archives. WPA Project. Krasnov's Scrapbooks; Новае Жыцьцё. Вільня. 1923. 1 тр.; Наша Ніва. Вільня. 1910. № 8.

[38] Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. С. 1250. № 3034.

[39] Chicago Public Library. Microfilm Archives. Project III, B-4; III B-2; Сялянская Доля. Коўна. 1921. № 4. С. 17–18; Беларус. Нью-Ёрк. 1966. № 114.

[40] Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. С. 1232–1233. № 2993.

[41] Яцьвяг, I. Заданьня чароднай нарады // Беларускі Сьцяг. Коўна. 1922. № 4. С. 6–10.






Старонкі БНРаўскага пашпарта Янкі Чарапука.
Арыгінал захоўваецца ў Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане

Патрэбна таксама падкрэсліць, што Вацлаў Ластоўскі своечасова і разумна аналізаваў і інфармаваў літоўскі ўрад пра небяспечную прапаганду бальшавізму Масквой праз беларускія амерыканскія арганізацыі[42].

Блізкае палітычнае супрацоўніцтва беларусаў у дыяспары набыло выразныя абрысы, калі ў 1922 годзе ў Злучаныя Штаты ў якасці прадстаўніка Міністэрства замежных спраў Рады БНР прыехаў Янка Чарапук Антонаў сын[43].

Янка Чарапук кароткі час прабыў у Нью-Ёрку, пасля паехаў у штат Вісконсін і нарэшце пасяліўся ў Чыкага. Прыбыўшы ў Чыкага ў 1922 годзе, ён цалкам аддаўся беларускай дзейнасці. Ягоная ўвага засяроджвалася на пашырэнні сяброўства Беларускага нацыянальнага камітэта, ён падзяляў ідэю склікання масавага з'езда беларусаў у Чыкага і актыўна ўлучыўся ў працу па ягонай падрыхтоўцы. Выглядае, што на просьбу Чарапука ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі пастанавіў паслаць у Злучаныя Штаты яшчэ аднаго палітычнага лідара (разглядалася кандыдатура Палуты Бадуновай[44]). Янку Чарапуку было таксама выдадзенае паўнамоцтва прадстаўляць іншую беларускую палітычную арганізацыю — Беларускую нацыянальную сувязь. Яшчэ адзін дакумент, падпісаны Пётрам Крэчэўскім,

---

[42] Голас Радзімы. Мінск. 1993. 19 жн.

[43] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1957. № 51–52; Папка Івана Чарапука ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Лісты Янкі Чарапука з Амэрыкі // Запісы БІНіМ. № 21. Нью-Ёрк, 1994. С. 125–137; Горны, А. «Ідзём усё ўпярод і упярод...»: Ліставаньне амэрыканскіх беларусаў з Радай БНР у 1923 г. // Запісы БІНіМ. № 40. Нью-Ёрк — Менск, 2018. С. 273–282.

[44] Грыб, Т. Выбранае. Мінск, 2017. С. 350, 357.

паказвае, наколькі беларускія лідары ў Еўропе былі зацікаўленыя беларускаю дзейнасцю ў Злучаных Штатах.

*Згодна Вашым лістам, гатуемся да высылкі дэлегата на кангрэс у Чыкаго, якім пэўна будзе Я. Варонко*[45].

*Даклады Міністар Заграмічных спраў А. Цвікевіч — аб палітычным становішчы ўнутры і заграніцай — хутка Вам перашле, а таксама і мемарандум у Вашынгтон.*

Праграма чыкагскага з'езда мелася закранаць такія пытанні:

*1. Арганізацыя на месцах (аблічэнне беларусаў ва ўсёй Амерыцы і Канадзі і ўтварэнне ўсюды беларускіх Камітэтаў);*
*2. Барацьба з эксплёатацыяй беларускіх эміграньтаў і ўтварэнне беларускага Бюро Працы ў мейсцу высадкі эміграньтаў і транзітнага ў Гамбургу ці ў Брэмену;*
*3. Самааблажэнне і помач бацькаўшчыні — як афярамі, так і Дзяржаўнай пазыкай (план прыкладаю);*
*4. Адносіны да Беларускай Народнай Рэспублікі і да Савецкай Беларусі;*
*5. Адносіны да акупацыі Усходняй Беларусі Масквою і Заходняй — Польшчаю;*
*6. Вызначэнне Усходніх граніц Польшчы 14 сакавіка 1923 г. і гвалт польскіх Уладаў над Беларусамі;*
*7. Аб'яднанне і падпарадкаванне усіх арганізацый Цэнтру — Урада БНР, які з'яўляецца адказным за палітыку — як на месцох, так і заграніцай;*
*8. Выбары Цэнтральнага Камітэту для Амерыкі і Канады.*


Язэп Варонка. Чыкага, 1931 г.

У далейшым прэзідэнт Крэчэўскі выказаў свае погляды на беларускі палітычны рух і яго жыццяздольнасць ды прапанаваў змясціць у амерыканскім друку адозвы Рады БНР. Подпіс: *«Прага, 23 ліпеня 1923 года. Старшыня Рады БНР і Дзяржаўнай Калегіі П. Крэчэўскі»*[46].

Дата склікання з'езда была прымеркаваная да прыбыцця Язэпа Варонкі. Ягоны прыезд у Чыкага шырока рэкламаваўся. Былі выдадзеныя адмысловыя паведамленні па-беларуску, па-руску і па-англійску. Абвесткі аб мерапрыемстве падаваліся таксама па-беларуску ва ўкраінскай газеце *«Свобода»*[47].

Шырокая інфармацыя аб з'ездзе 1 верасня 1923 года і з'яўленне на сцэне новае асобы забяспечылі ягоны поспех. Паводле шматлікіх сведкаў, гэтае масавае мерапрыемства сабрала беларусаў не толькі з розных раёнаў і парафій Чыкага і ваколіцаў, былі на ім і дэлегацыі з Кеношы (штат Вісконсін), Кліўленда (штат Агаё), Геры (штат Індыяна), Грэнд-Рэпідса і Дэтройта (штат Мічыган), а таксама з штатаў Нью-Джэрсі і Нью-Ёрк[48]. У выніку працаў з'езда была створаная новая арганізацыя — Беларуска-амерыканская нацыянальная асацыяцыя з кіраўніцтвам у складзе: Язэп Варонка, старшыня; Макар Аблажэй, скарбнік; Янка Чарапук, старшыня рэвізійнае камісіі; Павал Чопка і В. Трафімовіч, сябры камісіі. З'езд таксама вызначыў і ўхваліў наступныя мэты новае арганізацыі:

*1. Пашыраць нацыянальную свядомасць сярод беларускіх іміграньтаў у Новым Свеце.*
*2. Падтрымоўваць адраджэнне беларускага народа і Беларускую Нацыянальную Дзяржаву.*
*3. Абараняць правы беларускага народа на вышэй названых прынцыпах.*
*4. Распачаць, развіваць і весці культурна-асветную працу сярод беларускіх іміграньтаў рознымі сродкамі, улучна з адчыненнем школак, бібліятэк і чытаннем лекцый.*
*5. Аказваць палітычную, культурную і эканамічную дапамогу бацькаўшчыне*[49].

Арганізацыйныя здольнасці Чарапука і ўдзел у з'ездзе Варонкі зрабілі на ўдзельнікаў вельмі канструктыўны ўплыў і заахвоцілі тых да далейшае дзейнасці. Абранае з'ездам кіраўніцтва і шматлікія актывісты былі гатовыя распачаць шырокую беларускую працу ў Злучаных Штатах. Разам з тым яны добра разумелі, што іхная задача будзе няпростая. Перад імі стаялі велізарныя праблемы, як, прыкладам, недастатковае прызнанне беларускае этнічнае групы ў амерыканскім грамадстве, нізкая нацыянальная свядомасць масаў ды агульная нястача кіраўнічых кадраў. Каб знайсці падыход да вырашэння гэтых праблем, Варонка і ягоныя паплечнікі распрацавалі план дзеянняў. Першым крокам было адкрыццё офіса арганізацыі на 2129 Грынвіч стрыт у Чыкага.

Пасля дзеячы навязалі блізкія кантакты з іншымі прыязнымі этнічнымі арганізацыямі, прыкладам, з немцамі, літоўцамі, славакамі і ўкраінцамі, а таксама з рознымі таварыствамі, сярод іншых — з «Рыцарамі Калумба», Смітсанаўскім інстытутам, украінскім гетманічам, групамі Мікіты Шапавала, расійскімі сацыялістамі-рэвалюцыянерамі[50].

Пасля гэтага беларуская арганізацыя выступіла з шырокаю праграмаю вечарынаў і канцэртаў з разнастайным музычным і тэатральным рэпертуарам. Як правіла, падчас такіх імпрэзаў раздаваліся адмысловыя праграмкі з багатаю інфармацыяй пра Беларусь і беларусаў у Злучаных Штатах[51].

Беларускія арганізацыі ў Чыкага далі пачатак масавым святкаванням Дня Незалежнасці Беларусі 25 сакавіка 1924 года, хоць у меншых маштабах гэтае свята адзначалася ў Злучаных Штатах і раней.

---

[45] Як выглядае з дакумента «Просьба Міністэрства Заграмічных Спраў да прадстаўніка БНР у Нямеччыне зрабіць пашпарты для падарожжа ў Амэрыку ад 27.07.1923», *«дзеля прадстаячага адчынення працы Беларускага кангрэсу ў Чыкага Міністэрства Заграмічных Спраў просіць Вас у спешным парадку к прыезду ў Берлін 2 жніўня п. А. Цвікевіча, саставіць спіс усіх асобаў, выбраных у нашым прадстаўніцтве ў Берліне на пашпарты дзеля падарожжа ў Амерыку»* (*Arche*. Мінск. 2009. № 3. С. 189). На з'езд у Чыкага ў 1923 годзе меліся прыехаць некалькі прадстаўнікоў БНР, але прыехаў толькі Язэп Варонка.

[46] Архівы Рады БНР, Стэмфард (штат Канектыкут): копіі дакументаў, выдадзеных Я. Чарапуку. Дакумент Рады БНР ад 2 чэрвеня 1920 года, падпісаны Я. Ладновым, і паўнамоцтва Беларускае Нацыянальнае Сувязі ад 8 красавіка 1922 года, падпісанае А. Галавінскім.

[47] Свобода. Jersey City. 1923. 2 серп.

[48] Гутаркі аўтара з Макарам Аблажэем і Іванам Рудніцкім, Чыкага, 1965.

[49] Chicago Public Library. Microfilm Archives. White Russians I-F-4; Русский Вестник. Чикаго. 1924. 16 марта.

[50] Белорусская Трибуна. Чикаго. 1928. № 2; 1929. № 3; 1931. № 8, 9, 1932. № 10, 12; За Україну. Подорож Вельможного Пана Гетманича Данила Скоропадського до ЗДА й Канади. Едмонтон, 1938. С. 63; Пропам'ятна книга. Видана з нагоди сороколітнього ювілею Українського Народного Союзу. Джерзі Ситі (Ню Джерзі), 1936. С. 122; Крывіч. Коўна. 1923. № 3. С. 64.

[51] Белорусский вечер (Программа). Чикаго. 7 марта 1926; Американский Белорус. Чикаго. 1930. 16 февр.; Беларускі Студэнт. Прага. 1923. № 2–3; Гутаркі аўтара з шматлікімі ўдзельнікамі тых вечароў.

Янка Чарапук, Язэп Варонка, а. Ян Тарасевіч і а. Андрэй Цікота (які нейкі час быў у Амерыцы) распачалі серыю лекцый у школах Чыкага, пасля пашырыўшы абсяг дзейнасці на суседнія гарады і штаты, дзе жылі большыя грамады беларускіх імігрантаў. Яны дапамагалі засноўваць беларускія арганізацыі ў гарадах Кеноша, штат Вісконсін, дзе было створанае Беларускае народнае таварыства, Геры, штат Індыяна, і Грэнд-Рэпідс, штат Мічыган[52].

Факт, і тое вельмі важны факт: Янка Чарапук, прыехаўшы ў ЗША, не толькі стаўся піянерам БНРаўскага руху ў гэтай краіне, але і застаўся з ім да канца свайго жыцця, актыўна супрацоўнічаючы з эміграцыяй, што прыехала ў краіну пасля Другой сусветнай вайны[53].

Відавочна, бацька і сын — Антон і Янка Чарапукі — запачаткавалі і замацавалі беларускую нацыянальна-арганізацыйную дзейнасць у Чыкага, але «ўскалануць» усю беларуска-амерыканскую грамаду, зрабіць з яе нацыянальна свядомую яны не маглі, ім гэта было не пад сілу. Эміграцыйныя масы былі пераважна «тутэйшыя», несвядомыя беларускасці. Дзеячы ў Празе думалі інакш, больш нацыянальна-аптымістычна, але гэта былі, хутчэй, рамантычныя погляды.

Тым часам як арганізацыйная і асветная дзейнасць беларускага актыву ў Чыкага набірала размах, адным з важных дасягненняў чыкагскае беларускае грамады сталася выдаванне першае беларускае газеты ў Злучаных Штатах — *«Белорусской Трибуны»*. Як стаяла ў загалоўку, яна выдавалася Беларускім нацыянальным саюзам у Чыкага, штат Ілінойс, і служыла інтарэсам беларусаў у Злучаных Штатах і Канадзе. Рэдактарам газеты быў Язэп Варонка. Мэты выдання рэдактар сфармуляваў наступным чынам:

*Нашая палітычная мэта — адраджэнне беларускае нацыі. Наш кіраўнічы прынцып — незалежная Беларуская Дэмакратычная Дзяржава. Беларускі Народ павінен стацца гаспадаром на сваёй зямлі. Воля Беларускага Народу закон для нас*[54].

Газета, хоць і выдавалася нерэгулярна, сталася, тым не менш, важным рупарам беларускіх ідэй, прынцыпаў, разам з тым насвятляючы жыццё і дзейнасць беларусаў у Злучаных Штатах. Выдаўцы газеты добра разумелі таксама, што, каб дасягнуць шырэйшых чытацкіх колаў, яны мусяць звяртацца да масаў у мове, якую тыя найбольш прызвычаіліся ў той час чуць у грамадскім жыцці, г. зн. у рускай. Друкаваліся, аднак, артыкулы і па-беларуску, а таксама матэрыялы і паведамленні па-англійску. Відаць, не ўсе пагаджаліся з такім вырашэннем у газеце моўнага пытання, і Язэп Варонка мусіў даваць тлумачэнні, як, прыкладам, гэткае ў лісце да а. Яна Тарасевіча:

*Чаму «Беларуская Т[рыбуна]» не выдаецца па-беларуску?.. Магчыма, «Б. Т.» ніколі не будзе выдавацца па-беларуску: так доўга яшчэ будзе трываць нашая барацьба з абмаскаленнем беларусаў у Амерыцы. Але ўжо хутка прыдзецца стварыць асобную маленькую часопіс па-беларуску... зусім іншага (творчага, а не руйнуючага, як «Б. Т.») характару. А яшчэ хутчэй трэба пачаць выдаванне беларускай часопісі па-польску (!?). Можа на восень я такую часопіс і пачну! [...] У нас тут ідзе барацьба з анархістымі (з «Рассвет'у»),*

52 Белорусская Трибуна. Чикаго. 1930–1931. № 7–8; Наш Шлях. Вільня. 1923. № 15; Беларускі Студэнт. Прага. 1923. № 2–3; Гутарка аўтара з Іванам Гаруцэвічам, Гэры, штат Індыяна.

53 Юрэвіч, Л. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі. Мінск, 2012. С. 476–501.

54 Перапіска Я. Варонкі з а. Я. Тарасевічам; Папка Часлава Будзькі ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



*якіх падтрымоўваюць рускія чарнасоценцы. Я бʼю іх з двох «фортаў» — з «Вестник'у» (які я рэдагую), і з «Б. Т.»*[55].

З гледзішча сяго-таго з «пурыстаў», Варонкаў падыход (ужыванне рускае мовы для пашырэння беларускае нацыянальнае свядомасці) можна было б скрытыкаваць як патуранне іміграцкаму псіхозу ў падтрымцы перавагі рускае мовы над беларускай. Трэба, аднак, не забывацца, што Варонка быў прагматыкам і галоўнаю ягонаю зброяю былі кантакты з людзьмі і ўздзеянне пераконваннем. Ужыванне ў гэткіх мэтах беларускае мовы магло б у шмат якіх выпадках даць адваротны вынік.



Абвестка Беларускай нацыянальнай асацыяцыі ў Амерыцы. Чыкага, 1926 г.

Нягледзячы на тое што *«Белорусская Трибуна»* выходзіла па-руску, яна давала чытачам змястоўную інфармацыю пра жыццё беларусаў ва ўсім свеце. Тут шырока асвятляліся падзеі ў Савецкай Беларусі, часта перадрукоўваліся артыкулы з беларускіх выданняў. Газета падавала агляды беларускага жыцця ў Латвіі, Літве, Польшчы і Заходняй Еўропе, змяшчала багатую інфармацыю пра беларускую эканоміку, культуру, літаратуру. Ідэя незалежнасці Беларусі была асноваю палітычнае філасофіі ў газеце, шмат артыкулаў прысвячалася аналізу гісторыі беларускае нацыі. Але перш за ўсё, вядома, *«Белорусская Трибуна»* падрабязна асвятляла жыццё беларусаў у Чыкага. Ад першага свайго нумара газета заклікала чытачоў далучацца да беларускіх арганізацый. Вось, прыкладам, зацемкі, што даваліся па-руску і па-беларуску:

*Беларусы, выхадцы з былых Гарадзенскае, Віленскае, Менскае, Віцебскае, Магілёўскае і Смаленскае губерняў, уступайце ў БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ САЮЗ! Мэты арганізацыі: а) пашыраць сярод беларусаў Новага Свету ідэі нацыянальнага і дзяржаўнага адраджэння беларускага народу; б) абараняць і прадстаўляць за мяжою інтарэсы беларускага народу; в) працаваць на культурна-асветнай ніве, арганізоўваць школы, ладзіць лекцыі, выставы, бібліятэкі і г. д.; г) дапамагаць Бацькаўшчыне ва ўсіх галінах палітычнага, грамадскага і эканамічнага жыцця.*

Далей давалася такая рэклама:

*Пры БНС ёсць бібліятэка, асветная камісія, бюро друку. Заявы аб жаданні ўступіць у Беларускі Нацыянальны Саюз дасылайце на адрас: White-Russian National Association, Post Office Box 1241, Chicago, Illinois*[56].

55 Перапіска Я. Варонкі з а. Я.Тарасевічам, 1929. Захоўваецца ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

56 Белорусская Трибуна. Чикаго. 1928. № 2; Chicago Public Library. Microfilm Archives: Белорусская Трибуна, II В 2а; III В 2.

Газета пашырала беларускую прысутнасць і праз удзел у Сусветнай выстаўцы ў Чыкага, міжнародных выстаўках у Японіі, Савецкай Грузіі, Нямеччыне і розных іншых краінах. Значны матэрыял прысвяціла *«Белорусская Трибуна»* беларускаму ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах 1928 года. Вось колькі ўрыўкаў:

*Гадоў восем таму польскі міністар Л. Скульскі заявіў, што праз 25 гадоў ад беларускага руху не застанецца і следу. Шаноўны пан памыліўся: тое, што будзе праз 17 гадоў (8 гадоў з таго часу ўжо мінула), — мы ўжо прадчуваем; да таго часу, хутчэй за ўсё, не застанецца і следу ад самога пана Скульскага.*

*Шэсць месяцаў таму ў свой чарод нейкі чыкагскі беларус-рэнэгат «пісаў», што праз шэсць гадоў пра беларускае пытанне ў Чыкага забудуць.*

*Чыкагскі Скульскі таксама памыліўся. Беларускім пытаннем ужо зацікавіліся амерыканскія палітычныя колы, а з імі, натуральна, і амерыканскае грамадства.*

*У сувязі з прэзідэнцкай кампаніяй у Чыкага арганізаваўся Беларуска-Амерыканскі Нацыянальны Клуб, які абудзіў да сябе вялікае зацікаўленне сярод амерыканскіх палітыкаў...*

*Дэмакраты добра ведаюць, што змяшчае ў сабе наш каланіяльны тэрмін — «рускі»; ведаюць, што 99 % усіх «рускіх» арганізацый у Чыкага, дый у шматлікіх іншых гарадах Злучаных Штатаў, належаць беларусам — нацыянальна свядомым або не — гэта ўжо іншае пытанне, але беларусам. Гэтага ніхто не будзе адмаўляць.*

*Вось чаму амерыканскія дэмакраты палічылі справядлівым прызнаць арганізаваны ў Чыкага Беларуска-Амерыканскі Нацыянальны Клуб, які служыць інтарэсам партыі і краіны...*

*Афіцыйны ўдзел беларусаў у прэзідэнцкай кампаніі 1928 года, гэтая новая фаза ўзаемадачыненняў беларусаў з амерыканскімі палітыкамі, уздыме беларускае пытанне над нашай брыдкаслоўнай каланіяльнай штодзённшчынай*[57].



Макар Аблажэй. Чыкага, 1930-я гг.

Адна з беларускіх арганізацый — Беларуска-амерыканскі нацыянальны клуб — цалкам прыняла палітычную платформу Дэмакратычнае партыі і змяніла свой назоў на «Беларуская арганізацыя ў падтрымку Альфрэда Сміта за Прэзідэнта». Яна брала чынны ўдзел у прэзідэнцкай кампаніі 1928 года. Былі арганізаваныя групы падтрымкі ў розных раёнах горада, былі адчыненыя свае выбарчыя штабы. Кіраўнікамі арганізацыі былі: Янка Чарапук-Змагар, старшыня; сярод іншых — Іван Пятніца, Мікалай Якубеня й Макар Аблажэй. Язэп Варонка ўзяўся за рэкламу і падрыхтоўку выступаў. Сам кандыдат, губернатар Альфрэд Сміт, меў кантакт з беларусамі і прыняў беларускую дэлегацыю такою прамоваю:

*Удзел беларусаў у гэтай палітычнай кампаніі — першы крок у галоўнае цячэнне амерыканскага жыцця. Гэтая падзея сталася магчымаю толькі таму, што Дэмакратычная партыя разумее патрэбы беларусаў. З рэспубліканцамі зрабіць гэта было б немагчыма*[58].

Такая прамова палітычнага дзеяча дзяржаўнага маштабу не была б нават заўважаная ў другой палове ХХ стагоддзя. Але тады, у 1920-я, гэта была ўнікальная

[57] Chicago Public Library. Microfilm Archives: Белорусская Трибуна. Чикаго. 1928. № 2; 1932. № 10; Перапіска Я. Варонкі. Захоўваецца ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[58] Белорусская Трибуна. Чикаго. 1928. № 2; Гутарка аўтара з Макарам Аблажэем, Чыкага, 1965.



падзея. Цяжка нават было б знайсці прыклад для параўнання — каб амерыканскі кандыдат у прэзідэнты намагаўся прааналізаваць і зразумець малую этнічную групу, у нашым выпадку беларускую, і звярнуўся да яе з такою нештодзённаю фразеалогіяю.

Амерыканскія палітычныя працэсы ахопліваюць шырокі сацыяльны спектр: беларускія актывісты, аднак недастаткова нацыянальна свядомыя, арганізавалі і Рускі рэспубліканскі клуб, які на 50–60 % складаўся з беларусаў і якім кіравалі два беларусы: архімандрыт Цімон (Муляр) і Уладзімір Сабінскі[59].

Узнікненне аднае, дзвюх або трох беларускіх арганізацый, як часта бывае, выклікала да жыцця шматлікія пабочныя групы. Некаторыя з іх існавалі толькі на паперы, іншыя мелі адмысловыя палітычныя мэты. Такім было, прыкладам, Беларускае народнае таварыства горада Чыкага, палітычнае ўгрупаванне, якое мела за мэту актыўна прапагандаваць аддзяленне Заходняе Беларусі ад Польшчы і далучэнне яе да Савецкае Беларусі, аб'яднаць усіх беларускіх работнікаў у Злучаных Штатах і Канадзе на базе змагання з польскім прыгнётам над беларусамі і іншымі народамі. У гэтым змаганні беларусы мусілі салідарызавацца з польскімі работнікамі, фінансава дапамагаць беларускім палітвязням у Польшчы[60].




Абвестка пра дзейнасць Беларускага нацыянальнага саюза (асацыяцыі) у Амерыцы. Чыкага, 1926 г.

Падобнымі арганізацыямі былі Беларускі дапамаговы камітэт, які ставіў сабе за мэту дапамагаць беларусам Заходняе Беларусі, Беларуска-амерыканскі клуб і розныя пракамуністычныя групы[61].

Нягледзячы на тое што дэмакраты прайгралі прэзідэнцкую кампанію 1928 года, шмат арганізацый, якія ўзніклі ў той час, працягвалі сваю дзейнасць. Так, Беларуска-амерыканскі грамадзянскі клуб, фактычна — Беларускі дэмакратычны клуб, заставаўся дзейны і ў 1930-я гады[62].

Беларусы ўдзельнічалі таксама ў выбарах мэра Чыкага ды іншых палітычных кампаніях 1930-х гадоў. У Дэмакратычнай партыі ў рамках

[59] Гутарка аўтара з Чаславам Будзькам, Чыкага, 1972, і Міронам Курапасам, 1976.

[60] Chicago Public Library, Microfilm Archives, White Russian Organizations. Constitution and By-laws of the White Russian People's Society of the City of Chicago. III B-4-III-H/IE/IV; Русский Вестник. Чикаго. 1924. 16 марта; Sichovy Visty. Aug. 1. 1924.

[61] Chicago Public Library. Microfilm Archives, File l-F-4.

[62] Белорусская Трибуна. Чикаго. 1932. № 12; Chryscijanskaja Dumka. Wilnia. 1933. № 1.

прэзідэнцкай выбарчай кампаніі Франкліна Дэлана Рузвельта дзеіў беларус Восіп Водчыц з Меншчыны[63]. Зноў ствараліся адпаведныя арганізацыі, якія праводзілі шырокую агітацыйную кампанію за кандыдата на пасаду мэра горада Чыкага Уільяма Хэйла Томпсана ды іншых палітыкаў.

Сярод іншых чыкагскіх арганізацый можна сустрэць «Беларускі кансулят» з адрасам 7, Саўт Дэрборн стрыт, а таксама Беларускае культурна-адукацыйнае таварыства[64].

Яшчэ адна беларуская арганізацыя была зарэгістраваная ў павеце Кук штата Ілінойс 2 лістапада 1935 года, называлася яна Беларуска-амерыканскае грамадзянскае задзіночанне. Кіраўнікамі новае арганізацыі былі Макар Аблажэй, Янка Чарапук-Змагар і Ігнат Лабач. Задзіночанне ставіла перад сабою мэты: развіваць культурна-асветную дзейнасць сярод беларусаў у Злучаных Штатах, дапамагаць імігрантам з Беларусі ў набыцці імі амерыканскага грамадзянства, збіраць грошы на згаданыя вышэй мэты, аказваць фінансавую падтрымку беларускім школам у Еўропе[65].

Значную падтрымку і дапамогу беларускай дзейнасці ў Чыкага аказалі беларускія рыма-каталіцкія святары, якія ўцяклі з Польшчы ў 1920—1930-я гады падчас пагромнае хвалі польскіх уладаў, скіраванае супраць беларусаў.

Так, у Чыкага знайшлі прытулак айцы Ян і Уладзімір Тарасевічы (праўда, а. Ян прыбыў у Чыкага значна раней), а. Віктар Шутовіч, а. Міхась Урбановіч, а. Андрэй Цікота (на кароткі час), а пазней а. Язэп Рэшаць[66]. Гэтыя святары шмат прычыніліся да пашырэння базы дзейнасці беларускіх арганізацый і да запачаткавання розных культурных праграмаў. А. Ян Тарасевіч, які прыбыў у Злучаныя Штаты ў маладыя гады, стаўся асабліва вядомы як беларускі актывіст у Чыкага ды ў штатах Нью-Ёрк, Канектыкут і Вісконсін. Не перапыняючы сваіх багаслоўскіх студый і ўдзелу ў беларускім арганізацыйным жыцці, а. Тарасевіч пачаў выдаваць бюлетэнь «Праўда», а таксама быў адным з заснавальнікаў рэлігійнага часопіса ўніяцкага кірунку *«Церковный Голос»*, у якім друкавалася нямала артыкулаў на беларускія тэмы[67]. Айцец Ян Тарасевіч быў таксама арганізатарам беларускае каталіцкае грамады ў Чыкага, якая дзеіць і дагэтуль.

Важнаю з'яваю ў беларускім жыцці сталася радыёпраграма «Беларуская Гадзіна», заснаваная ў 1929 годзе Язэпам Варонкам, якая, хоць і ў зменenай форме, праіснавала да 1950-х гадоў. У друку можна сустрэць, прыкладам, такія каментары пра гэтую праграму:

*Радыё Кабарэ-баль, які даў у суботу сп. Я. Варонка, наш рускі радыёрэдактар, стаўся незвычайнаю забаваю, якая шмат каго зацікавіла. Большасць гасцей складала, аднак, моладзь. Вельмі добры аркестр, выдатная музычная частка праграмы ды шматлікія афіцыянткі ў народных строях прыцягнулі галоўную ўвагу гасцей і пакінулі добрае ўражанне. Госці выбралі спадарычну Э. Кічкайла «Радыёкаралеваю», на другім месцы была спадарычна Вольга Паўлікевіч*[68].

---

[63] Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1953. 20 апр.

[64] Русский в Америке: Справочник. Нью-Йорк, 1931. С. 96; Рэха. Парыж. 1938. № 12.

[65] Копія рэгістрацыйнага пасведчання ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[66] Гл. Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 456–467.

[67] Stankievič, A. Bielaruski Chrycijanski ruch. Vilnia, 1939. S. 225.

[68] Рассвет. Чикаго. 1936. 18 февр.; Chicago Public Librariy. Microfilm Archives. H-B-2d(l); II-B-2-e/I-C; II-B-2f; I-A-la; IV.



Як прыгадваў Макар Аблажэй у 1961 годзе, беларускія строі на той вечарыне, якая адбылася 1 лютага 1936 года, былі найпрыгажэйшыя. Група моладзі спявала беларускія песні[69].

Уздым беларускае дзейнасці ў Чыкага быў радасна ўспрыняты лідарамі Беларускае Народнае Рэспублікі. Аляксандр Цвікевіч, на той час старшыня Урада БНР, выказаў прызнанне дасягненням беларусаў у лісце да Янкі Чарапука. Ён падзякаваў яму і прызначыў яго паверанным у справах БНР у Злучаных Штатах Амерыкі[70].



Язэп Варонка на радыё. Чыкага, пач. 1940-х гг.

Васіль Захарка, які ў 1928 годзе стаўся прэзідэнтам Рады БНР пасля Пётры Крэчэўскага, папрасіў Ігната Лабача з Чыкага паінфармаваць Раду БНР пра беларускую дзейнасць ды адказаць на такія пытанні, як: колькі беларускіх імігрантаў ахапляюць бальшавіцкія ўплывы? Ці шмат беларусаў пад польскімі, рускімі ўплывамі? І г. д. Васіль Захарка пісаў, што Рада БНР была б радая атрымаць усю інфармацыю пра амерыканскіх беларусаў незалежна ад таго, будзе яна добрая ці дрэнная[71]. Задавальненне пашырэннем беларускае дзейнасці выказвалася і ў друку. Вось што пісалася ў адным беларускім выданні:

*Як можна бачыць з лістоў, атрыманых з Чыкага, беларусы пачалі абуджацца там. Падыход, які пераважаў дагэтуль, г. зн. спробы знайсці грунт для супрацоўніцтва з зрусіфікаванымі або спаланізаванымі беларусамі, не даў ніякіх станоўчых вынікаў і амаль не загубіў беларускія ініцыятывы ў Злучаных Штатах. Змарнаваўшы на гэта больш за тры гады, беларускі актыў выйшаў нарэшце на слушную дарогу. Не трэба ісці за масамі, трэба выяўляць асобаў, адданых беларускай справе. Масы самі пачнуць прыходзіць гуртамі, калі ўбачаць дасягненні гэтае вузейшае групы. Іх не прыцягнеш у свае шэрагі толькі прыгожымі словамі, яны павінны ўбачыць адданую працу дзеля дабра ўсяго народу*[72].

Трэба падкрэсліць адзін важны аспект беларускае дзейнасці ў Чыкага: усталяванне блізкіх рабочых кантактаў з Бацькаўшчынай. Беларускія выданні ў Вільні, Латвіі і Літве змяшчалі шмат паведамленняў пра беларусаў у Злучаных Штатах, асабістыя і грамадскія кантакты былі тады звычайнаю справаю. Беларуска-амерыканскае нацыянальнае аб'яднанне, 669 Райтвуд авеню, Чыкага, выступала як падпіснoе агенцтва беларускіх выданняў з Заходняе Беларусі і Латвіі.

---

[69] Гутарка аўтара з Макарам Аблажэем, Чыкага, 1961.

[70] Копія ліста А. Цвікевіча да Я. Чарапука, 27 жн. 1923. Захоўваецца ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN)

[71] Ліст В. Захаркі да І. Лабача, 20 тр. 1933. Захоўваецца ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN)

[72] Chicago Public Library. Microfilm Archives. II-B-2e; Архівний Фонд Микити Шаповала.

«Беларуская Трыбуна» шырока асвятляла беларускія выданні, памятныя даты, кантакты з Бацькаўшчынай ды з беларускімі арганізацыямі ў Заходняй Еўропе[73].

Важна было тое — і гэта была новая падзея ў беларускім нацыянальным руху, — што беларускія арганізацыі ў Чыкага распачалі праграму фінансавае дапамогі беларускім школам на Бацькаўшчыне. Беларускія гімназіі ў Вільні, Радашкавічах і Клецку атрымоўвалі дапамогу ад розных арганізацый з Чыкага[74]. Друйская гімназія айцоў марыянаў мела дапамогу ад беларусаў і літоўцаў: *«Літоўска-амерыканскія марыяне дапамагалі падтрымваць Друйскі асяродак, і дзякуючы гэтай падтрымцы гімназія была здольная набыць будынак, купіць друкарскі варштат і распачаць публікацыю сваіх выданняў. Аднак польскія ўлады не далі на гэта свайго дазволу»*[75]. А. Ян Тарасевіч дапамагаў беларускай моладзі выязджаць у Злучаныя Штаты на навучанне[76]. Паводле студэнцкага часопіса, нават Янка Купала хадайнічаў за беларускіх студэнтаў: ён напісаў ліст Янку Чарапуку, дзе прасіў дапамагчы беларускім студэнтам у Празе і Вільні[77]. Амерыканскія баптысты, дзякуючы кантактам з беларускімі арганізацыямі, давалі фінансавую дапамогу беларускаму прытулку ў Вільні[78].

Амерыканская дапамога слалася і ў Савецкую Беларусь, пра што ў гэтай кнізе будзе гаварыцца асобна.

Росквіт беларускіх арганізацый і развіццё іхнае дзейнасці непакоілі і засмучалі рускіх, ці, дакладней кажучы, этнічных рускіх, і ідэйна прарасійскія групы. Большасць рускіх арганізацый, цэркваў, газетаў, асабліва тыя, што ўзначальваліся этнічнымі рускімі (велікаросамі), вельмі адмоўна рэагавалі на абуджэнне беларусаў. Яны зацята супраціўляліся любой праяве нацыянальнае свядомасці, нават найменшай згадцы пра асобнасць беларусаў. Прадстаўнікі гэткіх поглядаў мелі шмат прыхільнікаў сярод зрусіфікаваных беларусаў, яны ўжывалі любыя сродкі, каб ачарніць беларускую дзейнасць і беларускі нацыянальны рух. Сярод антыбеларускіх актывістаў у Чыкага быў Мараўскі-Далінін, выдавец рускамоўнае чыкагскае газеты *«Рассвет»*, лідары Рускага незалежнага таварыства ўзаемадапамогі (РНОВ), некаторыя праваслаўныя дзеячы ды шэраг прыватных асобаў[79].

Шэраг некамуністычных прарасійскіх групаў распачалі шырокамаштабную кампанію супраць беларускіх актывістаў у Чыкага, вінавацячы іх у шматлікіх грахах: у тым, што яны мелі пранямецкую арыентацыю, што іхнае кіраўніцтва складалася пераважна з рыма-каталікоў і было прыязнае да Польшчы, што беларускія лідары былі патаемнымі камуністычнымі агентамі і г. д. Лямант пра сімпатыі да Нямеччыны і Польшчы нікога не хваляваў і не меў ніякага абгрунтавання. Абвінавачанні ў камунізме грунтаваліся на тым, што погляды беларускага актыву супадалі з пазіцыяю пракамуністычных арганізацый у дачыненні да беларускага руху ў Польшчы і што чыкагскія беларускія арганізацыі маральна і фінансава

[73] Езавітаў, К. Беларусы ў Літве. Рыга, 1932; Рэха. Парыж. 1938. № 12; Папка Я. Станкевіча ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[74] Крывіч. Коўна. 1923. № 4. С. 56–57; Копія ліста а. Я. Тарасевічу ад вучняў Віленскае беларускае гімназіі, 1926 г. у Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Віці. Нью-Ёрк. 1957. № 1/10. С. 13–14; Успаміны д-ра Вітаўта Тумаша.

[75] Yla S. Jurgis Matulaitis. New York, NY. 1987. Psl. 221.

[76] Зорка. Вільня. 1938. № 11.

[77] Беларускі Студэнт. Прага. 1923. № 2–3. С. 23.

[78] Беларускі Звон. Вільня. 1922. 2 крас.; Перапіска аўтара з Чаславам Будзькам.

[79] Рассвет. Чикаго. 1933. 18 февр.; Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1937. 22 мая; Американские Известия. Детройт. 1938. 25 марта.



падтрымоўвалі беларусаў і грамадоўскі рух у Польшчы. У выніку гэтага абвінавачанні беларусаў у камунізме гучалі з абодвух бакоў: рускага і польскага.

Каб чытач адчуў атмасферу палемікі, падамо тут колькі цытатаў з рускамоўных газетаў пра беларускіх актывістаў у Чыкага. Так, *«Русский Вестник»* пісаў:

*Трэба зазначыць, што прапаганда невялічкае групы беларусаў, якія выступалі за аддзяленне часткі Беларусі ад Польшчы з мэтаю далучыць яе да Савецкае Беларусі, не мела поспеху. Нягледзячы на тое, што лідары гэтае групы сп. Змагар і сп. Варонка ўжылі ўсе сродкі, што ў іх былі, каб дасягнуць гэтае мэты, яны не здолелі здабыць прыхільнасці амерыканскіх беларусаў ці нават зацікавіць іх сваімі ідэямі. На працягу 1923 і 1924 гадоў яны нарабілі шмат крыку на старонках «Free Russia» і «Russian Herald», ведучы палеміку з сваімі апанентамі, спрабуючы ўсяляк давесці, што яны, сп. Змагар і сп. Варонка, маюць рацыю, але галасы іхныя заставаліся «марным лямантам у пустэльні»*[80].

Іншы аўтар пісаў:

*Перад амерыканскімі беларусамі паўстала гэткая дылема: тэарэтычна падзяляючы думку, што гістарычна Беларусь ёсць неадлучнаю часткаю Расіі, на практыцы яны мусілі пагадзіцца з тым, што анексаваныя Польшчаю беларускія землі павінны заставацца пад польскаю ўладаю. Амерыканскія беларусы выдатна зразумелі, што, калі яны згодзяцца з поглядамі сп. Варонкі і сп. Змагара і калі пры іх падтрымцы мелася б адбыцца аддзяленне беларускіх земляў ад Польшчы і далучэнне іх да Савецкае Расіі, яны б тым самым практычна дапамаглі б бальшавікам вынішчаць сваіх беларускіх братоў. І таму амерыканскія беларусы ўспрынялі гэтую наваспечаную беларускую прапаганду не як нешта сур'ёзнае, а як чужыя ім погляды, завезеныя з Еўропы ў Амерыку Варонкам і Змагаром, якія імкнуліся штучна прышчапіць амерыканскім беларусам ідэі сепаратызму. Амерыканскія беларусы ўспрымалі гэтую прапаганду з вялікім недаверам, загадзя ўяўляючы сабе, да якіх страшных вынікаў яна можа прывесці. Трэба зазначыць, што нягледзячы на два гады вуснае і друкаванае прапаганды сп. Варонку і сп. Змагару не ўдалося стварыць ні ў адным горадзе, апрача Чыкага, хоць бы малое групы, якая падзяляла б гэтыя сепаратыстычныя погляды. Амерыканскія беларусы разглядаюць тых, хто прапагандуе гэткія сепаратыстычныя ідэі, як агентаў польскага або савецкага ўрадаў, засланых у Злучаныя Штаты з мэтаю разбурыць рускія арганізацыі і рускае грамадскае жыццё ў Амерыцы. Тут, у Чыкага, гэтая прапаганда беларускіх сепаратыстаў была вельмі энергічна падтрыманая толькі бальшавікамі і іхнымі сімпатыкамі. Наколькі мне вядома, сп. Язэп Варонка быў засланы ў Амерыку бальшавікамі з дакладнаю мэтаю: весці прапаганду сярод амерыканскіх беларусаў супраць Польшчы і на карысць Савецкае Расіі. Трэба, аднак, зазначыць, што пазней сп. Я. Варонка адмовіўся ад гэтае шкоднае прапаганды беларускага сепаратызму ў Чыкага; але сталася гэта толькі пасля таго, як ён пераканаўся ў марнасці высілкаў, якія ён разам з сп. Змагаром прыкладаў на працягу пяці гадоў...*

*Тут будзе дарэчы зазначыць, што, калі б прапаганда сп. Варонкі і сп. Змагара мела поспех, гэта сталася б магутным разбуральным фактарам для ўсіх антыбальшавіцкіх рускіх арганізацый у Амерыцы. Фактычна ўсе гэтыя арганізацыі складаюцца пераважна з беларусаў і ўкраінцаў старое іміграцыі. А таму беларускі сепаратызм мог бы выклікаць працэс распаду гэтых арганізацый, увёўшы элемент нацыянальнае варожасці паміж рускімі і беларусамі, а гэта пайшло б толькі на карысць бальшавікам. На шчасце, гэтага не адбылося, і рускай калоніі ў Амерыцы ўдалося захаваць сваю цэласць і ўнутраную салідарнасць у агульнарускай справе*[81].

[80] Русский Вестник. Чикаго. 1924. 16 марта.

[81] Chicago Public Library. Microfilm Archives. WPA Ш, Project 30275/Ш-В-4, Nicholas Korecki.

Або вось цытата з *«Русского Голоса»:*

*Неабходна выкрыць дзейнасць паноў І. Я. Варонка і Ант. Змагар, каб не даць пралезці гэтым асобам у іншыя арганізацыі, як беларускія, гэтак і іншыя.*

*[...] Мы, Беларускае народнае таварыства г. Чыкага, пратэстуем супраць гэтых самазваных абаронцаў беларусаў, якія ёсць прадстаўнікамі правакацыйнага Саюза беларусаў у Польшчы. Дзякуючы гэтаму саюзу «Беларуская грамада» ў Польшчы была прызнаная нелегальнаю, і тысячы беларусаў пакутуюць за кратамі.*

*Мы пратэстуем супраць гэтак званага «Саюзу беларусаў у Чыкага», які складаецца фактычна з дзвюх асобаў — Антон Змагар, або Янка Чарапук, і І. Я. Варонка, або В. Палескі.*

*Яны не маюць ніякага маральнага і юрыдычнага права прадстаўляць Беларусь*[82].

Іншаю значнаю групаю ворагаў беларускага руху былі камуністы і левыя, якіх было даволі шмат у Чыкага ў 1920-я гады. Аднак нападкі камуністаў на беларускія арганізацыі і іхных лідараў мелі іншы характар. Камуністы, відаць, напачатку не зразумелі, што падтрымка беларускага руху ў Польшчы зусім не азначае прызнання камуністычнае ідэалогіі. І хоць яны ведалі, што Язэп Варонка, Янка Чарапук-Змагар ды іншыя беларускія актывісты маюць свае палітычныя мэты, спачатку яны крытыкавалі беларусаў даволі мякка і лакальна. Нават болей, прадстаўнікі пракамуністычных груповак удзельнічалі ў агульнабеларускім з'ездзе ў верасні 1923 года, на якім старшынёй новае арганізацыі Беларуска-амерыканскай асацыяцыі быў выбраны Язэп Варонка. Камуністы і перад з'ездам супрацоўнічалі з Беларускім нацыянальным камітэтам, на чале якога стаяў Антон Чарапук. Праўдападобна, якраз праз БНК, калі да яго звярнуліся прадстаўнікі арганізацыі Ф. Нансена, каб дапамагаць матэрыяльна-эканамічна БССР, была навязана сувязь і з Савецкай Беларуссю. Далей справы ішлі пратаптанымі сцежкамі: камуністы паступова пераўтваралі нацыянальны рух, арганізацыю у дзейнасць камуністычна-рэвалюцыйную: *«У прыватнасці, у тэзісах ЦК КП(б)Б "Беларускі рух за кардонам"»* ад 16 кастрычніка 1925 года. Прызнавалася неабходным *«наладжванне кантакту праз мясцовую кампартыю і спецыяльна пасланых работнікаў»*, вызначаліся меры па павышэнні сярод эмігрантаў савецкага ўплыву, прыцягненні да супрацоўніцтва з новымі ўладамі асобых груп і лідараў. Задача была ў тым, каб працягваць работу па разлажэнні і драбненні беларускай эміграцыі, ні ў якім разе не дапускаць утварэння якіх бы там ні было беларускіх аб'яднанняў, таму што гэта *«затармозіць развіццё беларускага руху савецкай арыентацыі»*[83].


ВОСКРЕСЕНЬЕ, 16 ФЕВРАЛЯ 1930 ГОДА. ЧИКАГО, ИЛЛИНОЙС


Часопіс «Американский белорус». Чыкага, 1930 г.

[82] Русский Голос. Нью-Йорк. 1927. 10 июня.



Калі камуністы пераканаліся, што беларускія палітычныя лідары кіруюцца сваімі прынцыпамі і сваёю палітычнаю ідэалогіяю, праводзяць сапраўды незалежную беларускую палітычную лінію, яны пачалі на поўную сілу нападаць на беларусаў у камуністычных газетах, на мітынгах і праз радыё. Вось прыклады загалоўкаў ды ўрыўкі з артыкулаў:

*«БРАХНЯ І МАНА БЕЛАРУСКІХ МІНІСТРАЎ». «ВЫ НАС НЕ АБДУРЫЦЕ». У жніўні 1922 года ў Чыкага стварыўся Беларускі камітэт дапамогі беларусам, якія змагаюцца супраць польскага імперыялізму. У сакавіку 1923 года на гарызонце з'явіўся «новы» чалавек — Ян Змагар. Радыкал з радыкалаў, адданы барацьбіт з імперыялістычнаю Польшчаю, які толькі што прыехаў у Злучаныя Штаты з Беларусі, Змагар абвясціў сябе «рашучым» абаронцам Савецкае Беларусі. Ён адразу ж далучыўся да Беларускага камітэта. Гэты «герой», гэты «Ян Хрысціцель» сказаў: «Хто я? Я хрышчу вас толькі вадою, той, хто ідзе за мною, будзе хрысціць вас жыццёвым агнём. Прышліце грошы і выклічце яго з Беларусі». Яны выслалі грошы. І прыбыў Язэп Варонка.*

*Абодва беларусы з'явіліся ў рускай калоніі. Яны зрабіліся школьнымі настаўнікамі і ў хуткім часе скінулі свае маскі. Змагар, вядомы таксама пад імем Іван Чарапук, які да таго ж, як выявілася, быў ксяндзом, пачаў змаганне за «рускі дух» у школе, Варонка, беларускі шавініст, пачаў арганізоўваць антысавецкія групы ў дзейных тады беларускіх таварыствах і школах. Гэта быў пачатак барацьбы ўнутры Федэрацыі. Пад гэты час у калоніі з'явіўся яшчэ адзін дурань, які зваўся Мікалай Калужын — цяпер д-р Л. Перцаў, або Пэрсі... манархіст-фашыст... Калужын-Перцаў распачаў лютую барацьбу за выдаленне «інтэрнацыяналізму» з рускіх работніцкіх школак. І хоць беларускія шавіністы стаялі вельмі далёка ад Калужына, ягоная атрута супраць Федэрацыі вельмі ім прыдалася*[84].

Аднак, нягледзячы на ўсе напады ў друку, фізічныя расправы, такія як перастрэлка на беларускай вечарыне, абвінавачанні і інсінуацыі, скіраваныя на тое, каб скампраметаваць беларускі рух, ягоныя кіраўнікі і надалей рабілі тое, што лічылі неабходным. Пра гэта красамоўна сведчыць дакумент, які датычыць дзейнасці беларусаў:

*У нядзелю 6 сакавіка 1927 года на заклік Беларускага Нацыянальнага Саюза штата Ілінойс адбыўся вялікі мітынг беларусаў у знак пратэсту супраць гвалту над беларусамі ў Заходняй Беларусі. На мітынгу выступілі з прамовамі аб падзеях на радзіме гэткія людзі: сп. І. М. Рамановіч, сябра камітэта Беларускага Нацыянальнага Саюза, сп. [Ян] Змагар, вядучы мітынгу, сп. Я. Варонка, а таксама прадстаўнік ад украінцаў д-р Смук. Прысутныя слухалі прамоўцаў з вялікаю ўвагаю й выказвалі сваю згоду. Напрыканцы мітынгу была аднадушна прынятая наступная рэзалюцыя Беларускага Нацыянальнага Саюза:*

[83] Забродскі, Э. БНК у Амерыцы // Голас Радзімы. Мінск. 1993. 9 вер. С. 4.

[84] Новый Мир. Нью-Йорк. 1936. 1 апр.; Цытата з англамоўнага тэксту ў Chicago Public Library. Microfilm Archives. П В 2f/I E/IA la. P. 1–5.

*«Беларусы — жыхары Чыкага й ваколіцаў, сабраўшыся на мітынг, склікіаны Беларускім Нацыянальным Саюзам штата Ілінойс, і пачуўшы пра апошнія падзеі ў Заходняй Беларусі — арышты дэпутатаў Сойму Рак-Міхайлоўскага, Тарашкевіча, Валошына, Мятлы й Галавача, разгром беларускіх асветных і гаспадарчых арганізацый, гвалт і здзекі над беларускім насельніцтвам, якія сыстэматычна ўчыняе польскі ўрад, — пастанавілі рашуча запратэставаць:*

*1. Супраць грубага парушэння польскім урадам трактатаў у дачыненьні да правоў нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, падпісаных у Вэрсалі ў 1919 годзе.*

*2. Супраць няспыннага перасьледу беларусаў у Польшчы.*

*3. Супраць незаслужаных арыштаў беларускіх дэпутатаў польскага Сойму.*

*4. Супраць арыштаў сотняў беларускіх работнікаў.*

*Беларусы гораду Чыкага й ваколіцаў выступаюць з заклікам да дэмакратычнага амэрыканскага народу, які першы ўзьняў голас за аднаўленьне Польскае Рэспублікі. Мы маем на ўвазе добра ведамую дэклярацыю прэзыдэнта В. Уілсана. Мы заклікаем народ Злучаных Штатаў ужыць свой уплыў і дапамагчы вызваліць беларускі народ з польскага ярма.*

*Камітэт Беларускага Нацыянальнага Саюзу: Я. Варонка, А. Змагар, І. Рудзёнак, І. Рамановіч, Я. Антон, В. Трафімовіч.*

Беларускія нацыянальныя арганізацыі знайшлі падтрымку з боку некаторых «рускіх» групаў, якія фактычна складаліся пераважна з беларусаў, — яны выказалі салідарнасць з беларусамі, што церпяць пад польскім ярмом. Так, Рускае нацыянальнае праваслаўнае таварыства, вялікая і ўплывовая арганізацыя, на сваім 17-м з’ездзе, які адбыўся 21–22 красавіка 1928 года ў Чыкага, прыняла такі дакумент:

*З’езд выслухаў заклік далучыцца да пратэсту супраць «віленскага» судовага працэсу над беларускімі дэпутатамі польскага Сойма ды іншымі актывістамі Грамады. З’езд Рускага нацыянальнага праваслаўнага таварыства, якое складаецца з эмігрантаў з Гарадзенскае, Віленскае і Менскае губерняў, якія цяпер уваходзяць у склад Польшчы, пагадзіўся з заклікам і пратэстуе супраць судовага працэсу над беларусамі*[85].

Гэта было ў раннім перыядзе беларускае дзейнасці. Напады на беларускіх актывістаў і арганізацыі працягваліся ў 1930–1940-я гады і пазней. Па сутнасці, левыя ніколі не спынялі паклёпніцкае антыбеларускае прапаганды. На самым пачатку беларускае дзейнасці такія напады маглі мець шкодныя вынікі. Аднак ні рускім-манархістам, ні камуністам не ўдалося спыніць беларускі рух у Чыкага. Наадварот, паклёп і мана паспрыялі крышталізацыі і папулярызацыі беларускіх ідэй і прынцыпаў ды мацней згуртавалі грамаду. У часе, калі этнічная свядомасць беларускіх масаў была на нізкім узроўні, калі беларусам даводзілася супрацьстаяць савецка-расійскаму нацыяналізму і імперыялізму, беларускія лідары ў Чыкага былі, нягледзячы ні на што, здольныя адбіваць удары ворагаў і бараніць ідэю незалежнае дэмакратычнае беларускае дзяржавы. Больш за тое, яны былі здольныя пашырыць уплывы на значную колькасць імігрантаў і прыцягнуць іх у ідэалагічны рух, угрунтаваны на прынцыпе беларускае незалежнасці. У тых цяжкіх абставінах гэта было немалым дасягненнем.



Язэп Варонка з беларускай моладдзю ў Чыкага. 1930-я гг.

[85] Chicago Public Library. Microfilm Archives. Reel 61.



Як мы пабачылі, у 1920–1930-я гады амерыканскія беларусы даволі паспяхова пачалі сваё нацыянальнае арганізацыйнае жыццё. Малыя і вялікія беларускія арганізацыі ўзніклі ў штатах Нью-Ёрк, Нью-Джэрсі, Ілінойс, Індыяна, Мічыган, Пенсільванія і Вісконсін. На жаль, выжылі з іх толькі арганізацыі ў штаце Ілінойс. Гэты досвед паказвае, што нястача адукаваных, нацыянальна свядомых кіраўнічых кадраў у грамадзе амерыканскіх беларусаў стрымала далейшы рост арганізацый і адмоўна адбілася на беларускай дзейнасці. Шмат у якіх выпадках у беларускія арганізацыі пранікі левыя, прасавецкія элементы, якія, выкарыстоўваючы як прыкрыццё магутны прапагандны сімвал БССР, шмат дзе павярнулі дзейнасць арганізацый на свой шлях. У выніку ўсяго гэтага некалькі малых беларускіх арганізацый загінула, тым часам як прасавецкія групы мацнелі. Варта звярнуць увагу на такую з’яву: як толькі прасавецкія элементы пераймалі кіраванне арганізацыяй, яна спыняла існаванне як амерыканская нацыянальная група і рабілася прыдаткам шырокага прасавецкага руху. Існаванне нацыянальных этнічных арганізацый у Злучаных Штатах або, прыкладам, у Аргенціне несумяшчальнае з савецкаю ідэалогіяю. Гісторыя паказвае, што асноваю тактыкі прасавецкіх актывістаў было разбурэнне гэтых этнічна арыентаваных арганізацый.

Тым больш знамянальна, што беларускія арганізацыі ў Чыкага здолелі выжыць, перατрываўшы няспынны жорсткі ўціск і ўдары з розных бакоў. Іхныя кіраўнікі былі дастаткова спелыя і кампетэнтныя, каб трымаць непахісны палітычны курс пад сцягам беларускае нацыянальнае ідэалогіі. Чыкагскі перыяд застанецца важнаю гістарычнаю вяхою ў жыцці беларускае калоніі ў Амерыцы.

Было б лагічна скончыць гэты раздзел аглядам жыццёвага шляху і палітычных поглядаў тых асобаў, якія ўзялі на сябе цяжар заснавання беларускага руху ў Злучаных Штатах.

Станаўленне руху, вядома ж, адбылося не адразу. Пачыналася з некалькіх простых сялянаў-імігрантаў, якія ўсвядомілі, што яны паходзяць з беларускіх земляў, і заснавалі зямляцкія гурткі. Больш выразна выявілі этнічную свядомасць тыя, хто пашыраў беларускія ідэі ў рамках славянскіх і «рускіх» таварыстваў[86]. Сярод апошніх найбольш выдатнаю асобаю быў Сцяпан Бубешка. У прысвечаным яму некралогу было сказана наступнае:

*Сцяпан Іванавіч Бубешка, адзін з найстарэйшых рускіх імігрантаў у Амерыцы, памёр ад крупознага запалення лёгкіх у Джамайкаўскім шпіталі 23 студзеня 1928 года. Было яму крыху болей за 54 гады, і ён хварэў два месяцы. Пахаваны ў Флашынгу 26 студзеня 1928 года. Больш за сотню людзей прыйшлі аддаць яму апошнюю пашану, і на магілу было пакладзена шмат вянкоў ад арганізацый, такіх як Жаночы гурток у Флашынгу, Польскае брацтва ды іншых. Сп. Бубешка пакінуў удаву Ніну, сына Антона, 15 гадоў, і дачку Алесю, 31 год.*

[86] Белоруссы — подлинные лидеры нашей старой колонии в Америке // Белорусская Трибуна. Чикаго. 1931. № 8.

*Сцяпан Іванавіч нарадзіўся ў мястэчку Лунна*[87] *Гарадзенскага павета Гарадзенскае губерні. Ён прыехаў у Злучаныя Штаты 38 гадоў таму. Працаваў у розных месцах і галінах прамысловасці, найбольш у вырабе мэблі. Пасля дваццаці гадоў пралетарскага жыцця ён набыў маленькую ферму ў мясцовасці Флашынг на Лонг-Айлендзе. Неўзабаве, аднак, ён зразумеў, што займацца сельскаю гаспадаркаю ў ваколіцах Нью-Ёрка не мае сэнсу. Ён кінуў фермерства и пайшоў у бізнес, дзе дасягнуў пэўнага поспеху.*

*Бубешка не браў актыўнага ўдзелу ў амерыканскім палітычным жыцці, але быў вельмі блізкі да аднае палітычнае арганізацыі ў Флашынгу.*

*Ён меў добры характар і быў вельмі мяккім чалавекам. І хоць ён дасягнуў пэўнага матэрыяльнага ўзроўню, ён ніколі не забываўся пра сваіх менш удачлівых сяброў і землякоў і заўсёды ім дапамагаў*[88].

Першыя знакі Бубешкавай дзейнасці сярод славянскіх імігрантаў можна заўважыць у перадваенныя і ваенныя гады, калі ён дзейнічаў сярод землякоў. Тады газета *«Новый Мир»* паведамляла, што Бубешка быў адным з прамоўцаў на пахавінах прафсаюзнага арганізатара беларуса Валодзі Татарчыка, забітага ў вулічнай сутычцы. Бубешкава імя згадвалася пазней з дзясятак разоў у сувязі з дзейнасцю Руска-славянскага таварыства ў бруклінскім раёне Браўнсвіл. З палітычнага гледзішча ён быў перакананым антыкамуністам і меў здаровы падыход у арганізаванні славянскіх імігрантаў, выразна вылучаючы сваіх суродзічаў-беларусаў. Бубешка быў першым беларуска-амерыканскім аўтарам, які апублікаваў цытаваны папярэдне кароткі нарыс жыцця беларусаў у Злучаных Штатах. Мяркуецца, што Бубешка браў удзел у выданні колькіх нумароў «Бюлетэня» і ў заснаванні Беларускага прэсавага бюро ў Нью-Ёрку. Ён таксама прычыніўся да арганізавання беларусаў у нью-ёркскай метраполіі.



Язэп Варонка і Янка Чарапук-Змагар. Чыкага, 1931 г.

У перапісцы з дзеячамі ў Коўне Сцяпан Бубешка між іншага пісаў наступнае: *«...нужны средства, а потому рекомендую обратиться через меня в Русско-Славянское общество взаимопомощи, членом которого состою и которое почти что одно из самых солидных обществ в Америке, состоящее целиком из Минчан и Гродненцов»*[89].

Хоць Сцяпан Бубешка і не быў актыўным прапагандыстам, дзеячам БНР, ён да дзяржаўніцкай плыні далучыўся і пакінуў значны след у арганізацыйна-грамадскім жыцці амэрыканскіх беларусаў.

Антон і Янка Чарапукі, бацька і сын, бясспрэчна, былі пачынальнікамі беларускага

[87] Або сяла Дубна Гарадзенскае губ. Гл: Архівы БНР. Т. І. Кн. 2. С. 1039–1041. № 2652, 2653.
[88] Русский Голос. Нью-Йорк. 1928. 29 янв.
[89] Архівы БНР. Т. І. Кн. 2. С. 1055–1056. № 2685.



палітычнага бээнэраўскага руху ў Злучаных Штатах. Янка Чарапук на працягу дзесяцігоддзяў істотна ўплываў на арганізаванае беларускае жыццё ў гэтай краіне. Нарадзіўся ён 12 жніўня 1896 года ў Гарадзенскім павеце, а памёр 16 лістапада 1957 года ў Чыкага. Закончыўшы правінцыйную гімназію каля Горадні, Янка Чарапук паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбурскага ўніверсітэта. З маладых гадоў ён удзельнічаў у беларускім руху, а пасля абвяшчэння Беларускае Народнае Рэспублікі ў сакавіку 1918 года стаўся прафесійным беларускім палітыкам: займаў пасаду паўнамоцнага прадстаўніка Урада БНР у Нямеччыне, балтыйскіх краінах і Чэхаславаччыне. Пазней Чарапук быў пасланы Радаю БНР у Злучаныя Штаты і пачаў арганізацыйную працу сярод беларусаў гэтае краіны. З гэтым заданнем ён выдатна справіўся, сведчаннем чаго — яго больш як трыццацігадовая праца сярод беларускае грамады ў Амерыцы.

Будучы добра адукаваным чалавекам, Янка Чарапук, працуючы з беларускімі імігрантамі, удумліва іх аналізаваў:

*З гутаркі з Беларусамі у Detroit, Grand Rapids, New-York'у і Chicago, у якіх ужо мейсцах я быў, мне удалося устанавіць, што сьвядомасьць ёсьць паміж імі — але каб з іх зрабіць сапраўды беларускіх грамадзян, патрэбна много многа працы, і то мазольнай. Калі гаворыцца а беларусах, та іх трэба раздзеліць на две катэгоры. У першую трэба залічыць беларусаў-католікаў. Якія паддаліся папросту шалёнаму ўплыву польскага клерыкалізму і так называемаму «Polskiemi Związku Narodowetи»... Да другой группы гэтых беларусоў праваслаўных — тут ужо кірунак працы другі павінен быць — гэта элемэнт социалістычны і збальшэвічаны. ...злучыць тыя два лагеры ў адзін на грунце нацыанальным гэта рэч вельмі трудная і спачатку немагчымая. Паперш трэба у іх яшчэ разбудзіць нацыаналізм*[90].



Язэп Варонка. Чыкага, чэрвень 1931 г.

Язэп Варонка быў яшчэ адным выдатным пачынальнікам і кіраўніком беларускага руху ў Злучаных Штатах. Ён прыехаў у гэтую краіну з ініцыятывы Янкі Чарапука як прадстаўнік Рады БНР. Язэп Варонка да свайго прыезду ў Злучаныя Штаты меў ужо значны досвед палітычнага кіраўніцтва, займаючы пэўны час сярод іншага пасаду прэм'ер-міністра Беларускае Народнае Рэспублікі. Ён быў высокаадукаваным чалавекам і адыграў значную ролю ў грамадскім і палітычным жыцці

[90] Архівы БНР. Т. І. Кн. 2. С. 1333–1334. № 3277.

амерыканскіх беларусаў, а ягонае непахіснае жаданне заснаваць магутную беларускую арганізацыю заслугоўвае ўсялякае павагі. Аднак, будучы прагматыкам, Варонка хадзіў сваімі адмысловымі палітычнымі сцежкамі[91].

Варта зацытаваць архіўныя матэрыялы пра палітычныя погляды і дзейнасць Язэпа Варонкі:

*Сп. Варонка, беларус, нарадзіўся ў Гарадзенскай губэрні, гадаваўся і атрымаў асвету ў Санкт-Пецярбургу (цяперашні Ленінград). Прыбыў у Злучаныя Штаты ўвосень 1923 года і ад таго часу жыве з сям'ёю ў Чыкага. Сп. Варонка прыехаў у ЗША з адзінаю мэтаю — адукоўваць беларусаў. У тую пару нацыяналізм пачаў адыгрываць важную ролю сярод беларусаў, асабліва сярод тых, хто перабраўся ў Амерыку, і з гэтае прычыны сп. Варонка, толькі прыехаўшы, пачаў выступаць перад беларусамі ў Чыкага, а таксама ў штатах Вісконсін і Мічыган. Будучы палымяным беларусам, ён спрабаваў абудзіць у іх нацыянальны гонар і самапавагу, вызваліць іх ад чараў сну, у якім ён іх знайшоў. Сп. Варонка прызнаецца, што меў у гэтым мала поспеху дзеля геаграфічнага і этнаграфічнага невуцтва сваіх землякоў. Знайшоўшы сярод іх прыхільнікаў бальшавізму, ён меў вялікія цяжкасці ў сваёй дзейнасці. Паводле сп. Варонкі, гэта былі не бальшавікі, а бальшавікаманы.*

*На думку сп. Варонкі, у Чыкага няма чыста рускае калоніі. Згодна з ягонымі поглядамі, толькі пяць працэнтаў складаюць сапраўдныя рускія (велікаросы); астатніх лучыць з Расіяю хутчэй любоў да рускае культуры, чым нешта іншае. Руская калонія ў Чыкага складаецца пераважна з беларусаў з Гарадзенскае, Менскае, Віленскае, Віцебскае і Магілёўскае губерняў; далей ідуць украінцы з Валынскае, Падольскае, Кіеўскае, паўдзённае часткі Гарадзенскае і заходняе часткі Чарнігаўскае губерняў.*

*Між іншым, сп. Варонка лічыць, што беларусы сваёю эміграцыяю заўдзячаныя яўрэям, якія найбольш прычыніліся да іхнага выезду ў Злучаныя Штаты. Ён падае такі прыклад. Яўрэй уцякае ад праследаў рускага ўраду ў Амерыку. Праз год ён пачынае дасылаць сваёй сям'і грошы. Ягоны сусед-беларус разумее гэта па-свойму і робіць выснову, што тая Залатая краіна — найлепшае месца для селяніна, ды пачынае думаць аб эміграцыі. Так пачалася «руская эміграцыя». Варонкава дзейнасць сустрэлася з апазіцыяю шматлікіх рускіх царкоўнікаў, якія варожа ўспрымалі ягонае асветніцтва. Захаваўшы рэлігійны дух царскіх часоў, яны і ў Амерыцы засталіся патрыётамі старога ладу, і таму супрацiўляліся ягонай дзейнасці. Сутыкнуўшыся з гэткімі цяжкасцямі, Варонка змяніў сваю тактыку. Ён пачаў адчыняць школкі для дзяцей рускіх работнікаў, якія ведалі рускую мову. У паўночнай частцы Чыкага і ў Бэнтан-Харбары, штат Мічыган, ён заснаваў сем школак і цяпер яшчэ сам выкладае ў школе ў Пулмане.*

*У студзені 1924 года ён пачаў супрацоўнічаць з «Русским Вестником», штодзённаю рускаю газетаю. Калі гэтую газету купілі цяперашнія выдаўцы «Рассвета», ён звязаўся з «Рассветом». Супрацоўнічаў таксама ў «Белорусской Трибуне», «Russian Review», «Russian Altmanac» і «Украіне».*

*У 1929 годзе сп. Варонка вырашыў пашырыць поле дзейнасці сярод беларусаў — ахапіць большую частку рускае калоніі. Дзеля гэтае мэты было выкарыстанае радыё. На пачатку праграмы выходзілі па-беларуску толькі раз на тыдзень. Ад самага пачатку сп. Варонка сустрэў зацяты супраціў з боку ультрарускіх патрыётаў з рускае калоніі. Абодва крылы — левае і правае — ставіліся да яго варожа, і таму жыццё «Беларускае Радыёгадзіны» было нядоўгае*[92]...[93].

[91] Byelorussian Statehood. New York, 1988. P. 357–358; Юрэвіч, Л. Наш першы: Язэп Варонка // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 563–584; БЭ. Т. 4. Мінск, 1997. С. 12.

[92] Пад іншымі назвамі і па-руску Варонкава радыё дзеіла да 1950-х гадоў.

[93] [Гутарка з сп. Я. Варонкам, 2009, Кортэз стрыт, дырэктарам рускіх радыёпраграмаў, станцыі WEDC і WSBC] // Chicago Public Library. Microfilm Archives. II-B-2e/IV/III-A; II-B-2e/I-C; Белорусская Трибуна. Чикаго. 1931. № 8.




Айцец Ян Хрызастом Тарасевіч. Чыкага, 1970-я гг.

Айцец Ян Тарасевіч, бясспрэчна, належыць да малое групкі першапраходцаў і лідараў беларускага руху ў Злучаных Штатах. Айцец Тарасевіч нарадзіўся ў вёсцы Клешнякі ў Заходняй Беларусі 30 кастрычніка 1892 года. Эміграваў у Злучаныя Штаты, калі яму было 19 гадоў. Працуючы на баваўняных і абутковых фабрыках у розных штатах, ён вечарамі працягваў вучыцца і паступіў у Місіянерскі каледж Ла Салэт у штаце Канектыкут. У 1917 годзе ён стаўся манахам і быў пасланы ў Фрыбурскі ўніверсітэт у Швейцарыю, дзе атрымаў ступень доктара багаслоўя і філасофіі. Вярнуўшыся ў Амерыку, ён быў высвячаны на святара ў 1923 годзе і прысвяціў сябе навучанню, душпастырскай працы ў шпіталях і беларускаму руху. Аднак найбліжэй да сэрца яму была справа з'яднання ўсходняе і заходняе галінаў хрысціянства, і ён аддаў ёй большую частку сваёй жыццёвай энергіі.

Айцец Тарасевіч быў выдаўцом двухмоўнага руска-англійскага часопіса «*Церковный Голос*», у якім ён разам з шэрагам іншых святароў (сярод якіх былі і беларусы) абмяркоўваў розныя аспекты хрысціянскае дагматыкі, увесь час прапаведваючы збліжэнне з усходнімі братамі. Часопіс, як было папярэдне адзначана, змясціў таксама колькі артыкулаў на беларускія тэмы. Працуючы з беларускімі імігрантамі ў Нью-Ёрку, Канектыкуце і Чыкага, айцец Тарасевіч браў удзел у заснаванні некалькіх беларускіх арганізацый, улучаючы Беларуска-амерыканскую нацыянальную раду ў 1941 годзе, дзе ён быў першым старшынёю. Ён напісаў таксама шэраг зваротаў да Дзяржаўнага дэпартамента і прэзідэнта Злучаных Штатаў, патрабуючы нязменнасці беларускіх межаў па Другой сусветнай вайне. У 1955 годзе айцец Тарасевіч быў адным з заснавальнікаў беларускае каталіцкае парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага й быў прызначаны яе духовым кіраўніком[94].

Гэтыя тры беларускія палітычныя дзеячы — Язэп Варонка, Янка Чарапук-Змагар і а. Ян Тарасевіч — бясспрэчна заслужылі права называцца пачынальнікамі беларускага палітычнага руху бэнээраўскага кірунку, нацыянальнага руху ў ЗША.

Сярод іншых выдатных актывістаў беларускага нацыянальнага арганізацыйнага руху ў Злучаных Штатах Амерыкі трэба згадаць Макара Аблажэя, Ігната Лабача, Паўла Чопку, Міколу Гайдука, Язэпа Курдзёнка, В. Трафімовіча, М. Міхайлоўскага, У. Цібаноўскага. Бясспрэчна, сярод беларускіх дзеячаў павінна быць асобна вылучаная група ксяндзоў — яны і вялі душпастырскую працу, і ладна часу аддавалі грамадскай дзейнасці. Найперш гэта згаданы вышэй а. Ян Тарасевіч (а значна пазней ягоны пляменнік уладыка Уладзімір), а затым ксяндзы а. Андрэй Цікота, які прабыў у Амерыцы кароткі час, але быў вельмі дзейны, а. Віктар Шутовіч, які прабыў у Злучаных Штатах больш за тры гады, спрабуючы арганіза-

[94] Беларуская Царква. Чыкага. 1962. № 23; Парри, А. Ватикан и славяне // Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1978. 7 нояб.; Иеромонах Иоанн. Бедствие Христианства // Церковный Голос. Lisle (IL). 1945. № 2. С. 2–3; Bolshakoff, S. St. Euphrosyne of Polotsk // Церковный Голос. Lisle (IL). 1943. № 5. С. 11; Tarasevich, Chrysostom. A Catholic`s duty toward the Orthodox // Церковный Голос. Lisle (IL). 1939. № 4–5. С. 4–5.

ваць беларусаў-каталікоў, а. Язэп Рэшаць, а таксама а. Міхал Урбановіч, адданы беларускі патрыёт і інтэлектуал, які пашыраў веды пра Беларусь, выкладаючы ў розных школах і каледжах, ды напісаў шмат артыкулаў у амерыканскі англамоўны і неангламоўны друк[95].

Ксёндз Віктар Шутовіч пакінуў успаміны аб сваім побыце ў ЗША:

*Амерыканскае жыццё надта багатае не толькі на грошы, але і на жыццёвую практыку. За тры гады майго там быцця я адкрыў сабе пуцяводную дарожку на ўсё маё жыццё. Другім чалавекам я вярнуўся з Амерыкі. Там убачыў я вялікія гурты народаў. Людзі адзін каля другога жывуць вельмі шчыльна. У грамадзянстве там вярхі з нізамі роўныя. Толькі ў Амерыцы я пабачыў праўдзівую дэмакрацыю. Там памяшана ўсё разам, старыя сярэднявечныя еўрапейскія традыцыі з найнавейшым амерыканскім поступам. Мой там біскуп, як я толькі да яго паказаўся, сам адвёз мяне да хаты сваім аўтам. Я толькі дзівіўся гледзячы, як біскуп спрытна кіруе аўтам.*

*Але добра птушцы ў залатой клетцы, ды лепей ёй на зялёнай ветцы. Так і мне было ў Амерыцы. Я ніколі ў жыцці не плакаў, а ў Амерыцы я спрабаваў гэтага. Было разы са два, што я там, як дзіця, плакаў. Амерыкане вымагалі ад мяне адрачыся свайго і аддацца зусім для іх, так прынамсі мне здавалася. А я на гэта згадзіцца не захацеў. Гэта мне паказалася неразумным і ледзь не здрадай Бацькаўшчыны. У 1932 г. у жніўні я пакінуў Амерыку. Якбы што мне з грудзей звалілася, я вясёлым і шчаслівым вяртаўся ў родны край*[96].

[95] Беларуская Крыніца. Вільня. 1932. 20, 25 жн.; Chryscijanskaja Dumka. Wilnia. 1938. 1 kras., 10 tr.; Перапіска аўтара з Ю. Туронкам. Гл. таксама: Беларус. Нью-Ёрк. 1964. № 87; 1973. № 197.

[96] Гарбінскі, Ю. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя = Die weisrussischen personlichkeiten des geistlichen lebens im XX. jarhundert: Жыццярысы. Мартыралогія. Успаміны. Мюнхен — Мінск, 1999. С. 472–473.

# БЕЛАРУСКІЯ МАСЫ Ў МІЖВАЕННЫМ ПЕРЫЯДЗЕ

Беларускі нацыянальны рух пачынаў прабівацца ў палітычнае жыццё Злучаных Штатаў у 1910-я гады і стаўся больш актыўны пасля Першае сусветнае вайны. Былі заснаваныя беларускія арганізацыі і сфармуляваныя ды выказаныя беларускія палітычныя ідэі і мэты.

Беларускія арганізацыі прыцягнулі, аднак, толькі невялікую частку беларускіх імігранцкіх масаў у Злучаных Штатах. Тысячы беларускіх імігрантаў заставаліся па-за беларускім палітычным рухам і абсягам ягонае дзейнасці. Галоўнаю прычынаю такога ненармальнага становішча была нізкая беларуская свядомасць (або і зусім яе адсутнасць), што было выклікана рознымі фактарамі. Пра ўзровень нацыянальнае свядомасці добра выказаўся Антон Чарапук-Змагар у сваім допісе ў газету «Новае Жыцьцё» (Вільня):

*Беларусаў у Чыкаго налічваецца праваслаўных больш як 35 тысяч, столькі ж і каталікоў. Нацыянальная свядомасць сярод першых большая, як сярод другіх.*

*Беларусы праваслаўныя зарганізаваліся каля такіх устаноў. 1) «Георгиевскаго Братства», 2) «Народнаго Православнаго Товарищества» і 3) «Владимирскаго Братства». Каталікі галоўным чынам згрупаваліся пры «Związku Narodowym Polskim» і пры «Związku Socyjalistǒw Polskich». Вялікае адраджэнне на Бацькаўшчыне шырокай хваляй далящела і сюды*[1].

Вялікім адмоўным фактарам была варожая прапаганда з усіх бакоў, якая змагалася з найменшымі праявамі беларускае асобнасці. Адыграў сваю ролю і традыцыйны беларускі кансерватызм: шматлікія беларускія імігранты ямчэй пачуваліся ў арганізацыях і цэрквах, якія яны самі заснавалі або дапамаглі заснаваць колькі дзесяцігоддзяў перад тым. Ім і сапраўды не было розніцы, як завецца іхная арганізацыя.

Не дзеля таго, каб апраўдаць імігранцкія масы, а дзеля аб'ектыўнасці трэба нагадаць пра складанасць палітычнага становішча ва Усходняй Еўропе пасля забурэнняў 1917 года. Неспрактыкаванаму ў палітыцы чалавеку цяжка было разабрацца ў новай сітуацыі. Для неадукаванага, а часта і непісьменнага імігранта было непасільнаю задачаю самому вызначыць, што за сілы супрацьстаяць адна адной і каго яны прадстаўляюць, а тым болей выснаваць сваю нацыянальную ідэалогію.

Шырокія народныя масы хутка зразумелі, што цара няма і што стары лад разваліўся. Шмат для каго з гэтых імігрантаў былы рэжым значыў парадак і стабільнасць, і таму яны не спяшаліся парушыць вернасць гэтаму рэжыму. Адзін амерыканец першага пакалення пісаў аўтару пра свайго бацьку, беларускага селяніна-імігранта: *«Мой бацька захоўваў вялікую пашану да цара, высмейваў*

[1] Новае Жыцьцё. Вільня. 1923. 1 тр.

*каталіцкіх ксяндзоў і скардзіўся на слабасць Праваслаўнае Царквы і святароў»*[2]. Гэта была тыповая пазіцыя тысячаў і тысячаў беларускіх імігрантаў.

З іншага боку, былі тыя, што хавалі злую крыўду на цара і стары рэжым і з радасцю віталі перамены. Гэтая група, натхнёная, заахвочаная і аслепленая рэвалюцыйнымі падзеямі на радзіме, была гатовая ўчыніць рэвалюцыю і ў Злучаных Штатах. Сацыялістычная, бальшавіцкая і анархісцкая прапаганда, скіраваная на іх перадрэвалюцыйнымі гадамі, распаліла іхны змагарны дух. Галоўным аргументам была класавая барацьба, і працоўныя масы лёгка браліся на гэты кручок. Даўгалетнія намаганні розных прапагандыстаў былі шчодра адплочаныя. «Рускія» імігранцкія масы — ці прынамсі значная іх частка — былі настроеныя да актыўных дзеянняў.

Тыповы прыклад таго, як розныя прычыны спрыялі пашырэнню бальшавізму, даецца ў кнізе Роберта Парка «Імігранцкі друк і кантроль над ім». Калі ў аднаго іміграната з Гарадзенскае губерні запыталіся, ці верыць ён у бальшавізм, ён адказаў: *«Я веру толькі ў адно: калі я вярнуся ў Расію, я буду мець зямлю»*[3].

Хоць яны ў пераважнай большасці ўспрымалі розныя палітычныя ідэі вельмі павярхоўна, гэтыя масы малаадукаваных сялянаў былі гатовыя змагацца за тыя ідэі і надзейна падтрымоўвалі прафесійных палітыкаў, якія складалі кіраўніцтва рэвалюцыйных рухаў. Значная частка беларускіх імігранцкіх масаў была захопленая праграмамі розных рэвалюцыйных, антыкапіталістычных арганізацый. Іхны сялянскі досвед, а таксама вынесеныя з Бацькаўшчыны антыпанскія і антыцарскія пачуцці спараджалі недавер да капіталістычнага дабрабыту. Ім здавалася, што Амерыка — галоўная апора сусветнага капіталізму, які трэба нечым замяніць (або разбурыць).

Такія радыкальныя погляды рабілі з гэтых імігрантаў зручную мішэнь для нападаў ваяўнічых амерыканскіх антырэвалюцыянераў. Мільёны амерыканцаў пільна сцерагліся перад «чырвонаю пагрозаю». Іміграцкія масы, якія ўспрымаліся як рускія, былі ўвасабленнем гэтае пагрозы. Такім чынам, канфлікт быў непазбежны. Сітуацыя пагоршылася пасля Першае сусветнае вайны, калі заквітнелі ўсе віды палітычнага экстрэмізму і дыскрымінацыі. Гэты перыяд адкрыў непрыемную старонку ў гісторыі стаўлення Амерыкі да «славянаў» і «рускіх». Міністр юстыцыі ЗША А. Мітчэл Палмер, натхнёны патрыятычнымі пачуццямі, вызнаючы погляды кансерватыўных амерыканцаў сярэдняга класу, якія палягалі ў тым, каб *«не дапусціць рэвалюцыі»*, пачаў кіраваць жалезным кулаком.

Пачалася эпоха пошуку «падрыўных элементаў», «чырвоных», «камунякаў» і «рэвалюцыянераў», кульмінацыяй якое сталіся гэтак званыя Палмеравы пагромы. Тады, у 1919–1920 гадах, «рускім» амерыканцам давялося перажыць нямала цяжкіх удараў, якія глыбока паранілі іхны дух. Яны былі сярод першых ахвяраў Палмеравых пагромаў, найбольш асацыяваліся ў штодзённай свядомасці амерыканцаў з «чырвонымі радыкаламі» і таму шмат пацярпелі. Дзясяткі іх былі дэпартаваныя на радзіму, а тыя тысячы, што засталіся, на ўсё жыццё захавалі горкую крыўду, і шмат хто перадаў гэтае пачуццё сваім дзецям. Вынікам гэтае чалавечае трагедыі сталася тое, што вельмі шмат каштоўных запісаў, архіваў, публікацый і дакументаў пра іміграцыю было знішчана[4].

[2] Перапіска аўтара з Стэнам Воленсам, 1985. 7 кастр.

[3] Park, R. The Immigrant Press and Its Control... P. 79.

[4] Липоткин, Л. Преследования русских радикалов // Дело Труда — Пробуждение. Нью-Йорк. 1959. Дек. С. 5–7; Колокольцев. Пальмеровские погромы // Дело Труда — Пробуждение.



Смешным і крыўдным аспектам гэтага перыяду было тое, што ўся філасофія пазбаўлення ад «чырвонае пагрозы» не мела пад сабою моцных падставаў: тым часам як шмат якія амерыканскія кангрэсмены, вядучыя палітыкі, інтэлектуалы і нямала бізнесменаў публічна выяўлялі сваю прыхільнасць да рускае рэвалюцыі і новага рэжыму, большая частка амерыканскага грамадства ставілася да бальшавізму з засцярогаю, а даволі вялікая колькасць людзей была варожая новаму крамлёўскаму кіраўніцтву.

На няшчасце, будучы злучаная ў амерыканскай свядомасці з новым рэжымам дзеля свайго геаграфічнага паходжання, гэтак званая руская калонія (якая фактычна складалася галоўным чынам з беларускіх сялянаў) дорага заплаціла за свае антыкапіталістычныя сімпатыі.

Палмеравы пагромы дасягнулі нечаканае мэты: яны кансалідавалі прыхільнікаў шматлікіх радыкальных групаў і далі рэдкі шанец камуністам пашырыць уплывы на іміграцкія масы. Можна з поўным правам запытацца, ці параноя «рускіх» левых у 1930-я гады і пазней не была наступствам Палмеравых часоў.

Выступіў і яшчэ адзін дадатковы фактар, які дадаў цёмных фарбаў у змрочную палітычную карціну рускіх іміграцыйных масаў. Новая хваля імігрантаў з Расіі пачала прыбываць неўзабаве пасля Кастрычніцкае рэвалюцыі. (Гэтым разам тэрмін «рускі» не патрабуе двукосся, бо гэтыя эмігранты былі амаль выключна рускія: былая адміністрацыя, вайскоўцы, інтэлектуалы і г. д.) Тыя імігранты, страціўшы радзіму ў выніку рэвалюцыі і будучы заўзятымі антыбальшавікамі, далучыліся да шматлікіх «рускіх» арганізацый, што існавалі на той час, сталіся лідарамі ў сваіх асяродках і распачалі дзейсную антырэвалюцыйную прапаганду, захоўваючы разам з тым моцную непрыхільнасць да нярускіх нацыянальнасцяў.

Гэтыя людзі маглі ўплываць на шматлікіх беларускіх імігрантаў, што яны з поспехам і рабілі. Разам з тым яны здолелі абудзіць новыя настроі ў межах «рускае» калоніі. Сфармаваліся дзве вялікія фракцыі «рускіх» іміграцыйных масаў: з аднаго боку, левая, рэвалюцыйная, з савецкімі сімпатыямі, якая хоць і была структурна неаднародная, але мела выразна ідэалагічных лідараў, кіраваных з Масквы; з другога боку, антырэвалюцыйная, кансерватыўная ідэалагічная група з прарасійскімі сімпатыямі і з яшчэ большым нутраным расколам.

У гэтых умовах засваенне новых палітычных канцэпцый, такіх як беларускі нацыяналізм, беларуская дзяржава ці беларуская незалежніцкая арганізацыя, непазбежна сутыкалася з велізарнымі перашкодамі. Пераважная большасць беларускіх імігрантаў была проста не ў стане дакладна зразумець розныя канцэпцыі і тым болей прымерыць іх да сябе.

Як былі арганізаваныя гэтыя «рускія» масы? Сярод іхных арганізацый можна вылучыць некалькі групаў: «рускія» рэлігійныя кангрэгацыі, кіраваныя прарасійскімі кансерватыўнымі святарамі і епіскапамі; анархісты; сацыялістычна-камуністычныя арганізацыі, натхняныя і кіраваныя камуністамі пры безумоўнай арыентацыі на Маскву; прарасійскія нацыяналістычныя ўгрупаванні.

Нью-Йорк. 1954. Авг. — дек. С. 11–16; Green, A. Deportation Laws Hit Slavic Americans // The Slavic American. New York. 1947. № 2. P. 13.

## Рэлігійныя арганізацыі

Многія тысячы беларускіх імігрантаў захавалі сувязь з Рускаю праваслаўнаю царквою і падлеглымі ёй брацтвамі пасля рэвалюцыі 1917 года.

Як ужо зазначалася, беларускія імігранты былі будаўнікамі цэркваў і заснавальнікамі шматлікіх парафій гэтае юрысдыкцыі, да якіх пасля належалі ўсё сваё жыццё. Падзеі 1917–1918 гадоў істотна не змянілі палітычных поглядаў тых, хто быў звязаны з рэлігійнымі структурамі, і нават іхныя дзеці і ўнукі, як правіла, засталіся рэгулярнымі наведнікамі царквы. Руская праваслаўная царква, звычайна называная Мітраполія, паспяхова русіфікавала гэтых імігрантаў, перарабляючы іх на «амерыканскіх рускіх». Як шмат засталося іх ва ўлонні царквы, сказаць цяжка. Айцец Віталь Сагайдакіўскі меркаваў, што каля 15 % вернікаў гэтае юрысдыкцыі былі беларускага паходжання, а каля 80 % — украінскага[5]. На нашую думку, працэнт беларусаў у рамках былое Рускае праваслаўнае царквы ў Амерыцы значна вышэйшы — каля 40–45 %.

Неабходна адзначыць, што праз колькі дзесяцігоддзяў, у красавіку 1970 года, гэтак званая Руская мітраполія змяніла свой назоў на Амерыканскую праваслаўную царкву, гэткім чынам часткова прыпыніўшы працэс русіфікацыі і даючы прастору новаму, больш натуральнаму кірунку падзей — амерыканізацыі, у выніку чаго аўтары розных публікацый і святары гэтае канфесіі пачалі прызнаваць, што сярод сённяшніх парафіянаў ёсць шмат нашчадкаў беларускіх імігрантаў. І хоць гэтая юрысдыкцыя не можа быць заменаю Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве, сёння яна ўяўляе з сябе даволі дэмакратычную арганізацыю, якая пачала прызнаваць беларусаў як частку свае паствы і значна прычыняецца да развіцця праваслаўя ў Злучаных Штатах.

## Анархісцкія групы

Анархісцкія тэорыі вабілі да сябе пэўную частку беларускіх масаў: ідэі анархістаў былі простыя, лёгка зразумелыя і здаваліся дасягальнымі. Беларускі ўдзел у гэтых арганізацыях быў вельмі шырокі і вызначаўся тысячамі асобаў. Аднак выразна беларускіх анархісцкіх групаў ніколі не існавала; наадварот, анархісты выказвалі скрайнія антыбеларускія погляды[6].

«Рускія» анархісцкія арганізацыі існавалі шмат у якіх амерыканскіх гарадах, дзе жылі імігранты з Расійскае імперыі, але найбольш актыўныя групы дзеілі ў Бостане, Дэтройце, Нью-Ёрку, Балтымары, Чыкага, Сан-Францыска і Філадэльфіі. Багата беларускіх імігрантаў-анархістаў было ў штаце Нью-Джэрсі. Мясцовы горад Патэрсан лічыўся сталіцай анархістаў. Тут дзейнічала бібліятэка анархісцкай літаратуры, дзе былі і рускамоўныя выданні, працавалі адмысловыя курсы і г. д. У гэтым жа горадзе 2 чэрвеня 1919 года адбыўся вялікі выбух бомбы, падкладзенай анархістамі, пасля чаго ўрадавыя колы ЗША пачалі наступ на прадстаўнікоў гэтага руху. Анархісты зрабіліся асабліва актыўнымі пасля Кастрычніцкае рэвалюцыі, і на сваіх усекаланійных з'ездах (г. зн. з'ездах усяе «рускае» калоніі) 1–4 лютага 1918 года і 6–9 студзеня 1919 года (абодва адбыліся ў Нью-Ёрку) яны заснавалі сваю цэнтральную арганізацыю[7]. Аднак з цягам часу ўплыў анархістаў на імігрантаў змяншаўся, і шмат хто з былых іхных сяброў далучаўся да іншых палітычных арганізацый, такіх як Федэрацыя рускіх сацыялістычных арганізацый у Амерыцы, якая, між іншым, была заснаваная на адным з згаданых вышэй з'ездаў.

У рамках анархісцкіх арганізацый некалькі беларусаў займалі кіраўнічыя пазіцыі. Сярод іх можна назваць д-ра Аляксандра Сянкевіча і яго жонку Ганну, якія заснавалі анархісцкую арганізацыю ў Балтымары. Іх уплывы істотна пашырыліся, аднак асабліва значныя былі яны на Усходнім узбярэжжы[8].

Іншымі беларусамі ў анархісцкім кіраўніцтве былі: Максім Стоцкі, журналіст і пісьменнік, аўтар кнігі «Квадратура Круга», пазней далучыўся да групы РООВА; Аляксей Валянцейчык, псеўданім Дзянісаў; Сямён Хільчук, псеўданім Цярпігора; Нікіфар Гушчык; Васіль Саўчук; Дзям'ян Славуціч; Арцём Яцук; Павал Жук; Ксенафонт Каранеўскі ды іншыя[9].

## Левыя групы ўлучна з «прагрэсіўнымі беларускімі арганізацыямі»

Левыя, і ў тым ліку камуністычныя, групы пачалі засноўвацца ў вялікай колькасці і развіваць сваю дзейнасць неўзабаве пасля кастрычніка 1917 года. Колькасць гэтых групаў і іхных сябраў няспынна расла. Не бракавала і палітычных лідараў, хоць у далейшым шмат хто з камуністычных лідараў вярнуўся ў Расію або быў дэпартаваны. Клімат для развіцця камуністычнае дзейнасці быў надзвычай спрыяльны. Значная частка «рускае» імігранцкае масы была гадамі індактрынаваная лозунгамі класавае барацьбы. Разумеючы, што яны належаць да «ніжэйшых» пластоў грамадства, да грамадзянаў другога гатунку ў амерыканскім кантэксце, гэтыя людзі былі настроеныя даволі ваяўніча. Яны думалі, што сусветная рэвалюцыя ўжо не за гарамі і што іхны абавязак — уступаць у левыя арганізацыі, каб прыспешыць гэтую рэвалюцыю. Трэба таксама падкрэсліць, што кіраўнікі ўсяго амерыканскага левага руху на пачатку стагоддзя былі народжаныя за межамі краіны. Моўныя секцыі камуністычнага крыла, асабліва славянскія і рускія групы, мелі татальную прамаскоўскую арыентацыю і дзейнічалі вельмі незалежна[10]. Практычна кожны вялікі ці малы прамысловы горад у Злучаных Штатах меў «рускія прагрэсіўныя клубы», «таварыствы рускіх работнікаў» і падобнае. Паводле «Руска-амерыканскага даведніка», у 1918 годзе Рускае прэсавае бюро мела кантакты з 75 рускімі арганізацыямі, а ўжо ў 1919 годзе толькі арганізацый рускіх сацыялістаў налічвалася ў Злучаных Штатах каля 150[11]. Харві Клер у сваім разглядзе камуністычнага кіраўніцтва ў Злучаных Штатах пісаў: *«Паміж снежнем 1918 і*

---

[5] Сагайдаківський, В. Правди не втопити. Торонто, 1977. С. 299. Падлікі былі зробленыя ў 12 парафіях Амерыканскае праваслаўнае царквы ў штаце Нью-Джэрсі. Гл.: Папка «Амэрыканская Праваслаўная Царква» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[6] Белорусская Трибуна. Чикаго. 1929. № 3; Волна. Нью-Йорк. 1923. № 39–41. С. 15.

[7] Дело Труда — Пробуждение. Нью-Йорк. 1955. Авг. — дек. С. 14–15.

[8] Русская Рабочая Организация г. Балтиморы // Дело Труда — Пробуждение. Нью-Йорк. Июнь 1958. С. 21–22.

[9] Дело Труда — Пробуждение. Нью-Йорк. 1953. № 42. С. 21; № 43. С. 27; 1956. № 50. С. 12; 1958. № 55. С. 32–33.

[10] Klehr, H. Communist Cadre: the social background of the American Communist Party elite. Stanford (CA), 1978; Proceedings of the 10th Convention of the Communist Party. New York (NY), 1938.

[11] Russian-American Register. New York (NY), 1920. P. 230–232.

*красавіком 1919 года колькасць сяброў рускіх*[12]*, украінскіх, паўдзённаславянскіх, літоўскіх і латышскіх федэрацый павялічылася ад 12 086 да 22 430 чалавек»*[13].

Палітычная свядомасць і рост ваяўнічых настрояў сярод «руска-славянскіх» масаў у выніку падзей 1917–1918 гадоў шырока ўдакументаваныя ў друку[14].

Колькі прыкладаў дазволяць адчуць атмасферу тых часоў:

*Большасць насельнікаў рускае калоніі ў Сан-Францыска сталіся сябрамі анарха-сіндыкалісцкае арганізацыі Саюз рускіх работнікаў*[15].

*З усіх гарадоў Новае Англіі найбольш рускіх прытуліў Бостан. Паводле апошніх падлікаў (1923.—* В. К.*), тут жыве каля 15 тысячаў рускіх, якія паходзяць пераважна з заходніх губерняў і прыбылі ў Злучаныя Штаты перад Сусветнаю вайною. Сярод велізарнае рускае калоніі ў Бостане амаль няма адукаваных людзей, і ўвесь гэты час гэтыя іміграненты жылі як сіроты. Да рэвалюцыі ўсё жыццё гэтае калоніі засяроджвалася вакол царквы. Іншых арганізацый не было, і тут ніхто ніколі не чуў слова «лекцыя», яно было тут проста незнаёмае. Калі выбухнула рэвалюцыя, калонія перамянілася: з богабаязнае яна ператварылася ў рэвалюцыйную. Аднак надзеі вярнуцца на радзіму сталіся ілюзіяю, бостанская калонія разбілася на шматлікія фракцыі і цяпер перабывае ў незайздросным стане. На сёння руская калонія ў Бостане групуецца вакол дзвюх арганізацый: камуністычнае і анархісцкае, з якіх ніводная не захавала свае колішняе энергіі. Ёсць тут таксама праваслаўная парафія, вакол якое згуртавана колькі людзей. Адзінаю непалітычнаю арганізацыяй застаецца таварыства «Знание», якое ўжо амаль памерла*[16].

У іншай амерыканскай публікацыі падаваўся такі допіс з Бостана:

*У 1924 годзе мы зразумелі, што камуністычная прапаганда адчужае ад нас рускія масы Бостана і ваколіцаў, настаўляючы іх супраць нашых устаноў, не даючы ім такім чынам стацца карыснымі грамадзянамі. Адукаваныя рускія і лідары асяродкаў не так даўно прасілі ў нас дапамогі, апісваючы збянтэжанасць і разгубленасць рускіх з іхнага наваколля. Мы вырашылі, што пераканаць у нечым гэтых людзей можна толькі тады, калі з імі будзе гаварыць па-руску (г. зн. у іх мове.—* В. К.*) адзін з іхных землякоў...*[17].

Відаць, бостанскую «рускую» калонію ўдалося нейтралізаваць і вывесці з рэвалюцыйнага анарха-сацыялістычна-камуністычнага шляху тым лагічным ходам, што айцамі горада быў знойдзены чалавек, які змог загаварыць да людзей зразумелаю ім моваю. У пэўным сэнсе бостанскі досвед быў унікальны ў тым, што «руская» грамада была ўцягнутая ў больш шырокае жыццё і развязанне сваіх праблемаў, чым была пазбегнутая магчымая канфрантацыя. Аднак «рускія» калоніі ўсюды былі ў стане «шумавання», і іх нялёгка было супакоіць у большасці прамысловых цэнтраў па ўсіх Злучаных Штатах. Падзеі 1918–1920 гадоў жыва захаваў у памяці бостанскі беларус Даніла Казушчык, пазней шматгадовы актыўны лідар розных прасавецкіх груповак у Злучаных Штатах. Ён апісваў, як уплывала

[12] У перапісцы з аўтарам Х. Клер з жалем зазначыў, што не рабіў розніцы паміж беларусамі і рускімі ў сваіх даследаваннях.

[13] Klehr, H. Communist Cadre... P. 21.

[14] Волна. Нью-Йорк. 1921. № 12–13. С. 18–20; Голос Труженика. Чикаго. 1917–1927; Голос Труда. Чикаго. 1911–1919; Свободная Россия. Чикаго. 1917–1923; Хлеб и Воля. Нью-Йорк. 1919.

[15] Каторга и Ссылка. Москва. 1927. № 30. С. 169–179.

[16] Наука и Жизнь. Нью-Йорк. 1923. Сент. С. 19.

[17] Our Boston. Boston. 1926. № 1 (6). P. 27.



на імігрантаў агітацыя газеты *«Новый Мир»* і як імігранты з «рускае» калоніі ў Бостане і ў іншых гарадах рабіліся радыкаламі і нават камуністамі. Ён прыгадваў, што рэвалюцыйны дух масаў у канцы 1910-х гадоў дасягнуў вяршыні і падняўся вышэй нацыянальных межаў: беларусы, палякі, латышы, украінцы і іншыя былі аб'яднаныя агульнаю ідэяй — ідэяй барацьбы з капіталізмам[18].

Дзейнасць левых са значнай беларускай свядомасцю была распаўсюджаная ў шмат якіх буйных прамысловых цэнтрах Амерыкі. Прыкладам, у горадзе Кліўлендзе беларускія камуністы дзейнічалі, арганізоўваліся, былі знаёмыя з газетай «Наша Ніва», але стварылі трывалыя беларускія арганізацыі толькі беларусы па Другой сусветнай вайне. Добра прааналізаваў дзейнасць левых у Кліўлендзе сп. Міхась Белямук у мемуарах «Свайго лёсу не мінеш»[19].

Такім чынам, вельмі значная частка «рускае» калоніі ў Злучаных Штатах была ў першыя паслярэвалюцыйныя гады ў стане рэвалюцыйнага хвалявання, і цяжка было прадказаць, у які бок гэтыя масы могуць накіраваць сваю дзейнасць і энергію.

Што да беларускае свядомасці, дык тут адбываўся цікавы працэс. Як толькі нацыянальна свядомыя беларусы пачалі засноўваць беларускія нацыянальныя арганізацыі ў гарадах Нью-Ёрк, Чыкага ды ў штатах Вісконсін, Нью-Джэрсі і г. д., левыя зацікавіліся беларускім пытаннем. Такая сітуацыя незадоўга перад тым мела паралель: неўзабаве пасля абвяшчэння Беларускае Народнае Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года камуністы ў адказ на гэта стварылі Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку 1 студзеня 1919 года. Гэтаксама ўслед за прагрэсам нацыянальнага руху камуністы ў Злучаных Штатах распачалі працэс стварэння шматлікіх беларускіх арганізацый левае, ці, як яны называлі, «прагрэсіўнае», ідэалагічнае арыентацыі, бессаромна імітуючы папярэднія захады беларускіх нацыянальных актывістаў прабеларускае дэмакратычнае ідэалогіі.

Чаму камуністы нечакана выявілі зацікаўленне нацыянальным рухам? Адказ на гэтае пытанне, на думку аўтара, даволі просты: камуністы ўважалі, што ў той час беларусы былі ўрадліваю глебаю для палітычнае агітацыі. Будучы часткаю амерыканскага работніцтва, яны маглі б стацца добрым пасярэднікам для пранікнення ў рабочы рух і сеяння там неспакою. Апелюючы да беларусаў, камуністы ўжывалі два галоўныя аргументы. З аднаго боку, абвешчаная ў 1919 годзе Беларуская Савецкая Рэспубліка перажывала эканамічны і культурны прагрэс, там ажыццяўляліся нацыянальныя памкненні беларускага народа — *«людзьмі звацца»*. З другога — беларусы, якія жылі ў Польшчы, *«у заходнім, капіталістычным грамадстве»*, паводле камуністычнага разумення, мусілі працягваць барацьбу. Палякі не прызнавалі нацыянальных правоў беларусаў, не супрацоўнічалі з імі, а, наадварот, імкнуліся задушыць беларускі рух і знішчыць беларусаў як асобную нацыю. Камуністы ўмела эксплуатавалі гэтыя моманты ў сваіх заляцаннях да беларусаў у Злучаных Штатах. Яны разумелі таксама, што беларускі нацыянальны рух на Бацькаўшчыне заваёўваў усё большую падтрымку і меў на сваім рахунку значныя дасягненні. Камуністы баяліся, каб нешта падобнае не сталася ў Злучаных Штатах, г. зн. каб

[18] Казущик, Д. Свет из России // Славяне. Москва. 1957. № 1. С. 24–27; Казущик, Д. Первые шаги. Минск, 1970; Голас Радзімы. Мінск. 1967. № 2. (Даніла Казушчык, спраўны і адданы кіраўнік шмат якіх прасавецкіх арганізацый у Амерыцы, быў беларускага паходжання і пасля выхаду на пенсію пераехаў жыць у Мінск, дзе і памёр 31 снежня 1966 года.)

[19] Белямук, М. Свайго лёсу не мінеш. Вільня, 2006. С. 92–96.

беларусы не ўзмоцніліся, не арганізаваліся і не выраслі ў сілу, з якою трэба лічыцца. Таму яны адчулі неабходнасць прэвентыўных захадаў, якія палягалі ў стварэнні лева-камуністычных арганізацый у беларускіх іміграцыйных масах. Бясспрэчна, камуністы ведалі таксама, што, пакуль Савецкая Беларусь была занятая сваімі праблемамі, беларускія актывісты ў Заходняй Беларусі змагаліся з палякамі, а беларускі актыў у Злучаных Штатах быў малалікі і параўнальна слабы. Неабходна было стаць у авангардзе беларускае грамады так, каб, калі спатрэбіцца, беларускія камуністычныя лідары былі гатовыя заняць ключавыя пазіцыі. Усе гэтыя развагі змушалі камуністаў браць ініцыятыву арганізацыі і часткоўвага ўсведамлення беларускіх работнікаў у Амерыцы. І гэта яны рабілі на працягу 1920-х гадоў.

Перш за ўсё была распачатая прапаганда дасягненняў Савецкае Беларусі і асвятленне барацьбы беларускага народа пад Польшчай у газетах *«Русский Голос»* і *«Новый Мир»* ды ў некаторых іншых выданнях. Пачалася шырокая кампанія сярод беларускіх работнікаў з мэтаю стварэння арганізацый дапамогі беларусам пад Польшчаю і ўсталявання больш цесных кантактаў з Савецкаю Беларуссю.

Моцна ўзняліся антыпольскія пачуцці сярод амерыканскіх беларусаў і праз канфрантацыі на рэлігійнай глебе. З нічым не абгрунтаваных прычынаў польскія палітычныя і рэлігійныя ўлады патрабавалі ўсіх рыма-каталікоў у Польшчы лічыць палякамі. Аднак беларусы-каталікі не хацелі быць палякамі, бо яны лічылі сябе і былі беларусамі. Да таго ж у Заходняй Беларусі дзейнічала вялікая актыўная група беларускіх ксяндзоў. З добраслаўлення ўрада польская каталіцкая іерархія выступіла супраць іх з жорсткімі рэпрэсіямі, выслаўшы некаторых у Заходнюю Еўропу, іншых — на Далёкі Усход, а а. Вінцэнта Гадлеўскага пасадзіўшы за краты.

Цярпелі ад польскіх уладаў і праваслаўныя, і таму Руская праваслаўная царква ў Амерыцы арганізавала адмысловыя групы дапамогі беларусам у Польшчы, такія як Народнае брацтва заходніх рускіх у Паўночнай Амерыцы, заснаванае ў 1921—1922 гадах, або Камітэт абароны праваслаўя і рускае меншасці ў Польшчы, заснаваны ў канцы 1930-х гадоў. Гэтыя групы заклікалі беларусаў і ўкраінцаў у Польшчы супрацьстаяць польскім нападам і захоўваць праваслаўную веру[20].

Такая палітыка польскіх уладаў мела велізарныя негатыўныя вынікі: яна сеяла неспакой сярод беларускіх імігрантаў у Злучаных Штатах і стварала прыдатную глебу для камуністычнае прапаганды.

Камуністычныя групы як найлепей выкарыстоўвалі гэтую сітуацыю. Ведаючы, што шмат беларускіх імігрантаў у Злучаных Штатах паходзілі з Заходняе Беларусі, левыя актывісты пачалі ствараць Беларускія народныя таварыствы, якія былі звязаныя з арганізацыямі накшталт МОПРа. Звяртаючыся да беларускіх імігрантаў, яны пісалі:

*Вас (беларусаў. —* В. К.*) так шмат ва ўсіх прамысловых гарадах Злучаных Штатаў... Вы мусілі б пайсці за прыкладам вашых італьянскіх таварышаў, якія арганізавалі ў Злучаных Штатах вельмі эфектыўныя антыфашысцкія групы*[21].

Беларускія народныя таварыствы былі заснаваныя скрозь у большых і меншых гарадах: у Бостане і Лорэнсе (штат Масачусэтс), Чыкага (штат Ілінойс), Дэтройце

[20] The Orthodox Church of America. Dept. of History and Archives. Syosset (NY). Folder Western Russians in Poland; Борьба за Русь. Нью-Йорк. 1922. № 1.

[21] Новый Мир. Нью-Йорк. 1927. 19 марта.



і Грэнд-Рэпідсе (штат Мічыган), Геры (штат Індыяна), Нью-Ёрку і Бафала (штат Нью-Ёрк, Пасейку і Ньюарку (штат Нью-Джэрсі), Філадэльфіі і Уілкс-Бэры (штат Пенсільванія)[22]. Актыўна агітавалі аб дапамозе беларускім палітвязням у Польшчы такія групы, як Камітэт дапамогі палітвязням у Польшчы, Бабруйскі работніцкі гурток, Рускі прагрэсіўны клуб у Омаха (штат Небраска), Таварыства руска-амерыканскіх грамадзянаў у Заходняй Філадэльфіі, Саюз рускіх пралетарыяў і сялянаў у Амерыцы, «Селянін» (штат Нью-Ёрк) ды іншыя «рускія прагрэсіўныя» арганізацыі[23]. Быў заснаваны нават Агульнаамерыканскі камітэт дапамогі народам Заходняе Беларусі[24]. Сталіся звычайнымі, прыкладам, такія паведамленні:

*Масавы мітынг беларусаў у Грынпойнце (Бруклін). У нядзелю 6 лютага 1927 года а 2 гадзіне папаўдні ў Рускім народным доме, 106 Клэй стрыт, у Брукліне (Грынпойнт) адбудзецца масавы мітынг беларусаў для арганізацыі маральнае і матэрыяльнае дапамогі беларускім работнікам і сялянам, якія пакутуюць пад невыносным ярмом польскіх паноў. Ніводзін беларус, які жыве тут, не павінен заставацца абыякавы да тае гераічнае і шматпакутнае барацьбы, якую вядуць там, на бацькаўшчыне, нашыя браты, якія імкнуцца вызваліцца ад панскага ярма.*

*На мітынгу выступіць тав. Асташэўскі, будзе таксама дадзеная магчымасць выказацца ўсім ахвотным. Будуць чытацца лісты, атрыманыя з Беларусі.*

*Прыходзьце ўсе, каб дапамагчы арганізаваць пасільную дапамогу нашым братам, якія пакутуюць на бацькаўшчыне*[25].

Газета *«Русский Голос»* падала зацемку пра той самы сход, але ў трохі іншым тоне:

*Першы мітынг беларусаў, які адбыўся ў Грынпойнце 28 студзеня, сабраў шмат публікі. Быў зачытаны цэлы шэраг лістоў з Беларусі, якая цяпер знаходзіцца пад польскаю ўладаю.*

*Карэспандэнты апісваюць прыгнёт, пад якім жыве беларускі народ у Польшчы. На сходзе было аднагалосна пастаноўлена арганізаваць Саюз беларусаў у Грынпойнце, дзе большасць выхадцаў з Расіі належыць да беларусаў.*

*Сёння а 2 гадзіне папаўдні адбудзецца другі мітынг беларусаў у Рускім народным доме, 106 Клэй стрыт. Запрашаюцца ўсе, хто падтрымоўвае ідэю аб'яднання беларусаў*[26].

У выніку ў Брукліне было заснавана некалькі беларускіх народных таварыстваў, якія былі цэнтралізаваныя пад шыльдаю Саюза беларусаў горада Брукліна[27].

Падобныя арганізацыі былі закладзеныя ў Чыкага (склад кіраўніцтва: Ф. Літола, рэгістрацыйны сакратар; А. Румак, фінансавы сакратар; І. Зырко, скарбнік; І. Сямашка, прадстаўнік цэнтральнае арганізацыі, г. зн. Міжнароднае рабочае дапамогі; А. Жыронас, прэсавы рэферэнт), Нью-Ёрку і штаце Нью-Джэрсі. Усюды

[22] Русский Голос. Нью-Йорк. 1927. 24 марта, 6, 13 июня; 1928. 7, 18, 20, 21 мая, 18, 27 июля.

[23] Русский Голос. Нью-Йорк. 1926. 26 янв., 3 февр.; 1927. 17 февр., 21, 23 апр.; 1929. 26 окт., 4 нояб.; 1930. 17, 23 окт., 13 дек.; 1931. 13 янв.

[24] Новый Мир. Нью-Йорк. 1928. 21 апр.

[25] Новый Мир. Нью-Йорк. 1927. 5, 12 февр.

[26] Русский Голос. Нью-Йорк. 1927. 6 февр.

[27] Гутарка аўтара з Васілём Смыгам, беларускім імігрантам, жыхаром Нью-Ёрка ад 1911 года, 1968; Русский Голос. Нью-Йорк. 1927. 8 июня; Новый Мир. Нью-Йорк. 1928. 21 апр.

арганізоўваліся мітынгі пратэсту супроць дзеянняў польскіх уладаў у Заходняй Беларусі[28].

Калі пачыналася гэтая інспіраваная камуністамі кампанія стварэння беларускіх арганізацый, яна сутыкнулася з шэрагам лакальных праблемаў. Напрыклад, у Нью-Ёрку беларусы хацелі сфармаваць незалежную беларускую арганізацыю, якая мелася б стацца працягам Беларускага таварыства, якое існавала ў горадзе ў 1921—1922 гадах. Пра гэта паведаміў аўтару ў 1965 годзе Сцяпан Жукоўскі, беларускі іміграНТ, старажыл Нью-Ёрка[29]. Такая арганізацыя ніколі не была заснаваная з прычыны непаразуменняў паміж беларускімі актывістамі і камуністамі. Пра гэта дазваляе меркаваць і адна з надрукаваных справаздачаў. Вось што сп. Сымон Салкоўскі, адзін з ініцыятараў новае беларускае арганізацыі, выказаў у лісце ў *«Русский Голос»:*

*У адказ на шматлікія запыты рускіх імігрантаў, звернутыя да мяне як да былога часовага сакратара ініцыятыўнае групы Саюза беларусаў для дапамогі Заходняй Беларусі, я лічу сваім абавязкам выступіць з гэткаю заявою: на супольным сходзе ініцыятыўнае групы і камісіі, адказнае за складанне праекта статута будучага Саюза беларусаў, узніклі спрэчкі ў пытаннях тактыкі аказання дапамогі Заходняй Беларусі, а таксама вакол структуры будучае арганізацыі. Некаторыя ўдзельнікі сходу выказвалі думку, што кіраўніцтва ў арганізацыях такога тыпу мусіць належаць Камітэту рускіх арганізацый дапамогі Заходняй Беларусі*[30].

У гэтым выпадку сталася так, што левае кіраўніцтва страціла давер да людзей накшталт Салкоўскага, якія лічылі, што ў справах, якія датычаць Беларусі, кіраўнічая роля мусіць належаць этнічным беларусам, а не Камітэту рускіх арганізацый. Камуністы падазравалі, што беларускія лідары — Язэп Варонка, Янка Чарапук ды іншыя — маглі мець уплыў на такіх людзей, як Сымон Салкоўскі. З гэтае прычыны левы друк узмоцніў і пашырыў кампанію нападаў на беларускае кіраўніцтва. Галоўнымі аргументамі нападаў было тое, што Варонка і ягоныя беларускія сябры былі ворагамі рабочага класа, што яны хацелі скінуць савецкі ўрад, агітавалі імігрантаў галасаваць за капіталістычныя партыі і г. д. Гэтыя атакі на паасобных беларускіх лідараў працягваліся дзесяцігоддзямі[31].

Камуністы заахвочвалі беларускіх імігрантаў наведваць Бацькаўшчыну, трымалі кантакты з рэпатрыянтамі і выступалі з заклікамі да беларускіх сяброў іншых «рускіх» арганізацый:

*Заклікаем сяброў гэтых арганізацый падтрымаць вядомага беларускага палітычнага лідара Браніслава Тарашкевіча і выказаць асуджэнне польскаму фашысцкаму ўраду, вязнем якога ёсць Тарашкевіч. Вышэй згаданыя арганізацыі амаль цалкам складаюцца з асобаў, якія паходзяць з Заходняе Беларусі, якая цяпер стогне пад польскім ярмом*[32].

Камуністычная прапаганда гэтых левых групаў была даволі эфектыўная; яны наладзілі пісьмовыя кантакты з Бацькаўшчынаю і замежжам. Вось тыповыя прыклады такіх «кантактаў», як яны рэкламаваліся ў шматлікіх публікацыях. Ліст у газету *«Русский Голос»* (Нью-Ёрк) ад Таварыства палітычных эмігрантаў з Заходняе Беларусі з сядзібаю ў Маскве:

*Дарагія таварышы!*

*Таварыства палітычных эмігрантаў з Заходняе Беларусі даведалася з друку, што ў Чыкага ёсць беларуская арганізацыя, падобная да нашай. Завецца яна «Камітэт дапамогі палітвязням у Польшчы». Мэты гэтае арганізацыі ідэнтычныя нашым.*

*Мы ведаем, што група імігрантаў у Злучаных Штатах, якая называецца «рускімі імігрантамі», на тры чвэрці складаецца з беларусаў, большасць з іх паходзіць з Заходняе Беларусі, гэта значыць з Гарадзенскае, Віленскае ды часткова з Менскае і Сувальскае губерняў.*

Далей у лісце разглядалася праграма арганізацыі ды яе захады ў справе дапамогі і пашырэння інфармацыі пра Заходнюю Беларусь, а таксама сцвярджалася, што зверствы палякаў над беларусамі перавышаюць зверствы «Мікалая Крывавага». Таварыства заклікала беларусаў-амерыканцаў і амерыканскі народ дапамагчы беларускім палітвязням, просячы, каб іхны ліст быў надрукаваны ў прыхільных выданнях. Ліст падпісаны: старшыня Чудзёнак, сакратар Ромаш[33].

Камуністычная прапаганда ў сваіх імкненнях пасеяць неспакой у грамадзе часам губляла пачуццё рэальнасці. Добрым прыкладам можа быць гэткі ліст:

*Геры, штат Індыяна. У Амерыцы шмат беларусаў. Няма ў свеце гэткае краіны, куды б праклятыя польскія ўлады не змусілі б эміграваць беларусаў*[34].

Гэтае цвярджанне выяўляе глыбокую наіўнасць. Як выглядае, карэспандэнт не ведаў, што большасць беларусаў эмігравала задоўга да таго, як у 1918—1920 гадах адрадзілася Польская дзяржава.

Левыя беларускія арганізацыі друкавалі свае заклікі ў падтрымку Заходняе Беларусі ў самых розных перыядычных выданнях, падмацоўваючы іх аўтарытэтнымі подпісамі:

*Далоў польскіх фашыстаў — катаў прыгнечаных народаў! Хай жывуць рэвалюцыйныя рабочыя масы Польшчы, Заходняе Украіны і Заходняе Беларусі, магільшчыкі польскага фашызму! Хай жыве Уз'яднаная Савецкая Украіна і Уз'яднаная Савецкая Беларусь!*

Пад заклікам падпісалася шмат пісьменнікаў, сярод іх Анры Барбюс, Луі Арагон, Аптан Сінклер, Майкл Гоўлд і Джон Дос Пасас[35].

Гульня на нацыянальных пачуццях была добра прадуманая камуністамі. Калі яны ўважалі гэта дарэчным і карысным, яны ўжывалі нават беларускую мову. Гэтак было з рэзалюцыяю, прынятаю на з'ездзе Беларускіх баявых рэвалюцыйных арганізацый 25 красавіка 1932 года ў Савецкай Беларусі і надрукаванаю ў газеце *«Новый Мир»*[36]. Тэма гэтага з'езда і змест рэзалюцыі датычаць Алабамскага лінчавання (справа Скотсбара). Беларускія баявыя рэвалюцыйныя арганізацыі выказваюць салідарнасць з амерыканскімі камуністамі. Каб падкрэсліць нацыянальны аспект, рэзалюцыя, напісаная на беларускай мове, была змешчаная ў рускамоўнай газеце, што адразу кідалася ў вочы чытачу.

[28] Гутарка аўтара з Раманам Сакальчуком, 1973; Палуян, У. Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада. Мінск, 1967. С. 201; Новый Мир. Нью-Йорк. 1927. 5 марта; 1928. 14 апр.; Русский Голос. Нью-Йорк. 1928. 17 янв., 28 февр.

[29] Гутарка аўтара з Сцяпанам Жукоўскім, 1965.

[30] Русский Голос. Нью-Йорк. 1928. 1 дек.

[31] Новый Мир. Нью-Йорк. 1932. 11 июня; Белорусская Трибуна. Чикаго. 1932. № 11; Папка Я. Варонкі ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[32] Новый Мир. Нью-Йорк. 1932. 3 дек.

[33] Русский Голос. Нью-Йорк. 1927. 17 февр. Гл. таксама: Сялянская Ніва. Вільня. 1926. 25 жн.; Савецкая Беларусь. Мінск, 1926. № 156.

[34] Новый Мир. Нью-Йорк. 1937. 27 нояб.

[35] Soviet Literature in 1931 // Literature of the World Revolution. Moscow. 1931. № l. P. 126—127.

[36] Новый Мир. Нью-Йорк. 1932. 28 мая.

Каб ажывіць кантакты беларускіх імігрантаў у Амерыцы з Бацькаўшчынай ды ўславіць камуністычную эканамічную палітыку і савецкі лад жыцця, савецкія ідэолагі выбралі адмысловы прапагандны метад: інтэнсіўную кампанію ліставання. Пачынаючы з сярэдзіны 1920-х гадоў гэты праект, задуманы ў Маскве, быў спушчаны да ўзроўню саюзных рэспублік.

Шмат якія ўсесаюзныя і рэспубліканскія выданні мелі адмысловыя аддзелы міжнароднае пошты, як, прыкладам, у Беларусі газеты «Звязда», «Віцебскі пралетары», «Палеская праўда» ды іншыя. Міжнародная перапіска вялася таксама на ўзроўні паасобных прадпрыемстваў. У 1926 годзе ў Менску было заснаванае Бюро міжнароднае рабочае сувязі. Паводле звестак гэтае арганізацыі, Савецкая Беларусь атрымала і даслала 4035 лістоў, а ў 1926–1927 гадах — 4209 лістоў[37].

У кампаніі ліставання ў Злучаных Штатах выкарыстоўваліся галоўным чынам рускамоўныя газеты, такія як *«Новый Мир»* і *«Русский Голос»*. Лісты часта былі напісаныя па-беларуску. Былі яны вельмі наіўныя, поўныя таннае прапаганды, неадпаведныя рэальным умовам, хоць яны пісаліся прафесійнымі рэдактарамі, якія ведалі Злучаныя Штаты больш тэарэтычна, чым практычна. Колькі прыкладаў гэткіх лістоў дадуць уяўленне пра агульны іх тон і змест:

*Ліст з Савецкага Саюза.*

*Добры дзень, наш дарагі сябар Міхаіл Кукрэш! Вы пыталіся ў мяне пра дактароў і аптэкі. Спярша пра дактароў. Дактары ў нас увесь час на дзяржаўнай зарплаце. Калі гараджанін або селянін прыходзіць да доктара, доктар аглядае яго, дае рэцэпт і за гэта атрымвае ад пацыента падзяку. Дактарам не дазваляецца браць плату з пацыентаў. Усе аптэкі належаць дзяржаве; прыватных аптэк няма. За лекі раней не плацілі. Але, здаецца, два месяцы таму назад пачалі плаціць, але вельмі малы працэнт. У нас няма прыватнае ўласнасці, усё дзяржаўнае. Мы ведаем толькі адно, што лясы, палі, моры, фабрыкі, жывёла і г. д. належаць рабочым і сялянам. Гаспадар усяго гэтага — пралетарская дзяржава. У нас цяпер няма майго-твайго, а ўсё наша. Гэта цудоўна для рабочых і сялянаў, але вельмі балюча для кулакоў і буржуазіі. Цікава зазначыць, што марка для звычайнага замежнага ліста каштуе 15 капеек. Я вам пісаў раней, што хуткасць савецкіх самалётаў — 300 км на гадзіну, але гэта няпраўда — не 300, а 600 і болей. Так што вораг Савецкага Саюзу мусіць берагчы свае варожае вуха, бо сталёвая птушка з чырвонаю зоркай можа адарваць не толькі вуха, але і галаву. Зараз, у канцы кастрычніка, савецкія чырвоныя байцы атрымалі новую форму. Старыя карычневыя шынялі замянілі новымі — сталёвага колеру. Вельмі прыгожыя чырвоныя байцы, яны апранутыя на славу сусветнага пралетарыяту і на страх буржуям і кулаком.*

*Дарагі Майк! У нас цяпер быць і глядзець на ўсё — добра, жыццё ў нас цэняць, і жыццё нашае вельмі цікавае. Вось, для прыкладу, чырвоны камандзір і чырвоны баец — радавы салдат ходзяць разам па вуліцах, адзін аднаго цыгаркамі частуюць, ставяцца адзін да аднаго, як родныя браты, разам гуляюць, смяюцца, часамі разам выпіваюць па шклянцы піва або віна. Калі на ўсё гэта глядзіш сваімі вачыма, дык душа радуецца. Бо ж я сам быў артылерыст царскай арміі і калі сустракаўся з царскім афіцэрам, дык выцягваўся, як барабанная скура... Нашага байца не звядуць з дарогі папы, ксяндзы і рабіны. З ім трэба ўмець весці размову.*

*Дарагі Майк! Хай Нестар прыяжджае ў Савецкі Саюз, тут ён будзе працаваць і жыць не горш, чым у Амерыцы...*

*30 кастрычніка 1935 г.*
*Б.С.С.Р.*
*Горад Бабруйск,*

[37] Вопросы истории. Минск, 1980. С. 32–42.



*Акцябрская вул., 124*
*Шардыка Васіль Дарафеевіч*[38].

Лісты адрасаваліся фермерам, работнікам, у школы, паасобным імігрантам. Вось, прыкладам, ліст фермеру:

*Прывітанні ад беларускага калгасу «Барацьбіт» газеце «Новый Мир»! Наш калгас змагаецца за справу Рабочых і Сялянаў, і мы звяртаемся да бедных амерыканскіх фермераў*[39].

Або гэткае:

*Мы, беларускія калгаснікі, вельмі шчаслівыя, што намі кіруе наш любімы Сталін, і мы ганарымся тым, што будуем сацыялізм*[40].

У іншым лісце, адрасаваным амерыканскаму сябру, прасілася аб фінансавай дапамозе на пабудову школы. Спачатку гэты даўгі ліст тлумачыць, як маладое пакаленне пачало разумець важнасць умення чытаць і пісаць:

*...і ўсё гэта дзякуючы нашаму новаму ладу. Каб дасягнуць адукацыйных мэтаў, нашая камсамольская арганізацыя пастанавіла пабудаваць школу. Аднак, з прычыны вайны і бандыцкіх разбурэнняў, краіна не можа сабе дазволіць цалкам аплаціць будоўлю школы. І таму мы вырашылі напісаць у Амерыку.*

Далей у лісце абяцаюць цёпла прыняць амерыканскіх дзяцей беларускага паходжання і дапамагчы ім у вучэнні, калі яны прыедуць у Беларусь. Канчаецца ліст так: *«Спадзяемся, што наша просьба будзе пачутая і вы дапаможаце нам»*[41].

У канцы 1920-х і на пачатку 1930-х гадоў пачалася шырокая і інтэнсіўная кампанія па зборы сродкаў для набыцця трактароў і грузавікоў. Трэба сцвердзіць, што камуністычныя групоўкі, заявіўшы і распачаўшы шырока трубіць пра патрэбу дапамогі Беларусі, вельмі ўдала выкарысталі папярэднія дасведчанні ў такім пачынанні. Вядомая справа, уся Беларусь і заўсёды з прыемнасцю і ўдзячнасцю прымала амерыканскую дапамогу. А дапамога ішла і грашыма, і пасылкамі як індывідуальных эмігрантаў, так і арганізацыйная. Беларускія арганізацыі ў Чыкага дапамагалі беларускім школам. Амерыка стварыла вялікую арганізацыю — АРА — «Амерыканская адміністрацыя дапамогі», якая ў 1919–1923 гадах шырока дапамагала харчамі, лекамі ў еўрапейскіх краінах, улучна з Беларуссю, і пакінула незабыўны пазітыўны ўспамін. Дык чаму ж не кінуцца ў дапамогу Беларусі, з чым прыйдзе і камуністычная першая мэта — пашырэнне камунізму[42]? Мітынгі і сходы адбываліся ў дзясятках гарадоў і мястэчак. Практычна ўсе прасацыялістычныя — «рускія» і «нярускія» — арганізацыі адгукнуліся на гэты псіхоз куплення амерыканскіх трактароў і высылання іх у СССР. Праграма пашырылася не толькі на гарады, а таксама на парафіі і індывідуальных асобаў[43].

[38] Новый Мир. Нью-Йорк. 1934. 5 мая; 1935. 29 нояб.

[39] Новый Мир. Нью-Йорк. 1936. 6 апр.

[40] Новый Мир. Нью-Йорк. 1935. 13, 16, 30 дек.; 1936. 16 янв.

[41] Русский Голос. Нью-Йорк. 1927. 25 авг.

[42] У гэтай кнізе мы не даследуем шматгадовае працы *ARA* ў Беларусі, хоць, безумоўна, гэтая тэма ўваходзіць у шырокае разуменне беларускай дзейнасці і амерыканска-беларускіх дачыненняў. Тэма амерыканскай дапамогі Беларусі разглядалася і Алесяй Кіпель (гл.: Запісы БІНіМ. № 16. Нью-Ёрк, 1978. С. 61–83) і грунтоўна распрацаваная А. Лукашуком у кнізе «Прыгоды АРА ў Беларусі» (Прага, 2005) ды ў артыкуле У. Снапкоўскага ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (Т. 6. Кн. 2. 2004).

[43] Русский Голос. Нью-Йорк. 1929. 18 нояб.

Шматлікія арганізацыі заснавалі Фонд трактароў і грузавікоў. Беларуская левая арганізацыя Камітэт дапамогі Заходняй Беларусі была адным з актыўных заснавальнікаў гэтага фонду. Кампанія мела поспех сярод амерыканскіх беларусаў. Аўтар гутарыў з дзясяткам беларускіх імігрантаў-старажылаў, якія не раз выкладалі сотні даляраў на гэтую аферу[44].

Беларускія імігранты былі найлепшай глебаю для такіх мерапрыемстваў з некалькіх прычынаў. Па-першае, таму, што ім былі знаёмыя патрэбы сельскагаспадарчае працы. Па-другое, яны добра ведалі рэальнае становішча сельскае гаспадаркі на Бацькаўшчыне. Па-трэцяе, яны верылі, што гэта быў найлепшы шлях памагчы сваім блізкім на Беларусі. Таму цалкам натуральна, што яны адгукнуліся на гэты заклік: сотні тысячаў амерыканскіх даляраў былі сабраныя і на іх былі купленыя машыны.

Аднак разам з трактарамі Саветам былі патрэбныя і кадры: трактарысты, механікі і г. д. Яны звярнуліся па дапамогу і атрымалі яе праз розныя арганізацыі. Тэхнічныя вучэльні для трактарных механікаў былі адчыненыя на Манхэтэне і ў Брукліне, выпускнікоў якіх заахвочвалі ехаць у СССР даглядаць амерыканскія трактары і вучыць гэтай справе савецкіх спецыялістаў. Дзейнасць гэтых вучэльняў шырока рэкламавалася ў друку, і з гутарак вядома, што іх наведвалі сотні беларусаў[45].

Сам Генры Форд спрыяў дапамозе СССР і вербаваў працаўнікоў. Людзі верылі ў змены, ехалі туды і знікалі. Выдатна лёс такіх добраахвотнікаў працаваць у СССР апісаны ў кнізе Карла Тобіена[46].

Даволі шмат беларусаў выехалі ў Савецкі Саюз з амерыканскімі трактарамі. Ніхто з іх не трапіў у Беларусь. У лісце ад аднаго былога студэнта гаворыцца, што гэтыя механікі, якія паехалі ў СССР, сутыкнуліся з праблемамі, як толькі прыбылі ў Маскву: ім не казалі, дзе яны будуць працаваць. Шмат хто з іх хацеў паехаць на Каўказ. Адзін сведка паведаміў аўтару гэтае кнігі, што каля дзясятка хацелі паехаць у Беларусь[47]. Замест гэтага савецкія ўлады паслалі механікаў туды, дзе, паводле іх, яны былі найбольш патрэбныя.

Каб падтрымоўваць актыўнасць іміграцкіх масаў, камуністы заахвочвалі іх святочна адзначаць Дзень МОПРа, Першае траўня, Жаночы дзень і г. д.[48].

Такая прапагандная дзейнасць камуністаў сярод іміграцкіх масаў працягвалася ў 1920, 1930 і 1940-я, а ў пэўнай ступені і да 1970-х гадоў. За гэты час шмат пракамуністычных арганізацый, асабліва тыя, што былі створаныя з канкрэтных палітычных прычынаў, прыкладам для падтрымкі Грамады, спынілі сваё існаванне. Аднак арганізацыі, створаныя імігрантамі з свае ўласнае ініцыятывы, жылі далей, частка з іх захавалася і да сёння. Гэта, прыкладам, Дэтройцкае міжнароднае кааперацыйнае таварыства, Руска-амерыканскае жаночае таварыства ды іншыя.

[44] Гутаркі аўтара з старымі імігрантамі ў Саўт-Рыверы, Нью-Брансвіку і Пасейку, штат Нью-Джэрсі.

[45] Русский Голос. Нью-Йорк. 1930. 18 дек.; 1931. 13, 14 янв., 11, 19, 20 февр.; Новый Мир. Нью-Йорк. 1932. 25 июня.

[46] Tobien, Karl. Dancing under the red star: the extraordinary story of Margaret Werner, the only American woman to survive Stalin's gulag. Colorado Springs: Waterbrook Press, 2006. — 368 p.

[47] Гутарка аўтара з Антонам Дзем'янчуком, сведкам тых падзей, 1968; Новый Мир. Нью-Йорк. 1932. 21 мая.

[48] Веснік БДУ. Сер. 3. Мінск, 1984. № 3. С. 6.



Адна з гэткіх «прагрэсіўных» левых арганізацый і цяпер адыгрывае значную ролю. Гэта Рускае народнае таварыства ўзаемадапамогі ў Амерыцы. Сярод яе сяброў шмат беларусаў: галоўным чынам другое і трэцяе пакаленні амерыканцаў беларускага паходжання. Арганізацыя мае свае карані ў Рускім праваслаўным таварыстве ўзаемадапамогі ў Амерыцы, створаным у 1895 годзе, а потым у брацтве, званым Народнае таварыства ўзаемадапамогі імя Аляксандра Неўскага, якое было зарэгістраванае ў Пенсільваніі ў 1920 годзе як страхавая арганізацыя. Паступова павялічваючы сяброўства, яно набыло вядомасць у 1924 годзе як Рускае народнае таварыства ўзаемадапамогі ў Амерыцы (РНОВ)[49]. Ад 1920-х гадоў гэтая арганізацыя называла сябе прагрэсіўнай і трымалася сацыялістычна-камуністычнае ідэалогіі. У 1936 годзе яна злучылася з Міжнародным камуністычным таварыствам і з Міжнародным камуністычным ордэнам, стаўшыся рускім аддзелам гэтае міжнароднае арганізацыі, г. зн. Руска-амерыканскаю секцыяй Міжнароднае рабочае арганізацыі. Даніла Казушчык, генеральны сакратар секцыі, паведамляў, што найхутчэй колькасць сяброў павялічвалася паміж 1931 і 1935 гадамі, калі яна дасягнула 8639 чалавек[50]. У 1944 годзе арганізацыя пачала называцца Амерыканска-рускім таварыствам узаемадапамогі (*АРОВ*), і пад гэтым назовам яна вядомая і сёння. Адзін з кіраўнікоў гэтае арганізацыі, Якаў Эберхард, сказаў пра нацыянальны склад «рускае» калоніі:

*Руская калонія, як у нас прынята называць, складаецца пераважна — можа быць, на 90 % ці болей — з выхадцаў з былых заходніх губерняў Гарадзенскае, Менскае і Валынскае, г. зн. галоўным чынам з Беларусі*[51].

У працэсе свайго фармавання *АРОВ* паглынула шматлікія меншыя «рускія» арганізацыі, як, прыкладам, таварыства «Селянін» (Нью-Ёрк), Рускі драматычны клуб (Бостан), Рускую рабочую арганізацыю (Балтымар) і г. д., даўшы ім нумарную шыльду: «Аддзел №...». Шмат мясцовых клубаў гэтае арганізацыі насілі імёны выдатных рэвалюцыйных ідэолагаў: прыкладам, аддзел № 65 у Нью-Ёрку стаўся Таварыствам імя Чарнышэўскага (257 Іст 10 стрыт), аддзел № 62 — Таварыствам імя Горкага і г. д.[52]. У другой палове XX стагоддзя гэтая арганізацыя налічвала каля сотні аддзелаў і далучаных групаў па ўсёй краіне і выконвала шырокія сацыяльныя і культурныя праграмы (галоўны асяродак дзейнасці — *АРОВ-Парк* у штаце Нью-Ёрк), а да пачатку 1990-х гадоў падтрымоўвала блізкія кантакты з рознымі савецкімі і беларускімі арганізацыямі.

Як цікавы факт трэба адзначыць тое, што з беларускім левым рухам былі звязаныя не толькі этнічна беларускія іміграцкія масы, але нават і такія арганізацыі, як магутная леваліберальная група Саюз грамадзянскіх свабодаў, базаваная ў Нью-Ёрку, або Ліга абароны правоў чалавека і грамадзяніна. Гэтыя арганізацыі збіралі сродкі і перадавалі дапамогу падчас судовага працэсу над беларускім камуністам Сяргеем Прытыцкім, якога судзілі ў Польшчы ў 1937 годзе за палітычнае забойства[53]. Карацей кажучы, зацікаўленасць у развіцці нацыянальнага руху або ў ягонай падтрымцы ўзнікала толькі тады, калі адчувалася неабходнасць у

[49] Тридцать лет АРОВ. 1920–1950: Юбилейный Сборник. Нью-Йорк, 1950. С. 11–12.

[50] Тридцать лет АРОВ... С. 16.

[51] Тридцать лет АРОВ... С. 42.

[52] Тридцать лет АРОВ... С. 46–47; Русский Голос. Нью-Йорк. 1929. 26 окт., 4, 17 нояб.; 1930. 26 сент., 10 окт.; Дело Труда — Пробуждение. Нью-Йорк. 1958. № 56. С. 21.

[53] Wilenchik, W. Die Partisanen Bewegung in Weissrusland, 1941–1944. Berlin, 1984. S. 145–146.

выкарыстанні беларусаў як інструменту ў дасягнені асноўнае мэты камуністаў — сусветнае рэвалюцыі.

Падсумоўваючы разгляд арганізацыйнае дзейнасці і структуры левых і пракамуністычных арганізацый з значным беларускім сяброўствам, важна адзначыць, што хоць у 1920–1940-я гады Савецкі Саюз быў слабы ды меў перад сабою шэраг унутраных і знешніх праблем, тым не менш ён вёў актыўную прапагандную кампанію, скіраваную за межы краіны. Гульня з нацыянальнымі пачуццямі імігранцкіх масаў была адным з добра праверанных і надзейных метадаў працы камуністычнага кіраўніцтва.

Калі збіраліся матэрыялы і пісалася гэтая кніга, мы, аналізуючы актыўнасць тагачасных беларускіх масаў, асабліва ў час дзейнасці і разгрому Беларускай грамады ў Польшчы (сярэдзіна — канец 1920-х гадоў), шмат разоў выказвалі меркаванні, падмацаваныя фактамі, падзеямі, што камуністы ў той час мабілізавалі эмігрантаў з Беларусі, асноўным чынам з Заходняй Беларусі, у камуністычны рух праз арганізацыю псеўданацыянальных беларускіх арганізацый. Было гэта асабліва відавочным, калі пачаліся дзікія напады на беларускія нацыянальныя арганізацыі і іх лідараў Янку Чарапука, Язэпа Варонку і інш.

Цяпер з'явілася публікацыя гісторыка Аляксандра Пашкевіча, якая базуецца цалкам на архіўных дакументах, у якой выдатна раскрываецца дзейнасць камуністаў сярод беларусаў ЗША ў 1920–1930-я гады ды першакласна, пераканальна сцвярджаюцца нашыя погляды на камуністычную дзейнасць сярод беларусаў Амерыкі ў першай чвэрці XX стагоддзя[54]. Для больш шырокага азнаямлення і падтрымкі нашых разваг прыводзім пасажы з гэтае важнае і своечасовае працы:

*У студзені 1927 г. улады Польскай Рэспублікі распачалі акцыю па ліквідацыі Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (БСРГ) — найбуйнейшай беларускай арганізацыі ў гэтай краіне. Колькасць сяброў БСРГ на час дэлегалізацыі складала, паводле розных ацэнках, ад 100 да 120 тысячаў чалавек. [...]*

*Камуністам у Менску і Маскве не была выгадная шырокамаштабная кампанія па абароне Грамады ў БССР. [...]*

*У той жа час, не жадаючы разгортвання асабліва шырокай пратэстнай кампаніі супраць суда над лідарамі БСРГ на тэрыторыі БССР, камуністычныя колы намагаліся выкарыстаць факт рэпрэсій супраць беларускага нацыянальнага руху ў Польшчы ў інтарэсах «сусветнай рэвалюцыі». [...]*

*Але ў той час Амерыка не заставалася ўбаку ад агульных пратэстных выступленняў, што набылі тут шырокі размах. [...]*

*[Цытата з альманаха пра Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, які рыхтаваўся да выдання ў 1932–1933 гг.]: «Кампанія абароны Грамады не толькі праходзіла ў капіталістычных дзяржавах Еўропы. Яна адбылася і ў Амерыцы. Шмат у якіх мясцовасцях Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі былі арганізаваныя камітэты абароны Грамады. У арганізаваны камітэт абароны Грамады ў Амерыцы ўваходзілі: прадстаўнікі МОПРа, амерыканскага союза металістаў, прафсаюзнага аб'яднання Канады і рабочай партыі, прадстаўнікі левага крыла саюза мехаўшчыкоў і працаўнікоў жаночага адзення, а таксама прадстаўнікі беларускіх, украінскіх і літоўскіх груповак і прадстаўнікі анты-*

[54] Пашкевіч, Алесь. Беларуская місія габрэйскага камуніста-інтэрнацыяналіста: Стэнаграма зь дзясятага (вячэрняга) пасяджэньня й зьезду КПЗБ 4 ліпеня 1928 г. // Запісы БІНіМ. № 30. Нью-Ёрк — Менск, 2006. С. 231–245.



*фашысцкага альянсу: Скот-Нірынг[55], Робер, Вэн, Тодар Дэбс, Гітлоў[56], Ольгін[57], Віктар Берген, прадстаўнікі газет «Трэйхета», «Русский Голос» і «Новый Мир». Арганізаваны камітэт разгарнуў вялікую абарончую кампанію па ўсёй Амерыцы. Камітэт звярнуўся да ўсіх рабочых арганізацый і ліберальных груповак з заклікам стварэння адзінага фронту за вызваленне сябраў Грамады і ўсіх палітзняволеных Польшчы. На заклік пачалі закладацца правінцыйныя камітэты абароны Грамады, якія ладзілі дэманстрацыі, мітынгі і г. д. У радзе гарадоў Амерыкі, як Чыкага, Нью-Ёрк і інш., адбыліся шматтысячныя дэманстрацыі і мітынгі, на якіх вынесеныя пратэсты і дамаганні звольніць грамадоўцаў...».*

*Цяпер мы маем і дакументальнае сведчанне таго, што кампанія па абароне БСРГ у ЗША арганізоўвалася і накіроўвалася камуністамі з Масквы і Менска праз адмыслова высланага эмісара. [...]*

*Што за чалавек ездзіў вясною 1928 г. за акіян, каб даць новы штуршок беларускаму руху ў ЗША і скіраваць яго ў патрэбнае камуністам рэчышча? Звалі яго Гершан Дуа-Боген... Гершан Дуа-Боген нарадзіўся 4 сакавіка 1892 г. у польскіх Седльцах у сям'і гандлёвага агента. [...] У 1911 г. выехаў на працу ў ЗША, дзе знаходзіўся да канца 1913 г. У гэты час супрацоўнічаў з Сацыялістычнай партыяй ЗША. [...] Ратуючыся ад арышту, пры канцы 1921 г. Гершан Дуа-Боген зноў вяртаецца ў Польшчу, але некаторы час яшчэ застаецца сябрам Камуністычнай партыі Палестыны. [...] У 1926 г. яму было даручана кіраўніцтва Цэнтральнай партыйнай школай пры ЦК КПЗБ у Менску. Адначасова Гершан Дуа-Боген зьяўляўся прадстаўніком ЦК КПЗБ пры польскай секцыі Камінтэрна.*

*Менавіта гэтыя функцыі выконваў Гершан Дуа-Боген, калі ў пачатку 1928 г. яго вырашылі выкарыстаць для актывізацыі камуністычнага руху за акіянам. [...]*

*Пасля вяртання ў Польшчу Дуа-Боген некаторы час кіраваў Габрэйскім аддзелам пры Краёвым Сакратарыяце ЦК КПП, а трохі пазней, стаўшы сябрам Сакратарыята, ажыццяўляў апеку як над Цэнтральным габрэйскім аддзелам, так і над краёвымі цэнтральнымі арганізацыямі КПЗБ і КПЗУ. [...] У студзені 1942 г. з дапамогай Камуністычнай партыі ЗША яму ўдалося перабрацца з Францыі на Кубу... Загінуў 12 лютага 1948 г. у аўтамабільнай аварыі, калі ехаў на спатканне з жонкай і сынам пасля шматгадовага расстання. [...]*

*Накіраванне чалавека кшталту Гершана Дуа-Богена ў Амерыку дзеля арганізацыі там кампаніі ў абарону разгромленай польскімі ўладамі Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады лішні раз пацвярджае тое, што камуністычных дзеячаў цікавіла пашырэнне толькі класавай, але ні ў якім выпадку не нацыянальнай свядомасці сярод тых выхадцаў з Беларусі, якія воляй лёсу апынуліся ў ЗША. І трэба прызнаць: Дуа-Боген ускладзеныя на яго надзеі цалкам апраўдаў. [...]*

*Даклад Гершана Дуа-Богена на I з'ездзе КПЗБ...*

*[...] Калі ЦК мяне пасылаў у Амерыку дзеля таго, каб там правесці кампанію па абароне Грамады і з іншага боку, калі магчыма, арганізаваць беларускую секцыю, прызнаюся, я сумняваўся ва ўдалым выніку гэтай паездкі. [...]*

[55] *Скот Нірынг* (1883–1983), амерыканскі пісьменнік і журналіст, палітолаг. Аўтар шматлікіх кніг па сацыяльна-палітычных пытаннях радыкальна-дэмакратычнай скіраванасці.

[56] *Бенджамін Гітлоў* (1891–1965), амерыканскі левы палітык, сябра Сацыялістычнай партыі ЗША з 1907 года, пасля адзін з кіраўнікоў кампартыі. У 1920-я гады сябра выканкама і прэзідыума Камінтэрна. Выключаны з партыі ў 1929 годзе, у 1933 годзе канчаткова адышоў ад камуністычнага руху. Пасля гэтага пісаў антыкамуністычныя кнігі.

[57] *Мойшэ Ольгін (Новамыскі)* (1878–1939), пісьменнік, журналіст, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ва Умані (Украіна), з 1914 года жыў у ЗША. Шмат гадоў рэдагаваў левую амерыканскую газету «Ранішняя свабода». Актывіст Камуністычнай партыі ЗША, перакананы прыхільнік савецкага рэжыму.

*I вось мы ўцягнулі ў гэтую кампанію ліберальную амерыканскую інтэлігенцыю. Я звязаўся з вядомымі лідарамі рабочага руху, якія былі ў Польшчы, ведалі Пілсудскага і ставяцца да яго варожа. Адзін з іх вядомы Р. Б.*[58]*, і нам удалося адзіны фронт уцягнуць у партыю і прафсаюзы і амаль што ўсю амерыканскую ліберальную інтэлігенцыю, вядомых прафесараў, адвакатаў. [...]*

*Мы правялі чатыры дэманстрацыі ў Чыкага, Нью-Ёрку, Бостане і К...*[59]*. Апрача таго, былі высланыя 540 тэлеграмаў амерыканскаму консулу Амбасада, Тарашкевічу, Пілсудскаму і іншым, затым удалося арганізаваць пастаянны камітэт, куды ўвайшлі 34 арганізацыі рабочых, у Бостане — 23, у Чыкага — 22 і ў К... — 13. Гэта было праведзена і ў драбнейшых гарадах, дзе пастаянны камітэт вёў кампанію супроць польскага фашызму, у абарону Грамады і палітзняволеных*[60].

*Калі я запытаўся, ці ёсць там беларусы, мне адказалі, што ведаюць, што ёсць руская секцыя, і магчыма, што там ёсць беларусы. Аказалася, што ў гэтай рускай секцыі няма ніводнага рускага, усе беларусы, апроч габрэяў, 95 % там беларусаў. Пайшоў да іх у арганізацыю і першае пытанне, якое яны мне задалі, што я прыехаў, каб знішчыць іхны рух. Я сказаў, што, наадварот, для таго, каб стварыць беларускі рух, які нам неабходны, і яны пагадзіліся. Пасля перамоваў з партыяй мы пачалі праводзіць працу: склікалі адну канфэрэнцыю, другую, і тут прыйшлі нам на дапамогу некалькі амерыканскіх газетаў, сярод іх «Русский Голос»; яна беспартыйная, але на ўсе сто адсоткаў Савецкая. Яна нам абяцала аказаць дапамогу і сапраўды зрабіла ўсё, што толькі магла. За час майго знаходжання яна змясціла больш за 6 артыкулаў пра Грамаду ў Польшчы, што дапамагло стварыць пэўны настрой. З іншага боку, партыя разаслала цыркуляр у розныя гарады: Нью-Ёрк, Чыкага і іншыя.*

*Спачатку рух быў невялікі, але дзякуючы таму, што там ёсць шмат беларусаў, якія чулі, што робіцца ў ЗБ, рух пашырыўся. Праўда, спачатку яны жахнуліся ад беларускай мовы, кажучы, як жа мы будзем пісаць нашым сваякам у Беларусь, яны нас не будуць разумець.*

*Потым удалося высветліць, што шмат арганізацый беспартыйных, нават царкоўных, якія былі пад уплывам папоў, далучыліся да гэтага руху*[61].

*Я пачаў аб'езд па Амэрыцы. Аказалася, што ўсюды ёсць моцныя групы. Можна лічыць, што ў Амерыцы знаходзіцца на сучасны момант прыблізна 180 тысячаў беларусаў, яны ў большасці з Горадні і Менску. Да гэтае пары ў іх не было ніякага руху. Раней прыехаў туды ВАРОНКА і ЧАРЭШКА*[62]*. [...]*

*Я наведаў прыблізна 15 гарадоў. Усюды быў той самы адказ, як у гарадах, так і ў маленькіх мястэчках, што яны радыя нам прыйсці на дапамогу. Мы ніколі не ўяўлялі сабе, каб нам удалася гэтая кампанія. Нам удалося звязацца з гэтымі арганізацыямі і пашырыць партыйны ўплыў. I вось у выніку гэтай кампаніі стварылася арганізацыя дапамогі Заходняй Беларусі*[63]*, прычым галоўны кіраўнік гэтай арганізацыі*[64] *— адзін з лепшых таварышаў, павінен быў прыехаць са мною, але ўлічваючы тое, што гэтая арганізацыя пашырылася, нельга было яе пакінуць без кіраўніка.*

[58] Расшыфраваць крыптонім не ўдалося.

[59] Шматкроп'е ў арыгінале. Магчыма маецца на ўвазе Кліўленд.

[60] Можна меркаваць, што на ўсіх гэтых дэманстрацыях прымаліся шаблонныя рэзалюцыі, практычна ідэнтычныя з прынятай на мітынгу рускіх, польскіх, украінскіх і беларускіх рабочых у Чыкага: *«Мы, рускія, польскія, украінскія і беларускія рабочыя горада Чыкага, сабраўшыся на масавым мітынгу пратэсту супраць працэсу над прадстаўнікамі беларускай Грамады, разам з рабочымі ўсяго свету пратэстуем супроць фашысцкага ўрада Пілсудскага ў Польшчы, які хоча сілаю знішчыць арганізацыі беларускіх рабочых і сялянаў. Мы пратэстуем супроць тых жорсткіх расправаў, якія робяць польскія жандары над сябрамі Грамады»* (цыт. паводле: Мацко, А. Революционная борьба трудящихся Польши и Западной Белоруссии против гнета буржуазии и помещиков (1918–1939). Минск, 1972. С. 159).

[61] Гэта пацвярджаецца дакументам, прынятым на 17-м з'ездзе Рускага нацыянальнага праваслаўнага таварыства, які адбыўся 21–22 красавіка 1928 года ў Чыкага, які згадваецца ў гэтай кнізе вышэй.

[62] Так у тэксце. Маецца на ўвазе вядомы беларускі дзеяч Янка Чарапук (1896–1957).



*Вядома, прыйшлося сустрэцца не толькі з беларусамі, але і з габрэямі, палякамі, украінцамі і нават літоўцамі. Ёсць такі партыйны камітэт, куды ўваходзяць усе секцыі.*

*Што датычыць украінцаў, то я якраз прыехаў у Амерыку, калі Васылькіў і яго група адкалоліся*[65]*. На шчасце, аказалася, што ўсе супраць Васыльківа, усе за нас, і яны, вядома, узялі ў нашай кампаніі гарачы ўдзел.*

*Што тычыцца грошай, то яны ў апошні час сталі праводзіць кампанію і, як нам паведамілі, ужо паслалі некалькі тысячаў даляраў для Заходняе Украіны і Заходняе Беларусі.*

*Габрэі нічога не зрабілі, але пасля майго прыезду пачалася кампанія. Можна сказаць, што габрэйская секцыя вельмі шмат нам дапамагла. Па-першае, яна самая вялікая. Яны раскіданыя паўсюдна. Я наведаў 26 гарадоў і ўсюды, акрамя рускіх таварышаў, украінскіх і польскіх, яны мне аказвалі самую шырокую дапамогу ў арганізацыі вялікіх мітынгаў. Вынікам гэтага з'яўляецца тое, што ўтварылася адмысловая беларуская арганізацыя, а перад маім ад'ездам мы стварылі габрэйскую арганізацыю, якой да гэтай пары не было, пад кіраўніцтвам партыі. [...]*

*Было б добра, каб пры гэтай арганізацыі самай галоўнай была руская арганізацыя, якую нам удалося стварыць. [...]*

*Беларуская калонія 5–6 гадоў таму была пад моцным нашым уплывам. Потым, калі пачалася рээміграцыя і лепшыя сілы рускай калоніі выехалі ў СССР, мы вельмі заслаблі. Якраз тады з'явіліся белагвардзейцы. [...]*

*Гэтая беларуская арганізацыя, якую мы зараз стварылі, можа аказаць нам вялікую дапамогу ў барацьбе супраць гэтых белагвардзейцаў, адкрытых і замаскаваных, якія ёсць усюды — і ў Нью-Ёрку, і ў Чыкага, і нават у Галівудзе, дзе яны служаць статыстамі. [...]*

*Я рэзюмую: палітычна нам шмат што ўдалося. Гэта дэманстрацыя ў Амерыцы мела велізарнае значэнне. Амерыка такая краіна, што там можна пісаць колькі заўгодна, і ніхто на цябе не зверне ўвагі, але калі ты ладзіш хоць бы маленькую дэманстрацыю, на якой будуць арыштаваныя чалавек з 15, і калі ты загадзя па тэлефоне паведаміш усім карэспандэнтам, нават рэакцыйных газетаў, што адбудзецца дэманстрацыя, то ўсе карэспандэнты абавязкова напішуць: адзін — што адбылася 5-тысячная дэманстрацыя, другі — 3-тысячная, трэці — 10-тысячная, хоць бы насамрэч было толькі 200 чалавек. Так што гэтыя 200 чалавек зрабілі вялікі шум па ўсёй Амерыцы. Тое, што амерыканская інтэлігенцыя вельмі мала мяшалася ў гэтую справу, гэта нас узмацніла і дапамагло ў нашай працы. [...]*

[63] Маецца на ўвазе Агульнаамэрыканскі камітэт дапамогі народам Заходняе Беларусі, створаны вясной 1928 года.

[64] Асоба не выяўленая.

[65] На пачатку 1928 года група сяброў Камуністычнае партыі Заходняе Украіны на чале з лідарамі так званай большасці В. Крылыкам (Васыльківым) і Р. Кузьмою (Туранскім) адкрыта выступіла супраць рэпрэсіўнай палітыкі ў Савецкай Украіне, якую праводзіла Палітбюро ЦК КП(б)У на чале з Лазарам Кагановічам. У шматлікіх артыкулах і зваротах Васылькіў, Туранскі і іншыя сябры КПЗУ даказвалі, што ЦК КП(б)У праводзіць такую нацыянальную палітыку, якая пагражае будучыні Украіны, дамагаліся напаўнення ўкраінскае савецкае дзяржаўнасці рэальным зместам. У выніку Васылькіў і Туранскі былі абвінавачаныя ў раскольніцтве, нацыяналізме ды здрадзе і выключаныя з партыі і Камінтэрна. Акрамя іх, з партыі былі выключаныя яшчэ 1200 камуністаў — прыхільнікаў «большасці». Напрыканцы 1928 года было абвешчана пра самароспуск КПЗУ, а яе лідары заявілі пра прызнанне сваіх «памылак» і выехалі ва УССР. Неўзабаве ўсе яны сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій.

*Такім чынам, ёсць ужо беларуская арганізацыя, габрэйская арганізацыя, украінская і ёсць польская. [...]*

*Я спадзяюся, што тут у нас у Польшчы і ў Заходняй Беларусі будзе моцная цесная сувязь з кампартыяй Амерыкі, з яе нацыянальнымі часцінамі, з рознымі арганізацыямі, якія жывуць і звязаныя з намі і якія дапамогуць нам у нашай барацьбе да перамогі*[66].

Як было заўважана, маскоўскае і менскае камуністычнае кіраўніцтва мелі на мэце скарыстаць беларускую іміграцыю ў ЗША ў руху да «сусветнай рэвалюцыі». Органы НКУС разумелі, што амерыканскія беларускія масы трэба апрацаваць і выкарыстаць дзеля сваіх мэтаў. Засылалі адмысловых агентаў, прафесійных рэвалюцыянераў, а таксама выкарыстоўвалі і беларускіх нацыянальных дзеячаў. Як у Прагу ў 1925 годзе прыязджалі літаратары Янка Купала, Цішка Гартны, Міхась Чарот, Міхась Зарэцкі, гэтак у ЗША меркавалася скіраваць Вацлава Ластоўскага, аднаго з найбуйнейшых тэарэтыкаў і практыкаў беларускага адраджэння. Зацытуем тут колькі пасажаў з ліставання паўнамоцнага прадстаўніка СССР Александроўскага з органамі НКУС СССР, выдрукаванага ў альманаху «Скарыніч»[67] (мова арыгінала захаваная):

*Я буду продолжать обработку Ластовского. (с. 67)*

*Затем Ластовский в свое время купил архив Воронко. Он готов передать его Минску, но просил бы возместить ему расход в размере 100 дол... Я считал бы правильным дать Ластовскому 100 дол... ( с. 68).*

*[...] в случае его [Ластоўскага] согласия на предложение Минска поехать в Латвию, Чехословакию и Америку для указанной работы он только подписывает свою декларацию, но публиковать мы ее не будем до тех пор, пока он будет работать за границей. Кроме того, он должен дать письменное согласие на предложение Минска поработать в интересах белорусского дела за границей. [16 марта 1927 г.] (с. 70)*

*Приходил Ластовский [...] он просил сообщить в Минск, что считает правильным поехать сначала в Америку, а уже потом в Чехословакию, если туда вообще стоит ехать (с. 71).*

*Ластовский уже получил американскую визу, может ехать хоть завтра (с. 73).*

Апошнія цытаты датуюцца 1927 годам, калі Вацлаў Ластоўскі знаходзіўся ўжо ў Савецкай Беларусі, працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея і быў дзейным у Інбелкульце. Аб ягонай планаванай НКУС паездцы ў ЗША ў Менску маглі хадзіць чуткі, бо ва ўспамінах Яўхіма Кіпеля, які ў той час таксама працаваў у Інбелкульце, ёсць такая згадка: *«з боку амерыканскіх дыпламатычных колаў яму [Ластоўскаму] паступіла прапанова пераехаць у ЗША і ачаліць Славянскі аддзел Чыкагскае бібліятэкі»*[68]. Аднак у БССР пачалася хваля пагромаў-арыштаў беларускай інтэлігенцыі, і Вацлаў Ластоўскі быў неўзабаве звольнены з пасадаў, колькі разоў арыштаваны і ў 1938 годзе расстраляны як «агент польскай выведкі». Ягоная паездка ў ЗША не адбылася, але прыведзенае вышэй адлюстроўвае метады і размах дзейнасці маскоўскай выведкі.

[66] Пашкевіч, Алесь. Беларуская місія габрэйскага камуніста-інтэрнацыяналіста...
[67] Скарыніч. Вып. 3. Масква — Мінск — Смаленск, 1997.
[68] Кіпель, Я. Эпізоды. Выд. 2. Мінск: Лімарыус, 2013. С. 122.



## Арганізацыі прарасійскае арыентацыі

Шмат хто з беларускіх імігрантаў не прымаў левае ідэалогіі і лозунгаў. Такія людзі далучаліся да іншых арганізацый, некаторыя з якіх часта ставіліся з адкрытаю варожасцю да рэвалюцыйнае агітацыі, прычым не ўсе яны арыентаваліся на царкву. Сюды ўваходзяць адукацыйныя таварыствы, страхавыя арганізацыі, а таксама лакальныя клубы сацыяльнага характару. Некалькі найбольшых з іх заслугоўваюць увагі.

Прыкладам, Рускае незалежнае таварыства ўзаемадапамогі ў Чыкага. Гэтая арганізацыя мае свае пачаткі ў царкоўным брацтве пры праваслаўнай парафіі Святое Тройцы на Левіт стрыт у Чыкага. Як ужо зазначалася раней, у гэтай парафіі былі ўнутраныя непаразуменні і значная група парафіянаў, пераважна беларускага паходжання, аддзялілася ад гэтае царквы. Сярод тых, хто аддзяліўся, вяліся спрэчкі наконт заснавання беларускае арганізацыі, але ідэя гэтая не была ажыццёўленая. Вернікі, што выйшлі з парафіі Святое Тройцы, пачалі заўзята працаваць над заснаваннем новае парафіі, і неўзабаве была запачаткаваная парафія святога Юрыя на Вуд стрыт. Было створанае таксама Свята-Юраўскае брацтва ўзаемадапамогі. Гэтая група і сталася ядром вялікае арганізацыі ўзаемадапамогі — РНЗОВ — з шматлікімі аддзеламі ў Ілінойсе, Мічыгане, Індыяне ды іншых штатах і вялікіх гарадах Сярэдняга Захаду. У склад арганізацыі ўваходзілі пераважна беларусы, шмат хто з іх займаў важныя кіраўнічыя пасады, а адзін з пачынальнікаў і актыўных арганізатараў гэтае групы, заўзяты антыбальшавік Уладзімір Ляўковіч быў беларусам з Бярозы-Картузскай. Пазней ён быў забіты левымі[69]. *«Белорусская Трибуна»* падавала такія звесткі пра склад 1-га (Чыкагскага) аддзела арганізацыі:

| | |
|---|---|
| *З Гарадзенскае губ.* | *247 асобаў* |
| *з Менскае губ.* | *125 -"-* |
| *з Віленскае губ.* | *11 -"-* |
| *з Магілёўскае губ.* | *3 -"-* |
| *з беларускае часткі* | |
| *з Чарнігаўскае губ.* | *2 -"-* |
| *Усяго* | *388 асобаў*[70] |

Выхадцы з беларускіх губерняў складалі 72 % ад усіх сяброў 1-га аддзела. Беларусы з гэтае арганізацыі прыхільна ставіліся да беларускіх этнічных арганізацый у Чыкага, аднак цікава заўважыць, што гэтая група не падзяляла ідэй беларускае незалежнасці. Яна, аднак, ахвотна падтрымоўвала заклікі ў падтрымку беларускае справы ў Польшчы.

Яшчэ адна арганізацыя, што выступала пад «рускаю» шыльдаю і складалася пераважна з беларусаў, — Рускае аб'яднанае таварыства ўзаемадапамогі *(РООВА)*. Пасля доўгага манеўравання і шматлікіх арганізацыйных праблемаў яно было заснаванае ў Філадэльфіі ў 1926 годзе ў выніку зліцця пяці меншых арганізацый. У часе заснавання таварыства налічвала каля 2500 сяброў, мужчынаў і жанчын, агульны капітал складаў 56 000 даляраў. У 1938 годзе яно мела ўжо каля 4500 сяброў і валодала капіталам у 300 000 даляраў[71].

[69] Рассвет. Чикаго. 1933. 18 февр.
[70] Белорусская Трибуна. Чикаго. 1932. № 13.
[71] Русский Вестник. Нью-Йорк. 1938. 1 авг. С. 25.



Царква Святога Уладзіміра ў Джэксане (Нью-Джэрсі) на «Фарме РООВА»

Арганізацыя ахапляла сваёю дзейнасцю ўсю краіну, але найбольш яе сяброў, што жылі на Усходзе ды ў буйных гарадах.

Ад самага пачатку таварыства стаяла на бескампраміснай антыкамуністычнай платформе. У склад арганізацыі ўваходзіла шмат беларусаў і ўкраінцаў, а некаторыя аддзелы цалкам складаліся з беларусаў[72]. Беларусы займалі і займаюць шмат кіраўнічых пасадаў.

Таварыства шырока вядомае дзякуючы сваёй гаспадарцы, якая завецца *«Фарма РООВА»* і размяшчаецца ў мясцовасці Джэксан, штат Нью-Джэрсі. Гэтая маёмасць была набытая ў 1934 годзе, і ад таго часу вакол яе вырасла значнае славянскае паселішча, дзе жыло нямала і беларусаў, асабліва пенсіянераў[73]. Сп. Герман Шульц, выканаўчы дырэктар *«Фармы РООВА»,* з нагоды яе 30-годдзя ў 1964 годзе пісаў у артыкуле, *«прысвечаным бацькам-заснавальнікам фармы»:*

*Вядучая група заснавальнікаў фармы складалася пераважна з беларускіх сялянаў, якія прыехалі ў Злучаныя Штаты перад Першаю сусветнаю вайною*[74].

Арганізацыя дапускала памяркоўнае фармальнае выяўленне этнічнае і культурнае беларускасці, а менавіта запрашала для выступленняў беларускія спеўныя і танцавальныя калектывы і г. д., але пры гэтым заставалася выразна прарасейскаю і блізка супрацоўнічала з Рускаю праваслаўнаю царквою за мяжой, якая вядомая сваім агрэсіўным рускім нацыяналізмам.

На пачатку XXI стагоддзя ад былое гаспадаркі *«Фармы РООВА»* засталася толькі частка з некалькімі будынкамі, царквой ды могілкамі. Ад пачаткаў арганізацыі прайшло больш як тры чвэрці стагоддзя, і нашчадкі пачынальнікаў наўрад ці трымаюцца спадчыны. Праўда, некаторыя царкоўныя святы адзначаюцца гучней, як, прыкладам, дзень св. Уладзіміра ў ліпені. Аднак арганізацыя, ейнае сяброўства — нязначныя, а прыток беларусаў у *РООВА* цалкам спыніўся.

---

72 История отделов РООВА. 1926–1936. Нью-Йорк, 1936. С. 45, 63, 88.

73 The New York Times. 1987. Apr. 26; 20th Anniversary of ROOVA // Russian Herald. 1947. № 153–154; Гутаркі аўтара з Грышам Корзунам, кіраўніком моладзі пры пабудове «Фармы РООВА», 1958–1959; Гутаркі аўтара з Аляксандрам Асіпчыкам, жыхаром паселішча у 1988–1991 гадах; Rova Farm. Princeton, 1981.

74 Русский Вестник. Нью-Йорк. 1964. № 321. С. 3–4.



* * *

На папярэдніх старонках быў дадзены павярхоўны агляд большых, рэгіянальных і ўсеамерыканскіх «рускіх» арганізацый са значным беларускім элементам. Было і ёсць колькі іншых, меншых групаў з беларускім удзелам, аднак у іх нічым не выяўляецца свядомая беларускасць, апрача таго, што гэтыя людзі маюць блізкія асабістыя сувязі з Беларуссю. Гэта арганізацыі тыпу зямляцтваў — Менскага, Гарадзенскага, Бабруйскага, Пінскага і г. д.[75]. Заснавальнікі, дзяды-прадзеды сённяшніх сяброў гэтых «рускіх» арганізацый, даўно адышлі. Шмат хто з іхных нашчадкаў жыве сёння з пачуццём няёмкасці ад таго, што амерыканцы ўспрымаюць іх як рускіх, тым часам як яны яшчэ захоўваюць неадчэпную памяць пра сваіх беларускіх продкаў. І гэта самы нешчаслівы бок праблемы, бо гістарычна фальшывы, і абавязак сённяшніх свядомых амерыканскіх беларусаў — выправіць гэты фальш. З дасведчання варта адзначыць, што гэта магчыма, а прысутнасць дзейных сучасных беларускіх арганізацый, як БАЗА, ды некамуністычнай Рэспублікі Беларусь адвароту ад «амерыканскай расейшчыны» дапамагае.

Цяпер варта спыніцца на заўвагах пра заснавальнікаў і кіраўнікоў гэтых старых «рускіх» арганізацый, што былі пераважна з беларусаў.

Беларускія заснавальнікі і кіраўнікі анархісцкіх і левых арганізацый уваходзілі ў іх з сваіх палітычных перакананняў, шмат было сярод іх і свядомых беларусаў. Аднак значна болей было тых, хто толькі называўся беларусам і ішоў за ідэолагамі, якія дзеля кан'юнктуры часам надавалі сваім лозунгам беларускія адценні. Дзеля іхнага апраўдання трэба зазначыць, што яны шчыра верылі ў тое, за чым ішлі. Сярод найбольш выдатных дзеячаў такога кшталту былі Даніла Казушчык, Надзя Сілівончык, Даніла Шыцько, Вера Карлюк, Фрэд Клімовіч, Уладзімір Мінкевіч і дзясяткі іншых.

Падобная ідэалагічная характарыстыка пасуе і беларусам-актывістам амерыканскага праваслаўя. Значная частка беларускіх імігрантаў можа лічыцца пачынальнікамі праваслаўя ў Злучаных Штатах. Гэтыя людзі, якія мелі вельмі нізкі ўзровень нацыянальнае свядомасці, хацелі застацца вернымі царкве, якая забяспечвала духоўнае кіраванне і захаванне маральных каштоўнасцяў. І такіх беларускіх душаў былі тысячы і тысячы[76].

Аднак з зусім іншымі меркамі трэба падыходзіць, каб зразумець тых беларусаў, якія засноўвалі або далучаліся да грамадскіх арганізацый з «рускаю» шыльдаю.

Тут было б дарэчы спыніцца на гэтай з'яве і адказаць на некалькі пытанняў. Чаму гэтыя актыўныя людзі былі не ў беларускім лагеры? Ці ўсведамлялі гэтыя людзі сваю беларускую спадчыну? Ці бачылі яны ясную розніцу паміж беларускім і рускім? Гэтыя людзі не былі невукамі, гэта былі досыць адукаваныя палітычныя і грамадскія актывісты. Адказ на некаторыя з гэтых пытанняў просты: шмат хто з іх ведаў, што яны этнічныя беларусы. Некаторыя з іх гаварылі пра гэта адкрыта і з гонарам. Прыкладам, у некралогу Якава Уінслоў (Васільева) — старшыні таварыства *РООВА* ад 1932 да 1937 года, калі закладалася і развівалася славутая «фарма», — мы чытаем: *«Якаў Арцем'евіч заўсёды падкрэсліваў сваё беларускае паходжанне,*

---

75 Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1928. 24 марта.

76 The Orthodox Church in America. Dept. of History and Archives. Syosset (NY). Biographical Files; 150th Anniversary of Russian Orthodox Church of America. Vol. 2. New York (NY), 1945. P. 261, 275.



Адзін з пазасталых будынкаў «Фармы РООВА»

*хоць ніколі не адмаўляў сваёй рускасці»*[77]. Што яны беларусы, ведалі і іншыя лідары гэтых «рускіх» арганізацый. Сярод іх былі Пётр Асіповіч з Віленскае губерні, першы прэзідэнт Чэхаўскага таварыства ў Нью-Ёрку; Васіль Кулеш, таксама з Віленскае губерні, бізнесмен і шматгадовы прэзідэнт Чэхаўскага таварыства; Мацвей Драздовіч з Віленскае губерні, заснавальнік таварыства «Наука», старшыня Рускага народнага дому ў Браўнсвіле (Нью-Ёрк), у 1920-я гады прэзідэнт Рускага народнага таварыства (Нью-Ёрк); Восіп Кажура з Гарадзенскае губерні, сябра Рады дырэктараў Рускага таварыства ўзаемадапамогі (Нью-Ёрк); Ігнат Зянько з Віленскае губерні, адзін з заснавальнікаў Чэхаўскага таварыства; Ігнат Пальчэўскі, арганізатар *РООВА*; Аляксандр Клебановіч, прэзідэнт *РООВА* ў 1926 годзе; К. Каральчук, прэзідэнт *РООВА* ў 1929 годзе; І. Матусевіч, прэзідэнт *РООВА* ў 1930 годзе; В. Куль, дзейны кіраўнік *РООВА*; А. Крывулька і П. Грамовіч, шматгадовыя кіраўнікі розных арганізацый у Брукліне; Д. Вашкевіч, адзін з галоўных ініцыятараў арганізацыі Пушкінскага дому для старых людзей пры *«Фарме РООВА»*; Сцяпан Трус з Гарадзенскае губерні, адзін з заснавальнікаў і сакратароў Рускага народнага дому ў Элізабэце (Нью-Джэрсі); М. Лазарэвіч, шматгадовы актывіст *РООВА* і яго прэзідэнт у 1937–1945 і 1952–1954 гадах; Цімафей Гуз, шматгадовы кіраўнік *РООВА*, ды сотні іншых[78]. У Чыкага старшынямі Рускага незалежнага таварыства ўзаемадапамогі былі: Уладзімір Сабінскі з Пружанаў, Васіль Канашэўскі з Слоніма, а таксама ў кіраўніцтва ўваходзіў Іларыён Гарашчэня са Случчыны[79]. Да гэтай катэгорыі людзей, як выглядае, можна далучыць і Барыса Кавэрду, забойцу савецкага прадстаўніка Пятра Войкава ў Варшаве ў 1927 годзе. Кавэрда — беларус паводле паходжання, народжаны ў Вільні, праваслаўны, вучыўся ў беларускай гімназіі, а бацька працаваў у беларускіх установах. Гэты дзеяч пасля Другое Сусветнае вайны жыў у ЗША і дзеіў у рускіх арганізацыях[80].

Корань праблемы палягае ў тым, што гэтыя людзі мелі вельмі нізкі ўзровень беларускае нацыянальнае свядомасці; яны не бачылі розніцы ў палітычным сэнсе паміж беларускім і рускім. Тыя, хто бачыў гэтую розніцу — як Бубешка ці Сянкевіч, — былі выключэннямі. Большасць кіраўнікоў былі прадуктамі шматгадовае палітыкі агрэсіўнае русіфікацыі. Руская культура, руская царква і расійская дзяржава былі першымі і апошнімі крытэрыямі ў іхных поглядах. Русіфікацыя так глыбока пусціла ў іх свае карані, што яны не маглі сабе ўявіць ніякае альтэрнатывы. Любое адхіленне ад «рускасці» яны лічылі нямецкаю, польскаю або сіяністкаю інтрыгаю, а найбольш — здрадаю ідэі *«трыадзінасці вялікага рускага народа»*. Шмат хто з іх праз усё жыццё імкнуўся стацца *«истинно русским»*. Адгэтуль паходзіць «беларускае паходжанне» і «рускасць» ды іншая падобная тэрміналогія ў вуснах шмат каго з гэтых кіраўнікоў. Вось як адзін з актывістаў «рускае» калоніі ў Чыкага, сп. О. Новік, з гонарам і настальгіяй апісваў сваіх землякоў з Кобрыншчыны:

> *Кобрынцы — вялікія прыхільнікі рускае культуры. У іх мала свайго, беларускага, усё рускае: песні, танцы, гумар, аповесці і г. д. Памятаю, як супраць волі бацькоў уся моладзь кідала старыя звычаі і ўспрымала ўсё рускае*[81].

Новік імкнуўся давесці, што гэтыя беларусы з Кобрыншчыны ўжо не былі беларусамі; некалі яны былі беларусамі, а цяпер яны ўжо рускія. Будучы зрусіфікаваным беларусам, Новік вельмі бедаваў над фактам, што, як ён пісаў далей, шмат хто з кобрынцаў ажаніўся з полькамі і гаворыць дома па-польску. Гэтае выказванне надта ж характэрнае для зрусіфікаванага беларуса. У сапраўднасці ж, магчыма, гэтыя кобрынцы жаніліся з беларускімі дзяўчатамі рымска-каталіцкае веры і надалей гаварылі дома па-беларуску, або калі і жаніліся з полькамі, што здаралася часта, дык не так хутка русіфікаваліся, як бы таго хацелася Новіку.

Падсумоўваючы агляд дзейнасці ў міжваенны перыяд (1919–1941) арганізацый, у якіх вялікую частку складалі беларусы, можна выявіць зусім нязначны свядома беларускі элемент, асабліва ў арганізацыях прасавецкага кірунку. Аднак арганізацыі гэтыя, будучы прадуктам савецкіх патрэбаў, амаль усе адышлі ў нябыт, як толькі змяніўся характар тых патрэбаў. Арганізацыі, што мелі іншыя, несавецкія мэты, не адпавядалі як след беларускім інтарэсам. Найбольш сумным для амерыканскіх беларусаў было тое, што кіраўнікі гэтых шматлікіх прасавецкіх і прарасійскіх арганізацый, будучы з паходжання, г. зн. біялагічна, беларусамі, у інтэлектуальным плане былі прадуктам царскае русіфікацыйнае палітыкі, і беларускасць з іх у палітычным сэнсе была вытручаная. Працэс прамывання мазгоў, распачаты ў цэрквах, школах і ўстановах Расійскае імперыі, працягваўся і ўдасканальваўся ў Новым Свеце праз разнастайную сетку прарасійскіх і русафільскіх арганізацый, установаў, цэркваў і друкаваных выданняў.

Нейкі працэнт такіх «тоже-белоруссов» быў і ёсць сярод эмігрантаў па Другой сусветнай вайне, як і «новых» з Рэспублікі Беларусь. Працэнт, а можа і «працэнцік», нязначны, але ёсць. Адзінае тлумачэнне такога стану — народ, які блізу 300 гадоў быў акупаваны, якому прарочылася знішчэнне, не можа адразу, хутка пазбыцца сотнегадовае чужацкае выхаўваўчае палітыкі, якая нанесла невымяральную псіхалагічную траўму.

[77] Русский Вестник. Нью-Йорк. 1962. № 309. С. 2.

[78] Русский Голос. Нью-Йорк. 1926. 16 янв.; 1976. 9 сент.; История отделов РООВА: 1926–1936... С. 28–29; Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1948. 29 мая; 1950. 14 янв., 23 апр., 18 авг., 5, 8, сент.; 1951. 30 янв.; 1953. 27 нояб.; 1954. 12 янв.; Папка А. Асіпчыка ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[79] Весткі й Паведамленьні. Нью-Ёрк. № 547–548. 2011. С. 3

[80] Беларус. Нью-Ёрк. 2009. № 563–564.

[81] Новый Мир. Нью-Йорк. 1936. 18 февр.

# ДЗЕЙНАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ У ЧАСЕ ДРУГОЕ СУСВЕТНАЕ ВАЙНЫ

Другая сусветная вайна пачалася ў Еўропе 1 верасня 1939 года. Менш чым за тры тыдні беларуская зямля сталася зонаю ваенных дзеянняў, калі 17 верасня Саветы *«працягнулі руку братняе дапамогі»* беларусам у Заходняй Беларусі. Вынікам савецкае агрэсіі супраць Польшчы ў згодзе з нацысцкаю Нямеччынаю сталася тое, што ладная частка беларускай этнічнай тэрыторыі, улучна з Вільняю, была аб'яднаная ў адзіную Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. Але эпізод гэты быў кароткі. 10 кастрычніка 1939 года савецкі ўрад перадаў Вільню Літве.

Праз два гады Савецкая Беларусь адною з першых рэспублік Савецкага Саюза зазнала жахі вайны, калі нацысцкая Нямеччына напала на СССР 22 чэрвеня 1941 года. У выніку хутказменных падзей у 1943–1944 гадах Беларусь зноў была акупаваная Саветамі. Такім чынам, у часе Другое сусветнае вайны Беларусь была «вызваленая» тры разы: спачатку ад «польскіх паноў», тады ад савецкіх камуністаў, пасля ад нацысцкіх захопнікаў.

* * *

Напярэдадні Другое сусветнае вайны ў Злучаных Штатах Амерыкі дзеілі каля сотні большых і меншых славянскіх арганізацый. Трэба мець на ўвазе, што краіна ў тым часе выходзіла з эканамічнага крызісу, дык асаблівай актыўнасцю арганізацыі не вызначаліся. Не было і даміноўнага палітычнага кірунку, хоць большасць сярод амерыканскіх славянаў схілялася да дэмакратаў і актыўна падтрымоўвала палітыку прэзідэнта Рузвельта.

Другая сусветная вайна адразу актывізавала жыццё амерыканскіх славянаў. Гэта няцяжка зразумець, калі мець на ўвазе дзве акалічнасці, якія мелі велізарны ўплыў на славянскія грамады ў Злучаных Штатах Амерыкі, а менавіта тое, што 1) фактычна ўсе славянскія абшары ў Еўропе былі акупаваныя збройнымі сіламі нацыстаў і 2) нацысцкая расавая тэорыя лічыла славянаў *Untermensch'амі*, людзьмі ніжэйшага гатунку. Фашысцкая пагроза славянскаму свету з'яднала амерыканскіх славянаў не толькі як сукупнасць асобных людзей, але і як супольнасць грамадаў з агульным паходжаннем і гісторыяй. Апрача аднаўлення дзейнасці сваіх нацыянальных арганізацый, амерыканскія славяне пачалі дзеіць і супольна — была заснаваная агульнаславянская арганізацыя Амерыканскі славянскі кангрэс. Гэта была канфедэрацыя адкрытага тыпу, якая пакідала значную свабоду дзеянняў кожнай нацыянальнай групе. Яна давала магчымасць выказваць ідэі перад шырокім амерыканскім грамадствам і ўздымаць патрыятызм амерыканскіх славянаў. Кіраўніцтва новае арганізацыі трымалася выразна левае арыентацыі, і падзеі Другое сусветнае вайны давалі прасавецкім элементам магчымасць больш адкрыта прапагандаваць свае ідэалагічныя погляды. Гэтыя прасавецкія настроі



не абмяжоўваліся славянскаю масаю, уся краіна прыхільна глядзела на Савецкі Саюз і сімпатызавала *«добраму старому дзядзьку Джо» (Сталіну)*.

Амерыканскі славянскі кангрэс вёў дзейнасць у колькіх кірунак: фінансава дапамагаў Савецкаму Саюзу, прапагандаваў камуністычныя ідэі, фармаваў амерыканскую грамадскую думку ў духу прыхільнасці да Савецкага Саюза.

Трэба падкрэсліць, што як Амерыканскі славянскі кангрэс, гэтак і арганізацыі паасобных славянскіх народаў шмат эканамічна і палітычна дапамагалі краінам паходжання.

Вельмі ўзмоцніўся і патрыятызм славянаў у дачыненні Амерыкі. Служыць краіне пайшлі тысячы і тысячы добраахвотнікаў, ды наогул працэнт славянаў у амерыканскім войску быў вельмі значны, як значнымі былі і ахвяры за новую радзіму.



Янка Чарапук-Змагар як рыцар Калумба

Арганізацыйная дзейнасць сярод беларусаў у Злучаных Штатах перад Другою сусветнаю вайною прыціхла, хоць друк паведамляў пра ўдзел беларусаў у Амерыканскім славянскім фестывалі ў Чыкага 25 сакавіка 1941 года. У Каламбусе, штат Агаё, украінцы і беларусы ўшанавалі памяць Хрыстафора Калумба, дзе з прамоваю выступіў беларус Янка Чарапук-Змагар, рыцар чацвёртае ступені рады Калумбавае «Пінты», ды часам было чуваць пра беларусаў у Нью-Ёрку і Нью-Джэрсі[1].

Незадоўга перад пачаткам Другое сусветнае вайны, а менавіта 18 студзеня 1939 года, да беларускай арганізацыі ў Чыкага, створанай у 1920-я гады, але маладзейнай у гады 1930-я, звярнуўся старшыня Рады БНР Васіль Захарка. Вось частковы тэкст гэтага дакумента:

*У першую чаргу я прашу нацыянальнага аб'яднання ўсіх беларусаў, якое вымагаецца сучасным момантам і якому з гэтае прычыны не павінны перашкаджаць тыя ці іншыя падзелы і групаванні беларускага грамадства. Па-другое, я рэкамендую стварыць у кожным беларускім асяродку матэрыяльны грунт — «Беларускі Фонд», так неабходны як для інфармацыйнай працы, так і для падтрымання звязку паміж беларускімі арганізацыямі. [...]*

*З такою ж самаю просьбаю я звяртаюся і да беларускай іміграцыі ў Амерыцы. Я глыбока перакананы ў тым, што ўсе нашы браты ў Амерыцы зразумеюць усю вагу мае просьбы і*

[1] Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1941. 25, 29 марта; Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

*ўсю тую адпавядальнасць, якая ляжыць на кожным з нас за долю нашае Бацькаўшчыны. У той час, калі так цяжка стогне наша Родная Матка Беларусь, нас, беларусаў, не павінна дзяліць ні рэлігія, ні чужая культура, ні чужая прапаганда. У такі момант сярод нас не павінна быць ні рэнегатаў, ні янычараў*[2].

У Празе планавалася, што Васіль Захарка прыедзе ў ЗША, каб адведаць беларускія грамады. Аднак візіт прэзідэнта БНР у ЗША не адбыўся ды ў хуткім часе пачалася вайна і кантакты паміж Еўропаю і Амерыкаю спыніліся.

Ваенныя падзеі, змены дзяржаўных межаў, якія непасрэдна закранулі Беларусь, палітычныя дэмаршы літоўцаў і палякаў у Злучаных Штатах, а разам з тым разуменне таго, што Амерыка амаль нічога не ведае пра Беларусь, — усё гэта прымусіла беларускіх актывістаў ў Чыкага прыняць канкрэтныя захады па ажыўленні арганізацыйнага жыцця.

Янка Чарапук-Змагар і некалькі ягоных аднадумцаў склікалі 7 верасня 1941 года ў кватэры па адрасе 2623 Уэст Агаста бульвар, Чыкага, сход з мэтаю заснаваць новую беларускую арганізацыю[3]. Старшынёй сходу быў Янка Чарапук-Змагар, а прысутнічалі сярод іншых а. праф. Ян Тарасевіч, Масей Гайдук-Рубяжанін і Макар Аблажэй.

На сходзе было пастаноўлена і задакументавана ў рэзалюцыі, што новая арганізацыя мелася звацца Беларуска-амерыканскае таварыства помачы ахвярам вайны на Беларусі. Заява аб рэгістрацыі была пададзеная 25 верасня 1941 года, падпісалі яе Змагар, Лабач, Гайдук, Аблажэй і айцец Тарасевіч.



Рэклама Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады. Чыкага, 1943 г.

Але ўлады штата Ілінойс не зарэгістравалі арганізацыю, патрабуючы змяніць яе назоў, з чым арганізатары пагадзіліся. Было запрапанавана назваць арганізацыю Беларуска-амерыканская нацыянальная рада (БАНР), яна зарэгістраваная штатнымі ўладамі 27 кастрычніка 1941 года. Было абранае кіраўніцтва: а. Ян Тарасевіч, старшыня; Янка Чарапук, віцэ-старшыня; Паўлюк Чопка, скарбнік; Макар Аблажэй, фінансавы сакратар; Язэп Варонка, сакратар-карэспандэнт; а. Язэп Рэшаць, рэлігійныя справы; Ігнат Лабач, сакратар-пратакаліст. Пра заснаванне Беларуска-амерыканскае нацыянальнае рады паведамілі літоўска-, польска-, руска- і англамоўныя газеты[4].

Дзейнасць новае беларускае арганізацыі канцэнтравалася на дзвюх дзялянках: праца сярод суродзічаў і актыўнасць навонкі. Праграма працы на ўнутраным адрэзку вызначалася ў статуце арганізацыі гэтак:

[2] Архівы БНР. Т. І. Кн. 2. № 3837.

[3] Пратаколы БАНР у Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[4] Выразкі з газетаў у Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



*а)) дапамагаць беларусам (як у гэтай краіне, гэтак і ў іншых, асабліва ў самой Беларусі) матэрыяльна — грашамі, вопраткай і г. д.;*

*б) арганізоўваць лекцыі, адукацыйныя і сацыяльныя клубы, забавы, канцэрты і г. д.;*

*в) выдаваць газеты, кнігі і брашуры;*

*г) закладаць і падтрымваць беларускія школы, чытальні, бібліятэкі, кнігарні і г. д.*

Да пералічаных пунктаў дзейнасці трэба дадаць і тое, пра што часта згадвалася ў пратаколах пасяджэнняў, — дапамога суродзічам у справе эміграцыі ў Амерыку (асабліва важным гэты аспект працы стаўся ў апошні год вайны і ў паваенны перыяд). Шмат мерапрыемстваў БАНР, якія разглядаліся як унутраная праца, служылі прапагандзе Беларусі ў шырокім амерыканскім грамадстве. Гэтак, арганізацыя запачаткавала рэгулярнае адзначэнне Дня Незалежнасці Беларусі, угодкаў трагічнае смерці Янкі Купалы (упершыню вечар, прысвечаны Купалу, адбыўся 13 снежня 1942 года, а паніхіда па ім была адпраўленая 11 кастрычніка 1942 года) ды іншых беларускіх нацыянальных памятных датаў. Язэп Варонка адзначаў беларускія ўрачыстасці спецыяльнымі радыёперадачамі. Пра беларускую дзейнасць паведамляў шырокі друк. Пры фінансавай дапамозе БАНР былі выдадзеныя бел-чырвона-белыя нацыянальныя сцяжкі-сувеніры[5].

Разнастайнаю была дзейнасць БАНР і на вонкавай дзялянцы. Было наладжанае супрацоўніцтва з Амерыканскім славянскім кангрэсам, у з'ездах якога заўсёды бралі ўдзел прадстаўнікі БАНР. Усяго адбылося чатыры з'езды: першы — у Дэтройце 25—26 красавіка 1942 года, другі — у Пітсбургу 23—24 верасня 1944 года, трэці — у Нью-Ёрку 20—22 верасня 1946 года, чацвёрты — у Чыкага 24—26 верасня 1948 года. Найчасцей прадстаўляў беларусаў на гэтых з'ездах айцец Ян Тарасевіч, але бывалі і іншыя дэлегаты. У сувязі з гэтымі з'ездамі варта адзначыць цікавы факт: на трэцім кангрэсе чыкагскую Беларускую Раду прадстаўляў айцец Тарасевіч. Галоўным прамоўцам на кангрэсе быў Цімафей Гарбуноў з БССР, які прадстаўляў не толькі сваю рэспубліку, але і ўвесь СССР. Гэта, мабыць, быў першы засведчаны гісторыяй выпадак, калі прадстаўнікі Савецкае Беларусі і варожыя савецкаму рэжыму беларусы дыяспары выступалі з аднае трыбуны[6]. У з'ездах бралі ўдзел таксама беларусы з левых арганізацый, прыкладам Даніла Казушчык.

БАНР вяла таксама шырокую палітычную карэспандэнцыю. Айцец Ян Тарасевіч, Язэп Варонка, Ян Чарапук-Змагар ліставаннем і друкаваннем матэрыялаў у газетах інфармавалі шырокае амерыканскае грамадства пра палітычныя патрэбы беларускага народу. Асабліва варта адзначыць палітычную карэспандэнцыю а. Яна Тарасевіча. Галоўнаю ягонаю мэтаю было інфармаванне амерыканскіх і заходнееўрапейскіх палітычных дзеячаў пра імкненне Беларусі да незалежнасці і захавання непадзельнасці сваёй этнаграфічнай тэрыторыі. Айцец Тарасевіч выслаў нямала мемарандумаў аб тэрытарыяльных правах Беларусі і яе палітычнай будучыні Дзяржаўнаму Дэпартаменту ЗША; прэзідэнтам Рузвельту і Труману; амерыканскім кангрэсменам і сенатарам, Сэру Энтані Ідэну, брытанскаму міністру замежных спраў; д-ру Эдварду Бэнешу, прэзідэнту Чэхаславацкае Рэспублікі; народнаму камісару замежных справаў БССР Кузьму Кісялёву; савецкім рэлігійным уладам, у тым ліку архіепіскапу Яраслаўскаму і Растоўскаму Алексію.

[5] Чествование памяти Янки Купалы. Программа. 13 декабря 1942; Dziennik Związkowy. Chicago. 1942. 24 marca.

[6] Русское Обозрение. Чикаго. 11 нояб. 1944; Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1943. 27 февр.; Славяне. Москва. 1942. Июль. С. 21—23; Slavic American. New York. Fall 1947. P. 12—33.

Трэба падкрэсліць, што сваю перапіску з наркамам замежных спраў БССР айцец Тарасевіч вёў па-беларуску.

Рада прапагандавала свае палітычныя ідэі праз друкаванае слова, радыёперадачы, удзел у розных сходах і мітынгах. Шмат артыкулаў і інфармацыі пра дзейнасць беларусаў у Злучаных Штатах змяшчалі на сваіх старонках літоўскія, польскія, рускія і ўкраінскія выданні.

Арганізацыя мела дачыненне да ўкладання інфармацыі пра Беларусь у *Encyclopedia Britannica*, падтрымоўвала кантакты з бібліятэкамі, прафесарамі ды палітыкамі, зацікаўленымі Беларуссю. БАНР звярнула ўвагу на праблему перадавання назову «Беларусь» на англійскай мове ды была адною з першых, хто ўжываў тэрмін *«Byelorussia»*[7]. Рада ўсталявала таксама кантакты з прадстаўнікамі БССР у Амерыцы.

Беларуска-амерыканская нацыянальная рада была не адзінаю беларускаю арганізацыяй, што дзеіла ў часе вайны, аднак яна была найбольшаю і мела выразную беларускую накіраванасць. Другая група — Славянскае брацтва, — брала ўдзел у славянскай дзейнасці, мела сваю сядзібу ў Браўнсвіле (Нью-Ёрк). Іншая група арганізацый, пераважна яўрэйскіх зямляцтваў, як Менскае, Мазырскае, Пінскае, Гомельскае, дзейнічалі ў суполцы з *American Jewish Committee to Aid Byelorussian Rehabilitation*. Мэтамі гэтых зямляцтваў было згуртаваць выхадцаў з Меншчыны і іншых рэгіёнаў і арганізаваць дапамогу Савецкай Беларусі. Беларускія інтарэсы прадстаўлялі таксама некаторыя левыя арганізацыі, такія як Камітэт дапамогі насельніцтву Менска і падобныя, якія аказалі БССР значную матэрыяльную дапамогу[8].

Падчас Другое сусветнае вайны нямала беларусаў, пераважна амерыканцаў у першым пакаленні, служылі ў амерыканскім войску ды змагаліся на ўсіх франтах вайны. Удзел беларусаў у Другой сусветнай вайне на баку заходніх аліянтаў наогул, а амерыканскіх беларусаў у прыватнасці застаецца яшчэ мала даследаваным эпізодам у гісторыі беларускае дыяспары[9]. Сярод амерыканскіх беларусаў было шмат выдатных герояў, пра якіх пісалі амерыканскія газеты. Гэтак, Іван Радзюковіч (бацькі паходзілі з Меншчыны) быў адным з першых, хто высадзіўся на берагах Нармандыі 6 чэрвеня 1944 года. Героем вайны быў Дж. Асіпук, бацькі якога

[7] Папка а. Яна Тарасевіча ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Русское Обозрение. Чикаго. 1941. 1, 22 нояб.; 1942. 12 мая; 1943. 31 янв., 26 июня; 1945. 27 окт.; Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1941. 27 нояб.; 1942. 30 янв., 27 марта; 1943. 27 февр.; Новая Заря. Чикаго. 1943. 4 июля; Правда. Детройт. 1943. 20 июля; Всенародный Освободительный Конгресс Американцев Русского Происхождения. Филадельфия. 8–9 окт. 1944. Стенографический отчет. Филадельфия, 1945; The Michigan Slav. Detroit. 1942. № 1; The Slavonic Monthly. New York. 1942; Slav Unity — Hitlerism's Doom. Detroit, 1942; The Chicago 1941. Sun. Dec. 8,; Naujienos. Chicago. 1941. Dec. 20; Dziennik Chicagoski. 1941. 2 grud.; 1942. 12, 23 maja; Ameryka-Echo. Chicago. 1945. 26 sierpnia; Special Libraries Conference on Russian materials. 1945. Nov. 17. New York (NY), 1945; Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[8] Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1942. 12 июля, 16 авг., 10 дек.; 1943. 10 апр.; 1944. 5 янв., 5, 16 марта , 27 июня, 17 окт., 15 дек.; 1946. 3 дек.; Woodbridge, G. UNRRA: The History. Vol. 1–3. New York (NY), 1950. P. 11, 143, 255–262, 438–441; Голас Радзімы. Мінск. 1987. 5 лют.; Тридцать лет АРОВ. 1920–1950. Нью-Йорк, 1950; Смиловицкий, Л. Евреи в Турове. Иерусалим, 2008. С. 246–247.

[9] Можна згадаць хіба што публікацыі Юрыя Грыбоўскага, прысвечаныя ўдзелу беларусаў у Арміі Андэрса: Грыбоўскі, Ю. Беларусы ў польскіх рэгулярных вайсковых фармаваннях 1918–1945 гадоў. Санкт-Пецярбург, 2006. — 832 с.; Grzybowski, Jerzy. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956. Warszawa, 2011. — 907 s.



паходзілі з Беларусі. Бацькі іншага вайскоўца Майкла Кліменкі паходзілі з Гомельшчыны. Уладзімір Каваленка быў узнагароджаны Найвышэйшым Крыжам Ваенна-паветранага флоту; Мікалай Арэшка атрымаў Кангрэсавы медаль; геройскаю смерцю загінуў у Францыі Вікенці Прост, які нарадзіўся ў Маладзечне; геройскаю смерцю загінулі таксама Д. Уладыка, Б. Старадуб, А. Русецкі, А. Саўчук і г. д. Такіх беларусаў-амерыканцаў, якія вызначыліся на франтах вайны, налічваюцца сотні і сотні[10].

Дачыненне да Амерыкі маюць некалькі вайскоўцаў, якія змагаліся з нацыстамі на савецкім баку. Так, увесь свет абышоў здымак славутае сустрэчы на Эльбе, дзе амерыканскі вайсковец абдымае савецкага — жыхара Беларусі Аляксандра Сільвашку, які пасля вайны працаваў дырэктарам школы пад Клецкам[11]. Іншым славутым беларусам быў Ілля Мазурук, савецкі лётчык, які адзін з першых пераляцеў з Камчаткі ў Аляску ў часе вайны[12]. Цікава таксама адзначыць, што беларус Васіль Марцехаў, Герой Савецкага Саюза, нарадзіўся ў штаце Агаё, у сям'і беларускіх імігрантаў, якія пазней вярнуліся ў Беларусь[13].

Характарызуючы ролю амерыканскіх беларускіх арганізацый перыяду Другое сусветнае вайны, можна падкрэсліць наступнае: гэтыя арганізацыі сталіся каталізатарамі шырокае матэрыяльнае дапамогі Бацькаўшчыне і паслужылі ёй важнаю палітычнаю падтрымкаю, выступаючы перад шырокім светам з ідэямі незалежнасці і тэрытарыяльнае непадзельнасці Беларусі.

[10] The Slavonic Monthly. New York. 1942. № 3. P. 20; Русский Вестник. Нью-Йорк. 1944. № 136; 1945. № 137; Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1942. 2 окт.; 1945. 6 марта, 27 июня; 1946. 15 февр.

[11] Коммунист Белоруссии. Минск. 1988. № 9. С. 65–66.

[12] БелСЭ. Т. 6. Мінск, 1972. С. 536.

[13] БелСЭ. Т. 7. Мінск, 1973. С. 43.

# ПАВАЕННАЯ ХВАЛЯ БЕЛАРУСКАЕ ІМІГРАЦЫІ

## Першыя паваенныя кантакты

З паступовым вызваленнем краінаў Заходняе Еўропы ад нацысцкае акупацыі чыкагскія беларусы пачалі наладжваць кантакты з тамтэйшымі беларускімі эмігрантамі.

З пратаколаў чыкагскае Беларуска-амерыканскае нацыянальнае рады мы даведваемся пра перапіску а. Яна Тарасевіча з Міколам Абрамчыкам, які жыў у Парыжы; Язэп Рэшаць карэспандаваў з беларусамі ў Заходняй Нямеччыне і Швецыі[1].

Важную ролю ў развіцці і падтрыманні гэтых кантактаў адыграла газета «Беларускія Навіны», якая пачала выходзіць у 1945 годзе ў Парыжы. Яна сталася крыніцаю палітычнае інфармацыі для беларускае дыяспары ў Заходняй Еўропе ды змяшчала абвесткі аб пошуках родных і сваякоў у Злучаных Штатах. Разам з тым газета асвятляла беларускае жыццё ў Амерыцы, адзначаючы важнасць радыёперадачаў Язэпа Варонкі і выказваючы шкадаванне, што іх нельга пачуць у Заходняй Еўропе. У газеце былі надрукаваныя вершы беларуска-амерыканскага паэта Івана Шульгіна, а таксама іншыя матэрыялы беларускае тэматыкі. «Беларускія Навіны» былі задуманыя як супольная трыбуна для ўсіх беларусаў, якія апынуліся на Захадзе.

Сярод найважнейшых кантактаў, якія здолелі наладзіць паасобныя беларускія эмігранты, былі стасункі з цэрквамі, агенцтвамі і арганізацыямі ў справах пошуку родных і хадайнічання аб дапамозе ў эміграцыі.

Такім чынам, праз беларускія арганізацыйныя і прыватныя кантакты, адзіную беларускамоўную газету на Захадзе ды праз некаторыя гуманітарныя арганізацыі, такія як Чырвоны Крыж, Сусветная царкоўная служба або ІМКА/ІЎКА (*YMCA/YWCA* — Хрысціянская асацыяцыя моладзі), беларусы Заходняе Еўропы наладзілі сувязі з сваімі суродзічамі ў Злучаных Штатах, што адкрыла ім шляхі да эміграцыі.

Гэтая хваля паваенных беларускіх імігрантаў распачала новы перыяд у гісторыі беларускае іміграцыі ў Злучаных Штатах Амерыкі[2].

[1] Пратаколы БАНР; Карэспандэнцыя Я. Рэшаця, Ю. Туронка ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[2] Беларускія Навіны. Парыж. 1945. № 1; 1947. № 6, 8; Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны (Лондан): Архіў а. Льва Гарошкі.



## Статус беларускіх эмігрантаў у Заходняй Еўропе

Калі аліянты святкавалі перамогу над нацысцкаю Нямеччынаю ў траўні 1945 года, больш за два мільёны ўсходнееўрапейцаў і былых грамадзянаў Савецкага Саюза, улучна з дзясяткамі тысяч беларусаў, знайшлі прытулак у розных краінах Заходняе Еўропы, абсалютна не ўяўляючы сабе свой далейшы лёс[3].

Зусім нядаўна перад тым большасць гэтых беларусаў была остарбайтарамі, «работнікамі з Усходу». Пад «Усходам» звычайна разумеліся тэрыторыі СССР, якія былі пад нямецкаю акупацыяю, у тым ліку і Беларуская ССР.

Апрача остарбайтараў у Заходняй Нямеччыне знаходзілася значная колькасць моладзі, былых сяброў СБМ (Саюза беларускае моладзі), прывезеных у Нямеччыну ў якасці вучняў і дапаможных работнікаў на розных заводах і ваенных аб'ектах[4].

Наступнаю вялікаю групаю беларусаў, якія жылі ў паваеннай Заходняй Еўропе, былі былыя ваеннапалонныя, вайскоўцы, якія служылі ў польскай або савецкай арміі. Алесь Вініцкі ацэньваў колькасць беларускіх ваеннапалонных з польскае арміі ў 70 000 чалавек; паводле Жака Вернана, іх было каля 80 000[5].

Чацвёртая важная група беларускіх уцекачоў у Заходняй Нямеччыне складалася з тых, хто пакінуў Бацькаўшчыну ў 1944–1945 гадах, ратуючыся ад наступу савецкіх войскаў. Гэтая група была вельмі разнастайная: сяляне, работнікі, інтэлігенцыя.

Заняўшы заходнюю частку Нямеччыны, аліянты сутыкнуліся з праблемаю: што рабіць з былымі жыхарамі і грамадзянамі Савецкага Саюза — балтыйцамі, беларусамі, рускімі, украінцамі ды прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў, якія не хацелі вяртацца на сваю бацькаўшчыну. Савецкія ўлады, у адпаведнасці з Ялцінскім пагадненнем, патрабавалі рэпатрыяцыі гэтых людзей. Ялцінская канферэнцыя (люты 1945 года) вызначала лёс сотняў тысячаў усходнееўрапейцаў. На жаль, пастановы канферэнцыі, пераважна дыктаваныя савецкім бокам і без пярэчанняў прынятыя заходнімі аліянтамі, прадугледжвалі, што ўсе былыя грамадзяне Савецкага Саюза мусяць быць рэпатрыяваныя. Аднак панятак «савецкія грамадзяне» разумеўся аліянтамі неадназначна.

Заходнія аліянты не лічылі савецкімі грамадзянамі тых, хто да 1 верасня 1939 года быў грамадзянінам Польшчы, а таксама тых, хто жыў у Эстоніі, Латвіі і Літве да акупацыі гэтых краінаў Саветамі ў 1940 годзе[6]. Як зазначаў брытанскі даследчык Мэлкам Праўдфут, *«у заходніх зонах Нямеччыны і ў Аўстрыі было больш за 250 000 такіх асобаў»*. І хоць Савецкі Саюз разглядаў гэтых людзей як «сваіх» ды патрабаваў іхнага звароту на бацькаўшчыну «ў разе патрэбы з ужыццём сілы», палітыка заходніх аліянтаў палягала ў тым, што:

*Урады Вялікабрытаніі і Злучаных Штатаў не прызналі ніякіх тэрытарыяльных зменаў, спрычыненых [Другою сусветнаю] вайною, і што ўсе асобы, якія паходзяць з гэткіх*

[3] Proudfoot, M. European Refugees: 1939–1952: a study in force population movement. London, 1957.

[4] Вініцкі, А. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. 1. Лос-Анджэлас, 1968. С. 7, 32; Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1955. № 255, 256, 258, 259, 260, 261, 264.

[5] Vernant, J. The Refugee in the post-War World. New Haven, 1953. P. 85.

[6] Бацькаўшчына. Osterhofen. 1948. № 10, 11, 15; Мюнхэн. 1955. № 244, 245, 246.

*тэрыторый, не будуць вернутыя на бацькаўшчыну і не будуць разглядаецца як савецкія грамадзяне, калі толькі яны самі не выступяць з хадайніцтвам аб савецкім грамадзянстве*[7].

Такім чынам, сама сабою склалася сітуацыя, калі шматлікія беларусы атрымалі магчымасць застацца на Захадзе. На жаль, у некаторых выпадках заходнія ваенныя ўлады, выконваючы загады, прымусова рэпатрыявалі тысячы ўцекачоў. Гэта складае адну з найбольш трагічных старонак гісторыі Другое сусветнае вайны[8].

Магчыма, ніколі не будзе дакладна вызначана, колькі беларусаў было прымусова рэпатрыявана, але 1 верасня 1945 года газета *«Правда»* паведамляла, што ў Савецкі Саюз вярнулася 4 115 709 чалавек, вядома ж, улучна з беларусамі. Аднак брытанскі даследчык падаваў крыху іншую статыстыку:

*Толькі ў трох рэспубліках — РСФСР, Украіне і Беларусі — 546 000 рэпатрыяваных асобаў ужо занята ў індустрыі і 1 100 000 у сельскай гаспадарцы (звесткі за 1945 год. —* В. К.*)*[9].

На канец 1945 года ў Заходняй Нямеччыне і Аўстрыі заставалася некалькі сотняў тысячаў эмігрантаў, якія не хацелі вяртацца на сваю бацькаўшчыну. Паводле звестак Беларускага нацыянальнага камітэта ў Заходняй Нямеччыне, ад 75 000 да


Whiteruthenian DP. Camp
Osterhofen Ndb.

Osterhofen, June 3, 1949

To: Whom it may concern

That is to certify that the inhabitant of this Camp,
Mr. Adamovic Anton
DP Id.C.No. 840181 born on June 26,1909
is living here since February 10,1947. He was employed here
as Teacher from February 15,1947 to Febr.10,1948
as Princ.Editor Newspaper from Febr.11,1948 to August 31,1948
as Clerk-Typist from Septemb.1,1948 to May 20,1949
as Secretary in Resettlm.Off. from May 21,1949 to June 13,1949

Camp Leader

Даведка з Беларускага лагера Ды-Пі ў Остэргофене, выдадзеная Антону Адамовічу. 1949 г.

[7] Proudfoot, M. European Refugees: 1939–52... P. 215.

[8] Tolstoy, N. The secret betrayal: 1944–1947. New York, 1977; Беларус. Нью-Ёрк. 1971. № 167; 1975. № 216.

[9] Proudfoot, M. European Refugees: 1939–52... P. 219.



100 000 беларусаў пастанавілі не вяртацца ў Беларусь, на той час зноў акупаваную Саветамі, і прыблізна дзве трацiны з іх паходзілі з Заходняе Беларусі[10].

Пасля спынення ваенных дзеянняў уцекачы ў Заходняй Еўропе, або, ужываючы тагачасны тэрмін, «перамешчаныя асобы» (*Displaced persons — DP — Ды-Пі*), падпадалі пад адміністраванне Галоўнага камандавання саюзных экспедыцыйных сілаў (*SHAEF* — СХАЭФ), пасля перайшлі пад апеку Камітэта Аб'яднаных Нацый у справах дапамогі і аднаўлення (*UNRRA — УНРРА*), а пазней — Міжнароднае арганізацыі ўцекачоў (*IRO — IPO*)[11]. Калі перамешчаныя асобы праходзілі праз арганізаванае ваеннымі ўладамі «прасейванне» або траплялі ў адміністрацыйныя лабірынты бюракратычнага апарату УНРРА, шмат хто з былых грамадзянаў Савецкага Саюза разумеў, што можа быць рэпатрыяваны ў СССР згодна з умовамі Ялцінскага пагаднення. Каб пазбегнуць рэпатрыяцыі, гэтыя людзі мусілі змяніць свае дакументы і давесці, што яны не савецкія грамадзяне. Для беларусаў найбольш лагічным было давесці, што яны былі грамадзянамі даваеннае Польшчы. Зрабіць гэта, г. зн. змяніць у дакументах месца нараджэння, было параўнальна лёгка, бо беларусы, што паходзілі з Заходняе Беларусі, сведчылі за сваіх суродзічаў пры атрыманні новых дакументаў. У атрыманні дакументаў з «новымі» дадзенымі, аб паходжанні з Заходняй Беларусі, дапамагалі і немцы, як аўтар гэтай кнігі апісаў ва ўспамінах[12].

## Лагеры Ды-Пі

Большасць перамешчаных асобаў была сабраная ў лагеры, званыя лагерамі Ды-Пі. Паводле даследавання Э. Л. Нітобурга, на пачатку 1946 года ў Заходняй Нямеччыне налічвалася 920 лагераў Ды-Пі, дзе пражывалі былыя савецкія грамадзяне. Беларусаў налічвалася каля 15 000 тысячаў, а іншых савецкіх грамадзянаў — 80 000 тысячаў[13]. Іншыя даследчыкі называюць колькасць беларусаў у Заходняй Нямеччыне ў тым часе каля 9 % ад агульнай колькасці перамешчаных асобаў 529 000 тысячаў[14]. Гаворачы пра Ды-Пі, варта зазначыць, што ў ЗША вялася дыскусія, пускаць ці не пускаць перамешчаных асобаў у Амерыку[15]. Праўда, дыскусія пачалася ад 1945 года, калі 22 снежня прэзідэнт Гары Труман даў дырэктыву выдаць 90 % уязных візаў у краіну прадстаўнікам народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Вобразнае азначэнне паняццю Ды-Пі даў беларускі журналіст Тодар Беларускі ў газеце «Бацькаўшчына»:

*Мы — людзі без бацькаўшчыны (dispaced persons), як завемся мы мовай афіцыйнай, або displeased persons — пакрыўджаныя — як лепш назвалі б мы самі сябе ў душы, застаўшыся запраўды пакрыўджанымі ад урадаў, што ў вас (на Агульным з'ездзе Аб'яднаных Нацыяў. —* В. К.*) фігуруюць і выступаюць ад імя народаў, ад якіх яны не маюць паўнамоцтваў*[16].

[10] Гутарка аўтара з Аляксандрам Русаком, старшынёю Беларускага нацыянальнага камітэта ў Рэгенсбургу, 1956.

[11] Woodbridge, G. UNRRA: The History... P. 11, 143, 255–262, 438–441.

[12] Кіпель, В. Жыць і дзеіць. Успаміны. Мінск, 2015. С. 151–152.

[13] Нитобург, Э. Русские в США. Москва, 2005. С. 165–166.

[14] Нитобург, Э. Русские в США.

[15] Divine, R. A. American Immigration Policy 1924–1952. New Haven, 1957. P. 111–112.

[16] Бацькаўшчына. Osterhofen. 1948. № 15.


Mikola Pankoŭ
Name - Nom - Name
WHITE RUTHENIAN
Date of Birth - Date de Naissance - Geburtsdatum
Nationality - Nationalité - Nationalität
DP Camp Oldenburg
Address - Adresse - Adresse
is a member of - est membre du - ist Mitglied der
DPWR
Scout Group Number - Groupe Scout Numéro - Pfadfindergruppe Nummer
(1)
registered with the D.P. Division of the Boy Scouts International Bureau.
enregistré à la Section P.D. du Bureau International du Scoutisme.
registriert mit der D.P. Abteilung des Internationalen Pfadfinderbüros.
Signature - Signature - Unterschrift
BOY SCOUTS
INTERNATIONAL BUREAU
D. P. DIVISION
STAMP—CACHET—STEMPEL
Signature - Signature - Unterschrift
Chief Scouter - Chef ... - Leiter
WHITE RUTHENIAN
Nationality - Nationalité - Nationalität
WHITERUTHENIAN SCOUTS ASSOCIATION HEADQUARTER
Identity Card No. - Carte d'Identité No. - Ausweis Nummer
293

Скаўцкае пасведчанне Міколы Панькова, выдадзенае ў лагеры Ды-Пі ў Ольдэнбургу. 1949 г.

Колькасць тых, хто заставаўся «на прыватных кватэрах», г. зн. па-за лагерамі Ды-Пі, была нязначная. Лагеры Ды-Пі арганізоўваліся пераважна паводле нацыянальнага прынцыпу, кожная нацыянальная група, як, прыкладам, літоўцы, беларусы, палякі, украінцы, мела свой лагер. У вялікіх прамысловых асяродках існавалі таксама міжнародныя лагеры, якія часам мелі нацыянальныя аддзелы. Некаторыя аўтары згадвалі чатырнаццаць беларускіх лагераў Ды-Пі, але беларускія статыстычныя крыніцы зафіксавалі, што каля дваццаці беларускіх лагераў існавала ў Заходняй Нямеччыне і колькі меншых беларускіх групаў у Аўстрыі[17]. Хоць большасць беларусаў выбралі беларускія лагеры, аднак былі і тыя, хто пайшоў у польскія лагеры, мяркуючы, што гэтак можна надзейней засцерагчыся ад прымусовае рэпатрыяцыі ў СССР.

Лагеры Ды-Пі функцыянавалі як «дзяржавы ў дзяржаве». На іх не пашыралася юрысдыкцыя нямецкіх уладаў, а акупацыйныя сілы аліянтаў і адміністрацыя УНРРА ажыццяўлялі толькі фармальны нагляд над імі. Гэтыя лагеры звычайна мелі самакіраванне з сваёю ўласнаю адміністрацыяй, цэрквамі, школамі, паліцыяй, рознымі клубамі і таварыствамі. СХАЭФ, УНРРА і пазней IРО забяспечвалі насельнікаў лагераў ежаю, адзеннем, медыцынскаю, юрыдычнаю і адміністрацыйнаю дапамогаю[18].

## Беларускае палітычнае прадстаўніцтва

Калі мінала памяць пра вайну і перамешчаныя асобы пачалі разумець, што гэтыя паселішчы Ды-Пі былі не часовымі прыстанкамі па дарозе на Бацькаўшчыну, а, хутчэй, масткамі ў трывалую, але няясную будучыню, нацыянальныя лідары пачалі разглядаць шляхі і сродкі заснавання сталага палітычнага прадстаўніцтва, якое ачольвала б дыяспару, прапагандавала і пашырала ідэю беларускае дзяржаўнасці і імкненне нацыі да незалежнасці.

Было вядома, што недзе ў Заходняй Нямеччыне знаходзіцца група асобаў, якія належалі да найвышэйшага беларускага палітычнага кіраўніцтва падчас нямецкае акупацыі Беларусі ў 1941–1944 гадах. Галоўны орган гэтае групы называўся Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР), на чале якое стаяў прафесар Радаслаў Астроўскі[19].

Звычайныя Ды-Пі-беларусы адчувалі, што кіраўнічая роля групы БЦР як палітычнае інстытуцыі скончылася ў траўні 1945 года. Большасць беларускіх палітычных лідараў падзялялі гэтае меркаванне і думалі, што настаў час заснаваць новы беларускі прадстаўнічы орган, які б не выклікаў асацыяцый з падзеямі вайны і з нацысцкаю Нямеччынаю. Гэткі сімвал яны бачылі ў Беларускай Народнай Рэспубліцы (БНР). Трэба мець на ўвазе, што ад 1920 года Рада БНР стала перабывала ў Заходняй Еўропе. Рада ніякім чынам не была звязаная з нацысцкаю Нямеччынаю, фактычна не прыняўшы прапановаў аб супрацоўніцтве. Такім чынам, робіцца зразумелым, чаму шмат хто з беларускіх палітычных лідараў звярнуўся да Рады БНР і прыняў яе як дзейнае і законнае палітычнае прадстаўніцтва. У выніку штораз большае падтрымкі эмігрантамі Рада БНР была адноўленая, рэарганізаваная, павялічылася колькасць яе сяброў, і ў вельмі хуткім часе яна была прызнаная значнаю часткаю беларусаў у Заходняй Еўропе як законнае беларускае палітычнае прадстаўніцтва за межамі Бацькаўшчыны. Узначаліў адноўленую Раду Мікола Абрамчык[20].

Шматлікія беларусы і некаторыя палітычныя лідары, аднак, лічылі, што ні супрацоўнікі БЦР, ні беларускія актывісты часоў нямецкае акупацыі не павінны адчуваць віны або сораму за сваю дзейнасць у 1941–1945 гадах. Яны ўважалі, што БЦР дзеіла ў інтарэсах беларускага народа, дзеля беларускае справы і што фактычна яны могуць ганарыцца некаторымі важнымі дасягненнямі тых часоў. Гэтая частка беларускага грамадства меркавала, што Беларуская Цэнтральная Рада і надалей павінна выконваць ролю палітычнага прадстаўніцтва беларускага народа. Так паўстаў палітычны дуалізм. У 1947–1948 гадах на грунце пытання пра беларускае палітычнае прадстаўніцтва ўзнік раскол сярод беларускіх эмігрантаў у лагерах Ды-Пі і па ўсёй Заходняй Еўропе. Канфлікт рабіўся штораз больш востры, і абодва палітычныя лагеры пачалі змагацца за ўплыў у беларускіх масах, адначасова спрабуючы пераканаць амерыканскія, брытанскія і французскія ваенныя ўлады ў Заходняй Нямеччыне, а таксама адміністрацыю УНРРА і IРО, што кожны з іх мае выключнае права прадстаўляць беларусаў[21]. Гэткая палітычная палярызацыя нанесла шкоду беларускай справе, яна не давала людзям засяродзіцца на іншых, часам больш важных праблемах, такіх як збіранне беларусаў у беларускія лагеры Ды-Пі або прапаганда беларускіх палітычных ідэй сярод іншых народаў.

Раскол унутры беларускае грамады ў Заходняй Еўропе ў канцы 1940-х гадоў быў, на жаль, перанесены і на Амерыканскі кантынент, дзе ён зрабіў уплыў на

---

17 Россия. Нью-Йорк. 1948. 22 сент.; Вініцкі, А. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. 1. Табліца.

18 Бацькаўшчына. Osterhofen. 1948. № 39.

19 Гл.: Гардзіенка, А. Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943–1995). Мінск, 2016.

20 Гл.: Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск, 2013,

21 Папка У. Тамашчыка ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Бацькаўшчына. Osterhofen. 1948. № 18, 26, 33, 42, 43; 1949. № 45, 52, 53.


Bielaruskaje
Centralnaje Pradstaunictva
Susvietnaj Emihracyi
Belorussian
Central Administration

Pasviedcannie
Card of Identity

Nr. 652/49

Вокладка пасведчання, выдадзенага Беларускім цэнтральным прадстаўніцтвам. 1949 г.

амерыканскіх беларусаў. Гэта відаць з справаздачы Грамадскае рады за амерыканскае адзінства аб беларускай грамадзе за 1950–1951 гады, а таксама выдатна дакументуецца раскол у ліставанні старога пакалення амерыканцаў-беларусаў, як Янка Чарапук-Змагар, з новымі эмігрантамі колаў як БЦР, гэтак і БНР[22].

Аднак найбольшага напружання канфлікт дасягаў на Еўрапейскім кантыненце, у Злучаных Штатах Амерыкі ён паступова заціхаў[23].

З цягам часу на беларускую эміграцыйную палітычную арэну выйшла маладзейшае пакаленне, спрэчкі паступова суняліся, і ў штодзённым жыцці раскол не меў ніякага ўплыву, застаўшыся чыста тэарэтычнаю праблемаю і прадметам зацікаўлення даследчыкаў палітычнае гісторыі. Беларуска-амерыканская грамада прыняла ў якасці палітычнага ідэалу беларускае нацыі незалежную дзяржаву — Беларускую Народную Рэспубліку.

## Сацыяльны склад і адзнакі паваеннае іміграцыі

Іміграноты, што прыбылі ў Злучаныя Штаты пасля Другое сусветнае вайны, прадстаўлялі ўвесь сацыяльны спектр беларускага грамадства, хоць узроставы склад меў свае асаблівасці. Пераважалі дзве групы: моладзь у веку да 20 гадоў і людзі старэйшыя за 35 гадоў, з невялікаю перавагаю жанчын[24]. Прафесійная і адукацыйная структура была наступная. Найбольшая група складалася з сялянаў і жыхароў мястэчак. Далей ішлі прадстаўнікі рабочага класа — работнікі самых розных галінаў прамысловасці. Сярэдні ўзровень адукацыі ў гэтых групах складаў ад чатырох да сямі класаў, людзі былі ў дастатковай меры абазнаныя ў палітычных пытаннях. Трэцюю групу складалі прадстаўнікі інтэлігенцыі: настаўнікі, службоўцы, тэхнічныя работнікі — група, што ў любой дзяржаве складае адміністрацыйна-адукацыйна-тэхнічны апарат.

Большасць гэтых імігрантаў паходзіла з Заходняе Беларусі, каля 80 % былі праваслаўныя.

---

[22] Юрэвіч, Л. Шматгалосы эпісталярыум... С. 476–499.

[23] The Common Council for American Unity. A report. New York, March 1951; Беларус. Нью-Ёрк. 1952. № 23; 1953. № 42; 1954. № 50; 1956. № 57; 1963. № 80; 1965. № 99; Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1951. № 4–6; 1952. № 11, 12; Беларускае Слова. Міхельсдорф. 1949. № 4–7; Беларускае Слова. Саўт-Рывэр. 1957. № 33, 36.

[24] У адрозненне ад першае масавае эміграцыі з Усходняе Еўропы, дзе значна пераважалі мужчыны. Гл.: Archdeacon, T. Becoming American: An Ethnic History... P. 136.



Паміж імі не было вялікае маёмаснае розніцы, яны стаялі прыблізна на аднолькавым — вельмі сціплым — матэрыяльным узроўні, калі меркаваць паводле заходніх стандартаў. Аднак асобна трэба вылучыць адну характэрную рысу, уласцівую гэтай хвалі іміграцыі. Усе яны без выключэння былі перакананыя антыкамуністы. Камунізм зрабіў іх роўнымі ў жабрацтве і пазбавіў нацыянальнае духоўнае спадчыны, пагроза камуністычнага прыгнёту і рэпрэсій змусіла іх пакінуць сваю краіну[25].


Le titulaire de ce certificat   No 7934

Signature du titulaire

relève du mandat
de l'Organisation Internationale
pour les Réfugiés
(Institution spécialisée des Nations Unies)
Son dossier à la délégation générale de l'I.R.O. en Belgique
porte le no

Le Fonctionnaire Délégué

Bruxelles, le 25 JUIL 1951
31, avenue des Arts Tél. 1201 43

Пасведчанне Зоры Кіпель, выдадзенае Міжнароднай арганізацыяй па справах уцекачоў (*IRO*). 1951 г.

Дадатковыя характарыстыкі хвалі беларускай эміграцыі ў ЗША пасля Другой сусветнай вайны акрэсліла сп-чня Алеся Кіпель, выступаючы на Шостым з'ездзе беларусаў свету ў Менску ў 2013 годзе:

*...Асаблівасці беларускай пасляваеннай іміграцыі ў ЗША... пасля 1945 года і да канца 1950-х гадоў... Па квоце «DP» у ЗША прыехала каля 400 тысячаў чалавек, з іх ад 50 да 75 тысячаў беларусаў — сапраўдная хваля. У той хвалі шмат прыязджалі сем'ямі: два ці тры пакаленні*[26]*. Хваля характарызавалася вельмі шырокім дыяпазонам, як сацыяльным, так і прафесійным. Іміграноты былі фактычна ўцекачамі — пакідалі Радзіму і думалі, што ніколі не вернуцца ў Беларусь. Амаль усе былі палітычнымі імігрантамі і былі выключна (з маленечкімі выключэннямі) беларускамоўныя. Многія з тых імігрантаў гадаваліся пад рэлігійным уплывам. У ЗША яны пасяліліся пераважна ў вялікіх гарадах або блізка да такіх гарадоў — жылі даволі густа — разам. Грамада, грамадскае жыццё былі вартасцямі, якія стаялі высока...*[27].

## Новыя ініцыятывы паваеннае эры

Паваенныя беларускія іміграноты пачалі прыбываць у Амерыку ў апошнія месяцы вайны і першыя месяцы па сканчэнні ваенных дзеянняў. Гэтая іміграцыйная група была невялікая; тыя, хто прыехаў у гэты час, належалі да колькіх канкрэтных катэгорый: або асобы, народжаныя ў Злучаных Штатах, чые бацькі перад

---

[25] Бацькаўшчына. Osterhofen. 1947. № 3; Папка «Паваенная іміграцыя» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[26] Былі сярод імігрантаў новай хвалі і людзі старэйшага веку, пачынальнікі беларускага палітычнага руху — нашаніўцы, прыкладам Адварды (Эдвард) Будзька, Міхась Міцкевіч, Янка Станкевіч і інш.

[27] Беларус. Нью-Ёрк. 2013. № 602.

вайною вярнуліся на Беларусь, або тыя, хто меў блізкіх родзічаў і сваякоў у Амерыцы. Хоць агульная колькасць гэтых новых беларускіх імігрантаў была значна меншая за тыя масы, што прыбылі ў Злучаныя Штаты на пару гадоў пазней, яны адыгралі важную ролю ў наладжванні механізму, які дазволіў перабрацца за акіян іхным суродзічам, якія перабывалі ў Аўстрыі, Даніі, Францыі, Заходняй Нямеччыне пераважна ў лагерах Ды-Пі.



Іван Ермачэнка

«Першыя» беларускія паваенныя эмігранты, якія прыехалі ў ЗША, былі не іміграны, а беларусы, народжаныя ў Амерыцы, бацькі якіх павярталіся некалі на Бацькаўшчыну. Яны разглядаліся як амерыканцы і праўна першыя па вайне ехалі ў краіну свайго нараджэння — ЗША.

Адзін з тых, хто выбраўся раней, Янка Ніхаёнак, беларус, народжаны ў Амерыцы, прыехаўшы сюды зноў з Францыі, здолеў сабраць і арганізаваць шмат амерыканцаў беларускага паходжання, якія пачалі заладжваць фармальнасці дзеля таго, каб больш беларусаў маглі выехаць сюды з Еўропы. Іншыя былі Мікола Філіповіч, Іван Хіхлуша, як аб гэтым зазначалася ўжо раней у іншым раздзеле кнігі.



Барыс Кіт

Яшчэ адзін «ранні» беларускі актывіст, які здолеў перабрацца ў Злучаныя Штаты дзякуючы сваім даваенным кантактам з амерыканцамі ў Празе, д-р Іван Ермачэнка звярнуўся да ўкраінска-амерыканскае грамады і праз розныя славянамоўныя газеты выступаў з заклікамі да «старых» амерыканцаў беларускага паходжання аб дапамозе беларускім эмігрантам у Заходняй Еўропе. Наступныя беларусы, якія пачалі прыбываць у Злучаныя Штаты неўзабаве пасля вайны пры дапамозе розных міжнародных арганізацый, як, прыкладам, д-р Барыс Кіт, не толькі арганізавалі дзейнае кола людзей, якія маглі падрыхтаваць неабходныя паперы імігрантам, але і запачаткавалі першыя паваенныя арганізацыі ў беларускіх асяродках. Дзейнасць гэтых пачынальнікаў распачала ланцуговую рэакцыю. Тыя, што прыбылі крыху пазней, знаходзілі новых спонсараў і арганізацыі, якія палягчалі пераезд у Амерыку новым беларускім імігрантам. Працэс гэты набраў размах у канцы 1948 — пачатку 1949 года[28].

[28] Гутаркі аўтара з Янкам Ніхаёнкам і Іванам Ермачэнкам, 1960–1964; Янка Ніхаёнак [Некралог] // Беларус. Нью-Ёрк. 1986. № 329; Іван Ермачэнка // Гардзіенка, А. Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР)... С. 422–423.



## Масавы прыезд беларускіх Ды-Пі ў Амерыку

Іміграцыйная квота для перамешчаных асобаў была зацверджаная Кангрэсам Злучаных Штатаў у час прэзідэнцтва Гары Трумана[29]. Відавочна, пэўную ролю ў гэтым адыгралі амерыканскія этнічныя групы, як можна меркаваць з ліста беларускае арганізацыі ў Чыкага кангрэсмена Томаса Л. Оўэнса[30]. Каб запусціць у ход гэты механізм, была створаная Камісія па справах перамешчаных асобаў з рэгіянальнымі аддзеламі. Улады Злучаных Штатаў прадугледжвалі, што ў краіну прыедуць сотні тысячаў новых імігрантаў, пераважна ўсходнееўрапейскага паходжання: беларусы, літоўцы, украінцы ды іншыя[31].

Большасць беларусаў Ды-Пі пакідалі Еўропу праз нямецкія парты, як, прыкладам, Брэмерхафен і іншыя, шмат хто выехаў таксама з Англіі, Францыі ды Італіі.

Гэты працэс нечым нагадвае масавую славянскую эміграцыю пачатку XX стагоддзя. Тое самае жаданне трапіць у *«шчаслівую залатую краіну»*, нават знешне тыя эмігранты шмат у чым былі падобныя: апранутыя ва ўсё новае, з паважнымі старамоднымі драўлянымі скрынямі ў руках і з трывогаю ў вачах. Але былі і адрозненні. Найбольшым былі самі прычыны эміграцыі — гэтыя былі ўжо палітычнымі эмігрантамі, якія мусілі пакінуць сваю краіну, ратуючыся ад савецкае акупацыі. Другое, чым розніліся гэтыя дзве хвалі, — інтэлектуальны ўзровень: калі на пачатку стагоддзя гэта былі амаль зусім неадукаваныя сяляне, дык цяпер — адукаваныя і палітычна свядомыя людзі. У беларусаў гэтая розніца была яшчэ больш выразная: у 1940-я гады яны ўжо эміграваліі як асобная, дакладна вызначаная этнічная група з сваім нацыянальным назовам. У перасыльных лагерах пашыраўся беларускі перыядычны друк, паведамленні і абвесткі на інфармацыйных стэндах падаваліся таксама па-беларуску, а месцам адпраўкі ў дакументах шматлікіх беларусаў, якія выязджалі праз Брэмерхафэн і іншыя парты, значыліся беларускія лагеры Ды-Пі.

Прысутнасць беларусаў заўважалася таксама і ў дарозе праз Атлантычны акіян. На некаторых караблях медыцынскую дапамогу давалі беларускія дактары[32]. На гэтых караблях эмігранты друкавалі свае памятныя часопісы і бюлетэні. Часта гэтыя публікацыі выходзілі ў некалькіх мовах, улучна з беларускаю, як, прыкладам, на караблях маршруту Брэмерхафен — Нью-Ёрк у 1949–1950 гадах[33]. Самі па сабе гэтыя факты для некаторых нацыянальнасцяў не маюць вялікага значэння, але для беларусаў яны вельмі важныя, бо сведчаць пра рост нацыянальнае свядомасці ды імкненне выразна вылучыцца сярод іншых этнічных групаў. У гэтым палягаюць найважнейшыя адрозненні паміж беларускімі імігрантамі пачатку і сярэдзіны XX стагоддзя.

[29] Бацькаўшчына. Osterhofen. 1948. № 35; 1949. № 51, 54, 58; The U.S. Displaced Persons Act. June 25, 1948. IRO, U.S. Zone. Regensburg. Dept. Letter № 36. February 9, 1949.

[30] Ліст Ігната Лабача, 17 траўня 1947. Захоўваецца ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN)

[31] Displaced Persons Commission: DPC-275-6.26. 1950. Accredited agencies, listing as of June 27,1950; Беларускае Слова. Бакнанг. 1949. № 8/9.

[32] Гутаркі аўтара з доктарам Віктарам Войтанкам, які пераплыў Атлантычны акіян некалькі разоў у 1948–1950 гадах, Пасейк (штат Нью-Джэрсі), 1963–1964. Дапамагаў на караблях таксама доктар Аляксандр Багдановіч.

[33] Souvenir Journal: Gen. Taylor, USN. Bremerhaven — New York, April 7–19, 1950; Souvenir Edition: Gen. A.W.Greenly, USAT. Bremerhaven — New York, 1950. February 18 — March 3; U.S.N.A. Gen. A.W.Greenly, Bulletin. 1950. March 15— 27.

Працэдура сцягнення новых імігрантаў з катэгорыі перамешчаных асобаў была адносна простая[34]. Бок, зацікаўлены ў запрашэнні іміграната, распачынаў працэс і выдаваў афідэвіт (заруку) асобе або сям'і ў адпаведнасці з дзейнымі законамі і стандартамі. Гэты дакумент падаваўся ў Камісію па справах перамешчаных асобаў у Вашынгтон. На пэўнай стадыі патрабаваўся дадатковы подпіс ад рэлігійнае арганізацыі, бо перавозка імігрантаў у большасці выпадкаў была арганізаваная рэлігійнымі ўстановамі, такімі як *Caritas Catholica*, Сусветная рада цэркваў і г. д. Але былі і нерэлігійныя ведамствы, як, прыкладам, Талстоўскі фонд.


Identification Card
CHURCH WORLD SERVICE, INC.
DISPLACED PERSONS DIVISION
DATE ASSURANCE GIVEN
TYPE OF ASSURANCE Nom
AGENCY SPONSORSHIP CWS
AREA 7
WORKER
E. Trigg-Visser
Area Director
CWS-WCC, Munich
2-11-50
Code No. AG-FR-00362-MU-00528
European Code No. 178109
Name(s) SAVIONIAK, Apolonia, Leon
Sponsor Vladimir Buzak
Address 61-20 55 Drive, Maspeth, L.I., NY
This card must be carried by displaced person until arrival at Bremen where it will be checked by the CWS Worker and returned for presentation to the final destination in the USA

Дакумент для выезду ў ЗША ад World Church Service. 1950 г.

На гэтым этапе беларусы сутыкнуліся з праблемамі, бо Руская праваслаўная грэцкая кафалічная мітраполія (колішні назоў Амерыканскае праваслаўнае царквы), займаючы прарасійскія пазіцыі, не імкнулася падтрымоўваць беларусаў[35]. З гэтае прычыны беларусы часта знаходзілі падтрымку з боку розных пратэстанцкіх цэркваў і рымска-каталіцкае царквы, а таксама Украінскае каталіцкае і Украінскае праваслаўнае цэркваў ды ад Талстоўскага фонду. Шукалі спонсараў звычайна беларусы, якія прыехалі ў краіну раней, як, прыкладам, д-р Янка Станкевіч, а. Мікалай Краўчанка, а. Мікалай Лапіцкі, а. Леанід Стаднікаў, Міхась Белямук, а. Ян Тарасевіч, праф. Мікалай Сцяпанаў. Большасць спонсараў жылі ў індустрыяльных штатах і гарадах Усходу і Сярэдняга Захаду Злучаных Штатаў. Аднак некаторыя спонсары, знойдзеныя праз рэлігійныя, пераважна пратэстанцкія арганізацыі, жылі ў сельскіх раёнах у такіх штатах, як Арызона, Канзас або Аклахома. Такім чынам, пачатковае рассяленне гэтых новых імігрантаў, як і ў выпадку з іхнімі папярэднікамі з пачатку стагоддзя, дыктавалася наяўнасцю працоўных месцаў.

Досвед некаторых імігрантаў Ды-Пі выказаны ў колькіх лістах (у цытатах да канца раздзела захаваны правапіс арыгіналаў):

*Мы прыехалі параходам на квоту «Church World Service». Мы яшчэ былі ў Германіі, а яны мелі нам фармера. У N.Y. нас сустрэлі, праверылі, далі нам па 5 даляраў на асобу, завезлі на цягнік, і мы паехалі у Кензас. У Чыкаго мелі перасядку, дзе нас сустрэла жанчына, завяла нас у кафэтэрыю, дзе ўжо мы елі за свае грошы. Чакалі доўга. А 5-ай гадзіне раніцы прыехалі за 70 міль ад нашага фармера. Нас сустрэлі: наш фармер і тога прыхода*

[34] Беларус. Нью-Ёрк. 1953. № 41.

[35] Kipel, V. Byelorussian Americans and their communities of Cleveland... P. 37–38.



*міністэр з сем'ямі. А 7-ай гадзіне мы былі ў нашай хатцы, дзе было 4 пакоі, выходка і ванны не было, але быў газ і элект. Іван даіў кароў і працаваў на полі і ўсюды, дзе было патрэбна. Я глядзела курэй, якіх было каля 200. Дзеці хадзілі ў школу.*

*Чэраз год у мяне радзілася бебі Алісія, Анна, якой у нас ужо няма. Як мы прыехалі, нам спадабалася. Мы сталі прасіць нашага фармера, каб ён знайшоў да нашых фармера. Ён знайшоў у другім прыходзе. Таму яны да нас прыехалі. Яны адрабілі год і сталі раз'язжацца. Мы пражылі там 1 ½ гады.*

*Нам было вельмі сумна, нікога не было там з нашых. Як мы прыехалі ў Балцімор, нам было вельмі цяжка пражыць на адной пэйдзе. Я пайшла ў швейную фабрыку, дзе я прарабіла 30 гадоў...*[36].

* * *

*У ЗША прыехаў я 27 сакавіка 1950 г. у New York, караблём імя ген. Грэй. Афідавіт выдала арганізацыя World Church Service (арганізацыя ўсіх пратэстанскіх цэркваў). Перш аўтабусам завязьлі некалькі нас у сваю цэнтралю (была гэта школа мэтадыстаў) у ваколіцах Балтымора каля Вашынгтону. Там некаторых хутка забралі сабе спонсёры, а такіх адзінокіх без сям'і не бралі (бо была гаворка, што такія хутка ўцякаюць ад фармароў, таму іх не бралі на гаспадарку). Да такіх і я належаў. Ня ведаю як там далей было-б са мною, я мусяў чакаць. Меў якраз пры сабе адрас сп. Віцьбіча — узяў ды напісаў да яго ліст. У хуткім часе атрымаў вестку ад яго, каб прыеджджаў у Соўт Рывэр, бо ўжо некалькі дзесяткаў Беларусаў прыехалі туды ды ўжо знайшлі сабе работу ў фабрыках, дык і я магу так абсталявацца. З такім пісьмом зараз-жа я пайшоў у канцылярыю і пры помачы перакладчыцы атрымаў згоду выехаць адтуль. На другі дзень самаходам адвязьлі мяне на чыгуначную станцыю ў г. Балтымор, купілі білет на цягнік, далі пасьветчаньне і рахунак за іх клопаты аба мне, і я прыехаў у New Brunswick, N. J. На вуліцы пачаў дапытвацца, як заехаць у С. Рывэр. Неякі чалавек з беларускай вымовай слоў падвёў мяне [да] «Bus стоп», нават даў 10 сэнтаў ды сказаў драйвару, каб высадзіў мяне пры вуліцы Вайт-гэт, а там ужо я сам знайду нумар дому. Гэтак і атрымалася. Меў я пры сабе толькі 5 даляраў, якія купіў яшчэ ў Нямеччыне за н[ямецкія] маркі для цікавасці пабачыць як яны выглядаюць. Вось яны памаглі наняць адзін пакой на начлег на цэлы месяц у гатэлі неякага «Baru», а за гэты час я знайшоў сабе работу ў New Brunswick у фабрыцы, у якой прапрацаваў аж 5 гадоў [зарабляючы] у тыдзень па 50 даляры. У гэтым часе ўжо добра асвойтаўся з палажэньнем свайго эміграцкага лёсу, навет прайшоў вячорныя курсы ангельскае мовы, а ў 1958 г. здаў экзамін на амэрыканскае грамадзянства, ды паехаў у Канаду, места Торонта, дзе меў сваіх знаёмых з лягеру ДП. У Канадзе прабыў 5 гадоў і пераехаў у Чыкага — зноў да сваіх знаёмых з Нямеччыны. З Чыкага ў Кліўлэнд, а цяпер зноў жыву ў N. Jerskim Ст. Бясспрэчна ў каждым месцы свае эміграцыі меў зарабковую працу і з зробленых грошаў меў сабе на патрэбы свайго пражыцьця*[37].

* * *

*Прыехаў да ЗША у верасьні 1950 г. да Syracuse, Ind. Падарожжа каштавала $ 83 дол. з Нью-Ёрка да Сыракузы. 5 тыдняў працаваў у «Pyle Orchard», атрымаў $ 25.00, за што пасварыўся з гаспадаром і кінуў яго. Знайшоў работу на жалезнай дарозе $ 1,26½ на гадзіну, быў вельмі давольны і прарабіў 2 гады.*

[36] Перапіска аўтара з Вольгай Канарчук, 1987.

[37] Перапіска аўтара з Аляксандрам Асіпчыкам, 1988. Стаўшы на ногі ў ЗША, Аляксандр Асіпчык шмат дапамагаў беларускім арганізацыям розных палітычных кірункаў, браў удзел у царкоўным жыцці і быў вельмі ахвярным, шчодрым. Пахаваны ён на могілках былой «Фармы РООВА» ў Джэксане (штат Нью-Джэрсі). Гл.: Беларус. Нью-Ёрк. 1990. № 369.



Сям'я святара Емяльяна Кайко. Злева ад святара — дачка Ніна (у шлюбе Сільвановіч), справа – матушка Вера. Стаяць дачка Ліза (у шлюбе Літаровіч) і сын Сяргей. Пенсільванія, 1951 г.

*За гэты час выпісаў 8 сямей з Германіі, якія прыехалі да З.Ш.А. 29 верасьня 1952 год. пераехаў да Чыкаго. Далучыўся да бел. Калоніі. [...] У чэрвені 1982 г. пераехаў назад да Syracuse, Ind. — пенсіянер*[38].

Як было зазначана раней, здабыць афідэвіт для патэнцыйнага іміграната было параўнальна няцяжка. І як працоўнае месца, пазначанае ў афідэвіце, заставалася вольнае, калі імігрант прыбываў у Злучаныя Штаты, усё было добра. Аднак даволі часта месца было ўжо занятае, а нярэдка бывала, што пазначанае ў афідэвіце працоўнае месца было фікцыйнае. У гэткім выпадку новапрыбылы імігрант апынаўся ў складаным становішчы: ён мусіў сам даваць сабе рады. Вось прыклад:

*У той час, як мы прыехалі ў Амерыку (у 1951 годзе), людзі, з якімі я зустракаўся, прыязджалі з дапамогай дзеякіх рэлігійных арганізацый. Але я чуў, што былі выпадкі, калі вось такія арганізацыі выпаўнялі паперы тых «спанзораў», якія ўжо жылі ў Амерыцы і давалі гаранціі, што ёсьць праца і жыльлё.*

*Вось так і мне з бацькамі ўдалося прыехаць. Мы былі знаёмыя з адной украінскай сям'ёй у Аўстрыі (дзе мы жылі ад лета 1944 г.). Гэта сям'я прыехала ў Амерыку на паўтара года раней і зрабілі ўсе патрэбныя паперы, што маецца гарантавана праца і мейсца дзе жыць (на спраўдзе гэта было толькі на паперы) і гэта была нам дужа прыемная дапамога, хаця за гэта і патрэбны быў ад нас падарунак.*

[38] Перапіска аўтара з Васілём Пунтусам, 1988.



*Першыя месяцы было нялёгка, пакуль пачалі зарабляць. Першых пару месяцаў спаў на падлозе, пакуль сабраліся з першымі неабходнымі рэчамі, а ў Амерыцы «бліны на варотах не вісяць», хоць можа і спадзяваліся, што так. Потым, як падкрэплі, пачалі мяняць кватэры (аж 3) на больш выгадныя, пакуль не купілі сваю хату. І так вось сядзем і дажываем*[39].

Значна раней, у перыяд перад Першай сусветнай вайной, пісалі падобныя лісты і эмігранты, якія ехалі ў ЗША з Беласточчыны:

*Цалую вас у белыя вашы рукі, кланяюся табе родны брат Гаўрыіл, дарагія сёстры Анна, Таццяна і Анастасія. Кланяюся хроснай маме і дзядзьку. Паклон стрыечным братам і сёстрам, таварышам ...*

*Мы ехалі цераз ваду 16 сутак. Слава Богу прыехалі здаровымі. Больш за палову людзей не маглі вытрымаць. Што здарылася з нашым суднам — загарэлася электрычнасьць у 12 гадзін ночы. Мы вельмі перапалохаліся, усхапіліся з коек, ня ведалі, што рабіць. Думалі, што будзе канец нашаму жыцьцю, але ў той момант прыбягае матрос і гаворыць: Ня бойцеся, ужо патушылі. А потым праз два дні атрымалі тэлеграму.*

*Сядалі на лодкі таму, што немагчыма было сядзець на ім. Калі людзі павысядалі на лодкі, суднаў яшчэ ня было на дапамогу. У той час была вельмі вялікая хваля. Адзін матрос, высеўшы на лодку з людзьмі, узрадаваўся, што ўжо застанецца ў жывых, і адрэзаў вяроўку, якая была прывязана да судна з лодкі. І хваля аднесла некалькі сажнаў ад судна і з абодвух бакоў у яе ўдарыла хваля і лодка патанула. Да яго прыбыло 10 суднаў на дапамогу. Згарэла тое судна на тым месцы, дзе патанула судна, аб якім чулі, што разьбілася*[40].

*Гавораць, што ў Амэрыцы цяпер галадаюць, няма работы. Сьвяшчэньнік гаворыць, што газэта піша, каб у Амэрыку ня ехалі, няма месца. Козьліцкі Васіль Вавульскі й Кузьма Крывянішын паехалі тыдзень пасьля вас. Васіль просіць бацьку грошай у Амэрыку, няма работы, ня выжыве, зарабляе на хлеб. Якаў на камісіі дастаў адтэрміноўку*[41].

Такіх лістоў можна было б працытаваць сотні. Агульным для ўсіх гэтых імігрантаў было тое, што яны здабылі багаты досвед, і хоць іхнае жыццё нельга назваць лёгкім, яны дасягнулі поспеху. Ім падабалася жыць на сваёй другой радзіме, і яны ўдзячныя Амерыцы за адкрытыя ім магчымасці.

Праўда, былі выпадкі, на шчасце, нешматлікія, што праца знаходзілася не адразу. Былі валакіты, непрыемныя моманты і з грамадзянствам, асабліва ў былых грамадзянаў СССР, была небяспека рэпатрыяцыі ў Нямеччыну — так званая бярозаўская хвароба, але ўсё перамалолася — амаль галівудскае заканчэнне, хэпіэнд для хвалі эмігрантаў па Другой сусветнай вайне[42].

Цяпер, у першай чвэрці XXI стагоддзя, з тае хвалі беларускай эміграцыі удзельнікаў бадай ці шмат засталося ў жывых: прыродныя працэсы няўхільныя, людзі паміраюць. Але іх дзеці — жывыя, дзейныя, амерыканцы ў першым пакаленні — удзячныя Амерыцы, удзячныя сваім памерлым бацькам, дзядам, што лёс іх прывёў у гэтую краіну. Аб гэтым яны, тыя першыя беларусы-амерыканцы, апавядаюць з захапленнем, падзякаю за свой лёс суседзям і супрацоўнікам. Знайшліся і такія, хто выказаў падзяку ў прыгожай пісьмовай форме. Вось падзяка Амерыцы «дрэва Рагалевічаў»:

[39] Перапіска аўтара з В. Балтрушэвічам, 1988.

[40] Бежанства 1915 года. Беласток, 2000. С. 387–389.

[41] Бежанства 1915 года. С. 389.

[42] Кіпель, В. Жыцьць і дзеіць. С. 233–240.



Сям'я Рагалевічаў у ЗША. 1950 г.

*Ягоныя карані заглыблены ў самабытнай палескай зямлі — там, дзе шырокая Прыпяць павяртае на поўдзень у Дняпро і нясе далей свае хвалі ў Чорнае мора. Там пад малітоўным паглядам св. Кірылы Тураўскага ляжыць тысячагадовы Тураў. Гэта — святая зямля, дзе спачываюць продкі, дзе з пакалення ў пакаленне перадаваліся славянскія гены, закладаліся маральныя асновы чалавечага быту з хрысціянскімі прынцыпамі, сямейнай салідарнасцю, добрасуседскімі адносінамі і чалавечай дабрынёй.*

*Ствол Дрэва і ніжнія галіны перажылі камуністычную тыранію: гвалт над людской натурай; грабеж уласнасці, набытай цяжкой працай; прымус, што супярэчыў традыцыйнаму ўкладу жыцця і хрысціянскім запаветам любові і спагады да бліжняга. Другая сусветная вайна, пагроза знішчэння агнём паленых вёсак, голад і рабская праца ў гітлераўскай няволі пакінулі шрамы на кары ствала і ніжніх галін. І толькі воляю Усявышняга Дрэва перажыло ваеннае ліхалецце і дабралася да новай Абяцанай Зямлі. Ягоныя галіны прараслі ў штатах Пенсільванія, Нью-Джэрсі, Ілінойс, Нью-Ёрк, Паўночная Караліна, Каларада, Каліфорнія, Мічыган, Флорыда, Індыяна, а таксама ў арабскім Катары.*

*На ўрадлівай амерыканскай глебе пад небам свабоды і чалавечай спагадлівасці распасцерліся верхнія маладыя галіны, пераняўшы ў спадчыну духовыя каштоўнасці продкаў, правілы дабрыні і спагады, спалучаючы іх з павевамі новага быту і шырэйшымі магчымасцямі.*

*Крона Дрэва высіцца цяпер у блакітным небе, калышацца свежымі галінкамі, а сочнае лісце зялянее пад павевамі вятроў свабоды і шэпча спадзеўную байку пра заманлівую будучыню*[43].

[43] Я. З. Дрэва Рагалевічаў зь беларускага Палесься на Амэрыканскай зямлі. На 65-я ўгодкі прыбыцьця ў Амэрыку ў верасьні 1950 г.



Большасць новых беларускіх імігрантаў прыбыла ў Злучаныя Штаты праз Нью-Ёркскі порт, некаторыя — праз Бостан, Балтымар і Філадэльфію. Аднак цэнтрам новага беларускага жыцця і палітычнае дзейнасці стаўся Нью-Ёрк.

## Арганізацыйны перыяд

«Землякі-старажылы», г. зн. беларускія імігранты, якія прыехалі ў Злучаныя Штаты да Першае сусветнае вайны, зацікавіліся арганізацыйным жыццём толькі праз шмат гадоў пасля свайго прыезду. У адрозненне ад іх новапрыбылыя паваенныя імігранты адчулі патрэбу ў заснаванні беларускіх арганізацый, як толькі ступілі на амерыканскую зямлю. Перш за ўсё новыя імігранты адчувалі, што беларуская арганізацыя будзе прадстаўляць іх і іхныя ідэалы; па-другое, калі будзе трэба, яна дасць ім маральную падтрымку; і па-трэцяе, такая арганізацыя дапамагла б прыехаць з Еўропы большай колькасці беларусаў.

Непазбежна паўстала пытанне аб супрацоўніцтве з тымі «старажыламі» ды іхнымі арганізацыямі. Часам выказвалася прапанова аб масавым уступе ў арганізацыі старых імігрантаў з мэтаю пераняцця ў іх кіраўніцтва дэмакратычным выбарным шляхам, каб гэткім чынам змяніць іх арыентацыю. Але гэткія погляды былі адкінутыя як нерэальныя. Галоўнаю перашкодаю была адсутнасць нацыянальнае свядомасці ў значнае часткі старых імігрантаў, а таксама іхная задаволенасць актуальным станам рэчаў. Яны ўжо належалі да розных арганізацый (якія часта мелі «рускую» бірку) і, у дадатак да іхнае звычайнае левае арыентацыі, не падтрымоўвалі ніякіх праяваў нацыянальнае апрычонасці, а тым больш беларускасці. Шмат хто з іх не хаваў сваіх прасавецкіх поглядаў; іншыя ж схіляліся ўправа, да праімперскіх расійскіх нацыяналістычных тэндэнцый.

Пазіцыі пракамуністычных групаў выяўлялі розныя газеты і часопісы:

> *Нет, не «Беларусу у Амерыцы», предателям Белоруссии решать, как должен жить многомиллионный белорусский народ [...] Были уже здесь проповедники отделения Белоруссии, да так и остались в единственном числе*[44].

Палітычная арыентацыя беларусаў-«рускіх» адбівалася і ў рэлігійнай сферы. Левыя «рускія» арганізацыі хоць і не былі звязаныя ні з якою царкоўнаю юрысдыкцыяю, часта падтрымоўвалі парафіі Рускага праваслаўнага экзархату Маскоўскага патрыярхату, тым часам як правыя рускія




«Кніжачка беларускага эмігранта». 1951 г.

[44] Лесной, И. Новоявленные «учителя» американских белорусов // Русский Голос. Нью-Йорк. 28 окт. 1948 (Мова арыгінала захаваная). У цытаце маецца на ўвазе заснаваны прадстаўнікамі паваеннай іміграцыі часопіс «Беларус у Амэрыцы», а таксама ранейшыя «проповедники» беларушчыны — дзеячы Рады БНР 1920-х гадоў.

групы схіляліся да падтрымкі Рускага зарубежнага сінода, які сімпатызаваў імперскай Расіі і царскаму рэжыму.

Палітычныя погляды новапрыбылых беларускіх імігрантаў былі абсалютна несумяшчальныя з поглядамі «старажылаў»: яны хацелі заснаваць беларускія арганізацыі, ідэалам якіх была б незалежная беларуская дзяржава, яны таксама хацелі мець незалежную Беларускую праваслаўную царкву. Карацей кажучы, гэтыя групы амаль не мелі агульнае ідэалагічнае глебы. Таму новыя іміграны пастанавілі заснаваць свае асобныя свецкія арганізацыі і рэлігійныя грамады[45].

Існаваў да таго ж і псіхалагічны бар'ер, уласцівы шмат якім іміграцкім групам, а менавіта: старыя іміграны лічылі сваіх новых суродзічаў «зялёнымі» амерыканцамі, якіх трэба вучыць жыццю ў новых умовах ды знаёміць з амерыканскімі палітычнымі рэаліямі. Старой групе цяжка было пагадзіцца з фактам, што інтэлектуальны ўзровень і ступень нацыянальнае свядомасці новае групы значна розніліся ад іхных у той час, калі яны прыехалі ў Амерыку.

Хоць беларускія актывісты і спрабавалі развіць больш шырокае супрацоўніцтва паміж рознымі пакаленнямі імігрантаў, былі нават выдрукаваныя адмысловыя апытальнікі для збірання статыстычных матэрыялаў пра старую іміграцыю, але вялікага поспеху гэтыя спробы не мелі[46]. Аднак нельга сказаць, што «старыя» суродзічы не дапамагалі новапрыбылым. Часта яны дапамагалі ім у пошуках працы, здавалі кватэры за памяркоўную плату або давалі парады ў розных складаных сітуацыях. Карацей кажучы, супрацоўніцтва з ранейшымі беларускімі імігрантамі адбывалася амаль выключна на ўзроўні побытавых прыватных кантактаў.

Адзін выпадак супрацоўніцтва старых і новых варта занатаваць. Пра гэта расказала сп-ня Ліза Літаровіч, некалі новая эмігрантка, якая пражыла ўжо ў ЗША больш за 65 гадоў.



Лявон і Ліза Літаровічы

*Мястэчка Саўт-Рывер у штаце Нью-Джэрсі, сярэдзіна 1950-х гадоў. «Старыя-новыя» жывуць на аднэй вуліцы, знаёмяцца. «Новыя» расказваюць пра Радзіму «старым», якія выехалі адтуль гадоў 40–50 перад тым. Аднаго дня заходзіць да нас у хату сын старога эмігранта сп. Сыракваш і просіць мяне: «Ліза, пазыч ты мне свой нацыянальны касцюм. У школе, дзе вучацца мае дочкі, будзе Дзень нацыянальнасці, і я хачу, каб мае дочкі выступілі як беларускі з Віленшчыны, бо да гэтага часу нас называлі рускія». Я расчулілася і пашыла ягоным дзвюм дочкам беларускія нацыянальныя касцюмы. Пазней сп. Сыракваш быў камендантам паліцыі ў Саўт-Рыверы і актыўна ўдзельнічаў у жыцці беларускай грамады*[47].

Варта адзначыць і яшчэ адзін аспект дачыненняў паміж старымі і новымі імігрантамі. Існавала шчырае і плённае супрацоўніцтва ў справе рэгістрацыі новых беларускіх арганізацый. Рэч у тым, што як найменей адзін з тых, хто падпісваў хадайніцтва аб рэгістрацыі, мусіў быць амерыканскім грамадзянінам.

Так, прыкладам, Павел Бунчук, стары беларускі імігрант, дапамог пры рэгістрацыі Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Олбані, штат Нью-Ёрк; Бунчук нават стаўся адным з функцыянераў гэтае арганізацыі. Антон Сацэвіч, агент у продажы нерухомасці, супрацоўнічаў з новапрыбылымі суродзічамі ў закладанні іхных арганізацый у штатах Нью-Джэрсі і Нью-Ёрк, а таксама дапамагаў новым беларускім імігрантам знайсці працу і набыць дом і ўласнасць[48].

У канцы 1940 — пачатку 1950-х гадоў тэма супрацоўніцтва з старымі імігрантамі неаднаразова абмяркоўвалася на розных сустрэчах і нарадах новых беларускіх імігрантаў, гэтая тэма шырока асвятлялася ў беларускім друку[49]. Тым часам вельмі мала старых імігрантаў далучылася да наваствораных беларускіх арганізацый і цэркваў.

У нейкай меры назіраецца аналагічная сітуацыя ў дачыненні з эмігрантамі пасля 1991 года. Аднак у гэтым выпадку блізкасць паміж хвалямі большая, чым у выпадку паваенным. Пра гэта яшчэ будзе гаворка пазней.

## Беларуска-амерыканская нацыянальная рада ў Чыкага і новыя іміграны

Хоць ідэя супрацоўніцтва з старою іміграцыяю была амаль цалкам адкінутая паваеннымі беларускімі імігрантамі, выключэннем сталася Беларуска-амерыканская нацыянальная рада. Гэта была адзіная ў Злучаных Штатах беларуская нацыянальная арганізацыя, заснаваная прадстаўнікамі ранейшае хвалі беларускае іміграцыі, з якою новыя іміграны знайшлі агульную мову. Яны стаялі на адным ідэалагічным грунце. Гэтая ідэалогія, у дадатак да амерыканскіх дэмакратычных ідэалаў, прадугледжвала аднаўленне незалежнае дэмакратычнае беларускае дзяржавы. БАНР шмат прычынілася да выдання афідэвітаў новым імігрантам, і дзякуючы гэтаму шмат хто з іх паспяхова перабраўся ў Чыкага ў часе паміж 1948 годам і пачаткам 1950-х гадоў. У кіраўніцтва Рады ў гэтым часе ўваходзілі а. Ян Тарасевіч, а. Язэп Рэшаць, Янка Чарапук-Змагар, Ігнат Лабач, Макар Аблажэй, Павел Чопка і Язэп Варонка. З пачаткам прыезду ў Чыкага новых імігрантаў колькасць сяброў Рады павялічылася. Мікола Дзямідаў, новы імігрант і шырока вядомы беларускі актывіст, быў абраны ў Кіраўнічы камітэт у 1950 годзе, і паступова большасць месцаў у Камітэце занялі новыя іміграны. Фактычна на той час у ім засталіся толькі два «старажылы» — прэзідэнт Рады Ігнат Лабач і сябра камітэта Янка Чарапук-Змагар. Іншыя былі паваеннымі імігрантамі: віцэ-прэзідэнт М. Шасткоўскі, сакратар Вацлаў Пануцэвіч, скарбнік М. Волах, сябры Мікола Дзямідаў і Янка Ліманоўскі. Рада распачала разнастайную палітычную

[45] Bilorus. Ne «Vychodcy», a «Vyrodki» // Brotherhood. Cleveland. 1952. № 7. P. 9–10; Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Архівы БККА пад Царквой Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі).

[46] Веда. Нью-Ёрк. 1952. № 4. С. 126.

[47] Гутарка аўтара з Лізай Літаровіч, Саўт-Рывер, чэрвень 2016.

[48] Гутаркі аўтара з Міколам Гарошкам і Лявонам Савёнкам у Нью-Ёрку ды Ігарам Шчорсам у Саўт-Рыверы, якія прыцягнулі да супрацоўніцтва Паўла Бунчука, Антона Сацэвіча і Джыну Скуба, 1961–1962.

[49] Беларус. Нью-Ёрк. 1950–1956; Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1952–1957.



Абвестка пра адзначэнне ўгодкаў незалежнасці БНР, ладжанае Беларуска-амерыканскай нацыянальнай радай у Чыкага. 1960 г.

дзейнасць, прапагандавала нацыянальныя і антыкамуністычныя ідэі, а таксама пачала выдаваць бюлетэнь. Усё гэта выклікала злосныя нападкі на Раду з боку Саветаў[50].

Новыя кіраўнікі Рады і беларускае грамады ў Чыкага былі больш палітычна спрактыкаваныя і дынамічныя за сваіх папярэднікаў, якія заснавалі арганізацыю. А. Ян Тарасевіч і а. Язэп Рэшаць ды некаторыя іншыя адышлі ад актыўнага кіраўніцтва Радаю, каб цалкам прысвяціць сябе сваёй галоўнай справе — рэлігійнай дзейнасці. Заўчасная смерць у 1952 годзе Язэпа Варонкі спрычынілася да значных зменаў у праграме і прыярытэтах Рады і зазначыла абнаўленне кіраўніцтва. Палітычны раскол, «завезены» новапрыбылымі, не абмінуў і гэтую найстарэйшую ў Амерыцы беларускую нацыянальную арганізацыю[51]. Спачатку Рада была пад значным уплывам бэнэраўскага лагера, аднак пазней сярод «старажылаў» узнікла пачуццё крыўды, калі Язэп Варонка стаўся аб’ектам палітычнае ізаляцыі з боку бэнэраўскіх лідараў[52].

У сярэдзіне 1950-х гадоў сябры розных беларускіх арганізацый і палітычных групаў пачалі дзеіць па-за Радаю, і гэта зноў змяніла яе арыентацыю. У выніку БАНР, хоць і паважаная ў якасці першае сталае беларускае нацыянальнае арганізацыі ў Амерыцы, у значнай меры перастала мець уплыў на новую хвалю іміграцыі. У хуткім часе яна сталася адной з шматлікіх беларускіх арганізацый у Чыкага і пазней засталася звязаная пераважна з дзейнасцю беларускае праваслаўнае царквы Св. Юр’я[53]. У кіраўніцтва Рады ўваходзілі старшыня Міхась Каленік, віцэ-старшыня Мікола Латушкін, скарбнік Пятро Нягода і сакратар Анатоль Новік. У XXI стагоддзі БАНР існуе пераважна на паперы.

---

50 Звязда. Мінск. 1952. 7 лют.; Беларус. Нью-Ёрк. 1952. № 7.

51 Бацькаўшчына. Osterhofen. 1948. № 11; Беларус. Нью-Ёрк. 1953. № 40; Гутаркі аўтара з Чаславам Будзькам, Чыкага, 1976.

52 Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1952. № 89; Мемарандум Рады БНР, датаваны 19 жніўня 1950 г., дзе выказаныя погляды, чаму Язэп Варонка не можа быць прыняты ў Раду БНР, у Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Рада БНР (1947–1970)... С. 545–546.

53 Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1950. № 2; Жыве Беларусь. Манчэстэр (Вялікабрытанія). 1960. № 12; Перапіска аўтара з Чаславам Будзькам, 1980; Беларус. Нью-Ёрк. 1991. № 381.



## Арганізацыі старыя і новыя

Новапрыбылыя беларускія імігранты пачалі засноўваць свае арганізацыі ўжо ў канцы 1940-х гадоў. Гэты працэс няспынны і працягваецца да сёння. Некаторыя арганізацыі ўзнікаюць, адыгрываюць сваю ролю і адыходзяць. Некаторыя жывуць доўга, мяняючыся з цягам часу. Новыя арганізацыі, установы і агенцтвы нараджаюцца са зменаю абставінаў, з прыездам новых людзей, з узнікненнем новых патрэбаў і з вызначэннем новых мэтаў.

Было б вельмі цяжка, можа нават і немагчыма, пералічыць і апісаць усе беларуска-амерыканскія арганізацыі, што існавалі за апошнія паўстагоддзя. Ніжэй падаецца агляд найбольш значных з іх, якія адыгралі істотную ролю ў жыцці беларусаў у Амерыцы, а таксама меншых арганізацый, якія даюць уяўленне пра багаты калейдаскоп ідэалагічных і сацыяльных поглядаў, выказаных у розны час ў розных месцах. Шмат якія з іх фігуруюць у розных амерыканскіх даведніках[54].



Абвестка пра мерапрыемства, ладжанае ЗБАДК у Нью-Ёрку. 1952 г.

***Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт (ЗБАДК).*** Адным з першых важных крокаў да арганізацыйнае дзейнасці сярод паваенных беларускіх імігрантаў у Амерыцы быў зварот д-ра Івана Ермачэнкі да беларусаў, якія прыбылі ў гэтую краіну да Першае сусветнае вайны і ў міжваенны перыяд. Звяртаючыся да гэтае групы ў 1948 годзе праз украінска- і рускамоўныя газеты, часопісы і радыёперадачы, д-р Ермачэнка заклікаў іх дапамагчы беларусам, якія знаходзіліся ў лагерах Ды-Пі ў Заходняй Еўропе[55].

Д-ру Ермачэнку не ўдалося знайсці шырокага водгуку «старажылаў» на гэты заклік. Аднак ягоны зварот і асабліва вызначэнне палітычных мэтаў паваеннае беларускае іміграцыі ясна зазначылі новую з’яву — аднаўленне беларускае палітычнае дзейнасці ў Злучаных Штатах. Тым часам ягоны падыход да гэтае справы выклікаў пахвалу і крытыку ў беларускім друку Заходняе Еўропы[56].

---

54 Directory of American Organizations of Exiles from the U.S.S.R. New York (NY), 1952; All Nationalities Directory. Cleveland (OH), 1955; Art is All Hours: A Bicentennial Arts Resource Directory for New Jersey. Trenton (NJ), 1975; Ethnic Directory of New Jersey. Union City (NJ), 1978; Guide to Ethnic Museums, Libraries and Archives in the United States. Kent (OH), 1978; Ethnic Information Sources of the United States. Vol. 1. Detroit (MI), 1985; Ethnic Periodicals in Contemporary America. Westport (CT), 1990; Dictionary of American Immigration History. Metuchen (NJ), 1990; Encyclopedia of Associations. Detroit (MI), 1991; American Publisher’s Directory. New York (NY), 1978; Guide to the American Ethnic Press. Slavic and East European Newspapers and Periodicals. Kent (OH), 1986.

55 Ameryka. Philadelphia. 1948. September 17, 24,; Россия. Нью-Йорк. 1948. 22 сент.

56 Дело Труда — Пробуждение. Нью-Йорк. 1949. Янв — февр.; Беларускае Слова. Міхельсдорф. 1949. № 2, 3; Бацькаўшчына. Osterhofen. 1949. № 13 (57).

У кожным выпадку неабходнасць беларускае арганізацыі была відавочная, дый час прыспешваў: беларускія ўцекачы ў Заходняй Еўропе чакалі дапамогі з-за акіяна. Група беларускіх актывістаў пастанавіла заснаваць уласную арганізацыю. Яна была зарэгістраваная ў Олбані, штат Нью-Ёрк, пад назовам «Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт» 8 лістапада 1948 года[57]. Першым старшынёю камітэта стаў д-р Іван Ермачэнка. Мэтаю арганізацыі было дапамагаць беларусам у працэсе іміграцыі і ўладкавання ў Злучаных Штатах. Камітэт шукаў спонсараў для імігрантаў і вёў актыўную кампанію ў справе гуртавання новапрыбылых суродзічаў. Паступова арганізацыя пачала сацыяльную, культурную і палітычную дзейнасць — ладзіла літаратурныя вечарыны, лекцыі англійскае мовы, дапамагала шукаць працу, а таксама заснавала перыядычны друк: часопісы «Беларус у Амэрыцы», «Беларускае Слова ў Амэрыцы» і газету «Беларуская Трыбуна». Гэта былі першыя паваенныя беларускамоўныя перыёдыкі ў Злучаных Штатах Амерыкі[58].

Камітэт заснаваў аддзелы ў Пасейку і Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі), Норт-Галівудзе (штат Каліфорнія), Нью-Ёрку[59].

Старшынямі камітэта былі д-р Іван Ермачэнка (1948–1949), д-р Барыс Кіт (1949–1950), д-р Мікола Шчорс (1950–1951), а. Мікалай Лапіцкі (1951–1976), а. Святаслаў Коўш (1976–1988), а. Мечыслаў Брынкевіч (ад 1988 года). Цяперашні старшыня — Жорж Арцюшэнка.

Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт працягвае сваю дзейнасць і сёння. Ён набыў друкарскае абсталяванне і ад 1960 года дапамагае ў друку гадавога перыядычнага выдання «Беларуская Думка». Камітэт вядзе шырокую сацыяльную, культурную і адукацыйную дзейнасць, а таксама ў неабходных выпадках выказвае беларускія палітычныя погляды і патрэбы[60].



Значок Беларуска-амерыканскага задзіночання

***Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА).*** Калі Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт пачаў закладаць сетку сваіх прадстаўнікоў у рэгіёне Нью-Ёрк — Нью-Джэрсі ды ў іншых штатах, заснаваліся таксама беларускія арганізацыі з шырэйшымі палітычнымі і сацыяльнымі мэтамі і з большым патэнцыялам удзелу. Адною з найбольш уплывовых новых арганізацый сталася Беларуска-амерыканскае задзіночанне.

Першыя крокі ў заснаванні Задзіночання былі зробленыя на сходзе беларускіх палітычных актывістаў у Брукліне ў чэрвені 1949 года[61]. Тады арганізацыйная група склікала шырэйшы сход актыву ў

[57] United Byelorussian-American Relief Committee, New York Chapter. Bulletin. № 1, 2. Aug., Nov. 1953.

[58] Беларус у Амэрыцы. Саўт-Рывэр. 1948. № 1–4; Беларускае Слова ў Амэрыцы. Нью-Брансвік. 1950. № 1, 2; Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1950. № 1 — 1953. № 17.

[59] Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1950. № 1, 3; 1951. № 6, 7; 1952. № 9–10; Беларус. Нью-Ёрк. 1976. № 229; Гутарка аўтара з Сымонам Жамойдам, Пасейк, 1972.

[60] Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт (Саўт-Рывер). Архівы; Гутаркі аўтара з а. Мікалаем Лапіцкім, 1975; Архіў Міхася Сенькі (Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі).

[61] Беларус. Нью-Ёрк. 1969. № 146.



Манхэтэне (Нью-Ёрк) 31 ліпеня 1949 года[62]. Беларускія актывісты — д-р Янка Станкевіч, Мікола Гарошка, Пётра Кажура, Янка Ніхаёнак, Мікола Дарашэвіч і іншыя — сабраліся, каб стварыць цэнтральную арганізацыю, якая заснавала б свае аддзелы ва ўсіх асяродках, дзе жылі беларусы. Так узнікла Беларуска-амерыканскае задзіночанне (раней часам называнае Беларускае аб'яднанне ў Амерыцы[63]).

БАЗА было зарэгістраванае 26 ліпеня 1950 года ў Олбані, сталіцы штата Нью-Ёрк. У карпарацыйным пасведчанні пералічаюцца гэткія мэты арганізацыі:

а) прапагандаваць і пашыраць ідэалы Канстытуцыі Злучаных Штатаў Амерыкі, спрыяць пашырэнню прынцыпаў справядлівасці, свабоды і дэмакратыі;

б) спрыяць зацікаўленню і заахвочваць даследаванне розных культураў, улучна з беларускаю культураю;

в) у выпадку патрэбы аказваць добраахвотную дапамогу сябрам Арганізацыі ды іхным сем'ям у іх дома;

г) набываць нерухомую і асабістую ўласнасць праз дар, спадчыну або іншым спосабам для карпарацыйных патрэбаў шляхам рэалізацыі карпарацыйных праваў;

д) выяўляць і абараняць талерантнасць; спрыяць прыязным дачыненням між людзьмі незалежна ад іх расы, рэлігіі або сацыяльнага становішча[64].

У «Энцыклапедыі асацыяцый» задачы арганізацыі акрэсленыя наступным чынам:

*Каардынаваць і пашыраць удзел амерыканскіх беларусаў у мірных ініцыятывах ЗША, умацоўваць і прапагандаваць амерыканскі лад жыцця; падтрымоўваць беларускі народ у барацьбе за свабоду і незалежнасць; дапамагаць беларусам на Бацькаўшчыне дамагацца справядлівага і роўнага стаўлення да сябе як да вольных удзельнікаў сусветнае сям'і народаў*[65].

Беларуска-амерыканскае задзіночанне было першай масавай арганізацыяй, якая ўжо ў першым годзе свайго існавання налічвала сотні сяброў; за некалькі гадоў колькасць чальцоў ужо лічылася тысячамі. (Колькасць удзельнікаў уплывае на фінансавы стан арганізацыі: чым іх болей, тым спарнейшая каса.) Ідэалагічныя пазіцыі Задзіночання базаваліся на адноўленай рэпрэзентацыі Беларускае Народнае Рэспублікі.



Пячатка БАЗА. Нью-Ёрк

Аддзелы БАЗА былі заснаваныя ў штатах Мічыган, Масачусэтс, Агаё, Ілінойс (пазней вылучыўся ў асобную арганізацыю), Нью-Джэрсі, Канектыкут, Нью-Ёрк, Каліфорнія, у Паўднёвай Флорыдзе і горадзе Вашынгтоне. З часам некаторыя з іх спынілі існаванне[66], але паўсталі і новыя аддзелы,

[62] БАЗА. Бюлетэнь Галоўнай Управы. Нью-Ёрк. 1958. № 17.

[63] Бацькаўшчына. Rosenheim. 1949. № 60; Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. Снежань 1999. № 12 (71)

[64] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).

[65] Encyclopedia of Associations. Vol. 1. Detroit (MI), 1968. P. 718.

[66] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Архіў Міколы Кунцэвіча, Нью-Ёрк; Архіў А. Протаса, Канектыкут; Беларус. Нью-Ёрк. 1950. №2; 1952. №20; 1955. № 52; 1956. № 55, 58; 1966. № 108–109; GOP nationalities News. Washington (DC). 1979. № 4. P. 6.

гурткі. Прыкладам, вядома, што ад пачатку 1950-х гадоў існаваў гурток БАЗА ў Джэрсі-Сіці, які пазней ператварыўся ў «дэлегатуру» (старшынёй быў Андрэй Попка, сакратаром Н. Драздоўскі)[67]. Больш падрабязна пра гісторыю аддзелаў і гурткоў БАЗА можна прачытаць у кнізе Змітра Саўкі «Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы: Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949–1999)»[68]. Пра сучасныя аддзелы і гурткі БАЗА яшчэ будзе размова ніжэй.

Пачынаючы ад 1949 года раз на два гады склікаюцца кангрэсы БАЗА. Яны ўяўляюць з сябе публічныя форумы, на якіх разглядаецца бягучая арганізацыйная дзейнасць і абмяркоўваюцца агульныя праблемы ўсяе амерыканскае беларускае грамады. На кангрэсах дэлегатамі абіраецца кіраўніцтва Задзіночання. Пасаду старшыні БАЗА займалі: Мікола Гарошка (1949–1952), ген. Францішак Кушаль (1952–1954), Міхась Тулейка (1954–1957), Мікола Кунцэвіч (1957–1959), Кастусь Мерляк (1959–1963), д-р Станіслаў Станкевіч (1963–1965), Мікола Гарошка (1965–1967), Уладзімір Курыла (1967–1969), Вячка Станкевіч (1969–1971), д-р Расціслаў Гарошка (1971–1975), Антон Шукелойць (1975–2007), Вячка Станкевіч (2007–2011), Ганна Сурмач (2011–2017), Наталля Федарэнка (ад 2017)[69]. Першы Кангрэс БАЗА адбыўся ў 1949 годзе, а 32-ы — у 2019 годзе.



Доўгагадовы старшыня БАЗА Антон Шукелойць

Трэба зазначыць, што і Беларуска-амерыканскае задзіночанне не абмінулі непаразуменні і расколы паміж ягонымі сябрамі, што спрычыніла немалую шкоду арганізацыі[70]. Прычыны былі не толькі ўнутранага парадку. Вельмі часта гэтая арганізацыя і паасобныя яе сябры былі аб'ектамі злосных нападак бээсэсэраўскага і маскоўскага друку, часам унікальных у сваёй беспадстаўнасці і амаральнасці[71].

Нягледзячы на цяжкасці, Беларуска-амерыканскае задзіночанне перажыло шматлікія выпрабаванні і надалей плённа дзеіць, падтрымоўваючы блізкія кантакты з амерыканскімі палітыкамі і прадстаўнікамі ўлады на ўсіх узроўнях — мясцовым, штатным і федэральным, а таксама правяшчаючы беларускія палітычныя ідэалы ў шырокім грамадстве.

Цяпер, калі БАЗА ўжо адзначыла сваё 70-годдзе, засталося толькі некалькі дзясяткаў старых сяброў арганізацыі, якія былі ў ёй ад самага пачатку. Кіраўніцтва БАЗА перанялі новапрыбылыя эмігранты і амерыканцы беларускага паходжання, а сяброўства БАЗА — амаль поўнасцю новыя эмігранты. І хоць цяпер колькасць сяброў не такая вялікая, як у 1950–1960-я гады, Задзіночанне і надалей прыцягвае імігрантаў і маладых амерыканцаў беларускага паходжання, якія падзяляюць прынцыпы і мэты, выкладзеныя заснавальнікамі больш за паўстагоддзя таму.

[67] Беларус. Нью-Ёрк. 1961. № 72.

[68] Саўка, З. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы: Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949–1999). Мінск, 2019.

[69] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Бюлетэнь Галоўнай Управы БАЗА. №17, 21, 25, 48, 53, 54. Пратаколы кангрэсаў.

[70] Беларус. Нью-Ёрк. 1964. № 88; 1965. № 94, 103; 1965. № 105; 1975. № 218; 1977. № 246; Царкоўны Сьветач Саўт-Рывэр. 1967. № 16.

[71] Качан, Н. Миф и реальность. Минск, 1970. С. 144–146; Беларус. Нью-Ёрк. 1957. № 60; 1964. № 88; 1967. № 121; 1970. № 155; 1974. № 211; 1975. № 213; 1978. № 250, 252; 2008. № 551; 2009. № 562; 2010. № 566.



Дзейная структура БАЗА ў 2020 годзе выглядае наступным чынам.

Галоўная ўправа БАЗА. Кіруючую і каардынуючую ролю ў Беларуска-амерыканскім задзіночанні выконвае Галоўная ўправа, якая абіраецца Кангрэсам БАЗА на двухгадовы тэрмін. У адпаведнасці са статутам асноўная сядзіба БАЗА знаходзіцца ў Нью-Ёрку, таму і Галоўная ўправа працуе менавіта ў гэтым горадзе.

Пасяджэнні Галоўнай управы адбываюцца ў Беларускім цэнтры на Атлантык авеню, 401 (гэта афіцыйны адрас управы). У сувязі з тым, што цягам апошніх гадоў у склад Галоўнай управы пачалі абірацца сябры не толькі з Нью-Ёрка, але і з іншых мясцінаў, дзе ёсць дзейныя беларускія асяродкі, а таксама дзякуючы тэхнічнаму прагрэсу пасяджэнні часам праводзяцца ў віртуальнай прасторы — праз кантакты ў скайпе і электронную пошту.

На пасяджэннях Галоўнай управы абмяркоўваюцца найперш пытанні пра стварэнне і рэгістрацыю новых структураў БАЗА — аддзелаў і гурткоў, пра арганізацыю і правядзенне кангрэсаў БАЗА, пра кантакты з іншымі беларускімі і небеларускімі арганізацыямі, падтрымку беларускай справы ў замежжы і на Бацькаўшчыне. Адказным пунктам дзейнасці Галоўнай управы з'яўляецца падрыхтоўка і ўдзел у традыцыйных Сустрэчах беларусаў Паўночнай Амерыкі. Галоўная ўправа БАЗА таксама арганізацыйна дапамагае ў выданні газеты «Беларус», адказвае за дзейнасць бібліятэкі БАЗА[72] ды кантакты з іншымі арганізацыямі і з Вашынгтонам[73].




Пасведчанне сябры БАЗА

Управа БАЗА фіксуе і структурныя змены ў арганізацыі. Як было адзначана вышэй, аддзелы і гурткі ліквідуюцца, паўстаюць новыя. Прыкладам, на працягу апошняга дзесяцігоддзя «стары» Нью-Ёркскі аддзел БАЗА ператварыўся ў Бруклінскі аддзел, а потым вярнуў сваю ранейшую назву. Пры гэтым частка сябраў пры першай рэарганізацыі заснавала новую арганізацыю «Пагоня», пра якую будзе інфармацыя ў іншым месцы. Структурныя змены адбыліся таксама ў Кліўлендзе, Чыкага, спынілі існаванне гурткі БАЗА ў Канектыкуце, Каліфорніі, Філадэльфіі. Шмат дзе апошнім часам ствараюцца незалежныя беларускія зямляцтвы, актывізуецца гуртаванне беларусаў праз сацыяльныя сеткі.

[72] Беларус. Нью-Ёрк. 2017. № 629.

[73] Беларус. Нью-Ёрк. 2003. № 485.

Бруклінскі / Нью-Ёркскі аддзел. 6 чэрвеня 2010 года на месцы ранейшага Нью-Ёркскага аддзела быў заснаваны Бруклінскі. 21 траўня 2011 года сябры правялі свой першы пасля арганізацыйнага гадавы справаздачна-выбарчы сход. У дакладзе старшыні аддзела Расціслава Гарошкі гаварылася пра тое, што Бруклінскі аддзел стварылі 21 сябра БАЗА, і за год колькасць сябраў павялічылася больш як удвая, да 54 чалавек[74]. Адбываюцца штомесячныя сходы, адзначаюцца беларускія юбілеі і культурныя падзеі, часта бываюць кніжныя прэзентацыі ды дэбаты на тэмы Беларусі і па бягучых амерыканскіх праблемах. Разам з царкоўнымі структурамі святкуюць Каляды, Вялікдзень, Дзень Удзячнасці і пад. Аддзел удзельнічае ў вельмі частых палітычных дэманстрацыях. Старшынёю аддзела ў 2011–2017 гадах была Таццяна Красоўская, у 2017–2018 — Наталля Федарэнка.

Бруклінскі аддзел БАЗА вельмі актыўны. Дзеля ілюстрацыі пералічым важныя мерапрыемствы і ініцыятывы, адзначаныя ў справаздачы з дзейнасці аддзела ў чэрвені 2015 — чэрвені 2016 года:

- адзначэнне 65-х угодкаў газеты «Беларус» (10 кастрычніка 2015);
- адзначэнне 95-х угодкаў Слуцкага паўстання (29 лістапада 2015);
- адзначэнне 85-х угодкаў Уладзіміра Караткевіча (20 снежня 2015);
- адзначэнне 270-х угодкаў нараджэння Тадэвуша Касцюшкі (28 лютага 2016);
- святкаванне Дня Волі (сакавік 2016) з удзелам ганаровага госця — паэта і палітычнага дзеяча Уладзіміра Някляева;
- адзначэнне 30-х угодкаў Чарнобыльскай катастрофы (24 красавіка 2016).

Акрамя таго, прадстаўніца аддзела Святлана Казачок прысутнічала 26 красавіка 2016 года на 25-й Міжнароднай канферэнцыі ў ААН, прысвечанай 30-й гадавіне чарнобыльскай трагедыі.

19 ліпеня 2016 года Бруклінскі аддзел арганізаваў віншаванне з 100-гадовым юбілеем найстарэйшага свайго сябра Антона Шукелойца.

Таксама цягам згаданага перыяду аддзел ладзіў прэзентацыі кніг успамінаў Юлі Андрусышын «Забыцьцю не адданае», Вітаўта Кіпеля «Жыць і дзеіць», перавыдання кнігі Аўгена Калубовіча «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства» і інш. На мерапрыемствы, ладжаныя аддзелам, часта прыязджаюць госці з Беларусі. У 2015–2016 гадах гэта былі спявачка Таццяна Матафонава, супрацоўнік беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода» Франак Вячорка і іншыя. Бруклінскі аддзел мае добрыя сувязі з украінскай дыяспарай, ладзяцца супольныя акцыі.



Удзельнікі Бруклінскага аддзела БАЗА. Кастрычнік, 2018 г.
*Здымак з сайта baza.нус*

[74] Беларус. Нью-Ёрк. 2011. № 580.



Аддзел аказваў дапамогу сям'і загінулага ва Украіне беларуса Алеся Чаркашына, падтрымаў выданне кнігі «Гэта Беларусь, дзетка» і інш. Цягам некалькі гадоў бруклінскія беларусы апекаваліся выставай мастака Яўгена Шатохіна, сабралі сродкі на ягоны помнік[75].

18 лістапада 2018 года на чарговым пасяджэнні Бруклінскага аддзела БАЗА была прынятая пастанова аб яго перайменаванні зноў у Нью-Ёркскі, што было абгрунтавана тым, што яго дзейнасць фактычна ахоплівае ўвесь мегаполіс. Сёння старшыня аддзела Сяргей Кудзеліч.

У дзейнасці Бруклінскага / Нью-Ёркскага аддзела трэба падкрэсліць падзею, якая дасягае максімуму прапаганды Беларусі, бо паказваецца часта нацыянальнымі, агульнаамерыканскімі каналамі тэлебачання. Гэта — гадавы фестываль Брукліна — «Атлантык Антык». Адбываецца гэтая падзея ў канцы верасня. Адна з найбуйнейшых магістраляў Брукліна і ўсё наваколле ператвараюцца ў эстрадны парк з дзясяткамі нацыянальных кухняў-страваў. Беларускі сабор Св. Кірылы Тураўскага апынаўваецца ў цэнтры падзей. У дзень фестывалю сястрыцтва сабора і Бруклінскі / Нью-Ёркскі аддзел БАЗА адчыняюць дзверы храма для сотняў наведнікаў: адны прыходзяць пакаштаваць беларускія стравы, іншыя — купіць беларускую кніжку і распытаць пра Беларусь. Слоў няма, і перад фестывалем, і асабліва ў дзень яго правядзення амаль усе сябры сястрыцтва і шмат сяброў БАЗА працуюць да стомы! Але пра Беларусь у гэты дзень даведваюцца тысячы амерыканцаў.

Для пашырэння інфармацыі пра дзейнасць Нью-Ёркскага аддзела быў створаны сайт (*baza.nyc*), на якім можна знайсці актуальную інфармацыю пра апошнія падзеі.



Продаж беларускіх страваў у часе фестывалю «Атлантык Антык». 2018 г. *Здымак з сайта baza.нус*

Аддзел БАЗА ў Нью-Джэрсі. Найстарэйшы аддзел арганізацыі[76]. Ён быў заснаваны ў 1950 годзе як Саўт-Рыверскі, пазней ператварыўся ў аддзел Саўт-Рывер — Нью-Брансвік, а ад 1968 года стаў называцца Нью-Джэрсійскім[77]. Актыўны ў адзначэнні беларускіх і

[75] Беларус. Нью-Ёрк. 2016. № 622.
[76] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. 2001. № 89.
[77] Саўка, З. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы... С. 166.

амерыканскіх святаў. Дзесяцігоддзямі аддзел бярэ на сябе абавязак упрыгожваць сцяжкамі магілы беларускіх змагароў на могілках у Іст-Брансвіку ў адзначэнне Дня слуцкіх змагароў. Прадстаўнікі аддзела часта супрацоўнічаюць з рознымі выставамі, акадэміямі, якія ладзіць Універсітэт Ратгерс. Выдатная адзнака дзейнасці, што на святкаванні Дня Волі 25 сакавіка амаль заўсёды выступае кангрэсмен Франк Пэлон, у чыёй акрузе знаходзіцца аддзел. Між іншага, у нью-джэрсійскіх беларусаў існуе традыцыя сустрэчаў з амерыканскімі сенатарамі, як Біл Брэдлей, Франк Лаўтэнберг, Вільям Кэйз. Кіруе аддзелам сп. Юрка Азарка, а даўгі час старшынёй быў ягоны бацька Янка Азарка[78].

Гаворачы пра аддзел БАЗА ў Нью-Джэрсі трэба падкрэсліць, што існаванне буйных асяродкаў, дзе пасяліліся беларусы, як гарадкі Саўт-Рывер і Нью-Брансвік прыцягвала і новых эмігрантаў у гэты штат. У дадатак развітая прамысловасць, штатны ўніверсітэт Ратгэрс спрыялі перасяленню новапрыбылых, а грамадства дапамагала ўладзіцца.

Зацытуем, як прыклад, ліст аднаго з новапрыбылых эмігрантаў, сёння — амерыканца, дзейнага грамадскага і БАЗАўскага лідара сп. Янкі Грышкевіча (люты 2016):

*У нас, сям'і Грышкевіч, эміграцыя ў Амерыку адбылася даволі проста: атрымалі ў 1990-х гадах Зялёную картку, пераехалі да знаёмых у Нью-Джэрсі, далучыліся да беларускага асяроддзя ў Амерыцы і паціхоньку пачалі інтэгравацца ў паўнацэннае амерыканскае жыццё. Калі казаць вобразна, пачалі будаваць сваю Амерыку.*

*Асобна хочацца зазначыць, што беларускае асяроддзе, асабліва прадстаўніцтва пасляваеннай эміграцыі, падтрымала нас у той час, калі падтрымка нам патрэбная была больш за ўсё. Падтрымалі нас як сем'і асобна, напрыклад Сільвановічаў, Азаркаў, Запруднікаў, Кажураў, так і грамадскасць увогуле, маю на ўвазе Беларуска-амерыканскае задзіночанне ў Нью-Джэрсі, узначаленае раней Янкам Азаркам, а цяпер Юркам Азаркам.*

*Бясспрэчна, беларускае асяроддзе падтрымала і сарыентавала нас у Новым Свеце.*

*У дачыненні да спраў БАЗА нельга не зазначыць, што пераемнасць пакаленняў, шанаванне нацыянальных традыцый ёсць галоўныя пастулаты, якія аб'ядноўваюць нас у замежжы.*

*Каб атрымаць лепшую працу я закончыў Ратгерскі ўніверсітэт, факультэт бізнесу і фінансаў (з Бацькаўшчыны ў мяне юрыдычная асвета). Працую цяпер у вялікай кампаніі ў бізнесовым сектары.*

Між іншага новая хваля дадала аддзелу энергіі, і таму адзначаюцца досыць часта такія святы, як Дзень святога Валянціна, Дажынкі, адбываюцца сустрэчы з гасцямі з Беларусі. І што важна ў аддзеле — гэта добрае супрацоўніцтва «пажылых» дзеячаў, як Мікола і Ліна Сагановічы, Люда Бакуновіч, Ала Кузьміцкая, Галіна Яновіч, з маладзейшымі «амерыканцамі» і «новымі»: д-р Юрка Кіпель, Аўген Кажан, Аня Бартуль ды Сяржук Сокалаў з сынамі і дзясяткі іншых. Аддзел вялікі і дзейны.

Аддзел БАЗА ў Кліўлендзе. Гэта была першая беларуская арганізацыя ў горадзе. Праўда, у Кліўлендзе беларусы сяліліся ад пачатку XX стагоддзя, але як асобная група заявілі аб сабе толькі калі пачалі з'яўляцца эмігранты пасля Другое сусветнае вайны. Установчы сход аддзела адбыўся 1 кастрычніка 1950 года. Адметнасцю кліўлендскай беларускай грамады было тое, што *«ніводная іншая*

[78] Беларус. Нью-Ёрк. 2004. № 495; 2017. № 629.



*беларуская супольнасць у ЗША не ўяўляе з сябе такога адзінства, як кліўлендская — густа пераплеценая сваяцтвам; фактычна гэта вялікая сям'я з характэрнымі для сям'і стасункамі»*[79].




Абвестка пра святкаванне 67-х угодкаў Абвяшчэння незалежнасці БНР Кліўлендскім аддзелам БАЗА. 1985 г.

Кліўлендскі аддзел БАЗА быў вельмі дзейны на цэлым штаце і ў шмат якіх дзялянках. Ад самага пачатку свайго існавання ён стаў удзельнічаць у дзейнасці розных шматэтнічных арганізацый. Яшчэ ад пачатку 1950-х аддзел увайшоў у Кліўлендскую асацыяцыю народнага мастацтва, якая ладзіла фальклорныя фестывалі, выставы і г. д. У 1960-я далучыўся таксама да Амерыканскага руху нацыянальнасцяў, які заклаў рэспубліканец чэшскага паходжання Ральф Пэрк. Апошні, падтрыманы ў тым ліку і беларусамі, у 1971 годзе стаў мэрам Кліўленда. Варта адзначыць, што ў той час у аддзела склаліся добрыя адносіны з мясцовымі палітычнымі дзеячамі, а таксама з прадстаўнікамі навуковай супольнасці, наладзіліся сувязі з Кліўлендскім штатным універсітэтам[80].

Сядзібы аддзела БАЗА ў Кліўлендзе былі пераважна звязаныя з царквою. Ад 1959 года гэта была царква Маці Божае Жыровіцкае (3517 West 25th Street), а ў 1990 годзе адчыніўся грамадскі цэнтр «Полацак» у Стронгсвілі, куды перамясцілася і сядзіба аддзела.



Старшыня аддзела БАЗА ў Кліўлендзе Кастусь Калоша

У розны час старшынямі Кліўлендскага аддзела БАЗА былі Кастусь Калоша, Аўген Каханоўскі, Аркадзь Сацэвіч, Мікола Латушкін, Сяргей Карніловіч, Васіль Шчэцька, Вінцэнт Спічонак, Юрка Гасцееў, Міхась Страпко, Уладзімір Дунец, Янка Раковіч, Янка Ханенка, Сяргей Раманюк.

У 2000-я гады актыўнасць Кліўлендскага аддзела БАЗА пайшла на спад. Старыя эмігранты адыходзяць фізічна, а прадстаўнікі новай эміграцыі, асабліва ў XXI стагоддзі, далучаюцца да працы не асабліва актыўна. Сёння гэты аддзел самы невялікі ў БАЗА паводле колькасці сябраў і малаактыўны[81].

[79] Саўка, З. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы... С. 177.

[80] Падрабязней пра дзейнасць аддзела БАЗА ў Кліўлендзе гл.: Kipel, V. Byelorussian Americans and their communities of Cleveland...; Саўка, З. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы...

[81] Паводле інфармацыі Наталлі Федарэнка. 2020 г.



Беларусы Кліўленда. 1999 г.






Святкаванне 100-годдзя бел-чырвона-белага сцяга ў Паўднёвай Флорыдзе. 2019 г.
*Здымкі з сайта www.racyja.com*



Аддзел БАЗА ў Паўднёвай Флорыдзе. На пачатку XXI стагоддзя ў Паўднёвай Флорыдзе ўтварыўся гурток БАЗА. Вось як адбывалася адна з першых яго дзеяў:

*27 ліпеня [2012 года] актавая заля гарадзкога цэнтру Сані Айлз, што ў Маямі (Sunny Isles Beach Government Center) сабрала з паўсотні чалавек на чале з двума вядомымі наваградчанамі. Першы зь іх, мастак і карыкатурыст, Дзьмітрый Багацішчаў быў галоўны вінавайца ўрачыстасьці. Арыгіналы дый копіі ягоных карцін, а таксама яго карыкатуры й здымкі былі выстаўленыя для ўсеагульнага агляду ў рамках першага грамадзкага мерапрыемства, арганізаванага Флярыдзкім аддзелам БАЗА*[82].

Выстава зрабіла выдатную прапаганду Беларусі ды атрымала вельмі добрыя водгукі ад крытыкаў. Флорыдскі гурток БАЗА за мінулыя колькі гадоў арганізаваў некалькі дэманстрацый, пратэстуючы супраць палітыкі сучасных уладаў Беларусі, ладзіць выставы, сустрэчы. Старшынёй гуртка быў Сяргей Волкаў. У сакавіку 2017 года гурток ператварыўся ў паўнавартасны аддзел БАЗА, якім кіруе сёння Андрэй Пушкароў. Удзельнікі аддзела выяўляюць вялікую актыўнасць, ладзяць святкаванні, пікеты і інш. Сярод цікавых ініцыятываў апошніх гадоў — святкаванне 100-годдзя бел-чырвона-белага сцяга, дзеля адзначэння якога беларусы сваімі рукамі стварылі калекцыю керамічных вырабаў, размаляваных у адпаведнай палітры.

Аддзел БАЗА ў горадзе Вашынгтон. Дэлегаты БАЗА адведвалі Вашынгтон ад пачатку 1950-х гадоў: выступалі ў кангрэсавых слуханнях, удзельнічалі ў канферэнцыях ад імя БАЗА, святары чыталі малітвы ў Кангрэсе. Як арганізацыя БАЗА прадстаўлена ў сталіцы ЗША ад жніўня 1979 года. У 1979 годзе адбыўся арганізацыйны сход на Капіталійскім узгорку ў памяшканні клуба Рэспубліканскай партыі, на якім былі прысутныя сп-ня Зоя Лапчанка — бібліятэкар Бібліятэкі Кангрэса, сп. Леў Акіншэвіч — навуковы супрацоўнік Бібліятэкі Кангрэса, сп-ня Ніна Кіт, сп. Леўка Кавалёў, сп-чня Алеся Кіпель і як госці сп. Антон Шукелойць — старшыня Галоўнай управы БАЗА і д-р Вітаўт Кіпель ад БІНіМа. Быў прысутны таксама сп. Джэй Немчык — дырэктар аддзела нацыянальнасцяў Рэспубліканскай партыі. На сходзе быў заснаваны гурток БАЗА, а старшынёй абраная Алеся Кіпель, тады студэнтка факультэта права Джорджтаўнскага ўніверсітэта — жыхарка Вашынгтона. Па сходзе былі разасланыя камунікаты нацыянальным арганізацыям Вашынгтона, некаторым кангрэсменам і сенатарам пра дзейнасць БАЗА ў сталіцы ЗША[83]. Першае «палітычнае» запрашэнне, атрыманае БАЗА, было на сустрэчу ў Белым Доме з Папам Рымскім Янам Паўлам II увосень 1979 года. Дэлегатамі Задзіночання на сустрэчы былі д-р Вітаўт і сп-ня Зора Кіпелі.

З цягам часу гурток БАЗА ў Вашынгтоне паступова павялічваўся, як і пашыралася яго дзейнасць. Аднак на мяжы XX і XXI стагоддзяў дзейнасць спынілася. На сходзе 16 верасня 2007 года была прынятая пастанова аб новым стварэнні Вашынгтонскага гуртка БАЗА, які ўзначаліла Алеся Сёмуха. Сталі праводзіцца штогадовыя выбары кіраўніцтва: у розны час на чале гуртка стаялі Алеся Кіпель, Яраслаў Крывой, Вячаслаў Бортнік. Сярод актыўных сябраў трэба згадаць Яўгена Барысевіча, Марыну Іваноўскую, Мікіту Ільяшэвіча, Валера Кавалеўскага, Алу Кітову, Ірыну Красоўскую, Таццяну Працьку, Вольгу Рошчанка, Наталлю

---

[82] Беларус. Нью-Ёрк. 2012. № 602.
[83] GOP Nationalities News. Washington (DC). Vol. 10. № 4. 1979. Nov. — Dec. P. 6.



Удзельнікі Вашынгтонскага аддзела БАЗА на сустрэчы з грамадскім актывістам Паўлам Марозавым. Справа налева: Ірына Красоўская, Аркадзь Чарапанскі, Алеся Кіпель, Павел Марозаў і ягоная жонка, Вячаслаў Бортнік, Вольга Грыцкевіч, Яўген Барысевіч. 2014 г.

Рабаву-Дэніэлс, Лілю Смелкаву і Вольгу Чарныш. У снежні 2016 года гурток ператвораны ў аддзел, кіруе ім сёння Яўген Барысевіч.

Вашынгтонскі гурток / аддзел БАЗА праводзіў і вядзе надалей працу па інфармаванні амерыканскіх дзяржаўных установаў і міжнародных арганізацый аб актуальным становішчы справаў у Беларусі. Ладзяцца рэгулярныя сустрэчы з прадстаўнікамі Дзярждэпартамента, офісаў Кангрэса, Камісіі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, USAID. Сябры гуртка / аддзела асабіста сустракаліся з прэзідэнтам Джорджам Бушам — малодшым, дзяржсакратарамі Кандалізай Райс і Хілары Клінтан. Праводзяцца брыфінгі ў Кангрэсе па беларускім пытанні, круглыя сталы і панэльныя дыскусіі ў вядучых універсітэтах. Аддзел штогод афармляе падпіску на часопіс «Belarusian Review» для сябраў Кангрэса, якія выяўляюць цікавасць да беларускага пытання.

Адной з вядучых для Вашынгтонскага аддзела з'яўляецца праваабарончая дзейнасць. Актывісты праводзяць шматлікія акцыі пратэсту ля будынка амбасады ў Вашынгтоне. Двойчы на год (у Дзень Волі 25 сакавіка і ў чэрвені на гадавіну адкрыцця) ускладаюцца бел-чырвона-белыя вянкі і кветкі да Помніка ахвярам камунізму. Сябры гуртка падтрымоўваюць жывы кантакт з палітыкамі, праваабаронцамі, дзеячамі культуры і лідарамі грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, дапамагаюць з арганізацыяй афіцыйных візітаў, а таксама праводзяць нефармальныя сустрэчы ў Вашынгтоне. Сярод знакамітых беларускіх гасцей можна згадаць Святлану Алексіевіч, Алеся Бяляцкага, Лявона Баршчэўскага, Змітра Вайцюшкевіча, Вінцука Вячорку, Аляксандра Казуліна, Анатоля Лябедзьку, Жанну Літвіну, Аляксандра Мілінкевіча, Вальжыну Морт, Уладзіміра Някляева, Андрэя Саннікава, Станіслава Шушкевіча і іншых, а таксама беларускі Вольны тэатр.





Сябры аддзела БАЗА ў Вашынгтоне каля Мемарыяла ахвярам камунізму. 25 сакавіка 2014 г.

Актывісты аддзела ладзяць паказы фільмаў пра Беларусь, сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі і мастакамі, лекцыі па беларускай гісторыі і культуры, адзначаюць беларускія святы, удзельнічаюць у этнічных фестывалях, міжнародных канферэнцыях у розных краінах. Часта вашынгтонскія беларусы фінансава падтрымоўваюць розныя грамадскія і культурніцкія ініцыятывы ў Беларусі, прыкладам арганізацыю акцыі на 101-годдзе БНР у Менску, пераклад кнігі Маргарэт Этвуд «Пенелапіяда» і інш.

Вашынгтонскі аддзел БАЗА мае актыўную прэсавую службу, якая рэгулярна робіць прэс-рэлізы, у тым ліку і сумесна з рознымі праваабарончымі арганізацыямі. Маюцца актыўная Yahoo-група, старонкі ў Facebook і Twitter. У 2010 годзе вашынгтонскія беларусы выдалі нагрудныя значкі з перакрыжаванымі бел-чырвона-белым і амерыканскім сцяжкамі, а таксама фотакнігу, прысвечаную сваёй дзейнасці ад 2007 года. Кніга *«DC Chapter of the Belarusan-American Association»* (*Washington, 2010*) мае 34 старонкі і складаецца з 50 фотаздымкаў, фотаадбіткаў артыкулаў, а таксама кароткіх біяграфічных звестак пра сябраў арганізацыі. У кнізе падаецца інфармацыя пра мэты дзейнасці, а таксама гістарычная даведка пра Беларусь і здымкі вядомых людзей — выхадцаў з яе тэрыторыі[84]. Сёння Вашынгтонскі аддзел БАЗА адзін з найбольш дзейных у арганізацыі.

Гурток БАЗА ў Чыкага. Як было зазначана ў першым выданні гэтай кнігі, а таксама ў матэрыяле да гісторыі БАЗА ў Чыкага[85], беларускі нацыянальны рух у ЗША пачаўся з гэтага горада. Менавіта ў Чыкага прыехалі прадстаўнікі БНР —

[84] Паводле агляду дзейнасці Вашынгтонскага гуртка БАЗА, зробленага Вячаславам Бортнікам.

[85] Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 511.

Янка Чарапук, Язэп Варонка і іншыя — і стварылі беларуска-амерыканскую нацыянальную арганізацыю.

Дзейнасць беларусаў у Чыкага была заўсёды вызначальная, як у сферы беларускага «панадворку», гэтак і вонкі: супрацоўніцтва з амерыканскімі палітыкамі, з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў. Досыць шырока пра гэта пісалася ў першым беларускамоўным і англамоўным выданнях «Беларусаў у ЗША».

Першая спроба стварыць аддзел БАЗА ў Чыкага была зробленая на пасяджэнне Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады ў чэрвені 1953 года. Скончылася яна афіцыйным афармленнем самастойнага Згуртавання беларусаў у штаце Ілінойс у лістападзе таго ж года. Праўда, гэтае згуртаванне да 1959 года непасрэдна падтрымлівала сувязі з БАЗА, дасылала ў Галоўную ўправу штогадовыя справаздачы. Далей гэтая практыка спынілася, хоць беларускае жыццё ў горадзе працягвалася[86].

У 1980-я гады беларуская дзейнасць у Чыкага слабела. Неаднаразова трывожна пра гэта нам паведамляў па тэлефоне і пісаў Мікола Латушкін. Але... пачалося адраджэнне. Настаяцелем у царкве Св. Юр’я стаў айцец Дзмітры Бажко. Ён з сваёй спадарыняй узнялі дзейнасць. На жаль, за гэтым зноў быў заняпад. Старыя беларусы паміралі, а новых не прыбывала. Стан быў цяжкі. У 2003 годзе беларусы Чыкага страцілі адну з сваіх цэркваў, уніяцкую, вельмі дзейную ў мінулым. На шчасце, эпоха надышла такая, што новае маладое пакаленне эмігрантаў стала «валіць» у ЗША гуртам. Чыкага не было выключэннем. У царкве Св. Юр’я пабольшала вернікаў, прыйшоў новы настаяцель, парафія пачала ўзмацняцца. Моцнымі рукамі быў узняты бел-чырвона-белы штандар. У беларуска-амерыканскім друку сталі з’яўляцца рэпартажы Ванкарэма Нікіфаровіча. Асяродак гучна заяўляў пра сябе. На пачатку 2000-х у горадзе адрадзіўся і стаў дзеіць гурток БАЗА.

Сёння ў беларускім жыцці Чыкага ўдзельнічаюць ужо выключна прадстаўнікі новай іміграцыі. Гурток БАЗА дзейнічае пад кіраўніцтвам Жанны Чарняўскай



Купалле ў Чыкага. 2019 г.
*Здымак з сайта www.nn.by*

[86] Саўка, З. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы... С. 213–214.



разам з суполкай «Беларусы ў Чыкага», якая гуртуе суродзічаў у сетцы Facebook. Ладзяцца рэгулярныя беларускія мерапрыемствы: святкаванні Купалля, Калядаў, Дня Незалежнасці і інш. Ладзяцца канцэрты беларускіх выканаўцаў (можна згадаць выступы гурта «Стары Ольса», Сержука Доўгушава і інш.). Бясспрэчна, новае пакаленне пераняло беларускую спадчыну і дзейнасць у Чыкага.

***Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (БККА).*** Беларускія арганізацыі, якія пачалі ўзнікаць на пачатку 1950-х гадоў, ідэалагічна і структурна прылучаліся або да Беларуска-амерыканскага задзіночання, або да новае арганізацыі — Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі. Тым часам як большасць арганізацый падзяляла палітычную платформу БАЗА, г. зн. выступала за аднаўленне незалежнае дэмакратычнае беларускае дзяржавы, Беларускае Народнае Рэспублікі (і яе замежнага прадстаўніцтва), палітычнаю асноваю БККА была таксама беларуская дзяржава ў форме Беларускае Народнае Рэспублікі, аднак у якасці пункта адліку і аб’екта ідэалагічнае вернасці бралася Беларуская Цэнтральная Рада. Гэтае размежаванне было перасаджанае на новую глебу з беларускіх палітычных структураў Заходняе Еўропы.

Адразу пасля заснавання Беларуска-амерыканскага задзіночання ягоныя апаненты разам з Злучаным беларуска-амерыканскім дапамаговым камітэтам склікалі шырокі форум, які прадстаўляў усіх тых, хто падзяляў іхныя палітычныя погляды. Кіраўнікі ЗБАДК надрукавалі «Заклік да беларусаў у Злучаных Штатах», у выніку чаго 11 лютага 1951 года ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, адбыўся першы Кангрэс беларусаў Амерыкі. На ім былі вызначаныя палітычныя мэты арганізацыі: *«Падтрымваць імкненьне беларускага народу да вызваленьня ад савецка-расейскае акупацыі... [...] Быць пільнымі й выкрываць камуністычную прапаганду, што пранікае ў краіну»*[87]. На кангрэсе была прынятая рэзалюцыя, дзе казалася, што ён *«падтрымвае палітычныя прынцыпы, сфармуляваныя Першым і Другім Усебеларускімі Кангрэсамі ў Менску»*[88]. Выканаўчым органам кангрэса стаўся Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі. У структуры БККА быў заснаваны адмысловы Нацыянальны фонд з мэтаю збірання сродкаў на арганізацыйную дзейнасць.



Управа БККА: Эмануіл Ясюк, Андрэй Мінчук, а. Мікалай Лапіцкі, Іван Касяк, Нікандр Мядзейка, Аляксандр Банкет. 1975 г.

Раз у колькі гадоў склікаліся кангрэсы беларусаў Амерыкі,

[87] Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1950. № 1; 1951. № 4–6; Архівы БККА пад царквой Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі).

[88] Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1951. № 5.

11-ы Кангрэс адбыўся ў Саўт-Рыверы 2 чэрвеня 1990 года. Пасаду старшыні БККА ў розны час займалі д-р Мікола Шчорс (1951—1957), інж. Іван Касяк (1957—1989), Расціслаў Завістовіч (1990—2000). У 2001 годзе на пасаду старшыні быў абраны Роберт Цупрык, першы старшыня гэтай арганізацыі, што не з'яўляецца эмігрантам, ён амерыканец.

Пад эгідаю БККА дзеіць пара меншых групаў. Сёння жыццёвасць арганізацыі падтрымоўваецца перыядычнымі сустрэчамі, а таксама напісаннем і пашырэннем разнастайных інфармацыйных матэрыялаў на бягучыя беларускія тэмы. Важным дасягненнем БККА, асабліва дзякуючы старанням Ксенафонта Вайцяхоўскага, стала выданне часопіса «Беларуская Думка», які ўносіць важны ўклад у жыццё беларусаў у Амерыцы[89].

Кангрэсаваму камітэту прысвечаная манаграфія даследчыка з Беларусі Алега Гардзіенкі «Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)» (Смаленск, 2009). Гэта вельмі аўтарытэтнае даследаванне. Сп. Гардзіенка аб'ектыўна і ўдумліва прааналізаваў дзейнасць БККА, ягонае значэнне ў беларуска-амерыканскім кантэксце і зазначыў:

*Як і іншыя эміграцыйныя арганізацыі, цягам 1990-х гг. пад уплывам міжнароднай сітуацыі БККА карэктаваў прынцыпы і кірункі сваёй дзейнасці. Найбольш увагі надавалі разнастайным спосабам уплыву на падзеі ў Беларусі. На гэта працавалі і кантакты з амерыканскімі чыноўнікамі, і сувязі з беларускімі дзеячамі на Бацькаўшчыне*[90].

У першай палове 1990-х, пакуль Беларусь імкнулася стаць дэмакратычнай дзяржавай, эмігранты мелі прыязныя стасункі з беларускай амбасадай у Вашынгтоне. Дзеячаў БККА, як і іншых беларускіх арганізацый, запрашалі на розныя прыёмы, ладжаныя супрацоўнікамі дыпламатычнай структуры. Кантакты гэтыя абарваліся пасля 1994 года. Дзейнасць БККА, аднак, не спынілася. Прадстаўніца БККА сп-ня Лёля Касоўская выступіла ад імя камітэта ў Менску на 4-м З'ездзе беларусаў свету 16—17 ліпеня 2005 года. Сябры ўправы БККА часта запрашаліся на кансультацыі ў Вашынгтон, сустракаліся з прадстаўнікамі розных дэлегацый з Менска. Канцылярыю арганізацыі, якая знаходзіцца ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі), бадай ад самага пачатку і да апошніх дзён жыцця вёў Міхась Сенька (1922—2016), заслужаны грамадскі дзеяч[91]. Аднак бясспрэчна, што дзейнасць БККА сёння звужаная ў параўнанні з перыядам 1960—1990-х гадоў. Сваё даследаванне гісторыі і дзейнасці БККА Алег Гардзіенка завяршыў гэтак:

*Пакуль рана цвердзіць, што Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі спыніў сваё існаванне. Акрамя згаданых арганізацый беларускай грамады Саўт-Рывера, працуюць паасобныя сябры БККА, якія час ад часу ладзяць пасяджэнні ды некаторыя мерапрыемствы (найперш святкаванні гадавінаў 25 Сакавіка). Сёння немагчыма пэўна сказаць, ці маладое пакаленне эміграцыі пяройме ўладу ў Кангрэсавым камітэце. Змена пакаленняў адбываецца на ўзроўні парафіі Св. Еўфрасінні. Магчыма, Роберт Цупрык і ягоныя маладзейшыя сябры беларуска-амерыканскага паходжання Жорж Арцюшэнка і Жорж Лешчанка калісьці будуць мець рэальную падтрымку ад сваіх аднагодкаў-амерыканцаў беларускага паходжання для актывізацыі БККА. Уключаецца ў беларускае грамадскае жыццё і новая хваля эмігрантаў.*

[89] Беларуская Думка. Саўт-Рывэр. 1979. № 23. С. 2—3.
[90] Гардзіенка, А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі... С. 238.
[91] Беларус. Нью-Ёрк. 2016. № 621.



*Як бы ні склаўся лёс Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі надалей, гэта, найхутчэй, будзе ўжо іншая гісторыя ды іншая арганізацыя, з добрай традыцыяй беларускай дзейнасці на чужыне, важная для культуры і гісторыі нацыі*[92].

Варта падкрэсліць, што сп. Расціслаў Завістовіч быў адным з тых дзеячаў, хто супрацоўнічаў з прадстаўнікамі іншых арганізацый. Гэтак, у Вашынгтоне ягонай супрацоўніцай была сп-ня Алеся Кіпель — прадстаўніца амерыканскага пакалення, якая належала да БАЗА. У 1993 годзе, калі ў Вашынгтоне была створаная палітычная арганізацыя (надпартыйная) Кааліцыя народаў Цэнтральнае і Усходняе Еўропы (*CEEC*), дзе ад беларусаў прысутнічаў Расціслаў Завістовіч, старшыня БККА, сп-ня Алеся Кіпель заўсёды брала ўдзел у пасяджэннях разам з ім. Кааліцыя мае на мэце дапамагаць у наладжванні дачыненняў паміж новапаўсталымі дзяржавамі і ЗША. Яна паляпшае адносіны паміж ЗША і новымі ўсходне- і цэнтральнаеўрапейскімі краінамі, ды шмат у якіх момантах дапамагае расшыфраваць палітычныя крокі тых дзяржаваў, а таксама пазітыўна / нейтральна ўплываць на крокі ЗША ў рэгіёне. А калі Расціслаў Завістовіч памёр у снежні 2000 года, Алеся Кіпель заняла ягонае месца прадстаўніка беларусаў у кааліцыі. Адбылася адначасова і арганізацыйная змена: прадстаўніком у кааліцыі стала БАЗА замест БККА. Сёння прадстаўніком інтарэсаў Задзіночання ў Кааліцыі з'яўляецца іншы вашынгтонскі беларус — Вячаслаў Бортнік.




Афіша фільма Кацярыны Кібальчыч «Belarusian Dream» у Вашынгтоне. 2013 г.

* * *

Супрацоўніцтва беларусаў, асабліва новага пакалення, паміж сабой, г. зн. міжарганізацыйнае ўзаемадзеянне, а таксама з іншымі, небеларускімі арганізацыямі — характарыстыка сённяшняе беларускае дзейнасці навонкі. Канкрэтным прыкладам можа быць зладжаны ў 2013 годзе ў Вашынгтоне паказ дакументальнага фільма Кацярыны Кібальчыч «Беларуская мара». Сярод арганізатараў падзеі былі Беларуска-амерыканскае задзіночанне, Злучаны балтыйска-амерыканскі нацыянальны камітэт і арганізацыя Фрыдам Хаўз (*Freedom House*). Сярод гасцей былі дыпламаты, палітычныя аналітыкі, журналісты, супрацоўнікі НДА, якія займаюцца Беларуссю[93].

[92] Гардзіенка, А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі... С. 253.
[93] Солаш, Р. «Беларуская мара» ў Вашынгтоне: «Каб пра Беларусь не забываліся». Гл.: http://www.svaboda.org/a/25020995.html .

## Заўвагі да арганізацыйнай структуры беларусаў ЗША

У першым выданні гэтай кнігі ніжэй пададзены тэкст быў загалоўлены ***«Арганізацыі, што дзеяць у лучнасьці або супрацоўніцтве зь Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем або Беларускім Кангрэсавым Камітэтам Амэрыкі»***. Арганізацый было шмат. Амаль усе яны ствараліся ў часе, калі хваля беларускай эміграцыі ў ЗША па Другой сусветнай вайне была ў росквіце сілаў. Знаходзіліся актывісты-энтузіясты на ўсе палітычныя густы — арганізацыі паўставалі і былі дзейныя дзясяткі гадоў. Але, як казала Наталля Арсеннева, час няўмольны. Гады сціралі ўсіх. Арганізацыі змаралі, самаліквідоўваліся. Праўда, прыходзілі новыя, маладзейшыя кадры — «беларусы ня спалі». Паўставалі новыя арганізацыі, «цягнік ішоў»...

У гэтым выданні пералік старых, нядзейных арганізацый мы пакідаем для гісторыі, а дзейныя дапаўняем свежым матэрыялам, дадаем новыя арганізацыі.

* * *

Заснаванне Беларуска-амерыканскага задзіночання з аддзеламі па ўсёй краіне і стварэнне Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі спрыяла ажыўленню арганізацыйнае дзейнасці беларускіх асяродкаў у Злучаных Штатах. Пачалі ўзнікаць групы з пэўнаю беларускаю палітыка-ідэалагічнаю арыентацыяй, г. зн. паводле прыхільнасці да Рады БНР або БЦР, геаграфічнага размяшчэння, прафесійных інтарэсаў, рэлігійнае прыналежнасці і г. д. Хоць шмат якія навастворанамя арганізацыі абвяшчалі сваю нейтральнасць у беларускай палітыцы, усе яны нейкім чынам салідарызаваліся ў дзейнасці з БАЗА або БККА.

***Згуртаванне беларусаў штата Ілінойс.*** Гэтая арганізацыя была закладзеная 28 чэрвеня 1953 года ў выніку разыходжанняў у поглядах з Беларуска-амерыканскаю нацыянальнаю радаю ў Чыкага і з Беларуска-амерыканскім задзіночаннем. Згуртаванне было асабліва актыўнае на ніве культурнага і палітычнага прадстаўлення Беларусі: яно запачаткавала штодвухгадовыя беларускія навуковыя канферэнцыі, наладжвала шматлікія канцэрты і публічныя лекцыі, а таксама распрацоўвала доўгатэрміновую адукацыйную праграму для маладзейшага пакалення. Згуртаванне прыкладала немалыя намаганні, інфармуючы мясцовыя і федэральныя ўлады, кангрэсменаў і сенатараў пра палітычнае становішча Беларусі, пра мэты беларусаў у Злучаных Штатах ды пра іхныя надзеі на лепшую будучыню для краіны сваіх продкаў[94]. Сёння арганізацыя нядзейная.

***Беларускі каардынацыйны камітэт у Чыкага.*** Беларуская калонія ў Чыкага пачала спробы ў каардынацыі дзейнасці розных арганізацый, заснаваўшы ў 1955 годзе Аб'яднаны камітэт беларускіх арганізацый у Чыкага[95]. Хоць гэты камітэт меў абмежаваныя функцыі, сама ідэя жыла далей, і ў 1973 годзе быў створаны Беларускі каардынацыйны камітэт у Чыкага[96]. Мэтаю новае арганізацыі было каардынаваць палітычную і культурную дзейнасць беларускіх арганізацый у горадзе — Беларускае праваслаўнае царквы Св. Юр'я, Беларускае грэка-каталіцкае царквы Хрыста Збаўцы, Згуртавання беларусаў штата Ілінойс ды іншых. Камітэт,

[94] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1956. № 283–284; Беларус. Нью-Ёрк. 1966. № 114; 1968. № 129; Bulletin of the Whiteruthenian Association of the State of Illinois. Chicago. 1954. March 25. № 1 (4); Весткі й Паведамленьні. Нью-Ёрк. 2015. № 587.

[95] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1956. № 283–284.

[96] Інфармацыя Веры Рамук, 1992.



узначалены Верай Рамук, д-рам Вітаўтам Рамуком, Васілём Пунтусам ды іншымі, меў на сваім рахунку шэраг важных дасягненняў. Беларуская грамада рэгулярна ўдзельнічала ў калядных святкаваннях, якія наладжваў Чыкагскі Музей навукі і прамысловасці, а таксама ў іншых культурных мерапрыемствах горада.



Bielarusian Coordinating Committee
of Chicago, Illinois

MEMBER ORGANIZATIONS:
Byelorussian American National Council of Chicago
Whiteruthenian (Byelorussian) American Ass'n in Illinois
Bielorusian American Youth Organization in Illinois

October 27, 1973

Бланк Беларускага каардынацыйнага камітэта ў Чыкага

Варта зазначыць, што з усіх беларуска-амерыканскіх арганізацый Чыкагскі каардынацыйны камітэт найактыўней выступаў за змену англійскае перадачы назову «Беларусь» — *«Byelorussia»*, прапануючы пісаць *«Bielarus»*. Аднак гэтая праблема, натуральна, мусіла вырашацца ў Менску[97], што і было зроблена, калі быў прыняты назоў *«Belarus»* у англамоўнай транскрыпцыі. Сёння арганізацыя нядзейная.

***Злучаны беларускі камітэт у Кліўлендзе.*** Мэтаю гэтае арганізацыі, заснаванае 24 лютага 1952 года, было прадстаўляць беларускую грамаду на розных гарадскіх мерапрыемствах, праграмах і канферэнцыях, а таксама каардынаваць дзеянні беларускіх арганізацый. Узначалены Аўгенам КахаНоўскім, які таксама быў выдаўцом «Бюлетэня», камітэт праіснаваў нядоўга[98].

***Беларускі клуб*** быў закладзены ў Пасейку, штат Нью-Джэрсі, у 1954 годзе і служыў месцам сустрэчы беларусаў з навакольных гарадоў — Гарфілда, Лодай, Кліфтана, Уолінгтана, Іст-Радэрфорда, Радэрфорда і Карлстата. Вёў абмежаваную культурную дзейнасць. У кіраўніцтва ўваходзілі Эмануіл Ясюк, Іван Бендзераў, Яўхім Кіпель, Сымон Жамойда. Пры клубе дзейнічала група «Эсперанта — Беларусь» — гэта трычатыры энтузіясты-эсперантысты на чале з сп. Сымонам Жамойдам, які дасканала ведаў гэтую мову і належаў да амерыканскага клуба. Група вяла перапіску з эсперантыстамі ўсяго свету, уключна з БССР, куды лісты на эсперанта кіраваліся да пісьменніка Янкі Маўра. У 1970-я гады клуб спыніў сваё існаванне[99].



Эмануіл Ясюк

[97] Беларус. Нью-Ёрк. 1983. № 308–309; 1986. № 331, 332; 1987. № 338, 344, 347; 1988. № 353; 1989. № 357, 358, 361; 1990. № 368, 372; Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[98] Kipel, V. Byelorussian Americans and their Communities of Cleveland... P. 58.

[99] Гутаркі аўтара з Эмануілам Ясюком, 1972–1973; Беларускае Слова. Нью-Джэрзі. 1954. № 16.

***Беларуска-амерыканскі звяз.*** Заснаваны ў Нью-Ёрку 14 снежня 1958 года з мэтаю аб'яднання беларуска-амерыканскіх арганізацый у кааліцыю, якая б прадстаўляла іх і прапагандавала ідэю незалежнасці Беларусі. Кіраўнікамі звязу былі: старшыня д-р Мікола Шчорс, віцэ-старшыня д-р Янка Станкевіч, сакратар Лявон Галяк, скарбнік Міхась Бахар, сябра прэзідыума Лангіна Брылеўская. Пасля колькіх гадоў актыўнасці ў 1970-я гады звяз спыніў існаванне[100].

***Беларуска-амерыканскае аб'яднанне ў Нью-Ёрку (БАА).*** Узнікла 4 чэрвеня 1965 года ў выніку расколу ўнутры Беларуска-амерыканскага задзіночання. Група ягоных сяброў, не могучы болей весці самастойную палітыку і страціўшы надзеі дасягнуць сваіх мэтаў праз сходы, рэзалюцыі, выбары і г. д., пастанавіла заснаваць асобную арганізацыю. Дзейнасць БАА засяроджвалася пераважна на Нью-Ёрку і ваколіцах, друкаваўся «Бюлетэнь» і інфармацыйныя лісткі. Прэзідэнт БАА — Кастусь Мерляк, сябры кіраўніцтва — Васіль Шчэцька, Уладзімір Пеляса ды іншыя[101]. Усе сябры памерлі і арганізацыя самаліквідавалася.



Кастусь Мерляк

***Беларуска-амерыканскае згуртаванне «Пагоня» (Belarusan-American Alliance «Pahonia»).*** Грамадская арганізацыя, якая імкнецца аб'яднаць людзей, зацікаўленых у падтрымцы беларускай прысутнасці. Лучыць не толькі этнічных беларусаў, што размаўляюць па-беларуску або прыехалі з Беларусі, але і адкрытая для ўсіх, хто падтрымлівае беларускую культуру, каму прыемна бавіць час сярод землякоў, хто неабыякавы да будучыні беларускай грамады ў Амерыцы, а таксама да таго, што адбываецца ў Беларусі.

Арганізацыя заснаваная ў 2011 годзе на аснове ранейшага Нью-Ёркскага аддзела БАЗА. Мэты і прынцыпы ўключаюць падтрымку свабоды і дэмакратыі ў Беларусі, ЗША і па ўсім свеце, а таксама ідэалы незалежнасці Беларусі, абвешчаныя Актам 25 сакавіка 1918 года.

Дзейнасць Беларуска-амерыканскага згуртавання «Пагоня» ўлучае штомесячныя сходы арганізацыі, на якіх адбываецца інфармаванне пра падзеі ў Беларусі і ЗША, сустрэчы з цікавымі людзьмі, адзначэнне памятных датаў. Арганізацыя таксама аказвае дапамогу юрыдычнай інфармацыяй. Дзейнасць «Пагоні» ажыццяўляецца і праз мітынгі, пікеты, дэманстрацыі ў падтрымку дэмакратыі і свабоды ў Беларусі.

Згуртаванне мае сваё перыядычнае выданне — штомесячны бюлетэнь «Весткі й Паведамленьні». У цесным кантакце з «Пагоняй» выходзіць штогадовы альманах «Беларус». Таксама штогод арганізацыя выдае свой каляндар. «Пагоня» мае суполкі ў *Facebook* і *ВКонтакте*. Штомесячныя сходы згуртавання звычайна адбываюцца кожную другую суботу ў Нью-Ёрку на Манхэтэне ў Доме маракоў па адрасе: *Seafarers and International House, 123 East 15$^{th}$ Street, New York, NY 10003.* Старшыня «Пагоні» — Віталь Зайка.

[100] Беларускі Голас. Таронта. 1959. № 53; Гутарка аўтара з д-рам Янам Станкевічам, 1963.

[101] Гутаркі аўтара з Кастусём Мерлякам, 1980–1982; Папкі Пятра Мельяновіча, Васіля Захаркевіча і Васіля Юрцэвіча ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).





Гуканне вясны, ладжанае Беларуска-амерыканскім згуртаваннем «Пагоня». Нью-Ёрк, сакавік 2019 г.

## Арганізацыі моладзі

Характэрнаю рысаю паваеннае беларускае іміграцыі была высокая ўдзельная вага моладзі. Адною з прычынаў гэтага ёсць тое, што шмат маладых было прывезена ў Нямеччыну ў часе вайны ў якасці працоўнае сілы. Большасць з іх па вайне пастанавілі не вяртацца на Бацькаўшчыну. Да таго ж сем'і, што ўцякалі ад набліжэння савецкіх войскаў, часта былі шматдзетныя.

Пераважная большасць гэтых маладых людзей працягвала навуку пасля вайны, шмат хто з іх наведваў беларускія гімназіі ў лагерах Ды-Пі. Там яны ў значнай меры атрымалі беларускае патрыятычнае выхаванне і з часам сталіся адукаванымі ідэйнымі беларусамі, якія ў сваіх палітычных поглядах прынялі заходнія дэмакратычныя ідэалы. Ужо ў Заходняй Еўропе яны мелі свае арганізацыі — скаўцкія, групы *YMCA/YWCA* ды спартовыя клубы[102]. Калі настала пара эміграваць, маладыя беларусы мелі шмат агульных інтарэсаў і былі больш зблізаныя між сабою, чым якія іншыя ўзроставыя або прафесійныя групы.

Летам і восенню 1950 года маладыя новапрыбылыя беларусы-імігранты Нью-Ёрка і ваколіцаў збіраліся ў «Беларускай хатцы», якая мясцілася ў Брукліне, а потым на Манхэтэне. Крыху пазней, увосень таго ж года, як плён гэтых сустрэчаў утварылася група «Маладняк», якая вяла культурную і спартовую дзейнасць, падтрымоўвала розныя сацыяльныя ініцыятывы беларускае грамады. У шэрагах «Маладняка» з'явілася думка пра стварэнне агульнаамерыканскае арганізацыі беларускае моладзі. Падобныя ідэі ўжо выказваліся кіраўнікамі ***Арганізацыі беларускае моладзі ў Кліўлендзе,*** заснаванай 24 снежня 1950 года. Кліўлендцы выступілі з ініцыятываю склікання агульнага сходу. Гэты сход, у якім удзельнічалі і іншыя групы моладзі, адбыўся 30 снежня 1951 года ў Кліўлендзе. На ім было заснаванае

[102] Бацькаўшчына. Osterhofen. 1947. № 3; 1948. № 14, 39; Беларус. Нью-Ёрк. 1970. № 163, 164; 1971. № 165; 1983. № 311–313.



Удзельнікі Першага з’езда беларускай моладзі ў Кліўлендзе. 1952 г.

***Згуртаванне беларускае моладзі ў Амерыцы (ЗБМА)***[103]. Мэтаю новае арганізацыі было аб’яднанне беларускае моладзі ў Амерыцы, спрыянне захаванню беларускае культурнае і гістарычнае спадчыны, дапамога сябрам у амерыканскім жыцці, а таксама *«выхаванне добрых грамадзянаў, якія ведаюць сваю нацыянальную спадчыну, і інфармаванне пра імкненне беларускага народа да свабоды і незалежнасці»*[104].

Апрача пачатковых аддзелаў ЗБМА ў штатах Агаё і Нью-Ёрк, у 1950-я гады былі заснаваныя аддзелы ў Мічыгане, Нью-Джэрсі і Каліфорніі. За некалькі гадоў колькасць сябраў вырасла амаль да тысячы, найбольш актыўнымі ў рэкрутаванні новых удзельнікаў былі надалей аддзелы ў метрапалітальным рэгіёне Нью-Ёрк — Нью-Джэрсі ды ў Кліўлендзе, штат Агаё.

У 1952 годзе ЗБМА разам з Беларуска-амерыканскім студэнцкім аб’яднаннем пачала выдаваць часопіс «Віці» (1952—1957), на змену якому прыйшоў двухмоўны беларуска-англійскі часопіс «Беларуская Моладзь» (1959—1980), выдаваны пэўны час супольна ЗБМА і Саюзам беларуска-амерыканскае моладзі[105]. Шырокую вядомасць і папулярнасць здабыла танцавальная група «Васілёк», заснаваная ў 1956 годзе ў Нью-Ёрку.

[103] 20 Years of Byelorussian-American Youth Organization: 1950—1970. Cleveland (OH), 1970; Гутарка аўтара з Міколам Заморскім і Васілём Мельяновічам, 1987.

[104] Encyclopedia of Associations... P. 718.

[105] Віці. Нью-Ёрк. 1952—1957; Гутаркі аўтара з Уладзімірам Дунцом, 1976—1977; Архівы АБАМ, Нью-Ёрк.



У 1967 годзе Згуртаванне беларускае моладзі ў Амерыцы змяніла свой назоў на ***Арганізацыя беларуска-амерыканскае моладзі (АБАМ)*** (што было ў пэўнай ступені звязана са зменаю пакаленняў), працягваючы дзейнасць у кірунках, азначаных заснавальнікамі.

З’езды ЗБМА (а пазней АБАМ) склікаліся кожныя два гады, 1 верасня 1990 года адбыўся 23-і з’езд арганізацыі. Пасаду старшыні ў розныя гады займалі: Міхась Тулейка (1951—1954), Міхась Белямук (1954—1955), Юрка Станкевіч (1955—1957), Вячка Станкевіч (1957—1958, 1959—1960, 1961—1963), Міхась Казлякоўскі (1958—1959, 1963—1965), Уладзімір Дунец (1960—1961, 1967—1969), Аўген Лысюк (1965—1967), Уладзімір Страпко (1969—1971), Раіса Станкевіч (1971—1975), Юрка Азарка (1975—1990), д-р Юрка Кіпель (ад 1990)[106].

З цягам часу заснавальнікі арганізацыі сталіся бацькамі і дзядамі, і іх заступілі ў іхнай дзейнасці дзеці і ўнукі.

Маладое пакаленне (другое, трэцяе) амерыканцаў беларускага паходжання і цяпер, на пачатку XXI стагоддзя, гуртуецца вакол беларускіх асяродкаў: ладзяць пікнікі, сяброўскія спартовыя спаборніцтвы, адзначэнні Купалля і інш., хоць арганізацыйныя рамкі і не нагэтулькі выразныя. Сёння ўжываецца першая назва арганізацыі — ЗБМА. Моладзь падтрымоўвае сувязі з аналагічнымі амерыканскімі структурамі — скаўцкімі, студэнцкімі, спартовымі. Найбольш выдатнаю рысаю маладых людзей, якія наведваюць беларускія цэрквы і сходы, ёсць іх заўсёднае зацікаўленне Беларуссю і імкненне больш даведацца пра зямлю сваіх бацькоў. Пакаленне, народжанае ў Амерыцы, паступова пераймае кіраўніцтва арганізацыйным жыццём у беларускіх асяродках. Разам з тым усе яны верныя патрыёты Амерыкі і шмат у чым прыслужыліся сваёй краіне, у тым ліку і на палях бітваў у Карэі, В’етнаме, Кувейце, Афганістане. Бясспрэчна, грамадства імкнецца прышчапіць маладому пакаленню пашану да свае беларускае і амерыканскае спадчыны і ўсведамленне свайго абавязку захавання беларускасці ў Амерыцы разам з прапагандаваннем ідэалаў свабоды і дэмакратыі ў Беларусі[107].

Ад пачатку XXI стагоддзя ЗБМА заўважна павялічылася за кошт новых імігрантаў, якія сталі пераважаць у арганізацыі. Цяпер старшынёй яе з’яўляецца Мікалай Цімашэнка. У апошнія дзесяцігоддзі ЗБМА актыўна супрацоўнічае з Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыяй, бярэ ўдзел у шмат якіх супольных праектах, прапагандуе ідэі беларускага хрысціянскага руху, збірае сродкі для выдавецкіх праектаў БХД, падтрымоўвае Прэмію імя Аркадзя Смоліча і г. д. ЗБМА стала першай з беларускіх арганізацый, што ўвяла ў звычай наведваць кангрэсменаў не толькі з вялікіх нагодаў (25 Сакавіка, Дзень Чарнобыля), але і з іншых падставаў. Так, традыцыйным стала адзначэнне Дня беларускага палітвязня ў Вашынгтоне. Сёння ЗБМА з’яўляецца даволі актыўнай у палітычнай дзейнасці беларускай арганізацыяй у ЗША.

***Саюз беларуска-амерыканскае моладзі (СБАМ).*** Узнікшы як лакальная група ў супрацоўніцтве з Злучаным беларуска-амерыканскім дапамаговым камітэтам

[106] Архівы АБАМ, Нью-Брансвік; Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. Красавік 1998. № 3 (51).

[107] Беларуская Моладзь. Бруклін. 1966. № 24; 1974. № 34, 1978. № 48—49; Архіў БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Гутаркі аўтара з Юркам Азаркам, Віктарам Васілеўскім, Алесяй Кіпель, Нікам Бахарам і іншымі сябрамі АБАМ.

9 ліпеня 1950 года, Саюз беларуска-амерыканскае моладзі пашырыў сваю дзейнасць і заснаваў аддзелы ў Пасейку і Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі, а таксама ў горадзе Нью-Ёрку. Хоць галоўнымі дзялянкамі дзейнасці саюза быў спорт і тэатральныя прадстаўленні, ён часта выступаў з прапагандаю беларускіх ідэй і прадстаўляў беларускую моладзь на міжнародных форумах. Саюз выдаў колькі бюлетэняў і меў сваю старонку ў газеце «Беларуская Трыбуна». У 1960-я гады СБАМ быў сувыдаўцом часопіса «Беларуская Моладзь». Старшынямі арганізацыі ў розныя часы былі Міхась Сенька (1951–1954), Рыгор Арцішэнка (1954–1958), сябрамі кіраўніцтва — Лявон Шурак, Валя Дульская, Сяргей Казакоў ды іншыя[108]. Сёння арганізацыя нядзейная.


Міхась Сенька

***Арганізацыя беларуска-амерыканскае моладзі ў стэйце Ілінойс (АБАМСІ).*** Гэтая арганізацыя была заснаваная ў 1958 годзе, зарэгістраваная ў штаце Ілінойс 5 траўня 1959 года[109]. Яна вяла актыўную інфармацыйна-культурную дзейнасць на лакальным узроўні, удзельнічаючы ў розных этнічных мерапрыемствах Чыкага. Арганізацыя запачаткавала і падтрымоўвала рэгулярную мясцовую радыёпраграму «Нёман», якую вёў Нікодым Жызнеўскі. Пачынальнікамі і кіраўнікамі арганізацыі былі Лявон Сідарэвіч, Анатоль Кучура, Нікодым Жызнеўскі, Вера Рамук ды іншыя[110]. Арганізацыя развязалася.


Нікодым Жызнеўскі

***Скаўцкія арганізацыі.*** Шмат беларускае моладзі мела нагоду азнаёміцца з скаўцкім рухам у паваенныя гады ў Заходняй Еўропе. Таму было зусім лагічна, што, перабраўшыся ў Злучаныя Штаты, моладзь і тут пачала засноўваць беларускія скаўцкія арганізацыі. У Чыкага ў 1951 годзе была створаная спачатку дружына «Пагоня», а потым дружына «Арлы» пад кіраўніцтвам Вацлава Пануцэвіча. Беларуска-амерыканскае задзіночанне было апекуном беларускае скаўцкае арганізацыі ў Брукліне ў 1951–1954 гадах, а кіраўнікамі скаўтаў былі Міхась Тулейка, Язэп Арцюх і Павал Алексы. Беларускія скаўцкія арганізацыі дзеілі таксама ў гарадах Пасейку, Саўт-Рыверы і Нью-Ёрку пад кіраўніцтвам Уладзіміра Пелясы і Анатоля Плескачэўскага. У 1972 годзе беларуская скаўцкая арганізацыя была заснаваная пры царкве Святое Еўфрасінні Полацкае ў Саўт-Рыверы. Кіравалі гэтай арганізацыяй Вітаўт Кіпель, Жорж і Сцяпан Наумчыкі, Сяргей Касцюк і Нік Манцывода[111]. Арганізацыя развязалася.

---

108 Гутаркі аўтара з Міхасём Сенькам, 1988; Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1950. № 2, 3; 1951. № 7; 1953. № 15–16; Бюлетэнь СБАМ. 1954. № 1.

109 Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1959. № 465; 1960. № 511.

110 Каляндар «Радыё Нёман» на 1979 год; Беларус. Нью-Ёрк. 2003. № 480; Беларуская Моладзь. Бруклін. 1960. № 5. С. 12.

111 Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1951. № 5, 7; Царкоўны Сьветач. Саўт-Рывэр. 1954. № 5; Directory of American Organizations of Exiles from USSR. New York (NY), 1952. P. 153–157; Беларус. Нью-Ёрк. 1973. № 195; Беларуская Моладзь. Бруклін. 1973. № 31; 1975. № 39; Рада Кругу. Чыкага. 1951. № 1; Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN),




Скаўт-майстар Вітаўт Кіпель з прадстаўнікамі беларускай моладзі ўручае дырэктару Музея скаўтынгу Амерыкі беларускую «лілею». Восень 1975 г.

Шмат амерыканскіх беларусаў асягнулі вышэйшых ступеняў у амерыканскім скаўтынгу, сярод іх — Леанард Каляда, Альгерд Кажура, Вітаўт Нэстар, Юрка Кіпель, Нік Трусевіч, браты Сокалавы, браты Кіпелі ды колькі іншых. Беларуская мова была ўнесеная ў Банк моваў амерыканскага скаўтынгу[112]. Скаўты беларускага паходжання сям-там выступаюць і цяпер. Вядома, тыя юнакі заўсёды заяўляюць пра сваё беларускае паходжанне, тым больш што нагодаў у скаўцкіх праграмах выказвацца пра «спадчыну» хапае, пра што аўтар гэтае кнігі ведае з ўласнага працяглага досведу працы ў скаўтынгу.

Сп-ня Марыя Станкевіч заснавала дзявочую скаўцкую арганізацыю ў Брукліне, якая дзеіла на пачатку 1950-х гадоў[113].

***Беларускі моладзевы рух Амерыкі*** — плынь беларускіх актывістаў, цалкам эмігрантаў навейшае хвалі (1990–2000-х гадоў), якія ладзяць палітычныя дэманстрацыі ў сувязі з сітуацыяй у сучаснай Беларусі, мітынгі ў дапамогу ахвярам Чарнобыля, супраць мілітарызацыі Беларусі, у падтрымку маладых дэмакратаў, БНФ і інш. Арганізатары руху на Усходзе ЗША: Мікола Цімашэнка, Мікіта Агароднік, Сяржук Сокалаў-Воюш. На палітычныя імпрэзы ў якасці прамоўцаў запрашаюць Зянона Пазняка, Антона Шукелойця, Алеся Шатэрніка і іншых старэйшых дзеячаў. Рух актыўны ў ладжанні мастацкіх выставаў, што былі арганізаваныя ў Нью-Ёрку, Джэрсі-Сіці, Рычвудзе (штат Нью-Джэрсі). Супрацоўнічаюць з музеем

---

112 Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1964. № 627; Беларуская Моладзь. Бруклін. 1973. № 29, 30, 31; 1974–1975. № 36; 1975. № 39; 1975–1976. № 40; Беларус. Нью-Ёрк. 1952. № 9; 1953. № 37, 40, 43; 1973. № 195; Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1951. № 7.

113 Беларус. Нью-Ёрк. 1953. № 37; 1993. № 311.



Дэлегацыя ЗБМА на Кангрэсавых візітах у Вашынгтоне.
У цэнтры стаіць Вітаўт Кіпель, сядзіць старшыня ЗБМА Мікола Цімашэнка. 2014 г.

вядомага расійскага дысідэнта Аляксандра Глэзера Юлія і Алесь Шатэрнікі, Алесь Вінакураў, Арцём Міралевіч. У саборы Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне былі ладжаныя выставы Алеся Марачкіна, Міколы Купавы, Міхала Керпука, Сержа Ардэна і іншых мастакоў[114].

* * *

Завяршаючы агляд арганізацыйнага жыцця моладзі, трэба падкрэсліць, што найбольш дзейнаю і жывучаю засталася Арганізацыя беларуска-амерыканскае моладзі (Згуртаванне беларускай моладзі ў Амерыцы). Сённяшнія сябры яе — другое і трэцяе пакаленні амерыканскіх беларусаў. Перанялі яны ад сваіх папярэднікаў не толькі арганізацыйныя справы, але і любоў да Беларусі ды жаданне дапамагаць краіне іхных бацькоў і дзядоў. Характэрная ўласцівасць гэтых маладых людзей у тым, што яны не хочуць знікнуць у надэтнічнай аднастайнасці, але імкнуцца перахаваць у сваім амерыканскім жыцці выразныя беларускія адзнакі.

Як выглядае, беларуска-амерыканскія моладзевыя арганізацыі дзеяць. У друку бываюць такія паведамленні, што, прыкладам, *«у ладжанні вечарыны, пікніку, брала ўдзел моладзь»*. Невыразна: ці наогул маладыя, ці нейкая арганізацыя. Але сустракаюцца і такія весткі: *«Сябры БАЗА і Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Амэрыцы 17 кастрычніка 2007 года ўзялі ўдзел ва ўкраінскім "Маршы памяці", прысьвечаным 75-й гадавіне Галадамору ва Украіне»*[115]... І далей: *«прадстаўнікі ЗБМА

[114] Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 525; 2008. № 544; 2009. № 554, 555, 560; 2010. № 567; Сурмач, Г. Беларусь бязь межаў. Мінск: Лімарыус, 2013. С. 504–505.
[115] Беларус. Нью-Ёрк. 2007. № 539.



выказваюць сваю падтрымку ўкраінцам»* і г. д. Ёсць паведамленні, што ЗБМА сустракаецца з кангрэсменамі ў Вашынгтоне. У Нью-Ёрку моладзевыя арганізацыі ладзяць дэманстрацыі, пікеты, у якіх бяруць удзел таксама амерыканскія студэнты. У рэпартажы пра такую акцыю адзін з лідараў руху моладзі Мікалай Цімашэнка пісаў: *«Дэманстранты зьвярнуліся да амэрыканскіх ўладаў, заклікаўшы іх не прызнаваць рэжым Лукашэнкі. Са свайго боку, студэнты-пратэстоўцы абавязаліся прыцягваць увагу да праблемаў з дэмакратыяй у Беларусі ва ўнівэрсытэцкіх асяродках»*[116].

У архівах парафіі на *401 Atlantic Avenue* ёсць і іншыя паперы, якія паказваюць, што маладое пакаленне эмігрантаў з Беларусі дзеіць, рухаецца. Вось, прыкладам, *«Беларускі Моладзевы Рух Амэрыкі»* — справаздачы з дзейнасці за гады 2007, 2008, 2009. Выдатна аформленая праграмка-лісток «25 Сакавіка 2009 г. Беларускаму Моладзеваму Руху Амэрыкі споўнілася тры гады», подпіс: Аляксандар Вінакураў. Арганізацыя ладзіла выставы, дыскусійныя вечары, лекцыі. Пры яе дапамозе адбылося некалькі выставак мастакоў з Беларусі. У рэпартажы пра адну з іх «Карабель да Беларусі» (выстава ў Нью-Ёрку мастака Яўгена Шатохіна) сп. Зянон Пазняк піша: *«Адчыніў выстаўку кіраўнік усёй выставачнай працы Беларускага Музэю ў Нью-Ёрку Алесь Вінакураў»*. Відаць, пры Моладзевым руху дзейнічаў «перасоўны» музей?

Варта зазначыць, што 8 верасня 2007 года ў Вашынгтоне пры мясцовым гуртку БАЗА быў створаны аддзел Беларускага моладзевага руху, які існаваў да 2011 года. Аддзел узначальвала Наталля Рабава[117].

Каб наладзіць больш цесныя кантакты з маладзейшым пакаленнем, газета «Беларус» надрукавала «Моладзевую бачыну» (красавік 2005), і вось рэакцыя на наватворства газеты:

*Я належу да маладога пакалення беларускіх эмігрантаў. Жывучы тут, намагаюся захаваць беларускую самасць. Маім намаганням, безумоўна, дапамагаюць беларускія сябры, інтэрнэт з беларускамоўнымі старонкамі, але заўсёды хацелася пабачыць у прэсе матэрыялы, прысвечаныя менавіта беларусам майго веку, маім равеснікам. Стаўшыся адзінай беларускамоўнай газетай, якую я тут чытаю, «Беларус» мяне асабліва ўзрадаваў «Моладзевай бачынай», якая была створаная, згодна з заяваю рэдакцыі старонкі, адмыслова для моладзі*[118].

«Беларус» правёў апытанку сярод маладзейшых чытачоў і моладзі па-за абсягам газеты — у Амерыцы і Беларусі. Удзел ўзялі рэспандэнты ва ўзросце ад 16 да 28 гадоў. Адказы былі самыя нечаканыя, але шмат «амерыканцаў» мараць вярнуцца на Бацькаўшчыну. Вось колькі адказаў:

*Юнак, ЗША, 21 год: «Хачу стварыць аб'яднанне беларускай моладзі ў ЗША».*

*Юнак, ЗША, 28 гадоў: «У адрозненне ад Беларусі ЗША — свабоднае ад перажыткаў грамадства, дзе можна добра стартануць, каб забяспечыць свае амбіцыі, тут усё залежыць сябе і крышачку ад шанцавання».*

*Дзяўчына, ЗША, 23 гады: «У Беларусі ўсё падавалася складаным і неажыццявімым. Марыла, але не верыла, што нешта спраўдзіцца. У Амерыцы адчуваецца іншая*

[116] Беларус. Нью-Ёрк. 2008. № 549.
[117] Справаздача Беларускага моладзевага руху Амэрыкі за красавік 2008 — сакавік 2009. Нью-Ёрк.
[118] Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 511.

*атмасфера. Я да нечага імкнуся, і ёсць упэўненасць, што мае пачынанні будуць мець плённае завяршэнне. Да таго ж няма палітычнага ды ідэалагічнага ўціску, можна свабодна выказвацца, працаваць, ствараць планы на будучыню».*

Далей у газеце зазначалася:

*Амаль усе апытаныя выказалі ўпэўненасць, што пераўтварэнне мараў у рэальнасць залежыць ад палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Гэта ў чарговы раз даказвае старажытнагрэцкае выказванне, што як бы чалавек ні спрабаваў схавацца ад палітыкі, яна сама знойдзе яго.*

*Ці бачыце Вы рэальныя шляхі дасягнення Вашай мэты? Так гучала нашае наступнае пытанне. Адказы былі вельмі прадказальнымі. Моладзь, што жыве ў Амерыцы, у пераважнай большасці ўпэўненая ў магчымасці ажыццявіць сваю мару. Адчуваецца іх вялікі аптымізм і датычна змены палітычнай сітуацыі ў Беларусі.*

*Дзяўчына, ЗША, 21 год: «Чым хутчэй Беларусь стане дэмакратычнай краінай, тым хутчэй беларуская моладзь знойдзе шляхі да самарэалізацыі не толькі ў Амерыцы, але і ў Беларусі. Вось гэтага і чакаю, бо для мяне гэта вельмі актуальна»*[119].

Як бачым, маладое пакаленне дзейнае, пра арганізацыі не надта турбуецца. Найперш стаяць штодзённыя жыццёвыя клопаты. Праўда, у Нью-Ёрку амерыканскія маладзёны досыць рэгулярна ладзяць сустрэчы з моладдзю з Беларусі ды з іншымі моладзевымі арганізацыямі[120].

## Студэнцкія і адукацыйныя арганізацыі

Прыпушчальна, што беларусы-імігранты ў амерыканскіх універсітэтах вучыліся здаўна. Напэўна, сярод былых паўстанцаў XIX стагоддзя былі тыя, што, апынуўшыся ў ЗША, сталі грызці навуку, пагатоў і айцец Францішак Дзеружынскі і іншыя святары з Полацкай акадэміі былі блізкія да адукацыйнай сістэмы ЗША. Гэтая тэма вартая адмысловага даследавання.

Першая згадка аб беларускіх студэнтах у Амерыцы, якую знаходзім у друку, сведчыць:

*У пачатку школьнага году Я. Чарапук прыняты да Чыкагскага ўнівэрсытэту, у якім студыюе юрыдычныя і дыплёматычныя навукі. Праз 3 гады мяйсцовая беларуская калёнія будзе мець ужо свайго фаховага беларускага адваката. Па атрыманьні дыплёма адваката гр. Чарапук мае намер яшчэ паехаць у Вашынгтон і прастудыяваць вышэйшы курс дыплёматычных навук. Вялікую ўслугу пэрсанальна гр. Чарапуку аказаў ірландзец Кэнэды, рэктар Амэрыканскага Каледжа Ігната. Магчыма, што і яшчэ некалькі беларусаў паступіць да ўнівэрсітэту*[121].

У паваеннай хвалі беларускае іміграцыі было нямала і студэнтаў, якія перарвалі студыі дзеля вайны або пачалі студыі ў Нямеччыне. Гэтыя студэнты былі арганізаваныя ў Беларускія студэнцкія згуртаванні, якія сягалі каранямі ў Арганізацыю беларускіх студэнтаў Заходняе Еўропы міжваеннага перыяду. З пераездам у Амерыку дзейнасць беларускага студэнцтва ў Заходняй Нямеччыне спынялася, а пачыналася арганізацыйная праца ў Амерыцы. Уладкоўвацца ў амерыканскія каледжы і ўніверсітэты было не так проста: трэба было ведаць англійскую мову і

[119] Беларус. Нью-Ёрк. Жнівень 2005. № 511.

[120] Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 524; 2007. № 539; 2008. № 550.

[121] Змаганьне. № 9. Вільня, 1923. 23 лістапада.



мець грошы для аплаты навукі. Большасць студэнтаў пачалі працаваць. Некаторыя ж пайшлі ў войска, каб, адбыўшы тэрмін, мець магчымасць вучыцца далей. Рэч у тым, што ў Амерыцы ад канца 1940-х гадоў дзейны закон, званы «Джы-Ай Біл», які дае магчымасць былым жаўнерам вучыцца ва ўніверсітэтах пры тым, што навуку аплачвае армія. З гэтага скарыстала і шмат беларусаў. Аднак было нямала і такіх, што патрапілі зарабіць грошай на свае студыі.

***Беларускае студэнцкае таварыства ў Амерыцы*** было заснаванае 27 жніўня 1950 года ў Нью-Ёрку, у 1957 годзе таварыства было перайменаванае ў ***Беларуска-амерыканскае акадэміцкае таварыства (БААТ)***. Яно аб'ядноўвала каля 200 студэнтаў з блізу 50 каледжаў і ўніверсітэтаў, аднак большасць сябраў арганізацыі складалі студэнты з універсітэтаў Нью-Ёрка (Гарадскі, Бруклінскі, Лонг-Айлендскі і Калумбійскі), штатнага ўніверсітэта Ратгерс у Нью-Джэрсі, універсітэтаў горада Чыкага ды штатных універсітэтаў у штаце Агаё. Былі беларускія студэнты і ў Прынстанскім, Гарвардскім і Ейльскім універсітэтах ды ў Вестпойнцкай ваеннай акадэміі. Бываюць і цяпер[122].


Барыс Данілюк

Дзейнасць беларускае студэнцкае арганізацыі канцэнтравалася ў дзвюх сферах: патрэбы студэнцкага жыцця (даставанне стыпендый, праблемы з залікамі і г. д.) ды прапаганда беларускае ідэі навонкі. Студэнцкая арганізацыя ладзіла канферэнцыі ў розных універсітэтах, дзе абмяркоўваліся беларускія праблемы, прыкладам пераклад назову «Беларусь» на англійскую мову, абмен студэнтамі з Беларуссю ды іншыя. Такіх канферэнцый студэнты наладзілі каля дзясятка. Кіраўнікамі беларускага студэнцкага руху ў ЗША былі Васіль Русак, Барыс Данілюк, Пётра Манькоўскі, Кастусь Калоша, Юрка Станкевіч, Анатоль Шурак, Аня Бойчук, Галіна і Коля Бахары, Люда і Ната Русакі, Алеся і Юрка Кіпелі, Галіна Кананчук і інш.

Беларуска-амерыканскае акадэміцкае таварыства дзейнае і цяпер, аднак яно дэцэнтралізаванае. Пры ўніверсітэтах, дзе ёсць ладна беларускіх студэнтаў, — універсітэт Ратгерс, Агайскі ды Нью-Ёркскі ўніверсітэты — дзеяць клубы беларускіх студэнтаў, якія належаць да БААТ[123].

З іншых беларускіх студэнцкіх арганізацый трэба ўспомніць ***Беларуска-амерыканскае студэнцкае аб'яднанне***, якое дзеіла ў Саўт-Рыверы ў 1950-я гады[124].

Гаворачы пра арганізацыі студэнтаў, трэба таксама адзначыць і дзейнасць беларусаў — выпускнікоў розных універсітэтаў, згуртаваных у клубы «алюмнаў», ды працу дапамаговых арганізацый — ***Беларускага школьнага фонду*** і ***Студэнцкага***

[122] Прыкладам, Алена Біберман была аспіранткай Гарвардскага ўніверсітэта (Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 518), Вольга Чарныш — дактаранткай Гарвардскага ўніверсітэта, Таццяна Кулакевіч — штатнага ўніверсітэта Ратгерс, штат Нью-Джэрсі (Organizational Structures of Political Parties in Central and Eastern European Countries. Krakow: Jagiellonian University Press, 2016. С. 485), і такіх прыкладаў багата.

[123] Беларускае Студэнцкае Таварыства ў ЗГА. Інфармацыйны бюлетэнь. Нью-Ёрк. 1951. № 1; Архівы БААТ, Сомерсэт, штат Нью-Джэрсі; Беларус. Нью-Ёрк. 1951. № 6; 1952. № 12; 1953. № 43; 1954. № 50; 1956. № 58; 1957. № 61; 1962. № 73; Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1955. № 269; 1959. № 473; 1960. № 528.

[124] Гутарка аўтара з Лявонам Шураком, Саўт-Рывэр, 1982.

***стыпендыяльнага фонду,*** якія былі дзейныя ў Амерыцы ад 1956 і 1957 гадоў адпаведна[125].


Іван Любачка

***Фонд імя Івана Любачкі.*** Заснаваны ў 1977 годзе, калі прафесар Іван Любачка, выкладчык Індыянскага штатнага ўніверсітэта, пакінуў тастаментам суму грошай, зазначыўшы, што яны мусяць выдавацца студэнтам на беларускія даследаванні, і прызначыўшы распарднікамі фонду дзеячаў Арганізацыі беларуска-амерыканскае моладзі. З таго часу фонд ажыццяўляе праграму дапамогі беларускім студэнтам, зацікаўленым беларусаведнымі даследаваннямі[126]. Арганізацыя дзейная да сёння.


Васіль Стома

***Беларускі культурна-асветны камітэт.*** Камітэт заснаваны ў Гайленд-Парку, штат Нью-Джэрсі, 15 красавіка 1967 года і дзеіў у лучнасці з парафіяй Жыровіцкае Божае Маці (Гайленд-Парк), Беларуска-амерыканскім задзіночаннем і Арганізацыяй беларуска-амерыканскае моладзі. Ягонай галоўнаю мэтаю было падтрымоўваць беларускія дапамаговыя школкі ў Нью-Джэрсі і дапамагаць арганізацыі моладзі ў культурнай дзейнасці. Старшынёю камітэта доўгі час быў Васіль Стома, а ў сувязі з ягонай хваробай апеку над камітэтам пераняў а. Васіль Андраюк[127]. Арганізацыя развязалася.

* * *

У некаторых універсітэтах і каледжах пра Беларусь гавораць і сённяшнія студэнты — амерыканцы беларускага паходжання ці студэнты з Беларусі. Гэтак ва ўніверсітэце Ратгерс (штат Нью-Джэрсі) дзейныя студэнты — браты Сокалавы, сёстры Грышкевіч, Антон Кіпель, Янка Каменеў, у Нью-Ёрку ў Гарадскім універсітэце — Сцяпан Булыга, Каця Юрэвіч, у Філадэльфіі — Кастусь Кастамараў і г. д. Можна казаць, што сёння амерыканцы беларускага паходжання навучаюцца ў дзясятках універсітэтаў і каледжаў ЗША. Шмат дзе гэтыя студэнты рэкламуюць Беларусь — ладзяць дыскусіі, студэнцкія вечары на беларускія этнаграфічныя тэмы (касцюмы, ежа, звычаі), і такія дзеянні апраўдваюць «парасонны» назоў «Беларускія студэнты». У студэнцкім асяроддзі у каледжах і універсітэтах ЗША інфармацыя пра Беларусь дзеіць, ідзе ў амерыканскае грамадства. Фактар, які часта дапамагае амерыканскім студэнтам беларускага паходжання рэпрэзентаваць Беларусь, — тое, што шмат у якіх вышэйшых навучальных установах ЗША бываюць студэнты з Беларусі.

Прыемна сцвярджаць, што беларускія студэнты ў ЗША бяруць удзел і ў палітычным жыцці. Прыкладам, У Вашынгтоне Нямецкі фонд Маршала ў адзначэнне

[125] Беларуская Моладзь. Бруклін. 1978. № 48–49. С. 21; ВААТ. Праграма. 1990. 12 кастр.; Беларус. Нью-Ёрк. 1956. № 57; 1957. № 62; 1986 № 329; Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1959. № 479–450; Папка д-ра Вярбіцкага ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[126] Анаграфы. Gainesville (Fla). 1978–1979. № 2–3. С. 14–15; Беларус. Нью-Ёрк. 1977. № 245; 1978. № 258; 1987. № 341, 345; 1990. № 376; Перапіска аўтара з Раісай Станкевіч, 1989.

[127] Беларус. Нью-Ёрк. 1967. № 122; Гутарка з Васілём Стомам, 1987.



памяці былога кіраўніка фонду Рональда Асмуса выдзяліў прэміі па тэме падтрымкі дэмакратыі ў Беларусі.

*У конкурсе на атрыманне ўзнагародаў бралі ўдзел студэнты амерыканскіх універсітэтаў. Пераможцамі сталі Вікторыя Кук з друкаванай тэмай «Смеласць беларускай рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі», Малгажата Вайтунак з мультымедыйным праектам «Свабода ў Беларусі», Макс Садон — «Парадокс Пушкіна» пра мастака Алеся Пушкіна, Вільям Шнайдэр — «Вайна Лукашэнкі з прэсаю» пра журналіста Андрэя Пачобута.*

*Беларуская студэнтка з амерыканскага ўніверсітэта Надзея Кучура Бэтсан з Гарадзеншчыны атрымала ўзнагароду за вершаваны аўдыяпраект «Змаганне за крошкі дэмакратыі»*[128].

Супрацоўнічаюць студэнты і з газетай «Беларус». Гэтак у ёй быў выдрукаваны рэпартаж «Унук працягвае справу дзеда», дзе ідзе гаворка пра даклад студэнта Джорджа Мэнца, унука вядомага беларускага культурнага дзеяча, знанага ў Чыкага хірурга, а цяпер пенсіянэра д-ра Анатоля Занковіча, на адзначэнні 70-й гадавіне ААН у ратушы горада Вестпорт (штат Канектыкут) 24 кастрычніка 2015 года[129].

У іншым нумары «Беларуса» можна знайсці ўражанні студэнткі, якая нейкі час вучылася ў ЗША:

*Я нарадзілася і жыла ў Наваградку Гарадзенскай вобласці на працягу 15 гадоў. Вясною 2004 года атрымала статус фіналісткі праграмы FLEX-Future Leaders Exchange — амерыканскай праграмы па абмене студэнтамі. У сярэдзіне жніўня таго ж года пачалося абсалютна новае жыццё: пакінуўшы сваіх родных і сяброў, я прыехала ў Сан Антоніа ў Тэхасе. Тут мяне чакала шмат новага і незвычайнага. Мне трэба было прызвычаіцца да новага стылю жыцця, да новай амерыканскай сям'і, знайсці добрых і надзейных сяброў і г. д.*

*Праз некалькі дзён я ад'язджаю назад. Што я магу сказаць? Мая праграма ў ЗША была даволі паспяховаю ў кожным сэнсе. Я лічу, што стала больш самастойнай, больш дарослай, больш упэўненай у сабе. Мой погляд на рэчы таксама змяніўся.*

*...Амерыка змяніла мае погляды на ўсё навокал, але больш за ўсё мне падабаецца змена адносінаў да Беларусі. Я больш чым упэўненая, што буду працягваць рабіць крокі, каб наблізіць светлую будучыню маёй шаноўнай Радзімы. Жыве Беларусь!*[130].

У жыцці беларускага студэнцтва і ў Беларусі, і па-за Беларуссю больш, як у іншых пластах грамадства, назіраецца «глабальнасць» — камунікацыя з цэлым светам, прысутнасць і там, і там — пераменна, хутка. Апошнімі дзесяцігоддзямі назіраецца, што шмат беларускіх студэнтаў бывае па абменных праграмах у ЗША. Іх побыт у гэтай краіне потым праяўляецца і ў Беларусі. Прыкладам, Цэнтр міжкультурнага дыялогу, створаны ў красавіку 2010 года ў Беларусі, абвясціў конкурс «Амерыканская культура: якая яна?». Па выніках першага тура, абвешчаных 28 студзеня 2012 года, пераможцамі былі прызнаныя крыху больш як 20 удзельнікаў. Сярод іх двое студэнтаў з Менска, якія прыязджалі ў Нью-Ёрк на летнія вакацыі на працу па студэнцкай праграме, — Марына Яўсейчык і Раман Карп.

*Марына і Раман прадставілі свае фотаздымкі, якія адлюстроўваюць пабачаныя імі выявы амерыканскага жыцця і фота вядомых мясцінаў у Нью-Ёрку. Нью-ёркскія*

[128] Беларус. Нью-Ёрк. 2011. № 587.

[129] Беларус. Нью-Ёрк. 2015. № 617.

[130] Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 511.

*беларусы добра ведаюць гэтых маладых людзей, якія па прыездзе ў Амерыку адразу прыйшлі ў беларускі асяродак і далучыліся да грамадскага жыцця*[131].

Бываюць і такія студэнцкія весткі:

*7 траўня сёлета ў будынку Капітолія штата Нью-Джэрсі ў горадзе Трэнтане адбылася ўрачыстая цырымонія прыняцця лепшых студэнтаў з блізу 30 універсітэтаў штата Нью-Джэрсі ў Ганаровае эканамічна-бізнэсовае таварыства. Каб быць прынятым у Таварыства, трэба быць рэкамендаваным прафесарам універсітэта, а паводле экзаменацыйных адзнакаў быць у рэгіёне 99,99 з 100 мажлівых!*

*Сябрам таварыства стаўся таксама беларус Аляксандр Бярыла — студэнт эканамічнага факультэта Ратгерскага штатнага ўніверсітэта — былы маладафронтавец, змагар за дэмакратыю ў роднай Гародні*[132].

Трэба падкрэсліць, што беларускія грамадскія і навуковыя арганізацыі ЗША імкнуцца ў меру магчымасцяў дапамагаць беларускім студэнтам. Беларускі інстытут навукі і мастацтва знаёміць навічкоў з амерыканскай навучальнай універсітэцкай сістэмай, часта дае рэкамендацыі, бывае спонсарам у атрыманні стыпендый. А Бруклінскі аддзел БАЗА ў 2015 годзе арганізаваў для беларускіх студэнтаў спецыяльны інфармацыйны сход у галоўным офісе гарадскіх каледжаў для тлумачэння адукацыйнай сістэмы ЗША.

## Жаночыя арганізацыі

Беларускія жанчыны, прыехаўшы ў Злучаныя Штаты ў канцы 1940 — пачатку 1950-х гадоў, адразу пачалі арганізацыйную дзейнасць. Прадстаўніца ад беларусаў выступіла на Кангрэсе ўкраінскіх жанчын у Філадэльфіі, які адбыўся 12—14 лістапада 1948 года, дзе яна агучыла палітычныя мэты беларускіх імігрантаў[133]. Да стварэння асобных жаночых згуртаванняў пры большых арганізацыях існавалі жаночыя аддзелы і секцыі.



Лангіна Брылеўская

***Беларускае жаночае згуртаванне ў Амерыцы*** было заснаванае ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, у 1948 годзе. Яго ўзначаліла Лангіна Брылеўская. Гэтая група стварыла аддзелы ў Каліфорніі і Нью-Ёрку і была сузаснавальнікам Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі ў 1951 годзе[134].

---

[131] Беларус. Нью-Ёрк. 2012. № 589.

[132] Беларус. Нью-Ёрк. 2010. № 569.

[133] Перапіска аўтара з Лангінай Брылеўскай, 1966; Беларус у Амэрыцы. Саўт-Рывэр. 1948. № 2.

[134] Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1951. № 7; 1952. № 9—10.






Абвестка пра Беларускую ялінку, ладжаную Беларускім жаночым згуртаваннем у Дэтройце. 1960 г.

У структуры Беларуска-амерыканскага задзіночання ў 1950 годзе была заснаваная ***жаночая секцыя*** пры аддзеле ў Нью-Ёрку. Пазней аналагічныя секцыі з'явіліся пры аддзелах у штатах Нью-Джэрсі (1951), Мічыган (1951), Каліфорнія (1952), Канектыкут (1952) і ў Чыкага (1953)[135]. На Кангрэсе БАЗА ў 1955 годзе яны аб'ядналіся ў Цэнтральнае жаночае прадстаўніцтва (у 1957 годзе — Галоўнае жаночае прадстаўніцтва, у 1959 годзе — Жаночае згуртаванне). Ад 1957 году Жаночае згуртаванне стала сябрам Нацыянальнай рады жанчын ЗША, што ўваходзіла ў Міжнародную раду жанчын. У розны час кіраўніцамі Жаночага згуртавання былі Марыя Станкевіч, Зіна Станкевіч, Вера Бартуль[136].

У сакавіку 1952 года было заснаванае ***Беларускае жаночае згуртаванне ў Кліўлендзе***[137]. ***Жаночая секцыя*** пры Згуртаванні беларусаў штата Ілінойс была створаная ў 1954 годзе[138].

Жаночыя арганізацыі адыгралі важную ролю ва ўмацаванні інфраструктуры шмат якіх беларускіх грамадаў. Яны ажыццяўлялі сотні праграмаў сацыяльнае дапамогі, падтрымоўвалі дапамаговыя школкі і арганізацыі моладзі ды рабілі значны ўплыў на беларускае грамадскае і арганізацыйнае жыццё. Беларускія жаночыя арганізацыі мелі сталую лучнасць і з амерыканскімі жаночымі групамі.



Яніна Каханоўская

Актывісткамі і кіраўніцамі беларускага жаночага руху ў Злучаных Штатах былі сярод іншых: Лангіна Брылеўская, Наталля Арсеннева, Яніна Каханоўская, Наталля Орса, Ніна Орса, Ганна Акановіч, Марыя Станкевіч, Іна Рытар-Каханоўская, Барбара Вержбаловіч, Галіна Орса, Клаўдзія Каляда-Чэрнік, Нюра Русак, Ксеня Тумаш, Апалонія Савёнак, Ніна Кіт, Валя Шудзейка, Зіна Станкевіч, Еўдакія Жызнеўская, Вера Рамук, Ванда Махнач, Людвіка Бяленіс, Ірэна Пануцэвіч, Вольга Стрэчань, Соня Арцішэнка, Лідзія Даніловіч, Люда Махнюк, Рэня Касцюк, Жэня Цярпіцкая, Ліза Літаровіч, Вольга Запруднік, Надзя Кудасава, Ніна Сільвановіч, Тацяна Кананчук,

---

[135] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Беларус. Нью-Ёрк. 1953. № 39.

[136] Саўка, З. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы... С. 216—219.

[137] Kipel, V. Byelorussian Americans and their communities of Cleveland... P.53.

[138] Бюлетэнь Згуртаваньня Беларусаў у Штаце Ілінойс. 1954. № 1 (4). Падрабязней пра дзейнасць арганізацыі гл.: Саўка, З. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы... С. 219—221.



Вера Бартуль

Марыя Кажура, Валя Яцэвіч, Каця Вініцкая, Юзя Найдзюк, Каця Яцэвіч, Марыйка Войтанка, Зіна Гарошка, Яра Тумаш, Ірэна Каляда-Смірноў, іх падмянілі дзясяткі новых жанчын з цяперашняй хвалі эміграцыі.

У 1980-я беларускія жанчыны ў Злучаных Штатах, а сярод іх прадстаўніцы другога і трэцяга іміграцыйных пакаленняў, заснавалі камітэт матэрыяльнае дапамогі беларусам Беласточчыны. Гэтая група актывістак пад кіраўніцтвам Веры Бартуль, д-ра Алы Рамана, Юлі Андрусышын, Яры Тумаш, Марыі Верабей, Веры Заморскай, Эвы Яраховіч, Ірэны Каляды-Смірноў, Каці Вініцкай, Юззэфы Найдзюк ды іншых запачаткавалі шырокую праграму дапамогі беларусам у патрэбе ва ўсім свеце[139].

Наколькі нам вядома, дзейных беларуска-амерыканскіх жаночых арганізацый сёння няма. Магчыма, арганізацыі жанчын, якія дзеілі ў 1950–1990-я гады, на паперы існуюць і ніколі не былі развязаныя. Але гэта не значыць, што беларускія жанчыны не выступаюць дзейна. Жанчыны працуюць у сястрыцтвах пры беларускіх цэрквах, суполкі жанчын арганізоўваюць беларускія садкі, школкі. Газета «Беларус» пачала друкаваць рубрыку «Жанчыны беларускага замежжа» (праўда, нерэгулярна). Упэўнены, што з’явяцца і новыя беларускія жаночыя арганізацыі.

## Ветэранскія арганізацыі



Франц Кушаль

Гэтыя дапамаговыя арганізацыі пачалі ўзнікаць у Злучаных Штатах на пачатку 1950-х гадоў. Яны пераважна складаліся з беларусаў, якія да Другое сусветнае вайны служылі ў польскім і савецкім войсках, а падчас вайны — у Арміі Андэрса і беларускіх вайсковых фармаваннях. Пазней да ветэранскіх арганізацый далучыліся амерыканскія беларусы, што служылі ў войску ЗША. Генерал Франц Кушаль заснаваў у 1947 годзе ў Заходняй Нямеччыне Аб’яднанне беларускіх ветэранаў і шмат гадоў сам яго ўзначальваў[140].

14 верасня 1964 года ў Пасейку, штат Нью-Джэрсі, было заснаванае ***Беларускае вайсковае аб’яднанне***, якое ў ліпені 1965 года змяніла назоў на ***Саюз амерыканска-беларускіх ветэранаў***[141]. Сярод кіраўнікоў саюза — Андрэй Мінчук, Мікалай Партлезнік (выпускнік Аб’яднанае беларускае вайсковае школы ў Менску ў 1920-я гады), Сымон Жамойда. 27 верасня 1966 года ветэранская арганізацыя была закладзеная ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі. Іншая ветэранская арганізацыя, зарэгістраваная 19 верасня 1973 года ў штаце Нью-Джэрсі, — Згуртаванне беларуска-амерыканскіх ветэранаў у Амерыцы, у ягонае кіраўніцтва ўваходзі-

[139] Беларус. Нью-Ёрк. 1976. № 229; 1978. № 254; 1982. № 300; 1983. № 308–309, 310; 1987. № 339; 2005. № 504; 2006. № 520; 2016. № 624; Ніва. Беласток. 1990. 14 кастр.

[140] Бацькаўшчына. Osterhofen. 1948. № 12; Directory of American Organizations... P. 156; Беларус. Нью-Ёрк. 1987. № 342.

[141] Гутарка аўтара з Андрэем Мінчуком, заснавальнікам арганізацыі. Пасейк, 1981.





Ветэраны ў Нью-Брансвіку. 1972 г.
*Здымак Алега Дубягі*

лі Сяргей Гутырчык, Пётра Кажура, Віктар Дубяга, Лявон Шурак ды іншыя[142]. Групы ветэранаў дзеілі таксама ў Кліўлендзе, Дэтройце, Чыкага і Лос-Анджэлесе. Уплыў ветэранскіх згуртаванняў на беларускае грамадскае жыццё быў не такі вялікі, як іншых арганізацый. Пераважна яны бралі ўдзел у мерапрыемствах, ладжаных амерыканскімі ветэранскімі арганізацыямі, але часам і ў адмысловых беларускіх праграмах[143].

Варта адзначыць, што шмат у якіх мясцовасцях сябры беларускіх арганізацый былі таксама дзейныя ў аналагічных амерыканскіх структурах. Прыкладам, у Саўт-Рыверы кіраўніком вялікай амерыканскай ветэранскай арганізацыі *The American Legion Post 214* і паралельнай — Ветэраны замежных войскаў *(VFW-Post 1451)* у розныя гады быў беларус Лявон Шурак[144].



Капелан а. Ігар Лабацэвіч

Ветэранаў — удзельнікаў Другое сусветнае вайны сярод беларусаў і амерыканцаў сёння не так шмат засталося. Законы прыроды дзейнічаюць. Беларускія ветэранскія арганізацыі ў ЗША зліквідаваліся. Аднак вайскоўшчына ў ЗША жыве, беларусы індывідуальна ёсць часткаю амерыканскага вайсковага штата. Шмат амерыканцаў беларускага паходжання як жаўнеры (ды было і некалькі камандзіраў) бралі ўдзел у аперацыях у Афганістане, Іраку.

[142] Папка ветэранаў у Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[143] Беларус. Нью-Ёрк. 1966. № 114; 1968. № 129; 1977. № 246, 248; 1978. № 254; 1987. № 342; 1988. № 354; 1989. № 365; 2017. № 627; Heritage Review. New Brunswick. 1973. Jan. P. 32; Беларуская думка. 2018. № 79.

[144] Daily Home News. New Brunswick, NJ. Nov. 1, 2017.

Ёсць нашыя землякі, якія служаць і ў нацыянальнай гвардыі ЗША. Прыкладам, прадстаўнік новае хвалі эміграцыі Зміцер Левіт. Былы архівіст айцец Ігар Лабацэвіч служыць сёння капеланам у паветраных войсках ЗША.

### Арганізацыі сацыяльнае і фінансавае дапамогі

Амаль усе беларускія арганізацыі да пэўнае ступені ўдзельнічаюць у праграмах падтрымкі суродзічаў у патрэбе. Першаю зарэгістраванай арганізацыяй быў Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт, галоўнаю мэтаю якога была падтрымка суродзічаў. З цягам часу было заснавана шмат іншых арганізацый падобнага кірунку.

***Беларуска-амерыканская дапамога.*** Гэтая ўстанова была заснаваная 29 верасня 1957 года ў Нью-Ёрку з ініцыятывы Беларуска-амерыканскага задзіночання. Яе мэта — дапамога беларускім імігрантам на Захадзе. Адмысловае фармаванне — Фонд самадапамогі — існавала ў структуры БАЗА яшчэ ад 1949 года, аднак пазней было пастаноўлена стварыць асобную арганізацыю.



Аляксандр Міцкевіч

У кіраўніцтва арганізацыі ўваходзілі Антон Шукелойць, Уладзімір Курыла, Філіп Жук, Аляксандр Міцкевіч, Часлаў Ханяўка, Ніна Спічонак ды іншыя[145].

Арганізацыя з такім назовам спыніла дзейнасць у 1990-я гады. Але дапамога аказваецца, шлюцца пачкі, грошы, медыкаменты і г. д. як беларусам індывідуальна, гэтак і суполкам — школам, цэрквам. Праца вядзецца пераважна сястрыцтвам пры саборы Св. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Брукліне.

***Амерыканска-беларускае таварыства дапамогі.*** Гэтая арганізацыя дзеіла ў Кліўлендзе ў 1960–1970-я гады, кіраваў ёю Аркадзь Сацэвіч. Яна аказвала значную дапамогу беларускім эмігрантам у Заходняй Нямеччыне[146]. Сёння нядзейная.

Пры канцы 1980-х — на пачатку 1990-х узніклі групы сацыяльнае дапамогі, дзейнасць якіх скіраваная на канкрэтныя мэты, такія як дапамога ахвярам Чарнобыльскае катастрофы (фонд пры БАПЦ), беларусам Беласточчыны або новым імігрантам паслягарбачоўскае эры[147].



Мікола Гарошка

***Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага (сёння Беларуская фундацыя Крачэўскага, Belarusian Kreceuski Foundation, Inc.).*** Грамадская арганізацыя, зарэгістраваная ў 1959 годзе. Імя беларускай фундацыі далі ў гонар Пётры Крэчэўскага (1879–1928), які быў першым старшынёй Рады БНР у эміграцыі. У першую Раду дырэктароў фундацыі ўвайшлі Вітаўт Тумаш (старшыня), Антон Адамовіч, Наталля Арсеннева, Янка Запруднік, Віталь Кажан, Кастусь Мерляк, Антон Шукелойць.

[145] Беларус. Нью-Ёрк. 1957. № 60, 61; Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).

[146] Encyclopedia of Associations... P. 718; Гутаркі аўтара з Аркадзем Сацэвічам, Кліўлэнд, 1987.

[147] Гутарка аўтара з Васілём Русаком, 1990; Беларус. Нью-Ёрк. 1990. № 366.



У 1960 годзе фундацыя атрымала сродкі ад Рады БНР на арганізацыю беларускага эміграцыйнага архіва-музея і звязаную з гэтым дзейнасць. Першымі ж ахвярадаўцамі былі *«ананімныя на неазначаны час»* чатыры беларускія маладыя змагары.

У 1964 годзе фундацыя набыла нерухомасць у Нью-Ёрку, што дало магчымасць захоўваць у сваім памяшканні перададзеныя ёй дакументы і рэчы ды весці культурніцкую беларускую працу, найперш дапамагаючы фінансава ў выданні «Запісаў» Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ) ды беларусаведных кніжак аўтараў-эмігрантаў, даючы сваё памяшканне для грамадскіх сходаў, заняткаў дзіцячай школкі, нават для рэпетыцый танцавальнага ансамбля «Васілёк». Частка нерухомасці здаецца ў арэнду, што фінансава забяспечвае патрэбы фундацыі. Старшынямі Фундацыі ў розны час былі д-р Вітаўт Тумаш, Мікола Гарошка, Францішак Бартуль, Сяржук Сокалаў-Воюш, Вячка Станкевіч. Ад 2019 года фундацыю ўзначальвае Галіна Тумаш.

У зборах фундацыі ёсць беларускія эміграцыйныя выданні, пачынаючы ад друкаў часоў Ды-Пі-лагераў, аўтографы Наталлі Арсенневай, Антона Адамовіча, Юркі Віцьбіча ды іншых літаратараў і навукоўцаў, дакументы Рады БНР, Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА), шматлікія фотаздымкі, выдаваныя ў розны час пліткі / кружэлкі, творы выяўленчага мастацтва ды шмат іншага.

Калі ў Беларусі ў канцы 1980-х пачаліся дэмакратычныя змены, Рада дырэктароў фундацыі пашырыла абсягі сваёй дзейнасці: гранты на кніжныя праекты і даследчую дзейнасць змаглі атрымліваць і асобы з Беларусі.



У Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага: Лявон Юрэвіч, Францішак Бартуль (дырэктар), а. Аляксандр Надсан, Томас Бэрд. 1990-я гг.

У 2015 годзе фундацыя атрымала рэгістрацыю як дабрачынная арганізацыя, звольненая ад падаткаў. Архівістам фундацыі сёння з’яўляецца сп-ня Валянціна Трыгубовіч.

***Усходнееўрапейскі фонд (EEF)*** быў заснаваны Фундацыяй Форда ў Нью-Ёрку ў сакавіку 1951 года і найбольш актыўна дзейнічаў у 1950-я. Гэта была не беларуская, а менавіта амерыканская арганізацыя, створаная для вывучэння, разумення і дапамогі стаць карыснымі былым грамадзянам Савецкага Саюза ў новым заходнім грамадстве. Дзеля даследавання вялікае хвалі ўцекачоў з СССР фонд даваў сотні стыпендый, дапамагаў друку, ініцыятывам у галіне культуры. Арганізацыя мела філіялы ў розных буйных гарадах ЗША і супрацоўнічала з прадстаўнікамі паваеннае іміграцыі. Беларускімі дарадчыкамі ў кіраўніцтве фонду былі: у Нью-Ёрку — сп-ня Наталля Арсеннева, у Дэтройце — сп. Юрка Мазура. Арганізацыя дала невялікія датацыі на выданні «Веды» Беларускага (Крывіцкага) навуковага таварыства Пранціша Скарыны, «Запісы» і «Конадні» Беларускага інстытута навукі і мастацтва[148].

***Амерыканска-беларускае культурна-дапамаговае аб’яднанне,*** кароткатрывалая арганізацыя, мэтаю якое была дапамога беларускім інтэлектуалам[149]. Дзеіла да 1965 года.

***Вялікалітоўская (Беларуская) фундацыя імя Льва Сапегі.*** Заснаваная ў 1974 годзе д-рам Янкам і Марыяй Станкевічамі, якія перадалі фундацыі ўсе свае ашчаджэнні. Яе мэта — падтрымоўваць беларусаведныя даследаванні і публікаваць працы Янкі Станкевіча. У 1990 годзе на сродкі фундацыі быў выдадзены «Вялікалітоўска(беларуска)-расейскі слоўнік» Янкі Станкевіча[150]. Фундацыя дзейная.



Янка і Марыя Станкевічы

***Беларускі харытатыўна-адукацыйны фонд.*** Заснаваны Янам і Аліцыяй Пятроўскімі 9 снежня 1976 года ў Гейнсвілі, штат Флорыда. Мэта фонду — дапамога беларусаведным даследаванням і публікацыя матэрыялаў на беларускія тэмы. Фонд выдаў сярод іншага сем тамоў Выбраных твораў Платона і грэцка-беларускі слоўнік[151]. З смерцю пастыра Яна Пятроўскага 19 студзеня 2001 года і ягонае жонкі фонд зліквідаваўся.

***Фонд Адраджэння Беларусі.*** Гэтая беларуска-амерыканская дапамаговая арганізацыя была заснаваная ў 1989–1990 гадах. Мэта арганізацыі — дапамога ўсім творчым сілам, якія прычыняюцца да культурнага і палітычнага адраджэння

[148] EEF (Fund) 3rd Annual Report. New York. 1954. P. 22–23, 63, 70.

[149] Беларуская Думка. Саўт-Рывэр. 1963. № 5. С. 29.

[150] Беларус. Нью-Ёрк. 1975. № 213; Гутарка аўтара з Юркам Станкевічам, 1992.

[151] Анаграфы. Gainesville (Fla). 1977. № 1; Папка Яна Пятроўскага ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Юрэвіч, Л. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. Мінск: Кнігазбор, 2015. С. 420–421.



Беларусі, улучна з стыпендыямі беларускім даследчыкам у Беларусі і на Беласточчыне. У кіраўніцтва фонду ўваходзілі д-р Юрка Кіпель, Алекс Сільвановіч і Віктар Тур[152]. Фонд дзейны. Прынагодная фінансавая дапамога даецца ў Беларусь, а таксама заходнім арганізацыям, якія адсочваюць і аналізуюць сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі ды публікуюць штогадовыя агляды, як, прыкладам, *Freedom House*.




Значок Фонду Адраджэння Беларусі

***Культурна-адукацыйная фундацыя Орса-Рамана (Orsa-Romano Cultural and Education Foundation).*** Сямейная дабрачынная непрыбытковая арганізацыя, што паўстала ў 2001 годзе з ініцыятывы прафесара Нью-Ёркскага ўніверсітэта Алы Орса-Рамана. У Раду дырэктароў увайшлі яе сыны і нявестка. Створаная фундацыя ў гонар бацькоў заснавальніцы — Аляксандра і Наталлі Орсаў, адданых шматгадовых працаўнікоў на ніве беларускай асветы, а таксама яе мужа Фрэнка Рамана *(Frank Romano)*, амерыканскага прафесара, які дзейна далучыўся да беларускіх асветніцкіх і грамадскіх справаў.



Аляксандр і Наталля Орсы

Фундацыя дапамагае ажыццяўленню праектаў, накіраваных на развіццё беларускай мовы, культуры, асветы, у тым ліку выданню кніг на беларускай мове, дыскаў з запісамі фальклорнай музыкі, спрыяе тэхнічнаму забеспячэнню камп’ютарных класаў у Беларусі, падтрымлівае даследаванні ў галіне гісторыі, філалогіі, грамадазнаўства. Беларускія студэнты, што вучацца ў замежжы, могуць атрымаць стыпендыю ад фундацыі або матэрыяльную падтрымку на свае даследаванні, калі яны звязаныя з беларускай гісторыяй, культурай, адукацыяй. Дапамогу могуць мець таксама спевакі, мастакі, артысты, якія выязджаюць за мяжу і пашыраюць у вольным свеце беларускую культуру, веды пра Беларусь.

У якасці прыкладаў дабрачыннасці можна згадаць шматгадовую фінансавую дапамогу Беларускаму гуманітарнаму ліцэю імя Якуба Коласа, летнюю школу для засваення найноўшых методык вывучэння англійскай мовы (2003), турнэ Нацыянальнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў ЗША (2005), творчыя сустрэчы пісьменнікаў, мовазнаўцаў, гісторыкаў у розных гарадах Беларусі, стварэнне камп’ютарнай праграмы праверкі беларускамоўнага правапісу ды выданне «Вялікага слоўніка беларускай мовы» Ф. Піскунова (2012), набыццё тэхнічнага абсталявання для беларускіх даследчыкаў вуснай гісторыі (2012)[153].

***Першая амерыканска-беларуская асацыяцыя «Мост» (The First American Belarusian Association «Bridge»).*** Харытатыўная арганізацыя, заснаваная ў 2011 годзе ў Нью-Ёрку. Старшыня — сп-ня Кацярына Фаронда, якая ў 2013 годзе была ўдзельніцай 6-га З’езда беларусаў свету. У актыве арганізацыі — правядзенне ў

[152] Беларус. Нью-Ёрк. 1990. № 366; 1991. № 377.

[153] Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

2013 годзе дабрачыннай акцыі ў падтрымку беларускіх дзяцей, хворых на рэдкую хваробу фенілкетанурыю. Асацыяцыя мае ўласны сайт http://www.fababridge.com/ і старонку ў *Facebook*.

## Прафесійныя, літаратурныя і навуковыя арганізацыі




Пячатка Аб'яднання беларускіх лекараў на чужыне

***Аб'яднанне беларускіх лекараў на чужыне.*** Гэтае прафесійнае таварыства было заснаванае ў 1947 годзе ў Заходняй Нямеччыне з мэтаю падтрымання кантактаў паміж беларускімі лекарамі на Захадзе і абмену досведам у бюлетэні, прафесійным часопісе ды на перыядычных сходах. У час свайго росквіту арганізацыя налічвала каля 50 сябраў. Каля дзесяці беларускіх лекараў, улучна з заснавальнікам і прэзідэнтам аб'яднання Вітаўтам Тумашам, эмігравалі ў Злучаныя Штаты, дзе арганізацыя праіснавала да 1952 года[154].



ВЕДА VEDA

Часопіс «Веда». 1952 г.
*Здымак з сайта kamunikat.org*

***Беларускае літаратурнае згуртаванне «Шыпшына»*** было заснаванае яшчэ ў Нямеччыне 5 студзеня 1945 года. Пасля таго, як большасць яго сяброў разам з заснавальнікам і старшынёю Юрыем Стукалічам (літаратурны псеўданім — Юрка Віцьбіч) выехалі за акіян, згуртаванне 9 красавіка 1950 года аднавіла сваю дзейнасць у Злучаных Штатах, дзе працягвала выдаваць часопіс «Шыпшына». Спыніла існаванне са смерцю Юрыя Стукаліча ў 1975 годзе[155].

***Крывіцкае (Беларускае) навуковае таварыства Пранціша Скарыны*** было заснаванае ў Рэгенсбургу, Заходняя Нямеччына, у чэрвені 1946 года. Апрача заснавальніка д-ра Янкі Станкевіча ў яго ўваходзілі былыя сябры Беларускага навуковага таварыства ў Вільні, а таксама навукоўцы, што паходзілі з Савецкае Беларусі. Большасць сяброў таварыства выехалі ў Злучаныя Штаты. У 1951 годзе таварыства пачало выдаваць навуковы часопіс «Веда», дзе друкаваліся беларускія гістарычныя і лінгвістычныя даследаванні і матэрыялы. Апрача гэтага, таварыства выдала шэраг кніг і наладзіла

[154] Абежнік Аб'еднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне. Ватэнштэт. Травень 1947. № 1. Апошні выпуск — Патэрсан (Нью-Джэрзі). Сакавік 1952. № 52; Бацькаўшчына. Osterhofen. 1948. № 19.

[155] Беларус. Нью-Ёрк. 1975. № 214; Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1956. № 303; Юрэвіч, Л. Эмігрант Францыск Скарына... С. 71–95.



некалькі навуковых канферэнцый. У 1952 годзе пры таварыстве быў заснаваны Інстытут найноўшае гісторыі Беларусі з мэтаю вывучэння *«гісторыі жывых цяпер пакаленняў беларускага народа»*. Дзейнасць таварыства спынілася са смерцю д-ра Янкі Станкевіча ў 1976 годзе[156].




Лагатып БІНіМа

***Беларускі інстытут навукі і мастацтва (БІНіМ).*** Ідэя заснавання беларускае навуковае арганізацыі, вольнае беларускае акадэміі, абмяркоўвалася інтэлектуаламі ў Нью-Ёрка ў канцы 1940-х гадоў. Ажыццёўленая яна была з заснаваннем 16 снежня 1951 года ў Нью-Ёрку Беларускага інстытута навукі і мастацтва. Мэтаю новае арганізацыі было аб'яднаць навукоўцаў-беларусаведаў, пісьменнікаў, мастакоў ды іншых актыўных працаўнікоў на ніве беларускае культуры. Еўрапейскі аддзел БІНіМа быў адчынены ў Мюнхене ў 1955 годзе, а Канадскі — у Атаве ў 1967 годзе.

Дзейнасць інстытута палягае ў скліканні навуковых пасяджэнняў (іх адбылося больш за 300) ды наладжванні канферэнцый, прысвечаных памятным датам беларускае гісторыі і культуры.

Важнае месца займае выдавецкая дзейнасць БІНіМа. У1953–1969 гадах інстытут выдаваў бюлетэнь «Абежнік», у 1954–1963 — літаратурны часопіс «Конадні», а ад 1952 года — навуковы гадавік «Запісы». Апрача «Запісаў» інстытут працягвае выдаваць кнігі ў серыях «Беларускія паэты і пісьменнікі» і «Бібліяграфічная серыя», а таксама асобныя манаграфіі да гісторыі беларускай эміграцыі. На рахунку БІНіМа каля паўсотні кніг.

Неабходна падкрэсліць, што ўся выдавецкая дзейнасць БІНіМа сёння (кнігі, «Запісы», іншыя інфармацыйныя матэрыялы) ажыццяўляецца новымі кадрамі — Лявонам Юрэвічам, Сяргеем Шупам, Наталляй і Алегам Гардзіенкамі ды таксама




Перыёдыкі Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк): «Абежнік», «Конадні» і «Запісы»

[156] Belorussian Review. Munich. 1956. № 3. P. 158–160; Беларус. Нью-Ёрк. 1978. № 251; Веда. Нью-Ёрк. 1952. Май. С. 158–160; Юрэвіч, Л. Крывіцкае (беларускае) навуковае таварыства Пранціша Скарыны й часопіс «Веда» // Запісы БІНіМ. № 40. Нью-Ёрк — Менск, 2018. С. 541–553.

в. пам. Змітром Саўкам, Лёнем Зубаравым. Без аніякага сумневу, на прыкладзе БІНіМа можна назіраць выдатнае супрацоўніцтва дыяспары і Бацькаўшчыны.

Інстытут наладзіў блізкія рабочыя дачыненні з Нью-Ёркскаю публічнаю бібліятэкаю, і дзякуючы гэтаму бібліятэка мела магчымасць арганізоўваць кніжныя выставы беларускае тэматыкі. Вынікам гэтага супрацоўніцтва сталіся найбагацейшыя ў свеце кніжныя зборы скарыніяны і беларусікі ў заходніх мовах. Хоць цалкам «тэарэтычнае», але ўзаемадзеянне БІНіМа з Нью-Ёркскаю публічнаю бібліятэкаю сёння працягваецца, бо там працуе і шмат дадае да бібліяграфічнага інтэлекту і беларусікі сп. Лявон Юрэвіч.

БІНіМ таксама супрацоўнічае з колькімі дзясяткамі амерыканскіх каледжаў і ўніверсітэтаў: арганізуе канферэнцыі, дапамагае камплектаваць беларускія кнігазборы і беларусаведныя праграмныя матэрыялы.

Кіраўнікамі інстытута былі епіскап Васіль (Тамашчык) (1951–1952), Янка Ліманоўскі (1952–1955), д-р Вітаўт Тумаш (1955–1982), д-р Вітаўт Кіпель (ад 1982)[157]. Сябры ўправы — д-р Вітаўт Тумаш, Антон Адамовіч, Антон Шукелойць, Зора Кіпель, д-р Янка Запруднік, Юры Станкевіч, праф. Томас Бэрд (у 1980-я гады)[158].

Дзейнасць БІНіМа стала на новыя рэйкі ад самага пачатку 1990-х гадоў. Аб супрацоўніцтве з навуковымі ўстановамі Беларусі прадстаўнікі Інстытута дамовіліся на канферэнцыі ў Рыме ў траўні 1990 года. БІНіМ супрацоўніцтва вітаў і бачыў у гэтым вялікі поспех для беларускае культуры і навукі. Фактычна ў Рыме было неафіцыйна амаль дамоўлена, што прадстаўнікі БІНіМа наведаюць Беларусь ды ў меру магчымасці «прыйдуць» з матэрыяльнай дапамогай. Увосень 1990 года, калі сп. Адам Мальдзіс быў у Нью-Ёрку у складзе дэлегацыі БССР на Генеральнай Асамблеі ААН, паміж БІНіМам і «новым» даследчым Цэнтрам імя Ф. Скарыны была падпісаная дамова і наладжаная працоўная сувязь. Своеасаблівай першай ластаўкай супрацоўніцтва стаў Першы міжнародны кангрэс беларусістаў у траўні 1991 года, куды на запрашэнне Цэнтра імя Ф. Скарыны прыехалі сябры БІНіМа Вітаўт і Зора Кіпелі, Янка Запруднік, а таксама Васіль Мельяновіч, а. Аляксандр Надсан і некаторыя іншыя. Гэтае навуковае мерапрыемства стала важнай вехай і ў жыцці «бінімаўцаў», і ў дачыненнях замежных беларусаў з Бацькаўшчынай. Ад таго кангрэса кантакты з Беларуссю і супрацоўніцтва актыўна пашыраліся[159].

Калі ж да БІНіМа ў 1993 годзе далучыліся новапрыбылыя эмігранты — знаныя беларусаведы Алена Юрэвіч, Навум Кацнельсон, Лявон Юрэвіч, Віталь Зайка, Ванкарэм Нікіфаровіч і інш. — распачалася новая, вельмі творчая старонка ў гісторыі БІНіМа і важная для культурнага поступу дзейнасці эміграцыі.

***Усебеларускі архіў.*** Архіў быў заснаваны ў канцы 1940-х гадоў у Заходняй Нямеччыне, а на пачатку 1950-х гадоў з пераездам заснавальніка і дырэктара Міколы

[157] Беларускі Зборнік. Мюнхэн. 1956. № 4. С. 194–196; Запісы БІНіМ. № 3. Нью-Ёрк, 1953. С. 60–61; № 17. Нью-Ёрк, 1983. С. 9–12; Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[158] Падрабязней пра дзейнасць БІНіМа гл.: Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Хронікі БІНіМу: Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў дакументах, лістах і успамінах. Мінск: Кнігазбор, 2017. — 352 с.

[159] Падрабязней пра ўдзел у Кангрэсе гл.: Кіпель, В. Жыць і дзеіць. С. 402–409.



Панькова перанёс сваю дзейнасць у Злучаныя Штаты. Мэта архіва — збор рэдкіх беларускіх матэрыялаў і рукапісаў[160].


Мікола Панькоў

Пры архіве ў лучнасці з БІНіМам і Крывіцкім (Беларускім) навуковым таварыствам Пранціша Скарыны ў канцы 1940 — пачатку 1950-х гадоў дзейла ***Беларуская бібліяграфічная служба***, заснаваная Міколам Паньковым. Плёнам яе дзейнасці быў каштоўны даведнік «Бібліяграфія беларускіх выданняў на чужыне 1945–1950», які выйшаў у Нью-Ёрку ў 1952 годзе.

У 1953 годзе Мікола Панькоў выступіў з ініцыятываю стварэння фонду Вацлава Ластоўскага, аднак далей справа, відаць, не пайшла[161].

Арганізацыі, створаныя Міколам Паньковым, паступова часткова прылучыліся да БІНіМа, а поўнасцю ліквідаваліся, калі памёр іх стваральнік у 1995 годзе.

***Саюз беларускіх журналістаў*** быў заснаваны ў паваеннай Заходняй Нямеччыне, пазней яго галоўная кватэра была перанесеная ў Таронта. У верасні 1952 года быў створаны аддзел саюза ў Злучаных Штатах, які ўзначаліў Мікола Панькоў. Арганізацыя выдавала розныя мемарандумы, палітычныя ўлёткі. У Канадзе выходзіў друкаваны орган саюза — газета «Беларускі Голас»[162]. Дзейнасць спынілася на пачатку 2000-х гадоў.

***Беларускае акадэміцкае каталіцкае таварыства «Рунь»***, асацыяваны сябар *«Pax Romana»* (Міжнароднага каталіцкага руху інтэлектуалаў і дзеячаў культуры з галоўнаю кватэраю ў Фрыбургу, Швейцарыя), было заснаванае ў Лювене (Бельгія) у 1949 годзе. Першым прэзідэнтам таварыства быў Аляксандр Надсан. У сярэдзіне 1950-х гадоў «Рунь» была актыўная ў Злучаных Штатах, дзе яна разам з Беларускаю грэка-каталіцкаю парафіяй у Чыкага арганізоўвала Тыдні беларускіх студый. Кіраўніком арганізацыі ў Злучаных Штатах быў Францішак Бартуль[163]. «Рунь» адноўленая новымі эмігрантамі.


Францішак Бартуль

***Беларуска-амерыканскі навукова-літаратурны клуб.*** Гэтая арганізацыя, закладзеная ў 1960-я гады ў горадзе Троі, штат Нью-Ёрк, прафесарам Уладзімірам Сядурам-Глыбінным, была больш вядомая сваімі кніжнымі выданнямі. Клуб выдаў колькі важных манаграфій д-ра Уладзіміра Сядуры і бібліяграфічныя матэрыялы[164]. Нядзейны пасля смерці заснавальніка ў 1995 годзе.


Уладзімір Сядура

[160] Веда. Нью-Ёрк. 1953. № 1–2. С. 31; Беларус. Нью-Ёрк. 1953. № 27, 28; Запісы БІНіМ. № 1. Нью-Ёрк, 1952. С. 60–61; Бацькаўшчына. Osterhofen. 1948. № 18; Мюнхэн. 1953. № 159; 1963. № 610.

[161] Беларус. Нью-Ёрк. 1953. № 40.

[162] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1952. № 124–125; Беларус. Нью-Ёрк. 1951. № 5; 1952. № 22.

[163] Źnič. Rym. 1956. № 38; Беларус. Нью-Ёрк. 1952. № 21; 1953. № 42.

[164] Гутарка аўтара з Уладзімірам Сядурам, 1972.

***Згуртаванне беларускіх мастакоў і ўмельцаў*** заснаванае ў 1978 годзе. Яго дзейнасць мае лакальны характар і абмяжоўваецца пераважна цэнтральнаю часткаю штата Нью-Джэрсі. Згуртаванне каардынуе розныя культурныя праграмы ў Саўт-Рыверы, а таксама супрацоўнічае з шэрагам каледжаў і ўніверсітэтаў у Нью-Джэрсі і Пенсільваніі, арганізоўвае рэгулярныя выставы твораў мастацтва і ўмельства. У кіраўніцтва згуртавання ўваходзілі Надзя Кудасава, Ірэна Рагалевіч-Дутко, Тамара Кольба, Ліза Літаровіч, Галіна Русак, Валя Рагалевіч і Люда Махнюк[165]. Да нядаўняга часу арганізацыя дзейная пад кіраўніцтвам сп-ні Ірэны Рагалевіч-Дутко (памерла 16.07.2020) і з мноствам новых маладзейшых сяброў.

***Беларуска-амерыканская інфармацыйная служба*** з сядзібаю ў Гановеры, штат Пенсільванія, была закладзеная ў 1984 годзе. Падавала англамоўнаму друку і сродкам масавае інфармацыі матэрыялы пра Беларусь, а таксама даследавала некаторыя беларускія праблемы. У галоўнай кватэры — бібліятэка беларускіх інфармацыйных матэрыялаў. Служба сабрала і выдала друкам шырокі агляд патрабаванняў аб адкрыцці беларускіх перадачаў «Голасу Амерыкі», а таксама выпусціла адзін нумар бюлетэня *«Bielarus News»*. У кіраўніцтва ўваходзілі Васіль і Далорэс Мельяновічы[166]. Спыніла дзейнасць.

***Беларускія бібліятэкі.*** Некаторыя большыя беларуска-амерыканскія арганізацыі заснавалі свае кнігазборы. Сярод самых значных можна назваць бібліятэкі Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Брукліне, Беларускага грамадскага цэнтра «Полацак» у Стронгсвілі (штат Агаё), Беларуска-амерыканскага цэнтра ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі), пры царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку (штат Нью-Джэрсі). Апрача гэтага, зборы даследчых матэрыялаў былі ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва і ў Беларускім харытатыўна-адукацыйным фондзе[167]. Сёння БАЗА аднавіла бібліятэку ў Брукліне.

З пералічаных мастацка-культурных і адукацыйных арганізацый некаторыя, як мастацкі клуб у Саўт-Рыверы, вельмі дзейныя, некаторыя — «спячыя», а іншыя развязаліся. Аднак беларускія бібліятэкі дзейныя, прадаўжаюць збіраць кнігі (Кліўленд, Нью-Ёрк, Гайленд-Парк) ды адыгрываюць важную ролю ў пераховванні і падтрыманні беларускай культуры ў ЗША[168].

***Паўночнаамерыканская асацыяцыя беларускіх даследаванняў (The North American Association for Belarusian Studies — NAABS).*** Арганізацыя акадэмічнага профілю, навуковае таварыства, якое аб'ядноўвае даследчыкаў беларусікі. Існуе паралельна ці ў супольнасці з ранейшай Амерыканскай асацыяцыяй даследавання славістыкі (*The American Association for the Advancement of Slavic Studies*), што цяпер існуе як Асацыяцыя славянскіх, усходнееўрапейскіх і еўразійскіх даследаванняў (*Association for Slavic, East European, and Eurasian Studies — ASEEES*). Сябрамі *NAABS* могуць быць усе, хто займаецца вывучэннем беларускай мовы, літаратуры, гісторыі і г. д. Арганізацыя мае свой бюлетэнь *«Naviny. The Newsletter of The North American Association for Belarusian Studies (NAABS)»*, што выходзіць двойчы на год. Сходы асацыяцыі адбываюцца ў часе гадавых сходаў *ASEEES*. Паўночнаамерыканская асацыяцыя беларускіх даследаванняў рэгулярна (апошнім часам у супрацы з Міжнародным кангрэсам даследчыкаў Беларусі) прысуджае прэмію імя Зоры Кіпель за найлепшыя даследаванні ў галіне гуманітарных навук. Арганізацыя трымае лучнасць з амерыканскімі ўніверсітэтамі[169].

[165] Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[166] Belarus News. Upperco (MD). 1984. № 1.

[167] Папка «Бібліятэкі» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[168] Мерляк, К. Беларускія бібліятэкі і цэрквы на эміграцыі // Юрэвіч, Л. Эміграцыт Францыск Скарына... С. 377–385.



***Беларускі інстытут Амерыкі (Belarusian Institute of America).*** Заснаваная ў 2015 годзе былымі сябрамі БАЗА арганізацыя, якая мае сярод сваіх мэтаў развіццё і падтрымку даследчых і грамадскіх ініцыятыў дзеля пашырэння ведаў пра Беларусь у ЗША і свеце. Інстытут імкнецца ствараць магчымасці для ўзаемадзеяння навуковых і культурніцкіх арганізацый Беларусі і Злучаных Штатаў, падтрымоўвае мерапрыемствы і абмены. Сярод іншага БІА стаў адным з партнёраў у правядзенні Міжнародных кангрэсаў даследчыкаў Беларусі і Вашынгтонскай канферэнцыі па Беларусі, выданні навуковага часопіса *«Belarusian Political Science Review»* і іншых праектах. Інфармацыя пра Інстытут размяшчаецца на інтэрнэт-рэсурсе *http://belarusianinstitute.org.*

## Палітычныя партыі і арганізацыі

На пачатку і ў сярэдзіне 1950-х гадоў беларускія іміграніты вялі і палітычна-партыйную дзейнасць, засноўваючы групы з рознымі палітычнымі платформамі і арганізаваным сяброўствам. Гэта была спадчына іхнае еўрапейскае палітычнае традыцыі, што, як паказаў час, не мела ніякага практычнага значэння ў Амерыцы.

Існавалі *Беларуская незалежніцкая партыя, Беларуская народная партыя, Усекрывіцкая дэмакратычная незалежніцкая злучнасць* і *Беларуская сялянска-работніцкая грамада вызвалення Беларусі*, кожная з якіх налічвала пэўную колькасць актывістаў у Злучаных Штатах, але яны не мелі ніякага рэальнага ўплыву на беларуска-амерыканскую грамаду[170].


Аўген Каханоўскі

Адзіная палітычная партыя, якая была да пэўнай ступені дзейная, — ***Аб'яднанне беларускіх нацыянал-дэмакратаў.*** Гэтая партыя, заснаваная ў Заходняй Нямеччыне пасля Другое сусветнае вайны, абвясціла сябе прадаўжальніцаю палітычных традыцый беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі 1920–1930-х гадоў, так званых нацыянал-дэмакратаў. Адбылося некалькі партыйных сходаў, на якіх абмяркоўваліся беларускія палітычныя пытанні. Было выдадзена некалькі нумароў бюлетэня «Абежнік Цэнтральнага Камітэту Аб'яднання беларускіх нацыянал-дэмакратаў». У кіраўніцтва партыі ўваходзілі Аўген Каханоўскі, Лявон Савёнак, Іван Канарчук ды іншыя[171].

[169] Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 504; Беларускі дайджэст. Grand Rapids. № 5 (88). Травень 2001.

[170] Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN)

[171] Абежнік ЦК АБНД. Кліўлэнд. 1953. № 1; Гутаркі аўтара з Лявонам Савёнкам і Іванам Канарчуком, 1972, Голас Царквы. Бруклін. 1974. № 41.

Аднак усе беларускія палітычныя партыі перасталі існаваць у канцы 1950-х гадоў, калі было ўсвядомлена, што гэтая форма палітычнае дзейнасці не мае ў Амерыцы практычнага значэння. З іншага боку, пачалі фармавацца і актыўна дзеіць шматлікія арганізацыі, якія базаваліся на палітычнай платформе галоўных амерыканскіх палітычных партый — Дэмакратычнае або Рэспубліканскае.

***Рада Беларускае Народнае Рэспублікі***, дакладна кажучы, не ёсць ні палітычнай арганізацыяй, ні партыяй, ні ўрадам на выгнанні, хоць у 1919–1920 гадах яна выязджала з Беларусі менавіта як экзільны ўрад. Гэта ідэалагічная асамблея, сімвалічны працяг Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, абвешчанае ў Менску 25 сакавіка 1918 года. Да 1970 года яе галоўная кватэра месцілася ў Парыжы, пасля ў Канадзе, з 1983 года ў Злучаных Штатах, а з 1997 года зноў у Канадзе. Першапачаткова Рада складалася прыблізна з 200 чалавек, сёння ж у яе склад ўваходзяць каля 80 радных з усяго свету[172]. У розных краінах, прыкладам у Аўстраліі, Вялікабрытаніі, ЗША, Канадзе, былі створаныя сектары Рады БНР. Рада дзеіць як установа, якая правяшчае ідэалы Беларускае Народнае Рэспублікі і падтрымоўвае палітыку, выпрацаваную заснавальнікамі беларускае дзяржавы. Дзейнасць Рады складаецца пераважна з інфармавання амерыканскіх і сусветных палітыкаў (сенатараў, кангрэсменаў, супрацоўнікаў ААН) пра палітычную сітуацыю ў Беларусі, а таксама з выказвання поглядаў беларускае дэмакратычнае грамадскасці на такія праблемы, як чарнобыльская трагедыя, палітыка русіфікацыі ў Беларусі і г. д. Рада абмяркоўвае сваю дзейнасць на рэгулярных сесіях і выдае свой бюлетэнь. Старшынямі Рады былі Мікола Абрамчык (1947–1970), д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1970–1983), д-р Язэп Сажыч (1983–1997), Івонка Сурвілла (ад 1997)[173].

У 1997 годзе на старшыню Рады БНР была абраная сп-ня Івонка Сурвілла — народжаная ў Беларусі канадская грамадзянка. Яна атрымоўвала асвету ў Заходняй Еўропе, у Сарбоне, з спецыялізацыяй у мовах і літаратуры. Працоўную кар'еру амаль цалкам зрабіла ў Канадзе на розных дзяржаўных пасадах, выйшла на пенсію з пасады загадчыка Урадавага бюро перакладчыкаў. На пасадзе старшыні Рады БНР выдатна аднавіла ды ўзмоцніла дыпламатычную дзейнасць, найперш і найбольш дзякуючы дасюлешнім сувязям з рознымі ўрадамі і чыноўнікамі, а таксама веданню заходніх людзей, французскай, гішпанскай ды, вядомая рэч, англійскай і славянскіх моваў. Спадарыня Сурвілла — часты госць у ЗША, дзе таксама адбываюцца пасяджэнні розных аддзелаў Рады БНР. Сёння ў склад радных уваходзяць амаль выключна новыя імігранты, а дзеячы, як Вячаслаў Бортнік, Алесь Кот, Сяргей Навумчык, Мікола Пачкаеў, Алеся Сёмуха, займаюць кіруючыя пасады ў Радзе і плённа супрацоўнічаюць з старымі раднымі, як Вячка Станкевіч, Івонка Сурвілла і іншыя.



Пячатка Рады БНР

Дзейнасць Рады БНР на цяперашні час досыць актыўная, але, што найбольш трэба падкрэсліць, і сённяшняя, і мінулая эміграцыйная дзейнасць БНР узышла на працоўны варштат у шырокіх колах даследчыкаў, палітыкаў,

[172] Лік 200 радных быў пададзены аўтару шматгадовым скарбнікам БНР Віталём Кажаном і можна лічыць актуальным на канец XX стагоддзя. Звесткі пра колькасць у 80 радных падаў у сваім лісце да аўтара кнігі ад 03.03.2020 сакратар Рады БНР Вячаслаў Бортнік.

[173] Byelorussian Statehood... P. 363–367.



прыхільнікаў руху БНР дзякуючы аналітычнай працы маладзейшых даследчыкаў з Беларусі і ЗША: сп. Сяргея Шупы («Архівы БНР»: Т. 1. Кн. 1–2. Вільня — Нью Ёрк — Менск — Прага, 1998. 1721 с.) ды сп-ні Наталлі Гардзіенкі і сп-ра Лявона Юрэвіча («Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы»: Менск, 2013. 641 с.), «Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы» (Менск, 2014. 299 с.; «Рада БНР (1982–1997): Падзеі. Дакументы. Асобы»: Менск, 2015. 222 с.). Апрацаванае імі новае даследаванне (падрабязней да гэтага вернемся) відавочна дыскутуецца ў шмат якіх навуковых установах, палітычных кабінетах, гістарычных семінарах.

Пры Радзе БНР, як і раней, дзеюць дапамаговыя ўгрупаванні-арганізацыі, як, прыкладам, Фонд 25 Сакавіка. Рада БНР у дыяспары на сёння ёсць вышэйшае палітычнае прадстаўніцтва беларускага дзяржаўніцкага нацыянальна-дэмакратычнага руху і выяўляе пэўную актыўнасць праз удзел яе кіраўніцтва ў якасці гасцей у розных еўрапейскіх форумах, прывітанні ад імя старшыні Рады і інш. Адной з найбольш гучных ініцыятыў Рады БНР апошніх гадоў стала ўзнагароджанне юбілейнымі медалямі да 100-годдзя БНР розных беларускіх і замежных дзеячаў. У ліку ганараваных апынуліся сярод іншых прадстаўнікі беларускай дыяспары ў ЗША ды розныя амерыканскія дыпламаты і іншыя сімпатыкі беларусаў[174].


Уручэнне медаля да 100-годдзя БНР сакратаром Рады БНР Вячаславам Бортнікам кангрэсмену Крысу Сміту. Вашынгтон, 1 траўня 2019 г.

Фонд 25 Сакавіка — дапамаговая арганізацыя пры Радзе БНР. Мэта фонду — збіраць фінансавую падтрымку для арганізацый, дзейнасць якіх базуецца на ідэалагічных прынцыпах Беларускае Народнае Рэспублікі. Прадстаўнікі фонду ёсць практычна ва ўсіх беларускіх асяродках. Пасля смерці доўгагадовага скарбніка Рады БНР Віталя Кажана (1916–2004) фондам адмініструе С. Пятровіч.

[174] https://www.svaboda.org/a/29842342.html.



Першы прэзідэнт БЦР Радаслаў Астроўскі

***Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР)*** лічыла сябе прадаўжальніцаю Беларускага ўрада (1943—1944) пад нямецкай акупацыяй Беларусі. Узначальваў яе Радаслаў Астроўскі, пасля яго Нікандр Мядзейка (абодва жылі ў ЗША) і Міхась Зуй (жыў у Аўстраліі). Дзейнасць гэтае арганізацыі ў апошнія гады яе існавання была вельмі абмежаваная і палягала перадусім у выданні мемарандумаў і высыланні віншаванняў з розных святочных нагодаў[175]. Сп. Міхась Зуй памёр 24 красавіка 1995 года.

Для зацікаўленых, гісторыкаў і іншых даследчыкаў варта дадаць, што апошняя спроба аб'яднання БЦР і Рады БНР была зробленая на спецыяльным пасяджэнні прадстаўнікоў абодвух бакоў у 1996 годзе ў гатэлі «Хаят-Рыджэнсі» ў горадзе Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі. Пастаўленая мэта не была дасягнутая, а БЦР фактычна спыніла сваё існаванне[176].



Аляксандр Русак

Блізкія да БЦР пазіцыі займала ***Беларускае цэнтральнае прадстаўніцтва***, узначаленае Аляксандрам Русаком, — кароткатрывалая арганізацыя сярэдзіны 1950-х гадоў[177].

***Беларускі нацыянальны фонд***. Гэтая ўстанова была запачаткаваная 2 верасня 1952 года з мэтаю збірання фінансавае дапамогі на дзейнасць арганізацый, звязаных з БЦР. Ад 1970-х гадоў актыўнае дзейнасці не заўважаецца[178], арганізацыя зліквідавалася.

***Амерыканскія сябры Беларускае Цэнтральнае Рады***. Арганізацыя была заснавана ў 1958 годзе з мэтаю падтрымкі дзейнасці БЦР. Мела вузкае кола прыхільнікаў, спыніла існаванне са смерцю заснавальніка Эмануіла Ясюка ў 1977 годзе[179].

Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР) як дзяржаўны орган у Беларусі ў часе нямецкае акупацыі (1943—1944), а на эміграцыі як адна з палітычных арганізацый дый аднадумныя з БЦР іншыя арганізацыі спынілі сваю дзейнасць у ЗША і дыяспары наогул у 1995 годзе, калі памёр апошні прэзідэнт Міхась Зуй (1909—1995). Праўда, сп. Зуй выдаў перад смерцю пару дакументаў, паводле якіх БЦР магла б працягваць дзейнасць, аднак асобы, прыхільныя да БЦР, як Віталь Цярпіцкі, Расціслаў Завістовіч (абодва ў ЗША), ніякіх крокаў у кірунку прадаўжэння дзейнасці БЦР не зрабілі, і арганізацыя памерла. Бясспрэчна, БЦР адыграла пазітыўную ролю у гісторыі Беларусі. Пачатак БЦР, аналіз ейнае дзейнасці як у Беларусі, гэтак і на эміграцыі (у дэталях — у ЗША) выдатна зроблены гісторыкам Алегам Гардзіенкам у Менску у манаграфіі «Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): Стварэнне, дзейнасць, заняпад (1943—1995)»

[175] Архівы БЦР, Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі.
[176] Гардзіенка, А. Беларуская Цэнтральная Рада... С. 285.
[177] Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).
[178] Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1953. № 15—16; Беларускае Слова. Саўт-Рывэр. 1955. № 24.
[179] Беларус. Нью-Ёрк. 1978. № 250; 2009. № 556; Гутаркі аўтара з Эмануілам Ясюком, 1976.



(Менск, 2016. 418 с.). Да кнігі аўтар гэтага тэксту і ягоны сябра гісторык д-р Янка Запруднік напісалі прадмову, некаторыя месцы з якой варта зацытаваць:

*У кнізе Алега Гардзіенкі шмат новага... Вялікая частка працы прысвечаная агляду і ацэнцы дзейнасці БЦР на эміграцыі. Гэтая частка кнігі цалкам новая ў нашай гістарыяграфіі ды важная для гісторыі БЦР, гэтак і ўсяе беларускае эміграцыі... Азнаямленне з грунтоўнай і патрэбнай працай Алега Гардзіенкі паказвае, што дзейнасць БЦР была чародным этапам супрацоўніцтва ў гістарычным ланцугу акупацыяў Беларусі...*

*На беларускім могільніку ў Саўт-Рыверы ў штаце Нью-Джэрсі (ЗША) на помніку Радаславу Астроўскаму выгравіяваны надпіс: «Прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады — Беларускай Народнай Рэспублікі». Такім чынам, у аналы гісторыі Беларусі БЦР уваходзіць як праца, змаганне нацыянальнага актыву за адраджэнне свае дзяржаўнасці — Беларускае Народнае Рэспублікі*[180].



Пячатка БЦР

Цікавым падаецца занатаваны ў кнізе Алега Гардзіенкі амаль невядомы факт, што Радаслаў Астроўскі звярнуўся да Язэпа Варонкі як да *«першага прэм'ера нашага легітымнага ўраду БНР»* аб дапамозе ў ліквідацыі канфлікту паміж эміграцыйнымі БНР і БЦР[181].

Дзейнасць руху БЦР на амерыканскім кантыненце (дый ва ўсёй беларускай дыяспары) — перагорнутая старонка.



Лявон Галяк

***Камітэт незалежнае Беларусі*** быў закладзены ў Нью-Ёрку 29 кастрычніка 1955 года і меўся прадстаўляць беларускія погляды на розныя палітычныя праблемы. Камітэт выдаў шэраг мемарандумаў на англійскай мове, якія датычылі нацыянальных праблемаў у СССР і БССР, стану рэлігіі ў Савецкай Беларусі (у сувязі з візітам у ЗША ў 1956 годзе царкоўнае дэлегацыі з СССР), адсутнасці беларускамоўных праграмаў на радыё «Голас Амерыкі», праблемы палітычных уцекачоў і г. д. У кіраўніцтва камітэта ўваходзілі Юры Сабалеўскі, Лявон Галяк, Мікола Панькоў, Анатоль Плескачэўскі і Лявон Савёнак. Арганізацыя спыніла існаванне ў 1960-я гады[182].

***Аб'яднанне беларускіх вязняў савецкіх канцлагераў*** было заснаванае ў Нью-Ёрку ў снежні 1951 года. У яго ўваходзілі былыя вязні з больш як 20 лагераў Савецкага Саюза, усяго каля 50 чалавек. Імі было надрукавана ў перыёдыцы некалькі артыкулаў-успамінаў. Кіравалі арганізацыяй старшыня Яўхім Кіпель, сакратар Юры Барташэвіч, Пётр Палягошка і інш. Спыніла існаванне ў 1960-я гады[183].

***Беларускі вызвольны фронт*** быў заснаваны ў Заходняй Еўропе на пачатку 1950-х гадоў, але меў актыўнае прадстаўніцтва і ў ЗША. Правяшчаў ідэалы незалежнае

[180] Гардзіенка, А. Беларуская Цэнтральная Рада... С. 7—8.
[181] Гардзіенка, А. Беларуская Цэнтральная Рада... С. 395—397.
[182] Беларускае Слова. Саўт-Рывэр. 1957. № 33; Byelorussian Statehood... P. 349.
[183] Царкоўны Сьветач. Саўт-Рывэр. 1970. № 19; Гутаркі аўтара з Юркам Барташэвічам, 1956; Юрэвіч, Л. Эмігрант Францыск Скарына... С. 504—505.



Яўхім Кіпель




Пячатка Беларускага вызвольнага фронту ў ЗША



Янка Раковіч

беларускае дзяржавы — Беларускае Народнае Рэспублікі, прызнаючы пры гэтым гістарычнае і сімвалічнае значэнне як Першага, гэтак і Другога Усебеларускіх кангрэсаў. Меў аддзелы ў штатах Нью-Джэрсі і Агаё[184]. Дзейнасць спынілася.

***Беларуска-амерыканскі камітэт палітычных дзеянняў*** быў заснаваны ў Нью-Ёрку ў 1976 годзе з мэтаю заахвочвання амерыканскіх беларусаў у іх акцыях і дэмаршах за адкрыццё беларускамоўных перадачаў на «Голасе Амерыкі». Аднак пазней камітэт пашырыў дзейнасць, улучыўшы ў свае акцыі беларусаў з іншых краінаў, і стаў называцца ***Беларускі камітэт палітычных дзеянняў.*** У арганізацыйную групу ўваходзілі Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік, Кастусь Мерляк, Міхась Бахар, Васіль Мельяновіч і Янка Раковіч[185].

***Канферэнцыя вольных беларусаў*** — палітычная арганізацыя з сядзібаю ў Таронта, Канада, была заснаваная ў 1977 годзе. Аддзел у Злучаных Штатах узначальвалі Вітаўт Кіпель і Кастусь Мерляк. Галоўнаю яе мэтаю было звярнуць увагу Арганізацыі Аб'яднаных Нацый на тое, што місія БССР у ААН не прадстаўляе волю беларускага народа і што Савецкая Беларусь — калонія савецка-расійскае імперыі. Канферэнцыя выдала друкам некалькі справаздачаў аб палітычнай сітуацыі ў БССР, падаўшы грунтоўную дакументацыю[186]. Арганізацыя зліквідавалася.

***Беларускія сябры Антыбальшавіцкага блоку народаў.*** Невялікая група беларускіх актывістаў склала беларускую секцыю гэтае міжнароднае арганізацыі, якая ўзнікла як падпольная шматнацыянальная антыкамуністычная структура падчас Другое сусветнае вайны на тэрыторыі Украіны і ў якой ад самага пачатку бралі ўдзел беларусы. У кіраўніцтва групы ўваходзілі д-р Анатоль Плескачэўскі, Уладзімір Пеляса і Міхась Сенька. Дзейнасць арганізацыі была спарадычная[187] і спынілася са смерцю Міхася Сенькі ў 2016 годзе.

Яшчэ адна група, якая запачаткаваная ў Злучаных Штатах і пашырыла сваю дзейнасць на ўсе краіны, дзе жывуць беларусы, — ***Беларуска-амерыканская кааліцыя супрацьдзеяння паклёпам.*** Яна была закладзеная ў рэгіёне Нью-Ёрк — Нью-Джэрсі ў 1982 годзе дзеля супрацьстаяння палітычным нападам на амерыканскіх

[184] Беларус. Нью-Ёрк. 1975. № 217; Незалежная Беларусь. Лянгенфэльд. 1954. № 16–17.
[185] Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).
[186] A resolution with appended documents concerning the decolonization of the USSR. Toronto—New York, 1971, 1978, 1980.
[187] Гутаркі аўтара з Уладзімірам Пелясой, 1980.



беларусаў і беларускі нацыянальны рух у сувязі з выхадам у свет кнігі Джона Лофтуса. Кааліцыя надалей існуе[188]. Кіраўніцтва калектыўнае.

Іншыя беларускія палітычныя арганізацыі ствараліся з пэўнае нагоды для адмысловых мэтаў, як, прыкладам, для падрыхтоўкі і правядзення Дня паняволеных народаў, розных святаў і фестываляў.

Арганізацыі, апісаныя вышэй, мэтай якіх былі напаміны аб сітуацыі з правамі чалавека, выступы супраць паклёпаў, антбальшавіцкія блокі і інш., функцыянальна спынілі сваю дзейнасць пасля распаду імперыі СССР у 1991 годзе. Аднак крокі Расіі, што аднаўляюць старую расійскую палітыку — пашырэнне і захаванне Расійскай імперыі, выклікаюць палітычнае супрацьдзеянне нацый — Украіны, Беларусі і інш. Таму хоць шматлікія арганізацыі супраць імперыялістычнага дзеяння Расіі раней спынілі існаванне, іх выхад на палітычную арэну пад старымновым тытулам «Паняволеныя народы» прадаўжаецца і ўзмацняецца. Штогод у Нью-Ёрку і іншых большых гарадах адбываюцца парады «Паняволеных народаў», шлюцца ў Вашынгтон мемарандумы, пішацца маса артыкулаў пра расійскую экспансіўнасць і падобнае. Зразумела, грамадская думка ЗША ў большасці на баку «Паняволеных народаў». Беларускі голас у гэтым ансамблі добра чутны.

***Фундацыя «Мы помнім».*** Гэта палітычная структура з галоўнай сядзібай у Вашынгтоне, мэта і дзейнасць якой прыпамінаюць Захаду пра палітычныя праблемы сучаснай Беларусі ў сувязі са знікненнем шэрагу палітычных, грамадскіх і бізнесовых апазіцыйных лідараў. Узначальвае фундацыю і праводзіць сусветную беларускую палітычную дзейнасць энергічны і здольны лідар з новай хвалі эміграцыі сп-ня Ірына Красоўская. Яна выступае на розных палітычных, дзяржаўных форумах у дзясятках краінаў Еўропы і Азіі ды мае на сваім рахунку безліч выступаў у амерыканскім Кангрэсе. Дзейны сябра БАЗА і ініцыятар шмат якіх БАЗАўскіх праграмаў.




Ірына Красоўская

Як дапаможная для беларускіх арганізацый, іх палітычных дзеянняў і выступаў у Вашынгтоне ў 2005 годзе была створана *арганізацыя «Погляд»* — амерыканская структура на чале з Генры Джонсанам[189].

Наколькі нам вядома, беларускіх палітычных партый у ЗША сёння няма, але вельмі шмат беларусаў-амерыканцаў салідарызуюцца з палітычнай платформай Кансерватыўна-хрысціянскае партыі БНФ (КХП-БНФ) і Партыі БНФ. Ёсць таксама сябры Беларускае грамадзянскае партыі. Наогул, амерыканцы-беларусы падтрымаюць любую беларускую партыю, якая стаіць на платформе незалежнасці Беларусі ў форме БНР. Падтрымка большасцю беларусаў у ЗША Партыі БНФ тлумачыцца тым, што гэтая партыя вызначылася найбольш нацыянальнымі бела-

[188] Беларус. Нью-Ёрк. 1982. № 301–302; 2009. № 556.
[189] Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 518; 2015. № 614.

рускімі каштоўнасцямі, у ЗША апынулася шмат эмігрантаў — сябраў БНФ, якія актывізуюцца ў палітычнай дзейнасці, сустракаюцца з кангрэсменамі, ладзяць нацыянальныя мітынгі і г. д. Найбольш актыўныя ў ЗША Зянон Пазняк, Сяргей Навумчык, часта прыязджае і служыць айцец Леанід Акаловіч. Бясспрэчна, падтрымоўваюць і салідарызуюцца з БНФ і структуры БАЗА, арганізацыі «Пагоня» і інш. БНФ у ЗША друкуе шмат палітычнай літаратуры, дакументуе падзеі ў Беларусі.



Пасля атрымання палітычнага прытулку Зянонам Пазняком і Сяргеем Навумчыкам. Злева направа: Павел Васілеўскі, Зянон Пазняк, Сяргей Навумчык, Вітаўт Кіпель. Вашынгтон, 1996 г.

Вядомая справа, што ў галіне палітычнай дзейнасці вядучых амерыканска-беларускіх арганізацый ды структур, як БНР, Фундацыя «Мы помнім» і інш., патрэбная таксама і актыўнасць арганізацый, створаных палітычнымі дзеячамі Зянонам Пазняком і Сяргеем Навумчыкам. Гэтыя дзеячы ад 1996 года атрымалі статус палітычных уцекачоў у ЗША, пераважна ў гэтай краіне жывуць і адсюль дзейнічаюць.

Пра залагоджанне фармальнасцяў на атрыманне згаданымі дзеячамі палітычнага прытулку ёсць такія ўспаміны:

*...Я быў іхным [З. Пазняка і С. Навумчыка] перакладчыкам і дапамагаў запаўняць анкеты з заявай. Пасля падання заявы іміграцыйныя ўлады выклікаюць на інтэрвію — і я і з адным, і з другім хадзіў у якасці перакладчыка.*

*Яны падавалі на прытулак у Вашынгтоне, бо там гэта ідзе значна хутчэй. Там задавалі пытанні — чаму вы думаеце выязджаць, яны сказалі чаму: бо ідзе наступ на дэмакратычныя сілы, і калі яны там будуць, то не выключана, што іх заб'юць. Гэта было асноўным аргументам пры атрыманні прытулку.*

*Працэс цягнуўся два тыдні, пасля чаго іх паклікалі ў Аддзел іміграцыі і абвясцілі рашэнне. Але за гэтыя два тыдні я адчуў, што тут існуе трохкутнік: Дзяржаўны дэпартамент, беларуская амбасада і расійскае консульства, якому амерыканскія ўлады паведамілі пра гэтую справу — у тым сэнсе, што яны схільныя даць прытулак, але беларускія ўлады будуць супраць, а Расія і Беларусь саюзнікі. Рускія занялі пазіцыю чакання, не казалі ні так, ні не, а пасля сказалі, што салідарызуюцца з беларускімі ўладамі.*

*Пра гэтую справу шырока паведамлялася ў прэсе, і на абвяшчэнне рашэння аб прытулку ў кангрэсавы будынак прыйшлі больш за сотню журналістаў. Мы прыйшлі туды з Пазняком і Навумчыкам і пачулі рашэнне аб тым, што ім даецца палітычны прытулак у Злучаных Штатах. Была прэс-канферэнцыя, я адказваў па-ангельску, некаторыя пытанні былі па-руску. Карацей, справа была досыць гучная, і гучнай яе зрабілі амерыканцы: Пазняк у іх, яны яго прымаюць, а што скажуць іншыя — іх мала тычыцца.*

*Беларускія ўлады прыслалі ноту, якая была перададзеная кіраўніку аддзелу Украіны, Беларусі і Малдовы ў Дзяржддэпартаменце Сігэлу, што яны супраць гэтага рашэння. Амерыка поўнасцю гэта ігнаравала.*



*Тут трэба сказаць, што калі Пазняк падаў заяву на прытулак, яна пайшла ў іміграцыйнае ведамства, а ў другім ведамстве — па абароне і правах чалавека — мне сказалі: чаму ж вы нам не паведамілі, мы б дапамаглі, але не хвалюйцеся, Пазняк усё атрымае. Але каб прыспешыць гэта ўсё, кліўлендскія беларусы — а Пазняк адразу паехаў у Кліўленд — сказалі, што звернуцца да свайго кангрэсмэна. І сапраўды, кангрэсмэн Гоўк — рэалізоўваючы свае права — заявіў ў іміграцыйным камітэце, што ён хоча, каб Пазняку далі прытулак. У выніку ўсіх гэтых захадаў на працягу 12 дзён прытулак быў дадзены*[190].

І ад таго часу дзейнасць Зянона Пазняка ў значнай меры звязаная з ЗША: ён выступаў на кангрэсавых слуханнях, меў лекцыі ў палітычных структурах ды актыўны ў дзейнасці беларуска-амерыканскіх арганізацый у Нью-Ёрку, Нью-Джэрсі, Агаё. Найбольш выразна актыўнасць Зянона Пазняка і ягоных прыхільнікаў выявілася ў друку ды грамадскіх імпрэзах. Прывядзём тут нататку дзеяча, прысвечаную створанаму ім Беларускаму выдавецкаму таварыству ў Амерыцы:

*«Беларускае выдавецкае таварыства ў Амерыцы» (БВТА) створана ў Нью-Ёрку ў 1997 г. Зянонам Пазняком пры спрыянні БІНІМ і БАЗА як афіляваная арганізацыі пры Беларуска-амерыканскім задзіночанні. Напачатку ў рэдакцыю ўваходзілі тры асобы (Зянон Пазняк, Людміла Колін, Ігар Шаламіцкі). За гэты час БВТА было выдадзена ў Нью-Ёрку некалькі брашур і кніг.*

*На 2016 год выдавецтва працягвае выдаваць кнігі і дзейнічае ў асобе З. Пазняка і некалькіх энтузіястаў, якія дапамагаюць у падрыхтоўцы выданняў (Васіль Пузач, Галіна Палачаніна, Марат Клакоцкі). У 2016 годзе (на жнівень) БВТА выдала дзве кнігі — «Палын-трава» і «Незалежнасць» (аўтарства З. Пазняка).*

*Квартальнік «Беларускія Ведамасьці»*[191] *таксама плануецца выдаваць магчымасцямі БВТА ў Нью-Ёрку і ў Варшаве.*

Варта адзначыць, што аўтарска-выдавецкая дзейнасць Зянона Пазняка даволі значная: налічвае некалькі дзясяткаў кніг, брашураў, памфлетаў. Змест гэтых выданняў дыскутаваўся на шматлікіх грамадскіх сходах ды прэзентацыях кніжных навінак у грамадска-рэлігійным цэнтры ў Брукліне.

З іншых вядучых палітычных лідараў наведваюць ЗША Анатоль Лябедзька, Уладзімір Някляеў, Андрэй Саннікаў, Станіслаў Шушкевіч.

## Беларускія дапаможныя арганізацыі пры амерыканскіх партыях

***Беларускія дэмакратычныя клубы*** дзеяць у дапаможных структурах амерыканскае Дэмакратычнае партыі. Найбольшую актыўнасць яны выяўляюць падчас выбарчых кампаній розных узроўняў: лакальнага, кангрэсавага і прэзідэнцкага. Беларускія дэмакратычныя клубы пачалі ствараца падчас прэзідэнцкае кампаніі 1928 года, калі беларусы падтрымоўвалі кандыдата Альфрэда Сміта. У 1960 годзе беларускія дэмакраты бралі ўдзел у прэзідэнцкай кампаніі Джона Кенэдзі. Клубы былі арганізаваныя ў штатах Мічыган, Нью-Ёрк і Нью-Джэрсі. Асабліва актыўны быў клуб у Саўт-Рыверы, узначальваны ягоным заснавальнікам і шматгадовым прэзідэнтам Янкам Цупрыкам. Таксама заўважнай дзейнасцю вызначаўся клуб у Дэтройце. Беларускія дэмакратычныя клубы атрымалі прызнанне ў шматлікіх кампаніях, іх дзейнасць багата ўдакументаваная ў штатах Нью-Ёрк, Нью-Джэрсі,

[190] Кіпель, В. Жыць і дзеіць. С. 427–428.

[191] Часопіс «Беларускія Ведамасьці» выходзіў у 1996–2013 гадах у Варшаве. Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 504.

Ілінойс і Мічыган. На чале арганізацыі стаялі Лявон Шурак, Васіль Русак і Лана Цупрык[192]. Клубы дзейныя і сёння. Беларускія прадстаўнікі бралі ўдзел у прэзідэнцкай кампаніі Хілары Клінтан.

***Федэрацыя беларускіх рэспубліканскіх клубаў.*** Удзел амерыканскіх беларусаў у дзейнасці Рэспубліканскае партыі пачаў выяўляцца ў канцы 1950-х гадоў. Першы Беларускі рэспубліканскі клуб быў заснаваны ў Дэтройце ў 1958 годзе[193]. У 1968 годзе была створаная Нацыянальная рэспубліканская федэрацыя этнічных групаў, куды ўвайшлі і беларусы. Яны ж 21–23 траўня 1971 года ўдзельнічалі ў Першай канферэнцыі рэспубліканскіх клубаў у Вашынгтоне, дзе канчаткова аформілася Нацыянальная рэспубліканская рада нацыянальнасцяў (спадчынных групаў) (*National Republican Heritage Groups Council*)[194]. Падчас прэзідэнцкае кампаніі 1972 года ўзнікла кааліцыя пад назовам «Амерыканскія беларусы за перавыбранне прэзідэнта», куды ўвайшлі беларускія прадстаўнікі з штатаў Агаё, Дэлавэр, Ілінойс, Каліфорнія, Канектыкут, Масачусэтс, Мічыган, Мэйн, Мэрыленд, Нью-Джэрсі, Нью-Ёрк, Пенсільванія, Вісконсін і Флорыда. Пасля выбараў, 29 лістапада 1972 года, была заснаваная Федэрацыя беларускіх рэспубліканскіх клубаў, якую ўзначаліў Вітаўт Кіпель. Ад 1982 года пасаду старшыні федэрацыі займаў Васіль Мельяновіч, ягонымі рэгіянальнымі заступнікамі былі Янка Раковіч, Язэп Арцюх, Кастусь Мерляк і Міхась Бахар[195]. Цяпер, у 2010–2019 гадах, у Рэспубліканскай партыі дзейныя паасобныя беларусы, а прадстаўніком беларусаў-рэспубліканцаў у арганізацыйных справах выступае сп. Жорж Наумчык.




Здымак дэмакрата Ліндана Джонсана, падпісаны для БАЗА

Арганізацыя сталася актыўнаю дапаможнаю групаю ў Рэспубліканскай партыі, а таксама важным прадстаўніком беларускіх поглядаў у Вашынгтоне. Былі наладжаныя добрыя дачыненні з шматлікімі рэспубліканскімі сенатарамі і кангрэсменамі, беларусы неаднаразова мелі магчымасць выказаць свае палітычныя погляды службоўцам з Дзяржаўнага дэпартамента, былі запрошаныя ў Белы Дом, былі ініцыятарамі наведвання Менска прэзідэнтам Рычардам Ніксанам. Клубы дзейныя і бралі актыўны ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах 2008 і 2012 гадоў.

[192] Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[193] Гутарка аўтара з Васілём Плескачом, заснавальнікам першага Беларускага рэспубліканскага клуба ў Дэтройце, 1975.

[194] Беларус. Нью-Ёрк. 1971. № 167.

[195] National Republican Heritage Groups Federation Archives. Washington (DC); Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Беларус. Нью-Ёрк. 1974. № 202.





Сустрэча з сенатарам Робертам Доўлам. Нью-Ёрк, 1973 г.

Падрабязней пра дзейнасць рэспубліканскіх клубаў можна прачытаць у кнізе ўспамінаў «Жыць і дзеіць»[196].

Пару разважанняў пра беларускі ўдзел у амерыканскіх палітычных партыях, клубах. Дзейнасцю ў палітычных арганізацыях беларусы дасягаюць вельмі шмат. У часе выбараў словы «беларусы», «Беларусь» часта ўжываюцца ў рэкламе: жэтоны, брашуры, календары — па ўсёй краіне. Бясспрэчна, гэта вялікая прапаганда і нашай спадчыны, і краіны, пра якую ў англамоўным свеце вядома вельмі мала. Знаёмства, часам блізкае супрацоўніцтва з сенатарамі, кангрэсменамі дае магчымасць прадставіць беларускія палітычныя ідэалы, дамаганні. Праз партыйныя друкі ўваходзяць у агульны друк інфармацыі пра беларускія святы, як, прыкладам, 25 Сакавіка, Дзень Каліноўскага, угодкі Слуцкага паўстання і інш.[197], ды часта партыйныя спецыялісты карыстаюцца беларускімі дадзенымі. І, безумоўна, партыйная дзейнасць дапамагае атрымоўваць лепшыя пасады. Найчасцей беларусы




Значкі, звязаныя з удзелам беларусаў у прэзідэнцкіх кампаніях рэспубліканцаў

[196] Кіпель, В. Жыць і дзеіць. С. 359–367.

[197] Беларус. Нью-Ёрк. 1970. № 159; 1983. № 312.

ўваходзілі ў розныя адукацыйныя структуры, а таксама ў важную дзяржаўную *Small Buisiness Administration*. У розны час яе сябрамі былі Расціслаў Гарошка, Вітаўт Кіпель, Васіль Мельяновіч, Валянцін Гарошка, Язэп Арцюх і іншыя[198].

## Фінансава-страхавыя арганізацыі

На сёння ў Злучаных Штатах не існуе ніводнае беларускае страхавое арганізацыі, хоць былі спробы стварыць іх у 1950-я гады. На пачатку 1950-х Украінскі рабочы саюз запрасіў беларусаў далучыцца да іхнае арганізацыі і, калі набярэцца дастатковая колькасць беларусаў, стварыць сваю асобную страхавую кампанію. Гэткім чынам 13 лютага 1954 года ў Нью-Ёрку быў заснаваны ***Беларускі страхавы аддзел імя Кастуся Каліноўскага*** ў структуры Украінскага рабочага саюза. Кіраваў ім Уладзімір Пеляса. Аддзел меў філіялы ў Чыкага (штат Ілінойс), Стэмфардзе (штат Канектыкут), Саўт-Рыверы і Пасейку (штат Нью-Джэрсі). Арганізацыя спыніла існаванне ў 1970-я гады[199].

***Беларуска-амерыканская федэральная каапэратыва.*** Крэдытная арганізацыя, заснаваная ў Нью-Ёрку 10 снежня 1957 года, выпусціла свае акцыі. Старшынёю быў Мікола Гарошка. Каапэратыва пражыла нядоўга[200].

Нягледзячы на тое што дагэтуль беларусы не заснавалі свае асобнае страхавое арганізацыі, ідэя аб гэтым жыве надалей, асабліва сярод маладзейшага пакалення. Не выключана, што некалі яна ажыццявіцца. Вядома, што напрыканцы 1990-х гадоў рабіліся спробы заснаваць Беларускую крэдытную кампанію, але фінансы не дазволілі. Па стане на 2020 год беларускіх фінансава-страхавых арганізацый у ЗША не існуе.

## Арганізацыі з бізнесовай арыентацыяй

Хоць гэта і можа разглядацца як азнака слабасці, аднак трэба прызнацца, што беларусаў нельга ахарактарызаваць як актыўных бізнесоўцаў. У аснове гэтага, пэўна, ляжаць гістарычныя ўмовы эканамічнага развіцця Беларусі, у выніку якіх сярод этнічных беларусаў не склалася класа бізнесоўцаў-прадпрымальнікаў.

Разам з тым трэба зазначыць, што з прыездам у Амерыку погляды і псіхалагічныя комплексы беларускіх сялянаў-імігрантаў змяніліся, і яны выявілі сваю ініцыятыву і здольнасць да прадпрымальніцтва.

«Працавалі» і «выяўлялі ініцыятыву» беларускія імігранты, прыкладам, у такіх дзялянках, як нелегальная транспартацыя алкаголю ў краіну. Як вядома, у ЗША ў 1920-я гады дзеіў так званы сухі закон, паводле якога нельга было вырабляць і прадаваць алкагольныя напоі. У выніку квітнелі кантрабанда (увозілі алкаголь з замежжа) і, як «прыватная ініцыятыва», выраб самагону. У гэтых нелегальных справах удзельнічалі і беларускія імігранты. Пра выраб самагонкі ў раёне Лэйквуда ў штаце Нью-Джэрсі аўтар гэтай кнігі ў 1972—1973 гадах шмат даведаўся ад старых імігрантаў Васіля Чатырбока (са Слонімшчыны), Пятра Дзеранка (з-пад Вялейкі) і Паўла Кадзубы (з Меншчыны). Пра удзел беларусаў у кантрабандзе алкаголю выдатна напісана таксама ў кнізе Святаслава Шабовіча «З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў»[201].

А наогул, тэма беларускага бізнесу, беларускага прадпрымальніцтва, таго, што амерыканцы называюць *«self-emloyment»*, патрабуе асобнага даследавання. Упэўнены, што сярод сотняў тысячаў амерыканцаў з беларускімі каранямі ёсць тысячы бізнесоўцаў, індустрыялістаў і інш. Так, сярод імігрантаў, што прыехалі ў Амерыку да Першае сусветнае вайны, колькі дзясяткаў заняліся бізнесам і, як выглядае, мелі поспех. На жаль, гэтыя бізнесоўцы былі маласвядомыя нацыянальна. Часам у друку можна было сустрэць гэткія паведамленні:

*Чыкага, Ілінойс. Чацвёра людзей з Горадні заснавалі «Выраб надзейных батарэяў і пласцінаў». Гэта Піліп Казловіч, Язэп Юшчыц, Іван Амелька і Ігнат Кудач*[202].

*П. А. Казак быў уласнікам вялікай тэкстыльнай фабрыкі ў горадзе Саўт-Рыверы*[203].

*С. Бубешка распачаў свой бізнес і меў поспех*[204].

*М. І. Лазарэвіч з Менскае губерні заняўся бізнесам у вырабе мэблі і меў значны фінансавы поспех*[205].


















Рэклама беларускіх бізнесаў у Чыкага. 1926 г.

[198] Адвакат Валянцін Гарошка супрацоўнічаў з *SBA* найбольш. Гл.: Беларус. Нью-Ёрк. 1971. № 165.

[199] Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1953. № 17; Гутарка аўтара з Уладзімірам Пелясой, арганізатарам аддзелаў, 1987.

[200] Беларус. Нью-Ёрк. 1958. № 63.

[201] Шабовіч, С. З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў. Мінск, 2015. С. 144–146.

[202] Chicago Public Library. Microfilm Archives: Русский Вестник. Нью-Йорк. 1925. 3 сент.

[203] Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1967. 22 сент.

[204] Русский Голос. Нью-Йорк. 1928. 29 янв.

[205] Beresney, T. Русский мужик и водородная бомба: характеристика русского крестьянина и его отношение к войне = The Russian peasant and the hydrogen bomb. New York (NY), 1958. P. 179.

*І. Н. Каўнурка з Лепля Віцебскае губерні, папрацаваўшы нейкі час у розных індустрыях, адкрыў сваю цырульню*[206].

*Беларуская музычная крама (адзіная ў сваім родзе!* —В. К.*) адчынілася ў Нью-Ёрку на адрасе: 134 Іст 7 стрыт*[207].

*Вялікага поспеху дасягнуў Фёдар Зварыка, які меў адзёжнае прадпрыемства ў Браўнсвілі, Нью-Ёрк*[208].

Таксама былі прадпрымальнікі сярод імігрантаў пазнейшых, паваеннае хвалі. Вось прыклад з успамінаў Васіля Кажана:



Віталь Кажан

*У 1954 годзе акрамя фабрычнае працы я пачынаю свой бізнес — маляванне дамоў навонкі і ўнутры. Гэта робіцца пасля фабрыкі, у часе канікулаў ды і ў святочныя дні. Улетку звычайна я меў некалькі работнікаў, часта гэта былі студэнты. Ад 1954 года і да 1984 годы было выканана 570 работ*[209].

Мелі свой бізнес беларусы ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, у Чыкага, штат Ілінойс, у Нью-Ёрку ды іншых гарадах[210]. Шмат хто з беларускіх імігрантаў паваеннае хвалі заснаваў свой малы бізнес і меў поспех. Сярод іх Мікола Заморскі і Мікола Гарошка ў Нью-Ёрку, Язэп Пазняк, Віцька Паланевіч і Лявон Волах у Флорыдзе, браты Лук'янчыкі, Семянчук, Страпко і Мíраеўскі ў Агаё, Сяргей Грамыка ў Канектыкуце, колькі малых крамак і майстэрняў у штаце Нью-Джэрсі — «Алюміневая абшыўка Ігнатовіча і Вішнеўскага» (*«IGWIS»)*, аўтарэмонтная майстэрня «Тры Іваны» ў Пасейку, крама Навіцкага ў Саўт-Рыверы.

Бюлетэнь Галоўнай управы БАЗА ў 1961 годзе сярод іншага паведамляў:

*У Нью-Ёрку існуюць на сяння ўжо аж тры беларускія супалкі нерухомае маёмасці, якія маюць у Вільямсбургу (Бруклін) чатыры вялікія дамы, вартасць якіх перавышае паўмільёна даляраў. Усе гэтыя беларускія супалкі маюць беларускія назовы. Колькі год таму былі зарэгістраваны супалкі «Менск Рэалты Ко» і «Пінск Рэалты Ко», а нядаўна паўстала яшчэ адна «Слуцк Рэалты Ко». Собснікамі гэтых супалак ёсць сябры БАЗА сп.сп. В. Юрцэвіч, Я. Груцько, Я. Дубяга, М. Сільвановіч, М. Заморскі, П. Зыбайла, К. Мерляк і А. Губерт*[211].

Пару словаў пра прадпрымальніцтва Сяргея Грамыкі са штата Канектыкут. Назва ягонага прадпрыемства — «Купляйце добрую патрыманую мэблю». Будучы добрым столярам, Сяргей вырашыў раз-два на месяц, калі амерыканцы выкідалі «хлам», ездзіць па горадзе і выбіраць на ўзбочынах пры дамах тое, што выкідаюць. Гэтую мэблю, назбіраную на вуліцах, Сяргей Грамыка рамантаваў, лакіраваў і г. д. ды ставіў на продаж. Пачыналі яны ўдвух, а цяпер у бізнесе працуюць больш як дзясятак работнікаў[212].

---

[206] Русский Вестник. Нью-Йорк. 1944. № 135.

[207] Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1928. 22 апр.

[208] Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1939. 12 июня; 1959. 29 июля.

[209] Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Рада БНР (1982–1997)... С. 192.

[210] Гутаркі аўтара з Іванам Гучыным у Нью-Ёрку і Макарам Аблажэем у Чыкага, 1960-я гады.

[211] Бюлетэнь Галоўнай Управы БАЗА. Ню-Ёрк, 1961. № 51–52.

[212] З ліста Сяргея Грамыкі да Сымона Жамойды, 1961.



У горадзе Пасейку (Нью-Джэрсі) беларусам і шырокай амерыканскай грамадскасці быў вядомы Сяргей Якімовіч, які працаваў спецыялістам па рамонце электронных прыладаў у вялікай краме *«Sears»*, а таксама меў уласны бізнес па рамонце бытавой тэхнікі[213].




Рэклама будаўнічай фірмы Прускага. Дэтройт, 1960–1970-я гг.

Найбольш папулярныя сярод беларусаў віды бізнесу — будаўнічыя работы, бензінавыя станцыі, выраб мэблі, рамонт дамоў, рэстаранны бізнес, слясарныя майстэрні, рознічны гандаль.

Пэўная колькасць беларусаў занятая і ў медыцынскім бізнесе: партнёры-ўласнікі клінік і медыцынскіх кабінетаў. Большасць беларускіх дактароў жыве ў метрапалітальных рэгіёнах вялікіх гарадоў — у Нью-Ёрку, Чыкага, Філадэльфіі, Лос-Анджэлесе, але шмат хто практыкуе ў прадмесцях і малых мястэчках.

Беларусаў-адвакатаў у параўнанні з лекарамі істотна меней, але некаторыя з іх апошнім часам дасягнулі значных прафесійных поспехаў[214].

Цікавым назіраннем-даследаваннем падзялілася сп-ня Ліза Літаровіч. Яна падлеткам пасялілася ў Саўт-Рыверы, закончыла там сярэднюю школу, здабыла тэхнічную адукацыю. Яе цікавіў лёс тых, з кім яна вучылася, — выпускнікоў-аднакласнікаў, што амаль на 100 адсоткаў былі амерыканцамі ў першым пакаленні з беларускімі каранямі. У Саўт-Рыверы выйшла кніга, прысвечаная выпускнікам мясцовай сярэдняй школы 1919–2013 гадоў[215], якую сп-ня Ліза Літаровіч прааналізавала. У гэтай кнізе яна пазначыла 80 асобаў, народжаных амерыканцамі, якія нечым выяўлялі сваё беларускае паходжанне. Сярод іх можна вызначыць прадстаўнікоў наступных прафесійных катэгорый: 2 асобы сталі мэрамі горада; 2 — працавалі ў паліцыі (адзін з іх камендант сп. Сыракваш); 14 — мелі свае бізнесы: крамы, майстэрні, фабрыкі, шапікі; 2 — настаўнікі, а сп. Алекс Вайцяховіч — зорка амерыканскага футбола (пляменнік сп-ні Лангіны Брылеўскай). Вось гэтак беларусы маюць скарб у інтэлектуальным вымярэнні за кароткі час і толькі з ліку 80 асобаў у адным горадзе. Як вядома з друку, падобная з'ява характэрная і для горада Су-Сіці, штат Аёва[216]. А беларусаў жа пасялілася ў ЗША больш як паўмільёна ў сотнях гарадоў, мястэчкаў, селішчаў. Безумоўна, спадчына беларуская ў ЗША патрабуе, чакае адмысловага даследавання.

Паводле нашых назіранняў, сярод эмігрантаў новай хвалі ахвоты, каб пачаць свой бізнес больш, чым было ў землякоў паваеннае хвалі. Пры гэтым, што цікава,

---

[213] Кіпель, З. Дні аднаго жыцця. Мінск, 2010. С. 499.

[214] Гутаркі аўтара з супрацоўнікамі Агенцтва малога бізнесу, 1972; Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[215] South River High School Alumni Directory. South River (NJ), 2013. — 223 p.

[216] Бусько, Г. Жизнь русских выходцев в Су-Сити // Русский Голос. Нью-Йорк. 1956. 27 авг.; Он же. Жизнь русских в Су-Сити // Новый Мир. Нью-Йорк. 1926. 11 сент.

асобы, якія з'яўляюцца ўласнікамі ці пачынальнікамі нейкага бізнесу, трымаюцца бліжэй да беларускіх грамадскіх арганізацый, цэркваў.

Вось пару прыкладаў імігрантаў з бізнесовай арыентацыяй. Аповед Адама Акуліча:

*Прыляцелі мы з жонкай у Нью-Ёрк у 1979 годзе. Сказаць, што першыя месяцы жыцця ў ЗША былі цяжкаватыя — гэта не будзе «адлюстраваннем» тагачаснага існавання, неабходна прыпомніць дэталі і агульны фон.*

*Калі мы прызямліліся, у нас у кішэні было 20 даляраў і пару тэлефонаў сяброў, якія некалі выехалі ў Амерыку. У першы ж вечар я патэлефанаваў (вечарам тэлефон таннейшы) некалішняму добраму знаёмаму Аляксею Домшыцу, былому галоўнаму мастаку Ленінградскага тэатра камедыі. Маё шчасце — Аляксей быў пад «старым» (тым самым) нумарам тэлефону. Назаўтра мы сустрэліся, Аляксей пазычыў з дзясятак даляраў і дапамог знайсці жытло. На вулічных сметніках я «сабраў» абсталяванне-мэбліроўку: канапу, матрас, стол, пару крэслаў ды нават каляровы тэлевізар фірмы «Сыльванія». Праз тыдзень я працаваў грузчыкам на прадуктовым складзе. Жонцы, яна была яўрэйка, яўрэйская арганізацыя запрапанавала працу на фабрыцы з аплатай тры даляры за гадзіну. «Жыццё» неяк пачыналася — зараблялі, мелі памяшканне, шукалі лепшае працы, расшуквалі «старых» сяброў.*

*Праз тэлефон я знайшоў маю добрую знаёмую Ліду Кайфман, былую акторку ўкраінскага тэатру. Ліда ў тым часе працавала на радыё «Свабода», і яна парадзіла мне звярнуцца ў радыё, у беларускую рэдакцыю, дала мне адрас «Свабоды». Прапанову ейную я выслухаў, але, прызнаюся, доўга не хацеў ісці на «Свабоду» І вось чаму. У Ленінградзе, адкуль я эміграваў, у асяроддзі актораў было шмат слухачоў перадачаў радыё «Свабода», а яшчэ больш хадзіла плётак-чутак аб тым, што там уладзілася шмат агентаў-шпіёнаў КДБ, дык мне ў такое асяроддзе ісці не было ахвоты. Я вагаўся, але вырашыў пайсці ў «Свабоду», бадай што і ейны офіс на 42-й вуліцы не трэба было доўга шукаць. Пасля кароценькай размовы з дзяжурнай, пры ўваходзе, сустрэў мяне д-р Ян Запруднік, рэдактар беларускай секцыі «Свабоды» ў Нью-Ёрку. Пасля агульных біяграфічна-працоўных пытанняў у сваім кабінеце д-р Запруднік павёў мяне ў іншыя беларускія «офісы» і пазнаёміў з сп-ром Антонам Адамовічам і Аркадзем Рутманам — супрацоўнікамі беларускай секцыі. Сп-р Адамовіч пачаў мяне таксама распытваць: дзе вучыўся, ці што пісаў і пад. Пры гэтым і з сп. Запруднікам, і з сп. Адамовічам інтэрвію адбываліся па-беларусу, што мне было цяжкавата. Хоць я і закончыў беларускую сярэднюю школу, меў дачыненне з мовай у інстытуце і на працы ў тэатры: тут трэба было проста гутарыць і мне было не лёгка, я запінаўся, падшукваў словы. Не ведаю, якое ўражанне я рабіў на суразмоўцаў, але мне самому было сорамна, я чуўся нядобра. Далей было болей! Адзін эпізод з тога часу, калі я ўладжваўся на працу на радыё «Свабода» памятаецца праз усё жыццё, а тады я, як гаворыцца, гатоў быў праваліцца скрозь зямлю. Д-р Запруднік папрасіў мяне напісаць скрыпт пра стан беларускага нацыянальнага тэатру. Мяне пасадзілі ў асобны пакойчык, далі паперу, алавік — пішы. Вазіўся я з пісанінай пару гадзінаў, нешта напісаў, даў д-ру Запрудніку на перагляд. Прыблізна праз гадзіну д-р Запруднік вярнуў мне скрыпт. З першага позірку я скрыпт не пазнаў. Мая пісаніна, уся папера была чырвоная, пазначаная праўкамі, пытаннямі. Перажываць той момант было няпроста. Кажучы вобразна — той скрыпт, першы, быў — «маё хрышчэнне» — ад тога моманту пачынаецца мая сапраўдная беларуская адукацыя. На «Свабоду» мяне прынялі. Ладна часу «патраціў» д-р Яна Запруднік на рэдагаванне маіх скрыптаў, але я зрабіўся паўнавартасным працаўніком, хутка дапасаваўся да працоўных парадкаў і вымогаў. Ясна, ніякіх шпіёнаў у «працоўні» радыё я не бачыў, а працы ў беларускай секцыі хапала. На «Свабодзе» я заашчадзіў трохі грошай і праз год, далей працуючы ў радыё, вырашыў пачаць свой бізнэс — заснаваў перавозную кампанію, якой д-р Запруднік падказаў назоў «Моцна і далікатна» (я з д-рам Запруднікам аб усіх маіх планах, бытавых справах заўсёды радзіўся). Аснова працы ў новай кампаніі была — перавоз мэблі, індустрыяльнага абсталявання, іншых грузаў на блізкія і далёкія дыстанцыі. Рабіў я гэта ў выходныя і святочныя дні ў «канікулы» і стала наймаў дадатковых працаўнікоў. За 30 гадоў на сваім грузавіку (амерыканцы называюць вялікія перавозачныя грузавікі — 18-калёснікі) я аб'ехаў амаль усе штаты, пазнаёміўся з шмат якімі беларускімі дзеячамі, а таксама з Аляксандрам Салжаніцыным, доўга сябраваў аж да ягонае раптоўнае смерці з Сяргеем Даўлатавым, супрацоўнічаў з БІНіМам, пісаў у газету «Беларус». Пішу ўспаміны. Што зарабіў у Амерыцы, часткова ўлажыў у бізнес у Беларусі. Прагарэў.*



*На заканчэнне гэтае нататкі скажу: Я шчаслівы чалавек. Я ніколі не шкадаваў, што эміграваў у ЗША. У гэтай краіне я свабодна рухаўся, рабіў, што мне было пад сілу, здзейсніваў сваю ініцыятыву ды галоўнае: я пазнаў Беларусь нацыянальную, з цэрквамі, фестываламі, выстаўкамі, друкам, звычаямі. Ды асабліва, што цікавае і што хачу падкрэсліць, кожны раз, калі я наведваю Бацькаўшчыну і размаўляю ўсюды па-беларуску, мяне называюць «заядлым нацыяналістам» — я бяру гэта за камплімент»*[217].

Наступная нататка з нашых знаёмстваў з новымі эмігрантамі, ахвочымі да ўваходу ў свой бізнес, са штата Нью-Джэрсі.

*Знаёмства з новай эмігранткай пачалося... у краме алкагольных напояў у горадзе Трэнтане. Купляла бутэльку сталовага віна амерыканка сталага веку, але стройная, густоўна апранутая, з лёгкай, магчыма, крыху іранічнай усмешкай і тыповым амерыканскім выразам самаўпэўненасці і незалежнасці. Яе абслугоўвала маладзенькая, вельмі прыгожая, прыветлівая, атлетычная бландынка. У нейкім моманце амерыканка ціхонька пытае дзяўчыну: «Чую акцэнт, але не магу вызначыць, з якой краіны?» У адказ дзяўчынка досыць галосна і ганарліва заявіла: «З Беларусі — чулі пра такую краіну? Калі не, дык я вам раскажу». Амерыканская дама, пачуўшы такое, замерла. Твар з нейтральнага зрабіўся напружаным. Запакаваную бутэльку віна яна разгублена паклала на прылавак — збянтэжылася. Але праз секунду дама, ускінуўшы рукі наперад, рынулася да дзяўчыны, каб яе абняць: «Міленькая мая, і я таксама беларуска». Пакупніца і прадавачка абняліся.*

*Гэтак пачалося знаёмства-сяброўства сп-ні Лёлі Касоўскай (Лапіцкай), асобы грамадскае, дзейнае ў беларускім жыцці парафіі св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы з Наталляй Гайнутадзінавай (пазней, Бярылы) з горада Скідзель каля Гародні. Блізкае, вельмі сямейнае сяброўства працягваецца*[218].

*Пра сябе і сям'ю Наталля апавядае так: «Я і пару сяброў, а паміж імі і мой "асаблівы" сябра Саша Бярыла з Гародні, прыляцелі ў ЗША ў 2003 годзе. Затрымаліся мы ў горадзе Трэнтане, бо там былі сябры з Беларусі. Знайсці працу было нескладана. Саша ўладзіўся на будоўлі, а я касірам у краме. Пазнаёміліся з спадарыняй Лёляй Касоўскай, зблізіліся, яна нам шмат дапамагала і ведала адваката, які досыць хутка "правёў" нашую справу з атрыманнем "азылю-прытулку" і амерыканскі этап жыцця пачаўся. Мянялі працы, больш сталі зарабляць. Пайшлі вучыцца ва ўніверсітэт Ратгерс у Нью-Брансвіку. З Сашам павянчаліся ў беларускай царкве Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы — афіцыйна сталіся Наталля і Саша Бярылы (а цяпер ёсць і сын Антон), і з галавой акунуліся ў студыі. Вучыліся на выдатна, атрымоўвалі стыпендыі, шмат акадэмічных узнагародаў, пахвалаў. Праз гады 3–4 закончылі ўніверсітэт: Саша — эканамічны факультэт, а я — дыеталогію. Цяпер я, прапрацаваўшы пару гадоў (адначасна з вучобай) у некалькіх*

---

[217] Ліст Адама Акуліча да аўтара. Больш пра свой амерыканскі перыяд жыцця Адам Акуліч расказвае ў апавяданнях, надрукаваных у альманаху «Беларус» (Нью-Ёрк. 2019. С. 9–15).

[218] Лёля Касоўская памерла 2 лютага 2018 г. Гл.: Беларус. Нью-Ёрк. 2018 № 630.



Тры пакаленні беларусаў:
Лёля Касоўская — эмігрантка 1950-х,
Наталля Бярыла — эмігрантка 2000-х,
Антон Бярыла — амерыканец беларускага паходжання. Трэнтан, 2015 г.

*шпіталях, улучна з ветэранскім, адчыніла адзін за другім два дыеталагічныя кабінеты-офісы. Асноўная ўвага маіх офісаў — харчавальная тэрапія і дыетарэжым дыябетычных захворванняў, на што я маю спецыяльны дыплом. Пакуль што эканамічны аспект бізнесу дапамагае мне весці Саша, але ён плануе пераходзіць на "Уол-стрыт", спецыялізавацца ў Гэдж-фонды (Hedge Fund). Працы шмат. Плануючы зрабіць дактарат у дыеталогіі. Трымаем лучнасць з беларускай грамадой».*

*Да гэтае гісторыі дададзім заўвагу. Як было зазначана вышэй, пры знаёмстве з «амерыканкай» Наталля голасна і з гонарам назвала краіну свайго паходжання — Беларусь. І гэта выдатна! Шмат нашых землякоў-імігрантаў пры знаёмствах з амерыканцамі не кажуць пра Беларусь як краіну паходжання, кажуць «Расія», «Савецкі Саюз», «Усходняя Еўропа». Гэта невытлумачальная і невыбачальная з'ява, бо менавіта ў момант знаёмства з'яўляецца выдатная нагода расказаць пра сваю краіну асобе, якая яе не ведае.*

Цяпер Наталля Бярыла з'яўляецца ўласніцай некалькіх дыеталагічных кабінетаў, а таксама абраная ў даследчую праграму (першую такога кірунку) у Ратгерскім універсітэце.

З ваколіцаў Нью-Ёрка паходзіць і іншы выпадак прадпрымальніцтва (падаецца таксама з нашых уласных успамінаў).

*Недзе ў 2006–2007 гадах на беларускім сходзе ў Брукліне я пазнаёміўся з маладой, вельмі прыгожай, спартовага выгляду, выдатна беларускамоўнай новай іміґранткай Таццянай Кулакевіч з Жабінкі на Берасцейшчыне. Асноўны яе занятак у тым часе быў — навука ва ўніверсітэце. Яна была студэнткай вядомага каледжа-ўніверсітэта Райдэра, які знаходзіцца паміж гарадамі Прынстан і Трэнтан у штаце Нью-Джэрсі. Таццяна добра ведала ангельскую мову і планавала кар'еру ў настаўніцтве. Калі я спытаў пры знаёмстве, як у яе з грашыма, Таццяна адказала: «Здаю залікі на выдатна, навука часткова пакрываецца стыпендыямі, у тым ліку і аднагадовай стыпендыяй Фонду Любачкі, а на жыццё зарабляю "з хатаў" — чышчу, прыбіраю хаты. Працы хапае, зарабіць можна». Пазней я з Таццянай сустракаўся на розных беларускіх мерапрыемствах, быў на яе выпуску і аднойчы на пытанне «Як маецеся?» пачуў: «Выкладаю ва ўніверсітэце Ратгерс у горадзе Нью-Брансвіку два курсы і раблю дактарат, поўнасцю ў акадэмічных колах, з некаторымі мяне пазнаёміла Лёля Касоўская — колішняя выпускніца Ратгерса, што мае старыя сувязі. Надаўна ладзіла адзначэнне 25 Сакавіка ва ўніверсітэце, добра знаёмая і карыстаю з ведаў кнігазбору д-ра Запрудніка. А свой бізнес, памятаеце, я чысціла хаты — я прадала. Я мела шмат хатаў і ўсе прадала (саступіла) іншай прыбіральшчыцы за добрыя грошы. Цяпер поўнай парай працую над дактаратам, які мае дачыненне да Беларусі».*



Цяпер Таццяна Кулакевіч працуе выкладчыцай ва Універсітэце Паўднёвай Флорыды.

Прыкладаў рознага, дробнага і большага, прадпрымальніцтва сярод прадстаўнікоў новай эміграцыі можна прыводзіць багата. Выдатна, што ў беларускіх іміґрантаў у ЗША выпрацаваўся звычай дапамагаць новапрыбылым землякам, у тым ліку і з уладкаваннем на працу. У Беларуска-амерыканскім задзіночанні быў адмысловы камітэт, які збіраў звесткі аб працоўных месцах, БІНіМ дапамагаў і дапамагае шукальнікам працы рэкамендацыямі, парадамі ў складанні рэзюмэ і інш. Сёння асабліва актыўнае ў сферы дапамогі ў працаўладкаванні Беларуска-амерыканскае згуртаванне «Пагоня». На ягоных штомесячных сходах абмяркоўваюцца пытанні працы, запрашаюцца беларусы, якія дзеляцца ўласным досведам працаўладкавання. Звесткі пра гэта можна знайсці ў публікацыях на старонках бюлетэня «Весткі й Паведамленьні».



Юрка Станкевіч

Пэўных поспехаў дасягнулі беларусы на ніве друкарскае і выдавецкае справы — у галіне асабліва зацікаўлення беларусаў. Адным з першых беларускіх друкарскіх прадпрыемстваў была ***Друкарска-выдавецкая суполка імя Францішка Скарыны***, заснаваная ў штаце Нью-Ёрк улетку 1952 года[219]. Пазней суполка пашырыла сваю дзейнасць і ў 1954 годзе ператварылася ў ***Друкарска-выдавецкую суполку «Пагоня».*** (У 1960–1970-я гады ў Канадзе была дзейная літаратурна-выдавецкая арганізацыя пад назовам «Пагоня», не звязаная з нью-ёркскаю суполкаю.) Галоўнаю мэтаю нью-ёркскае суполкі была дапамога ў выданні дапаможных матэрыялаў і падручнікаў для беларускіх нядзельных школак. Сярод яе заснавальнікаў і кіраўнікоў былі Юрка Станкевіч, д-р Віктар Васілеўскі, Уладзімір Дунец, Кастусь Калоша і Вячка Станкевіч. Суполка выдала вялікую колькасць падручнікаў, чытанак, картаў ды іншых дапаможных матэрыялаў. Паступова суполка пачала выкарыстоўваць у сваёй дзейнасці сучасную друкарскую тэхналогію і ўяўляла з сябе камп'ютарызаваную выдавецкую групу, якая прафесійна задавальняла патрэбы беларускае грамады ў выдаванні друкаваных матэрыялаў. Старшынёй суполкі быў Юрка Станкевіч, віцэ-старшынёй — Кастусь Калоша[220]. Дзейнасць суполкі спынілася ў 1990-я ў сувязі з выездам Юркі Станкевіча ў Прагу.

Вядома, што Ян і Аліцыя Пятроўскія, калі жылі ў штаце Нью-Ёрк, былі ўласнікамі ***«Беларускай друкарні»***, якая, магчыма, была звязана з дзейнасцю іх дабрачыннага фонду. Тут друкаваліся некаторыя кнігі і часопісы. Пазней, калі Пятроўскія перабіраліся на сталае жыццё ў Флорыду, то прадалі абсталяванне беларускім арганізацыям у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі).

***Беларускі выдавецкі фонд*** — група падтрымкі беларускае выдавецкае дзейнасці, заснаваная ў Нью-Ёрку 20 лістапада 1949 года з мэтаю стварэння фінансавае базы

[219] Беларус. Нью-Ёрк. 1952. № 14.
[220] Беларус. Нью-Ёрк. 1967. № 118; Беларуская Моладзь. Бруклін. 1965. № 23; Гутаркі з Кастусём Калошам і Юркам Станкевічам.



Беларуская Друкарская Карпарацыя "П А Г О Н Я"

230 Springfield Ave. – RUTHERFORD, N.J.    Tel: (201)–933–6807

Дарагія Суродзічы !

У выніку стараньняў групы зацікаўленых асобаў, беларускае грамадзтва ЗША можа ўжо сёлета карыстацца ўслугамі *свае друкарні* – прызначанай у першую чаргу для здавальненьня беларускіх грамадзкіх, культурных і асьветных патрэбаў.

Асноваю гэтае пакуль што сьціплае друкарні – гэта набытая ўжо наборная машына – ВАРЫТАЙПЭР. Тэкст, набраны на гэтай машыне ( – мала большай за машынку да пісаньня ) мае ўсе прыкметы лінатыпнага набору – *роўную шырыню пасобных літараў і роўныя правы ды левы* берагі набіранай шпальты.

Набраная балонка (тэкст, загалоўкі, рысункі, здымкі) фатаграфуецца і з нэгатыву робіцца матрыца зь лёгкага мэталю. Гэтая матрыца служыць для друку спосабам "фото-офсэт". Калі балонка складаецца з аднаго тэксту (без ілюстрацыяў), ды тыраж выданьня не перавышае 5000, можна абыйсьціся без мэталёвае матрыцы, набіраючы на адмысловай паперы.

Варта ўспомніць далейшыя выгады Варытайпэра ды адбіваньня спосабам "фото-офсэт":

а) Малы разьмер і вага машыны. Ёю можна карыстацца ў прыватным памешканьні ды зусім лёгка перавезьці ў выпадку патрэбы.

б) Рысункі й карты не вымагаюць адмысловых клішаў.

в) Зусім малы кошт клішаў для фатаграфіяў.

г) Лёгкая замена шрыфтоў (*і.л. ілюстрацыя*).

д) Можна друкаваць у колькіх колерах.

Каб запэўніць большую тэхнічную спраўнасьць друкарні, гэтае прадпрыемства павінна набыць апрача наборнае машыны яшчэ іншую неабходную апаратуру:

а) "Фото-офсэт прэс" для адбіваньня.

б) Апарат для набору загалоўкаў.

г) Апарат для вырабу мэталёвых матрыцаў.

Найбольш каштоўным ды найбольш патрэбным з гэтае апаратуры – гэта "офсэт прэс". Ен каштуе прыблізна гэтулькі сама, як і Варытайпэр – каля 3000 дал.

Набіраючы тэкст на Варытайпэры і аддаючы ў іншае прадпрыемства для адбіваньня, можна паніжаць кошты беларускіх друкаваных выданьняў на прыблізна 50%. Аднак, пры недастачы сродкаў і вялікай патрэбе беларускага друкаванага слова, гэтая экономія павінна быць яшчэ большая – яе можна асягнуць толькі набыўшы собскі "фото-офсэт" прэс.

*Каб здабыць сродкі на належнае абсталяваньне друкарні, ініцыятыўная група, якая набыла Варытайпэр, заснавала беларускую друкарскую карпарацыю "ПАГОНЯ". Карпарацыя зацьверджаная штатам Нью Джэрзы – старшынёю яе быў абраны сп. В.Станкевіч, а сакратаром-скарбнікам – Др.П.Маркоўскі. Акцыі карпарацыі( вартасьць – 100 дал.) прадаюць апрача гэтых асобаў таксама іншыя саб-*

Рэкламная ўлётка Беларускай друкарскай карпарацыі «Пагоня»



Наталля Арсеннева

для выдання друкаваных матэрыялаў і кніг, дзеіла пад апекаю Беларуска-амерыканскага задзіночання і звязаных з ім арганізацый. У часе ўтварэння ў кіраўніцтва фонду ўваходзілі Міхась Тулейка, Міхась Міцкевіч, д-р Лявон Трусевіч і Наталля Арсеннева. Фонд цалкам зліўся з фондам газеты «Беларус» (Нью-Ёрк)[221].

***Беларускае выдавецкае таварыства*** было заснаванае ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, на пачатку 1960-х гадоў і цесна звязана ў сваёй дзейнасці са Злучаным беларуска-амерыканскім дапамаговым камітэтам. Таварыства выдае часопіс «Беларуская Думка» і колькі іншых публікацый. У рас-

221 Беларус. Нью-Ёрк. 1951. № 4; Архіў газеты «Беларус» у Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).



параджэнні таварыства — невялікая друкарня ў Саўт-Рыверы, якою кіруе Жорж Наумчык[222].



Мікола Пруск і

***Беларускае выдавецтва Міколы Прускага*** дзеіла ў Грэнд-Рэпідсе, штат Мічыган. Выдавецтва ўзнікла на пачатку 1950-х гадоў і спачатку выдавала розныя матэрыялы для арганізацый моладзі і часопіс для маладых беларусаў «Сьвет». Паступова прадпрыемства вырасла з рамак аматарскае друкарні, «Сьвет» ператварыўся ў «Беларускі Сьвет», салíднае перыядычнае выданне, якое публікавала жыццяпісы выдатных беларускіх дзеячаў, мастацкія творы, успаміны ды іншыя матэрыялы. Дзякуючы энергіі, адданасці і адміністрацыйным здольнасцям Міколы Прускага, выдавецтва сталася сучасным прадпрыемствам, з якога выходзілі ў свет шматлікія беларускія публікацыі, у тым ліку выданні Беларускага інстытута навукі і мастацтва[223]. На вялікі жаль, Мікола Пруcкі памёр 22 студзеня 2014 года і друкарня зачынілася. БІНіМ і беларускае грамадства страцілі адданага беларускага патрыёта і дзеяча.



Вацлаў Пануцэвіч

***Беларуская выдавецкая сябрына*** — арганізацыя, заснаваная на пачатку 1960-х гадоў у Чыкага. Выдала шэраг публікацый, у тым ліку часопіс «Беларуская Царква». Заснавальнік і кіраўнік — Вацлаў Пануцэвіч. Спыніла існаванне ў канцы 1970-х гадоў[224].

***Беларускае выдавецтва «Час»***, заснаванае ў 1975 годзе, выдавала газету *«Byelorussian Times»* / «Беларускі Час». Дзеіла да сярэдзіны 1980-х гадоў. Кіраўнік — д-р Расціслаў Гарошка[225]. Дзейнасць выдавецтва і выхад газеты былі аднοўленыя ў 2000 годзе. Пры гэтым паўсталі пэўныя змены: новы рэдактар Ю. Чудзін-Васілеўскі спрабаваў змяніць рэдакцыйную палітыку і ідэалагічную аснову газеты. Аднак стары выдавец Расціслаў Гарошка хутка вярнуў «Беларускаму Часу» нацыянальна-дэмакратычную арыентацыю[226].



Язэп Гладкі

***Выдавецтва «Заранка»***, заснаванае Язэпам Гладкім у Нью-Ёрку на пачатку 1960-х гадоў, выдавала школьныя падручнікі і адукацыйна-даследчыя матэрыялы. Спыніла дзейнасць са смерцю заснавальніка ў 1972 годзе[227].

222 Гутаркі аўтара з Жоржам Наумчыкам, 1982.

223 Беларус. Нью-Ёрк. 1989. № 359; Папка «Беларускі Сьвет» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

224 Папка Часлава Будзькі ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

225 American Publishers Directory. New York (NY), 1978. P. 57.

226 Гарошка, Р. Ад выдаўца газэты «Беларускі Час» // Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 508.

227 Папка Язэпа Гладкага ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



Кастусь Якуб

***Выдавецтва «Родны Край»***, заснаванае ў канцы 1960-х гадоў, спецыялізавалася ў перавыданні кароткіх літаратурных твораў, легендаў і рэлігійнае літаратуры. Дзеіла ў Трэнтане, штат Нью-Джэрсі, кіраваў выдавецтвам Кастусь Якуб[228].

***Выдавецтва W.& D.*** заснаванае ў 1989 годзе ў Гановеры, штат Пенсільванія, Васілём і Далорэс Мельяновічамі. Выдавала англамоўную інфармацыйную літаратуру пра Беларусь[229]. Дзейнасць спынілася ў сувязі з смерцю Васіля Мельяновіча ў 2004 годзе.

***Беларускае выдавецкае таварыства ў Амерыцы.*** Арганізацыя, якая фігуруе на выданнях БНФаўскага кірунку. Інфармацыю пра яго глядзі вышэй, у аповедзе пра дзейнасць Зянона Пазняка.

## Камерцыйныя прадпрыемствы

Катэгорыя арганізацый, якая заслугоўвае на асаблівую ўвагу, — непрыватныя прадпрыемствы, якія займаліся фінансавай дзейнасцю, разлічанай на атрыманне прыбытку. Да іх належаць нацыянальныя грамадскія цэнтры і адпачынкавыя селішчы, якія адыгрываюць важную ролю ў жыцці беларускіх асяродкаў.

### *Нацыянальныя цэнтры або дамы*

Новыя беларускія іміграныты пачалі засноўваць нацыянальныя дамы ў 1950–1960-я гады, як гэта зрабілі іншыя этнічныя групы (украінцы, палякі, славакі і г. д.) некалькі дзесяцігоддзяў раней. Для імігрантаў нацыянальныя дамы мелі асаблівае значэнне: яны былі галоўнымі пасля цэркваў месцамі сустрэчаў, ася-



Беларуска-амерыканскі цэнтр у Саўт-Рыверы

[228] Беларус. Нью-Ёрк. 1970. № 159; Папка Кастуся Якуба ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[229] Byelorussian-American Information Service. Archives. Hanover (PA).



родкамі абмену інфармацыяй і досведам ды сапраўдным ядром дзейнасці і крыніцаю маральнае падтрымкі імігрантаў.

Першымі арганізавалі такія цэнтры беларускія грамады Нью-Ёрка і Кліўленда. Дзеля гэтага былі заснаваныя адмысловыя камітэты, якія заняліся зборам грошай і давялі справу да памыснага заканчэння[230].

Паступова былі закладзеныя беларускія цэнтры або дамы ў Гайленд-Парку і Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі; Чыкага, штат Ілінойс; Дэтройце, штат Мічыган; Кліўлендзе і Стронгсвілі, штат Агаё, ды ў горадзе Нью-Ёрку. Пераважна яны прылучаныя да ўласнасці беларускіх парафій, але дзеяць незалежна ад іх. Камерцыйная дзейнасць цэнтраў — рэстараны, абслуга ўрачыстасцяў, здача ў наём памяшканняў — прыносіць прыбытак, значная частка якога ідзе на падтрымку культурных патрэбаў грамады. Часта фінансы ўкладаюцца ў само прадпрыемства[231]. У 2020 годзе дзейныя цэнтры ў Саўт-Рыверы, Кліўлендзе, Чыкага, Нью-Ёрку.

### *Адпачынкавыя селішчы*

Беларускія грамады ў вялікіх гарадах адчувалі патрэбу ў адпачынкавых селішчах, куды б яны маглі ўцячы ад гарадское летняе спёкі. Сама ідэя магла быць падказаная прыкладам іншых этнічных групаў, якія ўжо шмат гадоў мелі свае летнія селішчы. На пачатку і ў сярэдзіне 1950-х гадоў беларусы з нью-ёркскага метрапалітальнага рэгіёна манапалізавалі селішча «Бобрык» і ферму «Керы» на поўначы штата Нью-Ёрк. Беларусы Дэтройта ездзілі ў «Засценак», а з штата Нью-Джэрсі — на Атлантычнае ўзбярэжжа штата. Беларускія іміграныты левае арыентацыі мелі адпачынкавае селішча ў Манро — *АРОВ*-Парк, тым часам як «рускія» рэгіёна Нью-Ёрк — Нью-Джэрсі адпачывалі ўлетку на *«Фарме РООВА»* ў Джэксане, штат Нью- Джэрсі[232].

Ніводная з названых вышэй мясцінаў адпачынку не належала беларускай грамадзе, тым часам як беларускія асяродкі і арганізацыі мелі патрэбу ў сваёй установе, дзе можна было б адпачываць і праводзіць розныя культурныя і спартовыя мерапрыемствы. І такім чынам, калі




Рэклама адпачынкавага цэнтра Атаназага Бобрыка

[230] Беларус. Нью-Ёрк. 1955. № 51, 52; Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).

[231] Беларус. Нью-Ёрк. 1968. № 135, 136; 1972. № 177.

[232] Беларус. Нью-Ерк. 1958. № 66–67; 1967. № 125, 126; 1972. № 185; Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).

іміграНты зрабіліся больш заможныя, г. зн. калі былі сплочаныя банкаўскія пазыкі за жытло і пачалі расці ўласныя ашчаджэнні, група актывістаў з Нью-Ёрка і ваколіцаў выступіла з ідэяй набыць летняе адпачынкавае селішча для беларускае грамады.

24 чэрвеня 1961 года ў Нью-Ёрку быў склікаНы арганізацыйны сход з адным пунктам на парадку дня. Утварыўся Камітэт набыцця беларускага цэнтра адпачынку, у які першапачаткова ўвайшлі: Васіль Юрцэвіч — старшыня, Уладзімір Пеляса — скарбнік, Юрка Станкевіч — сакратар. Было вызначана, што будучы адпачынкавы цэнтр павінен быць месцам летняга і зімовага адпачынку, дзе моладзь зможа сустракацца, знаёміцца, бавіць вольны час, дзе будуць ладзіцца летнія лагеры для дзетак, адбывацца беларускія грамадскія з'езды, святкаванні, сустрэчы, вечарыны, спартовыя спаборніцтвы і г. д.

Новаўтворанаму Камітэту былі пастаўлены наступныя заданні:

*а) заснаваць і залегалізаваць (праўна зацьвердзіць) акцыйную супалку дзеля набыцьця маемасьці;*

*б) прадаваць акцыі гэтае супалкі. Вартасьць аднае акцыі — 100 дал. Пажадана, каб усе Беларусы купілі акцыі й сталіся сябрамі супалкі;*

*в) шукаць аб'екты для Беларускага Цэнтру Адпачынку пры помачы абвестак, асабістых кантактаў і пад., — інфармаваць беларускае грамадзтва аб знойдзеных аб'ектах і ўмовах куплі;*

*г) купіўшы Цэнтар, склікаць сход сяброў супалкі, на якім вырашыцца справа далейшае адміністрацыі Цэнтру*[233].

Ініцыятарамі гэтага праекта былі Васіль Юрцэвіч, Юрка Станкевіч, Уладзімір Пеляса, Зора і Вітаўт Кіпелі, Васіль Захаркевіч, Пятро Мельяновіч, Кастусь Мерляк, Даніла Клінцэвіч.

Працэс пошуку адпаведнага аб'екта заняў некалькі гадоў. Было агледжана каля 15 варыянтаў. Найбольшая ўвага затрымалася на мясцовасці Брустэр (*Brewster*) на поўнач ад горада Нью-Ёрка, непадалёк ад асяродка зімовага спорту *Birch Hill*. Аднак у міжчасе з'явілася навіна, што прадаецца селішча ў Глен Спэй у павеце Салівэн, штат Нью-Ёрк. На ім і спыніліся пошукі. Новы адпачынкавы цэнтр быў урачыста адчынены 4 ліпеня 1963 года. Да першапачатковага назова *Bel-Air* было дададзенае імя беларускае сталіцы.

***Селішча «Белэр-Менск»*** сталася вельмі папулярнае сярод беларусаў у сезоне ад ранняе вясны да позняе восені. Там адбываліся шматлікія культурныя мерапрыемствы і сустрэчы розных арганізацый, прыязджала шмат гасцей, у тым ліку і з Беларусі, і з Польшчы, праходзілі дзіцячыя летнікі, БІНіМ ладзіў свае выставы.

Вось пералік мерапрыемстваў, якія ладзіліся ў новым цэнтры цягам першага сезона:

*У месяцы ліпені Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва наладзіў ў галоўным адміністрацыйным будынку лецішча паказ каля 30-ці абразоў беларускіх мастакоў: Віктара Жаўняровіча, Міколы Касака і Пётры Мірановіча. […]*

*Ад 25-га чэрвеня да 7-га ліпеня і ад 21-га ліпеня да 15 жнівеня адбываліся заняткі з дзецьмі ў галіне мастацкіх і ручных працаў. […]*

233 Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1961. № 566.





Адпачынкавы цэнтр «Белэр-Менск». 1963 г.



Высвячэнне адпачынковага селішча «Белэр-Менск» 3 ліпеня 1963 г.

*Ад 7-га да 28-га ліпеня ў асяродку быў адкрыты дзіцячы лагер — першы беларускі дзіцячы лягер ў ЗСА. Каля 30-ці юначак і юнакоў у веку 7–14 год паспяхова прайшлі лагерную праграму. […]*

*20-га ліпеня адбыўся валейбольны турнір за кубак Белэр-Менск. Турнір быў арганізаваны беларускай валейбольнай дружынай «Нёман» з Саўт Рыверу. […]*


Высвячэнне адпачынкавага селішча «Белэр-Менск» 3 ліпеня 1963 г. Стужку пераразае Алеся Кіпель, побач — Юрка Кіпель

*18-га жнівеня адбыўся аўтарскі вечар вядомага беларускага паэты Масея Сяднёва. [...]*

*У канцатыдні 1–3 верасня — «Дзень Працы» — асяродак меў нагоду гасціць удзельнікаў з'езду Згуртавання Беларускае Моладзі. [...]*[234].

З гісторыі селішча трэба занатаваць адну дэталь. У часе адкрыцця селішча паўстала пытанне: хто будзе яго высвячаць? Большасць пайшчыкаў рэсорта належала да сабора Св. Кірылы Тураўскага (БАПЦ) у Брукліне, аднак у іх былі нелады з уладыкам Васілём (Тамашчыкам). Пайшчыкаў з царквы Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (юрысдыкцыя Канстанцінопальскага патрыяха) было колькасна мала, каб запрасіць на высвячэнне айца Мікалая Лапіцкага, настаяцеля прыхода. Стварылася напружаная сітуацыя, маячыў новы значны канфлікт. Тады на нашую прапанову быў запрошаны з Канады а. Міхал Мацукевіч — пазней мітрапаліт Мікалай. Высвячэнне адбылося пры велізарнай колькасці ўдзельнікаў. Айцец Міхал адыграў сапраўды міратворчую ролю.

Як грамадская арганізацыя рэсорт праіснаваў гадоў пяць-шэсць, а затым праз фінансавыя цяжкасці быў галасаваннем ператвораны ў рэлігійна-грамадскую арганізацыю і прададзены за сімвалічную цану групе беларускіх праваслаўных парафій Канстанцінопальскае юрысдыкцыі. Прысутнасць слова «рэлігійны» ў загалоўку карпарацыі вызваляла рэсорт ад часткі падаткаў, што дазваляла яго ўтрымоўваць[235]. Селішча «Белэр-Менск» спыніла дзейнасць у 2007 годзе.

***Селішча «Полацак».*** Беларускі цэнтр у Стронгсвілі пачаўся як невялічкае летняе селішча беларускае грамады ў Кліўлендзе. З часам кіраўніцтва грамады пастанавіла набыць маёмасць за горадам, на прыродзе, куды было б няцяжка даехаць. Знайшлося двое ахвярных людзей — Сяргей Карніловіч і Кастусь Калоша, — якія ўклалі свае грошы ў набыццё ўласнасці ў Стронгсвілі. Яны зарэгістравалі селішча як некамерцыйную арганізацыю і пачалі разбудоўваць яго з улікам доўгае перспектывы. «Полацак» паступова станавіўся месцам адпачынку і грамадскае

[234] Беларус. Нью-Ёрк. 1963. № 80.

[235] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1961. № 566; Беларус. Нью-Ёрк. 1963. № 80; 1964. № 82; 1965. № 94; 1966. № 115; 1967. № 125; 1970. № 161; 1971. № 173; 1972. № 185; 1981. № 294–295; 1983. № 311; Беларуская Моладзь. Бруклін. 1972–1973. № 28.





Шыльда Беларуска-амерыканскага грамадска-культурнага цэнтра «Полацак»

актыўнасці. У 1990 годзе тут быў збудаваны вялікі грамадскі цэнтр[236]. «Полацак» дзейнічае і сёння.

## Будаўнічыя і маёмасныя суполкі

Паваенныя беларускія іміграненты рабілі спробы заснаваць беларускую будаўнічую кампанію, і такая кампанія — «Нёман» — была створаная ў Нью-Ёрку на пачатку 1950-х гадоў, але праіснавала нядоўга. Маёмасныя суполкі «Менск», «Пінск» і «Слуцак» існавалі ў Брукліне і належалі розным беларускім актывістам. Аднак пераезд у 1960-я гады значнае часткі беларусаў у прадмесці прывёў да ліквідацыі гэтых суполак. Малыя будаўнічыя і маёмасныя суполкі, што належалі беларускім імігрантам, дзеілі таксама ў Пасейку і Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі; Кліўлендзе, штат Агаё; Агасце, штат Мэйн; Дэтройце, штат Мічыган; Стэйтн-Айлендзе, штат Нью-Ёрк[237].

На пачатку XXI стагоддзя ў ЗША дзейнічаюць некалькі беларускіх будаўнікоў-кантрактнікаў у раёнах гарадоў Трэнтан — Філадэльфія (за імі замацавалася мянушка Гродзенскія), у Нью-Ёрку, Чыкага і ў штаце Флорыда.

Варта зазначыць, што і гэтая тэма — удзел беларусаў у амерыканскім прадпрымальніцтве — мусіць быць даследаваная глыбей.

## Мастацкія калектывы

Арганізацыі гэтае катэгорыі пачыналі фармавацца амаль адразу пасля таго, як новыя імігранты сыходзілі на амерыканскі бераг. Імі кіравала жаданне праз мастацкую дзейнасць прадстаўляць беларускую культуру і гэткім чынам папулярызаваць Беларусь. Мастацкія калектывы ўзнікалі паўсюль, дзе толькі жылі беларусы. Яны ніколі не былі арганізацыямі ў сцiслым сэнсе слова, г. зн. з статутам, замацаваным сяброўствам і г. д. Гэта былі нефармальныя групы, якія сталіся, тым не меней, важным фактарам кансалідацыі і рэпрэзентацыі паваеннае хвалі беларускае іміграцыі.

Такая была сітуацыя, калі беларускасць навонкі падавалася прадстаўнікамі паваеннай хвалі эміграцыі. Але што ёсць цяпер, калі гэтую дзейнасць пераняли беларусы-эмігранты пасля 1991 года? Як выглядае, большых мастацкіх калектываў

[236] Архівы «Полацка», Кліўленд, штат Агаё; Беларус. Нью-Ёрк. 1991. № 377.

[237] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1961. № 577–578; Папка Міколы Гарошкі ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

пакуль што не арганізавалася. У раёне Нью-Ёрк — Нью-Джэрсі актыўна дзейнічаюць сямейныя ансамблі Дзямешчыкаў і Казакоў. Час ад часу тамсама выступае з сваім джазам Джымі Бычкоўскі, а ў Чыкага дзейнае беларускае музычнае трыа.

Праўда, прадстаўнікі новай хвалі эміграцыі дзейныя на розных нацыянальных імпрэзах, як, прыкладам, Калядная ялінка нацыянальнасцяў у горадзе Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі, дзе выдатна заступіла сп-ню Галіну Русак сям'я Каці і Сяргея Трыгубовічаў, якія ставяць «Беларускую ялінку» і ладзяць выступ у мясцовым Мадзярскім цэнтры. У Нью-Ёрку часам выступае сп. Сяржук Сокалаў-Воюш з сынамі. «Беларуская ялінка» бывае і ў Чыкага. Але новая эміграцыя магла б стварыць больш! У нядаўна выдадзенай кнізе-альбоме пра беларускія фестывалі д-ра Янкі Запрудніка аўтар гэтых радкоў адзначыў у прадмове:

*...Гэтая кніга-альбом важная, піянерская праца з некалькіх гледзішчаў. Па-першае, візуальна-фатаграфічна дакументуецца дзейнасць мастацкіх калектываў, хораў ды танцавальных гурткоў... [...] Па-другое, альбом гэты — выдатны даведнік... пра татаўмамаў, а часам і дзядзоў-бабак, калі спявалі, танцавалі... ушаноўваючы амерыканскую і беларускую культуру, пашыраючы пры гэтым шчодра інфармацыю пра Беларусь [...]*

*Меў [д-р Янка Запруднік] яшчэ і думку, якую я горача-горача вітаю, а менавіта — каб гэтая кніга паслужыла стымулам да працы навейшым эмігрантам з Беларусі... А пажваўленне беларускае культурнае дзейнасці ў Злучаных Штатах зусім магчымае*[238].




На Беларускай ялінцы ў Мадзярскім культурным цэнтры ў Нью-Брансвіку: Надзея Запруднік, Серж Трыгубовіч і яго сыны. 2014 г.

[238] Zaprudnik, Jan. Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey: Political Information Through the Language of Art (1948–2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948–2011). New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013. P. XVI.



### Танцавальныя групы

Найранней пачалі ўзнікаць танцавальныя групы. Гэткія групы арганізаваліся ў штатах Нью-Джэрсі, Нью-Ёрк, Каліфорнія, Ілінойс, Агаё, Мічыган. Танцавальныя групы ў Кліўлендзе, Чыкага і Дэтройце неаднаразова выступалі ў тэлевізіі ў праграме «Гадзіна полькі». Група ў Нью-Ёрку ўвайшла ў арганізацыю народных танцаў метраполіі. Звычайна танцавальныя групы носяць тыповыя беларускія назовы — «Матылёк», «Лявоніха», «Мяцеліца». Добрую рэкламу беларускай культуры рабіў сваімі частымі выступамі фальклорна-танцавальны моладзевы ансамбль «Лянок», які дзеіў у 1990-я — пачатку 2000-х гадоў у Чыкага пры беларускай праваслаўнай царкве Св. Юрыя [239].

Часта беларускія студэнты і вучні закладалі танцавальныя суполкі ў каледжах, універсітэтах і сярэдніх школах, дзе вучылі сваіх сяброў беларускім танцам, папулярызуючы гэткім чынам нацыянальную культуру далёка ад беларускіх асяродкаў[240].

Сярод дзясятка беларускіх танцавальных групаў адна заслугоўвае на асобную згадку як найдаўнейшая і найбольш прафесійная — ***танцавальны ансамбль «Васілёк»***. «Васілёк» узнік як самадзейны гурток у Арганізацыі беларуска-амерыканскае моладзі ў Нью-Ёрку ў 1956 годзе. Ягонаю заснавальніцаю была энтузіястка народнага танца, у той час студэнтка хіміі Бруклінскага політэхнічнага інстытута Ала Орса. Ансамбль сотні разоў выступаў на розных сцэнах, у тым ліку на Сусветным кірмашы ў 1964 годзе ў Нью-Ёрку, на Беларускіх фестывалях у Нью-Джэрсі, на святкаванні стагоддзя статуі Свабоды і г. д. Часта выступаў ён у Цэнтры Лінкальна ў Нью-Ёрку, а таксама ў Балтымары, Вашынгтоне ды іншых гарадах не толькі ЗША, але і Канады. У 1989 годзе ансамбль выступаў на Беласточчыне, а ў 1990 годзе — у Беларусі, дзе ён наведаў Менск, Полацк, Горадню, Вільню ды іншыя гарады.

Варта адзначыць, што «Васілёк» дапамагаў беларускаму фестывалю «Басовішча» на Беласточчыне. Згадваючы гэта, Валянцін Сельвясюк зазначаў:

*«Басовішча» было часткова спансаравана нью-ёркскім гуртком «Васілёк» і Арганізацыяй беларуска-амерыканскай моладзі. Факт, што маладыя амерыканцы беларускага паходжання лёгка зразумелі сваіх беластоцкіх сяброў, паказвае на ўніверсальны характар нашага маладога руху*[241].

«Васілёк» унёс значны ўклад у развіццё беларуска-амерыканскіх культурных дачыненняў. Праз навуку танца д-ра Алы Орсы-Рамана прайшлі пакаленні маладых танцораў. Гэтыя маладыя людзі, у пераважнай большасці народжаныя ў Амерыцы, атрымалі пры гэтым шырокія веды па беларускай гісторыі і культуры. Кіраўніцы ансамбля ў яе цяжкай і адданай грамадскай працы нямала дапамагаў яе муж д-р Фрэнк Рамана, прафесар Бруклінскага політэхнічнага інстытута. Сыны Алы і Фрэнка Павел і Коля, Вера Бартуль і яе дачка Аня, Вера і Ніна Запруднікі, Ліда Данілюк тварылі мастацкае і адміністрацыйнае ядро ансамбля, Юрка і Нона Азаркі, Алеся, Юрка і Ларэйн Кіпелі, Віктар Тур, Паўлінка Сурвілла, Галіна і Коля Бахары, Дарота і Пятро Рыжыя, Нэнсі Захаркевіч, сёстры Шульжыцкія, Грэйс Трылер, сёстры Сільвановіч, Люда і Ната Русакі, Алеся Махнюк, Аня

[239] Папка «Танцавальныя групы» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[240] Беларуская Моладзь. Бруклін. 1974–1975. № 36; Беларус. Нью-Ёрк. 1984. № 317; Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[241] Ніва. Беласток. 2019. 21 ліпеня.



Ансамбль «Васілёк» на фестывалі ў Атаве (Канада). 1979 г.
*Здымак Янкі Сурвіллы*

Бойчук, Антон Бартуль, Аўген Лысюк, Ала Лосік, Лёня Рудзінскі, Кастусь Верабей, Алесь Александровіч ды шмат іншых багата спрычыніліся да падтрымання высокіх мастацкіх стандартаў ансамбля, што прынесла яму заслужаную рэпутацыю. Група «Васілёк» — дзіця і заслужаны гонар усяе беларуска-амерыканскае грамады[242].

Дзіцячыя танцавальныя групы дзейныя і сёння пры беларускіх асяродках.

### Хоры і ансамблі

Як і танцавальныя групы, хоры пачалі ўзнікаць, як толькі новыя імігранты знаходзілі, дзе прытуліць галаву. У адрозненне ад танцавальных групаў, якія фармаваліся моладдзю, заснавальнікамі хораў былі пераважна людзі сярэдняга пакалення. Хоры былі паважна арганізаваныя: удзел у іх зацвярджаўся кіраўніком і менеджарам, яны мелі штотыднёвыя рэпетыцыі, былі ў хораў свае фінансы, уніформа. Большасць беларускіх хораў прылучаліся да розных арганізацый, але дзеілі незалежна паводле свае праграмы. За доўгія гады шмат змянілася. Хоры паліквідаваліся: нармальны біялагічны працэс адыходу людзей паважнага веку.

***Беларускі хор у Нью-Ёрку*** быў заснаваны ў 1950 годзе. Апекаваліся ім Беларуска-амерыканскае задзіночанне і Арганізацыя беларускае моладзі, збіраўся хор у памяшканні *YMCA/YWCA* ў Брукліне. Заснавальнікам хору быў вядомы кампазітар

[242] Беларусы ў Амэрыцы. Праграма. Нью-Ёрк, 1990; Антонава, Т. «Васілёк» на Беларусі // Голас Радзімы. Мінск. 12, 19, 26 ліпеня 1990.





Беларускі хор выступае ў Дэтройце. У цэнтры — Мікола Куліковіч. 1951 г.

Мікола Куліковіч-Шчаглоў. Пасля ягонага ад'езду з Нью-Ёрка хорам у розны час кіравалі Галіна Ганчарэнка, Аляксандр Валюшка, Галіна Орса, Андрэй Каптуровіч, Міхась Тулейка, Барыс Данілюк[243]. Дзейнасць спынілася ў 1960-я гады.

***Ансамбль «Гоман».*** Адгалінаваннем нью-ёркскага хору быў жаночы ансамбль «Гоман» (заснаваны ў 1960-я гады), якім кіравала д-р Ала Орса-Рамана[244]. Сёння нядзейны.

***Беларускі нацыянальны хор*** узнік у Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, у канцы 1949 года пад апекаю Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта. Ядро хору складалі некалькі спевакоў-аматараў, удзельнікаў Беларускага нацыянальнага хору ў Баварыі (1947–1949). Кіравалі хорам у розны час Ксаверы Барысавец, Вячаслаў Селях-Качанскі, Аркадзь Евец, Юльян Рымко і Дзмітры Верасаў. Асаблівых поспехаў хор дасягнуў у 1950–1960-я гады дзякуючы стараннням менеджара Барыса Шчорса. Пад ягоным умелым кіраўніцтвам хор запісаў некалькі кружэлак. Хор выдатна прадстаўляў беларускую песню на Беларускіх фестывалях у штаце Нью-Джэрсі ў 1970-я гады[245]. З смерцю Дзмітрыя Верасава ў 1985 годзе спыніў сваё існаванне.

[243] Гутаркі аўтара з Галінай Руднік, 1982.

[244] Беларус. Нью-Ёрк. 1977. № 243–244.

[245] The Spokesman. South River. 1950. March 17; Папка Ксаверыя Барысаўца ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Беларус. Нью-Ёрк. 1975. № 219; Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1950. № 1; Беларуская Думка. Саўт-Рывэр. 1976. № 20; Беларускае Слова. Саўт-Рывэр. 1957. № 36; 1958. № 38.



Беларускі хор выступае ў Нью-Ёрку. Кіраўнік — Аркадзь Евец. 1959 г.

***Ветэранскі хор*** быў заснаваны ў Саўт-Рыверы ў сярэдзіне 1960-х гадоў. Ягоным заснавальнікам і кіраўніком быў малады беларускі кампазітар Юльян Рымко. Хор распаўся, калі Рымко выехаў у Флорыду, дзе адышоў у іншы свет у маладым веку[246].

***Беларуская фальклорная група (Ансамбль Мяленьцевых)*** была заснаваная ў Каліфорніі ў 1949–1950 гадах. Кіравалі ёю Алімп, Марыя і Нона Мяленьцевы, прафесійныя артысты з Менска. Ансамбль дзеіў у лучнасці з Злучаным беларуска-амерыканскім дапамаговым камітэтам і Беларуска-амерыканскім аб'яднаннем[247]. Спыніў існаванне.

***Беларускія хоры ў Кліўлендзе.*** Першы беларускі хор — Кліўлендскі хор моладзі — быў заснаваны ў 1951 годзе. Кіраўніком хору быў Юрка Мазура, таленавіты малады беларускі музыкант і кампазітар з Дэтройта, які прыязджаў у Кліўленд на рэпетыцыі і выступы. Пазней хорам кіравалі Мікола Куліковіч, Кастусь Кіслы (у 1950-я гады пры ягоным кіраўніцтве хор моладзі ператварыўся ў ***жаночы ансамбль «Васількі»***), Уладзімір Літвінка, Кастусь Калоша, Ірэна Каляда-Смірноў, Вольга Лукашэвіч[248]. Спыніў існаванне.

[246] Папка Юльяна Рымко ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[247] Папка Мяленьцевых ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[248] Папка «Кліўлэнд» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Юрэвіч, Л. Эміграцыя Францыск Скарына... С. 446–448.





Хор пад кіраўніцтвам Юркі Мазуры. 1951 г.

***Жаночы хор «Каліна»*** быў заснаваны ў Саўт-Рыверы ў 1963 годзе як незалежная арганізацыя. Заснавальнікам і кіраўніком быў Ксаверы Барысавец. Больш за іншыя беларускія хоры і ансамблі «Каліна» спрычынілася да папулярызацыі беларускае песні на Усходнім узбярэжжы краіны — ад Бостана да Вашынгтона[249]. Сёння не існуе.

***Беларускі ансамбль у Чыкага.*** Лірычна-народны ансамбль быў заснаваны ў Чыкага ў 1956 годзе. Ягоным першым кіраўніком быў прафесар Мікола Куліковіч. Пасля ягонае смерці ў 1969 годзе кіраўніцтва пераняла Вера Рамук[250]. Ансамбль не існуе.



Мікола Куліковіч

Меншыя беларускія хоры існавалі ў Дэтройце, Рокфардзе (штат Ілінойс) і Лос-Анджэлесе. Аднак яны не былі сталымі арганізацыямі і выступалі толькі прынагодна. Усе згаданыя хоры распаліся ў 1970–1980-я гады.

Беларускія спеўныя ансамблі часам узнікаюць і сёння там, дзе ёсць патрэба прадставіць беларускую музыку і спевы на розных святах і фестывалях, але большага беларускага хору ў ЗША на пачатак XXI стагоддзя не існуе. Рэпрэзентацыя беларускай песні і музыкі ў ЗША належыць сёння новым стваральнікам.

***Ансамбль Дзямешчыкаў.*** З Гарадзеншчыны ў 1994 годзе ў ЗША прыехала ў Нью-Ёрк маладая сям'я Валянціна і Таццяны Дзямешчыкаў. Абое яны не толькі

[249] Беларус. Нью-Ёрк. 1973. № 195, 200; Перапіска аўтара з Ксаверыем Барысаўцом.

[250] Беларус. Нью-Ёрк. 1966. № 114; 1969. № 145; Папка Міколы Куліковіча ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Ліст Веры Рамук да Вітаўта Кіпеля, чэрвень 1990.



Выступаюць Таццяна і Валянцін Дзямешчыкі. Саўт-Рывер, 2010 г. *Здымак Марыны Яўсейчык*

з добрымі галасамі, але і з музычнай асветай ды харавой практыкай. Нью-ёркскія беларусы сустрэлі іх вельмі сардэчна, бо ў царкоўным жыцці такія людзі, як кажуць, на вагу золата. Спадарства Дзямешчыкі хутка азнаёміліся з вымогамі царкоўнага богаслужэння і сталіся вартаснымі ўдзельнікамі багаслужбаў, а з часам і арганізатарамі свецкага культурнага жыцця. Шмат дапамагалі ім на пачатковым этапе св. пам. Барыс Данілюк пры бруклінскім саборы Св. Кірылы Тураўскага (БАПЦ), а пасля св. пам. Васіль Шчэцька пры царкве Св. Кірылы Тураўскага (Канстанцінопальскага патрыярхату) у Рычманд Гіле, раён Куінс, Нью-Ёрк.

У 2002 годзе сп-ва Дзямешчыкі перабраліся ў Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі, куды іх запрасілі на кіраванне хорам царквы Св. Еўфрасінні Полацкай. Тут іхныя дзеці Вольга і Сяргей далучыліся да царкоўнага і свецка-культурнага жыцця. Дзякуючы сям'і Дзямешчыкаў беларускі асяродак атрымаў на шмат гадоў свежы прыліў энергіі. Уся сям'я выконвае вялікую ролю ў арганізацыі і правядзенні калядных святкаванняў для дзяцей ды музычна-танцавальных фестываляў, якімі славіцца беларускі рэлігійна-грамадскі цэнтр у Саўт-Рыверы. У гэтым сэнсе іхныя таленты і дзейнасць выдатна спрыяюць даўгалеццю цэнтра. Паступова быў арганізаваны «Ансамбль Дзямешчыкаў», дзе галоўную скрыпку граюць Валянцін і Таццяна, а рэшта музыкаў і спевакоў падбіраецца. На рахунку ансамбля дзясяткі выступаў у Нью-Джэрсі, Нью-Ёрку, Пенсільваніі.

***Ансамбль сям'і Казакоў***. Беларускі фальклорны ансамбль «Жывіца» з салістамі Алесем і Валянцінай быў вядомы ў БССР ад 1980-х гадоў. У тыя часы ён годна прадстаўляў беларускі музычны фальклор на ўнутрысавецкім і міжнародным узроўнях. Валянціна і Алесь (у шлюбе Казакі) былі салістамі на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, спявалі ў хоры Цітовіча. Беларусы ЗША пазнаёміліся з Валянцінай і Алесем Казакамі на



Выступае ансамбль сям'і Казакоў. Нью-Ёрк, 2003 г.



19-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Наогул жа эміграцыйны перыяд быў для спевакоў хоць і няпросты ў побытава-жыццёвым плане, але ў рэпрэзентацыі беларускай песні, фальклору вельмі плённы. Да Валянціны і Алеся далучылася дачка Вольга, якая закончыла знакаміты ўніверсітэт Джорджа Вашынгтана ў сталіцы ЗША. Трыа Казакоў годна прадстаўляе беларускую музычную культуру ў Вашынгтоне, Нью-Ёрку, Дэтройце, Пітсбургу ды шмат якіх іншых гарадах і штатах. Сёння Вольга Казак робіць і сольную музычную кар'еру[251].

### *Аркестры*

Аркестры былі заснаваныя і дзеяць надалей у некалькіх беларускіх асяродках. Напачатку яны мелі вузкаэтнічны характар і выступалі выключна на этнічных урачыстасцях, аднак апошнім часам некаторымі з іх кіруюць выпускнікі Джуліярдаўскае музычнае школы (Джымі Бычкоўскі), і яны ўяўляюць з сябе не толькі прафесійныя калектывы музыкантаў, але і добра зладжаныя арганізацыі. Праўда, дзейных беларускіх аркестраў у ЗША на пачатку XXI стагоддзя засталося ўсяго некалькі: Джымі Бычкоўскага і Магаліфа.




Абвестка пра канцэрт аркестра «Палессе». 1964 г.

Этнічны характар аркестраў выяўляўся і ў іхных назовах — «Палессе» (Кліўленд), «Бярозка» (Саўт-Рывер), аркестры Жыдовіча, Рудзінскага і Жыдаловіча (рэгіён Нью-Ёрк — Нью-Джэрсі). Аднак некаторыя аркестры мелі больш фантазійныя назвы — «Нова» (заснаваны Алексам Мартыновічам у сярэдзіне 1970-х гадоў), «Віхор» (заснаваны Валерам Новакам у 1979 годзе)[252]. У Чыкага выступаў беларускі музычны гурт «Забава» з добрым рэпертуарам беларускіх песень і танцаў[253]. У 2019 годзе з'явілася інфармацыя пра наваствораны амерыканскімі беларусамі гурт «*KAZINAK*»[254].



Аркестр «Палессе». 1955 г.

***Аркестр Магаліфа***. Аркестр Аўгена Магаліфа, як і сам яго кіраўнік, шырока вядомы як у Беларусі, гэтак і ў ЗША ды іншых краінах. Кампазітар ад 1990 года

[251] Беларус. Нью-Ёрк. 2010. № 574.
[252] Папка «Аркестры» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).
[253] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. 2002. № 4 (99).
[254] Беларусы ў свеце. Мінск. Чэрвень 2019.



Аркестр Аўгена Магаліфа.
*Здымак з сайта svaboda.org*

жыве ў ЗША. Ад пачатку 1990-х стаў сябрам БІНіМа, а ягоны аркестр браў удзел у беларускіх урачыстасцях, шматлікіх амерыканскіх конкурсах, а таксама ў міжнародным фестывалі «Славянскі базар» у Віцебску і выступаў у Днепрапятроўску. Аўген Магаліф з'яўляецца сябрам Амерыканскага таварыства кампазітараў, аўтараў і выдаўцоў, выкладае курс музыкі ў дзяржаўнай школе ў Трэнтане, штат Нью-Джэрсі.

### *Музычныя студыі*

Рэгулярныя камерцыйныя навучальныя музычныя студыі, кіраваныя беларускімі музычнымі дзеячамі, існавалі ў розных гарадах: студыі прафесара Міколы Куліковіча і Эльзы Зубковіч, інструментальная студыя кампазітара Андрэя Каптуровіча; вакальная студыя Пётры Конюха — у Нью-Ёрку; студыя гуказапісу Алекса Мартыновіча — у Іст-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі; музычна-вакальныя класы прафесара Міколы Куліковіча і Надзеі Градэ — у Чыкага; інструментальна-музычная студыя Кастуся Кіслага — у Кліўлендзе; музычна-вакальная студыя — у Кліўлендзе, кіраваная прафесарам Міколам Куліковічам, ды іншыя[255].

У шмат якіх мясцовасцях новыя эмігранты — музыкі, музыказнаўцы — даюць прыватныя лекцыі: у Нью-Ёрку — К. Гаўрыльчык, у Пасейку — В. Лявіцкі. Але большых беларусіх музычных студый у ЗША сёння няма.



Выступае Надзея Градэ. Чыкага, 1960-я гг.

[255] Беларус. Нью-Ёрк. 1964. № 88; 1967. № 122; Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1960. 22 июля; 1964. 11 июня; 1976. 1, 12 февр.



### *Тэатральныя групы*



Вячаслаў Селях-Качанскі



Пётра Нядзведзкі

***Беларуская тэатральная студыя*** была заснаваная Вячаславам Селяхам-Качанскім пасля ягонага прыезду ў Саўт-Рывер з Заходняе Нямеччыны на пачатку 1950-х гадоў. Яна ўяўляла з сябе вялікую групу маладых людзей, якія хацелі навучыцца асновам тэатральнага і выканаўчага мастацтва. Найбольшая актыўнасць студыі прыпадае на 1950-я гады. Пазней кіраўніцтва пераняла Ірэна Цуприк.

Паўпрафесійныя тэатральныя групы дзеілі таксама ў Чыкага, Кліўлендзе і Нью-Ёрку. Звычайна яны ўваходзілі ў склад арганізацый моладзі, але мелі пэўную самастойнасць. Асобна варта згадаць пра тэатральную групу ў Дэтройце, кіраваную Міколам Прускім. Яе выступы прыцягнулі ўвагу англамоўнага друку, і група была запрошаная выступіць у розных гарадах Злучаных Штатаў і Канады[256].

Іншыя, меншыя тэатральныя групы, кіраваныя Пётрам Нядзведзкім, Ірэнай Цупрык-Жылінскай, Вілай Ляўчук і Гіпалітам Паланевічам, дзеілі ў 1960—1970-я гады ў рэгіёне Нью-Ёрк — Нью-Джэрсі[257].

Гаворачы пра беларускі тэатр у ЗША, трэба зазначыць, што тэма гэтая была распрацаваная ў англамоўнай публікацыі Вітаўта і Зоры Кіпеляў «Беларуска-амерыканскі тэатр», што з'яўляецца раздзелам у кнізе вядомай амерыканскай аўтаркі-крытыка тэатральнае музычнае культуры ЗША сп-ні Максін Сэлер (*Maxine Seller*). У беларускай частцы кнігі аўтары паказваюць, што беларускія тэатральна-эстрадныя выступы ў ЗША пачаліся ад 1920-х гадоў. У працы дэталёва разгледжана беларуская тэатральная дзейнасць у ЗША да сярэдзіны 1970-х гадоў і пададзеная досыць вычарпальная бібліяграфія[258].

Сёння беларускіх тэатральных калектываў у ЗША няма, але розныя п'есы ставяцца на школьных ранішніках, выпускных.



Дзяўчаты-танцоркі з харэографам Вілай Ляўчук.
Саўт-Рывер, 2011 г. *Здымак Янкі Запрудніка*

На заканчэнне аповеду пра рэпрэзентацыю Беларусі

[256] Беларус. Нью-Ёрк. 2014. № 608.

[257] Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1952. № 11, 12; Гутаркі аўтара з Ірэнай Цупрык і Пятром Нядзведзкім, 1977.

[258] Seller, M. Ethnic theatre in the United States. Westport (CT), 1983. — 606 p.

праз музычна-мастацкую дзейнасць, максімальны высілак якой зрабілі амерыканскія беларусы падчас адзначэння 200-годдзя ЗША, падзелімся тут разважаннямі, якія часткова былі выказаныя ва ўспамінах:

*Тры Беларускія фэстывалі зрабілі беларусам Амерыкі вялікую рэкламу. Рэпартажы аб беларускай прысутнасці друкаваліся ў дзясятках газетаў і часопісаў. Картатэка адрасоў Цэнтра мастацтваў налічала панад 25 тысячаў, па гэтых адрасах высылаліся рэкламы фэстывалю. Відавочна, дапамагала і газета «Беларус». У газеце я выдрукаваў колькі разважанняў аб фэстывалі. Нас як беларусаў віталі кангрэсмены, сенатары, прэзідэнты Форд, Картэр, шмат палітычных дзеячаў і выдатных амерыканцаў. Дзень фэстывалю абвяшчаўся Днём беларускае культуры штата — значная падзея. Рэклама фэстывалю выйшла за межы ЗША, нас віталі Ларыса Геніюш, беларусы Польшчы, Аўстраліі, Нямеччыны. Бясспрэчна, фэстывалі ў Нью-Джэрсі вельмі спрыялі прапагандзе беларускасці, беларусам у ЗША і беларускай незалежніцкай ідэі.*

*[...] Мы як грамада фэстывалі маглі і можам прадаўжаць. Патрэбныя арганізатары. Шмат з тых, хто арганізоўваў фэстывалі, стаміўшыся пасля трох, аддаліся іншай працы. Я асабіста поўнасцю заняўся апрацоўкай кнігі «Беларусы ў ЗША». У акадэмічную дзейнасць пайшлі і доктар Янка Запруднік — выдаў некалькі кніг з гісторыі Беларусі, і Зора — пераклала на англійскую мову «Беларускага Трышчана», іншыя стварылі нешта новае. Данчык, які дэбютаваў у фэстывалях, выдаў некалькі кружэлак, як і ансамбль «Нова». Ірэна Рагалевіч разам з Надзяй Запруднік і Валяй Рагалевіч стварылі мноства новых сувеніраў. Такім чынам актывісты першых фэстываляў аддаліся працы на іншых дзялянках. Фэстывалі былі адкладзеныя на пазней, і гэтае «пазней» цягнецца дагэтуль. Аднак я ўпэўнены: калі знойдуцца актывісты — фэстывалі адновяцца.*

*Фэстывалі — выдатная падзея для рэкламы і інфармавання пра Беларусь, напамін пра беларускую спадчыну ў ЗША, стымул да супрацоўніцтва розных беларускіх групаў, адзін з моцных паказнікаў, што Беларусь у ЗША — жывe!*[259].



«Васілёк» на Беларускім фэстывалі. 1976 г.

[259] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. С. 388–389.



## Спартовыя арганізацыі

Само сабой зразумела, спорт адыгрываў важную ролю ў гуртаванні маладых беларускіх імігрантаў і прадстаўленні беларускіх талентаў у спартовым жыцці Амерыкі. У дадатак да розных спартовых камандаў беларускія імігранты заснавалі некалькі арганізацый дзеля падтрымкі спартовае дзейнасці.

***Беларускае спартовае аб'яднанне*** ў Саўт-Рыверы было заснаванае 30 сакавіка 1952 года з мэтаю падтрымкі спартовае дзейнасці беларускае моладзі. Аб'яднанне дзейнічала да сярэдзіны 1970-х гадоў[260].

***Беларускі спартовы клуб*** у Нью-Ёрку быў арганізаваны Іванам Мухам на пачатку 1950-х гадоў. Апрача гэтага, Іван Муха заснаваў у 1972 годзе ў Глен-Спэй, штат Нью-Ёрк, арганізацыю ***«Прыхільнікі беларускіх спартоўцаў»***[261].

Адзіная беларуская валейбольная каманда дзейнічае з перапынкамі — ***каманда «Нёман»*** у Саўт-Рыверы.



Валейбольная дружына «Нёман»

Вышэй ужо згадвалася прозвішча зоркі амерыканскага футбола 1940-х гадоў, народжанага ў Саўт-Рыверы, Алекса Вайцяховіча. У 1980–1990-я гады Амерыка і ўвесь свет захапляліся кумірам хакея Уэйнам Грэцкі. Абодва спартовыя тузы беларускага паходжання. Рэкламу Беларусі зрабіў і іншы хакеіст Ян (Джон) Мішук. Нарадзіўся ў Налібоках у 1940 годзе, з бацькамі прайшоў праз лагеры для перамешчаных асобаў, эміграваў у Канаду, дзе атрымаў адукацыю, але хакейную кар'еру зрабіў у 1970-я ў ЗША, гуляючы ў такіх хакейных камандах, як *«Detroit Red Wings»*, *«Chicago Black Hawks»*, *«Philadelphia Flyers»* і *«Minnesota Stars»*[262]. Удзел у спорце амерыканцаў з беларускімі каранямі яшчэ чакае даследчыкаў.




Эпітафія з помніка зоркі амерыканскага футбола Алекса Вайцяховіча

Важна адзначыць і такую з'яву, калі беларускія спартоўцы выступаюць ініцыятарамі новых падзей. Прыкладам, улетку 2019 года ў Нью-Ёрку адбыўся

[260] Архіў Міхася Сенькі, Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі.

[261] Гутарка аўтара з Іванам Мухам, 1978.

[262] https://www.svaboda.org/a/29998863.html.

дзіцячы футбольны турнір «Кубак Пракапенкі» ў памяць зоркі беларускага футбола Аляксандра Пракапенкі. Арганізатарам выступіў сын футбаліста Зміцер Пракапенка[263].

## Небеларускія арганізацыі з значным удзелам этнічных беларусаў

Як згадвалася раней, тысячы і тысячы беларускіх імігрантаў далучыліся да небеларускіх арганізацый — левых, правых, рэлігійных, «славянскіх» або проста «рускіх» ці польскіх. Гэтая ненармальная з'ява мела розныя прычыны, галоўнаю з якіх была адсутнасць нацыянальнае свядомасці, неадчуванне сябе беларусамі, асобнаю нацыяй. Такія характарыстыкі былі найперш уласцівыя старым імігрантам, але зрусіфікаваных дарэшты беларусаў можна сустрэць і сярод тых, хто прыехаў у Амерыку па Другой сусветнай вайне. Хоць беларускасць такіх арганізацый зусім не відавочная, а часта іхная дзейнасць бывае скіраваная супраць беларускіх ідэалаў, тым не меней шмат якія з іх у другой палове XX стагоддзя былі вымушаныя ў нейкай ступені выявіць беларускі характар.

Сюды можна залічыць такія арганізацыі, як *РООВА*, Таварыства Чарнышэўскага ды іншыя групы, сабраныя вакол *АРОВ*-Парку ў Нью-Ёрку, шматлікія левыя і правыя «рускія» і «прагрэсіўныя» арганізацыі ў Чыкага, Дэтройце, Геры (штат Індыяна), Пітсбургу, Філадэльфіі (штат Пенсільванія), Балтымары (штат Мэрыленд), Бостане (штат Масачусэтс) ды ў шмат якіх гарадках штатаў Нью-Джэрсі, Канектыкут, Дэлавэр ды інш., а таксама праваслаўныя брацтвы пры цэрквах Рускага зарубежнага сінода і Амерыканскае праваслаўнае царквы.

Перад наступнымі пакаленнямі даследчыкаў усходнеславянскае іміграцыі стаіць задача выявіць сапраўдную нацыянальнасць сябраў гэтых арганізацый, не падманваючыся зманнымі назовамі «рускі» або «славянскі».

***Беларускія федэралісты***. Такія палітычныя групы — з'ява не новая ў беларускім палітычным руху. Арганізацыі федэралісцкіх перакананняў былі вельмі шматлікія і актыўныя ў 1917–1920 гадах. Да федэралізму выразна схіляліся некаторыя групы беларускіх студэнтаў у Празе ў 1920-я гады. Шмат беларускіх федэралісцкіх арганізацый было заснавана ў Заходняй Нямеччыне ў лагерах Ды-Пі пасля Другое сусветнае вайны. З'явіліся такія групы і на Амерыканскім кантыненце. Цяпер яны ўжо не існуюць, але былі вельмі актыўныя гадоў 40–50 таму.

Групы федэралістаў пачалі фармавацца ў Амерыцы на пачатку 1950-х гадоў. Адна такая група была закладзеная ў Нью-Ёрку 26 верасня 1953 года. Называлася яна *Объединение белоруссов-федералистов*, на чале яе стаяў Іван Баранцэвіч. У Нью-Ёрку і Нью-Джэрсі існаваў таксама *Белорусский демократический комитет*, дзейнасць якога была выключна скіраваная супраць беларускіх нацыянальных арганізацый. Сфармаваўся камітэт яшчэ ў Нямеччыне ў 1947 годзе, адкуль быў перавезены ў ЗША, каб змагацца супраць беларусаў[264].

Была ў Нью-Ёрку сфармаваная і іншая арганізацыя — ***Беларускі нацыянальна-вызвольны камітэт.*** Гэта была невялічкая групка, якая складалася з пары дзясяткаў сябраў, чыёю мэтаю было падтрымоўваць палітычную ідэю непадзельнае

[263] Беларусы ў свеце. Мінск. № 6. 2019.
[264] Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1963. 12, 30 марта.



Расійскае дзяржавы, з пэўнаю культурнаю аўтаноміяй для беларусаў. Аднак галоўная ідэя палягала не ў тым, каб развіваць беларускую нацыянальную свядомасць, а ў тым, каб спрыяць знікненню беларусаў як асобнага этнасу і асіміляцыі іх у агульным расійскім катле. У кіраўніцтва гэтае групы ўваходзілі Антон Барысаглебскі, І. Макараў, І. Сірацінскі і колькі іншых. Кім былі тыя, што далучаліся да гэтага камітэта, не зусім ясна. Гэтыя людзі, якіх беларусы называлі *«тожэ белоруссы»*, вялі сваё грамадскае і культурнае жыццё сярод рускіх і зрусіфікаваных украінцаў. Гаварылі яны звычайна па-руску, старанна хаваючы свой беларускі акцэнт. Аднак, як выглядае, часам яны прыгадвалі сваё паходжанне, бо пару разоў на год з'яўляліся, каб запратэставаць супраць нейкіх беларускіх акцый або каб выступіць на «Балі народаў Расіі» ў беларускіх народных строях. Часам, але вельмі нячаста яны маглі на такім балі станьчыць беларускі танец. Але як толькі ў канцы баля куртына апускалася, яны зноў пераапраналіся ў рускіх і не падтрымоўвалі ніякіх сталых кантактаў з беларускімі арганізацыямі, цэрквамі або паасобнымі людзьмі. Яны не вялі ніякае самастойнае палітычнае дзейнасці, за выключэннем пратэстаў супраць любое выявы беларускае палітычнае думкі, адрознае ад рускай.



Марка, прысвечаная Беларусі і выдадзеная ў серыі «Свободная Россия». 1964 г.

Як адзначаў даследчык філатэліі, калекцыянер з беларускімі каранямі Расціслаў Палчанінаў, у Нью-Ёрку прадстаўнікі згаданай прарасейскай групы выдалі памятныя маркі «адзінства Расіі» з гербамі Беларусі, Украіны, «горцаў Каўказа» ды распаўсюджвалі іх на «Балі народаў Расіі» 22 лістапада 1958 года[265]. Людзі гэтыя — дзівосная, трагічная і цяпер ужо цалкам вымерлая з'ява і, трэба спадзявацца, загорнутая старонка ў беларуска-амерыканскай этнічнай гісторыі[266]. Прарасійскія арганізацыі 1950–1960-х гадоў ужо не існуюць.

## Удзел беларусаў у шматнацыянальных і міжнародных арганізацыях

Шматнацыянальныя арганізацыі дзейнічалі яшчэ ў міжваенны час, і беларусы маглі належаць да іх, хоць уласна беларускіх структураў было вобмаль. Пры канцы ж 1940-х, калі ў Амерыку сталі прыбываць паваенныя іміграны, першапачаткова іх групы скарыстоўвалі магчымасці вядомых арганізацый маладых хрысціян — ***YMCA / YWCA***. Прыкладам, беларусы збіраліся ў *YMCA* ў Пасейку, Брукліне, Пітсбургу, Філадэльфіі.

Аднак яшчэ большую дапамогу ў наладжванні нацыянальнага жыцця беларускія іміграны атрымалі ад структураў пад назваю ***International Institute***. Гэтыя інстытуты пачалі з'яўляцца ў ЗША на пачатку XX стагоддзя пад уплывам

[265] Юрэвіч, Л. Эмігрант Францыск Скарына... С. 433–435.
[266] Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1952. 4 апр.; 1953. 2, 15, 21, 26 июля, 10 окт., 1 нояб.; 1954. 12 дек.; 1955. 25 янв., 30 марта; Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1953. № 162–163.

кіраўнічых колаў асацыяцыі *YWCA*. Першы Інтэрнацыянальны інстытут паўстаў у Нью-Ёрку ў 1911 годзе, потым аналагічныя ўтварыліся ў Дэтройце, Чыкага і інш. У сярэдзіне XX стагоддзя такіх інстытутаў у гарадах ЗША было каля 50. Асноўная іх мэта была дапамагаць імігрантам вучыць мову і гісторыю краіны, спрыяць у пошуку працы і г. д. Гэтыя структуры дзейнічаюць і цяпер. Аўтар гэтых радкоў уваходзіў у дырэкцыю такога інстытута ў горадзе Джэрсі-Сіці.

Сяброўства ў гэтых структурах шырокае: да іх могуць належаць і арганізацыі, і прыватныя асобы. Інстытуты атрымоўваюць субсідыі ад дзяржавы, якія даюць магчымасць мець сталую адміністрацыю. Дапамога імігрантам ідзе значная, і беларусы ў 1940—1950-я гады часта карысталіся памяшканнямі згаданых арганізацый для сваіх сходаў: аплата была мінімальная, а калі грошай не было, дык і без аплаты. Вось адзін з прыкладаў беларускага ўдзелу ў Інтэрнацыянальных інстытутах:

*Беларусы Лёс Анджэлесу прынялі ўдзел у Інтэрнацыянальным дні, які адбыўся 8-га й 9-га кастрычніка. Арганізатарам Інтэрнацыянальнага дня быў мясцовы Інтэрнацыянальны Інстытут, які існуе і працуе ўжо 50 гадоў. Мэта Дня — пазнаёміць амерыканскае грамадства з культурнымі здабыткамі народаў свету. У праграму ўвайшлі міжнародная выстаўка, канцэрт і буфэт з ежай розных нацыянальнасцяў.*

*Беларусы ўдзельнічалі ў выстаўцы (побач з 14-ма іншымі нацыянальнасцямі) і канцэрце (побач з 28-ма іншымі нацыянальнасцямі). Беларуская выстаўка і канцэрт ладзіліся супольнымі сіламі Аддзелу Беларуска-Амерыканскага Задзіночання ў Лёс Анджэлесе і групы Беларусаў, што да аддзелу не належаць*[267].


NR 12/IV/59

Вельмі Паважаны Сп.........................

Ветліва просіцца Вас, Вашую сям'ю і знаемых прыбыць на сьвяточную акадэмію у часьць 25 Сакавіка — Дня Незалежнасьці Беларусі, якая адбудзецца у Нядзелю 29 сакавіка (марца) 1959 г. гэтым разам пунктуальна а гадзіне 3-ай папаўдні у:

International Institute, 111 E. Kirby st., Detroit, Mich.

Вашая прысутнасьць памова належна ушанаваць незапомнае сьвята Беларускага Народу.

Управа Аддзелу БАЗА
у Дэтройце.

Запрашэнне на святкаванне Дня Незалежнасці Беларусі, якое ладзіў аддзел БАЗА ў памяшканні Інтэрнацыянальнага інстытута ў Дэтройце. 1959 г.

У Дэтройце беларус Мікола Прускі, прадстаўнік БАЗА, уваходзіў у кіраўніцтва мясцовага Інтэрнацыянальнага інстытута, і, як сведчаць захаваныя друкаваныя матэрыялы — запрашэнні, улёткі і інш. — у памяшканнях гэтай арганізацыі адбываліся шматлікія беларускія імпрэзы, у тым ліку і святкаванне 25 Сакавіка.

Беларускія імігранты паваеннае хвалі ад самага пачатку добра зразумелі, што ўдзел у міжнародных арганізацыях гэтаксама важны для беларускае справы, як і заснаванне сваіх нацыянальных арганізацый. Таму, дзе б ні ўзнікалі шматнацыянальныя групы лакальнага або агульнаамерыканскага абсягу, беларусы да іх далучаліся. Адною з першых такіх арганізацый была ***Нацыянальная канфедэрацыя амерыканскіх этнічных групаў*** з сядзібаю ў Вашынгтоне, якая падтрымоўвала развіццё

[267] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1960. № 44 (528).



этнічнае свядомасці, а таксама заахвочвала «этнікаў» актыўна ўдзельнічаць у амерыканскім палітычным жыцці. У розны час афіцыйныя пасады, улучна з пастом віцэ-прэзідэнта, у канфедэрацыі займалі Вітаўт Кіпель, Кастусь Мерляк і Васіль Мельяновіч[268]. Арганізацыя была дзейная да канца 1990-х гадоў.

Другою ўсеамерыканскаю арганізацыяй, у якой ад самага пачатку бралі чынны ўдзел беларусы, былі ***«Паняволеныя Народы» (Captive Nations)***. Гэтая структура, дзе беларусы прысутныя ва ўсіх аддзелах, штогод ладзіла адзначэнне Тыдня паняволеных народаў. Упершыню гэта адбылося ў 1959 годзе, калі амерыканскі Кангрэс адзінагалосна прыняў рэзалюцыю, што ўпаўнаважвала прэзідэнта абвяшчаць такі «Тыдзень» да таго часу, пакуль не будзе здабытая свабода і незалежнасць для ўсіх паняволеных народаў свету. У згаданай рэзалюцыі сярод іншых паняволеных краінаў згадвалася і Беларусь[269].

Беларусы штогод удзельнічалі ў Тыднях паняволеных народаў у розных гарадах ЗША. Вось прыклад рэпартажу з аднаго з такіх мерапрыемстваў у Вашынгтоне:

*Вельмі важнай падзеяй быў беларускі ўдзел у вадзначэньні Тыдня Паняволеных Народаў у Вашынгтоне 21 ліпеня сёлета [1979 г.]. Беларуская выстаўка, дзясяткі і сотні інтэрв'ю прадстаўнікам друку ды багатая беларускага праграма ў канцэрце — падзеі і здабыткі нештодзённыя! І ў Вашынгтоне беларускі ўдзел таксама вызначаўся сваёй масавасьцяй. Цудоўны беларускі жаноцкі хор «Каліна» пад бязьзьменным і нястомным кі-*




Беларусы ў часе Тыдня паняволеных народаў. Нью-Ёрк, 2016 г.

[268] NCAEG News. Washington (DC). 1959. June 6. № 3; Папка «Нацыянальная Канфэдэрацыя Амэрыканскіх Этнічных Групаў» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1960. № 42 (526).

[269] Архівы БККА пад Царквой Св. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі); Беларус. Нью-Ёрк. 1969. № 147—148; 1979. № 268.

*раўніцтвам кампазытара Ксавэра Барысаўца ды аж тры беларускія танцавальныя групы моладзі, усе ў нацыянальным адзенЬні, праводзілі важную работу ў галіне беларускай нацыянальнай рэпрээзнтацыі*[270].

Арганізацыя стала менш актыўная пасля распаду СССР, але ў некаторых гарадах, як і афіцыйна амерыканскім Кангрэсам, Тыдзень паняволеных народаў прызнаецца і адзначаецца. Актыўны ўдзел тут бяруць БАЗА і Беларуска-амерыканскае згуртаванне «Пагоня».

Падобная палітычная арганізацыя сусветнага абсягу, у якой удзельнічалі беларусы, — ***Антыбальшавіцкі блок народаў (АБН).*** Беларусы мелі аддзел АБН у Нью-Ёрку[271]. Са смерцю Міхася Сенькі ў 2016 годзе ўдзел беларусаў спыніўся.

Як ужо было зазначана раней, беларусы ўваходзяць у склад шматэтнічных кааліцыяй накшталт ***Нацыянальнае рады рэспубліканскіх этнічных групаў*** або аналагічнае арганізацыі ў структуры Дэмакратычнае партыі[272].

Можна згадаць таксама ***Кааліцыю народаў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы (Central and East European Coalition — CEEC)***. Гэта палітычная арганізацыя, куды ўваходзяць як сябры прадстаўнікі 18 нацый. Беларускі рэпрэзентант, які дзейнічаў ад самага пачатку — Расціслаў Завістовіч (ад БККА). Калі ён памёр у 2000 годзе, яго месца ў якасці беларускага прадстаўніка ў Кааліцыі заняла Алеся Кіпель (ад БАЗА), якая часта выконвала функцыі сакратара ўсяе арганізацыі. Сёння беларусаў у гэтай арганізацыі рэпрэзентуе Вячаслаў Бортнік. Роля гэтай Кааліцыі найперш дарадчая: яна часта ўдзельнічае ў нарадах з прадстаўнікамі Дзярждэпартамента і амерыканскімі заканадаўцамі[273].

Навуковай міжэтнічнай арганізацыяй з удзелам беларусаў была ***Асацыяцыя вывучэння нацыянальнасцяў СССР і Усходняе Еўропы***, сядзіба якое знаходзілася спачатку ў штаце Ілінойс, пасля ў Нью-Ёрку. Галоўным ініцыятарам стварэння арганізацыі быў прафесар Сцяпан Горак, украінец, які напісаў некалькі грунтоўных артыкулаў на беларускую тэму. З ягоным непасрэдным удзелам была апублікаваная бібліяграфія нацыянальнасцяў СССР, улучна з беларускай, якая была вельмі папулярная ў каледжах ЗША[274]. Асацыяцыя выдавала бюлетэнь *«Nationalities Papers»*, дзе друкаваліся матэрыялы і на беларускія тэмы[275]. Дзейная да сёння. З беларускімі дакладамі выступаюць Паўліна Сурвілла, Таццяна Кулакевіч, Зіна Гімпелевіч, Дэвід Марплз, Томас Бэрд.

Варта таксама назваць ужо згаданую вышэй ***Амерыканскую асацыяцыю даследавання славістыкі (The American Association for the Advancement of Slavic Studies — AAASS)*** — найстарэйшую такога кшталту арганізацыю ў ЗША. Яна групуе даслед-

[270] Беларус. Нью-Ёрк. 1979. № 268.

[271] Архівы БККА пад царквой Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі).

[272] Архівы Васіля Мельяновіча.

[273] Больш пра Кааліцыю народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы гл.: Гардзіенка, А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі... С. 232.

[274] Kipel, V. Bibliography on Byelorussia // Guide to the Study of the Soviet Nationalities, Non-Russian Peoples of the USSR / Ed. by S.M. Horak. Littletone (CO): Libraries Unlimited, 1982. P. 49–64.

[275] Папка Сцяпана Горака ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



чыкаў-славяназнаўцаў, у тым ліку і беларусістаў, што працуюць у амерыканскіх навучальных установах. Каля двух дзясяткаў сябраў Беларускага інстытута навукі і мастацтва былі таксама сябрамі і *AAASS*. У 2010 годзе арганізацыя змяніла назву на ***Асацыяцыя славянскіх, усходнееўрапейскіх і еўразійскіх даследаванняў (Association for Slavic, East European, and Eurasian Studies — ASEEES)***. Яе з'езды адбываюцца штогод у розных вялікіх гарадах ЗША: Бостане, Нью-Ёрку, Вашынгтоне і інш., а таксама ў Канадзе (канадскія славісты складаюць значную і актыўную частку гэтай арганізацыі). На з'ездах *ASEEES* рэгулярна гучаць даклады на беларускія тэмы, а часам ладзяцца і цэлыя беларускія секцыі. На гэтых жа форумах звычайна адбываюцца і з'езды Паўночнаамерыканскай асацыяцыі беларускіх даследаванняў (*NAABS)*, якая таксама ўваходзіць у *ASEEES.*

Праваслаўныя парафіі і цэрквы навязалі кантакты з іерархамі іншых нацыянальных цэркваў, Сусветным патрыярхатам, удзельнічаюць у лакальных святкаваннях праваслаўнае еднасці, а таксама ў экуменічных хрысціянскіх урачыстасцях[276].

Шмат якія штаты і большыя гарады маюць свае этнічныя рады, дзе актыўна працуюць беларусы, часам займаючы ў іх адказныя пасады. Так, Этнічную дарадчую раду пры губернатары штата Нью-Джэрсі ў 1978–1982 гадах узначальваў Вітаўт Кіпель, пасля ад беларусаў у Радзе была Ірэна Дутко, пазней — Лявон Шурак.

Пра *Этнічную раду ў Нью-Джэрсі (Governor's Ethnic Advisor Council of New Jersey)* варта зрабіць невялікі каментар. Гэтую Этнічную раду заснаваў у 1978 годзе губернатар Брэндан Бэрн. Рада складалася з 28 асобаў, прадстаўнікоў розных



Губернатар Брэндан Бэрн (сядзіць у цэнтры) падпісвае праклaмацыю аб абвяшчэнні 25 сакавіка Днём беларускай спадчыны ў штаце Нью-Джэрсі. Сядзяць побач з губернатарам Галіна Русак і Пётр Кажура. Трэнтан, 1975 г.

[276] Беларус. Нью-Ёрк. 1979. № 261, 265; 1984. № 320; 1989. № 362; 1990. № 372.

нацыянальных арганізацый штата. Паклікалася на два гады, старшыню прызначаў губернатар. Асноўная функцыя рады — кансультаваць губернатара ў дачыненнях з нацыянальнасцямі штата і дапамагаць аддзелу адукацыі ў наладжванні школьных і пазашкольных адукацыйных праграмаў у вывучэнні этнічных спадчынаў штата.

*Стварэньне Рады не было вялікім сюрпрызам, аб магчымасьці гэтага гаварылася і раней, але бомбай сталася тое, што старшынёй Рады быў прызначаны Вітаўт Кіпель — прадстаўнік ад беларусаў штату. Ясна, найбольш спадзяваліся на старшынёўства ў Радзе прадстаўнікі большых нацыянальных групаў, асабліва палякі і іспанамоўныя групы, сярод якіх найбольш палітычна актыўныя былі кубінцы. Але старшынёй зрабілі беларуса.*

*Відавочна, пачынаць працу было не лёгка — адчуваўся супраціў. Але я ведаў шмат людзей у штаце, меў добрыя дачыненьні з адміністрацыяй, дык праца зрушылася. [...]*

*Пры падтрымцы Рады ў школьныя праграмы штату ўвайшла як дадатковае чытанне кніга «Этнічны досвед штата Нью-Джэрсі» (NJ Ethnic Experience, 1979), дзе згадваецца шмат нацыянальнасцяў, улучна з беларусамі, як прадстаўнікоў розных культураў, якія прычыніліся да будавання штата. Дарэчы, на вокладцы і супервокладцы гэтае кнігі была карціна Пётры Міplayer Мірановіча «Беларускія эмігранты». [...]*

*З ініцыятывы Этнічнай рады ў горадзе Джэрзі Сіты пачаліся этнічныя фэстывалі, якія працягваюцца і да сёньняшняга часу. Дадам: перамовы — і то складаныя — наконт запачаткаваньня фэстываляў з «айцамі» гораду і з фэдэральнымі ўладамі праводзіў я. Складанасьць перамоваў была ў тым, што Этнічная рада жадала, каб фэстывалі адбываліся ў Парку Свабоды (Liberty Park), які знаходзіцца ў юрысдыкцыі фэдэральнай адміністрацыі.*

*Па лініі дзейнасьці Этнічнай рады ў штаце адбылося некалькі канфэрэнцыяў, прысьвечаных адукацыі і каардынацыі інфармаваньня пра нацыянальнасьці штату. Прайшла бібліятэчная канфэрэнцыя, дзе падкрэсьлілі неабходнасьць мець у Штатнай бібліятэцы ў Трэнтане калекцыю кніжак пра нацыянальнасьці штату*[277].

Пра дзейнасць Этнічнай рады ў Нью-Джэрсі ў 1978–1982 гадах больш можна прачытаць у кнізе «Жыць і дзеіць», а тут варта толькі звярнуць увагу, што ў працы шмат дапамагалі сябры беларускіх арганізацый БККА і БАЗА Жорж Наумчык, Васіль Русак і Антон Шукелойць. Яны ўдзельнічалі ў ладжанні канферэнцый, фестываляў, зборак, і дзякуючы ім шмат удалося зрабіць.

*Этнічную дарадчую раду* ў штаце Мэрыленд узначальваў Васіль Мельяновіч, беларусы займалі ў свой час пасады дарадцаў у штатах Нью-Ёрк, Каліфорнія, Агаё[278]. Праз Этнічную дарадчую раду былі прачытаныя сотні дакладаў пра Беларусь, найперш школам, але і іншым установам, а таксама беларуская тэма была ўведзеная ў праграмы «вуснай гісторыі» ды ў розныя кнігі і даведнікі.

У Кліўлендзе быў запачаткаваны ***Рух нацыянальнасцяў*** — шматэтнічная палітыка-культурная арганізацыя, якая ахапляе дзейнасцю штат Агаё. Беларусы ад самага пачатку актыўна ўдзельнічалі ў працы руху. Некалькі адказных пасадаў у арганізацыі займаў Янка Раковіч[279].

---

[277] Кіпель, В. Жыць і дзеіць. С. 372–375.

[278] Беларус. Нью-Ёрк. 1979. № 261, 265; 1981. № 290–291; 1982 № 297; 1985. № 327; 1989. № 364.

[279] Архівы БАЗА, Кліўленд.



У Нью-Ёрку дзеіць ***Рада славянскай спадчыны ў Амерыцы (Славянская рада)***, шматнацыянальная арганізацыя, заснаваная ў 1977 годзе. Яе з'яўленне стала вынікам святкавання ў 1976 годзе 200-годдзя ЗША. Усе этнічныя групы тады адзначылі гэты юбілей, і ў выніку ў 1977 годзе ў Нью-Ёрку быў арганізаваны першы Тыдзень славянскай культуры. Каб яго правесці, быў створаны Славянскі камітэт, у які ўвайшлі беларусы, македонцы, палякі, рускія, славакі, славенцы, сербы, чэхі і ўкраінцы, пазней далучыліся баўгары і харваты. З часам камітэт ператварыўся ў Раду, якая папулярызуе славянскія культуры праз канцэрты, лекцыі, фестывалі. Раз на год ладзіцца ў Нью-Ёрку Славянскі тыдзень з вялікім канцэртам, які звычайна адбываецца ў Цэнтры Лінкальна. У выканаўчы камітэт рады ўваходзілі Раіса Станкевіч, Антон Шукелойць, Вітаўт Тумаш-малодшы, Віктар Тур[280]. У 1997 годзе Славянская рада гучна адзначала свой 20-гадовы юбілей, на якім тры прадстаўнікі-беларусы былі ўзнагароджаны граматамі: Вітаўт Кіпель, Ала Орса-Рамана і Антон Шукелойць[281]. Рада дзейнічае і сёння. Беларусаў у ёй прадстаўляюць Віталь Зайка і Ганна Сурмач.

Беларусы ўдзельнічаюць у шматнацыянальных культурных арганізацыях таксама ў штатах Пенсільванія, Каліфорнія, Мічыган і Ілінойс[282]. Па стане на 2014 год да міжнацыянальных арганізацый штатнага маштабу беларусы належалі ў Нью-Джэрсі, Нью-Ёрку, Пенсільваніі, Агаё.

Як было паказана ў гэтым раздзеле, беларуска-амерыканскія арганізацыі ўзнікаюць і распадаюцца, перажываюць свае першапачатковыя мэты, перагрупоўваюцца і перафармоўваюцца, квітнеюць і занепадаюць. Адныя з іх жывуць каротка, іншыя даўжэй, некаторыя большыя — дзесяцігоддзямі. Часта яны церпяць разлад і расколы, што стрымлівае іх актыўнасць, але ў большасці выпадкаў яны выяўляюць трываласць і адданасць справе.

Відавочна, актыўнасць паваеннае беларускае іміграцыі была б значна больш плённая, і з гэтым пагадзіліся б усе беларускія актывісты, калі б дзейнасць гэтых арганізацый каардынавалася нейкім усёахопным цэнтральным органам. У 1950–1960-я гады неаднаразова рабіліся спробы дасягнуць такое цэнтралізацыі.


Лявон Савёнак

У 1953–1954 гадах група вядучых беларускіх дзеячаў у складзе Лявона Савёнка, Аўгена Каханоўскага, Юрыя Сабалеўскага, Аляксандра Русака і некаторых іншых выступіла з прапановаю стварыць ***Беларускі нацыянальны камітэт Паўночнае Амэрыкі***, які б каардынаваў дзейнасць беларускіх арганізацый. Група сустрэлася з кіраўнікамі шмат якіх беларускіх структураў, быў нават падрыхтаваны статут і вызначаныя далейшыя крокі. Аднак ідэя гэтая так і не ажыццявілася, бо распалася сама ініцыятыўная група.

Наступная спроба была зробленая падчас 6-га Кангрэса БАЗА 28–29 траўня 1955 года, на якім была прынятая наступная рэзалюцыя:

---

[280] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).

[281] Беларус. Нью-Ёрк. 1997. № 441.

[282] Папка «Міжнацыянальныя арганізацыі» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

*6-ты Кангрэс Беларуска-амерыканскага задзіночання даручае новаабранай Галоўнай Управе БАЗА безадкладна паклікаць адмысловую камісію для справы арганізацыі цэнтральнай рэпрэзентацыі беларускай эміграцыі ў ЗША, выступіць з ініцыятывай стварэння гэткай арганізацыі перад іншымі беларускімі арганізацыямі і ўстановамі ў ЗША ды, у меру магчымасці, давесці да стварэння гэткай арганізацыі да часу наступнага 7-га Кангрэса Беларуска-амерыканскага задзіночання.*


Віктар Чабатарэвіч

Такая камісія была створаная ў складзе Міхася Тулейкі, Кастуся Мерляка і д-ра Вітаўта Тумаша ад Беларуска-амерыканскага задзіночання і д-ра Міколы Шчорса і Віктара Чабатарэвіча ад Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі. Гэтая камісія склала праект статута гэткае цэнтральнае арганізацыі, якая мелася называцца ***Беларуская кангрэсавая рада Амерыкі***. Але спроба зноў скончылася няўдачай. Кіраўніцтва БАЗА і БККА, як выглядае, не пагадзіліся ў нейкіх дробных тэхнічных пытаннях праекта.

У 1960–1970-я гады спробы яднання працягваліся на практычным узроўні, як, прыкладам, супольнае святкаванне Дня Незалежнасці Беларусі. Аднак пасля першага паспяховага святкавання ў 1963 годзе ў Нью-Ёрку, калі было шмат удзельнікаў і гасцей, супрацоўніцтва разладзілася. 5 траўня 1963 года за подпісамі старшыні БККА Івана Касяка і старшыні БАЗА Кастуся Мерляка быў выдадзены зварот *«да беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў і да ўсяго беларускага грамадзянства ЗША»*. У ім прапаноўвалася выказацца ў справе арганізацыйнага аб'яднання і стварэння *«адзінай беларуска-амэрыканскай рэпрэзэнтацыі па вонкавых справах»*. Аднак з гэтай ініцыятывы нічога не атрымалася, а Кастуся Мерляка ў выніку не пераабралі на пасаду старшыні БАЗА.

Надзеі на стварэнне цэнтральнае каардынацыйнае арганізацыі зноў узнікалі, калі супольнымі намаганнямі быў набыты дом адпачынку «Белэр-Менск» або падчас святкавання 200-годдзя ЗША, але пасля колькіх удала праведзеных супольных мерапрыемстваў кантакт зноў абрываўся[283].

Аднак сама ідэя яднання не памерла, і будучыня пакажа, ці дасягнуць беларусы поспеху ў гэтым высакародным памкненні. Як сведчыць амерыканскае жыццё, тэндэнцыя ў арганізацыйных структураў ідзе больш у кірунку адасобленасці, дэзынтэграцыі. Найлепшы прыклад такога стану — адміністрацыйная незалежнасць штатаў. Да пэўнай меры гэткім жа парадкам ідзе эвалюцыя беларуска-амерыканскіх арганізацый: іх дзейнасць дэцэнтралізуецца, большымі агульна-амерыканскімі застаюцца толькі БАЗА і БІНіМ, меншыя арганізацыі — суполкі толькі штатныя, што вельмі спрыяе і іх з'яўленню, і іх знікненню. Абагульняючы, можна сказаць, што ідэя яднання, бадай, і жывая, але практычнае амерыканскае жыццё даводзіць, што арганізацыі любяць быць малымі і незалежнымі. Праўда, у дзейнасці нацыянальнасцяў у ЗША ёсць прыклады буйных федэрацый, як прыкладам, *American Jewish Federation* або італьянская *UNICO*, але ў гэтых федэрацыях-гігантах складнікамі выступаюць малыя арганізацыі, якія карыстаюцца значнай незалежнасцю.

[283] Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Архівы БККА пад царквой Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі).



Якія б розныя ні былі паваенныя беларускія арганізацыі, мэты і рацыя існавання большасці з іх палягалі ў тым, каб жыць і працаваць дзеля беларускае справы, прапагандаваць ідэі беларускае незалежнае дэмакратычнае дзяржаўнасці, падтрымоўваць і заахвочваць усё большае зацікаўленне амерыканцаў Беларуссю, яе народам, гісторыяй, культураю і цяперашнім палітычным становішчам, а таксама падкрэсліваць уклад беларусаў у амерыканскую гісторыю.

Практычнае супрацоўніцтва сёння існуе паміж БАЗА, БІНіМам і міжнароднай арганізацыяй ***«Freedom House»***, дырэктар якой сп. Дэвід Крэмэр неаднойчы выступаў на старонках буйных амерыканскіх газет, улучна з *«The New York Times»*, з крытыкай сённяшніх беларускіх уладаў і падтрымкай нацыянальных і гістарычных памкненняў беларусаў. У *«Freedom House»* часам праводзяцца зборы фінансавай дапамогі на беларускія праграмы, датацый ад прыватных грамадзянаў, ахвяраванняў ад установаў, карпарацый[284].

Наладжанае трывалае супрацоўніцтва ў беларусаў ЗША і з арганізацыяй ***«Міжнародная амністыя» («Amnesty International»)***. Тут спецыялістам па Беларусі, які часта асвятляе ейныя праблемы, сітуацыю з палітвязнямі, з'яўляецца Вячаслаў Бортнік, сябра Галоўнай управы БАЗА, сябра аддзела ў Вашынгтоне[285].

Бясспрэчна, гэта вельмі высакародная і адказная місія, выканаць якую нялёгка, якая дае свой плён не адразу, а патрабуе шмат намаганняў, прынцыповасці і адданасці. І паваенная хваля іміграцыі можа з поўным правам ганарыцца сваімі дасягненнямі, а на пачатку XXI стагоддзя гэтыя заданні-функцыі паступова пераймаюць і шмат пераняў маладзейшыя амерыканцы беларускага паходжання і новыя эмігранты 1980–2000-х гадоў. Цягам апошніх гадоў з'явілася інфармацыя пра новыя структуры: *Belarusian Democracy Institute, Inc. (Aurora, Co), Belarusian Association of the Midwest (Minnetonka, MN), Belarusian Community Center (Brooklyn, NY)*. Працэс стварэння і знікнення беларускіх арганізацый не спыняецца.

Адзнакаю сучаснасці стала ўсё большая віртуальная актыўнасць беларускіх эмігрантаў у ЗША, з'яўленне не толькі сайтаў паасобных арганізацый, але і цэлых беларускіх суполак, што камунікуюць праз інтэрнэт і дзякуючы сацыяльным сеткам ладзяць рэальныя беларускія мерапрыемствы: пікнікі, вандроўкі, святкаванні, канцэрты і інш. Гэткія інтэрнэт-супольнасці па колькасці ўдзельнікаў часта перавышаюць рэальныя беларускія арганізацыі. Гэтая новая з'ява ў жыцці беларускай эміграцыі ў ЗША таксама патрабуе адмысловага даследавання.

[284] Беларус. Нью-Ёрк. 2011. № 585.
[285] Беларус. Нью-Ёрк. 2013. № 603.

# РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ І РЭЛІГІЙНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ

Як і старыя беларускія іміграны, іміграны паваеннае хвалі і эмігранты канца XX — пачатку XXI стагоддзя ў пераважнай большасці былі праваслаўныя. Беларусы-каталікі складалі прыблізна каля адной пятай ад агульнае колькасці. Да канца 1940-х гадоў у Злучаных Штатах ніводная канфесія не мела беларускіх цэркваў.

Звычайна новапрыбылыя наведвалі найбліжэйшую праваслаўную — украінскую ці рускую — царкву або рымска-каталіцкі касцёл, аддаючы перавагу польскаму, часам літоўскаму перад чужэйшымі італьянскім або ірландскім.

Як паказала гісторыя, шмат хто з беларусаў жадаў бы мець сваю беларускую царкву або касцёл, шмат дзе было пастаноўлена ажыццявіць гэтую ідэю. На жаль, выканаць гэта было не гэтак проста. Каб уявіць сабе тое мноства цяжкасцяў, з якімі сутыкалася беларуская грамада ў гэтай справе, варта заглянуць у не такую даўнюю гісторыю і разгледзець праблемы вернікаў-беларусаў, а таксама азнаёміцца з архівамі ды карэспандэнцыяй айцоў-ксяндзоў у лонданскай Скарынаўцы.

## Спадчына мінулага. Праваслаўныя беларусы

Беларусы, клірыкі і міране, пачалі працаваць у справе аднаўлення Беларускае аўтакефаліі ў часе расійскіх рэвалюцый 1917 года, завяршыўшы гэты працэс у 1920-я гады. На жаль, у тым самым часе Савецкая дзяржава цалкам знішчыла адміністрацыйную структуру Беларускае праваслаўнае царквы, пазбавіла волі ды паступова знішчыла большасць яе кіраўнікоў і актывістаў.

Беларускае праваслаўе ў Заходняй Беларусі да пэўнае ступені выяўляла сваю беларускасць у 1920-я гады, аднак пасля трапіла пад поўны кантроль Польскае аўтакефальнае праваслаўнае царквы, што спрыяла яе хуткай паланізацыі.

Такім чынам, да 1939 года, г. зн. да пачатку Другое сусветнае вайны, Беларускае праваслаўнае царквы як незалежнае структуры практычна не існавала.

Сур'ёзныя спробы адбудаваць Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву былі зробленыя ў часе вайны і нямецкае акупацыі Беларусі.

У жніўні 1942 года ў Менску быў скліканы Усебеларускі праваслаўны сабор. Кіраваны нацыянальна свядомым беларускім духавенствам на чале з архіепіскапам Магілёўскім і Мсціслаўскім Філафеем (Нарко), гэты сабор як найвышэйшы выразнік волі праваслаўнага духавенства і вернікаў прыняў пастанову аб кананічным абвяшчэнні аўтакефаліі Беларускае праваслаўнае царквы. Праект статута быў напісаны, прыняты і падпісаны прысутнымі епіскапамі. Быў складзены ліст да Сусветнага патрыярхату, дзе паведамлялася пра гэтую пастанову і выказвалася просьба да Маці-царквы абвясціць пра гэта ўсім памесным



праваслаўным цэрквам. Застаецца няясным, ці быў адказ Патрыярхату[1] і ці ліст дайшоў.

Зрабіўшы трагічны і здрадніцкі паварот, епіскапы Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы на чале з мітрапалітам Панцеляймонам (Ражноўскім) нелегальна анулявалі пастановы сабору 1942 года і, выехаўшы па вайне ў Нямеччыну, далучыліся ў 1946 годзе да Рускае праваслаўнае царквы за мяжой, арганізацыі, вядомай з яе манархічных тэндэнцый і імперска-расійскіх шавіністычных поглядаў. Гэткі крок пастыраў Беларускае праваслаўнае царквы большасцю праваслаўных беларусаў быў успрыняты як здрада і выклікаў у іх разгубленасць, роспач ды адыход ад іерархаў.

Пераважная большасць беларускіх эмігрантаў у Заходняй Еўропе хацела аднавіць Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву і пацвердзіць тым самым пастановы царкоўных сабораў 1922, 1927 і 1942 гадоў. Гэтая вялікая група эмігрантаў называла сябе «аўтакефалістамі». Лідары гэтае групы навязалі лучнасць з епіскапамі Украінскае аўтакефальнае праваслаўнае царквы (УАПЦ), шукаючы іхнае дапамогі.

Пры ўдзеле і супрацоўніцтве міранаў, духавенства ды іерархіі УАПЦ 5 жніўня 1948 года ў Канстанцы, Заходняя Нямеччына, быў скліканы адмысловы сабор. На ім была заснаваная Часовая кансісторыя Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы (БАПЦ). Была прызнаная патрэба ў епіскапскім кіраўніцтве, і дзеля гэтага архіепіскап Сергій, адзін з іерархаў УАПЦ, перайшоў у Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву. Уладзімір Тамашчык, адукаваны міранін, адзін з прызнаных і добра вядомых беларускіх лідараў, які закончыў Украінскую багаслоўскую акадэмію ў Мюнхене з ступенню доктара багаслоўя, згадзіўся быць высвячаным і прыняць манаства з імем Васіль. Ён быў узвышаны ў сан архімандрыта, а 18–19 снежня 1949 года высвячаны на епіскапа БАПЦ у Розенгайме, Заходняя Нямеччына[2].



Епіскап Васіль (Тамашчык)

Такім чынам, з архіепіскапам Сергіем у якасці першаіерарха і епіскапам Васілём у якасці сакратара Кансісторыі іерархія БАПЦ была адноўленая, і гэтак споўнілася жаданне большасці беларускіх эмігрантаў.

Другая частка беларускіх эмігрантаў хацела і надалей падтрымоўваць кантакты з духавенствам, якое перайшло ў Рускую праваслаўную царкву за мяжой, спадзеючыся пераканаць іх у памылковасці іхнага кроку і вярнуць у Беларускую царкву. Але гэтага ніколі не адбылося, хоць перамовы і вяліся.

## Беларусы-каталікі. Заходні абрад

Паводле звычайнага польскага пераканання, усе рыма-каталікі, што жывуць на ўсход ад Буга, — палякі. Гэтае цалкам неабгрунтаванае меркаванне абвяргаецца ўсімі даследаваннямі і фактамі. Паводле д-ра Юрыя Туронка, у Беларусі жыве не больш за паўмільёна палякаў, астатнія рыма-каталікі на ўсход ад Буга —

[1] Царкоўны Сьветач. Саўт-Рывэр. 1955. № 6; 1967. № 16; Запісы БІНіМ. № 17. Нью-Ёрк, 1983.

[2] Бацькаўшчына. Osterhofen. 1948. № 24; Мюнхэн. 1949. № 60; 1950. № 61; Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1970 год. Кліўлэнд, 1969; Голас Царквы. Бруклін. 1970. № 32; Беларуская Думка. Саўт-Рывэр. 1960. № 1.

этнічныя беларусы[3]. Шмат рыма-каталікоў было сярод тых, хто ішоў у авангардзе беларускага палітычнага адраджэння ў канцы XIX і на пачатку XX стагоддзяў, сярод іх было нямала і рымска-каталіцкіх святароў. З іхнае ініцыятывы ў 1918 годзе ў Менску адчынілася каталіцкая семінарыя, яны заснавалі шмат перыядычных выданняў, навуковых і культурных установаў[4].

Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 года ў Расіі і Рыжскага міру 1921 года сітуацыя пачала мяняцца. Ва Усходняй Беларусі, кантраляванай Саветамі, у 1926 годзе біскуп Магілёўскі магістр Баляслаў Слосканс быў арыштаваны. У выніку гэтага арышту арганізаваная беларуская каталіцкая дзейнасць на тэрыторыі БССР была спыненая, а кіраўніцтва і актыў зняволеныя.

У Заходняй Беларусі беларусы-каталікі працягвалі сваю дзейнасць з пэўным поспехам да канца 1920-х гадоў. На жаль, у 1930-я гады гэтая дзейнасць была амаль цалкам спыненая ў выніку таго, што польскія касцельныя ўлады ў цесным супрацоўніцтве з урадам выслалі амаль усіх беларускіх ксяндзоў далёка за межы Беларусі — у Францыю, Нямеччыну, Італію, на Далёкі Усход і ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Жменька святароў, якім было дазволена застацца ў Беларусі, прыкладам а. Адам Станкевіч, а. Вінцук Гадлеўскі ды некаторыя іншыя, мусілі цярпець няспынныя пераследы і адольваць безліч перашкодаў, што ставіліся перад імі, не даючы ім выконваць звычайныя душпастырскія абавязкі[5].

Падчас Другое сусветнае вайны беларускія каталіцкія парафіі былі арганізаваныя ў шматлікіх гарадах і мястэчках, улучна з сталіцаю — Менскам. Але гэта не значыць, што цяжкасцяў і перашкодаў сталася меней. Наадварот, святарам і свецкім актывістам штодня даводзілася супрацьстаяць ідэалагічнай апазіцыі і падкопам польскае каталіцкае іерархіі, антырэлігійных савецкіх цывільных уладаў і акупацыйнае нямецкае адміністрацыі. Нямецкія ўлады непрыхільна ставіліся да рэлігійных лідараў, і, прыкладам, у выпадку з а. Вінцэнтам Гадлеўскім, падазрэння ў сувязях з беларускім нацыянальным падполлем і падтрыманні кантактаў з Ватыканам было дастаткова, каб арыштаваць яго і знішчыць у снежні 1942 года[6].

Беларусы-каталікі здолелі скарыстаць з мінімуму арганізацыйнае свабоды ў паваеннай Заходняй Еўропе. Аднак ім не ўдалося заснаваць ніводнае асобнае трывалае парафіі. Усе намаганні былі скіраваныя на тое, каб забяспечыць беларускіх вернікаў рэлігійнай, інфармацыйнай і інтэлектуальнай літаратурай, а таксама адукаваць вышэйшыя каталіцкія ўлады ў існаванні беларускае нацыі, адрознае ад палякаў і рускіх[7].

---

[3] Туронак, Ю. Каталіцызм у Беларусі — маштаб праблемы // Скарыніч. Вып. 1. Мінск, 1991. С. 230–237.

[4] Stankievič, A. Bielaruski Chryścijanski ruch. Vilnia, 1939. S. 272.

[5] Candle in the Wind: Religion in the Soviet Union. Washington (DC), 1989. P. 43–48; Гэрмановіч, Я. Кітай — Сібір — Масква. Мюнхэн, 1962; Божым Шляхам. Лёндан. 1967. № 101; 1972. № 133–134; 1973. № 136; 1980. № 151.

[6] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1952. № 130–131; Byelorussian Statehood... P. 320–321.

[7] Папка П. Татарыновіча ў Калекцыі В. Кіпеля ў ІНRC, Minneapolis (MN); Архіў беларускага лагера Ды-Пі ў Ватэнштэце.



## Беларусы-каталікі. Усходні абрад

Хоць у міжваеннай Заходняй Беларусі сям-там існавалі ўніяцкія парафіі, Беларускі грэка-каталіцкі экзархат быў заснаваны толькі ў канцы 1930-х гадоў. А. Антон Неманцэвіч быў прызначаны экзархам у 1940 годзе. У 1942 годзе ён загінуў у нацысцкіх катоўнях[8].

Папа Ян XXIII аднавіў беларускую каталіцкую іерархію ўсходняга абраду, высвяціўшы на біскупа а. Часлава Сіповіча 4 жніўня 1960 года. Беларусы-ўніяты здолелі заснаваць у паваенны час шэраг сваіх місій і парафій — у Госляры, Лондане, Мюнхене, Парыжы, Рыме і Чыкага[9].

Беларускія дзеячы каталіцкага веравызнання ў ЗША ці то ранняе стадыі эміграцыі, як, прыкладам, Янка Чарапук-Змагар, ці дзясяткі выбітных лідараў, як д-р Станіслаў Грынкевіч, Вацлаў Пануцэвіч, Мікола Кунцэвіч, Андрэй Попка, Апалонія Савёнак і г. д., даўно не жывуць. Аднак арганізацыйна-нацыянальныя дзеянні беларусаў у лоне Каталіцкай царквы за межамі Беларусі не спыняюцца.

Трэба падкрэсліць, што ад часу стварэння Рэспублікі Беларусь грамадства беларускае — каталікі абедзвюх галінаў (лацiннікі і ўніяты), перамагаючы вялікія цяжкасці, ідуць па шляху стварэння менавіта Беларускай каталіцкай царквы. Беларусізацыя каталіцызму ў Беларусі беззваротная. У БІНіМе захоўваюцца копіі лістоў — сталага камунікавання з іерархамі ў Менску, арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам, а таксама з царкоўнымі ўладамі ў Ватыкане, каб быў прызначаны для беларускай каталіцкай дыяспары апостальскі візітатар, што *«стала б штуршком для кансалідацыі, згуртавання і дзейнасці каталікоў-беларусаў за межамі Беларусі»*[10].

## Беларусы-пратэстанты

У XX стагоддзі Беларусь зазнала надзвычайны ўздым місійнае дзейнасці — асабліва з боку баптыстаў. Пратэстанты першыя выдалі па-беларуску Новы Запавет і Псальмы, а таксама шэраг іншых важных тэкстаў. Апошнім часам назіраецца больш шырокая місійная дзейнасць пратэстантаў у беларускай мове, хоць да нядаўнае пары амаль уся баптысцкая праца сярод беларусаў вялася па-руску. На пачатку XXI стагоддзя беларускамоўныя пратэстанцкія абшчыны існуюць у штатах Арэгон, Вашынгтон, Пенсільванія.

## Стараверы

Паслядоўнікі царкоўнага расколу, якія, эміграваўшы з Расіі, стагоддзямі жылі ў Беларусі, з цягам часу засвоілі беларускую культуру, мову, і шмат хто з іх быў актыўны ў беларускім жыцці. Цімала іх прыехала ў Злучаныя Штаты, дзе яны

---

[8] Божым Шляхам. Парыж. 1949. № 26–27.

[9] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1960. № 492, 513, 515–516, 520–521; Беларускія Навіны. Парыж. 1946. № 2; Picarda, G. The Byelorussian Church. Chicago, 1977; Christ the Redeemer Church. Tenth Anniversary, 1955–1965. Chicago, 1965; Roberson, R. The Eastern Christian Churches: A brief survey. Roma, 1988. P. 24, 37; Tolliver, R. Late Night Lattés and Midnight Musings: a dad looks at life. Freeport (Il), 2002. 175 p. (p. 117–118 — Ramuk`s Family, p. 161 — Church).

[10] Ліставанне КХП-БНФ з царкоўнымі ўладамі (ліпень 2015 г.) у Калекцыі В. Кіпеля ў ІНRC, Minneapolis (MN).

заснавалі свае грамады ў штатах Пенсільванія і Нью-Джэрсі. Яны не бралі актыўнага ўдзелу ў беларускім арганізацыйным жыцці, хоць некаторыя з іх належалі да беларускіх арганізацый. Сёння ёсць паасобныя прадстаўнікі старавераў, але не арганізацыі.

## Беларускія іўдзеі і мусульмане

Абедзве рэлігійныя групы стагоддзямі жылі ў Беларусі. Найчасцей яны замыкаліся ў сваіх вузкіх рэлігійных і сацыяльных межах, але тысячы з іх былі двухмоўныя і добра суіснавалі з навакольным беларускім насельніцтвам. Некаторыя з іх пакінулі значны след у беларускай культуры, але ў масе сваёй гэтыя рэлігійна-нацыянальныя меншасці не інтэграваліся ў беларускую культуру.

* * *

Такім чынам, калі ў канцы 1940-х гадоў пачалася масавая хваля паваеннае беларускае іміграцыі ў Злучаныя Штаты, беларусы былі падзеленыя не толькі палітычна, але і рэлігійна. Гэтая шматпластовасць беларускага грамадства была перанесеная ў Амерыку, дзе яна заставалася адным з сталых чыннікаў грамадскага разладу. Аднак і грамадства, і кіраўніцтва, і святары, і лідары арганізацый у гэтай дзялянцы, як кажуць, трымаюць руку на пульсе, і рэлігійныя непаладкі-канфлікты ў беларускім асяроддзі ў ЗША амаль зліквідаваныя.

## Беларускае рэлігійнае жыццё ў Злучаных Штатах

### *Беларусы-праваслаўныя*

Пачаткі беларускае праваслаўнае дзейнасці ў ЗША датуюцца 1948–1949 гадамі. Грамады, дзе ўзніклі беларускія брацтвы і рэлігійныя арганізацыі, сутыкнуліся з трыма рознымі пазіцыямі што да рэлігійнае дзейнасці.

Найбольш шматлікая і дынамічная група імігрантаў-праваслаўных пачала фармаваць парафіі аўтакефалічнае арыентацыі, звярачаючыся па дапамогу і падтрымку да прыхільных украінскіх і карпатарускіх праваслаўных цэркваў.

Другая група, што трымалася традыцыйнае кананічнае арыентацыі, шукала законных, у іхным разуменні, царкоўных уладаў, з якімі яны маглі б увайсці ў малітоўную згоду, не ставячы пры гэтым пад пагрозу сваю беларускасць. Гэтая група, на чале якое стаяў а. Мікалай Лапіцкі, пастанавіла звярнуцца да прадстаўніка Сусветнага патрыярхату ў Паўночнай Амерыцы — архіепіскапа Міхаіла з Грэцкае праваслаўнае архіепіскапіі.

У адрозненне ад сітуацыі ў Еўропе сярод імігрантаў у Злучаных Штатах не было імкнення далучыцца да беларускіх епіскапаў, якія пакінулі беларускі народ, пайшоўшы ў Рускую праваслаўную царкву за мяжой. Была, аднак, група людзей, якія не мелі выразнага ўяўлення пра тое, што трэба рабіць або што можна зрабіць на карысць беларускага праваслаўя. Будучы фаталістамі, яны занялі старую, як свет, пазіцыю *«як Бог дасць»* у дачыненні да ўзніклае рэлігійнае праблемы. Гэтая вельмі нешматлікая група заснавала пару цэркваў без сталае іерархіі. На няшчасце ўсяе беларускае грамады ў Амерыцы, гэтыя цэрквы амаль нічым не прычыніліся да беларускага арганізацыйнага жыцця ў Злучаных Штатах.



#### *Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква*

Пасля аднаўлення іерархіі БАПЦ у 1948 годзе архіепіскап Сергій пасяліўся ў Аўстраліі, а епіскап Васіль у 1951 годзе пераехаў у Злучаныя Штаты, дзе пад ягоным кіраўніцтвам пачалася арганізацыйная праца БАПЦ, як і вонкавая рэпрэзентацыя[11]. Ад 1957 года ён амаль штогод чытаў малітву за Беларусь у Кангрэсе ЗША на 25 Сакавіка. Рэзідэнцыяй епіскапа стаўся Нью-Ёрк. Да пачатку XXI стагоддзя найвышэйшымі іерархамі БАПЦ былі ўладыкі Мікалай (Мацукевіч) і Ізяслаў (Бруцкі). Сёння кіруе БАПЦ уладыка Святаслаў (Логін), які жыве ў Таронта, але часта адведвае беларускія парафіі ў ЗША.

Парафія ў Нью-Ёрку

Беларускі парафіяльны камітэт у Нью-Ёрку быў заснаваны 26 жніўня 1950 года[12]. У верасні 1950 года ў нанятым для царквы памяшканні крамы на *461 Ashford Street* у Брукліне айцец Хведар Данілюк адправіў першую беларускую Божую службу. Неўзабаве была створаная парафіяльная рада ў складзе: праф. Мікола Дарашэвіч[13] — старшыня, д-р Аляксандр Орса — скарбнік. Сябры рады — Мікола Гарошка, Міхась Тулейка, Янка Ніхаёнак. Тое нанятае памяшканне было названае «Беларуская хатка», і ў адным вольным пакоі тут жыў праф. Мікола Куліковіч — кіраўнік царкоўнага і свецкага хораў. Улетку 1951 года перабраўся ў ЗША з Нямеччыны епіскап Васіль, ён пасяліўся ў Брукліне і ад таго часу пачалася ў Амерыцы дзейнасць БАПЦ. Выпадкова ўладыка Васіль сустрэў святара Івана Фядыну з карпатарускае парафіі юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярха і дамовіўся з ім, каб у той парафіі адпраўляць і службы БАПЦ. Гэтак у 1951 годзе пачаліся і колькі гадоў вяліся беларускія богаслужэнні ў карпатарускай царкве пад адрасам *Ist 4th Street* на Манхэтэне[14]. Хорам стала кіраваць Галіна Ганчарэнка, бо кампазітар Мікола Куліковіч выехаў.


Айцец Хведар Данілюк

11 красавіка 1952 года парафія была інкарпараваная (зарэгістраваная) у штаце Нью-Ёрк і быў створаны спецыяльны камітэт для шукання адпаведнага памяшкання для царквы, каб набыць яго ў сваю ўласнасць. Парафіяне хацелі мець свой грамадскі і царкоўны цэнтр. У збіранні сродкаў вядучую ролю адыгрывала БАЗА[15].

Улетку 1956 года ўласнік карпатарускай царквы на Манхэтэне святар Іван Фядына раптоўна памёр, і беларусы спадзяваліся адкупіць царкоўны будынак, але цана была для грамады недаступная, і гэта вельмі прыспешыла, зактывізавала пошукі адпаведнага аб'екта. Кароткі час Божыя службы адпраўляліся ў пратэстанцкай царкве *Labor Temple* на *Ist 14th Street* таксама на Манхэтэне.

---

[11] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Гутарка аўтара з Уладзімірам Русаком, 1982; Беларус. Нью-Ёрк. 1952. № 8.

[12] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1950. № 63; Беларус. Нью-Ёрк. 1950. № 1; 2010. № 575.

[13] Голас Царквы. Бруклін. 1974. № 41.

[14] Архіў парафіі Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

[15] Беларус. Нью-Ёрк. 1952. № 19; 1953. № 28, 29; 2007. №538; Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Гутаркі аўтара з Данілам Клінцэвічам, Васілём Юрцэвічам і Міколам Кунцэвічам, 1964.



Пачаткі парафіі ў Нью-Ёрку: а. Іван Фядына, уладыка Васіль, невядомы. Нью-Ёрк, 1953 г.

Мінула трохі часу, перш чым удалося знайсці прыдатную пабудову. Нарэшце быў знойдзены дыхтоўны царкоўны будынак, які належаў прэсвітэрыянскай царкве ў Брукліне, *401 Atlantic Avenue*, які і быў набыты 15 кастрычніка 1957 года. Першы камень у будучы сабор Св. Кірылы Тураўскага быў закладзены яшчэ ў 1850 годзе. Тады гэта была епіскапальная царква Св. Пятра. У 1857 годзе ўласнікам будынка стала рэфармаваная прэсвітэрыянская царква, а ў 1863 годзе ён быў прададзены злучанай прэсвітэрыянскай царкве. На пачатку XX стагоддзя адбылася перабудова і ўласнікам стала прэсвітэрыянская царква. Эвентуальна будынак набыла баптысцкая кангрэгацыя, якая і трымала яго да 1957 года, калі прадала Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве. Беларусы, такім чынам, з'яўляюцца найдаўжэйшымі ўласнікамі будынка, якому ў 2020 годзе спаўняецца 170 гадоў і які знаходзіцца ў спісе ахоўных гістарычных будынкаў. Набыццё памяшкання для сваёй царквы каштавала беларусам каля 25 000 даляраў, гатоўкай заплочана 11 000, а на рэшту ўзятая пазыка на 20 гадоў. Будынак патрабаваў грунтоўнае перабудовы і рамонту, якія былі выкананыя ў кароткі тэрмін дзякуючы адданасці і ахвярнасці парафіянаў. Пачынальнікамі і рухавікамі гэтае парафіі былі сем'і Данілюкоў, Тулейкаў, Гарошкаў, Кажаноў, Юрцэвічаў, Захаркевічаў, Мельяновічаў, Зыбайлаў, Запруднікаў, Русакоў, Орсаў, Савёнкаў, Дарашэвічаў, Вадэйкаў, Тумашаў, Мерлякоў, Емельяновічаў, Міцкевічаў, Заморскіх, Вераб'ёў, Клінцэвічаў, Махноўскіх.

Багаслужбы пачаліся ў новай царкве ў кастрычніку 1957 года, а афіцыйная ўрачыстасць адкрыцця адбылася 3 лістапада 1957 года[16]. Патронам быў выбраны святы Кірыла Тураўскі. Царква была ўзведзеная да рангу кафедральнае і зацверджаная ў якасці сядзібы кіруючага епіскапа. Першым настаяцелем парафіі стаўся а. Хведар Данілюк, заслужаны беларускі палітычны і рэлігійны дзеяч[17]. Пад ягоным кіраўніцтвам парафія зазнала росквіт. Царква сталася цэнтрам беларускага грамадскага жыцця, тут ладзіліся разнастайныя сустрэчы, сходы, канферэнцыі. Пры царкве дзеіла вельмі добрая беларуская нядзельная школка, там часта збіралася моладзь, а часам царква служыла месцам сустрэчы шырэйшае этнічнае грамады ў Брукліне. На працягу гадоў сабор Св. Кірылы Тураўскага быў цэнтрам грамадскага жыцця ўсяго метрапалітальнага рэгіёна Нью-Ёрк — Нью-Джэрсі ды разглядаўся як прыклад, варты перайманя[18]. Архіепіскап Васіль распачаў тут выданне грунтоўнага паўгадовага часопіса «Голас Царквы», у якім разглядаліся пытанні літургіі, царкоўнае гісторыі, жыцця парафіі, а таксама сучасныя грамадска-палітычныя падзеі[19]. Пасля смерці а. Хведара Данілюка 29 ліпеня 1960 года ўзмоцніліся ўнутраныя церці ў парафіі, вырасла непаразуменне, і царква

[16] Беларус. Нью-Ёрк. 1957. № 62.





Алтар сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне



ГОЛАС ЦАРКВЫ

ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

Часопіс «Голас Царквы». 1961 г.

[17] Byelorussian Statehood... P. 316; Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 4 (75). Красавік 2000.

[18] Архівы БАПЦ, Нью-Ёрк; Беларус. Нью-Ёрк. 1958. № 63, 70; 1967. № 127; 1968. № 132.

[19] Голас Царквы. Бруклін. 1955. № 1.

перажыла шэраг расколаў, якія значна зменшылі яе значэнне і ўплыў у беларускай грамадзе.

Асабліва трагічнымі былі падзеі 1980-х гадоў, калі пачаўся судовы працэс супраць вялікае групы парафіянаў. Шмат хто з іх пакінуў парафію, і яна перастала мець хоць бы якое заўважнае значэнне ў беларускім жыцці[20].

З прыездам у ЗША новае хвалі іміграцыі, значная частка якое асела ў Нью-Ёрку і ваколіцах, сабор Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне паступова стаў зноў вельмі значным беларускім цэнтрам. Парафія спрыяла ў пошуках памяшкання, азылю, а таксама сабор прытуляў у сваіх сценах новапрыбылых. Новыя імігранты аднавілі будынак: пафарбавалі, падмацавалі. Цэлыя брыгады работнікаў пад наглядам Міколы Сагановіча і іншых энтузіястаў-парафіянаў тыднямі прыводзілі будынак да ладу. Адноўленыя арганізацыі, як сястрыцтва, школьныя групы, а таксама БАЗА і крыху БІНіМ актывізаваліся пры аднаўленні кафедральнага сабора. Тут пачаліся рэгулярныя грамадскія мерапрыемствы, святкаванні, сустрэчы з дзеячамі з Беларусі.


Архіепіскап Ізяслаў (Бруцкі)

Не рэдкасць — сустрэчы з беларускімі моладзевымі актывістамі, якія наведваюць Амерыку. Прыкладам, 28 ліпеня 2006 года ў саборы Св. Кірылы Тураўскага адбылася сустрэча з моладзевымі лідарамі з Беларусі: з Віталём Броўкам з Віцебска (старшыня моладзевай ініцыятывы «Новая плынь»), Змітром Дашкевічам з Менска (сустаршыня «Маладога Фронту»), Ільлём Заранком з Горак (сябра рады былога Задзіночання беларускіх студэнтаў) і Сяргеем Сахаравым з Менска (рэдактарам часопіса «Студэнцкая думка»)[21].

Вялікае зацікаўленне выклікаюць даклады аб ходзе і дасягненнях перыяду новага Адраджэння Беларусі. Частым госцем у парафіі бывае Сяргей Навумчык з рэфератамі-дыскусіямі ягоных храналагічных дакументацый падзей 1980—1999 гадоў у Беларусі. Зянон Пазняк у часе ягоных побытаў у ЗША прэзентуе ў саборы Св. Кірылы Тураўскага свае публікацыі. Дапамагае грамадска-культурнай дзейнасці, найперш мерапрыемствам БАЗА, службамі ў парафіі айцец Леанід Акаловіч з Менска.

Парафія наладзіла выдатныя адносіны з горадам, а гарадскія ўлады карыстаюцца таксама будынкам сабора Св. Кірылы Тураўскага для розных адукацыйных праграмаў. Падчас штогадовага фэсту «Атлантык Антык» у верасні храм становіцца цэнтрам увагі сотняў і тысячаў удзельнікаў.

У саборы Св. Кірылы Тураўскага адбываюцца таксама адміністрацыйныя кангрэсы-саборы БАПЦ. Гэтак, у 1960 годзе тут адбыўся Устаноўчы з’езд Амерыканскае епархіі БАПЦ, а 21—22 ліпеня 2012 года — сабор БАПЦ, прысвечаны юбілеям абвяшчэння аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы ў 1922 і 1942 гадах. На апошнім саборы быў абраны першаіерарх БАПЦ — архіепіскап Святаслаў (Логін)[22].

Парафію ў Нью-Ёрку цягам больш як паўстагоддзя яе гісторыі аб’ядноўвалі айцец Хведар Данілюк, уладыка Васіль (Тамашчык), айцец Карп Стар, айцец

[20] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Гутаркі аўтара з Аляксандрам Міцкевічам; Беларус. Нью-Ёрк. 1981. № 290—291; 1982. № 301—302.

[21] Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 524.

[22] Беларус. Нью-Ёрк. 2012. № 593; Архівы БАПЦ, Нью-Ёрк.



Васіль Кендыш, уладыка Мікалай (Мацукевіч), сп-ры Мікола Гарошка, Міхась Міцкевіч, Алесь Міцкевіч, Міхась Тулейка, Андрэй Каптуровіч, тут служылі а. Расціслаў Войтанка, а. Ігар, а. Юры Драздоўскі, уладыка Ізяслаў (Бруцкі). Дый сёння аддана працягваюць традыцыю ўтрымання і разбудовы парафіі а. Расціслаў Войтанка, а. Леанід Акаловіч ды настаяцель айцец Іван Кухар і ўладыка Святаслаў (Логін), які даволі часта адведвае парафію, дапамагае ў адміністрацыйных справах.

Вельмі шмат у гісторы беларусаў у ЗША пераплецена-звязана-распачата ў саборы Св. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Брукліне. Пра гэта можа быць напісаная асобная кніга.


Сабор Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. 2016 г.

## Парафія ў Кліўлендзе, штат Агаё

А. Яўхім Якіменка пачаў служыць Божую літургію для новаўзніклае беларускае грамады ў Кліўлендзе ў 1950 годзе. Аднак парафія БАПЦ была фармальна заснаваная толькі ў кастрычніку 1951 года[23]. Літургіі пачалі рэгулярна служыцца ад снежня 1951 года. Парафія ўзяла назоў Жыровіцкае Божае Маці. Колькасць парафіянаў хутка расла, і за колькі гадоў парафія мела магчымасць купіць ладны кавалак зямлі і пабудаваць новую царкву. Нарожны камень быў добраслаўлёны а. Мікалаем Макарэвічам 4 ліпеня 1959 года, а 3 верасня 1960 года архіепіскап Васіль асвяціў новазбудаваную царкву. Яна выкананая ў традыцыйным беларускім стылі і прыцягвае ўвагу даследчыкаў царкоўнае архітэктуры. На працягу колькіх гадоў царква была сядзібаю першаіерарха БАПЦ мітрапаліта Андрэя (Крыта).


Архіепіскап Андрэй (Крыт)

Кліўлендская парафія была адной з найлепш арганізаваных і наймацнейшых сярод беларускіх парафій у Паўночнай Амерыцы. Яна мела сваю выдавецкую базу, шмат гадоў пры ёй вялася шырокая адукацыйная дзейнасць. Былі наладжаныя добрыя дачыненні з іншымі праваслаўнымі юрысдыкцыямі Кліўленда. За больш як паўстагоддзя існавання парафіі шмат святароў прычыніліся да яе росквіту, сярод іх варта назваць

[23] Kipel, V. Byelorussian Americans and their communities of Cleveland... P. 63—83.

а. Яўхіма Якіменку, а. А. Лічко, а. Мікалая Макарэвіча, а. Аляксандра (Андрэя) Крыта, а. Дж. Кістнера, іераманаха Якуба, а перш за ўсё — аднаго з заснавальнікаў парафіі і яе шматгадовага святара айца Міхала Страпко. Нямала старанняў для росквіту парафіі прыклалі і парафіяне — прафесар Мікола Кулікові, Кастусь Кіслы, Ірэна Каляда-Смірноў, Кастусь Калоша, Сяргей Карніловіч, Андрэй і Вольга Стрэчані, Клаўдзія Каляда, Уладзімір Літвінка, Уладзімір Дунец, Астап і Ева Яраховічы, Аўген Кабяка, Янка Раковіч, Кастусь Савіцкі і сем'і Каваленкаў, Каханоўскіх, Спічонкаў, Ягаўдзікаў, Кананчукоў, Сацэвічаў, Лук'янчыкаў і Радзюкоў[24].


Царква Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. 1960-я гг.

У 1990-я парафія афіцыйна перабралася ў прыгарад Кліўленда Стронгсвіль, дзе знаходзіцца беларускае селішча «Полацак» і пабудаваная новая царква (асвячэнне нарожнага камня адбылося 26 траўня 1977 года)[25]. Варта адзначыць, што пры беларускай царкве ў Кліўлендзе дзейнічала бінга — азартная гульня, якую вялі Сяргей Карніловіч і Ірэна Каляда. Прыбытак ад гэтага дапамог пабудове «Полацку» і новай царквы.

Будынак старой царквы і частка прыхаджанаў заставаліся далей у Кліўлендзе. Цягам апошніх 15–20 гадоў беларуская праваслаўная царква ў Стронгсвілі лічылася беларускай, але не аўтакефальнай і не Канстанцінопальскага патрыярхату, а ў іншай грэцкай юрысдыкцыі. Настаяцелем царквы быў святар-амерыканец Грэгары, вядомы беларускаму грамадству, бо некалі належаў да кліру БАПЦ (быў святаром у парафіі св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, а потым БАПЦ у Кліўлендзе), а пазней перайшоў у іншую юрысдыкцыю. Ён не быў ворагам беларушчыны, але не быў і лідарам. Такім парадкам, беларушчына ў Кліўлендскай царкве ў Стронгсвілі захоўвалася, але выключна з ініцыятывы прыхаджанаў. Сёння царква дзейная і служыць у ёй беларус уладыка Серафім.


Новая царква Жыровіцкае Божае Маці ў Стронгсвілі. 2016 г.

[24] Архівы БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе; Голас Царквы. Бруклін. 1975. № 44; Handbook of American Orthodoxy. New York, 1972. P. 70.

[25] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 7 (43). Ліпень 1977.



Пасля пераносу парафіі ў Стронгсвіль першая царква Маці Божай Жыровіцкай у Кліўлендзе, пабудаваная беларускімі эмігрантамі, пасля розных адміністрацыйныхператасовак заставалася беларускай у юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярха, а настаяцелем быў айцец Беленькі. Сёння гэтая царква прададзеная іншым вернікам.

Парафія ў Нью-Брансвіку — Гайленд-Парку, штат Нью-Джэрсі

Паваенныя беларускія іміграныты пачалі сяліцца ў гэтых ваколіцах у 1948 годзе і ў 1949–1950 гадах сталі арганізоўваць царкоўную парафію. А. Сцяпан Войтанка адслужыў першую літургію ў Нью-Брансвіку 12 жніўня 1951 года. Гэтая дата адзначаецца як дзень заснавання парафіі Жыровіцкае Божае Маці. Гадоў праз дзесяць пасля заснавання парафія набыла царкоўны будынак у грэцкага праваслаўнага прыхода святое Варвары. У Іст-Брансвіку быў куплены вялікі пляц на могілкі, якія з цягам часу сталіся важным беларускім некропалем Паўночнае Амерыкі. Будучы цэнтрам разнастайнае беларускае дзейнасці, парафія сталася асабліва добра вядомая сваім супрацоўніцтвам з штатным універсітэтам Ратгерс, а таксама працаю з маладым пакаленнем, асабліва ў галіне дапаўняльнае адукацыі. Настаяцелямі парафіі былі айцы Сцяпан і Віктар Войтанкі, а. Васіль Кендыш, а. Аляксандр Яноўскі ды а. Васіль Андраюк з Беласточчыны.


Айцец Сцяпан Войтанка

Доўгія гады гэтая беларуская парафія адыгрывае цэнтральную ролю ў беларускім грамадскім жыцці штата Нью-Джэрсі, прымаючы таксама дзясяткі сходаў, сустрэчаў і канферэнцый беларусаў Паўночнае Амерыкі. Праўда, нармальнаму, канструктыўнаму развіццю парафіі зашкодзілі судовыя працэсы, распачатыя групаю суродзічаў-іншадумцаў. Аднак парафія паспяхова перажыла цяжкія часы і выйшла з выпрабаванняў паважнаю і добра зладжанаю арганізацыяй. Сярод тых, хто прычыніўся да развіцця парафіі, — сем'і Родзькаў, Кажураў, Стомаў, Супруноў, Стагановічаў, Войтанкаў, Даніловічаў, Азаркаў, Ханяўкаў, Лысюкоў, Лосікаў, Русакоў, Дубягаў, Сільвановічаў, Кабушкаў ды Уладзімір Машанскі[26]. Шмат працы рабіла і сястрыцтва на чале з Людмілай Бакуновіч, Жэняй Дубягай, Н. Няпеінай, Марыяй Кажурай, Нінай Сільвановіч і інш. Выдатна спрацавала і беларуская талерантнасць: у жыццё парафіі шмат уклалі і ўкладаюць таксама каталіцкія сем'і Міхася Каранеўскага, Браніслава Даніловіча, Адольфа Суботы, а з новых імігрантаў — Янкі Грышкевіча.

[26] Архівы БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку; Голас Царквы. Бруклін. 1974. № 41; Беларус. Нью-Ёрк. 2012. № 590.



Царква Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку

Выдатна было арганізавана і справаводства парафіі дзякуючы доўгагадоваму скарбніку Алексу Сільвановічу. Хімік паводле адукацыі (закончыў універсітэт Ратгерс), ён працаваў у розных прамысловых кампаніях і быў вельмі паспяховы. Актыўна ўдзельнічаў у беларускіх царкоўных справах, дапамагаў ахвярам Чарнобыля, дзеіў у Кааліцыі абароны дэмакратыі і правоў чалавека ды ў БІНіМе — больш за дзясятак гадоў уваходзіў у рэдкалегію англа-беларускага слоўніка. Алекс Сільвановіч быў заўзяты фатограф-мастак, а калекцыя яго мастацкіх фатаграфій была перададзеная ў родную вёску ў Беларусі.

Парафія БАПЦ у Гайленд-Парку — адна з найбольш дзейных і сёння: адзначаюцца царкоўныя юбілеі, вялікай папулярнасцю карыстаецца Храмавае Свята — Дзень Жыровіцкай Іконы Божай Маці, калі рэгулярна парафію наведвае ўладыка БАПЦ Святаслаў (колішні настаяцель гэтае парафіі). Старшынёй Царкоўнай рады каля дзясятка гадоў з'яўляецца Віктар Дубяга, а да кіраўнічага камітэта належаць Людміла Бакуновіч, Жэня Дубяга, Ганна Войтанка, Ала Дубяга, Якуб Сапяжынскі, Сяргей Трыгубовіч, Н. Няпеіна. На святы парафіі часта прыязджаюць госці з Нью-Ёрка, Кліўленда, Філадэльфіі, Трэнтана, Саўт-Рывера. Настаяцель парафіі — узнагароджаны мітраю, адданы, цёплы і сардэчны протаіерэй Зіновій Жалобак. Дзейныя тут і новыя сілы: Мікола і Ліна Сагановічы, Ала Кузьміцкая ды іншыя маладзейшыя беларусы[27].

## Парафія ў Дэтройце, штат Мічыган



Царква Святога Духа ў Дэтройце. 1960-я гг.

Беларуская праваслаўная царква Святога Духа (БАПЦ) была заснаваная 6—7 траўня 1967 года дзякуючы ў немалой ступені прафесійнаму досведу і шчырай адданасці нябожчыка Міколы Артона (Арцюха), без якога купля царкоўнага будынка была б немагчымая. 8 лютага 1971 года адбылася першая ўрачыстая архірэйская Божая Служба ў нованабытай царкве Святога Духа ў Дэтройце з удзелам уладыкі Мікалая (Мацукевіча) з Таронта і а. Віктара Войтанкі з Нью-Брансвіка[28]. Хоць дэтройцкая беларуская грамада параўнальна невялікая, парафія адыгрывала важную ролю

[27] Беларус. Нью-Ёрк. 2017. № 629.
[28] Беларус. Нью-Ёрк. 1971. № 167.



ў беларускім жыцці і прадстаўляла беларускія інтарэсы ў шырокім грамадстве. У парафіі служылі розныя святары, большасць з якіх, аднак, з розных прычынаў заставаліся ў ёй нядоўга. Стараннямі мітрапаліта Мікалая (Мацукевіча) з недалёкага Таронта гэтая парафія сталася значным беларускім рэлігійным і палітычным асяродкам у Злучаных Штатах. Сярод актывістаў парафіі можна назваць сем'і Сажычаў, Бакуновічаў, Плескачоў, Юрку Мазуру[29]. Парафія развязалася, вернікі раз'ехаліся.

Наогул, адміністрацыйна-фінансавае становішча Дэтройта было надзвычай складанае, горад банкрутаваў. Была прызначаная федэральным урадам спецыяльная камісія для ўтрымання і вядзення гаспадаркі горада. Толькі на пачатку XXI стагоддзя Дэтройт пачаў выходзіць з фінансавае разрухі. Жыхарства яго зменшылася на дзясяткі адсоткаў, белыя жыхары выехалі амаль на 85 %. Дэтройт уваходзіць у аналы амерыканскае гаспадарчае палітыкі як тып «недазволеных» гаспадарак. Прычына банкруцтва бачыцца ў саступках прафсаюзам у фінансавых справах, пераносе з горада прамысловых прадпрыемстваў, карупцыі ў дэмакратычнай партыі. Беларуская грамада Дэтройта стала ахвярай агульнага становішча ў горадзе.

## Парафія ў Дораты, штат Нью-Джэрсі

Размешчаная ў сельскай мясцовасці на поўдні штата Нью-Джэрсі парафія Святое Тройцы з'яўлялася найменшаю па колькасці парафіянаў у Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве. Гэта былі ў пераважнай большасці фермеры і пенсіянеры з павета Атлантык. Заснаваная ў 1973 годзе і асвечаная ў верасні таго ж



Высвячэнне царквы Святой Тройцы ў Дораты. Служаць: уладыка Андрэй (Крыт) (у цэнтры), а. Карп Стар (злева) і а. Васіль Кендыш (справа). Прыслужвае Юрка Кіпель. 1973 г.

[29] Архівы БАПЦ, Нью-Ёрк; Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 5 (83). Травень 2001.


Айцец Віктар Войтанка-Васілеўскі

года парафія ад самага пачатку знаходзілася пад апекай а. Карпа Стара. Найважнейшы дзень у жыцці парафіі — гадавое прастольнае свята, калі адсвяткаваць Тройцу з'язджаліся беларусы з штатаў Нью-Ёрк і Нью-Джэрсі[30] і сярод удзельнікаў заўсёды бывалі два-тры працаўнікі-беларусы з розных казіно Атлантык-Сіці. Парафія была зліквідаваная ў сувязі з смерцю настаяцеля айца Карпа[31].

* * *

У юрысдыкцыі БАПЦ у 1960-я — пачатку 1970-х гадоў у Пасейку (Нью-Джэрсі) згадваецца праваслаўны манастыр «Мір», які спыніў сваё існаванне з адыходам свайго заснавальніка і кіраўніка айца Віктара Войтанкі-Васілеўскага[32].

Цягам 1980–1990-х гадоў у структуры БАПЦ узнікла парафія ў Памоне, штат Каліфорнія, а таксама місіі ў Барбетане, штат Агаё, і ў Нэйплз, штат Флорыда[33]. Згаданыя парафіі зліквідаваныя. Таксама непрацяглы час у 2000-я гады ў горадзе Бэй Вілідж (*Bay Village*) у штаце Агаё дзейнічала царква Св. Мікалая ў юрысдыкцыі БАПЦ[34].

*Беларускія парафіі Сусветнага патрыярхату*

Ініцыятарам, рухавіком заснавання і першым адміністратарам парафій беларускай праваслаўнай царквы ў юрысдыкцыі Сусветнага патрыярхату быў айцец Мікалай Лапіцкі. Пасля яго смерці ў 1976 годзе дзейнасць «грэцкіх» беларускіх цэркваў не вызначаецца актыўнасцю. Сёння гэтыя парафіі належаць да розных структураў, але агулам знаходзяцца ў падпарадкаванні Сусветнага патрыярха Барталамея I. Даведнік *American Carpatho-Russian Diocesian Yearbook* (2016) падае як прыналежныя да карпатарoскай юрысдыкцыі тры беларускія прыходы: царкву Святое Еўфрасінні ў Саўт-Рыверы (настаяцель а. Канстанцін Гаўрылкін), царкву Святога Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле (настаяцель а. Васіль Андраюк) і царкву Святое Еўфрасінні ў канадскім Таронта (настаяцель а. Васіль Астафійчук). Беларуская парафія святога Юрыя ў Чыкага ў гэтым даведніку не згадваецца.

Парафія ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі

Заснавальнікам гэтае парафіі і духовым лідарам мясцовае грамады быў адзін з найбольш дынамічных і ўплывовых беларускіх рэлігійных дзеячаў сучаснага перыяду а. Мікалай Лапіцкі.

Нарадзіўся ён у 1907 годзе на Вялейшчыне, закончыў Віленскую праваслаўную семінарыю, а пасля Варшаўскую багаслоўскую акадэмію, дзе абараніў дысертацыю на тэму з беларускае рэлігійнае гісторыі[35]. Да Другое сусветнае вайны служыў святаром у розных беларускіх парафіях і быў вядомы сваёй моцнай нацыянальнай пазіцыяй, супрацьстаяў русіфікацыі і паланізацыі царкоўнага жыцця на беларускіх землях. Калі савецкае войска акупавала Заходнюю Беларусь, ён цудам уратаваўся ад дэпартацыі. У час акупацыі служыў святаром у Менску, дзе адбудаваў колькі праваслаўных цэркваў і адыграў важную ролю на гістарычным Менскім саборы 1942 года.


Айцец Мікалай Лапіцкі

Айцец Мікалай Лапіцкі пакінуў Беларусь у 1944 годзе і па вайне пасяліўся ў Заходняй Нямеччыне, дзе стаўся адным з першых арганізатараў беларускага рэлігійнага жыцця ў Заходняй Еўропе. Ён заснаваў парафію і распачаў будаўніцтва першае ў Заходняй Еўропе Беларускае праваслаўнае царквы (Святое Еўфрасінні Полацкае) у Рэгенсбургу ў 1945–1946 гадах. Адыход з БАПЦ мітрапаліта Панцеляймона, архіепіскапа Філафея, епіскапаў Апанаса, Бенядзікта і Сцяпана разглядаўся беларускаю грамадою як акт здрады. А. Лапіцкі быў адным з найактыўнейшых арганізатараў пратэсту супраць адступніцтва епіскапаў. У Еўропе ён быў заўзятым абаронцам прынцыпаў аўтакефаліі, і нядзіўна, што адзін з былых беларускіх епіскапаў асудзіў яго, назваўшы ягоную пазіцыю *«палітычным і царкоўным непаслушэнствам»*. Аднак, пераехаўшы ў Злучаныя Штаты, а. Лапіцкі прыйшоў да высновы, што без іерархіі аўтакефалія немагчымая, але схіліўся да ідэі шукання епіскапскае апекі ў Канстанцінопальскага патрыярха[36].

15 красавіка 1950 года было заснаванае Аб'яднанне праваслаўных беларусаў у ЗША. Яно склікала сход праваслаўных беларусаў у Саўт-Рыверы 23 лістапада 1950 года. На гэтым сходзе быў сфармаваны Беларускі грэка-праваслаўны царкоўны камітэт у Амерыцы. (Пазней, калі да юрысдыкцыі Сусветнага патрыярхату далучыліся парафіі ў Чыкага, Таронта і Нью-Ёрку, камітэт пачаў называцца «Беларуская рада праваслаўных цэркваў у Паўночнай Амерыцы».) У тым самым часе, 20 лістапада 1950 года, была фармальна заснаваная парафія Святое Еўфрасінні Полацкае, і парафіяне выказалі жаданне належаць да юрысдыкцыі Сусветнага патрыярхату[37]. Экзарх Сусветнага Пасада архіепіскап Міхаіл атрымаў просьбу камітэта і згадзіўся ўзяць новазаснаваную парафію пад сваю апеку. Айцец Мікалай Лапіцкі стаўся першым святаром парафіі. Ён жыў з сям'ёю ў Пасейку і працаваў цэлы тыдзень у майстэрні, а ў выходныя дні ездзіў немалую дарогу ў Саўт-Рывер, каб абслугоўваць маладую парафію. Гэта была нялёгкая праца. У Саўт-Рыверы ўжо была праваслаўная царква — парафіі Святых Пятра і Паўла, юрысдыкцыі Рускае праваслаўнае грэка-кафалічнае мітраполіі, да якое належалі пераважна

---

30 Heritage Review. New Brunswick. Oct. 1973. P. 7; Беларус. Нью-Ёрк. 1973. № 198, 200; 1975. № 221.

31 Голас Царквы. Бруклін. 1974. № 41.

32 Архівы БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку.

33 Архівы БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку.

34 https://www.charitynavigator.org/index.cfm?bay=search.profile&ein=341924246.

35 Лапіцкі, М. Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы. Нью-Ёрк, 1978.

36 Гутаркі аўтара з а. Мікалаем Лапіцкім. 1972–1973; Царкоўны Сьветач. Саўт-Рывэр. 1951. № 1; Архівы БПЦ Святое Еўфрасінні Полацкае ў Саўт-Рыверы.

37 Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1950. № 3; 1951. № 5.

старыя беларускія іміграseverity. Кіраўніцтва гэтае царквы, вядома, з радасцю прыняло б новых парафіянаў, але паваенныя беларускія імігранты хацелі за любую цану мець сваю парафію беларускае арыентацыі[38]. Заснавальнікамі і пачынальнікамі беларускае парафіі святое Еўфрасінні Полацкае былі сем'і Высоцкіх, Орсаў, Сянкевічаў, Сіцько, Махнюкоў, Дашкевічаў, Кіпеляў, Наумчыкаў, Цярпіцкіх, Палюховічаў, Даніловічаў, Кіркевічаў, Еўцаў, Брылеўскіх, Карповічаў, Плескачэўскіх, Шчорсаў, Арцішэнкаў, Цупрыкаў, Сенькаў, Валаткевічаў, Ясюкоў ды дзясяткі іншых.


ЦАРКОЎНЫ СЬВЕТАЧ

Часопіс «Царкоўны Сьветач»

Гісторыя заснавання парафіі і пабудовы царквы дэталёва апісана ў двух выданнях кнігі Віталя Цярпіцкага (1984, 1994)[39]. На пачатку сваёй працы аўтар падаў выяву зацемкі з газеты *«The Daily Home News»* (*New Brunswick, NJ, Jan. 25, 1951*), якая называлася «Саўт-Рывер адкрывае сэрца Ды-Пі: кангрэгацыя метадыстаў дае месца багаслужбе». У тэксце паведамлялася, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці, першая беларуская багаслужба адбылася на Каляды — Раство Хрыстова 1951 года ў будынку метадысцкай царквы. Службу адправіў айцец Мікалай Лапіцкі, на рэгента хора быў запрошаны Аркадзь Евец. У артыкуле вітаўся крок метадыстаў даць новай беларускай праваслаўнай царкве месца для набажэнстваў, а адначасова падаваліся звесткі пра Беларусь і беларусаў.

Беларуская парафія хутка расла і неўзабаве вернікі знайшлі большае памяшканне, а богаслужэнні сталі рэгулярнымі[40]. Праз два гады парафіяне ўжо былі здольныя — з дапамогаю сродкаў, сабраных Беларускім праваслаўным камітэтам, — набыць невялікі будынак, былую сінагогу на Уайтхед авеню. Пасля рамонту і рэстаўрацыі ў ім знайшлося месца не толькі для багаслужбаў, але і для разнастайнае грамадскае дзейнасці, улучна з публікацыяй часопіса «Царкоўны Сьветач», першы нумар якога выйшаў у траўні — ліпені 1951 года.

У першым нумары часопіса было пададзенае наступнае абгрунтаванне стварэння беларускіх парафій пад юрысдыкцыяй грэцкага праваслаўнага архіепіскапа Паўночнае і Паўдзённае Амерыкі:

*Улічыўшы гістарычны шлях беларускага праваслаўя і сённяшнюю сітуацыю нашага грамадска-рэлігійнага жыцця, Б[еларускі] П[раваслаўны] Ц[аркоўны] К[амітэ]т прыйшоў да высновы, што адбудову незалежнае Беларускае Праваслаўнае Царквы неабходна абаперці на аўтарытэт Сусветнага Патрыярха як чыстую крыніцу праваслаўнае веры нашых продкаў, не засмечаную варожымі нашым нацыянальным шуканням імперыялістычнымі тэндэнцыямі і спробамі дэнацыяналізацыі нас праз царкву*[41].

[38] Гутарка аўтара з Васілём Коськам, парафіянінам царквы Святых Пятра і Паўла ў Саўт-Рыверы, 1957.

[39] Цярпіцкі, В. Гісторыя пабудовы Беларускае Праваслаўнае Царквы імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэр, Нью Джэрзі. 1994. 105 с.

[40] Гутарка аўтара з Міхасём Сенькам і Надзяй Кудасавай; The Home News. New Brunwick. 1975. Nov. 22; Heritage Review. New Brunswick. 1973. Jan.



За некалькі дзесяцігоддзяў парафія значна вырасла і пачала шукаць сабе новы будынак. Дзякуючы дапамозе мясцовых уладаў і асабліва намаганням Міхася Бахара парафія здолела набыць некалькі акраў зямлі ў гарадской мяжы за сціплую суму грошай. У 1972 годзе было завершанае будаўніцтва новае царквы, у архітэктуры якой прысутнічаюць характэрныя беларускія элементы, а таксама мадэрнага і ўтульнага грамадскага цэнтра. 30 ліпеня 1972 года епіскап Філатэос, прадстаўнік экзарха Сусветнага патрыярхату архіепіскапа Якаваса, высвяціў царкву.

Беларуская царква ў Саўт-Рыверы сталася актыўным беларускім асяродкам, у яе памяшканні праходзілі сходы і сустрэчы, яе святар выступаў з малітвамі ў Кангрэсе ЗША (а. Мікалай Лапіцкі быў першым беларускім святаром, які прачытаў малітву ў Кангрэсе ў 1955 годзе[42]). Пры царкве было таксама арганізаванае Аб'яднанне беларускага праваслаўнага юнацтва (старшыня Кастусь Вайцяхоўскі)[43].



Будаўніцтва царквы Св. Еўфрасінні Полацкае ў Саўт-Рыверы

На працягу гадоў царква ў Саўт-Рыверы мела ўмелых адміністратараў, адданых святароў, добрую рэпутацыю ў грамадзе і шырокую падтрымку парафіянаў. У парафіі быў арганізаваны выдатны хор, якім у розныя часы кіравалі розныя беларускія музыказнаўцы, аднак асабліва прычыніўся да поспеху хору шматгадовы ягоны рэгент — кампазітар Дзмітры Верасаў. Быў упарадкаваны пляц і закладзеныя могілкі, дзе пахавана шмат беларускіх лідараў. Пры царкве дзеіла дапаўняльная школка, выдаваліся розныя публікацыі, ладзіліся культурныя і спартовыя мерапрыемствы. Нечаканая смерць а. Мікалая Лапіцкага ў жніўні 1976 года сталася маральным ударам для грамады. Пасля яго святарамі

[41] Царкоўны Сьветач. Саўт-Рывэр. 1951. № 1. С. 4–5; 1967. № 16. С. 36–37.

[42] Congressional Record. Washinghton (DC), March 1955.

[43] Памятная кніга. 1950–1975. Саўт-Рывэр, 1975; Гутарка аўтара з Кастусём Вайцяхоўскім.



Царква Св. Еўфрасінні Полацкае ў Саўт-Рыверы



Надзея і Янка Запруднікі. 1995 г.

ў царкве былі а. архімандрыт Язэп Строк, а. Святаслаў Коўш і а. Мечыслаў Брынкевіч, выпускнік Варшаўскае багаслоўскае акадэміі[44], а Стаўрас Русас, а. Міхаіл Псэнычнік, а цяпер служыць а. Канстанцін Гаўрылкін. У парафіі рабіліся спробы запрасіць святара з Беларусі. Кандыдат знайшоўся, але пачаліся ды зацягнуліся фармальнасці з адпускной граматай, выявілася, што дазволу менскіх царкоўных уладаў недастаткова, трэба было дасылаць просьбу ў Маскву ў патрыярхат Рускай праваслаўнай царквы, на дазвол якога ніякае пэўнасці не было. Справа і замерла.

Бясспрэчна, лакальная важнасць гэтага асяродку вялікая, аднак уплыў як царквы, гэтак і злучаных з ёю арганізацый у шырокім беларускім грамадстве мае абмежаваны характар. Тым не менш, паасобныя прыхаджане і групы да сёння шчодра дапамагаюць іншым беларускім прыходам у

[44] Цярпіцкі, В. Гісторыя пабудовы Беларускай Праваслаўнай Царквы. Саўт-Рывэр, 1984; Беларуская Думка. Саўт-Рывэр. 1971–1972. № 14; 1976. № 20; Беларус. Нью-Ёрк. 2017. № 626.



замежжы і Беларусі. Прыкладам, Ліза Літаровіч, Надзея і Янка Запруднікі, Жорж Наумчык, Рэня Касцюк і шмат іншых паспрыялі ў будове царквы Св. Еўфрасінні ў горадзе Івянцы. Д-р Янка Запруднік быў узнагароджаны медалём Св. Кірылы Тураўскага ад імя мітрапаліта Філарэта Беларускай праваслаўнай царквы за служэнне беларускай нацыі на грамадскай і рэлігійнай дзялянках[45].

## Парафія ў Чыкага

Беларуская праваслаўная парафія святога Юрыя была заснаваная ў Чыкага 5 лістапада 1958 года[46]. Архімандрыт Уладзімір Фінькоўскі першым быў запрошаны з Францыі на святара парафіі[47]. Аднак, не маючы добрае рэпутацыі сярод парафіянаў, ён у хуткім часе мусіў пакінуць парафію і краіну[48].



Царква Св. Юрыя ў Чыкага. 2013 г.

Напачатку парафія стаяла перад выбарам: далучыцца да БАПЦ або да Сусветнага патрыярхату. Урэшце было пастаноўлена, што парафія святога Юрыя пяройдзе пад апеку архіепіскапа Якаваса, экзарха Сусветнага патрыярхату. У траўні 1959 года парафія набыла новы царкоўны будынак на *1500 North Maplewood Avenue*, дзе царква размяшчаецца і дагэтуль.

У царкве за гэтыя гады змяніліся некалькі святароў. У апошнія гады тут служылі святары з Беласточчыны. Царква дапамагала ў беларускай дзейнасці. Сярод найбольш актыўных парафіянаў і святароў былі Мікола Латушкін, Кастусь Новік, Макар Аблажэй, а. Алег Мірановіч, а. Язэп Строк, сем'і Нягодаў і Пунтусаў[49].

## Парафія ў Рычманд-Гіле, Нью-Ёрк



Царква Св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле

Унутраныя канфлікты ў парафіі БАПЦ Святога Кірылы Тураўскага ў Брукліне прывялі да расколу, у выніку якога 10 лістапада 1968 года была заснаваная новая парафія з тым самым назовам. Парафіяне пастанавілі далучыцца да юрысдыкцыі Сусветнага патрыярхату, хоць большасць з іх былі «аўтакефалістамі» ў сваіх поглядах. Было вырашана збудаваць сваю асобную царкву, будоўля скончылася ў 1983 годзе, 30 кастрычніка царкву высвяціў епіскап Мікалай (Сміско)[50].

[45] Беларус. Нью-Ёрк. 2007. № 539.

[46] St. George Byelorussian Orthodox Church, 25th Anniversary, 1958–1983. Chicago (IL), 1983.

[47] Беларускі Голас. Таронта. 1958. № 45.

[48] Перапіска аўтара з Васілём Пунтусам. 1987; Беларус. Нью-Ёрк. 1974. № 201.

[49] Перапіска аўтара з Міколам Латушкіным; Беларус. Нью-Ёрк. 1977. № 246; 1978. № 252; 1989. № 361; Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 1 (60). Студзень 1999.

[50] Program of the consecration of St. Cyril of Turau, American-Byelorussian Greek Orthodox Church. Richmond Hill (NY), October 30, 1983; Беларус. Нью-Ёрк. 2008. № 546.

Заснавальнікамі парафіі былі Васіль Юрцэвіч, Міхал Бразоўскі, Васіль Захаркевіч, Ян Казлякоўскі, Кастусь Мерляк, Сымон Жамойда, Уладзімір Пеляса, Пятро Мельяновіч, Пятро Зыбайла, Васіль Шчэцька ды іншыя. Настаяцелямі былі а. Святаслаў Коўш, а. Пётра Саўчыц, а. Язэп Строк, а. У. Шэмеціла, а. Г. О'Кіф. Доўгагадовым рэгентам быў сп. Сымон Жамойда, потым — Васіль Шчэцька.

Гэтая невялікая парафія складалася з цеснага кола парафіянаў, якія бралі ўдзел у грамадскім жыцці. У яе зале праводзіў рэпетыцыі танцавальны ансамбль «Васілёк». Парафія падтрымоўвала цесныя сувязі з іншымі беларускімі праваслаўнымі парафіямі[51].

На жаль, энтузіясты-заснавальнікі гэтай парафіі, беларускія грамадскія актывісты даўно адышлі ў іншы свет. Маладое пакаленне малаактыўнае ў беларускіх справах, як і святар з Беласточчыны айцец Васіль Андраюк. Такім чынам, сёння гэтая парафія не адыгрывае амаль ніякае ролі ў беларускім жыцці ЗША.

*Беларускія праваслаўныя парафіі «на раздарожжы»*[52]

Парафія ў Пасейку, штат Нью-Джэрсі

Першая беларуская парафія «на раздарожжы» — г. зн. якая не далучылася ні да епіскапаў-адступнікаў, ні да якое іншае юрысдыкцыі — была закладзеная ў Пасейку ўвесну 1950 года. Яе арганізатарамі і першымі парафіянамі былі Уладзімір Дутко, Сымон Жамойда, Марыя і Яўхім Кіпелі, Аляксандр Русак, Іван Бендзераў, Міхаіл Ігнатовіч, Эмануіл Ясюк, Аркадзь Барсук. Гэтая парафія налічвала пазней да сарака сем'яў з Пасейка і навакольных гарадоў — Кліфтана, Гарфілда, Лодай, Ліндхэрста, Радэрфорда і Уолінгтана. Парафіяне запрасілі адпраўляць багаслужбы прафесара Мікалая Сцяпанава, святара і лекара, які працаваў у мясцовым шпіталі. Вырашэнне пытання пра іерархічную апеку было адкладзенае. Кіраўніцтва парафіі не падтрымоўвала ідэі перамоваў з былымі епіскапамі БАПЦ, лічачы іх звычайнымі здраднікамі. «Амерыканскую царкву», г. зн. Рускую праваслаўную грэка-кафалічную мітраполію, яны разглядалі як «руку Масквы» за яе русіфікатарскую палітыку і левы ўхіл.

Прыклад беларускіх праваслаўных парафій, якія сталі на шлях развіцця царкоўных дачыненняў з Сусветным патрыярхатам, быў тады яшчэ зусім незаўважны. У выніку парафія, якая ўзяла сабе за патронаў святых Касьму і Дзям'яна, пастанавіла абысціся без іерархіі. Пры царкве вялася культурная дзейнасць, былі заснаваныя дзіцячы садок і дапаўняльная школка, і парафія магла стацца асноваю моцнае беларускае грамады ў Пасейку і ваколіцах. Аднак у 1953 годзе айцец Сцяпанаў атрымаў прапанову на лепшае месца ў іншым шпіталі і мусіў пакінуць парафію. Знайсці новага святара было нялёгка. Пасля доўгіх пошукаў было пастаноўлена запрасіць з Бельгіі святара-беларуса айца Уладзіміра Грыгаровіча. Айцец Грыгаровіч, стаўшы настаяцелем парафіі святых Касьмы і Дзям'яна, адразу выявіў сваю русафільскую арыентацыю. Ён скарыстаў з таго, што парафіяне імкнуліся прыцягнуць у сваю царкву больш людзей, і далучыў да парафіі дзясяткі людзей, абыякавых або варожых да ўсяго беларускага. На першым агульным сходзе пашыранае парафіі большасцю галасоў было вырашана далучыцца

[51] Царкоўны Сьветач. Саўт-Рывэр. 1970. № 19; Архівы Кастуся Мерляка, Нью-Ёрк.

[52] Парафіі знаходзяцца ў юрысдыкцыі Праваслаўнай Царквы Амерыкі (*Orthodox Church of America*), грэцкай юрысдыкцыі.



да колішняе беларускае іерархіі. Гэта значыла, што парафія мелася перайсці ў юрысдыкцыю Рускае праваслаўнае царквы за мяжой. Усе свядомыя беларусы — заснавальнікі парафіі выйшлі з яе. Доўгі час пасля гэтага царква надалей значылася ў некаторых рэлігійных даведніках як беларуская, а пасаду настаяцеля займалі святары-беларусы, прыкладам а. Георгі Драздоўскі і а. Пётра Саўчыц, але яна страціла беларускасць і сталася па духу і паводле закону часткаю Рускае праваслаўнае царквы за мяжой[53]. Царква дзейная і сёння. Часам то ў мясцовым друку, то ў гутарках парафіянаў успамінаецца, што царкву арганізавалі беларусы, але на гэтым і ўсё.

Парафія ў Рокфардзе, штат Ілінойс

Сярод групы праваслаўных хрысціянаў, якія па вайне пасяліліся ў Рокфардзе, большасць складалі беларусы, менш было ўкраінцаў, грэкаў, карпатаросаў ды іншых. Новыя іміграпты пастанавілі заснаваць парафію і збудаваць царкву. Найважнейшую ролю ў гэтым праекце адыгралі беларусы. Сярод найактыўнейшых парафіянаў-беларусаў былі сем'і Волахаў, Ракуцяў, Нафрановічаў, Сарокаў, Гарбачукоў, а таксама дыякан Янка Валюкевіч. На жаль, парафіяне не былі нагэтулькі нацыянальна свядомыя, каб далучыцца да якой-небудзь беларускай праваслаўнай юрысдыкцыі — БАПЦ або Рады беларускіх праваслаўных парафій Сусветнага патрыярхату. Замест гэтага на высвячэнне парафіі Хрыста Збаўцы 15 кастрычніка 1961 года быў запрошаны епіскап Польскае праваслаўнае царквы Мацвей. Праз шэсць гадоў парафія Хрыста Збаўцы перайшла пад юрысдыкцыю Амерыканскае карпатароскае праваслаўнае грэка-кафалічнае царквы. Горкая іронія ўсяго гэтага ў тым, што цяпер парафія знаходзіцца ў тых самых дачыненнях з грэцкім архіепіскапам і Сусветным патрыярхатам, што і Рада беларускіх праваслаўных парафій — толькі без нацыянальнага элемента, які б узбагаціў жыццё парафіі і напоўніў бы яго беларускім духам. І зноў тут, як і ў выпадку з старымі іміграптамі, маленькая беларуская кропелька знікла ў моры амерыканскага праваслаўя[54].

Варта згадаць яшчэ некаторыя праваслаўныя ініцыятывы беларускага профілю. Прыкладам, у летні час ад траўня да кастрычніка дзейнічала капліца Маці Божай Адзігітрыі Смаленскай на адпачынкавым селішчы «Белэр-Менск». Будынак для яе быў адмыслова перароблены, дапасаваны для рэлігійных патрэбаў і дзейнічаў ад 1970-х да 2000 года. У капліцы служылі праваслаўныя святары айцы Язэп Строк, Святаслаў Коўш, Мікалай Лапіцкі (адышоў у лепшы свет у гэтай капліцы), а таксама каталіцкі святар айцец Фарнцішак Чарняўскі.

Была таксама спроба стварыць беларускую праваслаўную парафію ў сталіцы штата Нью-Джэрсі Трэнтане. Ініцыятарам выступіў беларускі дзеяч Кастусь Якуб-Птах, а святаром архімандрыт Іуліан Троцкі. Адбылася нават першая багаслужба, аднак працягу гэтая справа не мела[55].

У Злучаных Штатах рабіліся таксама спробы арганізаваць дзейнасць Беларускай (аўтакефальнай) народнай царквы. Аднак гэтыя ініцыятывы скончыліся

[53] Гутаркі аўтара з У. Пеніончыкам, Сымонам Жамойдам і Уладзімірам Дутко, 1977.

[54] Christ the Savior Orthodox Church, Silver Anniversary, 1957–1982. Rockford (IL), 1982; Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1956. 6 апр.; Беларус. Нью-Ёрк. 1988. № 348; Папкі Уладзіміра Ракуця і Аляксандра Асіпчыка ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[55] Юрэвіч, Л. Эміграпт Францыск Скарына... С. 527–528.


Архіепіскап Эмігідзіюш (Юры) Рыжы

(наколькі нам вядома) з смерцю яе ініцыятара Эмігідзіюша (Юрыя) Рыжага (1933—2015), які часта падпісваўся як архіепіскап. Яго «народная» царква, як і сам ён, адыгралі пэўную ролю ў беларускім грамадскім жыцці ЗША. Эмігідзіюш Рыжы заўсёды прысутнічаў на значных грамадскіх мерапрыемствах, асабліва на дэманстрацыях. Ён быў апрануты ў святарскую вопратку і заўсёды імкнуўся быць наперадзе, трапляў на здымкі, дзе пазначаўся як «беларускі святар», што рабіла дадатковую прапаганду беларусаў. Дарэчы, такіх, як Беларуская (аўтакефальная) народная царква, суполак на працягу гісторыі беларускай прысутнасці ў ЗША было некалькі: Беларуская артадаксальная каталіцкая субожня — кіраўнік Пётра Журавецкі, Беларуская старакаталіцкая субожня — кіраўнік Уладзіслаў Рыжы-Рыскі, Беларуская тэалагічная акадэмія — кіраўнік Вацлаў Мацейчык, Праваслаўны манастыр ў мясцовасці Буэна (штат Нью-Джэрсі) — кіраўнік брат Адам, Беларуская царква з манастыром ў Глен Спэй (штат Нью-Ёрк) і інш. Жыццё і дзейнасць такіх групаў асвятлялася ў выдаваных імі ўлётках, паведамленнях у газеце «Беларускі Голас» (Таронта), а таксама ва ўспамінах архіепіскапа Юрыя (Эмігідзіюша Рыжага)[56].

### Царкоўныя хоры

Вядома, што хор у праваслаўнай царкве — аснова багаслужбы, а таму арганізацыя і падтрымка хору забірае шмат увагі і энергіі царкоўных ўладаў. Добры хор не толькі зарука існавання і паспяховасці парафіі, але і значэнне, слава царквы навонкі. На шчасце, у некаторых беларускіх парафіях хоры сталіся выдатнымі музычнымі калектывамі, і парафіі, і беларускае грамадства заслужана імі ганарыцца.

***Хор парафіі св. Юрыя ў Чыкага.*** Хор парафіі св. Юрыя (Канстанцінопальская юрысдыкцыя) існуе ад самага пачатку яе дзейнасці, ад канца 1950-х гадоў. Паступова мяняліся харысты, але хор як адзінка захоўваўся. Новыя эмігранты далучыліся да хору. Вось як прадстаўнік новай эміграцыі Ванкарэм Нікіфаровіч пісаў пра хор чыкагскай беларускай царквы Св. Юрыя:

*У апошні час хор якасна ўзрос па сваім музычным і выканаўчым гучанні. Збольшага гэта здарылася дзякуючы ўдзелу ў ім музыкаў былога канцэртнага калектыву «Забава» з Беларусі — Уладзіміра Вараб'ёва і Андрэя Васіленкі. Абодва яны ў свой час скончылі кансерваторыю па розных класах, але займаліся на радзіме вакалам...*[57].

А вось вытрымкі з размовы з кіраўніком хору Уладзімірам Вараб'ёвым:

*Спачатку было ўсё не так проста. У хоры спявалі пераважна старэйшыя людзі, якія трактавалі па-свойму сэнс духоўных спеваў. Кіраваць было даволі складана, патрабавалася і музычная эрудыцыя, і педагагічная тактоўнасць. І мы ганарымся, што зараз усе нашыя харысты прыходзяць на службу з задавальненнем, таму што іх чакаюць хвіліны радасці незабыўных сумесных духоўных спеваў. Да хору належаць нашыя жонкі — Вера і*

[56] Архіепіскап Юры (Рыжы). Мой Крыж. Успаміны і разважаньні. Асінінг, 2003. 111 с. (кніга існуе ў беларускамоўным і англамоўным варыянтах).

[57] Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 511; Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. Верасень 2005.



*Ірына. У царкву прыходзяць розныя людзі — і старэйшыя, і маладзейшыя. Прыводзяць у царкву дзяцей. Апошнім часам з'явілася шмат людзей з усходняй Польшчы, з Беласточчыны. Усе прыхаджане з задавальненнем слухаюць наш хор. Неаднойчы давялося чуць, што многія лічаць наш калектыў лепшым сярод праваслаўных хароў Чыкага...*[58].

***Хор Свята-Еўфрасіннеўскай царквы ў Саўт-Рыверы.*** Ад самага пачатку свайго існавання — ад 1950 года, калі яшчэ не было свайго храма і багаслужбы адбываліся ў часовым будынку, — парафія св. Еўфрасінні Полацкай славілася сваім хорам. За мінулыя дзесяцігоддзі праз хор прайшлі дзясяткі людзей: адны ўдзельнічалі нядоўга, другія — праз усе свае гады. Рэгентамі хору былі асобы з большай або меншай практыкай царкоўных спеваў. Усе яны заслужылі ўдзячнасць парафіянаў, а нябожчыкі — вечную памяць.


Першы мяшаны хор парафіі св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы.
Сядзяць: рэгент — Аркадзь Евец (злева) і акампаніятар — Алімп Мяленьцеў (справа). 1951 г.

У розныя перыяды гэтым хорам кіравалі Аркадзь Евец, Вячаслаў Селях, Дзмітры Верасаў, Аўген Скаўронскі, Ірэна Мозэль, Андрэй Такаюк, Іна Яўтуховіч. Пачынаючы ад 2002 года вядзе царкоўны хор Валянцін Дзямешчык, а калі ён адсутнічае — яго жонка Таццяна[59].

[58] Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 511.

[59] Беларуская Думка. Саўт-Рывэр. № 58. 2007. С. 40.

### *Беларускае праваслаўе ў Амерыцы*

Беларусы-праваслаўныя стварылі і развілі сваю парафіяльную і іерархічную структуру, што дазволіла ім павялічыць свае шэрагі і ўплывы. Аб'ектыўна кажучы, яны складаюць галоўнае ядро і ў рэлігійнай, і ў свецкай сферы беларускага грамадскага жыцця ў Амерыцы.

Кіруюцца абедзве юрысдыкцыі рэгулярна скліканымі рэлігійнымі форумамі — Саборамі (БАПЦ) або Царкоўнымі з'ездамі («грэцкія» парафіі), якія адбываюцца досыць нерэгулярна.

Парафіі Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы (БАПЦ), афіцыйна зарэгістраванае ў 1961 годзе ўладамі штата Нью-Ёрк, могуць пахваліцца выдатнымі дасягненнямі ў справе запачаткавання беларускіх рэлігійных і культурных традыцый і звычаяў у Злучаных Штатах Амерыкі[60].

Гэтыя парафіі азнаёмілі амерыканскае грамадства з сваёю багатаю этнічнаю спадчынаю, усталявалі выдатныя дачыненні з амерыканскімі царкоўнымі і палітычнымі ўладамі, а таксама стала падтрымоўвалі шырокае кола культурных пачынанняў беларускае грамады.

Пэўную ролю ў жыцці беларускае грамады адыгралі і прыцаркоўныя брацтвы ды сястрыцтвы, найбольшым сярод якіх было Беларускае праваслаўнае жыровіцкае брацтва.

Роля Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы ў беларусізацыі царкоўнага жыцця і выданні рэлігійнае літаратуры пад кіраўніцтвам яе першаіерарха мітрапаліта Мікалая (Мацукевіча) сапраўды неацэнная і далёка пераўзыходзіць межы сваёй юрысдыкцыі і заходняга свету.

Найбольш вартымі жалю і шкоднымі для беларускае грамады ў Амерыцы былі ўнутраныя канфлікты ў асяроддзі іерархіі БАПЦ, у якія былі ўцягнутыя і парафіяне. Група святароў і парафіянаў праз адміністрацыйныя канфлікты ва ўлонні БАПЦ уцягнула парафіі ў цэлую чараду судовых працэсаў, што парушыла нармальнае жыццё вернікаў, спрычыніла велізарныя, як на беларускія меркі, выдаткі і стварыла нездаровую атмасферу ва ўсёй беларускай грамадзе. Да таго ж, як відаць, доўгае цяганне па судах не прынесла ніякіх вынікаў: амерыканскі цывільны суд не мае кампетэнцыі вырашаць кананічныя спрэчкі. Аднак трэба зазначыць, што пік гэтых закалотаў ужо мінуўся і найбуйнейшыя парафіі гэтае юрысдыкцыі вярнуліся да нармальнага жыцця[61].

Сёння БАПЦ мае свае адукацыйныя, выдавецкія ды іншыя праекты. Існуе таксама і практыка ўганаравання за заслугі перад царквой. Так, у 2014 годзе быў заснаваны ордэн Мельхіседэка, які, сярод іншых, быў уручаны доўгагадоваму старшыні парафіяльнай рады сабора Святога Кірылы Тураўскага ў Брукліне Расціславу Гарошку[62].

Далучэнне некаторых парафій да Сусветнага (Канстанцінопальскага) патрыярхату разгарнула новую старонку ў гісторыі беларускага праваслаўя: беларусы ўвайшлі ў непасрэдны кантакт з канстанцінопальскімі царкоўнымі ўладамі, што,

[60] Голас Царквы. Бруклін. 1960. № 12; 1961. № 13, 14; 1963. № 18; 1968. № 27; 1969. № 30; 1970. № 32; Гутаркі аўтара з епіскапам Васілём, а. Віктарам Войтанкам, Аляксандрам Асіпчыкам.

[61] Архівы БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку; Беларус. Нью-Ёрк. 1967. № 117; 1981. № 288, 290–291; 1983. № 311, 313; 1988. № 345; Беларуская Думка. Саўт-Рывэр. 1966. № 9; Царкоўны Сьветач. Саўт-Рывэр. 1968. № 17.

[62] Беларус. Нью-Ёрк. 2015. №. 618.



бясспрэчна, вельмі важна ў гістарычным сэнсе. Улада Сусветнага Пасада застаецца пры гэтым чыста сімвалічная. Цікава было б праверыць, як гэтыя царкоўныя ўлады зрэагавалі б, калі б у жыцці гэтых парафій выявілася актыўная беларусізацыя. Тым часам беларусы атрымалі важны сігнал. Некалькі дзесяцігоддзяў таму экзарх выказаў сваё жаданне высвяціць беларускага святара на епіскапа для гэтых парафій. На жаль, дагэтуль на гэтае месца не знайшлося прыдатнага кандыдата[63]. Юрысдыкцыя застаецца нібы не зусім беларуская, пакуль вярхоўную царкоўную ўладу ажыццяўляюць грэцкія, а не беларускія іерархі[64].

Важна падкрэсліць, што абсалютная большасць праваслаўных беларусаў — як «аўтакефалістаў», гэтак і тых, хто далучыўся да Сусветнага патрыярхату, апынуўшыся без іерархіі, — адкінулі былых беларускіх епіскапаў як здраднікаў, якія пакінулі сваю царкву і перайшлі ў рускую. Гэты факт, бясспрэчна, сведчыць пра высокую нацыянальную і патрыятычную свядомасць беларускага праваслаўнага грамадства.

Беларускае праваслаўе ў Амерыцы стаіць перад крытычнаю праблемаю — недахопам святарскіх пакліканняў. Гэтая цяжкасць не новая. Ад канца 1940-х гадоў беларускія парафіі адчувалі вострую патрэбу ў святарах. Не трэба забывацца, што за епіскапамі-адступнікамі пайшло нямала беларускіх святароў-русафілаў, як, прыкладам, а. М. Віціч, а. У. Грыгаровіч, а. Л. Стаднікаў. Іншыя пайшлі служыць у Амерыканскую праваслаўную царкву, сярод іх — а. Іван Жарскі, а. Яўген Сурвіла, а. Іуліян Троцкі ды іншыя. Такім чынам, кадры этнічна беларускіх святароў асіміляваліся ў прарасійскіх парафіях, і беларусы, пазбаўленыя свайго духавенства, мусілі шукаць кандыдатаў у святары або сярод сваіх свецкіх людзей, або сярод амерыканцаў. Аднак у 1980-я гады сітуацыя пачала паляпшацца з выездам у Злучаныя Штаты беларускіх святароў з Беласточчыны.

Тым не менш адной з найбольшых праблемаў у царкоўным жыцці была і застаецца нястача святароў-беларусаў. У шмат якіх выпадках даводзілася мірыцца з кандыдатамі розных біяграфій і кваліфікацый, больш або менш адпаведных патрэбам парафіянаў. Праваслаўная царква Беларусі магла б дапамагчы, аднак яе іерархі гэтаму не спрыяюць, хоць да іх і звярталіся беларускія парафіі ў ЗША.



Вялікдзень у беларусаў Саўт-Рывера. 2017 г.
*Здымак Янкі Запрудніка*

[63] Царкоўны Сьветач. Саўт-Рывэр. 1970. № 19; 1972. № 21; Беларус. Нью-Ёрк. 1981. № 288; 1989. № 362; 1990. № 372.

[64] Існуе даведнік, які падае ўсе беларускія праваслаўныя парафіі ў ЗША: Directory of Orthodox Parishes and Institutions in North America. Torrance (CA), 1998. 145 p.

Традыцыйна не надта добра ў беларускіх цэрквах і з рэгентамі ды дзякамі. Аднак часам БАПЦ арганізоўвала адмысловае навучанне. Адны з першых пастырска-рэгенцкіх курсаў былі наладжаны ў 1961 годзе у Кліўлендзе. Заняткі праводзіліся двойчы на тыдзень на працягу двух гадоў. У праграму навучання, акрамя спеваў і царкоўнаславянскае мовы, уваходзілі Стары і Новы Запаветы, катэхізіс, гісторыя Царквы, жыцці святых, царкоўны статут, асновы багаслоўя і гамілетыкі[65]. Надалей падобныя курсы ладзіліся неаднойчы.

Цяпер пару словаў пра паству беларускіх праваслаўных парафій. Відавочна, базу парафій і далей складаюць старыя эмігранты, іх дзеці і ўнукі. Адсоткаў 10–20 — людзі небеларускага паходжання, пераважна праваслаўныя, якія жывуць непадалёк. Гэтак, у беларускіх парафіях сярод вернікаў бываюць румыны, сербы, рускія, украінцы. Эмігранты хвалі пасля 1991 года багаслужбы наведваюць, а ў святы парафіяльныя цэрквы бываюць паўнюткія, аднак сталымі парафіянамі становіцца не больш як чвэрць новых эмігрантаў. Але варта быць аптымістамі: па меры таго як новыя будуць старэць, вернікаў у беларускіх цэрквах Амерыкі будзе большаць.

### *Дзейнасць беларускіх рыма-каталікоў*

Ад самага пачатку масавае эміграцыі беларусаў каталікі былі ў меншасці і складалі прыблізна 20–25 % ад усяе масы. Былі, праўда, рэгіёны Беларусі, з якіх выязджаў больш значны працэнт каталікоў, прыкладам Сувальшчына, але гэта не мяняла агульнае карціны. Большасць каталікоў, будучы больш дысцыплінаванымі за сваіх праваслаўных братоў, далучаліся ў новай краіне да польскіх парафій і цалкам паглыналіся імі. Больш нацыянальна свядомыя супрацiўляліся гэтаму і заставаліся між двух агнёў: задавальнялі свае духоўныя патрэбы ў польскім касцёле і бавілі вольны час сярод сваіх суродзічаў-праваслаўных. У параўнанні з праваслаўнымі сярод каталікоў было больш людзей з асветаю і прафесійнаю падрыхтоўкаю. Зразумела, што беларусы-каталікі спадзяваліся заснаваць у Злучаных Штатах беларускую рымска-каталіцкую парафію. Асабліва востра гэтае жаданне выяўлялася ў тых, хто паходзіў з мясцовасцяў у Беларусі, дзе былі беларускія ксяндзы. Першыя спробы заснавання беларускае парафіі датуюцца 1920-мі гадамі[66]. Аднак нават беларускія каталіцкія святары разумелі, што гэта будзе вельмі няпроста, як вынікае з перапіскі паміж а. Віктарам Шутовічам і а. Язэпам Рэшацем[67].

Разумеючы сапраўды складаную сітуацыю ў беларускім каталіцкім руху ў міжваенны час, звязаную з польскім ціскам, ксяндзы шукалі розныя варыянты выйсця. У выніку нарадзілася ідэя стварыць беларускі каталіцкі асяродак у ЗША, каб там рыхтаваць беларускіх святароў. Вось што пра гэта пісалі:

*Тымчасам у 1939 годзе пачуўся пах вайны. Разам з гэтым радзіліся спадзяванні ў нашых айцоў бенедыктынцаў у Амерыцы: Яна Тарасевіча і Язэпа Рэшэця, што неабходна падрыхтаваць беларускіх місіянераў-святароў для вольнае Беларусі. Адсюль завязалася яшчэ ў канцы 1938 г. перапіска з а. Шутовічам. Кс. Шутовіч ахвотна згадзіўся падабраць моладзь на выезд у Амерыку. Дзеля гэтага ён быў у Клешнякох, вёсцы Тарасевіча, дзе*

[65] Беларус. Нью-Ёрк. 1981. № 71.

[66] Гутарка аўтара з Макарам Аблажэем, 1964.

[67] Перапіска паміж а. Віктарам Шутовічам і а. Язэпам Рэшацем, 1931. Захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане.



*была група блізкіх і далёкіх а. Тарасевіча, а таксама і ў іншых суседніх вёсках ды ў акаліцы а. Рэшэця. Ён заахвочваў на выезд ды рабіў усе падрыхтоўкі. Яшчэ ў 1938 г. удалося выслаць у Амерыку Ўладзіміра Тарасевіча і Янку Навагродзкага. Цяпер знайшлася група хлопцаў і дзяўчатаў да 20 асоб. На жаль, хуткі выбух вайны не дазволіў ім выехаць*[68].

У паваенным часе адносіны найвышэйшай каталіцкай іерархіі да беларускага каталіцкага руху пачалі павольна змяняцца, аднак справа з кандыдатамі на святарства і іх пераездам у Чыкага была ўжо нерэальная для ажыццяўлення. Неабходна было карыстаць іншыя магчымасці.

Большасць беларусаў-каталікоў паваеннае хвалі іміграцыі пасялілася ў Чыкага і на Усходнім узбярэжжы, у «трыштаце» (Нью-Ёрк — Нью-Джэрсі — Канектыкут). Іхны жыццёвы імігранцкі досвед нічым не розніўся ад досведу праваслаўных братоў. У хуткім часе, у траўні 1950 года, яны заснавалі Беларуска-амерыканскае каталіцкае таварыства ў Нью-Ёрку і за кароткі час згуртавалі каля 150 сем'яў з «трыштата»[69]. Кіраўнікамі таварыства былі д-р Станіслаў Грынкевіч — старшыня, Вацлаў Пануцэвіч — віцэ-старшыня, Браніслаў Даніловіч — скарбнік і Андрэй Попка — сакратар. Гэтая група, узмоцненая некалькімі віднымі беларускімі актывістамі, сярод якіх былі Франц Кушаль і д-р Янка Станкевіч, папрасілі і атрымалі аўдыенцыю ў кардынала Спэлмана.



Станіслаў Грынкевіч

Мэтаю аўдыенцыі было атрымаць у кардынала дазвол на заснаванне беларускае рымска-каталіцкае парафіі ў Нью-Ёрку. Беларусы з асаблівым нецярпеннем чакалі заснавання парафіі, бо ўжо мелі вельмі энергічнага і адданага беларускага каталіцкага святара — а. Віта Пупіна з Латгаліі, які пачаў спраўляць багаслужбы для беларусаў. Беларуская дэпутацыя была прынятая кардыналам увосень 1950 года. На іх вялікі жаль, кардынал не толькі рашуча выступіў супраць заснавання парафіі, але нават загразіў а. Пупіну, што пазбавіць яго святарства, калі той не спыніць свае дзейнасці сярод беларусаў. Кардынал загадаў яму неадкладна пакінуць ягоную дыяцэзію. Беларусы былі ашаломленыя, а а. Пупін назаўтра пакінуў Манхэтэн і знайшоў месца ў латышскай парафіі ў Брукліне. Так першая спроба заснаваць беларускую рымска-каталіцкую парафію скончылася поўным правалам[70].

Варта адзначыць, што праблемы беларускіх каталікоў цікавілі не толькі вернікаў і святароў, але і свецкія нацыянальныя структуры. Прыклады гэтага можна знайсці ў дакументах 13-га Пленума Беларускай Цэнтральнай Рады 1952 года. Сярод іншага на ім было агучана і наступнае:

*Прымаючы пад увагу адсутнасць адпаведнай беларускай каталіцкай установы ў Амерыцы, якая апекавалася б беларусамі рыма-каталіцкага веравызнання і бараніла беларускую справу ў Ватыкане супраць польскага і расійскага наступу, гэтым звяртаецца ўвагу беларусаў рыма-каталіцкага веравызнання на неабходнасць стварэння*

[68] Карасэвіч, В. Кс. Віктар Шутовіч: Праўдзівы патрыёт і добры пастыр // Гарбінскі, Ю. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя = Die weisrussischen personlichkeiten des geistlichen lebens im XX. jarhundert: Жыццярысы. Мартыралогія. Успаміны. Мюнхен — Мінск, 1999. С. 477.

[69] Znič. Rym. 1950. № 1; Божым Шляхам. Парыж. 1950. № 37–38; Гутарка аўтара з д-рам Станіславам Грынкевічам, 1960.

[70] Гутаркі аўтара з Антонам Шукелойцам, 1988.

*імі Беларускага рыма-каталіцкага камітэта ў Амерыцы з адпаведнымі патрэбам мэтамі*[71].

Праўда, звестак пра рэальнае стварэнне згаданага камітэта не знойдзена. Аднак і няўдача першай спробы заснавання беларускай рымска-каталіцкай парафіі не спыніла беларускіх каталікоў. У другой палове 1950-х гадоў была зробленая другая спроба. У 1956 годзе ў Злучаных Штатах было заснаванае таварыства «Рунь» — беларуская секцыя сусветнае асацыяцыі каталіцкіх інтэлектуалаў *«Pax Romana»*[72]. У Злучаных Штатах «Рунь» узначаліў Францішак Бартуль, які незадоўга перад тым прыехаў з Вялікабрытаніі. Сітуацыя беларусаў-каталікоў выглядала больш памысна яшчэ і таму, што ў Злучаныя Штаты эміграваў беларускі ксёндз а. Францішак Чарняўскі, які ў красавіку 1957 года распачаў рэгулярныя багаслужбы для беларусаў у славацкай каталіцкай царкве Святога Яна Непамука на рагу *66th Street* і *1st Avenue*[73]. Славакі вельмі прыязна паставіліся да беларусаў. Адзін з іхных рэлігійных лідараў, а. мансіньёр Стывен Красуля, аддаў беларусам у карыстанне каплічку ў сваёй царкве. Ён, узброіўшыся звесткамі пра беларусаў-каталікоў Нью-Ёрка і ваколіцаў (а іх на той час налічвалася каля 180 сем'яў), а таксама маючы на ўвазе прысутнасць а. Чарняўскага, зноў паспрабаваў пагаварыць з кардыналам, але вынікам сталася яшчэ адна параза беларусаў-каталікоў. Як мансіньёр Красуля сказаў беларусам пасля свайго візіту да кардынала, іх справа была прайграная і скончаная назаўсёды[74]. Зноў беларуская рымска-каталіцкая грамада была разгубленая і расчараваная. Аднак і другая параза не забіла цалкам надзеі. На жаль, шмат хто з каталікоў, канчаткова зняверыўшыся, пакінуў Нью-Ёрк і пасяліўся ў іншым месцы.



Айцец Францішак Чарняўскі

Айцец Францішак Чарняўскі, які пасяліўся на поўначы штата Нью-Ёрк, рэгулярна наведваў беларусаў і падтрымліваў кантакты з грамадою. 31 сакавіка 1958 года ён чытаў малітву перад адкрыццём працы Кангрэса ЗША ў гонар угодкаў беларускае незалежнасці. Айцец Чарняўскі пазней таксама рэгулярна спраўляў багаслужбы для беларусаў-каталікоў у «Белэр-Менску» ў часе летніх адпачынкаў[75].

Апекаваўся беларускімі рыма-каталікамі і айцец (пазней — біскуп) Часлаў Сіповіч, які наведваў Злучаныя Штаты, выступаў з лекцыямі ў розных гарадах, сустракаўся з лідарамі беларускіх грамадаў ды падтрымоўваў кантакты з царкоўнымі ўладамі. 18 кастрычніка

[71] Беларуская Народная Рэспубліка. Беларуская Цэнтральная Рада. Нью-Ёрк, Прэзідыюм Пленуму БЦР. Сэсія 13-га Пленуму Б.Ц.Р. 1953. — 37 с.

[72] Гутарка аўтара з Вітаўтам Тумашам, 1981; Статут Беларускага Каталіцкага Таварыства «Рунь».

[73] Беларус. Нью-Ёрк. 1957. № 61; Znič. Rym. 1957. № 40; Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1957. № 367; Божым Шляхам. Лёндан. 1980. № 151.

[74] Гутаркі аўтара з Антонам Шукелойцем, 1988.

[75] Архівы «Белэр-Менска» ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1958. № 402–403; U.S. Congressional Record. Washington (DC). Vol. 104, 1958. P. 51–83.



1957 года а. Часлаў Сіповіч адслужыў літургію ў саборы Святога Патрыка ў Нью-Ёрку[76].

Адмысловы камітэт быў створаны дзеля арганізацыі візітаў беларускіх каталіцкіх святароў. Узначаліў яго Францішак Бартуль[77].

Істотную дапамогу беларусам-каталікам Нью-Ёрка аказаў таксама а. Уладзімір Тарасевіч з Чыкага[78]. Айцец Тарасевіч заключыў пагадненне аб багаслужбах для беларусаў у карпатароскай каталіцкай царкве ўсходняга абраду на рагу *15th Street* і *2nd Avenue*. Ён запрасіў таксама а. Пупіна адслужыць разам з ім літургію. Карыстаючыся нагодаю і прысутнасцю двух святароў, беларусы зноў вырашылі выпрабаваць сваю ўдачу. Гэтым разам было пастаноўлена падаць сваю просьбу не на Манхэтэне, а пайсці да бруклінскага біскупа Фрэнсіса Мугавэро. Тут іх прынялі зусім інačай.

Біскуп Мугавэро прыняў беларусаў вельмі цёпла і паабяцаў сваю падтрымку ў заснаванні беларускае каталіцкае парафіі ў Брукліне, калі набярэцца дастаткова вернікаў. На няшчасце, тады, у 1960-я гады, было ўжо немагчыма сабраць неабходныя дзвесце беларускіх каталіцкіх сем'яў... На той час ва ўсім метрапалітальным рэгіёне засталося толькі каля 80 сем'яў беларусаў-каталікоў[79].



Біскуп Часлаў Сіповіч, а. Пётра Татарыновіч, а. Язэп Германовіч і чыкагскія беларусы на магіле а. Язэпа Рэшаца ў Лайле. 1960-я гг.

[76] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1957. № 375, 382.

[77] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1959. № 473.

[78] Пазней ён быў высвячаны на біскупа (1983) і прызначаны апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў замежжа.

[79] Гутаркі аўтара з Антонам Шукелойцем, 1988.

Так, калі заснаванне беларускае каталіцкае парафіі ў Нью-Ёрку сталася зусім рэальным, проста не хапіла людзей. У выніку беларусы-каталікі часткова інтэграваліся ў жыццё беларускіх праваслаўных грамадаў, калі-некалі цешачыся з візіту беларускага каталіцкага святара. Гэткімі наведнымі святарамі былі ўладыка Чеслаў Сіповіч, уладыка Уладзімір Тарасевіч, а. Аляксандр Надсан, а. Язэп Германовіч, а. Францішак Чарняўскі ды а. Пётра Татарыновіч. Найчасцей беларускія каталіцкія багаслужбы спраўляліся ў карпатароскай царкве Божае Маці на Манхэтэне або ў рымска-каталіцкім касцёле Святога Язэпа ў Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі[80].

Сярод тых, хто імкнуўся закласці арганізаваны каталіцка-беларускі рух у Амерыцы, — Франц Кушаль, Антон Шукелойць, Гіпаліт Паланевіч, Яніна Каханоўская, Апалонія Савёнак, Вітаўт Тумаш, Францішак Бартуль, Станіслаў Грынкевіч, Браніслаў Даніловіч, Сяргей Гутырчык, Мікола Кунцэвіч, Андрэй Попка, Язэп Гладкі, Янка Станкевіч, Пётра Міpановіч, сем'і Будзькаў, Пануцэвічаў, Рамукоў, Бяленісаў ды іншыя.

Беларуская рымска-каталіцкая грамада перажыла ўсе нягоды і расчараванні ды прызвычаілася да халоднага стаўлення паноўных рэлігійных структураў. У большасці сваёй беларусы-каталікі захоўвалі каталіцкую веру і бралі чынны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці. Шмат хто з каталікоў належаў і належыць да беларускіх праваслаўных парафій.

### *Беларуская каталіцкая царква ўсходняга абраду ў Чыкага*

Беларуская каталіцкая парафія Хрыста Збаўцы ўсходняга абраду была заснаваная ў Чыкага ў 1955 годзе[81]. Галоўнае ядро вернікаў у ёй складалі беларускія паваенныя іміграны з Чыкага і ваколіцаў, хоць сярод актыўных парафіянаў былі прадстаўнікі шмат якіх іншых нацыянальнасцяў.

Службы Божыя ў царкве вяліся па-беларуску, па-старaславянску і па-англійску. Духоўным лідарам, заснавальнікам і арганізатарам парафіі быў а. Ян Хрызастом Тарасевіч, манах з кляштара святога Пракопа ў мястэчку Лайль, штат Ілінойс.



Надмагілле а. Яна Хрызастома Тарасевіча на могілках манастыра Св. Пракопа ў Лайле

Айцец Ян Хрызастом нарадзіўся ў вёсцы Клешнякі на Гарадзеншчыне ў 1892 годзе, эміграваў у Злучаныя Штаты, калі яму было дзевятнаццаць гадоў. Пасяліўся спачатку ў Нэшуа, штат Нью-Гэмпшыр, дзе ўдзень працаваў на баваўнянай фабрыцы і ў абутковай майстэрні, а ўначы займаўся навукаю. Ён вучыўся на святара ў Місійным каледжы Ла Салет у Хартфардзе, штат Канектыкут, пасля працягваў навуку ў Манрэалі (Канада) і Фрыбургу (Швейцарыя), дзе быў высвячаны біскупам Біканам у 1923 годзе. Атрымаўшы ступень доктара

[80] Папкі а. Язэпа Германовіча, ул. Часлава Сіповіча, а. Аляксандра Надсона, а. Пятра Татарыновіча, а. Францішка Чарняўскага ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Беларус. Нью-Ёрк. 1970. № 160.

[81] Catholic Almanac: the most complete one-vol. encyclopedia of cath. facts and information on the church. Huntington (Ind), 1989. P. 484.



філасофіі і доктара багаслоўя, у 1926 годзе ён стаўся выкладчыкам у семінарыі Ла Салет каля Олбані, штат Нью-Ёрк.

Падчас свае выкладчыцкае кар'еры і пастырскае дзейнасці а. Ян Хрызастом Тарасевіч актыўна працаваў з беларускімі імігрантамі, удзельнічаў у заснаванні колькіх беларуска-амерыканскіх арганізацый, а таксама шмат сілаў аддаў справе хрысціянскае еднасці. Ён быў адным з рэдактараў часопіса *«The Voice of the Church»*, месячніка, выдаванага айцамі бенедыкцінамі з кляштара святога Пракопа, мэтаю якога было дасягнуць лепшага разумення паміж каталікамі ўсходняга абраду і праваслаўнымі з аднаго боку і рыма-каталікамі — з другога. Асабліва актыўным у беларускім жыцці а. Тарасевіч быў у часе Другое сусветнае вайны, ён стаў адным з заснавальнікаў Беларуска-амерыканскае нацыянальнае рады, якая дзейная і дагэтуль[82].

Калі па вайне ў Амерыку пачалі прыбываць новыя беларускія іміграны, а. Ян Хрызастом Тарасевіч пачаў гуртаваць іх з мэтаю заснавання беларускае парафіі. Вялікая група беларусаў Чыкага ўлетку 1955 года звярнулася з просьбаю да абата кляштара святога Пракопа а. Амброза Ондрака, каб той прызначыў іхным духоўным пастарам айца Тарасевіча. Абат Амброз згадзіўся на прызначэнне і падаў просьбу да кардынала Сэмюэла Стрыча аб заснаванні каталіцкай парафіі ўсходняга абраду. Кардынал даў на гэта сваю згоду. Першыя службы Божыя адбыліся ўлетку 1955 года ў найманай зале. Служыліся літургіі і ў школах ды іншых памяшканнях. Аднак надыходзілі цяжкія для парафіі часы: а. Ян Хрызастом Тарасевіч захварэў, а ягоны блізкі сябра і памочнік а. Язэп Рэшаць памёр[83]. Пошукі сталага месца і святара працягваліся.




Абвестка пра ўрачыстае высвячэнне царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага. 1961 г.

У верасні 1958 года пляменнік а. Яна Хрызастома, а. Уладзімір Тарасевіч, таксама манах кляштара святога Пракопа, вярнуўся пасля заканчэння навукі ў Рыме. Ён быў прызначаны памочнікам а. Яна Хрызастома, што шмат дапамагло парафіі. Нарэшце адпаведны будынак для царквы быў знойдзены і куплены 15 снежня 1959 года. Набыць будынак для царквы Хрыста Збаўцы дапамагла Чыкагская архідыяцэзія. Царква была ўрачыста высвячаная 2 ліпеня 1961 года біскупам Чаславам Сіповічам у прысутнасці кардынала Мэера. Царква сталася актыўным грамадскім цэнтрам, пры ёй дзеіла нядзельная дапаўняльная школка,

[82] Founder's Day June 17, 1962. Church of Christ the Redeemer. Program. Chicago (IL), 1962; Walker, A. My favorite priest: Rev. John Chrysostom Tarasevitch, an American Staretz. Manuscript. 1984; The Voice of the Church. Lisle (IL). 1936. № 1; Eastern Churches Quarterly. 1937. № 2. P. 88–89.

[83] Беларус. Нью-Ёрк. 1958. № 65.


Айцец Уладзімір Тарасевіч

праводзіліся мерапрыемствы для моладзі і — разам з іншымі беларускімі арганізацыямі — ладзіліся міжнародныя беларускія навуковыя канферэнцыі[84]. Парафія выдавала шэраг перыёдыкаў, гэткіх як «Лісток да Беларусаў» (1955), «Да Злучэньня», «*Newsletter*». Айцец Уладзімір Тарасевіч актыўна ўлучыўся ў жыццё беларускае грамады. Ён разам з кіраўніцтвам царквы наладзіў блізкія дачыненні з беларускаю праваслаўнаю парафіяй святога Юрыя ў Чыкага, неаднаразова прадстаўляў чыкагскіх беларусаў пры розных нагодах, а 25 сакавіка 1959 года адчытаў малітву ў Кангрэсе ЗША[85]. Парафія і блізкія да яе арганізацыі мелі вялікі ўплыў на жыццё беларускае грамады ў Чыкага. Апрача а. Яна і а. Уладзіміра Тарасевічаў шмат зрабілі для парафіі сем'і Будзькаў, Рамукоў, Бяленісаў, Махначоў, Пануцэвічаў, Гайдзеляў, Занковічаў, Жызнеўскіх, Мікола Дзямідаў[86].

Згуртаваныя пры парафіі інтэлектуалы запачаткавалі таксама навукова-грамадскую дзейнасць. На працягу 1959–1965 гадоў у Чыкага адбываліся культурна-рэлігійныя тыдні студый, у якіх бралі ўдзел беларускія даследчыкі розных веравызнанняў. Гэта былі канферэнцыі, дзе агучваліся даклады, прысвечаныя розным беларускім праблемам: рэлігійным, грамадскім, адукацыйным. У дыскусіях рэлігійнай тэматыкі дамінавала тэма беларускай царквы, аховы нацыянальных каштоўнасцяў і традыцый. Ініцыятарам і галоўным арганізатарам студый быў Вацлаў Пануцэвіч. Адбылося чатыры такіх тыдні: першы — 29.08–07.09.1959; другі — 01–07.07.1961; трэці — 28.11–01.12.1963; чацвёрты — 30.07–01.08.1965.

З цягам часу а. Ян Хрызастом Тарасевіч пачаў схіляцца да нейтральнае або часам і пазітыўнае ацэнкі Саветаў і супрацоўніцтва з імі. Ён наведаў Савецкую Беларусь, апублікаваў колькі артыкулаў і вершаў у газеце «Голас Радзімы» і, як здавалася, прымаў за праўду савецкую пацыфісцкую прапаганду[87]. Аднак гэта не адбілася ні на дзейнасці царквы Хрыста Збаўцы, ні на грамадскім жыцці чыкагскіх беларусаў, ні на дачыненнях паміж абедзвюма беларускімі цэрквамі ў Чыкага, бо рэальнае кіраўніцтва парафіяй на той час было ўжо ў руках а. Уладзіміра Тарасевіча.

Пасля смерці а. Яна Хрызастома Тарасевіча 11 чэрвеня 1978 года а. Уладзімір узяў на сябе ўсю духоўную і адміністрацыйную дзейнасць у парафіі. У 1975 годзе ён быў узведзены біскупам Чаславам Сіповічам у сан архімандрыта. Пад кіраўніцтвам а. Уладзіміра парафія адсвяткавала свой 25-гадовы юбілей[88]. Аднак найслаўнейшаю падзеяй у жыцці парафіі стаўся дзень, калі а. Уладзімір быў высвячаны на біскупа. Ардынацыя адбылася 8 верасня 1983 года, на гэтай урачыстасці прысутнічала ўся беларуская калонія Чыкага, а таксама госці — прадстаўнікі

---

[84] Беларус. Нью-Ёрк, 1965. № 100; 1970. № 161; Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1959. № 473.

[85] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1959. № 454.

[86] Весткі й Паведамленьні. Нью-Ёрк. 2015. № 1 (587).

[87] Новое Русское Слово. Нью-Ёрк. 1978. 7, 8 нояб.; Голас Радзімы. Мінск. 1967. № 982; Беларус. Нью-Ёрк. 1971. № 165

[88] Беларус. Нью-Ёрк. 1975. № 218; 1978. № 254; 1980. № 279; The Rev. Vladimir L.Tarasevitch, Our Beloved Jubilarian and Pastor. 25 years of the Priesthood. Chicago (IL), 1964.



шмат якіх іншых беларускіх арганізацый[89]. Аднак радасць парафіі і беларускага грамадства была нядоўгая: біскуп Уладзімір памёр 2 студзеня 1986 года[90].

Наступным духоўным кіраўніком парафіі стаўся а. Язэп (Джозэф) Сіру. Гэта вельмі актыўны рэлігійны дзеяч, прафесійны музыколаг, выдатны літургіст, ён карыстаўся шырокаю падтрымкаю грамады. Падчас святкаванняў 1000-годдзя хрысціянства на Беларусі ў 1990 годзе парафію наведалі некаторыя высокія прадстаўнікі царкоўных уладаў, у тым ліку чыкагскі арцыбіскуп Джозэф Бернардын.

1 ліпеня 1990 года парафія адзначыла сваё 35-годдзе. З гэтае нагоды літургію служыў біскуп Пласіда Радрыгес, прысутнічала шмат высокіх гасцей, галоўным прамоўцам на ўрачыстасці быў прафесар Томас Бэрд з Нью-Ёрка[91].

Хоць гэтая парафія параўнальна невялікая, царква Хрыста Збаўцы адыгрывала важную ролю ў беларускім жыцці Чыкага. Сваімі выданнямі, канферэнцыямі і выставамі парафія сталася добра вядомая амерыканскім беларусам. Аднак праз нястачу беларускіх вернікаў-уніятаў у 2003 годзе яна спыніла сваё існаванне, будынак і адміністраванне царквы было перададзена румынам. З гэтай нагоды ў газеце «*Chicago Tribune*» амерыканскі журналіст Біл Глоўберг змясціў зацемку з апісаннем дзейнасці парафіі, яе вернікаў і святароў[92]. Пераклад гэтага тэксту разам з уласным каментарам падаў журналіст і літаратуразнаўца Ванкарэм Нікіфаровіч. Сваю публікацыю ён скончыў наступнымі словамі:



Франтон беларускай царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага

*Зачынілася не толькі беларуская царква Хрыста Збаўцы. Закрыўся па сутнасці і вельмі важны рэлігійны і культурны цэнтр пры ёй. Ён быў вельмі патрэбным асяродкам духоўнага жыцця беларускай іміграцыі ў Чыкага, які гуртаваў, аб'ядноўваў, прыцягваў усіх, хто захаваў Беларусь у сэрцы*[93].

Пра гісторыю гэтае парафіі, а таксама біяграфіі арганізатараў яе айца Яна Хрызастома Тарасевіча і біскупа Уладзіміра Тарасевіча багата звестак у кнізе айца Аляксандра Надсана «Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус» (Менск, 2004. 300 с.)[94]. Тое, што беларусы-каталікі ўсходняга абраду арганізавалі сваю

---

[89] Episcopal Ordination of the Most Reverend Vladimir L.Tarasevitch, O.S.B., D.D. Titular Bishop of Mariamme. Chicago (IL), September 8, 1983; Testimonial Banquet on the occasion of the Episcopal Ordination. Chicago, September 8, 1983; Беларус. Нью-Ёрк. 1983. № 313.

[90] Весткі й Паведамленьні Аддзелу БАЗА Ню Ёрк. 1986. № 87.

[91] Гутарка з прафесарам Томасам Бэрдам; Беларус. Нью-Ёрк. 1988. № 350.

[92] Chicago Tribune. July 20, 2003.

[93] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. Верасень 2003; Беларус. Нью-Ёрк. 2003. № 487.

[94] Англамоўнае выданне: Nadson, Alexander. Ceslaus Sipovich: the First Belarusian Catholic Bishop in the 20th Century — 1914–1981. Minsk: Technalohija, 2007. — 224 p.

парафію, мае вялікае значэнне як у беларускім нацыянальным жыцці, гэтак і ў рэпрэзентацыі навонкі.

* * *

Беларускія рыма-каталікі, нягледзячы на ўсе ходанні, не здолелі арганізаваць свае нацыянальныя парафіі. У якасці аднае з прычынаў тых цяжкасцяў можна назваць пазіцыі біскупаў, якія гістарычна былі найбольш ірландскага паходжання. Яны і слухаць не хацелі пра нацыянальныя каталіцкія парафіі. Таму часта бывала, як, прыкладам, з польскімі імігрантамі, грамады прывозілі «сваіх» біскупаў з Еўропы і стваралі польскія касцёлы. Праўда, былі каталіцкія біскупы і больш лаяльныя да нацыянальнага пытання. Гэтак, у сваім артыкуле і нядаўняй гутарцы з аўтарам гэтай кнігі мансеньёр Роберт Вістэр распавёў пра каталіцкую епархію горада Ньюарка, штат Нью-Джэрсі, дзе былі дзейныя парафіі славацкія, польскія, мадзярскія і інш. Высветлілася таксама, што і беларусы-каталікі ў Ньюарскай епархіі былі, але належалі да іншанацыянальных касцёлаў з-за малое свае колькасці.

Як і ў жыцці беларускае праваслаўнае грамады, гэтак і для беларусаў-каталікоў на будучыню будзе мець значэнне наяўнасць новых святарскіх пакліканняў.

Важна таксама падкрэсліць, што беларусы-каталікі абодвух абрадаў у царкоўным жыцці поўнасцю перайшлі на беларускую мову, што ёсць бясспрэчным гістарычным дасягненнем. Па стане на 2020 год арганізаванае беларускае каталіцкае дзейнасці ў ЗША няма.

Падводзячы агульную рысу пад справай нацыянальных цэркваў у ЗША, можна заўважыць такую карціну: імперскія краіны (Аўстра-Венгрыя, Расія) не адлюстроўвалі нацыянальнасці ў пашпартах сваіх грамадзян, таксама і Амерыканскае бюро перапісаў на нацыянальнасці амаль не звяртала ўвагі, і тое самае было ў царкоўных уладаў: каталіцкая, праваслаўная і іншыя іерархіі глядзелі косым вокам на нацыянальную праблему. Што ні кажы, а выжываць беларускім імігрантам, як і ўсяму беларускаму народу, зведзенаму да каланіяльнага быцця, было няпроста.

### *Беларускія пратэстанты*

Па Другой сусветнай вайне ў Злучаныя Штаты прыбыло шмат беларусаў-пратэстантаў. Яны заснавалі невялікія грамадкі ў штатах Ілінойс, Каліфорнія, Нью-Джэрсі, Нью-Ёрк і Пенсільванія ды аб'ядналіся ў 1973 годзе ў Беларускае евангельска-баптысцкае брацтва ў ЗША і Канадзе, галоўная кватэра якога месцілася спачатку ў Іры, штат Пенсільванія, а пазней у Уітыэры, штат Каліфорнія.

Сярод пачынальнікаў беларускага пратэстанцкага руху ў Злучаных Штатах былі а. Масей Гітлін, а. Даніла Ясько, а. Якуб Рапэцкі, а. Юры Рапэцкі, а. Ян Пятроўскі, а. Б. Лабоцкі, а. В. Баркевіч і а. Н. Любанскі, Янка Ліхач, Герасім Сахар, Тарас Сайка, Валерыян Маеўскі.

Беларускае евангельска-баптысцкае брацтва разгарнула актыўную дзейнасць на ніве выдавецтва, радыёвяшчання і адукацыі. Пачынаючы ад 1976 года яно вядзе беларускія радыёперадачы праз радыёстанцыі ў Сан-Францыска і Монтэ-Карла. Хоць беларускія пратэстанты і не адыгрывалі істотнае ролі ў беларускім грамадскім жыцці ў Злучаных Штатах, а дзейнасць іхная галоўным чынам абмяжоўвалася рамкамі амерыканскага пратэстанцкага — пераважна баптысцкага — свету, яны, аднак, унеслі немалы ўклад у беларускую культуру. А. Даніла Ясько, а. Якуб Рапэцкі і а. Юрка Рапэцкі ды іхная група выдалі значную колькасць






Першы беларускі евангельска-баптысцкі з'езд у ЗША. Горад Іры (Пенсільванія), 1973 г.

каштоўнае рэлігійнае літаратуры, у тым ліку некалькі беларускіх хрысціянскіх спеўнікаў. Варта згадаць хоць бы спеўнік «Гімны Хрысьціян» (1979), укладзены і перакладзены на беларускую мову а. Данілам Ясько, у які ўвайшло 604 рэлігійныя гімны. А. Ян Пятроўскі і сп-ня Аліцыя Пятроўская пераклалі на беларускую мову і выдалі творы грэцкіх класікаў, а таксама шэраг рэлігійных кніг, слоўнікаў ды цікавыя мемуары. Усё гэта сталася неад'емнаю часткаю беларускае культуры[95]. Прычым беларускі пратэстанцкі друк, як кніжны, так і перыядычны, асвятляў шмат тэмаў агульначалавечых: літаратурных, гістарычных ды, прыкладам, скарыніяны.



Ян Пятроўскі

У часе грамадскай дзейнасці даводзілася супрацоўнічаць з шмат кім з беларускіх пратэстанцкіх грамадаў, як, прыкладам, з сп. Тарасам Сайкам, пастарам Янам Пятроўскім, Герасімам Сахарам, а таксама з выдаўцамі спеўніка «Гімны Хрысьціян» (1979), шмат копій якога было даслана на запыты з Беларусі нават у гады халоднай вайны. Ведаючы, што з старой гвардыі беларускіх пратэстанцкіх дзеячаў у ЗША амаль нікога ўжо не засталося, аўтар гэтае кнігі звярнуўся да сп. Анатоля Пранцэвіча, пратэстанцкага верніка, беларускага патрыёта і літаратара-перакладчыка, каб паінфармаваў пра цяперашні стан арганізаванасці беларускіх пратэстантаў. Ніжэй падаецца ягоны змястоўны адказ:

[95] Папка Якуба Рапэцкага, папка Яна Пятроўскага ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Месячнік Саюзу Евангельскіх Хрысьціян Баптыстаў. 1990. № 4.

*Мы сваёй сям'ёй (жонка Вера, сын Міколка) прыехалі з Беларусі ў ЗША 13 ліпеня 1992 года па праграме ўцекачоў на рэлігійнай аснове. У былым Саюзе мелі пераследаванні за сваё веравызнанне. Пасяліліся адразу і жывём да гэтага часу ў г. Портланд (Арэгон). Мясцовасць вельмі прыгожая, маляўнічая і зялёная (ідзе многа дажджоў). Тут у г. Портланд і вакол яго пасяліліся выехаўшыя з Бацькаўшчыны беларусы-пратэстанты з усіх шасці абласцей Беларусі. Іх прыезд пачаўся ў 1989 годзе і працягваецца да цяперашняга часу. Выехала на сталае месца жыхарства не менш як 500 чалавек. У асноўным жывуць у г. Портланд і г. Сэйлам (сталіца Арэгона), а таксама праз раку Калумбія ў г. Ванкувер (штат Вашынгтон).*

*Шкада, што беларусы не заснавалі Беларускую хрысціянскую царкву, а разышліся па славянскіх хрысціянскіх цэрквах, дзе ў пераважнай большасці выкарыстоўваецца руская мова. Толькі заснаваўся невялікі беларускамоўны гурток пад назвай «Адраджэнне», які пачаў сваё існаванне ў 1999 годзе і дзейнічае да сённяшняга дня. Гурток не мае палітычнага кірунку, а ажыццяўляе няпоўныя царкоўныя функцыі. Тут мы выконваем малітвы агульнага і асабістага характару. Молімся таксама і за нашую родную Беларусь, каб там быў мір і не было ніякай вайны альбо баявых дзеянняў. У гонар вялікіх святаў, як Раство і Вялікдзень, робім віншавальныя лісткі. На Свята жніва (Дзень падзякі) праводзім падзякавальнае Богу набажэнства за ўсе дары і плады, якія выкладаем на аглядальную палічку. Аднаго разу мелі сустрэчу на ўлонні прыроды ў Bartan Park, тады сабралася найбольшая колькасць беларусаў і выхадцаў з Беларусі. Збіраючыся на гуртку, абменьваемся думкамі, планамі, ідэямі, дзелімся навінамі*[96].

Варта згадаць, што беларускія пратэстанты выдалі таксама у горадзе Ніксан, штат Тэнесі, кампакт-дыск «Зямля бацькоў» гурта «Спадзяванне» (11 напеваў-малітваў).



Беларускія пратэстанты ў Портлендзе (Арэгон). 2013 г.
*Фота Анатоля Пранцэвіча*

[96] Ліст ад Анатоля Пранцэвіча ад 05.05.2016.



З колішняга ліставання з прапаведнікам Тарасам Сайкам вядома, што ў штаце Мінесота таксама жылі беларускія пратэстанты. А вось што ўдалося высветліць пра новых пратэстантаў з Беларусі айцу Ігару Лабацэвічу:

*Першая хваля (з «новай эміграцыі») беларускіх пратэстантаў пачала з'яўляцца ў ЗША ў 1988–1991 гадах. Ехалі праз Вену і Італію па ізраільскіх візах. Ад 1991 года урад ЗША зрабіў магчымым прыезд вернікаў як ўцекачоў ад пераследу па рэлігійнай прыкмеце. Ва ўладкаванні і забеспячэнні гэтых людзей вельмі дапамагалі каталіцкія і яўрэйскія дабрачынныя арганізацыі, якія спансавалі новых эмігрантаў (яны гэта называюць «прыехаць па паролі»). Аднымі з першых у Мінесоце і на Сярэднім Захадзе былі вернікі з Альшанаў — цэлая вёска пераехала ў Амерыку. Большасць іх асела ў Місула, штат Мантана. Тыя, што засталіся ў Мінесоце, стварылі асобную царкоўную супольнасць, але паступова сталі маліцца разам з пяцідзясятнікамі-немцамі з Казахстана. Агулам гэтая група вельмі кансерватыўная, замкнёная ў сабе.*

*Менчукі трымаюцца ў Мінесоце асобна. Пачалі з 5–6 сем'яў у 1996 годзе (16 дарослых), якія сустракаліся па хатах, здымалі памяшканне ў лютэранскай царкве. На 2009 год тая «менская» супольнасць складалася з 120–130 чалавек і называлася «Беларускай царквой», пазней вядомая як «церковь Благодать» (цяпер каля 420 чалавек). Некалькі гадоў таму ад іх адгалінавалася яшчэ адна супольнасць (Zachary Worship Church), якая складаецца з маладога пакалення. Іх маленні праводзяцца і па-беларуску, і па-руску, і ўсё больш — па-англійску.*

*Таксама ў Мінеапалісе ёсць царква пастара Івана Сімановіча, якая на траціну складаецца з беларусаў (не менчукоў), а таксама ўсходніх украінцаў, рускіх і іншых «рускамоўных».*

*Увогуле складаецца ўражанне, што людзі трымаюцца разам паводле месца іх паходжання ў Беларусі — менскія з менчукамі, пінскія з пінчукамі (збольшага ў Новай Англіі).*

*Таксама ёсць багата баптыстаў (царква Віфанія ў Мінеапалісе амаль цалкам беларуская).*

*Праводзяцца штогадовыя летнікі для дзяцей і маладых сем'яў. Досыць часта ёсць беларускі элемент у служэнні, але не дамінуючы. Багата моладзі нацыянальна свядомай, але трымаюцца паасобку*[97].




Паштоўка, выдадзеная беларускімі пратэстантамі ў ЗША

* * *

Колькі словаў трэба сказаць і пра беларускіх старавераў, якіх нямала ў Злучаных Штатах. Жывуць яны пераважна ў горадзе Мілвіль, штат Нью-Джэрсі, і горадзе Іры, штат Пенсільванія. Хоць і звязаныя гістарычна з Беларуссю ад XVI стагоддзя, арганізацыйна яны не выяўляюць з ёю ніякае лучнасці. Разам з тым шмат хто з актывістаў беларускіх грамадаў належыць да стараавераў, аднак унутры іх рэлігійных структураў самая большая праява асобнасці — гурткі землякоў. Сярод найактыўнейшых грамадскіх дзеячаў і беларускіх патрыётаў з ліку стараавераў можна назваць Лявона Кавалёва, Івана Канарчука з Балтымара, Паўла Алексы

[97] Ліст Ігара Лабацэвіча да аўтара. 2017 г.

з Нью-Ёрка, Сцяпана Савельчука, Максіма Рыбнікава з штата Пенсільванія. Але гэтыя актывісты-стараверы былі імігрантамі пасля Другое сусветнае вайны і ўжо паўміралі, а іх дзеці мала цікавяцца і лёсам старавераў, і беларускім жыццём. Праўда, некаторыя амерыканска-беларускія стараверы з Балтымара і Пенсільваніі прыязджаюць на Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі.

* * *

Мусульманаў, інтэграваных у беларускую культуру ў Злучаных Штатах, практычна няма, хоць на Бацькаўшчыне гэта справа нярэдкая. Паасобныя прадстаўнікі гэтай рэлігійнай групы выяўлялі актыўнасць у беларускім жыцці, асабліва на пачатку 1950-х гадоў[98].

### *Яўрэйства*

Пра эмігрантаў-яўрэяў, карані якіх знаходзяцца ў Беларусі, напісана шмат, вельмі шмат. На жаль, у тых публікацыях яўрэі з Беларусі, гэтак і амаль усё ўсходнееўрапейскае яўрэйства, падаюцца як выхадцы з Расіі. Вядома, што гэта не так. Значная частка, а мо і большасць ўсходнеславянскага яўрэйства паходзіць не з Расіі, не з рускай этнічнай тэрыторыі, а з вялікага абшару нярускіх земляў, якім у Расійскай імперыі была заканадаўствам нададзеная назва «Рыса аседласці» (англійскі тэрмін «*Pale of Settlement*»). Гэтая тэрыторыя, дзе маглі жыць вернікі-яўрэі ўлучала амаль усю Беларусь і часткі Украіны, Курляндыі, Бесарабіі, Літвы. Праз дыскрымінацыю расійскім заканадаўствам пры канцы XIX стагоддзя яўрэйства пачало масава з тых земляў уцякаць-эміграваць у ЗША і іншыя краіны, а следам пачалася і масавая эміграцыя іншых народаў, улучна з беларусамі. Эміграцыйная бюракратыя ўсім эмігрантам прышывала бірку «рускія». У гэтым факце і ёсць найбуйнейшая фальш і гвалт чалавечых правоў. Запярэчыць такому стану эмігранты не маглі: іх узровень адукацыі быў вельмі нізкі. Яўрэям гэтая бірка, хоць і непрыемная, шкодзіла мала, бо яны на эміграцыі ядналіся пераважна на базе рэлігіі, беларусам жа бірка «рускі» нашкодзіла неймаверна, забраўшы нашую адасобленасць, нашую гісторыю.

Яўрэі маглі дапамагчы і дапамагалі беларусам. Нават у час фармавання БНР, руху за беларускую дзяржаўнасць былі мудрыя яўрэйскія палітычныя лідары, якія спрабавалі прылучыць яўрэйскіх амерыканскіх дзеячаў да беларускага руху, але тады справа не зрушылася[99]. Даследчык беларуска-яўрэйскіх адносінаў Віталь Зайка піша:

> *Гэбраі бралі ўдзел у Першым Усебеларускім Кангрэсе 1917 года і ўвайшлі ў Раду БНР і Беларускі Нацыянальны Сакратарыят 1918 года. Гэбраі былі сярод прыняўшых тры ўстаўныя граматы і Акт 25 Сакавіка 1918 года. Некалькі гэбраяў былі міністрамі Рады БНР. Брат Хаіма Жытлоўскага, Самуіл, ходаўся ў гэбрайскіх арганізацыях у Еўропе і Амерыцы адносна палітычнай і фінансавай падтрымкі для БНР*[100].

У цяперашнім часе назіраецца вельмі пазітыўная з'ява: пачынаецца вывучэнне яўрэйскай эміграцыі з беларускага гледзішча, з беларускіх крыніцаў. У Беларусі выйшлі аўтарытэтныя даследаванні беларускага гісторыка Эмануіла Іофэ ды з'явіўся інфармацыйны артыкул у «Беларускай энцыклапедыі»[101]. Даследаванне беларускага яўрэйства адбываецца таксама ў Гародні, пра што сведчыць праца Вольгі Сабалеўскай[102], і ў Ізраілі, дзе рэй вядзе гісторык з Беларусі Леанід Смілавіцкі. У кнізе апошняга «*Jewish Life in Belarus*» даводзіцца, што эмігранты-яўрэі не жадаюць страчваць кантакты з Беларуссю. Даследчык прыводзіць новыя звесткі пра сувязі беларускіх яўрэяў пасля Другое сусветнае вайны з іх родзічамі ў ЗША. Пададзеная інфармацыя пра Амерыканска-яўрэйскі камітэт дапамогі адбудове Беларусі, які наладзіў сувязі паміж 700 сем'ямі яўрэяў у розных гарадах і мястэчках Беларусі і іхнымі родзічамі ў ЗША. Тая ж арганізацыя паведамляе, што ў ЗША жыве каля мільёна яўрэяў беларускага паходжання. Аднак, як зазначае аўтар на аснове архіўных звестак, кантакты яўрэйскіх амерыканскіх дапамаговых арганізацый з Беларуссю не заўсёды ўдаваліся, і, відавочна, сустракаліся цяжкасці. Невядома, ці даходзілі да адрасатаў сотні-тысячы пасылак, што як дапамогу Беларусі высылалі амерыканскія яўрэйскія арганізацыі[103]. У іншай кнізе Леаніда Смілавіцкага пададзеныя дэталёвыя звесткі пра амерыканскіх яўрэяў з горада Турава[104]. У ЗША даследуе біяграфіі яўрэяў з Беларусі навуковы супрацоўнік Яўрэйскага інстытута сп. Віталь Зайка. Ён выдрукаваў у альманаху «Запісы БІНіМ» і газеце «Беларус» колькі артыкулаў пра яўрэяў беларускага паходжання, іх творчасць, сувязі з Беларуссю[105]. Публікацыі пра лёсы знакамітых яўрэяў — выхадцаў з Беларусі ў ЗША: матэматыка з Ліды Стэфана Варшаўскага, банкіра і філантропа з Пінска Шэпарда Броўда, прафсаюзнага лідара з Брэста Давіда Дубінскага, філосафа з Менска і Нясвіжа Морыса Коэна і іншых належаць даследчыку-архівісту Лявону Юрэвічу[106].

Беларускасць амерыканскіх яўрэйскіх эмігрантаў варочаецца да былой радзімы ў шматлікіх працах аўтарытэтнай беларуска-канадскай даследчыцы, калегі-супрацоўніцы, колішняй доўгагадовай старшыні Канадскага БІНіМа прафесара Зіны Гімпелевіч, у яе кнізе «*Belarusian Jewish Writers of XX century*» (2010) ды ў наступнай працы «*The portrayal of Jews in Modern Belarusian Literature*» (2018).

Даследаванні лёсаў, дзейнасці беларускага яўрэйства на эміграцыі, у прыватнасці ў ЗША, як выглядае, пачынаюць уплываць на спадчыну, радзінную перапіску выбітных яўрэйскіх інтэлектуалаў, пісьменнікаў і іншых у ЗША. У шмат якіх артыкулах яўрэйскага аўтарства, некралогах аб буйных постацях у розных галінах навуковай дзейнасці, яўрэі, іх родзічы пачынаюць заяўляць, што яны з Беларусі. Гэта фактар для беларусаў вялікае вагі, які спрыяе беларускаму змаганню за вяртанне сваёй спадчыны. Гэтак, за апошнія гады да беларускай спадчыны

[98] Беларуска-мусульманская калёнія на Брукліне ў Нью-Ёрку // Веда. Нью-Ёрк. 1954. № 1. С. 20–22; Ст. Я. Беларуска-мусульманскія іміgranty ў Задзіночаных Гаспадарствах // Веда. Нью-Ёрк. 1954. № 1. С. 23–25.

[99] Архівы БНР. Т. I. Кн. 2. № 2955, 2755, 2748.

[100] Беларус. Нью-Ёрк. 2007. № 537.

[101] Беларуская энцыклапедыя. Т. 18 (1). Мінск, 2004. С. 316.

[102] Сабалеўская, Вольга. Габрэйска-хрысьціянскі дыялёг // Arche: Другая Гародня. № 1–2, 2010. С. 120–150.

[103] Smilovitsky, Leonid. Jewish life in Belarus : the final decade of the Stalin regime (1944—1953). Budapest — New York: Central European University Press, 2014. P. 213. Агляд: Belarusian Review. Praha. Vol. 26 (4). 2014.

[104] Смиловицкий, Леонид. Евреи в Турове: история местечка Мозырского Полесья = Jews in Turov: history of a shtetl in Mozyr's Polesye region. Иерусалим, 2008. — 798 с.

[105] Запісы БІНіМ. № 24. Нью-Ёрк, 1999. С. 253–273; № 26. Нью-Ёрк — Менск, 2003. С. 116–131; № 27. Нью-Ёрк — Менск, 2004. С. 391–408; Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 518; 2007. № 537; 2010. № 571, 574; Весткі й Паведамленьні. Нью-Ёрк. 2011. № 543, 544.

[106] Згаданыя публікацыі можна знайсці на сайце www.budzma.by.

залічыліся: народжаны каля Зэльвы і памерлы ва ўзросце 104 гадоў Сінор Любэцкі, шырока вядомы тэарэтык бібліятэказнаўства, каталагізацыі, аўтар шматлікіх кніг, у тым ліку найбольш знанай *«Cataloging Rules and Principles»* (1953); народжаны ў Беларусі ў 1917 годзе Лу Гэнкін, адвакат, добра вядомы абаронца правоў чалавека[107]; народжаны каля Дуброўны Цві Цэйтлін, знакаміты скрыпач і педагог; народжаны ў Пінску Шэпард Броўд (Шмуэль Бабровіч), банкір і філантроп; паходжаннем з-пад Менска Давід Сарнаў, адзін з заснавальнікаў радыё і тэлебачання ў ЗША і г. д. Са Слоніма паходзіў губернатар штата Канектыкут (1955–1961) і дзяржаўны сакратар аховы здароўя і асветы пры Кенэдзі Абрам Рыбікаў[108]. Вядома, што беларускія карані мае і былы Генеральны пракурор ЗША Майкл Мукезі[109], а таксама мэр Нью-Ёрка Майкл Блумберг. У некралогу аб Файвушы Фінкелі — легендзе яўрэўскага тэатра на ідыш у ЗША — зазначаецца, што ягоная маці была з Менска[110]. Добра знаная ў прафесійных колах дзіцячая лекарка Сельма Мічэл нарадзілася ў Бабруйску, а жыхарам ваколіцаў горада Парамус у Нью-Джэрсі яна вядомая як доктарка і мецэнатка[111]. І такіх будуць тысячы...

Часам высвятленне беларускага паходжання яўрэяў у ЗША адбываецца і даволі камічна. Такі выпадак апісаны ў нашай кнізе ўспамінаў «Жыць і дзеіць»:

*У аддзеле працавала пару бібліятэкараў-хімікаў, але быў патрэбны яшчэ адзін спецыяліст — хімік-арганік з касметычным ухілам. Пасля ўсіх абвестак у газетах ды адсейвання ў аддзеле кадраў шлюць да мяне на інтэрвію чалавека, Бруса Слуцкага, які працаваў у касметычнай кампаніі «Revlon». Заходзіць да мяне ў кабінет чалавек гадоў 40–45 досыць «аляпаватага» выгляду. Я пачынаю інтэрвію: дзе вучыўся, што скончыў, дзе працаваў і так далей. Уся ягоная папярэдняя падрыхтоўка адпавядае нашым патрабаванням. Але пад канец інтэрвію я вырашыў усё ж спытацца ў яго, ці ён ведае, адкуль у яго такое прозвішча — Слуцкі? Брус, не задумваючыся, адказаў, што добра ведае і... паехаў мне тлумачыць, што ёсць такая краіна Беларусь, што там ёсць горад Слуцак, у ім некалі была развітая тэкстыльная прамысловасць, а ягоны дзед, адзін з суўласнікаў мануфактуры, некалі эміграваў у ЗША. Брус Слуцкі прачытаў мне лекцыю пра Слуцак! Бывае ж такое...*[112].

Яшчэ адзін з гэткім жа «геаграфічным» прозвішчам — Марцін Слуцкі — выступаў адным з кіраўнікоў тэлевізійных дэбатаў кандыдатаў у прэзідэнты ЗША ў 2016 годзе.

*Сам сябе Марцін Слуцкі называе беларускім габрэем. Яго бацька — са Слуцка, а маці — з Клецка. У Амерыку яны трапілі ў 1910-х гадах малымі дзецьмі. У маладосці Марцін Слуцкі быў рокерам. Граў на гітары ў гурце McKendree Spring, які выпусціў 9 дыскаў. Адночы малады Буш прызнаўся Марціну, што ў юнацтве танчыў пад ягоную музыку.*

*Апошнія 35 гадоў Слуцкі звязаны з тэлевізіяй. За сваю працу ён атрымаў 7 узнагарод Emmy, тэлевізійны аналаг «Оскара»*[113].

---

[107] The New York Times. Oct. 17, 2010.

[108] Акудовіч, Ц. Абрам Рыбікаў, амерыканскі міністр родам са Слоніму // Arche. Электронная газета. https://gazeta.arche.by/article/374.html.

[109] Беларус. Нью-Ёрк. 2007. № 539.

[110] The New York Times. 2016. Aug. 15.

[111] The Record. Hackensack. June 25, 2017.

[112] Кіпель, В. Жыць і дзеіць. С. 261.

[113] http://www.svaboda.org/a/28015016.html.



Сустракаюцца часта ў ЗША і іншыя «геаграфічныя» беларускія прозвішчы: Пружанскі, Бельскі, Пінскі, Мінскі, Бабруйскі і іншыя.




Вокладка кнігі Давіда Мельцэра «Белорусские евреи в Америке» (2014)

Яўрэі беларускага паходжання ў Амерыцы маюць свае арганізацыйныя структуры[114]. Прыкладам можа быць Беларускае зямляцтва пры Асацыяцыі ўсходнееўрапейскіх яўрэяў, заснаванае ў 1993 годзе з ініцыятывы нараджэнца Навагрудка Морыса Шустэра і ягонай жонкі Раісы. Сёння зямляцтвам кіруе Савелі Каплінскі, віцэ-прэзідэнты — Давід Мельцэр і Леанід Зубараў, выканаўчы дырэктар — Генрых Рутман. З ініцыятывы зямляцтва двойчы на год адбываюцца мемарыяльныя мітынгі: 2 сакавіка ў памяць ахвяраў «Менскай ямы» і 21 кастрычніка — у памяць пра катастрофу беларускага яўрэйства. Дзякуючы працы зямляцтва у Мемарыяльным парку Халакосту ў Брукліне ўсталяваныя памятныя камяні загінулым яўрэям Менска, Глуска, Ельска, Лагойска. Сябры зямляцтва выдаюць кнігі, прысвечаныя тэме беларускага яўрэйства. Кіраўніцтва суполкі падтрымоўвае цесныя кантакты з Беларускім зямляцтвам Ізраіля[115]. Пры зямляцтве дзейнічае клуб «Мінчанін», якім кіруе пісьменнік Леанід Зубараў. У 2006 годзе пры падтрымцы БІНіМа ён выдаў працу «Змітрок Бядуля: Беларускі яўрэй» (у беларускай, рускай і англійскай мовах). У 2014 годзе з ініцыятывы Леаніда Зубарава і пад ягонай рэдакцыяй, а таксама пры падтрымцы зямляцтва ўбачыў свет трохмоўны зборнік вершаў Уладзіміра Някляева «Беларусь».



Мемарыяльны камень у памяць ахвяраў Менскага гета ў Мемарыяльным парку Халакосту ў Брукліне

У 1993 годзе ў штаце Нью-Ёрк была зарэгістраваная арганізацыя Сусветнае згуртаванне беларускіх яўрэяў на чале з Якавам Гутманам (памёр 15.07.2020). Гэты новы імігрант з Беларусі быў частым госцем і дакладчыкам на беларускіх мерапрыемствах. Якаў Гутман асвятляў тэмы сучаснага палітычнага становішча Беларусі, а таксама супольнай гісторыі беларусаў і яўрэяў, быў ініцыятарам шмат якіх сумесных беларуска-яўрэйскіх акцый. Згуртаванне супрацоўнічае і з яўрэйскімі арганізацыямі ў самой Беларусі, у тым ліку і па пытаннях захавання яўрэйскіх могілак[116].

---

[114] Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 518.

[115] Meltser, D. Jews from Belarus in the USA. New York, 2014; Мельцер, Д. Белорусские евреи в Америке. Нью-Йорк, 2014.

[116] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 7 (102). Ліпень 2002; https://belisrael.info/?p=12253.

У 1995 годзе ў Чыкага была створана асацыяцыя «Землякі», якая аб'яднала выхадцаў з былога Савецкага Саюза. У яе кіраўніцтва ўваходзілі Аркадзь Клебан (Украіна), Іосіф Кацман (Беларусь) і іншыя. Ад 1996 года выдаецца рускамоўная газета з аднайменнай назвай. Арганізацыя складаецца з паасобных зямляцкіх груп. Беларускае зямляцтва, якое ўваходзіць у асацыяцыю «Землякі», было даволі дзейным: ладзіліся канцэрты, прыкладам, Віктара Шалкевіча, адзначаліся ўгодкі Янкі Купалы, Марка Шагала і іншыя. Сябрамі «Земякоў» з'яўляюцца народжаныя ў Беларусі Цімафей Ліякумовіч, Рыгор Лішанскі, Лілія Кантаровіч і іншыя[117].



Міхаіл Клейнер

Ад пачатку 1990-х у Чыкага таксама жыў і быў актыўным удзельнікам мясцовай яўрэйскай і беларускай грамадаў Міхаіл Клейнер (1924–2014) — паэт, спявак, кампазітар, папулярызатар ідышысцкай культуры, які паходзіў з мястэчка Парычы. Ён перакладаў на рускую мову і пісаў песні на вершы беларускіх паэтаў Янкі Купалы, Уладзіміра Дубоўкі, Міхася Чарота, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна і іншых. У 2002 годзе ў Чыкага выйшла кніга вершаў і песень Міхаіла Клейнера *«Мелодии любви»*[118].



Язэп Пучынскі

Заўважную ролю ў жыцці яўрэйскай грамады ў Чыкага ад сярэдзіны 1990-х гадоў адыгрываў і Язэп Пучынскі (1922–2007), кніжны і станковы графік, які аформіў дзясяткі кніг класікаў беларускай літаратуры і стварыў сотні партрэтаў вядомых дзеячаў нацыянальнай культуры. Ён паходзіў з Узды, жыў у Менску, але апошнія дзесяцігоддзі жыцця правёў у Чыкага, дзе ўдзельнічаў у розных мерапрыемствах, выставах, лекцыях і інш.[119].

Ёсць выпадкі беларуска-яўрэўскага супрацоўніцтва на прыватным узроўні ў ЗША. Прыкладам, у 2003 годзе яўрэйская сям'я Грынаў (*Green*) ахвяравала 2000 даляраў на выданне англа-беларускага слоўніка[120].

І на арганізацыйным узроўні ў ЗША ішло супрацоўніцтва яўрэйскіх і беларускіх арганізацый. Гэтак, у 1950-я гады ў Нью-Ёрку яўрэйскія і беларускія арганізацыі (БАЗА, БІНіМ) былі аднымі з першых у ладжанні адзначэння Дня незалежнасцяў. У БІНіМа былі добрыя адносіны з д-рам Ліхтэнам, адным з вядучых дзеячаў Антыдэфамацыйнай лігі (*The Anti-Defamation League*).

У сённяшнім часе шмат яўрэяў-кангрэсменаў падтрымоўваюць стварэнне «беларускага лобі» ў Кангрэсе ЗША, выступаюць з прамовамі ў сувязі з падзеямі ў Беларусі. Можна згадаць і тое, як 20 сакавіка 2014 года Амерыканскі яўрэйскі кангрэс (*American Jewish Congress*) супольна з арганізацыяй «Беларусы ў выгнанні» зладзіў у Вашынгтоне дыскусію «Будучыня Беларусі: між Еўропай і Расіяй.

[117] http://zemliakychicago.org/index.html.
[118] https://7days.us/mixailu-klejneru-ispolnilos-by-90; Беларус. Нью-Ёрк. 2002. № 472.
[119] https://www.svaboda.org/a/868405.html.
[120] Беларус. Нью-Ёрк. 2003. № 490.



Ці карысны ўкраінскі досвед?», у якой бралі ўдзел Андрэй Саннікаў, Алесь Міхалевіч, Валер Кавалеўскі і іншыя, а таксама Віталь Зайка, Ала Орса-Рамана і Вячка Станкевіч[121].

У ЗША працуюць і паасобныя яўрэі беларускага паходжання, што выдатна прадстаўляюць Беларусь і яе культуру. Прыкладам, музыкант і кампазітар Зміцер (Зісл) Сляповіч і ягоны музычны гурт *«Litvakus»*, ці *«Litvakus Band»*. У інтэрвію Радыё «Свабода» з нагоды выхаду ў канцы 2014 года альбома «Райсн» (Беларусь) Зісл Сляповіч сярод іншага распавёў пра асэнсаванне сваёй ідэнтычнасці:

*Калі я асэнсаваў сваю габрэйска-ідышскую ідэнтычнасць ужо ў падлеткавым узросце, то асэнсаванне беларускасці сягае каранямі значна раней — у маё самае ранняе дзяцінства, у гукі мовы, у твары людзей, у маміну працу, у імёны тых людзей, якіх усе сёння ведаюць. Нават у гукі беларускага радыё а 6-й гадзіне раніцы — гукі гімна БССР, беларуская мова, якая цякла з радыёкропкі — усё гэта ўвайшло ў мяне натуральным чынам. І потым — былі надзеі атрымання ідэнтычнасці не толькі на персанальным узроўні, а на ўзроўні краіны, якія існавалі на пачатку 1990-х — гэтыя надзеі былі звязаныя з культурай і з мовай*[122].

Жыццё і дзейнасць Зісла Сляповіча ў ЗША вызначаецца ідэяй адраджэння яўрэйскай музыкі Беларусі:



Зісл Сляповіч. 2016 г.
*Фота з сайта racyja.com*

*Калі я ў 2008 годзе прыехаў у Злучаныя Штаты, я адразу зразумеў, што я буду цікавы не тым, што я асімілююся і стану «сярэднім амерыканцам». Не, я буду цікавы тым, што змагу на даступнай амерыканцам мове расказаць пра тое, хто я ёсць — пра Беларусь, пра беларускасць, пра беларуска-габрэйскую культуру. Гэта тое, што цікавіць людзей, — пра гэта там ніхто не ведае. Калі людзі ў Амерыцы, напрыклад, кажуць, «габрэйская культура» або «клэзмэрская музыка», «ідыш», часта яны пад гэтым разумеюць зусім іншыя рэчы, у якія беларуская габрэйская культура не ўключаная. Проста так склалася гістарычна: гэта культура сакрэтная, схаваная — і беларуска-габрэйская («літвацкая»), і сама беларуская.*

*Беларуская габрэйская культура надзвычай багатая, яна вылучаецца з усіх астатніх. Чым менавіта? Напрыклад, мясцовымі жанрамі, якія гучаць «па-габрэйску», — полькі, карагоды, абэркі. Усё гэта не абавязкова змяняецца інтанацыйна, не абавязкова пачынае інакш гучаць. Вельмі часта гэта будзе, напрыклад, «полька-юрачка», нейкая тыповая рэч — але яно будзе змешчана ў габрэйскі кантэкст, будзе выконвацца габрэйскімі выканаўцамі, напрыклад, на габрэйскім вяселлі*[123].

Выдатным крокам у кірунку супрацоўніцтва з яўрэйскімі арганізацыямі і наогул яўрэйствам ёсць выданне «спецыяльнага выпуску» перыёдыка *«Belarusian Review»*, прысвечанага беларуска-яўрэйскім дачыненням[124].

[121] Беларусы ў свеце. Мінск. 2014. № 3. С. 3.
[122] http://www.svaboda.org/a/26828438.html.
[123] http://www.svaboda.org/a/26828438.html.
[124] Belarusian Review: Special Jewish Issue. 2016. — 97 p.



Былая Слонімская сінагога на Манхэтэне

У яўрэйска-беларускай амерыканскай спадчыне варта адзначыць яшчэ адзін элемент: часта сінагогі і яўрэйскія цэнтры ў ЗША маюць у сваіх назвах згадкі беларускіх гарадоў, адкуль паходзілі, відавочна, іх заснавальнікі. Існуюць Клецкае таварыства і Клецкі дом, Ашмянскае таварыства і г. д. На *172 Norfolk Str.* у Манхэтэне знаходзіцца Слонімская сінагога (*Anshe Slonim Synagogue*) — самы стары будынак яўрэйскага храма ў Нью-Ёрку. Пабудаваны каля 1849–1850 гадоў, у 1921 годзе ён трапіў у валоданне звязанай са Слонімам кангрэгацыі *(Sheveth Achim Anshe Slonim*) і займеў беларускую назву, якая захоўвалася да сярэдзіны 1970-х гадоў, пакуль існавала адпаведная грамада. Ад 1986 года тут знаходзіцца Цэнтр мастацтваў Ангела Арэнзанца (*Angel Orensanz Foundation Center for the Arts*).

Несумненна, беларускае яўрэйства — частка «беларусаў у Амерыцы», і яно дапаможа нам адрадзіць і замацаваць беларускую спадчыну ў ЗША.

## Могілкі

З тэмай рэлігійнага жыцця беларусаў цесна звязаная і тэма могілак. Як нельга дакладна акрэсліць месцы рассялення суродзічаў у ЗША, гэтак жа складана вызначыць, дзе іх апошні спачын. Агулам можна казаць, што хавалі там, дзе яны жылі, — на могілках найбуйнейшых прамысловых цэнтраў ці ў паасобных мясцовасцях сельскагаспадарчага Захаду. Праўда, вылучаліся месцы з дзейнымі «рускімі» ці «польскімі» цэрквамі і касцёламі, на могілках якіх можна спаткаць багата беларускіх пахаванняў. Таксама шмат беларусаў можна спаткаць на некаторых агульнагарадскіх могілках.

Хіба адным з першых закрануў тэму беларускіх пахаванняў у Амерыцы ў сваім артыкуле Міхась Міцкевіч, які адзначаў: *«Як гэта ні дзіўна, але баржджэйшае ўяўленне аб узгляднай колькасці эміграцыі ды долі першых беларускіх эмігрантаў мы можам здабыць ад нямых сведкаў — надмагільных камянёў»*[125]. Далей у тэксце згадваецца адзін з нью-ёркскіх могільнікаў:

*Ёсць магілкі ў Нью-Ёркаўскай дзялянцы «Maspeth», дзе беларусаў пахавана ці не найбольш, супраць розных хрысціянскіх народаў. Пакладіся яны цэлымі калоніямі, па колькі дзясяткаў, а то і сотняў, невялікімі групамі і паасобнымі магіламі па ўсім могільніку, плошчаю каля 5–60 дзесяцінаў. Часам кідаюцца ў вочы арыгінальныя надпісы на камянёх [...]. Знаменны напіс над аднэй магілай «Пётр Белянскій Белорус» сведчыць, што чалавек паміраючы лепшаю памяткаю па сабе ўважаў адзначыць сваю нацыянальнасьць. Мусіць горкая праўда, што найлепшы розум прыходзіць у часе скону*[126].

Як і ранейшыя імігранты, беларусы пасля Другой сусветнай вайны ў Амерыцы будавалі свае цэрквы, і зразумела, што менавіта з імі звязана ўзнікненне ўласных беларускіх могільнікаў. У ЗША дзве царквы: Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку (БАПЦ) і Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (юрысдыкцыя Сусветнага патрыярхату) — абедзве ў штаце Нью-Джэрсі, маюць свае могілкі. У Кліўлендзе беларусаў хаваюць на асобным «беларускім участку» гарадскіх могілак.



Помнік «Тым, што змагаліся, каб жыла Беларусь» на могілках беларускай парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансвіку

На згаданых могільніках спачываюць па колькі сотняў чалавек, магілы дагледжаныя. У цэнтры могільніка парафіі Жыровіцкай Божай Маці з Гайленд-Парку (БАПЦ), што знаходзіцца ў Іст-Брансвіку, размешчаны помнік *«Тым, хто змагаўся, каб жыла Беларусь»*, пад якім насыпаная жменька зямлі з Курапатаў. Некалькі разоў на год — на Радаўніцу, Дзяды, угодкі Слуцкага паўстання — збіраецца на могілках ладна беларусаў.

Да куплі зямлі пад могілкі ў 1950-я гады дайшло няпроста: была вялікая апазіцыя ў парафіі БАПЦ супраць куплі, але дзякуючы такту, цярплівасці і пераканаўчасці в. пам. парафіяніна Пётры





Памятны крыж на могілках парафіі св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы



Помнік на ўспамін беларусаў парафіі Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ, усталяваны ў цэнтры беларускай секцыі Riverside Cemetery ў Кліўлендзе

[125] Беларус. Нью-Ёрк. 1956. № 55.
[126] Беларус. Нью-Ёрк. 1956. № 55.



Кажуры пляц у Іст-Брансвіку быў набыты. У Саўт-Рыверы на сходзе, дзе абмяркоўвалася аналагічнае пытанне, рашэнне купляць зямлю пад могілкі было больш спакойнае.

Таксама на энтузіястычнай ноце ў Саўт-Рыверы было пастаноўлена на пляцы зямлі каля царквы паставіць нацыянальны помнік у гонар змагароў за вольную Беларусь, што і было зроблена ў 1974 годзе. Цягам гадоў гэты помнік прыцягваў увагу наведнікаў, турыстаў. Аднак з часам ён пачаў разбурацца. І сёння на прыкладзе Саўт-Рывера можна ўбачыць, як старыя і новыя іміграны могуць супрацоўнічаць на падставе нацыянальных пачуццяў. У 2019 годзе група новых імігрантаў вырашыла адрамантаваць і ўпарадкаваць той помнік. Вось як згадваецца пра гэтую падзею ў газеце «Беларус»:



Удзельнікі талакі ў Саўт-Рыверы. Ліпень 2019 г.
*Здымкі Аляксандра Хомчанкі*



*У пятніцу-суботу, 19–20 ліпеня, у Беларуска-Амерыканскім цэнтры ў Саўт-Рыверы, побач з беларускай царквою Св. Эўфрасінні Полацкай, пры жудаснай спякоце, што стаяла ў гэтыя дні, прайшла беларуская талака. Мэтаю сяброўскае акцыі было адрамантаваць і ўпарадкаваць помнік Беларускім Змагарам, які быў усталяваны мясцовай беларускай грамадою з паваеннае эміграцыі ў 1974 годзе, а цяпер прыйшоў у заняпад.*

*Каб захаваць гэтую важную для беларускае эміграцыі памятку сабраліся разам прадстаўнікі новае эміграцыі: сябры БАЗА з Філадэльфіі — Вадзім Васільеў, Дзяніс Дземчанка, Сяргей Мядзведзеў, Зміцер Грык, а таксама з Нью-Ёрку сябры БАЗА і парафіяне Сабору Св. Кірылы Тураўскага БАПЦ — Аляксандр Хомчанка, Валеры Мінец, маладыя беларусы Андрусь і Віктар, госць з Ліды Лявон Анацка. У акцыі браў удзел і сп. Зянон Пазняк, які не мог застацца ўбаку ад гэтае важнае справы. Усе яны аб'ядналі свае сілы з мясцовымі актывістамі, папярэдне ўзгаднілі парадак працы з Царкоўным камітэтам і цесна супрацоўнічалі са сп. Юркам Наумчыкам, шматгадовым актыўным беларускім дзеячам у Саўт-Рыверы, а таксама з Валянцінам і Таццянаю Дзямешчыкамі.*

*Помнік быў паспяхова абноўлены, упарадкаваная тэрыторыя вакол яго [...]. Цяпер Беларускі цэнтр у Саўт-Рыверы будзе выглядаць больш аптымістычна і тым самым будзе больш годна прадстаўляць і замацоўваць беларускую прысутнасць у гэтым адным са значных беларускіх асяродкаў у Амерыцы*[127].

Беларускія помнікі і могілкі ў ЗША і іншых краінах свету выдатна апісаныя, задакументаваныя ў працах Лявона Юрэвіча і Наталлі Гардзіенкі[128].

Помнікі і могілкі адыгрываюць значную прапагандысцкую ролю: часта друкуюцца артыкулы, даведнікі, агляды этнічных могілак і сярод сотняў яўрэйскіх, нямецкіх, польскіх і іншых могілак рэгіструюцца таксама беларускія.

127 Беларус. Нью-Ёрк. 2019. № 636.

128 Юрэвіч, Л. Нашы могілкі // Запісы БІНіМ. № 27. Нью-Ёрк — Менск, 2004. С. 224–240; Юрэвіч, Л. Сьмерць у люстэрку беларускай літаратуры // Запісы БІНіМ. № 26. Нью-Ёрк — Менск, 2003. С. 37–73; Гардзіенка, Н. Могілкі як частка мэмарыяльнай культуры беларускай эміграцыі // Запісы БІНіМ. № 38. Нью-Ёрк — Менск, 2016. С. 8–70.

## ДЗЕЙНАСЦЬ БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

Хоць стваралiся беларускiя арганiзацыі з розных прычын ды мелi неаднолькавую накiраванасць, дзейнасць большасцi з іх можа быць агульна класiфiкаваная па наступных галiнах: сацыяльна-дапаможная, палiтычная, культурная, адукацыйная, рэлiгiйная.

Галоўным імкненнем усiх без выключэння арганiзатараў было як мага болей зрабiць для Беларусi. Уся праца ажыццяўлялася на грамадскiх пачатках, часта найбольшыя актывiсты самi аплочвалi дзейнасць арганiзацый, хоць i былi намаганнi перакласцi фiнансавыя выдаткi на плечы ўдзельнiкаў.

### Праца ў галіне сацыяльнае дапамогі

Нямала дапамагалi Беларусi старыя iмiгранты. Яны высылалi пачкi з харчаваннем, куплялi трактары, збiралi грошы г. д. Іхная матэрыяльная дапамога была значная i вельмi канкрэтная. На жаль, цяжка сказаць, колькi iхнае дапамогi прыпадала Беларусi, а колькi iшло на патрэбы камунiстычнае сiстэмы, бо ж уся дапамога перадавалася праз кантраляваныя камунiстамi каналы, найчасцей праз савецкую амбасаду ў Вашынгтоне[1].

У мiжваенным заходнебеларускiм друку можна спаткаць зацемкi такога кшталту:

*У лiстападзе ў Чыкага беларусы рыхтуюць у ваднэй з вялiкiх заляў спецыяльны канцэрт-баль на сiрот Заходняй Беларусi. На гэтым канцэрце першы раз выступiць знаходзячыся ў Амерыцы артыста-беларус, певец Маскоўскай Оперы Сяргей Бароўскi (брат прадстаўнiка Беларускай Народнай Рэсублiкi ў Берлiне — Андрэя Бароўскага), якi будзе пяяць беларускiя песнi i рамансы па-беларуску. Апрача таго жонка С. Бароўскага — Вера Бароўская, вядомая балетнiца, будзе танцаваць у беларускай нацыянальнай вопратцы беларускiя танцы, а ўкраiнскi хор ужо практыкуецца пяяць «Ад веку мы спалi». Для арганiзацыi свайго хору бракуе тутака нотаў, — асаблiва тутэйшыя беларусы нiяк ня могуць дапрасiцца прыслаць з Бацькаўшчыны апошнiя выданнi «Беларускага Лiрнiка» i навейшыя ноты для аднаго голасу*[2].

Новая беларуская iмiграцыя пачала дапамагаць суродзiчам не толькi на Бацькаўшчыне, але i iншым беларусам-эмiгрантам, якiя ў вынiку Другое сусветнае вайны апынулiся i засталiся ў Заходняй Еўропе. Рабiлi гэта як паасобныя iмiгранты, гэтак i цэлыя арганiзацыi, як, прыкладам, Злучаны беларуска-амерыканскi дапамаговы камiтэт або створаная з iнiцыятывы БАЗА Беларуска-амерыканская дапамога. Цяпер дапамога iшла выключна праз амерыканскую пошту ды кiравалася суродзiчам у Заходняй Нямеччыне, Швецыi, Данii, краiнах Паўднёвае Амерыкi ды на Бацькаўшчыну[3].

[1] Гутаркi аўтара з сведкамi ў Чыкага, Дэтройце i Клiўлендзе.

[2] Змаганьне. Вiльня, 23 лiстапада 1923.



Безумоўна, дапамагалi i суродзiчам у Злучаных Штатах, асаблiва на самым пачатку ўладкавання ў новай краiне: у пошуках працы, жытла i г. д. У 1962 годзе пры БАЗА у Нью-Ёрку быў нават створаны Цэнтр аховы здароўя: раз на тыдзень доктар Уладзiмiр Набагез ладзiў медагляды i адмысловыя кансультацыi для суродзiчаў. З гэтай iнiцыятывы скарысталi багата сябраў мясцовых структураў БАЗА[4].


Доктар Уладзімір Набагез

Ад 1970-х гадоў амерыканскiя беларусы пачалi дапамагаць i Беласточчыне. Актывiстамi дапамаговых арганiзацый былi Часлаў Ханяўка, Антон Шукелойць, а. Мiкалай Лапiцкi, Сяргей Карнiловiч, Вера Бартуль, Марыя Верабей, Вера Заморская, Юля Андрусышын, д-р Ала Орса-Рамана, Клаўдзiя Каляда ды шмат iншых[5].

Пачынаючы ад 1986 года энергiя амерыканскiх беларусаў была скiраваная на арганiзацыю дапамогi ахвярам Чарнобыля. Створана каля дзясятка дапамаговых камiтэтаў. У беларуска-амерыканскiм грамадстве арганiзацыйнымi лiдарамi сталiся царкоўныя структуры (найперш БАПЦ), а таксама грамадскiя арганiзацыi Беларуска-Амерыканскае задзiночанне i Беларускi кангрэсавы камiтэт Амерыкi. Былi арганiзаваны траспарты з медыкаментамi i медыцынскiм абсталяваннем у Беларусь i iншая дапамога. Чарнобыльская акцыя ахапiла ўсе беларускiя асяродкi ў ЗША. Кiравалi справай i арганiзоўвалi канкрэтныя дзеяннi ўладыка Мiкалай (Мацукевiч), Алекс Сiльвановiч, Васiль Русак, Кастусь Калоша, Сяргей Карнiловiч, айцец Мiхась Страпко, Жорж Наумчык, Мiхась Сенька, Вiталь Цярпiцкi, Аляксандр Мiцкевiч, Барыс Данiлюк, Сымон Жамойда, Яраслаў Калюцiк, Аўген Ярашэвiч i iншыя. У Клiўлендзе дзякуючы працы фонду «Этнiчная спадчына Амерыкi» Ірэны Каляда-Смiрноў з часам была наладжаная не толькi дапамога медыкаментамi, але i паездкi беларускiх дзяцей з чарнобыльскай зоны ў летнiкi ў еўрапейскiя краiны. Партнёрам у Беларусi ў гэтай справе выступiла «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»[6].

Дзе-нiдзе беларусы ўваходзiлi ў кантакты з амерыканскiмi фiрмамi (найперш фармацэўтычнымi) ды прасiлi iх аб падтрымцы. Гэтак, прыкладам, Мiкола Прускi з Грэнд-Рэпiдса, штат Мiчыган, быў дараднiкам кампанii «Апджон», якая аказвала вялiкую дапамогу Беларусi. Вынiкам сталi дзясяткi транспартаў з медыкаментамi ў Беларусь. За сваю актыўную працу па дапамозе ахвярам Чарнобыльскай катастрофы Мiкола Прускi атрымаў у 1998 годзе адмысловы лiст-падзяку ад былога Генеральнага сакратара ААН Бутраса Бутраса Галi[7]. Варта згадаць таксама, што сябры арганiзацыi моладзi д-р Аня Бартуль, д-р Юрка i Ларэйн Кiпелi, д-р Нiна Запруднiк, Вера Запруднiк, д-р Ала Орса-Рамана заручылiся таксама

[3] Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзi. 1950. № 2; Беларускае Слова. Саўт-Рывэр. 1957. № 37, 39.

[4] Беларус. Нью-Ёрк. 1962. № 75.

[5] Архiвы БАЗА ў Беларускай фундацыi Крачэўскага (Нью-Ёрк); Архiвы БККА пад царквой Св. Еўфрасiннi Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсi).

[6] Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 513.

[7] Grand Rapids Press. September 6, 1998.




Мікола Прускі з грузам гуманітарнай дапамогі, прыгатаваным для адпраўкі ў Беларусь. 1990-я гг.

падтрымкаю розных фармацэўтычных кампаній у дапамозе шпіталям радыяцыйнае зоны.

У справе дапамогі ахвярам катастрофы бралі ўдзел і беларуска-амерыканскія лекары: Мітрафан Смаршчок, Юрка Кіпель і Віктар Козак. Асабліва шмат у гэтай галіне зрабіла арганізацыя *Belarus-American Child Health Foundation*, створаная пры Пітсбургскім універсітэце. У яе кіраўніцтва ўваходзіла амерыканская беларуска д-р Марыя Дзямковіч, а з афіцыйнага беларускага боку тагачасны рэктар Менскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута Аляксей Кубарка. У юрыдычных пытаннях арганізацыі часам дапамагала Алеся Кіпель. Пры гэтай структуры аб'ядналіся дзясяткі лекараў-амерыканцаў, якія ўдзельнічалі ў дапамозе «чарнобыльскім» дзецям[8].

Да дапамогі ахвярам Чарнобыля актыўна далучыліся і ўласна амерыканцы — прыяцелі Беларусі. Прыкладам, адным з першых лекараў, які паехаў дапамагаць у Беларусь, быў д-р Роберт Гейл (*Robert Geile*), яўрэй з беларускімі каранямі, дзед якога паходзіў з Магілёўшчыны. І такіх зацікаўленых ахвярных амерыканцаў былі тысячы. Можна згадаць і арганізаваныя ініцыятывы, як сярэднюю школу ў мястэчку Рамапо, штат Нью-Джэрсі, якая займалася дапамогай, або арганізацыю *City Hope International*, створаную пастарам Полам Морам і ягонай жонкай Шэран[9], што зладзілі дзясяткі паездак з гуманітарнай дапамогай у Беларусь, ды іншыя[10].

[8] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. Сакавік 1995, студзень 1996, сьнежань 2001.

[9] Беларус. Нью-Ёрк. 1991. № 382.

[10] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); International Aid News. Springlake (MI). 1991. № 2. P. 3— 4; Папка Ramapo High School у Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



У спісе фондаў, установаў і іншых дабрачынных структураў, створаных у ЗША для працы ў галіне пераадолення вынікаў Чарнобыльскай аварыі, колькі дзясяткаў арганізацый з розных рэгіёнаў краіны ад Сіэтла да Нью-Ёрка, ад Чыкага да Нью-Мексіка[11].




Значок Чарнобыльскага фонду школы ў мястэчку Рамапо (Нью-Джэрсі)

Амерыканскія беларусы ўдзельнічалі ў колькіх канферэнцыях у Вашынгтоне і Кліўлендзе, дзе абмяркоўвалася справа дзяржаўнае дапамогі ахвярам Чарнобыля. БАЗА разаслала некалькі тысячаў лістоў прыватным грамадзянам, кампаніям, установам, акрэсліваючы праблему і просячы аб дапамозе[12]. Значную ролю ў пашырэнні інфармацыі пра Беларусь у сувязі з Чарнобыльскай трагедыяй і актывізацыі дапамогі адыграла перасоўная выстава «Чарнобыль вачыма беларускіх дзяцей», якая ўпершыню была прадстаўленая ў зале *Rotunda (Russel Building)* у Сенаце ЗША 29 кастрычніка 1996 года, а праз чатыры дні яна пераехала ў іншы сенацкі будынак *Cannon Biulding*. Адкрывалі вашынгтонскія выставы кангрэсмен Крыстафер Сміт і сенатар Біл Брэдлі. А далей малюнкі дзяцей выстаўляліся ў Чыкага (штат Ілінойс), Мэдысане (штат Вісконсін), Нью-Арлеане (штат Луізіяна) ды яшчэ некалькіх вялікіх амерыканскіх гарадах. Арганізатарам выступіла Фундацыя «Радзівіл — Ёдка — Наркевіч» — амерыканскія і еўрапейскія нашчадкі беларускай шляхты і магнатаў[13].

Неабходна асабліва падкрэсліць гэткі факт: у дапамозе ахвярам Чарнобыля амерыканскія беларусы аб'ядналіся як ніколі дагэтуль: дапамагалі ўсе — нашчадкі старых імігрантаў, новыя і навейшыя імігранты, усе імкнуліся і імкнуцца прыдбаць як мага болей сяброў для дапамогі, і ўсе групы і паасобныя грамадзяне выдатна супрацоўнічаюць з адпаведнымі коламі на Бацькаўшчыне і з беларускім прадстаўніцтвам пры ААН. Няма сумневу: трагедыя Чарнобыля адгукнулася ў сэрцах ўсяе нацыі, небяспека пагражае ўсяму беларускаму народу. Абавязак кожнага беларуса — памагчы захаванню нацыі. Дапамога пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы працягваецца.

Па-за дапамогай ахвярам Чарнобылю амерыканскія беларусы працягваюць прыватным чынам дапамагаць суродзічам у Беларусі: аплачваць навучанне ў вышэйшай школе, купляць неабходныя медыкаменты ці абсталяванне, набываць камп'ютарную тэхніку для тых ці іншых установаў ці арганізацый і г. д., таксама дапамагаюць цэрквам у розных рэгіёнах Беларусі. Сярод пастаянных ахвярадаўцаў сёння варта згадаць Надзею і Янку Запруднікаў, Лізу Літаровіч і інш.

## Палітычная дзейнасць

Першыя праявы беларускае палітычнае дзейнасці ў Амерыцы, як ужо было зазначана, датуюцца 1919—1920 гадамі, калі беларусы пачалі браць удзел у мітынгах з дамаганнямі непадзельнасці беларускае тэрыторыі. У 1920-я гады, калі ў Нью-Ёрку, Чыкага ды іншых мясцовасцях узніклі беларускія арганізацыі, палітыч-

[11] https://www.belarusguide.com/chernobyl1/chlist.htm.

[12] Гутарка аўтара з Міколам Прускім, 1989; Беларус. Нью-Ёрк. 1990. № 367.

[13] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 12 (36). Сьнежань 1996.

ная дзейнасць беларусаў набыла сістэматычны характар: беларусы ўдзельнічалі ў шмат якіх міжнацыянальных палітычных імпрэзах, высылалі мемарыялы ў Дзяржаўны дэпартамент, стваралі палітычныя камітэты для ўдзелу ў выбарчых кампаніях, выказваліся пра палітычнае становішча на Бацькаўшчыне[14].

Палітычная актыўнасць беларускіх арганізацый да прыезду ў Амерыку паваеннае хвалі іміграцыі мела спарадычны характар. Гэтая ж новая хваля зрабіла палітычную дзейнасць нарожным каменем свайго існавання.

Дэвіз палітычнае дзейнасці беларускае паваеннае іміграцыі вызначаецца гэтак: поўная бескампраміснасць да камуністычных рэжымаў; ажыццяўленне ідэі незалежнае беларускае дзяржавы — Беларускае Народнае Рэспублікі, створанае Актам 25 сакавіка 1918 года; аднаўленне беларускае спадчыны ў Амерыцы.

Нельга сказаць, каб амерыканскім беларусам лёгка было правяшчаць свае погляды. Калі апазіцыя да камуністычнае сістэмы ўспрымалася шырокім амерыканскім грамадствам без тлумачэнняў з поўным разуменнем і падтрымкай, дык ідэі незалежнасці Беларусі і адраджэння беларускае спадчыны ў Амерыцы даводзілася метадычна і цярпліва тлумачыць навакольнаму грамадству з прычыны ягонае поўнае неабазнанасці з гісторыяй і нацыянальнымі праблемамі Усходняе Еўропы.

Рабілася гэта самым шырокім фронтам — праз арганізацыйнае жыццё беларускае грамады, праз амерыканскі друк, праз міжнацыянальныя арганізацыі, праз амерыканскія ўстановы, а асноўнае — стараннямі шматлікае грамады адданых беларускіх патрыётаў, якія ў сваім штодзённым жыцці і працы сталіся сапраўднымі амбасадарамі беларускасці. Гэтыя былыя перамешчаныя асобы знайшлі асяроддзе і ўмовы для працы на карысць Бацькаўшчыне. Штодзень, штотыдзень, штогод яны гаварылі сваім суседзям, калегам на працы, вучням у школе, пісалі лісты ў газеты пра Беларусь, пра беларускую дзяржаўнасць, пра беларускі народ. Яны прадстаўлялі ў Амерыцы Беларусь ды заяўлялі свае правы на беларускую нітку ў амерыканскім этнічным дыване — на беларускую спадчыну ў Амерыцы. Рабілася гэта з гонарам і вялікім маральным задавальненнем[15].


Executive Department
Columbus

Абвяшчэнне Беларускага дня губернатарам штата Агаё. 1959 г.

Першым крокам у палітычнай дзейнасці гэтае новае хвалі былі арганізаваныя адзначэнні Дня Незалежнасці — 25 сакавіка. Трэба сцвердзіць, што гэты дзень, інакш яго называлі ў ЗША Беларускі дзень, адзначаецца здаўна, рэгулярна і шырока. Аб 25 Сакавіка і Беларускім кангрэсе пачалі пісаць амерыканскія левыя, пераважна рускамоўныя газеты ад красавіка 1918 года, аб чым згадвалася вышэй. Адзначалі гэты

14 Chicago Public Library. Microfilm Archives. Varonka’s File.

15 Папкі «Персаналіі», «Амерыканскі друк» у Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



дзень беларускія зямляцтвы ў Чыкага, Нью-Ёрку, Бостане і іншых гарадах ад пачатку 1920-х. Масавае вялікае святкаванне Дня 25 Сакавіка пачалося ў Чыкага ў 1924 годзе, а Беларуская нацыянальная рада таксама ў Чыкага рэгулярна адзначала Беларускі дзень. Як прыклад арганізацыі аднаго з святкаванняў — 10-годдзя БНР — зацытуем з рэпартажу:

*Банкет Беларускага Нацыянальнага Саюзу ў Конгрэс-Отэлі 25 сакавіка 1928 году, зроблены ў 10-я ўгодкі абвешчання незалежнасці Беларусі, сабраў у Флёрэнтын-Рум, аднэй з найпрыгажэйшых саляў у даун-тауну (цэнтру места) да 200 чалавек гасцей. Тут былі беларусы, літоўцы, украінцы, латвійцы, карпатарусы, ірляндцы, немцы і шмат інш., аднак пераважалі першыя тры нацыянальнасці, што прыдало беларускаму святу яшчэ і характар дэманстрацыі дружбы гістарычна і палітычна найбліжэйшых адзінаднаму народаў на ўсходзе Еўропы.*

*Ад палавіны 7-ай гадз. увечары госці ўжо пачалі збірацца ў прыгожых салёнах Конгрэс-Отэлю, але толькі ў канцы 7-ае гадзіны адчыніліся дзверы Флёрэнтынскае Салі, упусціўшы туды публіку пад гукі шуманаўскага маршу*[16]. *За сталамі размясціліся па арганізацыях і нацыянальнасцях. Кожнаму госьцю беларускі-гаспадыні падносілі жывыя белыя рожы...*

*Прэсу прадстаўлялі рэпрэзэнтаты: «Чыкаго Трыбюн», «Чыкаго Дэйлі Джорнал», «Чыкаго Дэйлі Ньюс», «Науенос», «Рассвет» і інш. [...]*[17].

Традыцыю працягнулі і прадстаўнікі наступных хваляў іміграцыі. Гэты дзень прыраўноўваўся ў значэнні да Дня Незалежнасці Злучаных Штатаў 4 ліпеня. Святкаванні адбываліся ва ўсіх беларускіх асяродках, на іх запрашаліся прадстаўнікі мясцовых уладаў, пра іх давалася інфармацыя ў друку. Губернатары і мэры абвяшчалі дзень 25 сакавіка Беларускім днём таго або іншага штата, горада, а кангрэсмены і сенатары адзначалі гэты дзень у амерыканскім Кангрэсе[18]. Звычайна праца Кангрэса і Сената 25 сакавіка пачыналася малітваю беларускага святара.

*Усемагутны Божа і Ойча ўсіх народаў! Мы молім Цябе, памажы нам, каб Беларускі Народ і ўсе іншыя паняволеныя народы здабылі Тваю багаслаўлёную свабоду і гэтым занялі належны ім пасад сярод вольных народаў свету пад Тваім агульным кіравецтвам, пад Тваею апекаю, у Тваёй любові і справядлівасці.*

*Мы з пакораю схіляем галовы свае перад Табою, Божа і Спасе наш, і з Бераю молім Цябе: прымі гэтую малітву нашую, багаславі Злучаныя Штаты Амерыкі і нашую Маці-Беларусь*[19].

Малітвы ў Кангрэсе ЗША чыталі ўладыка Васіль (Тамашчык), уладыка Ізяслаў (Бруцкі), а. Мікалай Лапіцкі, а. Францішак Чарняўскі, а. Уладзімір Тарасевіч, а. Міхаіл Урбановіч, а. Святаслаў Коўш, а. Васіль Кендыш, а. Расціслаў Войтанка.

Дзень Незалежнасці Беларусі адзначаўся ў дзясятках гарадоў: Нью-Ёрку, Хэмпстэдзе, Олбані, Трэнтане, Саўт-Рыверы, Ньюарку, Нью-Брансвіку, Пасейку,

16 Маецца на ўвазе адзін з маршаў нямецкага кампазітара Роберта Шумана (1810–1856).

17 Запісы БІНіМ. № 40. Нью-Ёрк — Менск, 2018. С. 268.

18 Традыцыя абвяшчэння 25 сакавіка Беларускім днём у амерыканскіх штатах жывая і дзейная. За апошняе дзесяцігоддзе 25 Сакавіка адзначалася ў дзясятках штатаў і гарадоў, а ў некаторых штатах, як Нью-Джэрсі, Нью-Ёрк, Агаё, гэта адбываецца амаль аўтаматычна. З дасведчання старшыні Этнічнай рады штата Нью-Джэрсі вядома, што Дзень 25 Сакавіка быў на працоўным календары губернатара і падаваўся на праклямацыю без ведама і захадаў беларускіх арганізацый.

19 Голас Царквы. Бруклін. 1962. № 15. С. 3–4.



Абвяшчэнне Беларускага дня ў Рочэстэры (штат Нью-Ёрк). Сядзяць: Расціслаў Гарошка, мэр горада, Наталля Арсеннева, стаіць злева Наталля Кушаль (унучка Арсенневай). 1967 г.

Джэрсі-Сіці, Чыкага, Спрынгфілдзе, Пеорыі, Гайленд-Парку, Кліўлендзе, Каламбусе, Толідо, Дэтройце, Лос-Анджэлесе, Філадэльфіі, Уілмінгтане, Балтымары ды ў сталіцы — Вашынгтоне. Губернатары і сенатары штатаў Алабама, Арканзас, Арызона, Дэлавэр, Нью-Ёрк, Нью-Джэрсі, Мэйн, Агаё, Канектыкут, Ілінойс, Мэрыленд, Мічыган, Індыяна, Каларада, Флорыда, Каліфорнія, Пенсільванія, Канзас, Небраска, Вісконсін, Мінесота абвяшчалі 25 сакавіка Беларускім днём свайго штата і адзначалі яго як важны дзень і для Амерыкі.

За дзесяцігоддзі ў Кангрэсе і Сенаце больш за сотню кангрэсменаў і сенатараў выступалі з прамовамі ў падтрымку беларускіх палітычных ідэалаў, сярод іх вядомыя на Беларусі Уільям Фулбрайт, Уолтэр Мондэйл, Роберт Доўл, Фрэнк Лаўшэ, Раман Грушка, Уільям Проксмэер, Рычард Ніксан, Чарльз Пэрсі, Біл Брэдлі, Джэйкаб Джавіц, Джозэф Кларк, Джо Ліберман, Фрэнк Лаўтэнберг, Эдуард Дырксан ды дзясяткі іншых амерыканскіх палітыкаў[20].

На святочных спатканнях з нагоды 25 сакавіка ў Кангрэсе часам здараліся цікавыя адкрыцці. Прыкладам, у 1980 годзе пасля малітвы за Беларусь прадстаўніца ад Нью-Джэрсі ў Кангрэсе Мілісэнт Фэнуік, прымаючы ў падарунак ад БАЗА вышываны беларускім арнаментам альбом, сказала: *«Нават, каб я не ведала, ад якой нацыянальнасці гэты прэзент, я адразу, зірнуўшы на арнамент, здагадалася б, што гэта беларускі альбом, бо маю ў сябе іншы вельмі дарагі падарунак — картку, якую жанчына ў менскай турме вышыла беларускім арнаментам і пераслала мне»*[21].

[20] Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Архівы БККА пад царквой Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі).

[21] Беларус. Нью-Ёрк. 1980. № 278.





У Сенаце ЗША: Кастусь Мерляк, Ліндан Джонсан, уладыка Васіль, невядомыя. 1962 г.

Прэзідэнты ЗША таксама традыцыйна вітаюць амерыканскіх беларусаў з Днём Незалежнасці Беларусі ды высылаюць беларускай грамадзе свае віншавальныя праклaмацыі. Праклaмацыі друкуюцца ў перакладзе ў газеце «Беларус»[22].

Дзень 25 Сакавіка дзякуючы друку ды дзейнасці амерыканскіх беларусаў увайшоў у шмат якія амерыканскія палітычныя календары, у падручнікі, а ў мясцінах, дзе пражываюць беларусы, пра гэты дзень гаворыцца ў школах[23].

Бясспрэчна, 25 Сакавіка становіцца і часткаю палітычнае гісторыі амерыканскае нацыі, пра што найлепей сведчыць дакументацыя Дня Незалежнасці Беларусі ў друкаваным органе амерыканскага Кангрэса — «Кангрэсавых Запісах» (*«Congressional Record»*).

«Кангрэсавыя Запісы» выходзяць у сённяшнім фармаце ад 1873 года ды рэгіструюць штодзённую працу амерыканскага Кангрэса. Запісы рассылаюцца палітыкам у Вашынгтоне, а таксама па цэлай краіне ў акадэмічныя і даследчыя бібліятэкі і дзяржаўныя ўстановы, карыстаецца «Кангрэсавымі Запісамі» і амерыканскі друк. У выданні, апрача заканадаўчае хронікі, друкуюцца выступленні сенатараў і кангрэсменаў з іхнымі поглядамі на тую або іншую праблему. Паваенная беларуская іміграцыя праз амерыканскіх кангрэсменаў і сенатараў увяла

[22] Беларус. Нью-Ёрк. 1987. № 334; 1988. № 346; 1989. № 358.

[23] National Republican Heritage Groups Council. Washington (DC). Calendar. 1979; 1983; 1990; Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

на старонкі «Кангрэсавых Запісаў» і праблемы Беларусі як паняволенай Расіяю калоніі. Шмат матэрыялаў у «Кангрэсавых Запісах» было прысвечана Другой сусветнай вайне ў Беларусі, беларускай дзейнасці падчас вайны, адзначаўся таксама Другі Усебеларускі кангрэс 1944 года. Сотні прамоваў амерыканскіх заканадаўцаў былі прысвечаныя палітычнаму становішчу, гісторыі, эканоміцы, культуры Беларусі, пры гэтым была адзначаная дзейнасць Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Кастуся Каліноўскага, братоў Луцкевічаў, Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка, Сцяпана Некрашэвіча ды іншых славутых беларусаў. Шмат увагі адводзілася праблемам навязання дыпламатычных дачыненняў з Беларуссю, рэпрэзентацыі Беларусі ў свеце, парушэння правоў чалавека, пераследу рэлігіі і г. д.


Congressional Record

Fiftieth Anniversary of the Declaration of Independence of Byelorussia

«Кангрэсавыя Запісы» з публікацыяй, прысвечанай 50-й гадавіне абвяшчэння незалежнасці Беларусі. 1968 г.

Асабліва шмат змешчана ў «Кангрэсавых Запісах» дакументаў з дамаганнямі беларускіх арганізацый аб уводзе беларускае мовы ў праграмы «Голасу Амерыкі»[24].

Апрача таго, беларускія арганізацыі друкавалі ў «Кангрэсавых Запісах» рэзалюцыі з'ездаў, пастановы Сустрэчаў беларусаў Паўночнае Амерыкі, лісты БАЗА ды іншых арганізацый з выказваннем поглядаў на розныя беларускія праблемы.

Выступалі ў Кангрэсе і прадстаўнікі беларускіх арганізацый: д-р Вітаўт Тумаш, Кастусь Мерляк, д-р Мікола Шчорс, Яўхім Кіпель, Аляксандр Русак, Антон Шукелойць, а. Мікалай Лапіцкі ды іншыя. Часам беларускія арганізацыі выдавалі зборнікі прамоваў у Кангрэсе, прысвечаных Беларусі[25].

Кантакт з Вашынгтонам не абмяжоўваўся толькі адзначэннем 25 Сакавіка. Прэзідэнты ЗША дасылалі беларусам прывітанні з нагоды іншых беларускіх урачыстасцяў — памятных датаў, фестываляў, сустрэчаў. Звычайна на беларускіх урачыстасцях прысутнічалі амерыканскія сенатары і кангрэсмены.

Пісалася пра Беларусь не толькі ў «Кангрэсавых Запісах». Агульны амерыканскі дзяржаўны друк таксама сачыў за падзеямі на Беларусі, вывучаў яе палітычнае і эканамічнае становішча ды дакументаваў інфармацыю пра Беларусь. Гэтак ужо 19 лютага 1918 года ў бюлетэні агляду друку Дзяржаўнага дэпартамента з'явілася такая зацемка:

[24] Byelorussian-American Information Service. Case Study. Upperco (MD), 1982–1984.

[25] For Freedom and Independence of Byelorussia. New York (NY), 1960; Byelorussia's Independence Day. New York (NY), 1958; The 40th Anniversary of the Proclamation of the Byelorussian Democratic Republic. New York (NY), 1958. Беларускую тэматыку ў «Кангрэсавых Запісах» грунтоўна даследавала Таццяна Кулакевіч. Гл.: Kulakevich, T. Belarus in the Congressional Record 1873–1994 // The Journal of Belarusian Studies. London. Vol. 8 (2). 2017. P. 31–45.



*Троцкі лічыць, што Усебеларускі кангрэс у Менску (18–31 снежня 1917 года. — В. К.) складаўся найбольш з прадстаўнікоў сялянскае палітычнае арыентацыі, якія хацелі выступаць ад імя ўсяе Беларусі. Гэта выклікала супраціў жаўнераў ды прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў: рускіх, беларусаў, украінцаў*[26].


Кангрэсмен Чарльз Керстэн выступае на беларускім святкаванні 25 Сакавіка. 1955 г.

Аднак, бадай, найбольш матэрыялаў пра Беларусь было надрукавана Злучаным даследчым прэсавым агенцтвам, якое дзеіла пры Кангрэсе і займалася перакладамі і публікацыяй тысячаў артыкулаў, аглядаў, зацемак з савецкіх газет і часопісаў для патрэбаў амерыканскага Кангрэса ды іншых даследчых установаў. Сабраны там і вельмі шырокі ды разнастайны матэрыял пра Беларусь[27].

Адзначэнне ўгодкаў Слуцкага паўстання 1920 года таксама давала падставу беларускім арганізацыям завастрыць увагу грамадскасці на беларускім пытанні ды падмацаваць погляд, што беларускі народ не пагадзіўся цалкам з бальшавіцкім пераваротам і змагаўся за ідэалы Беларускае Народнае Рэспублікі. Адзначэнні ўгодкаў Слуцкага паўстання дакументаваліся ў «Кангрэсавых Запісах», у некаторых штатах адзін з лістападаўскіх дзён адзначаўся як Дзень беларускае жалобы[28].



Беларусы на Парадзе лаяльнасці ў Нью-Ёрку. 1963 г.

Шырока адзначаліся амерыканскімі беларусамі і дзень трагічнае смерці Янкі Купалы 28 чэрвеня 1942 года, і паўстанне Кастуся Каліноўскага, і сталінскія пагромы ў Беларусі ў 1930-я гады.

[26] U.S. Dept. of State, Periodical Report. № 9. 1918. Feb. 19. P. 5.

[27] U.S. Library of Congress. JPRS Collections.

[28] Архівы беларускіх ветэранаў штата Нью-Джэрсі, Гайленд-Парк (Нью-Джэрсі).

Пашыраліся беларускія ідэі і праз міжнацыянальныя імпрэзы, гэткія як, прыкладам, Дзень лаяльнасці ў Нью-Ёрку, які адзначаецца ад 1940-х гадоў і падчас якога беларусы заўсёды ішлі вялікаю калонаю з транспарантамі[29].

Беларускія арганізацыі таксама ладзілі дэманстрацыі супраць прыезду ў ЗША Кірылы Мазурава, Міхаіла Гарбачова, Аляксандра Лукашэнкі[30] і г. д. Цягам апошніх дзесяцігоддзяў беларусы арганізавалі дзясяткі дэманстрацый, каб звярнуць увагу грамадскасці на праблемы Беларусі — Чарнобыльскую катастрофу, парушэнні правоў чалавека і г. д.[31].

Новай, праўда, не надта частай з’явай сталі спатканні з прэзідэнтамі ЗША. Так, адбыліся сустрэчы з прэзідэнтамі Джонам Кенэдзі, Лінданам Джонсанам, Рычардам Ніксанам, Джэралдам Фордам, Джымі Картэрам, Рональдам Рэйганам, Джорджамі Бушамі — старэйшым і малодшым. У прыязных дачыненнях з прэзідэнтам Білам Клінтанам быў беларус Расціслаў Завістовіч. У часе згаданых спатканняў прадстаўлялася інфармацыя пра Беларусь і беларусаў, агучваліся інтарэсы беларускай грамады[32].



У ПРЭЗЫДЭНТА ЗША ДЖЫМІ КАРТЭРА

18 красавіка сёлета ў Белым Доме адбылося спатканьне Прэзыдэнта Джымі Картэра з прадстаўнікамі нацыянальных групаў Амэрыкі. Мэтай спатканьня было інфармаваньне Прэзыдэнта ЗША аб палітычных настроях нацыянальных групаў. Тады-ж былі перададзеныя Прэзыдэнту Джымі Картэру Д-рам В. Кіпелям дакумэнты аб перасьледаваньні іншадумцаў у БССР.

Паведамленне ў газеце «Беларус» пра спатканне прэзідэнта Джымі Картэра з Вітаўтам Кіпелем

Часам важныя палітычныя дасягненні былі заслугаю не арганізацый, а паасобных амерыканскіх беларусаў. Так, прыкладам, Аляксандр Стагановіч — малодшы, былы вязень Дахау, а пазней перамешчаная асоба, перамог Дзяржаўны дэпартамент у справе зазначэння нацыянальнасці ў амерыканскім замежным пашпарце. Рэч у тым, што ад даўных часоў Дзяржэдэпартамент традыцыйна ўпісваў амерыканскім беларусам у графе «ранейшае грамадзянства» замежных пашпартоў «СССР» або «Польшча», ігнаруючы пры гэтым беларускую нацыянальнасць. Падобная сітуацыя назіралася і пры атрыманні так званых першых папераў — дэкларацый аб жаданні прыняць амерыканскае грамадзянства. Што да папераў, дык беларусы неўзабаве дамагліся, каб там запісвалася беларуская нацыянальнасць. З пашпартамі, аднак, справа не рухалася. Тады Аляксандр Стагановіч напісаў у Дзяржаўны дэпартамент ліст-грозьбу, што калі яму не ўпішуць у пашпарт былое беларускае грамадзянства, то ён, маючы хваробу лёгкіх і будучы ветэранам, у знак пратэсту пойдзе пешкі на Вашынгтон. І гэта падзейнічала. Ад таго часу ў замежным пашпарце на дамаганні беларусаў пачалі пісаць: *«былое грамадзянства — беларускае»*[33].

[29] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1956. № 303.

[30] Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 513.

[31] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).

[32] Больш падрабязна пра кантакты з амерыканскімі прэзідэнтамі гл.: https://news.tut.by/culture/545111.html



Дзейнасць паасобных беларусаў асабліва дапамагала там, дзе яны займалі кіраўнічыя становішчы і маглі сваёю ўладаю спрыяць беларускай справе.

Шмат дапамагала пашырэнню беларускіх незалежніцкіх ідэй супрацоўніцтва беларусаў у міжнародных арганізацыях, гэткіх як суполкі рэспубліканскіх і дэмакратычных клубаў, Рух нацыянальнасцяў або «Паняволеныя народы».

У 1959 годзе ў часе прэзідэнцтва Дуайта Айзенхаўэра амерыканскі Кангрэс прыняў рэзалюцыю аб паняволеных народах, сэнс якое палягаў у тым, што Амерыка ведае, памятае і не пагаджаецца з тым, што камунізм паняволіў колішнія незалежныя дзяржавы армянскага, беларускага ды іншых народаў. Рэзалюцыя сталася законам, паводле якога прэзідэнт ЗША мусіць штогод абвяшчаць трэці тыдзень ліпеня Тыднем паняволеных народаў. Адзначаецца гэты тыдзень і мясцовымі ўладамі, што ўжо сталася амерыканскаю традыцыяю, асабліва ў мясцовасцях, дзе жыло шмат прадстаўнікоў паняволеных народаў, у тым ліку і бе-




Беларускі пікет каля будынка ААН. Нью-Ёрк, пачатак 1970-х гг.

[33] Беларус. Нью-Ёрк. 1955. № 53; 1974. № 208; Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).

ларускага. У гэтыя дні ў цэрквах і касцёлах чытаюцца адмысловыя малітвы, адбываюцца парады і выставы[34].

Да палітычнае дзейнасці беларускае іміграцыі трэба, бясспрэчна, залічыць штодвухгадовыя Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амерыкі. Традыцыя іх пачалася ад 1952 года, калі беларусы з ЗША і Канады сабраліся 4–6 ліпеня на сяброўскай сустрэчы каля Ніягарскага вадаспада, каб абмеркаваць свае планы, пагаварыць пра нядаўнае мінулае, адзначыць Купалле ды дзесяцігоддзе трагічнае смерці Янкі Купалы. Сустрэча была арганізаваная з ініцыятывы моладзі пры падтрымцы большых грамадскіх арганізацый ЗША і Канады — Беларуска-амерыканскага задзіночання і Згуртавання беларусаў Канады.

Ад таго часу сустрэчы сталіся традыцыйнымі і праводзяцца раз на два гады — на ўік-энд перад Днём працы, першым панядзелкам верасня. Кожная сустрэча мае свой палітычны або культурна-гістарычны дэвіз або тэму.



Удзельнікі Сустрэчы беларусаў на Ніягары. 1952 г.

<u>1-я сустрэча</u>: Ніягарскі вадаспад, 4–6 ліпеня 1952 года. Тэма: Янка Купала і ягонае значэнне ў нацыянальным беларускім руху. Адзначэнне Купалля. Галоўны прамоўца: д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

<u>2-я сустрэча</u>: Таронта, 1–3 верасня 1956 года. Тэма: Дэмаскаванне савецкай кампаніі сярод эмігрантаў пад дэвізам вяртання на Радзіму. Галоўныя прамоўцы: прэз. Мікола Абрамчык і д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

<u>3-я сустрэча</u>: Нью-Ёрк, 31 жніўня — 1 верасня 1958 года. Тэма: Савецкая Беларусь — фікцыйная дзяржава ў Савецкай Маскоўскай імперыі. Галоўны дакладчык: праф. Антон Адамовіч. Сустрэча таксама прысвячалася інаўгурацыі кафедральнага сабора БАПЦ імя св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (Нью-Ёрк).

[34] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Архівы БККА пад царквой Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі).



<u>4-я сустрэча</u>: Кліўленд (Агаё), 3–5 верасня 1960 года. Тэма: БАЗА, дзейнасць беларусаў разам. Галоўны прамоўца — кангрэсмен Майкл Фэйган, а таксама выступалі ўладыка БАПЦ Васіль (Тамашчык), д-р Станіслаў Станкевіч, сп. Кастусь Мерляк. Сустрэча была спалучана з асвячэннем новазбудаванай царквы Св. Маці Божай Жыровіцкай у Кліўлендзе.

<u>5-я сустрэча</u>: Таронта, 1–3 верасня 1962 года. Тэмы: Каланіяльнае становішча БССР у СССР; Янка Купала — ідэолаг нацыянальнага вызвалення Беларусі. Выступалі: д-р Станіслаў Станкевіч, спсп. Кастусь Акула і Вацлаў Касцюкевіч.

<u>6-я сустрэча</u>: Нью-Брансвік (Нью-Джэрсі), 5–7 верасня 1964 года. Адзначалася падзея-тэма: Дваццаць год у Вольным свеце — прысвечана выезду большасці цяперашніх амерыканцаў-беларусаў з Бацькаўшчыны летам 1944 года. Прамоўцамі былі мэр горада Нью-Брансвіка Чэстэр Паўлюс, д-р Барыс Рагуля, спсп. Барыс Данілюк і Алесь Грыцук.

<u>7-я сустрэча</u>: Кліўленд, 3–5 верасня 1966 года. Тэма: 60 год руху за адраджэнне беларускай незалежнасці. Прамоўцы: кангрэсмен Майкл Фэйган, д-р Станіслаў Станкевіч, д-р Ян Станкевіч і д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

<u>8-я сустрэча</u>: Дэтройт, 31 жніўня — 1 верасня 1968 года. Сустрэча прысвечаная 50-м угодкам абвяшчэння незалежнасці БНР. У адзнаку сустрэчы і Дня Незалежнасці БНР мэр горада Дэтройта Джэром Каванаг (*Jerome P. Cavanagh*) выдаў спецыяльную пракламацыю. Прамоўцы: сп. Васіль Пляскач, праф. Антон Адамовіч, д-р Станіслаў Станкевіч і д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ
І
ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

ветліва запрашаюць Вас і знаёмых прыняць удзел у

7-АЙ
СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ
ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

якая адбудзецца ў днях

3, 4 і 5 ВЕРАСЬНЯ 1966 ГОДУ
У КЛІЎЛЕНДЗЕ

ПРАГРАМА:

Субота 3-га верасьня

4-ая гадзіна папаўдні: Рэферат "Нацыянальнае усьведамленьне" прачытае Праф. Др. Янка Станкевіч у царкоўнай залі 3517 W.25 St.

9-ая гадзіна ўвечары: Танцавальная вечарына ў залі Swiss Hall 2710 Walton Ave.

Нядзеля 4-га верасьня

10-ая гадзіна раніцы: Божая Служба у БАПЦарквe 3517 West 25th Street

2-ая гадзіна папаўдні: Афіцыйны Урачысты Банкет у Sheraton Cleveland Hotel (North Grand Ballroom) Public Square з удзелам кангрэсмэнаў і іншых амэрыканскіх прадстаўнікоў. Галоўным прамоўцам будзе кангр. Michael A. Feighan, якому Аддзел БАЗА у Кліўланд уручыць падарунак.

4.30 папаўдні: Урачыстая Акадэмія прысьвечаная 60-ым угодкам "Нашай Нівы" [illegible] з рэфератам (пабеларуску) прамовамі прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў і іншых нацыянальнасьцяў, [illegible], а так-жа з песеннай і танцавальнай мастацкай часткай. Уступ вольны.

9-ая гадзіна ўвечары: Танцавальная вечарына у залі Sheraton-Cleveland Hotel.

Праграма 7-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Кліўленд, 1966 г.

9-я сустрэча: Нью-Ёрк, 5–7 верасня 1970 года. Адзначаныя дзве тэмы: Змагарная Беларусь і Узгадаванне маладога пакалення на эміграцыі, усведамленне беларускасці. Прамоўцы: праф. Антон Адамовіч, д-р Станіслаў Станкевіч, д-р Ян Запруднік, д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч, д-р Вітаўт Тумаш, спсп. Барыс Данілюк і Алесь Грыцук.


Антон Адамовіч

10-я сустрэча: Таронта, 2–4 верасня 1972 года. Тэмы: 450 год друку на беларускай зямлі (Вільня, 1522); Рост беларускага руху ад Скарыны да Купалы — Коласа і цяпер. Прамоўцы: д-р Вітаўт Тумаш, д-р Раіса Жук-Грышкевіч, праф. Антон Адамовіч, сп. Янка Сурвілла.

11-я сустрэча: Кліўленд («Полацак»), 31 жніўня — 1 верасня 1974 года. Тэмы: 25 год Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА) і Пачаткі беларускай эміграцыі ў ЗША. Прамоўцы: сп. Янка Раковіч, д-р Вітаўт Кіпель, д-р Расціслаў Гарошка, д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч, д-р Ян Запруднік, д-р Станіслаў Станкевіч, сп. Кастусь Акула.

12-я сустрэча: Гайленд-Парк — Нью-Брансвік, 4–6 верасня 1976 года. Тэма: Адзначэнне 200-х угодкаў ЗША. Прамоўцы: д-р Вітаўт Кіпель, д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч, сп. Юрка Курыла, сп-ня Эва Пашкевіч, сп. Юрка Азарка.

13-я сустрэча: Таронта, 2–4 верасня 1978 года. Тэма: 60-я ўгодкі БНР і змаганне беларусаў за чалавечыя і нацыянальныя правы. Прамоўцы: д-р Вітаўт Кіпель, спсп. Аляксандр Гідоні, Васіль Русак, Антон Шукелойць.



Вокладка праграмы 13-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Таронта, 1978 г.

14-я сустрэча: Кліўленд-Стронгсвіль, 30 жніўня — 1 верасня 1980 года. Сустрэча была спалучаная з канферэнцыяй БІНіМа. Тэмы: 30-я ўгодкі арганізаванага беларускага жыцця ў Кліўлендзе; 450-я ўгодкі Статута ВКЛ; Беларусы пратэстуюць супраць пагвалчэння чалавечых, рэлігійных і нацыянальных правоў у БССР. Прамоўцы: сенатар Говард Метцэнмбаум, праф. Карл Бануты — загадчык кафедры эканомікі Кліўлендскага штатнага ўніверсітэта, д-р Станіслаў Станкевіч, д-р Вітаўт Кіпель. На канферэнцыі, арганізаванай БІНіМам сумесна з Кліўлендскім універсітэтам, з дакладамі выступалі: д-р Вітаўт Тумаш, д-р Тэрэза Альт, д-р Ян Запруднік, д-р Карл фон Лёвэ, праф. Томас Бэрд, сп-ня Зора Кіпель, сп. Міхась Белямук, сп-ня Алеся Кіпель, сп. Барыс Данілюк, сп-ня Галіна Русак, сп. Васіль Пляскач.

15-я сустрэча: Гайленд-Парк — Нью-Брансвік, 4–6 верасня 1982 года. Тэма: 100-гадовы юбілей Янкі Купалы і Якуба Коласа. Прамоўцы: праф. Антон Адамовіч, праф. Томас Бэрд, праф. Джым Дынглі, айцец Аляксандр Надсан, сп-ня Вера Рамук, д-р Вітаўт Кіпель, д-р Ян Запруднік, сп. Васіль Мельяновіч. Былі атрыманыя прывітанні ад прэзідэнта Рональда Рэйгана, губернатара штата Нью-Джэрсі Тома Кейна.



16-я сустрэча: Стронгсвіль — Кліўленд, 1–3 верасня 1984 года. Тэма: Аналіз праблемаў і гісторыя пасялення беларусаў у ЗША. Даклады адбываліся ў памяшканнях Кліўлендскага штатнага ўніверсітэта. Прамоўцы: д-р Вітаўт Кіпель, д-р Ян Запруднік, сп. Васіль Мельяновіч, д-р Карл Бануты, д-р Віктар Сянкевіч, сп. Міхась Наўмовіч, сп-ня Зора Кіпель, спсп. Уладзімір Бортнік, Міхась Лужынскі, Янка Міхалюк, Антон Шукелойць, Янка Раковіч. Прывітала сустрэчу кангрэсменка Мэры Роз Оўкер, а мэр горада Кліўленда праз свайго прадстаўніка Вацлава Гывнара ўручыў д-ру Вітаўту Кіпелю грамату, робячы яго ганаровым грамадзянінам горада. Прывітаў сустрэчу таксама прэзідэнт Рональд Рэйган. Змест дакладаў выдрукаваны ў «Запісах БІНіМ» (1992. № 20).

17-я сустрэча: Стронгсвіль — Кліўленд, 30 жніўня — 1 верасня 1986 года. Тэмы: 100 гадоў статуі Свабоды і 80-я ўгодкі газеты «Наша Ніва». Прамоўцы: д-р Раіса Жук-Грышкевіч, д-р Вітаўт Кіпель, сп-ня Зора Кіпель. Пісьмовыя прывітанні даслалі сп-ня Вера Рыч і д-р Ян Запруднік, а таксама прэзідэнт Рональд Рэйган і сп. Лі Аякок — старшыня Камісіі аднаўлення статуі Свабоды. БІНіМ і БАЗА на аднаўленне статуі Свабоды ахвяравалі суму ў 5000 даляраў.

18-я сустрэча: Таронта, 3–5 верасня 1988 года. Адзначалася 1000-годдзе хрысціянства на Беларусі — асноўная тэма. Дадатковыя тэмы: 400-годдзе Статута ВКЛ 1588 года і 150-я ўгодкі нараджэння Кастуся Каліноўскага. Даклады чыталіся ў залах Таронтаўскага ўніверсітэта. Прамоўцы: д-р Раіса Жук-Грышкевіч, айцец Аляксандр Надсон, д-р Ян Запруднік, сп-ня Юліяна Грыцук-Пякарская, сп-ня Алеся Кіпель, сп. Антон Шукелойць, уладыка БАПЦ Мікалай (Мацукевіч), сп-ня Уршуля Шульжыцкая. Прысутнічаў і вітаў сустрэчу прадстаўнік Канадскай этнічнай рады сп. Анджэла Дэльфіна. Віталі таксама беларусы з Беласточчыны, Аўстраліі, Бельгіі, Заходняй Нямеччыны, Францыі. Выступаў з дакладам сп. Сакрат Яновіч. Падзея першай важнасці, якая адбылася ў часе сустрэчы, — высвячэнне Памятнага крыжа ў Прошчы пакутнікаў у Мідлендзе (правінцыя Антарыё, Канада).


THE WHITE HOUSE

WASHINGTON

August 15, 1986

It gives me great pleasure to extend warm greetings to all those gathered for the 17th Biennial Convention of Byelorussians of North America.

This summer America celebrated its Centennial Year of Liberty, commemorating the dedication of the Statue of Liberty, that proud symbol of freedom and hope for millions throughout the world. Byelorussians are among the many groups of immigrants who, having experienced Soviet oppression, have a special appreciation of Lady Liberty. You can take pride in the important role you play in furthering the traditions of the Byelorussian people and in making America a culturally richer and more vibrant land in which to live.

May the ancient faith of your fathers give you strength, courage, and hope as you seek to advance the cause of freedom and self-determination for your beloved homeland.

God bless you.

Ronald Reagan

Прывітанне прэзідэнта Рональда Рэйгана ўдзельнікам 17-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Кліўленд, 1986 г.

19-я сустрэча: Стронгсвіль — Кліўленд, 1–3 верасня 1990 года. Прысвечаная адкрыццю новазбудаванай грамадскай залы ў селішчы «Полацак». Упершыню




Значок 19-ай Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Кліўленд, 1990 г.

была запрошаная дэлегацыя з БССР. Ганаровымі гасцямі на ўрачыстасці былі прадстаўнік БССР у ААН, амбасадар Генадзь Бураўкін і сп-ня Юлія Бураўкіна. З БССР прысутнічалі: д-р Юры Хадыка, д-р Генадзь Грушавы, сп-ні Марыя Міцкевіч і Галіна Прыма, сп. Сяржук Сокалаў-Воюш і інш. Былі таксама беларускія госці з Польшчы, Францыі, Вялікабрытаніі. Бельгіі, Заходняй Нямеччыны, Канады, удзельнічалі дзясяткі журналістаў і тэлебачанне. Выступалі з прамовамі кангрэсменка Мэры Роз Оўкер, д-р Язэп Сажыч — старшыня Рады БНР, спсп. Янка Міхалюк, Мікола Ганько, Сяргей Панізнік, д-р Ян Запруднік. Прывітанні былі атрыманыя ад Прэзідэнта Джорджа Буша.

20-я сустрэча: Гайленд-Парк — Нью-Брансвік, 5—7 верасня 1992 года. Тэма: Беларусь на шляху да незалежнасці, адзначэнне 75-х угодкаў Першага Усебеларускага кангрэса. Галоўныя прамоўцы: д-р Вітаўт Кіпель, сп-ня Валянціна Трыгубовіч. Паводле арганізатараў (БАЗА) гэтая сустрэча была найбольшая па колькасці ўдзельнікаў і праграмы. Замежныя прадстаўнікі былі з Беларусі, Літвы, Латвіі, Расіі, Беласточчыны, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Францыі, Нямеччыны. Былі арганізаваныя некалькі панэляў, а ўдзельнікамі былі міністр замежных спраў Беларусі сп. Пётра Краўчанка, сп. Валянцін Голубеў — прадстаўнік дэмакратычнай апазіцыі ў парламенце Беларусі, д-р Ян Запруднік, амбасадар Генадзь Бураўкін і сп-ня Юлія Бураўкіна, сп. Сяргей Мартынаў — прадстаўнік амбасадара Беларусі ў Вашынгтоне, сп. Уладзімір Сакалоўскі — генеральны консул Рэспублікі Беларусь, д-р Язэп Сажыч — старшыня Рады БНР, спсп. Антон Шукелойць, Мікола Ганько, Вячка Станкевіч — кіраўнік беларускай службы радыё «Свабода». У часе сустрэчы адбылося таксама спатканне былых гімназістаў Гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне, на якім сп. Ян Максімюк быў запрошаны стварыць кнігу пра гэтую навучальную ўстанову. Даклады пра гімназію зрабілі д-р Ала Орса-Рамана, д-р Вітаўт Кіпель, сп-ні Зора Кіпель і Тамара Аўдзей.

21-я сустрэча: Таронта, 3—5 верасня 1994 года. Тэма: За незалежную і дэмакратычную Беларусь. Галоўныя даклады: «Будучая палітычная дзейнасць беларускай дыяспары» д-ра Вітаўта Кіпеля і «Палітычная сітуацыя ў Беларусі» д-ра Яна Запрудніка. Сустрэча была вельмі людная. З Беларусі былі: сп. Радзім Гарэцкі — віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі, сп-ня Ганна Сурмач — выканаўчы дырэктар Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», сп. Анатоль Кляшчук — фатограф газеты «Звязда», сп. Аўген Лецка — былы кіраўнік Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Былі таксама госці з Францыі, Вялікабрытаніі, Польшчы, Нямеччыны. Вяла сустрэчу сп-ня Алеся Кіпель.

22-я сустрэча: Кліўленд, 31 жніўня — 2 верасня 1996 года. Асноўныя тэмы: Абарона дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі і 45 гадоў беларускага арганізаванага пасялення ў Кліўлендзе. Прамоўцы — д-р Вітаўт Кіпель, д-р Ян Запруднік, д-р Барыс Рагуля, спсп. Зянон Пазняк, Станіслаў Шушкевіч, былы амбасадар ЗША ў Беларусі сп. Дэвід Суорц.

23-я сустрэча: Нью-Брансвік, 5—7 верасня 1998 года. Тэма: Беларусь — БНР і дэмакратыя XX стагоддзя. Даклады і змест падаваліся ў англійскай і беларускай






Удзельнікі 22-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Кліўленд, 1996 г.

мовах. Выступалі сп. Дэвід Суорц, сп-ня Івонка Сурвілла, сп. Зянон Пазняк, кангрэсмен Фрэнк Пэлок.

24-я сустрэча: Стронгсвіль — Кліўленд, 1—3 верасня 2000 года. Тэма: Прагрэс у дапільнаванні людскіх правоў, дэмакратыя і незалежнасць Беларусі. Вядучы сустрэчы Павел Васілеўскі. Прывітанне даслаў кандыдат у прэзідэнты Джордж Буш — малодшы. Віталі сустрэчу сенатар, губернатар штата Агаё Джордж Вайновіч, мэр Кліўленда Роберт Тафт, мэр Стронгсвіля Майкл Уайт і інш. Беларускія дакладчыкі — сп-ні Івонка Сурвілла і Надзея Дробіна, д-р Янка Запруднік, д-р Язэп Сажыч, спсп. Хведар Нюнька, Анатоль Белы, Вячка Станкевіч, Сямён Шарэцкі, Занон Пазняк, Сяргей Навумчык, Алесь Марачкін.

25-я сустрэча: Нью-Брансвік, 31 жніўня — 2 верасня 2002 года. Тэма: Роля беларускай эміграцыі ў дэмакратызацыі Беларусі і захаванні незалежнасці. Сустрэча прысвечана 50-годдзю Сустрэчаў беларусаў Паўночнай Амерыкі. Наладжаныя тры круглыя сталы: «Аналіз сучаснай палітычнай сітуацыі ў Беларусі і перспектывы дэмакратызацыі», «Удзел беларусаў Паўночнай Амерыкі ў змаганні за дэмакратычную і незалежную Беларусь» і «Справа пераемнасці пакаленняў па-за межамі Беларусі і захаванне культурнай і гістарычнай спадчыны».

26-я сустрэча: Таронта, 4—6 верасня 2004 года. Тэма: Праблемы захавання мовы, культурных набыткаў і гістарычных каштоўнасцяў Беларусі. Вядучая сустрэчы — сп-ня Надзея Дробіна. Дакладчыкі: д-р Зіна Гімпелевіч, д-р Пётра Мурзёнак, сп-ня Вольга Іпатава, д-р Вітаўт Кіпель, д-р Янка Запруднік.

27-я сустрэча: Нью-Брансвік, 2—4 верасня 2006 года. Тэма: У абарону дэмакратыі ў Беларусі. Дакладчыкі: сп-ня Ірына Красоўская, д-р Вітаўт Кіпель, сп-ня Івонка Сурвілла, Джордж Крол — былы амбасадар ЗША ў Беларусі, сп. Зянон

Пазняк. Вядучыя: спсп. Віталь Зайка, Юрка Азарка. Вітаў сустрэчу губернатар штата Джон Корзайн.

28-я Сустрэча: Стронгсвіль — Кліўленд, 30—31 жніўня 2008 года. Тэма: Год беларускай дзяржаўнасці. Былі ўдзельнікі з 10 штатаў ЗША і 4 правінцый Канады. Дакладчыкі: сп-ня Івонка Сурвілла, спсп. Вячка Станкевіч, Зянон Пазняк, Віталь Зайка, Ілля Куніцкі, Давід Суорц, сп-ні Алена Макоўская і Валянціна Трыгубовіч.

29-я сустрэча: Саўт-Рывер, 4—5 верасня 2010 года. Тэма: Роля беларускай дыяспары: мінулае і цяпер. Прамоўцы: сп-ня Івонка Сурвілла — старшыня Рады БНР, д-р Янка Запруднік, д-р Вітаўт Кіпель, сп-ня Ганна Сурмач, сп. Зміцер Эльяшэвіч і інш. На другі дзень адбывалася літаратурная сесія, на якой выступалі сп-ня Вольга Іпатава, сп. Сяргей Шупа, д-р Зіна Гімпелевіч.




Удзельнікі 30-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Таронта, 2012 г.

30-я сустрэча: Таронта, 1—3 верасня 2012 года. Тэмы: Рынак працы; Захаванне і падтрымка беларускай культуры на эміграцыі; Сям’я і эміграцыя. Тэмы разглядаліся на адмысловых круглых сталах. Выступалі сп-ня Івонка Сурвілла, д-р Зіна Гімпелевіч, сп. Зянон Пазняк, сп. Вячка Станкевіч, д-р Пётра Мурзёнак. Вітаў сустрэчу прэм’ер-міністр правінцыі Антарыё Далтан МакГінты. Прысутнічаў таксама прадстаўнік ад беларусаў Лас-Вегаса музыка Хведар Паўлавец, які агучыў прывітанне ад сусветна вядомага гімнаста Віталя Шчэрбы. У межах мерапрыемстваў сустрэчы адбылося паломніцтва да беларускіх помнікаў у Святыні пакутнікаў у Мідлендзе.

31-я сустрэча: Нью-Ёрк — Бруклін, Рэлігійна-грамадскі цэнтр пры саборы Св. Кірылы Тураўскага, 30—31 жніўня 2014 года. Тэма: Беларусы Паўночнай Амерыкі: выклікі часу, перспектывы развіцця. Прамоўцы: сп-ня Івонка Сурвілла, сп. Сяргей Навумчык, д-р Вітаўт Кіпель, сп-ня Валянціна Шаўчэнка. Вядучы — Андрэй Асадчы.

32-я сустрэча: Атава, 3—5 верасня 2016 года. Тэма: Дыяспара: нацыянальная свядомасць і развіццё грамадзянскай супольнасці і культуры. З дакладамі выступілі сп-ня Алена Макоўская, праф. Зіна Гімпелевіч, сп. Вячаслаў Бортнік, сп-ня Ірына Варабей, д-р Пётра Мурзёнак, сп. Вячка Станкевіч, сп-ня Ганна Сурмач, праф. Паўліна Сурвілла, сп-ня Галіна Туміловіч.

33-я сустрэча: Нью-Ёрк — Бруклін, Рэлігійна-грамадскі цэнтр пры саборы Св. Кірылы Тураўскага, 1—2 верасня 2018 года. Тэма: Рада БНР і беларуская эміграцыя ў Паўночнай Амэрыцы — гісторыя, сучаснасць і перспектывы. Выступалі сп-ня Івонка Сурвілла, сп. Зянон Пазняк, сп-ня Ганна Сурмач, а таксама госці з Беларусі сп. Глеб Лабадзенка і д-р Наталля Гардзіенка. У канцэртнай праграме сустрэчы былі выступы сямейнага гурта Валянціны Пархоменкі-Казак, Алеся Казака і Вольгі Казак-Анлар, Таццяны Грыневіч-Матафонавай, а таксама актывісты Бруклінскага аддзела БАЗА паказалі пастаноўку «Як гэта было» пра падзеі Першага Усебеларускага кангрэса 1918 года (паводле твора Алеся Пашкевіча «Пляц волі»). Вядучая — Наталля Федарэнка, старшыня БАЗА.





Удзельнікі 33-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Нью-Ёрк, 2018 г.

Палітычная дзейнасць беларускае іміграцыі ў Амерыцы заўсёды выклікала вельмі варожую рэакцыю з савецкага боку. Часта рэакцыя пачыналася ў Маскве і тады падхоплівалася ў БССР, але ставала свае ініцыятывы і ў бээсэсэраўскіх кіраўнікоў. Зразумела, найбольш атак вялося супраць беларускіх арганізацый ды іхных кіраўнікоў. У сувязі з гэтым ганьбавалі не толькі беларусаў, але і амерыканцаў небеларускага паходжання. Абліваліся гразёю такія вядомыя амерыканскія дзеячы, як Роберт Вагнер і Эдвард Коч — мэры Нью-Ёрка, якія заўсёды падтрымоўвалі ідэі беларускае дзяржаўнасці. Гадамі вяліся напады на сенатараў Дырксана, Доўла ды шматлікіх іншых[35]. Звычайна амерыканскія палітыкі не адказвалі на савецкую лаянку, як не рэагавалі і беларускія актывісты на выліваныя на іх памыі. Аднак амерыканскім беларусам было вельмі непрыемна, калі часам проста непрыстойная савецкая лаянка на адрас Амерыкі і амерыканскіх беларусаў чулася не ад Прокшы, Бегуна, Стука, Бажка і падобных, а ад беларускіх пісьменнікаў. А такіх быў легіён.



Прадстаўнікі аддзела БАЗА ў Нью-Джэрсі на сустрэчы з сенатарам Фрэнкам Лаўтэнбергам: Юрка Кіпель, Віктар Тур, Фрэнк Лаўтэнберг, Юрка Азарка, Ната Русак. 1992 г.

З развалам Савецкага Саюза палітычная сітуацыя ў рэгіёне змянілася: з былых рэспублік паўсталі незалежныя дзяржавы, у тым ліку і Рэспубліка Беларусь. ЗША ў цэлым, а беларусы-амерыканцы асабліва змены віталі. Хутка ў Амерыцы з’явіліся беларускія дыпламаты, пачалі адчыняцца амбасады і консулаты. Тагачасны міністр замежных спраў Беларусі

[35] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Беларус. Нью-Ёрк. 1964. № 88; 1970. № 155.

Пётра Краўчанка быў вельмі актыўны, выявіўся добрым дыпламатам, арганізатарам, прыхільнікам разбудовы новае дэмакратычнае беларускае дзяржавы. Дыяспара поўнасцю супрацоўнічала і з Пётрам Краўчанкам, і з беларускімі дыпламатамі. Прадстаўнікі беларуска-амерыканскіх арганізацый запрашаліся на дыпламатычныя нарады, дапамагалі абсталяваннем, уладкаваннем беларускіх офісаў, будынкаў.

Асабліва памысна і цесна супрацоўнічаў з дыяспарай у ЗША Генадзь Бураўкін, прадстаўнік Беларусі ў ААН. Пра кантакты з ім багата пісалася[36], але і ён сам згадваў сустрэчы з амерыканскімі беларусамі:



Прадстаўнік Рэспублікі Беларусь у ААН Генадзь Бураўкін, старшыня БАЗА Антон Шукелойць і дырэктар Фундацыі імя П. Крэчэўскага Францішк Бартуль. Нью-Ёрк, 1993 г.

*Генадзь Мікалаевіч не раз распавядаў пра тыя чатыры гады [1990–1994]... і заўсёды з пашанай і цеплынёй пра свае сустрэчы з беларусамі Амерыкі: з Вітаўтам і Зорай Кіпелямі, Янкам Запруднікам, Наталляй Арсенневай, Масеем Сяднёвым...*[37].

Маладому пакаленню працытуем рэпартаж з старой пажоўклай газеты, як адбывалася памыснае супрацоўніцтва амерыканскіх беларусаў з новай беларускай элітай.

*Беларускае свята ў Вашынгтоне*

*Багата і цікава адзначалася ў Вашынгтоне бадай што найважнейшае для ўсіх нас свята — Дзень Незалежнасці, арганізаванае амбасадай Рэспублікі Беларусь.*

*У адрамантаваным і прыгожа аздобленым у гонар угодкаў асабняку на Нью-Гэмпшыр авеню, замежных дыпламатаў, гасцей і прысутных вітаў пасол Беларусі ў ЗША спадар Сяргей Мартынаў з жонкай і супрацоўнікамі амбасады.*

*Ушанаваць дзень Незалежнасці ў Вашынгтон прыехала дэлегацыя клііўлендскіх беларусаў на чале са старшынём мясцовага аддзелу БАЗА сп. Янка Ханенкам і Анатолем Лук'янчыкам.*

*Актыўны ўдзел у інфармацыйнай дыскусіі па праблемах і перспектывах развіцця беларускай дзяржаўнасці, рэфармавання эканомікі і ўмацавання дэмакратычных інстытутаў маладой суверэннай дзяржавы узялі сп. сп. Расэл Завістовіч, Алеся Кіпель, Юрка Азарка.*

*Цікавыя выданні ад Беларусі на англійскай мове прапанавала прысутным незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія» з Менску.*

*Асаблівай увагай у гэты святочны вечар карысталася беларуская ваенная дэлегацыя, што знаходзілася ў ЗША на традыцыйных ужо перамовах у рамках Двухбаковай камісіі*

[36] Кіпель, В. Жыць і дзеіць... С. 288.

[37] Перадусім Беларусь. Згадваючы Генадзя Бураўкіна. Гутаркі, успаміны, эсэ, дзённікі. Смаленск: Інбелкульт, 2016. С. 172.



*па вайсковым пытанням. Прычынай таму была перш за ўсё новая і вельмі прыгожая форма афіцэраў з бел-чырвона-белым сцягам на рукаве і пагоняю на кукардзе, а таксама іх высокі ўзровень адукацыі і добрая англійская мова.*

*Святкаванне ўгодкаў незалежнасці ў Вашынгтоне зацягнулася да позняга вечару...*[38].



Лявон Літаровіч і Расціслаў Завістовіч. 1994 г.

Супрацоўніцтва было сапраўды шчырае. Вось як успамінае пра той час міністр замежных спраў Пётра Краўчанка:

*Знаёмствы з эміграцыяй насілі не толькі пратакольны характар. Нашы суайчыннікі ў Злучаных Штатах садзейнічалі наладжванню кантактаў з амерыканскім істэблішментам, дапамагалі ў розных гуманітарных праграмах, збіралі сродкі для пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы... Прадстаўнікі беларускай дыяспары сталіся нашымі частымі гасцямі*[39].

Пасля прэзідэнцкіх выбараў 1994 года выявілася палітычная скіраванасць дзяржаўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь у бок Расіі. Беларуская дыяспара ў ЗША не губляла надзеі на супрацоўніцтва. Яшчэ ў 1995 годзе аўтар гэтай кнігі даваў інтэрв'ю газеце «Звязда», дзе, у прыватнасці, адзначыў:

*Мы вельмі спадзяемся на разумныя дзеянні новага парламента, які павінен кіравацца перш за ўсё беларускімі інтарэсамі, а не патрэбамі Масквы. Спадзяёмся, што нарэшце пачнецца канструктыўны аналіз эканомікі, будзе ажыццяўляцца беларуская эканамічная палітыка. А людзі зразумеюць, што вяртання да старога жыцця быць не можа. Усе цывілізаваныя краіны крочаць імкліва наперад, а Беларусь імкнецца назад.*

*Хацелася б, каб Беларусь у новым годзе стала ажыццяўляць незалежную палітыку, каб у працэсы дэмакратызацыі ўсё больш і больш уключаліся прадстаўнікі маладога пакалення...*[40].

Пасля рэферэндумаў 1995 і 1996 гадоў, згортвання працэсаў беларусізацыі і дэмакратызацыі, пераарыентацыі Беларусі ў бок Расіі, надзеі дыяспары на супрацоўніцтва, на незалежніцкую палітыку ўрада зніклі. Беларусам у замежжы стала відавочна: Беларусь трэба бараніць, узмацняць палітычную дзейнасць, дэмаскаваць расійскую экспансію. Беларускія арганізацыі ЗША, новыя палітычныя эмігранты — нядаўнія дзеячы Рэспублікі распачалі змаганне, акцыі за незалежную Беларусь, беларускасць, дэмакратыю. Да палітычнай дзейнасці беларускіх

[38] Беларус. Нью-Ёрк. 1994. № 415.

[39] Краўчанка, Пётра. Беларусь на ростанях. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2007. С. 124–125; Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 6 (30). Чэрвень 1996.

[40] Звязда. Мінск. № 264–265. 1995. 30 сн.

эмігрантаў далучыліся і сотні заходніх палітыкаў-урадоўцаў — кангрэсменаў і сенатараў. Сапраўды наладзілася вельмі цеснае супрацоўніцтва беларускіх амерыканскіх арганізацый з Кангрэсам, паасобнымі кангрэсменамі і групамі. Была запачаткаваная новая форма сувязі, гэтак званы Беларускі дзень у Кангрэсе[41]. Гэтак кангрэсмен Стывен Латэрэт выказаў думку, каб у пэўны дзень значная грамада беларусаў з розных штатаў, розных арганізацый прыходзіла ў Кангрэс і мела б канферэнцыі-размовы з рознымі кангрэсменамі, якім беларусы-амерыканцы прадстаўлялі б свае погляды, пажаданні, меркаванні. Ідэя Беларускага дня прыжылася, і ад 2003 года амаль рэгулярна ён адбываецца. Дарэчы, адмысловыя сустрэчы БАЗА і іншых беларускіх арганізацый мелі значэнне для падрыхтоўкі Акта аб дэмакратыі ў Беларусі, прынятага Кангрэсам ЗША. Выступалі ў кангрэсавых слуханнях спсп. Зянон Пазняк, Сяргей Навумчык, д-р Ян Запруднік, спня Алеся Кіпель і шматлікія прадстаўнікі беларускай апазіцыі.

Акрамя Беларускіх дзён прадстаўнікі розных беларускіх арганізацый часта ўдзельнічаюць у сустрэчах з кангрэсмэнамі, сенатарамі, прадстаўнікамі НАТА і іншых міжнародных палітычных структураў. Падамо прыклад паведамлення пра адну з такіх падзей:

*Сустрэча прадстаўнікоў дыяспараў краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы з прэзідэнтам ЗША Джорджам Бушам адбылася 24 красавіка [2008 года] у Белым Доме. Беларусь рэпрэзентавалі сябра Галоўнай Управы Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Алеся Кіпель і старшыня Згуртавання Беларускай Моладзі ў Амерыцы Мікола Цімашэнка. У сустрэчы ўзялі ўдзел прадстаўнікі дыяспараў Вугоршчыны, Арменіі, Балгарыі, Румыніі, Славакіі, Чэхіі, Эстоніі, Грузіі, Летувы, Польшчы, Украіны.*

*Сустрэча адбылася ў сталовай Белага Дому. Пасля выступу амбасадара ЗША ў НАТА адбылася сустрэча з Джорджам Бушам, якая цягнулася каля гадзіны. Прэзідэнт паказаў выдатнае веданне сітуацыі і падзеяў ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе і вітаў далучэнне да НАТА Харватыі і Албаніі.*

*Пасля прэзідэнта да прысутных звярнуўся Генеральны Сакратар НАТА генерал Ян дэ Хуп Шэфер, які вітаў новых сябраў НАТА і адзначыў вялікую ролю прэзідэнта Буша ў пашырэнні альянсу.*

*Завершылася сустрэча падпісаннем пратаколу прэзідэнтам ЗША*[42].


Удзельнікі сустрэчы прадстаўнікоў дыяспараў краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы з прэзідэнтам ЗША Джорджам Бушам — малодшым. Вашынгтон, 2008 г.

Частыя падзеі ў дзейнасці беларускіх арганізацый у Вашынгтоне — брыфінгі па розных бягучых справах, звязаных з Беларуссю. Напрыклад, 25 сакавіка 2014 года праваабаронча арганізацыя *Freedom House*, Нацыянальны фонд дэмакратыі (NED), Хельсінкская камісія

[41] Беларус. Нью-Ёрк. 2003. № 486.
[42] Беларус. Нью-Ёрк. 2008. № 550.



разам з Беларуска-амерыканскім задзіночаннем (БАЗА) і Злучаным балтыйска-амерыканскім нацыянальным камітэтам правялі палітычны брыфінг на тэму «Беларусь: Актывізацыя пазітыўных зменаў у геаграфічным цэнтры Еўропы». На брыфінгу закраналіся пытанні палітыкі ЗША і ЕС у дачыненні да Беларусі — аналізаваліся плюсы і мінусы розных падыходаў, шукалася найлепшая стратэгія для прасоўвання наперад[43].

Кожную нагоду, калі падзеі канцэнтруюць увагу на Беларусі, беларускія актывісты ў ЗША выкарыстоўваюць, каб пашыраць інфармацыю пра сённяшні стан краіны, пра неабходнасць яе дэмакратызацыі і падтрымкі гэтых працэсаў з боку сусветнай грамадскасці. Як нагода выкарыстоўваўся, напрыклад, чэмпіянат свету па хакеі, што праходзіў у Менску ў 2014 годзе. Тады Вашынгтонскі гурток БАЗА ініцыяваў кампанію «Беларусь, гуляй шчыра!», мэтаю якой было прыцягнуць увагу амерыканскай грамадскасці да сітуацыі ў Беларусі напярэдадні чэмпіянату. Намесніца старшыні гуртка БАЗА ў Вашынгтоне Алеся Кіпель адзначала, што *«падтрымліваючы справядлівыя спаборніцтвы, Беларусь павінна таксама падтрымліваць фундаментальныя правы і свабоды сваіх грамадзянаў, такія як свабода слова, асацыяцыяў, свабодныя і справядлівыя выбары»*. Актывісты кампаніі адправілі чальцам зборнай ЗША па хакеі, а таксама амерыканскім кангрэсменам лісты, у якіх распавялі пра сітуацыю ў Беларусі і папрасілі выкарыстоўваць любую магчымасць выступіць у абарону правоў чалавека.

Безумоўна, палітычная дзейнасць беларусаў у ЗША шматвектарная: праца з палітыкамі, пісанне лістоў-мемарандумаў і інш., адзначэнне розных гадавінаў. Так, адной з падзей, якой былі прысвечаныя акцыі, стаў разгон дэманстрацыі ў Менску пасля выбараў у снежні 2010 года. Акцыі адбываліся ў розныя гады ў розных гарадах ЗША: у Вашынгтоне, Нью-Ёрку, Філадэльфіі, Маямі, Бостане, Нью-Арлеане, Лос-Анджэлесе, Атланце. У 2013 годзе Дзяржддэпартамент ЗША распаўсюдзіў адмысловы прэс-рэліз, прысвечаны падзеям 19 снежня 2010 года ў Менску.

Відавочна, што да палітычных дзеянняў беларускай накіраванасці беларуска-амерыканскія арганізацыі прыцягваюць і іншыя нацыянальныя групы, салідарныя з беларусамі: рускіх, украінцаў і інш. Прыкладам, 21 кастрычніка 2012 года нью-ёркскі клуб рускіх паэтаў выступіў з заявай у абарону пераследванага ў Беларусі журналіста Андрэя Пачобута[44].

Палітычная дзейнасць беларуска-амерыканскіх арганізацый прадаўжаецца, як гаворыцца, на поўную пару, і ў ёй удзельнічаюць сотні беларусаў-амерыканцаў, народжаных у Амерыцы ці новых маладых эмігрантаў.


OFFICE OF THE GOVERNOR

Віншавальны ліст беларусам ад губернатара штата Ілінойс Джыма Эдгара з нагоды 80-годдзя БНР. 1998 г.

[43] Беларус. Нью-Ёрк. 2014. № 607.
[44] Беларус. Нью-Ёрк. 2012. № 594.

## Адукацыйная дзейнасць

Кожная грамадска-палітычная або культурная дзейнасць прадугледжвае дзве мэты: задавальненне ўнутраных патрэбаў і ўздзеянне на вонкавую грамаду. Найбольш красамоўна гэта выявілася ў адукацыйнай дзейнасці амерыканскіх беларусаў. З аднаго боку, трэба было выхоўваць маладое беларуска-амерыканскае пакаленне, прышчапляць яму беларускасць, даваць веды пра краіну бацькоў, асновы мовы. З другога ж боку, трэба было інфармаваць шырокае амерыканскае грамадства аб беларускай спадчыне ў Амерыцы, аб патрэбах беларускага вызвольнага руху і г. д. ці фактычна весці палітычна-адукацыйную працу сярод журналістаў, палітыкаў, а нярэдка і настаўнікаў.

Праца гэтая была нялёгкая. Усё пачыналася з нуля. Іншыя нацыянальнасці — славакі, украінцы, палякі і г. д. — у працы з моладдзю мелі багаты досвед, у іх былі добрыя двухмоўныя настаўніцкія кадры, падручнікі і дапаможнікі, а беларусы не мелі нават памяшкання для сходаў. Каб інфармаваць шырокае грамадства пра сваю краіну, яе гісторыю, культуру, іншыя нацыянальнасці мелі дзясяткі розных кніжак і даведнікаў у розных мовах, а беларусы не мелі нават і аднае кніжкі пра Беларусь у англійскай мове. Праўда, заўсёды спорна было з камуністычнаю прапагандаю літаратураю.



Беларуская нядзельная школка ў Кліўлендзе. 1963 г.

Пачалі іміграны са школаў[45]. Спярша зварачаліся да амерыканскіх установаў і арганізацый, прыкладам бібліятэк або аддзелаў YMCA/YWCA, прасілі ў іх памяшканне і пачыналі першыя класы. Праз год-два грамада здабывала нейкае памяшканне, найчасцей там, дзе правіліся Божыя службы, і школка перабіралася туды. Праз нейкі час знаходзілася большае памяшканне, а то і будавалася новая царква, і тады ўжо беларуская школка станавілася неаддзельнаю часткаю гэтае будовы.

[45] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).



З настаўніцкімі кадрамі на пачатку 1950-х гадоў вялікіх праблемаў не было: настаўнікаў хапала, і дзеці былі амаль беларускамоўныя (хоць і закідалі сям-там нямецкае слоўца!). Вялікаю праблемаю з першых гадоў былі падручнікі: іх не было. Савецкімі падручнікамі карыстацца было проста непрыстойна (дый іх не было), настаўнікі мусілі ўсё рыхтаваць самі, пакуль беларускія выдавецтвы хоць бы часткова не запоўнілі гэты прабел[46].

Да сярэдзіны 1950-х гадоў беларускія дапаўняльныя школы, званыя таксама суботнімі або нядзельнымі, працавалі ва ўсіх большых і меншых беларускіх асяродках: у Нью-Ёрку, Нью-Брансвіку, Кліўлендзе, Чыкага, Дэтройце, Пасейку, Лос-Анджэлесе. Выкладанне вялося ў беларускай мове, але з часам ва ўжытак пачала ўваходзіць і англійская мова, бо ўсё больш прыходзіла дзяцей англамоўных. У навучанні націск рабіўся на беларусазнаўчыя прадметы і дадатковыя праграмы — тэатральныя паказы, танцы, спевы. Дзецям давалася ініцыятыва перакладаў ды асабліва тэатральных пастановак, каб разнастаіць праграму навучання. Дзеці пераказвалі па-беларуску прачытаныя ў англамоўных школах кароткія апавяданні, рабілі цікавыя біяграфічныя замалёўкі і г. д. Актыўнасць школак і разнастайнасць навучальных праграмаў залежалі ад зацікаўлення бацькоў і ўсяе грамады. З часам школкі то занепадалі, то ўзмацняліся, аднак Закон Божы ў прыцаркоўных школках выкладаўся праз увесь час[47].

Значэнне беларускіх дапаўняльных школак для нацыянальнага ўсведамлення дзяцей складана перааццаніць. У нязмушанай форме, праз гульні і мастацкія



Выступ вучняў беларускай школкі ў Саўт-Рыверы. 1965 г.

[46] Запісы БІНіМ. № 17. Нью-Ёрк, 1983. С. 209–213.

[47] Гутаркі аўтара з Наталляй Орсай, Марыяй Кіпель, Клаўдзіяй Калядой; перапіска аўтара з Васілём Стомам, Чаславам Будзькам, Кацяй Вініцкай.

творы, праз вывучэнне мовы і традыцый выхоўвалася нацыянальная самасвядомасць моладзі. Да таго ж атрыманыя на суботніх ці нядзельных занятках веды дзеці часта транслявалі ў сваёй асноўнай школе, што дадаткова пашырала інфармацыю пра беларусаў і Беларусь у амерыканскім грамадстве. Важнай складовай часткай навучання была падрыхтоўка і ўдзел дзяцей у розных святкаваннях, ялінках. Цікава адзначыць, што, нягледзячы на тое што на працягу дзесяцігоддзяў змяняюцца настаўнікі і вучні, атмасфера навучання, методыка працы з дзецьмі захоўваюцца[48].

Дапаўняльныя школкі былі не адзіным сродкам выхавання беларускасці ў моладзі, пашырэння ведаў пра Беларусь. Арганізоўваліся таксама курсы беларусаведы, асабліва для старэйшае моладзі. У Кліўлендзе ў сярэдзіне 1950-х гадоў д-р Станіслаў Грынкевіч арганізаваў «Лекцыі спадчыны». На іх выкладалася беларуская літаратура, гісторыя, грамадазнаўства[49].

У Нью-Ёрку ў 1970-я гады арганізацыя моладзі ладзіла «Беларускія дыялогі», на якіх сталымі выкладчыкамі былі Ян Запруднік і Вітаўт Кіпель. Гэтыя курсы мелі форму пытанняў і адказаў, лектары імкнуліся выявіць, што моладзь ведае пра Беларусь, і падаць на кожную праблему беларускі пункт гледжання. Нью-ёркскія «Беларускія дыялогі» працягваліся некалькі гадоў ды ахапілі каля паўсотні розных беларусаведных тэмаў[50].



Янка Запруднік

Напрыканцы 1970-х гадоў пры Нью-Ёркскім гарадскім універсітэце з ініцыятывы Галіны Тумаш, тады студэнткі ўніверсітэта, пры падтрымцы прафесара Пятра Гоя чытаўся курс «Беларуская спадчына», лектарамі на якім былі Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік. Падобныя лекцыі чыталіся і ў штатным універсітэце Ратгерс у Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі[51].

З ініцыятывы прафесара Томаса Бэрда пры падтрымцы Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Квінсаўскім каледжы Нью-Ёркскага гарадскога ўніверсітэта ў 1971—1973 гадах чыталася серыя лекцый для моладзі пра беларускую літаратуру і культуру. Лектарамі былі прафесар Уладзімір Сядура, Масей Сяднёў, Антон Адамовіч, прафесар Томас Бэрд, д-р Вітаўт Кіпель, д-р Ян Запруднік і д-р Вітаўт Тумаш[52].

Пры Квінсаўскім каледжы была запачаткаваная серыя літаратурных лекцый «Вечары з беларускімі пісьменнікамі», найперш для студэнтаў каледжа, але таксама і для сяброў Арганізацыі беларускае моладзі. На вечарах выступалі пісьменнікі з Беларусі, а таксама даследчыкі беларусаведы. Сярод гасцей «Вечароў» былі Анатоль Вярцінскі, Іван Чыгрынаў, Алесь Барскі, Алесь Адамовіч, Вячаслаў Адамчык, Віктар Казько, Генадзь Бураўкін, Віктар Дашук, Рыгор Барадулін,

[48] Беларус. Нью-Ёрк. 2011. № 576; 2017. № 625.

[49] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).

[50] Беларускія Дыялёгі. Каталёг. 1970.

[51] Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[52] Queens College. Flushing (New York). Professor T. Bird File. Lecturer's Catalogue.



Джэймс Дынглі, а. Аляксандр Надсан, Адам Мальдзіс, Валянцін Грыцкевіч, Вера Рыч, Майкл Урбан, Масей Сяднёў, Андрэй Клёнаў, Сакрат Яновіч[53].

Выступалі з дакладамі і ладзілі літаратурныя вечары таксама сп-ні Алена Юрэвіч, Вольга Іпатава, Алена Гапава, гасцямі былі сп. Пётра Краўчанка, д-р Віктар Сянкевіч, Юрка Сенькоўскі, Андрэй Майсяёнак, Радзім Гарэцкі, Уладзімір Арлоў, сп-ні Валянціна Трыгубовіч, Лідзія Савік, Ганна Сурмач, Зіна Туронак, Васіль Якавенка, Вацлаў Багдановіч і інш.

Адукацыйныя курсы для моладзі арганізоўваў і БІНіМ. Такія курсы ладзіліся ў Саўт-Рыверы, Нью-Брансвіку, Нью-Ёрку і Кліўлендзе ў 1975—1985 гадах.

Яшчэ адзін спосаб, праз які грамадскія арганізацыі імкнуліся прышчапіць маладому пакаленню беларускасць і даць яму веды пра Беларусь, — летнія лагеры для моладзі на беларускім адпачынкавым селішчы «Белэр-Менск». У 1960—1970-я гады тут было арганізавана колькі летніх лагераў для моладзі школьнага веку, дзе да звычайных летніх адпачынкавых праграмаў — купання, паходаў, вогнішчаў — дадавалася вывучэнне беларускіх спеваў, танцаў ды гісторыі пра Беларусь. Вельмі цікавым курсам у летніх лагерах было таксама прыкладное беларускае мастацтва — вырабы з саломкі, народная вышыўка[54].

Арганізацыя беларускае моладзі ладзіла таксама экскурсійныя падарожжы, дзе побач з амерыканскім краязнаўчым матэрыялам падаваліся звесткі пра краязнаўства Беларусі, а некаторыя падарожжы ўлучалі і знаёмства з беларускаю



Лагер у «Белэр-Менску». Бацькі і дзеці. 1972 г.

[53] Queens College. Flushing (New York). Professor T. Bird File. Evenings with Byelorussian writers; A small anthology of the poetry of Ryhor Baradulin. New York: Queens College, 1984.

[54] Архівы карпарацыі «Белэр-Менск» ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк); Кіпель, В. Жыць і дзеіць. С. 344—345.

культураю, прыкладам экскурсіі ў Нью-Ёркскую публічную бібліятэку або Бібліятэку Кангрэса з агляданнем беларускіх кнігазбораў. З адукацыйнаю мэтаю ладзіліся таксама вечары, прысвечаныя абмеркаванню кніг з беларускім зместам.

Пачынаючы ад 2009 года цягам амаль дзесяцігоддзя Канзаскі цэнтр беларусазнаўства ў супрацоўніцтве з Беларускім гістарычным таварыствам ў Польшчы ладзіў летнія курсы беларусазнаўства (вялікая ўвага звяртаецца на мову) у Гайнаўцы на Беласточчыне. Як даведваемся з праграмаў курсаў, адбываліся там падарожжы і па Беларусі.

Трэба адзначыць, што не толькі бацькі і парафіі, але і шырокае грамадства дбала пра беларускае ўзгадаванне дзяцей у ЗША. Газета «Беларус» часта друкавала «дзіцячую старонку» з казкамі, малюнкамі, шарадамі, каб захапіць дзіця ў праграму беларускага выхавання.

З досведу можна сцвярджаць, што прывіць этнічнасць, у нашым выпадку беларускасць, можа, і не так цяжка ў параўнанні з выхаваннем двухмоўнасці дзіцяці. Выгадаваць дзіця двухмоўным у англамоўным асяроддзі — вельмі цяжка. Зразумела, беларускае настаўніцтва, як Валянціна Пашкевіч[55], Міхась Міцкевіч, Наталля Орса, Зіна Станкевіч, Юрка Станкевіч і іншыя, заслугоўваюць велізарнай падзякі. Аднак без родных бабак-бабцяў, як Апалонія Савёнак, Марыя Кіпель, Яніна Каханоўская, Алена Юрэвіч... іх, калі не легіён, дык вельмі шмат — не абыдзешся, каб даць-прышчапіць амерыканскім дзецям беларускасць.

Адным словам, выхаванне і адукацыя маладога беларускага пакалення ў Амерыцы былі цяглым працэсам з вялікім укладам настаўніцкай думкі, хоць і не з гэткім аддавочным вынікам.



Беларуская ялінка ў Нацыянальным музеі скаўтынгу ў Нью-Брансвіку. Каляды 1975 г.

[55] Пашкевіч, В. Навучаньне беларускай мове ў англамоўным асяродзьдзі // Запісы БІНіМ. № 17. Нью-Ёрк, 1983. С. 209–213.



Што да вонкавага аспекту адукацыйнае дзейнасці беларускае іміграцыі ў Амерыцы, дык і гэта няспынны працэс рыхтавання інфармацыйных матэрыялаў, улётак, мемарыялаў беларускага характару ў газеты, навучальныя ўстановы[56].

## Культурна-прапагандная дзейнасць

У гэтай дзялянцы амерыканскія беларусы заўсёды кіраваліся прынцыпам: ніколі не прамінуць нагоды задэманстраваць сваю прысутнасць. Дзеля гэтага ад самага моманту, калі яны ступілі на амерыканскую зямлю, беларусы-імігранты пачалі ствараць хоры, танцавальныя гурткі, рухомыя выставы і г. д.

Працэс фармавання гэткіх рэпрэзентацыйных структураў, пачаўшыся ў канцы 1940-х гадоў, працягваўся праз 1950-я гады. Хоры, танцавальныя гурткі і тэатральныя калектывы выступалі з рознымі праграмамі як для свае публікі, гэтак і для шырокае амерыканскае грамадскасці. Тэатральныя паказы з удзелам вучняў беларускіх дапаўняльных школак ладзіліся пераважна для свайго гледача. Пастаноўкі тэатральнае студыі ў Саўт-Рыверы пад кіраўніцтвам Вячаслава Селях-Качанскага ды асабліва паказы тэатральнае групы ў Дэтройце пад кіраўніцтвам Міколы Прускага разлічваліся як на беларускіх, гэтак і на небеларускіх гледачоў. У 1950-я гады на амерыканскіх сцэнах былі пастаўленыя «Пінская шляхта», «Шчаслівы муж», «Мікітаў лапаць» ды колькі іншых твораў беларускага класічнага рэпертуару.

Што да выступленняў хораў і танцавальных калектываў, дык яны былі разлічаныя на самую шырокую аўдыторыю. На пачатку 1950-х гадоў амерыканскія беларусы мелі некалькі хораў і танцавальных групаў у Нью-Ёрку — Нью-Джэрсі, Кліўлендзе, Дэтройце, Чыкага. Выступалі яны на розных фестывалях, этнічных мастацкіх паказах, а некаторыя прабіліся і на тэлевізію. Выступы беларускіх калектываў на больш шырокіх форумах значна прычыніліся да таго, што беларусы трапілі ў розныя этнічныя даведнікі.



«Васілёк» у Гарадскім каледжы ў Джэрсі-Сіці. На першым плане: Галіна Тумаш і Алеся Кіпель. 1972 г.

Тэатральная дзейнасць, праўда больш на аматарскім узроўні, пашыралася на беларускія моладзевыя арганізацыі, школьныя калектывы ды прыцаркоўныя суполкі (батлейка, дажынкі і пад.). Пра гэта было дэталёва напісана ў кнізе, што зрабіла значную рэкламу беларуска-амерыканскай грамадзе[57].

[56] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).

[57] Гл.: Kipel, V. Byelorussian Theatre... P. 67–100.

Тэатральныя выступы сярод амерыканцаў-беларусаў — справа жывучая. Але беларуска-амерыканская дыяспара робіцца сведкам-удзельнікам цікавага з’явішча: беларускі тэатр не рэдкасць у ЗША. Гэтак у 2005 годзе тут адбыліся паказы Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа з Віцебска. Коласаўцы выступалі ў Нью-Ёрку, Уотэртаўне каля Бостана і былі добра ацэненыя крытыкамі англамоўнымі і беларускамоўнымі[58]. Частым госцем у ЗША бывае Вольны тэатр, які выступаў у Нью-Ёрку і Вашынгтоне ў 2011, 2013[59], 2015 гадах. Пра гісторыю гэтага тэатра вялікі артыкул змясціла газета «*The New York Times*»[60]. Для прыкладу водгукаў пра Вольны тэатр у ЗША перадрукоўваем тут нататку з газеты «Беларус»:

*Упершыню ў вынікові рэйтынг тэатральных падзеяў 2011 года, складзены газетаю The New York Times, трапіў беларускі спектакль — «Быць Гаральдом Пинтером» Беларускага Вольнага тэатра. Папасці ў гэты рэйтынг мараць лепшыя тэатры свету.*

*Спектакль «Быць Гаральдом Пинтером» у пастаноўцы Уладзіміра Шчэбеня, быў з трыумфам паказаны ў Нью-Ёрку і Чыкага ў студзені і красавіку — траўні 2011 года. Спектакль атрымаў высокія ацэнкі крытыкі і быў намінаваны на галоўную ўзнагароду для драматычных спектакляў Амерыкі — Drama desk Award.*

*У красавіку 2011 года Вольны тэатр атрымаў амерыканскую прэстыжную тэатральную ўзнагароду — OBIE Award, а газета The New York Times у пачатку 2011 года прысвяціла беларускаму тэатральнаму калектыву тры публікацыі*[61].

Удзел беларусаў у амерыканскіх урачыстасцях — Днях Калумба, дажынках, юбілеях штатаў і гарадоў і г. д. — пашыраў этнічны кругагляд мясцовых арганізатараў ды сведчыў, што ёсць «новая» нацыянальная група, якая бярэ чынны ўдзел у амерыканскім жыцці. Ад часу прыезду ў Амерыку паваеннае хвалі іміграцыі беларускія мастацкія калектывы выступалі сотні разоў у большых і меншых аўдыторыях у гарадах Вашынгтон, Нью-Ёрк, Чыкага, Кліўленд, Дэтройт, Лос-Анджэлес, Філадэльфія ды ў шматлікіх меншых гарадах. У архівах беларускіх арганізацый захоўваюцца сотні выцінак з мясцовых газетаў з водгукамі на беларускія выступы. Гэта выдатнае дасягненне беларускае грамады, якое асягалася адданаю працаю дзясяткаў людзей: Вячаслава Селях-Качанскага, Наталлі Орсы, Ірэны Цупрык, Пятра Нядзведзкага, Вілы Ляўчук, сям’і Мяленьцевых, Міхася Тулейкі, Андрэя Каптуровіча, Аляксандра Валюшкі, Кастуся Калошы, Ірэны Каляды, Веры Рамук, Веры Бартуль, Алы Орса, Галіны Орса, Дзмітра Верасава, Ксаверыя Барысаўца, Аркадзя Еўца, Кастуся Кіслага, Каці Вініцкай, Юркі Мазуры, Лідзіі Янушкевіч-Нядзвіга, Барбары Вержбаловіч, Галіны Руднік, а найбольш — прафесара Міколы Куліковіча.

Побач з тым, што беларуская грамада ў Амерыцы называе «руціннымі» выступамі, як, прыкладам, удзел у штогадовым міжэтнічным фестывалі ў Парку Свабоды ў Джэрсі-Сіці, штат Нью-Джэрсі, які аглядае 10–15 тысячаў чалавек, або ў Фестывалі славянскіх народаў у Балтымары, дзе бывае да 20 тысячаў гледачоў, у жыцці амерыканскіх беларусаў ёсць падзеі, да якіх грамада рыхтуецца супольна і загадзя і памяць пра якія застаецца надоўга.

[58] Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 514.
[59] Беларус. Нью-Ёрк. 2011. № 576, 580; 2013. № 596.
[60] The New York Times. New York. 2015. Oct. 18.
[61] Беларус. Нью-Ёрк. 2011. № 587.





Пасля фестывалю ў Парку Свабоды. Стаяць: Зора Кіпель, Валер Новак, Ірэна Рагалевіч, Вктар Гуткін, Галіна Русак; сядзіць Надзея Кудасава. Нью-Ёрк, 1979 г.

Адною з такіх падзей быў Беларускі дзень на Сусветнай выставе ў Нью-Ёрку 21 жніўня 1964 года. Беларускі паказ на выставе — выступы танцавальных, спеўных і музычных калектываў — працягваўся колькі гадзінаў ды ўлучаў больш за 120 удзельнікаў. Рыхтаваў гэтую імпрэзу і кіраваў ёю адмысловы камітэт, у які ўваходзілі прадстаўнікі ўсіх большых арганізацый: старшыня Міхась Тулейка, сябры Іван Касяк, Міхась Бахар, Ян Запруднік, Фрэнк Рамана, Ала Орса-Рамана, Аўген Нестар і Ніна Каваль[62].

Іншымі вялікімі імпрэзамі, дзе беларусы выступілі як аб’яднаная група, былі Беларускія фестывалі ў штаце Нью-Джэрсі: 12 чэрвеня 1976 года, 21 траўня 1977 года і 19 траўня 1979 года[63]. Для арганізацыі фестываляў ствараліся адмысловыя камітэты, у якія ўваходзіла 50–70 асобаў. Колькасць удзельнікаў дасягала дзвюх сотняў, а канцэртная праграма займала блізу паўдня. Беларускія фестывалі збіралі ад трох да пяці тысячаў гледачоў. Фестывалі ў Нью-Джэрсі давалі магчымасць ацаніць патэнцыял беларускае грамады ды, што асабліва важна, прыцягнуць да актыўнага супрацоўніцтва маладое, народжанае ў Амерыцы пакаленне. Беларускія фестывалі — а першы з іх у 1976 годзе пачынаў удзел беларускае групы ў святкаванні 200-х угодкаў Злучаных Штатаў — былі заўважаныя і шматлікімі амерыканскімі палітыкамі. Фестывалі віталі дзясяткі сенатараў і кангрэсменаў,

[62] Архівы БАЗА ў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).
[63] Zaprudnik, Jan. Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey: Political Information Through the Language of Art (1948–2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948–2011). New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013.



Удзельніцы паказу беларускай моды на фестывалі. Нью-Джэрсі, 1976 г.




Беларускія танцы ў Каліфорніі. 1970-я гг.



прэзідэнт Джэральд Форд, а губернатар штата Нью-Джэрсі Брэндан Бэрн абвяшчаў дзень фестываляў Днём беларускае спадчыны ўсяго штата.

У арганізацыйныя камітэты фестываляў уваходзілі старшыня Вітаўт Кіпель, сябры Надзя Кудасава, Ірэна Рагалевіч-Дутко, Зора Кіпель, Галіна Русак, Міхась Бахар, Ян Запруднік, Віталь Цярпіцкі, Ала Орса-Рамана, Вячка Станкевіч, Васіль Русак, Алекс Сільвановіч, Вера Бартуль, Тамара Кольба ды дзясяткі іншых.

Вялікаю падзеяю для беларускае грамады быў удзел амерыканскіх беларусаў у святкаванні 200-годдзя Злучаных Штатаў Амерыкі. Упершыню беларусы бралі гэткі актыўны і шырокі ўдзел у агульнаамерыканскім свяце. Беларусы адзначалі гэты юбілей у штатах Агаё, Вермонт, Дэлавэр, Ілінойс, Індыяна, Каліфорнія, Канектыкут, Мэйн, Мічыган, Нью-Джэрсі, Нью-Ёрк, Пенсільванія і Флорыда ды ў гарадах Вашынгтон, Дэтройт, Каламбус, Кліўленд, Лос-Анджэлес, Нью-Ёрк, Пасейк, Прынстан, Трэнтан, Філадэльфія і Чыкага.

Фестывальную беларускую дзейнасць у штаце Нью-Джэрсі як адным з найбольш актыўных штатаў у прапагандзе беларусікі аўтарытэтна задакументаваў д-р Ян Запруднік ў двухмоўнай кнізе «Беларускія фестывалі і выстаўкі ў Нью-Джэрсі» (Нью-Ёрк: БІНіМ, 2013). У заключных развагах пра значэнне мастацка-эстраднай дзейнасці беларусаў Амерыкі д-р Ян Запруднік зазначае:

*Гісторыя беларускіх фестываляў у Нью-Джэрсі — гэта толькі апісанне тэрапеўтычнай дзейнасці групы суродзічаў, параненых настальгіяй па роднай зямлі. У глыбейшым сэнсе — гэта хада да свабоды праз інфармацыю, гэта трансфармаванне інфармацыі ў веду, г. зн. веду ў амерыканскіх палітычных колах пра заціск свабоды ў Беларусі. Ад веды пра Беларусь, верылі інфарматары, будзе залежыць дапамога ёй у змаганні за незалежнасць, за дэмакратыю...*[64] .

Апрача выступаў з мастацкімі праграмамі, беларусы бралі ўдзел таксама ў колькіх канферэнцыях, прысвечаных 200-годдзю Амерыкі, выдрукавалі некалькі адмысловых брашураў. У штаце Нью-Джэрсі Зора Кіпель з дапамогаю штатнага святкавальнага камітэта апрацавала першы даведнік нацыянальных арганізацый штата. Бясспрэчна, перыяд адзначэння 200-годдзя ЗША (а перыяд трываў каля дзесяці гадоў) стаўся выдатным стымулам ажыўлення дзейнасці беларуска-амерыканскіх арганізацый[65].

Значны ўдзел бралі беларусы і ў адзначэнні 100-годдзя статуі Свабоды ў 1986 годзе, у Сусветным еўхарыстычным кангрэсе ў Філадэльфіі ў 1976 годзе, у адзначэнні 300-годдзя штата Нью-Джэрсі ў 1964 годзе ды ў шмат якіх іншых лакальных урачыстасцях.

Сярод іншых культурных падзей можна зазначыць юбілей 1000-годдзя хросту Беларусі, адзначэнне 800-х угодкаў Еўфрасінні Полацкае. Папулярнымі былі і агляды талентаў моладзі, ладжаныя Арганізацыяй беларуска-амерыканскае моладзі[66].

---

[64] Zaprudnik, Jan. Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey: Political Information Through the Language of Art (1948–2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948–2011). New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013. P. 175–176.

[65] Папка «Фэстывалі», «200-годзьдзе» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Ethnic Heritages and Horizons, an Expanding awareness. Baltimore (MD), 1980; Беларус. Нью-Ёрк. 1964. № 91; 1976. № 230–231, 233.

[66] Архівы АБАМ у Нью-Брансвіку (Нью-Джэрсі); Беларус. Нью-Ёрк. 1973. № 195, 198; 1974. № 210; 1975. № 218.




Беларускі стэнд на Сусветным еўхарыстычным кангрэсе: а. Уладзімір Тарасевіч, біскуп Часлаў Сіповіч, Вера Бартуль, Антон Шукелойць. 1976 г.

Музычная, эстрадная, звычаёвая рэпрэзентацыя жыве! Перагледзеўшы папярэднія старонкі ў аднаго чытача могуць наплыць настальгічныя пачуцці, маўляў, «была рэпрэзентацыя». Але, дарагі чытач, кажам з упэўненасцю: суму няма месца! Беларуская рэпрэзентацыя — музыка, спевы, беларускія звычаі навонкі і для весялосці маладога пакалення — жыве. З прыходам новых маладых эмігрантаў у ваколіцы Нью-Ёрка — Нью Джэрсі гучна і інтэнсіўна зарадзілася новае выяўленне беларускай спадчыны — адзначэнне Купалля, Гукання вясны, Дажынак. Праўда, і раней Купалле часам адзначалася. Але цяпер беларуская моладзь штогод, цягам блізу ўжо дзясятка гадоў, у штатных парках Нью-Ёрка, Нью-Джэрсі адзначае Купалле і іншыя беларускія абрадавыя святы. Адзначае гучна, амерыканская публіка таксама бярэ ўдзел. Увялі гэтыя адзначэнні ў рэгулярны беларускі каляндар сп-ва Лена і Пятро Рыжыя ды мастацка-тэатральна распрацавала сп-ня Валянціна Якімовіч, якая таксама выдатна дакументуе гэтую дзейнасць. Акрамя Нью-Ёрка, гэткія ж святкаванні адбываюцца ў Вашынгтоне, Флорыдзе, Чыкага, Каліфорніі, Вірджыніі і інш.



Беларускае Купалле ў Нью-Ёрку. 2018 г.
*Здымак Сяргея Трыгубовіча*



Варта адзначыць, што беларускія выступы пад кіраўнцтвам ветэрана беларускай музычнай рэпрэзентацыі ў ЗША д-р Алы Орса-Рамана ўвайшлі ў праграму «Славянскай спадчыны» ў Нью-Ёрку. Там, дзе некалі выступаў Данчык, «Васілёк», «Каліна», гукі беларускай музыкі не заміраюць. Гасцямі ў Нью-Ёрку выступалі і захапілі амерыканскую публіку Святлана Літвінава, Аляксандр Севасцян, Сяргей Доўгушаў і інш. Некалькі турнэ па ЗША ўжо зрабілі і плануюць яшчэ музыкі з гурта «Стары Ольса»[67]. Беларуская рэпрэзентацыя праз эстраду, паказы народных звычаяў, фальклор, музыку новымі беларусамі-амерыканцамі прадаўжаецца.

## Выставы




Найбольш пашыраная форма папулярызацыі беларускае культуры ў Амерыцы — выставы народнага ўмельства, твораў беларускіх мастакоў, беларускага друку.

Беларускія арганізацыі і паасобныя беларусы пачалі браць удзел у амерыканскіх выставах ад пачатку 1950-х гадоў. Спачатку гэта былі выставы паясоў, дываноў, ручнікоў. Паступова асартымент выставаў пашыраўся і пачаў улучаць паказ прадзення, пляцення паясоў, выраб кашоў. Беларусы бяруць удзел у выставах, ладжаных амерыканцамі, а таксама вельмі часта арганізуюць выставы ў сваіх грамадскіх цэнтрах. Найбольш вядомая штогадовая выстава беларускага мастацтва і ўмельства адбывалася ў грамадскім цэнтры ў Саўт-Рыверы. Выставы ў Саўт-Рывэры былі запачаткаваныя ў 1974 годзе. У іх бралі ўдзел часам







Вокладкі буклетаў пра беларускія мастацкія выставы ў Саўт-Рыверы

[67] Наша слова. Мінск. Лістапад 2016; Беларусы ў свеце. Мінск. № 8 (183). Жнівень 2017.

да паўсотні беларускіх мастакоў і ўмельцаў. Ад пачатку 1990-х гадоў прысылалі на выставу свае творы і вырабы мастакі з Беларусі.

Вельмі папулярны форум для выставаў — этнічныя фестывалі, але звычайнаю з'яваю сталіся і выставы ў каледжах і ўніверсітэтах, і не толькі мастацкія. Прыкладам, пры Квінсаўскім каледжы часта ладзіліся беларускія выставы, сярод якіх былі прысвечаныя Змітраку Бядулю, Уладзіміру Караткевічу, братам Луцкевічам, Кастусю Каліноўскаму, Францыску Скарыну.

Беларусы ўвайшлі таксама ў супрацоўніцтва з арганізатарамі Гадавога фестывалю ў Чыкагскім Музеі навукі і прамысловасці, дзе ладзяцца штогадовыя выставы і калядныя фестывалі, з Міжнацыянальным фестывальным камітэтам у Лос-Анджэлесе, Міжнацыянальнаю мастацкаю радаю ў Кліўлендзе[68].

Да выставаў друкаваліся каталогі, часта з рэпрадукцыямі найважнейшых экспанатаў. У БІНіМе захоўваецца каля сотні большых і меншых каталогаў ды спіс каля 600 выставаў, у якіх бралі ўдзел беларусы.

Неабходна таксама адзначыць, што шмат у якіх гарадах (Ньюарк, Кліўленд, Нью-Брансвік) беларускія арганізацыі наладжвалі супрацоўніцтва з мясцовымі музеямі, якія таксама ладзілі беларускія выставы, а музей у Ньюарку (штат Нью-Джэрсі) меў нават беларускую перасоўную выставу для школаў. Для беларускіх выставаў некаторыя музеі пазычалі з музеяў у Бафала і Нью-Ёрка слуцкія паясы[69].




Беларуская частка на шматнацыянальнай выставе ў Чыкага. 1969 г.

[68] Архівы БАЗА ў Кліўлендзе, Нью-Ёрку і ў Каліфорніі; Архівы Беларускага каардынацыйнага камітэта ў Чыкага.

[69] Папка «Выставы» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



Трэба сцвердзіць, што ў Злучаных Штатах шмат беларускіх сем'яў стварылі свае ўласныя выставачныя фонды і пры першай нагодзе пазычалі мясцовым арганізацыям беларускія матэрыялы для выставаў.

Беларускі інстытут навукі і мастацтва меў таксама калекцыю беларускіх народных строяў, якія пазычаліся на запатрабаванне арганізацый для выставаў і фестываляў.

Удзел у выставах заўсёды быў клопатам розных беларускіх арганізацый, аднак найбольш працавалі ў гэтай дзялянцы БІНіМ і Культурна-мастацкае таварыства ў Саўт-Рыверы. Тым часам своеасаблівымі экспертамі беларускіх выставаў у Амерыцы сталіся Надзя Кудасава, Ірэна Рагалевіч-Дутко, Тамара Кольба, Зора Кіпель, Галіна Русак, Люда Махнюк, Ніна Сільвановіч, Ліза Літаровіч, Вера Рамук, Вера Бартуль, Ала Орса-Рамана, Кастусь Калоша, Сяргей Карніловіч, Каця Вініцкая, Юзя Найдзюк і «новыя сілы» — Таццяна Красоўская, Ганна Сурмач, Валянціна Трыгубовіч ды шмат хто іншы.

Асобна варта адзначыць персанальныя выставы беларускіх мастакоў, як эмігрантаў, гэтак і з Беларусі. Пра мастакоў-эмігрантаў яшчэ будзе асобная гутарка ніжэй, тут жа падамо колькі прыкладаў пра выставы метрапольных творцаў: у Нью-Ёрку, Джэрсі-Сіці і іншых гарадах ладзіліся выставы Алеся і Юліі Шатэрнікаў, Міколы Купавы, Алеся Марачкіна, Яўгена Шатохіна і іншых, у Ратгерскім універсітэце БІНіМ арганізоўваў выставу літаграфій Уладзіміра Басалыгі[70]. І гэта толькі асобныя падзеі ў шырокай выставачнай дзейнасці беларусаў у ЗША.




Паштоўкі, прысвечаныя творчасці мастакоў Алеся і Юліі Шатэрнікаў

[70] Беларус. Нью-Ёрк. 1958. № 65; 1991. № 377; 2006. № 526; 2007. № 534; 2008. № 551; 2009. № 554, 562.

У XXI стагоддзі выставачная дзейнасць беларусаў у ЗША амаль цалкам у руках БАЗА — як Управы, гэтак і ягоных аддзелаў.

Трэба падкрэсліць і такое з'явішча: парафіяльная зала сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне сёння становіцца як бы выставачным цэнтрам беларускага мастацтва. Апрача ініцыятываў Моладзевага руху, у зале часта ладзяцца выставы народных рамёстваў: ткацтва, вышывання і інш. Гэтаксама кіраўніцтва парафіі часта запрашае амерыканска-беларускіх мастакоў ладзіць свае выставы. Па-за мастацкімі выставамі ў зале бываюць агляды-выставы беларускіх кніг, прагляды фільмаў.

## Канферэнцыі

Яшчэ адна форма папулярызацыі беларускае навукі і культуры — удзел беларусаў у навуковых канферэнцыях, сімпозіумах, семінарах. Найчасцей гэта гадавыя канферэнцыі прафесійных таварыстваў, гэткіх як Амерыканскае таварыства даследчыкаў славянаведы, Таварыства эпохі рамантызму, Таварыства бібліятэкараў, Таварыства сучасных моваў. Беларускія ўдзельнікі чытаюць на гэткіх канферэнцыях рэфераты на беларускія тэмы.

Бралі беларусы ўдзел у канферэнцыях, якія ладзіліся амерыканскімі ўстановамі, як, прыкладам, у канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях, якая была арганізаваная Бібліятэкаю Кангрэса ў траўні 1988 года. На ёй выступалі з дакладамі на беларускія тэмы а. Аляксандр Надсан і мэтр Гай Пікарда з Лондана, а таксама прафесар Томас Бэрд з Нью-Ёрка. Яшчэ колькі прыкладаў тэматычных канферэнцый з удзелам беларусаў: «Мір і свабода нацыям» (Вашынгтон, 1956), «Раннія славянскія жыхары Амерыкі» (Джэрсі-Сіці, 1972), «Забытыя культуры ў СССР» (Нью-Ёрк, 1977), «Талстой у Амерыцы» (Нью-Ёрк, 1988), «Трыстаніяна ў Амерыцы» (Флорыда, 1990).



Зора Кіпель выступае на канферэнцыі ў Кліўлендзе. 1980 г.





CONFERENCE:
450th
ANNIVERSARY OF THE STATUTE OF THE GRAND DUCHY OF LITHUANIA

Прагама канферэнцыі, прысвечанай 450-годдзю Статута Вялікага Княства Літоўскага. Кліўленд, 1980 г.

Ладзяць навуковыя канферэнцыі і беларускія арганізацыі. Гэтак, БІНіМ арганізаваў канферэнцыю, прысвечаную 450-годдзю Статута Вялікага Княства Літоўскага (супольна з Кліўлендскім штатным універсітэтам, 1980), а таксама юбілейную канферэнцыю да 25-годдзя БІНіМа (супольна з Сітанхолскім універсітэтам, штат Нью-Джэрсі, 1977).

Беларусы бралі ўдзел у сотнях навуковых канферэнцый і семінараў, што рэгулярна дакументуецца ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва.

У цяперашнім часе амаль штогадова адбываюцца канферэнцыі Асацыяцыі нацыянальнасцяў, як і тэматычныя канферэнцыі беларускіх даследаванняў пры Герыманаўскім інстытуце Калумбійскага ўніверсітэта. Беларускія даследчыкі — заўсёды дзейныя ўдзельнікі з дакладамі[71].

## Спартовая дзейнасць

Беларускі спорт, як можна было спадзявацца, адыграў выдатную ролю як у арганізацыі беларускае моладзі, гэтак і ў папулярызацыі Беларусі. Моладзь, што прыязджала ў Амерыку ў канцы 1940 — пачатку 1950-х гадоў, асабліва ў вялікія гарады, адразу гуртавалася паводле спартовых зацікаўленняў. Узніклі беларускія футбольныя і валейбольныя каманды, клубы шахматыстаў, пінг-понгавыя групы. У Нью-Ёрку, Кліўлендзе і Саўт-Рыверы беларускія каманды ўвайшлі адразу ў амерыканскія лігі, заказалі ўніформы ды ўліліся ў амерыканскае спартовае рэчышча. Ініцыятарамі беларускае спартовае дзейнасці ў Амерыцы былі Іван Муха, Грыша і Васіль Арцішэнкі, Фёдар Пагуда, Рыгор Мікуліч, браты Александровічы, браты Станкевічы і Уладзімір Дунец.

Беларускія футбольныя і валейбольныя каманды — «Пагоня», «Нёман» ды іншыя — выступалі з пераменным поспехам у розных лігах. З гадамі мяняліся ўдзельнікі, прыходзілі маладыя, але каманды захоўвалі актыўнасць.

Важным дасягненнем беларускіх спартоўцаў у Амерыцы трэба лічыць арганізацыю штогадовых беларускіх спартовых сустрэчаў на адпачынкавым селішчы

[71] Беларус. Нью-Ёрк. 2003. № 491; 2005. № 504; 2006. № 520.



Беларуская футбольная каманда «Пагоня». Нью-Ёрк, 1953 г.

«Белэр-Менск»[72]. У сярэдзіне лета моладзь і спартоўцы з'язджаліся на селішча, дзе ўдзельнічалі ў спаборніцтвах у 10–12 відах лёгкае атлетыкі, а таксама камандных змаганнях у валейбол. Гэткія сустрэчы былі запачаткаваныя ў 1959 годзе і працягваюцца да цяперашняга часу. На сустрэчах штогод выбіралася беларуская «Міс спорту»[73]. Падамо тут зацемку з газеты «Беларус» пра адно з такіх мерапрыемстваў 1969 года:

*Штогоду апошнім канцатыднем ліпеня на рэсорце Белэр-Менску адбываюцца беларускія спартовыя сустрэчы-змаганні за кубак Белэр-Менску ў розных відах лёгкае атлетыкі. Сёлета 26 ліпеня адбылася пятая гэткая сустрэча пры лічным удзеле спартоўцаў ды яшчэ лічнейшым — гледачоў. Ня зусім спрыяльным было надвор'е (дажджлівая сёлета ўся другая палавіна ліпеня), але пахмурнасць і часткава дождж не прыглушылі спаборніцкага запалу: выпрабаванне спрыту і сілы адбылося бесперашкодна блізу па ўсёй праграме.*

*Удзел у змаганнях узялі прыхільнікі «фізічнае спраўнасці» (да якое заклікаў Прэзідэнт Джон Кенэды) з беларускіх асяродкаў Кліўленду, Нью-Ёрку, Саўт-Рыверу і Нью-Брансвіку ды іхных ваколіцаў.*

*Увечары таго ж дня, у часе танцавальнае вечарыны, адбыліся выбары міс спорту Белэр-Менску. Гонар гэты заслужана здабыла прыгожая і актыўная спартсменка спадарычня Вера Арцішэнка із Саўт-Рыверу. Міс спорту ўручыла тады кубкі Белэр-Менску пераможцам змаганняў: Галіне Кажуры першыя дзве ўзнагароды за скок увышкі і удалеч, Шурыку Стагановічу за скок увышкі, Жоржу Наумчыку за скок удалеч, Тамары Стагановіч за плаванне, Алесю Марціновічу за пінг-понг, Янку Запрудніку за штурханне кулі, дзявоцкай камандзе із Саўт-Рыверу (капітан Ліля Гурын) за валейбол.*

[72] На жаль, селішча ўжо прададзенае і дзейнасць спыненая.

[73] Архівы БККА пад царквой Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі); Архівы Міхася Сенькі, Саўт-Рывер (Нью-Джэрсі).



*Змаганне чатырох хлапецкіх валейбольных камандаў (з Кліўленду, Саўт-Рыверу, Нью-Ёрку і Нью-Брансвіку) не адбылося дзеля неспрыяльнасці надвор'я. Яно адбудзецца, праўдападобна, 16-га ці 23-га жнівеня.*

*Арганізацыяй і правядзеннем пятае спартовае сустрэчы ўмела займаліся спсп. І. Муха, Г. Арцішэнка, В. Станкевіч, М. Сенька*[74].

Аматарская спартовая дзейнасць пры сустрэчах, пікніках адбываецца і сёння. Новыя эмігранты, найперш асобы да 25 гадоў, маюць беларускую футбольную каманду (капітан Андрэй Асадчы) у Брукліне. Адзін з матчаў 2016 года адбыўся на футбольным полі ў *Bill Brawn Playground Park* у Брукліне. Гулялі каманды «Беларусы ў Нью-Ёрку» і «Украінскі Нью-Ёрк».



Беларуская футбольная каманда. Нью-Ёрк, 2016 г. *Здымак Пятра Кіцула*

Асаблівую цікавасць сярод розных відаў спорту выклікалі шахматы. Сярод беларусаў былі добрыя шахматысты. Адзін з іх Васіль Пляскач з Дэтройта ў 1957 годзе выйграў чэмпіянат *Chrysler Corporation*, акрамя таго, ён ўваходзіў у шахматную каманду штата Мічыган. Вядома таксама, што беларусы належалі да шахматных клубаў у Нью-Ёрку, Кліўлендзе, Чыкага, Лос-Анджэлесе і Маямі. А ў газеце «Беларус» ужо ў XXI стагоддзі нейкі час была рубрыка «Шахматы для ўсіх»[75].

Цікавы сюжэт у беларуска-амерыканскім спорце звязаны з Алімпійскімі гульнямі 1980 года. Факел Алімпіяды неслі сярод іншага праз горад Саўт-Рывер у Нью-Джэрсі, дзе трымаць яго было даручана спартовай камандзе, вядучым гульцом якой быў Коля (Нік) Бахар, танцор беларускага ансамбля «Васілёк». Ён быў тым, хто нёс алімпійскі факел праз Саўт-Рывер[76].

[74] Беларус. Нью-Ёрк. 1969. №147–148.

[75] Беларус. Нью-Ёрк. 2009. № 559, 560.

[76] South River Historical & Preservation News. № 95. November 2018.



Беларускі роварны прабег па Манхэтэне да 100-годдзя БНР. 2018 г.

Новая хваля эміграцыі ажывіла ўдзел беларусаў у амерыканскім спорце. Сярод іншага беларусы сталі ўдзельнічаць у знакамітых марафонах у Бостане, Нью-Ёрку і інш. Прыкладам, у лістападзе 2017 года ў адным з найбуйнейшых у свеце New *York City Marathon* брала ўдзел сяброўка Беларуска-амерыканскага задзіночання Алена Змушко. Яна ўдзельнічала і ў цырымоніі адкрыцця марафону, на якой ішла ў нацыянальным строі з бел-чырвона-белым сцягам[77]. А ў 2019 годзе Лявон Анацка з Ліды ўдзельнічаў у марафоне *«Mighty Mosquito»* на поўначы штата Нью-Ёрк. Дарэчы, арганізацыйную дапамогу земляку наладзіў кафедральны сабор Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне[78].

Новай спартова-рэпрэзентацыйнай ініцыятывай стаў роварны парад-прабег па Манхэтэне, які адбыўся 11 сакавіка 2018 года і быў прысвечаны 100-годдзю БНР. Беларусы з Нью-Ёрка і ваколіцаў сабраліся на Таймс-сквер, і каля 30 чалавек на роварах з бел-чырвона-белымі сцягамі праехалі па 5-й авеню і Брадвеі да Боўлін-Грын-Парку[79].

Ад часу, калі Беларусь стала незалежнай дзяржавай і яе спартоўцы пачалі выступаць на міжнародных спаборніцтвах, беларускі спорт зрабіўся больш вядомы ў ЗША. Амерыканскі друк і тэлебачанне падаюць багата інфармацыі пра беларускіх спартоўцаў, а з гэтым і пра Беларусь. Вядомыя амерыканцам Вікторыя Азаранка, Дар'я Домрачава і інш.

Аматарам жа гісторыі беларускага спорту ў ЗША варта зазірнуць у беларускія цэнтры ў Саўт-Рыверы і Кліўлендзе, каб азнаёміцца з трафейнымі выставамі-калекцыямі ранейшых беларускіх спартовых камандаў.

[77] Беларус. Нью-Ёрк. 2017. № 629.

[78] Наша слова. Мінск. 2019. 28 жніўня.

[79] Весткі й Паведамленьні. Нью-Ёрк. № 4 (626). Красавік 2018.



## Геаграфічны абсяг культурна-інфармацыйнай дзейнасці

Бясспрэчна, найшырэй беларуская культура прадстаўленая амерыканскімі беларусамі ў мясцовасцях, дзе іх сканцэнтравана найбольш і дзе знаходзяцца беларускія арганізацыі: у штатах Нью-Джэрсі (гарады Ньюарк, Нью-Брансвік, Саўт-Рывер, Гайленд-Парк, Трэнтан, Джэрсі-Сіці, Гласбара, Морыстаўн, Пасейк, Ратэрфард, Парамус, Эдысан), Нью-Ёрк (Нью-Ёрк, Бафала, Олбані, Бінгэмтан, Сырак'юз), Агаё (Кліўленд, Каламбус, Экран), Ілінойс (Чыкага, Спрынгфілд), Мічыган (Дэтройт, Лансінг, Грэнд-Рэпідс) ды Каліфорнія (Лос-Анджэлес, Сан-Францыска).

Аднак і там, дзе жыве не так шмат беларусаў, беларуска-амерыканскія арганізацыі дзейныя нястала, тым не менш і паасобныя беларусы, і нефармальныя арганізацыйныя структуры, сем'і, гурткі землякоў імкнуцца папулярызаваць культуру Беларусі праз выставы, паказы, выступы мастацкіх калектываў і г. д. Беларуская дзейнасць у паасобных штатах выглядае наступным чынам.

***Агаё.*** Буйны штат у цэнтры ЗША, куды беларусы пачалі прыязджаць пры канцы XIX стагоддзя і сяліліся пераважна ў Кліўлендзе, Экране, Цынцынаці, Каламбусе. Найбольш дзейным беларускім асяродкам у штаце з'яўляецца Кліўленд з прылеглымі прыгарадамі Стронгсвіль, Парма. Пра першых беларускіх імігрантаў у горадзе можна прачытаць наступнае:

*Беларусы пачалі сяліцца ў Кліўлендзе ад 1890-ых гадоў. Прыхаджане першага праваслаўнага прыходу ў горадзе былі вылучна эмігранты зь Менскае, Горадзенскае й Віленскае губэрняў. Бальшыня гэтых людзей была зусім нясьвядомая нацыянальна, яна хутка згубіла лучнасьць з Бацькаўшчынай ды поўнасьцяй зрусыфікавалася. Аднак было сярод гэтых першых эмігрантаў некалькі сьведамых Беларусаў. Адным зь іх быў эмігрант зь Берасьцейшчыны Іван Белямук. Ён пасьля мінулай вайны пачаў рабіць захады, каб сьцягнуць зь Нямеччыны свайго ўнука — Міхася Белямука. Сп. Міхась Белямук і быў першым палітычным эмігрантам у Кліўлендзе. У сваю чаргу ён сьцягнуў сваіх сяброў зь Нямеччыны: Кастуся Калошу, Сьцяпана Кісяля, Янку Раковіча, Сяргея Карніловіча й іншых. Вось гэтак нарадзілася ў Кліўлендзе нацыянальна сьведамая й дзейная беларуская калёнія*[80].



Міхась Белямук

Ад пачатку 1950-х гадоў у Кліўлендзе пачалі дзейнічаць беларускія структуры: мясцовы аддзел БАЗА, Беларускі вызвольны фронт, арганізацыі моладзі, праваслаўная царква Жыровіцкай Божай Маці. Больш, чым у іншых штатах, беларусы тут ўлучаныя ў мясцовыя чыста амерыканскія арганізацыі і палітычныя партыі. Спрыялі гэтаму «агайскія» палітыкі, якія мелі цесныя сувязі з рознымі нацыянальнымі групамі, прыкладам мэр гораду Ральф Пэрк, сенатары Говард Метцэнбаўм, Жорж Вайновіч і іншыя. Беларусы актыўна ўдзельнічалі ў выставах, канцэртах, ладзілі ўласныя мерапрыемствы. Былі наладжаныя блізкія сувязі з універсітэтамі: Агайскім штатным, Кенцкім універсітэтам, універсітэтам Джона Кэрала. БІНіМ ладзіў там ды ўдзельнічаў у навуковых канферэнцыях. Аўтару

[80] Беларус. Нью-Ёрк. 1980. № 282.




Запрашэнне на святкаванне 70-годдзя БНР. Кліўленд, 1988 г.

гэтай кнігі было нададзенае ганаровае грамадзянства горада Кліўленда. Пра беларускую прысутнасць у Кліўлендзе была выдадзена асобная кніга, якая ўжываецца як «дадатковае чытанне» ў школах горада[81].

З прыбыццём новай хвалі іміграцыі ў Кліўлендзе пасяліліся журналістка Святлана Белая, лекары браты Раманюкі і інш. Беларуская дзейнасць, хоць і ў меншым «разгоне», але працягваецца.

***Аляска.*** Аўтар разам з сям'ёй адведваў Аляску ў сярэдзіне 1970-х гадоў як турыст, напружваючы, аднак, увагу, каб знайсці беларускую прысутнасць і ў тым далёкім штаце. Зора Кіпель вяла дзённік падарожжа, які быў апублікаваны ў «Запісах БІНіМ»[82]. Прысутнасць беларуская на Алясцы сустракалася на старых могілках, дзе ёсць прозвішчы на помніках, што маглі належаць беларусам, а таксама ў некалькіх бібліятэках, дзе ёсць беларускія кнігі. У горадзе Джуна ў архівах ёсць перапіска з Язэпам Варонкам, у мясцовага праваслаўнага святара (серба) — падшыўка часопіса «Голас Царквы» (орган БАПЦ). Таксама прыпушчаем, што ў архівах старой расійскай кампаніі Аляксандра Баранава могуць быць звесткі пра ейных працаўнікоў з «Северо-Западного края». Пры канцы 1970-х на Алясцы працаваў як геолаг былы беларускі студэнт з Лювена Андрэй Кваткоўскі. Болей пра жыццё беларусаў у гэтым штаце можна знайсці ў кнізе Ганны Сурмач «Беларусь бязь межаў» (Менск, 2013).

[81] Kipel, V. Byelorussian Americans and their Communities of Cleveland. Cleveland (OH), 1982.

[82] Запісы БІНіМ. № 32. Нью Ёрк — Менск, 2009. С. 93–99.



***Вермонт.*** Беларусы сяліліся ў штаце ад канца XIX стагоддзя. У сярэдзіне 1920-х гадоў у горадзе Стамфард гуртаваліся «віленскія» ў сваё зямляцтва, аднак сталай беларускай арганізацыі ў штаце не было створана, а беларусы-вермонтцы дапамагалі ў розных нацыянальных выставах у штатах Мэйн і Масачусэтс. І тым не менш беларускасць у Вермонце папулярызавалася групамі беларускай моладзі, якая, асабліва ў зімнія сезоны, часта бывала тут на розных лыжных стадыёнах. Цяпер шмат якія беларускія імігранты маюць у штаце свае лецішчы ды ладзяць там сяброўскія сустрэчы.

***Вірджынія і Заходняя Вірджынія.*** На гэтых тэрыторыях імігранты з беларускіх земляў, відавочна, з'явіліся яшчэ ў тыя часы, калі сённяшнія ЗША былі калоніяй Вялікабрытаніі[83]. Сяліліся беларусы густа, бо тут актыўна развівалася прамысловасць, працавалі вугальныя капальні і тытунёвыя гаспадаркі — усё патрабавала працоўных рук. Аднак на сёння звесткі пра ранейшых беларускіх імігрантаў у Вірджыніі і Заходняй Вірджыніі застаюцца «не раскапаныя» ў мясцовых архівах. Гэта праца для будучых даследчыкаў. Праўда, ёсць некаторая інфармацыя пра дзейнасць беларусаў у згаданым рэгіёне цягам апошняга дзесяцігоддзя. Прыкладам, 21 кастрычніка 2008 года ва ўніверсітэце Джорджа Мэйсана ў Вірджыніі адбыўся вечар беларускай культуры. Вось як падавалася інфармацыя пра гэта ў газеце «Беларус»:

*Спачатку быў паказаны фільм «Дзень Волі» Юрыя Хашчавацкага. Дзеля лепшае інфармацыі прысутным на экране былі прадстаўленыя агульныя дадзеныя аб Беларусі, фатаздымкі краявідаў і гарадоў краіны. Таксама былі распаўсюджаныя друкаваныя інфармацыйна-рэкламныя матэрыялы.*

*Далей адбыліся прэзентацыі беларускіх арганізацый у Злучаных Штатах Амерыкі. Першая трымала слова Наталля Рабава, яна паведаміла пра дзейнасць Беларускага Моладзевага Руху ў Амерыцы. Яраслаў Крывой распавёў пра гісторыю і сённяшняе жыццё Беларуска-Амерыканскага Задзіночання. Ала Кітова падрыхтавала карысную інфармацыю пра «Ротары клуб», які дапамагае беларускім студэнтам атрымаць падтрымку для навучання замяжой. З прамовай пра арганізацыю «Amnesty International» выступіў Вячаслаў Бортнік.*

*Прысутныя на вечары пазнаёміліся з творчасцю вядомага беларускага мастака Міколы Купавы. Беларускі Музей у Нью-Ёрку прадставіў персанальную выставу мастака, прысвечаную 125-годдзю знакамітых сыноў зямлі беларускай Янкі Купалы і Якуба Коласа*[84].

***Джорджыя.*** У горадзе Атланта ладзіліся выставы народнага ўмельства, у якіх бралі ўдзел і беларусы.

***Дэлавэр.*** У штаце была актыўная сям'я Алеся Шастака. У горадзе Уілмінгтан святкавалі 25 Сакавіка як Беларускі дзень штата. Ладзіліся выставы. Цяпер беларусы праяўляюць тут актыўнасць таксама. Але ў штаце Дэлавэр найбольшай папулярнасцю сярод моладзі карыстаецца горад Рэгобат-Біч і ягоны пляж. Тут, як і ў суседнім горадзе Ошэн Сіці (штат Мэрыленд) і на пляжы — разносчыкі марозіва, і ў рэстарацыях вельмі часта можна пачуць беларускую мову. Аўтару гэтай кнігі даводзілася і размаўляць тут па-беларуску з дзясяткамі маладых афіцыянтаў[85].

[83] Гл. пра гэта: Кіпель, З. Капітан Джон Сміт на Беларусі // Запісы БІНіМ. № 16. 1978. С. 119–128.

[84] Беларус. Нью-Ёрк. 2008. № 550.

[85] Гл. таксама кнігу: Сурмач, Г. Беларусь бязь межаў.

Апрача прыакіянскіх гарадоў, беларускія імігранты жывуць у Уілмінгтане, Ньюарку і сталіцы штата Доверы. Навіною для беларускай грамады ў ЗША было выданне ў штаце ў 2018 годзе двух дапаможнікаў для вывучэння беларускай мовы[86].



Сям'я чыкагскіх беларусаў Веры і Вітаўта Рамукоў

***Ілінойс.*** У гэтым штаце Чыкага, бясспрэчна, найбольшы горад, дзе вельмі актыўная беларуская дзейнасць пачалася ад 1920-х гадоў, пра што ўжо багата пісалася вышэй. Разам з тым беларусы дэманстравалі сваю прысутнасць у гарадах Спрынгфілд (сталіца штата), Пеорыя, Скокі (*Skokie*)[87]. Асаблівая адзнака беларускай дзейнасці ў штаце і ў горадзе Чыкага — тое, што яна амаль не перапыняецца. Адышло старое пакаленне: Язэп Варонка, Антон і Янка Чарапукі, айцы Ян і Уладзімір Тарасевічы і іншыя, а беларускую дзейнасць працягнулі паваенныя імігранты — сотні іх — заснавалі праваслаўную і ўніяцкую парафіі, моцныя грамадскія арганізацыі. Ім на змену прыйшлі эмігранты з Рэспублікі Беларусь, і беларуская дзейнасць зноў актывізавалася: дзясяткі выставаў, канцэрты, царкоўныя ўрачыстасці, інтэлектуальная дзейнасць.

Своеасаблівым «ліфтам» паміж імігрантамі розных хваляў у 1980–2000-я гады быў літаратурны крытык Ванкарэм Нікіфаровіч. Ён быў сябрам БІНіМа і, што вельмі важна ў яго працы, дакументаваў дзейнасць суродзічаў у Чыкага не толькі ў беларускім друку, але і ў амерыканскім, рускім, польскім, яўрэйскім[88]. Па-за ўласнай пісьменніцкай актыўнасцю Ванкарэм Нікіфаровіч арганізоўваў дзясяткі выставаў беларускіх мастакоў: Язэпа Пучынскага, Дзмітрыя Зянковіча, Хаіма Ліўшыца, Міколы Тарасікава, Аўгена Красоўскага, Сяргея Каткова і іншых.

Варта адзначыць, што беларускія выставы і канцэрты часта адбываліся і сёння адбываюцца ва ўніверсітэтах штату: Чыкагскім універсітэце, універсітэце штата Ілінойс, універсітэце імя Ігнацыя Лаёлы і іншых. Чыкага наведваюць дзясяткі журналістаў, мастакоў, артыстаў, інжынераў з Беларусі[89].

***Індыяна і Кентукі.*** Гэтыя штаты разглядаюцца тут разам, бо часта беларусы сяліліся ў адным, а працу знаходзілі ў другім. У штаце Індыяна, асабліва ў горадзе Геры беларусы пасяліліся ад канца XIX стагоддзя (былыя паўстанцы 1863 года). Будавалі праваслаўныя храмы прадстаўнікі масавай эканамічнай эміграцыі пачатку XX стагоддзя, а беларускую дзейнасць пачалі праводзіць імігранты пасля

[86] Taranov, A. Phrasebook Belarusian. Middletown (De), 2018. 112 p.; Schumann, J. Book 2 — English-Belarusian for beginners. Middletown (De), 2018. 103 p.

[87] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 9 (57). 1998.

[88] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 9 (57). 1998; № 8 (91). 2001; № 5 (112). 2003; № 118. 2004.

[89] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 5 (112). 2003; Беларус. Нью-Ёрк. 2008. № 549.



Другое сусветнае вайны, як, прыкладам, Васіль Пунтус (калі выйшаў на пенсію, жыў у Індыяне) — дамогся абвяшчэння губернатарам 25 сакавіка Беларускім Днём. Вядомы быў таксама сваёй грамадскай і навуковай дзейнасцю прафесар Іван Любачка, аўтар кнігі пра Беларусь савецкага часу[90], які здабыў ступень доктара ў Індыянскім універсітэце, а выкладаў гісторыю ў Мурайскім універсітэце (штат Кентукі). Між іншага, Індыянскі ўніверсітэт у Блумінгтане мае выдатную беларускую кніжную калекцыю. Доўгі час там працаваў бібліятэкарам беларускі дзеяч Палікарп Манькоў.



Палікарп Манькоў

***Каларада.*** Адбываліся выставы з беларускім удзелам у сталіцы штата Дэнверы. Раней у Каларада дзейнымі былі сем'і Шыбутаў, Калошаў. Тут актыўная была арганізацыя «Паняволеныя народы» (*Captive Nations*), якая ладзіла парады штогод у ліпені на Тыдзень паняволеных народаў. Беларусы традыцыйна бралі ўдзел у гэтых шэсцях. У 1962 годзе ў Дэнверы выйшла кніга *«Flags of the Captive Nations»*, дзе бел-чырвона-белы сцяг быў сярод іншых, а беларусы прысутнічалі на прэзентацыі гэтага выдання. Таксама варта згадаць, што ў горадзе Літлтан (*Littleton*) у Каларада дзейнічала выдавецтва *«Libraries Unlimited»*, у якім было выдадзена некалькі кніг з беларускімі матэрыяламі.

Цяпер месца старых займаюць новыя — сям'я Косці Хадыкі. Як інфармуе нас Канстанцін, новых беларускіх эмігрантаў у Дэнверы каля 15–20 сем'яў. Беларускія кантакты-сляды дзейнасці заўважаюцца, адбываюцца яны і з амерыканскай ініцыятывы. Так, у траўні 2000 года група рэспубліканскіх дзеячаў ЗША запрасіла ў Дэнвер прадстаўнікоў беларускай апазіцыі: Паўла Жука, Змітра Бандарэнку. Беларускія палітыкі выступалі ва ўніверсітэце, у выдавецтве «Дэнвер-прэс» і давалі інтэрв'ю газеце *«Rocky Mountaun News»* 21 траўня 2000 года[91]. У 2002 годзе ў Дэнверы адбывалася канферэнцыя *AAASS*, дзе была арганізавана беларуская панэль і з дакладамі выступілі д-р Зіна Гімпелевіч, д-р Генадзь Сагановіч, д-р Вітаўт Кіпель, сп-ня Івонка Сурвілла і іншыя[92].

***Каліфорнія.*** Гэты штат, а найперш горад Сан-Францыска, памятны беларусам тым, што там стваралася ў 1945 годзе ААН і БССР была адной з дзяржаў-заснавальніц. Другое, што важна для беларускай прысутнасці ў штаце Каліфорнія, — універсітэт у горадзе Бэрклі, дзе ёсць значныя беларускія кнігазборы. У Стэнфардскім універсітэце таксама ёсць добрая беларуская калекцыя, а ў Гувераўскім інстытуце захоўваецца шмат дакументаў, звязаных з Беларуссю, у тым ліку і дакументы пра дзейнасць Арганізацыі амерыканскай дапамогі ў 1920-я гады, на падставе якіх былі напісаныя працы «АРА ў Беларусі» Алесяй Кіпель і Аляксандрам Лукашуком.

Сяліцца ў штаце беларусы пачалі даўнавата: д-р Мікалай Судзілоўскі-Русель жыў тут у XIX стагоддзі. Найбольш беларусаў пасялілася ў Каліфорніі пасля Другое сусветнае вайны, быў створаны гуртох БАЗА. У горадзе Торанс запачаткаваўся часопіс *«Belarusian Review»*. А найбольш дзейныя ў штаце былі сем'і

[90] Lubachko I. Bielorussia under Soviet Rule, 1917–1957. University Press of Kentacky, 1972.

[91] Belarusian Review. Praha. Summer 2000.

[92] Кіпель, В. Жыць і дзеіць. С. 335.



Сям'я Вініцкіх: Слава, Кацярына і сын — афіцэр марской пяхоты ЗША. Каліфорнія. 2016 г.

Арцюхоў, Вайцяхоўскіх, Станкевічаў, Вініцкіх, а пазней — Віктара Сянкевіча. У 1990-я гады ў горадзе Сакрамента пачала дзеіць сям'я Макаедаў, пра якую напісала ў сваёй кнізе Ганна Сурмач[93]. Сёння ў Каліфорніі, у тым ліку і ў знакамітай Сіліконавай даліне, працуе багата новых беларускіх эмігрантаў, спецыялістаў у галіне інфармацыйных тэхналогій.

***Канектыкут.*** Беларусы жывуць у гарадах Нью-Лондан, Хартфард, Стэмфард. У канцы 1950 — пачатку 1960-х гадоў тут быў дзейны аддзел БАЗА, які на некаторы час адноўлены ў 2000-я. Ладзіліся выставы. Штогод губернатар абвяшчаў 25 сакавіка Беларускім днём штата. Дзейныя былі беларускія сем'і Кажаноў, Протасаў, Грамыкаў, Галякоў.

***Канзас.*** Як згадвалася раней, беларуская прысутнасць у Канзас-Сіці заўважаецца ў мове некаторых старых пасяленцаў. У горадзе ладзіліся выставы, у якіх бралі ўдзел і беларусы. Цягам апошніх дзесяцігоддзяў прадмет «беларусіка» стаў часткаю курса славістыкі ва ўніверсітэце ў горадзе Лоўрэнс. А ў Вінфілдзе пры Паўднёва-Заходнім каледжы ў 2008–2017 гадах дзейнічаў Цэнтр беларускіх даследаванняў.

***Луізіяна.*** У найвялікшым горадзе штата Нью-Арлеане доўгі час жыў Арнольд Акановіч, сын вядомых грамадскіх дзеячаў Аляксандра і Ганны Акановічаў. Сп-ня Ганна (сястра Сцяпана Някрашэвіча) была дзейным сябрам БАЗА, часта адведвала сына ў Луізіяне. Арнольд Акановіч, метэаролаг паводле прафесіі, працаваў ва ўрадавых структурах, часта ўдзельнічаў у гарадскіх мерапрыемствах нацыянальных меншасцяў, ладзіў выставы беларускай традыцыйнай культуры.

***Масачусэтс.*** У найбольшым горадзе штата — Бостане — нашыя землякі сустракаюцца ў праваслаўнай царкве Св. Тройцы на *165 Park Drive* (амерыканская

[93] Сурмач, Г. Беларусь бязь межаў. С. 215.



юрысдыкцыя, а раней была расійская). Гэтая царква была пабудавана ў 1910 годзе пераважна эмігрантамі з Віленшчыны, Меншчыны і Гарадзеншчыны. Пасля Другой сусветнай вайны доўгі час настаяцелем царквы быў айцец Аўген Сурвіла — беларус, колішні святар у беларускім лагеры Ды-Пі ў Ватэнштэце (Нямеччына).

У Бостане ж таксама часта ладзіліся выставы этнічных умельцаў, у якіх бралі ўдзел і беларусы. Удзельнічалі беларусы і ў канферэнцыях, ладжаных Гарвардскім універсітэтам. У тым самым універсітэце месцілася Паўночнаамерыканская асацыяцыя беларускіх даследаванняў, якую доўгі час узначальваў праф. Курт Вулхаўзер.

Ад 1994 года і да сёння беларусы ўдзельнічаюць у Бостанскіх міжнародных фестывалях, якія наведваюць дзясяткі тысяч чалавек[94]. Вялікую цікавасць выклікаюць таксама выставы беларускіх мастакоў, канцэрты беларускіх выканаўцаў (прыкладам, Віктора Шалкевіча[95]).

***Мінесота.*** Як сведчаць дакументы, беларусы пачалі сяліцца ў гэтым штаце ад канца XIX стагоддзя, бо тут былі добрыя ўмовы для працаўладкавання імігрантаў — актыўна развівалася прамысловасць, якая патрабавала працоўных рук. Аднак вылучыць беларускіх перасяленцаў з агульнай грамады славянаў праваслаўнага веравызнання надзвычай складана. Раннія імігранты канцэнтраваліся найбольш у горадзе Мінеапаліс пры царкве Св. Марыі (карпатароскай юрысдыкцыі). На пачатку XXI стагоддзя ў гэтай царкве пэўны час працаваў беларускі святар айцец Ігар Лабацэвіч.



Мітрафан Рэпкаў-Смаршчок

Пасля Другой сусветнай вайны вайны ў шпіталі горада Мантысэла працаваў лекар, паэт і грамадскі дзеяч д-р Мітрафан Рэпкаў-Смаршчок. Ён займаў розныя пасады, удзельнічаў у разбудове шпіталя, кіраваў домам для старых. Таксама быў прафесарам Універсітэта Мінесоты, займаўся даследаваннем хваробаў сэрца. У 1950-я гады ў тым жа ўніверсітэце загадчыкам кафедры матэматыкі быў беларускі яўрэй з Ліды Стэфан Варшаўскі[96].

У вядомай клініцы Мэё (*Mayo Clinic*) у горадзе Рочэстэр (штат Мінесота) сёння таксама працуе амерыканска беларускага паходжання д-р Галіна Варанцова, якая на пачатку XXI стагоддзя актыўна ўдзельнічала ў этнічных фестывалях штата, ладзіла на іх беларускія стэнды[97]. Дзесяцігоддзямі раней фестывальнай дзейнасцю займалася таксама Раіса Станкевіч, якая здабывала вышэйшую асвету ў каледжы св. Тэрэзы ў Вайноне (штат Мінесота).

Прадстаўнікі апошняй хвалі эміграцыі з Беларусі час ад часу робяць спробы аб'яднання і арганізацыі тых ці іншых мерапрыемстваў, пра што з'яўляюцца паведамленні на старонках газеты «Беларус»[98].

[94] Беларус. Нью-Ёрк. 1994. № 417.
[95] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. Жнівень 2001.
[96] https://budzma.by/news/matematyk-z-lidy.html.
[97] Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 518.
[98] Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 518, 521.

Варта таксама адзначыць, што у горадзе Мінеапаліс пры ўніверсітэце штата Мінесота дзейнічае Цэнтр даследаванняў гісторыі іміграцыі (*Immigration History Research Center, IHRC*), дзе ёсць нямала беларускіх архіўных матэрыялаў[99].

***Мічыган.*** У гэтым штаце беларускія імігранты сталі сяліцца ад сярэдзіны XIX стагоддзя. Па клімаце ён падобны да Беларусі, у прамысловасці (дрэваапрацоўчай, сельскагаспадарчай і іншай) патрабаваліся працоўныя рукі, і тут было багата ўсходне- і паўночнаеўрапейскіх перасяленцаў: фінаў, шведаў, карпатаросаў і іншых. Перыёдыкі сведчаць, што шмат якія цэрквы, у тым ліку ў гарадах Эльбіён, Флінт, Дэтройт засноўвалі імігранты з Віленскай, Менскай і Гродзенскай губерняў. Беларусы аб'ядноўваліся ў зямляцтвы. На пачатку XX стагоддзя ў Дэтройце былі значныя Гродзенскае і Менскае зямляцтвы[100]. Багата выхадцаў з беларускіх земляў было сярод імігрантаў у горадзе Грэнд-Рэпідс. У 1914 годзе тут убачыла свет брашура *«Устав товарищества Белоруссов и Малоруссов в Гранд Рапидс, Мич.»* (12 старонак), якая ўяўляла з сябе статут беларуска-ўкраінскай страхавой кампаніі, якая магла мець некалькі соцень сябраў.

На самым пачатку 1920-х у Грэнд-Рэпідсе жылі і працавалі Антон і Янка Чарапукі. У лістах у Еўропу Янка Чарапук пісаў пра жыццё ў ЗША[101]. Ён згрупаваў вакол сябе землякоў, але стварыць арганізацыю было складана праз нізкую нацыянальную самасвядомасць суродзічаў. На некаторы час у Грэнд-Рэпідс прыязджаў і Язэп Варонка, аднак беларускую арганізацыю дзеячы змаглі заснаваць толькі ў Чыкага ў 1923 годзе, а на ўстаноўчым з'ездзе быў прадстаўнік ад штата Мічыган.

У 1930-я ў Дэтройце працаваў рэстаран «Мінск», але быў гэта час Вялікай дэпрэсіі, і шмат беларусаў перабраліся ў іншыя штаты, у тым ліку і ў горад Чыкага (Ілінойс)[102]. 25–26 красавіка 1942 года ў Дэтройце адбыўся Першы Амерыканскі славянскі кангрэс, на якім ад імя Беларускай нацыянальнай Рады (Чыкага) выступаў айцец Ян Тарасевіч, а ў амерыканска-беларускай дэлегацыі былі прадстаўнікі некалькіх штатаў, у тым ліку і Мічыгана.


Юрка Мазура

Трывалыя беларускія нацыянальныя арганізацыі ў штаце Мічыган (найперш у Дэтройце) пачалі стварацца пасля Другой сусветнай вайны, калі ў ЗША прыбыла новая хваля імігрантаў. У 1950–1951 гадах быў заснаваны Дэтройцкі аддзел Беларуска-амерыканскага задзіночання. З аднаго з першых яго пратаколаў вынікае, што ў аддзел уваходзілі не толькі прадстаўнікі паваеннай хвалі эміграцыі, але і старыя імігранты[103]. Сярод арганізатараў і лідараў беларускай грамады ў Мічыгане былі Юры і Таццяна Мазуры, Юры і Мікола Прускія, Васіль і Таццяна Плескачы, Язэп і Барбара Сажычы, пазней далучыліся Уладзімір і Людміла Бакуновічы, Мікола Арцюх, Мікола Кумейша, Святаслаў Шабовіч, Каця Мазура.

Акрамя вельмі актыўнага аддзела БАЗА ў Дэтройце, у штаце таксама дзейнічалі гурткі БАЗА ў гарадах Флінт, Грэнд-Рэпідс, Лансінг. Арганізацыя наладзіла

99 Лабацэвіч, І. Беларускія архівы ў штаце Мінэсота // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 244–271.

100 Гутарка аўтара з Іванам Бунчуком. Флінт, 1968.

101 Архівы БНР. Т. 1. Кн. 2. С. 1333–1335, 1351–1352 (№ 3277, 3322).

102 Гутарка аўтара з Макарам Аблажэем. Чыкага, 1964.

103 Архіў Дэтройцкага аддзела БАЗА. Цяпер захоўваецца ў БДАМЛМ.



супрацоўніцтва з Інтэрнацыянальным інстытутам у Дэтройце, у памяшканнях якога ладзіла сходы, святкаванні, працавала беларуская дапаўняльная школка. У 1950-я гады ў Дэтройце дзейнічала штотыднёвая беларуская радыёпраграма, кіраўніком якой быў Павел Кулеш. Ад 1959 года мясцовыя беларусы сталі актыўна ўдзельнічаць у мерапрыемствах Тыдняў паняволеных народаў, пазней — у фестывалях Свабоды (на Дзень незалежнасці ЗША)[104]. Добра вядомыя былі ў беларускіх асяродках ЗША выступы Дэтройцкага хору пад кіраўніцтвам Юркі Мазуры. Таксама ў горадзе з ініцыятывы Васіля Плескача быў заснаваны першы беларускі рэспубліканскі клуб.

У 1968 годзе ў Дэтройце адбывалася 8-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, прысвечаная 50-м угодкам БНР. Мэр горада Джэром Кованаг адзначыў падзею адмысловай адозвай.

Паколькі зусім недалёка ад Мічыгана знаходзіцца Канада, мясцовыя беларусы актыўна супрацоўнічалі з Згуртаваннем беларусаў Канады, а ўладыка БАПЦ Мікалай (Мацукевіч) з Таронта апекаваўся беларускай грамадой і парафіяй у Дэтройце. Ад пачатку 1970-х гадоў праваслаўныя беларусы Дэтройта мелі ўласную царкву Святога Духа.

Важнай адзнакай беларускай дзейнасці ў Мічыгане была выдавецкая справа. Мікола Прускі заснаваў суполку «Беларускае выдавецтва», набыў друкарскае абсталяванне і займаўся кнігадрукам. Шмат беларускіх кніг было выдадзена з пазнакай Дэтройта або Грэнд-Рэпідса, прыкладам «Мёртвым не баліць» Васіля Быкава (1966), «Ева[н]гельле паводле Мацьвея й Марка» (1997) і інш., цэлы шэраг выданняў БІНіМа пабачыў свет у друкарні Міколы Прускага. У Мічыгане выходзілі перыёдыкі «Сьвет» (1954–1965), «Беларускі Сьвет» (1963–1991), «Беларускі Дайджэст» (1993–2006), а таксама друкі арганізацыі моладзі, уключна з вялікай колькасцю паштовак.



Абвестка пра сумесны пікнік беларусаў з Дэтройту і канадскага Лондану. 1964 г.

Дэтройцкія беларусы выдатна супрацоўнічалі з БІНіМам: колькі разоў сябры арганізацыі з Нью-Ёрка выступалі з дакладамі ў Дэтройце. Прыкладам, у 1975 годзе БІНіМ браў удзел у канферэнцыі «Нацыяналізм у СССР», ладжанай у Дэтройцкім універсітэце (выступалі з дакладамі д-ры Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік, Антон Адамовіч). Ва ўніверсітэце ў горадзе Каламезу ў канферэнцыях, прысвечаных сярэднявечнай літаратуры, брала ўдзел Зора Кіпель. У сваю чаргу, сярод беларусаў Мічыгана былі сябры БІНіМа: д-р Язэп Сажыч, спсп. Мікола Арцюх, Мікола Прускі, д-р Уладзімір Ванцэвіч. Апошні доўгі час працаваў ва ўніверсітэце ў Іст-Лансінгу. Варта адзначыць і тое, што ва ўніверсітэце горада

104 Беларус. Нью-Ёрк. 1969. № 147–148.



Язэп Сажыч

Эн Арбар вучыліся дзеці беларусаў Леанард Норык, Марыя Пруская, абараняла дактарат Марыя-Паўла Сурвілла.

У горадзе Бэнтан Харбар у Мічыгане доўгі час ад канца 1960-х да сваёй смерці ў 1976 годзе жыў прэзідэнт БЦР Радаслаў Астроўскі. У Іст-Лансінгу правёў апошнія гады жыцця беларускі палітычны і вайсковы дзеяч Мікола Дзямідаў.

Найбольш актыўнае беларускае жыццё ў Мічыгане прыпала на 1950–1970-я гады. У сувязі з пагаршэннe эканамічнага становішча ў Дэтройце ў 1980-я багата беларусаў выехалі з горада, што справакавала паступовы заняпад дзейнасці нацыянальных арганізацый. У 1999 годзе быў прададзены будынак царквы. У 1990-я беларуская актыўнасць захавалася пераважна ў правінцыі і была звязана найперш з сям'ёй Міколы і Веры Прускіх, якія дзейна займаліся дапамогай ахвярам Чарнобыльскай катастрофы, арганізоўвалі прыезд беларускіх дзяцей у Мічыган, збіралі і адпраўлялі гуманітарную дапамогу ў Беларусь[105].

***Мэйн.*** У штаце жыве нямала беларусаў — старых і новых імігрантаў, якія працуюць пераважна на лесапромыслах, у электроннай прамысловасці, марской гаспадарцы, а таксама займаюцца гадоўляю курэй (спецыялізацыя штата). Некалі сям'я Паўла Куляша, прадстаўніка БАЗА ў штаце Мэйн, была адказнай за арганізацыю выставаў, удзел у канферэнцыях ды пашырала беларускі друк. Часам у штатным універсітэце ў горадзе Агаста адбываліся выставы з беларускім удзелам. Беларусы ў штаце жывуць і цяпер, але калі і дзеюць, то без рэкламы.

***Мэрыленд.*** Беларусы пачалі сяліцца ў штаце ад пачатку XIX стагоддзя. Менавіта тут дзейнічаў айцец Францішак Дзеружынскі і былыя ўдзельнікі паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гадоў. Горад Балтымар — вялікі партовы і прамысловы цэнтр, пасля Нью-Ёрка ён прыняў найбольш караблёў з беларускімі імігрантамі, якіх прыцягвалі буйныя прадпрыемствы сталёвае вытворчасці, цукровыя заводы *Domino*. Наколькі вядома, менавіта ў Балтымары з'явіўся першы беларускі гурток (1910–1912? гг.), створаны д-рам Аляксандрам Сянкевічам. Пра дзейнасць гуртка распавядаў яго былы ўдзельнік спадар Сакадынскі. У 1908–1912 гадах ён жыў і працаваў у Балтымары і належыў да згаданага гуртка. Сакадынскі сведчыў, што аб'яднаныя ў гурток землякі і тады, і пазней збіраліся разам, успаміналі «край», некаторыя атрымоўвалі з Вільні беларускія газеты, дзяліліся палітычнымі навінамі.

Пасля Другой сусветнай вайны ў Балтымар сталі прыязджаць беларусы з паваеннай хвалі эміграцыі, большасць якіх уладкоўвалася на працу на цукровы завод ці ў дробную прамысловасць. У 1950-я гады сувязь паміж землякамі сталі наладжваць новы імігрант Іван Канарчук ды ягоны малодшы брат Лёва. Яны былі стараверы, але наведвалі і рускую праваслаўную царкву Уваскрасення, раздавалі суродзічам газеты «Бацькаўшчына» і «Беларус». Засноўваць арганізацыю Канарчукі не спяшаліся, але збіралі землякоў часам у сваёй хаце або ў парку.

[105] Беларус. Нью-Ёрк. 1991. № 382; Пруская, В. Успаміны // Запісы БІНіМ. № 40. Нью-Ёрк — Менск, 2018. С. 350–355.





Васіль Мельяновіч

Недзе ад 1970-х каардынатарамі беларускае дзейнасці ў горадзе і штаце былі Васіль і Далорэс Мельяновічы, Лявон Кавалёў. Апошні ад імя беларусаў выступаў на сходах прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў Балтымарскай акругі, канферэнцыях Мэрылендскага ўніверсітэта, мерапрыемствах кшталту «Землякі ў Доме польскім» і г. д. Васіль і Далорэс Мельяновічы жылі ў мястэчку Оўінгс Мілс па-за Балтымарам, аднак актыўна ўдзельнічалі ў беларускім жыцці горада. Васіль наладзіў кантакты з акруговымі этнічнымі арганізацыямі. У горадзе дзейнічала Этнічная рада, якая пачала ладзіць фестывалі і іншыя мерапрыемствы. Беларусы заўсёды бралі ўдзел у выставах і навуковых канферэнцыях.

У Балтымары беларусы час ад часу адзначалі 25 Сакавіка. А ў 1976 годзе ў вядомай мясцовай газеце *«The Baltimore Sun»* амерыканскі журналіст Эрл Арнет (*Earl Arnett*) апублікаваў артыкул «Мала хто ведае, што сёння беларускі Дзень Незалежнасці» (*«Few know it is Byelorussian Independence Day»*).

У Балтымары знаходзіцца сусветна вядомы ўніверсітэт імя Джона Гопкінса, дзе багата спецыяльнасцяў, адна з якіх — «Школа вышэйшых міжнародных даследаванняў» (*англ. SAIS*). Яна арганізоўвае семінары на беларускія тэмы. Прыкладам, адзін з такіх семінараў адбыўся 18 лістапада 2010 года і прыцягнуў увагу шырокіх палітычных колаў Амерыкі, бо з дакладамі выступалі знаныя палітолагі Орэст Дзейчакоўскі, Тарас Кузё і Дэвід Крэмэр. Прысутнымі былі таксама прадстаўнікі БАЗА[106].

***Нью-Гэмпшыр.*** Беларусы бралі ўдзел у розных мясцовых імпрэзах праз Беларуска-амерыканскае задзіночанне.

***Нью-Джэрсі.*** Як было зазначана, у штаце дзейны аддзел БАЗА, але ў гарадах Трэнтане (сталіца штата), Лорэнсвілі, Берліне, Чэры-Хіл дзейныя таксама паасобныя беларускія сем'і. Гэтая частка штата блізкая да Філадэльфіі, і беларусы з Нью-Джэрсі часта сустракаюцца на сяброўскія спатканні з тамтэйшымі суродзічамі.

Ньюарк — найбольшы горад штата (па-над 500 тысяч жыхароў). Тут знаходзіцца частка ўніверсітэта Ратгерс, дзе ў бібліятэцы часам ладзяцца выставы кніг і перыёдыкаў, у тым ліку беларускіх (Васіля Быкава, Святланы Алексіевіч, Алеся Адамовіча і інш.). У адзначэнні 200-га юбілея ЗША на міжнацыянальным канцэрце выступаў беларускі ансамбль «Віхор», а ў 2003 годзе на выставе, ладжанай мясцовым краязнаўчым музеем, былі прадстаўлены беларускія лялькі.

Таксама трэба сказаць колькі слоў пра горад Пасейк (15 км ад Нью-Ёрка). Ён здаўна прыцягваў эмігрантаў сваёй развітай прамысловасцю. Раней асноўнымі жыхарамі былі яўрэі, немцы, ірландцы, мадзяры і вельмі шмат славянаў: палякі, украінцы, русіны, беларусы. У пасляваенны час у Пасейку было пару сотняў беларусаў, у тым ліку тут жылі дзеячы: Эмануіл Ясюк, Аляксандр Русак, а. Мікалай Лапіцкі, Яўхім Кіпель, Сымон Жамойда, Іван Бендзераў і іншыя. Была школка, ладзіліся ранішнікі, вечарыны, сходы.

У год адзначэння стагоддзя Пасейка (1873–1973) народжаная ў ЗША дачка беларусаў Вера Божка была абраная «Міс Пасейк». У горадзе выступаў беларускі

[106] Беларус. Нью-Ёрк. 2010. № 575.

хор «Каліна». Часам мясцовы друк пісаў пра 25 Сакавіка. Таксама беларуская дэлегацыя брала ўдзел у адзначэнні ў горадзе юбілею Кірылы і Мефодзія.

Трэба падкрэсліць, што ў Пасейку былі беларускія бізнесы: «Тры Іваны» — заправачная станцыя і майстэрня, «*IGWIS*» — фабрычка алюміневых вокнаў, «Электронныя навінкі» — крама электронна-электрычных прыладаў, «Прыгожыя кветкі» — крама, уласнікамі якой былі Аляксандр Русак і ягоная жонка, «Абслуга вяселляў» — фірма М. і К. Вішнеўскіх. Таксама Лідзія Янушкевіч і Сымон Жамойда былі лідарамі і кіраўнікамі хораў у некалькіх праваслаўных цэрквах горада. Блізкі да беларусаў быў таксама ўласнік водаправоднага бізнесу «Пружанскі і К», яўрэй з Пружанаў. Ён ведаў пра сваё паходжанне з Беларусі, наведваў беларускія сходы, меў антысавецкія погляды, што лучыла яго з паваеннай эміграцыяй.


ANNIVERSARY OF THE

DECLARATION OF BYELORUSSIAN INDEPENDENCE

Праграма святкавання ўгодкаў Незалежнасці БНР у Нью-Брансвіку (Нью-Джэрсі). 1989 г.

Горад Парамус у акрузе Берген таксама мае беларускія сувязі. У самой акрузе ў горадзе Ліндхурст беларусы селяцца ад 1898 года. У Парамусе ў 1983 годзе на адзначэнні 300-годдзя акругі выступаў беларускі гурт «Васілёк». Цягам 1993–2003 гадоў у горадзе арганізоўвалі выставы мастацкай вышыўкі і этнаграфіі. У міжнацыянальным камітэце горада прадстаўнікамі ад беларусаў былі Валянціна Шудзейка, Зора Кіпель, Гэля Трафімчук.

З іншых гарадоў з беларускай прысутнасцю ў Нью-Джэрсі трэба адзначыць Патэрсан — адзін з найстарэйшых гарадоў штата з развітай тэкстыльнай (шаўковай), дрэваапрацоўчай, хімічнай прамысловасцю. Беларускія групы дзейнічалі тут яшчэ ў 1920-я гады, а пасля Другой сусветнай вайны ўтварылася група прыхільнікаў БККА на чале з Яраславам Калюцікам, Іванам Грушавым. У горадзе была вядомая крама мэблі «*Boagard*», уласнікам якой быў яўрэй з Бабруйска, што давай працу землякам — новым імігрантам.

Важнае значэнне для пашырэння беларушчыны ў штаце Нью-Джэрсі мела тое, што пры канцы 1970-х гадоў старшынёй Этнічнай рады тут быў беларус д-р Вітаўт Кіпель.

***Нью-Ёрк.*** Відавочна, што горад і штат Нью-Ёрк ў гісторыі пасялення беларусаў у ЗША займаюць асаблівае месца, найперш дзеля таго, што праз нью-ёркскі порт і выспу Эліс-Айленд прайшла абсалютная большасць беларускіх імігрантаў. Вышэй ужо зазначалася, што першая масавая беларуская арганізацыя паўстала ў Чыкага, аднак нягледзячы на гэта, беларуска-амерыканскі палітычны рух пачаў развівацца менавіта ў Нью-Ёрку і кіравалі ім яшчэ дабэнээраўскія імігранты Сцяпан Бубешка, М. Крывулька і іншыя. У Нью-Ёрку быў заснаваны Беларускі нацыянальны камітэт і Прэс-бюро ў 1921 годзе, і дзейнасць беларусаў у гэтым мегаполісе не спынялася ад таго часу.



Даследчык беларускай іміграцыі ў Нью-Ёрку мае добрую базу крыніцаў для даследаванняў у выглядзе артыкулаў у энцыклапедыях[107], вялікай калекцыі беларускага эміграцыйнага друку ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, а таксама дзейных беларускіх арганізацый. У 2019 годзе ўбачыла свет кніга Ганны Сурмач «Беларускі Нью-Ёрк» — спадарожнік па горадзе і блізкіх ваколіцах, мясцінах важных для беларусаў[108].




Паштоўка «Беларусы Нью-Ёрку»

Варта адзначыць, што штат Нью-Ёрк адзначаецца шырокай беларускай дзейнасцю. Па-за горадам Нью-Ёрк беларускія мерапрыемствы адбываліся ў Бікане, Рочэстэры, Бінгэмптане, Олбані, Ёнкерсе, Бафала, Кінгстане, Сыракузах, Троі, Крумвілі й на Лонг-Айлендзе. У згаданых гарадах абвяшчаўся дзень 25 Сакавіка, праўда, нерэгулярна. У Троі, дзе знаходзіцца вядомы політэхнічны інстытут, выкладаў рускую мову і літаратуру прафесар Уладзімір Сядура, які арганізаваў пры навучальнай установе Беларускі даследчы цэнтр. У Троі друкаваліся некаторыя беларускія кнігі, ладзіліся выставы, канферэнцыі з беларусаведнымі дакладамі. У іншым горадзе штата Нью-Ёрк — Ітака — у Карнельскім універсітэце выкладае літаратуру беларуская пісьменніца Вальжына Морт.

У горадзе Бінгэмптан — вядомым індустрыяльным цэнтры — ладзіліся выставы тэкстылю, дзе былі прадстаўленыя ў тым ліку і слуцкія паясы. У горадзе Рочэстэр жылі і пахаваныя паэтка Наталля Арсеннева і грамадскі дзеяч Франц Кушаль.

Асаблівае месца ў штаце Нью-Ёрк — Глен Спэй, дзе знаходзіўся беларускі адпачынкавы цэнтр «Белэр-Менск», у якім ладзіліся летнікі для дзяцей, выставы, сходы, канцэрты, сустрэчы з беларусамі з розных краінаў. Каля гарадка Крумвіль, каля 150 км на поўнач ад горада Нью-Ёрк, цягам пэўнага часу існавала іншая адпачынкавая гаспадарка — «Мой родны кут», прыватная ўласнасць Паўла і Юлі Андрусышын. Гэты адпачынкавы цэнтр, хоць і меншы за «Белэр-Менск», быў утульным месцам сустрэчаў для землякоў. Аднак у сувязі са смерцю ўласнікаў ён спыніў сваё існаванне.

***Пенсільванія.*** У гэтым штаце вельмі шмат беларусаў, якіх ад Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі прадстаўляў Мікола Грэбень. БАЗА брала ўдзел у выставах і фестывалях штатнага ўніверсітэта ў розных гарадах. За мінулыя гады беларусы ўдзельнічалі ў канцэртах і выставах у гарадах Філадэльфія, Скрэнтан, Гарысберг, Пітсбург і Каледж-Сіці. У горадзе Далас гэтага штата дзейная беларуская сям'я Галіны і Анатоля Кучураў, якія часта бяруць удзел або ладзяць выставы беларускіх вырабаў у рэгіянальных фестывалях.

---

[107] The Encyclopedia of New York City. 1995, 2010; The Encyclopedia of New York State. 2005.

[108] Рэцэнзію на кнігу гл.: Запісы БІНіМ. № 41. Нью-Ёрк — Менск, 2019. С. 725–730.



Гурток БАЗА ў Філадэльфіі. 2016 г.

Асобна трэба сказаць пра горад Філадэльфію. Як вядома, амерыканская дзяржаўнасць была афармленая менавіта тут. Філадэльфія была сталіцай ЗША. Першы вядомы беларускі эмігрант — а. Францішак Дзеружынскі — высадзіўся ў гэтым горадзе ў 1821 годзе. У 1920-я гады тут былі актыўныя прадстаўнікі «Грамады» для дапамогі Заходняй Беларусі. У 1923 годзе Язэп Варонка прыслаў прывітанне Другому кангрэсу ўкраінцаў Амерыкі, што праводзіўся ў гэтым горадзе. У 1950–1960-я гады ў Філадэльфіі адзначалі 25 Сакавіка разам БАЗА і БККА, а актывістамі былі д-р Станіслаў Грынкевіч, Кацярына Грынкевіч, Мікола Храпко, Васіль Любімаў. У 1961 годзе на святкаванне Дня Незалежнасці ў Філадэльфію прыехалі беларусы з Нью-Джэрсі і Дэлавэра. У 1992 годзе ва ўніверсітэце Віланова (Villanova) адбывалася вялікая беларуская мастацкая выстава, арганізаваная У. Адашкевічам. Выдатная навіна — сп-ні Наталля Ганчарук і Алена Літоўка ладзяць гістарычныя туры па горадзе, адзначаючы мясціны, важныя з беларускага гледзішча.

А вось як падае беларускі друк інфармацыю пра культурна-грамадскую дзейнасць беларускай грамады ў Філадэльфіі ў 2019 годзе:

*Дзве сотні амерыканскіх беларусаў з'ехаліся з розных штатаў у Філадэльфію, каб адзначыць Дзень абвяшчэння незалежнасці. Мерапрыемства было арганізавана сем'ямі Акулавых і Кудзінавых пры падтрымцы фірмы «Rullex» і суполкі «Беларусы ЗША. Разам лягчэй» у прыгожым парку Таманенд.*

*Госці самага рознага ўзросту мелі цудоўную магчымасць узяць удзел у спаборніцтвах па валейболе і міні-футболе, пачаставацца адмыслова прыгатаванымі стравамі, патанчыць і нават праверыць свой узровень валодання беларускай мовай. Маленькія беларусы радасна гойсалі на батуце, пакуль іх бацькі вялі душэўныя размовы з землякамі падчас пікніка.*



*Кульмінацыяй мерапрыемства стаў пранікнёны выступ гурта «Kazinak», музыканты якога выканалі кавер-версіі папулярных песен і прэзентавалі аўдыторыі свае новыя спевы на беларускай і англійскай мовах*[109].



Выступае гурт «Kazinak». Філадэльфія, 2019 г.
*Здымак з сайта novychas.by*

***Тэхас.*** У гэтым штаце беларусы заявілі пра сваю прысутнасць пры канцы 1940-х — на пачатку 1950-х гадоў. Шмат сем'яў з хвалі эміграцыі пасля Другое сусветнае вайны працавалі на сельскагаспадарчых плантацыях. У БІНіМе захаваліся лісты ад сем'яў Дубягаў, Сакалоўскіх і некаторых іншых. У 1960–1970-я гады ў некаторых гарадах штата як Х'юстан, Корпус Крысці і інш. Адбываліся розныя навуковыя канферэнцыі, у якіх бралі ўдзел беларусы. Гэтак д-р Вольга Арэхва чытала даклад у Х'юстане, д-р Аўген Вярбіцкі ўдзельнічаў у працы Амерыканскага хімічнага таварыства ў Амарыльё, сп-ня Дора Рак выстаўляла беларускія экспанаты на выставе ў Х'юстане.

Пра тое, як выглядае сённяшняя беларуская грамада ў Осціне (штат Тэхас) напісала ў сваім лісце сп-ня Гражына Залеўская:

*Беларусы часцей за ўсё трапляюць у Осцін па адной з трох сцежак: вучоба або праца ў University of Texas, дачыненні да IT-індустрыі, пераезд з іншага, больш халоднага і дарагога горада ЗША.*

*Наша маленькая дыяспара не распешчана візітамі вядомых суайчыннікаў, канцэртамі беларускіх гуртоў, роднымі прадуктамі на паліцах славянскіх крамаў, але мы рады проста дапамагаць адзін аднаму і атрымліваць задавальненне ад нячастых, але заўжды цёплых сустрэч. Кожны год мы праводзім 1–2 пікнікі ў гарадскіх парках, куды запрашаецца ўся анлайн-суполка — прыемна бачыць знаёмыя твары людзей, якія пастаянна падтрымліваюць гэтыя ініцыятывы, роўна як і знаёміцца з суайчыннікамі, якія наведваюць нас упершыню.*

*За 7+ год гісторыі суполкі самай значнай масавай падзеяй стаўся Першы Беларуска-Тэхаскі Фэст у сакавіку 2018, на які сабралася больш за 100 чалавек. Арганізацыя заняла месяцы, але эмацыйная аддача цалка акупіла гэтыя выдаткі часу і сіл. Беларусы — дзіўныя людзі —*



Беларусы Тэхаса ў Осціне. 2018 г.

[109] https://novychas.by/zamezza/svjata-nezaleznasci-u-horadze-braterskaj-ljubovi.

*спачатку іх цяжка сабраць, а потым немагчыма разагнаць, асабліва калі на стале дранікі, а ў дынаміку — Вольскі.*

*Беларусаў у Тэхасе няшмат, і мы абсалютна разнамасныя па ўзросце, густах і інтарэсах, але мы — людзі з агульнай радзімай, якім пашанцавала стаць апорай адзін аднаму ў замежжы. Хай наша дыяспара расце здаровай і моцнай.*

***Фларыда.*** У штаце жыло шмат беларусаў-пенсіянераў: сем'і Брылеўскіх, Пятроўскіх, Трусевічаў, Шчорсаў. Дзеілі колькі арганізацый БККА, Беларускі харытатыўна-адукацыйны фонд. Дзякуючы актыўнасці Лангіны Брылеўскай беларусы бралі ўдзел у розных палітычных і культурных мерапрыемствах у гарадах Маямі, Галівуд. Д-р Лявон Трусевіч рэпрэзентаваў БАЗА на заходнім узбярэжжы штата.

Ва ўніверсітэтах Фларыды часта адбываліся навуковыя канферэнцыі славістаў, даследчыкаў СССР, у якіх бралі ўдзел д-р Янка Запруднік, Зора Кіпель і інш.

У Фларыдзе жыве значная частка старэйшых грамадзянаў Амерыкі. Некаторыя выязджаюць сюды на сталае жыхарства, выйшаўшы на пенсію, іншыя жывуць толькі ў зімовыя месяцы, а ўлетку вяртаюцца «на поўнач». Зразумела, цяжка гаварыць пра арганізацыйную прыналежнасць такіх «старыкоў-качэўнікаў», але, калі гэта супадае з планамі і месцажыхарствам, яны падтрымоўваюць такія арганізацыі, як БАЗА. У нас было ліставанне з адным з такіх беларусаў-качэўнікаў, раней з Нью-Ёрка, цяпер з горада Тампа. Некалькі старых параў у 2013 годзе там нават адзначылі 25 Сакавіка супольным абедам у адной з рэстарацый горада.



Беларусы Фларыды на святкаванні 500-годдзя Аршанскай бітвы. 2014 г. *Здымак з сайта www.svaboda.org*

З прыездам ў 1990-я гады новых імігрантаў беларуская дзейнасць у штаце ажывілася. Сёння там створаны аддзел БАЗА, ладзяцца беларускія выставы, канцэрты ў Маямі, Корал Габэлс (*Coral Gables*) і інш. У акадэмічных колах Фларыды дзейнічае таксама д-р Таццяна Кулакевіч[110].

***Паўночна-заходнія штаты: Вашынгтон і Арэгон.*** Як было зазначана раней, шмат беларускіх пратэстантаў пасяліліся ў гэтых штатах. Сёння ў горадзе Сіэтл жыве беларуска Вольга Дзёмка, якая стварыла беларускі фальклорны калектыў, удзельнічае ў фестывалях, а таксама на ўласныя грошы зрабіла фільм «Песні старой Еўропы — старажытныя беларускія народныя песні», які стаў пераможцам міжнароднага кінафестывалю *Creation International Film Festival CIFF-2016* (Канада)[111].



Вольга Дзёмка

[110] Беларус. Нью-Ёрк. 2012. № 602.



***Сталіца Вашынгтон.*** Раней ужо закранался дзейнасць беларусаў у Вашынгтоне. Відавочна, што палітычная дзейнасць адбываецца тут і не навідавоку: дыпламатыя, міжнародныя канферэнцыі, якія не рэкламуюцца. Гурток (сёння аддзел) БАЗА, правільней, прысутнасць БАЗА, БККА, іх дзейнасць была найбольш відавочная для грамадства. Дзейнасць старажылаў Вашынгтона — сп-няў Алесі Кіпель, Ніны Кіт, сп. Расціслава Завістовіча — будзе заўсёды прыпамінацца, але прыцёк новых маладых беларусаў-эмігрантаў сёння ў геаметрычнай прагрэсіі ўзмацняе беларускую прысутнасць і дзейнасць у сталіцы ЗША. Безумоўна, цяперашнія беларускія актывісты ў Вашынгтоне — сп-ні Алеся Кіпель, Ірына Красоўская, Таццяна Процька, сп. Вячаслаў Бортнік, сп-ва Аркадзь і Вета Чарапанскія, сп-ні Алеся Сёмуха, Ірына Аскірка, сп. Валер Кавалеўскі — спрыяюць таму, што ў Вашынгтоне дзеяць не толькі прадстаўнікі БАЗА, але і іншыя беларускія арганізацыі і групы. Вось выбарачны пералік значных падзей беларускай дзейнасці ў амерыканскай сталіцы, які пацвярджае яе разнастайнасць і шматбаковасць:



Дзярждэпартамент ЗША. Сустрэча з дзяржсакратаром Хілары Клінтан (сядзіць справа). Прадстаўніца БАЗА Алеся Кіпель (сядзіць пры канцы стала злева). Вашынгтон, 2011 г.

*29 студзеня 2003 года ў Дзярждэпартаменце ЗША адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларускай грамадскасці з кіраўніцтвам беларускага аддзела Дзярждэпартамента. Сярод прысутных былі спн. сп. Ала Орса-Рамана, д-р Вітаўт Кіпель, Вячка Станкевіч, Сямён Шарэцкі, Васіль Мельяновіч, Алеся Сёмуха, Зміцер Левіт, Віталь Зайка*[112].

[111] http://budzma.by/news/film-pra-byelaruski-falklor-pyeramoh-na-kinafyestyvali-w-kanadzye.html.

[112] Беларус. Нью-Ёрк. 2003. № 482.

*12 чэрвеня 2007 года ў Вашынгтоне адбылося адкрыццё першага ў Амерыцы помніка ахвярам камунізму. Прысутнічалі сябры Кангрэса ЗША, прадстаўнікі ўрадаў розных краінаў і этнічных групаў. Ад беларусаў прысутнічалі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, Старшыня БІНіМа д-р Вітаўт Кіпель (выступаў з прамоваю) і Старшыня БАЗА сп. Вячка Станкевіч. Галоўную прамову на адкрыцці помніка сказаў Прэзідэнт ЗША Джордж Буш-малодшы*[113].

*8 снежня 2010 года ў Фундацыі Карнэгі прайшоў дыялог экспертаў на тэму «Беларусь перад выбарамі». Галоўнымі прамоўцамі былі палітолаг Віталь Сіліцкі, міжнародны эканамічны дарадца Аляксандар Чубрык і дырэктар аддзела Еўразіі пры Фундацыі Карнэгі Джэймс Колінз. З беларусаў таксама прысутнічалі эканаміст Павел Данейка, рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько, старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна, а таксама ад БАЗА Вячка Станкевіч і Вячаслаў Бортнік*[114].

*6 студзеня 2011 года ў Дзяржпэпартаменце ЗША адбылася сустрэча Дзяржсакратара Хілары Клінтан з прадстаўнікамі беларускай грамадскасці. Непасрэднымі ўдзельнікамі сустрэчы былі лідар грамадскай ініцыятывы «Мы памятаем» Ірына Красоўская, дырэктар беларускага Вольнага тэатра Наталля Каляда, беларусы Вашынгтона: Алеся Кіпель і Алеся Сёмуха*[115].

*20 ліпеня 2013 года прадстаўнікі беларускіх арганізацый у ЗША правялі акцыю пратэсту каля вашынгтонскай штаб-кватэры Міжнароднага валютнага фонду з патрабаваннем спынення выдачы фінансавай дапамогі ўладам у Менску. Пікет арганізавалі: «Беларусы ў выгнанні», БАЗА, гурток БАЗА ў Вашынгтоне і Згуртаванне «Пагоня»*[116].



Вашынгтонскія беларусы каля помніка ахвярам камунізму. 2014 г.

[113] Беларус. Нью-Ёрк. 2007. № 534.

[114] Беларус. Нью-Ёрк. 2010. № 572.

[115] Беларус. Нью-Ёрк. 2011. № 576.



*14 кастрычніка 2018 года: Сябры аддзела БАЗА бралі ўдзел ў прабегу Kosciuszko Freedom Run.*

*3 снежня 2018 года: Сябры аддзела БАЗА прысутнічалі на дыскусіі «Belarus and Eastern Europe Security Challenge» ў Kennan Institute ў Вашынгтоне.*

*25 сакавіка 2019 года: Дзень Волі. Сябры аддзела БАЗА арганізавалі святочнае прыняццё з удзелам былых амбасадараў ЗША ў Беларусі, супрацоўнікаў Дзяржпэпартаменту і НДА. Памяшканне было прадстаўлена партнэрскай арганізацыяй Human Rights First. Медалі да 100-годдзя БНР былі ўручаны сябрам аддзела Алесі Кіпель і Ірыне Красоўскай. Алеся Сёмуха прыняла медаль за свайго бацьку Васіля Сёмуху*[117].

Да дзейнасці БАЗА ў Вашынгтоне дадаюцца і штогадовыя паломніцтвы да помніка ахвярам камунізму, які ўсталяваны ў цэнтры горада ў 2007 годзе. Беларускія дэманстрацыі тут адбываюцца і 25 Сакавіка, і на ўгодкі Слуцкага паўстання, і часам у некаторыя іншыя дні, калі каля помніка выступаюць як беларусы, гэтак і амерыканскія ўрадоўцы ці прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў. Акрамя таго, вашынгтонскія беларусы часта ўдзельнічаюць у мерапрыемствах памяці галадамору ва Украіне або дэпартацыі татараў з Крыма.

## Заўвагі

Відавочна, калі мы гаворым пра геаграфічны абсяг і дзейнасць, неабходна падаваць розныя асяродкі, пункты, дзе беларускія эмігранты гавораць пра сябе, пра Беларусь. Але ў гэтую рубрыку, думаецца, трэба ўлучыць і мясціны, дзе мы не дзеім, а аддаем пашану. Нашая грамадская праца ў тых месцах выяўляецца ў тым, што мы там прысутныя. Скажу каротка: напрыклад, горад Рочэстэр, штат Нью-Ёрк, гарадскія могілкі — магіла Наталлі Арсенневай і ейнага мужа Франца Кушаля, асобаў выбітных у беларускім нацыянальным руху. «Магутны Божа» Наталлі Арсенневай застаецца з Беларуссю на вякі. Мясціну, дзе Арсеннева і Кушаль пахаваныя (а побач яшчэ іх нявестка Туся — таксама беларуская актывістка), наведваюць суайчыннікі-турысты. Даводзілася бачыць і здымкі помнікаў — жывое месца. На наш погляд, такія мясціны належаць да актыву беларускай прысутнасці ў шырокім значэнні.



Помнік на магіле Наталлі Арсенневай і Франца Кушаля ў Рочэстэры

Бясспрэчна, інфармацыя пра Беларусь у розных сферах будзе існаваць і знікаць у амерыканскім грамадстве, як, зрэшты, і любая навіна-інфармацыя пра кожную нацыянальнасць, падзею, здарэнне. Часам важным бывае нешта выключна пабытавае, што прапагандуе Беларусь. Прыкладам, у невялікім амерыканскім горадзе Хігінсвілі ў штаце Місуры адчынілася рэстарацыя «Беларускі пекар»

[116] Беларус. Нью-Ёрк. 2013. № 601.

[117] Справаздача Вашынгтонскага аддзела БАЗА (1 кастрычніка 2017 — 12 кастрычніка 2019).

(*The Belarusian Baker*), якую трымае сям'я Кордэраў (беларуска Наталля і яе муж Пол). І гэтая рэстарацыя карыстаецца папулярнасцю сярод мясцовага насельніцтва[118]. Беларускія стравы часам можна спаткаць у кавярнях ці крамах і ў Брукліне, і ў Джэрсі-Сіці. У газеце «*The Washington Post*» нядаўна быў змешчаны рэпартаж пад назовам «Дождж ці ясны дзень, гэтыя возікі з ежай прыцягваюць», які распавядаў пра латкі-калясачкі з гатовай ежай (іх болей за 240) на вуліцах сталіцы ЗША. Сярод тых перасоўных латкоў быў і з беларускімі бліначыкамі ў смятане, паводле аўтара рэпартажу, «*найбольш арыгінальнымі і смачнымі*». Наладзілі згаданы продаж беларускіх стравaў нядаўнія іміграты з Беларусі Алесь і Каця Верабей[119].

[118] Беларус. Нью-Ёрк. 2014. № 608.
[119] The Washington Post. 2016. May 19.

# БЕЛАРУСКІЯ ЭЛЕМЕНТЫ Ў ДЗЕЙНАСЦІ ЛЕВЫХ І ПРАВЫХ ПРАРАСІЙСКІХ ГРУПАЎ

Як зазначалася вышэй, тысячы старых беларускіх імігрантаў былі ўцягненыя ў розныя левыя і сацыялістычныя арганізацыі. У 1920-я гады гэтыя іміграты выкарыстоўваліся ў палітычных мэтах для сеяння неспакою.

Левыя групы з вялікім удзелам беларусаў, сярод якіх сям-там праглядалася і беларускасць, квітнелі яшчэ і пасля Другое сусветнае вайны. Беларуская нацыянальная свядомасць сярод левых беларусаў узмацнілася падчас вайны і пасля яе з заснаваннем беларускае місіі ў ААН ды з пашырэннем кантактаў з іхняю радзімаю, якая звалася Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Прыток паваеннае хвалі імігрантаў значна паспрыяў росту свядомасці свае беларускасці сярод тых масаў, якія былі звязаныя з рознымі «прагрэсіўнымі руска-славянскімі» арганізацыямі.

Галоўным асяродкам дзейнасці гэтых групаў стаўся *АРОВ*-Парк, зямельная ўласнасць, набытая колькімі групамі ў канцы 1940-х гадоў, размешчаная ў павеце Манро, штат Нью-Ёрк. Сярод заснавальнікаў і арганізатараў *АРОВ*-Парку зноў жа было нямала беларусаў[1]. Толькі некаторыя з іх былі сапраўды свядомымі беларусамі — ім, хоць і атручаным чадам сацыялістычна-камуністычнае ідэалогіі, не былі чужыя беларускія карані і жаданне пашыраць беларускую культуру. Варта згадаць колькі асобаў.

Уладзімір Мінкевіч (1910—1982) нарадзіўся ў Злучаных Штатах ад бацькоў-беларусаў. Ён быў адным з ініцыятараў *АРОВ*-Парку, дзе на працягу доўгіх гадоў адказваў за культурную дзейнасць. Мінкевіч уваходзіў у кіраўніцтва розных левых арганізацый і быў прэзідэнтам карпарацыі «*Русский Голос*». Пры ўсёй ягонай вернасці савецкаму рэжыму ён шмат зрабіў для папулярызацыі беларускае культуры і спрыяў усталяванню блізкіх сувязяў паміж амерыканскімі беларусамі і БССР[2].

Фрэд Клімовіч — яшчэ адзін народжаны ў Амерыцы беларус, які быў вельмі актыўны ў гуртаванні беларусаў вакол Рускага дому на Клэй-стрыт у Грынпойнце, Бруклін, у Клубе імя Чарнышэўскага на Манхэтэне ды па ўсёй краіне, арганізоўваў танцавальныя гурткі для моладзі. Вядома ж, ён быў ва ўладзе левае ідэалогіі, але яна базавалася ў яго больш на індактрынацыі старога пакалення імігрантаў, чым на ўласных ведах. Аднак ягоная адданасць Беларусі была шчырая, і ён імкнуўся, каб кожны танцавальны гурток, што быў пад ягоным уплывам, мог танцаваць беларускія танцы. Памёр ён зусім маладым ў 1982 годзе[3].

[1] Гутаркі аўтара з Алексам Ігнацюком, Майклам Грушам, Янам Пякарскім і дзясяткамі іншых, Нью-Ёрк, 1960-я гады.
[2] Русский Голос. Нью-Йорк. 1982. 18, 25 марта; Гутаркі аўтара з шматлікімі сябрамі У. Мінкевіча, 1983.
[3] Гутаркі аўтара з Фрэдам Клімовічам, 1976; Русский Голос. Нью-Йорк. 1982. 20 мая.




Значок з помнікамі, пастаўленымі ў АРОВ-Парку. 1973 г.

Больш чым за 40 гадоў існавання *АРОВ*-Парку сярод лідараў аб'яднаных у ім арганізацый былі дзясяткі беларусаў, як, прыкладам, Даніла Казушчык, Марыя Сімак, Даніла Зялеўскі, Ігнат Трус, якія былі шчырымі беларусамі, аднак левая ідэалогія замгліла ім дарогу да служэння Беларусі.

Тым не менш *АРОВ*-Парку не была чужая беларускасць. У гэтым селішчы штогод ладзіўся Руска-беларускі дзень культуры, звычайна на пачатку жніўня, арганізоўваліся беларускія сцэнічныя паказы, а найважнейшае — у 1973 годзе быў пастаўлены помнік Янку Купалу побач з помнікамі Уолту Уітману, Тарасу Шаўчэнку і Аляксандру Пушкіну. Гэта вялікае дасягненне, якім могуць ганарыцца ўсе амерыканскія беларусы[4]. Нельга адмаўляць, што нейкім чынам і левыя групы прычыняліся да абуджэння беларускае этнічнае свядомасці, хоць і ў кантэксце савецкае сацыялістычнае ідэалогіі. Вось, прыкладам, развагі аднаго левага актывіста:



Помнік Янку Купалу ў АРОВ-Парку

*У нядзелю 30 траўня я прыйшоў з сябрамі ў АРОВ-Парк... [...] Перш-наперш я наведаў помнікі Т. Шаўчэнку, А. С. Пушкіну, Уолту Уітману і, вядома ж, майму земляку Янку Купалу. Гледзячы на Купалу, я думаў: «Вось мы тут у Амерыцы думаем, што мы рускія. Але ж у сапраўднасці мы беларусы. Калі ў дзяцінстве мы хадзілі ў школу ў царскай Расіі, ніхто не казаў нам, што існуюць Беларусь, Украіна ды іхныя народы. Нічога не гаварылі нам і пра іншыя нацыянальнасці. Дый увогуле, ці шмат мы маглі вывучыць у царскай школе, асабліва калі навучанне працягвалася толькі дзве-тры зімы? Мы прыехалі ў Амерыку непісьменныя і маглі толькі паставіць свой подпіс. Руская рэвалюцыя, газета “Русский Голос” і савецкая сістэма шмат чаму нас навучылі, і цяпер мы ведаем, што мы — беларусы...»*[5].

Бясспрэчна, што сябры гэтых арганізацый, ужо нашчадкі заснавальнікаў у другім і трэцім пакаленнях, адчувалі ў сабе беларускія карані і прывязанасць да беларускае культуры.

[4] Голас Радзімы. Мінск. 1988. 23 чэрв.; Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. Мінск. 1973. № 4; Беларус. Нью-Ёрк. 1973. № 196; Беларуская Моладзь. Бруклін. 1976. № 42. С. 18–19.

[5] Русский Голос. Нью-Йорк. 1976. 17 июня.



На жаль, аднак, іхная беларускасць не мела ніякага тэарэтычнага грунту і асацыявалася ў іхным уяўленні з рускаю культураю ды сацыялістычна-камуністычнымі ідэямі. Яны не мелі ніякага ўяўлення пра асобнасць Беларусі, пра гісторыю беларускае дзяржаўнасці. Як бы там ні было, можна толькі шкадаваць, што прадстаўнікі Савецкае Беларусі, пісьменнікі, мастакі і навукоўцы, не пашыралі беларускую свядомасць сярод гэтых амерыканскіх беларусаў левае арыентацыі. *АРОВ*-Парк ад самых сваіх пачаткаў быў месцам паломніцтва шматлікіх савецкіх афіцыйных асобаў, улучна з БССРаўскімі дэлегацыямі. На жаль, гэтыя «прадстаўнікі» прадстаўлялі не Беларусь, а Савецкі Саюз. БССРаўскія госці добра ведалі, што большасць у гэтых левых групах складалі людзі беларускага паходжання, ведалі пра іхную мову, звычаі, пра іх цягу да беларускага, аднак, наведваючы *АРОВ*-Парк, БССРаўцы падкрэслівалі еднасць з Расіяй і «агульнарускія» традыцыі, толькі мімаходзь ужываючы тэрмін «нашы землякі». Яны нават не гаварылі пра Беларусь, хіба толькі ў савецкім кантэксце.

На жаль, даводзіцца зрабіць сумную выснову: прадстаўнікі Савецкае Беларусі, наведваючы сваіх суродзічаў, свядома і паслядоўна спрыялі палітыцы русіфікацыі. Трэба спадзявацца, што незалежная Рэспубліка Беларусь выправіць гэтыя прыкрыя і шкодныя для беларускае нацыі памылкі.

Зразумела, працу беларускіх дыпламатаў нельга разглядаць як дзейнасць левых, але амаль да пачатку 1990-х гадоў дыпламаты БССР актыўнасць левых толькі і падтрымоўвалі. Цяпер дыпламаты Рэспублікі Беларусь разглядаюцца як незалежныя, хоць вельмі часта дзеюць ва ўнісон з Масквою, аднак, наколькі вядома, рускіх арганізацый яны не падтрымоўваюць. Наадварот, беларуская місія пры ААН, дыпламаты Беларусі спрыяюць пашырэнню беларускай культуры і гісторыі. У залах ААН часта ладзяцца мастацкія беларускія выставы, прагляды фільмаў, адзначаюцца беларускія юбілеі. Прыкладам, у ААН адбывалася выстава «Фотаальбом Беларусі» Джона Кунстадтэра, былога віцэ-амбасадара ЗША ў Менску, адзначаліся Чарнобыльскія дні. Варта адзначыць, што згаданая выстава была арганізаваная стараннямі тагачаснага Пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Андрэя Дапкюнаса. На яе адкрыцці 17 лістапада 2008 года Джон Кунстадтэр зрабіў прамову па-англійску і па-беларуску, у якой выразна падкрэсліў амерыканска-беларускія сувязі пачынаючы ад Тадэвуша Касцюшкі[6].

Дарэчы, першы бел-чырвона-белы сцяг на флагштоку каля будынка ААН у Нью-Ёрку быў падараваны Генадзю Бураўкіну ад імя БАЗА Юркам Кіпелем. На жаль, бел-чырвона-белы сцяг каля ААН лунаў нядоўга, яго падмяніў наваствораны чырвона-зялёны.

## Дзейнасць правых прарасійскіх арганізацый і беларусы

Ці сярод беларусаў, якія належалі да правых «рускіх» арганізацый, назіралася хоць нейкая беларуская дзейнасць? Дзейнасць такая вялася, але спарадычна і ў вельмі малым аб'ёме. Беларусы, якія гуртаваліся вакол Фармы РООВА і асацыяваных з ёю арганізацый, у 1950–1960-я гады часам запрашалі беларускія хоры на канцэрты. Свае ж уласнае ініцыятывы заснавання беларускага хору ці танцавальнага гуртка пры сваёй арганізацыі гэтыя беларусы не задэманстравалі. Нао-

[6] Беларус. Нью-Ёрк. 2008. № 551.

гул, беларускае дзейнасці пры рускіх арганізацыях не заўважалася. Выключэнне адно — адзначэнне Радаўніцы на рускіх могілках, дзе пахавана багата беларусаў. Прыкладам могуць быць могілкі ў горадзе Джэксан (*Jackson*), штат Нью-Джэрсі, або ў мясцовасці Спрынг Вэлі (*Spring Valley*), штат Нью-Ёрк.

Левыя і правыя рускія ўгрупаванні — перагорнутая старонка. Але ім на змену, праўда вельмі лакальна і не ўплывова, прыйшлі групы-груповачкі, настальгічна «рускамоўныя-прасавецкія», як, прыкладам, «зямляцкія обшчаствы» каля Філадэльфіі ці на Брайтан Біч. На шчасце, яны маленькія, больш «тэарэтычныя» ды з вельмі сталага веку сябрамі. Нашых землякоў у такіх групах даволі мала.

# ВЫДАВЕЦКАЯ СПРАВА. БЕЛАРУСІКА Ў СРОДКАХ МАСАВАЕ ІНФАРМАЦЫІ

## Беларускія выданні ў паваеннай Заходняй Еўропе[1]

### *Перыёдыка. Газеты*

Дзве беларускія газеты, якія выдаваліся ў Берліне, — «Беларускі Работнік» і «Раніца» — спынілі сваё існаванне ў 1944 і 1945 гадах адпаведна[2].

Улетку 1945 года, у першае паваеннае лета ў Еўропе, выходзіла колькі нязначных, часта рукапісных беларускіх публікацый, якія мелі лакальны характар[3].

Першаю паваеннаю беларускаю газетаю ў Заходняй Еўропе сталіся «***Беларускія Навіны***», якія выходзілі ў Парыжы ад снежня 1945 да чэрвеня 1947 года. Аднак праз тое, што большасць беларускіх эмігрантаў тады была сканцэнтраваная ў Заходняй Нямеччыне, было натуральна, што там мусіў узнікнуць беларускі перыядычны друк. Калі беларускія масы пачалі збірацца ў лагерах Ды-Пі, з'явіліся дзясяткі беларускіх перыёдыкаў. Беларускія выданні выходзілі таксама ў Аўстрыі, Вялікабрытаніі і Францыі. Але першая масавая беларуская газета нарадзілася ў Нямеччыне.

Гэткаю газетаю сталася «***Бацькаўшчына***», якая выдавалася ў Остэргофене, а пасля ў Мюнхене ад кастрычніка 1947 да снежня 1966 года, усяго выйшла 637 нумароў. Гэты тыднёвік стаўся выразнікам беларускіх палітычных ідэалаў, ён ясна вызначыў мэты беларусаў дыяспары і паслужыў аб'яднаўчым фактарам рассеянае масы беларускіх эмігрантаў. Газета дасягнула найвышэйшага ўзлёту ў часе, калі беларусы выязджалі з Заходняе Нямеччыны ў Злучаныя Штаты, Канаду, Аўстралію ды іншыя краіны


БАЦЬКАЎШЧЫНА

Газета «Бацькаўшчына». 1947 г.

[1] Гл.: Юрэвіч, Л. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. Мінск: Кнігазбор, 2015. — 623 с.

[2] Раніца. Бэрлін. 3 сьнежня 1939. № 1 — 21 сакавіка 1945. № 235; Беларускі Работнік. Бэрлін. 27 чэрвеня 1943. № 1. — 12 лістапада 1944. № 46.

[3] Бацькаўшчына. Osterhofen. 1947. № 2.

і кантыненты. Яна была тады галоўнаю крыніцаю інфармацыі пра беларускую эміграцыю, яе грамадскае і палітычнае жыццё. Нават калі эмігранты настала ўладкоўваліся ў розных краінах, «Бацькаўшчына» надалей заставалася інфармацыйным выданнем для ўсіх беларусаў. Яна падрабязна асвятляла жыццё суродзічаў у Злучаных Штатах да самага канца 1950-х гадоў, калі сувязі газеты з імігрантамі аслаблі, аж пакуль яна ўрэшце не спыніла сваё існаванне. «Бацькаўшчына» атрымоўвала з Злучаных Штатаў заўсёдную падтрымку і дапамогу. Перш за ўсё ў Злучаных Штатах жылі амаль усе заснавальнікі, першыя рэдактары і адміністратары газеты: Антон Адамовіч, Лявон Савёнак, Васіль Кендыш, Уладзімір Тамашчык (архіепіскап Васіль), Мікола Кунцэвіч, Віталь Кажан, Францішак Кушаль, Наталля Арсеннева ды іншыя. Д-р Станіслаў Станкевіч, Зіна Станкевіч і Уладзімір Бортнік былі ў блізкай лучнасці з амерыканскімі беларусамі. Апрача ўсяго гэтага, газета стаяла на ідэалагічных пазіцыях, якія падзяляла большасць беларускіх эмігрантаў у Амерыцы[4].


БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

ВІТАЕМ З ВЯЛІКІМ САКАВІКОМ!

Газета «Беларускае Слова». 1949 г.

Другім выданнем, якое таксама прычынілася да згуртавання раскіданых беларускіх масаў і да фармавання ідэалагічнае свядомасці эміграцыі, была газета ***«Беларускае Слова»***, якая пачала выдавацца ў Міхельсдорфе і Аўгсбургу (Заходняя Нямеччына) у снежні 1948 года. Кіравалі выданнем Юры Сабалеўскі, Яўхім Кіпель, Юрка Віцьбіч, Аляксандр Русак, а. Мікалай Лапіцкі ды інш. Газета таксама асвятляла працэс эміграцыі ў Злучаныя Штаты, дзейнасць беларусаў у новай краіне, але не мела такога шырокага ўплыву на эміґранцкія масы, як «Бацькаўшчына». У кастрычніку 1956 года рэдакцыя газеты перамясцілася ў Злучаныя Штаты, дзе яна і спыніла існаванне ў 1958 годзе[5].

Абедзве гэтыя газеты перасталі існаваць з шэрагу прычынаў, галоўнаю з якіх было тое, што гэта былі тыпова еўрапейскія газеты, якія выказвалі патрэбы беларускае грамады ўсяго свету. У Злучаных Штатах, аднак, узнікла тэндэнцыя да большае інтэграцыі ў жыццё новае краіны, што выклікала неабходнасць заснавання спэцыфічнага беларуска-амерыканскага перыядычнага друку. Да канца 1950-х гадоў большасць беларускіх эмігрантаў пакінула Заходнюю Еўропу, і беларускі перыядычны друк там амаль што зусім заняпаў. Засталіся толькі паасобныя выданні, якія выходзілі ў Вялікабрытаніі, Заходняй Нямеччыне, Францыі і Італіі[6]. Цэнтр беларускае выдавецкае дзейнасці перамясціўся за акіян[7].

[4] Юрэвіч, Л. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў «Бацькаўшчына» й «Беларус» (1947–2000). Менск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 256 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 8); Газеты «Бацькаўшчына» і «Беларус». Выбранае: Да 70-годдзя газеты «Беларус» (1950–2020) / уклад., падрыхтоўка тэкстаў, агульнае рэдагаванне, каментары Н. Гардзіенкі і Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2019. — 616 с.

[5] Беларускае Слова. Міхельсдорф. 17 сьнежня 1948. № 1. — Саўт-Рывэр. 1958. Красавік — ліпень. № 2 (39).



### *Кнігавыдавецтва*

Беларускае паваеннае кнігавыдавецтва распачалося ў Заходняй Нямеччыне. Выходзілі кнігі таксама ў Францыі і Вялікабрытаніі. Адною з першых кніжак быў «Лемантар» Апалоніі Радкевіч (Рэгенсбург, 1946), сярод першых кніг пераважалі школьныя падручнікі і публікацыі для моладзі. Выдавалася таксама рэлігійная і палітычная літаратура, літаратурныя зборнікі, творы паасобных паэтаў і празаікаў, пераклады і навуковыя манаграфіі. Выдаўцамі былі розныя беларускія арганізацыі і клубы.




«Беларускі лемантар» Апалоніі Радкевіч (Рэгенсбург, 1946)

Аб'ём беларускага кнігавыдавецтва ў Заходняй Еўропе ў канцы 1950-х і ў 1960-я гады пачаў змяншацца, і найбольшым беларускім кнігавыдаўцом у заходнім свеце сталіся Злучаныя Штаты, хоць да пэўнае ступені захавала свае пазіцыі і Вялікабрытанія, некалькі кніжак было выдрукавана таксама ў Аўстраліі і Канадзе[8].

## Беларуская выдавецкая справа ў Злучаных Штатах

### *Міжваенны перыяд*

Акадэмік Яўхім Карскі паведамляе, што ёсць публікацыя, выдадзеная па-беларуску лацінкай у Злучаных Штатах у 1892 годзе[9]. Расшукаць гэтае публікацыі нам не ўдалося, але не выключана, што паасобныя імігранты, а можа, нават і зямляцтвы маглі нешта друкаваць у беларускай мове.

Першымі ластаўкамі беларускага перыядычнага друку ў Амерыцы былі: ***«Бюлетэнь Беларускага Прэсавага Бюро»*** ў Нью-Ёрку (1921); бюлетэнь ***«Праўда»***, некалькі нумароў якога выдаў у 1926 годзе а. Ян Тарасевіч; ***«Белорусская Трибуна»***, першая беларуская газета на Амерыканскім кантыненце, выдаваная ў Чыкага ад 1926 да 1932 года. Апрача гэтага, беларускія арганізацыі ў Чыкага выдалі колькі інфармацыйных улётак і праграмак пра Беларусь[10].

[6] Божым Шляхам. Парыж, Кастрычнік 1947. № 1. — Лёндан, 1980. № 151; Znič. Rym, Vierasien 1950. № 1. — 1975. № 119–120; Моладзь. Парыж, 1948. № 1 — 1954. № 32; Барацьба. Штутгарт. Сакавік 1955. № 1. — 1990. № 48; Аб'еднаньне. Лёндан, 23 сакавіка 1955. № 1. — Чэрвень 1966. № 108 ды колькі меншых.

[7] Kipel, V.; Kipel, Z. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. — XVI+841 p.

[8] Панькоў, М. Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945–1950 гг. = Bibliography of Whiteruthenian (Byelorussian) Refugees for 1945–1950. Whiteruthenian Bibliography Service. Нью Ёрк, 1952. — 64 с.

[9] Карский, Е. Белорусы. Т. III. Ч. 3. Петроград, 1922. С. 167.

[10] Папка «Беларускія выданьні. Чыкага» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).


БЕЛОРУССКАЯ ТРИБУНА

Газета «Белорусская трибуна». Чыкага, 1930 г.

Заснаванне рэгулярнага беларускага друку ў Злучаных Штатах, безумоўна, было на думцы ў беларускіх палітычных лідараў як у Амерыцы, гэтак і ў Заходняй Еўропе[11]. Згаданыя вышэй публікацыі, вядома ж, сведчылі аб прысутнасці беларусаў у ЗША, але жылі яны нядоўга, не мелі масавага пашырэння і не зрабілі значнага ўплыву на беларускіх імігрантаў, бо тыя ў масе сваёй не былі дастаткова нацыянальна свядомыя, каб падтрымаць беларускія выданні. Такім чынам, беларускі перыядычны друк у Злучаных Штатах у міжваенным часе быў спарадычнаю і кароткатрывалаю з'яваю.

### *Развіццё беларускага друку ў паваенным перыядзе*

Галоўнымі фактарамі, якія абумовілі развіццё паваеннага беларускага друку ў Амерыцы, былі: 1) патрэба палітычна свядомае беларускае іміграцыі ў сродку выказвання яе поглядаў і выяўленні беларускае прысутнасці; 2) пашырэнне кола чытачоў і 3) узнікненне фінансавае базы. Існавала таксама патрэба ў падручніках і дапаможных матэрыялах для беларускіх дапаўняльных школак, неабходна было выдаваць навуковыя працы і творы беларускіх пісьменнікаў. Гэтыя матывы паспрыялі развіццю беларускага друку ў Злучаных Штатах.

#### *Перыядычныя выданні*

З пачаткам прыезду ў Амерыку ў 1948—1949 гадах большай колькасці іміграцтаў узнікла патрэба ў беларускай перыёдыцы. Патрэба гэтая дыктавалася неабходнасцю падтрымання кантактаў паміж іміграцтамі, насвятлення іхнае дзейнасці і выказвання беларускіх поглядаў на бягучыя палітычныя падзеі. З ініцыятывы Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта пачалося выданне ратарнага бюлетэня ***«Беларус у Амэрыцы»***. Выходзіў ён у Нью-Брансвіку — Саўт-Рыверы ў 1948—1949 гадах. У рэдакцыйным артыкуле першага нумара адзначалася:

*Мэта гэтага выдання — прадстаўляць іміграцтаў беларускага паходжання, якіх у Злучаных Штатах налічваецца больш за паўмільёна. Бюлетэнь будзе падаваць і тлумачыць погляды гэтых людзей ды выясняць іхныя жаданні. Выданне будзе таксама насвятляць розныя аспекты жыцця беларускае грамады, а таксама знаёміць амерыканскіх беларусаў з палітычнымі памкненнямі беларускага народа*[12].

Выйшла толькі чатыры нумары бюлетэня, але яны задалі тон асвятленню амерыканскага палітычнага жыцця. Бюлетэнь змясціў ліст у падтрымку кандыдата ў прэзідэнты Гары Трумана, разглядаў некаторыя праблемы і патрэбы беларускіх іміграцтаў, падаў колькі фактаў з беларускага арганізацыйнага жыцця. Частка

[11] Гутарка аўтара з Макарам Аблажэем; Беларускі Сьцяг. Коўна, 1922. № 2—3.

[12] Our First Step // Беларус у Амэрыцы. Саўт-Рывэр. 1948. № 1.



матэрыялаў друкавалася па-англійску. Пасля «Беларуса ў Амэрыцы» з'явілася ***«Беларускае Слова ў Амэрыцы»***, падобны бюлетэнь, два нумары якога выйшла ў Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі[13]. Такія былі сціплыя першыя дасягненні новапрыбылых іміграцтаў.

На змену ратарным бюлетэням у хуткім часе прыйшлі рэгулярна выдаваныя друкаваныя газеты і часопісы нармальнага фармату, якія адыгралі важную натхняльную ролю ў жыцці амерыканскіх беларусаў.



Галоўны рэдактар газеты «Беларуская Трыбуна» Міхась Кавыль

Першая газета — ***«Беларуская Трыбуна»*** — з'явілася 27 жніўня 1950 года[14]. Спонсарам яе быў Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт, хоць рэдакцыя не мела сталага адраса і месцілася то ў Нью-Ёрку, то ў Саўт-Рыверы. Галоўным рэдактарам быў Язэп Лешчанка (вядомы беларускі паэт Міхась Кавыль).

Мэты газеты былі вызначаныя ў рэдакцыйным артыкуле першага нумара. У ім падкрэслівалася думка, што Савецкая Беларусь — не свабодная краіна, а калонія, і ставілася рытарычнае пытанне: *«Што мы зрабілі, каб дапамагчы нашым братам-беларусам на бацькаўшчыне?»*. На яго даваўся гэткі адказ:

*Мы не маем вайсковае і фізічнае сілы, каб дапамагчы Беларусі, але затое мы маем сілу друкаванага слова, якое таксама можа быць моцнае. І мы ўжывем гэтую сілу. Мы будзем гаварыць. Мы будзем выкрываць крамлёўскае кіраўніцтва і паказваць свету пакуты беларускага народа. Мы пакажам, што крамлёўскі ўрад зрабіў Беларусі.*

Іншыя артыкулы працягвалі тон рэдакцыйнага і заклікалі ўсіх беларусаў — старых і новых іміграцтаў — злучыцца, стварыць агульную арганізацыю беларусаў у Злучаных Штатах. Фактычна гэта быў адкрыты заклік да старых амерыканскіх беларусаў далучыцца да ініцыятываў, прадпрынятых паваеннымі іміграцтамі. Сярод аўтараў газеты былі д-р Мікола Шчорс, прэзідэнт Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта; Аляксандр Русак, старшыня Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва; Лангіна Брылеўская, прэзідэнт Беларускага жаночага згуртавання ў Злучаных Штатах, ды іншыя.

На іншай ноце прагучала выступленне ў першым нумары «Беларускае Трыбуны» Радаслава Астроўскага, прэзідэнта Беларускае Цэнтральнае Рады. Астроўскі абвясціў, што *«вайна ў Карэі — гэта не толькі змаганне за свабоду карэйскага народа, але і пачатак вайсковага паходу за незалежную Беларусь»*, і заклікаў беларусаў запісвацца добраахвотнікамі ў карэйскай вайне. Ідэя незалежнае беларускае дзяржавы, антыкамуністычныя погляды і заклік да старое беларускае іміграцыі былі прыхільна прынятыя беларусамі незалежна ад іх арганізацыйнае прыналежнасці. Аднак зварот Астроўскага выклікаў адмоўную рэакцыю значнае часткі новых іміграцтаў[15].

У наступных нумарах газета менш выступала з праграмнымі заявамі, а давала больш месца інфармацыі пра розныя аспекты жыцця амерыканскіх беларусаў,

[13] Беларускае Слова ў Амэрыцы. Нью-Брансвік. Студзень 1950. № 1 — Люты 1950. № 2.

[14] Беларуская Трыбуна. Нью-Ёрк. 27 жніўня 1950. № 1 — Саўт-Рывэр. Лістапад 1953. № 17.

[15] Папка Радаслава Астроўскага ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Гардзіенка, А. Беларуская Цэнтральная Рада... С. 250—251.


БЕЛАРУСКАЯ ТРЫБУНА

BYELARUSSIAN TRIBUNE

ВІТАЕМ З ВЯЛІКІМ САКАВІКОМ

Газета «Беларуская Трыбуна». Нью-Ёрк, 1951 г.


БЕЛАРУС

Ад Рэдакцыі

Першы нумар газеты «Беларус». 1950 г.

ахопліваючы шырокі спектр беларускіх арганізацый. Газета пачала змяшчаць літаратурную старонку, выдрукавала колькі матэрыялаў пра палітычную дзейнасць беларусаў і дапамагала беларускаму чытачу ўвайсці ў курс амерыканскае палітыкі і штодзённага жыцця. Хоць «Беларуская Трыбуна» выходзіла нерэгулярна, аднак яна адыграла станоўчую ролю ў фармаванні палітычных поглядаў беларусаў у Злучаных Штатах. Як надзённа гэта ні было для беларусаў Амерыкі, «Беларуская Трыбуна», на жаль, не мела шырокага ходу і фінансавае падтрымкі сярод імігрантаў. Выданне спынілася ў 1953 годзе.

Амаль у тым самым часе, на якіх пару тыдняў пазней, 20 верасня 1950 года, пачала выходзіць другая беларуская газета — ***«Беларус»***. З цягам часу яна сталася выданнем ўсіх беларусаў заходняга свету. Заснавальнікам і выдаўцом газеты было Беларуска-амерыканскае задзіночанне. «Беларус» быў бескампрамісным, але дэмакратычным і гнуткім прыхільнікам лагера БНР. У рэдакцыйным артыкуле першага нумара вызначаны мэты выдання.

Перш за ўсё выдаўцы паведамілі, хто яны ёсць і каго яны прадстаўляюць. Яны былі часткаю тых тысячаў новапрыбылых імігрантаў, якім давялося перажыць пяць таталітарных рэжымаў: царска-расійскі, кайзераўска-нямецкі, польскі, савецка-бальшавіцкі і гітлераўскі. Такім чынам, абвяшчалася ў рэдакцыйным артыкуле, абавязкам газеты ёсць гаварыць пра Беларусь і беларускі народ, заняволены савецкім прыгнётам.

Другая прычына, якая выклікала з’яўленне беларускае газеты, — той факт, што сярод 973 неанглійскіх перыядычных выданняў на сарака мовах у 1948 годзе ў ЗША не было ніводнага беларускага. І аднак, працягвалі выдаўцы, у краіне жыве каля паўтара мільёна беларускіх імігрантаў. На жаль, гэтыя іміграны ў большасці сваёй і самі не маглі ясна вызначыць сваю этнічную прыналежнасць і таму афіцыйна былі далучаныя да чужых нацыянальнасцяў. Таму заданнем газеты мусіла быць дапамога гэтым масам, яна працягвала руку супрацоўніцтва «старым» суродзічам. І сапраўды, «Беларус» прысвяціў нямала артыкулаў аналізу дачыненняў паміж старымі і новымі беларускімі імігрантамі ды шчыра спрыяў збліжэнню розных хваляў іміграцыі. Адпаведна абвешчаным мэтам газета ад самага першага



нумара нястомна выкрывала рэжымы Леніна — Сталіна — Хрушчова — Брэжнева і кампаніі ў іхнай палітыцы генацыду і культурных пагромаў супраць беларускага народа, масавае дэпартацыі карэннага насельніцтва Беларусі і беспрэцэдэнтнае русіфікацыі. Укладальнікі Мартыралога Беларусі маглі б шырока скарыстаць з друкаваных у «Беларусе» матэрыялаў. Адлюстроўваючы жыццё беларускае грамады ў Амерыцы, газета сабрала шырокае кола падпісчыкаў, ахвяравальнікаў, аўтараў і дапісчыкаў, ператварыўшыся паступова ў газету большасці беларуска-амерыканскіх групаў і арганізацый. У 1950—1960-я гады «Беларус» меў канкурэнта — «Бацькаўшчыну», у якой у Амерыцы было шмат верных прыхільнікаў, што, выбіраючы выданне для публікацыі сваіх матэрыялаў, аддавалі перавагу ёй. Але гэта не хвалявала «Беларуса». Наадварот, ён падтрымоўваў меркаванне «Бацькаўшчыны» наконт таго, што беларусы павінны мець палітычную газету ў Заходняй Еўропе. Апрача таго, «Бацькаўшчына» мела рубрыкі, якіх не было ў «Беларусе», прыкладам месячны дадатак для дзяцей «Каласкі», багатыя літаратурныя старонкі. Асабліва важным было тое, што газета мела сваё ўласнае выдавецтва, у якім выйшла шмат важных кніжак[16]. Аднак з паступовым згасаннем «Бацькаўшчыны», галоўна з прычыны таго, што большасць эмігрантаў перабралася за акіян, «Беларус» у сярэдзіне 1960-х гадоў стаўся газетаю беларусаў усяго свету: сталымі яго рубрыкамі былі справаздачы аб беларускім жыцці ў Заходняй Еўропе, Аўстраліі, Паўднёвай Амерыцы і Канадзе. Ад 1963 да 1968 года газета нават мела асобную канадыйскую старонку.


Доўгагадовы рэдактар газеты «Беларус» Станіслаў Станкевіч

Тэматычны спектр «Беларуса» не абмяжоўваўся жыццём беларусаў у дыяспары. Ён стаўся органам беларускага дэмакратычнага руху. Газета не толькі выкрывала злачынны характар савецкага рэжыму і апісвала штодзённае жыццё беларусаў за межамі БССР, як вызначалася рэдакцыйным артыкулам першага нумара, але была адзінаю крыніцаю поўнае і праўдзівае інфармацыі пра беларускае нацыянальнае адраджэнне і незалежніцкі рух на Бацькаўшчыне. Няма такое беларускае тэмы або праблемы, якая б не знайшла свайго адлюстравання на старонках «Беларуса». Ён ачольваў кампанію супраць парушэнняў правоў чалавека на Беларусі, ён упершыню прадказаў страшныя наступствы Чарнобыльскае катастрофы ды паведаміў пра іх, адкрыў праўду пра шматлікія беларускія Курапаты, пра злачынствы савецкага рэжыму часоў перабудовы, публікаваў і каментаваў матэрыялы нелегальнага друку з БССР, шырока асвятляў палітычныя падзеі на Беласточчыне. Стала прысутнічала на старонках «Беларуса», як і раней «Бацькаўшчыны» ды некаторых іншых беларускіх эміграцыйных выданняў, тэма дзейнасці знакамітых беларусаў за межамі радзімы (Ян Чэрскі, Казімір Семяновіч і іншыя),

---

[16] Купала, Я. Спадчына. Мюнхэн, 1955; Купала, Я. Раськіданае гняздо. Мюнхэн, 1953; Колас, Я. Новая зямля. Мюнхэн, 1953; Колас, Я. Сымон-музыка. Мюнхэн, 1955; Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя. Мюнхэн, 1953, Калюга, Л. Нядоля Заблоцкіх. Мюнхэн, 1954; Власт. Творы. Мюнхэн, 1956; Віцьбіч, Ю. Плыве з-пад Сьвятой Гары Нёман. Мюнхэн, 1956; Крушына, Р. Выбраныя творы. Мюнхэн, 1957; Беларускія казкі. Мюнхэн, 1957; Ля чужых берагоў: Альманах. Мюнхэн, 1955; Станкевіч, Я. Зь гісторыі Беларусі. Мюнхэн, 1956; Багдановіч, М. Вянок паэтычнай спадчыны. Мюнхэн, 1960 ды іншыя.

іх навукова-творчай спадчыны[17]. Друкавалася ў газеце і англамоўная старонка — вельмі неабходны дадатак для маладзейшага пакалення беларусаў-амерыканцаў. Пры перыёдыку былі створаны Фонд «Беларуса» і выдавецтва газеты «Беларус», якое выдрукавала шмат важных кніг[18].

Як і любое выданне, «Беларус» пераживаў у мінулым большыя і меншыя крызісы, пераважна адміністрацыйнага характару. Аднак газета штораз болей узмацнялася. Кіравалі ёю некалькі пакаленняў рэдактараў, рэдакцыйных радаў, супрацоўнікаў. Цягам першых дзесяцігоддзяў гэта былі дзеячы-ідэолагі, якія фармаваліся ў Вільні і Менску ў міжваенныя гады: Лявон Галяк, Лявон Савёнак, Міхась Міцкевіч, Наталля Арсеннева-Кушаль, Мікола Гарошка, Алесь Міцкевіч, Вітаўт Тумаш, Станіслаў Станкевіч, Зінаіда Станкевіч, Антон Шукелойць, Браніслаў Даніловіч ды дзясяткі іншых. Тых пачынальнікаў падмянілі па пэўным часе маладзейшыя з адукацыяй, атрыманай на Захадзе: Ян Запруднік, Зора Кіпель, Вітаўт Кіпель, Васіль Русак, Галіна Русак, Раіса Станкевіч, Кастусь Акула, Антон Маркевіч. Трэцяе пакаленне супрацоўнікаў і кіраўнікоў газеты прыйшло ўжо з Беларусі постсавецкага перыяду: Лявон Юрэвіч, Зміцер Саўка, Віталь Зайка, Марат Клакоцкі, Ганна Сурмач. Кожны дадаў у газету нешта сваё, кожны меў сваю ўлюбёную тэму, але ўсім ім удалося сабраць аднадумцаў, захаваць і нават пашырыць кола аўтараў, адначасна забяспечыўшы газеце фінансавую падтрымку. Сярод сталых аўтараў і адміністратараў «Беларуса» за гэтыя гады можна згадаць Браніслава Даніловіча, Андрэя Стрэчаня, Кастуся Калошу, Сяргея Карніловіча, Янку Ханенку, Язэпа Арцюха, Міколу Заморскага, Міхася Рагулю, Францішка Бартуля, Яніну Каханоўскую, Данчыка і Юлю Андрусышын, Уладзіміра Русака, Вітаўта і Веру Рамукоў, Міхася Кавыля, Ванду і Міхася Махначоў, Людвіку і Антона Бяленісаў і дзясяткі іншых.

Як было зазначана ў нашым артыкуле з д-рам Янам Запруднікам, напісаным да 60-годдзя газеты: *«“Беларус” у сваёй гісторыі спалучыў у сабе розныя пакаленні людзей пяра і нацыянальнай думкі. Агульным назоўнікам усіх іх была — і далей будзе — Беларусь, ейная дэмакратычная дзяржаўнасць, нацыянальная культура, мова, лепшая будучыня»*[19].




Газета «Беларус». *Здымак Belarusworld Baza*

Гісторыя, развіццё і ўплывы на беларускую эміграцыю газет «Бацькаўшчына» і «Беларус» добра прааналізаваны ў кнізе Лявона Юрэвіча «Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага» (Менск, 2006)[20]. Выдатна адлюстроўвае асаблівасці зместу абодвух перыёдыкаў анталогія «Газеты “Бацькаўшчына” і “Беларус”: Выбранае» (Менск, 2019)[21].

Цяпер, аглядаючы ролю, якую больш за шэсцьдзесят пяць гадоў адыгрываў «Беларус» у фармаванні беларускае грамады ў Амерыцы ды ў развіцці беларускіх палітычных ідэалаў, можна з поўным правам назваць гэтую газету вартым прадаўжальнікам такіх рухавікоў беларускага адраджэння, як газеты «Наша Ніва», «Homan» і «Вольная Беларусь».

Гісторыя беларускага друку ў Злучаных Штатах, якая пачалася ў канцы 1940 — пачатку 1950-х гадоў, засведчыла з’яўленне вялікае колькасці публікацый: бюлетэняў, абежнікаў, улётак рознага характару. Некаторыя газеты і часопісы, заснаваныя ў Заходняй Нямеччыне ў паваенным часе, працягвалі выдавацца ў Амерыцы, прыкладам літаратурны часопіс ***«Шыпшына»***, які выходзіў у Рэгенсбургу і Каме (Заходняя Нямеччына) перанёс свой рэдакцыйны адрас у Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі. Газета ***«Беларускае Слова»*** была запачаткаваная ў снежні 1948 года ў Нямеччыне, а ўжо ў 1956 годзе выдавалася ў Злучаных Штатах.

Шмат беларуска-амерыканскіх перыёдыкаў маюць абмежаваны абсяг пашырэння і разлічаныя на задавальненне патрэбаў сваіх невялікіх асяродкаў. Аднак некалькі выданняў разыходзяцца даволі шырока. Сярод гэткіх варта адзначыць два — «Беларускую Думку» і «Беларускі Сьвет».

***«Беларуская Думка»*** — гадавы часопіс выразна палітычнага кірунку. Гэта фактычна неафіцыйны друкаваны орган Беларускага кангрэсавага камітэта, у ім друкуюцца найважнейшыя палітычныя дакументы гэтае арганізацыі. Гадавік выходзіць па-беларуску, часам некаторыя дакументы падаюцца па-англійску. Шмат месца ў ім прысвечана розным праблемам беларускага грамадскага і рэлігійнага жыцця, друкуюцца літаратурныя творы. У кіраўніцтва і рэдакцыю ўваходзілі Міхась Кавыль, Віталь Цярпіцкі, Міхась Палюховіч, Янка Золак, Міхась Сенька, Ігар Шчорс, Жорж Наумчык. Часопіс двойчы на год выходзіць і цяпер. 2015 год — 55-ы год выдання. Жорж Наумчык застаецца рэдактарам і выдаўцом. На старонках выдання публікуецца багата матэрыялаў аўтараў з Беларусі.




Часопіс «Беларуская Думка». 1983 г.

Часопіс ***«Беларускі Сьвет»*** — выдатны прыклад таго, як маленкае рататорнае выданне (часапіс моладзі) ператварылася ў грунтоўны літаратурна-палітычны часопіс, які прыцягваў штораз шырэйшыя колы чытачоў, публікуючы цікавыя і каштоўныя матэрыялы. Заснавальнікам і выдаўцом быў Мікола Прускі[22]. Часопіс спыніў існаванне. Аднак з увагі на тое, што інфармацыя пра Беларусь цікавая для беларускага чытача ў ЗША, у 1993 годзе Мікола Прускі запачаткаваў выданне іншага перыёдыка — газеты *«Беларускі Дайджэст»*. Штомесячнік стаў

[17] Беларус. Нью-Ёрк. 1976. № 233; 1978. № 253 і інш.

[18] Гарэцкі, М. Выбраныя творы. Т. 3. Нью-Ёрк, 1975; Запруднік, Я. Спадчына бацькоў: «Агледзіны». Нью-Ёрк, 1982; Адамовіч, А. «Як дух змаганьня Беларусі». Нью-Ёрк, 1983; Станкевіч, С. Янка Купала. Нью-Ёрк, 1982; Сказ пра Лысую Гару. Нью-Ёрк, 1985 ды іншыя.

[19] Беларус. Нью-Ёрк. 2010. № 575.

[20] Юрэвіч, Л. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў «Бацькаўшчына» й «Беларус» (1947–2000). Мінск: Кнігазбор, 2006.

[21] Газеты «Бацькаўшчына» і «Беларус». Выбранае: Да 70-годдзя газеты «Беларус» (1950–2020)...

[22] [14] Беларускі Сьвет. Дэтройт. 1954. № 1.


БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ
BELARUSIAN DIGEST
25-га САКАВІКА
Жыве Беларусь!
СЛОВА ДА БЕЛАРУСІ

Газета «Беларускі Дайджэст». 1995 г.

даволі папулярны, хоць рабіўся намаганнямі толькі самога выдаўца і яго жонкі Веры Прускай. На працягу 1993–2006 гадоў убачылі свет 124 нумары газеты. Выданне спынілася ў сувязі з хваробай Міколы Прускага.

Крыху пазней, у 2008 годзе, у Вашынгтоне было запачаткавана англамоўнае выданне з аналагічнай назвай ***«Belarus Digest»***, але зусім іншай скіраванасці. Як выглядае, цяпер яно ствараецца ў Вялікабрытаніі. Гэты электронны перыёдык выходзіць рэгулярна і мае аўтарытэт. Рэдактарам пазначаны Яраслаў Крывой.

***«Летапіс беларускае эміграцыі».*** Часопіс заснаваны ў 1947 годзе ў Нямеччыне, ад 1955 года выходзіў у ЗША. Змяшчаў прыватнае ліставанне ранейшага рэдактара Лявона Галяка ды іншых дзеячаў эміграцыі, а таксама адозвы, запрасіны, дакументы розных эміграцыйных арганізацый. Больш не выходзіць.


ПОЛАЦАК
№6(36), 1994

Часопіс «Полацак». 1994 г.

Часопіс ***«Полацак»,*** які выходзіў ад 1990 года ў Кліўлендзе (рэдактар — Святлана Белая), — першая спроба літаратурна-грамадскага супрацоўніцтва эміграцыі з Бацькаўшчынай. Друкаваў матэрыялы з беларускае гісторыі і культуры, а таксама мастацкія творы, успаміны, лакальную хроніку. Нумар 43 быў апошнім, што ўбачыў свет.

Сярод беларускіх перыядычных выданняў, напачатку амаль выключна аднамоўных, у 1970-я гады пачалі з'яўляцца і двухмоўныя, гэткія як ***«Facts on Byelorussia»*** (1972–1974), ***«The Byelorussian Times» / «Беларускі Час»*** (1975–1983) або ***«The Byelorussian Youth» / «Беларуская Моладзь»*** (1959–1980). Газету ***«The Byelorussian Times» / «Беларускі Час»*** добра прааналізаваў Лявон Юрэвіч у кнізе «Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія»[23].

Выдатнаю з'яваю ў беларускім перыядычным друку Амерыкі стаўся заснаваны ў 1989 годзе ў Каліфорніі англамоўны квартальнік ***«Belarusian Review»***. Заснавальнікам (выдаўцом, рэдактарам) у 1989–2001 гадах быў Язэп Арцюх, у 2001–2014 гадах выдаваў і рэдагаваў часопіс Юрка Станкевіч. Гэтае выданне заслужыла сабе рэпутацыю паважнае крыніцы надзейнае палітычнае інфармацыі пра Беларусь. Важнасць яго яшчэ больш узрасла з абвяшчэннем незалежнае Беларускае Рэспублікі і пашырэннем цікавасці сусветных палітыкаў да Беларусі. Выданне працягваецца, наклад каля 1000–1500 асобнікаў. Часопіс на 2014 год пазначаўся як выданне

[23] Юрэвіч, Л. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. С. 544–546.



БАЗА. Галоўны рэдактар Кірыл Касцян, заступнік Ганна Васілевіч, выдавец Віталь Алісіёнак, скарбнік Сяргей Трыгубовіч. Добрую справу запачаткаваў гэты часопіс, выдаўшы ў 2016 годзе спецыяльны яўрэйскі выпуск. Было б добра, калі б практыка тэматычных нумароў мела працяг[24].

Трывалыя перыядычныя англамоўныя выданні — царкоўныя тыднёвыя бюлетэні, якія выходзілі пры парафіях св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывэры і св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Аднак з пераменай святароў гэткія бюлетэні больш не выдаюцца.


Весткі й Паведамленьні
Беларуская Народная Рэспублікі
ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Бюлетэнь «Весткі й Паведамленьні». 2020 г.

Перыядычнае штомесячнае выданне з добрым зместам — інфармацыйны бюлетэнь Згуртавання «Пагоня» ***«Весткі й Паведамленьні»***. Бюлетэнь пачаў выходзіць у 1982 годзе як орган Нью-Ёркскага аддзела БАЗА. Першым рэдактарам быў Мікола Кунцэвіч, потым Аляксандр Міцкевіч, Віталь Зайка. Ад 1997 года рэдагуе бюлетэнь прадстаўнік новага пакалення эмігрантаў Марат Клакоцкі, які адначасова доўгі час быў і рэдактарам газеты «Беларус». Таму ў 1997–2011 гадах «Весткі й Паведамленьні» выходзілі на асобнай старонцы газеты «Беларус». Ад 2011 года бюлетэнь зноў выходзіць асобным выданнем як орган Згуртавання «Пагоня» і вельмі папулярны ў грамадзе. Дадаткам да «Вестак і Паведамленьняў» аднойчы з'явіўся часопіс «Рубікон».

Новая з'ява ў беларускамоўным друку Амерыкі — невялікія беларускія рэкламныя старонкі ў большых рускамоўных выданнях. Прыкладам, у Чыкага выходзіў рускамоўны часопіс «Реклама», рэдактарам якога быў Ванкарэм Нікіфаровіч, што друкаваў у часопісе адмысловы «Беларускі лісток», а сёння Цімох Ліякумовіч змяшчае рэцэнзіі на беларускія кнігі ў дадатку *«Белорусские зарницы»* часопіса *«Земляки»*.

За паваенныя гады беларусы ў Амерыцы выдавалі колькі дзясяткаў перыёдыкаў. Большасць іх захоўваецца ў архівах Беларускага інстытута навукі і мастацтва і ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы.

Д-р Любамір Вінар у сваіх аўтарытэтных аглядах этнічнага друку ЗША ў 1972 годзе зарэгістраваў 14 бягучых беларускіх выданняў з агульным накладам 10 000 асобнікаў, а ў 1984 годзе — 15 выданняў з накладам 7575 асобнікаў, прычым 50 % накладу прыпадала на двухмоўныя выданні[25]. Можна спадзявацца, што двухмоўе ў беларускім друку ЗША захаваецца і надалей.

Цяпер наклад паасобных беларускіх выданняў вагаецца ад 1000–1500 асобнікаў для большых выданняў накшталт «Беларуса» да 150–200 асобнікаў для лакальных бюлетэняў, гэткіх як «Весткі й Паведамленьні», выдаваныя ў Нью-Ёрку мясцовым аддзелам БАЗА ці ў Саўт-Рыверы.

Амаль усе беларускія перыядычныя выданні ў Злучаных Штатах кіруюцца рэдакцыйнымі радамі. Некаторыя арганізацыі, як, прыкладам, Беларуская

[24] Беларус. Нью-Ёрк. 2004. № 498.

[25] Wynar, L. Encyclopedic Dictionary of Ethnic Newspapers and Periodicals in US. Littleton (CO), 1972. P. 12; Папка *«Kent University»* ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

аўтакефальная праваслаўная царква, маюць свае выдавецкія камітэты[26]. Беларускія выданні ў большасці сваёй з адказнасцю ставіліся да свае місіі і шмат прычыніліся да развіцця беларускай журналістыкі і беларускае культуры ўвогуле.

*Фінансавая база*

Ад самых пачаткаў беларускі друк у Злучаных Штатах існаваў на прынцыпе самазабеспячэння. Фінансавыя сродкі на канкрэтную публікацыю звычайна збіраліся праз падпіску, збор ахвяраванняў або з падтрымкаю спачувальных арганізацый, гэткіх як шматлікія выдавецкія фонды, дзейнасць якіх разглядалася вышэй.

Зрэдчас некаторыя выданні атрымвалі датацыі, але гэта былі нязначныя сумы. Адно застаецца пэўным: ніводнае перыядычнае выданне не спыніла існавання толькі праз фінансавыя праблемы. Перыёдыкі пàміралі з прычыны рэдакцыйных непаразуменняў, нястачы супрацоўнікаў ды іншых падобных чалавечых фактараў.

*Кнігі*

Калі ідзе гаворка пра кнігі, варта працытаваць Лявона Юрэвіча з яго працы «Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія»: *«Зрабіць і выдаць кнігу — толькі палова справы, і мо найменшая. Рэалізаваць наклад, раздаўшы яго, а тым больш паспрабаваць прадаць — праблема ў Беларусі. А што ўжо казаць пра эміграцыю!»*. Мае рацыю даследчык, але на эміграцыі, найперш праз каталогі БІНіМа і выставы, былі распаўсюджаныя тысячы і тысячы беларускіх кніг. Працы было ўкладзена шмат, але кнігі не «раздавалі», распаўсюджвалі галоўна ў бібліятэкі, даследчыкам.

Да Другое сусветнае вайны амерыканскія беларусы не выдалі ніводнае кнігі. Праўда, ёсць звесткі пра выданне ў ЗША ў 1916 годзе ўкраінскага перакладу нарыса Максіма Багдановіча *«Угорська Русь»*[27], аднак яго з'яўленне звязана з дзейнасцю ўкраінцаў, а не беларусаў. Усё, чым можна было б пахваліцца самім беларусам, — невялічкія праграмкі розных вечарынаў, як, прыкладам, *«Беларускі вечар»* (Чыкага, 1926) або падборка інфармацыйных нарысаў *«Американский Белорус»* (Чыкага, 1930). У тым часе з'явілася, што праўда, колькі кніжак, якія мелі дачыненне да амерыканскіх беларусаў або адлюстроўвалі іхныя погляды, але яны выйшлі або не ў ЗША, або ў чужых выдавецтвах. Сярод гэткіх можна назваць, прыкладам, *«Что я видел в Советской России»* Мінскага Мужыка[28].




Кніга «Что я видел в Советской России» Мінскага Мужыка (Чыкага, 1935)

Беларускае кнігадрукаванне ў Амерыцы пачалося пасля Другое сусветнае вайны. Аднак развівалася яно іншым шляхам, чым паваеннае беларускае кнігадрукаванне ў Заходняй Нямеччыне. У Злучаных Штатах выдаваліся пераважна літаратурныя і навуковыя працы, шматлікія мемуары, музычная і рэлігійная літаратура, а таксама, у меншай колькасці, падручнікі і дапаможныя матэрыялы.

[26] Голас Царквы. Бруклін. 1965. № 22. С. 13.

[27] Роднае слова. Мінск. 2016. № 1.

[28] Минский Мужик. Что я видел в Советской России. Чикаго, 1935; Стаховский, К. Моль жирная и моль тощая. Вильно, 1939.



Беларускае кнігадрукаванне ў ЗША было запачаткаванае рознымі арганізацыямі і прыватнымі асобамі, якія заснавалі свае выдавецкія прадпрыемствы. Гэткія былі выданні Крывіцкага навуковага таварыства, Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта, Беларускага інстытута навукі і мастацтва, рэлігійных установаў, а таксама асобных людзей: Часлава Будзькі, Уладзіміра Пелясы, Вацлава Пануцэвіча, Янкі Шакуна, Яўхіма Кіпеля, Янкі Юхнаўца ды іншых. Літаратурныя творы складалі значную частку выдаванае прадукцыі, выходзілі таксама гістарычныя, этнаграфічныя і музычныя працы, успаміны, падручнікі. Для падручнікаў характэрна, што яны былі двухмоўныя або мелі ў канцы англійска-беларускі слоўнічак. У 1950, 1960 і 1970-я гады закладаліся адмысловыя выдавецкія суполкі: «Пагоня», «Заранка», Беларускі харытатыўна-адукацыйны фонд ды іншыя[29]. Былі выдадзеныя англамоўныя кніжкі пераважна інфармацыйнага характару[30]. Выдавалі кнігі беларускага зместу і амерыканскія арганізацыі, прыкладам, Усходнееўрапейскі фонд (Нью-Ёрк), а таксама ўніверсітэты.

Наклад выдадзеных у Амерыцы беларускіх кніг рэдка дасягае больш за 2–3 тысячы асобнікаў. Выключэнне складаюць англамоўныя публікацыі накшталт *«Byelorussian Statehood»*, якія выклікалі шырокае зацікаўленне ў амерыканцаў ды ў англамоўнае часткі грамады. Усе беларускія кнігі распрадаюцца, хоць часам на гэта ідзе колькі гадоў, прыбытак ідзе на пакрыццё новых выдавецкіх ініцыятываў.




Вокладка кнігі Лявона Юрэвіча «Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія». 2015 г.

Калі абрынулася жалезная заслона і стаўся магчымы свабодны паштовы абмен, у Беларусі выявілася шырокая папулярнасць выдадзеных у Амерыцы беларускіх кніг — твораў Наталлі Арсенневай, Алеся Салаўя, Міхася Кавыля, Аляксандры Саковіч, Юркі Віцьбіча, Вітаўта Тумаша, Янкі Станкевіча, Пятра Рагача ды іншых. З іншага боку, некаторыя беларускія выдавецтвы Амерыкі часам друкуюць працы аўтараў з Беларусі і Польшчы[31].

Трэба адзначыць, што кнігавыдавецкай справе ў ЗША спрыяюць гэткія акалічнасці, як супрацоўніцтва

[29] Сяднёў, М. Ля ціхай брамы. Нью-Ёрк: Выдавецтва Ул. Пелясы, 1955; Юхнавец, Я. Шорах моўкнасьці. Нью-Ёрк: Выдавецтва Ул. Пелясы, 1955; Будзька, Ч. Кніжка аб Івашку Гарнастаю. Чыкага, 1955; Гарыгляд, А. Воды Беларусі. Нью-Ёрк, 1953; Гарыгляд, А. Сялянства і земляробства Беларусі. Нью-Ёрк, 1953; Кіпель, Я. Асновы маралі. Нью-Ёрк, 1953; Вітан, К. Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Нью-Ёрк: Крывіцкае навуковае Таварыства Праньціша Скарыны, 1954; Арсеннева, Н. Між берагамі. Нью-Ёрк — Таронта: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1979; Салавей, А. Нятускная краса. Збор твораў. Нью Ёрк — Мэльбурн: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1982; Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе. Нью-Ёрк: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1985; Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны. Нью-Ёрк: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1989; Куліковіч, М. Беларуская музыка. Нью-Ёрк: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1953; Кавыль, М. Пад зорамі белымі. Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт. Нью-Ёрк, 1954; Юхнавец Я. Калюмбы. Усебеларускі Архіў. Нью-Ёрк, 1967; Пануцэвіч, В. Жамойдзь і Літва. Чыкага, 1953; Шакун, Я. Сьлед пяра. Нью-Ёрк, 1957; Кавыль, М. Цяжкія думы. Нью-Ёрк: Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт, 1961.

[30] Stankievieh, J. Ethnographical and historical territories and boundaries of Whiteruthenia (Kryvia, Byelorussia) New York, 1953; Zaprudnik, J. Byelorussian Independence Day in America's Bicentennial Year. New York, 1977; Byelorussian Statehood. New York, 1988.

[31] Быкаў, В. Мёртвым не баліць. Б. д. Б. м.; Туронак, Ю. Доктар Баляслаў Туронак. Нью-Ёрк, 1991.

з Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына» ў Менску, дзейнасць шматлікіх прыватных выдаўцоў у Менску, Вільні. Смаленску. Развіццё беларускага кнігадруку на Захадзе пасля Другой сусветнай вайны добра адлюстравана ў згаданай кнізе Лявона Юрэвіча «Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія».

Цягам апошніх дзесяцігоддзяў ідзе плённае супрацоўніцтва ў кнігавыдавецкай справе амерыканскіх беларусаў з Беларуссю. Ад самага пачатку падтрымку з-за акіяна атрымала кніжная серыя «Беларускі кнігазбор», у якой друкаваліся тамы і імігрантаў у Амерыцы: Наталлі Арсенневай, Рыгора Крушыны, Масея Сяднёва. Блізкае супрацоўніцтва было наладжана з Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына». Таварыствам беларускай мовы, бібліятэкамі ды рэлігійнымі арганізацыямі[32].



Паштоўка да 100-годдзя Максіма Багдановіча, выдадзеная БІНіМам. 1991 г.

*Эфемерныя публікацыі*

Прадукцыя гэтага кшталту ўлучае літаральна сотні малых публікацый, гэткіх як юбілейныя буклеты цэркваў ды іншых інстытуцый і арганізацый, рэкламы збору сродкаў, праграмкі і білеты розных урачыстасцяў, паштоўкі і г. д. На жаль, слаба распрацаваныя бібліяграфічныя прынцыпы ўліку такіх друкаў, але звычайна арганізацыі і ўстановы, што іх выдаюць, маюць добрыя зборы гэткіх матэрыялаў[33]. Некаторыя частка іх улічаная на дыску «Беларускія эміграцыйныя калекцыі»[34], а таксама даступная на сайце інтэрнэт-бібліятэкі *Kamunikat.org*[35].

## Асвятленне беларускае тэматыкі ў небеларускім друку

Як было відаць з папярэдняга аналізу, дзейнасць беларусаў адлюстраваная і ў шматлікіх небеларускіх публікацыях. Сабраць поўную інфармацыю пра беларусіку ў небеларускім друку ў Амерыцы наўрад ці магчыма, але арганізацыі, як БІНіМ або БАЗА, а таксама прыватныя асобы ў меру магчымасці рэгіструюць гэты матэрыял.

Яшчэ да Чарнобыльскае катастрофы, якая знайшла шырокі водгук у сусветным друку, паведамленні пра Беларусь і беларусаў рэгулярна з'яўляліся на старонках амерыканскіх англамоўных і славянскамоўных газетаў — часцей у рускіх і ўкраінскіх, радзей у польскіх ды славацкіх. Бяда ў тым, што вельмі часта інфармацыя падавалася недакладна і памылкова. Добрым прыкладам гэткае няпоўнае інфармацыі могуць служыць агляды навінаў у *«The New York Times»*, дзе побач з інфармацыяй пра Беларусь змяшчалася карта, на якой пазначаны межы ўсіх былых рэспублік, апрача Беларусі. Пасля колькіх лістоў да рэдактара назоў Беларусі ўсё ж з'явіўся на карце[36].

Трэба сцвердзіць, што такіх прынагодных друкаў болей! Вось прыкладам часопіс *«BOW — Big Open World Magazine»*, які падаецца як інтэрнацыянальны часопіс палітыкі, навукі, літаратуры і мастацтва. Выданне англамоўнае, добрай паліграфічнай якасці (ілюстрацыі, графіка). Галоўны рэдактар — Уладзімір Гуткоўскі, вядомы некаторымі артыкуламі на беларускую тэму. У часопісе можна спаткаць, прыкладам, аповед праператрус у ПЭН-Цэнтры ў Менску (снежань 2010), пераклады ў англійскую мову твораў Алеся Гаруна, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча (перакладчык Вячаслаў Лакцюшын). Гэткага кшталту друкі БІНіМ збіраў і іх трэба збіраць надалей і перадаваць у Менск у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.

32 Гардзіенка, Н., Юрэвіч, Л. Хронікі БІНіМу...

33 Папка «Volantia» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

34 Дыск быў дадаткам да альманаха «Запісы БІНіМ» (№ 36. Нью-Ёрк — Менск, 2014).

35 http://kamunikat.org/bek.

36 Belarusian Review. Torrance (CA), 1990. № 1.



### *Англамоўныя газеты*

Пасля школьных падручнікаў найбольш прычыніліся да сеяння дэзынфармацыі пра Беларусь і беларусаў у Амерыцы амерыканскія газеты. Поўнае ігнараванне важных тэрміналагічных асаблівасцяў, павярхоўнае асвятленне гісторыі і частае няведанне элементарнае геаграфіі выразна выяўляюцца ў шмат якіх амерыканскіх англамоўных газетных матэрыялах пра Беларусь.

Большыя амерыканскія газеты і часопісы, як, прыкладам, ***«The New York Times», «The Baltimore Sun», «Chicago Tribune», «Sports Illustrated», «Time Magazine»*** ды іншыя, толькі ў апошнія дзесяцігоддзі — у сувязі з падзеямі на Бацькаўшчыне — пачалі даваць змястоўную і аператыўную інфармацыю пра Беларусь. У гэтым пацвердзіўся даўні погляд эміграцыі: ступень асвятлення англамоўным друкам падзей на Беларусі будзе залежаць ад іх палітычнага памеру.

Інфармацыя пра дзейнасць амерыканскіх беларусаў у вялікім англамоўным друку з'яўляецца не так часта, аднак на гэта, бадай, могуць наракаць і іншыя этнічныя групы. Адначасна ж нельга сказаць, што беларусы Амерыкі ігнаруюцца. Даўней *«The New York Times»* змяшчала нават паведамленні пра з'езды БАЗА, адзначэнні Дня Незалежнасці Беларусі. Між іншым гэтая газета — добрая крыніца для вывучэння дзейнасці беларускае місіі ў ААН[37].

З другога боку, меншыя газеты, як, прыкладам, ***«Cleveland Plain Dealer»***, а тым болей газеты лакальныя асвятляюць рэгулярна жыццё і дзейнасць беларускіх грамадаў, хоць і тут нярэдка падаецца памылковая інфармацыя. Наогул жа, на думку амерыканскіх беларусаў, лакальны друк значна да іх прыязнейшы за вялікія амерыканскія газеты і часопісы, і таму беларусы падтрымоўваюць з ім добрыя кантакты.

Асобная група англамоўных перыёдыкаў — шматэтнічныя выданні. Звычайна яны выдаюцца міжнацыянальнымі арганізацыямі і асвятляюць праблемы розных этнічных грамадаў. Часам гэтыя выданні маюць шырокае кола чытачоў па ўсёй краіне. Да гэткіх часопісаў, прыкладам, належаў ***«The Voice of the Church» («Церковный Голос»)***, які выходзіў у 1930—1940-я гады і быў афіцыйным органам Славянскага Апасталату Злучаных Штатаў і цалкам прысвячаўся прапагандзе злучэння ўсходняе і заходняе галінаў хрысціянства.

У часопісе друкаваліся матэрыялы з беларускае літаратуры, прыкладам, пабеларуску быў змешчаны верш Янкі Купалы «Вялікдзень», развагі над беларускаю мовай і культураю, нататкі на гістарычныя тэмы.

У артыкулах святароў а. Яна Тарасевіча, а. Язэпа Рэшаца і а. Базыля Гапановіча змешчана шмат інфармацыі пра Беларусь. У іх разглядаюцца дачыненні паміж

37 The New York Times. 1951. February 18; 1955. March 24; 1957. March 25; 1975 August 6; 1987. August 30; 1988 December 8, 28; Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1952. № 9–10, 11–12; Беларус. Нью-Ёрк. 1951. № 6; 1953. № 40; 1975. № 220.

каталікамі і праваслаўнымі на Беларусі, дзейнасць беларускіх каталіцкіх святароў на Далёкім Усходзе, стан рэлігіі на Беларусі, жыццё Святое Еўфрасінні Полацкае і г. д.[38].

Сярод пазнейшых англамоўных шматэтнічных выданняў варта згадаць ***«New American»*** (Дэтройт, штат Мічыган), ***«Heritage Review»*** (Нью-Брансвік, штат Нью-Джэрсі) ды іншыя. *«Heritage Review»* у 1972—1977 гадах надрукаваў асабліва шмат матэрыялаў пра беларусаў у штаце Нью-Джэрсі.

Калі гаварыць пра тэму беларусікі ў вялікім англамоўным амерыканскім перыядычным друку, дык справа непараўнальна змянілася за апошнія дзесяцігоддзі ў лепшы бок. Пра Беларусь у амерыканскіх газетах пішуць часта і на шматлікія тэмы. Асабліва багата асвятляецца спорт: хакей, тэніс. Такія падзеі, як хакейны чэмпіянат у Менску, тыднямі апісваліся ў дэталях. Прычым амерыканцы любяць весткі і пра канкрэтных спартоўцаў, а Руслан Салей[39], Уэйн Грэцкі былі ўлюбёнцамі амерыканскіх заўзятараў. Пішацца шмат і пра іншыя віды спорту. Пра беларускі спорт пішуць усе — і вялікія, і малыя амерыканскія газеты.

Эканоміка Беларусі закранаецца ў перыёдыках выбарачна. Такія газеты, як *«The Wall Street Journal»*, *«The New York Times»*, даюць вельмі крытычныя эканамічныя агляды агульнага стану краіны, аналізуюць дзейнасць такіх гігантаў, як Беларуськалій, даволі падрабязна, часам робяць фінансавыя прагнозы.

Палітычны аналіз, палітыка Беларусі — тэмы сталыя для буйных газет, як *«The Christian Science Monitor»*, *«The Washington Post»*, *«The New York Times»*. Наогул, у палітычных аналізах у амерыканскіх газетах ёсць свае спецыялісты, як, прыкладам, Дэвід Крэмэр у *«The New York Times»*. Увесь амерыканскі штодзённы друк крытыкуе беларускія ўлады за прарасійскую скіраванасць, адсутнасць свайго курсу, за беларусафобства. Прычым амерыканскія газеты імкнуцца прааналізаваць Беларусь як мага шырэй. Прыкладам, *«The Washington Post»* рабіла інтэрв'ю і з А. Лукашэнкам, і з А. Саннікавым, і з прадстаўнікамі БНФ. Аднак найбольшы розгалас у газетах ЗША, асабліва ў *«The Washington Post»* і *«The New York Times»,* зрабіў беларускі Вольны тэатр: разглядалася шырока не толькі ягоная дзейнасць, але і тэатр Беларусі наогул[40]. Зразумела, і літаратура — беларускі нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч — былі тыднямі на старонках друку ад ўсходняга да заходняга ўзбярэжжа Амерыкі.

Не мінае амерыканскі вялікі друк і маленькіх здарэнняў з беларускім адценнем. Прыкладам, выдаленне з ЗША аднаго беларускага дыпламата за патасоўку на паркінгу ў Нью-Ёрку, ці палітычнае выдаленне за 24 гадзіны сакратара беларускай амбасады ў Вашынгтоне Уладзіміра Грамыкі, ці разнастайныя паведамленні пра беларусаў у раздзелах крымінальнай хронікі амерыканскіх выданняў. Прыкладам, пісалі пра забойства беларуса, працаўніка муніцыпальнай адміністрацыі ў горадзе Вірджынія Біч Аляксандра Гусева. Ён паходзіў з Магілёва, прыехаў у ЗША ў 2003 годзе і быў застрэлены разам з 11 іншымі амерыканцамі ў страляніне ў 2019 годзе[41]. Бываюць і іншыя звесткі. Так, агенцтва *«Associated Press»* штодня пускае ў друк рубрыку, што трапляе ў сотні газетаў, «Здымак дня», і Беларусь часта трапляе ў яе з цудоўнымі здымкамі відаў беларускай прыроды або выявамі беларускіх рэалій.

Яшчэ адна надзвычай важная тэндэнцыя ў сучасным вялікім амерыканскім друку — змяшчэнне на яго старонках артыкулаў беларускіх аўтараў. Прыкладам, артыкул Андрэя Дынько «Апошні дыктатар Еўропы»[42] або артыкул Таццяны Кулакевіч пра прэзідэнцкія выбары ў Беларусі[43]. Прычым апошні быў адбіты асобнай улёткай Дзярждэпартаментам і рассылаўся сотням сваіх служачых. Амаль рэгулярная з'ява ў англамоўным перыядычным друку — артыкулы-агляды палітычнай сітуацыі ў Беларусі сябры БАЗА сп-ра Валера Кавалеўскага. Аўтар аналізуе становішча ў Беларусі, выказвае меркаванні наконт магчымага развіцця падзей у дачыненнях беларускіх уладаў з Захадам. На наш погляд, амерыканскі палітычны істэблішмент патрабуе беларускага погляду, і артыкулы беларусаў у англамоўным друку даказваюць гэта. Падсумоўваючы, можна адзначыць як дасягненне апошніх гадоў публікацыі артыкулаў на беларускія тэмы з беларускага гледзішча ў *«The New York Times», «Forbes», «Christian Science Monitor», «The Washington Post», «The Wall Street Journal».*

### *Украінскія газеты*

Украінская грамада ў Злучаных Штатах і ўкраінскі друк, асабліва газета ***«Свобода»***, шчыра прывіталі палітычнае абуджэнне беларускага народа. *«Свобода»* на пачатку XX стагоддзя пачала друкаваць матэрыялы пра Беларусь палітычнага і культурнага характару. Выдаўцы газеты, якія вялі гэткае самае змаганне за сваю этнічную тоеснасць у Злучаных Штатах, ведаючы, што ў Амерыцы ёсць нямала беларусаў, друкавалі цікавыя для беларускіх імігрантаў навіны пад рубрыкаю «З беларускага жыцця». *«Свободзе»* належыцца гонар першага азнаямлення шырокага кола амерыканскіх чытачоў з беларускаю моваю і літаратураю. Яна перадрукавала па-беларуску з «Нашае Нівы» верш Янкі Купалы (1909 г.), прысвечаны памяці Тараса Шаўчэнкі[44]. Бясспрэчна, украінцы і ўкраінская грамада ў Амерыцы былі першымі, хто прызнаў палітычныя памкненні беларусаў, азнаёміў з гэтымі памкненнямі шырокія масы ў Злучаных Штатах, шмат паспрыяўшы тым самым беларускаму палітычнаму і культурнаму адраджэнню.

Было шмат выпадкаў, калі ўкраінцы запрашалі беларусаў узяць удзел у іхных палітычных мітынгах і культурных імпрэзах. Часам беларусы бралі ў іх удзел, аднак большасць беларускіх імігрантаў, на жаль, была тады яшчэ не гатовая выйсці на палітычную арэну і не заўсёды адказвала на гэтыя запрашэнні.


Білоруський альманах друкує українців

Зацемка пра беларускую прэзентацыю ў Гайленд-Парку (Нью-Джэрсі) ва ўкраінскай газеце «Свобода». 2019 г.

Матэрыялы на беларускія тэмы працягвалі з'яўляцца ва

[38] The Voice of the Church. Lisle (IL). 1939. № 4—5; 1943. № 5.

[39] Пра Руслана Салея выйшла англамоўная кніга: Olechnovich, S. Simply the Best: The tragic story of the greatest Belarusian hockey player, Ruslan Salei. Gold Star Publishing, 2017.

[40] The New York Times. 2015. Oct. 18.

[41] https://www.svaboda.org/a/29977230.html.

[42] The New York Times. 2012. July 18.

[43] The Washington Post. 2015. July 15.

[44] Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе... С. 13.

ўкраінскім друку і пазней. У 1940-я гады украінцы зноў былі першыя, хто змясціў беларускія абвесткі да новапрыбылых імігрантаў[45]. Пасля Другой сусветнай вайны наваствораныя беларускія арганізацыі Беларуска-амерыканскае задзіночанне, Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі, Беларускі інстытут навукі і мастацтва і іншыя даволі часта супрацоўнічалі з украінскімі арганізацыямі і паасобнымі дзеячамі: Леў Дабранскі, Мірон Леськів, Уолтэр Душнык і інш., і інфармацыя аб беларускіх ці сумесных мерапрыемствах з'яўлялася на старонках украінскіх газет і часопісаў у ЗША.

Застаецца беларуская тэматыка актуальнай на старонках украінскіх газетаў у Амерыцы і ў XXI стагоддзі. Сёння кантактуюць з украінскімі дзеячамі і арганізацыямі Ганна Сурмач, д-р Янка Запруднік, Вальжына Морт.

### Рускія газеты


Alaska Herald.
VOL. 1. SAN FRANCISCO, MARCH 1, 1868.

Загаловак першага нумара газеты «Alaska Herald». 1868 г.

Ужо ў 1868 годзе а. Агапі Ганчарэнка ў сваёй газеце *«Alaska Herald»* выступіў з развагамі аб праблемах Гарадзеншчыны ды аб рэлігійных і моўных пытаннях «заходніх губерняў» на падставе справаздачаў дапісчыкаў з Вільні і Пецярбурга, не згадваючы, аднак, назова «Беларусь»[46].

Да Першае сусветнае вайны рускія газеты ў Злучаных Штатах зрэдку змяшчалі выпадковыя матэрыялы, датычныя Беларусі (вельмі рэдка ўжываючы тэрмін «Беларусь»), не зварачаючы ніякае ўвагі на Беларусь як палітычнае паняцце. Калі можна не сумнявацца ў відавочнай падтрымцы беларускага нацыянальнага руху ўкраінскім друкам, дык з вялікаю стрыманасцю ў гэтым сэнсе трэба ставіцца да рускіх газетаў, якія паслядоўна выступалі з засцярогаю да беларускіх сепаратысцкіх памкненняў, ад якіх бы палітычных колаў яны ні сыходзілі — белых, чырвоных, цэнтрыстаў-анархістаў ці іншых. Пасля 1917 года большасць рускіх газетаў у Злучаных Штатах захапіла тэма расійскае рэвалюцыі і сусветнага пралетарыяту[47].

Аднак калі этнічныя матывы прыдаваліся да прапагандных мэтаў, яны ўжываліся без абмежаванняў. Так, прыкладам, падчас паховінаў у Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, у мясцовай парафіі святых Пятра і Паўла, якая пераважна складалася з беларусаў, калі святар звярнуўся да парафіянаў: *«Мае дарагія землякі з Віленшчыны»*, журналіст з «Новага Міру» тут жа дадаў: *«А што ж сталася з парафіянамі з Гарадзеншчыны і Меншчыны?»* — каб настроіць людзей супраць святара[48]. Але рэвалюцыйныя падзеі, асабліва абвяшчэнне Беларускае Народнае Рэспублікі і Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі, прымусілі рускія газеты падысці да справы больш рэалістычна і прызнаць Беларусь як палітычнае паняцце. Варта адзначыць, што газеты рэвалюцыйнае арыентацыі — сацыялістычныя, камуністычныя або анархісцкія — звярталіся да беларускіх тэмаў часцей за кансерватыўны, манархісцкі або праваслаўны друк[49].

[45] Папка «Ukrainian Language Clippings» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).
[46] Alaska Herald. San Francisco. April 15, July 15, 1868.
[47] Park, R. The immigrant press and its control... P. 487.
[48] Новый Мир. Нью-Йорк. 10 окт. 1916.
[49] Новый Мир. Нью-Йорк. 1914. 8 нояб.; 1918. 2 марта, 2 апр., 17 мая; 1919. 23 июня; 1926. 3 июля, 14 авг.; 1927. 9 апр.



Некаторыя газеты і часопісы хоць і не былі прыхільныя да царскага рэжыму, тым не менш крытычна ставіліся да пераменаў у былой імперыі. Так, прыкладам, К. Солнцаў выказаў у газеце *«Наука и Жизнь»* меркаванне, што «нацыянальны раздзел» Расійскае дзяржавы — уваскрашэнне «паміраючых меншасцяў»[50].

Аднак большыя газеты, гэткія як *«Новый Мир», «Русский Голос»* або *«Новое Русское Слово»*, пагадзіліся з абвяшчэннем Савецкае Беларусі.

***«Новый Мир»*** даволі шырока асвятляў падзеі ў Савецкай Беларусі. Ён нават вітаў працэс беларусізацыі, зазначаючы, што *«тэма беларусізацыі выклікае вялікае зацікаўленне ў нашай калоніі (г. зн. сярод «рускага» насельніцтва Злучаных Штатаў.* — В. К.) *хоць бы толькі з тае прычыны, што яна, прынамсі, на 60 % складаецца з беларусаў»*[51]. Газета шмат паспрыяла ўсталяванню кантактаў паміж старою хваляю беларускіх імігрантаў і навастворанай Беларускай Савецкай Рэспублікай.


В направлении Смоленска разгромлено 100,000 германцев
НАЦИ ПОТОПИЛИ ДВА АМЕРИКАНСКИХ СУДНА
РУССКИЙ ГОЛОС
RUSSIAN VOICE (Daily) RUSSKY GOLOS
ВОЕННЫЕ СУДА США БУДУТ СТРЕЛЯТЬ ПО ПОДЛОДКАМ ОСИ
Десант союзников в Шпицбергене

Газета «Русский Голос». 1941 г.

***«Русский Голос»***, выразна прарасійская газета, падтрымоўвала паслярэвалюцыйныя перамены. Аднак, паведамляючы пра беларусізацыю ў Савецкай Беларусі, яна пісала: *«У працэсе беларусізацыі руская культура не павінна ігнаравацца і адкідацца»*[52]. Газета таксама змяшчала шмат сенсацыйных крымінальных гісторый, дзе былі замешаныя паасобныя беларускія імігранты, прыкладам, як Сцяпан Кенюх забіў сваю жонку з рэўнасці або як Максім Вошыц, інакш званы Томас МакКоцкі, перад павешаннем гаварыў са святаром *«у сваёй роднай мове»*[53].

Пра беларускіх імігрантаў пісаў нехта «Ів. Прышчэпа», які ідэнтыфікаваў сябе як беларуса і ў нататках пра паездку ў штат Вісконсін зазначаў, што *«пад уплывам загару з белага беларуса стаўся тыповым мексіканцам»*[54]. Пісаў гумарэскі пра беларусаў-імігрантаў і згаданы раней дзеяч Сымон Салкоўскі[55].

*«Русский Голос»* нярэдка перадрукоўваў артыкулы з газетаў Савецкае Беларусі, як, прыкладам, артыкул Яўхіма Карскага да 400-годдзя беларускага друку або Г. Грыгор'ева, А. Чарвякова і Я. Адамовіча пра развіццё эканомікі і культуры ў Савецкай Беларусі[56].

Ідэі русіфікацыі нярускіх народаў былі вельмі блізкія выдаўцам *«Русского Голоса»*. Аднак гэтыя колы, сярод якіх было даволі шмат велікароскага этнічнага элемента, добра разумелі, што большасць іхных чытачоў, тых, што называлі сябе «рускімі», не былі велікаросамі і фактычна гаварылі не па-руску. Каб развязаць

[50] Наука и Жизнь. Нью-Йорк. 1923. № 13.
[51] Новый Мир. Нью-Йорк. 1926. 14 авг.
[52] Русский Голос. Нью-Йорк. 1929. 8 сент.
[53] Русский Голос. Нью-Йорк. 1927. 22 мая.
[54] Русский Голос. Нью-Йорк. 1930. 10 авг.
[55] Русский Голос. Нью-Йорк. 1930. 23 авг.
[56] Русский Голос. Нью-Йорк. 1925. 24 янв., 28 июня.

гэтую праблему і даць сваім чытачам магчымасць «палепшыць» сваю мову, *«Русский Голос»* распачаў у сярэдзіне 1920-х гадоў адмысловую рубрыку *«Как правильно говорить по-русски»*. Аглядаючы рубрыку, можна пабачыць, як выдаўцы *«просвещали»* беларускіх чытачоў: *«Неправильно говорить т у д о й , с ю д о й вместо т у д а , с ю д а , нельзя говорить с у с е д , а нужно с о с е д»* і г. д.[57].

Гэтыя рускія газеты сацыялістычна-камуністычнае арыентацыі аператыўна зрэагавалі на пачатку 1930-х гадоў на хвалю арыштаў сярод беларускае інтэлігенцыі, абвінавачанае Саветамі ў нацыянал-дэмакратызме. Падзеі знайшлі ў газетах шырокі водгук, як і працэс над Грамадою ў канцы 1920-х гадоў (да якое *«Русский Голос»* паставіўся з сімпатыяй), толькі цяпер стаўленне газеты да асуджаных было востра крытычнае. Выдаўцы па-халуйску трымаліся савецкае лініі, вінавацячы нацдэмаў у супрацоўніцтве з замежнымі разведкамі і «выкрываючы» іхную дзейнасць у розных галінах інтэлектуальнага жыцця рэспублікі. Рэдактары гэтае левае амерыканскае газеты, выконваючы дырэктывы савецкіх уладаў, амаль цалкам перадрукавалі прыпісаны Янку Купалу ліст, дзе ён асуджаў беларускіх нацыянал-дэмакратаў[58].

У наступныя дзесяцігоддзі газета працягвала надаваць увагу падзеям у Савецкай Беларусі і сталася прапагандыстам прасавецкае ідэалогіі сярод тысячаў амерыканскіх беларусаў, нашчадкаў дарэвалюцыйнае хвалі імігрантаў.

*«Русский Голос»* заняў непахісна варожую пазіцыю ў дачыненні да паваеннае беларускае іміграцыі[59]. Агулам кажучы, гэтая газета больш за іншыя выданні прысвячала месца беларускай тэматыцы. Можна было б спадзявацца, што гэта будзе адлюстравана ў выдадзенай у 1990 годзе ў Менску манаграфіі, прысвечанай выключна *«Русскому Голосу»*, аднак аўтар Галіна Еўдакімава зусім абмінула гэтую тэму, толькі раз мімаходзь згадаўшы, што газету падтрымоўвалі амерыканцы беларускага паходжання[60].

Беларускія тэмы асвятляліся і ў анархісцкім друку. Як было зазначана раней, сярод лідараў анархісцкага руху ў Злучаных Штатах было нямала беларускіх імігрантаў. На жаль, нягледзячы на гэта, анархісты непрыхільна глядзелі на імкненні да нацыянальнае апрычонасці. Русафільская арыентацыя анархістаў шырока задакументаваная і належна ацэненая ў беларускім друку. Нават у 1950-я гады, калі, як можна было б меркаваць, Беларусь як палітычнае паняцце ўжо трывала замацавалася, анархісты так і засталіся неперакананыя.

У артыкуле «Самавызначэнне народаў» Ю. Калакольцаў бараніў ідэю захавання адзінае «Расіі» дзеля *«зручнасці кіравання»* (!) і палохаў усіх прывідам маленькіх дыктатараў, якія б прыгняталі свае народы, калі б было дазволена існаваць маленькім незалежным краінам[61].

Няўмольны час і законы біялогіі прыбралі анархістаў ды іхных беларускіх паслядоўнікаў з палітычнае сцэны.

***«Новое Русское Слово»***, заснаванае ў 1910 годзе ў Нью-Ёрку, — газета, якую выпісвала і чытала шмат беларусаў, галоўным чынам з прычыны яе выразнае антыкамуністычнае пазіцыі. Адзін з заснавальнікаў газеты Андрэй Сядых пісаў

[57] Русский Голос. Нью-Йорк. 1927. 4 окт.

[58] Русский Голос. Нью-Йорк. 1931. 1 февр.

[59] Русский Голос. Нью-Йорк. 1948. 28 окт.; Беларускае Слова. Міхельсдорф. 1948. № 1.

[60] Евдокимова, Г. Русский голос в Америке. Минск, 1990; Беларус. Нью-Ёрк. 1990. № 372.

[61] Дело Труда — Пробуждение. Нью-Йорк. 1953. № 42; Белорусская Трибуна. Чикаго. 1929. № 3; 1932. № 11.




НОВОЕ РУССКОЕ СЛОВО

В Белоруссии террор. - По обвинению в предательстве арестованы весь Совнарком и ЦИК

Газета «Новое Русское Слово» з артыкулам, прысвечаным Беларусі. 1937 г.

з нагоды яе 70-гадовага юбілею: *«Задуманая яна была напачатку вельмі сціпла, як газета “каланіяльная”, разлічаная галоўным чынам на простага чытача — “палешукоў” з Менскае і Гарадзенскае губерняў, якія прыязджалі ў Амерыку на заробкі»*[62].

Часам газета змяшчала матэрыялы пра беларусаў Амерыкі і пра падзеі ў Беларусі. Тым часам як *«Новый Мир»* і *«Русский Голос»* захапляліся гэтак званымі дасягненнямі ў Савецкай Беларусі, *«Новое Русское Слово»* не раз паведамляла пра беларускі супраціў саветызацыі[63].

*«Новое Русское Слово»* мела колькі беларускіх аўтараў і дапісчыкаў, гэткіх як Мінскі Мужык (псеўданім), І. Д. Далеўскі, Беларус (псеўданім), Н. Варановіч ды іншыя. Мінскі Мужык — добра вядомы ў славянскіх колах журналіст Дзяніс Гарбацэвіч (1895—1986), стары эмігрант са Случчыны — быў адным з гучных крытыкаў савецкай сістэмы. Ён часта пісаў у газету, а таксама выдаў некалькі кніг пра жыццё ў БССР, адведаўшы СССР перад вайной і пасля яе[64]. Дзяніс Гарбацэвіч часта наведваў Нью-Ёркскую публічную бібліятэку, быў свядомы, што беларус, аднак палітычна быў «общерусский человек». Спачатку сімпатызаваў «прагрэсістам з анархічным ухілам», аднак пасля наведвання СССР і Беларусі стаў цвёрдым антыкамуністам. Яго кнігі былі заўважаныя і абмяркоўваліся, а сам ён публікаваўся ў розных рускіх газетах. Артыкулы Дзяніса Гарбацэвіча маюць значэнне для вывучэння так званых «расійскіх працоўных масаў» — імігрантаў у ЗША.

Некаторыя аўтары *«Нового Русского Слова»* адыгралі пэўную ролю ў беларускай грамадскай дзейнасці і літаратуры. Адзін з іх, Нікалас Вакар, чалавек русафільскае арыентацыі, але беларус з паходжання, які ў канцы 1930-х гадоў прыехаў у Злучаныя Штаты з Парыжа, друкаваў у газеце артыкулы пра Беларусь, якія пазней сталіся часткамі ягонае манаграфіі, якая выйшла ў выдавецтве Гарвардскага ўніверсітэта[65]. Іншым шматгадовым беларускім аўтарам быў беларускі пісьменнік Юры Стукаліч, вядомы пад псеўданімам Юрка Віцьбіч. Стукаліч быў адным з першых, хто знаёміў чытачоў *«Нового Русского Слова»* з беларускаю нацыянальнаю ідэяй і паняццем беларускае дзяржаўнасці, а таксама выясняў і бараніў погляды беларусаў, якія імкнуліся аднавіць незалежнасць Беларусі. Бібліяграфія артыкулаў Стукаліча ў *«Новом Русском Слове»* налічвае больш за сотню пазіцый і ўяўляе з сябе значны ўклад у амерыканскую беларусіку. Іншымі беларускімі

[62] Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1980. 20 апр.

[63] Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1937. 16, 18 июня; 1948. 14 авг.

[64] Минский Мужик (Горбацевич, Д.). Что я видел в Советской России. Чикаго, 1935. — 336 с. (перавыд. Правда о Советской России. Нью-Йорк — Рига, 1937. — 224 с.); Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников. Нью-Йорк, 1967. — 159 с.

[65] Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1939. 21 окт.; 1948. 14 апр.; Vakar, N. Belorussia. The making of a Nation. Cambridge (MA), 1956.



Беларускі пісьменнік Юрка Віцьбіч — шматгадовы аўтар газеты «Новое Русское Слово»

аўтарамі *«Нового Русского Слова»* былі Вячаслаў Селях-Качанскі, Аркадзь Евец, Язэп Лешчанка (Міхась Кавыль), Яўхім Кіпель і Расціслаў Завістовіч, усе яны баранілі беларускія погляды[66].

Ад канца 1940-х да 1960-х гадоў газета падтрымоўвала тыя групы і палітычныя арганізацыі, якія ідэалагічна стаялі за існаванне федэрацыйнае Расійскае дзяржавы. У ёй папулярызаваліся погляды розных федэралісцкіх арганізацый, у тым ліку невялічкая група беларускіх федэралістаў. Група гэтая існавала нядоўга, што было натуральна, бо пераважную большасць палітычна актыўных беларусаў складалі тыя, чыёю мэтаю была незалежная беларуская дзяржаўнасць. Беларускія федэралісты былі невялікаю групаю палітыкаў без масавае падтрымкі, спадахвочаныя і арганізаваныя рускімі актывістамі ўлучна з газетаю *«Новое Русское Слово»*. У сувязі з гэтым газета крытыкавалася і аналізавалася ў беларускім друку[67]. Крыху не дацягнуўшы да 100-гадовага юбілею, *«Новое Русское Слово»* спыніла існаванне, як і адышла ў лепшы свет ягоная чытацкая беларуская аўдыторыя.

Новая хваля беларускай эміграцыі рускія газеты выкарыстоўвае толькі як крыніцу рэкламнай інфармацыі. Рэкламныя рускамоўныя газеты у раёнах вялікіх гарадоў існуюць, аднак яны кароткатрывалыя. Інтэрнэт паўплываў на скарачэнне іх колькасці і працягласці выхаду.

### *Польскія газеты*

Польска-амерыканскі друк час ад часу змяшчаў матэрыялы пра амерыканскіх беларусаў ды падзеі на Беларусі, асабліва калі беларусы пачалі праяўляць палітычную актыўнасць. Аднак асвятленне беларускае тэматыкі ў польскім друку ніколі не было гэткае шырокае, як у друку ўкраінскім або рускім.

Найбольш баранілі беларускія пазіцыі ў польскім друку беларускія журналісты Уладзімір Брылеўскі і Васіль Стома.

Беларускі інстытут навукі і мастацтва збірае матэрыялы на беларускія тэмы, апублікаваныя ў розных славянскіх газетах і часопісах Злучаных Штатаў[68].

## Беларускі друк з-за межаў ЗША

Важную ролю ў жыцці амерыканскіх беларусаў адыгрывалі беларускамоўныя перыядычныя друкі, што выдаваліся ў замежжы. З вялікім зацікаўленнем беларусы ў Амерыцы чыталі канадыйскі квартальнік ***«Зважай»***, выдаваны Камітэтам сувязі беларускіх ветэранаў, брытанскі навуковы часопіс ***«The Journal of Byelorussian Studies»***, ватыканскія ***«Хрысьціянскія Навіны»*** або ***«Інфармацыйны Бюлетэнь Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацый Аўстраліі»***. Большасць гэтых выданняў сёння не існуе, затое вялікае значэнне ад пачатку 1990-х займелі газеты і часопісы

[66] Папка «Новое Русское Слово» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[67] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1952. № 5, 10, 15–16; 1955. № 18.

[68] Папкі «Польскі друк» і «Славянскі друк» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Брылеўскі, У. Польскі замежны друк пра Беларусь // Запісы БІНіМ. № 17. Нью-Ёрк, 1983. С. 219–225.



з Бацькаўшчыны. Шмат хто з амерыканскіх беларусаў стаў выпісваць беластоцкую ***«Ніву»***, менскія ***«ЛіМ»***, ***«Наша Слова»***, ***«Спадчыну»***, ***«Нашу Ніву»***, ***«Дзеяслоў»***, ***«ARCHE»,*** пазней ***«Народную Волю»***, а сёння таксама новы, выдатна ілюстраваны і аўтарытэтны часопіс ***«Наша гісторыя».*** Гэтыя дый некаторыя іншыя выданні заваявалі прыхільнасць амерыканска-беларускае грамады.

Агляд амерыканска-беларускага друку і чытацтва будзе няпоўны, калі не выказаць колькі заўваг пра адну вельмі спецыфічную газету і колы, якія ёю апекаваліся. Гаворка пра менскі ***«Голас Радзімы»*** з аднайменным выдавецтвам. Гэтая газета, заснаваная ў 1955 годзе, бясплатна рассылалася па ўсім свеце беларускім эмігрантам. Яе першапачатковаю мэтаю было пераканаць эмігрантаў вярнуцца ў Беларусь, бо, паводле яе аўтараў, жыццё там зрабілася значна лепшае, чымся да вайны, калі вялікая частка старых чытачоў газеты пакінула Бацькаўшчыну. Выдаўцы, між іншым, не робяць дыскрымінацыі і дасылаюць яе як старым імігрантам, гэтак і паваенным. Выдаваная з удзелам вядомых органаў, гэтая газета заўсёды цвёрда трымалася партыйнае лініі і да пачатку 1990-х гадоў была надзвычай нуднаю і аднастайнаю публікацыяй вельмі абмежаванае тэматыкі. Ад 1970-х гадоў пачалі друкавацца англамоўныя матэрыялы і гішпанская старонка, вялікая частка друкавалася па-руску. Гэтыя старонкі, як тлумачылася, прызначаліся для старых імігрантаў ды іхных дзяцей. «Голас Радзімы», як выглядае, так і не здолеў нікога пераканаць вярнуцца ў Савецкую Беларусь або накінуць камусьці свае палітычныя погляды, хоць, прыкладам, а. Ян Тарасевіч і пісьменнік Уладзімір Клішэвіч змяшчалі ў выданні свае творы. Такім чынам, адзінае дасягненне газеты ў тым, што яна рэгулярна выходзіла. Нягледзячы на змены, якія адбываліся ў апошнія гады існавання Савецкага Саюза, газета доўгі час захоўвала стары курс, застаючыся партыйна-бюракратычным і русіфікатарскім выданнем. Толькі на пачатку 1990-х «Голас Радзімы», следам за сваёю апякунчаю арганізацыяй, пачаў шукаць свой спосаб існавання ў новых умовах. Больш цікавы зрабіўся змест матэрыялаў, шырэй стала асвятляцца беларуская тэматыка, пачалі друкавацца інтэрв’ю з беларусамі ў дыяспары, на якіх яшчэ зусім нядаўна на тых самых старонках вылівалася столькі бруду.



Уладзімір Клішэвіч

Сярод кніг з «Бібліятэчкі “Голасу Радзімы”», якія таксама бясплатна рассылаліся беларусам у дыяспары, побач з пустымі прапаганднымі памфлетамі трапляліся і даволі цікавыя і арыгінальныя працы, асабліва гэта датычыць англамоўных выданняў. Газета «Голас Радзімы» існуе і сёння, праўда, як дадатак да газеты *«СБ — Беларусь сегодня»*. Тон яе зусім іншы, беларускі, адпаведны дзяржаўнай ідэалогіі. Газета рассылаецца ў замежжа вельмі выбарачна.

З іншых газетаў у ЗША сёння чытаюць ***«Наша Слова», «Народную Волю», «Нашу Ніву»*** (усё пераважна ў інтэрнэт-версіях), а таксама шырока распаўсюджаны орган ЗБС «Бацькаўшчына» — ***«Беларусы ў свеце».***

## Беларускія чытачы ў Злучаных Штатах

Некаторыя беларускія іміграНТы чыталі беларускі друк яшчэ да Першае сусветнае вайны. Як было зазначана вышэй, у Амерыцы сваіх падпісчыкаў мела газета «Наша Ніва».

У міжваенны перыяд беларускія выданні чыталі іміграНТы як у вялікіх гарадах — Нью-Ёрку, Чыкага, — гэтак і ў маленькіх мястэчках, прыкладам у Карбандэйле, штат Ілінойс. Адзін з чытачоў *«Русского Голоса»* пісаў у сваёй карэспандэнцыі: *«Я атрымоўваю даволі газетаў з СССР, і ў большасці на беларускай мове, і вось у “Магілёўскім Селяніне” за 5 чэрвеня справаздача аб планах пяцігодкі»*[69].

Вядома, амерыканска-беларускія чытачы вельмі розныя. Сярод іх ёсць група, якой уласцівы нізкі ўзровень этнічнае свядомасці, гэткія беларусы найчасцей будуць чытаць па-руску. Аднак тыя, каго можна было б назваць палітычна спелымі беларусамі, чытаюць і ўсяляк падтрымоўваюць беларускі друк. Ніхто з беларускіх чытачоў не шукае ў беларускіх выданнях інфармацыю пра штодзённае жыццё або бягучыя палітычныя падзеі — яны могуць знайсці яе ў шматлікіх штодзённых газетах у англійскай, польскай, рускай або ўкраінскай мовах. Хацелася б спадзявацца, што ў будучыні становішча зменіцца, бо атрыманне штодзённае інфармацыі праз свой друк значна паспрыяла б павышэнню ўзроўню нацыянальнае свядомасці. Аднак усю інфармацыю пра беларусаў і іхную дзейнасць можна знайсці ў беларускіх выданнях. Іншымі словамі, беларускі друк служыць задавальненню нацыянальных духоўных і культурных патрэбаў беларускае грамады.

Чытачы ў ЗША традыцыйна больш чыталі беларускіх кніг, выдадзеных у Беларусі, бо іх і было колькасна болей. Тым часам за кожную беларускую кнігу, выдрукаваную ў замежжы, амерыканскі беларус адчуваў большы духовы гонар, нібыта сам спрычыніўся да яе стварэння. І да гэтых кніг падыходзілі з іншымі крытэрамі ацэнкі.

Варта адзначыць яшчэ адзін факт. Колькасць беларускамоўных чытачоў у Злучаных Штатах памяншаецца. З іншага боку, колькасць амерыканскіх беларусаў, чыёю роднаю моваю сталася англійская, павялічваецца, і гэтыя людзі імкнуцца падтрымаць і падтрымоўваюць беларускі перыядычны друк і кнігавыдавецтва. У выніку шмат хто з гэтых англамоўных амерыканскіх беларусаў вучыцца і практыкуе мову бацькоў праз беларускамоўныя выданні. Падтрымка беларускага друку як часткі амерыканскае этнічнае мазаікі складае для іх падставу для этнічнага гонару. Такім чынам, мяркуючы з энтузіястычнага духу маладога пакалення ды з факта паступовага павелічэння эміграцыі з Беларусі, можна спадзявацца на з’яўленне і ўмацаванне дзвюх новых групаў чытацкае аўдыторыі, што забяспечыць працяг існавання беларускага друку ў Амерыцы. Без ніякае засцярогі інтэрнэт робіць канкурэнцыю ўсяму друку і вельмі шырока ўжываецца ў ЗША ўсімі ўзростамі чытачоў.

## Беларускае радыё ў Злучаных Штатах

Як ужо было зазначана, першая беларуская радыёпраграма была заснаваная ў 1928–1929 гадах у Чыкага Язэпам Варонкам. Гэтыя перадачы былі вельмі папулярныя, аднак з фінансавых прычынаў яны мусілі быць пашыраныя за кошт дадатку вяшчання ў іншых мовах. Беларускія перадачы Язэпа Варонкі гучалі ў

[69] Русский Голос. Нью-Йорк. 1929. 9 авг.



эфіры каля года; пасля іхнага закрыцця дзеяч рыхтаваў перадачы па-руску ды ў іншых славянскіх мовах, зрэдчас устаўляючы між іх праграму па-беларуску[70].




Вокладка сувенірнага альбома, прысвечанага 10-годдзю Рускага радыё ў Чыкага, з партрэтам Язэпа Варонкі. Чыкага, 1943 г.

Беларускія праграмы былі адноўленыя ў Чыкага падчас Другое сусветнае вайны стараннямі а. Яна Тарасевіча, яны рэгулярна выходзілі ў эфір на працягу некалькіх гадоў[71].

З прыездам у Злучаныя Штаты ў канцы 1940-х гадоў паваеннае хвалі беларускае іміграцыі беларускія праграмы з нагоды беларускіх нацыянальных святаў перадаваліся ў розных гарадах — у Дэтройце, Чыкага, Нью-Ёрку, Філадэльфіі, Кліўлендзе ды іншых. Выступалі на радыё Антон Адамовіч, Станіслаў Грынкевіч, Янка Ліманоўскі і іншыя дзеячы[72].

Рэгулярныя беларускамоўныя праграмы ўзнікалі і пазней. Гэткія былі перадачы Паўла Куляша ў Дэтройце (1952–1953), Міхася Казлякоўскага ў Трэнтане (перадачы на рэгіён Нью-Ёрк — Нью-Джэрсі, 1958–1959), Міколы Дзямідава ў Чыкага (1950), а таксама беларуская радыёпраграма «Нёман», запачаткаваная Нікодымам Жызнеўскім у Чыкага ў 1960 годзе, якая гучала ў эфіры да 1998 года[73].

На пачатку 1990-х беларусы ў Злучаных Штатах сталі слухаць беларускія праграмы Радыё «Свабода», а таксама перадачы замежнага вяшчання Беларускага радыё з Менска, шырока рэкламаваныя «Голасам Радзімы»[74]. Сёння значную канкурэнцыю радыё складае інтэрнэт.

Тым не менш этнічнае радыё, г. зн. неангламоўныя перадачы, — індустрыя жывая, хоць і нязначная. Каля вялікіх гарадоў — Нью-Ёрка, Філадэльфіі, Чыкага, Атланты — гучаць «этнічныя гадзіны», якія найчасцей слухаюць у аўтамабілях. Рускамоўнае «Дэвідсан-радыё» ў раёне Нью-Ёрка часта робіць груНТоўныя палітычныя агляды падзей у Беларусі, Украіне. Але колькасць слухачоў такіх радыё нязначная.

У сувязі з англамоўным радыё можна згадаць такую нашую гісторыю:

*Едучы з Нью-Ёрка ў Кліўленд у начны час (гады 1970-я), мы, я ехаў з жонкаю Зорай, уключылі вядомую радыястанцыю WOR, каб «нешта паслухаць і перабіць санлівасць», і раптам чуем гаворку пра Беларусь! Вядучы, Лары Кінг, дыскутуе з слухачом беларускую тэму. Дачакаліся канца гутаркі — пачулі прозвішча слухача-дыскутанта — Аўген Дубовік. Мы яго ведалі і пры першым спатканні спыталі: «Як гэта ты, Аўген, трапляеш у начныя радыёпраграмы?» А ў адказ пачулі: «Я слухаю начныя перадачы, тэлефаную ім,*

[70] Белорусская Трибуна. Чикаго. 1931. № 8.

[71] Гутарка аўтара з а. Уладзімірам Тарасевічам.

[72] Папка «Беларускія радыёпраграмы» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Беларус. Нью-Ёрк. 1970. № 160.

[73] Гутарка аўтара з Паўлам Куляшом і Міхасём Казлякоўскім, 1979; Папка «Беларускія радыёпраграмы» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[74] Гутаркі аўтара з Віталем Кажаном і Аўгенам Протасам, 1988.

*парушаю беларускія тэмы і вядучыя мне адказваюць! Яны радыя, што ім ноччу тэлефануюць, а я задаволены — добрая прапаганда Беларусі». Вось якія грамадзяне, беларускія амерыканцы, былі сярод нас «зацятыя» беларускія начныя прапагандысты. На жаль, Аўген Дубовік скончыў каледж, адслужыў пяць гадоў у марскім флоце, выйшаў і хутка памёр ад сярдэчнага прыступу.*

### *Радыё «Вызваленне / Свабода»*

Радыё «Вызваленне» (пазней «Свабода»), ініцыяванае Амерыканскім камітэтам вызвалення ад камунізму, пачало перадачы на Беларусь з Мюнхена (Нямеччына) у 1954 годзе. Трэба, аднак, адзначыць, што гэтая падзея не была сустрэтая «абдымкамі» амерыканскай беларускай дыяспарай. Вялікая колькасць беларусаў ЗША паставіліся насцярожана да гэтай падзеі. Прычынай «стрыму-халадку» (хоць дыяспара была антыкамуністычная, а новае радыё гарантавала «антысавецкі тон») было тагачаснае захаванне «Голасу Амерыкі» — дзяржаўнага радыёвяшчання, што не мела беларускіх праграмаў (і не прадбачыла іх з «бюджэтных праблемаў»). Беларуска-амерыканская грамада ваявала з Дзярждэпартаментам з нагоды ягонага гэткага стаўлення да беларусаў і іх патрэбаў і насцярожана паставілася да Радыё «Вызвалення» (таксама амерыканскага твора). У колах Рады БНР (палітыкі гэтага лагера спрычыніліся да з’яўлення беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне») паўстаў вялікі раскол адносна супрацоўніцтва з Амерыканскім камітэтам вызвалення ад камунізму і ягоным радыё. Тым не менш супраца ішла. У сваім лісце да аўтара гэтай кнігі д-р Янка Запруднік, які колькі дзясяткаў гадоў быў рэдактарам беларускага аддзела Радыё «Свабода» ў Нью-Ёрку, прыпамінае:

*Спрыяльным фактарам у культурным і палітычным жыцці амерыканскіх беларусаў было супрацоўніцтва з радыё «Вызваленне» (пазней «Свабода» — РС), рэдакцыя якога пачынаючы ад 1957 года знаходзілася ў Нью-Ёрку. Карэспандэнты РС (Янка Запруднік, Анатоль Цярэшка, Адам Акуліч, Васіль Фрэйдкін) разам са штатнымі працаўнікамі Амерыканскага камітэта вызвалення (Антон Адамовіч, Наталля Арсеннева, Яніна Каханоўская), а таксама вольныя супрацоўнікі РС (д-р Станіслаў Станкевіч, Ізыдар Гуткоўскі, Тамара Навааградчанская, Андрэй Клёнаў, архіепіскап БАПЦ Васіль, д-р Вітаўт Кіпель, Зора Кіпель, Юрка Віцьбіч, Аркадзь Рутман, Уладзімір Дудзіцкі, Масей Сяднёў, Вячка Станкевіч — апошнія трое пазней штатныя кіраўнікі). У радыёперадачах «Свабоды» падаваліся факты з жыцця беларусаў Амерыкі, у тым ліку паведамленні пра падтрымку амерыканскімі палітыкамі змагання беларусаў за сваю дэмакратычную дзяржаўнасць. Амерыканскі камітэт вызвалення нават прыйшоў быў на дапамогу беларусам Амерыкі ў атрыманні звестак з Бацькаўшчыны з-за жалезнай заслоны. На працягу сямі гадоў (1963–1969) публікаваўся, спачатку месячна, а пасля і двойчы на месяц, бюлетэнь «Навіны зь Беларусі» (рэд. Я. Запруднік).*



Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель у рэдакцыі Радыё «Свабода». Нью-Ёрк, 1988 г.



*Магчымасць перадавання праз РС вестак на Бацькаўшчыну, бясспрэчна, уплывала дадатна на розныя формы грамадскага жыцця беларусаў Амерыкі, стымулявала яго. Факт перадачаў мацаваў перакананне, што камуністычная турма народаў раней ці пазней рухне. Так яно і сталася.*

Аўтар гэтай кнігі супрацоўнічаў з Радыё «Свабода» больш за 30 гадоў, зазначыўшы ў мемуарах, што *«фактычна з скрыптоў “Свабоды” пачалася серыя перадачаў “Беларусы ў ЗША”»* і што *«за гады супрацоўніцтва ў этэр пайшло каля трох тысячаў беларускіх скрыптоў майго аўтарства»*. Беларускія галасы гучаць з «Свабоды» і цяпер.

### *«Голас Амерыкі»*

Дамаганні, каб «Голас Амерыкі» вяшчаў і па-беларуску, і на беларускія тэмы, рабілі эмігранты ў ЗША цягам дзесяцігоддзяў. Частковa гэтага ўдалося дасягнуць прадстаўнікам новай хвалі эміграцыі. Гэтак ад 2004 года беларус Аркадзь Чарапанскі пачаў працаваць у рускай рэдакцыі «Голасу Амерыкі». Ён стварыў праграму «Беларускі форум» — тыднёвы агляд розных беларускіх тэмаў. Упершыню ў амаль 70-гадовай гісторыі рускай рэдакцыі «Голасу Амерыкі» беларуская праблематыка стала рэгулярнай на гэтай радыёстанцыі: гучаць навіны, звязаныя з Беларуссю і пазіцыяй ЗША ў дачыненні да яе.

На сярэдзіну 2016 года ў штаб-кватэры «Голасу Амерыкі» ў Вашынгтоне працуюць як кантрактары ці штатныя супрацоўнікі пяць выхадцаў з Беларусі. Асвятленне беларускай тэматыкі на радыёстанцыі павялічваецца, перадачы закранаюць шырокі спектр тэмаў у галінах эканомікі, знешняй і ўнутранай палітыкі, культуры краіны. У 2015–2016 гадах шмат увагі было нададзена прэзідэнцкім выбарам у Беларусі, міжурадавым кантактам Менска і Вашынгтона, ролі Беларусі ў канфлікце Расіі з Украінай, тэме правоў чалавека і дэмакратыі ў Беларусі і інш. Быў падрыхтаваны шэраг артыкулаў пра дзейнасць спецыяльнага дакладчыка ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі Міклаша Харашці, таксама зробленыя відэаінтэрв’ю з беларускімі праваабаронцамі Алегам Волчакам і Алесем Бяляцкім, шэраг перадач пра візіты беларускіх палічыкаў Таццяны Караткевіч, Уладзіміра Някляева, Андрэя Саннікава ў Вашынгтон. Вядучай тэмай у свой час было узнагароджанне Святланы Алексіевіч Нобелеўскай прэміяй па літаратуры. У часе сваёй паездкі ў ЗША пісьменніца наведала «Голас Амерыкі», дзе сустрэлася з дырэктарам радыё Амандай Банет і супрацоўнікамі радыё ды дала відэаінтэрв’ю. Адметнымі беларускімі тэмамі сталі 270-я ўгодкі ад нараджэння Тадэвуша Касцюшкі і ўдзел аркестра ваенна-паветраных сілаў ЗША ў парадзе на Дзень Перамогі ў Менску.

## Беларусы ў амерыканскай тэлевізіі

Адзін з першых выступаў беларусаў у амерыканскай тэлевізіі адбыўся ў 1951 годзе ў Каліфорніі, калі Ніна Кіт паказвала, як згатаваць беларускі халаднік, і, карыстаючыся гэткаю нагодаю, інфармавала гледачоў пра Беларусь[75].

Групы беларускае моладзі выступалі ў тэлевізіі ў Кліўлендзе, а таксама ў нью-ёркскай перадачы «Гадзіна полькі» з беларускімі народнымі танцамі. Бралі

[75] Гутарка аўтара з Нінай Кіт, 1979; Беларуская Трыбуна. Нью-Джэрзі. 1951. № 8.




Ірэна Каляда-Смірноў на тэлебачанні. Кліўленд, 1958 г.

беларусы ўдзел і ў калядных тэлепраграмах у Каліфорніі, Ілінойсе, Агаё, Нью-Джэрсі, Нью-Ёрку ды іншых штатах[76].

Ад пачатку 1990-х беларусы выступалі на экране ў сувязі з падзеямі ў Беларусі — Чарнобыльскаю катастрофаю, палітычнаю сітуацыяй ў краіне, абвяшчэннем незалежнасці[77].

Наогул жа ў амерыканскай тэлевізійнай індустрыі працуюць на розных пасадах ў розных гарадах, у розных праграмах дзясяткі нашых землякоў, пры гэтым на добрых пасадах, нядрэнных заробках, і працуюць задавальняюча, «паўнадзельна» прасоўваюцца па кар'ерных прыступках. Зразумела, на тэлебачанні занятыя вылучна новыя эмігранты. Дзе-нідзе з'яўляюцца і навіны, што суайчыннікі выбіваюцца на першыя пазіцыі. Прыкладам, у 2012 годзе беларус Зміцер Шолахаў выйграў 10-ы сезон амерыканскага тэлешоў «Праект Подыум», у якім спаборнічалі дызайнеры адзення[78].

З'ява, якая стала для аўтара гэтай кнігі вялікім сюрпрызам, — узлёт інфармацыі пра Беларусь на амерыканскім камерцыйным тэлебачанні. Слова «Беларусь» ды ў добрым вымаўленні, як і living інфармацыя пра краіну, сталіся звычайнымі, г. зн. і досыць частымі, і адукацыйна змястоўнымі, і ў розных праграмах,

[76] Беларус. Нью-Ёрк. 1958. № 66–67; Thirteen Press Release. Newark (NJ). 1980. Dec. 4; Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[77] Беларус. Нью-Ёрк. 1991. № 382; Папка «Незалежнасьць» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[78] Беларус. Нью-Ёрк. 2012. № 594.



і на розных каналах. Найперш, безумоўна, навіны. Калі ў Беларусі адбываецца нешта значнае, як прыкладам, было выступленне расійскіх колаў пра патрэбу ваеннай базы ў Беларусі, у навінах падавалася адмоўная рэакцыя беларускага грамадства. З'яўляюцца навіны і дзяржаўнага жыцця, і дыпламатыі.



Руслан Салей.
*Здымак з сайта naviny.by*

Вельмі часта Беларусь успамінаецца ў спартовых аглядах, дзе даецца гісторыя выступаў беларускіх спартоўцаў, пералічваюцца медалі на алімпіядах. Сярод відаў спорту найбольш гаворыцца пра пра тэніс, біятлон і, вядома, пра хакей. Добра дапамог у папулярызацыі беларускага спорту на амерыканскім тэлебачанні Уэйн Грэцкі з ягонымі беларускімі каранямі ды Чэмпіянат свету па хакеі ў Менску ў 2014 годзе. Часта амерыканскае тэлебачанне падае біяграфіі беларускіх хакеістаў, што гуляюць у амерыканскіх лігах, асабліва ў Нацыянальнай хакейнай лізе *(NHL)*. Руслан Салей быў улюбёнцам амерыканскіх хакейных заўзятараў.

На прыродазнаўчых каналах неаднаразова паказвалася Белавежская пушча, краявіды марэннага ландшафту Паўночнай Беларусі і прыпяцкія разлівы ў прывязцы да Чарнобыля. У 2010 годзе кампанія *CNN* уключыла вёску Пагост Жыткавіцкага раёна ў лік 10 найлепшых месцаў на свеце для адзначэння Калядаў[79]. А ў 2019 годзе *CNN* прысвяціла багата часу апісанню горада Менска з турыстычнага пункту гледжання.

Але, што найбольш цікава, а на наш погляд, і важна, пытанні-адказы на беларускую тэматыку, пра Беларусь даволі часта гучаць у вельмі папулярнай праз некалькі дзесяцігоддзяў свайго існавання амерыканскай навучальна-адукацыйнай праграме-віктарыне «Джэпардзі». Праграма мае мільёны гледачоў і выходзіць у вельмі папулярны час на вядомым тэлеканале *ABC*. І гэта важна, бо глядач цікавіцца, рэагуе, даведваецца. Прыпушчаю, што мае да гэтага дачыненне ўплыў доўгагадовага кіраўніка праграмы Алекса Трыбека, канадыйца часткова ўкраінскага паходжання. Улетку 2019 года ў адной з перадачаў «Джэпардзі» была ўстаўка «Як правільна вымаўляць назву дзяржавы Беларусь»[80].

Зацікаўленне да краіны Беларусь на перанасычаным навінамі ды фільмамі амерыканскім тэлебачанні ўмацоўвае наш погляд, што амерыканскую публіку цікавіць нешта новае, а беларускія тэлевізійныя спецыялісты, калі б працавалі ў нацыянальнай беларускай дзяржаве, маглі б стварыць шмат новага з беларускай тэматыкай як стрыжнем, у тым ліку і цікавага амерыканцам.

Прыпамінаючы цяпер інфармацыйныя аспекты дзейнасці амерыканскага радыё і тэлебачання ў ранняй стадыі (1950–1970-я гады), можна заўважыць, што пра Беларусь гаварылася і паказвалася тады сапраўды мала і часта з вялікімі памылкамі, што трэба было выпраўляць. Кіраўнікі БІНіМа, БАЗА рабілі гэта «руцінна» праз тэлефон, часам пісалі лісты. Некаторыя памылкі выпраўляліся, іншыя — не. Але праца гэткая вялася пастаянна. У карэспандэнцыі БІНіМа захаваўся, прыкладам, ліст-адказ ад вялікай кампаніі *NBC-News* у дачыненні да інфармацыі пра трактар «Беларусь»:

[79] Беларус. Нью-Ёрк. 2010. № 573.

[80] Беларус. Нью-Ёрк. 2019. № 636.

*Дарагі сп. Кіпель*

*Сп. Шанцлер папрасіў мяне падзякаваць Вам за час, які Вы адвялі для нас, даючы нам паходжанне і правільнае вымаўленне «трактар Беларусь». Для нас гэта вельмі цікавая інфармацыя.*

Цягам апошніх гадоў у сумесным праекце «Голасу Амерыкі» і Радыё «Свабода» тэлеканале «Настоящее время» працуе былы вядоўца Беларускага тэлебачання, вядомы некалі тэлежурналіст Алесь Кругляко́ў[81].

## Кружэлкі, касеты, відэафільмы, сувеніры, маркі і г. д.

Ужо ў лагерах Ды-Пі беларускія народныя мелодыі прыцягнулі ўвагу амерыканскіх уладаў, і яны запісалі колькі беларускіх песняў на магнітафон дзеля пашырэння ў Злучаных Штатах[82]. Пачынальнікам беларускага грамафоннага запісу на Захадзе стаўся Беларускі студэнцкі хор у Лювене (Бельгія) пад кіраўніцтвам прафесара Міколы Равенскага. На пачатку 1950-х гадоў хор найграў колькі кружэлак з запісамі рэлігійных і народных песняў. Гэтыя кружэлкі знайшлі шырокую аўдыторыю і прыхільнасць слухачоў у Злучаных Штатах.

Ініцыятыва выдання беларускіх кружэлак у Злучаных Штатах належыць адміністратару беларускага хору ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі, Барысу Шчорсу. Ён здолеў мабілізаваць рэсурсы і падтрымку Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта, захапіў ідэяй хор і вядучых ягоных кіраўнікоў і ўдзельнікаў — Ксаверыя Барысаўца, Дзмітрыя Верасава, Вячаслава Селях-Качанскага, Пётру Нядзведзкага, Міхася Сеньку, Міхася Палюховіча ды іншых, і гэткім чынам сталася магчымым найгранне серыі кружэлак[83].

Займалася выданнем кружэлак і Арганізацыя беларуска-амерыканскае моладзі з вядучым удзелам прафесара Міколы Куліковіча. Выдавалі кружэлкі і паасобныя гурты, як, прыкладам, аркестар «Нова» пад кіраўніцтвам Алекса Мартыновіча.

Аднак найбольшым поспехам на беларуска-амерыканскім музычным рынку карыстаюцца запісы спевака Багдана Андрусышына — Данчыка. Ён найграў тры кружэлкі, і ўсе яны былі раскупленыя адразу пасля з’яўлення. Данчыкавы песні карысталіся шырокаю папулярнасцю і ў Беларусі, асабліва пасля ягоных выступаў там у 1989 годзе. Шмат якія запісы выйшлі і на магнітафонных касетках.



Вокладка альбома Данчыка «Мы яшчэ сустрэнемся». 2006 г.

Паспяхова працуе ў ЗША раней вядомы ў Беларусі, а цяпер у Амерыцы кампазітар Зміцер Еўтуховіч. Некаторы час ён быў рэгентам хору царквы Св. Еўфрасінні ў Саўт-Рыверы, выдаў зборнік песень ды CD.

Вядомая справа, карысталіся і карыстаюцца попытам у амерыканскіх беларусаў і кружэлкі, і дыскі, выробленыя ў Беларусі. Некаторыя сем’і маюць выдатныя калекцыі ад «Песняроў» да дыска Данчыка «Калядныя песні» (1997).

[81] https://nn.by/?c=ar&i=235373.

[82] Беларускае Слова. Бакнанг. 1950. № 14.

[83] 58 Беларускае Слова. Саўт-Рывэр. 1956. № 31; 1957. № 34; 1958. № 38, 39; Архівы АБАМ у Нью-Брансвіку (Нью-Джэрсі); Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



Сёння хадавыя ў ЗША рэлігійны дыск «Зямля бацькоў» (11 песняў-малітваў) гурта «Спадзяванне», выдадзены кампаніяй *Crystal Incorporated* у горадзе Ніксан, штат Тэнэсі, а таксама дыск класічнай музыкі «*Colibri*» Аўгена Магаліфа, выдадзены ў ЗША пры спонсарскай дапамозе БІНіМа і Грамадскага цэнтра ў Саўт-Рыверы[84].

Ад канца 1980-х беларусы знялі колькі відэафільмаў, як, прыкладам, з паездак ансамбля «Васілёк» на Беласточчыну і ў Беларусь, з Сустрэчаў беларусаў Паўночнае Амерыкі. У Беларусі было знята колькі фальклорных відэафільмаў. Шмат якія з гэтых фільмаў зрабіла Паўлінка Сурвілла з Мічыганскага ўніверсітэта. Відэафільмы — з’ява, якая сёння пашыраецца. Часткова, выбарачна збіраюцца відэафільмы беларускай тэматыкі ў архіўна-бібліятэчных зборах БАЗА ў Брукліне.




Маркі, прысвечаныя ўгодкам Слуцкага паўстання. Нью-Ёрк, 1960 г.

Амерыканскія беларусы выпусцілі сотні сувеніраў — сцяжкоў, памятных талерак, значкоў і г. д. Асабліва багата іх рабілася для Беларускіх фестываляў у Нью-Джэрсі ў другой палове 1970-х[85]. Таксама было выдадзена колькі серый юбілейных марак, прысвечаных беларускім гістарычным падзеям — Слуцкаму паўстанню, юбілею Скарыны і г. д. Вялікі збор калекцый эміграцыйных марак, значкоў, сувеніраў, інфармацыйна-рэпрэзентацыйных матэрыялаў, паштовак і інш. быў апрацаваны і прадстаўлены на мультымедыйным дыску «Беларускія эміграцыйныя калекцыі» ў дадатку да альманаха «Запісы БІНіМ» (2013. № 36). Найбольш дакументаванае апісанне эміграцыйных марак, кружэлак, як і календарыстыкі на эміграцыі, зроблена ў згаданай вышэй кнізе Лявона Юрэвіча «Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія».

Падсумоўваючы агляд выдавецка-інфармацыйнае дзейнасці амерыканскіх беларусаў, трэба зазначыць, што тут дасягнутыя значныя поспехі. Публікацыі адыгрывалі і адыгрываюць важную ролю ў пашырэнні і захаванні інфармацыі пра жыццё беларусаў у Злучаных Штатах, прычым дзеля гэтага часам ужываюцца амерыканскія сродкі масавае інфармацыі. Беларускія сувеніры пашыраюцца на этнічных і неэтнічных кірмашах, у музеях, на выставах і сведчаць пра беларускую прысутнасць у гэтай краіне[86].

[84] Пра дыск Аўгена Магаліфа гл.: http://www.svaboda.org/a/28009117.html.

[85] Беларус. Нью-Ёрк. 1979. № 265.

[86] Папкі «Кружэлкі» і «Сувэніры» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

## БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКІЯ ДАЧЫНЕННІ

Азначаная тэма ахоплівае два аспекты дачыненняў і кантактаў: паміж паасобнымі грамадзянамі і паміж краінамі — ЗША і Беларуссю.

### Асабістыя кантакты

Было б лагічна прыпусціць, што асабістыя кантакты паміж грамадзянамі абедзвюх краінаў маюць даўную гісторыю, ад тых часоў, як беларускія імігранты з'явіліся на амерыканскіх берагах, г. зн. ад XVII—XVIII стагоддзяў. Гэтыя кантакты пераважна мелі эпісталярны характар. Аналіз архіваў айца Ф. Дзеружынскага паказвае, што ён меў вельмі інтэнсіўную перапіску з бацькаўшчынаю[1].

Перапіска была вельмі папулярнаю і інфармацыйнаю формаю кантактаў. У першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя газета «Наша Ніва» ды іншыя беларускія выданні былі літаральна засыпаныя лістамі з усіх бакоў, у тым ліку і з-за акіяна[2].

У 1920-я гады Саветы спрабавалі выкарыстаць прыватную перапіску ў сваёй прапагандзе і наладзілі «ўсесаюзную» лістапісальную кампанію[3]. Але масіўнае ўмяшанне дзяржавы ў прыватную перапіску грамадзянаў цягнулася нядоўга, хоць дзяржаўная цэнзура на ліставанне з замежжам існавала вельмі доўга.

Апрача асабістае перапіскі амерыканскія беларусы падтрымоўваюць розныя формы кантактаў з сем'ямі і сябрамі. Штогод сотні амерыканцаў наведваюць сваіх родзічаў і сваякоў на Беларусі. Гэтыя кантакты застаюцца вельмі блізкія аж да трэцяга і чацвёртага пакаленняў.

Асабістая перапіска вельмі важная як аб'ект даследавання. Яна дае звесткі пра штодзённае жыццё эмігрантаў, творчасць і інш. Прыкладам можа быць кніга Лявона Юрэвіча «Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні» (Менск, 2012), дзе праз перапіску паказана жыццё Наталлі Арсенневай і іншых эмігрантаў.

Іншая форма кантактаў — розныя падарункі і пачкі, што ў вялікай колькасці пасылаюцца з Амерыкі на Беларусь. Прыкладам, часта бываючы ў Беларусі ў 1990-я мы з Зорай бачылі цікавасць школьнікаў да геаграфічных пазлаў, і багата пасылак з такімі пазламі і рознымі канцылярскімі прыладамі дасылалі ў школы.

Падтрымоўваюцца дачыненні і ў форме перадачы дароў тастаментам. Гэтак, вядомы амерыканска-яўрэйскі даследчык і лідар сацыялістычнага руху Ісак Гурвіч, народжаны ў Менску, у 1920-я гады падараваў Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту свой багаты кнігазбор[4]. У друку таксама паведамлялася, што нехта

[1] Jesuite Archives. Baltimore (MD). Dzieruzhinski's Archives.

[2] Наша Ніва. Вільня. 1906–1915.

[3] Шестакова, Т. Укрепление интернациональных связей: Международная переписка рабочих БССР. 1925— 1937 // Вопросы истории: Проблемы истории СССР: мевед. сборник. Минск, 1980. С. 32–43.

[4] Библиотечное дело в БССР. Минск, 1978. Док. № 34. С. 52.



Розэнфельд, які паходзіў з Беларусі і памёр у Каліфорніі, адпісаў тастаментам значную суму грошай на пабудову шпіталя на Беларусі[5].

Спробы навязаць кантакты паміж амерыканскімі беларусамі і іхнымі сваякамі на Беларусі ў справе атрымання спадчыны рабіліся Беларускім таварыствам Чырвонага Крыжа ў сярэдзіне 1920-х гадоў. Таварыства друкавала ў сваім бюлетэні абвесткі, якія мелі непасрэднае дачыненне да амерыканскіх беларусаў і іхных сваякоў на Бацькаўшчыне.

У гэтых абвестках, прыкладам, гаварылася: *«Сваякі памерлых амерыканскіх імігрантаў могуць атрымаць страхоўку ў памерах ад 5000 да 10 000 даляраў»*. Далей ішло гэткае тлумачэнне:

*Перад імперыялістычнаю вайною шмат беларусаў выехала працаваць у Амерыку. Шмат хто з іх пасля Кастрычніцкае рэвалюцыі вярнуўся на Беларусь, але нямала яшчэ застаецца ў Злучаных Штатах. Некаторыя з тых беларускіх іміграцтаў былі забітыя на вайне, шмат хто загінуў у няшчасных выпадках на працы. Звычайна беларускія іміграмнты страхуюць сваё жыццё, і ў выпадку смерці іхныя нашчадкі могуць атрымаць страхоўку. Калі ж гэтыя іміграмнты не маюць сваякоў у Злучаных Штатах, страхоўку могуць атрымаць іхныя блізкія ў Савецкай Беларусі. Справы, што маюць дачыненне да атрымання спадчыны, узяло на сябе Беларускае таварыства Чырвонага Крыжа*[6].

Як таго можна было б чакаць, судовыя пасяджэнні ў справе атрымання спадчыны сталіся частаю з'яваю ў амерыканскіх судах у 1920-я гады і адбываюцца да сёння[7]. Можна прыпушчаць, што ў амерыканскіх банках і цяпер ёсць шмат рахункаў, тастаментамі запісаных на родзічаў у Беларусі (пачынаючы ад царскіх часоў), пра якія ніхто ніколі не ведаў у Беларусі. Гэтая тэма вартая асобнага даследавання.

Як выглядае, аб'ём фінансавых аперацый паміж амерыканцамі і беларусамі быў даволі значны, пра што сведчыць адкрыццё аддзяленняў Амерыканскага аб'яднанага банка ў Менску і Віцебску[8].



Самуіл Агурскі

Значная была і групавая фінансавая дапамога Беларусі, асабліва пасля Другое сусветнае вайны. Група фермераў з Вайнленда, штат Нью-Джэрсі, падаравала суму грошай Беларускаму ўніверсітэту. Шматлікія групы амерыканцаў з штатаў Канектыкут, Нью-Джэрсі, Нью-Ёрк і Агаё падаравалі Беларусі праз розныя савецкія ўстановы значныя сумы грошай. Гэтая дапамога асабліва ўзрасла пасля Чарнобыльскае катастрофы і вылічаецца ў мільёнах даляраў. Пры гэтым важна адзначыць, што ў дапамозе ахвярам Чарнобыля бяруць удзел не толькі беларусы, але і сотні амерыканцаў, шматлікія арганізацыі, фірмы і шпіталі.

Немалы ўклад у амерыканска-беларускія дачыненні быў зроблены рэпатрыянтамі. Беларусы вярталіся на бацькаўшчыну яшчэ перад Першай сусветнай вайной, а асабліва шмат вярнулася па рэвалюцыі. Сярод іх — вядомыя дзеячы,

[5] Божым Шляхам. Парыж. 1950. № 29–30. С. 15; Новое Русское Слово. Нью-Йорк. 1949. 1 нояб.

[6] Бюлетэнь Цэнтральнай Камісіі Беларускага Чырвонага Крыжа. 1927. № 7–8.

[7] Гутарка аўтара з Майклам Папам, Кліўленд, 1984; The Sun. Baltimore (MD). 1976. March 14. P. A18.

[8] Бланкі канвертаў у Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

гэткія як д-р Аляксандр Сянкевіч, археолаг і прыродазнавец Сяргей Сакалоўскі[9]; з Амерыкаю звязаная значная частка жыцця генетыка Антона Жэбрака. Іншы павяртанец Макар Спірыд, што ў 1894—1910 гадах працаваў у Нью-Ёрку, потым жыў у БССР і быў вядомы як беларускі народны казачнік. Значная частка рэпатрыянтаў былі рэпрэсаваныя савецкаю ўладаю. Прыкладам, Самуіл Агурскі, што колькі гадоў жыў у ЗША, удзельнічаў у анархісцкім і рэвалюцыйным руху, а ў 1915 годзе ў якасці судырэктара арганізаваў так званы Чыкагскі працоўны інстытут — першы рэвалюцыйны інстытут для навучання эмігрантаў-працоўных з Усходняй Еўропы[10], у 1917 годзе вярнуўся ў Менск, дзе даследаваў развіццё камуністычных ідэй, быў высланы ў Казахстан у 1938 годзе, дзе і памёр. Майсей Напельбаўм, сусветна вядомы мастацкі фатограф, меў выставы ў Філадэльфіі, Пітсбургу, Нью-Ёрку, вярнуўся ў родны Менск яшчэ «за цара», адчыніў фатаграфічнае атэлье, якое Саветы — знішчылі. Камуністычныя лідары, як Кастусь Ванчукевіч, Сцяпан Сянкевіч, Павал Віланстовіч маладыя гады працавалі ў ЗША як іміграінты, у гады рэвалюцыі вярнуліся ў Беларусь, а ў 1930-я былі рэпрэсаваныя. Лёсы шмат каго з такіх павяртанцаў дасюль застаюцца недаследаваныя.

Сёння тысячы гасцей з Беларусі наведваюць сваіх родзічаў і сяброў у Амерыцы, з якімі яны не бачыліся дзесяцігоддзямі. Як чытачы маглі заўважыць, гаворачы пра амерыканска-беларускую дыяспару, яе карані і сувязь з Бацькаўшчынай, мы ўлучаем у гэтае паняцце ўсю беларускую этнаграфічную тэрыторыю, уключна з Віленшчынай і, безумоўна, Беласточчынай. З апошняй амерыканскія беларусы маюць трывалыя сувязі. Багата дзеячаў дыяспары ў ЗША паходзілі з Беласточчыны: уладыка Васіль (Тамашчык), д-р Баляслаў Грабінскі, Язэп Варонка, Міхась Белямук і інш. Бліжэйшыя кантакты з суродзічамі з гэтага рэгіёна ў амерыканскіх беларусаў пачаліся ў 1950-я, калі ў Беластоку пачала выходзіць газета «Ніва». У ЗША газета мела багата падпісчыкаў і распаўсюднікаў: д-р Вітаўт Тумаш, Браніслаў Даніловіч, Сымон Жамойда, Часлаў Ханяўка — асобы, якія ў 1941—1944 гадах працавалі на Беласточчыне.


Народжаная на Беласточчыне Вера Пруская з мужам Міколам і дочкамі

У 1960-я туды сталі ездзіць амаль рэгулярна Юрка Станкевіч, Сяргей Карніловіч, Мікола Пруські. Апошні знайшоў на Беласточчыне сабе жонку Веру. Акрамя газеты «Ніва», у беларусаў ЗША карысталіся попытам падручнікі для пачатковых школак і асабліва календары з Беласточчыны.

У 1970—1980-я ў ЗША сталі ўсё часцей прыязджаць беластоцкія беларусы. Так, з некалькімі лекцыямі выступаў пісьменнік Алесь Барскі[11], прыязджалі студэнты на навучанне, іміграанты на сталае жыццё. Амерыканскія беларусы пачалі актыўна дапамагаць суродзічам з Беласточчыны, збіралі сродкі на пабудову музея ў Гайнаўцы, на дапамогу паасобным праваслаўным парафіям, на розныя грамадскія патрэбы. Сюды дасылалі грошы, медыкаменты, кнігі. Вялі рэй у гэтым Мікола Пруські, Сяргей Карніловіч, Пётра Кажура, спадарства Лук'янчыкі. Беласточчыну адведаў і амерыканскі беларускі ансамбль «Васілёк».

Асабліва шчыльнае супрацоўніцтва беларускай дыяспары ў ЗША з беластоцкімі беларусамі наладзілася ў 1990-я. У «Ніве» друкаваліся рэпартажы з спатканняў з амерыканскімі суродзічамі[12], мастак з Беласточчыны Лёнік Тарасевіч меў некалькі выстаў у ЗША, сюды ж прыязджаў на гастролі ансамбль «Дубіны», якому амерыканскія беларусы набылі некалькі новых інструментаў. Ва ўніверсітэце Ратгерс быў заснаваны гурток Беларускага аб'яднання студэнтаў Польшчы, старшынёй якога быў Валянцін Сельвясюк, а скарбнікам — Барбара Кучынская (абое з Беласточчыны)[13].

Беларускі інстытут навукі і мастацтва таксама наладзіў супрацоўніцтва з беластоцкімі беларусамі: Алесем і Нінай Баршчэўскімі, Алегам Латышонкам, Янам Максімюком, Юрыем і Зінай Туронкамі, Ленай Глагоўскай, Барбарай Пякарскай, Міколай Ваўранюком і інш. Сябры БІНіМ — праф. Томас Бэрд, сп-ня Зора Кіпель, д-р Вітаўт Кіпель, д-р Янка Запруднік, спсп. Лявон Юрэвіч, Мікола Пруські ўдзельнічалі ў навуковых канферэнцыях, што ладзіліся на Беласточчыне.


Вычытванне кнігі Я. Максімюка «Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945–1950». Зора і Вітаўт Кіпелі, Ала Орса-Рамана. 1993 г.

Варта згадаць і тое, што гісторыю Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне на запрашэнне амерыканскіх суродзічаў напісаў беластоцкі беларус Ян Максімюк. Вось як ён згадваў пра свае кантакты з беларусамі ЗША:

*Увосень я трэці раз зьбіраюся ў Нью-Ёрк. Калі я думаю пра гэты горад, дык першае, што прыходзіць на думку, гэта не хмарачосы, а Нью-Ёркская Публічная бібліятэка... і гутаркі з Кіпелямі і Алай Орса-Рамана. Гэтыя асобы зрабілі Нью-Ёрк блізкім мне горадам. Можна сказаць, яны «беларусізавалі» яго для мяне. За што ім удзячны на ўсё жыцьцё*[14].

Вяртаючыся да тэмы павяртанцаў варта адзначыць і такое яе будучае развіццё: у розных краінах кшталту Італіі, Ірландыі, Іспаніі і г. д. рээмігранты ў ЗША

[9] Наш Край. Менск. 1927. № 8—9. С. 94—95.

[10] Герасімчык, В. Самуіл Агурскі — кравец, камісар, гісторык. Гл.: http://novychas.by/poviaz/samuil-ahurski-kravec-kamisar-historyk.

[11] Барскі, А. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2011. С. 345—387.

[12] Ніва. Беласток. 1991. № 32; 2007. № 22.

[13] Беларус. Нью-Ёрк. 2012. № 590, 593.

[14] Ніва. Беласток. 03.06.2007.

маюць значны ўплыў на эканоміку (асабліва групы пенсіянераў). Гэткае можа адбывацца і ў Беларусі, калі яна будзе сапраўднай дэмакратыяй. Эмігранты-пенсіянеры могуць з прыемнасцю пражываць свае залатыя гады на Бацькаўшчыне. Ужо цяпер можнаназіраць, праўда не шматлікія, прыклады вяртання эмігрантаў для разбудовы свайго эканамічнага жыцця ў Беларусь. Згадаем, як у 2018–2019 гадах на Валожыншчыну з ЗША вярнуўся Аляксей Міхневіч і пачаў разбудоўваць уласную гаспадарку[15].

## Дачыненні на арганізацыйным і дзяржаўным узроўні

Блізкія сацыяльна-культурныя кантакты паміж беларусамі і амерыканскімі арганізацыямі пачаліся ў 1917–1918 гадах. У Менску дзеілі шматлікія амерыканскія місіі, якія раздавалі ежу і адзенне. Гэтыя місіі дапамагалі таксама весці культурную працу з моладдзю. Дзеіў у горадзе Амерыканскі клуб, а потым ягоны будынак, называны «амерыканскі барак», быў перададзены на патрэбы беларускіх арганізацый. У гэтым будынку адбыліся і першыя спектаклі Беларускага тэатра[16]. Важна падкрэсліць такі факт: пазітыўнае супрацоўніцтва паміж амерыканскімі месіянерамі і тагачаснай беларускай актыўнай моладдзю наладзілася толькі тады, калі амерыканскія прапаведнік запрасілі да супрацы беларускі хор Уладзіміра Тэраўскага ды ўвялі ў культурную праграму беларускія канцэрты[17].

Першыя спробы наладзіць палітычныя кантакты і ўсталяваць дзяржаўныя дачыненні, а таксама азнаёміць амерыканскіх палітыкаў з беларускімі палітычнымі ідэаламі і патрэбамі былі зробленыя прадстаўнікамі Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1918–1919 гадах[18].

З аналізу дзейнасці Амерыканскае дапамаговае адміністрацыі (АРА) у Беларусі ў 1920–1923 гадах можна меркаваць, што Амерыка была зацікаўленая ў наладжванні кантактаў з новаўзніклаю краінаю, але з прычынаў, якія застаюцца нявысветленымі, гэта не было ажыццёўлена. Як зазначае Алеся Кіпель у сваім артыкуле пра дзейнасць АРА ў Беларусі, амерыканцы, будучы прагматыкамі, адчувалі, што практычна ўся палітыка ў Савецкім Саюзе вызначалася і кантралявалася маскоўскім урадам. Такім чынам, было лагічным падтрымоўваць кантакты непасрэдна з цэнтральным урадам[19].



Пастаўкі АРА для Савецкай Расіі і Беларусі. 1921–1923 гг.
*Здымак з сайта hoover.org*

Амерыканская дапамога Савецкай Беларусі ў 1922 годзе, як выглядае, была асабліва значная ў галіне сацыяльнага забеспячэння і адукацыі. Сцяпан Некрашэвіч, адзін з кіраўнікоў Савецкае Беларусі ў 1920-я гады, зазначаў, што амерыканская дапамога складала 12 % у агульным бюджэце Народнага камісарыята асветы ў 1922/23 бюджэтным годзе[20].

Дапамагала Амерыка і беларускім школам у Заходняй Беларусі. Урад ЗША некалькі гадоў выяўляў зацікаўленне гэтым рэгіёнам і сачыў за развіццём палітычнае сітуацыі ў Заходняй Беларусі да сярэдзіны 1920-х гадоў[21].

Паасобныя культурныя кантакты паміж Амерыкай і Беларуссю пачаліся ў XIX стагоддзі, калі ў Сан-Францыска ў 1887–1888 гадах выстаўляў свае карціны Казімір Альхімовіч, а на пераломе XIX–XX стагоддзяў дэманстраваліся карціны Рыгора Баброўскага[22].

Сталыя культурныя кантакты паміж абедзвюма краінамі пачаліся ў сярэдзіне 1920-х гадоў, калі ў 1926 годзе было заснаванае Беларускае таварыства культурных сувязяў з замежнымі краінамі ў рамках Усесаюзнага таварыства культурных сувязяў з замежнымі краінамі[23].

Культурныя дачыненні паміж БССР і Злучанымі Штатамі ў 1920–1930-я гады былі вельмі актыўныя. Навукоўцы з Горы-Горацкае сельскагаспадарчае акадэміі бралі ўдзел у Міжнародным кангрэсе глебазнаўцаў у Вашынгтоне ў 1927 годзе[24]. Дарэчы, як вынік супрацоўніцтва з амерыканскімі вучонымі пасля згаданага кангрэса праф. Я. М. Афанасьеў выдрукаваў у Беларусі аглядную працу аб глебавых зонах Паўночнай Амерыкі[25]. Беларускія прадстаўнікі бралі ўдзел на Міжнароднай выставе мастакоў у 1928 годзе ў Лос-Анджэлесе і ў 1929 годзе ў Нью-Ёрку[26]. Мастакі з Савецкае Беларусі таксама ўдзельнічалі ў 4-й і 5-й міжнародных выставах экслібрыса ў 1928 і 1929 гадах у Лос-Анджэлесе[27]. Былі арганізаваныя праграмы абмену з Нью-Ёркскаю публічнаю бібліятэкаю і Бібліятэкаю Кангрэса[28]. Акадэмія Навук БССР развівала планы супрацоўніцтва з амерыканскімі навуковымі ўстановамі. Менск наведвалі амерыканскія культурныя і мастацкія калектывы, прыкладам, у 1936 годзе было арганізаванае канцэртнае турнэ па Беларусі музычнае групы Вайнтраўба — Сінлапатраса[29].

Савецкая Беларусь развівала таксама дзелавыя дачыненні з амерыканскімі прамысловымі коламі: у 1927–1928 гадах БССР экспартавала ў Злучаныя Штаты тавараў амаль на мільён рублёў[30].

---

15 https://nn.by/?c=ar&i=239129.

16 Гісторыя беларускага тэатра. Т. 2. Мінск, 1985. С. 12; Шибеко, З.; Шибеко, С. Минск: Страницы жизни дореволюционного города. Минск, 1990. С. 326–327.

17 Беларуская моладзь. Бруклін. 1960. № 5. С. 3.

18 Архівы БНР, Стэмфард, штат Канектыкут.

19 Запісы БІНіМ. № 16. Нью-Ёрк, 1978. С. 61–83; Лукашук, А. Прыгоды АРА ў Беларусі. Радыё Свабода, 2005. — 500 с.

20 Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. Мінск, 1924. С. 24–25.

21 Папка «Амэрыканская дапамога Заходняй Беларусі» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN). Гл. таксама: Беларуская Думка. Саўт-Рывэр. 1981–1982. № 25–26. С. 53–54.

22 Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 3. Мінск, 1989. С. 197, 235, 244, 345.

23 Вопросы истории. Вып. 2. Минск, 1985. С. 115–116.

24 Русский Голос. Нью-Йорк. 22 июня 1927.

25 Записки Белорусской государственной академии сельского хозяйства им. Октябрьской революции = Запіскі Беларускай дзяржаўнай акадэміі сельскай гаспадаркі ім. Кастрычніцкай рэвалюцыі. Т. 8. Горки: Издательство Академии, 1928. С. 87–112.

26 Вопросы истории. Вып. 3. Минск, 1976. С. 85.

27 Беларускі кніжны знак. Мінск, 1975. С. 125.

28 NYPL Archives.

29 Папка Вайнтраўба ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Вопросы истории. Вып. 2... С. 116.

30 Краўчанка, П. Знешнегандлёвыя сувязі БССР у перыяд стварэння эканамічнага фундаменту сацыялізму // Веснік БДУ. Сер. 3. 1975. № 1. С. 18.

Гады Другое сусветнае вайны былі перыядам супрацоўніцтва паміж Злучанымі Штатамі і СССР. Савецкая Беларусь мела ў гэтых дачыненнях свой дадатковы голас, важны дзеля існавання беларускае іміграцыі ў ЗША, аднак яна, вядома ж, не магла весці незалежную ад Масквы палітыку.

Больш шырокія эканамічныя і культурныя дачыненні паміж БССР і заходнімі краінамі пачалі развівацца пасля Другое сусветнае вайны, калі дапамога *UNRRA* Савецкай Беларусі сталася важным фактарам аднаўлення разбуранае гаспадаркі БССР[31].

Што да эканамічнага супрацоўніцтва, дык пра яго няшмат было чуваць да сярэдзіны 1970-х гадоў, калі на амерыканскім рынку з'явіўся прадукаваны ў БССР трактар «Беларусь». Газета «*The New York Times*» пісала з гэтае нагоды:

*Калі на поўначы штата Нью-Ёрк пачнуцца вясновыя палявыя працы, некаторыя фермеры будуць араць свае палеткі маленькім франтаватым трактарам, які злучае ў сабе ўсе тэхналагічныя перавагі, якія гэтак вабяць амерыканцаў: ён недарагі, эканомны і мае чатырохколавы прывад. Трактар «Беларусь» вырабляецца ў Менску*[32].

Вядомы географ і саветолаг Тэадор Шабад, пішучы пра тэхнічныя характарыстыкі гэтага трактара, зазначыў: *«Адна з праблемаў, з якою сутыкнуліся амерыканскія дзелавыя колы, — як вымаўляць ягоны назоў»*[33].

Трактар «Беларус» меў шырокую рэкламу ў амерыканскай тэхнічнай літаратуры, была нават утвораная фірма «Машынная тэхніка Беларус», якая пашырала тэхнічныя і рэкламныя матэрыялы пра новы трактар. Аднак у 1980-я гады ён ужо не меў гэткае шырокае рэкламы, бо не ва ўсім адпавядаў патрэбам амерыканскага рынку.

Што да культурных дачыненняў паміж абедзвюма краінамі, дык, пачаўшыся даволі сціпла ў паваенным перыядзе, яны дасягнулі больш інтэнсіўнага ўзроўню ў 1970–1980-я гады ды працягвалі паспяхова развівацца ў 1990-я. Беларусь брала актыўны ўдзел у шматлікіх праграмах культурнага абмену, выставах, студэнты і аспіранты з Беларусі сталі працягваць навуку ў ЗША; прэзідэнт АН Беларусі У. Платонаў быў запрошаны выкладаць у Прынстанскім універсітэце.



Сустрэча з Вольгай Корбут: Вольга Корбут, Зора і Вітаўт Кіпелі, Данчык. 1988 г.

У Амерыцы неаднаразова гастраляваў вядомы беларускі музычны калектыў «Песняры», які зрабіў выдатную рэкламу беларускай эстрадзе, фальклору. Жыхар Злучаных Штатаў — вядомая беларуская гімнастка Вольга Корбут. Беларускія кнігі і карціны часта дэманстраваліся на савецкіх выставах у ЗША. Болей амерыканцаў сталі знаёміцца з фільмамі кінастудыі «Беларусьфільм».

[31] Woodbridge, G. UNRRA: The History...

[32] Belarus — it's a better idea // The New York Times. 1974.Apr. 28, Sept. 4. P. 2.

[33] U.S. News and World Report. June 17, 1974; Беларус. Нью-Ёрк. 1974. № 209.



Нагоды для паездак амерыканцаў у Беларусь ад пачатку 1990-х сталі пашырацца: музычныя імпрэзы, тэхнічныя выставы, дэманстрацыі кінафільмаў, абмены студэнтаў. Звычайнаю з'яваю сталіся беларускамоўныя гіды на амерыканскіх выставах на Беларусі. Цікавы прыклад музычных сувязяў: песня беларускага кампазітара Аўгена Магаліфа на словы амерыканскага паэта Дж. Лоўэла заняла адно з першых месцаў у адным з маскоўскіх хіт-парадаў[34].

У 1990-я гады амерыканскія беларусы пачалі запрашаць беларускіх артыстаў для выступленняў на Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амерыкі. Цягам апошняга дзесяцігоддзя розныя беларускія музыкі і музычныя калектывы наведваюць Амерыку, прыкладам «Стары Ольса», Лявон Вольскі. Апошні ў 2016 годзе даў канцэрты ў Вашынгтоне, Нью-Ёрку, Чыкага, прычым арганізоўвалі іх менавіта амерыканскія беларусы[35].

Разам з тым амерыканска-беларускія артысты і мастакі пачалі выступаць і на Беларусі. У 1989 годзе адбылося паспяховае турнэ па Беларусі (улучна з Беласточчынаю) Данчыка. У 1990 годзе ў гарадах Беларусі — у Менску, Полацку, Горадні, Вільні ды іншых — выступаў танцавальны ансамбль «Васілёк». Гэтыя культурныя падзеі мелі шырокі розгалас. Данчыкава турнэ асвятлялася ў шматлікіх газетах і часопісах, у радыё- і тэлеперадачах. Гастролі Данчыка і «Васілька» зрабілі вялікае ўражанне на беларускую моладзь. Упершыню яны бачылі маладых амерыканскіх беларусаў і маглі падзівіцца іхнай добрай беларускай мове, веданню беларускае гісторыі ды адданасці роднай культуры.

Гаворачы пра Данчыка, трэба адзначыць, што ён запачаткаваў новую форму культурнага супрацоўніцтва паміж амерыканскімі і падсавецкімі беларусамі, запісаўшы разам з Лявонам Барткевічам кружэлку і касету «Мы адной табе належым»[36] ды выдаўшы ўласную кружэлку «Калядныя песні».

У апошнія дзесяцігоддзі існавання СССР савецкі прапагандны апарат прысвяціў шмат часу і энергіі развіццю руху спародненых гарадоў. Улады гэткіх гарадоў-пабрацімаў заключаюць між сабою розныя пагадненні ды абменьваюцца афіцыйнымі дэлегацыямі з нагоды розных гарадскіх урачыстасцяў. Гэткім парадкам развіваўся даволі шырокі культурны абмен, прыкладам, паміж Грэнд-Рэпідсам, штат Мічыган, і Гомелем або паміж Дэтройтам і Менскам[37].

Варта адзначыць, што амерыканістыка (літаратура, гісторыя, эканоміка) вывучаецца ў Беларусі ў розных навучальных і навуковых установах. Аднак ёсць і спецыфічны кірунак — даследаванне амерыканскіх індзейцаў, якім займаецца заснаванае ў 1987 годзе Беларуска-індзейскае таварыства на чале з Алесем Сімаковым з Гомеля.

Разглядаючы тэму кантактаў, мы мусім агаварыцца, што ўлучанае тут, разгляданае — гэта толькі частачка тэмы, тое, што трапляла ў друк. Прыватныя кантакты — тэма, пра якую звычайна мала гаворыцца і зусім не пішацца, а яна патрабуе асобнага даследавання.

[34] Перапіска аўтара з Аўгенам Магаліфам, 1991. Гл. таксама: Знамя юности. Минск. 1990. 12 марта.

[35] Весткі й Паведамленьні. № 2 (612). Люты 2017.

[36] Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[37] Sister cities // Daily World (New York). 1985. March 14; New World Review. 1982. No. 6.

Культурныя дачыненні ўсіх узроўняў складаюць важны элемент міжнароднага супрацоўніцтва, спрыяюць лепшаму разуменню і прыязні між народамі, таму трэба ўсяляк вітаць развіццё гэткіх дачыненняў паміж Рэспублікаю Беларусь і Злучанымі Штатамі Амерыкі.

## Беларуска-амерыканскія культурныя сувязі

### *Беларуская тэма ў амерыканскай літаратуры*

Яшчэ на пачатку XIX стагоддзя у амерыканскім друку з'явіліся заўвагі і назіранні над паэтычнымі вартасцямі беларускага фальклору[38].

Першым буйным амерыканскім літаратарам, які зрабіў аднаго з сваіх герояў беларусам — імігрантам у Амерыцы, быў Аптан Сінклер. У сваіх класічных «Джунглях», дзе сярод іншага апісваецца жыццё імігранта-літоўца, аўтар піша:

*Адным вечарам яго ў дарозе заспела бура, і ён пайшоў шукаць прытулку ў маленькі дамок, які стаяў адразу за горадам. Гэта была хата рабочага, гаспадар, як і ён сам, быў славянін, нядаўні эмігрант з Беларусі. Ён запрасіў Юргіса ў хату сваёю роднаю моваю і сказаў ісці на кухню і пасушыцца ля агню*[39].

Большасць апісанняў Беларусі і беларусаў у амерыканскай літаратуры сустракаецца ў творах пісьменнікаў-яўрэяў, і гэта цалкам зразумела, бо многія тысячы яўрэйскіх імігрантаў прыехалі ў ЗША з беларускіх земляў мяжы аселасці.



Мэры Энтын

Адною з першых, хто згадаў Беларусь як краіну дзяцінства, была Мэры Энтын[40]. На вялікі жаль, яна і шматлікія іншыя пісьменнікі-яўрэі ўжываюць недакладную тэрміналогію, называючы Беларусь «Расіяй», а беларусаў — «рускімі», што, бясспрэчна, дадало тэрміналагічнае і канцэптуальнае блытаніны да назову нашае краіны і народа ў Амерыцы. Шмат для каго з гэтых пісьменнікаў засталося незаўважным тое, што беларусы таксама прыгняталіся расійскім рэжымам. Часам, праўда, рабілася розніца. Мэры Энтын пісала:

*Калі я была маленькаю дзяўчынкай, свет для мяне дзяліўся на дзве часткі: Полацак, дзе я жыла, і чужая краіна, якая называлася Расія*[41].

За Мэры Энтын з'явіўся цэлы легіён яўрэйскіх празаікаў, паэтаў і драматургаў, якія пісалі на ідыш і па-англійску і закраналі беларускія тэмы. Шмат хто з іх паходзіў з Беларусі, прыкладам, драматург Давід Пінскі з Магілёва, тэатральны крытык і апавядальнік Бернард Горын з Ліды, паэт і апавядальнік Аўрам Рэйзін з Койданава, паэт Давід Эйгорн з Карэлічаў, паэт-класік Г. Лейвік з Ігумена, паэт і навеліст Хаім Градэ з Вільні, паэтка Ана Марголін з Беластока, пясняр беларускіх краявідаў Пэрэц Гіршбэйн, літаратурны крытык Шмуэль Нігер (Чарны) з Дукоры, апавядальнік і літаратурна-тэатральны крытык Борух Глазман з-пад Мазыра ды шмат іншых[42]. У Янаве нарадзіўся паэт Морыс Вінчэўскі, а таксама пісьменніца-«прадпрымальніца» Полі Адлер, аўтарка аўтабіяграфічнай кнігі «*A House is not a Home*» («Хата — гэта яшчэ не дом»)[43]. З Пятровічаў, што на Мсціслаўшчыне, паходзіць сусветна вядомы амерыканскі пісьменнік-фантаст Айзек Азімаў[44].

[38] Запісы БІНіМ. № 17. Нью-Ёрк, 1983. С. 124–125.

[39] Sinclair. U. The Jungle. New York, 1985. P. 283.

[40] Antin, M. From Polotzk to Boston. Boston (MA), 1899.

[41] Antin, M. The Promised Land. Boston (MA), 1912. P. 8.






Вокладка кнігі Полі Адлер

Драматург Леон Кобрын, які нарадзіўся ў Віцебску, закранае беларускія тэмы ў сваёй вядомай п'есе «Янкель Бойл, або Вясковы хлопец», а таксама ў апавяданнях «Літоўская вёска» і «З літоўскага мястэчка ў шматкватэрны дом». Кобрын апісвае жыццё яўрэяў і іхныя дачыненні з мясцовым хрысціянскім насельніцтвам, якія, хоць і не заўсёды суладныя, даволі часта былі прыязныя, асабліва што датычыць моладзі. Творы Кобрына расквечаны тыпова беларускімі выслоўямі і выяўляюць ягонае знаёмства з жыццём сялянаў, сярод якіх ён пасяліў сваіх герояў. Беларускія тэмы таксама знайшлі сваё адлюстраванне ў кнізе Абрагама Кагана «Узлёт Давіда Лявінскага» ды ў першым томе ягонае шматтамовае аўтабіяграфіі «Лісцё майго жыцця»[45].

Так падаваўся чытачу спецыфічны вобраз Беларусі — часта і не названай сваім імем. Нярэдка яўрэйскія пісьменнікі, апісваючы беларускую стыхію, выяўлялі прывязанасць і настальгію да «Старое Краіны».

Мабыць, найлепей гэта было выказана Джуліусам і Фрэнсіс Бутвінамі ў іхнай прадмове да перакладу Шолам-Алейхемавае «Старое Краіны»:

*Мы абое прыехалі з Старое Краіны, я пазней за майго мужа, але ён мае глыбейшае пачуццё повязі з мінулым. Яму быў адзін год, калі яго прывезлі ў Амерыку з Ваўкавыска, што ў Літоўскай Расіі. Сорак гадоў — амаль усё сваё жыццё — ён пражыў у невялікім гарадку ў Сярэдняй Амерыцы. Тут ён гуляў па вуліцах як свой, ён добра ведаў будынкі і людзей, гісторыю і палітыку. Тэмп жыцця яму падыходзіў. І ўсё ж ягоныя карані былі не тут. Ён часта казаў, што ведае Ваўкавыск не горш за Сэнт-Пол... Бо ўсе тыя гарады і мястэчкі, рэальныя і фантастычныя, у Беларусі і Украіне, у Галіцыі і Літве, належаць да тае самае краіны, пра якую гаварылі нашыя дзяды і бабкі, калі казалі Ін дэр гэйм, дома*[46].

У сваёй кнізе «Уздым амерыканскае яўрэйскае літаратуры» Чарлз Энгоф і Мэер Левін пісалі:

*Цывілізацыя ніколі не памірае, яна толькі мяняе адрас. У першыя два дзесяцігоддзі нашага стагоддзя цэнтры яўрэйскае цывілізацыі пераехалі ў Амерыку. Вільня пераехала ў Нью-Ёрк, Горадня — у Філадэльфію, а Менск — у Бостан*[47].

[42] Encyclopedia Judaica. Jerusalem, 1971. Vol. 7. P. 810; Vol. 10. P. 1123; Vol. 11. P. 1318–1324; Vol. 13. P. 550; Vol. 16. P. 154.

[43] https://budzma.by/news/poli-adlyer-madam-z-yanava.html.

[44] Asimov, I. In memory yet green: The autobiography. New York (NY), 1979. P. 3–4.

[45] Kobrin, L. A Lithuanian village. New York (NY), 1927; Cahan, A. The Rise of David Levinski. New York (NY), 1934.

[46] Sholom Aleichem. The Old Coutry. New York (NY), 1946. P. XI–XII.

[47] Angoff, Ch., Levin, M. The Rise of American Jewish Literature. New York (NY), 1970. P. 8–9.

Традыцыя звароту да беларускае тэмы амерыканскіх яўрэйскіх пісьменнікаў працягваецца і да сёння. Вядомы сучасны пісьменнік Морыс Гіндус неаднаразова ў сваіх творах згадвае сваю «родную Беларусь»[48]. Народжаны ўжо ў Амерыцы Герман Воўк, аўтар бестселера «Вятры вайны», у аўтабіяграфіі, падаючы ўспаміны бацькоў, настальгічна апісвае стары Менск[49].

Літаратура, аднак, застаецца адзінаю крыніцаю інфармацыі пра лучнасць амерыканскіх яўрэяў з Беларуссю і пра беларуска-яўрэйскія дачыненні. Наогул жа развіццё яўрэйскае культуры ў «Старой Краіне» было плёнам шматвяковага прыязнага і мірнага суіснавання яўрэяў і беларусаў — факт, пра які, на жаль, часта забываюцца.

Англа-амерыканская пісьменніца Эма Сміт завяршае свае ўспаміны пра наведанне Беларусі гэткімі філасофскімі развагамі:

*У сваіх думках я зноў і зноў вярталася да тых мужчынаў і жанчынаў, хлапцоў і дзяўчат, з якімі я пазнаёмілася ў Верцялішках, — я памятаю іхныя твары, чую іхныя галасы, бачу іх за працай. І я разумела, што праз усе тыя песні і скокі, жарты і казкі, вясёлыя бяседы праходзіла тая самая нітка, непахісная трываласць, якая ішла ад непарушнага спакою недзе ў глыбіні іхнае душы. Гэта быў не спакой смерці, а спакой глыбокіх каранёў. І нарэшце, калі я ўжо сядзела ў самалёце, што нёс мяне далёка ад Беларусі, мне прыйшла ў галаву думка, што беларускі народ спазнаў, што значыць чалавечнасць, з тых нязмерных пакутаў, якія прынёс яму найстрашнейшы з усіх жыццёвых настаўнікаў — скрайняя бесчалавечнасць, і замест таго каб дазволіць таму ліхому досведу, які знішчыў чвэрць насельніцтва фізічна, знішчыць астатнія тры чвэрці духоўна, яны неяк — неяк — здолелі ператтварыць яго ў глыбокую пашану да самога жыцця; у глыбокае разуменне таго, што жыццё робіцца добрым або благім праз чалавечыя дачыненні; у пэўнасць таго, што навучыць чалавечнасці іхных дзяцей мусіць толькі чалавечнасць. І гэтую мудрасць, выснаваную з страшнага досведу, гераічна засвоеную і актыўна ўжываную, я бачыла ў спакойным светлым позіглядзе дзясяткаў і дзясяткаў беларусаў, поглядзе пераможцаў катастрофы, а не яе ацалелых ахвяраў. Аднак тое, што я павезла ў сабе дзеля далейшых развагаў, было гэтае слова неяк*[50].




Вокладка кнігі Эмы Сміт

Беларуская тэма ў амерыканскай літаратуры яшчэ чакае свайго даследчыка.

### *Амерыка ў беларускай літаратуры*

Амерыканская тэма ўвайшла ў беларускую літаратуру напрыканцы мінулага стагоддзя з вершамі Францішка Багушэвіча. Часцей пачалі з’яўляцца амерыканскія абразкі ў «Нашай Ніве», дзе друкаваліся і пераклады з англійскае мовы.

[48] Hindus, M. Red Bread. Bloomington (IN), 1988; Idem. The Kremlin’s Human Dilemma. New York (NY), 1967. P. 188.

[49] Wouk, H. Inside, Outside. New York (NY), 1986.

[50] Smith, E. Village children. Moscow, 1982. P. 69–70.



Амерыканскія матывы сустракаюцца ў рэцэнзіі Янкі Купалы на раман «Амерыканец».

Згадаў Злучаныя Штаты і Максім Багдановіч. Ён выказаў свой жаль з таго, як амерыканцы ставяцца да беларускіх эмігрантаў[51].

Цікавую заўвагу палітычнага характару пра Злучаныя Штаты зрабіў Алесь Гарун. У 1917 годзе ён пісаў:

*Цар скінуты. Што рабіць далей? Найлепей было б усталяваць сістэму, якая існуе ў Амерыцы. Там народ сам выбірае сабе галаву, замест таго, каб мець за галаву дзяржавы цара. (Яны называюць такога чалавека «прэзідэнт».) Ён займае пасаду тры (Sic! —* В. К.*) гады. Калі ён добры, яго перавыбіраюць яшчэ на тры гады. Калі ён дрэнны, яны з ім развітваюцца. Вось чаму амерыканцы паважаюць законы, бо ўсе грамадзяне — улучна з прэзідэнтам — кіруюцца законамі...*[52].

З абвяшчэннем у 1919 годзе Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі ды развіццём беларускае савецкае літаратуры Амерыка пачала згадвацца ва ўспамінах (прыкладам, Аляксандра Сянкевіча), празаічных творах ды перакладах. Сам Вільгельм Кнорын, уплывовы БССРаўскі палітык, сказаў наступнае:

*Трэба сказаць, што нам патрэбны чалавек новага тыпу, нам патрэбныя людзі накшталт амерыканскіх шукальнікаў золата, амерыканскіх першапраходцаў, людзі, якія не баяцца ісці наперад, рызыкаваць усім дзеля дасягнення свае мэты. Такія людзі патрэбныя нам цяпер...*[53].

У 1920–1930-я гады амерыканская тэма прысутнічала ў творах Аляксандра Сянкевіча.

Погляд на амерыканскую літаратуру добра выказаў Янка Купала:

*Амерыканская літаратура сёння адна з найцікавейшых і найвыдатнейшых літаратураў свету. У Савецкім Саюзе амерыканскіх аўтараў добра ведаюць і з прыемнасцю чытаюць. По і Уітман, Купер і Брэт Гарт з старэйшых аўтараў; Тэадор Драйзер, Аптан Сінклер, Эрнст Хэмінгуэй, Эрскін Колдуэл і шмат іншых выдаюцца і перавыдаюцца ды знаходзяць шматлікіх зацікаўленых чытачоў...*[54].




Агітплакат А. Наважылава «Палітыка ЗША як яна ёсць». *Выява з сайта plakat.unid.by*

На жаль, у той час, калі беларусы пачалі знаёміцца з амерыканскаю літаратураю ў яе розных аспектах, у жыццё пачаў умешвацца палітычны фактар, які з часам стаў пераважаць у афіцыйным стаўленні да амерыканскае культуры. Дзясяткі беларускіх пісьменнікаў і журналістаў, асабліва тыя, хто наведаў Злучаныя Штаты — звычайна ў складзе розных дэлегацыяў, — адчувалі сваім абавязкам напісаць штосьці пра *«загніваючы*

[51] Наша Ніва, Вільня. 1907. 4, 11, 18 мая; 1911. № 14; 1913. № 50.

[52] Hramada. Minsk. 1917. № 2.

[53] Асьвета. Менск. 1928. № 2. С. 14.

[54] International Literature. Moscow. World’s Fair Issue. 1939. P. 47.

*капіталізм»* і пра *«трагічныя супярэчнасці буржуазнага грамадства»*, скрытыкаваць амерыканскі лад жыцця, знайсці карані зла на Уол стрыт, выставіць заводы Форда і «Джэнерал Мотарс» як сімвалы капіталістычнага прыгнёту.

Шмат такіх твораў пра Злучаныя Штаты аднастайныя, поўныя штампаў, павярхоўныя і слабыя з мастацкага боку. Да таго ж яны выяўляюць поўнае няведанне і неразуменне аўтарамі Амерыкі і амерыканскае культуры. Трэба думаць, што шматлікім беларускім чытачам было сорамна за такую літаратурную «прадукцыю», але яны не маглі нічога змяніць. Мабыць, калісь у будучыні гэтая пісаніна будзе прааналізаваная і ацэненая як прыклад таго, як камуністычная прапаганда можа руйнаваць талент, заахвочваць пасрэднасць і спрыяць канфрантацыі, напружанню і дэзынфармацыі. Беларускіх савецкіх пісьменнікаў — празаікаў, паэтаў, публіцыстаў і крытыкаў, — якія спецыялізаваліся на абражанні Амерыкі і амерыканскіх беларусаў, вельмі шмат, але бясспрэчнымі «чэмпіёнамі» можна лічыць Петруся Броўку, Пімена Панчанку, Максіма Танка, Уладзіміра Карызну, Леаніда Прокшу, Алеся Бажко, Савелія Паўлава, Анатоля Стука, Лявона Яўменава, Міхася Мушынскага.

Антыамерыканскія публікацыі з'яўляліся ў друку БССР да апошніх гадоў яе існавання. Якім неверагодным кантрастам на іх фоне ўспрымаецца пастаўленае ў эпіграф да гэтае кнігі чатырохрадкоўе Ларысы Геніюш, перасланае ёю без ніякага страху праз усе калючыя драты і заслоны!

Шмат хто з пісьменнікаў Савецкае Беларусі звяртаўся да тэмы беларускае эміграцыі ў Амерыцы. Эмігрантаў яны заўсёды дзялілі на дзве групы: добрыя — старыя эмігранты, звычайна сябры розных *«рускіх прагрэсіўных»* арганізацый, і дрэнныя — *«беларускія буржуазныя нацыяналісты»*. Старыя любяць Беларусь, ездзяць на радзіму, яны лаяльныя да савецкае сістэмы ды зайздросныя, што савецкіх дасягненняў няма ў Злучаных Штатах. «Дрэнныя», г. зн. эмігранты паваеннае хвалі, — антысаветчыкі, якім падабаецца амерыканская сістэма.

Сюжэты сотняў апавяданняў такога кшталту, асабліва выдаваных у «Бібліятэчцы "Голасу Радзімы"», простыя, шаблонныя і наіўныя. Звычайна яны выглядалі так: бедны сялянскі хлопец з закінутае беларускае вёскі паехаў у краіну «жоўтага д'ябла» зарабіць крыху даляраў, мяркуючы вярнуцца дахаты і купіць зямлі. Жыццё ў Амерыцы нялёгкае, але гэты бедны іміграпт чамусьці там застаецца на доўгія гады. І вось ён зноў на Бацькаўшчыне. О! Ён не можа паверыць сваім вачам! Жыццё цалкам змянілася. Усё цяпер так добра, такое таннае, асабліва медыцына, адукацыя, культура і забавы. Амерыка на гэтым фоне выглядае як краіна, дзе ўсё вельмі дарагое, нізкае якасці і недаступнае простаму работніку. Аднак, нягледзячы на ўсе ліхоты «капіталізму», госць вырашае вярнуцца ў Амерыку. Перад ад'ездам ён набірае жменю беларускае зямлі і бярэ з сабою пару боханаў хлеба — *«смачнага хлеба, якога ў Амерыцы не знойдзеш»*.




Агітплакат Саюза мастакоў БССР «Змяіны яд», аўтар А. Чуркін. 1968 г. *Выява з сайта plakat.unid.by*

Зразумела, з распадам СССР такая «амерыканская тэма» ды стогны аб рабочым класе ў «капіталістычным пекле» саступілі месца больш



аб'ектыўным матэрыялам. Трэба спадзявацца, што толькі адмоўны вобраз Амерыкі ў беларускай літаратуры, недавер і суб'ектывізм назаўсёды адышлі ў гісторыю.

## *Пераклады*

Спіс амерыканскіх пісьменнікаў, перакладзеных на беларускую мову, уяўляе з сябе багатую галерэю літаратурных постацяў Злучаных Штатаў, якія прадстаўляюць амаль усе літаратурныя жанры і храналагічна ахопліваюць усю гісторыю амерыканскае літаратуры — ад каланіяльнага Масачусэтса да пасляв'етнамскага Вашынгтона.

Побач з класічнымі аўтарамі, такімі як Харыет Бічэр-Стоў, Эдвард Бэламі, Генры Лонгфэлоў, Роберт Луіс Стывенсан, О. Генры і Джэк Лондан, можна сустрэць і пераклады левых пісьменнікаў — Хаўарда Фаста, Майкла Гоўлда, Альберта Молца ды Джона Рыда, Клода МакКэя, Рычарда Уілбера або сучаснага пісьменніка Джона Грыфіна.

Апрача паэткі Эн Сэкстан, гумарыста Арта Бухвальда, драматургаў Эдварда Олбі, Уільяма Інджа, Артура Мілера, Юджына О'Ніла і Тэнесі Уільямса, беларускі чытач можа знаёміцца па-беларуску з творамі гэткіх выдатных сучасных пісьменнікаў, як Рэй Брэдберы, Уільям Фолкнер, Сінклер Луіс, Уільям Сараян, Джон Стэйнбек, Джэймс Тэрбер, Курт Вонегут ды іншых[55].

Такім чынам, хоць у выбары аўтараў і назіраецца пэўны ўхіл у бок насвятлення сацыяльных і псіхалагічных праблемаў амерыканскага грамадства, якасць перакладзенае амерыканскае літаратуры не выклікае ніякага сумнення.

Цікава звярнуць увагу на такі факт: у 2017 годзе ў Беларусі была запачаткаваная кніжная серыя пад назвай «Амерыканка», у якой друкуюцца пераклады на беларускую мову амерыканскіх творцаў. Пабачылі свет кнігі Маргарэт Этвуд, Кіна Кізі, Чарлза Букоўскі, Чака Паланюка, Курта Вонегута. Пры гэтым спонсарам выдання, прыкладам кнігі Маргарэт Этвуд «Пенелапіяда», выступіў Вашынгтонскі аддзел Беларуска-амерыканскага задзіночання[56].




Рэклама кніжнай серыі «Амерыканка»

На ніве перакладаў беларуская дыяспара мае і ўласныя здабыткі. У беларускую мову перакладаўся Стывенсан, з'явіліся пераклады вершаў Эзры Паўнда.

Бясспрэчна, да мастацкіх перакладаў трэба залічыць і зроблены д-рам Янам Запруднікам пераклад амерыканскага гімна:

*Зорны штандар*

*О, ці бачыш ты зноў пераможны наш сцяг,*
*што так горда лунаў у зацятым змаганні,*
*і як зоркі на ім асвятлялі прасцяг*
*доўгай ноччу баёў, што грымелі да гання?*

---

55 Беларуская энцыклапедыя. Т. 7. Мінск, 1998. С. 87–88.

56 Літаратурная Беларусь. Мінск. № 3 (139). Сакавік 2018.

*Бітвы вогненнай жар і змагання разгар*
*Пацвярджалі ўсю ноч, што там быў наш штандар.*
*О, ты мне скажы, ці красуе той сцяг*
*над краінай свабод,*
*дзе адважны народ?*[57].

* * *

У справе перакладаў беларускае літаратуры ў Амерыцы зроблена параўнальна няшмат. У 1930–1940-я гады друкаваліся пераклады паасобных вершаў Купалы і Коласа. Перакладніцкая праца актывізавалася ў 1970–1980-я гады, калі выйшла колькі перакладаў твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Алеся Адамовіча ды іншых пісьменнікаў ды, вядома ж, шэрагу раманаў Васіля Быкава.

Сёння на англійскую мову перакладаюцца творы як беларускіх класікаў — Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Змітрака Бядулі, гэтак і сучасных аўтараў з Рэспублікі Беларусь.

Нарэшце, у адным з вядучых амерыканскіх выдавецтваў выйшаў пераклад на англійскую мову помніка сярэднявечнае літаратуры — беларускага «Трышчана»[58].

Цягам апошніх гадоў з'явіліся новыя пераклады твораў Васіля Быкава, англамоўны пераклад Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» (перакладчыца Мэры Мінц). Шмат перакладаў друкуецца ў альманаху «Беларус».

Пры канцы 2015 года ў выдавецтве *«The Edwin Mellen Press»* у Нью-Ёрку ўбачыла свет кніга Леаніда Леванові ча «Ліквідатарава жонка» ў перакладзе Ігара Казака. Кніга змяшчае каля двух дзясяткаў твораў, якія раней друкаваліся ў Беларусі, і атрымоўвае добрыя водгукі.




Вокладка кнігі Уладзіміра Някляева «Belarus» (2015)

З ініцыятывы Леаніда Зубарава і пры падтрымцы БІНіМа ў тым самым 2015 годзе ў Нью-Ёрку ў выдавецтве *«Julliette»* выйшаў у трох мовах (беларуская, англійская і руская) зборнік паэзіі Уладзіміра Някляева «Беларусь». Пераклады і ўступ — Л. Зубарава. Выхад кнігі суправаджаўся прыездам Уладзіміра Някляева ў ЗША, адбыліся прыемныя і людныя прэзентацыі ў Нью-Ёрку, Вашынгтоне, Саўт-Рыверы.

На паліцах амерыканскіх кнігарняў можна бачыць і творы беларускай лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч. У 2016 годзе пісьменніца наведала ЗША з візітам, прымеркаваным да выхаду амерыканскага выдання яе кнігі «Час сэканд хэнд»[59]. Трэба зазначыць, што Святлана Алексіевіч досыць папулярная ў амерыканскім грамадстве. Прыкладам, пісьменніца Герта Мюлер, таксама лаўрэатка Нобелеўскай прэміі, у адказ на пытанне «Якую кнігу павінен прачытаць амерыканскі прэзідэнт?» назвала «Час сэканд-хэнд» Святланы Алексіевіч. У 2017 годзе ў газеце *«The Wall Street Journal»* была змешчаная рэцэнзія на ранейшы твор нобелеўскай лаўрэаткі «У вайны не жаночае

[57] Пра паходжанне тэксту і мелодыі гл.: Беларус. Нью-Ёрк. 2009. № 556.
[58] The Byelorussian Tristan / Translated by Z. Kipel. New York, 1988.
[59] Беларус. Нью-Ёрк. 2016. № 622.



аблічча»[60], перавыдадзены ў Нью-Ёрку[61]. Аднак варта адзначыць, што амерыканскія беларусы і раней цікавіліся творчасцю Святланы Алексіевіч, праўда, ставіліся да пісьменніцы часам крытычна з-за яе карыстання рускай мовай[62].

Можна спадзявацца, што развіццё палітычных і культурных дачыненняў паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Рэспублікай Беларуссю будзе спрыяць пашырэнню літаратурных кантактаў ды актывізацыі перакладніцкае творчасці.




Вокладка амерыканскага выдання кнігі Святланы Алексіевіч «Час сэканд-хэнд»

### *Амерыканская беларуская літаратура*

Амерыканскія пісьменнікі беларускага паходжання пачалі выступаць у друку на пачатку гэтага стагоддзя. У 1909 і 1910 гадах «Наша Ніва» змясціла колькі вершаў беларускага паэта з Амерыкі І. Дубровіка. У 1920–1930-я гады колькі амерыканскіх беларусаў пісалі пабеларуску і па-руску не толькі вершы і апавяданні, але і кнігі, у якіх апісвалася жыццё беларусаў у Амерыцы[63]. Асаблівую важнасць мае кніга а. Яна Тарасевіча, бо ён быў першым свядомым беларусам, які апісаў і прааналізаваў жыццё беларусаў-імігрантаў. У кнізе падаюцца жывыя ўражанні аўтара ад Амерыкі ў святле параўнання яе з пакінутай бацькаўшчынай, пасля доўгіх гадоў жыцця на чужыне. Беларуская тэма выступае таксама ў творчасці такіх пісьменнікаў, як Палачанін, Юры Вегаў (Язэп Варонка) ды Іван Карась, якія супрацоўнічалі з газетай «Белорусская Трибуна».

Уздым амерыканска-беларускае літаратуры зазначыўся з прыездам у краіну ў канцы 1940 — пачатку 1950-х гадоў паваеннае хвалі імігрантаў. Шмат вядомых беларускіх пісьменнікаў і літаратурных крытыкаў у роскві це свайго таленту прыбылі з гэтаю хваляю ў Злучаныя Штаты і пачалі публікаваць свае творы, сярод іх — Юрка Віцьбіч (Юры Стукаліч), Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч, Ізыдар Плашчынскі, Наталля Арсеннева, Рыгор Крушына (Казак), Масей Сяднёў, Міхась Кавыль (Язэп Лешчанка), Янка Золак (Антон Даніловіч), Уладзімір



Уладзімір Дудзіцкі



Янка Золак



Рыгор Крушына



Ізыдар Плашчынскі

[60] The Wall Street Journal. Aug. 12-13, 2017.
[61] Alexievich, S. The Unwomanly Face of War. New York: Random House, 2017.
[62] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 2 (38). Люты 1997.
[63] Запісы БІНіМ. № 19. Нью-Ёрк, 1989. С. 90.



Іна Рытар



Масей Сяднёў



Янка Юхнавец

Клішэвіч (які пазней прыязджаў у Беларусь), Уладзімір Глыбінны (Сядура), Антось Галіна (Міхась Міцкевіч), Алесь Змагар, Лявон Крывічанін (Савёнак), Мікола Цэлеш, Янка Шакун, Г. Няміга (Гіпаліт Паланевіч), Янка Юхнавец, Анатоль Бярозка (Мітрафан Смаршчок).

У творчасці шмат каго з амерыканска-беларускіх паэтаў можна сустрэць і амерыканскія тэмы: гісторыя Амерыкі, апісанне краявідаў, гарадскога жыцця, аналіз праблемаў, што стаяць перад амерыканскім грамадствам. Сярод іх — Міхась Кавыль, Масей Сяднёў, Наталля Арсеннева, Янка Юхнавец, Сяргей Ясень. Празаікі Аляксандра Саковіч (Іна Каханоўская), Гіпаліт Няміга, Антось Галіна і Уладзімір Сядура апублікавалі нямала цікавых твораў, дзе адбілася беларускае ўспрыманне новае рэчаіснасці, у якой ім давялося тварыць. Некаторыя з гэтых новапрыбылых беларускіх пісьменнікаў сталіся двухмоўныя, прыкладам Сяргей Ясень, Янка Юхнавец, Уладзімір Сядура.




Альманах «Ля чужых берагоў» (Мюнхен, 1955)

Творы амерыканска-беларускіх пісьменнікаў друкаваліся ў розных перыядычных выданнях, асобных кнігах, у анталогіі замежнае беларускае літаратуры «Ля чужых берагоў», а таксама ў запачаткаванай Беларускім інстытутам навукі і мастацтва серыі «Беларускія паэты і пісьменнікі».

Трэба падкрэсліць асобна, што шмат хто з амерыканска-беларускіх пісьменнікаў, літаратурных крытыкаў і даследчыкаў публікаваў артыкулы і агляды беларускае літаратуры ў англамоўных выданнях, істотна спрыяючы тым самым пашырэнню ведаў пра Беларусь і беларускую культуру[64].

Амерыканска-беларуская літаратура перажывае сёння пераходную стадыю: аўтары, што прыехалі ў Злучаныя Штаты па вайне, ужо або памерлі, або маюць паважны век. Але выяўляюцца і новыя беларуска-амерыканскія пісьменнікі. Прыкладам, нядаўна выдрукаваў свой твор Леанід Левановіч, у Чыкага жыве Цімох Ліякумовіч, піша Сяржук Сокалаў-Воюш, знаёміць са сваімі творамі чытачоў Таццяна Заміроўская[65], у англамоўную літаратуру ўваходзіць Вальжына Морт[66]. Пісьменнікі з беларускімі каранямі і тэмамі з'яўляюцца.

[64] Renseller Review of Graduate Studies. Troy (NY). № 38. 1964. P. 4, 17, 22; Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); V. K. Byelorussian Literature // The Reader`s Adviser. New York, 1977. P. 474–476; Stankevich, St. Belorussian Literature // Discordant Voices. Oakville (Ontario), 1975. P. 29–46; Shevelov, G., Holling, F. A reader in the history of the Eastern Slavic languages: Russian, Belorussian, Ukrainian. New York, 1958.




Наукове Товариство ім. Шевченка

Вальжина Морт - Василь Махно

Абвестка пра беларуска-украінскія паэтычныя чытанні з удзелам Вальжыны Морт. Нью-Ёрк, 2007

Бясспрэчна, выдатным дасягненнем інтэлектуальнай дзейнасці новай хвалі беларусаў-амерыканцаў з'яўляецца рэгулярны выпуск літаратурнага альманаха «Беларус». З досведу можна гаварыць, што літаратурны пульс на эміграцыі быў заўсёды жывы. Пачынаючы ад 1920-х гадоў эмігранты-беларусы пісалі літаратурныя творы. Некаторыя з іх заставаліся ў шуфлядах, іншыя выдрукоўваліся, як, прыкладам, у альманаху «Замежная Беларусь» (Прага, 1926). Па Другой сусветнай вайне «беларуская замежная» літаратура ажывілася: на Захадзе апынулася шмат пісьменнікаў, узрасла чытацкая аўдыторыя, з'явіліся літаратурныя часопісы «Шыпшына», «Конадні», альманах «Ля чужых берагоў». Але фінансавыя праблемы прыглушалі, спынялі літаратурныя пачынанні. Тым не менш цікавасць да «літаратурнага нечага» заставалася. Таму, калі мы даведаліся пра ідэю Марата Клакоцкага аб выданні літаратурнага альманаха, адразу яе падтрымалі. І праз дзясятак гадоў бачны вынік. У 2019 годзе ўбачыў свет 13-ы выпуск літаратурна-мастацкага альманаха беларускіх пісьменнікаў замежжа «Беларус», дзе друкуюцца аўтары з больш як дзясятка краінаў. Гэта сапраўднае дасягненне і хочацца толькі пажадаць Марату спадарожнага ветру надалей!




Вокладкі альманаха «Беларус»

На жаль, амерыканска-беларуская літаратура дзесяцігоддзямі не заўважалася на Бацькаўшчыне, калі не браць пад увагу «зацікаўленне» ёю пэўнага кола літаратараў-прапагандыстаў з панадворку ўсім вядомае арганізацыі.

[65] Весткі й паведамленьні. Нью-Ёрк. Люты 2018.

[66] Падборка вершаў Вальжыны Морт у беларускай мове з паралельным англійскім перакладам была надрукавана ў: Запісы БІНіМ. № 30. Нью-Ёрк — Менск, 2006. С. 306–321.

Палітычныя змены ў Беларусі разбурылі будаваны дзесяцігоддзямі мур паміж літаратурамі Бацькаўшчыны і замежжа, што адкрыла магчымасці для грунтоўнага вывучэння і аб'ектыўнае ацэнкі творчасці пісьменнікаў беларускае дыяспары, а таксама плённага супрацоўніцтва. Сёння беларуская эміграцыя ў ЗША падтрымоўвае літаратурныя працэсы, літаратурнае асяроддзе ў Беларусі, і адной з формаў гэтай падтрымкі сталі адмысловыя прэміі. Пра Прэмію імя Зоры Кіпель за працы ў галіне беларусазнаўства ўжо згадвалася вышэй. Аднак ёсць і менавіта літаратурныя ініцыятывы. Так, у 2004 годзе была заснаваная Прэмія імя Янкі Юхнаўца для ўшанавання памяці беларускага пісьменніка-эмігранта і для падтрымкі беларускай літаратуры. На жаль, яна была прысуджаная толькі аднойчы ў 2004 годзе, лаўрэатам стаў пісьменнік Макс Шчур.

У 2014 годзе пры партнёрстве Беларускага інстытута навукі і мастацтва, Саюза беларускіх пісьменнікаў, Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і выдавецтва «Лімарыус» і з падтрымай мастачкі Тамары Стагановіч была заснаваная Прэмія імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў (амерыканскіх беларусаў) за кнігу ў галіне непрыдуманай літаратуры (*non-fiction*).




Выява медаля Прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў

У 2017 годзе Беларускі ПЭН-Цэнтр, Саюз беларускіх пісьменнікаў і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» заснавалі Прэмію імя Наталлі Арсенневай за найлепшую паэтычную кнігу ў беларускай мове. Адным з партнёраў у гэтым праекце выступае Фонд культуры і адукацыі Орса-Рамана, заснаваны сям'ёй амерыканскі беларусаў. Гэтак эміграцыйная літаратура і супольнасць сёння ўзаемадзейнічае з метрапольнаю.

### *Беларускае выяўленчае мастацтва ў Амерыцы*

Адным з першых беларускіх мастакоў-імігрантаў быў Мікола Цыцкоўскі, які паходзіў з Пінска і стаўся папулярны ў Амерыцы ў 1920–1930-я гады. Апрача ўдзелу ў калектыўных паказах у розных галерэях Нью-Ёрка, ён ладзіў шмат персанальных выставаў, што было шырока адлюстравана ў друку[67].

Беларуская тэматыка выдатна рэпрэзентаваная ў творах яўрэйскіх мастакоў, што паходзілі з Беларусі і сталіся вядомыя ў Амерыцы, сярод іх — Абрам Маневіч з Мсціслава, Савелі Сорын з Полацка, Бэр Кафэт з Магілёўшчыны[68].



Мікола Касак (Казак)

[67] Русский Голос. Нью-Йорк. 1927. 15 мая; 1928. 1 янв.; 1931. 2, 15 марта, 12 апр.

[68] Бурлюк, Д. Русские художники в Америке. Нью-Йорк, 1928. С. 14, 15, 22, 28, 35.



Па Другой сусветнай вайне ў Злучаныя Штаты прыехала колькі беларускіх мастакоў, а таксама шмат маладых студэнтаў мастацтва, якія сфармаваліся як творцы ўжо ў Амерыцы. Адным з першых пачаў выстаўляць свае працы, створаныя ў стылі абстракцыянізму, Мікола Касак (Казак)[69]. У 1958 годзе ён удзельнічаў у 22-й выстаўцы Згуртавання абстрактных мастакоў Амерыкі[70]. А ў 1968 годзе ўбачыў свет ягоны альбом[71].

Патрыярхам паваенных беларускіх мастакоў у Амерыцы ўважаўся Пётра Мірановіч, які паходзіў з Дзвіншчыны і быў ужо сталым мастаком у сярэдзіне 1940-х гадоў. У Злучаных Штатах Амерыкі Пётра Мірановіч маляваў на беларускія тэмы, а таксама напісаў нямала карцінаў з амерыканскімі сюжэтамі. Ягоная карціна «Беларускія іміграныя» была выкарыстаная ў афармленні супервокладкі кнігі пра імігрантаў штата Нью-Джэрсі[72]. Зора Кіпель так згадвала гісторыю з'яўлення гэтай карціны:



Пётра Мірановіч

*Напачатку 1970-х гадоў я папрасіла спадара Мірановіча стварыць-намаляваць карціну «Беларускія эмігранты ў ЗША», бо такога, наколькі мне было ведама, у нас яшчэ не было ў мастацтве, хоць каля мільёна беларусаў прыехалі ў Амэрыку. Ён пагадзіўся гэткае выканаць. Праўда, перад тым, як пачаць маляваць з натуры, спадар Мірановіч уважліва азнаёміўся з тым, што было намалявана аб эмігрантах у нас і ў іншых, а я яму (яшчэ не працуючы ў Славянскім аддзеле) рыхтавала літаратуру-ілюстрацыі на гэтую тэму. У канчатковым выніку мастак засеў за маляваньне з натуры. Каля чатырох гадоў Пётра Мірановіч садзіўся на беразе акіяну ў Мангатэне, глядзеў на Эліс Айлэнд, акіян, акаляючае асяродзьдзе ды стварыў абраз «Беларускія эмігранты», на цэнтральным месцы якога беларускі селянін — у вачох мастака — ягоны бацька. Абраз гэты перахоўваецца ў нашай сям'і, выстаўляўся на шмат якіх выстаўках ды служыў ілюстрацыяй і вокладкай некалькіх кніжак*[73].



Карціна Пётры Мірановіча «Беларускія эмігранты»

Згаданая карціна Пётры Мірановіча была падараваная Юркам Кіпелем у федэральны музей на *Ellis Island* у 2005 годзе.

Сярод маладзейшых мастакоў найбольш

[69] Юрэвіч, Л. Эмігрант Францыск Скарына... С. 568–571.

[70] Беларус. Нью-Ёрк. 1958. № 65.

[71] The art of Kasak. With a foreword by Robert Kramer, commentaries by Marcello Gallian and the artist's own manifesto on physical art. New York: October House, 1968.

[72] New Jersey Ethnic Experience. Union City (NJ), 1977.

[73] Зора Кіпель. Мінск, 2019. С. 100–101.

  

Мастачкі Тамара Стагановіч-Кольба, Галіна Русак, Ірэна Рагалевіч-Дутко

вядомая з свае прафесійнае працы Тамара Кольба (Стагановіч). Яна выдатна адлюстравала беларускую тэматыку ў дзясятках палотнаў, напісала партрэт Францішка Скарыны да 450-годдзя беларускага друку, а ў Амерыцы здабыла папулярнасць як ілюстратар дзіцячых кніг і аўтар паштовак. Тамара Кольба ўдзельнічае ў дзясятках выставаў па ўсёй Амерыцы ды ўзнагароджаная вельмі прэстыжнымі амерыканскімі дыпломамі. У 2018 годзе ўбачыла свет кніга яе ўспамінаў «Абрэзкі з мінулых гадоў», дзе мастачка даволі падрабязна распавядае пра свой творчы шлях і жыццё ў ЗША[74].

Ірэна Рагалевіч-Дутко — мастачка, якая гадавалася ў Амерыцы У яе творчасці прысутныя і беларускія матывы — уяўленні пра Беларусь з аповедаў бацькоў. Спецыялізавалася ў графіцы. Творы яе найбольш вядомыя на Усходнім узбярэжжы краіны. Напісала 20 ікон для царквы св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы.

Галіна Русак — мастачка па прызванні, стылізавала беларускія мастацкія вобразы ў арнаментальных кампазіцыях ды шырока папулярызавала Беларусь на выставах у розных галерэях Нью-Ёрка. Як і Тамара Стагановіч, Галіна Русак мела магчымасць на пачатку 1990-х прывезці свае працы ў Беларусь, дзе была арганізавана яе персанальная выстава[75].

Жывыя фарбы беларускага краявіду і прыроды пануюць у творах Надзі Кудасавай, якая выстаўляе свае працы ў штаце Нью-Джэрсі. Шмат як мастацкіх твораў, так і этнаграфічных матэрыялаў (ткацтва, вышыўкі і інш.) сп-ня Надзя падаравала роднай вёсцы Дзякавічы (Жыткавіцкі раён) для музея, які будзе створаны з дапамогай і ў гонар зямлячкі.

З іншых амерыканска-беларускіх мастакоў, якія бралі ўдзел у індывідуальных і групавых выставах, можна пералічыць Язэпа Казлякоўскага, Алега і Людмілу Махнюкоў, Барыса Данілюка, Янку Юхнаўца, Ксеню Тумаш, Міколу Пашкевіча, Галіну Дакальскую і яе дачку Айлін Клеч, а. Дзмітрыя Бажко, Анатоля Упарта, Язэпа Пучынскага[76].

---

[74] Стагановіч, Т. Абрэзкі з мінулых гадоў. Мінск, 2018.
[75] Голас Радзімы. Мінск. 5 жніўня 1993.
[76] Папка «Беларускія мастакі» Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



Сцісла разглядаючы дзейнасць беларуска-амерыканскіх мастакоў, варта адзначыць выпадак, калі творца праз мастацтва робіцца яшчэ і апекуном сіротаў. Сын беларускіх эмігрантаў, каліфарніец, народжаны ў Саўт-Рыверы, Мікалай (Нік) Касцюк стаў вядомы не толькі дзякуючы сваёй мастацкай творчасці, але і праз апантанасць дапамогай беларускім дзецям. Зарабляючы грошы сваімі карцінамі, ён выдаткоўваў іх на дабрачыннасць у часе паездак у Беларусь у 2000-я. Пра гэта пісаў каліфарнійскі часопіс «*Southwest Art*» і газета «Беларус»[77].

Важную справу па прапагандзе беларускага выяўленчага мастацтва і наогул культуры ў ЗША робяць і выставы і мастакоў з Беларусі, якіх на працягу апошніх дзесяцігоддзяў ладзіліся дзясяткі, калі не сотні. Працы Аляксея Марачкіна, Міколы Купавы, Алеся Шатэрніка і іншых выстаўляліся ў розных гарадах ЗША. Часам ладзіліся не толькі персанальныя, але прадстаўнічыя калектыўныя выставы беларускіх мастакоў. Прыкладам, адна з іх была ўрачыста адкрытая ў Палаце прадстаўнікоў Кангрэса ЗША ў Вашынгтоне 23 лістапада 2009 года. Яна мела назву «Мастацтва супраць дыктатуры» і дэманстравала больш за 40 палотнаў і графічных лістоў адзінаццаці беларускіх мастакоў: Алеся Пушкіна, Алеся Шатэрніка, Алеся Марачкіна, Рыгора Батальёнка, Генадзя Драздова, Міколы Купавы і іншых[78].




Выстава «Мастацтва супраць дыктатуры»

Папулярныя ў ЗША і выставы фатаграфічныя, якія часам ладзяцца разам з мастацкімі, але бываюць і асобныя тэматычныя. Удзельнічалі ў выставах як фатографы амерыканскія беларусы Алег Дубяга, Алекс Сільвановіч, Ірына Рагалевіч, а таксама з эмігрантаў 1990-х Алесь Крыштаповіч. Цікавы факт: фотамастак Алекс Сільвановіч пакінуў па сабе багаты архіў фатаграфій, які быў перададзены на радзіму творцы ў Беларусь.

Жывучы ў ЗША, Зянон Пазняк выдаў дзве кнігі, прысвечаныя мастацкай фатаграфіі, а таксама запачаткаваў альманах пад назвай «Фатаграфія»[79].

Таксама варта згадаць, што на шмат якіх выставах у ЗША былі прадстаўлены і працы фатографа з Беларусі Анатоля Клешчука. Асабліва вядомы яго плакат «Беларускія цэрквы ў ЗША»[80].

---

[77] Беларус. Нью-Ёрк. 2006. № 518.
[78] Беларус. Нью-Ёрк. 2009. № 563.
[79] Зянон. Terra Dei. Варшава—Нью-Ёрк—Вільня, 2014; Зянон. Добрая фатаграфія. Варшава, 2012; Фатаграфія. № 1. 2019.
[80] Беларус. Нью-Ёрк. 1991. № 377.

### Беларуская музыка ў Амерыцы

Па Другой сусветнай вайне ў Амерыцы апынулася нямала беларускіх кампазітараў і выканаўцаў. Найбольш вядомы з іх быў, безумоўна, кампазітар Мікола Куліковіч-Шчаглоў, які ў ЗША працягваў інтэнсіўную творчую дзейнасць і напісаў шмат твораў у розных жанрах. Пісалі музычныя творы таксама Дзмітры Верасаў, Ксаверы Барысавец, Эльза Зубковіч, Кастусь Кіслы, Алімп Мяленьцеў, Вячаслаў Селях-Качанскі, Пётра Нядзведскі.

Развівалася ў Злучаных Штатах і вакальнае выканаўчае мастацтва. Сярод вядомых беларускіх спевакоў — Пётра Конюх, Лідзія Янушкевіч-Нядзвіга, Барбара Вержбаловіч, Надзея Куліковіч-Градэ, Наталля Чэмярысава, Рэня Касцюк, Ірэна Каляда, Мікола Стрэчань ды іншыя. Прыкладам, Пётра Конюх — спявак, добра вядомы ў Еўропе і Азіі, саліст Хору данскіх казакаў Сяргея Жарава, выкладчык музыкі і спеваў. Прайшоўшы нялёгкі жыццёвы шлях, савецкую катаргу, жаўнер войска генерала Андэрса, ён праз усё жыццё заставаўся беларускім патрыётам і, дзе мог, рэпрэзентаваў беларускую песню. Быў дзейным і шчодрым сябрам БІНіМа, меў блізкія сяброўскія дачыненні з д-рам Вітаўтам Тумашам[81].

Трэба зазначыць, што традыцыя папулярызацыі беларускае музыкі ў Амерыцы пачалася яшчэ ў міжваенны перыяд, калі ўкраінскі кампазітар Міхайла Гайваронскі пры ўдзеле Рыгора Шырмы выдаў у Нью-Ёрку зборнік беларускіх песняў. Шмат якія з гэтых песняў Гайваронскі выконваў з хорамі ў розных гарадах ЗША.




Абвестка пра канцэрт Эльзы Зубковіч. Нью-Ёрк, 1965 г.



Пётра Конюх

[81] Гардзіенка, Н. Праз Сібір і Канаду пяяць для Бацькаўшчыны // Новы час. Менск. № 41 (458). 30.10.2015. С. 30–31.



Нямала элементаў беларускае народнае музыкі было і ў творах рускага кампазітара Аляксандра Грачанінава, які памёр у Нью-Ёрку ў 1956 годзе.

Амерыканска-беларускія кампазітары зрабілі значны ўклад у вывучэнне і развіццё беларускае рэлігійнае музыкі. Кампазітары Мікола Куліковіч і Дзмітры Верасаў[82], а таксама рэгент Кастусь Кіслы напісалі дзясяткі твораў царкоўнага ўжытку, выкарыстоўваючы ў сваёй творчасці багатыя традыцыі беларускае царкоўнае музыкі[83].



Рэпетыцыя харыстаў у Міколы Куліковіча. 1950-я гг.

Трэба адзначыць тое, што некаторыя, створаныя на эміграцыі музычныя творы беларускіх кампазітараў (і паэтаў) сталі шырока вядомымі на Бацькаўшчыне. Прыкладам, песні на словы паэта Міхася Кавыля («Васілёчкі»), песня на словы Наталлі Арсенневай «У гушчарах» (музыка Міколы Куліковіча), а знакаміты гімн-малітва «Магутны Божа» (словы Н. Арсенневай, музыка М. Равенскага) нават прапанаваўся на дзяржаўны гімн Беларусі. Дарэчы, дзякуючы высілкам Віктара Скарабагатава сёння сабраныя і выдадзеныя ў Беларусі музычныя творы Міколы Равенскага.

З аднаго боку, беларускую музыку ствараюць кампазітары-эмігранты, што жывуць у ЗША (Еўтуховіч, Магаліф і інш.), з другога — у Амерыцы папулярызуецца і музыка ўласна з Беларусі. Вось што пра беларускую музыку ў ЗША пісаў нядаўна памерлы карэспандэнт газеты «Беларус», вядомы даследнік тэатра, літаратурны крытык Ванкарэм Нікіфаровіч:

*...Ёсць [эмігранты], для якіх беларуская духоўнасць у розных яе праявах і сёння — галоўнае ў іх жыцці, марах, у імкненнях выявіць сябе і тут, у новай для іх краіне. У тым, што гэта так, мяне пераканалі нядаўнія сустрэчы і гутаркі з Анатолем Лысенкам і Людмілаю Лакісавай, сённяшнімі жыхарамі Чыкага, але былымі выхаванцамі музычных навучальных установаў у Менску. Анатоль Лысенка сёння кіруе ўжо даволі вядомым з Чыкага камерным сімфанічным аркестрам «Tutti» («Усе разам» — менавіта так ён перакладае гэтую назву). Аркестр стварыў ён сам з дапамогай арганізацыі American Music Festival... У канцэртах аркестра «Tutti» ўжо неаднаразова гучалі творы аўтараў з Беларусі. З вялікай цікавасцю сустрэлі слухачы выкананне «Канцэрта для цымбалаў з аркестрам»*

[82] Запісы БІНіМ. № 17. Нью-Ёрк, 1983. С. 82–84.

[83] Папка «Беларуская музыка ў Амэрыцы» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Беларус. Нью-Ёрк. 1964 № 91; Витвицький, Е. Михайло Гайворонський. Життя і творчість. Ню Йорк, 1954. С. 191.

*сучаснага беларускага кампазітара Уладзіміра Кур'яна... Саліравала выдатная цымбалістка Ірына Грыгаровіч, якая таксама жыве ў Чыкага. У праграме «Tutti» гучаў «Беларускі сувенір» вядомага кампазітара Яўгена Глебава, таксама варыянты «Маленькага прынца» і «Палескай сюіты», гучаў цымбальны канцэрт Дзмітрыя Смольскага... Для выканання беларускай музыкі А. Лысенка запрашаў і вядомых амерыканскіх дырыжораў, у прыватнасці Філіпа Сіманса...*[84].

Далей Ванкарэм Нікіфаравіч прааналізаваў творчую дзейнасць Анатоля Лысенкі, ягонае супрацоўніцтва з беларускай піяністкай Ірынай Лупініс, якая жыве ў горадзе Рочэстэр, штат Нью-Ёрк, а таксама згадаў пра планы беларускіх музыкаведаў (цяпер амерыканцаў) данесці да амерыканскага слухача беларускую музыку. Як заўважыў Анатоль Лысенка, *«Беларусь для мяне аснова, важны этам у жыцці і творчасці. Сувязі з яе музычнай культурай хочацца працягваць і надалей»*[85].

Варта адзначыць, што цягам другой паловы XX стагоддзя БІНіМ, ЗБМА, арганізацыі ветэранаў выдалі некалькі спеўнікаў, а таксама манаграфій асобных кампазітараў. Акрамя таго, Беларускі інстытут навукі і мастацтва ад 1980-х гадоў дапамагаў развіццю музыказнаўства ў Беларусі. Сярод іншага, былі выдадзены працы Вітаўта Мартыненкі і Анатоля Мяльгуя, прысвечаныя гісторыі беларускай рок-музыкі, «Праз рок-прызму» (Нью-Ёрк, 1989), «222 альбомы беларускага року» (Менск, 2006). Кніга «Праз рок-прызму» выклікала вялікі розгалас, пра яе пісалі ў Польшчы, Чэхіі, ЗША.



Вокладка кнігі Вітаўта Мартыненкі і Анатоля Мяльгуя «Праз рок-прызму» (Нью-Ёрк, 1989)

Выдатнай з'явай у беларуска-амерыканскай музыцы стала творчасць спевака Багдана Андрусышына (Данчыка). Народжаны ў беларуска-ўкраінскай сям'і ў Нью-Ёрку, гадаванец беларускай царквы ў Брукліне, ён з дзяцінства цешыў публіку сваім прыгожым голасам на ранішніках, ялінках, моладзевых мерапрыемствах. У 1980–1990-я Данчык даў дзясяткі канцэртаў з ЗША, у тым ліку і ў Карнэгі-Холе, зрабіў колькі турнэ па Беларусі, выдаў некалькі дыскаў. І хоць у другой палове 1990-х ён спыніў сваю спеўную дзейнасць, аддаўшы перавагу кар'еры журналіста на Радыё «Свабода», Данчык застанецца яркай старонкай у гісторыі беларускай музыкі ў ЗША.

Да музычнай тэмы трэба дадаць і яшчэ колькі кароткіх звестак. Прыкладам, беларускія спевакі часам выступалі ў Метраполітан-оперы ў Нью-Ёрку. Можна згадаць спявачку Галіну Мейчык на амерыканскай сцэне ў 1913 годзе або Аксану Волкаву — у 2013-м[86]. І яшчэ адна цікавостка: Л. Лібін — вядомы амерыканскі музыкант — кажа, што ў *Metropolitan Museum, NYC*, ёсць балалайка, зробленая Усцінам Смаленскім, беларусам з Гародні. Інструмент выстаўляўся на Сусветнай выстаўцы ў Нью-Ёрку ў 1939 годзе[87].

[84] Беларус. Нью-Ёрк. 2011. № 576.
[85] Беларус. Нью-Ёрк. 2008. № 549; 2011. № 576.
[86] Беларус. Нью-Ёрк. 2013. № 597.
[87] Libin, L. American Musical Instruments in the Metropolitan Museum of Art. New York (NY). 1985. P. 135–136.



### Беларусы ў іншых галінах інтэлектуальнае творчасці

Медыцына, інжынерная справа, дакладныя навукі ахопліваюцца паняццем культуры, узятым у шырэйшым, цывілізацыйным сэнсе. Таму варта згадаць пра дасягненні беларусаў у гэтых галінах амерыканскага інтэлектуальнага жыцця.


Мікола Шчорс

Пачынаючы ад доктара Мікалая Судзілоўскага-Руселя, які пакінуў свой след як лекар і навуковец-прыродазнаўца, беларускія дактары ў Амерыцы нярэдка дасягалі паважных пазіцый у амерыканскім медыцынскім свеце. З паваеннае хвалі іміграцыі найбольш вызначыўся як выдатны спецыяліст д-р Мітрафан Смаршчок, імем якога названы адзін з карпусоў медыцынскага комплексу ў горадзе Мантысэла, штат Мінесота. Доктар Мікола Шчорс займаў пасаду віцэ-прэзідэнта Амерыканскае асацыяцыі хірургаў[88]. У Сатэрскім шпіталі ў Сакрамента кіраўніком аддзела агульнай практыкі быў д-р Аляксандр Янушкоўскі[89].

Варта зазначыць, што ў параўнанні з іншымі прафесіямі, беларусаў-лекараў, якія актыўна ўдзельнічаюць у беларускім грамадскім жыцці, — найбольш. У асяроддзі паваенных эмігрантаў актыўнымі грамадскімі дзеячамі былі д-р Вітаўт Тумаш, д-р Іван Ермачэнка, д-р Мікола Шчорс, д-р Віктар Войтанка, д-р Аляксандр Багдановіч, д-р Мікола Сцяпанаў, д-р Анатоль Занковіч і іншыя. І цяпер, на пачатку XXI стагоддзя, медыкаў у беларуска-амерыканскім руху не паменшала.


Тры пакаленні дактароў Раманюкоў. Кліўленд. *Здымак Сяргея Раманюка*

Цягам апошніх дзесяцігоддзяў адышлі з жыцця д-р Язэп Сажыч — старшыня Рады БНР, д-р Вітаўт Рамук — вядомы беларускі дзеяч у Чыкага, д-р Уладзімір Набагез — дзеяч у Нью-Ёрку. Іх заступіла цэлая плеяда маладзейшых. Рэдка бывае, але так здарылася, што ў Кліўлендзе ў беларускіх арганізацыях дзейнічаюць два браты-лекары. Д-р Сяргей Раманюк з Гародні — кіраўнік мясцовага даследчага цэнтра сну і адначасова старшыня аддзела БАЗА ў Кліўлендзе[90]. Ягоны брат д-р Васіль Раманюк таксама дзейны ў мясцовай беларускай калоніі. А нядаўна і сын Сяргея Раманюка закончыў медыцынскі факультэт амерыканскага ўніверсітэта.

У клініцы Мауо ў Рочэстэры (штат Мінесота) жыве і працуе

[88] Папка «Лекары» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); The Monticello Times. Monticello (MN). Feb. 20, 1964.
[89] Беларус. Нью-Ёрк. 1972. № 186.
[90] Сурмач, Ганна. Беларусь бязь межаў. С. 78–81.

доктарам амерыканка беларускага паходжання Галіна Варанцова-Остфельд, якая трымае блізкую лучнасць з асяродкам у Саўт-Рыверы, дзе нарадзілася.


Д-р Марыя Дзямковіч. *Аўтар партрэта Анатоль Крывенка*

Добра вядомая беларускаму і амерыканскаму грамадству д-р Марыя Дзямковіч, якая доўгі час працавала ва ўніверсітэцкай дзіцячай клініцы ў Пітсбургу (штат Пенсільванія). Яна трымала цесныя сувязі з лекарамі ў Беларусі, удзельнічала ў арганізацыі прафесійных абменаў беларускіх медыкаў з амерыканскімі калегамі ў 1990-я, была на сустрэчах з прэзідэнтамі Джорджам Бушам — старэйшым і Білам Клінтанам[91].

Д-р Павел Рамана, папулярны ў амерыканцаў кардыёлаг на Лонг-Айлендзе, з'яўляецца прыхаджанінам сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне і часта прыпамінае сваю «кар'еру» танцора ў ансамблі «Васілёк».


Юрка Кіпель

Д-р Юрка Кіпель болей за 20 гадоў працуе як дзіцячы кардыёлаг ва Універсітэцкім медыцынскім цэнтры ў Гакенсаку (штат Нью-Джэрсі), з'яўляецца намеснікам дырэктара аддзялення дзіцячай кардыялогіі, займаецца навукова-даследчай дзейнасцю[92]. Адначасова цягам чатырох гадоў д-р Юрка Кіпель абіраўся жыхарамі горада Хаўарт, дзе ён жыве, у раду мясцовага аддзела асветы і ўзначальваў гэты аддзел. Больш за 30 гадоў гэты лекар таксама з'яўляецца актыўным сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання. А ў 2015 годзе ён атрымаў і адмысловую ўзнагароду ад скаўцкай арганізацыі Нью-Джэрсі, сябрам якой ён з'яўляецца цягам доўгіх гадоў.

*Прымаючы ўзнагароду, трохмоўны д-р Юрка Кіпель (выдатна валодае гішпанскай) падкрэсліў сваю сувязь з беларускасцю ды таксама зазначыў, што любоў да скаўтынгу і вялікае значэнне гэтай арганізацыі для моладзі ён пераняў ад бацькі — сп. Вітаўта Кіпеля, які змоладу быў актывістам, а пасля лідарам у беларускім і амерыканскім скаўтынгу*[93].


Д-р Анатоль Занковіч

Вядомы ў Нью-Ёрку таксама д-р Анатоль Занковіч (Занкавіч), выпускнік-хірург Лювенскага ўніверсітэта. Не толькі ён заяўляў пра сваё беларускае паходжанне падчас працы ў Чыкага, але і ягоная дачка Ніна Занковіч напісала кнігу пра гісторыю сям'і Занковічаў, дзе распавяла, як ейны бацька ледзь не загінуў у Беларусі ў часе Другой сусветнай вайны. Кніга з арыгінальным назовам *«Tolstoy and Purple Chair»* («Талстой і фіялетавае крэсла») перакладзеная на нямецкую, італьянскую, галандскую, партугальскую і карэйскую мовы. Д-р Занковіч, ягоная жонка Тыльда (бельгійка, сяброўка беларускіх студэнтаў з лювенскіх часоў) і сям'я ёсць сталымі наведнікамі беларускіх імпрэзаў і парафіі св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

[91] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. 1996. № 25; https://www.radabnr.org/maryja-dziamkovic-90.
[92] Health-Factor. Vol. 5. № 1. Hackensack (NJ), 1999. P. 8–9.
[93] Беларус. Нью-Ёрк. 2015. № 615.




Кастусь Вайцяхоўскі (Кон Уорт)

Акрамя лекараў, беларусы працавалі і працуюць таксама дантыстамі і зубнымі тэхнікамі. Можна згадаць імёны Пётры Маркоўскага, Уладзіміра Курылы, Францішка Бартуля, Вітаўта Тумаша — малодшага.

Сярод імігрантаў паваеннае хвалі было нямала інжынераў, як, прыкладам, Васіль Русак, спецыяліст у кампрэсарах, меў свае патэнты, быў удзельнікам розных міжнародных канферэнцый; Кон Уорт, які доўгі час працаваў у галіне аэрадынамікі ды выступаў з навуковымі дакладамі ў Токіа і Бруселі, таксама запатэнтаваў нямала вынаходстваў; Анатоль Кучура, вядучы інжынер амерыканскай тэлефоннай прамысловасці, у 1980–1990-я гады працаваў у СССР — амерыканцы дапамагалі мадэрнізаваць савецкую тэлефонную сетку; выпускнік Лонданскага ўніверсітэта і ўніверсітэта Дрэселя ў Філадэльфіі Лявон Касоўскі, спецыяліст па турбінах, дасягнуў высокага становішча ў кампаніі *Transamerica Delaval*; будаўнічы інжынер з Кліўленда Міхась Стрэчань ў 1970-я запатэнтаваў новую мадэль дома, пра што пісала газета *«The Los Angeles Times»*[94]. Наогул, беларусы-інжынеры маюць уласнасць на сотні патэнтаў у Амерыканскім патэнтавым бюро[95].


Леанард Норык

Выдатную кар'еру ў галіне інжынерыі зрабіў Леанард Норык. Ён прыехаў у ЗША з Нямеччыны юнаком, закончыў прэстыжны Мічыганскі ўніверсітэт і больш за 30 гадоў працаваў у аэрабудаўнічай кампаніі *Pratt&Whitney Aircraft* у Канектыкуце. Уласнік некалькіх патэнтаў, аўтар публікацый у розных тэхнічных часопісах, а таксама актыўны сябра БАЗА[96].

Беларусы могуць ганарыцца працамі прафесара Барыса Кіта, колішняга выкладчыка матэматыкі Віленскае беларускае гімназіі, а пазней прафесара колькіх універсітэтаў на Захадзе, аднаго з амерыканскіх даследчыкаў у ракетных палівах, суаўтара прапулярнага ў 1960–1970-я гады даведніка па новых цвёрдых палівах.

Добра вядомы амерыканскаму і беларускаму грамадству матэматык і астраном Матэс Агрэст з мястэчка Княжыцы на Магілёўшчыне. Ён прыехаў у ЗША ў сталым веку пасля распаду СССР, але працягнуў навуковую дзейнасць, удзельнічаў у кангрэсах, чытаў лекцыі[97].

Выдатныя працы і вынаходніцтвы ў галіне медыка-біялагічнае аэранаўтычнае інструментацыі мае беларус першага амерыканскага пакалення Леанід Грэбень. З другога пакалення беларусаў-амерыканцаў трэба адзначыць д-ра Роберта Пухоўскага, вядомага палеантолага, старэйшага геолага кампаніі *Shell* у Малайзіі.

Адзначыліся беларусы і ў іншых галінах. Прыкладам, айцец Джым Шэведэн, беларус-амерыканец другога пакалення (дзяды паходзілі з-пад Бярозы-Картузскай), — адзін з кіраўнікоў езуіцкае місіі на Тайвані. Амерыканскаму грамадству вядомы таксама навуковец М. Дземяшкевіч, родам з Магілёўшчыны.

[94] Беларус. Нью-Ёрк. 1979. № 268.
[95] Папка «Біяграфіі» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Беларус. Нью-Ёрк. 1972. № 178; 1973. № 192; 1976. № 233; 1978, № 253.
[96] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. Люты 2002.
[97] Беларус. Нью-Ёрк. 2005. № 513.

Інжынеры, навукоўцы — прафесіі, у якіх, магчыма, радзей здараюцца сітуацыі, калі трэба сказаць пра свае карані, этнічнасць, ды гэтая дзялянка не надта спрыяльная для грамадскай дзейнасці. І тым не менш шмат нашых суродзічаў (інжынераў і навукоўцаў) пашырае імя Беларусь. Згадаем пра некаторых.



Аўген Вярбіцкі

У галіне біяхіміі ў Амерыцы быў вядомы д-р Аўген Вярбіцкі, адзін з сусветных лідараў у даследаванні ірадыяцыі[98]. Ён быў загадчыкам ваеннай лабараторыі і ўваходзіў у каманду падрыхтоўкі ежы (мясных прадуктаў) для амерыканскіх касманаўтаў у часе іх палёту і высадкі на Месяц. За гэтую працу атрымаў з рук прэзідэнта ЗША Рычарда Ніксана ў якасці ўзнагароды кавалак горнай пароды з Месяца. У складзе амерыканскай дэлегацыі д-р Аўген Вярбіцкі адведваў навуковыя цэнтры СССР. Ён жа быў дзейным сябрам БІНіМа, БАЗА і беларускіх рэспубліканскіх клубаў. Трэба зазначыць, што д-р Аўген Вярбіцкі пакінуў па сабе вялікую друкаваную спадчыну ў навуковых часопісах, напісаў колькі артыкулаў на беларускія тэмы ды нарэшце дзякуючы працам Лявона Юрэвіча паступова пазнаецца і на Бацькаўшчыне ды ўваходзіць у лік тых беларусаў, што тварылі сусветны навуковы прагрэс[99].

Навуковую ступень у тэхнічных навуках меў і сп. Васіль Мельяновіч, які доўгія гады працаваў у тэлефоннай кампаніі *AT&T*. Пры гэтым ён актыўна займаўся грамадскай працай у БАЗА і Кангрэсавым камітэце, у галоўнай кватэры Рэспубліканскай партыі ЗША, супрацоўнічаў з Дзяржпэпартаментам, з інфармацыйнымі агенцтвамі і грамадскімі арганізацыямі. Ён сустракаўся з Рональдам Рэйганам, быў асабіста знаёмы з Джорджам Бушам — старэйшым. Быў сябрам БІНіМа, укладальнікам бібліяграфіі падручнікаў для сярэдніх школаў, дзе згадваецца Беларусь, рабіў даклады пра Беларусь у школах штата Мэрыленд, часта выступаў на канферэнцыях.



Жорж Наумчык (справа) і Аўген Скаўронскі ў друкарні

На друку рэдкіх папераў і чэкаў *«De lux»* спецыялізаваўся сябра БІНіМа з Дэтройта, сваяк Якуба Коласа Мікола Прускі. Ён быў блізкі з прадстаўнікамі амерыканскай банкаўскай сферы, з кампаніяй *«Up John International»*, якая дастаўляла дзякуючы Міколу ў Беларусь медыкаменты. Беларуская грамада ведала яго як актыўнага дзеяча, рэдактара і выдаўца «Беларускага Дайджэста» і іншых выданняў.

Актыўны ў грамадскім жыцці амерыканскіх беларусаў

[98] Юрэвіч, Л. Жанры... С. 68–100.

[99] Юрэвіч, Л. Чалавек, які трымаў у руках Месяц // Асоба і час. Вып. 2. Мінск, 2010. С. 200–218.



таксама тэхнік-друкар з Саўт-Рывера, прадпрымальнік Жорж Наумчык. Цягам дзясяткаў гадоў ён сам выдае і рэдагуе часопіс «Беларуская Думка», а для БІНіМа ён шмат рэпрадукаваў дакументаў з архіваў царквы Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы.

Інжынер з Нью-Ёркскага ўніверсітэта Жорж Лапіцкі (сын айца Мікалая Лапіцкага) не толькі забяспечыў бясплатна ўсе інжынерныя працы пры пабудове беларускага помніка ў Саўт-Рыверы, але і прапагандаваў Беларусь у Турцыі і Венесуэле, калі працаваў там на будоўлях амерыканскіх аб’ектаў. Сёння Жорж Лапіцкі — пенсіянер і фундатар друкаў БІНіМа.



Праф. Уладзімір Ванцэвіч (справа) у працы

Сябрам БІНіМа з’яўляецца і Уладзімір Ванцэвіч, доктар тэхнічных навук, колішні сябра Камісіі ААН па навуцы і тэхніцы, прафесар Лорэнскага тэхналагічнага ўніверсітэта (*Lawrence Technological University*), што ў штаце Мічыган. Цягам дзесяцігоддзяў ён актыўна ўдзельнічае ў міжнародных навуковых канферэнцыях, з’яўляецца сябрам рэдкалегій часопісаў *«Journal of Multi-body Dynamics»*, *«International Journal of Vehicle Autonomous Systems»*, а таксама памочнікам рэдактара часопіса *«International Journal of Vehicle Noise and Vibration»*[100]. Сёння д-р Ванцэвіч працуе ва Універсітэце Алабамы ў Бірмінгеме, дзе, сярод іншага, займаецца стварэннем аўтаномных транспартных сродкаў[101].

Варта адзначыць і доктара фізіка-матэматычных навук прафесара Ігара Малевіча, які цягам некалькіх гадоў працаваў у *NASA*, распрацаваў сістэму лазернай лакацыі Месяца. Ён з’яўляецца прафесарам Гарвардскага ўніверсітэта, атрымаў навуковую ступень і ў ЗША ў галіне сацыяльнай паліталогіі. Ігар Малевіч быў асабіста знаёмы з амерыканскім астранаўтам Нілам Армстрангам, які вельмі ўпадабаў беларускую мову з вуснаў нашага земляка[102].



Віталь Зайка

Адукацыю ў фізіцы мае і працаваў у Менску ў галіне нуклеарнай энергетыкі прадстаўнік таксама новай эміграцыі Віталь Зайка. Праўда, у ЗША ён працуе інфармацыйным спецыялістам у архіве Інстытута габрэйскіх даследаванняў *IBO* ў Нью-Ёрку. Сярод тэмаў, якія ён разглядае, праблемы таталітарызму і Другой сусветнай вайны ў Беларусі, пытанні параўнальнага аналізу нацыянальнай свядомасці і самаідэнтыфікацыі этнічных групаў на беларускіх землях. Віталь Зайка з’яўляецца аўтарам шэрагу навуковых і папулярных артыкулаў у англійскай, беларускай мовах і на ідыш, а таксама апавяданняў і вершаў па-беларуску. Бярэ актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці.

Спецыялісты-беларусы ёсць і ў галіне кінаіндустрыі. Прыкладам, рэжысёр Юлія Рудзіцкая паспяхова стварае анімацыйныя фільмы. Яна нарадзілася ў Менску, але цяпер жыве ў ЗША. Яе фільм «І месяц спыніўся» (*«And the Moon stands*

[100] Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 427.

[101] https://www.nato.int/cps/en/natohq/news_173854.htm.

[102] Наша Слова. Мінск. № 36 (1083). 05.09.2012.

*still*») атрымаў галоўны прыз на фестывалі ў Санта-Круз (Каліфорнія) у 2017 годзе[103].

У эканамічных колах на Уол Стрыт вядомы як наватар, буйны спецыяліст, заснавальнік кампаніі «Альфа-прадпрыемства» (*Alpha Factory*) Ігар Тульчынскі з Менска[104]. А ў Арызонскім універсітэце выкладае эканамічныя дысцыпліны прафесар Юры Церлюкевіч, які 20 гадоў таму закончыў БДУ, працаваў у розных краінах і цяпер асеў у ЗША. Ён рэгулярна прыязджае ў Беларусь, чытае лекцыі, кансультуе беларускіх эканамістаў[105].

Ёсць выбітныя беларусы і ў юрыдычнай галіне ЗША. Так, у Нью-Брансвіку Расціслаў Войтанка, а ягоны сын — суддзя ў акрузе Мідлсэкс (*Middlesex*) у Нью-Джэрсі. З новых эмігрантаў — юрыст Аляксандра Раманенка пачынае прафесійную кар'еру. Але найбольшы поспех у згаданай галіне мае Алеся Кіпель. Пра сваю адвакацкую практыку ў інтэрв'ю Алесі Сёмусе ў адказ на пытанне «*Ці лічыш ты сябе чалавекам, задаволеным жыццём і паспяховым, тое, што амерыканцы называюць successful?*» яна сказала:

*Так, я лічу сябе successful! Мне падабаецца мая праца. Я партнёр у адной з найбольш вядомых юрыдычных фірмаў ЗША, «Стэптоў і Джонсан». Я таксама старшыня дарадчай камісіі Суда міжнароднага гандлю ў Нью-Ёрку. Маю найвышэйшы рэйтынг сярод калегаў-юрыстаў у нацыянальнай сістэме прафесійнай класіфікацыі Мартындэйл-Габэл*[106]. *Мяне адзначыў «Чэмберс»*[107] *як адную з найлепшых юрыстаў у краіне ў галіне гандлёвага заканадаўства ў спецыялізацыі «інтэлектуальная ўласнасць». Я маю прафесійныя публікацыі і раблю прамовы, так што, так, я лічу сябе successful*[108].


Алеся Кіпель

Паводле даведніка гадавіка «*The Washington Post Magazine*», Алеся Кіпель у 2013–2015 гадах уваходзіла ў лік 100 найлепшых адвакатаў, якія спецыялізуюцца на інтэлектуальнай уласнасці і інтэрнацыянальнай маёмасці. Яна шмат друкавалася ў юрыдычных часопісах (у тым ліку ў «*The Journal of Commerce*») і выступала ў якасці лектара ў розных бізнесовых установах. Ад 2016 года Алеся Кіпель працуе ў сістэме Міністэрства ўнутраных спраў ЗША. А беларускай грамадзе яна найбольш вядомая як доўгагадовы беларускі палітычны дзеяч у Вашынгтоне ды часты госць у Беларусі.

Шмат беларусаў выкладаюць ва ўніверсітэтах, працуюць у даследчых кампаніях. БІНіМ вядзе улік удзелу беларусаў у амерыканскім навукова-прамыслова-

[103] https://www.svaboda.org/a/28859359.html.

[104] The Wall Street Journal. April 7, 2017.

[105] https://nn.by/?c=ar&i=233878

[106] *AV*® ***Peer Review Rating*** — адпаведна, *Martindale-Hubbell Peer Review Ratings*. *AV*®-сертыфікат ёсць значным дасягненнем у рэйтынгавай сістэме — гэта сведчанне таго, што калегі юрыста надалі яму найвышэйшы рэйтынг прафесійнасці. Юрыст мусіць практыкаваць права прынамсі 10 гадоў, каб атрымаць *AV*®-рэйтынг.

[107] ***Chambers*** — з 1990 года публікуе каталогі і даведнікі па юрыдычнай тэматыцы.

[108] Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 525.



тэхналагічным жыцці ды апрацоўвае бібліяграфію працаў беларусаў-навукоўцаў і інжынераў у амерыканскіх часопісах.

Як бачым, шмат хто з дзяцей імігрантаў паваеннае хвалі, як і суродзічы з эміграцыі апошніх дзесяцігоддзяў, паспяхова ўвайшлі ў жыццё, атрымаўшы добрую асвету, паступова сталі займаць важныя пасады і ўплывовыя пазіцыі ў розных сферах[109].

[109] Папка «Выдатныя ў ЗША» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

# РОЛЯ АМЕРЫКАНСКІХ БІБЛІЯТЭК, НАВУКОВЫХ І НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАЎ У ПРАПАГАНДЗЕ БЕЛАРУСКАЕ СПАДЧЫНЫ

Амерыканскія бібліятэкі адыгрываюць вельмі важную ролю ў інфармаванні амерыканцаў пра Беларусь і беларусаў. Шмат якія амерыканскія бібліятэкі — публічныя, універсітэцкія і спецыяльныя — маюць багатыя беларускія інфармацыйныя і навуковыя кнігазборы, і дзеля таго, што адна з функцый бібліятэкі — папулярызаваць свае кнігі, яны ладзяць адмысловыя выставы, лекцыі і абмеркаванні кніг. Варта адзначыць, што найбольшыя амерыканскія бібліятэкі, як, прыкладам, Бібліятэка Кангрэса або Нью-Ёркская публічная бібліятэка, маюць беларускія кнігазборы, запачаткаваныя яшчэ на пачатку XX стагоддзя[1].

Неабходна падаць колькі агульных заўваг пра беларусіку ў амерыканскіх бібліятэках.

Хоць беларусіка прысутная ў шмат якіх бібліятэках, надалей існуе праблема з загалоўкам адпаведнага раздзела ў каталогах. Назовы «*Byelorussia*» і «*Byelorussians*» — новыя для амерыканскіх бібліятэкараў. Яны ўвайшлі ў каталогі толькі ў 1970-я гады. Раней Беларусь азначалася як «*White Russia*». Аднак і гэты назоў быў уведзены ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы паміж 1915 і 1920 гадамі, тым часам як Бібліятэка Кангрэса пачала ўжываць яго толькі ў канцы 1920-х гадоў. Да з'яўлення тэрміна «*White Russia*» матэрыялы, што мелі дачыненне да Беларусі, каталагізаваліся пад тытуламі «*West Russia*», «*Russia*» або «*Poland*». Гэткая тэрміналагічная разбежнасць, разам з палітычнаю сітуацыяю ў Беларусі, стварала (дый надалей стварае) цяжкасці ў фармаванні беларускіх кнігазбораў і ў карыстанні імі.

З гэтага выцякае, што праца з беларускімі кнігазборамі ў працэсе беларусазнаўчых даследаванняў пры карыстанні старою літаратураю патрабуе гістарычнае падрыхтоўкі і тэхнічнага досведу. З цягам часу ды з павелічэннем беларускіх калекцый настае патрэба ў перакаталагізацыі старых матэрыялаў. Аднак бліжэйшымі гадамі вырашыць гэтую праблему будзе нялёгка. Цяпер, як выглядае, тэрмін «*Belarus*» замацаваўся.

Беларускія інфармацыйныя выданні можна сустрэць у любой вялікай публічнай бібліятэцы ды амаль ва ўсіх каледжах і ўніверсітэтах, дзе ёсць славянскія аддзяленні.

Беларускія навуковыя кнігазборы ёсць у некаторых універсітэтах, прыкладам ва ўніверсітэце штата Індыяна ў Блумінгтане, універсітэце штата Ілінойс ва Урбане, універсітэце штата Каліфорнія ў Бэрклі, універсітэце штата Агаё ў Каламбусе, універсітэце штата Паўночная Караліна ў Чэпэл-Хіле ды колькіх іншых.

[1] The New York Public Library. Reference Collections. Archives.



У беларускай секцыі Кліўлендскай публічнай бібліятэкі: загадчыца аддзела замежных літаратур Наталля Бязуглава (у цэнтры), Вітаўт Кіпель (справа). 1979 г.

Найбольшыя і найпаўнейшыя беларускія навуковыя кнігазборы захоўваюцца ў Гарвардскім, Калумбійскім, Прынстанскім і Стэнфардскім універсітэтах, у Бібліятэцы Кангрэса ды ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Гэтыя калекцыі найбольшыя па колькасці кніг беларускае тэматыкі, а таксама беларускіх перыядычных выданняў[2].

Нядрэнныя беларускія кніжныя зборы ёсць і ва ўніверсітэцкіх бібліятэках Блумінгтана, штат Індыяна, у Чыкагскім універсітэце, у Дзюк, у штаце Паўночная Караліна, універсітэце горада Гейнсвіл, штат Флорыда, а таксама Пенсільванскім штатным універсітэце.

Бібліятэка Кангрэса ў Вашынгтоне з'яўляецца нацыянальнай бібліятэкай ЗША. Кнігазборы беларусікі там, бясспрэчна, надзвычай вялікія. Можна спадзявацца, што ў гэтай бібліятэцы ёсць амаль усё, што друкуецца ў Беларусі дзяржаўнымі структурамі, багата і выданняў недзяржаўных выдавецтваў. У Кангрэсавай бібліятэцы працавалі Зоя Лапчанка, Леў Акіншэвіч, адміністрацыйна быў з ёй звязаны перакладчык тэхнічнай літаратуры Расціслаў Завістовіч і іншыя беларусы.



Шматгадовы супрацоўнік Бібліятэкі Кангрэса ЗША Леў Акіншэвіч

Адпрацаваўшы ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы больш за чвэрць стагоддзя, аўтар гэтай кнігі лічыць магчымым і патрэбным апісаць падрабязней беларускі кнігазбор гэтае бібліятэкі.

[2] Папка «Беларусіка ў амэрыканскіх бібліятэках» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

Асаблівая ўвага да Нью-Ёркскае публічнае бібліятэкі цалкам абгрунтаваная. Задоўга да таго, як Беларусь сталася заўважная на палітычным даляглядзе або на мапе Еўропы, што адбылося толькі ў 1918 годзе, гэтая бібліятэка ўжо збірала беларускія матэрыялы, нягледзячы на цяжкасці, звязаныя з іх набыццём.

На самым пачатку XX стагоддзя бібліятэка набыла колькі беларускіх выданняў лацінкаю, былі купленыя і слушна закаталагізаваныя працы Яўхіма Карскага і некаторых пісьменнікаў, як, прыкладам, Францішка Багушэвіча. Бібліятэка адна з першых у Амерыцы ўсталявала кніжны абмен з бібліятэкамі БССР у 1920-я гады. У дакуменце з гэтае нагоды, датаваным 1928 годам, гаворыцца:

*Дзяржаўная бібліятэка ў Менску, адна з шматлікіх савецкіх установаў, з якімі бібліятэка падтрымоўвае абмен, дасылала не толькі бягучыя беларускія публікацыі, але таксама старыя кнігі ў рускай мове, што маюць дачыненне да рэгіёна, які з часам стаўся паўсуверэннаю Беларускаю Рэспублікаю*[3].

Можна без перабольшання сцвярджаць, што беларускі кнігазбор Нью-Ёркскае публічнае бібліятэкі найбольшы ў Злучаных Штатах. Ён налічвае некалькі тысячаў кніг і перыядычных выданняў у беларускай мове, а таксама тысячы кніг і публікацый у іншых мовах, якія маюць дачыненне да беларускае тэматыкі[4].



Шматгадовая супрацоўніца Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі Зора Кіпель. *Здымак Анатоля Клешчука*

Бібліятэка асабліва багатая на бібліяграфічныя працы самае шырокае беларускае тэматыкі, мастацкую, статыстычную, палітычную, мовазнаўчую ды мастацтвазнаўчую літаратуру. Бібліятэка прыкладае шмат намаганняў дзеля набыцця беларускіх кніжных матэрыялаў, пачынаючы ад пражскіх і віленскіх выданняў Францішка Скарыны. Бібліятэка мае найпаўнейшыя зборы беларускіх эміграцыйных выданняў ад 1920–1930-х гадоў, калі яна набывала перыёдыкі з Прагі і Парыжа. Цікава зазначыць, бібліятэка збірае таксама аўтографы аўтараў, якія наведваюць бібліятэку.

Сталіся ўжо традыцыяю візіты ў бібліятэку беларускае дэлегацыі на Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якія нярэдка прыносяць у бібліятэку каштоўныя падарункі. Цягам дзесяцігоддзяў дзясяткі беларускіх афіцыйных асобаў і пісьменнікаў наведалі бібліятэку, сярод іх Пятро Глебка, Анатоль Вярцінскі, Рыгор Барадулін, Барыс Сачанка, Алесь Адамовіч, Іван Чыгрынаў, Уладзімір Шчасны, Віктар Шматаў, Леанід Казыра, Віктар Скарабагатаў, Вячаслаў Адамчык, Алесь Лукашук, Адам Мальдзіс, Генадзь Бураўкін, Марыя Карпенка, Пётра Краўчанка, Валянцін Грыцкевіч, Ігар Жолудзеў, Эдуард Цыганкоў, Вольга Іпатава, Якаў Качан, Лідзія Савік, Анатоль Міхайлаў, Аркадзь Тоўсцік, Мікалай Сікорскі, Андрэй Дапкюнас, Віктар Дашук, Уладзімір Някляеў, Святлана Алексіевіч ды іншыя[5].

---

[3] The New York Public Library. Report of the Director. 1928.
[4] The New York Public Library. Baltic and Slavic Division. Archives; Catalogue.
[5] The New York Public Library. Staff News. 1974. № 41; Беларус. Нью-Ёрк. 1974. № 204, 211; The New York Public Library. Baltic and Slavic Division. Register.



Шмат хто з іх карыстаўся ў сваёй працы фондамі бібліятэкі, а некаторыя апісалі свой побыт у Злучаных Штатах у сваіх творах і працах. У бібліятэкі ўсталяваліся вельмі добрыя кантакты і супрацоўніцтва з беларускаю місіяй пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, асабліва з яе шматгадовым сакратаром Алегам Пашкевічам, які дапамог набыць шмат важных матэрыялаў.

Часта бывалі ў бібліятэцы таксама беларускія пісьменнікі, навукоўцы і госці з Польшчы, Вялікабрытаніі, Францыі, Швецыі ды іншых краінаў. Так, у бібліятэцы працавалі або гасцілі Алесь Барскі, Альберт Барташэвіч, Сакрат і Таня Яновічы, Зіна Туронак, Ян Максімюк. Частым наведнікам і лектарам у бібліятэцы быў а. Аляксандр Надсан. Адведвалі бібліятэку ўладыка Часлаў Сіповіч, даследчык Гай Пікарда і іншыя.

Кніжныя калекцыі Нью-Ёркскае публічнае бібліятэкі адыгралі важную ролю ў развіцці беларусаведных даследаванняў на Захадзе. Рэч у тым, што бібліятэка нярэдка бывае адзінаю ў свеце ўстановаю, якая мае тую ці іншую беларускую кнігу або перыядычнае выданне, увесь наклад якога быў знішчаны савецкім рэжымам. Унікальнасць бібліятэкі прызнаюць і беларускія даследчыкі, якія часам дораць ёй рэдкія кнігі з сваіх кнігазбораў.

Большасць апублікаваных у ЗША беларускіх навуковых працаў пісалася ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Тут працавалі Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч, Нікалас Вакар, Уладзімір Сядура, Іван Любачка, Майкл Урбан, Ян Запруднік, Гіпаліт Паланевіч, Аўген Каханоўскі, Ізідар Плашчынскі ды дзясяткі іншых.

Асабліва плённае было супрацоўніцтва з бібліятэкаю д-ра Вітаўта Тумаша. Ён шмат дапамог у фармаванні Скарынаўскае калекцыі і адмыслова адзначыў бібліятэку ў пераліку падзяк у сваёй кнізе «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны. XVI–XX».

У сваёй працы д-р Вітаўт Тумаш пісаў:




Выстава беларускіх лацінкавых друкаў у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. 1959–1960 гг.

*Установаў і асобаў, якія прычыніліся да з'яўлення гэтае кнігі, як кажуць, занадта шмат, каб усе і ўсіх іх пералічыць. Адну ўстанову, аднак, варта вылучыць асобна: Славянскі і балтыйскі аддзел Нью-Ёркскае публічнае бібліятэкі, дзе заўсёды можна было сустрэць надзвычайную гатовасць да дапамогі і зацікаўленасць усіх супрацоўнікаў як беларусікаю ўвогуле, гэтак і Скарынам у прыватнасці*[6].

Трэба падкрэсліць і гэткі важны аспект: бібліятэка вельмі дбае пра захаванасць рэдкіх матэрыялаў, да якіх адносяцца шмат якія беларускія публікацыі. Гэта адзіная ў Заходнім паўшар'і бібліятэка, дзе дзясяткі гадавікоў беларускіх перыядычных выданняў перазнятыя на мікрафільмы, а сярод іх «Бацькаўшчына», «Беларус», «Ніва» ды іншыя.




Афіша выставы, прысвечанай 450-годдзю беларускага друку, у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. 1967 г.

Нью-Ёркская публічная бібліятэка заўсёды была таксама выдатным прапагандыстам беларускае (ды іншае) кніжнае спадчыны. За апошнія паўстагоддзя гэтая ўстанова арганізавала каля двух дзясяткаў вялікіх выставаў на беларускія тэмы: «Вехі беларускае літаратуры», «Юбілей беларускага друку і доктар Францішак Скарына», «Песняры беларускае літаратуры Янка Купала і Якуб Колас», «Беларускія выданні лацінкаю», «Паўстанне 1863 года на Беларусі», «Статут Вялікага Княства Літоўскага». Дэманстраваліся беларускія матэрыялы і на іншых выставах — «Гадавіна Каперніка», «Мовы свету», «Гісторыя календара» ды іншых[7].

Пра бібліятэку шмат напісана ва ўспамінах Зоры і Вітаўта Кіпеляў, якія працавалі ў гэтай установе больш як 25 гадоў кожны[8]. Беларуская кніжная калекцыя ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы значна павялічылася за кошт эміграцыйнай літаратуры. Кіпелі перадалі-падаравалі бібліятэцы каля 4500 назваў манаграфічных друкаў і больш як 400 перыёдыкаў. Безумоўна, гэтая бібліятэка сталася на сёння самым буйным цэнтрам эміграцыйнай літаратуры ў свеце. Гэтаксама сюды быў перададзены архіў Беларускага інстытута навукі і мастацтва разам з некаторымі архіўнымі матэрыяламі прыватных асобаў ды розных эміграцыйных арганізацый.

Пры бібліятэцы заснаваны Фонд беларускай кнігі з першапачатковым ахвяраваннем $ 25 000, якое ў 2015–2016 гадах дасягнула $ 50 000. Пра фонд супрацоўнік бібліятэкі Лявон Юрэвіч зазначыў так:

*Вось жа Фонд беларускае кнігі быў створаны сям'ёй Зоры і Вітаўта Кіпеляў для набыцця толькі рэдкіх кнігаў, прыкладам скарынінскіх кнігаў, альбо для захавання рэдкіх беларускіх друкаў, якія патрабуюць спецыяльных умоваў захавання і рэстаўрацыі.*

[6] Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны / укл. В.Тумаш. Нью-Ёрк, 1989. С. IX.
[7] The New York Public Library. Baltic and Slavic Division. Archives.
[8] Кіпель, З. Дні аднаго жыцця. Мінск, 2010; Кіпель, В. Жыць і дзеіць. Мінск, 2015.



*Фонд беларускае кнігі — фонд адчынены, да яго можна дадаваць сумы, але назначэнне застаецца бяззменнае — выключна для рэдкае беларускае кнігі.*

*Для развіцця і падтрымкі беларускае культуры ў ЗША фонд мае вялікае значэнне, бо гэта ці не першы фонд, створаны для бібліятэчна-кнігаведнае справы*[9].

І, як падкрэсліваюць аўтары мемуараў, з'ява першай важнасці: у бібліятэцы працуе кампетэнтны бібліятэкар-прафесіянал, вядомы і пладавіты даследчык беларусікі, навуковец з дыпломамі беларускага і амерыканскага ўніверсітэтаў Лявон Юрэвіч — выдатная падмена бібліятэкарам-папярэднікам.



Нью-Ёркская публічная бібліятэка ў часе выставы, прысвечанай 450-годдзю беларускага друку. 1967–1968 гг.

Але ж на кніжна-архіўных рэсурсах Нью-Ёрка і ваколіцаў ды ўстановах-арганізацыях, дзе актыўна распрацоўваецца беларусіка, неабходна спыніцца падрабязней, бо «вялікі Нью-Ёрк» — места адметнае і багаццем беларускага матэрыялу, і людзьмі-працаўнікамі.

Апрача Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі ў горадзе Нью-Ёрку значныя кніжныя беларускія калекцыі знаходзяцца ў Калумбійскім універсітэце, асабліва з галіны архітэктуры; у Гарыманаўскім інстытуце — палітычная літаратура. Дарэчы, экзэмпляр кнігі Міколы Шчакаціхіна «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» (1928) для перадруку пазычаўся менавіта ў Калумбійскім універсітэце, а ў Гарыманаўскім інстытуце ў бібліятэцы стаіць бронзавы бюст Васіля Быкава — твор Алеся Шатэрніка. Тут варта адзначыць, што Гарыманаўскі інстытут рэгулярна праз свой бюлетэнь паведамляе пра новыя кніжныя набыткі, у тым ліку

[9] Беларус. Нью-Ёрк. 2003. № 486.



Бюст Васіля Быкава ў Гарыманаўскім інстытуце. Аўтар Алесь Шатэрнік

і пра беларускія выданні[10]. Англамоўная літаратура пра Беларусь, як і шмат кніг з беларускай літаратуры, знаходзяцца ў Гарадскім каледжы Квінса.

Калі б у тых амерыканскіх вялікіх бібліятэках Нью-Ёрка не было патрэбнай кнігі, можна зазваніць і ў беларускія арганізацыі, як Беларуская фундацыя Крачэўскага ці беларуская царква Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне: бібліятэкі ёсць і там, і патрэбныя публікацыі можна знайсці. Папаўняюцца яны пераважна за кошт ахвяраванняў. Так, у газеце «Беларус» была надрукаваная «Падзяка!» наступнага зместу:

*Парафіяльная рада сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку выказвае шчырую падзяку сп. Лявону Юрэвічу, які перадаў у бібліятэку Парафіі збор кнігаў з уласнай бібліятэкі, які налічвае каля шасці з паловай сотняў асобнікаў, а таксама 30 аўдыядыскаў, 8 абразоў і 6 малых скульптурных твораў. Усё гэта з'яўляецца каштоўным набыткам для нашай бібліятэкі*[11].

Але і па-за Нью-Ёркам ці, як амерыканцы кажуць, у вялікім Нью-Ёрку, а дакладней, у мясцовасцях прыблізна за 30–45 км ад горада знаходзяцца дадатковыя беларускія кнігазборы, і немалыя! А гэта бібліятэкі ўніверсітэтаў Прынстан у аднайменным горадзе і Ратгерс у горадзе Нью-Брансвік, абодва ў штаце Нью-Джэрсі — гадзіна-паўтары ад Нью-Ёрка ў паўднёвым напрамку.

Прынстанскі ўніверсітэт — адзін з найстарэйшых у краіне, заснаваны ў 1746 годзе, належыць да так званай *Ivy League Universites* — Плюшчавай лігі ўніверсітэтаў, куды таксама залічаюцца Гарвардскі, Браўна ды колькі іншых. Вядомы шырокім дыяпазонам выкладаных дысцыплінаў. Адтуль выйшлі дзясяткі вялікіх амерыканскіх палітыкаў, у тым ліку прэзідэнты (Джэймс Мэдысан, Вудра Вільсан, Аран Бур, Мішэль Абама — жонка прэзідэнта Барака Абамы ды інш.) і навукоўцаў, з самых слынных выкладчыкаў — Альберт Эйнштэйн. Здаўна ва ўніверсітэце была моцная праграма вывучэння Расіі, пазней СССР. Пры ўніверсітэце вельмі старая бібліятэка імя Феерстана (магнат вырабу аўтапакрышак, які завяшчаў шматмільённае багацце бібліятэцы). Першыя беларусаведныя кнігі тут пачалі набывацца на пачатку XX стагоддзя: Сапуноў, Карскі.

Пакуль не даследавана, калі ў Прынстане пачалі з'яўляцца студэнты-беларусы, але тут вучылася некалькі яўрэяў з Беларусі. У 1975–1979 гадах тут была студэнткаю Алеся Кіпель. Яна закончыла гістарычны факультэт з дысертацыяй, базаванай на архівах Гувераўскага інстытута ў Каліфорніі: *«The American Relief Administration's Soviet Operations 1921–1923; their impact on Soviet-American relations» (Princeton Univ., 1978. 186 p.)*[12].

[10] Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. № 2(50). Сакавік 1998.

[11] Беларус. Нью-Ёрк. 2015. № 612.

[12] Часткі працы былі апублікаваныя ў: Запісы БІНіМ. № 16. Нью-Ёрк. 1978. С. 61–83.



Паколькі вывучаліся тэмы «савецкія», дык пры ўніверсітэце было ладна спецыялістаў па СССР, збіралася і адпаведная бібліятэка, улучна з кнігамі пра БССР. Ад гадоў 1990-х беларусіка была вельмі ўзрасла, бо, як кажа Алеся Кіпель, *«колькі магу, набываю беларускую літаратуру, калі бываю ў Менску, бо наклады малыя: не купіш у час — згуба для бібліятэкі»*. На сёння беларусіка ў Прынстанскай універсітэцкай бібліятэцы налічвае некалькі тысяч тамоў, а таксама часопісы, як «Кантакты і дыялогі», «Беларуская Думка» ды інш.

Пра беларусіку ў Корнельскім універсітэце (горад Ітака, штат Нью-Ёрк) згадвала яго выкладчыца, паэтка-беларуска Вальжына Морт, якая ў адным з інтэрв'ю казала:

*Для мяне было адкрыццём, што ў бібліятэцы Карнеля ёсць колькі шафаў з беларускай літаратурай — ёсць усе сучасныя аўтары, серыі з класікай, амерыканскія іміграцыйныя выданні. Гэта дапамагло, калі ў Карнель прыяжджала Святлана Алексіевіч. Каб быць падрыхтаванымі да сустрэчы, хутка замовілі і прачыталі са студэнтамі «У вайны не жаночы твар». У сваіх справаздачах пры канцы семестра многія пісалі — менавіта дзеля такіх спатканняў і паступаеш ва ўніверсітэт.*

Іншая вялікая беларусаведная кніжная калекцыя знаходзіцца ў бібліятэцы ўніверсітэта Ратгерс, г. зв. *Alexander's Library* ў горадзе Нью-Брансвік, штат Нью-Джэрсі. Аднак спачатку колькі словаў пра сам універсітэт.

Як і Прынстанскі, універсітэт Ратгерс адзін з найстарэйшых у ЗША, заснаваны ў 1766 годзе. Універсітэт з вельмі багатай праграмай навучання, улучна з медыцынай, агракультурай, інжынерыяй, юрыспрудэнцыяй і, зразумела, гуманітарнымі дысцыплінамі.

Здаўна на ўніверсітэце вучыліся студэнты беларускага паходжання: аўтар меў пару дзясяткаў інтэрв'ю з беларусамі-амерыканцамі хвалі перад Першай сусветнай вайной, якія закончылі Ратгерс: Грыша Корзун, Пятро Галавінскі, Майкл Сапега. Па Другой сусветнай колькасць беларусаў павялічылася, бо шмат паваенных эмігрантаў пасяліліся ў гарадках, блізкіх да Нью-Брансвіка — там была праца, а іх дзеці ішлі ў Ратгерс. Паводле прыблізных падлікаў БІНіМа, Ратгерс закончыла больш як сотня беларускіх студэнтаў з паваеннае эміграцыі; некаторыя выпускнікі дайшлі да высокіх ступеняў прафесійнае кар'еры: напрыклад, згаданы раней д-р Аўген Вярбіцкі быў загадчыкам даследчае лабараторыі ваеннага ведамства; Галіна Русак займала пасаду загадчыцы мастацкай бібліятэкі ўніверсітэта; сп-ня Лёля Касоўская (Лапіцкая) была кіраўніком навуковай бібліятэкі фармацэўтычнай кампаніі «*Squibb*»; сп-ня Таіса Шчорс — кіраўніком бібліятэкі медыцынскага факультэта. На высокіх бібліятэчных пасадах працавалі Бабі Цуприк, Зора Кіпель, Вітаўт Кіпель — таксама выпускнікі гэтага ўніверсітэта. Дыплом Ратгерса маюць




Выпускніца Ратгерса Зора Кіпель

Юрка Азарка, Юрка Кіпель, Віталь Каракулька (і загінулая ў катастрофе Ната Каракулька), Юры Стагановіч, Люда Грант, Наталля Русак.

Закончыў гэтую навучальную ўстанову і абараніў доктарскую дысертацыю на беларускую тэму Віталь Сіліцкі, на факультэце палітычных навук выкладала і абараніла дысертацыю беларуска Таццяна Кулакевіч. На факультэце параўнальных літаратураў вучылася Зора Кіпель і закончыла з магістарскай працай, а потым кнігай «Беларускі Трышчан». На беларускую тэму была таксама праца Сяргея Казакова, а некалькі семінарскіх працаў на тэму беларускіх кніжных збораў рабіў Гіпаліт Паланевіч — пазней загадчык інфармацыйнага стала ў Куінсаўскай бібліятэцы Нью-Ёрка. Думаю, што не памылюся, калі сцверджу, што ўніверсітэт Ратгерс налічвае найбольшую колькасць выпускнікоў беларусаў-амерыканцаў.

Натуральна, што пры ўніверсітэце паўстала і беларуская кніжная калекцыя. Але заўважнае павялічэнне адбылося ў 2000–2001 гадах, калі д-р Ян Запруднік, недалёкі жыхар і актыўны карыстальнік бібліятэкі, перадаў туды ўласны кнігазбор — некалькі тысяч тамоў — у дадатак да фінансавага фонду на апрацоўку гэтых кніжак.

Падарункі з аўтарытэтнымі падзякамі былі прынятыя ўніверсітэтам, а ў бібліятэчным кодэксе з'явілася адмысловая рубрыка *«The Zaprudnik Belarusica Collection»*, ці «Калекцыя беларусікі Запрудніка». На сёння дар д-ра Запрудніка апрацаваны ды калекцыя стала папаўняецца новымі кнігамі[13].



Янка Запруднік каля беларускіх паліцаў Александрыйскай бібліятэкі Ратгерскага ўніверсітэта. 2017 г.

[13] Беларус. Нью-Ёрк. 2003. № 491.



Але апрача колькасці беларускіх студэнтаў і важнае беларусаведнае бібліятэкі, Ратгерс мае і яшчэ адну важную дэталь: пры архіўных калекцыях бібліятэкі ёсць і беларускі архіў, дакладней, апрацаваныя беларускія архіўныя матэрыялы. Цягам некалькіх гадоў, каля шасці-васьмі, сп-ня Лёля Касоўская (Лапіцкая), выйшаўшы на пенсію, аддалася ганаровай працы — упарадкаванню беларускіх архіваў у Ратгерсе. Некаторыя матэрыялы парафіі св. Еўфрасінні Полацкай з Саўт-Рывера, архівы Аляксандра Асіпчыка, Івана Касяка, Антона Даніловіча (Янкі Золака), а. Мікалая Лапіцкага, Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі. Архіў дзейны і папаўняецца новымі матэрыяламі.

Калі гаворым пра архівы, то неабходна затрымацца і на такім пытанні: дзе перахоўваць уласны архіў? «На месцы», у ЗША? Ці перадаць на Бацькаўшчыну? Пытанне нібыта і простае, але не такое простае! Нам думаецца так: па-першае, паперы, дакументы трэба трымаць, перахоўваць у памяшканні, якое называецца «архіў», а не пад ложкам ці пад царквою. Другое, што да геаграфічнага месцазнаходжання: матэрыял лакальны, выключна мясцовага значэння, трэба трымаць на месцы, г. зн. у ЗША. Матэрыялы ж агульнага значэння, эміграцыйнага профілю — перасылаць у Беларусь.

Дамо канкрэтны прыклад падзелу архіўнага матэрыялу. Зора Кіпель, перакладаючы «Беларускага Трышчана» ў англійскую мову і вывучаючы тую эпоху, сабрала вельмі шмат літаратуры, якой магло не быць у Беларусі. Як розум ейны працаваў хутчэй, чым прагрэсавала хвароба (рак), то яна ўвесь літаратурны матэрыял — некалькі вялікіх скрынак — загадала пераслаць у Менск асобам, якія ў літаратуры працавалі над той самай тэмай, — Надзеі Старавойтавай і Алесю Бразгунову. У выніку на аснове гэтай калекцыі з'явілася кніга з прысвячэннем Зоры Кіпель:

> *Гэтае выданне прысвячаецца светлай памяці сп. Зоры Кіпель, нястомнай даследчыцы нашай даўняй пісьмовай спадчыны XV–XVII стагоддзяў*[14].

Бясспрэчна, рашэнне Зоры Кіпель было правільнае. На матэрыялах ейнага архіва ўжо з'явіліся не менш як тры новыя літаратурныя даследаванні, у кожным з якіх ёсць прысвячэнне і падзяка збіральніцы. Так, у іншай працы А. Бразгуноў выказаў *«удзячнасць за магчымасць карыстання багатым архівам Сп. Зоры Кіпель, светлай памяці якой прысвечана гэтае даследаванне»*[15]. Яшчэ адна публікацыя на аснове таго ж архіва — даследаванне Надзеі Шостак (Старавойтавай) *«Лявон Галяк як перакладчык "Трышчана"»*, і тут таксама згадваецца, што даследаваны пераклад выяўлены *«ў архіве [у Менску] беларускай эміграцкай даследчыцы Зоры Кіпель, памяці якой і прысвячаецца гэты артыкул»*[16].

[14] Беларускія Александрыя, Троя, Трышчан. Перакладная белетрыстыка Беларусі XV—XVII стст. / укл. Алесь Бразгуноў. Мінск, 2009.

[15] Бразгуноў, А. Перакладная белетрыстыка Беларусі XV–XVII стагоддзяў. Мінск, 2007. С. 15.

[16] Шостак [Старавойтава], Н. Атрыбуцыя Лявона Галяка як перакладчыка «Трышчана ды Іжоты» Жазэфа Бэдзье: эдыталогія // Компаративні дослідження слов'янських мов і літератур. Вип. 16. Київ, 2011. С. 199.

І яшчэ адна публікацыя на падставе архіва Зоры Кіпель належыць той самай аўтарцы: Старавойтава, Н. «Аповесць пра Трышчана» і аб'ектыўнасць яе даследавання ў працах Э. Згамбацы і З. Кіпель // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце: Матэрыялы VI Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай» Мінск, 8–10 кастр. 2003 г. У 2 ч. / Пад рэд. І. Чароты. Ч. 2. Мінск, 2003. С. 197–201.

Як бачым, Зоры Кіпель — падзяка, а іншым эмігрантам, у якіх ёсць архівы, — прыклад, як і дзе захоўваць свае дакументы. Будучым ахвяроўцам архіўных матэрыялаў у выпадку няпэўнасці лепш перасылаць у Менск, але ніколі не трымаць пад ложкам ці ў падвале.

Відавочна, у раёне вялікага Нью-Ёрка сабралася значная база даследчага беларусаведнага матэрыялу, што прычынілася да распрацавання беларускай тэматыкі якраз у гэтым рэгіёне.

У ЗША ад сярэдзіны 1950-х гадоў пачалі з'яўляцца кнігі, што паглыблялі беларусаведу, парывалі савецкія доследы-канцэпцыі аб беларускай дзяржаўнасці, культуры, літаратуры. Карыстаючы з рэсурсаў найперш Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі, Калумбійскага ўніверсітэта, беларусы-навукоўцы як пры амерыканскіх вышэйшых установах, так і ў Крывіцкім навуковым таварыстве ды асабліва ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва вельмі грунтоўна распрацоўвалі такія тэмы, як беларуская дзяржаўнасць, русіфікацыя беларускай культуры, беларуская этнаграфічная тэрыторыя, скарыніяна ды дзясяткі іншых, пра якія ў БССР і гаварыць не дазвалялася.



Шматгадовы дырэктар БІНіМа Вітаўт Тумаш

З большых літаратурных працаў у Нью-Ёрку была апрацаваная «Спадчына» — зборнік Купалавых, не дазволеных цэнзурай твораў; рэдагавалі яе Станіслаў Станкевіч і Вітаўт Тумаш. У Гарвардскім універсітэце праф. Нікалас Вакар выдаў кнігу «Беларусь — фармаванне нацыі»[17], у якой давалася гісторыя Беларусі і імкненне да дзяржаўнасці (праца, якую моцна крытыкавалі за тэндэнцыйнасць беларускія навукоўцы Вітаўт Тумаш, Янка Запруднік, Вацлаў Пануцэвіч і інш.). Праф. Уладзімір Сядура апрацаваў кнігу пра беларускі тэатр[18]. Адным словам, беларуская тэма пачала ўваходзіць у поле даследавання амерыканскіх універсітэтаў, а кожнага даследчыка можна было ў розны час сустрэць у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. З іншага боку, шмат якія даследаванні амерыканскіх беларусаў перавыдадзены ў Беларусі (працы Зоры Кіпель, Янкі Запрудніка, Вітаўта Тумаша, Уладзіміра Сядуры і інш.).

Відавочна, даследаванні, стварэнне кніг, працаў у галіне беларусікі рухалі не толькі амерыканскія бібліятэкі, інстытуты, каледжы. Непараўнальнае месца ў шэрагу навукова-даследчых арганізацый ЗША ў развіцці беларусаведных студый належыць Беларускаму інстытуту навукі і мастацтва (БІНіМу). Пра БІНіМ было ўжо крыху зазначана, што гэта беларуска-амерыканская арганізацыя, зарэгістраваная ў 1951 годзе ў штаце Нью-Ёрк, мэтай якой ёсць групаваць навукоўцаў,

[17] Vakar, N. Belorussia: the making of a nation, a case study. Cambridge: Harvard University Press, 1956.

[18] Seduro, V. The Byelorussian theater and drama. New York: Research Program on the USSR. 1955.



студэнтаў, зацікаўленых у вывучэнні Беларусі[19]. Арганізацыя дзейная і да цяперашняга часу. Праўда, змянілася сяброўства БІНіМа: яно памаладзела, а таксама пашырылася на Беларусь.

Дзейнасць БІНіМа развівалася некалькімі паралельнымі кірункамі: адбываліся навуковыя сходы, перыядамі рэгулярныя, перыядамі не, на якіх сябры Інстытута, а таксама запрошаныя госці, навукоўцы, чыталі даклады, давалі агляды сваёй даследчай дзейнасці. За гады такіх зборак — на дзясяткі-дзясяткі беларусаведных тэмаў — адбылося некалькі сотняў. Часткова сходы ўлічаныя ў БІНіМаўскім выданні — «Запісах».

Наступная, вельмі інтэнсіўная дзялянка дзейнасці інстытута — удзел і арганізацыя навуковых канферэнцый. Сябры БІНіМа ўдзельнічалі і чыталі даклады найчасцей у англійскай мове. За апошнія пару дзясяткаў гадоў пашырылася геаграфічная прастора: сябры БІНіМа бяруць удзел у шматлікіх навуковых беларусаведных канферэнцыях у Беларусі і Еўропе.



Сябры БІНіМа. Сядзяць: Аўген Вярбіцкі, Віктар Сянкевіч, Галіна Русак, Томас Бэрд; стаяць: Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель. 1983 г.

І трэцяя дзялянка, за якую Інстытут пачуваўся адказным, — гэта друк. Прычым гэта не толькі выданне сваіх працаў, але і падтрымка беларусаведнага друку наогул у дыяспары і на Бацькаўшчыне. У ходзе доўгадовае працы ў БІНіМе вытварылася цікавая сітуацыя: на даследванні некаторых тэмаў як бы аўтаматычна рабіўся большы націск.

Д-р Вітаўт Тумаш стаўся вядучым у даследаванні скарыніяны. Калі яна фактычна памірала ў метраполіі, дзякуючы тагачаснаму дырэктару Інстытута тэма жыла

[19] Юрэвіч, Л. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. С. 121–134.

ў дыяспары, узбагачала айчынную навуку, пра што неаднойчы абменьваліся думкамі ў лістах Тумаш з Флароўскім[20].

Іншая пільная тэма — беларуская дзяржаўнасць. У паваенным часе ў БССР гаварыць пра дзяржаўнасць рэспублікі можна было, але асцярожна, да таго ж дзяржаўнасць, хай і куцая, дазвалялася толькі ад *«Вялікай Акцябрскай»*. БІНіМ жа ў той час поўнай парай распрацоўваў тэмы: «Чаму і як была ўтворана БССР» Ізідара Плашчынскага; «Дакументацыя БНР», «Змаганне за Беларусь у Дзяржаўнай Думе» — доктарская дысертацыя і шэраг артыкулаў д-ра Яна Запрудніка; «Падзеі — Усебеларускі Кангрэс 1917 г.» — Язэпа Гладкага, Міхася Міцкевіча, дзясяткі артыкулаў актыўнага сябры БІНіМа Вацлава Пануцэвіча; падтрымка працы і выданне «Архіваў БНР» Сяргея Шупы; трохтамовік гісторыі паваеннай Рады БНР Наталлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча, кніга пра БЦР Алега Гардзіенкі. Бясспрэчна, БІНіМ — у шэрагу вядучых у даследаванні тэмы беларускай дзяржаўнасці. З'явіліся працы навукоўцаў — сябраў БІНіМа (Льва Акіншэвіча, Часлава Будзькі, Паўла Урбана), прысвечаных гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, старажытнай беларускай культуры, праўніцтву. Падтрымаў Інстытут і выданне кнігі «Курапаты» Зянона Пазняка, Яўгена Шмыгалёва, Міколы Крывальцэвіча і Алега Іова (Менск, 1994).

Пад грыфам БІНіМа з'явіліся і даследаванні беларускай рэлігійнай гісторыі. Праўда, першапачаткова ў інстытуце, як і ў некаторых іншых эміграцыйных структурах, панаваў падыход «у рэлігію не ўлазім». Аднак гэта было памылкова, бо розныя гістарычныя тэмы, тая ж скарыніяна, цесна пераплеценыя з рэлігійнымі пытаннямі. Да таго ж першым старшынёй БІНіМа быў уладыка Васіль (Тамашчык), а сярод сябраў інстытута былі святары: а. Аўген Смаршчок, а. Леў Гарошка, а. Францішак Чарняўскі, а. Пётра Татарыновіч, уладыка Мікалай (Мацукевіч), а. Віктар Войтанка, а. Язэп Германовіч, а. Роберт Тамушанскі. У 1966 годзе БІНіМ выдаў паштоўку «Еўфрасіннеўскі крыж». Ужо прадстаўнік новай эміграцыі Лявон Юрэвіч выдаў зборнік «Адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост» (Менск, 2007), артыкулы на тэмы беларускай рэлігійнай гісторыі друкаваліся на старонках «Запісаў БІНіМ». Як выданне інстытута ўбачыў свет том, у якім рэпрэзентаваная спадчына а. Мікалая Лапіцкага «У служэнні Богу і Беларусі» (Нью-Ёрк — Варшава, 2005), а таксама выйшаў першы том збора на падставе архіваў уладыкі Мікалая (Мацукевіча).




Кніга Наталлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча «Хронікі БІНіМу» (Менск, 2017)

Важная тэма, якая пачала інтэнсіўна распрацоўвацца ў Інстытуце — беларуская эміграцыя ў ЗША. На яе была звернутая асаблівая ўвага, бо ў амерыканскай навуцы, грамадстве панаваў погляд (дый сёння не прапаў!), што беларусаў у ЗША вобмаль. Ёсць — *рускія*. Такую няпраўду трэба было спрастоўваць. У БССР адваёўваць беларускую эміграцыю ніхто не збіраўся, таму гэтым занялісь самі амерыканскія беларусы. Былі выдадзеныя кнігі Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША» ў Менску ў 1993 і 2017 годзе і «*Belarusians in USA*» ў Амерыцы ў 1999 годзе.

[20] Запісы БІНіМ. № 18. Нью-Ёрк, 1988. С. 26–82.



Яшчэ адна дзялянка, якой у Інстытуце было прысвечана багата дакладаў, публікацый, — гэта тэма беларускага друку, кнігавыдання дыяспары. Збіраць беларускі друк эміграцыі, артыкулы пра кнігавыдавецкую дзейнасць, укладаць яе бібліяграфію пачалі яшчэ ў Празе ў 1920-я гады: Тамаш Грыб адміністраваў Беларускі архіў (лёс якога тым часам да канца невядомы) і ствараў картатэку беларусаведы. Аднак бібліяграфічныя агляды пачалі з'яўляцца толькі пасля Другой сусветнай вайны.

Пачынальнікам тут трэба ўважаць Міколу Панькова, заснавальніка Беларускай бібліяграфічнай службы. Звесткі пра кнігадрукі збіраў таксама а. Леў Гарошка пры часопісе «Божым Шляхам». У 1952 годзе Мікола Панькоў выдаў «Паказьнік беларускіх выданьняў на эміграцыі за 1945–1950 гг.» (*New York*, 1952). Трэба сцвердзіць, што ён прадаўжаў бібліяграфічны ўлік дыяспары, але ўлучыў таксама ў картатэку і друк Беларусі. З часам укладальнік пераключыўся на стварэнне хронікі эміграцыйнага жыцця, і ў выніку ні тая, ні другая праца не былі скончаныя.




Кніга «Беларускі друк на Захадзе» Вітаўта і Зоры Кіпеляў (2006)

А ў 2006 годзе пад грыфам БІНіМа і Польскай акадэміі навук выйшла бібліяграфія Зоры і Вітаўта Кіпеляў «Беларускі друк на Захадзе» пад рэдакцыяй Лявона Юрэвіча і Юрася Гарбінскага. На сёння гэта найпаўнейшы ўлік беларускага і беларусаведнага друку на Захадзе.

Неабходна яшчэ раз падкрэсліць, што на бібліяграфію ў Інстытуце звярталася і звяртаецца асаблівая ўвага, бо яна ўважалася за асноўны ключ да беларусаведы. БІНіМ выдаў як асобныя бібліяграфіі, так і змешчаныя ў кнігах мастацкіх твораў. Да працы Вітаўта Тумаша «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны» (1989) у 1995 годзе ў Менску быў выдадзены працяг: «Францыск Скарына: жыццё і дзейнасць; паказальнік літаратуры; дадаткі за 1530–1988, 1989–1993 гады», які ўклалі Валянціна Грышкевіч і Лявон Юрэвіч.

У БІНіМе была заснаваная кніжная серыя «Беларускія пісьменьнікі і паэты на эміграцыі», у якой выйшлі зборнікі Наталлі Арсенневай, Міхася Кавыля, Аляксандры Саковіч, Алеся Салаўя. Гэтая серыя моцна актывізавалася, калі на пачатку 1990-х у Нью-Ёрк прыехала Алена Юрэвіч з мужам і сынам. Яе ведалі па мовазнаўчых і бібліяграфічных працах: падручніках па стылістыцы беларускай мовы, манаграфіі «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (1967–1968), напісанай у суаўтарстве, першай біяграфіі рэпрэсаванага выбітнага мовазнаўцы П. Бузука (1969).

Спадарыня Юрэвіч пры спатканні сказала: *«Мы яшчэ бадай не распакаваліся, усё на пачаканні, не ведаем, што і як далей будзе, дый не маладыя ўжо. Але ад беларускай працы ніколі не ўхіляліся»*. І гэтак, з карабля на бал, Юрэвічы ўзяліся за



Алена Юрэвіч і Зора Кіпель. Нью-Ёрк, 1995

працу. У серыі «Беларускія паэты й пісьменнікі» пачалі выходзіць адзін па адным зборнікі Уладзіміра Дудзіцкага, Міколы Цэлеша, Антона Адамовіча — сапраўды волатаўская праца, якая была зробленая гэтай сям'ёю. Прычым, трэба падкрэсліць, праца была не толькі з літаратураю: да Алены Юрэвіч званілі Зора Кіпель, Янка Запруднік з пытаннямі, што паўставалі ў іх падчас працы над англа-беларускім слоўнікам.

Алена Юрэвіч з сям'ёй былі першыя, хто стаў апрацоўваць і зрабіў паказнік-картатэку матэрыялаў газетаў «Бацькаўшчына» і «Беларус». Кожнаму вядома, што гэтыя газеты — жыццё, дзейнасць і светапогляд беларускай эміграцыі па Другой сусветнай вайне. Аднак матэрыял у газетах не да ўжытку, калі няма паказніка. Ён — ключ да карыстання. Цяпер Лявон Юрэвіч працягвае апрацоўваць паказнік, асобныя часткі гэтай вялікай працы ўжо выдрукаваныя[21].

Спадарыня Ларыса Доўнар у некралогу выказала такі погляд: *«Хочацца думаць, што і для Алены Юрэвіч удзел у такой працы (эміграцкі друк, бібліяграфія. —* В. К.*) быў крокам набліжэння да адной са сваіх мараў, народжаных у часе бібліяграфавання матэрыялаў беларускага мовазнаўства — з'яўлення поўнай навуковай бібліяграфіі беларусазнаўчай айчыннай і замежнай літаратуры»*. І далей Ларыса Доўнар сцвердзіла, *«што гэтая праца яшчэ наперадзе»*.

Дазволім сабе працягнуць і пашырыць думку: Алена Юрэвіч у гэтай справе была піянерам, менавіта яна зрабіла першыя крокі. Гэта гонар, што БІНіМ меў такога супрацоўніка.

Памяці Алены Юрэвіч мы прысвяцілі 31-ы том «Запісаў БІНіМ» (2008), а ейны вучань Юрась Гарбінскі памяці Алены Юрэвіч і Зоры Кіпель прысвяціў сваю працу «Беларускі рэлігійны друк на Захадзе (1945–2005 гг.)» (2009).

Сын сп-ні Алены Лявон Юрэвіч — адзін з найбольш актыўных сябраў БІНіМа. Ён зрабіў бадай унікальную творча-даследчую кар'еру. Пасля згаданых вышэй зборнікаў Уладзіміра Дудзіцкага, Міколы Цэлеша і іншых убачылі свет укладзеныя ім «Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі» Юркі Віцьбіча (Нью-Ёрк, 1996) ды падрыхтаваная да друку кніга Барыса Рагулі «Беларускае студэнцтва на чужыне» (Лондан (Канада) — Нью-Ёрк, 1996). Пяць кніг цягам трох гадоў! І штогод выдаваць нават па некалькі для яго робіцца звычайнай справай. А гэта — нягледзячы на тое што адначасова ён піша артыкулы для газеты «Беларус», альманаха «Запісы БІНіМ» і бярэ ўдзел у рэдагаванні абодвух выданняў.

21 Юрэвіч, Л. Жанры...





На прэзентацыі збору твораў Уладзіміра Дудзіцкага «Напярэймы жаданьням»: Вітаўт Кіпель, Алена Юрэвіч, Лявон Юрэвіч. Нью-Ёрк, 1994 г.

Ужо просты храналагічны пералік падрыхтаванага і выдадзенага Лявонам Юрэвічам уласна або пры ягоным удзеле сапраўды ўражвае:

1997 — «Архіўная кніга» (Нью-Ёрк);

1998 — «Беларусізацыя пад №» Лявона Савёнка (Крывічаніна) (Нью-Ёрк);

1999 — «Жыцьцё пад агнём: Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі» (Менск); «Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы» (Менск); «Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі» (Нью-Ёрк);

2001 — «Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу Беларускай моладзі» (Менск); «Хроніка беларускага жыцьця на чужыне 1945–1984» Міколы Панькова (Менск);

2002 — «Літаратурны рух на эміграцыі» (Менск);

2003 — «Творы» Антона Адамовіча (Нью-Ёрк); «Беларускі і беларусаведны друк на Захадзе: асобныя выданьні. Бібліяграфія» Зоры і Вітаўта Кіпеляў (Нью-Ёрк);

2004 — «Belarusian Publications in the West: bibliography [Periodicals]» Зоры і Вітаўта Кіпеляў (New York);

2005 — «Мэмуары на эміграцыі» (Менск); «Эквівалент: зборнік эміграцыйнай гістарычнай прозы» (Менск);

2006 — «Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў «Бацькаўшчына» й «Беларус» (1947–2000)» (Менск); «Каханы горад: зборнік эміграцыйнае ваеннае прозы» (Менск); «Belarusian publishing in the West: a bibliography» Зоры і Вітаўта Кіпеляў (перавыданне, New York — Warsaw);

2007 — «Адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост» (Менск); «Урачыстасьць у садзе: драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя» (Менск); «Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі» Юркі Віцьбіча (перавыданне, Смаленск);

2010 — «Творы» Уладзіміра Дудзіцкага (Менск);

2011 — «Успаміны пасла» Аляксандра Стагановіча (Менск); «Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза» Юркі Віцьбіча (Менск);

2012 — «Шматгалосы эпісталярыюм» (Менск); «Творы» Лявона Савёнка (Крывічаніна) (разам з Ц. Чарнякевічам, Менск); «Паэзія» Янкі Юхнаўца (Менск); «Дзёньнік» Дзмітрыя Сямёнава (Менск);

2013 — «Жанры» (Менск); «Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы» (сумесна з Н. Гардзіенкай, Менск); «Эпізоды» Яўхіма Кіпеля (перавыданне, Менск); «Маё мястэчка» Васіля Стомы (Менск);

2014 — «Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы» (сумесна з Н. Гардзіенкай, Менск);

2015 — «Відымусы» (Менск); «Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія» (Менск); «Рада БНР (1982–1997): Падзеі. Дакументы. Асобы» (сумесна з Н. Гардзіенкай, Менск);

2016 — «Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны (Да 90-годдзя Янкі Запрудніка)» (сумесна з Н. Гардзіенкай, Менск);

2017 — «Літштудыі» (Менск); «Выбранае» Тамаша Грыба і «Выбранае» Уладзіміра Самойлы (абедзве сумесна з Н. Гардзіенкай, Менск); «Хронікі БІНіМу» (сумесна з Н. Гардзіенкай, Менск);

2018 — «Масей Сяднёў: Pro et Contra» (Менск); «Як укладалі “Спадчыну”» (сумесна з Н. Гардзіенкай, Менск);

2019 — «Газеты “Бацькаўшчына” і “Беларус”. Выбранае» і «Зора Кіпель» (абедзве сумесна з Н. Гардзіенкай, Менск).



Лявон Юрэвіч  і Янка Юхнавец. 1999 г.

Згадзіцеся, такі працоўны спіс не часта бывае і ў васьмідзясятнікаў! Пры тым, што гэта праца «для душы», а на хлеб штодзённы ў нашым амерыканскім свеце Лявон Юрэвіч зарабляе ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, дзе працуе архівістам.

Каб быў паэтам, напісаў бы ў рыфму падзяку, але паколькі не паэт, скажу слова «дзякуй» ад глыбіні працоўнай беларускай душы.

Ды Лявон Юрэвіч не толькі піша новыя кнігі, ён дзейны ў папулярызацыі інфармацыі пра інтэлектуальную дзейнасць эміграцыі на Бацькаўшчыне. Вось адзін з прыкладаў:

*У Менску пад грыфам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выйшаў нядаўна зборнік матэрыялаў, загалоўлены «Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры: гісторыя і сучаснасць» (2011. 346 с.).*

*У зборніку некалькі тэматычных раздзелаў: скарыназнаўства, кніжная культура Беларусі і т. п. [...] Іншым матэрыялам, вельмі важным для вывучэння дзейнасці беларускае эміграцыі ў Заходнім свеце ёсць упершыню надрукаваны агляд Лявонам Юрэвічам апрацаванае калекцыі, каля 400 назваў, беларускіх эміграцыйных перыёдыкаў у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, перададзеных туды ў 1999 годзе Вітаўтам і Зорай Кіпелямі.*



*У гэтым матэрыяле Лявон Юрэвіч падае як назву перыёдыка (у адным алфавіце кірыліца і лацінка), а гэтаксама скрыню і шыфр, пад якім дадзены перыёдык закаталагізаваны, і ягонае месцазнаходжанне. Гэткім парадкам беларуская эміграцыйная перыёдыка становіцца даступнаю для вельмі шырокага кола даследчыкаў.*

Дзейна далучыўся да працы БІНіМа новы эмігрант спадар Ванкарэм Нікіфаровіч з Чыкага. Народжаны ў Менску, закончыў там БДУ, займаў розныя пасады ў выдавецтве і на тэлебачанні БССР ды апублікаваў шэраг працаў пра літаратурныя сувязі. Выехаўшы ў ЗША, Нікіфаровіч апрацаваў зборнік драматычных твораў, напісаных на эміграцыі, выдрукаваў у амерыканскай энцыклапедыі артыкул пра беларускае тэатральнае мастацтва.

Што надзвычай важна ў працы БІНіМа за апошнія 15–20 гадоў — гэта далучэнне маладзейшых сяброў з Беларусі. Выдавецкая дзейнасць цалкам арганізавана і трымаецца на прадстаўніцы Інстытута ў Менску Наталлі Гардзіенцы, галоўным рэдактары «Запісаў БІНіМ». Дзейныя і прадуктыўныя Алег Гардзіенка, Сяргей Шупа. Да самай сваёй заўчаснай смерці актыўна супрацоўнічаў з інстытутам Зміцер Саўка. Разам з Вітаўтам Кіпелем ён уклаў і выдаў абсалютна новую для беларусаведы працу «Беларускія слоўнікі і энцыкляпэдыі: бібліяграфія» (2001), падрыхтаваў да друку ўспаміны Яўхіма Кіпеля, Васіля Стомы, Адама Варлыгі, напісаў працу пра Беларуска-амерыканскае задзіночанне, якая пабачыла свет у 2019 годзе.




Вокладка кнігі Змітра Саўкі «Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы» (Менск, 2019)

16 чэрвеня 2014 года на базе Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва ў Менску была заснаваная навукова-творчая ініцыятыва *«Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа»* — архіўная кансультацыйная і даследчая структура, прызначаная спрыяць выяўленню, захаванню, апісанню, вывучэнню і папулярызацыі дакументальнай спадчыны беларускага замежжа. Гэтую ўстанову ачоліла знаны спецыяліст па гісторыі эміграцыі, аўтарка некалькіх важных манаграфій тая самая Наталля Гардзіенка, якая цяпер працуе намесніцай дырэктара архіва-музея.

*Стварэнне Цэнтра звязана з неабходнасцю сістэматычнага збірання дакументаў, друкаў, артэфактаў, што ствараліся і ствараюцца беларусамі за межамі метраполіі. Калі раней функцыі такога збірання ў пэўнай ступені выконвалі эміграцыйныя ўстановы на Захадзе, як, прыкладам, Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лондане або Цэнтр Ф. Скарыны ў Менску, дык цяпер, з пашырэннем геаграфіі беларускіх дыяспараў, сістэматычнага мэтанакіраванага збірання даробку замежных суайчыннікаў не вядзецца. У выніку каштоўная частка беларускай культурнай спадчыны губляецца для сучасных і будучых даследчыкаў.*

*На працягу апошніх дзесяцігоддзяў у БДАМЛМ ужо ішло паступовае збіранне замежнай беларусікі. Свае архіўныя зборы сюды перадалі Масей Сяднёў, Алесь Алехнік, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель. У красавіку 2014 г. у архіў была перададзеная вялікая калекцыя дакументаў БІНіМа. Такім чынам, настаўлены Цэнтр мае добрую базу для сваёй дзейнасці.*

*Асноўнымі задачамі Цэнтра з'яўляюцца:*

*1. Выяўленне беларускіх дакументаў у замежных архівах, музеях і бібліятэках, зборах арганізацый беларускага замежжа, а таксама прыватных асобаў.*

*2. Арганізацыя камплектавання і стварэнне архіўных фондаў беларускіх грамадска-культурных арганізацый замежжа і дзечаў беларускіх дыяспараў у складзе Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.*

*3. Навуковае апісанне дакументальнай спадчыны беларускага замежжа ў межах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.*

*4. Садзейнічанне захаванню дакументальнай спадчыны беларускага замежжа.*

*5. Спрыянне навуковаму вывучэнню дакументальнай спадчыны беларускага замежжа.*

*6. Папулярызацыя ведаў пра дзейнасць беларускіх арганізацый за мяжой, выдатных асобаў беларускага паходжання ў беларускім грамадстве.*

*Сёння надзвычай важным ёсць збіранне дакументаў і друкаў дзейных арганізацый і суполак, а таксама захаванне архіваў дзеячаў далёкага і блізкага замежжа. Таму Цэнтр запрашае да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых асобаў і арганізацыі як за мяжой, гэтак і ў Беларусі, каб не даць знікнуць багатай спадчыне беларускага замежжа*[22].



Наталля Гардзіенка перадае дырэктару Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганне Запартыцы аўтографы Янкі Купалы, якія захоўваліся ў БІНіМе. Кастрычнік 2014 г.

У выніку супрацоўніцтва гэтага цэнтра з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва і паасобнымі амерыканскімі беларусамі ў Менск былі перададзеныя сотні дакументаў па гісторыі і культуры беларускай эміграцыі, а таксама некаторыя

[22] Пра Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа гл. тут: http://bdamlm.by/centr-kamplektavannya-i-vyvuchennya-dakumentalnay-spadchyny-belaruskaga-zamezhzha.



каштоўныя рарытэты, прыкладам аўтографы Янкі Купалы і Уладзіміра Жылкі, альбомы фотаздымкаў Віленскай беларускай гімназіі і інш. Згаданыя дакументы цяпер даступныя беларускім даследчыкам, выкарыстоўваюцца на выставах, пры падрыхтоўцы публікацый.

Іншы цэнтр — Цэнтр беларускіх даследаванняў пры Паўднёва-заходнім каледжы (*Southwestern college*) у Канзасе — быў арганізаваны ў 2006 годзе. Ініцыятарам стварэння стаў былы першы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц. На выканаўчага дырэктара цэнтра была пакліканая праф. Марыя-Паўла Сурвілла[23], дачка старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, а сп. Андрэй Шэпард з'яўляўся адміністратарам каледжа. Як зазначаў у шматлікіх інтэрв'ю сп. Дэвід Суорц, асноўнай задачай цэнтра ёсць:

*Адраджэнне беларускай нацыі праз вышэйшую адукацыю. Плануецца, што Цэнтр стане вядучым асяродкам беларускіх даследаванняў у ЗША, дзе будуць збірацца даследчыкі, студэнты, прадстаўнікі беларускай дыяспары, а таксама прадстаўнікі дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, універсітэтаў, бібліятэк, урадаў і ўсе тыя, хто адданы справе пабудовы дэмакратычнай Беларусі. Цэнтр будзе падтрымліваць навуковыя даследаванні і іншую дзейнасць на карысць Беларусі.*

Пры цэнтры былі створаныя беларуская бібліятэка і архіў. Тут слухалі лекцыі і рабілі стажыроўкі каля паўтузіна студэнтаў з Беларусі і амаль усе з іх вярнуліся на Бацькаўшчыну на выкладчыцкія працы. Цэнтр разам з Беларускім гістарычным таварыствам (Беласток) стаў заснавальнікам летніх курсаў беларускай мовы і культуры на Беласточчыне ў Гайнаўцы. Аднак ў 2017 годзе пасля змены кіраўніцтва Паўднёва-Заходняга каледжа дзейнасць цэнтра прыпынілася.

Цяпер пра кніжныя прэзентацыі. Прэзентацыі кніжак у БІНіМе — традыцыя. Найчасцей прэзентавалі кнігі сябры інстытута — Уладзімір Сядура, Янка Юхнавец, Гіпаліт Паланевіч, але былі і прэзентацыі гасцей: Шчэпан Зымер з Каліфарнійскага ўніверсітэта аб Фіёлі і ўгодках кірылічнага друку ў Кракаве; Майкл Урбан з універсітэта Арызоны аб эліце БССР, Патрыцыя Грымстэд-Кенэды з Гарварда аб архівах БССР; прэзентаваў свае публікацыі і праф. Томас Бэрд з Квінсаўскага каледжа Нью-Ёрка. У часе прэзентацыі «Беларускага Трышчана» былі госці з Ратгерса і з выдавецтва, а на прэзентацыі кнігі



Пасяджэнне БІНіМа: Томас Бэрд, Зора Кіпель, Вера Рыч. Нью-Ёрк, 1990 г.

[23] Марыя Паўла Сурвілла памерла 25 красавіка 2020 года.

*«The image of the Jew in Soviet literature»*, адным з аўтараў якой была Вера Рыч, прысутнічалі прадстаўнікі выдавецтва *KTAV* (Інстытут яўрэйскіх даследаванняў).

Паступова прэзентацыі для вузкага кола слухачоў ператварыліся ў шырокія імпрэзы. У БІНіМе першай вялікай імпрэзай была прэзентацыя кнігі Міхася Кавыля «Міжагнёўе» (1990), якая адбылася ў Саўт-Рыверы на пачатку 1991 года, калі сабраліся больш як сотня асобаў.

Натуральна, усіх прэзентацый не згадаеш і не апішаш, толькі больш памятныя. Як, прыкладам, напрыканцы 1999 года давялося прэзентаваць у Нью-Джэрсійскім гістарычным таварыстве *«Belarusians in USA»*, якую мы параўноўвалі з беларускамоўнай «Беларусы ў ЗША». Аўдыторыя была немалая, асобаў 80, і хутка прысутныя зразумелі: праблема ідэнтыфікацыі беларусаў у нашай краіне — заблытаная. Была дыскусія. Выглядае, што мэты прэзентацыя дасягнула: хай і невялікай грамадзе, але пра беларусаў і іхную спадчыну ў Амерыцы было расказана.

Прэзентацыі адбываліся ў розных мясцінах, у тым ліку і ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, хоць яна, трэба прызнаць, рэдка іх ладзіць: забагата ахвотнікаў.

У ганаровай зале бібліятэкі на 42-й вуліцы на Манхэтэне 28 чэрвеня 2004 года адбылася прэзентацыя дзвюх кніг па беларускай бібліяграфіі, складзеных Вітаўтам і Зораю Кіпелямі. У цырымоніі ўзялі ўдзел прадстаўнікі беларускай грамады Амерыкі, супрацоўнікі Славянскага і балтыйскага аддзела бібліятэкі, Норман Рос — уласнік выдавецтва, што надрукавала адну з прэзентаваных кніг, і прадстаўнікі трох пакаленняў сям'і Кіпеляў. Кіраваў імпрэзаю прафесар Куінс-каледжа Томас Бэрд. Напачатку прысутныя ўшанавалі памяць Зоры Кіпель, якая не дажыла да выхаду ў свет плёну сваёй сумеснай шматгадовай працы з Вітаўтам Кіпелем. Праф. Томас Бэрд у сваёй прадмове адзначыў унёсак Зоры Кіпель у даследаванне і развіццё беларускай культуры.

*Зора Кіпель пакінула след у шэрагу беларусаведных дысцыплінаў, стала аўтарам і сааўтарам многіх кнігаў і артыкулаў. Як супрацоўнік Славянскага і балтыйскага аддзела, яна заўсёды ахвотна дапамагала навукоўцам з Беларусі і ўсім зацікаўленым у беларусаведзе. Кнігі, што прэзентуюцца сёння, — «Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе. Асобныя выданьні» і «Беларускі друк на Захадзе. Пэрыёдыкі» — гэта годны вынік ахвярнай працы на карысць беларускай культуры*[24].



Янка Запруднік і Лявон Юрэвіч

Пасля выступалі д-р Ян Запруднік, які зрабіў агляд навуковай і грамадскай дзейнасці Зоры Кіпель, а сп. Віталь Зайка, які сказаў:

*Я пазнаёміўся з Кіпелямі ў 1990 годзе. Фактычна, у некаторых галінах яны болей зрабілі ўдваіх для беларускага слова, чым цэлыя акадэмічныя інстытуты і дзяржаўныя структуры з сотнямі супрацоўнікаў, што ў апошнія 10 гадоў працуюць на занепад і спрыяюць стагнацыі беларускай культуры на Бацькаўшчыне*[25].

[24] Беларус. Нью-Ёрк. 2004. № 499.



Затым Лявон Юрэвіч сказаў прачуленыя словы пра Зору Кіпель па-беларуску (папярэднія прамовы былі па-ангельску):

*У Нью-Ёркаўскую публічную бібліятэку мяне прывяла ў траўні 1993 года спадарыня Зора. Вучыла хадзіць амерыканскімі калідорамі, знаёміла з светам беларускай эміграцыі, уцягвала ў разнастайныя справы, у рэдагаванне газеты, у працу з кнігамі. Яна была не надта шчодраю на ўхвалы ды кампліменты. Але тая вонкавая суворасць раз-пораз вылівалася — або ў дарчы надпіс на Трышчанавым перакладзе («Маладому сябру»), або ў княскі падарунак, які пасля ейнага пахавання прынёс сп. Вітаўт са словамі: «Зора хацела, каб кніга была ў цябе». То была «Крыўская кніга» Вацлава Ластоўскага*[26].

Лявон Юрэвіч з'яўляецца ўкладальнікам бібліяграфіі Зоры Кіпель, што была надрукаваная ў 27-м томе «Запісаў БІНіМ» і налічвае разам 113 пазіцый.

У канцы імпрэзы слова ўзяў загадчык Славянскага і балтыйскага аддзела сп. Эдвард Казінец, які падзяліўся ўспамінамі пра сумесную працу з Зорай Кіпель і адзначыў, што дзякуючы сям'і Кіпеляў Бібліятэка зрабілася найбагацейшым дэпазіторыям беларускай кнігі ў Амерыцы. Памяці Зоры Кіпель ў Бібліятэцы была арганізавана выстава[27].




Вокладка кнігі, прысвечанай Зоры Кіпель (Менск, 2019)

Ад 1990-х гадоў прэзентацыі выдадзеных Беларускім інстытутам навукі і мастацтва кніг сталі ладзіцца і ў Беларусі. Першая была арганізавана 7 чэрвеня 1993 года ў канферэнц-зале Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, калі публіцы была прадстаўленая праца Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША»[28]. А ў верасні 1995 года ў менскім Доме пісьменніка адбылася прэзентацыя кніг серыі «Беларускія паэты і пісьменнікі», выдадзеных БІНіМам: Наталлі Арсенневай «Між берагамі», Алеся Салаўя «Нятускная краса», Аляксандры Саковіч «У пошуках праўды», Міхася Кавыля «Міжагнёўе», Уладзіміра Дудзіцкага «Напярэймы жаданьням», Міколы Цэлеша «Хмары над Бацькаўшчынай» [29]. Вялікую колькасць удзельнікаў сабрала ў 2003 годзе прэзентацыя ў Менску працы Вітаўта і Зоры Кіпеляў «Беларускі друк на Захадзе». І надалей, калі ў кнігавыдавецкай дзейнасці БІНіМ стаў усё больш супрацоўнічаць з менскімі арганізацыямі і выдавецтвамі, прэзентацыі такіх сумесных выданняў сталі з'явай рэгулярнай. Асабліва плённае ўзаемадзеянне ў гэтай справе наладжана з Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына».

[25] Беларус. Нью-Ёрк. 2004. № 499.
[26] Беларус. Нью-Ёрк. 2004. № 499.
[27] Беларус. Нью-Ёрк. 2003. № 486; Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. 2003. № 3 (110).
[28] Голас Радзімы. Менск. 15 ліпеня 1993.
[29] Наша слова. Менск. 1995. № 40.



Прэзентацыя БІНіМаўскіх кніг у Менску. У прэзідыуме сядзяць Вітаўт і Зора Кіпелі, Кастусь Цвірка. 1995 г.

Варта адзначыць, што ў ЗША адбываюцца прэзентацыі кніг з беларускім зместам не толькі БІНіМа, але і іншых выдавецтваў. Прыкладам, кніга Джоан Станкевіч *«Living with a scent of danger: European adventures at the fall of communism»*[30] прэзентавалася і ў Нью-Ёрку, і ў Нью-Джэрсі, і ў іншых мясцовасцях ЗША, а таксама ў Еўропе. Гэта ўспаміны амерыканкі, што каля 50 гадоў у шлюбе з беларусам Вячкам Станкевічам. Яны распавядаюць пра ўдзел аўтаркі ў беларускасці, сямейных, бізнесовых ды іншых дачыненнях ды пра «пах небяспекі» ў часе, калі Вячка Станкевіч быў кіраўніком беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода» і даводзілася падарожнічаць па краінах за жалезнай заслонай[31]. Цягам апошніх дзесяцігоддзяў рэгулярна прэзентуюць свае кнігі беларуска-амерыканскай публіцы Зянон Пазняк, Ганна Сурмач, Янка Запруднік і іншыя аўтары.



Прэзентацыя кнігі Янкі Запрудніка «Берагу майго зарніцы» ў Гайленд-Парку: рэдактар Валянціна Трыгубовіч (сядзіць) і аўтар Янка Запруднік (стаіць). 2017 г.

Выставы беларускіх друкаваных ды іншых матэрыялаў праводзіліся таксама ў Кліўлендскай публічнай бібліятэцы, Чыкагскай публічнай бібліятэцы, Бібліятэцы Кангрэса, бібліятэцы ўніверсітэта Ратгерс (штат Нью-Джэрсі), бібліятэцы Квінс-каледжа Гарадскога ўніверсітэта ў Нью-Ёрку, бібліятэцы Стэнфардскага ўніверсітэта ды меншых бібліятэках, як, прыкладам, у публічных бібліятэках у Пасейку і Ньюарку (штат Нью-Джэрсі)[32].

[30] Stankievich, J. I. Living with a scent of danger: European adventures at the fall of communism: memoir. Denver (CO), 2013. — 244 p.

[31] Беларус. Нью-Ёрк. 2013. № 597.

[32] Папка «Унівэрсытэцкія бібліятэкі» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



У нацыянальных медыцынскіх, сельскагаспадарскіх бібліятэках знаходзяцца вялікія калекцыі матэрыялаў, што паходзяць з беларускіх установаў адпаведнага профілю.

Некаторыя амерыканскія ўстановы маюць багатыя архівы беларускіх матэрыялаў. Прыкладам, ва ўніверсітэце штата Масачусэтс у Амхэрсце захоўваецца каштоўны і багаты архіў вядомага польскага сацыёлага Юзэфа Абрэмскага, які прысвяціў значную частку свайго жыцця вывучэнню побыту і звычаяў беларускіх сялянаў Палесся. Этнаграфічныя матэрыялы, сабраныя Юзэфам Абрэмскім, знаходзяцца ў Амхэрсце і часткова вывучаліся польскай даследчыцай Аннай Энгелькінг[33]. Гэты архіў заслугоўвае далейшага даследавання[34]. Некаторыя матэрыялы, што маюць дачыненне да Беларусі і беларускае іміграцыі, захоўваюцца ў Нацыянальным архіве ў Вашынгтоне, у Цэнтры даследаванняў гісторыі іміграцыі ва ўніверсітэце штата Мінесота, у Інстытуце Гувера ў Стэнфардзе, штат Каліфорнія.

Вялікая і важная калекцыя здымкаў Палесся, зробленых амерыканскай даследчыцай Луізай Бойд, захоўваецца ва ўніверсітэце штата Вісконсін у горадзе Мілуокі. Калекцыя засігналізаваная і апублікаваны каталог Лявонам Юрэвічам[35].

Нягледзячы на шматлікія намаганні амерыканскіх бібліятэк, універсітэтаў і архіваў сабраць этнічныя архіўныя матэрыялы дзеля захавання іх у публічных установах, большасць этнічных архіўных збораў (ды ў меншай ступені друкаваных матэрыялаў) знаходзіцца ў этнічных асяродках, парафіях, цэнтрах, нацыянальных дамах і г. д.

Праўда, ёсць зрухі і ў вельмі станоўчым кірунку і ў гэтай дзялянцы. У вялікім архіве, знаным як Цэнтр даследаванняў гісторыі іміграцыі (*Immigration History Research Center, IHRC*), пры ўніверсітэце штата Мінесота, горад Мінеапаліс, дзе ёсць нямала беларускіх архіўных матэрыялаў, ад 2010 года пачалася каталагізацыя, увод тых дакументаў у камп'ютарную форму. Дасюль упарадкаваныя архівы д-ра Раісы Жук-Грышкевіч, д-ра Вітаўта Кіпеля, сп. Васіля Пунтуса, архівы Пануцэвічаў-Будзькаў, д-ра Мітрафана Смаршчка і інш. Справу вёў а. Ігар Лабацэвіч, тагачасны супрацоўнік архіва.

У шмат якіх беларускіх асяродках, парафіях ды нават у некаторых сем'ях захоўваюцца значныя зборы беларускіх дакументаў, кніг і перыядычных выданняў. Таму даследчыкі беларусаведы ў Злучаных Штатах не павінны ігнараваць этнічныя асяродкі ў працэсе пошукаў дакументальнае і архіўнае інфармацыі.

На працягу XX стагоддзя беларуская тэма стала паступова распрацоўвацца ў амерыканскіх каледжах, універсітэтах. Так, у 1950-я гады беларускія даследаванні з'явіліся ў Чыкагскім універсітэце. У 1955 годзе ўбачыла свет праца *«Aspects of contemporary Byelorussia»*, падрыхтаваная ў гэтай навучальнай установе[36]. У 1956 годзе ў Гарвардзе была выдадзеная кніга Нікаласа Вакара *«Belorussia. The making of*

[33] Engelking, A. Prace Poleskie Józefa Obrębskiego (1934–1945). Edycja Spuścizny Archiwalnej Etnosocjologa // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе: Зборнік да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса. Мінск: Лімарыус, 2007. С. 372–378.

[34] Index to Obrebski's archives. Univ. of Mass. Amherst (Mass.); Obrębski, J. Dzisiejsi ludzi Polesia. Warszawa, 1936; Obrębski, J., Halpern, J., Halpern, B. The Changing Peasantry of Eastern Europe. Cambridge (MA), 1976; Yesterday's People: Peasants of Polesie: An exhibition of photographs of rural eastern Poland of the 1930's. Oct. 3 to Oct. 14, 1973. Univ. of Mass. Amherst, [1973?].

[35] Запісы БІНіМ, № 36, Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 132–162.

[36] Aspects of contemporary Byelorussia / Prepared at the University of Chicago; Faculty Committee: Bert F. Hoselitz, Chauncy D. Harris, George B. Carson; Director: Abraham A. Hurwicz; Assistant-

*a Nation. A case study»* — манаграфія, якая доўгі час была англамоўным даведнікам па гісторыі Беларусі[37]. Праз некалькі гадоў пад рэдакцыяй амерыканска-украінскага даследчыка Юрыя Шавялёва выйшла грунтоўная бібліяграфія *«A reader in the history of the eastern Slavic languages: Russian, Belorussian, Ukrainian»*[38]. У 1960-я Чарльз Бідвэл працай *«Outline of Bielorussian morphology»* распачаў выданне беларускіх моўных дапаможнікаў[39]. Пазней распрацоўвалася беларуская тэматыка ў Нью-Ёркскім і Індыянскім універсітэтах (Янка Запруднік, Іван Любачка), а таксама ў Ратгерсе, Кліўлендскім універсітэце, універсітэце Арызоны і іншых. У Вартбургскім каледжы, штат Аёва, шмат увагі беларускім даследаванням прысвяціла д-р Марыя-Паўла Сурвілла, прафесар гэтае ўстановы. Даследаванні беларускіх тэмаў сталі адбывацца і ў вядомай *The Jamestown Foundation, Washington, D.C.,* і ў *Kennan Institute*, дзе з дакладамі выступалі Грыгоры Іофэ, Алег Манаеў, Дэвід Суорц, Анатоль Міхайлаў і іншыя. Традыцыя беларусаведных даследаванняў у вышэйшых навучальных установах ЗША працягваецца і ў апошнія дзесяцігоддзі. Можна згадаць абароненыя дысертацыі Віталя Сіліцкага, Таццяны Кулакевіч і інш.

Амерыканскія каледжы і ўніверсітэты прыкладаюць нямала намаганняў для захавання і папулярызацыі этнічнае спадчыны ў Амерыцы, ладзячы перыядычныя выставы ды арганізуючы фестывалі этнічнае культуры. Беларусы бяруць актыўны ўдзел у шмат якіх праграмах і трымаюць лучнасць з дзясяткамі ўстановаў. У гэтых праграмах важнае тое, што этнічныя групы дзейна супрацоўнічаюць між сабою ды забяспечваюць высокі акадэмічны ўзровень такіх выставаў і лекцый.

Прыкладаў гэтаму шмат. Мастацкі цэнтр Роберсана ў Бінгемтане, штат Нью-Ёрк, арганізуючы беларускі раздзел выставы народных тканінаў у лютым 1981 года, захацеў узбагаціць яго каштоўнымі гістарычнымі матэрыяламі. Арганізатары пазычылі ў музеях горада Бафала, штат Нью-Ёрк, ды Вашынгтона два славутыя слуцкія паясы канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя. Цэнтр Роберсана быў першаю амерыканскаю ўстановаю, якая дэманстравала на выставе слуцкія паясы[40]. Другая дэманстрацыя слуцкіх паясоў адбылася падчас Беларускага сімпозіума і выставы ва ўніверсітэце Ратгерс у красавіку — траўні 1983 года, калі кіраўніцтва Мастацкага музея Джэйн Ворхіс Зымерлі выставіла для агляду цікавую калекцыю слуцкіх паясоў ды вырабы беларускіх умельцаў у ЗША[41].

Фестывалі і выставы, ладжаныя амерыканскімі каледжамі і ўніверсітэтамі, карыстаюцца вялікаю папулярнасцю сярод шырокае публікі ды этнічных групаў. Такія імпрэзы звычайна збіраюць вялікую аўдыторыю ды істотна спрыяюць збліжэнню паміж этнічнымі групамі і навуковымі коламі.

Editor: Philip L. Wagner. New Haven (Connecticut): Human Relations Area Files, Inc., 1955. XI + 389 p., 7 maps.

[37] Vakar, Nicholas P. Belorussia. The making of a Nation. A case study. Cambridge (MA): Harvard University Press, 1956. 297 p.

[38] A reader in the history of the eastern Slavic languages: Russian, Belorussian, Ukrainian. New York — London: Columbia University Press, 1958. 81 p.

[39] Bidwell, Charles E. Outline of Bielorussian morphology. Pittsburgh: International Dimensions Program, the Academic Disciplines University of Pittsburgh, 1967. 48 p.

[40] Папка «Бінгемтан» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Беларус. Нью-Ёрк. 1981. № 287.

[41] Папка «Rutgers University» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN); Беларус. Нью-Ёрк. 1983. № 310.





Адкрыццё беларускай мастацкай выставы ва ўніверсітэце Віланова (Пенсільванія)

За апошнія 10—15 гадоў беларускія групы бралі ўдзел у дзясятках фестываляў, кірмашоў, аглядаў і выставаў, арганізаваных шматлікімі каледжамі і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. Беларусы ўдзельнічалі ў фестывалях у Філадэльфіі, Бостане, Чыкага, штаце Вірджынія, штаце Канектыкут, гарадах Вашынгтон, Атланта, Кліўленд, некалькіх мясцовасцях у штаце Флорыда і, натуральна, у горадзе Нью-Ёрку і некалькіх мясцовасцях у штаце Нью-Джэрсі.

Трэба падкрэсліць і тое, што ў горадзе Філадэльфіі, фактычна гістарычным цэнтры — калысцы дзяржавы ЗША, апрача этнічных фестываляў, палітычных юбілеяў і падобнага праходзіць шмат і навуковых канферэнцый, улучна з славяназнаўчымі. На кніжных выставах, якія суправаджаюць канферэнцыі, ладзяцца выставы беларускай новай кнігі, як, прыкладам, у 2015 годзе[42].

Падобнае супрацоўніцтва з этнічнымі групамі і прапаганду этнічнае спадчыны, праўда ў іншых маштабах, праводзяць шмат дзе амерыканскія сярэднія школы. Яны запрашаюць лектараў, мясцовых рамеснікаў ці настаўнікаў танца, арганізоўваюць канцэрты і выставы. Школы ўлучыліся таксама ў праграму дапамогі ахвярам Чарнобыльскае катастрофы.

Удзельнічаюць беларусы і ў этнічных праграмах і выставах, якія арганізоўваюць іншыя амерыканскія ўстановы і арганізацыі, як, прыкладам, Музей бойскаўтаў або Канстытуцыйная зала дачок амерыканскае рэвалюцыі ў Вашынгтоне, штатны музей горада Ньюарк (Нью-Джэрсі), музей горада Скрэнтан (Пенсільванія)[43].

[42] Belarus Digest. 14.12.2015.

[43] Папка «Беларусіка» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN). Гл. таксама: Беларус. Нью-Ёрк. 1973. № 190; 1981. № 287; Голас Радзімы. Мінск. 1990. 9 жн.

# САЦЫЯЛЬНЫ ПАРТРЭТ АМЕРЫКАНСКІХ БЕЛАРУСАЎ

Бурлівыя гістарычныя падзеі, якія вымусілі беларусаў эміграваць, стварылі таксама велізарныя цяжкасці для даследавання беларускае дыяспары. Архівы Бацькаўшчыны былі недаступныя для вывучэння, памылковая і недакладная тэрміналогія, асіміляцыя беларусаў суседнімі культурамі, убогасць і без таго перакручанае афіцыйнае статыстыкі — вось толькі некаторыя перашкоды, з якімі сутыкаюцца даследчыкі і навукоўцы.

На першы погляд, можа здацца, што беларуская спадчына ў Злучаных Штатах — рэч назаўсёды страчаная, але гэта зусім не так. Беларусы прыбылі сюды, яны мелі свае адрозныя прыкметы, якія яшчэ і дагэтуль не зніклі, тут яны працавалі, пакінулі нашчадкаў і спрычыніліся да развіцця краіны. Іхны ўклад не страчаны, шмат сведчанняў гэтага можна сустрэць навокал. Сапраўдная беларускасць часта хавалася пад рознымі абгорткамі і памылковымі шыльдамі, і таму яе не пазнавалі. Аднак яна вытрывала. І так здаровы розум даводзіць, што беларуская спадчына з'яўляецца на свет, калі яе вызваліць з чужых адзежынаў і назваць сапраўдным імем.

Становішча беларусаў у Амерыцы да пэўнае ступені можна параўнаць з становішчам італа-амерыканцаў, чые продкі прыязджалі ў Злучаныя Штаты як генуэзцы, венецыянцы, міланцы або сіцылійцы і ў выніку наступных палітычных падзей сталіся «італьянцамі». У часе масавае эміграцыі з Беларусі іміграньты, што прыбывалі ў ЗША, называлі сябе «гарадзенцамі», «менскімі», «віцебскімі», «віленскімі». Пераважная большасць іх не мелі выразнага ўяўлення пра сваю нацыянальнасць, не было дзяржавы, якую б яны маглі назваць сваёю. Як ужо зазначалася, магутны паток імігрантаў з Усходняе Еўропы зваўся проста *«іміграцкімі масамі з Расіі»*. Аднак у выніку далейшых палітычных падзей узнікла новае палітычнае паняцце — Беларусь. Беларусь як дзяржава ўлучала родныя мясціны ўсіх гэтых імігрантаў, а значыць, калі ўжываць сучасную тэрміналогію, іх трэба было б называць «беларусамі», а іх нашчадкі былі б ужо беларуса-амерыканцамі. Бюракратыя гэтага не рабіла, а самі беларусы не мелі патрэбнага патэнцыялу, каб гэта ажыццявіць. У імя аб'ектыўнасці і гістарычнае праўды памылкі мінулага мусяць быць выпраўленыя. Аднак у працэсе выпраўлення мінулых памылак павінна ўдзельнічаць і дзяржава. Дзяржавы-пастаўшчыкі працоўнай сілы ў Амерыку пра эмігрантаў, «сваіх людзей», не забываліся, у адукацыйных справах дапамагалі. Беларускімі ж эмігрантамі ніхто не цікавіўся, урад пра іх забываўся, хоць эмігранты і захоўвалі пачуцці да сваёй краіны.

Такім чынам, нягледзячы на афіцыёзную нацыянальную класіфікацыю гэтых імігрантаў, нягледзячы на ўзровень іх асіміляцыі, паланізацыі або русіфікацыі, на іх інтэлектуальны ўзровень і г. д., яны захавалі беларускія этнічныя, псіхалагічныя і сацыяльна-палітычныя асаблівасці, якія нельга сцерці або перамяніць, асаблівасці, якія маюць глыбокія карані ў гісторыі нацыі.



## Беларускія прозвішчы

У Злучаных Штатах этнічнае паходжанне часта вызначаецца з прозвішча, і хоць бываюць выключэнні, аднак такія прозвішчы, як Коган, Страшэўскі, Туфара, Чунг Ву і г. д., звычайна лёгка дазваляюць этнічна ідэнтыфікаваць чалавека. Сярэдні амерыканец без цяжкасцяў, не задумваючыся, амаль аўтаматычна вызначыць такога чалавека як яўрэя, паляка, італьянца або кітайца.

Аднак калі даходзіць да беларусаў, дык сярэдні амерыканец у найлепшым выпадку спытаецца, ці ёсць нейкія тыпова беларускія прозвішчы; або прозвішча будзе вымаўляцца на рускі або польскі манер з меркавання, што гэта нешта блізкае. Вядома ж, існуюць і характэрныя беларускія прозвішчы, але, як і ў выпадку з назовам краіны, у Амерыцы гэтага не заўважаюць. Такія прозвішчы, як Калоша, Бурбель, Крэсла, Сенька, Міцкевіч, Савёнак, Барсук, Каўбаса, Каляда і сотні іншых, — тыпова беларускія, але не прызнаюцца як гэткія з прычыны слабога знаёмства з Беларуссю наогул. Трэба мець асаблівае вычуванне беларускасці, каб пазнаць этнічную прыналежнасць гэтых прозвішчаў. Бясспрэчна, шмат якія беларускія прозвішчы падобныя або маюць агульныя славянскія карані з польскімі, рускімі або ўкраінскімі. Падобна да таго шмат якія прозвішчы гэтых народаў блізкія беларускім, асабліва тыя, што паходзяць ад тапонімаў, такія як Мінскі, Пінскі, Слуцкі або Віцебскі.

Беларусы, што жылі на ўскраінах Беларусі, часта маюць прозвішчы, якія выяўляюць латышскія, літоўскія, польскія або ўкраінскія ўплывы. Бывае і наадварот: беларускія ўплывы можна заўважыць у прозвішчах літоўцаў, латышоў або рускіх.

У значнай ступені беларускія прозвішчы адлюстроўваюць гісторыю нацыі. Яны часам паланізаваліся або русіфікаваліся, асабліва ў пісьмовым ужытку, несучы ў сабе замест беларускіх польскія або рускія фанетычныя і правапісныя асаблівасці. Найбольш выразна гэта выявілася ў афіцыйным справаводстве польскае і расійскае адміністрацыі. Так, прыкладам, такія тыпова беларускія прозвішчы, як Варатніцкі, Барташэвіч або Будзіловіч, часта перадаюцца ў англійскім тэксце як *«Worotnitski», «Bartoszewicz»* або *«Budzilowicz»* на рускі або польскі манер, бо гэтак пісалася ў дакументах, з якімі іміграньт прыбываў у Амерыку. Гэта робіць пазнаванне беларускіх прозвішчаў надзвычай цяжкою задачаю для даследчыка ці звычайнага амерыканца.

Вельмі рэдка прозвішча нашага іміграньта не амерыканізавалася. Захаваліся пераважна «простыя» прозвішчы — Калодка, Каляда і падобныя. Іншыя ж бязлітасна перакручваліся. Найбольш пашыраны тып перайначаных прозвішчаў — пераклады і скароты: Кучынскі станавіўся Кучам, Несцяровіч — Нестарам, а Каваль мог стацца і Смітам. Часта прозвішчы набліжалі да англасаксонскага гучання: Мікула зваўся МакКула, Іларыён перарабляўся на Хілары. Прозвішчы мяняліся або пры ўездзе ў краіну, калі чыноўнікі лічылі, што прозвішча іміграньта цяжкое для вымаўлення, і мянялі яго на прасцейшае — Абручанскі рабіўся Рычарам, або пазней, калі іміграньты бралі амерыканскае грамадзянства і мелі права рабіць з прозвішчам, што хацелі.

Змена беларускіх прозвішчаў у Амерыцы — цікавая тэма для навуковага даследавання, вынікі якога дапамаглі б і ў больш дакладнай ідэнтыфікацыі беларускае этнічнае групы.

На наш погляд, справа адраджэння «беларусікі» ў прозвішчах не такая безнадзейная. Калі будзе кадыфікаванае ўжыванне беларускіх прозвішчаў у




Візітоўкі амерыканскіх беларусаў

беларускай форме, як часткова ўжо адбываецца ў Рэспубліцы Беларусь, г. зн. пашпарты будуць падаваць прозвішчы ў беларускім варыянце, землякі ў ЗША пачнуць спасылацца на *«old country»* і нават пісаць прозвішчы свае (хоць і ў некралогах!) у беларускай форме, як, прыкладам, нехта Паўловіч, Брайковіч — ужытыя беларускія формы ў некралогах у газеце *Record Hackensack, NJ (Aug 5, 2012)* і пададзеная радзіма «Беларусь».

## Захаванне традыцый

Неадменная рыса кожнае нацыянальнае групы імігрантаў — імкненне захаваць і перадаць нашчадкам свае этнічныя традыцыі, каб не даць перапыніцца культурнай памяці нацыі. Не складаюць выключэння тут і беларусы. Свядомае імкненне да самаідэнтыфікацыі на фоне шматэтнічнага амерыканскага грамадства выяўляецца ў культываванні этнічнае апрычонасці, хай сабе часам і толькі сімвалічнага характару, у святочным строі, умельствах і рамёствах, кухні, народных песнях і танцах, каляндарных традыцыях.

Беларускі нацыянальны строй у Амерыцы — частая з'ява як на беларускіх, гэтак і на розных амерыканскіх урачыстасцях. Носяць строй або выкарыстоўваюць






Паказ беларускіх касцюмаў. Алеся і Юрка Кіпелі. Нью-Брансвік, 1976 г.

паасобныя яго элементы не толькі тыя, хто прыехаў у Амерыку, але і маладое, народжанае ўжо ў ЗША пакаленне, падкрэсліваючы тым самым сваё паходжанне. На Сустрэчах беларусаў Паўночнай Амерыкі раней часта праводзіліся паказы нацыянальных строяў, як і на беларускіх фестывалях у Нью-Джэрсі. У Чыкага, Бостане, Нью-Ёрку і іншых гарадах ладзяцца шоў нацыянальных вопратак, дзе перыядычна ўдзельнічаюць і беларусы. Магчымасці рэпрэзентаваць беларускія строі бываюць і ў студэнтаў каледжаў і ўніверсітэтаў[1].

Сярод найпапулярнейшых беларускіх народных умельстваў у Амерыцы — вышыванне і пляценне. У беларускіх грамадах ёсць нямала ўмельцаў, якія плятуць паясы і робяць цудоўныя вышыўкі. Вельмі папулярныя ў Амерыцы вышытыя беларускія ручнікі. У меншай ступені пашыранае ганчарства і разьба па дрэве, затое надзвычай пашыраныя вырабы з саломкі. Творы беларускага ўмельства ўпрыгожваюць шматлікія фестывалі й этнічныя выставы ў Злучаных Штатах.

Найбольш пашыраныя сярод амерыканскіх беларусаў беларускія стравы — халаднік, галубцы, бліны, ну і, вядома, беларуская каўбаса, якая часам называецца ў Амерыцы «старакраёваю».

Беларускія народныя песні і танцы, будучы істотным сродкам этнічнага самавыяўлення і выхавання нацыянальнае эстэтыкі, ці не найлепей надаюцца для папулярызацыі беларускае культуры ў шырокім амерыканскім грамадстве.

[1] Беларус. Нью-Ёрк. 2002. № 473.



Гуканне вясны ў Нью-Ёрку. 2020 г. *Здымак Сяргея Трыгубовіча*

Танцавальныя калектывы і хоры з часам паўставалі бадай у кожным беларускім асяродку ў Амерыцы.

Трывала захоўваюцца амерыканскімі беларусамі рэлігійныя традыцыі і святы. Захоўваючы засвоеныя яшчэ на бацькаўшчыне звычаі, яны штогод адзначаюць усёю грамадою найважнейшыя святы традыцыйнага беларускага царкоўнага і народнага календара — Каляды, Вялікдзень, Дажынкі. Амерыканскія беларусы вельмі падтрымоўваюць звычай ушанавання продкаў. Двойчы на год — на Радаўніцу і Дзень усіх святых — пасля адмысловых багаслужбаў у цэрквах ідуць на могілкі, асабліва на спецыяльныя беларускія могільнікі. Там святар служыць паніхіду каля цэнтральнага помніка (крыжа ці помніка «палеглым за Беларусь»), абыходзіць магілы, акрапляе іх, гаворыць малітвы. Родзічы кладуць на магілы яйкі ці кветкі, часам сядаюць, частуюцца. Працэдура гэтая на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы ці Іст-Брансвіку можа займаць тры-чатыры гадзіны.

Калядны перыяд — ад канца тыдня пасля Дня ўдзячнасці да пачатку Новага года — таксама традыцыйна важны святочны час для амерыканскіх беларусаў. У ЗША гэта сезон ажыўленага гандлю, падрыхтоўкі падарункаў. Кульмінацыяй яго з'яўляецца царкоўнае свята Раства Хрыстовага, якое адзначаецца і па юліянскім, і па грыгарыянскім календарах. У калядны перыяд ладзяцца ялінкі-ранішнікі з Дзедам Марозам ці святым Мікалаем, адмысловыя калядаванні з казою, зоркаю і г. д. Гэтыя мерапрыемствы вельмі спрыялі нацыянальнаму ўзгадаванню моладзі. Важная традыцыйная адзнака каляднага часу — вялікая колькасць паштовак, якая дасылалася суродзічам з віншаваннямі і добрымі пажаданнямі. Амерыканскія беларусы выдавалі вялікімі накладамі свае беларускія паштоўкі для ўласных калядных патрэбаў. Ад пачатку 1990-х гадоў сталі прыходзіць і тысячы віншавальных картак з самой Беларусі.

Безумоўна важны для беларусаў у ЗША і Вялікдзень. Вось як апісвае традыцыю яго святкавання ў Саўт-Рыверы д-р Янка Запруднік:

*У амерыканскім горадзе Саўт-Рыверы ў штаце Нью-Джэрсі амаль семдзесят гадоў ужо існуе царква імя св. Еўфрасінні Полацкай у юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату. Адна з самых людных падзеяў у жыцці прыхаджанаў гэтай царквы — асвячэнне пасхальнай ежы — адбываецца перад Вялікаднем пад вечар у суботу. З усіх канцоў ваколіцы з'яжджаюцца людзі з кошыкамі, у якіх каляровыя яйкі, бабкі, каўбасы ды іншае смакоцце, а ў сяго-таго і бутэлькі з віном. Пры добрым надвор'і ўрачыстасць асвячэння адбываецца на траўніку каля царквы, а ў дажджлівы ці халодны дзень — у вялікай залі Беларускага грамадскага цэнтру, што пры самай царкве.*

*Дзесяцігоддзі існавання прыходу св. Еўфрасінні Полацкай не змянілі гэтай традыцыі: тая самая малітва, тая самая свянцоная вада, тыя самыя кошыкі, прыкрытыя вышыванымі ручнічкамі. Але адбываліся і змены: зменьваліся святары, змяніўся і зменшыўся склад царкоўнага хору. Ды найбольш драматычныя змены адбыліся ў людзях, у натоўпе ўдзельнікаў урачыстасці асвячэння ежы. Удзельнічаюць у ёй цяпер найбольш імігранты так званай апошняй хвалі, гэта значыць былыя савецкія грамадзяне.*

*[...] Сам факт, што гэтым разам на традыцыйную багаслужбу ў мінулую суботу прыбыло ўдзельнікаў ў тры-чатыры разы больш, чым штонядзельных малельнікаў у царкве, мацуе надзею на трывалы працяг існавання саўт-рыверскай царквы св. Еўфрасінні Полацкай*[2].





Вялікдзень у Беларускай царкве Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы. 2018 г. *Здымак Колі Бахара*

З іншых царкоўных святаў асабліва папулярныя сярод амерыканскіх беларусаў дні беларускіх святых — Еўфрасінні Полацкае, Кірылы Тураўскага, Жыровіцкае Божае Маці, у гонар якіх створаны цэрквы. Можна згадаць і некаторыя іншыя традыцыі святкаванняў беларусаў, што маюць часткова рэлігійную складовую. Так, у цэрквах пасля багаслужбы святар традыцыйна называе парафіянаў, што мелі на мінулым тыдні дні нараджэння, хор спявае ім «Многае лета», а пасля юбіляры ладзяць у царкоўнай залі адмысловае прыняццё. Гэтак жа ў цэрквах часта адзначаюць юбілеі вяселляў (сярэбраны, залаты).

Беларускія традыцыі і звычаі з зменаю пакаленняў паступова трансфармуюцца і адаптуюцца да амерыканскага жыцця, аднак не знікаюць зусім, пакідаючы ў душы маладзейшых пакаленняў імігрантаў азнаку непаўторнасці і святасці далёкае Бацькаўшчыны.

Разам з тым беларусы ўспрымаюць ды святкуюць і ўласна амерыканскія святы. Прыкладам, Дзень маці — амерыканскае свята, што існуе ад другой паловы XIX стагоддзя і адзначаецца ў другую нядзелю траўня, або Дзень бацькі — ад пачатку XX стагоддзя адзначаецца ў трэцюю нядзелю чэрвеня. У беларускіх асяродках гэтыя дні традыцыйна пачынаюцца малебнамі ў цэрквах, хоць у шырокім амерыканскім грамадстве рэлігійная складовая святкавання неабавязковая.

Заўсёды святкуюць беларусы і амерыканскі Дзень удзячнасці (Дзень падзякі) з абавязковым яго атрыбутам — індзейкай на святочным стале. Хоць гэтае свята традыцыйна лічыцца сямейным, але беларусы часам адзначаюць яго грамадою,

---

[2] https://nn.by/?c=ar&i=207817.

спалучаючы з Дажынкамі. Вось прыклад такога грамадскага святкавання ў Нью-Ёрку:

*Беларусы Нью-Ёрку ў чацвер 24-га лістапада, у будынку Кафедральнага Сабору Св. Кірылы Тураўскага, у цёплым сяброўскім коле таксама адзначылі гэтае вялікае амерыканскае свята. На сталах было шмат смачных страваў, традыцыйных амерыканскіх і беларускіх, прыгатаваных сп. Т. Красоўскай. Галоўнаю стравою быў запечаны індык, так, як у гэты дзень ёсць у кожнай амерыканскай сям'і. Панаваў добры настрой, прысутныя ў нефармальнай абстаноўцы ўзгадвалі вясёлыя гісторыі з уласнага жыцьця*[3].

З іншых амерыканскіх традыцый можна адзначыць Парад лаяльнасці — своеасаблівая дэманстрацыя ў падтрымку амерыканскай дэмакратыі, якая з'явілася ў 1918 годзе як антытэза сацыялістычнаму святу 1 Мая. Парады лаяльнасці асабліва гучна ладзіліся ў Нью-Ёрку ў 1950–1970-я гады, калі па Пятай авеню гадзінамі ішлі розныя групы з транспарантамі, выступамі, музыкай. Беларусы таксама дэманстравалі на гэтых парадах сваю прысутнасць і засяроджвалі ўвагу на становішчы БССР.

Падобныя мэты мелі амерыканскія беларусы і ў часе Тыдняў паняволеных народаў, што адзначаюцца ад 1959 года. Ладжаныя тады шэсці, мітынгі, канферэнцыі былі добрай нагодай засведчыць сваю прысутнасць як нацыі. Шырока адзначаліся Тыдні паняволеных народаў у Нью-Ёрку, Чыкага, Дэтройце і іншых буйных гарадах. Варта заўважыць, што і імігранты апошняй хвалі далучаюцца да мерапрыемстваў гэтых Тыдняў, запачаткаваная паваеннымі беларусамі ў ЗША традыцыя працягваецца.

## Мова

Мова эміграцыі прыцягвала ўвагу даследчыкаў як у краіне пасялення, гэтак і на Бацькаўшчыне. Аднак грунтоўным вывучэннем мовы беларускіх імігрантаў у Амерыцы ніхто не займаўся, хоць у паваенным беларускім замежным друку выказваліся заўвагі пра мову эміграцыі. Мова беларускіх імігрантаў у ЗША адлюстраваная і ў мастацкай літаратуры[4]. Беларуская мова разам з шматлікімі іншымі ўнесеная ў «Лінгвістычны банк Злучаных Штатаў»[5]. Акрамя таго, праз наяўнасць маладых амерыканцаў-беларусаў у дапаўняльных школах і розных арганізацыях у друку часам аналізаваліся праблемы, стан ведання, вывучэння беларускай мовы ў англамоўным асяроддзі[6].

Відавочна, разглядаючы мову амерыканскіх беларусаў, трэба да кожнае хвалі эміграцыі падыходзіць асобна, бо ступень захавання мовы прама прапарцыйная ўзроўню нацыянальнае свядомасці, а якраз гэтым паказчыкам хвалі найбольш і розняцца між сабою. Асобны падыход мусіць быць і да розных іміграцыйных пакаленняў.

Пра мову «дамасавае» іміграцыі, г. зн. тых, хто прыехаў у Амерыку да 1890-х гадоў, ніякіх дакументальных звестак не засталося. Іхныя нашчадкі ў гутарках з аўтарам сведчылі, што бацькі ці дзяды гутарылі «сваёю моваю», якая розьнілася,

[3] Беларус. Нью-Ёрк. 2016. № 624.

[4] Архівы Крывіцкага навуковага таварыства Праньціша Скарыны.

[5] Архівы часопіса «Беларуская Моладзь». Папка «Моўныя рэсурсы Злучаных Штатаў».

[6] Наша Слова. Менск. 1991. № 24. 6 жніўня.



прыкладам, ад мовы большасці парафіянаў нейкае польскае парафіі. Пры гэтым тыя бацькі і дзяды падкрэслівалі, што яны не палякі і паходзяць з Літвы, хоць дакладней акрэсліць сваю этнічную прыналежнасць не маглі.

Сваім нашчадкам тыя раннія імігранты перадалі толькі пару дзясяткаў штодзённых словаў, гэткіх як хлеб, вада, ды назовы мясцовасцяў, скуль яны паходзілі. Дарэчы, гэтыя назовы і ёсць, бадай, найбольшым магнітам, які прыцягвае нашчадкаў імігрантаў да далейшых пошукаў сваіх каранёў ды прыводзіць іх урэшце да ўсведамлення свайго беларускага паходжання. Часам старыя імігранты пакідалі нашчадкам розныя малітоўнікі, пераважна польскія, але нам у працэсе генеалагічных пошуках даводзілася бачыць і беларускія каталіцкія малітоўнікі, выдадзеныя лацінкаю перад Першаю сусветнаю вайною.

Інакш выглядае справа з моваю ў імігрантаў масавае эканамічнае хвалі. Пераважную большасць у ёй складалі сяляне. Іхны лексікон быў досыць абмежаваны ды адносіўся галоўным чынам да сялянскага побыту, прыроды, сельскае гаспадаркі. Запас дзяржаўна-адміністрацыйнае лексікі быў у іх цалкам рускі. Па прыездзе ў Амерыку кругагляд гэтых людзей значна пашыраўся, як пашыраўся і іхны лексікон — гэтым разам ужо за кошт англійскае мовы. Гэткім парадкам ад самага пачатку гаворка беларускага іміграната-селяніна ўяўляла з сябе мешаніну: пры беларускай фанетыцы і граматыцы значная колькасць рускае і англійскае лексікі. Кола англійскае лексікі пашыралася па меры таго, як дзеці ішлі ў школу, а імігрант шырэй знаёміўся з амерыканскім жыццём. У выніку дзеці гадаваліся на беларуска-руска-англійскай трасянцы. А дзеля таго, што яны часам наведвалі яшчэ і дапаўняльныя школы пры праваслаўных прыходах, мова дзяцей набірала больш рускіх словаў. Добра дапамагаў русіфікацыі старых беларускіх імігрантаў і амерыканскі рускамоўны ды БССРаўскі друк, выдаўцы якога лічылі, што з беларусамі трэба гаварыць па-руску. Незнішчальным, аднак, заставаўся беларускі акцэнт, якога не маглі перамагчы нават рубрыкі *«Как правильно говорить по-русски»* ў амерыканскіх рускіх газетах.

У адрозненне ад усіх папярэдніх хваляў паваенная іміграцыя карысталася беларускаю моваю і як сродкам штодзённых зносінаў, і як моваю культуры, палітыкі, літаратуры, г. зн. беларуская мова адыгрывала ролю нацыянальнае літаратурнае мовы ў поўным аб'ёме, хоць паасобныя імігранты захоўвалі ў гутарковай мове рэгіянальныя асаблівасці.

Мова беларускага друку базуецца пераважна на правапісе і граматыцы Браніслава Тарашкевіча з нязначнымі адхіленнямі. Сярод іх — пазначэнне палаталізацыі прыназоўнікаў (зь лесу), скарачэнне злучніка і пасля галосных (бацька й маці) ды некаторыя іншыя. Найбольшы ўплыў на фармаванне правапіснае і стылістычнае нормы мовы беларускага друку ў Амерыцы зрабілі д-р Янка Станкевіч і Антон Адамовіч. У цяперашнім часе галоўна


Б. ТАРАШКЕВІЧ

БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА ДЛЯ ШКОЛ.

ВЫДАНЬНЕ ПЯТАЕ, ПЕРАРОБЛЕНАЕ І ПАШЫРАНАЕ.

ВІЛЬНЯ 1929 г.

Факсімільнае выданне «Беларускай граматыкі для школ» Браніслава Тарашкевіча, зробленае БІНіМам у 1992 г.

дзякуючы прыплыву новае хвалі імігрантаў наркамаўка часткова або цалкам уваходзіць у амерыканска-беларускі друк.

Гутарковая мова іміграцыі характарызуецца ўжываннем шматлікіх лексічных амерыканізмаў, якія настолькі трывала ўвайшлі ў мову, што ўжо не ўспрымаюцца як чужыя словы. Пераважна гэта словы, што азначаюць прадметы і паняцці штодзённага жыцця: пэйда (англ. *pay day*) — *зарплата,* порча (*porch*) — *ганак, сенцы,* шапінг (*shopping*) — *закупы,* кара (*car*) — *машына,* бас (*bus*) — *аўтобус,* газаліна (*gasoline*) — *бензін,* іншуранс (*insurance*) — *страхоўка,* нурска (*nurse*) — *медсястра,* вачаваць (*to watch*) — *пільнаваць, даглядаць*, такс (*tax*) — *падатак,* моргіч (*mortgage*) — *пазыка, іпатэка* ды дзясяткі і сотні іншых. Сярод амерыканізмаў найбольш сустракаецца назоўнікаў, аднак ёсць нямала і дзеясловаў ды іншых часцінаў мовы. Замест «так» і «не» амаль выключна ўжываюцца е (*yeah*) і ноў (*no*).

Цікава зазначыць, што некаторыя беларускія словы дзеці беларусаў перадаюць сваім сябрам-амерыканцам. У асяродках, дзе жыве шмат дзяцей беларускага паходжання, амерыканскія дзеці ведаюць гэткія словы, як бабка, царква, капуста, каша, свята.

Паколькі паваенная іміграцыя была нацыянальна свядомая, захаванне і перадача мовы наступным пакаленням сталіся адным з заданняў грамады. З гэтаю мэтай арганізоўваліся школкі, курсы мовы, у сям'і гаварылі толькі па-беларуску, а бабкі і дзяды толькі і марылі пра тое, каб перадаць мову ўнукам.

Нельга сказаць, што гэтая мэта была поўнасцю дасягнутая, але нейкі працэнт маладых амерыканскіх беларусаў, бацькі якіх прыехалі ў краіну па Другой сусветнай вайне, няблага валодаюць беларускай мовай. Мова маладога пакалення, што праўда, пазначаная моцным англійскім уплывам у лексіцы, фанетыцы і сінтаксісе.

## Сацыяльная мабільнасць

Хоць беларускія імігранты жылі ў сваім вузкім асяроддзі, утвараючы штосьці накшталт гета, яны ад самага пачатку ўлучыліся ў тыпова амерыканскі працэс «руху ўгару» — шукалі лепшае працы, большае платы і гэткім чынам пасоўваліся вышэй па сацыяльнай лесвіцы. З гадамі яны набывалі прафесійныя навыкі і рабіліся кваліфікаванымі работнікамі.

Мабільнасць гэтае групы, агулам называнае ў Амерыцы «рускаю», была адзначаная ў працы Бэры Джонстана[7].

Рух угару сярод старых імігрантаў відавочна быў павальнейшы, чым сярод тых, хто прыехаў па Другой сусветнай вайне, аднак абедзве хвалі цалкам улучыліся ў працэс сацыяльнага ўзыходжання.

Вынікі апытання аўтарам ста сем'яў беларускіх імігрантаў ранняе хвалі ў рэгіёне Нью-Ёрк — Нью-Джэрсі паказваюць, што ў трыццаці з іх мужчыны мелі прафесійную падрыхтоўку і рухаліся ўгару хутчэй. Аднак ужо ва ўсіх сем'ях дзеці мелі кваліфікацыю, а ў сарака сем'ях вучыліся ў каледжах.

Паводле апытання сотні сем'яў паваеннае хвалі ў тым самым рэгіёне, усе мужчыны і жанчыны мелі прафесійную кваліфікацыю. Амаль палова іх наведвалі курсы павышэння кваліфікацыі ў сваёй галіне, а ў каледжах вучылася 80 % іхных дзяцей[8].

[7] Johnston, B. Russian American social mobility. Saratoga (CA), 1981.

[8] Калекцыя В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



Імігранты першае хвалі рабіліся домаўласнікамі не адразу, тым часам як паваенныя імігранты набывалі дамы на працягу першых 3–5 гадоў пасля свайго прыезду. Такая самая карціна назіраецца, прыкладам, і ў Дэтройце, дзе да 1956 года ўсе новыя імігранты ўжо мелі свае дамы[9].

Прафесійны прагрэс не абмяжоўваўся нейкімі асобнымі дзялянкамі. У пераважнай большасці імігранты былі занятыя на заводах, у штатных і федэральных установах, у будаўніцтве і г. д. Пакуль дакладна не даследавана, але можна прыпусціць, што большая, чым прынята думаць, колькасць іх мела свой малы бізнес.

Спектар занятасці дзяцей імігрантаў вельмі шырокі, але ў ім пераважаюць настаўнікі, урадоўцы, інжынеры і менеджары. Сярод іх параўнальна шмат, асабліва што датычыць дзяцей паваеннае хвалі, прадстаўнікоў элітарных прафесій — лекараў і адвакатаў.

На жаль, сёння не існуе статыстыкі прафесійнай занятасці імігрантаў апошняй хвалі. Можна толькі агучыць вынікі пэўных назіранняў. Найчасцей новыя імігранты ідуць працаваць «абы-куды»: на будоўлю, у дагляд за старымі, прыборку і іншыя працы, не самыя нізкія па аплаце. Пазней рухаюцца далей, асабліва калі здабываюць амерыканскую прафесійную асвету, падымаюцца па кар'ернай лесвіцы. Даволі пашыранай сферай занятасці асабліва новых імігрантаў з'яўляюцца транспартныя паслугі — перавозкі на далёкія адлегласці. Кіроўцаў-дальнабойшчыкаў сярод беларусаў у ЗША налічваюцца дзясяткі ці нават сотні, а іх заробкі вымяраюцца тысячамі на тыдзень.



Актывіст БАЗА і «Пагоні» Зміцер Левіт выбраў вайсковую кар'еру — каля 15 гадоў служыць у Нацыянальнай гвардыі

Паводле стандартнае амерыканскае тэрміналогіі, агулам беларусы ў большасці трывала замацаваліся ў ніжне-сярэднім эшалоне сярэдняга класа амерыканскага грамадства. Невялікі працэнт належыць да вышэйшага класа (з гадавым прыбыткам больш за $ 100 000) і фактычна ніхто — да ніжэйшае (заробкі ніжэйшыя за $ 14 000–20 000 гадавых).

Як зазначалася ў першым выданні гэтае кнігі, шмат што з жыцця беларусаў у ЗША застаецца недаследаваным. Можна толькі акрэсліць некаторыя рысы сацыяльнага партрэту прадстаўнікоў старой і новай іміграцыі. Прыкладам, маючы нават невялікія грошы, беларусы намагаюцца займець уласныя банкаўскія рахункі. Таксама сярод суродзічаў у ЗША багата аматараў лесу (збірання грыбоў) і рыбнай лоўлі, распаўсюджаныя і азартныя гульні: бінга, казіно (асабліва сярод пенсіянераў). Цікавыя згадкі пра досвед заўзятара казіно можна знайсці ва ўспамінах Жоржа Наумчыка[10].

Найгалоўнейшае, што застаецца недаследаваным, — сацыяльныя паводзіны беларускай грамады. Асноўныя прычыны — недастатковая згуртаванасць беларусаў, розныя храналагічныя хвалі, незацікаўленасць Бацькаўшчыны ў вывучэнні

[9] The Detroit News. Detroit. March 25, 1956.

[10] Запісы БІНіМ. № 40. Нью-Ёрк — Менск, 2018. С. 345–346.

эміграцыі ды інш. Аднак, нягледзячы на перашкоды, усё ж кідаецца ў вочы і такая асаблівасць: вельмі мала беларусаў сталага веку (як кажуць амерыканцы *«seniors»*) знаходзяцца ў дамах старцаў. Амаль няма ці лічаныя асобы. Большасць іх жывуць пры сваіх сем'ях. Зразумела, каб аўтарытэтна сцвярджаць, трэба правесці адмысловае даследаванне, тут жа — вынікі назіранняў. Гэткая ж важная адзнака: на параўнальна невялікую грамаду, якая групуецца вакол Нью-Ёрка, яшчэ нядаўна было некалькі стагоднікаў — Элеанора Кіркевіч (1913–2013), Міхась Кавыль (1915–2017), Антон Шукелойць (1915–2017). Статыстыка неблагая.

## Амерыканізацыя

Амерыканізацыя — натуральны працэс, непазбежны для ўсіх групаў іммігрантаў. Розніца толькі ў хуткасці і ступені амерыканізацыі першага іміграцыйнага пакалення. Пра амерыканізацыю сказана і напісана вельмі шмат, гэтай тэме прысвечаныя тысячы старонак у амерыканскім і неамерыканскім, улучна з беларускім, друку[11]. Падыход да гэтае тэмы з часам мяняўся і развіваўся: ад безумоўных і аднабокіх тэорый плавільнага катла да больш спагадных ідэй шматколернае мазаікі, у якой даецца права на існаванне кожнай этнічнай культуры. Тут няма патрэбы ўваходзіць у шырокую дыскусію аб тэарэтычных аспектах працэсу амерыканізацыі, аднак варта звярнуць увагу на спецыфічны характар гэтае праблемы ў дачыненні да беларусаў.



Алеся Кіпель у нацыянальным строі. 1978 г.

Беларускія іміграны першае хвалі, тыя, хто прыехаў у ЗША да Першае сусветнае вайны, хацелі, каб іхныя дзеці як найхутчэй сталіся «амерыканцамі», каб яны гаварылі па-англійску і ўліліся ў амерыканскае грамадства. Аднак яны заставаліся бескампрамісныя, калі гаворка заходзіла пра рэлігію. Старыя іммігранты любою цаною імкнуліся захаваць у дзецях праваслаўную веру.

Колькі лістоў, якія захоўваюцца ў архівах БІНіМа, адлюстроўваюць стаўленне імігрантаў да амерыканізацыі. Вось што піша амерыканец першага пакалення:

[11] Бацькаўшчына. Мюнхэн. 1952. № 102; 1955. № 249, 253, 260–261; 1959. № 441, 442, 443–444, 445; Беларус. Нью-Ёрк. 1970. № 161; Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. Сакавік 2002; Папка «Амэрыканізацыя» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).



*Мой бацька амаль ніколі не гаварыў сваёю роднаю моваю, беларуская культура ніколі не закраналася ў гутарках. Ён як мог стараўся мяне амерыканізаваць... Значная частка этнічнае традыцыі занікла, калі я гадаваўся. Мяне «змушалі» быць амерыканцам, зжыцца з звычаямі і моваю гэтае краіны*[12].

Варта зазначыць, што з'яўленне цікавасці да этнічных каранёў — з'ява нярэдкая. Аўтар цытаванага ліста бярэ ўдзел у беларускім жыцці і ведае пра сваё беларускае паходжанне.

Асабліва папулярнымі пошукі сваіх этнічных каранёў сталіся ў часе адзначэння 200-годдзя Злучаных Штатаў. Вось тыповы ліст, атрыманы аўтарам у 1977 годзе:

*Мой бацька быў беларус. Нарадзіўся ён у Івянцы, у Менскай губерні. Я пішу гісторыю сваёй сям'і, штосьці накшталт «Каранёў і галінаў». Я хацеў бы даведацца болей аб бацькавых продках. Ці не падкажаце, як мне адшукаць сляды бацькавых продкаў на Беларусі? Я ўмею чытаць і пісаць па-польску, але не па-руску... [...] Пару тыдняў таму мы глядзелі на 9-м канале «Невядомую вайну», было якраз пра баі за вызваленне Беларусі ад нацыстаў. Я спадзяваўся пабачыць або пачуць пра Івянец, адкуль паходзіць мой бацька...*[13].

Былі, аднак, і ў старой хвалі людзі, якія добра ведалі свае этнічныя карані і разважалі над праблемаю амерыканізацыі. Прыкладам можа быць гэткі незвычайны ліст:

*Я вельмі рады, што мае дзед і бабка былі вялікімі нацыяналістамі. Яны эміґравалі за царскім часам (у 1912 годзе і раней) і ўсё роўна да самае свае смерці ў канцы 60-х гадоў гаварылі пра Беларусь так, быццам пакінулі яе ўчора. Яны былі непісьменныя, але знаходзілі людзей, якія пісалі за іх лісты па-руску на радзіму, і гэтак яны трымалі кантакт з роднымі ў Салігорскім раёне.*

*Мае дзед і бабка заўсёды называлі сябе беларусамі. Мне дзіўна, што шмат хто з беларусаў не лічыць сябе беларусам. Можа, тут рэч у мясцовасці, адкуль мае дзяды паходзілі. Не ведаю. Але, прынамсі, усе мае родзічы і сваякі на бацькаўшчыне называюць сябе беларусамі.*

*Самому мне вельмі цяжка было растлумачыць амерыканцам, хто такія беларусы і што ёсць такая краіна — Беларусь. Калі я кажу сябрам і калегам на працы, што я беларус, я заўважаю, што сам пачынаю тлумачыць, пра што я гавару. Але нават калі я ім кажу, што мы ўваходзім у ААН, яны ўсё роўна не могуць гэтага сабе ўявіць. Я канчаю размову і адыходжу з думкаю, што ўсе адно яны лічаць мяне не беларусам, а... рускім.*

*Я хачу сказаць, што нашая этнічная тоеснасць згубілася або схавалася, можа, і з нашае віны. Мы — другое і трэцяе пакаленне амерыканскіх беларусаў — нічога не ведаем пра нашую спадчыну, бо прынялі амерыканскі лад жыцця, які, на маю думку, ёсць англасаксонскаю асіміляцыяй усіх нацыянальнасцяў і культураў. Здаецца, усе мы хочам быць прынятыя гэтаю сістэмаю дзеля эканамічных ці якіх іншых прычынаў. І таму адмаўляемся ад свайго.*

*Я спрабую перадаць нашую культуру маёй 15-гадовай дачцэ, згадваючы Беларусь дзе толькі можна. Мы таксама з'ездзілі два разы на зямлю нашых Каранёў. Дачка пераняла шмат нашых звычаяў і словаў, бо кожны раз мы жылі ў вёсцы па тры тыдні. Я працую на заводзе, і мне было нялёгка заашчадзіць грошай на паездкі. А тут, вядома, вывучыць беларускую мову няма дзе. Добра, што тут, у Рочэстэры, ёсць класы, дзе выкладаецца руская мова. Калі толькі мы, беларусы, не даможамся, каб у амерыканскіх школах*

[12] Папка Воленса ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[13] Папка Круглішскага ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

*выкладалі беларускую гісторыю і/або культуру, нам не будзе як перадаць нашую спадчыну наступным пакаленням...*[14].

Беларускія імігранты паваеннага перыяду сутыкнуліся з тою самаю праблемаю — амерыканізацыяй дзяцей. Гэтая праблема шырока дыскутавалася ў 1950–1960-я гады, хоць нічога істотнага для яе вырашэння вынайдзена не было. Аднак, як згадвалася вышэй, новыя іміграны развівалі школьна-адукацыйную дзейнасць, што значна прычынілася да захавання этнічнае свядомасці маладога пакалення. Фактычна паваенныя іміграны здолелі выхаваць сваіх дзяцей «добрымі амерыканцамі», знайшоўшы спосаб захаваць іхную беларускасць. Шмат хто сярод маладога пакалення гаворыць па-беларуску, захоўвае этнічную свядомасць і імкнецца дапамагчы Беларусі. У гэтым найбольшая розніца паміж дзвюма буйнымі хвалямі беларускае іміграцыі ў Злучаных Штатах: старая іміграцыя імкнулася захаваць рэлігію, новая — свае этнічныя карані, культуру.[15]



Былая танцорка «Васілька» Лена Сільвановіч з сынам Джэйсанам і мужам Джонам Кінгам

Здаецца, што абедзве групы імігрантаў у цэлым дасягнулі сваіх мэтаў незалежна ад ступені амерыканізацыі: першыя выхавалі дзяцей у вернасці праваслаўнай царкве — у Амерыканскай праваслаўнай царкве шмат вернікаў беларускага паходжання, хоць іх беларускасць ні ў чым не выяўляецца; другія ж выгадавалі маладое пакаленне з глыбокаю нацыянальнаю свядомасцю і адчуваннем патрэбы працаваць дзеля беларускае справы, пры гэтым рэлігія адыгрывала другарадную ролю.

Зразумела, амерыканізацыя — працэс рэальны, як быў і стагоддзе таму: школа, асяроддзе — асноўныя нязменныя яе фактары. Тэхналогіі (асабліва тэлебачанне, інтэрнэт) спрыяюць паскарэнню працэсу амерыканізацыі. Захаванне этнічнасці ў гэтым працэсе — справа сям'і, магчыма, прыцаркоўнай школкі, ды галоўнае — стаўленне да амерыканцаў-беларусаў старое Бацькаўшчыны. Калі Бацькаўшчына зацікаўленая трымаць сувязь, лучнасць з нашчадкамі эмігрантаў — прывязанасць, гонар за край у амерыканцаў застаецца. З практыкі працы з этнічнымі групамі можна засведчыць, што сустракаліся і ірландцы, і італьянцы ў чацвёртым пакаленні, якія казалі: «*Ганаруся сваімі каранямі*». Прыпушчаем, што гэткае магчыма і ў беларусаў. Да пэўнай ступені вычуваецца з інтэрв'ю з Алесяй Кіпель, што збліжэнне беларусаў розных геаграфічных і храналагічных параметраў магчымае на аснове беларускай зацікаўленасці:

*Мая сітуацыя была трохі іншая, бо я пераехала ў Вашынгтон і была трохі далей ад штодзённага арганізацыйнага жыцця, але магла хадзіць на розныя амерыканскія імпрэзы, датычныя Беларусі, і рэпрэзентаваць беларускія інтарэсы. Таксама, як Беларусь стала незалежнай, мне стала нашмат цікавей гэтым займацца, бо і Вашынгтонскія структуры, і погляд на Беларусь змяніліся. Цяпер Беларусь — гэта асобнае пытанне. Яшчэ адзін фактар для мяне — гэта тое, што Беларусь адкрылася. Раней я нават уявіць сабе не магла, што калі-небудзь змагу быць у Беларусі. Калі мы ў 1990 годзе ўпершыню паехалі ў Беларусь, дык нават дзіўна было, што маглі хадзіць паўсюль і размаўляць па-беларуску. І што для мяне цікава, ніколі не думала, што буду мець сяброў беларусаў, якія з Беларусі ды майго пакалення, бо бальшыня новапрыбылых — маладзейшыя за нас. Тых, каму за 40 і за 50, — мала. Але ў нас у Вашынгтоне ёсць шмат такіх людзей. Яны ўсе прафесійныя, адукаваныя. Я з імі сябрую, і гэта мне вельмі цікава*[16].

Гаворачы пра амерыканізацыю беларусаў, варта згадаць і такую з'яву, як беларусізацыя некаторых амерыканцаў. Яна асабліва датычыць мяшаных сужэнстваў, калі мова небеларускіх мужоў ці жонак узбагачаецца беларускімі словамі, калі яны ходзяць у цэрквы ці на беларускія грамадскія імпрэзы, часам нават супрацоўнічаюць у беларускіх арганізацыях. Тут можна прывесці прыклад Фрэнка Рамана, мужа беларускай дзяячкі Алы Орса-Рамана, які актыўна ўдзельнічаў у камітэце па падрыхтоўцы Беларускіх фестываляў у Нью-Джэрсі ў 1976–1979 гадах, а таксама ў розных беларускіх імпрэзах, дэманстрацыях. Гэтаксама і жанчына з італьяна-ірландскімі каранямі Ларэйн Кіпель, жонка д-ра Юрыя Кіпеля, у сям'і дбае пра тое, каб дзеці (тры сыны з беларускімі імёнамі Алесь, Андрэй і Антон) адзначалі беларускія святы, а сама яна разумее беларускую мову, што ёй часам дапамагае ў яе прафесійнай дзейнасці медсястры пры кантактах са славянамі.

Цікавым вынікам мяшаных сужэнстваў стала з'яўленне ў друку напісаных амерыканцамі тэкстаў, якія тым ці іншым чынам звязаныя з беларусамі. Прыкладам, д-р медыцыны Роланд Толівер жанаты з беларускай Ірэнай Рамук, дачкой вядомых беларускіх дзеячаў у Чыкага Веры і Вітаўта Рамукоў. Д-р Толівер цікавіцца літаратурай, піша эсэ, нататкі ў мясцовыя газеты, на падставе сваіх артыкулаў выдаў кнігу, у якой можна знайсці і разважанні на беларускія тэмы. Прыкладам, ён апісвае сям'ю, яе беларускасць, свой удзел у парафіяльным жыцці беларускай царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага[17]. І гэта толькі адзін прыклад з мноства. Можна згадаць тут кнігі Джоан Станкевіч, Ніны Занковіч і іншых. Так што пэўная беларусізацыя амерыканцаў таксама мае месца.

[14] Папка «Рочэстэр» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[15] Сур'ёзны аналіз паваеннае хвалі эміграцыі розных нацыянальнасцяў (уключна з беларусамі) быў зроблены ў рапарце Фундацыі Форда 1953–1954 гг. Гл.: EEF. 3rd Annual Report. New York, 1954. P. 5–37.

[16] Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 527.

[17] Tolliver, R. Late Night Lattes and Midnight Musings: A Dad Looks at a Life. Freeport (IL): Kastle Publishing, 2002. 173 p.

## Палітычная арыентацыя беларусаў у ЗША

На пытанне «За каго галасуюць амерыканскія беларусы?» нельга даць адназначнага адказу. Аўтар, базуючыся на ўласным досведзе жыцця ў грамадзе, мяркуе, што старыя іміграньты і большасць іхных нашчадкаў галасавалі найчасцей за дэмакратаў, аддаючы перавагу ўнутраным праблемам краіны, тым часам як іміграньты паваеннае хвалі часцей галасавалі за рэспубліканцаў, прычым вырашальную ролю для іх адыгрываў знешнепалітычны фактар.




Візітоўка ўдзельніка Беларускага рэспубліканскага клуба

На выбарчыя паводзіны амерыканскіх беларусаў другой паловы XX стагоддзя ўплывалі розныя фактары. Кандыдат мусіў займаць моцную антыкамуністычную пазіцыю, калі хацеў заручыцца падтрымкаю беларусаў. Падтрымоўвалі беларусы і тых кандыдатаў, праграма якіх базавалася на прынцыпе «закон і парадак». Беларусы галасавалі за стрымліванне падаткаў, але не пярэчылі захаванню ваенных бюджэтаў. Часта вырашальнымі фактарамі пры галасаванні былі спецыфічныя пытанні, як, прыкладам, стаўленне кандыдата да ўвядзення беларускае праграмы ў «Голасе Амерыкі» або да прызнання Дня Незалежнасці Беларусі. Важным сродкам уплыву на выбаршчыкаў быў беларускі друк: вялікімі тыражамі друкаваліся праграмы партый, індывідуальных кандыдатаў і г. д.[18].

Як было згадана раней у разглядзе беларускіх партыйна-палітычных арганізацый, першыя сфармаваліся ў 1928 годзе беларускія дэмакратычныя клубы падчас прэзідэнцкае кампаніі Альфрэда Сміта. Аднак пачынаючы ад 1960-х гадоў беларуска-амерыканскія рэспубліканскія клубы выяўляюць больш актыўнасці і маюць на сваім рахунку больш выразныя дасягненні. Пэўны прамень на палітычныя погляды беларусаў-амерыканцаў падае Алеся Кіпель — амерыканка ў першым пакаленні — у гутарцы з Алесяй Сёмухай[19].

Безумоўна, з зменамі ў палітычнай сітуацыі на Бацькаўшчыне амерыканскія беларусы будуць аддаваць свае галасы за таго кандыдата — рэспубліканца або дэмакрата, — які будзе ў меру магчымасці спрыяць у сваёй заканадаўчай дзейнасці Рэспубліцы Беларусь.

Рэальнасць апошніх больш як 20 гадоў сведчыць, што ўрадавая палітыка сучаснай Рэспублікі Беларусь — з яе русіфікацыяй, савецкага кшталту эканамічнымі праграмамі, цягай да Расіі — у ЗША ўспрымаецца як антынародная, як пагроза міру, а таму і рэспубліканцы, і дэмакраты ў дачыненні да кіраўніцтва Беларусі ставяцца аднолькава адмоўна. З прычыны такіх абставінаў галасаванне беларусаў-амерыканцаў у цяперашнім часе не ёсць паказальным — усе супраць сучаснай улады ў Беларусі: вызначэнне «рэспубліканец» ці «дэмакрат» у гэтым кантэксце не вельмі істотнае.

[18] Папка «Выбары» ў Калекцыі В. Кіпеля ў IHRC, Minneapolis (MN).

[19] Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 522–529.



У мінулым сярод беларускай групы жыхароў ЗША мала праводзілася апытанняў-аглядаў. А вось у 2012 годзе БАЗА правяла апытанне на тэму прэзідэнцкага галасавання і вынікі былі надрукаваныя ў газеце «Беларус»:

*На працягу 5 дзён удалося скантактавацца з 114 беларусамі і амерыканцамі беларускага паходжання і даведацца, каго з кандыдатаў яны падтрымліваюць падчас выбараў амерыканскага прэзідэнта. [...]*

*Сярод апытаных былі людзі з цэлай Амерыкі: ад Нью-Ёрка да Каліфорніі, з добрым прадстаўніцтвам штатаў Нью-Джэрсі, Канектыкута, Агаё, Мічыгана, Каларада. Наймалодшы ўдзельнік апытання мае 19 гадоў, найстарэйшы — 88 гадоў.*

*Галасы падзяліліся амаль пароўну. За кандыдата ад рэспубліканцаў, былога губернатара штату Масачусэтс Міта Ромні выказаліся — 47 %, за дзейнага прэзідэнта Барака Абаму — 45 %. Не вызначыліся — 8 %.*

*Сярод апытаных было 42 % ранейшых беларусаў (назавём іх так умоўна), якія даўжэйшы час жывуць у Амерыцы ці нарадзіліся тут, і 58 % пазнейшых эмігрантаў, якія прыехалі ад пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя.*

*Сярод ранейшых адчуваецца розніца ў пакаленнях. Бацькі і старэйшыя векам асобы далей трымаюцца рэспубліканцаў і хочуць галасаваць за Ромні — такіх 60 %, але сярод іх 40 % маюць намер аддаць голас за Абаму. Малодшыя падзяліліся пароўну за кожнага кандыдата.*

*Пазнейшая эміграцыя аддае перавагу Абаме — 56 %, за Ромні — 44 %...*[20].


LATIMES.COM — Los Angeles Times — SUNDAY, MARCH 26, 2017 A3

THE WORLD

A Trump connection in Belarus

His son-in-law's grandma fled a Nazi-held town that now invites family to visit.

Артыкул пра сувязі Дональда Трампа з Беларуссю ў «Los Angeles Times». 2017 г.

[20] Беларус. Нью-Ёрк. 2012. № 594.

У прэзідэнцкіх выбарах 2016 года і ў дэмакратычных, і ў рэспубліканскіх выбарчых арганізацыях бралі ўдзел амерыканцы-беларусы. Нам дакладна вядома, што беларускія рэспубліканскія клубы слалі ноты пратэсту супраць выказвання Дональда Трампа, які выступаў з крытыкай *NATO*, крытычна выказваўся пра «дапамогу дзяржавабудаванню», хваліў расійскага прэзідэнта. Усё гэта адштурхоўвала ад рэспубліканскага кандыдата амерыканцаў-беларусаў. Праўда, вельмі пазітыўна ўспрымалася беларусамі інфармацыя, якая часта фігуравала ў амерыканскім друку, што сям'я зяця Дональда Трампа — Джарэда Кушнера — паходзіць з Навагрудка і цікавіцца Беларуссю[21].

### Погляд на Беларусь

Без ніякага вагання можна сцвярджаць, што 25 жніўня 1991 года ўся Амерыканская Беларусь — імігранты ўсіх хваляў ды іхныя нашчадкі — адчувалі гонар за сваю Бацькаўшчыну: яна была абвешчаная незалежнаю дзяржаваю. Не ганарыцца ў той дзень было немагчыма: сотні тэлевізійных станцый і газетаў паведамлялі пра гэтую падзею, старанна вымаўляючы *«Belarus»*. Гэта была кульмінацыя параўнальна кароткага працэсу палітычнае даспеласці. Фактычна амерыканскія сродкі масавае інфармацыі шырэй зацікавіліся Беларуссю толькі тады, калі ў Беларусі ўзнік Народны фронт, сфармавалася дэмакратычная апазіцыя ў парламенце. На думку амерыканскіх беларусаў (а гэта, бясспрэчна, адлюстроўвала погляд амерыканскага грамадства), дэмакратыя і палітычны прагрэс немагчымыя ў аднапартыйнай таталітарнай дзяржаве, якою была Беларусь. Абсалютная большасць нацыянальна свядомых беларускіх імігрантаў у ЗША ды іхных нашчадкаў уважалі, што будучыня Беларусі, дапамагаць якой была гатовая амерыканская беларуская калонія, — у адкрытым дэмакратычным грамадстве.

[21] Los Angeles Times. March 26, 2017.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Можна з пэўнасцю сцвярджаць, што беларуская нацыя нямала прычынілася да развіцця сучаснае Амерыкі. Большасць беларускіх імігрантаў, якія ехалі за акіян з намерам часовага побыту, засталіся там назаўсёды. Іх нашчадкі працуюць сёння ва ўсіх галінах грамадска-палітычнага і эканамічнага жыцця краіны. Бясспрэчна, Амерыка дала імігрантам лепшае жыццё, чым магла б даць ім акупаваная Бацькаўшчына. Але ці страчаныя яны для Беларусі? Самі сведкі і ўдзельнікі тае іміграцыі бадай не задумваліся над гэткім «узнёслым» пытаннем. Нашчадкі ж іхныя ў большасці, не атрымаўшы ад бацькоў дакладнага акрэслення бацькаўшчыны, не ведалі Беларусі, былі на раздарожжы, бо паноўны афіцыёз разглядаў яе як частку нечага іншага.

Хваля ж паваеннае беларускае іміграцыі прыехала ў Амерыку як палітычная эміграцыя з ідэяй працаваць для аднаўлення дэмакратычнае беларускае дзяржаўнасці (і вяртання на Бацькаўшчыну). Яна паставіла перад сабою і іншую мэту — адкрыць і зрабіць вядомай беларускую спадчыну ў Амерыцы ды далучыць гэтую спадчыну, Амерыканскую Беларусь, да цэласці беларускае культуры як неад'емную яе частку.

Пададзеныя ў гэтай працы матэрыялы (пачатковыя і няпоўныя) — сведчанні таго, як жыла старая беларуская іміграцыя ды што і як рабіла новая іміграцыя для адкрыцця, аднаўлення ды замацавання беларуска-амерыканскае спадчыны як спадчыны Беларусі і пашырэння ў Амерыцы ідэі незалежнае беларускае дзяржаўнасці. Паўнейшае вывучэнне беларускае дыяспары як у ЗША, гэтак і ў цэлым свеце павінна быць распачатае на Бацькаўшчыне, і дзейнасць ды здабыткі эміграцыі павінны быць улучаныя ў агульны кантэкст развіцця беларускае нацыі і культуры.

# РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ: НОВЫЯ АМЕРЫКАНСКА-БЕЛАРУСКІЯ ДАЧЫНЕННІ І НОВАЯ ХВАЛЯ ІМІГРАЦЫІ

Пры канцы першага выдання «Беларусаў у ЗША» было напісана: «25 жніўня 1991 года ўся Амерыканская Беларусь — іміграНты ўсіх хваляў ды іхныя нашчадкі — адчувалі гонар за сваю Бацькаўшчыну: яна была абвешчаная незалежнаю дзяржаваю». Вельмі правільнае сцвярджэнне: беларусы-амерыканцы былі ў той дзень у эйфарыі, пра тую падзею толькі і гаварылі паміж сабою, уздым, радасны настрой перадаваліся таксама амерыканцам. Перадавіцы большых і меншых газет крычалі: «Новая дзяржава — Беларусь». Аўтар гэтай кнігі даў у той дзень чатыры інтэрв'ю, адно з іх — тэлебачанню (канал 11).

25 жніўня 1991 года адгортвалася новая старонка, пачыналіся новыя адносіны паміж Амерыкай і Беларуссю, паміж беларуска-амерыканскай эміграцыяй і Бацькаўшчынай. Кажучы вобразна, беларуска-амерыканская эміграцыя ў той дзень «перазарадзілася». «Беларускі» настрой перадаўся таксама ў акадэмічныя і дзяржаўныя структуры. Беларусы-амерыканцы ганарыліся і рыхтаваліся супрацоўнічыць з новай дзяржавай — іх радзімай[1].

На 20-й Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амерыкі, якая праходзіла ў Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі, 5–7 верасня 1992 года, у рэзалюцыі было такое палажэнне:

*Беларуская эміграцыя і ейныя нашчадкі ў Злучаных Штатах і Канадзе горача падтрымоўваюць ідэю Адраджэння суверэннае і дэмакратычнае беларускае дзяржавы, перабудову эканомікі Беларусі на прынцыпе вольнага рынку ды справу забеспячэння дэмакратычных свабодаў усім грамадзянам без розніцы этнічнага паходжання ці светагляду. У сувязі з гэтым амерыканскія і канадскія грамадзяне беларускага паходжання будуць выкарыстоўваць свае кантакты і ўплывы, каб спрыяць адраджэнню вольнае Беларусі.*

І амерыканска-беларуская, і канадска-беларуская эміграцыі пачалі дзеіць. У ЗША арганізацыі БАЗА, БККА, БІНіМ і моладзь ладзілі сустрэчы з сенатарамі і кангрэсменамі, прамыслоўцамі і бізнесменамі, на якіх амерыканскія беларусы выказвалі погляды, прадстаўлялі планы наладжвання супрацоўніцтва, дапамогі Беларусі. БІНіМ падрыхтаваў спіс амерыканскіх каледжаў, куды можна было ўладжваць студэнтаў з Беларусі на стыпендыі-стажыроўкі. БАЗА і БАПЦ пачалі збіранне сродкаў для гуманітарнае падтрымкі. Царкоўныя структуры БАПЦ і Канстанцінопальскае юрысдыкцыі паслалі спецыяльныя дэлегацыі ў Беларусь для канкрэтнага азнаямлення з патрэбамі. Група бізнесоўцаў — В. Мельяновіч, К. Мерляк, А. Лук'янчык, К. Бяляцкі, М. Вішнеўскі — у дадатак да сумаў у дзясяткі тысячаў фінансавае дапамогі прапаноўвалі канкрэтна «сябе» як дарадчыкаў-працаўнікоў у адпаведныя галіны прамысловасці. Рэкламавалася Рэспубліка Беларусь і ў праграмах дзённых тэлеперадач, на так званых *talk-shows*. У БІНіМ звярнуліся дзве невялікія фірмы, што займаліся офісным абсталяваннем, з прапановай дапамагчы новай дзяржаве. Гэтаксама беларусы-амерыканцы дапамагалі з абсталяваннем, дэкараваннем беларускага консулата ў Нью-Ёрку і беларускае амбасады ў Вашынгтоне. Беларускі грамадскі цэнтр у Саўт-Рыверы зладзіў некалькі групавых паездак у Беларусь з мэтай разведвання і дапамогі развіццю турыстычнае галіны. Мільённыя транспарты з медыкаментамі і медычным абсталяваннем былі пасланыя ў Беларусь гэткімі гігантамі медыка-фармацэўтычнае індустрыі, як *Johnson&Johnson*, *Up John*, *Hoffman-La Roche*. Беларусы Мікола Прускі, д-р Мітрафан Смаршчок, д-р Барыс Рагуля і арганізацыі БАЗА і царкоўныя (найперш уладыка Мікалай (Мацукевіч) і сп. Алекс Сільвановіч) былі ў вялікай меры рухавікамі гэтых ініцыятываў.



Амбасадар Рэспублікі Беларусь у ЗША Сяргей Мартынаў
і прадстаўніца БАЗА Алеся Кіпель. Вашынгтон, 1996 г.

У падобным кірунку дзейнічалі і структуры з Беларусі. У ліпені 1993 года ў Менску адбыўся З'езд беларусаў свету — падзея гістарычная для беларускай нацыі[2], а кіраўнікі Згуртавання «Бацькаўшчына» — прэзідэнт акадэмік Радзім Гарэцкі і старшыня Рады Ганна Сурмач — адведалі ЗША ды мелі працоўныя сустрэчы з дзясяткам беларуска-амерыканскіх арганізацый і мноствам суродзічаў. Працоўныя дачыненні былі наладжаныя паміж Беларускім інстытутам навукі і мастацтва і Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны. Бясспрэчна, будучыня дачыненняў паміж ЗША і Рэспублікай Беларусь выглядала вельмі перспектыўна.

[1] Гл. інтэрв'ю з В. Кіпелем у: North Jersey Herald News. Newark (NJ). January 5, 1992.

[2] Голас Радзімы. Менск. 1993. № 26.

Абнадзейвала і палітыка Дзярждэпартамента ЗША. 25 снежня 1991 года Злучаныя Штаты прызналі незалежнасць Рэспублікі Беларусь. А ўжо 31 студзеня 1992 года было адчынена афіцыйнае прадстаўніцтва ЗША ў Менску з першым часовым паведраным Джонам Фордам. Першым амерыканскім амбасадарам у Беларусі стаў Дэвід Суорц (25.08.1992 — студзень 1994). Пазней прадстаўніцтва ўзначальвалі Джордж Крол (часовы паверaны ў лютым — лістападзе 1994), Кенэт Ялавіц (амбасадар у 1994—1997), Даніэл Спекхард (амбасадар у жніўні 1997 — жніўні 2000), Майкл Козак (амбасадар у 2000—2003), Джордж Крол (амбасадар у 2003—2006), Карэн Сцюарт (амбасадар у 2006—2008), Джонатан Мур (часовы паверaны ў 2008— 2009), Майкл Скенлан (часовы паверaны ў 2009—2012), Ітан Голдрыч (часовы паверaны ў 2012—2014), Скот Роладн ( часовы паверaны ў 2014—2016), Роберт Райлі (часовы паверaны ў 2016—2018), Джэніфер Мур (часовая паверaная ў 2018—2020), Джэфры Джук (часовы паверaны ад ліпеня 2020).

Паводле звестак Дзярждэпартамента, ад 1992 да 30 чэрвеня 1994 года ЗША выдаткавалі каля 227 мільёнаў даляраў на гуманітарную дапамогу Беларусі, 6,2 мільёна на тэхнічную дапамогу і 3,3 мільёна на дапамогу ў дэмантажы ядзернае зброі ў рэспубліцы. Як заяўлялі кіраўнікі ЗША, галоўнымі сферамі дапамогі Беларусі павінны былі стаць гуманітарная дапамога, падтрымка пераходу эканомікі да рынкавага тыпу і падтрымка рэжыму бяспекі. Таксама была задэкляраваная Злучанымі Штатамі дапамога ў суме да 20 мільёнаў даляраў харчовай гаспадарцы. Бізнесовыя колы ЗША таксама дзейна ўлучыліся ў развіццё экспарту Беларусі. Увесь адпаведны дзяржаўны апарат і буйныя амерыканскія вытворцы былі ў вялікай меры скіраваныя на дапамогу Беларусі ў разбудове новае дзяржаўнае сістэмы[3]. Пачалі працу розныя праграмы прафесійных і навучальных абменаў паміж дзвюма краінамі. У навуковыя і навучальныя ўстановы ЗША запрашаліся не толькі студэнты, але і выкладчыкі, асабліва па праграмах Эдмунда Маскі і Уільяма Фулбрайта. Амбасадар ЗША ў Беларусі ў 1994—1997 гадах. Кенэт Ялавіц сцвярджаў, што за тры гады яго працы ў Злучаных Штатах пабывалі больш за 500 беларускіх студэнтаў[4]. Па праграме IREX на стажыроўкі змаглі паехаць каля 400 беларускіх журналістаў, прыязджалі ў ЗША на гастролі музычныя калектывы, тэатры і г. д. Такім чынам, культурнае, навуковае, эканамічнае супрацоўніцтва першапачаткова мела добры імпульс і вынікі.

Праўда, праз веданне гульцоў у Беларусі і іх розных палітычных праграмаў-поглядаў ды без дакладнага ўяўлення пра «погляд народу», выказваліся і засцярогі, няпэўнасць наконт будучага палітычнага кірунку Беларусі, яе руху па дэмакратычным шляху. Прыкладам, гэта выказвала Зора Кіпель у рэпартажы аб адкрыцці беларускае амбасады ў Вашынгтоне — падзеі, што была кульмінацыяй тагачаснага беларускага палітычнага ўздыму:

*20 красавіка 1993 года... Пад вечар перад прыгожым старым трохпавярховым гарадскім асабняком з шыльдай з Пагоняй і з адпаведнымі надпісамі па-беларускую і па-ангельску пачалі збірацца людзі. Тут і беларусы-амерыканцы, і землякі з Беларусі, прадстаўнікі ўрадавых колаў як амерыканскіх, так і беларускіх, розных міжнародных арганізацый, людзі бізнесу, медыцыны, госці з іншых амбасадаў і прадстаўніцтваў. Людзі не штодзённыя, бо і нагода не шараговая — урачыстае адкрыццё будынка амбасады Беларусі ў Амерыцы... [...] Будынак сапраўды адпаведны: у сэрцы Вашынгтона, добрага памеру, салідны, утульны. А 7:15 — цырымонія падняцця беларускага сцяга. Цяжка перадаць пачуццё, якое ахапіла нас, беларускіх эмігрантаў, калі мы глядзелі, як паволі паднімаўся па мачце наш бел-чырвона-белы сцяг — сцяг, для якога мы гэтак шмат уклалі сілаў, каб ён лунаў у вольным свеце. [...] У прамове міністра замежных спраў сп. Пятра Краўчанкі ды выступе прадстаўніка амерыканскага ўрада з Дзяржаўнага дэпартамента сп. Строба Талбота была добра адзначаная важнасць гэтай падзеі — замацаванне кавалачка Беларусі на амерыканскай зямлі. Сп. Талбот гэтаксама недвузначна падкрэсліў, што Амерыка гатовая супрацоўнічаць і дапамагаць дэмакратычнай Беларусі. [...]*

*Вярталіся дахаты з дваякім пачуццём: пачуццём гонару за тое, што ў краіне Вашынгтона ёсць нарэшце прадстаўніцтва незалежнай дзяржавы Беларусь, ды адначасна з адчуваннем засцярогі, страху, што будзе далей, як Беларусь выйдзе з цяжкога эканамічнага і палітычнага крызісу*[5].

Безумоўна, нельга было з упэўненасцю прадказаць, якім шляхам пойдзе новая дзяржава, але адно было ясна: дзверы для жыхароў краіны расчыніліся — можна было падарожнічаць, трымаць кантакты з дыяспарай. Усе беларусы з гэтага карысталі: амерыканскія беларусы і землякі на Бацькаўшчыне ладзілі канферэнцыі, сустрэчы, экскурсіі. Гэта давала падставу для рэалізацыі надзеі, Беларусь пачала збіраць камяні — іх мільёны, хто пакінуў свой кут: Літву, Северо-Западный край, Савецкую Беларусь у мінулыя стагоддзі і дзесяцігоддзі. Надзеі і засцярогі ішлі побач. У інтэрв'ю газеце «Наша Слова», аналізуючы довады за і супраць, аўтар гэтае кнігі сказаў:

*Збліжэнне дыяспары з беларускім кантынентам пачалося. Працэс, як кажуць, пайшоў. Кідаецца ў вочы, што вывучэнне культурных набыткаў беларускае эміграцыі рухаецца. [...]*

*Газета «Беларус» — палітычная, і яна заўжды будзе асвятляць наш пункт гледжання на падзеі, што адбываюцца на Бацькаўшчыне і выказваць ідэалогію незалежнае беларускае дзяржавы. А пакуль што да такое дзяржавы, незалежнае і дэмакратычнае, так далёка, як да сонца*[6].

Да песімістычнага заканчэння інтэрв'ю дадала і сп-ня Зора Кіпель:

*...Увогуле адчуваецца атмасфера вычэквання і напружання сярод вашых службоўцаў і наменклатурных працаўнікоў. Людзі перажываюць, што цяпер будзе. Спадзяюцца на лепшае*[7].

Песімізм засноўваўся на тым, што да ўлады праз дэмакратычныя выбары прыйшлі людзі, якія і ў час перадвыбарчае кампаніі прапагандавалі арыентацыю дзяржавы на Расію, на савецкую эканамічную сістэму. Папулізм і саветчына перамаглі. Хутка пачаўся наступ на ўсё беларускае: на мову, гісторыю, літаратуру, дзяржаўнасць. Праўда, адразу пасля выбараў 1994 года яшчэ былі надзеі на супрацоўніцтва: *«...апошнія выбары прэзідэнта Беларусі выклікалі здзіўленне міжнароднае прэсы палітычнаю няспеласцю беларускіх выбаршчыкаў»*[8]. У газеце «Беларус» выказвалася трывога за будучыню беларускае мовы, эканамічнага і нацыянальна-культурнага развіцця, але артыкул заканчваўся спадзяваннем на тое, што вяртанне камуністычнае ідэалогіі не будзе і што новы прэзідэнт павядзе краіну ў

3 Беларус. Нью-Ёрк. 1994. № 417.
4 Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. Жнівень 1997.

5 Беларус. Нью-Ёрк. 1993. № 401.
6 Наша Слова. Менск. 03.10.1994.
7 Наша Слова. Менск. 03.10.1994.
8 Беларус. Нью-Ёрк. 1995. № 417.

іншым кірунку — «каб не паўтарылася». Быў таксама зварот да прэзідэнта, што эмігранты *«гатовы стаць за Вамі ды падняць наш бел-чырвона-белы сцяг, каб паставіць Беларусь на пачэснае месца між народамі»*[9]. Праўда, беларуская эміграцыя ў ЗША хутка расшыфравала прарасійскую і сацыялістычна-дзяржаўніцкую сутнасць новай улады ў рэспубліцы, і на 21-й Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амерыкі ў Таронта ў верасні 1994 года было задакументавана:

> *Палітычная дзейнасць беларускай дыяспары, улучна з беларускімі арганізацыйнымі структурамі ў Злучаных Штатах і Канадзе, праходзіла пад ідэалам адраджэння-аднаўлення незалежнае беларускае дэмакратычнае дзяржавы ў форме Беларускае Народнае Рэспублікі, якая была абвешчана 25 сакавіка 1918 года.*
>
> *Апошнія падзеі на Бацькаўшчыне паказваюць, што дэмакратычны працэс на Беларусі пачаўся, і эміграцыя гэты працэс шчыра вітае і будзе дапамагаць. Аднак нядаўна паўсталай Рэспубліцы Беларусь, ейнаму фармаванню як незалежнае дзяржавы пагражае небяспека, а таму палітычная дзейнасць беларускае эміграцыі будзе ісці тымі самымі каналамі і пад тымі самымі ідэаламі — адраджэння Незалежнае Беларускае Дзяржавы ды палітычная дзейнасць дыяспары не спыніцца да здзяйснення гэтых вышэйшых для Беларускага Народа ідэалаў*[10].

Праз кароткі час па выбарах 1994 года амерыканска-беларускія адносіны пачалі каціцца ўніз даволі хутка. Пасля рэферэндуму 1995 года пачалося абмежаванне беларускае мовы як дзяржаўнае, пачалася русіфікацыя школаў, друку, была скасаваная нацыянальная сімволіка, актыўна пайшла палітыка «збліжэння» з Расіяй. Пачаліся зацятыя канфлікты і на дыпламатычным полі: былі збітыя паветраныя шары над Беларуссю, заходнія дыпламаты пазбаўляліся сваіх сядзібаў, пачаліся працэдурна-амбасадаўскія абмежаванні ў дачыненні да ЗША. У 2003 годзе паводле рашэння Міністэрства замежных справаў Беларусі была спыненая ў краіне дзейнасць прадстаўніцтва *IREX*, што выклікала закрыццё шматлікіх праграмаў абмену для беларускіх адмыслоўцаў. У 2008 годзе часоваму паверанаму ЗША ў Беларусі Джонатану Муру (амбасадар Карэн Стуарт была выдаленая) было заяўлена ў МЗС Беларусі, каб дзесяць амерыканскіх дыпламатаў пакінулі Беларусь — яны абвяшчаліся персонамі *non grata*. У выніку ў амерыканскай амбасадзе ў Менску засталіся толькі 5 асобаў: па амерыканскія візы грамадзяне Беларусі мусілі звяртацца ў суседнія краіны. Амерыканскі Дзяржаўны дэпартамент праводзіў адпаведныя супрацьдзеянні. Апрача таго, што ў беларускай амбасадзе ў Вашынгтоне колькасць працаўнікоў скарацілася да адзінак, а амбасадар быў адкліканы ў Менск, у дзеянні ўлучыўся Кангрэс ЗША. Была прынятая рэзалюцыя *H.Con. Res. 304* ад 3 траўня 2000 года, якая асуджае неканстытуцыйныя крокі ўрада Беларусі і парушэнне правоў чалавека, уважае незаконным рэферэндум 1996 года, патрабуе расследавання знікненняў лідараў апазіцыі Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага, Віктара Ганчара. Кангрэс даў згоду прэзідэнту ЗША на падтрымку беларускай апазіцыі і дзеянні па дапамозе ў аднаўленні дэмакратыі ў Рэспубліцы Беларусь. Пасля, у 2004 годзе, быў зацверджаны Акт аб дэмакратыі ў Беларусі (працягнуты ў 2006, 2008, 2011). Асноўныя палажэнні складаліся з планаў дапамогі недзяржаўным арганізацыям у Беларусі. ЗША ўвялі свае і далучыліся да эканамічных санкцый Еўрапейскага саюза ў дачыненні да Беларусі. Сутнасць

[9] Беларус. Нью-Ёрк. 1995. № 417.

[10] Беларус. Нью-Ёрк. 1994. № 416.



санкцый заключалася ў забароне на ўезд у ЗША, замарожванне любых актываў беларускіх кіраўнікоў, увядзенне забароны на любыя дзелавыя кантакты з імі. Атмасфера амерыканска-беларускіх дачыненняў накалялася. У 2008 годзе ў друку прамільгнула вестка, што Дзярждэпартамент плануе поўны разрыў дыпламатычных адносінаў з Рэспублікай Беларусь. Гэтая інфармацыя спрычынілася да таго, што амерыканскія беларусы захваляваліся і на шматлікіх сустрэчах з кангрэсменамі і ў Дзярждэпартаменце сталі выступаць супраць меркаванага разрыву, за захаванне дачыненняў, уважаючы канфлікт кароткатрывалым, часовым з’явішчам. І тым не менш за Рэспублікай Беларусь замацавалася мянушка «Апошняя дыктатура ў Еўропе» — не надта прыемны варыянт Бацькаўшчыны для амерыканскіх беларусаў. Беларуская эміграцыя цярпліва чакала зменаў, маліліся, каб канфлікт не ўзмацняўся. Паступова напружанне нібыта пачало паслабляцца. Спрыяюць гэтаму крокі па змякчэнні санкцый, наведванні Беларусі рознымі кангрэсавымі і гуманітарнымі дэлегацыямі, а нават і такія ініцыятывы, як наданне адной з менскіх школ імя амерыканкі Рут Уолер[11]. Амерыканска-беларуская дыяспара гэткія крокі ўспрымае пазітыўна. Да таго ж пасля аднаўлення на пачатку 2018 года ў амбасадзе ЗША ў Менску выдачы візаў у поўным аб’ёме на працягу году колькасць беларусаў, якія звярнуліся па амерыканскія візы, склала 22 400 чалавек[12].

Акрэсліўшы палітычны фон апошняй чвэрці стагоддзя беларуска-амерыканскіх дачыненняў, варта вярнуцца ўласна да эміграцыі. Нягледзячы на адносіны «халоднае вайны» паміж Рэспублікай Беларусь і ЗША і пэўную непрыхільнасць да амерыканскае дыяспары з боку беларускіх уладаў, было прынятае заканадаўства, якое фармулюе дачыненні паміж метраполіяй і дыяспарай і не замінае свабоднай эміграцыі з Беларусі ў адрозненне ад савецкага часу. Сёння выехаць з краіны няцяжка: можна выйграць Зялёную картку (латарэю), выязджаюць сем’і з яўрэйскімі каранямі, выязджаюць «на навуку», на лячэнне, дзеля злучэння сям’і, едуць у турыстычныя паездкі (часам турысты застаюцца за мяжою як эмігранты). Як і раней, асноўныя прычыны выезду — эканамічныя, на другім месцы ідуць палітычныя перакананні, рэлігія.

Абвяшчэнне незалежнай Рэспублікі Беларусь мела важныя наступствы для статыстычнага ўліку беларускае іміграцыі ў ЗША. Фактычна ад 1992 года ўпершыню ў гісторыі беларускія эмігранты сталі адмыслова ўлічвацца ў амерыканскай статыстыцы. У статыстычных звестках штогадовікаў іміграцыйнае статыстыкі (*Yearbook of Immigration Statistics*), выдаваных Нацыянальнай бяспекай ЗША (*Homeland Security*) ад 1992 года пачалі фіксавацца некалькі важных катэгорый уліку беларускіх імігрантаў: ***імігранты*** (*immigrants*) або ***асобы, што атрымалі легальны статус пастаяннага жыхара*** (*persons obtaining lawful permanent resident status*); ***уцекачы і асобы, якія атрымалі прытулак*** (*refugees and asylees*), а таксама ***асобы, якія атрымалі грамадзянства ЗША*** (*persons naturalized*)[13]. Для лепшай нагляднасці прадставім наяўныя ў сучаснай амерыканскай статыстыцы звесткі ў выглядзе табліцы[14].

[11] Радыё Свабода. Навіны ад 25.04.2016. Гл.: http://www.svaboda.org/a/27695432.html.

[12] https://www.svaboda.org/a/29745409.html.

[13] Амерыканская іміграцыйная статыстыка знаходзіцца ў адкрытым доступе на сайце Нацыянальнае бяспекі: https://www.dhs.gov/immigration-statistics.

[14] Табліца зробленая Наталляй Гардзіенкай на падставе Yearbooks of Immigration Statistics 1996–2019, змешчаных на сайце https://www.dhs.gov/immigration-statistics.

| Год | Імігранты, асобы, што атрымалі легальны статус пастаяннага жыхара | Беларусы, якія прыбылі ў ЗША як уцекачы | Беларусы, якія атрымалі ў ЗША прытулак | Народжаныя ў Беларусі асобы, якія атрымалі грамадзянства ЗША |
|---|---|---|---|---|
| 1992 | 3233 | 3008* | | – |
| 1993 | 4702 | 4480 | | 1 |
| 1994 | 5420 | 5156 | | 7 |
| 1995 | 3791 | 3421 | | 198 |
| 1996 | 4268 | 3480 | | 657 |
| 1997 | 3062 | 2486 | | 856 |
| 1998 | 978 | 557 | | 833 |
| 1999 | 1320 | 1008 | 52 | 1869 |
| 2000 | 2170 | 1050 | 90 | 3063 |
| 2001 | 2901 | 971 | 102 | 2006 |
| 2002 | 2923 | 680 | 91 | 2141 |
| 2003 | 1858 | 702 | 153 | 1224 |
| 2004 | 2255 | 659 | 201 | 1464 |
| 2005 | 3503 | 445 | 202 | 1549 |
| 2006 | 3086 | 350 | 206 | 1769 |
| 2007 | 2328 | 219 | 162 | 1401 |
| 2008 | 2390 | 111 | 158 | 1767 |
| 2009 | 2407 | 146 | 186 | 1583 |
| 2010 | 2038 | 103 | 132 | 1523 |
| 2011 | 1964 | 66 | 187 | 1814 |
| 2012 | 1659 | 83 | 262 | 1896 |
| 2013 | 1970 | 10 | 168 | 1797 |
| 2014 | 2015 | 46 | 95 | 1437 |
| 2015 | 1994 | 98 | 103 | 1710 |
| 2016 | 2127 | 185 | 42 | 1518 |
| 2017 | 1919 | 73 | 61 | 1313 |
| 2018 | 1951 | 181 | 182 | 1393 |
| 2019 | 2301 | 96 | | 1787 |
| Разам | 70539 | 7282** | 2880** | 38576 |

* Амаль да канца 1990-х гадоў амерыканская статыстыка фіксавала звесткі пра ўцекачоў і атрымаўшых палітычны прытулак у агульнай катэгорыі — *refugees and asylees granted lawful permanent resident status.*

** Падлікі зроблены за 1999–2019 гады.

З амерыканскай статыстыкі вынікае, што на працягу 1992–2019 гадоў у Амерыку прыехалі і атрымалі дазвол на пастаяннае жыхарства больш як 70 тысяч беларускіх імігрантаў. Зразумела, не ўсе яны засталіся ў краіне, не ўсім падабаюцца Злучаныя Штаты. Большасць тых, хто прыязджаў у 1990-я, ехалі як уцекачы, а ад пачатку 2000-х колькасць афіцыйных уцекачоў пачала змяншацца. Можна зазначыць, што цягам 1999–2019 гадоў палітычны прытулак у ЗША атрымалі



больш як 2,8 тысячы беларусаў, а амерыканскае грамадзянства ад пачатку 1990-х займелі больш як 38 тысяч народжаных у Беларусі. Усё гэта колькасна характарызуе новую, ужо постсавецкую хвалю беларускай эміграцыі ў ЗША.

Але важныя таксама і «якасныя характарыстыкі». Хто такія новыя беларускія эміграны? На пачатку 2000-х перыёдык «Беларускі Дайджэст» пісаў:

*Па дадзеных апытання, праведзенага Інстытутам сацыялогіі Нацыянальнае акадэміі навук Беларусі сумесна з міграцыйнай службай, каля 300 навукоўцаў і выкладчыкаў ВНУ выехалі ў 1991–1995 гадах у ЗША (38 %), Ізраіль (32 %), Расію (10 %), Нямеччыну (7 %), Канаду (3 %). У другой палове 90-х лічба гэтая вырасла ўдвая. Чаго варты выпадак, калі група беларускіх студэнтаў (цалкам 30 чалавек) не вярнулася дамоў з стажыроўкі ў ЗША*[15].

Так было на пачатку 2000-х, бадай нічога не змянілася і праз 10–15 гадоў. *«Беларусь пакідаюць каля 8 тысяч чалавек у год... гэта прыблізна лічбы гадоў 2009, 2010, 2011»,* — паведамляе намеснік начальніка па грамадзянстве і іміграцыі МУС Беларусі Віктар Ігнатовіч[16]. Пры гэтым «эміграцыйная гарачка», як выглядае, ахапіла шырокія пласты з розных галінаў, улучна з спортам, дзе Беларусь мела магутныя кадры.

У сувязі з летняй Алімпіядай у Бразіліі ўплывовая газета *«The Wall Street Journal»* 11 жніўня 2016 года прысвяціла Беларусі вялікі артыкул пад загалоўкам «Беларуская алімпійская рызыкоўная гульня» (*«The Belarusian Olympic Gambit»*). У тэксце даецца аналіз стану алімпійскай падрыхтаванасці краіны і адзначаецца, што краіна, якая некалі была супермагутнай у гімнастыцы, у цяперашнім часе рэдка паспяхова ўдзельнічае ў міжнародных спаборніцтвах. Згадваецца, што сучасная Рэспубліка Беларусь спрабуе рэкрутаваць спартоўцаў у ЗША, каб выступалі ад імя Беларусі.

Выбітная асоба, былая спартоўка, алімпійская чэмпіёнка (1972) і сённяшні адказны кіраўнік у галіне спорту сп-ня Антаніна Кошаль прыпушчае, што больш як 70 беларускіх трэнераў працуюць сёння ў ЗША, а сярод іх Віталь Шчэрба і Вольга Корбут. Відавочна, беларускі спорт бяднее, спусташаецца, а новыя кадры рыхтаваць доўга і няпроста. У сувязі з гэтым можна канстатаваць, што сучасная беларуская дыяспара расце за кошт найбольш здольных, адукаваных, высокапрафесійных жыхароў краіны.

Колькі словаў пра ідэалагічную скіраванасць беларускае грамады ў ЗША. Вялікая колькасць новых беларускіх эмігрантаў паступова знайшлі супольную ідэалагічную платформу з ранейшай арганізаванай беларуска-амерыканскай грамадой. Яе асновай стала дзяржаўнасць Беларусі. Пераважная большасць прадстаўнікоў новай хвалі лічаць, што Беларусь мусіць стаць незалежнай дэмакратычнай дзяржавай, мець дыпламатычныя дачыненні як з Усходам, гэтак і з Захадам, і ў гэтай дзяржаве асновай павінна быць беларуская мова і культура. Такім чынам, прадстаўнікі дзвюх апошніх хваляў эміграцыі (паваеннае і постсавецкае) не мелі складанасцяў стварыць ідэйную супольнасць. Аднак выявіліся іншыя перашкоды, першая — праблема мовы. Большасць новапрыбылых эмігрантаў карыстаецца рускай мовай, і ранейшыя эмігранты гэтую сітуацыю проста не маглі прыняць і апраўдаць. Разрозненасць у згаданым пытанні застаецца актуальнай і да сёння.

15 Беларускі Дайджэст. Grand Rapids. 2001. Студзень.

16 Беларус. Нью-Ёрк. 2011. № 580.

Праўда, шмат хто з новых эмігрантаў усё ж імкнецца выправіць «моўную хібу», а старыя эмігранты сталі вучыцца яе не заўважаць. Другая праблема непараўнальна меншага маштабу — адданасць, шчодрасць, шчырасць у дачыненні да арганізацый. Старым часам здаецца, і, бывае, не беспадстаўна, што новыя эмігранты выкарыстоўваюць прыналежнасць да арганізацыі для асабістых інтарэсаў, а не дзеля ідэйнае беларускасці. Праўда, пра тое не гаворыцца публічна, але гэткая думка існуе.



Архіепіскап БАПЦ Святаслаў (Логін)

Дакладна акрэсліць партрэт новага эмігранта не так проста: сучасная хваля стракатая — ад *homo soveticus* да перакананага беларуса-дзяржаўніка. Пасляваенная хваля эміграцыя была больш простая для абагульнення: нацыянальная і антыкамуністычная. У падтрымку ўласных назіранняў прывядзём колькі змешчаных раней у друку аглядаў і назіранняў саміх новых эмігрантаў пра сваіх «аднакашнікаў». Вось, прыкладам, як ахарактарызаваў новую хвалю ўладыка Святаслаў, першаіерарх БАПЦ, сам прадстаўнік першых гадоў постсавецкай эміграцыі:

*Хто прыязджаў ў 1990-я і ў першыя некалькі гадоў XXI ст. — гэта ў асноўным узросту 30–40 гадоў, якія мелі сем'і, большасць (!) мела вышэйшую асвету, стаж працы (многія былі прадпрымальнікамі), былі найбольш энергічнымі і на Бацькаўшчыне. Зразумела, што гэтая хваля эмігрантаў была ў асноўным з Менска і іншых вялікіх гарадоў Беларусі, амаль усе рускамоўныя, таму большая частка іх не мела патрэбы ў нацыянальным і хацела хутчэй ператварыцца на амерыканцаў, канадцаў... і хутчэй дасягнуць матэрыяльнага дастатку. Многія ехалі таксама з-за цікавасці пабачыць Заходні свет пасля таго, як савецкая сцяна павалілася. Большасць гэтых эмігрантаў даволі хутка адаптаваліся ў новых умовах, хаця ў асноўным працуючы на ніжэйшых пазіцыях, чым гэта было ўдома, па прычынах — вывучэнне мовы, часта немагчымасці наноў вучыцца ў каледжы ці ўніверсітэце і г. д.*

*Адносіны да рэлігіі большасці нават тых, хто не быў нацыянальна свядомым, былі вельмі станоўчымі. Хаця яны выхоўваліся ў СССР, большасць была не ўвацаркоўленымі, але народжаныя ў 1960-я бачылі і разумелі злочыны савецкага атэізму, датрымоўваліся сваіх нацыянальна-рэлігійных традыцый, чые бацькі былі родам у асноўным з вёсак і перадавалі ім абрады дзядоў і павагу да Царквы.*

*Больш нацыянальна свядомая частка гэтых эмігрантаў (хаця яна складала невялікі адсотак ад агульнае іх колькасці) далучылася да нацыянальнага беларускага жыцця. Гэтая асвечаная «моладзь» хутка пераняла справы ў эміграцкіх арганізацыях ад адыходзячага*



*ваеннага пакалення. Тое ж адбылося ў Царкве, хаця большасць праваслаўных беларусаў далучылася да рускіх цэркваў не толькі з-за адсутнасці нацыянальнае свядомасці, а з-за малое колькасці парафіяў БАПЦ у замежжы і легальнае адсутнасці іх на Бацькаўшчыне.*

*Цяпер, прыкладна ў апошнія 10 гадоў (2005–2015), кантынгент прыбываючых эмігрантаў памаладзеў, многа студэнтаў альбо тых, хто толькі скончыў універсітэт у Беларусі, а многія навучаюцца ўжо тут на эміграцыі. Гэтая моладзь ужо вырасла ў незалежнай беларускай дзяржаве, іхняя колькасць меншая, і гэта ўжо наступнае пакаленне з параўнанні з тымі, хто прыехаў у 1990-я, яны маюць нейкія новыя ідэі, болей прадпрымальныя і самастойныя для свайго маладога веку, таму яны лягчэй адаптуюцца, і многія маюць патрэбу ў нацыянальным жыцці на новым месцы пражывання*[17].

Ганна Шарко таксама з новае эміграцыі, занятая ў бізнесе, часты аўтар артыкулаў у бюлетэні «Весткі й Паведамленьні» (Нью-Ёрк), можа разглядацца як голас пераважна маладых эмігрантаў, заклікае навапрыбылых аб'ядноўвацца:

*У новай краіне з іншымі парадкамі, моваю, культураю і светаўспрыманнем кожны сутыкаецца з аднымі і тымі ж праблемамі і нават не ведае, з чаго пачынаць. І жыллё патрэбна, і праца, і сяброў новых знаходзіць, і ўсё чужое, незнаёмае. А сустрэнеш земляка — аж на душы цяплей, бо нас аб'ядноўвае край, адкуль прыехалі. І задаем мы тут адзін аднаму аднолькавыя пытанні... [...] А пытанняў, увогуле, поўны мех, і пра курсы англійскай, і пра медстрахоўку, і пра адвакатаў, і пра крэдыты, зніжкі, матэрыяльную дапамогу і г. д. На жаль, не кожны ведае адказы на ўсе пытанні. На гэта разлічаныя суполкі і аб'яднанні, дзе збіраюцца і новыя, і дасведчаныя людзі, і кожнаму ёсць што распавесці аб жыцці ў ЗША, падзяліцца сваім досведам.*

*Выдатна, што мы маем Згуртаванне «Пагоня», што ладзіць штомесячныя сходы, дзе мы гутарым на роднай мове, атрымоўваем парады. Маем і «Весткі й Паведамленні» Таму заклікаю дасылаць вашыя пытанні, на якія б вы хацелі пачуць адказы (юрыдычная дапамога, праца, пачкі на Беларусь, курсы, страхоўка), ці, наадварот, гісторыю, у якой вы знайшлі вырашэнне вашых праблем. Не сумнявайцеся, ваш досвед будзе карысны шмат каму яшчэ*[18].



Ганна Шарко

У іншым допісе Ганна Шарко адзначае, што *«з кожным месяцам беларуская суполка становіцца актыўнейшай і з'яднанай. Асабліва актыўнічае моладзь, што не можа не радаваць. З'яўляюцца новыя ініцыятывы і новыя клубы па інтарэсах»*[19].

Заслужаны дзеяч беларуска-амерыканскага грамадскага жыцця, кіраўнік і сябра шматлікіх арганізацый, інжынер паводле адукацыі і працаўнік амерыканскіх фірмаў, былы загадчык беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода» Вячка Станкевіч у

[17] Допіс ад уладыкі Святаслава (Логіна) ад 15.02.2016.
[18] Весткі й Паведамленьні. Нью-Ёрк. 2015. Сакавік. № 589.
[19] Весткі й Паведамленьні. Нью-Ёрк. 2015. Сакавік. № 589.

часопісе *«Arche»* апублікаваў даўгаваты аналіз новае хвалі эміграцыі. З яго варта адзначыць наступнае:

*...Чарговая хваля эміграцыі пасля распаду СССР спачатку была немаштабнаю, пазней павялічылася... вельмі стракатая. [...]*

*Вылучаліся дзве большыя групы: некаторыя далучаліся да існуючых беларуска-амерыканскіх арганізацый, іншыя раствaрыліся ў шырокай рускамоўнай супольнасці*[20].

Далей Вячка Станкевіч вылучыў дзве катэгорыі новых эмігрантаў: палітычныя і эканамічныя. Пры гэтым апошнія *«чуюцца больш камфортна ў межах постсавецкае рускамоўнае супольнасці»*. Таксама Вячка Станкевіч адзначае, што ў новай хвалі ёсць *«глабальныя беларусы»* і *«эмігранты з цёмнымі намерамі»*. Асноўную ўвагу аўтар аддае палітычным эмігрантам — тым, хто далучаецца да існых беларуска-амерыканскіх арганізацый або хто лічыць, што лепш засноўваць новыя арганізацыі. У выніку аналізу Вячка Станкевіч сканкрэтызаваў, *«што трэба зрабіць для таго, каб перадача эстафеты ад пасляваенных імігрантаў да нашых сучаснікаў прайшла як мага больш бязбольна»*:




Выступ Алесі Кіпель на 6-м З’ездзе беларусаў свету. Менск, 2013 г.
*Здымак з сайта budzma.by*

*...Каб дасягнуць поспеху ў гэтай справе трэба шукаць добрасумленных перспектыўных лідараў сярод маладых імігрантаў, але не надаваць ім адразу ключавых пасадаў, а спачатку цярпліва вучыць прынцыпам дэмакратычнага кіравання*[21].

Згаданая ўжо ў ранейшых раздзелах гэтай кнігі амерыканка ў першым пакаленні Алеся Кіпель, выступаючы на 6-м З’ездзе беларусаў свету ў Менску ў 2013 годзе, агучыла такі пункт гледжання на будучыню беларускае дзейнасці і спадчыны ў ЗША і на новую хвалю эміграцыі:

*1. Колькасць імігрантаў сёння значна меншая, чым у пасляваенны час. Пры гэтым іміграцыйны працэс цяпер значна даўжэйшы. Новыя іміграныты пачалі прыязджаць з Беларусі ў канцы 1970-х гадоў, а з Беласточчыны — яшчэ раней, і іміграцыйны паток працягваецца да сёння.*
*2. Новыя іміграныты прыязджаюць амаль усе паасобку, а не сем’ямі.*
*3. Сённяшнія іміграныты пераважна маладыя, мала знаёмыя з грамадскімі рухамі, амаль не дасведчаныя ў лідарстве.*
*4. У большасці яны трымаюць сувязі з Бацькаўшчынай, хоць да канца не вызначылі для сябе, ці будуць вяртацца.*
*5. На маю думку, сучасных імігрантаў можна характарызаваць як палітычных і як эканамічных.*
*6. На жаль, шмат новых іміграантаў рускамоўныя. Мала хто вольна валодае беларускай мовай.*

[20] Станкевіч, В. Новая хваля эміграцыі: розныя мэты і каштоўнасці // Arche. Менск. № 9 (72). 2008. С. 100–105.
[21] Станкевіч, В. Новая хваля эміграцыі: розныя мэты і каштоўнасці // Arche. Менск. № 9 (72). 2008. С. 100–105.



*7. Для пераважнае большасці царква або касцёл — паняцці незнаёмыя.*
*8. Рассяляюцца новыя іміграныты вельмі шырока, і ў іх не заўважаецца ахвоты ствараць беларускія асяродкі*[22].

Гэтыя характарыстыкі — адзнакі лідарства і грамадзянская згуртаванасць ці імкненне да згуртаванасці — і ёсць асноўныя адрозненні новай хвалі ад папярэдніх. І таму *«трэба паставіць пытанне пра тое, ці можна ўсё ж спадзявацца на паспяховую беларускую дзейнасць у Амерыцы»*. І далей Алеся Кіпель сказала:

*...Кіраўніцтва і арганізацыйнае жыццё ў ЗША. Ясна, што без адпаведных кіраўнікоў і лідараў усё можа заняпасці. Таму старыя іміграныты заклапочаныя тым, каб перадаць арганізацыі маладым. Але, на жаль, лідараў, лідарскіх кадраў сярод маладзейшых іміграантаў амаль няма. Праўда, сярод дзяцей старых іміграантаў ёсць людзі, якія могуць быць кіраўнікамі, але ў іх здольнасці — і ахвоты — весці беларускія арганізацыі няма. Шчыра кажучы, мова ім перашкаджае. Так атрымалася, што момант быў прапушчаны. Каб маё пакаленне даспела, калі пачаліся бліжэйшыя кантакты з Бацькаўшчынай, можа, было б інакш.*
*Таму трэба рыхтаваць лідараў з новых іміграантаў, каб яны маглі быць кіраўнікамі арганізацый, такіх як БАЗА і іншыя. Было б ідэальна, калі б былі бліжэйшыя сувязі паміж імі і іхнымі аднагодкамі, народжанымі ў Амерыцы. Я лічу, што будучыня і паспяховасць беларускае дзейнасці ў ЗША, можа быць толькі ў сімбіёзе маладзейшых амерыканцаў і новых іміграантаў з Беларусі.*
*Як прыклад, прывяду Вашынгтон, дзе мы дзейнічаем разам — амерыканскія беларусы і новыя іміграныты. [...]*
*...Беларуская арганізацыйная дзейнасць у ЗША будзе працягвацца. І гэта нармальна, бо мы, беларусы — частка падмурку Амерыкі — гістарычная частка, і сучасная, і вечная. Але, падкрэслю, што беларускія праблемы ў ЗША такія самыя, як на Бацькаўшчыне. І тым не менш беларускую спадчыну мы захоўваем і ганарымся ёй*[23].

Цяпер на аснове ўласнага вялікага досведу працы ў беларуска-амерыканскай грамадзе і з улікам выказвання іншых актывістаў беларускай дыяспары ў ЗША выкажам свае меркаванні. Па-першае, пэўны працэнт новых іміграантаў варочаецца ў Беларусь — іх не задавальняе спосаб і тэмп жыцця ў ЗША. Па-другое, так, эміграцыйныя хвалі па сваіх поглядах адрозніваюцца, у новых эмігрантаў не так шмат асобаў з лідарскімі якасцямі (не ўсе былі лідары і ў паваеннай эміграцыі), у новых часта праблемы з беларускаю моваю, а царква і касцёл для іх — не на першым месцы, але ўсе «назіральнікі» згодныя: частка новых уважае беларуска-амерыканскія арганізацыі сваімі, патрэбнымі, вартаснымі падтрымкі. Нават калі і ёсць заўзятары-энтузіясты ствараць новыя арганізацыі — гэта не загана, абы нацыянальныя беларускія, а не папяровыя. Гэтыя агульныя адзнакі новых эмігрантаў даюць падставы для аптымізму.

Новыя эмігранты ў шмат якіх асяродках беларуска-амерыканскае грамады ажывілі арганізацыйную дзейнасць. Больш за тое, шмат дзе новыя эмігранты сталіся лідарамі і пераймаюць кіраўніцтва арганізацыямі. Вялікая колькасць новых і тыя з старых, што яшчэ жывуць, вось ужо паўтара дзясятка гадоў выдатна супрацоўнічаюць. Бадай, найбольш вызначальным і прыемным для беларускае эміграцыі ёсць факт, што газету «Беларус», палітычны і грамадскі рупар эміграцыі на працягу больш як 60 гадоў, паступова і паспяхова пераанялі і выдаюць новыя

[22] Беларус. Нью-Ёрк. 2013. № 602.
[23] Беларус. Нью-Ёрк. 2013. № 602.

беларускія эмігранты. Тое самае назіраецца і ў шмат якіх дзялянках дзейнасці Беларуска-амерыканскага задзіночання, Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі. А літаратурна-выдавецкая дзейнасць Беларускага інстытута навукі і мастацтва кіруецца новымі сіламі вось ужо больш як дзясятак гадоў.

З прыплывам новых эмігрантаў не толькі ўзмацнілася актыўнасць побытавага характару — сяткаванні прыватных юбілеяў, таварыскія сустрэчы, танцы, ранішнікі і г. д., але і пашырылася дзейнасць палітычна-рэпрэзентацыйная — адбываюцца дэманстрацыі, пікеты, выступы на розных форумах, лабіраванне беларускай справы ў Вашынгтоне.

Прысутнасць новых эмігрантаў і рэпрэзентацыя Беларусі шырока назіраецца ў мясцовым амерыканскім друку. За мінулыя колькі гадоў у англамоўных лакальных газетах штатаў Нью-Джэрсі, Канектыкут і Нью-Ёрк, паводле падлікаў БІНіМа, новыя эмігранты з Беларусі давалі інтэрв'ю і згадвалі Беларусь больш за 50 разоў. Вось адзін з прыкладаў. На поўначы штата Нью-Джэрсі выдаецца вельмі папулярная штодзённая газета *«The Record»* (*Hackensack*), наклад якое вагаецца ад 150 да 200 тысячаў. У 2002 годзе журналіст газеты правёў апытанне чытачоў у школьнай акрузе горада Кліфтана (у акрузе 5886 вучняў), каб даведацца, якімі мовамі, апрача англійскай, дзеці карыстаюцца штодня. Сярод апытаных адзінаццаць дзяцей падалі як штодзённую мову сям'і беларускую[24].

На заканчэнне нашага доўгагадовага збірання і вывучэння матэрыялаў пра беларусаў Амерыкі, выкажам такую думку: новая хваля эмігрантаў з Беларусі — тая яе частка, якую можна і трэба называць дзяржаўніцкай, — выдатна дапамагае пашырэнню беларускіх незалежніцкіх ідэалаў ды пераймае старыя беларуска-амерыканскія арганізацыі і ўстановы. Перахаванне і пашырэнне ў амерыканскім грамадстве ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці, чым займаюцца беларуска-амерыканскія арганізацыі, бясспрэчна, з'яўляецца надзвычай важнаю дапамогаю ў адбудове і замацаванні незалежнай беларускай дэмакратычнай дзяржавы ды вяртанні на наш беларускі рахунак ліцвінска-беларускай спадчыны ў ЗША. Спадзяемся, што ўсебаковае даследаванне сусветнай (не толькі амерыканскай) дыяспары — даніны нашае нацыі свету — пачнецца і на Радзіме. У такім выпадку беларускі народ мог бы з гонарам заявіць: Жыве Беларусь!

24 The Record. Hackensack (NJ). January 3, 2003.

*Наталля ГАРДЗІЕНКА*

# ВЫВУЧЭННЕ ГІСТОРЫІ І СУЧАСНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ Ў ЗША (1993–2020 гг.)

Беларуская эміграцыя павольна заваёўвала сваё месца ў якасці аб'екта навуковага вывучэння. Нягледзячы на тое што сотні тысячаў нараджэнцаў Беларусі ад канца XIX стагоддзя абіралі для сталага жыцця розныя краіны свету, навукоўцаў у савецкі час яны не асабліва цікавілі. А калі цікавілі, то пераважна тыя, што марылі вярнуцца на радзіму. Іншых, асабліва прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі, звычайна прадстаўлялі як «буржуазных нацыяналістаў», «калабарантаў», «злачынцаў». З сур'ёзных навуковых публікацый савецкага часу, прысвечаных беларусам у ЗША, можна назваць хіба што кнігу Міхаіла Іоські, прысвечаную Мікалаю Судзілоўскаму-Руселю[1], або тэкст Генадзя Кісялёва «Адысея паўстанца-скульптара» пра Генрыха Дмахоўскага[2]. Працэс знаёмства метрапольных суродзічаў з эмігрантамі актывізаваўся на пачатку 1990-х, калі пашырыліся асабістыя кантакты, а на старонках газет і часопісаў сталі з'яўляцца артыкулы, што распавядалі пра лёсы беларусаў на Захадзе ды выказваліся думкі адносна таго, як трэба ўспрымаць і іх, і ўсю створаную імі «беларускую цывілізацыю» ў замежжы.

Адной з першых агульных працаў, прысвечаных феномену беларускай эміграцыі цалкам, стала кніга Барыса Сачанкі «Беларуская эміграцыя», што ўбачыла свет у выдавецтве рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» ў 1991 годзе[3]. Не пазбаўленая яшчэ савецкага патэтычна-выкрывальніцкага характару аповеду, яна ўсё ж засведчыла пэўную змену стаўлення метраполіі да заакіянскіх суайчыннікаў. Праз 15 гадоў убачыла свет пасмяротнае выданне твораў Барыса Сачанкі, дзе таксама былі тэксты, прысвечаныя амерыканскім беларусам, і гучанне іх істотна адрознівалася ад тых ранейшых зацемак пра эмігрантаў[4].

Следам за «Беларускай эміграцыяй» у тым самым выдавецтве выйшла кніга Тацціяны Антонавай «У землякоў за акіянам»[5]. Прынцыпова адрозная ад кнігі Барыса Сачанкі не толькі гучаннем, але і задумаю, яна складалася з гісторый пра спатканні і інтэрв'ю асобных беларусаў-эмігрантаў. Тут можна было як бы пачуць галасы саміх замежных суродзічаў: Наталлі Арсенневай, Веры Заморскай, Яніны Каханоўскай, Янкі Запрудніка, Міхася Кавыля, Галіны Русак, Антона Шукелойця, Зоры Кіпель, Алы Орса-Рамана і іншых.

1 Иосько, М. Николай Судзиловский-Руссель: Жизнь, революционная деятельность и мировоззрение. Минск, 1976. — 335 с.

2 Кісялёў, Г. Адысея паўстанца-скульптара // Кісялёў, Г. Героі і музы. Мінск, 1982. С. 62–70.

3 Сачанка, Б. Беларуская эміграцыя. Мінск, 1991. — 110 с.

4 Сачанка, Б. Пад сузор'ем сярпа і молата: аповесці, апавяданні, запісы розных гадоў. Мінск: Кнігазбор, 2016. 548 с.

5 Антонава, Т. У землякоў за акіянам. Мінск, 1991. — 111 с.

На фоне згаданых выданняў і ўсяго, што на той час друкавалася пра эміграцыю, з'яўленне кнігі «Беларусы ў ЗША» Вітаўта Кіпеля сталася сапраўдным адкрыццём Амерыкі. Гэта было першае ўзважанае, сістэматызаванае і грунтоўнае даследаванне беларускай прысутнасці ў канкрэтнай (і вельмі важнай у свеце) краіне, якое паказвала розныя перыяды і аспекты існавання эміграцыі. Да таго ж кніга была створаная эмігрантам з выкарыстаннем (і багатым цытаваннем) недасяжных для тагачасных метрапольных даследчыкаў крыніцаў і ўласнага досведу аўтара, у выніку чаго яна не выглядала сухой акадэмічнай працай, а была даступная для разумення і цікавая для шырокага кола чытачоў. Кніга Вітаўта Кіпеля паказала «беларускую Амерыку» навукоўцам і аматарам гісторыі і стала не проста важнай для айчыннай гістарыяграфіі, яна магла ўспрымацца як своеасаблівы арыенцір, узор для даследчыкаў, як пачатак навуковага эміграцыязнаўства.

Разам з тым аўтар не мог адною кнігаю цалкам вычарпаць тэму. Ён успрымаў сваю працу як пачатак вывучэння беларускай прысутнасці ў ЗША і гісторыі эміграцыі наогул, робячы ў тэксце пазнакі для будучых даследчыкаў, на якія аспекты варта звяртаць адмысловую ўвагу, распрацоўваць шырэй і глыбей. А пры канцы кнігі Вітаўт Кіпель змясціў пажаданне: *«Паўнейшае вывучэнне беларускае дыяспары як у ЗША, гэтак і ў цэлым свеце павінна быць распачатае на бацькаўшчыне, і дзейнасць ды здабыткі эміграцыі павінны быць улучаныя ў агульны кантэкст развіцця беларускае нацыі й культуры»*[6].

У 2017 годзе ўбачыла свет другое, значна дапоўненае аўтарам выданне працы «Беларусы ў ЗША», а сёлета выходзіць абноўленае трэцяе.

За 27 гадоў, што прайшлі пасля выхаду першай кнігі Вітаўта Кіпеля, з'явіліся дзясяткі ці нават сотні друкаў, прысвечаных беларускай эміграцыі наогул і ў ЗША ў прыватнасці. І шмат якія публікацыі пашыраюць і паглыбляюць інфармацыю, пададзеную ў той першай, наватарскай кнізе. Таму пры новым перавыданні «Беларусаў у ЗША» ёсць патрэба агледзець зробленае прадаўжальнікамі справы Вітаўта Кіпеля і звярнуць увагу на тыя публікацыі, якія ўзбагачаюць і ягоную кнігу, і сфармаваныя на яе падставе нашыя веды пра суродзічаў у Амерыцы.

Найперш варта спыніцца на істотным папаўненні крыніцазнаўчай базы для даследаванняў беларускай прысутнасці ў ЗША. І тут неабходна адзначыць некалькі кніг — зборнікаў інтэрв'ю эміграцыйных дзеячаў. Першая з іх убачыла свет у 1994 годзе і мела назву «Беларуская Амерыка»[7]. Яе аўтар Леанід Пранчак сабраў пад адной вокладкай інтэрв'ю амерыканскіх беларусаў, дапоўненыя публікацыяй некаторых дакументаў і ліставання. Тут можна было знайсці аповеды самых розных суродзічаў-эмігрантаў: і знаных дзеячаў, і шарагоўцаў. Чытач даведваўся пра абставіны жыцця і грамадскай дзейнасці Язэпа Сажыча, Антона Шукелойця, Расціслава Завістовіча, Жоржа Наумчыка, Кастуся Калошы, Юркі Азаркі, Янкі Запрудніка, Вітаўта Кіпеля, Кастуся Мерляка, Міхася Сенькі, Святаслава Каўша, Наталлі Арсенневай, Іны Рытар, Масея Сяднёва, Міхася Кавыля і дзясяткаў іншых. Прадстаўленая чалавечая палітра беларускай Амерыкі добра дапаўняла інфармацыю Вітаўта Кіпеля прыкладамі эмігранцкіх лёсаў і дасягненняў шмат якіх асобаў, што згадваліся ў «Беларусах у ЗША».

[6] Кіпель, В. Беларусы ў ЗША. Менск: Беларусь, 1993. С. 323.

[7] Пранчак, Л. Беларуская Амерыка. Мінск: Полымя, 1994. — 415 с.



Больш як праз дзесяцігоддзе ў Менску выйшла іншая кніга ўспамінаў эмігрантаў — «Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў» Аляксандра Адзінца[8]. Сярод 73 беларусаў з 11 краінаў найбольш было менавіта амерыканскіх. З журналістам паразмаўлялі таксама колішнія героі кнігі Вітаўта Кіпеля: Францішак Бартуль, Міхась Белямук, Лангіна Брылеўская, Кастусь Вайцяхоўскі, Расціслаў Гарошка, Анатоль Занковіч, Уладзімір Набагез, Вітаўт Рамук, Язэп Сажыч, Тамара Стагановіч, Віталь Цярпіцкі і шмат іншых — разам 31 асоба з ЗША. Розныя паводле зместу, настрою, скіраванасці ўспаміны ў кнізе (часта ілюстраваныя фотаздымкамі з сямейных архіваў) маюць не аднолькавую цікавасць і каштоўнасць для чытача. Некаторыя ўтрымліваюць сапраўды ўнікальныя звесткі пра асобаў і варункі жыцця ў ЗША. Успрыманню гэтых біяграфічных інтэрв'ю дапамагаюць шматлікія каментары, што разам з дадаткам біяграмаў згаданых у тэкстах асобаў робяць зборнік добрай крыніцай інфармацыі з гісторыі беларускага жыцця ў розных краінах, і асабліва ў Амерыцы.

Шмат «амерыканскіх» матэрыялаў утрымліваецца і ў кнізе Ганны Сурмач «Беларусь бязь межаў»[9], што складаецца з публікацый тэкстаў радыёперадачы «Беларускае замежжа», якая выходзіла на Радыё «Свабода» ў 2000–2006 гадах. З 270 праграмаў у зборнік увайшлі 130. Спецыфіка радыёперадачаў палягала ў шырокім выкарыстанні ў іх інтэрв'ю з беларусамі замежжа, што дазваляе паставіць кнігу якраз у шэраг выданняў вусных сведчанняў эмігрантаў. Усе тэксты «Беларусі бязь межаў» падзеленыя на тры раздзелы з кароткімі назвамі: «Краіны», «Асобы», «Падзеі», — і ў кожным з іх можна знайсці нямала тэкстаў, прысвечаных беларусам у ЗША. Тут ёсць цікавыя аповеды пра суродзічаў у асобных, не зусім традыцыйных для беларускай дыяспары ў гэтай краіне штатах і гарадах: на Алясцы, у Дэлавэры, у Філадэльфіі і інш. Змешчаныя інтэрв'ю з Францішам Бартулем, Зораю і Вітаўтам Кіпелямі, Янкам Запруднікам, Янінай Каханоўскай, Ірэнай Калядой, Язэпам Сажычам, Антонам Шукелойцем і іншымі старэйшымі амерыканскімі беларусамі. Разам з тым багата і згадак пра асобаў і рэаліі новай хвалі эміграцыі ў ЗША, што мела месца ад пачатку 1990-х гадоў.

Невялікая частка аповеду прысвечана Амерыцы ў кнізе Зянона Пазняка «Гутаркі з Антонам Шукелойцем»[10]. Гэта прыклад выдання паасобнага біяграфічнага інтэрв'ю амерыканскага беларуса. Праўда, большая частка кнігі прысвечана ўсё ж жыццю на Бацькаўшчыне.

Акрамя інтэрв'ю важнае месца сярод крыніцаў па гісторыі беларускай Амерыкі займае мемуарная спадчына. Сярод такога кшталту выданняў трэба найперш адзначыць кнігу «Дні аднаго жыцьця...», што складаецца з успамінаў і дзённікаў Зоры Кіпель[11]. Амерыканская беларуска рабіла больш-менш рэгулярныя запісы пра штодзённыя справы цягам 1978–1994 гадоў. Такім чынам, 16 гадоў жыцця сям'і Кіпеляў знайшлі адлюстраванне на старонках кнігі. Запісы пераважна кароткія, зробленыя, хутчэй, для памяці, прысвечаныя падзеям дня. Тут шмат пабытавых дэталяў, што могуць быць асабліва каштоўныя для будучых даследчыкаў

[8] Адзінец А. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. Мінск: Медысонт, 2007. — 704 с.

[9] Сурмач, Ганна. Беларусь бязь межаў. Мінск: Лімарыус, 2013. — 684 с.

[10] Пазьняк, З. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. Варшава — Вільня, 2003. — 143 с.

[11] Кіпель, З. Дні аднаго жыцьця...: успаміны, артыкулы, дзёньнікі. Мінск: Зьміцер Колас, 2010. — 936 с.

эміграцыйнай штодзённасці. Разам з тым у кнізе прысутнічаюць розныя асобы з тагачаснай беларускай дыяспары, якім аўтарка часам дае некія характарыстыкі. Праз дэталі вырашэння супольных справаў можна з бліжэйшае адлегласці зірнуць на Вітаўта Тумаша, Антона Адамовіча, Янку Запрудніка, шмат каго яшчэ і, зразумела, на Вітаўта Кіпеля. Між іншым апошні сам рабіў каментары да пазначаных жонкай падзей.

Не менш каштоўныя для разумення асаблівасцяў беларускага жыцця ў ЗША і ўласныя ўспаміны Вітаўта Кіпеля, апрацаваныя на падставе запісаных вусных сведчанняў Сяргеем Шупам у выглядзе кнігі «Жыць і дзеіць»[12]. Значная частка аўтарскага аповеду прысвечана менавіта амерыканскаму перыяду жыцця: пошукам працы, уладкаванню ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, актыўнай грамадскай дзейнасці, працы Беларускага інстытута навукі і мастацтва, кантактам з метрапольнымі беларусамі ў 1990-я. Гэтая кніга дадае да ранейшых «Беларусаў у ЗША» не толькі новыя звесткі, але і яшчэ большы жыццёва-асабовы кампанент, часам выключна важны для разумення эміграцыйных рэалій.

Невялічкая амерыканская частка ёсць і ў выдадзеных двойчы, у 1998 і 2013 гадах, «Эпізодах» Яўхіма Кіпеля (бацькі Вітаўта)[13]. На некалькіх старонках свайго аповеду ён падаў звесткі толькі пра самы першы час пасля прыезду і ўладкавання ў ЗША. Разам з тым мемуарныя тэксты ўсіх трох Кіпеляў, сабраныя разам, складаюць своеасаблівую сямейную сагу амерыканскіх беларусаў.

Шмат інфармацыі пра жыццё і дзейнасць беларусаў у ЗША змяшчаецца ва ўспамінах Кастуся Мерляка, выдадзеных таксама двойчы: у 1992 годзе ў Нью-Ёрку і ў 1994 годзе ў Менску[14]. У кнізе можна знайсці апісанне прыезду і ўладкавання аўтара ў ЗША ў сярэдзіне 1950-х гадоў, ініцыятываў у Беларуска-амерыканскім задзіночанні ды ў БАПЦ у Нью-Ёрку. Актыўнасць Кастуся Мерляка, што прывяла да стварэння новых беларускіх свецкіх і рэлігійных адзінак у ЗША, стала адметнай старонкай у гісторыі паваеннай эміграцыі. А кніга ўспамінаў тлумачыць і матывы, і абставіны дзеянняў яе аўтара.

Закранаюцца амерыканскія падзеі і ў трэцім томе «Мэмуараў» Яна Пятроўскага[15]. Ва ўспамінах Міхася Белямука «Свайго лёсу не мінеш»[16] распавядаецца пра беларускую грамаду ў Кліўлендзе. Багата звестак пра грамадскае і рэлігійнае жыццё беларусаў у Нью-Ёрку можна знайсці на старонках мемуараў Барыса Данілюка «Азіраючыся расой выетымі вачыма»[17], выдадзенай у серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» выдавецтва «Лімарыус». Зусім не закранаецца жыццё беларускай грамады ў Амерыцы ў аповедзе Мікалая Махнача «Доўгая дарога да свабоды» (Менск, 2014)[18], паколькі аўтар не меў сувязяў з іншымі амерыканскімі беларусамі. Тым не менш ягоныя ўспаміны адлюстроўваюць шмат цікавых дэталяў працэсу адаптацыі эмігрантаў у гэтай краіне.

[12] Кіпель, В. Жыць і дзеіць: успаміны. Мінск: Зміцер Колас, 2015. — 442 с.

[13] Кіпель, Я. Эпізоды. Нью-Ёрк, 1998. — 305 с.; 2-е выд. Мінск: Лімарыус, 2013. — 388 с.

[14] Мерляк, К. Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі: Пранíклівасьць і практычны падыход. Нью Ёрк, 1992. — 476 с.; Мерляк, К. Дзейнасць Кастуся Мерляка ў эміграцыі. Мінск: Беларускае выдавецкае таварыства «Хата», 1994. — 473 с.

[15] Пятроўскі, Я. Мэмуары: Стагодзьдзе ў рэтраспэкце. Кн. 3. Слуцак — Гэйнсвіль, 1997. — 365 с.

[16] Белямук, М. Свайго лёсу не мінеш. Вільня, 2006. — 203 с.

[17] Данілюк, Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: успаміны. Менск: Лімарыюс, 2012. — 524 с.

[18] Махнач, М. Доўгая дарога да свабоды / уклад. і літ. апрац. М. Чарняўскі. Мінск: Тэхналогія, 2014. —135 с.



Асаблівую групу мемуарнай літаратуры складаюць успаміны прадстаўнікоў так званага пакалення Ды-Пі — тых, што выехалі з Беларусі ў дзіцячым ці падлеткавым узросце, вучыліся ў школах-гімназіях у лагерах для перамешчаных асобаў у паваеннай Нямеччыне, а вышэйшую адукацыю атрымалі ўжо ў ЗША. Іх успаміны пра прыезд у Амерыку і жыццё там істотна адрозніваюцца ад аповедаў прадстаўнікоў старэйшага пакалення. Прыкладам таго можа быць кніга Святаслава Шабовіча «Ад фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: Гісторыя аднаго падарожжа»[19], дзе аўтар цікава распавядае пра пошукі працы, навучанне ў ЗША, вайсковую службу, заляцанні да дзяўчат. Дзякуючы падтрымцы беларускай грамады Святаслаў Шабовіч навучаўся ва ўніверсітэце ў Мічыгане, пра што таксама распавядаецца ў кнізе, як і пра аднаго з лідараў дэтройцкіх беларусаў Міколу Прускага.

Невялікі амерыканскі перыяд быў у жыцці іншай прадстаўніцы таго ж пакалення Ды-Пі Галіны Руднік (Ганчарэнкі)[20]. На пачатку 1950-х яна прыехала ў ЗША з сваёй цёткай Барбарай Вержбаловіч, аднак па атрыманні вышэйшай асветы, у сярэдзіне 1950-х, з'ехала ў Мюнхен для працы ў беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне». Таму амерыканскі аповед Галіны Ганчарэнкі абмяжоўваецца згадкамі пра прыезд у Нью-Ёрк, уладкаванне з дапамогай мясцовых беларусаў ды атрыманне адукацыі. Прынамінала ЗША былая супрацоўніца Радыё «Свабода» і ў сваім апошнім інтэрв'ю, запісаным у Мюнхене ў чэрвені 2017 года, за колькі месяцаў да смерці[21].

Няшмат пра жыццё ў ЗША напісана ва ўспамінах Юлі Андрусышын «Забыцьцю не адданае» (Менск, 2015)[22], што таксама апынулася за акіянам у вельмі маладым узросце. Затое значная частка яе кнігі прысвечаная сыну — беларуска-амерыканскаму спеваку Данчыку, якога яна суправаджала ў паездках на Беларусь. Дзённікі з тых гастроляў таксама апублікаваныя разам з успамінамі.

Апошнімі па часе ўспамінамі, што ўбачылі свет, прадстаўніцы пакалення Ды-Пі стала кніга мастачкі Тамары Стагановіч-Кольба «Абрэзкі з мінулых гадоў» (Менск, 2018)[23]. Тут багата месца аддадзена прыезду, навучанню, жыццю і творчай дзейнасці аўтаркі ў ЗША. І хоць у мемуарах мала закранаецца рэчаіснасць беларуска-амерыканскай грамады, затое выдатна адлюстраваны працэс рэалізацыі своеасаблівай «амерыканскай мары» беларускай жанчынай, якая стала ў новай краіне паспяховай мастачкай.

Публікацыі ўспамінаў Тамары Стагановіч папярэднічалі кнігі мемуараў яе бацькоў: «Успаміны пасла» Аляксандра Стагановіча[24] і «Мае ўспаміны» Марыі Стагановіч[25]. І хоць у гэтых тэкстах амерыканскі перыяд іх жыцця

[19] Шабовіч, С. Ад фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: Гісторыя аднаго падарожжа. Мінск: Кнігазбор, 2015. — 260 с.

[20] Руднік, Г. Птушкі пералётныя. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. — 192 с.

[21] Гардзіенка, Н. Галіна Руднік: першае спатканне і апошняе інтэрв'ю // Будзьма беларусамі! https://budzma.by/news/halina-rudnik-pyershaye-spatkannye-i-aposhnyaye-intervyu.html.

[22] Андрусышын, Ю. Забыцьцю не адданае. Мінск: Лімарыус, 2015. — 184 с.

[23] Стагановіч-Кольба, Т. Абрэзкі з мінулых гадоў. Мінск: Кнігазбор, 2018. — 564 с.

[24] Стагановіч, А. Успаміны пасла. Мінск: Лімарыус, 2011. — 270 с.; 2-е выд. Мінск: Лімарыус, 2014. — 270 с.

[25] Стагановіч, М. Мае ўспаміны. Мінск: Лімарыус, 2012. — 198 с.

не закранаецца, цалкам комплекс успамінаў Стагановічаў, хіба следам за комплексам успамінаў Кіпеляў, складае значную з'яву ў мемуарнай спадчыне эміграцыі. Вось як адзначыў гэта ў сваёй рэцэнзіі літаратуразнаўца Ціхан Чарнякевіч:

*«Сямейная сага Стагановічаў фактычна ператвараецца ў пэўны міталягічны комплекс тэкстаў. Стагановічы — гэта й Беларускі пасольскі клюб 1920-х, гэта Літаратурная прэмія ў галіне нон-фікшн, гэта кулінарная кніга Заходняй Беларусі, жаночы твар вайны й перасяленьня. Тут намяшаныя БНР і БЦР, палітыка даваенная й пасьляваенная, шмат кантынэнтаў, Сталін, Гітлер, Рузьвельт і бог ведае што яшчэ. Дзіўна, што дзесяць гадоў таму мы неяк бяз гэтага жылі»*[26].

Сярод мемуарных выданняў варта згадаць і ўспаміны Раісы Жук-Грышкевіч пра мужа Вінцэнта[27], дзе падаецца шмат інфармацыі пра падзеі ў асяродках амерыканскіх беларусаў, адлюстраванай як у аповедах аўтаркі, гэтак і ў апублікаваных тамсама дакументах.

Цягам 1990–2010-х паспела выйсці багата мемуараў амерыканскіх беларусаў, аднак не ўсе яны закранаюць жыццё ў ЗША. Перыяду рэпрэсій прысвечаны мемуары Аўгена Калубовіча «На крыжовай дарозе»[28]. Пра даваенную і ваенную гісторыю распавядаецца ў аўтабіяграфічнай кнізе Франца Кушаля «Спробы стварэння беларускага войска»[29]. І хоць згаданыя тэксты нічога не дадаюць да гістарыяграфіі прысутнасці беларусаў у ЗША, яны важныя для разумення біяграфій тых эмігрантаў.

Зразумела, што мемуарныя тэксты выходзілі не толькі паасобнымі выданнямі, але і на старонках перыёдыкаў, а таксама ў зборніках. На пачатку 1990-х убачыў свет зборнік успамінаў эмігрантаў «На суд гісторыі»[30], дзе можна знайсці ўспаміны амерыканскіх беларусаў: Эдварда Будзькі, Франца Кушаля, Наталлі Арсенневай, Іны Рытар, Аўгена Калубовіча, Юркі Віцьбіча, Уладзіміра Клішэвіча, Масея Сяднёва і іншых. Нягледзячы на тое што гэтыя ўспаміны таксама не закранаюць заакіянскага жыцця, яны багата дадаюць да біяграфій беларускіх дзеячаў у ЗША. Гэтаксама можна знайсці аўтабіяграфічныя, навуковыя і публіцыстычныя тэксты амерыканскіх беларусаў у зборніку «З гісторыяй на "Вы"» (кн. 3.), укладзеным Янкам Запруднікам[31].

Значны ўнёсак у справу публікацыі эміграцыйных успамінаў зрабіў беларускі архівіст і даследчык эміграцыі з Нью-Ёрка Лявон Юрэвіч. У 1999 годзе як выданне Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку выйшла ўкладзеная ім кніга «Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі»[32]. Гэта грунтоўнае крыніцазнаўчае даследаванне розных варыянтаў мемуарнага наратыву беларусаў, створанага

[26] Чарнякевіч, Ц. Мэмуары амэрыканкі. Напісана па-беларуску // Запісы БІНіМ. № 41. Нью-Ёрк — Менск, 2019. С. 716.

[27] Жук-Грышкевіч, Р. Жыцьцё Віцэнта Жук-Грышкевіча: У адзначэнне 75-х Угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Таронта, 1993. — 797 с.

[28] Калубовіч, А. На крыжовай дарозе : Творы з эміграцыі. Мінск: Бацькаўшчына, 1994. — 318 с.

[29] Кушаль, В. Спробы стварэння беларускага войска. Мінск: Часопіс «Беларускі Гістарычны Агляд», 1999. — 164 с.

[30] На суд гісторыі: успаміны, дыялогі / уклад. Б. Сачанкі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — 303 с.

[31] З гісторыяй на «Вы»: Артыкулы, дакументы, успаміны / уклад. і ўвод. слова Я. Запрудніка. Вып. 3. Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — 347 с.

[32] Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі / уклад. Л. Юрэвіча. Нью Ёрк: БІНІМ, 1999. — 361 с.



на Захадзе. Вялікую частку кнігі складае публікацыя ўспамінаў у тым ліку і амерыканскіх беларусаў і беларусак: Апалоніі Савёнак, Юркі Віцьбіча, Наталлі Арсенневай, Вячаслава Селях-Качанскага, Алеся Змагара, Уладзіміра Брылеўскага. Пазнейшае менскае перавыданне кнігі пад назвай «Мэмуары на эміграцыі»[33] дадало ў спіс апублікаванай мемуарнай спадчыны амерыканскіх суродзічаў аўтабіяграфічны твор пісьменніка Уладзіміра Дудзіцкага «Даруй, што я плачу...».

Асобную важную групу крыніцаў па гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША складаюць эпісталярыі. Цягам апошніх дзесяцігоддзяў на старонках розных выданняў было апублікавана багата лістоў амерыканскіх беларусаў. Асабліва адзначым тут кніжныя выданні. Адна з ёмістых падборак эпісталярыяў змешчана ў кнізе спадчыны святара Мікалая Лапіцкага «У служэньні Богу й Беларусі»[34], укладзенай Юрыем Гарбінскім. Ліставанне святара дазваляе зразумець шмат якія рэлігійныя падзеі на эміграцыі наогул і ў ЗША асабліва. Сярод адрасатаў а. Мікалая Лапіцкага Радаслаў Астроўскі, Юрка Віцьбіч, Віктар Войтанка, Іван Касяк, Дзмітры Касмовіч ды іншыя асобы з розных беларускіх асяродкаў ЗША, Канады, Аўстраліі. Надзвычай цікавае ліставанне з епіскапам Апанасам (Мартасам), якога Лапіцкі беспаспяхова цягам дзесяцігоддзя намаўляў ачоліць БПЦ у юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярха.

У 2017 годзе ўбачыў свет укладзены тым самым даследчыкам Юрыем Гарбінскім першы том выдання твораў архіепіскапа БАПЦ Мікалая (Мацукевіча) «У малітве за Беларусь»[35]. У зборнік увайшлі казанні, успаміны, публіцыстыка рэлігійнага дзеяча, а таксама аповеды пра яго. Што праўда, звязаных з беларусамі ЗША тут матэрыялаў небагата (першаіерарх жыў у Канадзе, хоць апекаваўся і амерыканскімі суродзічамі), хіба што згадкі, звязаныя з падзеямі царкоўнага расколу ў БАПЦ у 1980–1990-я гады. Больш карысным для даследчыкаў гісторыі беларусаў у ЗША абяцае быць другі том выдання, дзе плануецца змясціць багатае ліставанне ўладыкі Мікалая.

Яшчэ дзве адметныя кнігі эпісталярыяў, што шмат дадаюць да разумення жыцця амерыканскіх беларусаў, заснаваныя на архівах гісторыка, доўгагадовага супрацоўніка Радыё «Свабода» Янкі Запрудніка. Выдадзены ў 2015 годзе зборнік «Па гарачых сьлядох мінуўшчыны: Мае лісты 1952–1959 гг. Універсітэт у Бэльгіі, газэта "Бацькаўшчына", радыё "Вызваленьне / Свабода" ў Мюнхэне й Нью-Ёрку»[36] сярод іншага ўтрымлівае лісты дзеяча з самага пачатку ягонага жыцця ў ЗША ў 1957–1959 гадах. Гэтыя эпісталярыі сведчаць пра тое, чым жыла тагачасная беларуская грамада ў Амерыцы і асобныя яе ўдзельнікі.

Другая кніга, заснаваная на лістах са збораў Янкі Запрудніка, прынцыпова адрозная ад папярэдняй. «Кантакты: сіла прыцягнення Бацькаўшчыны»[37] былі

[33] Юрэвіч, Л. Мэмуары на эміграцыі: крыніцазнаўчае дасьледаваньне. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005. — 332 с.

[34] Лапіцкі, М. У служэньні Богу й Беларусі / укл., прадм., камент. Ю. Гарбінскага. Нью Ёрк — Варшава, 2005. — 672 с

[35] Мікалай (Мацукевіч), архіяпіскап. У малітве за Беларусь. Творы / укл., прадм., камент. Ю. Гарбінскага. Нью-Ёрк —Люблін — Варшава: БІНІМ, Факультэт Паліталёгіі Ўнівэрсытэту Марыі Кюры-Складоўскай, ІСПАН, 2017. Т. 1. — 862 с.

[36] Запруднік, Я. Па гарачых слядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952–1959 гг. Універсітэт у Бэльгіі, газэта «Бацькаўшчына», радыё «Вызваленьне / Свабода» ў Мюнхэне й Нью-Ёрку / рэд. і прадм. В. Трыгубовіч. Мінск: Лімарыус, 2015. — 572 с.

[37] Кантакты: сіла прыцягнення Бацькаўшчыны (да 90-годдзя Янкі Запрудніка) / аўтарыўклад.: Н. Гардзіенка і Л. Юрэвіч. Мінск: Кнігазбор, 2016. — 278 с.

ўкладзеныя да 90-годдзя дзеяча і змяшчаюць эпісталярыі, скіраваныя да амерыканскага беларуса пераважна суродзічамі з метраполіі ў 1980—1990-я гады. Апублікаваныя тут лісты адлюстроўваюць і праваабарончую дзейнасць беларускай эміграцыі (у тым ліку і амерыканскіх беларусаў), і іх падтрымку Беларусі. У тым самым годзе частка ліставання, што датычыла дысідэнта Міхася Кукабакі, дапоўненая іншымі дакументамі з архіва Янкі Запрудніка, увайшла як асобная частка ў прысвечаную гэтаму дзеячу кнігу[38].

Важнай з пункту гледжання і аналізу эпісталярнай спадчыны беларускай эміграцыі і публікацыі яе разнастайных прыкладаў стала кніга таго ж Лявона Юрэвіча «Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя ідэй і людзей на эміграцыі ў ліставанні»[39]. Тут прадстаўлена захаванае ў зборах Беларускага інстытута навукі і мастацтва ліставанне беларускіх эмігрантаў, якое раскрывае не толькі творчую кухню пісьменнікаў ці «нутраныя справы» грамадскіх дзеячаў, але і асаблівасці штодзённага жыцця эмігрантаў, і найперш ды найбольш менавіта амерыканскіх. У «Шматгалосым эпісталярыуме» прадстаўленыя лісты з асабістых архіваў Юркі Віцьбіча, Уладзіміра Клішэвіча, Наталлі Арсенневай і Яніны Каханоўскай, Вітаўта Тумаша і іншых беларусаў з ЗША. Кнігу Лявона Юрэвіча можна назваць першай спробай асэнсавання эпісталярыяў як крыніцы па гісторыі і культуры эміграцыі.

Звесткі пра жыццё беларускіх інтэлектуалаў у ЗША пачатку 1950-х гадоў можна знайсці ў трэцяй кнізе новай серыі «Спадчына: агледзіны» Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» — «Як укладалі “Спадчыну”» (Менск, 2018)[40]. У заснаваным на ліставанні старшыні БІНіМа Вітаўта Тумаша і выдаўца Станіслава Станкевіча, прысвечаным укладанню і выданню збору твораў Янкі Купалы «Спадчына» (Мюнхен, 1955), закранаюцца шматлікія сюжэты з жыцця і творчасці беларускіх пісьменнікаў і навукоўцаў у ЗША, іх адаптацыі і штодзённасці ў новай краіне, пачаткаў дзейнасці Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку.

Апошняму прысвечана і адмысловае выданне «Хронікі БІНіМу» Наталлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча[41]. У гэтай кнізе на падставе дакументаў, лістоў і ўспамінаў з архіва Беларускага інстытута навукі і мастацтва, які захоўваецца цяпер у БДАМЛМ, аднаўляецца гісторыя стварэння і шматгадовай дзейнасці гэтай знакавай навуковай установы беларускай эміграцыі ў ЗША і наогул на Захадзе.

Паваенная эміграцыя мела найперш палітычны характар, а таму асаблівае значэнне маюць публікацыі дакументаў і тэкстаў, прысвечаных дзейнасці Рады БНР і БЦР на эміграцыі, рэалізацыі грамадска-палітычных ініцыятываў. Так, намаганнямі БІНіМа ў 1998 годзе ўбачылі свет дзве вялікія кнігі першага тома «Архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі», укладзеныя Сяргеем Шупам[42]. І хоць дакументы датычаць першых гадоў існавання БНР, сярод іх ёсць цікавыя звесткі пра беларусаў у ЗША, дзейнасць Язэпа Варонкі, Янкі Чарапука і іншых, заснаванне першых нацыянальных арганізацый у гэтай краіне. Цытаты з гэтых дакументаў увайшлі і ў другое выданне «Беларусаў у ЗША» Вітаўта Кіпеля.

[38] Міхась Кукабака. Мінск, 2016. — 372 с.

[39] Юрэвіч, Л. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя ідэй і людзей на эміграцыі ў ліставанні. Мінск: Кнігазбор, 2012. — 660 с.

[40] Як укладалі «Спадчыну»: Да 135-годдзя ад нараджэння і 75-годдзя смерці Янкі Купалы. Выбранае / уклад., падрыхтоўка тэкстаў, уступ. слова, камент., агульнае рэдагаванне Н. Гардзіенкі і Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2018. — 290 с.

[41] Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Хронікі БІНіМу: Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў дакументах, лістах і ўспамінах. Мінск: Кнігазбор, 2017. — 352 с.

[42] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі / уклад. С. Шупы. Т. І. Кн. 1–2. Вільня — Нью Ёрк — Менск — Прага, 1998. — 1721 с.



Дзейнасці паваеннай Рады БНР, што наўпрост была звязаная з ЗША, прысвечаны тры наступныя кнігі Наталлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча. У першай «Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы»[43] змешчаны і адмысловы аналітычны тэкст пра амерыканскі перыяд дзейнасці БНР пад кіраўніцтвам Міколы Абрамчыка, і пратаколы ды дакументы з адпаведнага часу, і біяграфічныя нарысы пра радных з ЗША. У другой кнізе «Рада БНР (1970—1982): Падзеі і дакументы»[44] распавядаецца пра перыяд старшынёўства ў Радзе канадыйскага беларуса Вінцэнта Жук-Грышкевіча, аднак асноўныя падзеі і матэрыялы тут звязаныя таксама з Злучанымі Штатамі. А апошняя кніга «Рада БНР (1982—1997): Падзеі. Дакументы. Асобы»[45] прысвечаная амаль цалкам падзеям у ЗША, дзе жыў і тагачасны старшыня ўрада на эміграцыі Язэп Сажыч. Нягледзячы на тое што Рада БНР была агульнаэміграцыйнай структурай, ад пачатку 1950-х гадоў яе цэнтр знаходзіўся ў Нью-Ёрку, дзе адбываліся пасяджэнні прэзідыума і большасць сесій, у ЗША жыла і найвялікшая колькасць радных. Таму ў апублікаваных у згаданым трохтамовіку дакументах раскрываецца жыццё і дзейнасць менавіта амерыканскіх беларусаў. Выданні сведчаць не толькі пра асноўныя кірункі, магчымасці і ўмовы працы Рады БНР у ЗША, але і пра ўплыў мясцовага вонкавага і нутранога кантэксту, пра абставіны існавання дзеячаў эмігрантаў, пра супольныя праблемы нацыянальных арганізацый, звязаныя з невялікай актыўнасцю суродзічаў. Кнігі важныя пададзенай у іх значнай колькасцю дакументаў: пратаколаў, справаздачаў, мемарандумаў, ліставання.

Падобнай паводле значэння з'яўляецца і праца Алега Гардзіенкі «Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943—1995)»[46]. Гэтая канкурэнтная Радзе БНР структура таксама мела агульнаэміграцыйны характар, аднак большую частку сваёй паваеннай гісторыі была звязаная з ЗША. Тут дзеілі яе органы, тут былі асяродкі яе прыхільнікаў (найбольшы ў нью-джэрсійскім Саўт-Рыверы), тут жылі і пахаваныя двое з трох яе прэзідэнтаў (Радаслаў Астроўскі і Нікандр Мядзейка), тут захаваліся яе архівы. На падставе апошніх і напісаная кніга Алега Гардзіенкі, што таксама шмат дадае фактычнай і дакументальнай інфармацыі пра жыццё амерыканскіх беларусаў.

Іншая кніга таго ж аўтара «Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (БККА)» прысвечана адной з значных беларускіх арганізацый у ЗША[47]. Алег Гардзіенка падае дзейнасць камітэта з сур'ёзнай передгісторыяй, шырокім гістарычным фонам і цытатамі вялікай колькасці дакументаў ад успамінаў да мемарандумаў. У першых частках кнігі распавядаецца пра жыццё беларусаў у паваеннай Нямеччыне і іх выезд у ЗША, стварэнне беларускага асяродка ў Саўт-Рыверы, арганізацыйнае афармленне кола прыхільнікаў БЦР у Злучаных Штатах. Падрабязна

[43] Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. — 648 с.

[44] Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Рада БНР (1970—1982): Падзеі і дакументы. Мінск: Кнігазбор, 2014. — 300 с.

[45] Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Рада БНР (1982—1997): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2015. — 224 с.

[46] Гардзіенка, А. Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943—1995). Мінск: Кнігазбор, 2016. — 480 с.

[47] Гардзіенка, А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА). Смаленск, 2009. — 428 с.

разглядаецца стварэнне БККА, найважнейшыя этапы яго дзейнасці, супраца з іншымі арганізацыямі, выдавецкая актыўнасць, уплыў асобных дзеячаў на гісторыю Камітэта. Усе падзеі падаюцца побач з характарыстыкай асноўных тэндэнцый у жыцці амерыканскага грамадства, аналізам тых умоваў, у якіх дзеялі беларускія эміграцыйныя арганізацыі. Гісторыю Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі Алег Гардзіенка даводзіць да сучаснасці, падае падзеі 1990-х і 2000-х гадоў з заўвагамі пра кантакты ўдзельнікаў з амерыканскімі чыноўнікамі і метрапольнымі беларускімі дзеячамі і структурамі, а таксама разглядае спыненне супрацьстаяння БНР — БЦР на эміграцыі.

У 2019 годзе ўбачыла свет пасмяротнае выданне працы Змітра Саўкі «Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы: Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949–1999). Падзеі. Дакумэнты. Успаміны. Пэрсаналіі»[48]. Матэрыялы для гэтага даследавання аўтар збіраў яшчэ пры канцы 1990-х гадоў: папрацаваў з каштоўнымі эміграцыйнымі архівамі, паспеў сабраць успаміны яшчэ жывых сведкаў заснавання і дзейнасці БАЗА. З запісаных інтэрв'ю склалася асобная і вельмі каштоўная другая частка кнігі, дзе прадстаўлены аповеды Янкі Азаркі, Францішa і Веры Бартуляў, Міхася Белямука, Кастуся Калошы, Юркі Каляды, Яніны Каханоўскай, Вітаўта Кіпеля, Янкі Раковіча, Васіля, Галіны, Уладзіміра і Нюры Русакоў, Вячкі Станкевіча, Міхася Страпко, Антона Шукелойця, Васіля Шчэцькі. Першая ж частка працы Змітра Саўкі распавядае пра розныя аспекты гісторыі найстарэйшай дзейнай беларускай арганізацыі ў ЗША. Тут ёсць і згадкі пра знакавыя падзеі і ініцыятывы, што рэалізоўваліся ў БАЗА «год за годам», і агляд дзейнасці рэгіянальных структураў арганізацыі «ад Атлятныкі да Пацыфіку», і акрэсленне гісторыі спадарожных арганізацый (жаночых, ветэранскіх, моладзевых і іншых). Асобна разглядаюцца ў кнізе найбольш значныя акцыі і імпрэзы, у тым ліку і Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Надаецца ўвага пытанням асветы і медыя. Надзвычай цікавы раздзел рэпрэзентуе «гадавы каляндар БАЗАўца», дзе прадстаўленыя паслядоўна тыя святы, якія звычайна адзначалі амерыканскія беларусы цягам году. Публікуюцца ў кнізе і некаторыя дакументы, як унутры самога тэксту, гэтак і ў адмысловым раздзеле. Праца Змітра Саўкі ўяўляе з сябе добры падмурак для адмысловых галіновых даследаванняў беларускай актыўнасці ў ЗША, а таксама для больш грунтоўнага аднаўлення гісторыі БАЗА.

Вось, што піша ў сваім водгуку на гэтае выданне гісторык Юры Грыбоўскі: «*Бясспрэчна, кніга Зьмітра Саўкі ўтрымлівае багаты факталягічны матэрыял, насычаная інфармацыяй пра эпоху, падзеі й людзей. Яна схіляе чытача да рэфлексіі над мінулым і будучыняй Беларускай Амэрыкі. Адначасова праца заахвочвае да навуковай дыскусіі вакол шматлікіх праблемаў, якія ўзьняў у сваёй працы аўтар. Кніга не вычэрпвае цалкам дасьледванай тэмы (тым больш што БАЗА працягвае дзейнічаць), але стварае вельмі добрую падставу для далейшых дасьледаваньняў гісторыі Беларускай Амэрыкі ў цэлым і гісторыяй Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў прыватнасьці. Многія пытаньні й праблемы, якія закрануў аўтар, заслугоўваюць далейшага разгляду з улікам выкарыстаньня новых крыніцаў на Бацькаўшчыне й за мяжой. У сувязі з гэтым кніга будзе выдатным спадарожнікам і дапаможнікам усім тым, хто ў будучыні наважыцца вывучаць гісторыю й сучаснасьць беларускай дыяспары за акіянам*»[49].

[48] Саўка, З. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы: Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949–1999). Падзеі. Дакумэнты. Успаміны. Пэрсаналіі. Мінск, Кнігазбор, 2019. — 604 с.

[49] Грыбоўскі, Ю. Летапіс Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня // Запісы БІНіМ. № 41. Нью-Ёрк—Менск, 2019. С. 724.



Згадваючы тэму грамадска-палітычнага жыцця амерыканскіх беларусаў, варта адзначыць кнігу беларускага даследчыка ў Польшчы Юрыя Грыбоўскага *«Pogoń między Orłem Białym, Swastzką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956»*[50], выдадзеную ў Варшаве ў 2011 годзе. Тут можна прачытаць пра дзейнасць беларускіх грамадскіх, палітычных, рэлігійных, вайсковых арганізацый у ЗША пераважна на пачатку 1950-х гадоў.

Яшчэ адна кніга, дзе публікуецца багата дакументаў, прысвечаных грамадскаму жыццю амерыканскіх беларусаў, належыць аўтарству Янкі Запрудніка і выйшла не ў Беларусі, а ў ЗША. Гэта выданне «Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948–2011)»[51]. Добра ілюстраваная кніга рэпрэзентуе ўспаміны, паведамленні, абвесткі і іншыя матэрыялы, звязаныя з фестывальнай дзейнасцю беларусаў у Нью-Джэрсі. Яна акцэнтуе ўвагу на падзеях 1970–1980-х гадоў, калі і колькасная прысутнасць нашых суродзічаў у штаце была ці не найбольшая, і ўзрост большай часткі грамады — адносна малады. Да таго ж гэты час можна назваць перыядам своеасаблівага росквіту амерыканскай палітыкі па падтрымцы нацыянальных групаў. Менавіта ў Нью-Джэрсі ў 1976 годзе ўпершыню была створаная Этнічная рада пры губернатары, і кіраўніком яе стаў Вітаўт Кіпель. Дзякуючы ягонай актыўнасці і ініцыятыве сталі магчымыя найбольш значныя Беларускія фестывалі ў Цэнтры мастацтваў у Нью-Джэрсі, што адбываліся ў 1976, 1977 і 1979 гадах. Гэтыя падзеі знаходзяцца ў цэнтры разгляду і ў кнізе Янкі Запрудніка. Тут асвятляецца падрыхтоўка мерапрыемстваў, на якія збіралася каля трох тысячаў беларусаў, ды разнастайная праграма, што ўключала і канцэрты, і выставы, і прэзентацыі розных відаў традыцыйнага мастацтва. Акрамя арганізацыі ўласных фестываляў беларусы актыўна ўдзельнічалі ў шматнацыянальных фестывалях у парку Свабоды ў Джэрсі-Сіці. Акрамя таго, у невялікім нью-джэрсійскім Саўт-Рывеpы, дзе знаходзіцца царква Св. Еўфрасінні Полацкай, ад 1973 года, цягам не менш чым чвэрці стагоддзя, у сакавіку адбываліся выставы беларускага мастацтва, што сталі таксама значнай падзеяй у жыцці амерыканскіх суайчыннікаў. Усе пададзеныя звесткі шмат дадаюць да інфармацыі ў кнізе «Беларусы ў ЗША».

Побач з мемуарнай, эпісталярнай ды дакументальнай цягам апошніх дзесяцігоддзяў актыўна вярталася ў Беларусь і літаратурная ды навуковая спадчына амерыканскіх беларусаў. Чытачы атрымалі магчымасць не толькі даведацца пра імёны пісьменнікаў, што фігуравалі ў працы Вітаўта Кіпеля, але і пазнаёміцца з іх творчасцю. Гэты працэс сягае каранямі яшчэ ў пачатак 1990-х. Так, у 1992 годзе ўбачыў свет укладзены Барысам Сачанкам зборнік «Туга па Радзіме»[52], дзе, зразумела, былі надрукаваныя паэтычныя творы найбольш менавіта амерыканскіх беларусаў (12 з 15 аўтараў): Наталлі Арсенневай, Янкі Золака, Алеся Змагара, Алеся Смаленца, Масея Сяднёва, Міхася Кавыля, Уладзіміра Клішэвіча, Уладзіміра Дудзіцкага, Рыгора Крушыны, Янкі Юхнаўца, Анатоля Бярозкі, Сяргея Ясеня.

[50] Grzybowski, J. Pogoń między Orłem Białym, Swastzką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956. Warszawa, 2011. — 907 s.

[51] Zaprudnik, J. Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey: Political Information Through the Language of Art (1948–2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948–2011). New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013. — 198 p.

[52] Туга па Радзіме: Паэзія беларускай эміграцыі / уклад. Б. Сачанкі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1992. — 639 с.

У 1995 годзе ўбачыў свет таксама ўкладзены пры ўдзеле Барыса Сачанкі зборнік «А часу больш, як вечнасць»[53], куды ўвайшлі творы амаль што тых самых паэтаў, што і ў «Тугу па Радзіме». І хоць пасля гэтага калектыўных зборнікаў паэтаў-эмігрантаў у Беларусі больш не выдавалася[54], выходзілі тамы паасобных аўтараў з ЗША. Так, яшчэ ў 1992 годзе ў Менску быў перавыдадзены зборнік Наталлі Арсенневай «Пад сінім небам» (1927)[55]. У 1996 годзе ў серыі «Галасы беларускага замежжа» выйшаў том яе выбранай паэзіі «Яшчэ адна вясна», укладзены Алай Сямёнавай, а ў 2002 годзе ўбачыла свет кніга выбранага ў серыі «Беларускі кнігазбор», падрыхтаваная Лідзіяй Савік[56].

У згаданай вышэй серыі «Галасы беларускага замежжа» ў 1994 годзе выйшаў таксама зборнік Янкі Юхнаўца «Сны на чужыне», укладзены Алесем Бяляцкім[57]. А амаль праз 20 гадоў, у 2012-м, у іншай серыі «Галасы Айчыны» быў выдадзены вялікі збор паэзіі таго ж эміграцыйнага аўтара[58]. І сам аўтар яшчэ ў 1990-я друкаваў саматугам у Нью-Ёрку ўласныя творы[59]. Асобнікі гэтых выданняў траплялі і ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі[60].

У 1992 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» з прадмовай Барыса Сачанкі выйшла кніга Масея Сяднёва «Патушаныя зоры»[61], дзе публікаваліся ягоныя паэтычныя і празаічныя творы. У 1994 годзе ўбачыла свет «Масеева кніга»[62], куды ўвайшлі успаміны, дзённікі, нарысы. Варта згадаць, што Масей Сяднёў быў сярод аўтараў укладзенай Вольгай Іпатавай у 2005 годзе «Анталогіі беларускай прозы», выдадзенай на балгарскай мове[63], а ў 2014 годзе ў серыі «Беларускі кнігазбор» выйшаў ягоны зборнік выбранага, падрыхтаваны Лідзіяй Савік і Кастусём Цвіркам[64]. Выходзілі ў Беларусі і зборнікі Рыгора Крушыны: «Цымбаліст», «Выбранае» і «Кантата самотных» — усе ўкладзеныя Міхасём Скоблам[65]. У 1996 годзе ў

[53] А часу больш, чым вечнасць: літаратура беларускага замежжа: для старэйшага школьнага ўзросту / аўт. прадм. і ўклад. Б. Сачанка. Мінск: Юнацтва, 1995. — 332 с.

[54] Праўда, вершы эміграцыйных творцаў былі ўключаныя ў вялікі збор «Краса і сіла: анталогія беларускай паэзіі XX ст.», укладзены Міхасём Скоблам (Мінск, 2003).

[55] Арсеннева, Н. Пад сінім небам: вершы (1921—1925 г.) / аўт. уступ. арт. Я. Лецка. Факсімільнае выданне. Мінск, 1992. — 141 с.

[56] Арсеннева, Н. Яшчэ адна вясна: выбраныя вершы / уклад. і прадм. А. Сямёнавай. Мінск: Мастацкая літаратура, 1996. — 271 с.; Арсеннева, Н. Выбраныя творы / уклад. і камент. Л. Савік. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. — 589 с.

[57] Юхнавец, Я. Сны на чужыне: выбраныя творы / уклад. і прадм. А. Бяляцкага. Мінск: Мастацкая літаратуры, 1994. — 220 с.

[58] Юхнавец, Я. Паэзія / уклад., прадм. і камент. Л. Юрэвіча. Мінск: Лімарыус, 2012. — 616 с.

[59] Юхнавец, Я. Дань майго часу = Revelation of my time: Збор твораў. Нью Ёрк, 1993. — 195 с.; Юхнавец, Я. Драматычныя начыркі. Нью Ёрк, 1996. — 170 с.

[60] Можна згадаць, што творчасці Янкі Юхнаўца быў прысвечаны спецыяльны нумар часопіса «Крыніца» (1996. № 2).

[61] Сяднёў, М. Патушаныя зоры: вершы, раман / прадм. Б. Сачанкі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1992. — 375 с.

[62] Сяднёў, М. Масеева кніга: успаміны, старонкі дзенніка, эсэ. Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — 318 с.

[63] Антология белоруска проза / съставител Волга Ипатава. София: Илинда — Евтимов, 2005. — 621 с.

[64] Сяднёў, М. Выбраныя творы / уклад. Л. Савік і К. Цвіркі. Мінск: Кнігазбор, 2014. — 603 с.

[65] Крушына, Р. Цымбаліст: вершы / аўт. прадм. М. Скобла. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003. — 65 с.; Крушына, Р. Выбраныя творы / уклад., прадм., камент. М. Скоблы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005. — 443 с.; Крушына, Р. Кантата самотных: вершы і паэмы / уклад. М. Скобла. Мінск: Кнігазбор, 2007. — 307 с.



Менску ўбачыў свет том Янкі Золака «Вятрыска з радзімай краіны»[66], падрыхтаваны Леанідам Пранчаком, а ў 2004 годзе — зборнік «Выбранага» Анатоля Бярозкі, укладзены Анатолем Белым[67].

У 1994 годзе ў Нью-Ёрку выйшаў першы зборнік паэзіі «Напярэймы жаданьням» Уладзіміра Дудзіцкага, укладзены намаганнямі Лявона Юрэвіча[68]. Ён жа ў 2010 годзе падрыхтаваў і менскае выданне твораў гэтага аўтара ў серыі «Галасы Айчыны» выдавецтва «Лімарыус»[69]. Акрамя таго, Лявон Юрэвіч стаў укладальнікам (або суўкладальнікам) і зборнікаў твораў Лявона Савёнка (Крывічаніна): «Беларусізацыя пад №...» і «Творы» (разам з Ціханам Чарнякевічам)[70]. Таксама немагчыма не згадаць выдадзеную ў 1997 годзе «Архіўную кнігу»[71], дзе былі сабраныя раней невядомыя ці малавядомыя тэксты эміграцыйных аўтараў ў суправаджэнні біяграфічна-літаратуразнаўчых нарысаў пра іх таго ж нью-ёркскага беларуса-архівіста. Сярод іншых у якасці герояў тут прысутнічалі Уладзімір Дудзіцкі, Уладзімір Клішэвіч, Уладзімір Сядура-Глыбінны і Юрка Віцьбіч.

У 1995 годзе ў «Мастацкай літаратуры» ўбачыла свет рэпрынтнае перавыданне кнігі Юркі Віцьбіча «Плыве з-пад Святое гары Нёман»[72]. Потым у 1996 годзе ў Нью-Ёрку і ў 2006—2007 гадах (двума выданнямі) намаганнямі Лявона Юрэвіча выходзіла ягоная праца «Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі»[73], а ў 2011 годзе ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» была выдадзеная кніга даваеннай прозы Юркі Віцьбіча «Лшоно Габоо Бійрушалайм»[74]. Урэшце, у выдавецтве «Харвест» выйшаў зборнік артыкулаў «Наша спадчына прамаўляе»[75].

Творы празаікаў або драматургаў-эмігрантаў склалі зборнікі «Каханы горад» і «Эквівалент», таксама падрыхтаваныя Лявонам Юрэвічам[76], «Урачыстасць у садзе»[77], укладзены Ванкарэмам Нікіфаровічам, «Адзін Госпад, адна Вера, адзін

[66] Золак, Я. Вятрыска з радзімай краіны: збор выбраных твораў / уклад. і аўт. прадм. Л. Пранчак. Мінск: БелАДІ, 1996. — 311 с.

[67] Бярозка, А. Выбранае / уклад. А. Белага. Мінск: Тэхнапрынт, 2004. — 193 с. Таксама творчасць Анатоля Бярозкі ў перакладзе на сербскую мову ўвайшла ў: Антологија белоруске поезије / [приредио] Иван Чарота; превод са белоруског Миодраг Сибиновић. 2-о проширено изд. Београд: Српска књижевна задруга, 2012. — 230 с.

[68] Дудзіцкі, У. Напярэймы жаданьням: збор твораў / уклад. Л. Юрэвіча. Нью Ёрк, 1994. — XXIX+312 с.

[69] Дудзіцкі, У. Творы / уклад. Л. Юрэвіча. Мінск: Лімарыус, 2010. — 400 с.

[70] Крывічанін, Л. Беларусізацыя пад №... / уклад. Л. Юрэвіча. Нью Ёрк, 1998. — 164 с.; Савёнак, Л. Творы / уклад. Ц. Чарнякевіча і Л. Юрэвіча. Мінск: Лімарыус, 2012. — 352 с.

[71] Архіўная кніга / аўтар-уклад. Л. Юрэвіч. Нью Ёрк, 1997. — 446 с.

[72] Віцьбіч, Ю. Плыве з-пад Сьвятое Гары Неман: мастацкі нарыс. Рэпрынт. выд. Мінск: Мастацкая літаратура, 1995. — 94 с.

[73] Віцьбіч, Ю. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. Нью Ёрк, 1996. — XVI+397 с.; Віцьбіч, Ю. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. Вільнюс, 2006. — 294 с.; Віцьбіч, Ю. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі / уступ. арт. Л. Юрэвіча. Смаленск, 2007. — 306 с.

[74] Віцьбіч, Ю. Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза / уклад. Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2011. — 232 с.

[75] Віцьбіч, Ю. Наша спадчына прамаўляе: цыкл нарысаў, прысвечаных помнікам архітэктуры і культуры старой Беларусі. Мінск: Харвест, 2015. — 271 с.

[76] Каханы горад: зборнік эміграцыйнай ваеннай прозы / уклад. Л. Юрэвіча. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 369 с.; Эквівалент: зборнік эміграцыйнай гістарычнай прозы / уклад. Л. Юрэвіча. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005. — 409 с.

[77] Урачыстасьць у садзе: Драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя / уклад. і прадм. В. Нікіфаровіча. Менск: Медысонт, 2007. — 536 с.

Хрост: Царкоўная гісторыя вачыма эміграцыі»[78], сабраны Андрэем Любічам. Усе яны выйшлі ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны».

Друкаваліся цягам апошніх двух дзясяткаў гадоў і творы беларускіх крытыкаў-літаратуразнаўцаў і даследчыкаў з ЗША. Так, у 2003 годзе ў Нью-Ёрку выйшаў укладзены Лявонам Юрэвічам БІНіМаўскі том «Творы» Антона Адамовіча[79], а ў 2005 годзе з яго выкарыстаннем быў створаны менскі том таго ж аўтара «Да гісторыі беларускай літаратуры», рэдагаваны Валерам Булгакавым[80].

У 1994 годзе ўбачыла свет кніга Станіслава Станкевіча «Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу»[81], укладзеная Змітром Санько, а ў 2010 годзе ў перакладзе Міколы Хаўстовіча выйшла праца «Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі» таго ж аўтара[82].

У 1997 годзе БІНіМам была выдадзеная кніга Уладзіміра Сядуры-Глыбіннага «Вялікія дарогі»[83], а ў 2012 годзе ў зборніку, укладзеным Анатолем Тарасам, перадрукаваная ягоная ж праца «Доля беларускай культуры пад Саветамі 1920–1957»[84]. Да таго у 2002 годзе ў Менску ўбачыла свет невялікая кніга «Выбраныя працы» Вітаўта Тумаша[85]. Асобна варта адзначыць адметную колькасць перавыданняў працаў мовазнаўцы і гісторыка Янкі Станкевіча[86], а таксама Аўгена Калубовіча[87].

З апошніх прыкладаў выдання творчай спадчыны амерыканскіх беларусаў варта адзначыць кнігу Янкі Запрудніка «Берагу майго зарніцы»[88]. Першую частку гэтага зборніка склала творчая спадчына пісьменніка: вершы, паэмы, эпітафіі,

[78] Адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост: Царкоўная гісторыя вачыма эміграцыі / уклад. А. Любіча. Мінск: Кнігазбор, 2007. — 336 с.

[79] Адамовіч, А. Творы / уклад. Л. Юрэвіча. Нью Ёрк, 2003. — XXXIV+764 с.

[80] Адамовіч, А. Да гісторыі беларускай літаратуры / склад. і рэд. В. Булгакаў. Менск: Колас, 2005. — 1463 с.

[81] Станкевіч, С. Русіфікацыя беларускай мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу / уклад. З. Санько. Мінск: Навука і тэхніка, 1994. — 77 с.

[82] Станкевіч, С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі / пераклад з польск. Вільня: Інстытут беларусістыкі — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2010. — 211 с.

[83] Сядура, В. Вялікія дарогі: Пра мінулае. [Мічыган]: БІНіМ, 1997. — 195 с.

[84] Доля беларускай культуры пад Саветамі, 1920–1991 гг. / уклад. А. Е. Тарас. Мінск: Харвест, 2012. — 335 с.

[85] Тумаш, В. Выбраныя працы / прадм. Г. Сагановіча. Мінск, 2002. — 244 с.

[86] Станкевіч, Я. Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом. Рэпрынт. выд. 3-е выд. Менск: Беларускае кааперацыйна-выдавецкае таварыства «Адраджэнне», 1991. — 33 с.; Станкевіч, Я. Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак фразеалагічны і прыказак ды прывітанні, зычанні і інш. / Я. Станкевіч пры ўчасьці Ант. Адамовіча. 3-е выд. Мінск: Навука і тэхніка, 1992. — 76 с.; Станкевіч, Я. Гісторыя беларускага языка. Рэпрынт. выд. Мінск: Адраджэнне, 1992. — 16 с.; Станкевіч, Я.; Абіхт, Р. Просты спосаб стацця ў кароткім часе граматным. Рэпрынт. выд. [Менск]: [Т-ва «Адраджэньне»], [1993]. — 16 с.; Станкевіч, Я. Збор твораў: у 2 т. Т. 1–2. Менск: Энцыклапедыкс, 2002; Станкевіч, Я. Гістарычныя творы. Менск: Энцыклапедыкс, 2003. — 772 с.; Станкевіч, Я. За родную мову й праўдзівы назоў: выбранае. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. — 741 с.; 2-е выд. Смаленск : Інбелкульт, 2013. — 741 с.; Станкевіч, Я. Язык і языкаведа / уклад. В. Булгакаў. 2-е выд. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2007. — 1214 с.; Станкевіч, Я. Крыўя-Беларусь у мінуласьці: гістарычныя творы. 2-е выд. Вільня: Інстытут беларусістыкі — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2010. — 772 с.; і некат. іншыя.

[87] Калубовіч, А. Крокі гісторыі: даследаванні, артыкулы, успаміны / біягр. нарыс і спіс публ. І. Каханоўскай. Беласток і інш.: ГаМакс, 1993. — 285 с.; Калубовіч, А. Мова ў гісторыі беларускага пісьменства. Факсімільнае выд. Варшава: Беларускія Ведамасьці, 2015. — 84 с.

[88] Запруднік, Я. Берагу майго зарніцы: Паэзія (1946–2017), Дзённік (1949–1954). Мінск: Лімарыус, 2017. — 264 с.



другую — дзённік надзвычай актыўных маладых гадоў (1949–1954), калі аўтар працаваў у вугальных капальнях Цэнтральнай Англіі, а потым вучыўся ў Лювенскім універсітэце Бельгіі.

У 2018 годзе ўбачыла свет укладзеная Лявонам Юрэвічам кніга «Масей Сяднёў: pro et contra»[89], заснаваная на цікавай і спецыфічнай выбарцы ліставання, публіцыстыкі і іншых тэкстаў пісьменніка, значная частка жыцця якога звязаная з Злучанымі Штатамі. Гэтае выданне дадае багата дэталяў да творчага і чалавечага партрэту Масея Сяднёва.

Сучасныя беларускія літаратары Амерыкі часта публікуюць свае творы на старонках літаратурнага альманаха «Беларус», выдаванага ад 2007 года ў Нью-Ёрку Маратам Клакоцкім. У 13 выпусках, якія ўжо ўбачылі свет, можна знайсці вершы, апавяданні, пераклады, успаміны Барыса Данілюка, Віталя Зайкі, Янкі Запрудніка, Цімоха Ліякумовіча, Анатоля Пранцэвіча, Сяржука Сокалава-Воюша, Ірыны Хадарэнкі, Валянціны Якімовіч і многіх іншых амерыканскіх беларусаў.

Як бачым, творчая спадчына беларускіх пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў з ЗША даволі актыўна вярталася і вяртаецца ў Беларусь. Прычым калі на пачатку 1990-х гэтым (поруч з амерыканскім БІНіМам) актыўна займаліся дзяржаўныя выдавецтвы, то ад мяжы стагоддзяў рэй вядуць недзяржаўныя выдаўцы. Пры гэтым шмат робіцца ў супрацы ўкладальнікаў і выдаўцоў дыяспары і метраполіі. Безумоўна, ёсць яшчэ аўтары і працы, чыя творчасць чакае свайго вяртання ў Беларусь. Найбольш хіба не пашанцавала паэту Міхасю Кавылю, выдаць творы якога ў Менску не атрымалася нават да ягонага 100-годдзя. Малавядомая на радзіме і вялікая скарыназнаўчая спадчына Вітаўта Тумаша. Больш увагі патрабуе таксама празаічная творчасць Янкі Юхнаўца ды некаторых іншых аўтараў. Аднак пры гэтым творы амерыканскіх беларускіх пісьменнікаў (у тым ліку і выдадзеныя на эміграцыі) ёсць у бібліятэках Беларусі, як і перыядычныя выданні, дзе публікаваліся гэтыя аўтары.

Такім чынам, крыніцазнаўчая база для пашырэння вывучэння беларускай прысутнасці ў Амерыцы пасля першага выдання «Беларусаў у ЗША» створана немалая. Асобна тут варта адзначыць ролю адзінага айчыннага эміграцыязнаўчага альманаха «Запісы Беларускага інстытуту навукі й мастацтва». Выдаваны ў Нью-Ёрку, а потым супольна ў Нью-Ёрку і Менску, ён у сваім 21 нумары (ад № 21 да № 41), што ўбачылі свет цягам 1994–2019 гадоў пастаянна змяшчаў не толькі артыкулы, якія наўпрост ці ўскосна закраналі тэму беларускай эміграцыі ў ЗША, але таксама і вялікую колькасць дакументаў да гісторыі дыяспары, невядомыя творы амерыканскіх беларусаў.

Так, сярод надрукаванага ў «Запісах» асабліва багата публікацый эпісталярнай і мемуарнай спадчыны дзеячаў беларускай эміграцыі ў ЗША, недаступных для метрапольных даследчыкаў: Янкі Чарапука, Апалоніі Савёнак, Наталлі Арсенневай, Міколы Абрамчыка, Міхася Міцкевіча, Міхася Тулейкі, Юркі Віцьбіча, Івана Мухі і іншых[90]. Па-за гэтым на старонках альманаха цягам апошніх

[89] Масей Сяднёў: pro et contra / уклад. Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2018. — 148 с.

[90] Тут варта адзначыць публікацыі: «Лісты Янкі Чарапука з Амэрыкі (1922–1923)» (№ 21), Апалёніі Савёнак «Прыпамінаю» (№ 24), Зоры Кіпель «Сустрэчы ў Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэцы (урыўкі з успамінаў)» (№ 27), Вітаўта Кіпеля «Успаміны пра радыё "Вызваленьне"» (№ 28), Наталлі Арсенневай «Ліст» (№ 28), «Наталля Арсеньнева пра сябе» (№ 29), Зоры Кіпель «Падарожжа на Аляску» (№ 32), Аляксандра Стагановіча «Успаміны пасла» (№ 32), Янкі

дзесяцігоддзяў друкаваліся і раней невядомыя ці малавядомыя літаратурныя творы Янкі Юхнаўца, Уладзіміра Сядуры, Наталлі Арсенневай, Антона Адамовіча, Юркі Віцьбіча, Анатоля Бярозкі і іншых. Трэба адзначыць таксама публікацыі дакументаў да гісторыі беларуска-амерыканскіх дачыненняў і стварэння беларускіх арганізацый у ЗША[91].

Яшчэ адзін важны пласт амерыканска-беларускіх матэрыялаў «Запісаў БІНіМ» апошніх дзесяцігоддзяў прысвечаны калекцыям беларускіх дакументаў у амерыканскіх архівах, а таксама фондам амерыканскіх беларусаў у метрапольных сховішчах[92].

Пералічанае — далёка не поўны спіс публікацый на старонках «Запісаў БІНіМ» 1994–2019 гадоў, дзе закранаецца гісторыя беларускай эміграцыі ў ЗША[93]. Больш за тое, у 2018 годзе ўбачыў свет 40-ы нумар альманаха, асноўнаю тэмай якога стала Беларуская Амерыка. На яго старонках магчыма знайсці і матэрыялы, прысвечаныя гісторыі стварэння першых беларускіх арганізацый у ЗША ў 1920-я гады, дзейнасці Язэпа Варонкі і Янкі Чарапука-Змагара, і ўспаміны прадстаўнікоў беларускай дыяспары другой паловы XX — пачатку XXI стагоддзя: Жоржа Наумчыка, Веры Прускай, Вітаўта Кіпеля. Багата ў нумары апублікавана эпісталярнай спадчыны амерыканскіх беларусаў: Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка, Уладзіміра Бакуновіча, Часлава Будзькі, Вацлава Пануцэвіча і іншых, а таксама матэрыялаў да гісторыі асобных арганізацый — БАЗА і Крывіцкага (беларускага) навуковага таварыства Пранціша Скарыны. Вартыя ўвагі і даследчыя публікацыі, прысвечаныя жыццю і творчасці навукоўца-амерыканіста з Беларусі Ісака Гурвіча, высвятленню месца нараджэння Радаслава Астроўскага і інш. Можна сцвярджаць, што альманах «Запісы БІНіМ» на сёння зрабіў надзвычай вялікі ўнёсак не толькі ў папулярызацыю вынікаў вывучэння беларускай дыяспары ў Амерыцы, але і найбольш — у наближэнне крыніцаў па гэтай тэме да даследчыкаў.

Запрудніка «Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам, Старшынём Рады БНР (1953–1969)» (№ 33), Лявона Юрэвіча «"...Да прычын гэтага царкоўнага закалоту...": Выбраныя лісты Міхася Міцкевіча да Міхася Тулейкі» (№ 33), «Да практыкі перакладу Бібліі (ліст Масея Гітліна)» (№ 33), Барыса Данілюка «Успаміны» (№ 33), Івана Мухі «Кароткая аўтабіяграфія» (№ 33), Аляксандра Асіпчыка «Праўдзівая даведка» (№ 34), Ціхана Чарнякевіча «Вакол цьвёрдае формы (ліставаньне Антона Адамовіча й Міхася Кавыля)» (№ 35), Юркі Віцьбіча «Цьвілікае шэранькі верабейчык» (№ 35), «З спадчыны Францішка Кушаля, вайскоўца й мэмуарыста» (№ 35), Наталлі Гардзіенкі «Чатыры гісторыі аднае сям'і: мэмуары Стагановічаў» (№ 37), Юркі Віцьбіча «Лісты да айца Льва Гарошкі» (№ 38), Лявона Юрэвіча «"Жывем і паміраць не зьбіраемся..." (Лісты Натальлі Арсеньневай да Вінцэнта й Раісы Жук-Грышкевічаў)» (№ 41), Аляксандра Слесарава «Ліставаньне архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) з грамадзка-палітычнымі й рэлігійнымі дзеячамі беларускага замежжа» (№ 41) і некаторыя іншыя. У дадатак багата эпісталярыяў цытуецца ў іншых тэкстах.

[91] Прыкладам, тэкст Лявона Юрэвіча «Гісторыя заснаваньня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў дакумэнтах і паведамленьнях» (№ 29) або публікацыю «Беларуская місія габрэйскага камуніста-інтэрнацыяналіста: Стэнаграма зь дзясятага (вячэрняга) пасяджэньня і зьезду КПЗБ, 4 ліпеня 1928 г.» (падрыхтоўка да друку, прадмова, пераклад і камэнтары Алеся Пашкевіча) (№ 30) ці інтэрв'ю Алесі Сёмухі з Алесяй Кіпель (№ 33).

[92] Тут можна адзначыць тэксты: Віталя Зайкі «Інстытут Гэбрайскіх Досьледаў IBO ў Нью Ёрку і матэрыялы ў ягоных зборах, зьвязаныя з гісторыяй Беларусі» (№ 26), Алега Гардзіенкі «Архівы царквы сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры» (№ 31), Ігара Лабацэвіча «Беларускія архівы ў штаце Мінэсота» (№ 36), Наталлі Гардзіенкі «Беларускія матэрыялы ў фондзе Аляксандра Даліна ў Гувэраўскім архіве» (№ 36) і «Фонды эміграцыйных дзеячаў у БДАМЛМ» (№ 38), Янкі Запрудніка «Архіў Натальлі Арсеньневай» (№ 29), Ганны Запартыкі «Дакумэнты беларускай эміграцыі ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва» (№ 37), гутарку Наталлі Гардзіенкі з дырэктарам БДАМЛМ Ганнай Запартыкай «Архівы замежных беларусаў: зьбіраньне, захаваньне, практычныя заўвагі» (№ 38) і зноў найбольш — Лявона Юрэвіча «Калекцыя здымкаў Луізы Бойд у Віскансійскім унівэрсытэце» (№ 36), «Людзкая памяць, архівы свае й чужыя ды Купалаў сьцізорык» (№ 28), «Архіў Рады БНР» (№ 31) і «БІНІМаўская Купаліяна» (№ 32).

[93] Тут можна згадаць асабліва біяграфічнага кшталту публікацыі — нізкі прынагодных юбілейных ці in memoriam артыкулаў і бібліяграфій, звязаных з асобамі Зоры (№ 27) і Вітаўта (№ 28) Кіпеляў, Янкі Запрудніка (№ 30), Алены Юрэвіч (№ 31), а таксама публікацыі Генадзя Сагановіча «Вітаўт Тумаш як гісторык» (№ 25) і «Леў Акіншэвіч як дасьледнік беларускага казацтва» (№ 26), Алега і Наталлі Гардзіенкаў «Беларуская гістарычная навука ў эміграцыі й Вацлаў Пануцэвіч» (№ 27), Віталя Зайкі «Мэнке Кац — амэрыканскі габрайскі паэт зь Міхалішак» (№ 27), Сяргея Запрудскага «Станіслаў Станкевіч як літаратурны крытык» (№ 29), Макса Шчура «Адзін лёс і "дзьве" літаратуры (Міхась Кавыль)» (№ 35), Юрыя Бабіча «Калярыстычная лексыка як вобразны сродак у мове твораў Натальлі Арсеньневай» (№ 35) і найбольш Лявона Юрэвіча — «Мікрагісторыя й макрагісторыя біяграфіі [Віктар Войтанка-Васілеўскі]» (№ 31), «Дзьве душы маргінальнага беларуса [Кастусь Якуб-Птах]» (№ 31), «Эпісталярыюм як форма аўтабіяграфіі карэспандэнта й біяграфіі ягонага часу (Выпадак Юркі Віцьбіча)» (№ 33), «Малодшы брат (Ізыдар Плашчынскі)» (№ 33), «На скрыжаваньні вятроў (Янка Ліманоўскі)» (№ 33), «Наш першы: Язэп Варонка» (№ 34).



Большая ці меншая даступнасць крыніцаў, відаць, перадвызначыла і тыя галіны, у якіх з'яўляліся даследчыя публікацыі, прысвечаныя беларускай эміграцыі ў ЗША. Так, у пэўным сэнсе абагульняльная праца, праўда напісаная з іншага ракурсу, чым даследаванне Вітаўта Кіпеля, убачыла свет у 2011 годзе. Гэта рускамоўная кніга Сяргея Лашкевіча і Аляксандра Ціхамірава «Отношения Беларуси и США в XX веке: историческая ретроспектива»[94], дзе даецца абагульнены нарыс гісторыі беларуска-амерыканскіх дачыненняў пачынаючы ад масавай эміграцыі з Беларусі пачатку мінулага стагоддзя да ўсталявання дыпламатычных адносінаў паміж дзвюма краінамі[95]. Таксама ў 2012 годзе ўбачыла свет кніга Любові Уладыкоўскай «Адкрыццё маёй Амэрыкі, або Навошта беларусам ЗША?»[96], дзе выкладзены аўтарскі погляд на каштоўнасць амерыканскага досведу для Беларусі.

Важнае даследаванне пра беларускіх яўрэяў у ЗША апублікаваў Давід Мельцэр[97]. Яго кніга ўяўляе з сябе зборнік біяграфічных аповедаў пра нараджэнцаў беларускіх земляў яўрэйскага паходжання, што сталі вядомымі ў Амерыцы. Тут можна знайсці імёны Іды Разэнталь, Барыса Каўфмана, Ральфа Ларэна, Нахмана Сыркіна і дзясяткаў іншых дзеячаў, якія дасягнулі поспеху ў Штатах.

Зусім новай з'явай у беларускай амерыкане стаў складзены Ганнай Сурмач даведнік «Беларускі Нью-Ёрк»[98]. Ён утрымлівае тры часткі: «Кароткі агляд гісторыі

[94] Лашкевич, С.; Тихомиров, А. Отношения Беларуси и США в XX веке: историческая ретроспектива. Минск: Право и экономика, 2011. — 55 с.

[95] Аляксандр Ціхаміраў абараніў дысертацыю, прысвечаную масавай эміграцыі з Беларусі пры канцы XIX — на пачатку XX ст. і з'яўляецца аўтарам шэрагу артыкулаў, што распавядаюць пра выезд беларусаў у азначаны перыяд у ЗША. Ціхаміраў, А. Масавая эміграцыя і пачатак фарміравання беларускай дыяспары ў ЗША (80-я гады XIX ст. — 1914 г.) // Весці Акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук. 1993. № 4. С. 46–52; Ціхаміраў, А. Пытанні масавай эміграцыі з Беларусі ў ЗША (80-я гг. XIX ст. — 1914 г.) // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь : новыя канцэпцыі і падыходы: Усебеларус. канф. гісторыкаў, Мінск, 3–5 лют. 1993 г. : у 2 ч. / рэдкал.: М. П. Касцюк (адк. рэд.) [і інш.]. Ч. 1 : Гісторыя Беларусі. Мінск, 1994. С. 119–123; Тихомиров, А. В. Развитие связей между Беларусью и США в первой четверти XX в. // Журнал международного права и международных отношений. 2005. № 2. С. 31–38.

[96] Уладыкоўская, Л. Адкрыццё маёй Амэрыкі, або Навошта беларусам ЗША? Менск: Тэсей, 2012. — 80 с.

[97] Мельцер, Д. Белорусские евреи в Америке. Нью-Йорк, 2014. — 371 с.

[98] Сурмач, Г. Беларускі Нью-Ёрк. New York, 2019. — 456 с.

беларускай прысутнасьці ў Нью Ёрку», «Спадарожнік па беларускіх мясьцінах Нью-Ёрку» і «Беларускія мясьціны паблізу Нью-Ёрка». Нягледзячы на некаторую паўторнасць інфармацыі ў розных раздзелах выдання, пэўныя зместавыя недакладнасці і тэхнічныя хібы, паводле рэцэнзіі Лявона Юрэвіча, *«Ганна Сурмач паяднала гістарычныя зьвесткі з уласным вопытам месца, людзей, асабістага лёсу ў гэтым яблычным, але далёка ня лёгкім, няпростым горадзе. Атрымалася займальнае, карыснае, па-добраму спажывецкае чытво»*[99].

Аднак найбольшая колькасць публікацый прысвечана вывучэнню літаратуры амерыканскіх беларускіх пісьменнікаў. Адным з першых аўтараў паасобных прац па эміграцыйнай літаратуры быў Мікола Мішчанчук. Ужо цягам 1993–1996 гадоў ён выдаў два невялікія навучальныя дапаможнікі «Чатыры партрэты беларускіх паэтаў-эмігрантаў»[100] і «Літаратура беларускага замежжа»[101], дзе сярод іншага разглядалася творчасць Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва, Міхася Кавыля і іншых амерыканскіх беларусаў. Праз гады, у 2001 годзе, у Гародні выйшаў яшчэ адзін дапаможнік для студэнтаў — «Метадычныя рэкамендацыі па спецкурсу "Творчасць пісьменнікаў беларускага замежжа"», складзеныя Алай Петрушкевіч[102]. І тут таксама прадстаўленыя найбольш асобы Наталлі Арсенневай і Масея Сяднёва, хоць у якасці герояў для рэфератаў згадваюцца і іншыя амерыканскія беларускія пісьменнікі. Цікавасць даследчыцы да творчасці эміграцыйнай паэткі вылілася ў кнігу «Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі»[103], што уяўляе з сябе зборнік тэкстаў, якія раскрываюць асобныя бакі жыцця і творчасці славутай суайчынніцы.

Актыўна вывучала літаратурную спадчыну пісьменнікаў-эмігрантаў наогул і амерыканскіх беларусаў у прыватнасці Лідзія Савік. У яе кнізе «Пакліканыя: Літаратура беларускага замежжа»[104] можна знайсці нарысы не толькі пра найбольш вывучаных Наталлю Арсенневу ды Масея Сяднёва, але і пра Уладзіміра Дудзіцкага, Янку Золака, Міхася Кавыля, Уладзіміра Клішэвіча, Рыгора Крушыну. Традыцыйныя для стылістыкі айчыннага літаратуразнаўства тэксты разглядаюць матывы, тэмы, адметнасць вобразнай сістэмы аўтараў.

Хіба не адзіны літаратуразнаўца, чыя дысертацыя была прысвечана літаратуры беларускага замежжа за гэтыя больш як 20 гадоў, Алесь Пашкевіч цягам 2001–2002 гадоў выдаў дзве кнігі: «Зваротныя дарогі: проза беларускай эміграцыі XX ст.»[105] і «Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў беларускай літаратуры: проза замежжа XX ст.»[106]. У згаданых выданнях, што моцна перагукаюцца паміж сабою, сярод іншага разглядаецца творчасць ці асобныя творы амерыканскіх беларусаў

---

99 Юрэвіч, Л. Беларускі Нью-Ёрк // Запісы БІНіМ. № 41. Нью-Ёрк — Менск, 2019. С. 729.

100 Мішчанчук, М. Чатыры партрэты беларускіх паэтаў-эмігрантаў: вучэбна-метадычны дапаможнік / Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Мінск, 1993. — 89 с.

101 Мішчанчук, М. Літаратура беларускага замежжа: вучэбны дапаможнік / Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М. Танка. Мінск: БДПУ, 1996. — 169 с.

102 Метадычныя рэкамендацыі па спецкурсу «Творчасць пісьменнікаў беларускага замежжа» / склад. А. Петрушкевіч. Гродна: ГрДУ, 2001. — 63 с.

103 Петрушкевіч, А. Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі. Мінск: Кнігазбор, 2013. — 180 с.

104 Савік, Л. Пакліканыя: Літаратура беларускага замежжа. Мінск: Тэхналогія, 2001. — 479 с.

105 Пашкевіч, А. Зваротныя дарогі: проза беларускай эміграцыі XX стагоддзя. Беласток, 2001. — 238 с.

106 Пашкевіч, А. Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў беларускай літаратуры: проза замежжа XX ст. Мінск: БДУ, 2002. — 219 с.



Юркі Віцьбіча, Уладзіміра Сядуры-Глыбіннага, Міколы Цэлеша, Масея Сяднёва, Аляксандры Саковіч, Лявона Савёнка, Антона Адамовіча. Той жа Алесь Пашкевіч з'яўляецца аўтарам некалькіх вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў: «Драматургія беларускага замежжа XX ст.» і «Проза беларускага замежжа XX ст.», дзе прадстаўленая творчасць Наталлі Арсенневай, Янкі Юхнаўца і іншых амерыканскіх беларусаў[107].

Асобную значную з'яву ў даследчых публікацыях, прысвечаных літаратуры беларускай эміграцыі, традыцыйна адыгрываюць працы замежных аўтараў. Так, у 1997 годзе ўбачыла свет кніга беларуса з Беласточчыны Яна Чыквіна «Далёкія і блізкія: беларускія пісьменнікі замежжа»[108], дзе разглядаецца творчасць Масея Сяднёва, Наталлі Арсенневай, Янкі Юхнаўца[109]. Гэтыя ж аўтары сталі аб'ектамі ўвагі Яна Чыквіна і ў наступных яго кнігах: «Па прызванні і абавязку» (2005) і «Ідэя. Вобраз. Інтэрпрэтацыя» (2014)[110]. Прысвечаныя Масею Сяднёву, Наталлі Арсенневай, Янку Юхнаўцу артыкулы даследчыка з Беласточчыны можна таксама знайсці на старонках выдаванага ім часопіса «Тэрмапілы». Творчасць таго ж Масея Сяднёва стала аб'ектам даследавання і Галіны Тварановіч у яе зборніку літаратурна-крытычных артыкулаў «Пад небам Айчыны»[111].

Зацікавіўся тэмай беларускай эміграцыйнай літаратуры і брытанскі даследчык Арнольд Макмілін. У англамоўнай і беларускай версіях ягонай працы «Літаратура беларускай дыяспары»[112] прысутнічаюць і традыцыйныя Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Уладзімір Сядура, і Міхась Кавыль, Янка Юхнавец, Уладзімір Клішэвіч, Янка Золак, Антон Адамовіч і іншыя.

Найбольш плённа ў галіне эміграцыйнага літаратуразнаўства працуе згаданы ўжо Лявон Юрэвіч. Ягоныя кнігі звычайна дадаюць багата новага да звестак пра жыццё і творчасць беларускіх пісьменнікаў у ЗША. Так, у 1999 годзе ўбачыла свет праца пад назвай «Камэнтары»[113], дзе аўтар з выкарыстаннем малавядомых крыніцаў разглядае творчасць эміграцыйных пісьменнікаў, сярод якіх і амерыканцы: Янка Юхнавец, Рыгор Крушына, Міхась Міцкевіч і некаторыя іншыя. Тут жа змешчаны грунтоўны тэкст «Беларускі тэатар і драматургія на эміграцыі», дзе рэпрэзентуецца тэатральнае жыццё беларусаў у ЗША.

Кніга Лявона Юрэвіча «Літаратурны рух на эміграцыі»[114] з'яўляецца спробай сістэматызаванага аповеду пра гісторыю паваеннай эміграцыйнай літаратуры на Захадзе, дапоўненага каштоўнымі дакументальнымі матэрыяламі, а таксама

---

107 Пашкевіч, А. Драматургія беларускага замежжа XX стагоддзя. Вучэбны дапаможнік. Мінск, 2002. — 40 с.; Пашкевіч, А. Проза беларускага замежжа XX ст. Вучэбна-метадычны дапаможнік. Мінск, 2002. — 43 с.

108 Чыквін, Я. Далёкія і блізкія: Беларускія пісьменнікі замежжа. Беласток, 1997. — 201 с.

109 Варта адзначыць, што артыкулы Яна Чыквіна пра Наталлю Арсенневу і Масея Сяднёва з кнігі «Далёкія і блізкія» ўвайшлі ў шматтомнае выданне Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя».

110 Чыквін, Я. Па прызванні і абавязку. Беласток, 2005. — 236 с. Чыквін, Я. Ідэя.Вобраз. Інтэрпрэтацыя. Беласток, 2014. — 166 с.

111 Тварановіч, Г. Пад небам Айчыны: Літаратурна-крытычныя артыкулы. Беласток, 2005. — 281 с.

112 McMillin, A. Belarusian literature of the diaspora. Birmingham : Centre for Russian and East European Studies. The University of Birmingham, 2002. — 503 p.; Макмілін, А. Беларуская літаратура дыяспары / пераклад з англ. Мінск: Тэхнапрынт, 2004. — 439 с.

113 Юрэвіч, Л. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Менск, 1999. — 302 с.

114 Юрэвіч, Л. Літаратурны рух на эміграцыі. Мінск, 2002. — 244 с.

біяграфіямі творцаў. У гэты кантэкст арганічна ўключаныя і літаратурныя суполкі, выданні, асобы беларускіх пісьменнікаў з ЗША.

У 2013 годзе ўбачыла свет праца Лявона Юрэвіча «Жанры»[115], дзе аўтар звяртаецца да вывучэння асобных жанраў эміграцыйнай (і не толькі) літаратуры: травелогаў, біяграфістыкі, сатыры, перакладаў, крытыкі і інш. Пры гэтым важна адзначыць намаганне ўключаць эміграцыйную літаратуру ў рэчышча агульнай беларускай літаратуры. Да таго ж тэксты Лявона Юрэвіча з'яўляюцца наватарскімі для беларускага літаратуразнаўства наогул. Сярод амерыканскіх беларускіх літаратараў і дзеячаў у кнізе фігуруюць Вітаўт Тумаш, Юрка Віцьбіч, Аўген Вярбіцкі і іншыя. Ёсць таксама асобны тэкст — «Узнаўленне біяграфіі: Да гісторыі беларускае эміграцыі ў ЗША першае чвэрці XX стагоддзя», прысвечаны выхадцам з Беларусі: пісьменніку Рамуальду Карнасевічу, заснавальніку рускага праваслаўнага манастыра Святой Тройцы ў Джорданвілі а. Панцеляймону (Пётры Ніжніку), рэвалюцыянеру і аўтару класічнай біяграфіі Леніна Давіду Шубу і іншым. Тут жа ўжо ў кніжным варыянце ўбачылі свет некаторыя раней друкаваныя ў «Запісах БІНіМ» біяграфічныя артыкулы пра амерыканскіх беларусаў.

У яшчэ адной невялікай кнізе Лявона Юрэвіча «Відымусы»[116], што ўяўляе з сябе збор нататак-заўваг да архіўных дакументаў і публікацый, выпісаў з іх, можна знайсці апісанне цікавых рыс побыту і інтэлектуальнага жыцця дзясяткаў амерыканскіх беларусаў. Акрамя ўласна Вітаўта Тумаша і Юркі Віцьбіча, з архіваў якіх аўтар скарыстаў найбольш, у «Відымусах» ёсць асобныя важныя дэталі да біяграфій амерыканскіх беларусаў Міколы Дзямідава, Ізідара Плашчынскага, Масея Сяднёва, Уладзіміра Сядуры, Мікалая Шчаглова-Куліковіча, Вячаслава Селях-Качанскага і шмат іншых.

Важнай у літаратуразнаўча-кнігазнаўчым плане з'яўляецца і кніга «Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія»[117] таго ж Лявона Юрэвіча. Тут сабраныя не толькі скарыназнаўчыя тэксты і матэрыялы да вывучэння дзейнасці першадрукара аўтарамі-эмігрантамі (найбольш значны з якіх Вітаўт Тумаш), але і нарысы, прысвечаныя «кніжным людзям» (аўтарам і выдаўцам), перыёдыкам, розным эміграцыйным друкам. У скарбонку гістарыяграфіі беларусаў у ЗША тут можна занесці і матэрыялы пра БІНіМ з шырокім ліставаннем Вітаўта Тумаша, і тэксты пра выданні ці асобныя публікацыі Міколы Панькова, Янкі Юхнаўца, Кастуся Мерляка, нарысы і матэрыялы да біяграфій і творчай спадчыны Вітаўта Кіпеля, Яна Пятроўскага, Расціслава Палчанінава, Васіля Шчэцькі, Льва Акіншэвіча, Аляксандра Ружанцова, Вацлава Пануцэвіча, Часлава Будзькі, Пётры Палягошкі, Кастуся Якуба-Птаха, Аляксандра Орсы, Міколы Гарошкі, Міколы Казака.

Розным аўтарам, жанрам і творам прысвечаны таксама «Літштудыі» Лявона Юрэвіча[118]. Сярод амерыканскіх беларусаў, што сталі аб'ектамі цікавасці даследчыка, Юрка Віцьбіч, Рыгор Крушына, Янка Юхнавец, Станіслаў Станкевіч і іншыя.

У кнізе Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША» адмысловая ўвага аддавалася эміграцыйнаму друку. Вялікім дапаўненнем і стымулам для будучых даследчыкаў стала

[115] Юрэвіч, Л. Жанры. Мінск: Кнігазбор, 2013. — 528 с.

[116] Юрэвіч, Л. Відымусы. Мінск: Лімарыус, 2015. — 177 с.

[117] Юрэвіч, Л. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. Мінск: Кнігазбор, 2015. — 624 с.

[118] Юрэвіч, Л. Літштудыі. Мінск: Кнігазбор, 2017. — 208 с.



выданне вялікай «Бібліяграфіі беларускага друку на Захадзе» Вітаўта і Зоры Кіпеляў[119]. Гэтая праца мела некалькі выданняў: спачатку выйшаў том «Паасобных выданняў» у Менску, потым — «Перыядычных выданняў» у Нью-Ёрку, а ў 2006 годзе ў Варшаве выйшла дапоўненае агульнае выданне папярэдніх частак. Бібліяграфія стала плёнам колькіх дзесяцігоддзяў працы Вітаўта і Зоры Кіпеляў па збіранні калекцыі беларускага і беларусазнаўчага друку і складаецца з 4500 пазіцый паасобных выданняў ды 446 перыядычных. Найбольш ранняе з іх — мемуары Міхала Клеафаса Агінскага, што ўбачылі свет у Парыжы ў 1826–1827 гадах, а апошнія датычаць ужо 2005 года. «Бібліяграфія» Кіпеляў стала ўнікальнай крыніцай інфармацыі для аматараў і спецыялістаў у эміграцыязнаўстве, а таксама падставаю для далейшых даследаванняў, у тым ліку і перыядычнага друку эміграцыі.

Што праўда, адна з важных для гістарыяграфіі беларускага друку ў ЗША працаў выйшла амаль адначасова з «Бібліяграфіяй» Кіпеляў — гэта кніга Лявона Юрэвіча «Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў "Бацькаўшчына" й "Беларус" (1947–2000)»[120]. Кніга складаецца з дзвюх сэнсавых частак, адпаведных пазначаным у назве найважнейшым эміграцыйным перыёдыкам паваеннай эміграцыі. Частка кнігі, прысвечаная амерыканскай газеце «Беларус», большая па памерах і крыху адрозная паводле структуры свайго зместу, чым прысвечаная мюнхенскай «Бацькаўшчыне». Гэта абумоўлена значна лепшай захаванасцю архіваў газеты, а таксама наяўнасцю адмысловых пісьмовых сведчанняў некаторых выдаўцоў і сябраў рэдкалегіі. Варта адзначыць, што аўтар імкнуўся ўключыць перыёдык у кантэкст гісторыі не толькі беларускага эміграцыйнага друку, але і амерыканскага этнічнага. Разам з тым можна канстатаваць, што цягам сваёй гісторыі «Беларус» ператварыўся з выдання беларусаў ЗША і Канады ў газету ўсіх суайчыннікаў у Вольным свеце. Праца Лявона Юрэвіча вельмі разнастайна паказвае выдавецкую кухню перыёдыка, адметнасці падыходаў да зместу ягоных рэдактараў, абставіны друку і распаўсюду, характар чытацкай аўдыторыі. З даследаванняў эміграцыйных перыядычных выданняў гэта самае якаснае.

Своеасаблівым працягам згаданай працы Лявона Юрэвіча стала ўкладзеная ім разам з Наталляй Гардзіенкай анталогія «Газеты "Бацькаўшчына" і "Беларус". Выбранае»[121]. Гэтую кнігу, што таксама выйшла ў серыі «Спадчына: агледзіны», склалі тэксты артыкулаў, успамінаў, інтэрв'ю і іншых матэрыялаў, якія публікаваліся на старонках згаданых газетаў і захавалі сваю актуальнасць да сёння. Яны адлюстроўваюць не толькі шырокі і разнастайны змест эміграцыйных перыёдыкаў, але і своеасаблівую нацыянальную карціну свету, адметнае бачанне мінулага і сучаснасці суродзічамі на Захадзе, у тым ліку і амерыканскімі беларусамі.

Паводле аўтаркі рэцэнзіі на анталогію Ганны Севярынец, «*...за кожным тэкстам паўстае тое самае пакліка624ньне, якое жывіла небагатую, змучаную няпростым лёсам паваенную эміграцыю, якое давала сілы выдаваць пэрыёдыку й зьбіраць спадчыну, трымаць уласныя выдавецтвы й гадаваць навуку, — пакліканьне, якое было*

[119] Kipel, V.; Kipel. Z. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography = Беларускі друк на Захадзе: Бібліяграфія / пад рэд. Ю. Гарбінскага і Л. Юрэвіча. Нью-Ёрк — Варшава, 2006. — XVI+841 с.

[120] Юрэвіч, Л. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў «Бацькаўшчына» й «Беларус» (1947–2000). Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 256 с.

[121] Газеты «Бацькаўшчына» і «Беларус». Выбранае: Да 70-годдзя газеты «Беларус» (1950–2020) / уклад., падрыхтоўка тэкстаў, агульнае рэдагаванне, каментары Н. Гардзіенкі і Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2019. — 616 с.

*добра ўсьвядомлена й напоўніцу рэалізавана беларускай паваеннай эміграцыяй. Не перапыняць думкі пра Беларусь, не спыняцца на шляху да яе»*[122].

Варта адзначыць, што газета «Беларус», таксама як і бюлетэнь «Весткі й Паведамленьні» і часопіс «Беларуская думка», выдаваны ў Саўт-Рыверы, да сёння з'яўляюцца не толькі неад'емнымі з'явамі беларускага жыцця ў ЗША, але і месцамі, дзе можна знайсці даследчыя публікацыі ці згадкі пра эміграцыязнаўчыя працы.

Сярод іншых прац, прысвечаных перыядычнаму друку, дзе закранаецца і амерыканскі, можна адзначыць кнігу Юрыя Гарбінскага «Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: пэрыёдыка, графічныя друкі 1945–2005»[123], напісаную на падставе вышэй згаданай «Бібліяграфіі» Вітаўта і Зоры Кіпеляў, а таксама выданне кандыдацкай дысертацыі Вольгі Коваль «Перыядычныя выданні беларускай дыяспары як гістарычная крыніца (1939–1960 гг.)»[124]. Таксама варта згадаць і шэраг важных публікацый з галіны эміграцыйнага кнігазнаўства даследчыцы гісторыі кнігі Ларысы Доўнар (у тым ліку і ў суаўтарстве з Валерам Герасімавым)[125].

З іншых даследаванняў, што пашыраюць ці паглыбляюць асобныя аспекты пададзенай Вітаўтам Кіпелем інфармацыі пра культурнае жыццё беларусаў у ЗША, можна згадаць працу Ніны Баршчэўскай «Беларуская эміграцыя — абаронца роднае мовы»[126], дзе прадстаўленая своеасаблівая моўная палітыка эміграцыйнага друку, беларускія школкі на Захадзе наогул і ў ЗША ў прыватнасці, радыё, дзейнасць навуковых цэнтраў, такіх як БІНіМ.

У галіне вывучэння беларускага мастацтва ў Амерыцы вартасным дадаткам ёсць альбом «Беларускія мастакі замежжа»[127], укладзены Янкам Запруднікам. Тут сярод іншага, побач з кароткімі біяграфічнымі пазнакамі пададзеныя выявы мастакоў, якія жылі ў ЗША, і іх твораў: а. Дзмітрыя Башко, Лідзіі Каліноўскай-Даніловіч, Надзеі Кудасавай-Запруднік, Алега і Людмілы Махнюкоў, Пётры Міpановіча, Пётры Нядзвецкага, Ірэны Рагалевіч-Дутко, Галіны Русак, Аляксандра Стагановіча і Тамары Стагановіч-Кольба, Ксеніі Тумаш.

На жаль, адмысловай даследчай працы, прысвечанай выяўленчаму мастацтву амерыканскіх беларусаў, як і наогул эміграцыйнаму мастацтву, сёння няма. І гэта звязана ў тым ліку і з пэўнай раскіданасцю па свеце спадчыны мастакоў-эмігран-

[122] Севярынец, Г. Дзьве душы — адзін лёс // Запісы БІНіМ. № 41. Нью-Ёрк—Менск, 2019. С. 734.

[123] Гарбінскі, Ю. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: пэрыёдыка, графічныя друкі 1945–2005. Нью Ёрк — Варшава, 2009. — 884 с. + CD

[124] Коваль, В. Перыядычныя выданні беларускай дыяспары як гістарычная крыніца (1939–1960 гг.). Мінск: РІВШ, 2008. — 166 с.

[125] Доўнар, Л. Выдавецкая дзейнасць беларускай эміграцыі // Гісторыя беларускай кнігі: у 2 т. / пад агульнай рэдакцыяй М. В. Нікалаева. Т. 2: Кніжнасць новай Беларусі (XIX — XXI стст.). Мінск, 2011. С. 397–403; Доўнар, Л. Выдавецкая дзейнасць беларускай эміграцыі // Доўнар, Л. Гісторыя беларускай кнігі: вучэбны дапаможнік для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў па спецыяльнасці 1-23 01 11 Бібліятэказнаўства і бібліяграфія (па напрамках). Мінск: БДУКМ, 2012. С. 199–210; Герасимов, В.; Довнар, Л. Наследие белорусской диаспоры в современной печати Беларуси и зарубежья // Knygotyra. № 50. 2008. P. 158–186.

[126] Баршчэўская, Н. Беларуская эміграцыя — абаронца роднае мовы = Emigracja bialoruska w obronie jezyka ojczystego. Варшава: Варшаўскі ўніверсітэт, 2004. — 368 с.

[127] Беларускія мастакі ў замежжы = Belarusan artists abroad: Памяткавы альбом пра 25 гадавых выставак беларускага мастацтва і народных вырабаў ў Беларускім грамадзкім цэнтры ў Саўт-Рывэры (1973–1997 гг.) / уступ. арт. Я. Запрудніка. Bridgewater — Somerset, 2001. 52 с.



таў, якую складаней сабраць, чым спадчыну літаратурную. Таксама ўзнікаюць цяжкасці з вывучэннем і эміграцыйнай музыкі, у тым ліку і творчасці амерыканскіх беларускіх спевакоў і кампазітараў. Можна згадаць толькі абагульняльны раздзел «Музычная культура беларускай эміграцыі» ў кнізе Змітра Сасноўскага «Гісторыя беларускай музычнай культуры XIX—XX стст.»[128], дзе распавядаецца пра Міколу Куліковіча, Надзею Градэ, Пётру Конюха, Алеся Карповіча, згадваюцца Эльза Зубковіч, Дзмітрый Верасаў, Ксаверы Барысавец і іншыя. Што праўда, у 2019 годзе ўбачыў свет першы том двухмоўнага беларуска-рускага даведніка «Творчыя калектывы беларусаў замежжа»[129], дзе адмысловы, даволі вялікі раздзел прысвечаны менавіта Злучаным Штатам. Гэты раздзел складзены пераважна менавіта на матэрыялах, апублікаваных у «Беларусах у ЗША» Вітаўта Кіпеля. Аднак з'яўленне такога спецыяльнага абагульняльнага тэксту можна толькі вітаць. Яно адлюстроўвае сённяшні ўзровень даследавання тэмы беларуска-амерыканскай музычнай культуры. Другі том даведніка мае распавядаць пра канкрэтныя творчыя калектывы, у тым ліку і амерыканскіх беларусаў.

Асобна трэба адзначыць прысутнасць амерыканска-беларускага складніка ў кнізе згаданай ужо Вольгі Коваль «Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд»[130]. Абапіраючыся на звесткі з кнігі Вітаўта Кіпеля, дапаўняючы іх спасылкамі на публікацыі заходнебеларускага перыядычнага друку, аўтарка падае інфармацыю пра характар беларускай эміграцыі ў ЗША ў міжваенны перыяд, яе асноўны цэнтр — Чыкага, дзеячаў Язэпа Варонку, Янку Чарапука і іншых, а таксама пра кантакты з украінскімі арганізацыямі і дзеячамі. Пададзеныя ў кнізе звесткі сапраўды дапаўняюць раней друкаванае пра тагачасных амерыканскіх беларусаў.

Міжваеннай эміграцыі з Заходняй Беларусі прысвечана і кандыдацкая дысертацыі Вольгі Мярчук, абароненая ў 2016 годзе ў Брэсце[131]. На падставе багатай базы архіўных крыніц аўтарка аднаўляе розныя аспекты выездаў беларусаў у 1920–1930-я гады ў тым ліку і ў ЗША. На жаль, дысертацыя не была выдадзеная асобнай кнігай, аднак пра пэўныя вынікі даследавання можна даведацца з публікацый Вольгі Мярчук[132].

Да вартых увагі выданняў аднясём і кнігу «Асабістыя архівы Беларусі канца XVIII — пач. XXI ст.»[133] даследчыцы-архівісткі Вольгі Івановай, дзе падаюцца звесткі пра архіўныя зборы Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва, Антона Адамовіча, Юркі Віцьбіча, Янкі Юхнаўца і іншых амерыканскіх беларусаў, згадваецца

[128] Сасноўскі, З. Гісторыя беларускіх музычных уплываў. Мінск: Медысонт, 2009. — 140 с.

[129] Творчыя калектывы беларусаў замежжа = Творческие коллективы белорусского зарубежья = The artists of the belarusian diaspora / Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўная ўстанова культуры змешанага тыпу «Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур»; [складальнікі: В. М. Грышкевіч, А. Ю. Лозка; рэдкалегія: Ю. П. Бондар (старшыня) і інш.]. Мінск: ІВЦ Мінфіна, 2019. — 331 с.

[130] Коваль, В. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд. Мінск: РІВШ, 2012. — 314 с.

[131] Мярчук, В. Эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.): дысертацыя на саісканне вучонай ступені кандыдата гістарычных навук: спецыяльнасць 07.00.02 Айчынная гісторыя. Брэст, 2015. — 223 с.

[132] Мярчук, В. Эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі ў розныя краіны свету ў 1921–1939 гг. // Да гісторыі беларускай эміграцыі: Матэрыялы конкурсу працаў пра беларускае замежжа, прысвечанага 25-годдзю «Бацькаўшчыны». Сш. 2. Мінск: Кнігазбор, 2016. С. 90–114.

[133] Іванова, В. Асабістыя архівы Беларусі канца XVIII — пач. XXI ст. Мінск: Зміцер Колас, 2014. — 404 с.

і архіў БІНіМа, на які багата спасылак у кнізе Вітаўта Кіпеля. Важна, што замежныя беларускія архівы ўключаныя ў агульны пералік нацыянальных беларускіх архіўных скарбаў.

Яшчэ адну адносна колькасную групу выданняў, што дапаўняюць інфармацыю з кнігі «Беларусы ў ЗША», складаюць біяграфічныя публікацыі. Акрамя ўжо згаданай працы Алы Петрушкевіч, прысвечанай Наталлі Арсенневай, толькі адзін амерыканскі дзеяч стаў героем адмысловых персанальных кніжных выданняў. Маецца на ўвазе навуковец Барыс Кіт. Намаганнямі даследчыцы Лідзіі Савік ён парадаксальна стаў ці не самым вядомым у метраполіі амерыканскім беларусам XX стагоддзя. Цягам 1993–2011 гадоў убачылі свет шэсць розных кніжных выданняў, прысвечаных Барысу Кіту, у тым ліку вялікае біяграфічнае даследаванне, якое адлюстроўвае і амерыканскі перыяд ягонай дзейнасці[134].

Са знакавай асобай для беларуска-амерыканскіх дачыненняў звязана кніга Анатоля Трафімчыка «Наш Касцюшка слаўны»[135], у якой аналізуецца вобраз гэтага героя ў беларускай літаратуры.

Безумоўную цікавасць мае і кніга Сяргея Селяха «Беларускі прэм'ер», прысвечаная жыццёваму і творчаму шляху беларускага спевака, кампазітара, тэатральнага дзеяча Вячаслава Селях-Качанскага[136]. На жаль, амерыканскі перыяд яго жыцця прадстаўлены ў гэтай працы вельмі сціпла, некалькімі старонкамі. Аднак выхад кнігі «Беларускі прэм'ер» стаў падставай для трох асобных публікацый, звязаных з жыццём і творчасцю кампазітара Вячаслава Селях-Качанскага, змешчаных у рубрыцы «Вакол кнігі» ў «Запісах БІНіМ» № 41 (2019)[137].

Асобнай увагі заслугоўвае адно з апошніх выданняў, прысвечаных беларусам у ЗША, — кніга «Зора Кіпель», якой распачынаецца новая серыя «Людзі эміграцыі» Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»[138]. Укладзены Наталляй Гардзіенкай і Лявонам Юрэвічам зборнік утрымлівае як грунтоўны біяграфічны

[134] Савік, Л. Вяртанне: жыццяпіс Б. У. Кіта. Мінск, 1993. — 75 с.; Савік, Л. Космас беларуса = The spase of the Belarusian: Жыццяпіс Б. У. Кіта, асветніка, вучонага, патрыёта. Мінск: Пейто, 1996. — 380 с. (2-е выд. Мінск, 1998. — 438 с.); Юбілейны альбом да 90-годдзя Барыса Уладзіміравіча Кіта, прафесара, доктара філасофіі (па матэматыцы, Рэгенсбург, Германія), ганаровага доктара навук (Гародня, Беларусь), акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж, Францыя), акадэміка і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (Масква, Расія), грамадзяніна Злучаных Штатаў Амерыкі, ганаровага грамадзяніна горада Навагрудка (Беларусь) / уклад.: Л. Савік, В. Каліноўскі. Мінск, 2001. — 99 с.; Грамадзянін свету: юбілейная кніга да 95-годдзя Барыса Уладзіміравіча Кіта, праф., д-ра філасофіі ў галіне матэматыкі (Рэгенсбург, Германія), ганаровага д-ра навук Гродз. дзярж. ун-та імя Я. Купалы (Гродна, Беларусь), акад. Міжнар. акад. астранаўтыкі (Парыж, Францыя), акад. і ганаровага віцэ-прэзідэнта Міжнар. акад. навук і мастацтваў Еўразіі (Масква, Парыж), грамадзяніна Злучаных Штатаў Амерыкі, ганаровага грамадзяніна горада Навагрудка (Беларусь) / [падрыхт. тэкстаў, уклад., прадм. Л. Савік; рэдкал.: В. Быкаў і інш.]. Мінск: Беларус. сац.-экал. саюз «Чарнобыль», 2004. — 431 с.; Зорны шлях: Да 100-годдзя Барыса Кіта. — Менск: Кнігазбор, 2011. — 112 с.

[135] Трафімчык, А. «Наш Касцюшка слаўны!»: гістарычная постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры. Мінск: А. М. Янушкевіч, 2017. — 190 с.

[136] Селях, С. Беларускі прэм'ер: Вячаслаў Антонавіч Селях (1885–1976). Мінск: Колорград, 2018. — 212 с.

[137] Кіпель, В. Для будучых дасьледнікаў гісторыі беларускага тэатру: Зацемкі на маргінэсе кнігі «Беларускі прэм'ер» (Мінск, 2018) // Запісы БІНіМ. № 41. Нью-Ёрк — Менск, 2019. С. 690–694; Юрэвіч, Л. Замест рэцэнзіі // Тамсама. С. 695–702; Селях, С. Ліст Вячаслава Селях-Качанскага да Сяргея Хмары // Тамсама. С. 703–715.

[138] Зора Кіпель / укл., каментары Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2019. — 280 с.



нарыс вядомай даследчыцы і бібліёграфа, так і публікацыю яе ўспамінаў і даследчых прац па гісторыі сярэднявечнай перакладной літаратуры, кнігазнаўстве ды беларуска-амерыканскіх сувязях. Акрамя таго, у кнігу ўвайшлі ўспаміны пра Зору Кіпель. Усё гэта і своеасаблівае вяртанне ў айчынную інтэлектуальную прастору творчай спадчыны амерыканскай беларускі, і даніна павагі ды ўшанаванне яе памяці. І такой з'яўляецца галоўная ідэя цэлай серыі «Людзі эміграцыі» — праз тэксты, успаміны, архівы паказаць асобу таго ці іншага эміграцыйнага дзеяча.

Іншыя біяграфічныя звесткі пра амерыканскіх беларусаў пераважна ўключаны ў разнастайныя зборнікі. Так, інфармацыя пра асобных беларускіх літаратараў у ЗША была змешчаная яшчэ ў біябібліяграфічным шматтамовіку «Беларускія пісьменнікі»[139]. Асабліва багата стала з'яўляцца біяграфічных зборнікаў (з уняёсеннем у іх замежных суродзічаў) у апошняе дзесяцігоддзе. Пры гэтым амерыканскія беларусы, як і іншыя эміграцыйныя дзеячы, уключаны звычайна ў агульны пералік выбітных суродзічаў, што з'яўляецца безумоўна пазітыўнай з'явай. Шмат герояў, што жылі і спачылі ў розны час у ЗША, можна знайсці ў некалькіх выданнях «Імёнаў Свабоды» Уладзіміра Арлова[140]: ад Тадэвуша Касцюшкі да Васіля Мельяновіча — шырокі спектр грамадскіх і культурных дзеячаў-эмігрантаў з фотаздымкамі і ў суправаджэнні аўтарскіх біяграфічных нарысаў-рэфлексій.

Калі тэксты Уладзіміра Арлова першапачаткова пісаліся для Радыё «Свабода», то артыкулы іншага «біяграфіста», Барыса Крэпака, прысвечаныя знакамітым мастакам, ствараліся адпачатку для публікацый у перыядычным друку. Тым не менш, сабраныя ў двух тамах «Вяртанне імёнаў: нарысы пра мастакоў»[141], яны сталіся важным ўнёскам у нашыя веды пра славутых творцаў, што адбыліся за мяжою. Тут можна, прыкладам, прачытаць пра практычна забытага ў паваеннай Беларусі мастака Мікалая Пашкевіча, які апынуўся на эміграцыі ў ЗША і даволі паспяхова там працаваў.

Цягам апошняга дзесяцігоддзя выйшлі некалькі даведнікаў пра славутых ураджэнцаў Віцебшчыны ў замежжы, дзе знайшлі месца ў тым ліку і амерыканскія беларусы. Так, у зборніку Міхаіла Кузьміча і Міколы Сцепаненкі «Імёны, асобы, лёсы: Ураджэнцы Віцебшчыны ў далёкім і блізкім замежжы»[142] можна знайсці звесткі пра грамадскага дзеяча ў ЗША Сяргея Карніловіча, пісьменніка і кіраўніка БІНіМа Янку Ліманоўскага, гісторыка Івана Любачку, мастака Пётру Мірановіча, пісьменніка Лявона Савёнка, журналіста і гісторыка Віктара Сянкевіча. У даведніку Аркадзя і Юрыя Русецкіх «Уроженцы Витебщины в художественной культуре стран близкого и дальнего зарубежья» (Віцебск, 2013)[143] беларуская паваенная эміграцыя ў ЗША фактычна прадстаўленая толькі Янкам Юхнаўцом. Амаль не згадваюцца амерыканскія беларусы ў кнізе Адама Мальдзіса «Соотечественни-

[139] Беларускія пісьменнікі : біябібліяграфічны слоўнік : у 6 т. / пад рэд. А. Мальдзіса; рэдкалегія: Багдановіч І. Э. [і інш.]. Т. 1–6. Мінск, 1992–1995.

[140] Арлоў, У. Імёны Свабоды. [б. м.]: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2007. — 576 с.; 2-е выд. 2009. — 569 с.; 3-е выд., дапрац. і дапоўн., 2015. — 655 с.

[141] Крэпак, Б. Вяртанне імёнаў: нарысы пра мастакоў: у 2 кн. Кн. 1. Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 413 с.; Кн. 2. Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 382 с.

[142] Кузьміч, М.; Сцепаненка, М. Імёны, асобы, лёсы: Ураджэнцы Віцебшчыны ў далёкім і блізкім замежжы. Мінск: Літаратура і мастацтва, 2012. — 352 с.

[143] Русецкий, А.; Русецкий, Ю. Уроженцы Витебщины в художественной культуре стран близкого и дальнего зарубежья: монография. Витебск: ВГУ имени П. М. Машерова, 2013. — 292 с.

ки: очерки о белорусах и уроженцах Беларуси, обогативших мировую культуру» (Менск, 2013)[144], і гэта пры даволі шырокай геаграфіі артыкулаў, што ахоплівае і Новую Зеландыю, Чылі ды іншыя экзатычныя краіны.

Затое звесткі пра беларускіх рэлігійных дзеячаў ЗША можна знайсці ў даведніку Юрыя Гарбінскага «Беларускія рэлігійныя дзеячы ХХ ст.»[145] і польскамоўным ягоным жа выданні ў суаўтарстве з Юрыем Туронкам «Białoruski ruch chrzescijański XX wieku»[146]. Абедзве кнігі ўяўляюць з сябе найперш біябібліяграфічныя слоўнікі, дзе важнае месца займаюць і амерыканскія беларусы: царкоўныя іерархі Апанас (Антон Мартас), Васіль (Уладзімір Тамашчык), Ізяслаў (Іван Бруцкі), праваслаўныя і каталіцкія святары Святаслаў Коўш, Мікалай Лапіцкі, Францішак Чарняўскі, Язэп Рэшаць, Сцяпан і Віктар Войтанкі, Уладзіслаў Рыжы-Рыскі і шмат іншых, а таксама свецкія дзеячы Юры Стукаліч (Віцьбіч), Аляксандр Асіповіч-Асіпчык і г. д. Беларускае выданне адрозніваецца ад польскага наяўнасцю адмысловай дакументальнай часткі, дзе змешчаны матэрыялы да біяграфій дзеячаў. Таксама варта дадаць, што некаторыя звесткі пра каталіцкіх рэлігійных дзеячаў і жыццё беларускіх грамадаў у ЗША можна знайсці ў кнізе а. Аляксандра Надсана «Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус»[147].

Багата біяграфій амерыканскіх беларускіх дзеячаў змешчана ў даведніку «Дзеячы беларускай паваеннай эміграцыі», выдрукаваным у альманаху «Запісы БІНіМ» (№ 37. 2014)[148]. Акрамя таго, біяграфічныя звесткі пра паасобных амерыканскіх беларусаў можна знайсці ў шматтамовых энцыклапедычных выданнях: «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» і «Беларуская энцыклапедыя»[149].

З'яўленне ў 1993 годзе кнігі Вітаўта Кіпеля стала своеасаблівым каталізатарам цікавасці да тэмы беларускай прысутнасці ў ЗША, што адлюстравалася ў правядзенні адмысловых канферэнцый на гэтую тэму. Ужо ўлетку 1994 года супольнымі намаганнямі розных арганізацый у Менску адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні: традыцыі, сучасны стан, перспектывы»[150]. На ёй працавалі дзве секцыі — грамадазнаўчая і філалагічна-мастацкая, на якіх былі агучаныя больш за два дзясяткі дакладаў даследчыкамі з розных краінаў. Сярод тэмаў было багата тых, што асвятлялі беларуска-амерыканскія стасункі з розных ракурсаў[151].

144 Мальдис, А. Соотечественники: очерки о белорусах и уроженцах Беларуси, обогативших мировую культуру. Минск: Издательский дом «Звязда», 2013. — 336 с.

145 Гарбінскі, Ю. Беларускія рэлігійныя дзеячы ХХ стагоддзя = Die weisrussischen personlichkeiten des geistlichen lebens im XX. jarhundert : Жыццярысы. Мартыралогія. Успаміны. Мюнхен — Мінск, 1999. — 720 с.

146 Garbinski, J.; Turonek, J. Białoruski ruch chrzescijański XX wieku: slown. biogr.-bibliogr. Warszawa: Slawistyczny Osrodek Wydaw., 2003. — 519 s.

147 Надсан, А. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. Мінск: БелФранс, 2004. — 299 с.

148 Гардзенка, Н. Дзеячы беларускай паваеннай эміграцыі (біяграфічны даведнік) // Запісы БІНіМ. № 37. Нью-Ёрк — Менск, 2014. С. 10–260.

149 Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Мінск, 1993–2003; Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Мінск: 1996—2004.

150 Матэрыялы канферэнцыі былі апублікаваныя ў зборніку: Беларусіка = Albaruthenica. Кн. 5: Культура беларускага замежжа; Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні / рэд.: У. Конан, А. Мальдзіс. Мінск: Навука і тэхніка, 1995. — 359 с.

151 Можна адзначыць разнастайнасць дакладаў: «Злучаныя Штаты Амерыкі ў творах падарожнікаў з Беларусі» (Валянцін Грыцкевіч), «Эканамічная дапамога Беларусі ў праграме «АРА»« (Алеся Кіпель), «Беларусь у знешнепалітычных планах і дзейнасці ЗША (сярэдзіна 40-х гадоў ХХ ст.) (Уладзімір Снапкоўскі), «Ідэалогія фемінізму і жаночы рух у Беларусі і ЗША» (Алена Гапава), «Успрыняцце амерыканскай літаратуры ў беларускім асяроддзі» (Ірына Шаблоўская) і шмат іншых. Былі і даклады, прысвечаныя дзейнасці беларускай эміграцыі ў ЗША: «Хто ёсць хто ў беларускай Амерыцы? (Да стварэння біяграфічнага слоўніка дзеячаў навукі і культуры замежжа)» (Вольга Гапоненка), «Удзел беларусаў у дзейнасці міжнародных і шматнацыянальных арганізацый ЗША і Канады» (Анфіса Ляднёва), «Праваслаўныя беларусы ў грамадска-палітычным жыцці ЗША» (Ларыса Языковіч), «Выявы амерыканскага жыцця ў творчасці Масея Сяднёва» (Святлана Сачанка), «Кліўлендскі часопіс "Полацак" як пашыральнік беларускай ідэі» (Леў Мірачыцкі) і інш.



Канферэнцыя засведчыла тую насамрэч вялікую цікавасць, якую набывала тэма беларуска-амерыканскіх дачыненняў наогул і беларускай дыяспары ў ЗША ў прыватнасці ў навуковай супольнасці і грамадстве. Аднак дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што згаданая цікавасць не захавалася надоўга і наступнае навуковае мерапрыемства, прысвечанае дачыненням Беларусі і Злучаных Штатаў, адбылося больш як праз 15 гадоў. Да гэтага спрычынілася найперш рэзкае пагаршэнне палітычных беларуска-амерыканскіх адносінаў пасля 1996 года і змена стаўлення да заходняй эміграцыі з боку беларускіх уладаў. Толькі ў 2011 годзе з ініцыятывы Цэнтра міжкультурнага дыялогу ў Менску прайшлі некалькі круглых сталоў, прысвечаных праблемам «Амерыканістыка ў Беларусі» і «Беларусістыка ў ЗША»[152].

Праўда, адсутнасць спецыяльных канферэнцый не азначала знікнення тэмы беларускай прысутнасці ў Амерыцы з навуковага дыскурсу цалкам. Яшчэ ў 1990-я паспелі ўбачыць свет тры выпускі зборнікаў «Культура беларускага замежжа», укладзеных Анатолем Сабалеўскім, дзе беларусы ў ЗША займалі важнае месца. Так, у першай кнізе можна было прачытаць пра паэзію Наталлі Арсенневай (Мікола Мішчанчук) і Масея Сяднёва (Лідзія Савік), творчасць спевака Данчыка (Анатоль Сабалеўскі), альманах Беларускага інстытута навукі і мастацтва «Запісы» (Уладзімір Мамонька)[153]. У другой кнізе «Культура беларускага замежжа» змяшчаліся артыкулы пра кампазітара Міколу Шчаглова-Куліковіча (Святлана Берасцень), газету «Беларус» (Людміла Маленка), кліўлендскі асяродак «Полацак» (Тамара Гаробчанка)[154]. Трэцяя кніга таксама ўтрымлівала тэксты, што закраналі жыццё і дзейнасць амерыканскіх беларусаў, найперш літаратараў Анатоля Бярозкі (Арсень Ліс), Наталлі Арсенневай і Масея Сяднёва (Тамара Фёдарцава, Л. Званарова), Аляксандры Саковіч (Лідзія Савік), Янкі Юхнаўца (Лявон Юрэвіч)[155].

Надалей тэма гісторыі і сучаснасці беларускай эміграцыі ў ЗША прысутнічала на розных канферэнцыях і ў зборніках: «Беларусь паміж Усходам і Захадам» (1997)[156], «Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый»

152 Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг: стратэгія разьвіцьця. Менск, Тэсэй, 2012. — 208 с.

153 Культура беларускага замежжа / пад рэд. А. Сабалеўскага. Кн. 1. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — 191 с.

154 Культура беларускага замежжа / пад рэд. А. Сабалеўскага. Кн. 2. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — 197 с.

155 Культура беларускага замежжа: Тэатральная творчасць / пад рэд. А.Сабалеўскага. Кн. 3. Мінск: Беларуская навука, 1998. — 190 с.

156 Беларусіка = Albaruthenica 6. Беларусь паміж Усходам і Захадам: Праблемы міжнацыянальнага, міжрэлігійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу / рэд. У. Конан і інш. Мінск: ННАЦ імя Ф. Скарыны, 1997. Ч. 1. — 356 с.; Ч. 2. — 362 с. Тут былі

(2000)[157], «Роля беларускай дыяспары ў захаваньні і разьвіцьці беларускай культуры» (2001–2004)[158], «Новае слова ў гісторыі і культуралогіі» (2012)[159] і інш. Найбольш сур'ёзныя навуковыя публікацыі, прысвечаныя беларускай дыяспары ў ЗША або гісторыі эміграцыі наогул, належалі Анфісе Ляднёвай[160], Уладзіміру Снапкоўскаму[161], Галіне Сяргеевай[162]. Асобна варта згадаць тут тэкст «Беларусы ў ЗША» Алега Гардзіенкі ў энцыклапедычным даведніку «Беларускае замежжа»[163], які стаўся найпаўнейшым на сёння тэкстам пра беларускую дыяспару ў гэтай краіне, змешчаным у даведачным выданні.

Важна згадаць вялікую ролю, якую адыграў як у наладжванні сувязяў з заакіянскімі суайчыннікамі, гэтак і ў збіранні ды папулярызацыі спадчыны беларускай эміграцыі заснаваны ў 1991 годзе Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны на чале з прафесарам Адамам Мальдзісам. Менавіта гэты цэнтр у супрацы з Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў і пры ўдзеле БІНіМа ладзіў міжнародныя канферэнцыі, дзе гучала эміграцыязнаўчая тэматыка, выдаваў зборнікі, а таксама збіраў каштоўныя матэрыялы, у тым ліку картатэку біяграфічных звестак пра замежных беларусаў.

З ініцыятывы таго ж Адама Мальдзіса ў 1995 годзе пад шыльдаю Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў пачаў выходзіць часопіс «Кантакты і дыялогі», на старон-

---

змешчаныя даклады, прысвечаныя творчасці Наталлі Арсенневай (Ян Чыквін) і Міхася Міцкевіча (Сымон Белы).

157 Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый: Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый» (Мінск 21–25 мая, 4–7 снежня 2000 г.) / уклад. Т. Пятровіч, рэдкал. А. Мальдзіс (гал. рэд.) і інш. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. — 312 с. Тут былі апублікаваныя: «Жыццяпіс амерыканскага беларуса» Віталя Кажана і «Родословная Коляд (Коленд), проживавших в Новогрудском уезде, проживающих нынче на родине и в эмиграции» (Ірэны Каляда-Смірноў).

158 «Роля беларускай дыяспары ў захаваньні і разьвіцьці беларускай культуры»: матэрыялы Міжнароднай канфэрэнцыі (Лёндан, 29–30 верасьня 2001 году). Мінск: БелФранс, 2004. — 110 с.

159 Новае слова ў гісторыі і культуралогіі: Матэрыялы V Міжнароднага кангрэса беларусістаў «Новае слова ў беларусістыцы» (20–21 мая 2010 года) / пад рэд. А. А. Сушы. Мінск, 2012. — 270 с. Тут сярод іншых былі змешчаны тэксты дакладаў пра беларускі асяродак у Саўт-Рыверы (Алег Гардзіенка) і пра творчасць пісьменніка Уладзіміра Глыбіннага (Аляксандр Баршчэўскі).

160 Ляднёва, А. Нацыянальна-культурнае жыццё беларускай эміграцыі ў ЗША // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: новыя канцэпцыі і падыходы: Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў, Мінск, 3–5 лют. 1993 г.: у 2 ч. / рэдкал.: М. П. Касцюк (адк. рэд.) [і інш.]. Мінск, 1994. Ч. 1: Гісторыя Беларусі. С. 263–269; Ляднёва, А. Беларускі перыядычны друк у ЗША // Замежная архіўная беларусіка: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, 25–26 крас. 1996 г., г. Мінск / рэд.-склад.: У. М. Міхнюк [і інш.]. Мінск, 1998. С. 220–225.

161 Снапкоўскі, У. Эміграцыя: фарміраванне і дзейнасць беларускай эміграцыі, сацыяльна-палітычныя плыні (1918–1939) // Полымя. Мінск, 1995. № 11. С. 196–211; Снапкоўскі, У. Беларуская палітычная эміграцыя (1945–1990) // Полымя. Мінск, 1997. № 2. С. 201–239; Снапковский, В. Белорусская эмиграция // Белоруссия и Россия: общества и государства / под ред. Д. Е. Фурмана. Вып. 2. Москва: «Права человека», 1998. С. 88–105.

162 Сяргеева, Г. Беларуская дыяспара // Крыжовы шлях. Мінск, 1993. С. 209–235; Сяргеева, Г. Дыяспара // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 3. Мінск, 1996. С. 328; Сяргеева, Г. Беларуская дыяспара: погляд на мінулае і сучаснасць // Голас Радзімы. Мінск. 30.10.1997–27.11.1997; [Сяргеева, Г.] Беларуская дыяспара // Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы = The history of the belarusian nation and state / [М. Біч, Р. Гарэцкі, У. Конан і інш.; Бел. нац. грамад. арг. кам. «Беларусь-2000», Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»]. Мінск, 2005. С. 378–388 і інш.

163 Гардзіенка, А. Беларусы ў ЗША // Беларускае замежжа = Белорусское зарубежье. Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2010. С. 320–335.



ках якога друкаваліся матэрыялы да біяграфій беларускіх эміграцыйных дзеячаў, у тым ліку і амерыканскіх, а таксама публікаваліся бібліяграфіі беларусазнаўчых і эміграцыязнаўчых друкаў і артыкулаў. Спыненне дзейнасці Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны і выдання «Кантактаў і дыялогаў» (у 2002 годзе) відавочна зменшыла магчымасці даследаванняў і публікацыі тэкстаў, прысвечаных гісторыі і сучаснасці беларускага замежжа наогул і беларусаў у ЗША ў прыватнасці.

З цягам часу колькасць выступаў і публікацый, прысвечаных беларусам у ЗША ў афіцыйных навуковых выданнях метраполіі змяншаецца. Асобныя тэксты часам можна спаткаць у перыёдыках ці канферэнцыйных матэрыялах розных універсітэтаў[164], але, на жаль, яны не так шмат дадаюць да агучанага ў першай палове 1990-х. З іншага боку, калі ацэньваць увесь комплекс тэкстаў, што ўбачылі свет цягам апошніх дзесяцігоддзяў і дадаюць розную інфармацыю да першых «Беларусаў у ЗША», то зроблена, даследавана, апублікавана не так і мала. Напісаны дзясяткі працаў па эміграцыйнай літаратуры, апублікаваны важныя дакументы, мемуары, лісты амерыканскіх беларусаў, складзены біяграмы, створаны бібліяграфіі, апісаны архівы. Для далейшага вывучэння гісторыі і сучаснасці беларускай Амерыкі ёсць дастаткова падставаў. Перавыданне кнігі Вітаўта Кіпеля дапаможа хіба зноў расставіць акцэнты.

Безумоўна, эміграцыязнаўчыя даследаванні найлепш развіваюцца, калі яны маюць інстытуцыйную аснову і выходзяць за межы прыватных ініцыятываў асобных навукоўцаў. Пасля закрыцця Цэнтра імя Ф. Скарыны цягам больш як дзесяцігоддзя ў Беларусі не было адмысловай структуры, у задачы якой уваходзіла б навуковае вывучэнне гісторыі і сучаснасці беларускай эміграцыі. У 2014 годзе пры Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва была створаная навукова-творчая ініцыятыва «Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа». Побач са збіраннем архіваў замежных беларусаў у шэраг задач гэтага цэнтра ўваходзіць спрыянне даследаванням эміграцыі, папулярызацыя ведаў пра беларускія арганізацыі і дзеячаў за мяжой. На працягу пяці гадоў дзейнасці гэтага цэнтра фонды Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва папоўніліся новымі значнымі комплексамі дакументаў беларусаў з ЗША, у тым ліку і Вітаўта Кіпеля, Янкі Запрудніка, Наталлі Арсенневай,

---

164 Можна адзначыць паасобныя публікацыі: Бригадина, О. О культурно-историческом наследии белорусской диаспоры в США и Канаде во второй половине XX — начале XXI в. // Этнокультурное развитие Беларуси в XIX — начале XXI в.: материалы Международной научно-практической конференции, 19–20 мая 2010 г., Минск / редкол.: Т. А. Новогродский (отв. ред.) [и др.]. Минск, 2011. С. 157–164; Караў, Д. Беларусы і беларусазнаўства ў ЗША і Канадзе ў другой палове XX стагоддзя // Беларускі гістарычны часопіс. 2009. № 6. С. 21–25; Коваль, В. Эканамічная эміграцыя беларусаў у ЗША (1918–1939 гг.) // Журнал международного права и международных отношений. 2010. № 2. С. 58–62; Мыцько, В. Беларусь і беларуская эміграцыя ў англамоўных выданнях ЗША // Материалы международной научно-технической конференции «Вклад вузовской науки в развитие приоритетных направлений производственно-хозяйственной деятельности, разработку экономичных и экологически чистых технологий и прогрессивных методов обучения», посвященной 80-летию Белорусской государственной политехнической академии: в 10 ч. Ч. 10. Минск, 2000. С. 14; Похлебаева, А. Белорусы в этническом многообразии США // Беларусь і свет. 2003. Т. 5. С. 92–98; Скобла, М. Беларусь б'е ў сэрца: [пра М. Кавыля] // Роднае слова. 1993. № 11. С. 16–22; Скобла, М. На акропалі казачных сноў: [пра Р. Крушыну] // Роднае слова. 1993. № 8. С. 15–20; Слабін, У. Беларускі кнігазбор у бібліятэцы універсітэта штата Арэгон // Веснік Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта. 2003. № 3. С. 155–157; Хоміч, С. Беларускія скарбы Гувера // Спадчына. 2003. № 4/5. С. 56–59.

Юркі Віцьбіча, Антона Адамовіча і іншых. Акрамя таго, на падставе назапашаных архіваў былі арганізаваныя знакавыя выставы: у 2016 годзе ў чытальнай залі архіва-музея — прысвечаная 90-годдзю Янкі Запрудніка, а ў 2017 годзе ў галерэі «Інстытут культуры» — выстава «Зора і Вітаўт» да 90-х угодкаў беларускіх дзеячаў у ЗША Зоры і Вітаўта Кіпеляў. Апошняе мерапрыемства стала сапраўды гучнай падзеяй, якая шырока асвятлялася ў сродках масавай інфармацыі. Таксама ў 2017 годзе ў часе 7-га З'езду беларусаў свету на матэрыялах, сабраных цэнтрам, была зладжаная выстава «За пчалою Скарыны: друкаваная спадчына беларускай эміграцыі на Захадзе».

Асабліва важная роля ў падтрымцы даследаванняў, прысвечаных беларускаму замежжу, а таксама ў наладжванні і захаванні кантактаў з суродзічамі ў розных краінах, папулярызацыі іх спадчыны належыць Міжнароднаму грамадскаму аб'яднанню «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"». Ад 1993 года яно ладзіць рэгулярныя з'езды беларусаў свету, займаецца дапамогай беларускім суполкам. Асаблівае значэнне мае кнігавыдавецкая дзейнасць згуртавання. У заснаванай у 2004 годзе адмысловай серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» на сёння выйшла больш як тры дзясяткі кніг, прысвечаных беларускай эміграцыі, у тым ліку і ў Амерыцы. Нездарма другое выданне «Беларусаў у ЗША» ўбачыла свет менавіта ў гэтай серыі.

Хоць мы і адзначаем існаванне розных ініцыятываў і зацікаўленых арганізацый, аднак для сістэматызаванага вывучэння беларускай прысутнасці ў ЗША і наогул беларускай эміграцыі ўсё роўна патрэбная асобная навукова-даследчая структура. Нягледзячы на тое што цягам апошніх дзесяцігоддзяў убачылі свет сотні эміграцыязнаўчых публікацый і выданняў, сёння застаецца багата недаследаваных тэмаў, нерэалізаваных праектаў. Найбольш надзённым і маштабным з'яўляецца стварэнне энцыклапедыі беларускага замежжа, якая ўключала б звесткі і пра асобаў, і пра арганізацыі, і пра асяродкі суайчыннікаў у розных краінах. А на сёння няма нават адмысловага біяграфічнага даведніка не толькі агульнаэміграцыйнага, але і прысвечанага беларусам ЗША. Усё, што ствараецца ў гэтым рэчышчы, закранае выключна краіны блізкага замежжа. Таксама важным з'яўляецца вывучэнне беларускай прысутнасці ў асобных краінах. Па-за даследаваннямі пра ЗША, Аўстралію, Вялікабрытанію сёння амаль няма распрацовак, прысвечаных іншым заходнім краінам, дзе жывуць беларусы. Недаследаванымі застаюцца і канкрэтныя аспекты жыцця і дзейнасці замежных суродзічаў і іх суполак: палітычная рэпрэзентацыя, мастацкая і музычная творчасць, дачыненні з прадстаўнікамі іншых нацыянальных грамадаў, штодзённае жыццё і механізмы адаптацыі ды асіміляцыі беларусаў у розных краінах і г. д. Сёння не напісана сістэматызаваная гісторыя Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, і наогул рэлігійнае жыццё беларускай эміграцыі застаецца малавывучаным. Патрабуе ўвагі збіранне і сістэматызацыя звестак пра беларускія могілкі ў замежжы. Вымагае дэталёвага вывучэння і статыстыка беларускай прысутнасці ў розных краінах у мінулым і сучаснасці, матывацыя і механізмы эміграцыі. Недаследаваных, нявывучаных, нераспрацаваных пытанняў у эміграцыязнаўстве сёння вельмі шмат, і патрэба з'яўлення адмысловай навукова-даследчай установы відавочная. Гэта падштурхнула б і цікавасць да вывучэння беларускай прысутнасці ў ЗША, некалі так добра справакаваную з'яўленнем кнігі Вітаўта Кіпеля.

Напрыканцы варта звярнуць увагу яшчэ на два аспекты важнасці першага выдання «Беларусаў у ЗША». Падаваныя Вітаўтам Кіпелем звесткі пра амерыканскіх беларусаў сталі актыўна ўводзіцца ў навучальныя дапаможнікі. Прыкладам, у выдадзенай у 1995 годзе другой частцы «Нарысаў гісторыі Беларусі», якая актыўна выкарыстоўвалася ў якасці падручніка на гістарычных факультэтах беларускіх ВНУ, быў змешчаны вялікі раздзел «Беларуская дыяспара: гісторыя і сучаснасць» аўтарства Галіны Сяргеевай[165]. У тэксце было багата інфармацыі пра беларусаў у ЗША і спасылкі на працу Вітаўта Кіпеля. У пазнейшым універсітэцкім дапаможніку па гісторыі Беларусі Яўгенія Новіка і Генадзя Марцуля былі нават два раздзелы, прысвечаныя замежжу і дыяспары (у міжваенны час і перыяд незалежнай Рэспублікі Беларусь адпаведна)[166]. Асабліва актыўна ў дапаможніках і іншых выданнях выкарыстоўваліся звесткі пра колькасць суайчыннікаў-эмігрантаў, прыведзеныя ў «Беларусах у ЗША». Невялікі раздзел «Вяртанне беларускага замежжа» быў змешчаны і ў «Нарысах гісторыі Беларусі (1795–2002)» Захара Шыбекі[167]. І тут, зразумела, таксама падаваліся звесткі пра амерыканскіх беларусаў. Цягам апошніх дзесяцігоддзяў у беларускіх ВНУ з'явіліся адмысловыя спецкурсы, прысвечаныя беларускай дыяспары, а ў Беларускім калегіуме чытаюцца адмысловыя лекцыі па гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША. Такім чынам, Вітаўту Кіпелю ўдалося зрабіць бачнымі амерыканскіх беларусаў не толькі для метрапольнай навукі і культуры, але і для адукацыі.



І яшчэ адзін важны аспект выхаду «Беларусаў у ЗША» — метадалагічны. Праца Вітаўта Кіпеля стала своеасаблівым узорам-арыенцірам для вывучэння беларускай прысутнасці ў канкрэтнай краіне. Так, перш чым пісаць свае кнігі пра беларусаў у Аўстраліі[168] і беларусаў у Вялікабрытаніі[169], я ўважліва вывучыла «Беларусаў у ЗША» і з пункту гледжання структуравання матэрыялу, вылучэння асобных аспектаў жыцця эміграцыі, і з пункту гледжання падыходаў да пошуку і тлумачэння статыстыкі беларускай прысутнасці ў краіне і г. д. І ў будучай кнізе пра беларусаў у Канадзе будзе абавязкова ўлічана тое, што зрабіў у сваім даследаванні Вітаўт Кіпель. Бо ягоная кніга — гэта класіка.

---

[165] Нарысы гісторыі Беларусі: у 2 ч. Ч. 2 / М. П. Касцюк, І. М. Ігнаценка і інш.; Інстытут гісторыі АНБ. Мінск: Беларусь, 1995. С. 488–506.

[166] Гісторыя Беларусі: у 2 ч. Ч. 2: Люты 1917 г. — 1997 г.: вучэбны дапаможнік / пад рэд. Я. К. Новіка, Г. С. Марцуля. Мінск: Універсітэцкае, 1998. С. 149–152, 446–453.

[167] Шыбека, З. Нарысы гісторыі Беларусі (1795–2002). Мінск: Энцыклапедыкс, 2003. С. 416–418.

[168] Гардзіенка, Н. Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2004. — 465 с.

[169] Гардзенка, Н. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск: Медысонт, 2010. — 617 с.

